УДК 808.26
ББК 81.2Беи
П39

Рэцэнзент: доктар філалагічных навук, прафесар *А.І. Наркевіч.*

**Плотнікаў Б.А., Антанюк Л.А.**
П39 Беларуская мова. Лінгвістычны кампендыум.– Мн.: Інтэрпрэссэрвіс, Кніжны Дом. 2003. – 672 с.

ISBN 985-482-033-5.
ISBN 985-428-614-2.

Кніга ўяўляе поўны збор ведаў аб беларускай мове. Разглядаюцца месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў, гісторыя развіцця беларускай літаратурнай мовы ад яе ўзнікнення ў 14 ст. да нашага часу, гісторыя навукі аб беларускай мове, стылістыка і культура беларускага маўлення, а таксама пытанні і праблемы лексікалогіі, фразеалогіі, фанетыкі, фаналогіі, марфалогіі, сінтаксісу, словаўтварэння, дыялекталогіі, лексікаграфіі беларускай мовы. Асобнае месца займаюць тэмы, прысвечаныя спецыяльнай лексіцы, прадстаўленню беларускай мовы ў табліцах і схемах, арыгінальным тэкстам на старабеларускай і новабеларускай літаратурнай мове.

Кніга прызначана для студэнтаў, выкладчыкаў, навукоўцаў, якія займаюцца беларускай і славянскай лінгвістыкай, а таксама для ўсіх, каго цікавяць беларуская мова і яе тэарэтычныя распрацоўкі, навуковыя звесткі і бібліяграфічныя дадзеныя пра родную мову, пра найбольш буйныя лінгвістычныя даследаванні мовы самымі знакамітымі вучонымі.

ISBN 985-482-033-5
ISBN 985-428-614-2

УДК 808.26
ББК 81.2Беи

# ПРАДМОВА

Кампендыум (з лацінскага compendium 'скарачэнне') уяўляе сабой кнігу такога жанру, дзе сцісла, але змястоўна і канцэптуальна даецца тэарытычная характарыстыка беларускай мовы па ўсіх лінгвістычных параметрах (месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў, гісторыя беларускай мовы і навукі аб ёй, стылістыка і культура маўлення, лексіка і фразеалогія, фанетыка і фаналогія, марфалогія і сінтаксіс, словаўтварэнне, лексікаграфія і фразеаграфія, дыялекталогія і інш.). З улікам таго, што цэнтральнымі адзінкамі беларускай мовы, як і іншых індаеўрапейскіх моў, служаць словы (лексемы), бо драбнейшыя яе адзінкі (фанемы і марфемы) вылучаюцца ў складзе слова, а буйнейшыя адзінкі мовы (словазлучэнні і сказы) будуюцца са слоў, значнае месца ў кампендыуме надаецца апісанню лексічнага складу беларускай мовы, прычым лексіка ў цэлым характарызуецца ў асобнай частцы, а пэўны раздзел прысвечаны спецыяльнай лексіцы – тэрмінам, за кошт якіх інтэнсіўна папаўняецца агульна-ўжывальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Адметнасцю падрыхтаванага выдання служыць тое, што апісанне і аналіз беларускіх моўных фактаў ажыццяўляецца з улікам важнейшых дасягненняў беларускага, славянскага і сусветнага мовазнаўства. Так, характарыстыка фанем беларускай мовы грунтуецца на тэарытычных распрацоўках буйнейшых лінгвістаў 20 ст. М.Трубяцкога і Р.Якабсана, пры вызначэнні месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў бяруцца пад увагу даследаванні ўсіх самых знакамітых славістаў, аналіз марфалагічных катэгорый беларускай мовы абапіраецца на граматычныя працы і беларускіх, рускіх вучоных, і лінгвістаў іншых краін.

Апісанне такіх моўных адзінак, як фанемы, словы, праводзіцца шляхам выдзялення ў маўленчай дзейнасці двух яе аспектаў – мовы (агульная, абстрактная, сацыяльная, псіхічная з'ява) і маўлення (прыватная, канкрэтная, індывідуальная, псіхафізіялагічная з'ява), што дапамагае размежаваць у плане выражэння (знешняй, вонкавай, форме) беларускай мовы фізічныя (акустыка-артыкуляцыйныя) адзінкі – гукі, якія мы ўспрымаем на слых, і абстрактныя (абагульненыя, адцягненыя) адзінкі – фанемы, з дапамогай якіх безліч індывідуальных гукаў маўлення сінтэзуецца прыблізна ў тры дзесяткі адцягненых адзінак – фанем, выкарыстаных пры складанні беларускага алфавіта (больш менш адэкватнага пісьмовага адлюстравання фанематычнага складу нашай мовы) яго складальнікамі інтуітыўна, яшчэ задоўга да навуковага адкрыцця фанемы.

На лексічным узроўні маўлення вылучаюцца словаўжыванні (план выражэння) і сэнсы (план зместу), а мовы – адпаведна словы (лексемы) і значэнні (абагульненая сума сэнсаў, рэалізаваных у маўленні канкрэтнымі словаўжываннямі). Пільная ўвага надаецца пры апісанні беларускай лексікі сістэмнасці слоў, якая грунтуецца на іх семантычных сувязях (сінанімічных,

антанімічных, гіпоніма-гіперанімічных, тэматычных і інш.) і на фармальных (дэрывацыйных, граматычных і інш.).

Нягледзячы на адносна позні час свайго ўзнікнення (60-я гады 20 ст.) беларуская фразеалогія мае значныя дасягненні ў сваёй навуковай распрацоўцы (выдадзены шэраг фразеалагічных слоўнікаў і манаграфій, напісана шмат артыкулаў), таму яна выдзелена ў асобны раздзел і разглядаецца з улікам сучасных канцэпцый, што ўпершыню распрацаваны рускімі моваведамі (В.Вінаградаў, І.Анічкаў і інш.), якім, па сутнасці, належыць прыярытэт у станаўленні фразеалогіі як самастойнай унутрымоўнай дысцыпліны.

Сярод усіх славянскіх краін на сёння толькі ў Беларусі мова карэннага этнасу, тытульнай нацыі не з'яўляецца адзінай дзяржаўнай, што прывяло да фактычнага выцяснення беларускай мовы на перыферыю сацыяльнага жыцця грамадства. Дадзеная акалічнасць найперш вынікае як з гістарычных, так і сацыяльных умоў існавання і функцыянавання беларускай мовы. З гістарычнага пункту гледжання беларуская мова ў адрозненне ад большасці іншых славянскіх моў зведала вялікі перапынак у сваім развіцці (каля 150 гадоў) і даволі выразна падзяляецца на старабеларускую (14–18 стст.) і новую (сучасную) беларускую літаратурную мову (18 ст. – наш час). Прычым паміж абедзвюма згаданымі формамі існавання адзначаюцца істотныя адрозненні (напрыклад, большыя чым паміж сучаснай рускай і старабеларускай, чым паміж сучаснай беларускай і старабеларускай), бо літаратурная старабеларуская мова ўсталёўвалася стыхійна на аснове як уласна беларускіх элементаў, так і іншамоўных (стараславянскіх, польскіх, лацінскіх, германскіх і інш.), прычым у некаторых старабеларускіх помніках (творы Ф.Скарыны, асобныя пісьмовыя помнікі 17 ст. і інш.) запазычаная моўная стыхія займала дамінантнае месца, што дае падставу для навуковых спрэчак наконт вызначэння характару мовы многіх помнікаў старабеларускай пісьменнасці. Зазначым у сувязі з гэтым, што колькасць запазычанняў не мае вырашальнага значэння для агульнай характарыстыкі ўсёй мовы ў цэлым, бо нават у такіх сусветных мовах, як англійская і руская, колькасць запазычанняў перавышае лік сваіх уласных адзінак, у прыватнасці слоў.

Новая беларуская літаратурная мова ўзнікае ўжо ў 18 ст. і фарміруецца на працягу ўсяго 19 ст. пераважна на аснове жывых беларускіх гаворак цэнтральнай Беларусі (на базе сярэднебеларускіх гаворак), дзякуючы чаму справядліва лічацца найбольш чыстай, не замутнёнай шматлікімі запазычаннямі, з усіх славянскіх моў. Абодва перыяды ў развіцці беларускай літаратурнай мовы характарызуюцца ў адпаведных раздзелах кампендыума.

Адначасова з кнігадрукаваннем, якое ўзнікла ўпершыню (пачатак 16 ст.) сярод усходніх славян менавіта ў колішняй Беларусі, што ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, дзе беларуская мова была адзінай дзяржаўнай, пачынаецца і навуковая апрацоўка старабеларускай мовы найперш у выглядзе перакладаў на яе малазразумелых стараславянскіх слоў, а затым у выглядзе метамовы (мовы апісання) пры характарыстыцы звязных тэкстаў стараславянскай мовы, у друкаваных лексікаграфічных працах (адпаведна выданні Ф.Скарыны, слоўнікавыя і граматычныя працы Л.Зізанія ў 1596 г. у Вільні, і інш.), і ўрэшце непасрэднае апісанне старабеларускай мовы з дапамогай лацінскай метамовы ў “Граматыцы” І.Ужэвіча (Сарбона 1643). Найбольш значны ўнёсак у навуковае апісанне беларускай мовы складаюць працы Я.Карскага, Б.Тарашкевіча, П.Бузука і інш., а таксама асабліва шматлікія публікацыі пасляваеннага перыяду, якія разглядаюцца ў кампендыуме.

Нягледзячы на вельмі неспрыяльныя знешнія варункі свайго існавання (доўгая адсутнасць дзяржаўнага суверэнітэту краіны, непрызнанне беларускай мовы як самастойнай славянскай мовы спачатку ў Рэчы Паспалітай, а затым і ў царскай Расіі, што суправаджалася актыўнымі адпаведнымі працэсамі паланізацыі і русіфікацыі грамадскага жыцця жыхароў Беларусі, і інш.), беларуская мова не толькі захавалася, выжыла, але і стылёва разгалінавалася як і любая іншая высокаразвітая мова, дзе выдзяляюцца гутарковы, афіцыйна-дзелавы, навуковы, публіцыстычны стылі і стыль мастацкай літаратуры. У раздзеле "Стылістыка мовы. Культура маўлення" лаканічна характарызуюцца галоўныя стылістычныя рэсурсы беларускай мовы, разглядаюцца важнейшыя кампаненты культуры беларускага маўлення (правільнасць, выразнасць, чыстата, дарэчнасць, багацце і інш.) у кантэксце навуковай і вучэбнай літаратуры па дадзенай тэме.

Бадай, самымі распрацаванымі раздзеламі беларускага мовазнаўства з'яўляюцца дыялекталогія і лексікаграфія. У галіне дыялекталогіі на Беларусі створаны першыя сярод славянскіх моў "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" (ДАБМ, 1968), пяцітомны "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" (ЛАБНГ, 1993–1998), а таксама шмат дыялектных слоўнікаў, навуковых і вучэбных манаграфічных прац, а ў галіне лексікаграфіі надрукавана звыш 2000 розных слоўнікаў (перакладных, тэрміналагічных, тлумачальных, арфаграфічных, марфалагічных і г.д.), таму асобныя раздзелы выдання прысвечаны згаданым мовазнаўчым тэмам.

Зразумела, у працы знайшлі месца і такія традыцыйныя раздзелы беларускай лінгвістыкі, як "Словаўтварэнне", "Сінтаксіс". Паколькі кампендыум уяўляе сабой звесткі пра ўсе аспекты, формы, разнавіднасці, крыніцы беларускай мовы аўтары палічылі мэтазгодным прывесці найбольш тыповыя і характэрныя звязныя тэксты старабеларускай і новай беларускай літаратурнай мовы, прычым усіх стыляў і жанраў, уключна дыялектныя.

Багатая і разнастайная навуковая, спецыяльная, вучэбная, даведачная, лексікаграфічная літаратура, выкарыстаная для напісання кампендыума, можа паслужыць для чытача самастойнай інфармацыйнай крыніцай па тэмах, праблемах, пытаннях беларускага і славянскага мовазнаўства. Кампендыум разлічаны на выкарыстанне ўсімі прыхільнікамі беларускай мовы (выкладчыкі, навукоўцы, студэнты і інш.), а таксама прыдатны для выкарыстання славістамі і спецыялістамі ў галіне агульнага, тыпалагічнага мовазнаўства.

Аўтарам раздзелаў "Сінтаксіс", "Спецыяльная лексіка", параграфаў 10.1, 10.7 раздзела "Словаўтварэнне" з'яўляецца Л.А.Антанюк, усе астатнія часткі кнігі падрыхтаваў Б.А.Плотнікаў.

# 1. БЕЛАРУСКАЯ МОВА СЯРОД ІНШЫХ СЛАВЯНСКІХ МОЎ

## 1.1. АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ ПРА СЛАВЯНСКІЯ МОВЫ

Усе мовы свету, колькасць якіх па розных прычынах вызначаецца спецыялістамі ў межах ад 3000 да 6000, лучацца ў генетычна роднасныя сем'і. Сярод 20 такіх засведчаных сем'яў найбольш вялікай з'яўляецца індаеўрапейская, яе мовы распаўсюджаны на ўсіх кантынентах. Амаль кожны другі жыхар нашай планеты карыстаецца менавіта адной з індаеўрапейскіх моў, да якіх адносіцца і беларуская. У сваю чаргу, усе моўныя сем'і распадаюцца на групы. На еўрапейскім кантыненце самую вялікую па колькасці сваіх носьбітаў і па тэрыторыі распаўсюджвання групу складаюць славянскія мовы. Так, да канца 80-х гадоў 20 ст. колькасць еўрапейцаў, што размаўляюць на германскіх (англійская, нямецкая, дацкая, фламандская і інш.) і раманскіх (французская, іспанская, італьянская, партугальская і інш.) мовах, складала прыблізна па 180 мільёнаў чалавек (гл.: ЧЕКМОНАС 1988, 9), а на славянскіх мовах – звыш 240 мільёнаў чалавек, ва ўсім жа свеце славян налічваецца каля 300 мільёнаў.

Упершыню пісьмовыя звесткі пра славян, мова якіх разам са сваімі носьбітамі ўтварала арганічнае адзінства, сустракаюцца ў старажытнарымскіх вучоных і пісьменнікаў – Герадота, Плінія, Тацыта, Пталамея і інш. яшчэ да нашай эры (звыш 2000 гадоў таму). Да 9 ст. нашай эры гэтае адзінства распалася на тры падгрупы як па геаграфічных, так і ўласна моўных прыкметах: усходняя, заходняя і паўднёвая. Але яшчэ і ў 11 ст. моўныя адрозненні паміж усімі славянскімі плямёнамі з сінхранічнага пункту гледжання не выходзілі за межы міждыялектных адрозненняў, што існуюць унутры любой сучаснай славянскай мовы (гл.: ЗАЛИЗНЯК 1995, 5). Далей, ужо ў нашым тысячагоддзі, сярод дадзеных падгруп вылучыліся асобныя славянскія мовы. На сённяшні час усходнеславянскія мовы распадаюцца на беларускую, рускую і ўкраінскую; заходнеславянскія – на польскую, сербалужыцкую (падзяляецца на верхне- і ніжнелужыцкую), славацкую, чэшскую; паўднёваславянскія – на балгарскую, македонскую, сербскахарвацкую, славенскую. Да мёртвых славянскіх моў, якія цяпер не выкарыстоўваюцца ў якасці сродку зносін, але ўжываліся раней і вывучаюцца зараз спецыялістамі, адносяцца стараславянская і палабская, першая з іх выкладаецца як абавязковы прадмет навучання ўсіх славістаў, а таксама на філалагічных факультэтах ВНУ многіх краін. Некаторыя вучоныя лічаць асобнымі славянскімі мікрамовамі кашубскую, ляшскую, русінскую і інш. (ДУЛИЧЕНКО 1981). Зазначаюцца спробы стварыць падобную пісьмовую мову, што папярэдне атрымала не зусім удалую назву яцвяжская (яцвягі –

балтыйскае племя, якое жыло раней на Палессі, але было асімілявана беларусамі і ўкраінцамі), і на тэрыторыі Беларусі, аднак гэта спроба не завяршылася пакуль паспяхова (гл.: ТОЛСТОЙ 1998, 497–506). Па колькасці асоб, якія карыстаюцца славянскімі мовамі на пачатак 80-х гадоў 20 ст., славяне размяркоўваюцца ў наступнай паслядоўнасці: рускія (159 млн.), украінцы (42,5 млн.), палякі (39 млн.), сербы і харваты (17 млн.), чэхі (10 млн.), беларусы (9,3 млн.), балгары (8,9 млн.), славакі (5 млн.), славенцы (2 млн.), македонцы (1,5 млн.), лужыцкія сербы (0,1 млн.) (гл.: СУПРУН 1989, 13).

Славяне кожнай моўнай падгрупы могуць зносіцца паміж сабой на сваіх мовах і разумець адзін аднаго, што сведчыць пра бліжэйшае падабенства іх моў, чым, напрыклад, носьбітаў раманскіх моў, бо апошнія маюць паміж сабой больш істотныя адрозненні, гэтаксама як і мовы германскія (гл.: ГЕОРГИЕВ 1979, 19). Калі да пачатку 20 ст. толькі адна славянская нацыя, рускія, якія дамінавалі ў складзе Расіі, мела дзяржаўнасць, то зараз кожная з іх, за выключэннем сербалужыцкай, утварае сваю дзяржаву, а іх мовы маюць пісьменнасць, з'яўляюцца літаратурнымі і прызнаныя адзінымі дзяржаўнымі на сваіх тэрыторыях, за выключэннем Беларусі, дзе дзяржаўнай мовай паводле Канстытуцыі 1996 года абвешчана поруч з беларускай і руская. Дадзенай акалічнасцю абумоўлена і спецыфіка выкарыстання беларускай мовы ў жыцці насельнікаў краіны, якія складаюць каля 80% усіх жыхароў, або пераважную іх большасць. Генетычнае сваяцтва славянскіх моў можна паказаць у выяве перакуленага схематычнага дрэва, ствалом якога служыць знікшая праславянская мова. Сукамі такога дрэва з'яўляюцца тры памянёныя славянскія падгрупы (усходняя, заходняя, паўднёвая), а галінамі – кожная асобная славянская мова (прынятыя скарачэнні прыведзеных славянскіх моў на схеме і далей у тэксце: бал. – балгарская, бел. – беларуская, мак. – македонская, пол. – польская, рус. – руская, слав. – славенская, слц. – славацкая, србл. – сербалужыцкая, србх. – сербскахарвацкая, укр. – украінская).



## 1.2. АСАБЛІВАСЦІ ЎТВАРЭННЯ І РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Беларуская этнаграфічная супольнасць узнікла на аснове славянскіх плямён (крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў; гл.: ШТЫХАЎ 1992, 23), а нормы яе пісьмовай літаратурнай мовы склаліся на працягу 14–15 стст. Дадзеная мова праіснавала да пачатку 18 ст. і мае ў сучаснай лінгвістыцы назву старабеларуская. Разам са стараўкраінскай і рускай мовамі яна стваралася на базе адзінай старажытнаўсходнеславянскай (старажытнарускай) пісьмовай мовы, помнікамі якой з'яўляюцца "Астрамірава Евангелле", "Слова пра паход Ігаравы", творы Кірылы Тураўскага, "Аповесць мінулых гадоў", Руская праўда і інш. Усяго на перыяд 11–14 стст. прыпадае каля тысячы рукапісаў, што захаваліся да нашага часу. Старажытнаўсходнеславянская, або старажытнаруская, мова выдзелілася з агульнаславянскай ужо да пачатку 9 ст. і праіснавала да 14 ст. У адрозненне ад заходнеславянскіх і паўднёваславянскіх ёй уласцівы такія рысы, як поўнагалоссе (параўн.: бел. *варона, бяроза*, рус. *ворона, береза*, укр.*ворона*, *береза* і бал. *врана, бреза*, србх. *врана, бреза*, пол. *wrona, brzoza*, слав. *vrana, breza*, слц. *vrana, breza*, чэш. *vrána, bříza* і інш.), вымаўленне *ч, ж* на месцы праславянскіх **tj, *dj* (параўн.: бел. *свечка, мяжа*, рус. *свеча, межа*, укр. *свіча, межа*, бал. *свещ, между*, пол. *świeca, miedza*, слц. *svieca, medza*, чэш. *svíce, mez* і інш.), пераход насавых галосных *ę, ą* у *а, у* (параўн.: бел. *мяса, дуб*, рус. *мясо, дуб*, укр. *м'ясо, дуб* і пол. *męso, dąb* і інш.), наяўнасць слоў тыпу *грузд, куст, сапог* і інш., што адсутнічаюць у астатніх славянскіх мовах.

Першыя пісьмовыя тэксты на старажытнаўсходнеславянскай мове з'явіліся ў канцы 10 ст. і ўяўлялі сабой па сутнасці старажытнарускія зводы, або рэдакцыі старославянскіх біблейскіх тэкстаў, перакладзеных з грэчаскай мовы. Працэс хрысціянізацыі і фарміравання кніжных моў у іншых славянскіх краінах пачаўся яшчэ раней, ужо ў другой палавіне 9 ст., з місіянерскай і асветніцкай дзейнасці салунскіх братоў Кірылы і Мяфодзія (гл.: GOLĄB 1992, 13–20), якія стварылі на грэчаскай аснове азбуку (кірыліцу), што ва ўдасканаленым выглядзе прымяняецца ўсходнімі славянамі, балгарамі, сербамі, македонцамі да нашага часу. Літаратурныя помнікі на асобных славянскіх мовах пішуцца ў 13 ст., а да канца 16 ст. большасць славянскіх моў мела сваю даволі развітую пісьменнасць. На някніжнай аснове складаецца балгарская літаратурная мова, дасягаюць свайго росквіту чэшская літаратурная мова (на працягу 16 ст. надрукавана шэсць тамоў Краліцкай Бібліі на ўзорнай чэшскай пісьмовай мове, гл.: СЕЛИЩЕВ 1941, 41), а таксама польская ў творах М.Рэя, Я.КахаНоўскага, Л.Гурніцкага і інш. У 16 ст. парушана еднасць сербскахарвацкай літаратурнай мовы, якая існавала на царкоўна-славянскай аснове, і ўзнікаюць на народным грунце розныя варыянты літаратурнай мовы (гл.: VINCE 1990, 23–24). Старабеларуская літаратурная мова, якая дасягнула свайго росквіту ў 16–17 стст., уяўляла сабой, аднак, даволі стракатае аб'яднанне розных моўных плыняў, якія да канца так і не сінтэзаваліся ў гарманізаваную і арганічную еднасць, што давала падставу адным спецыялістам (О.М.Бадзянскі) называць яе самай "агіднай сумессю", на якой ніхто не гаварыў і не гаворыць (гл.: КАРСКИЙ 1962, 254), іншым – проста "подлай" (М.Сматрыцкі, гл.: БЕЛАРУСІКА 1992, 268) ці "брыдкай сумессю рускай і ляшскай моў" (Ю.Крыжаніч, гл.: ЯГІЧ 1910, 35) і інш. Зазначым, што не больш пахвальнай была ў свой час і характарыстыка рускай дапушкінскай мовы. Так, рускі пісьменнік І.С.Аксакаў сведчыў: "У канцы 18 ст. і на самым пачатку 19 ст. руская літаратурная мова была яшчэ толькі здабыткам аматараў славеснасці, ды і сапраўды не была яшчэ прыстасаванай і выпрацаванай

для выражэння ўсіх патрэб перанятых у Еўропе ведаў і стасункаў... Многія рускія дзяржаўныя людзі, якія выдатна выкладалі свае думкі па-французску, пісалі па-руску самым няўклюдным, варварскім спосабам, быццам з'язджалі з торнай дарогі на жорсткія камякі толькі што паднятай глебы" (гл.: ВИНОГРАДОВ 1982, 226). Яшчэ больш суровай была ацэнка тагачаснай рускай мовы паэтам К.М.Бацюшкавым: "Мова-то сама па сабе з'яўляецца кепскаватай, грубаватай, татаршчынай патыхае" (гл.: КАРСКИЙ 1962, 153), ці Ю.Крыжанічам, які лічыў рускую мову "вельмі беднай і ўбогай, ні на што не здатнай" (гл.: БУДИЛОВИЧ 1892, 318). Даволі выразныя часткі старабеларускай літаратурнай мовы складалі старaславянізмы, агульнаславянскія і ўсходнеславянскія моўныя кампаненты, уласна беларускія гутарковыя элементы, паланізмы, чэхізмы, запазычанні са старажытнагрэчаскай і лацінскай моў, запазычанні з заходнееўрапейскіх моў, найперш з нямецкай, цюркізмы і інш. (гл.: ГІСТАРЫЧНАЯ ЛЕКСІКАЛОГІЯ 1970). З улікам таго, што памянёныя разнамоўныя кампаненты лучыліся ў складаныя словы, словазлучэнні і сказы па ўзорах старaславянскіх, грэчаскіх, лацінскіх і іншых моўных канструкцый, можна лічыць матываванымі некаторыя адмоўныя характарыстыкі з боку асобных спецыялістаў тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, якая тым не менш даволі паспяхова выконвала шматстайныя грамадскія функцыі, што засведчана ў многіх пісьмовых помніках, аб'яднаных наступнымі жанрамі.

1. Дзелавая літаратура, да якой адносіліся гандлёвыя дагаворы, даравальныя граматы, судовыя і пасольскія кнігі, пастановы сейма, справаздачы, каралеўскія наказы, пісьмовыя правы на валоданне зямлёй і інш. Найбольш старажытнымі помнікамі дзелавой старажытнабеларускай літаратуры з'яўляюцца "Дагавор Полацка з Рыгай", 1330 г., "Даравальная грамата" Вітаўта літоўскім канонікам 1399 г., "Судзебнік" караля Казіміра Ягелончыка, 1468 г., "Кніга судовых спраў", 1516 г., і інш. Помнікі дзелавой пісьменнасці як рукапісныя, так і друкаваныя, прычым друкаваных значна больш, чым у тагачасных Расіі і Украіны, сабраныя амаль у 600 тамоў так званай Літоўскай метрыкі, што захавалася да нашага часу.

2. Найбольш слынным дакументам таго перыяду з'яўляецца Статут Вялікага Княства Літоўскага, помнік юрыдычнай літаратуры, які мае тры рэдакцыі (1529, 1566, 1588 гг.), перакладзены на лацінскую і польскую мовы і доўгі час быў узорам для дакументаў прававога кшталту ў Еўропе. Дакумент забаронены для выкарыстання ў 1840 г. пасля далучэння Беларусі да Расіі і канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. Гэты Статут перавыдадзены ў нядаўнім часе (1989 г.) у Мінску выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя". Дзелавая літаратура была пераважна пашыраным жанрам пісьменнасці і рускай мовы 16 ст. з найбольш вядомым помнікам таго часу "Дамастроем".

3. Летапісы (захавалася каля 20 збораў) 15–17 стст. Сярод спісаў дадзеных пісьмовых твораў знаходзяцца Супрасльскі збор (сярэдзіна 15 ст.), Увараўскі збор (15 ст.), Віленскі зборнік 1495 г., Зборнік Красінскага (сярэдзіна 16 ст.), дзе апісваюцца жыційныя, ваенныя, княжацкія справы адпаведнага часу на тэрыторыі нашай краіны. Найбольш знакамітымі помнікамі летапіснай літаратуры з'яўляюцца "Чэцці-Менеі", напісаныя паповічам Бярозкам з Навагародка, які распавядае ў прыватнасці пра забойства Святаполкам Барыса і Глеба, а таксама Баркулабаўскі летапіс 17 ст., дзе апісваюцца падзеі 1545–1608 гг. у наваколлях Быхава.

4. Перакладная жыцейская літаратура 15–16 стст. Да непасрэдных перакладаў з грэчаскай мовы належаць творы "Александрыя" (15 ст.), дзе апісваюцца паходы і подзвігі Аляксандра Македонскага, "Гісторыя Траянскай вайны" (сярэдзіна 16 ст.) аб заваяванні грэкамі Троі. Перакладамі з сербскай мовы з'яўляюцца "Аповесць аб Трыстане", а таксама "Гісторыя аб Атыле" і "Аповесць пра Баву" (усе 16 ст.).

5. Рэлігійная літаратура (16–17 стст.). Да канфесійных помнікаў адносяцца як арыгінальныя, так і перакладныя творы з пасляслоўямі і тлумачэннямі на старабеларускай мове аўтараў і перакладчыкаў. Самымі вядомымі творамі згаданага жанру з'яўляюцца друкаваныя выданні 22 кніг "Бібліі" Францыска Скарыны ў 1517–1519 гг. спачатку ў Празе, а затым у Вільні. У кожнай кнізе змешчаны прадмовы, тлумачэнні, пасляслоўі гэтага буйнейшага беларускага асветніка і першадрукара, вучонага і культурнага дзеяча, медыка і батаніка, філосафа і аднаго з найбольш яскравых еўрапейскіх энцыклапедыстаў свайго часу. Кнігі Скарыны былі першымі друкаванымі выданнямі ва ўсходняй Славіі, а яго пераклады Бібліі іншымі надрукаваныя ва ўсім славянскім свеце пасля Пражскай Бібліі (1488 г.). Прадмовы і пасляслоўі Скарыны да выдадзеных кніг з'яўляюцца не толькі ўзорам старабеларускай мовы, але і змяшчаюць цэлую філасофскую канцэпцыю беларускага асветніка, адметны светапогляд самага слыннага сына Беларусі (гл.: ФРАНЦЫСК СКАРЫНА 1988).

Дзеяч рэфармацыі Сымон Будны з Нясвіжа напісаў і выдаў на старабеларускай мове ў 1562 г. "Катэхізіс", дзе аддзяліў Хрыстоса ад Бога і лічыў чалавекам, апраўдваў жыццё грэшнага чалавека перад Богам, выступаў супраць войн і прыгнёту. Асветнік і рэфарматар Васіль Цяпінскі заснаваў тыпаграфію і выдаў у сваім перакладзе на старабеларускую мову ў 1580 г. "Евангелле", у прадмове да якога выклаў свае погляды на жыццё, ролю і неабходнасць школ і інш. Да гэтага ж часу адносяцца 30 зборнікаў-кітабаў (беларускія тэксты, напісаныя арабскай графікай татарскімі мусульманамі), у якіх добра адлюстраваны асаблівасці тагачаснага беларускага вымаўлення (у прыватнасці аканне, яканне, дзеканне, цеканне і інш.).

6. Мемуарная літаратура. Да гэтага жанру старабеларускай пісьменнасці адносяцца помнікі 17 ст., у прыватнасці "Дзённік" Фёдара Еўлашэўскага, "Дыярыуш" (дзённік) Афанасія Філіповіча, які выступаў супраць уніятаў і рымска-каталіцкай царквы, за самастойнасць Беларусі, і інш.

7. Мастацкая і палемічная літаратура. Самымі вядомымі творамі мастацкай літаратуры з'яўляюцца "Метры" Сімяона Полацкага на старабеларускай мове, эпіграмы Андрэя Рымшы, палемічная прамова Мялешкі супраць польскага засілля, а таксама вершы невядомых аўтараў, якія дайшлі да нашага часу.

8. Лінгвістычная літаратура. Першыя навуковыя працы па апісанні мовы ва ўсходніх славян з'явіліся ў канцы 16 ст. на Беларусі. Да гэтых прац адносяцца ананімная "Кграматыка словеньска языка", надрукаваная ў Вільні ў 1586 г., у 1596 г. апублікавана таксама ў Вільні "Граматика словенска" Лаўрэнція Зізанія і яго ж "Лексис", дзе даецца тлумачэнне 1061 стараславянскага слова. У 1619 г. тут жа выйшла з друку самая знакамітая таго часу "Граматыка" Мялеція Сматрыцкага, якую М.В.Ламаносаў разам з "Арыфметыкай" Магніцкага назваў "вратами учености".

З канца 17 ст. беларуская літаратурная мова была выведзена з афіцыйнага ўжытку польскімі ўладамі, і на працягу ўсяго 18 ст. і пачатку 19 ст. яна існавала толькі ў гутарковым маўленні сялян, у шматлікіх вусных помніках фальклору, а таксама ў якасці ўставак у польскамоўныя драматычныя творы для выдзялення і характарыстыкі вобразаў беларускіх дзейных асобаў, персанажаў гэтых твораў. Што тычыцца іншых славянскіх літаратурных моў, то, за выключэннем рускай мовы, для большасці іх 17–18 стст. былі перыядам упадку і забыцця. Так, пасля белагорскага паражэння чэхаў у 1620 г. і страты імі дзяржаўнай самастойнасці наступіў неспрыяльны час для чэшскай мовы і культуры. Да канца 18 ст. чэшская мова была выцеснена з усіх сфер грамадскага жыцця. З 1784 г. яна ўжо не вывучаецца ў

школах, бо адзінай дзяржаўнай мовай у Аўстрыйскай імперыі, куды ўваходзіла Чэхія, з'яўлялася нямецкая мова. У другой палавіне 18 ст. аўтар адной з чэшскіх граматык на нямецкай мове Ф.Пельцл адзначаў: "Калі-небудзь чэшскія землі апынуцца ў такім стане, што ад славянскай мовы застануцца толькі найменні гарадоў, вёсак і рэк". А праз стагоддзе слынны чэшскі лінгвіст Й.Добраўскі пісаў свайму славенскаму калегу В.Капітару: "Справа нашага народа, калі не паможа пан Бог, абсалютна безнадзейная" (гл.: НАЦИОНАЛЬНОЕ ВОЗРОЖДЕНИЕ 1978, 10). У 15–17 стст. вынікам турэцкага прыгнёту стаў заняпад балгарскай, славенскай і сербска-харвацкай літаратурных моў, якія канчаткова адрадзіліся са сфарміраванымі нормамі толькі ў другой палавіне 19 ст. (гл.: СЛАВЯНСКИЕ ЯЗЫКИ 1977, 217–291). Польская літаратурная мова дасягнула свайго росквіту да сярэдзіны 17 ст., але потым прыйшла ў заняпад, пачала адраджацца з сярэдзіны 18 ст. і праз стагоддзе стала ўпоравень з іншымі высокаразвітымі славянскімі мовамі (гл.: ЛЕР-СПЛАВИНСКИЙ 1954, 154, 220).

З другой палавіны 18 ст. і да сярэдзіны 19 ст. большасць літаратурных славянскіх моў перажыла перыяд адраджэння і бурнага развіцця (гл.: AUTY 1974, 122). Фарміруюцца сучасныя літаратурныя мовы ў балгар і славакаў (гл.: BIRNBAUM 1985, 24), развіваюцца адзіныя сярод славянскіх моў два варыянты сербска-харвацкай літаратурнай мовы – белградскі і заграбскі (гл.: EINFÜHRUNG 1986, 59–60). Чэшская нацыя разам са сваёй мовай пачала адраджацца ў канцы 18 ст., калі ў Карлавым універсітэце (Прага) адкрылася кафедра чэшскай мовы (1792 г.), крыху раней было заснавана "Чэшскае навуковае таварыства" (1784 г.) і стала выдавацца на чэшскай мове "Пражская паштовая газета" (1789 г.). Чэшская мова, якая пачала шырока вывучацца ў гімназіях з сярэдзіны 19 ст., захавала арганічную еднасць, падобна рускай мове, з кніжнай традыцыяй залатога стагоддзя ў развіцці сваёй мовы, што прыпадае на 1520–1620 гг. Украінская літаратурная мова, якая да канца 17 ст. утварала разам са старабеларускай фактычна адзіную пісьмовую мову, а потым да сярэдзіны 19 ст. існавала ў двух варыянтах, славяна-рускім і кніжным, была сінтэзавана сумесна з народна-размоўнай стыхіяй у адзіную літаратурную мову найперш у творчасці Т.Шаўчэнкі і І.Катлярэўскага (гл.: LENCEK 1985, 46). У якасці своеасаблівага эталона, што выкарыстоўваўся для стварэння славянскіх літаратурных моў, паслужылі чэшская і руская літаратурныя мовы з неперарыўнай кніжнай традыцыяй і ўсталяванымі нормамі (гл.: BROZOVIČ 1974, 40). Большасць новых славянскіх літаратурных моў будуецца не на старaславянскай аснове, як гэта было ўласціва ўсім ім на першых этапах свайго існавання, а на народнай (гл.: ХАБУРГАЕВ 1994, 5).

Новая беларуская літаратурная мова зарадзілася ў першай палавіне 19 ст. на грунце беларускіх народных гаворак і фактычна страціла непасрэдныя сувязі са старабеларускай пісьменнасцю, у якой зараз адзначаецца, бадай, больш агульных рыс з сучаснай рускай літаратурнай мовай, чым з сучаснай беларускай (гл.: ЖУРАЎСКІ 1974, 49–61). Страта пераемнасці з папярэдняй кніжнай традыцыяй з'яўляецца адметнай рысай развіцця беларускай літаратурнай мовы, бо амаль усе астатнія славянскія літаратурныя мовы ці не зведалі перарыву ў сваёй гісторыі, ці ў той або іншай ступені захавалі арганічную еднасць паміж усімі этапамі свайго станаўлення і развіцця (гл.: ТОЛСТОЙ 1988, 22).

Дзякуючы сваёй амаль цалкам народнай аснове, зыходна іншай, чым гэта было ў старабеларускай мове, новая беларуская літаратурная мова сфарміравалася канчаткова ў канцы 19 – пачатку 20 ст. у новай самавітай якасці, захаваўшы і глыбінныя агульнаславянскія, і старажытнаўсходнеславянскія карані, і свае непаўторныя спецыфічныя рысы, што дало падставу некаторым навукоўцам лічыць

беларускі этнас і яго мову "як маці славянскай сям'і і моваў" (гл.: ЛАСТОЎСКІ 1991, 9; а таксама: ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ 1994, 28).

Найбольш адметнымі пісьмовымі помнікамі беларускай літаратурнай мовы 19 ст. служаць паэмы "Тарас на Парнасе", "Энеіда навыварат", сем нумароў газеты "Мужыцкая праўда" Кастуся Каліноўскага, мастацкія творы Я.Чачота, У.Сыракомлі, Я.Баршчэўскага і інш., класікаў і фундатараў новай беларускай літаратурнай мовы В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, а таксама мастацкія творы Я.Лучыны, Цёткі і інш., Слоўнік беларускай мовы І.Насовіча і інш. Большасць пісьмовых помнікаў гэтага часу, г.зн. 19 ст. (усяго 75 розных кніг на беларускай мове), надрукавана на лацініцы, што па дадзенай вонкавай прыкмеце нітуе беларускую мову з заходнеславянскімі.

Пачатак 20 ст. характарызуецца для беларускай мовы літаратурнай дзейнасцю такіх волатаў мастацкага слова, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, працай беларускіх выдавецтваў у Вільні, Санкт-Пецярбургу, Мінску, з'яўленнем беларускамоўных газет "Наша доля", "Наша ніва" і інш. Пасля ўтварэння БНР, а потым БССР у складзе СССР беларуская мова ў 20–30-я гады 20 ст. значна пашырыла свае функцыі. З мовы мастацкай літаратуры, фальклору, публіцыстыкі яна зрабілася яшчэ і мовай навукі (распрацаваны і надрукаваны 24 тэрміналагічныя зборнікі па розных галінах ведаў), адукацыі (каля 90% усіх навучальных устаноў, у тым ліку ВНУ, працавалі на беларускай мове), культуры, справаводства, паўсядзённага ўжытку. У 1918 г. надрукавана першая беларуская граматыка Б.Тарашкевіча. Па сваіх сацыяльных функцыях беларуская мова паднялася ў гэты час на ўзровень іншых развітых славянскіх моў, бо панавала тады амаль ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Тым не менш у далейшым цэлы шэраг фактараў, найперш экстралінгвістычных, прывёў да таго, што да сённяшняга часу, нават пасля абвяшчэння ў 1991 г. суверэнітэту і незалежнасці Беларусі, сферы выкарыстання беларускай мовы даволі імкліва і істотна звузіліся, а сама мова зараз застаецца ледзь не адзінай з сучасных славянскіх моў, якая стаіць на мяжы свайго выжывання і якой пагражае ператварэнне з жывой мовы ў мёртвую, і ў такім разе вывучэнне яе ў недалёкай будучыні магчыма будзе толькі па пісьмовых помніках.

## 1.3. ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЕ І САЦЫЯЛЬНАЕ ЧЛЯНЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Як і ўсе іншыя славянскія мовы беларуская мова мае свае дыялекты, якія падзяляюцца на групы гаворак і асобныя гаворкі ў залежнасці ад наяўнасці найбольш выразных дыферэнцыяльных прыкмет, што назіраюцца ў фанетыцы, граматыцы і лексіцы. На тэрыторыі Беларусі выдзяляюцца два буйныя дыялектныя масівы, гэтаксама як і ў некаторых іншых славянскіх краінах (Расія, Балгарыя); па тры дыялекты вылучаюцца ў чэшскай, славацкай, сербскахарвацкай, украінскай мовах; у Польшчы налічваецца пяць дыялектных груп; у Славеніі – сем (гл.: КОНДРАШОВ 1986).

Выдзеленыя беларускія дыялектныя масівы атрымалі назвы паводле геаграфічнай прыкметы: паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні (параўн.: у Расіі – паўночны і паўднёвы, у Балгарыі – заходні і ўсходні, на Украіне – паўночны, паўднёва-ўсходні і паўднёва-заходні, у Славакіі – заходні, усходні, сярэднеславацкі). Беларускія дыялекты адрозніваюцца найперш адметнымі фанетычнымі рысамі, якія

можна разглядаць як дыферэнцыяльныя, бо яны вельмі выразна падзяляюць тэрытарыяльныя разнавіднасці беларускай нацыянальнай мовы. Так, для паўднёва-заходняга дыялекту характэрнымі з'яўляюцца закрытыя націскныя галосныя, або дыфтонгі (параўн.: *лес, кôнь* або *ліес, куонь* і да т.п.), а для паўночна-ўсходняга – адкрытыя адпаведныя галосныя (параўн.: *лес, конь* і да т.п.). У той час як паўночна-ўсходні дыялект характарызуецца дысімілятыўным аканнем і яканнем (калі *а* ў слове знаходзіцца пад націскам, то ненаціскны галосны *а* распадабняецца ў першым складзе перад націскам, параўн.: *въда, вісна, сціна* і да т.п.), для паўднёва-заходняга дыялекту прыдатна недысімілятыўнае аканне і яканне (параўн.: *вада, вясна, сцяна* і да т.п.). У паўночна-ўсходнім дыялекце спалучэнне зычных з этымалагічным *j* прывяло да іх падваення (параўн.: *калоссе, насенне* і г.д.), у паўднёва-заходнім дыялекце захавалася вымаўленне зычных з *j* (параўн.: *калосье, насенье* і г.д.). У паўночна-ўсходнім дыялекце адзначаецца карэляцыя па цвёрдасці – мяккасці зычнага *р*, у паўднёва-заходнім наяўным з'яўляецца толькі цвёрдае *р*. Часціца *-ся* зваротных дзеясловаў у паўночна-ўсходнім дыялекце вымаўляецца мякка, а ў паўднёва-заходнім – цвёрда (параўн.: *вярнуўся, аглянуўся* і інш. – *вярнуўса, аглянуўса* і інш.). Акрамя таго, выдзеленыя дыялекты адрозніваюцца марфалагічнымі прыкметамі. Напрыклад, у назоўнікаў ніякага роду множнага ліку назоўнага склону паўднёва-заходняга дыялекту адзначаецца ненаціскны канчатак *-а* (параўн.: *сёла, вокна* і да т.п.), а ў адпаведных словах паўночна-ўсходняга дыялекту – канчатак *-ы* (параўн.: *сёлы, вокны* і да т.п.); назоўнікі жаночага роду адзіночнага ліку паўднёва-заходняга дыялекту ў творным склоне маюць канчаткі *-ою, -ёю* (параўн.: *сцяною, зямлёю* і да т.п.), а адпаведныя словы паўночна-ўсходняга дыялекту – канчаткі *-ой, -ёй* (параўн.: *сцяной, зямлёй* і да т.п.) і інш. Лексічныя несупадзенні ў паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў закранаюць словы ўсіх часцін мовы і практычна ўсе тэматычныя групы (параўн.: *нада – трэба, добры – байкі, лаяцца – вайтавацца, хлеў – пуня, калодзеж – студня, гарлач – збанок, бульба – картофля, галень – дзяркач, калыбель – зыбка, прасла – частакол* і інш.).

Паўднёва-заходні дыялект падзяляецца на слуцка-мазырскія і гродзенска-баранавіцкія гаворкі, а паўночна-ўсходні – на полацкія і віцебска-магілёўскія. Паміж абодвума дыялектнымі масівамі знаходзяцца сярэднебеларускія гаворкі, якія змяшчаюць у сабе рысы гэтых зазначаных масіваў, з'яўляюцца пераходнымі ад аднаго з іх да іншага, таму не ўтвараюць асобнага дыялекту. У падмурку беларускай літаратурнай мовы ляжаць у асноўным моўныя асаблівасці сярэднебеларускіх гаворак (гл.: БЛІНАВА, МЯЦЕЛЬСКАЯ 1980, 201–206).

Акрамя асноўных дыялектных масіваў на тэрыторыі Беларусі знаходзяцца і перыферыйныя палескія гаворкі, якія істотна выдзяляюцца сваімі адметнымі фанетычнымі, граматычнымі і лексічнымі рысамі, характэрнымі для беларуска-ўкраінскага памежжа: оканнем (параўн.: *вода, сорочка* і да т.п.), вымаўленнем ненаціскнога *і* на месцы этымалагічнага *е* (параўн.: *ліс, літо* замест *лес, лета* і да т.п.), адсутнасцю дзекання, цекання, наяўнасцю канчаткаў *-ові* ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду (параўн.: *сынові, братові* і да т.п.), формай інфінітыва на *-ты* (параўн.: *чытаты, говорыты* і да т.п.), наяўнасцю цвёрдага *-т* у канчатках дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу (параўн.: *бачыт, сядыт* і да т.п.) і інш.

Групы гаворак і асобныя гаворкі вылучаюцца і сярод дыялектаў іншых славянскіх моў, але ў некаторых, напрыклад у чэшскай, славенскай, яны з'яўляюцца больш дыферэнцыраванымі, г.зн. маюць больш істотныя фанетычныя і граматычныя адрозненні, чым гаворкі беларускай мовы (параўн.: KELLNER 1954, 21). Найбольшыя дыялектныя разыходжанні сярод славянскіх моў назіраюцца ў

сербскахарвацкай мове, дзе зазначаюцца несупадзенні і ў колькасці склонаў, і ў дзеяслоўным спражэнні, і ў акцэнтуацыі, і ў лексічным складзе (гл.: ИВИЋ 1971, 103). Сярод польскіх дыялектаў асобнае месца займае кашубскі дыялект: некаторыя навукоўцы разглядаюць яго ў якасці самастойнай заходнеславянскай мовы. У балгарскай мове дыялектныя адрозненні з'яўляюцца менш істотнымі (гл.: УВОД 1986, 307), чым у сербскахарвацкай, чэшскай, польскай, славенскай мовах, і нагадваюць у гэтым плане ўсходнеславянскія мовы. Зазначым, што беларускім вучоным належыць прыярытэт сярод славянскіх даследчыкаў па дэталёвым апісанні дыялектаў сваёй мовы. Так, у 1963 г. надрукаваны "Дыялектычны атлас беларускай мовы", першая праца падобнага тыпу ў дачыненні да славянскіх моў, адзначаная Дзяржаўнай прэміяй СССР за 1968 г. У 1993–1998 гг. упершыню сярод славянскіх моў апублікаваны "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" у пяці тамах, дзе ўсебаковаму аналізу падлеглі рэгіянальныя найменні расліннага і жывёльнага свету, сельскай гаспадаркі, чалавека, побыту, а таксама семантычныя асаблівасці слоў, дэрывацыя і націск у беларускіх народных гаворках.

Сацыяльная дыферэнцыяцыя беларускай мовы, як і іншых славянскіх моў, заключаецца, з аднаго боку, у яе размежаванні па сферах выкарыстання, з іншага боку, ва ўжыванні ў агульнапашыраных разнавіднасцях мовы (гутарковая, літаратурная) тых элементаў, якія характарызуюць пэўныя групоўкі людзей па прафесіі, роду заняткаў, інтарэсах і да т.п.

У залежнасці ад сфер ужывання беларуская мова мае такія ж характарыстыкі, якія адзначаюцца і ў большасці іншых славянскіх моў, г.зн., што яна падзяляецца ў гэтых адносінах на наступныя стылі: гутарковы, афіцыйна-дзелавы, навуковы, публіцыстычны, а таксама ў якасці асобнага вылучаецца стыль мастацкай літаратуры, дзе, акрамя спецыфічнага ўжывання мовы як эстэтычнага сродку і як лепшага ўзору літаратурнай мовы, могуць у рознай ступені і ў розных прапорцыях выкарыстоўвацца дыялектныя сродкі і моўныя сродкі іншых стыляў, што залежыць ад тэмы, мэт і праблем канкрэтнага мастацкага твора.

У сучасных славянскіх краінах гутарковае маўленне, або сродак вусных зносін, функцыянуе і разглядаецца навукоўцамі ці як варыянт літаратурнай мовы, ці як асобны стыль. Так, у рускім мовазнаўстве гутарковае маўленне хаця і выдзяляецца ў якасці асобнай сістэмы сродкаў выражэння, але ў рэчышчы адзінай літаратурнай мовы і супрацьпастаўляецца – не ёй, а афіцыйна-дзелавому стылю, з'яўляецца такім чынам разнавіднасцю літаратурнай мовы (гл.: РУССКАЯ РАЗГОВОРНАЯ РЕЧЬ 1973, 214; ЗЕМСКАЯ и др. 1981, 53). У чэшскай мове функцыянуе дзве яе вусныя разнавіднасці: літаратурная, або стандартная, і паўсядзённая, якія істотна адрозніваюцца паміж сабой (гл.: СГАЛЛ 1960). Прыблізна, як і ў чэшскай мове, суадносяцца паміж сабой дзве разнавіднасці сербскахарвацкага маўлення (гл.: РЕСО 1990, 8–9). Дзве плыні вуснага маўлення вылучаюцца і ў польскай мове, аднак яны не выходзяць за межы адзінай літаратурнай нормы (КУРКОВСКА 1976, 90).

Беларускае гутарковае маўленне можа быць таксама падзелена на дзве разнавіднасці: вусны варыянт літаратурнай мовы і трасянка. Трасянка ўяўляе сабой гібрыд беларускай літаратурнай мовы, а таксама яе розных тэрытарыяльных і сацыяльных разнавіднасцяў і рускай літаратурнай мовы. Не толькі сярод славянскіх краін, але і ў Еўропе ў цэлым трасянка ўяўляецца унікальнай з'явай, што нагадвае пэўныя разнавіднасці крэольскіх моў, распаўсюджаных у былых калоніях на афрыканскім і азіяцкім кантынентах і прадстаўленых змешанымі кампанентамі мовы абарыгенаў і мовы колішніх каланізатараў (англічан, французаў, іспанцаў, партугальцаў, гл. пра гэта: ДЬЯЧКОВ 1987).

Трасянка характарызуецца змяшэннем элементаў беларускай і рускай моў на фанетычным, марфалагічным, сінтаксічным і лексічным узроўнях і набыла на Беларусі масавы характар, бо большасць тых беларусаў, што лічаць сябе рускамоўнымі, ужываюць менавіта трасянку, таму што многія, найперш фанетычныя, рысы беларускай мовы ў спантанным маўленні на рускай мове праяўляюцца даволі выразна і рэгулярна, робяць падобнае маўленне і непрывабным, і непрыгожым нават з пункту гледжання яго гучання. Падобны змешаны характар мае і варыянт гутарковай мовы ў нашых паўднёвых суседзяў – змешаная ўкраінска-руская мова, або суржык (калі слова *трасянка* паходзіць ад наймення стрэсенага сена і саломы, што ўжываецца для корму свойскай жывёлы, то слова *суржык* – ад наймення стрэсенага зерня розных злакаў). Але дзякуючы больш руплівай моўнай палітыцы на Украіне, дзе адзінай дзяржаўнай мовай абвешчана мова тытульнай нацыі, гэты варыянт вуснага маўлення, ці суржык, асуджаны на выміранне. Наша ж трасянка пры афіцыйным дзяржаўным двухмоўі не толькі замінае ўсялякім мерапрыемствам і намаганням па ўкараненню культуры беларускага ці рускага маўлення, але і пагражае набыць самастойны статус такога варыянта мовы, які можа быць унармаваны і закадыфікаваны ў адпаведных навуковых працах і афіцыйных пастановах (гл.: ЦЫХУН 1998, 88), што, зразумела, прынясе толькі шкоду беларускай літаратурнай мове.

## 1.4. АГУЛЬНАЕ І СПЕЦЫФІЧНАЕ Ў ЛЕКСІЦЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ПАРАЎНАННІ З ІНШЫМІ СЛАВЯНСКІМІ МОВАМІ

Роднаснасць славянскіх моў і іх блізкасць у адзінстве лексічнага складу, у сістэме фанем і рэгулярных фанетычных працэсаў, у структуры сказа тлумачацца перш за ўсё агульнасцю паходжання з адной праславянскай крыніцы, што падтрымліваецца таксама тымі пастаяннымі інтэнсіўнымі кантактамі, якія абумоўлены знешнімі геаграфічнымі, эканамічнымі, сацыяльнымі фактарамі, спрыяльнымі для захавання і кансервацыі тоесных і падобных адзінак, рыс, структур у моўных сістэмах славян.

Тым не менш кожная асобная славянская мова мае свае ўнутраныя адметныя ўласцівасці, што вынікаюць з працяглага самастойнага жыцця адпаведнага славянскага племя (народнасці, нацыі), умоў іх эканамічнага і палітычнага існавання, характару і глыбіні сувязяў з іншымі няроднаснымі этнічнымі групамі насельніцтва.

У сферы лексікі роднаснасць беларускай мовы з усімі астатнімі славянскімі мовамі праяўляецца найперш наяўнасцю агульных слоў, якія абазначаюць важнейшыя знешнія рэаліі, паняцці аб жыцці і дзейнасці славян. Намінацыі дадзеных рэалій і паняццяў аб іх арганізуюцца ў агульныя прадметна-лагічныя тэмы, якія звязаныя з абазначэннем людзей (параўн.: *otьcь, žena, gostъ* і да т.п.), дэманаў (параўн.: *bogъ, besъ,čъrtъ* і да т.п.), частак цела (параўн.: *noga, nosъ, sьrdьce* і да т.п.), пабудоў (параўн.: *domъ, stěna, vьsь* і да т.п.), хатняга начыння (параўн.: *kotьlъ, čaša, stolъ* і да т.п.), ежы (параўн.: *maslo, pivo, kaša* і да т.п.), земляробства (параўн.: *niva, žito, proso* і да т.п.), надвор'я (параўн.: *větr, sněgъ, gradъ* і да т.п.), раслін (параўн.: *gribъ, sliva, lipa* і да т.п.), прылад працы (параўн.: *pila, sekyra, nož* і да т.п.), свойскіх жывёл (параўн.: *volъ, koza, pesъ* і да т.п.), адзення (параўн.: *kožuch, čepьcь, sukъnja* і да т.п.), фауны (параўн.: *vьlkъ, osa, vydra* і да т.п.), металаў (параўн.: *železo, mědь, olovo* і да т.п.), адрэзкаў часу (параўн.: *dьnь, migъ, zima* і да т.п.), участкаў прасторы (параўн.: *kraj, gora, lesъ* і да т.п.), адзінак вымярэння (параўн.: *mъnogъ,*

*malo, dъva* і да т.п.), адцягненых паняццяў (параўн.: *myslъ, duma, slovo* і да т.п.), колеру (параўн.: *belъ, zelenъ, sinь* і да т.п.) і іншыя тэмы (гл.: СУПРУН 1993, 48–50). З агульнай лексічнай спадчыны ў сучасных славянскіх мовах налічваецца каля дзвюх тысяч розных слоў (KOREČNÝ 1981, 9). З улікам усёй колькасці вытворных слоў сумесны лексічны фонд славянскіх моў істотна ўзрастае. Тым самым павялічваецца іх генетычнае і тыпалагічнае падабенства ў цэлым (параўн.: ИСТОРИЧЕСКАЯ ТИПОЛОГИЯ 1986, 200). Паказанае лексічнае падабенства стварае перадумовы для ўзаемапаразумення славян пры зносінах, спрыяе працэсу вывучэння розных славянскіх моў.

Тым не менш у галіне паўсядзённай лексікі для беларускай мовы ва ўсіх тэматычных групах слоў адзначаюцца свае адметныя лексічныя адзінкі: назвы людзей (параўн.: *бацька, падлетак, паляўнічы* і інш.; рус. *отец, подросток, охотник*; бал. *отца, момче, ловец*; србх. *отац, шипарац, ловац*; укр. *отець, підліток, охотник*; пол. *ojciec, wyrostek, myśliwy*; слав. *oče, deček, lovec*; слц. *otec, mladistvý, pol'ovnik*; чэш. *otec, výrostek, myslivec*); назвы птушак (параўн.: бел. *шпак, певень*; рус. *скворец, петух*; укр. *шпак, півень*; слц. *škorec, kohút*; бал. *скорец, петел*; србх. *чворак, петао*; пол. *szpak, kogut*; чэш. *špaček, kohout*); назвы частак цела (параўн.: бел. *сківаца, скроня*; рус. *челюсть, висок*; укр. *щелепа, скроня*; бал. *челюст, сляпото око*; србх. *вилица, слепо око*; пол. *szczęka, skroń*; слав. *čeljust, sence*; слц. *čel'ust', skroň*; чэш. *čelist, spánek*); назвы раслін (параўн.: бел. *чарот, суніца*; рус.*камыш, земляника*; бал. *камъш, ягода*; србх. *трска, шумска јагода*; слав. *trs, rdeča jagoda*; слц. *trstina, jahoda*; пол. *szuwary, poziomki*; чэш. *rákos, jahoda*); назвы з'яў прыроды (параўн.: бел. *навальніца, золак*; рус. *гроза, рассвет*; укр. *гроза, зоря*; бал. *хала, зора*; пол. *burza, świt*; слав. *neurje, svitanje*; слц. *búrka, úsvit*; чэш. *bouřka, svítání*); назвы зробленых прадметаў (параўн.: бел. *рыдлёўка, ложак;* рус. *лопата, кровать*; укр. *лопата, постіль*; бал., мак., србх. *лопата, кревет*; пол. *lopata, łóżko*; слав. *lopata, postelja*; слц. *lopata, postel'*; чэш. *lopata, postel)*; назвы адзення (параўн.: бел. *шкарпэтка, сарочка*; рус. *носок, рубашка*; бал. *чорап, риза*; слав. *nosek, srajca*; слц. *ponožka, šatka*; чэш. *ponožky, košíle*); назвы прасторы (параўн.: бел. *абшар, хвіліна*; рус. *простор, минута*; укр. *простір, хвилина*; бал., мак., србх. *простор, минута*; слав. *prostor, minuta;* слц. *priestor, minuta*; чэш. *prostor, minuta*); назвы абстрактных паняццяў (параўн.: бел. *летуценне, пакута*; рус. *мечта, страдание*; укр. *мара, страждання*; србх. *машта, страдање;* бал., мак. *мечта, страдание*; пол. *marzenie, cierpienie*; слав. *sanje, muke*; слц. *rojčenie, utrpenie*; чэш. *přelud, utrpení)* і г.д.

Сярод іншых знамянальных слоў – дзеясловаў, прыметнікаў, прыслоўяў – адзначаюцца такія спецыфічныя словы, як *адлюстроўваць, кратаць, сціплы, жабрацкі, выдатна, дрэнна* і інш. Некаторыя выдзеленыя беларускія словы сустракаюцца і ў асобных іншых славянскіх мовах, найперш у суседніх украінскай і польскай (параўн.: укр. *підліток, шпак* і інш., пол. *szkarpetka, skroń* і інш.), але тым не менш значны пласт агульнаўжывальнай лексікі служыць яскравай прыкметай толькі беларускай мовы.

Асобную даволі вялікую колькасць адметных слоў у беларускай мове складае так званая безэквівалентная лексіка, якая перакладаецца на рускую і іншыя славянскія мовы або словазлучэннямі, або апісальнымі канструкцыямі. Падобныя словы адзначаюцца фактычна ва ўсіх больш-менш значных тэматычных групах: назвы разнастайных прылад працы, інструментаў, прыстасаванняў (параўн.: бел. *вірок* і рус. *приспособление для свивания ниток в клубок*, бел. *клявец* і рус. *молоток для отбивания кос и насечки жерновов*, бел. *сахор* і рус. *железные вилы, предназначенные для накидывания навоза* і інш.); назвы разmaітых пабудоў

(параўн.: бел. *брама* і рус. *главный вход во двор, город, усадьбу, на завод и др. в виде двухстворчатых крытых сверху ворот*; бел. *лецішча* і рус. *дом, где живут летом, летнее пристанище*; бел. *мураванка* і рус. *постройка из камня, кирпича* і інш.); назвы хатняга начыння (параўн.: бел. *блінцоўка* і рус. *небольшая дежа, предназначенная для замешивания теста*; бел. *прыскрынак* і рус. *ящик на боковой стенке сундука для хранения мелких вещей*; бел. *цёрла* і рус. *глиняная посуда, в которой трут мак, мнут картофель и др.* і інш.); назвы прыгатаванай ежы (параўн.: бел. *вантрабянка* і рус. *колбаса, приготовленная из потрохов*; бел. *зацірка* і рус. *мучная похлебка, приготовленная на воде или молоке*; бел. *скавароднік* і рус. *плоский круглый хлеб, испеченный на сковороде* і інш.); назвы ткацкіх вырабаў, адзення, абутку (параўн.: бел. *капа* і рус. *узорчатое полотняное покрывало на кровать*; бел. *шарак* і рус. *верхняя одежда из сукна серого цвета*; бел. *шаты* і рус. *дорогая пышная одежда* і інш.); назвы ўчасткаў прасторы (параўн.: бел. *дзядзінец* і рус. *огороженный двор вокруг какого-либо строения*; бел. *замчышча* і рус. *место, где стоял или стоит замок*; бел. *цвінтар* і рус. *огороженное место около церкви, церковный двор* і інш.); назвы прадпрыемстваў па вырабу чаго-небудзь (параўн.: бел. *алейня* і рус. *предприятие по производству растительного масла*; бел. *гарбарня* і рус. *кожевенный завод, мастерская по переработке кожи*; бел. *цукроўня* і рус. *предприятие по производству сахара* і інш.); абазначэнні адрэзкаў часу, на якія прыпадаюць святочныя, працоўныя і іншыя падзеі (параўн.: бел. *дзяды* і рус. *древний обряд поминания умерших, день этого поминания*; бел. *калядніца* і рус. *рождественская пора*, *рождественская ночь*; бел. *заворыны* і рус. *начало пахоты* і інш.); найменні прафесій, роду заняткаў (параўн.: бел. *камінарства* і рус. *ремесло трубочиста*; бел. *каморніцтва* і рус. *землемерное дело*; бел. *леснікоўства* і рус. *работа, занятие лесника* і інш.); назвы адзінак вымярэння (параўн.: бел. *корх* і рус. *мера длины в ширину ладони*, бел. *гміна* і рус. *административно-территориальная единица в Польше*; бел. *рата* і рус. *одна из частей общей платы, долга* і інш.); найменні разумовых паняццяў (параўн.: бел. *клёк* і рус. *здравый смысл;* бел. *цымус* і рус. *самое важное, самое существенное*, *суть чего-нибудь* і інш.); назвы танцаў, песень (бел. *лявоніха* і рус. *белорусский народный танец*, *музыка к этому танцу*; бел. *шчадроўка* і рус. *песня, которую по традиции поют праздничным предновогодним вечером*, і інш.); найменні людзей (параўн.: бел. *вясельнік* і рус. *участник свадебного обряда*; бел. *зняверца* і рус. *человек, потерявший веру во что-либо*; бел. *нездаляка* і рус. *тот, кто не отличается крепким здоровьем, слабый физически* і інш.) і шмат іншых (гл.: ШКРАБА 1994). Безэквівалентная лексіка ахінае шматстайныя рэаліі матэрыяльнага і духоўнага жыцця беларуса, якія або адсутнічаюць у жыцці нашых славянскіх суседзяў, або аднаслоўна не лексікалізаваныя ў іх мовах.

Шмат слоў у беларускай мове знешне супадае з лексемамі іншых славянскіх моў або мае блізкае падабенства, якое, аднак, далёка не заўсёды суправаджаецца тоеснасцю семантыкі, або плана зместу такіх адзінак, якія часта ці замінаюць, ці аказваюць мядзведжую паслугу пры вывучэнні славянскіх моў, у прыватнасці беларускай. Лексічныя адзінкі, што маюць фармальнае падабенства, але адрозніваюцца сваім значэннем, называюць у розных мовах неаднолькава (параўн.: англійская *misleading words*, французская *faux amis du traducteur*, нямецкая *irreführende Fremdwörter,* руская *ложные друзья переводчика* і інш.), што на беларускай мове можна перадаць проста як *міжмоўныя амонімы*.

Спектр семантычных разыходжанняў паміж знешне падобнымі лексемамі розных славянскіх моў з улікам іх неаднолькавай пісьмовай формы (лацініцы і кірыліцы)

уключае ў сябе па сутнасці ўсе тыя магчымыя віды несупадзенняў плана зместу слоў, якія сустракаюцца ў лексіцы ўвогуле, г.зн. уласцівыя і генетычна няроднасным словам, або словам з рознымі планамі выражэння. Пералічым віды адрозненняў у плане зместу розных знешне падобных ці эквівалентных слоў і праілюстрыруем дадзеныя віды канкрэтнымі прыкладамі з беларускай і іншых славянскіх моў.

1. Сінанімічныя адрозненні ў значэннях слоў, што падобныя сваёй знешняй формай: бел. слова *вока* і рус. *око* з'яўляюцца ў міжмоўным плане своеасаблівымі стылістычнымі сінонімамі – рус. слова магчыма ва ўзвышанай паэтычнай мове, тады як беларускі эквівалент служыць стылістычна нейтральным словам і адпавядае рускаму слову *глаз*; яшчэ аналагічныя прыклады без каментарыяў: бел. *важны* і слц. *važný* 'сур'ёзны', бел. *жыццё* і рус. *житьё* 'існаванне', бел. *вабіць* і слав. *vabiti* 'прыцягваць', бел. *чубіць* і пол. *czubić* 'біцца' і інш.

2. Антанімічныя адрозненні ў знешне падобных словах беларускай і адной з іншых славянскіх моў: бел. *чэрствы* і чэш. *čerstvý* 'свежы', бел. *урод* і пол. *uroda* 'прыгажосць', бел. *піск* і бал. *писк* 'моцны гук', бел. *благі* і рус. *благой* 'добры', бел. летась і слц. *letos* 'у гэтым годзе', бел. *водар* і пол. *odór* 'дрэнны пах, смурод' і інш.

3. Родавідавыя, або гіперанімічныя, адрозненні: слова ў беларускай мове абазначае родавае паняцце, а падобнае па знешняй форме слова іншай славянскай мовы – відавое паняцце: бел. *грыб* і слц. *hrib* 'баравік, белы грыб', бел. *ягада* і бал. *ягода* 'суніца', бел. *варыва* і србх. *вариво* 'вараная агародніна', бел. *капуста* і чэш. *kapusta* 'савойская капуста', бел. *бакалея* і пол. *bakalie* 'ўсходнія ласункі' і інш.

4. Відародавыя, або гіпанімічныя, адрозненні: беларускае слова абазначае відавое паняцце, рэалію, прадмет, а знешне падобнае слова іншай славянскай мовы – родавае паняцце, рэалію, прадмет: бел. *рукавіцы* і бал. *ръкавици* 'пальчаткі і рукавіцы', бел. *шпіталь* і пол. *szpital* 'бальніца', бел. *боб* і србл. *bob* 'боб і фасоль', бел. *дол* і мак. *дол* 'даліна, яр, роў', бел. *дэпо* і србх. *депо* 'дэпо і склад', бел. *нявеста* і пол. *niewiasta* 'жанчына' і інш.

5. Адрозненні ў семантычных суадносінах цэлае – частка: слова ў беларускай мове з'яўляецца ў параўнанні з іншым знешне падобным славянскім словам абазначэннем больш складанага паняцця, часткай якога служыць рэалія, пазначаная іншаславянскай лексемай: бел. *нафта* і пол. *nafta* 'газа, керасін', бел. *час* і рус. *час* 'гадзіна', бел. *бор* і бал. *бор* 'сасна', бел. *сад* і србл. *sad* 'садавіна', бел. *балота* і пол. *błato* 'гразь' і інш.

6. Адрозненні ў семантычных суадносінах частка – цэлае: беларускае слова з'яўляецца ў параўнанні з іншаславянскай лексемай вузейшым па значэнні, бо суадносіцца з рэаліяй, што ўключаецца ў якасці састаўнога кампанента ў склад іншай рэаліі, абазначанай знешне падобным словам пэўнай славянскай мовы: бел. слова *лета* і слав. *leto* 'год', бел. *губа* і србл. *huba* 'рот', бел. *нядзеля* і рус. *неделя* 'тыдзень', бел. *кола* і чэш. *kolo* 'веласіпед' і інш.

7. Адрозненні ў абазначэнні розных рэалій адной прадметна-лагічнай тэмы: беларускае слова і знешне падобнае слова іншай славянскай мовы называюць не аднолькавыя, але тэматычна звязаныя рэаліі: участкі прасторы (бел. *гара* і бал. *гора* 'лес', бел. *бераг* і србх. *брег* 'узгорак' і інш.), расліны, плады (бел. *дыня* і бал. *диня* 'тыква', бел. *баклажан* і ўкр. *баклажан* 'памідор' і інш.), жывёл (бел. *тур* і србх. *тур* 'зубр', бел. *сіўка* і слав. *sivka* 'карова светлай масці' і інш.), бытавыя прадметы (бел. *дыван* і рус. *диван* 'прадмет мэблі', бел. *стул* і чэш. *stůl* 'стол' і інш.), ежу (бел. *расол* і чэш. *rosol* 'жэле', бел. *сыр* і ўкр. *сир* 'тварог' і інш.), людзей (бел. *варатар* і слав. *vratar* 'парцье' і інш.), пабудовы (бел. *дом* і чэш. *dům* 'сабор' і інш.), літаратурныя жанры (бел. *аповесць* і пол. *powieść* 'раман' і інш.), колеры (бел. *сівы* і

бал. *сив* 'шэры' і інш.), час (бел. *старасць* і слав. *starost* 'узрост' і інш.), адзенне (бел. *тэніска* і чэш. *teniska* 'спартыўны абутак' і інш.) і г.д.

8. Адрозненні ў граматычнай семантыцы: граматычнае значэнне беларускага слова не супадае з граматычным значэннем знешне падобнай іншаславянскай лексемы: бел. *вечар* (мужчынскі род) і бал. *вечер* (жаночы род), бел. *сабака* (мужчынскі род) і рус. *собака* (жаночы род), бел. *возера* (ніякі род) і србл. *jezor* (мужчынскі род), бел. *рафінад* (мужчынскі род) і чэш. *rafinada* (жаночы род), бел. *будні* (множны лік) і ўкр. *будень* (адзіночны лік) і інш.

9. Адрозненні ў абазначэнні аддаленага семантычнага падабенства пры знешнім супадзенні беларускай і іншаславянскай лексем: бел. *квас* і пол. *kwas* 'кіслата', бел. *пячэнне* і србх. *печенје* 'смажанае мяса', бел. *рыбнік* і чэш. *rybník* 'сажалка', бел. *вобраз* і србл. *wobraz* 'карціна', бел. *накіп* і слц. *nákyp* 'пудзінг', бел. *какарда* і пол. *kokarda* 'бант' і інш.

10. Поўнае семантычнае адрозненне знешне падобных лексем беларускай і іншай славянскай мовы: бел. *ліванец* і чэш. *livanec* 'блін', бел. *кара* і бал. *кара* 'чорны', бел. *збор* і мак. *збор* 'слова', бел. *рэч* і србх. *реч* 'слова', бел. *бурак* і чэш. *burák* 'арахіс', бел. *гусляр* і пол. *guślarz* 'чараўнік, вядзьмар' і інш.

Акрамя таго, зразумела, у беларускай мове ёсць мноства слоў, якія з'яўляюцца тоеснымі або падобнымі па семантыцы са словамі іншых славянскіх моў, але цалкам адрозніваюцца па сваёй знешняй форме (словы тыпу бел. *сакавік*, рус. *март*, укр. *березень* і да т.п.) або часткова, у прыватнасці афіксамі (параўн.: бел. *казляціна* і ўкр. *козлина*, бел. *варэнне* і чэш. *zavařenina*, бел. *груша* і србх. *крушка* і да т.п.). Асобна трэба вылучыць тыя беларускія лексемы, што перакладаюцца на іншыя славянскія мовы або ўстойлівымі зваротамі (параўн.: бел. *чыгунка* і рус. *железная дорога*, бел. *чарніцы* і пол. *borówka czernica* і інш.), або словазлучэннямі ці апісальнымі канструкцыямі, з дапамогай якіх тлумачыцца памянёная безэквівалентная лексіка, што складае ў беларускай мове даволі значную частку яе слоўніка.

### 1.4.1. ВІДЫ СІСТЭМНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ЛЕКСІКІ Ў СЛАВЯНСКІХ МОВАХ

З улікам сённяшняга стану таксанамічнага даследавання славянскай лексікі можна вылучыць некалькі найбольш пашыраных і абагульненых відаў яе сістэмнага апісання.

Логіка-паняційныя аб'яднанні лексічных адзінак у разнастайныя групоўкі грунтуюцца на дэтэрміністычных адносінах паміж тымі рэаліямі, якія абазначаюцца пэўнымі словамі. Месца слова ў лексічных падсістэмах, заснаваных на логіка-паняційных сувязях паміж іх адзінкамі, вынікае са строгай, жорстка вызначанай той упарадкаванасці суадносных прадметаў, з'яў, паняццяў, якая забяспечваецца або іх натуральнымі ўласцівасцямі, або штучна зададзенай людзьмі іерархіяй. Напрыклад, з аднаго боку, тэрміны сваяцтва ў славянскіх мовах арганізуюцца ў дэтэрміністычную падсістэму на аснове прыроджаных якасцяў людзей, натуральна падзеленых па полу, ступені роднаснасці, пакаленню і інш.; з другога боку, абазначэнні армейскіх чыноў і званняў арганізуюцца ў іерархічную падсістэму на грунце зададзенай падпарадкаванасці ваеннаслужачых, правіламі, знарочыста створанымі чалавекам.

Прадметна-тэматычная класіфікацыя славянскай лексікі адлюстроўвае ў сабе пэўную еднасць прадметаў, з'яў навакольнай рэчаіснасці, паняццяў аб іх у межах больш-менш выразных сфер існавання і дзейнасці чалавека (параўн.: найменні людзей, жывёл, прыродных з'яў, раслін, адрэзкаў часу, прасторы, пабудоў, прылад

працы, рэалій культуры і інш). Дадзены від сістэмнай арганізацыі лексікі славянскіх моў матывуецца экстралінгвістычнымі фактарамі і яго можна ахарактарызаваць як знешні, пазамоўны спосаб класіфікацыі слоў, бо ён вынікае з непасрэднай лучнасці саміх рэалій, абазначаных канкрэтнымі лексемамі.

Унутрымоўная сістэмная арганізацыя лексікі выводзіцца з фармальных, граматычных і семантычных уласцівасцяў саміх славянскіх лексем, на падмурку чаго словы групуюцца ў адпаведныя фармальныя аб'яднанні (параўн.: упарадкаванасць лексем па алфавіце ў арфаграфічных, тлумачальных, адваротных і іншых слоўніках), гнёзды (параўн.: арганізацыя лексем у дэрывацыйных слоўніках), палі (параўн.: тэматычныя, ідэаграфічныя і іншыя слоўнікі), рады (параўн.: слоўнікі сінонімаў), пары (параўн.: слоўнікі антонімаў), часціны мовы і ўнутраныя граматычныя групоўкі слоў сярод кожнай з іх.

Асацыятыўная арганізацыя славянскай лексікі існуе найперш у свядомасці носьбітаў мовы і выяўляецца праз псіхалінгвістычныя эксперыменты, вынікі якіх абагульняюцца ў спецыяльных слоўніках, дзе кожны артыкул уяўляе сабой асацыятыўнае поле лексем, што па сваіх розных знешніх і ўнутраных прыкметах аб'ядноўваюцца вакол стрыжнявога слова-стымула. Сувязі, на падставе якіх функцыянуе асацыятыўная сістэмнасць лексікі, з'яўляюцца найбольш размаітымі ў славянскіх мовах і ахінаюць усе тэарэтычна магчымыя аб'яднанні слоў, уключна індывідуальныя для кожнага асобнага носьбіта мовы.

Тыпалагічны спосаб сістэмнай арганізацыі славянскай лексікі прадстаўляецца на сёння найменш распрацаваным. Сярод выкарыстаных навукоўцамі падыходаў да тыпалогіі славянскай лексікі вызначым тыя з іх, што абапіраюцца на даследаванні пэўных тэматычных груп славянскіх слоў з дапамогай этымалагічнага і прадметна-лагічнага аналізаў (параўн.: ТРУБАЧЕВ 1966; ТОЛСТОЙ 1969; КЛЕПИКОВА 1974, і інш.), а таксама на лексікаграфічныя даныя, на ўлік тыпу і складу розных слоўнікаў славянскіх моў (гл.: СУПРУН 1983). У нашым выпадку для тыпалогіі славянскіх моў прапануецца выкарыстаць спецыяльныя лексічныя мадэлі, што гэтаксама, як і фанемы ў фаналогіі, з'яўляюцца пэўнымі канструктамі. У складзе абмежаванай колькасці сканструяваных мадэляў уся славянская лексіка ўтварае розныя тыпалагічныя групоўкі, велічыня якіх залежыць ад колькасці слоў, аб'яднаных на аснове зададзеных фармальных і семантычных уласцівасцяў гэтых мадэляў.

Спецыфічнасць сістэмнай арганізацыі лексікі палягае ў тым, што адна і тая ж сукупнасць слоў можа ўтвараць структурна розныя групоўкі ў залежнасці ад уліку характару сувязяў паміж адпаведнымі словамі. Праілюстрыруем разнастайную сістэмную арганізацыю беларускай і іншаславянскай лексікі на матэрыяле тэмпаральных слоў (слоў са значэннем часу) з улікам дэтэрміністычных, тэматычных, унутрымоўных, асацыятыўных і тыпалагічных сувязяў гэтых слоў. Час уяўляецца стрыжнявой каардынатай чалавечага жыцця, таму паняцце аб ім даволі дэтальна і living розна-бакова катэгарызуецца шматстайнымі сродкамі выражэння мовы (параўн., напрыклад: ЦЫХУН 1981, 159–178). У славянскіх мовах гэта паняцце выкрышталізавалася і аформілася асобнымі граматычнымі катэгорыямі часу і трывання, кожная з якіх у адпаведнасці з выеўленымі відамі свайго зместу расчляняецца на прыватныя падкатэгорыі (ТЕОРИЯ 1987; PANEVOVÁ, BENEŠOVÁ, SGALL 1971). Хаця тэмпаральная лексіка ўстойліва вылучаецца асобнай рубрыкай у ідэаграфічных слоўніках (параўн.: ROGET 1964, DORNSEIFF 1959, ЛЕКСИЧЕСКАЯ ОСНОВА 1984, БАРАНОВ 1985, і інш.), тым не менш кола дадзенай лексікі не мае выразных межаў. Ядро зададзенага пласта слоў фарміруецца лексічнымі адзінкамі з непасрэдным часавым значэннем у славянскіх мовах (параўн.: *čas, věk, godъ* і інш.),

вакол ядра групуюцца словы, у плане зместу якіх семантычны кампанент часу суіснуе побач з іншымі кампанентамі, але займае сярод іх галоўнае месца (параўн.: *zima, žiti, noktь* і інш.). Перыферыю тэмпаральнага пласта славянскай лексікі ўтвараюць словы, у значэнні якіх часавы кампанент займае другаснае месца (параўн.: *pustiti, rosa, vojna* і інш.). У славянскіх мовах сустракаюцца характэрныя для іх усіх тэмпаральныя словы (параўн.: *lěto, rano, zorja* і інш.) і спецыфічныя словы, што зазначаюцца толькі ў асобных мовах (параўн.: бел. *начлегаваць,* пол. *spozimek* 'пачатак вясны' і інш.). Паміж агульнымі і спецыфічнымі лексемамі знаходзіцца вялікая група слоў, уласцівая некалькім славянскім мовам, ад двух і болей (параўн.: *kolo* 'раунд' – для чэш. і слц.; *potom* 'затым' – для рус., чэш., пол., слав. і інш.).

## 1.4.2. ЛОГІКА-ПАНЯЦІЙНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ЛЕКСІКІ

Як ужо адзначалася, гэты від сістэмнасці слоў грунтуецца на дэтэрміністычных сувязях рэалій, на лагічным мышленні і, у прыватнасці, на адзіных асновах успрымання часу чалавекам. У гэтым успрыманні часу славянскай свядомасцю выдзяляліся розныя па працягласці адрэзкі, якія вызначаюцца наступнымі фактарамі: чаргаваннем дня і ночы, зменай пор года і з'яў надвор'я, відамі сельскагаспадарчых прац, рознымі перыядамі чалавечага жыцця і да т.п. (гл.: КОПЕРЖИНСЬКИЙ 1928; СЕЛЕШНИКОВ 1977; ТЕРЕЩЕНКО 1848, і інш.). У цэлым часавая вось, пачаткам якой можа служыць адрэзак, матываваны міганнем вока (гл.: KERN 1984), называецца, напрыклад, бел. *імгненне,* слц. *okamih*, пол. *okamgnienie*, доўжыцца да бясконцасці і даволі аднастайна квантыфікуецца ва ўсіх славянскіх мовах паслядоўна ўсё большымі адзінкамі, кожная з якіх абазначаецца або тоеснымі ва ўсіх славянскіх мовах лексемамі, або адэкватнымі па значэнні, але адрознымі па знешняй форме словамі. Інакш кажучы, вузлавыя паняцці на восі часу фіксуюцца наступнымі славянскімі лексемамі, размешчанымі ў паслядоўнасці павелічэння адпаведных адрэзкаў: *migъ, sekunda, minuta, časъ, dьnь, tydenь (nedelja), měsecь, godъ, věkъ, věčьnьstь* .

Строгая і нязменная ўпарадкаванасць славянскіх лексем на восі часу грунтуецца на паслядоўнай імплікацыі, якая сведчыць, што кожнае папярэдняе слова суадносна з адрэзкам часу, уключаным у склад часу, пазначаным наступным словам. У сучаснай лексікалогіі адпаведныя паняцці катэгарызуюцца тэрмінамі *гіпонім* (слова, якое падпарадкоўваецца) і *гіперонім* (слова, якое падпарадкоўвае). Напрыклад, слова *minuta* з'яўляецца гіперонімам у адносінах да слова *sekunda* і гіпонімам у адносінах да лексемы *časъ.*

Больш дэталёвая квантыфікацыя паняційнага кантынуума часу ажыццяўляецца лексічнымі сродкамі кожнай славянскай мовы некалькімі аднатыпнымі спосабамі, важнейшымі з якіх служаць: выдзяленне цыклічных, або паўтаральных, адрэзкаў у межах вузлавых участкаў часавага кантынуума; вычляненне прамежкавых колькасна вызначаных адрэзкаў часу на паказанай восі; вычляненне колькасна няпэўных адрэзкаў часу; выдзяленне пэўных адрэзкаў часу ў тых або іншых відах, сферах чалавечай дзейнасці; прэзентацыя і датаванне міжнародных, дзяржаўных, рэлігійных, грамадскіх, сямейных і іншых відаў урачыстасцяў.

Цыклічныя перыяды размяшчаюцца на розных месцах часавай восі, раздзяляюць той або іншы прамежак часу і на няпэўныя часткі, і на даволі выразныя адрэзкі, што абазначаюцца як зыходна славянскімі лексемамі, так і запазычаннямі. Напрыклад, дзяленне сутак на дзень, ноч, раніцу, вечар з'яўляецца агульным для ўсіх славянскіх моў, бо яно тэрміналагізуецца канкрэтнымі эквівалентнымі па значэнню словамі, але не мае выразных колькасных межаў, якія аказваюцца ў да-

дзеным выпадку крыху размытымі. Акрамя таго, у кожнай асобнай славянскай мове ёсць лексічныя сродкі, з дапамогай якіх дасягаецца даволі падрабязная дыферэнцыяцыя вузлавога паняцця часу, суадноснага з суткамі (адзін паварот зямлі па восі вакол сонца). Так, у польскай мове даследчыкі (MOSZYŃSKI 1967, 131) налічваюць 19 частак сутак, што катэгарызуюцца адпаведнымі словамі і словазлучэннямі. Перыяды жыцця асобнага чалавека, суадносныя з паняццямі маленства, юнацтва, сталасці, старасці, таксама выдзяляюцца ва ўсіх славянскіх мовах, дзе апрача таго адзначаюцца і прамежкавыя перыяды.

Да выразна вызначаных цыклічных паняццяў часу адносяцца ў славянскіх мовах сем дзён назваў тыдня, чатыры каляндарныя поры года, унутры якіх выдзяляюцца назвы дванаццаці месяцаў. Праўда, на найменне апошніх ва ўсіх славянскіх мовах выкарыстоўвалася, па даных Ф.Міклошыча (MIKLOSICH 1867), каля 250 розных слоў.

Прамежкавыя колькасна вызначаныя адрэзкі часавай восі вычляняюцца ў славянскіх мовах лексічнымі адзінкамі і іх спалучэннямі ў залежнасці ад мэты камунікацыі, устаноўкі прамоўцы, сітуацыі зносін і іншых фактараў, прычым некаторыя адрэзкі часу ўстойліва абазначаюцца пэўнымі найменнямі тыпу *паўгадзіны, дэкада, квартал, паўгоддзе, семестр, пяцігодка, тысячагоддзе* і інш. У цэлым жа выдзяленне розных адрэзкаў часу ў гэтым кірунку можа быць бясконцым праз выкарыстанне словазлучэнняў тыпу *пяць секунд, дзве мінуты, тры дні, сем месяцаў, дзесяць гадоў* і г.д.

Строга няпэўныя адрэзкі часу могуць выдзяляцца ў славянскіх мовах словамі і словазлучэннямі з пэўным значэннем тыпу *мінутка, гадзінка, пара дзён* і, зразумела, словамі з колькасна недакладнымі значэннямі тыпу *адпачынак, канікулы, эпоха, стадыя, эра, мінуўшчына, будучыня* і інш. Лексічныя адпаведнікі выкарыстаных беларускіх лексем ёсць ва ўсіх славянскіх мовах. Розныя адрэзкі часу ў тых або іншых сферах жыцця і дзейнасці чалавека могуць абазначацца як тоеснымі ва ўсіх славянскіх мовах лексемамі, так і спецыфічнымі для асобных моў словамі, прычым супадзенні часам прадстаўлены запазычаннямі, напрыклад у галіне спорту (параўн.: *раунд, тайм* і інш.), культуры (параўн.: *сеанс, антракт* і інш.). Выдзяляюцца ў пэўнай ступені штучным шляхам адрэзкі часу, суадносныя з вызначанымі датамі, юбілеямі, урачыстасцямі, заснаванымі на традыцыях і іншых умоўных чалавечых фактарах, не звязаных з аб'ектыўным паняццем часу. Сюды адносяцца найменні ўсемагчымых рэлігійных і іншых свят міжнароднага характару (тыпу *Вялікдзень, Пасха, Новы год* і да т.п.), унутрыдзяржаўнага (дні нараджэння і смерці выдатных дзеячаў, дні незалежнасці або ўтварэння дзяржавы і г.д.). Часавая вось і яе галоўныя вузлавыя паняцці членяцца як тоеснымі, так і спецыфічнымі лексемамі кожнай славянскай мовы, захоўваюць пры гэтым агульную для ўсіх моў структурную схему, з дапамогай якой тэмпаральная лексіка арганізуецца пераважна логіка-паняційнымі адносінамі (на матэрыяле рускай мовы падобная схема паказана ў працы КЛИМЕНКО 1970, 85).

### 1.4.3. ТЭМАТЫЧНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ЛЕКСІКІ

Словы са значэннем часу могуць аб'ядноўвацца ў лексічныя групы на аснове суадноснасці апошніх з тымі або іншымі прадметнымі тэмамі, якія вызначаюцца, па-першае, інтуітыўным або традыцыйным спосабам, па-другое, шляхам выкарыстання спецыяльна выпрацаваных для гэтай мэты класіфікацыйных прыкмет.

У першым выпадку атрыманыя аб'яднанні лексем у пэўнай ступені супадаюць з разгледжанай вышэй лагічнай арганізацыяй тэмпаральнай лексікі, аднак не маюць

такой жа строгай і паслядоўнай падставы. Так, у працы (ВСЕВОЛОДОВА 1975) тэмпаральныя словы рускай мовы першапачаткова групуюцца ў два граматычныя класы – назоўнікі і прыметнікі, а потым унутры іх выдзяляецца па дзесяць тэматычных груп. Вылучэнне адных груп назоўнікаў са значэннем часу (напрыклад, назвы дзён тыдня, месяцаў, частак сутак, пораў года, адзінак часазлічэння) грунтуецца на выразных часавых паняццях і не выклікае пярэчанняў, бо можа быць прыдатным для ўсіх славянскіх моў. Аднесенасць другіх груп назоўнікаў да тэмпаральных абазначэнняў з'яўляецца дыскусійным пытаннем (словы тыпу *сенокос, сев, жатва* і да т.п.), трэціх – вельмі сумніўным (словы тыпу *взлёт, капитализм, строительство* і да т.п.), чацвёртых – проста не апраўданым (словы тыпу *абсолютизм*, *ветер, щи* і да т.п.). Яшчэ больш праблематычнай з'яўляецца аднесенасць да тэмпаральнай лексікі ў прапанаванай працы такіх прыметнікаў, як *трудный, горячий, белый* і інш.

У другім выпадку, г.зн. пры выкарыстанні класіфікацыйных прыкмет, для тэматычнай арганізацыі тэмпаральнай лексікі, напрыклад у працы (МОРКОВКИН 1977), адзначаецца такая сістэматызацыя слоў са значэннем часу, якая прыдатна для ўсіх славянскіх моў. У гэтым даследаванні класіфікацыя тэмпаральных слоў будуецца шляхам выкарыстання дыхатамічных (падвойных) крытэрыяў на эмпірычным матэрыяле звыш тысячы слоў са значэннем часу ў рускай мове. Разгледзім прапанаваны прынцып тэматычнай арганізацыі тэмпаральнай лексікі на матэрыяле беларускай і, напрыклад, балгарскай моў. Спачатку ўвесь лексічны пласт са значэннем часу расчляняецца на дзве групы – абазначэнне безадноснага часу (1.0) і абазначэнне адноснага часу (2.0). Другая група адрозніваецца ад першай тым, што ўключае ў сябе найменні часавых паняццяў або з магчымым супрацьпастаўленнем, або адрэзак ці пункт, адносна якога яны маюць пэўны сэнс. Імёны першай групы расчляняюцца папалам на абазначэнні паўтаральных з'яў (1.1) і на абазначэнні непаўтаральных (працяглых) з'яў (1.2). Абазначэнні паўтаральнасці раздвойваюцца на паўторы безадносна да рэгулярнасці (1.1.1), напрыклад, бел. *рэдкі, зноў, часты* і да т.п.; бал. *рядък, пак, чест* і інш., і на такія абазначэнні, дзе выражана прыкмета рэгулярнасці – нерэгулярнасці (1.1.2). Апошнія расчляняюцца на абазначэнні рэгулярнай паўтаральнасці 1.1.2.1 (бел. *штодзённы, перыядычнасць, гадавы* і да т.п.; бал. *всекидневен, период, годишен* і да т.п.) і нерэгулярнай паўтаральнасці 1.1.2.2 (бел. *часам, падчас, калі-нікалі* і да т.п.; бал. *понякого, на моменти, някого* і да т.п.). Імёны, якія абазначаюць працягласць (1.2), раздзяляюцца на найменні неабмежаванай працягласці 1.2.1 (бел. *пастаянны, вечны, заўсёды* і да т.п.; бал. *постоянен, вечно*, *никога* і да т.п.) і абмежаванай працягласці 1.2.2. Граніцай абмежаванай працягласці могуць быць абазначэнні адрэзкаў з указаннем на часавы пункт 1.2.2.1 (бел. *момант, хвіля, імгненне* і да т.п.; бал. *момент, миг, мгновение* і да т.п.) і з указаннем на часавы адрэзак 1.2.2.2. Часавы адрэзак можа быць няпэўнай даўжыні 1.2.2.2.1 (бел. *прамежак*, *перыяд* і да т.п.; бал. *междина, интервал* і да т.п.) і пэўнай 1.2.2.2.2. Назвы адрэзкаў пэўнай даўжыні расчляняюцца папалам на адзінкі падліку часу 1.2.2.2.2.1 (бел. *секунда, мінута, дзень* і да т.п.; бал. *секунда, минута, ден* і да т.п.) і на абазначэнні, якія не служаць адзінкамі падліку часу 1.2.2.2.2.2. Апошняя група раздзяляецца на найменні адрэзкаў пэўнай даўжыні, якая выражана ў адзінках падліку 1.2.2.2.2.2.1 (бел. *паўгадзіны, трохмінутны, двухгоддзе* і да т.п.; бал. *получаса, полуминуты, двегодишен* і да т.п.), і на найменні адрэзкаў пэўнай даўжыні, якая не выражана ў адзінках падліку 1.2.2.2.2.2.2, што ў сваю чаргу раздвойваюцца на абазначэнні часавых адрэзкаў цыклічнага характару 1.2.2.2.2.2.2.1 (бел. *вясна, зіма, раніца* і да т.п.; бал. *пролет, зима, утро* і да т.п.) і часавых адрэзкаў нецыклічнага характару

1.2.2.2.2.2.2.2. Другая група падзяляецца на назвы часавых адрэзкаў адносна свят і будняў 1.2.2.2.2.2.2.2.1 і часавых адрэзкаў безадносна да іх 1.2.2.2.2.2.2.2.2. Канечнымі групамі імён усёй першай галіны 1.0 лічацца, з аднаго боку, абазначэнні часавых адрэзкаў, што маюць абыходкава-прыкладны характар 1.2.2.2.2.2.2.2.2.1 (бел. *урок, дэкада, чвэрць* і да т.п.; бал. *урок, декада, четвърт* і да т.п.), і абазначэнні часавых адрэзкаў для навуковых таксаномій 1.2.2.2.2.2.2.2.2.2 (бел. *сілур, Адраджэнне, палеазой* і да т.п.; бал. *силур, триас, палеозой* і да т.п.).

Другая галіна тэмпаральнай лексікі, звязаная з адносным часам 2.0, выходна раздзяляецца на агульныя абазначэнні часавага рада 2.1 (бел. *канец, пачатак, сярэдзіна* і да т.п.; бал. *край, начален, средина* і да т.п.) і на абазначэнні часу адносна чаго-небудзь 2.2, падзеленыя далей на такія імёны, якія паказваюць на час адносна пэўнага моманту 2.2.1, і на такія, што паказваюць на час аднаго дзеяння адносна часу другога дзеяння 2.2.2. Найменні першай групы раздзяляюцца на абазначэнні часу адносна ўстаноўленага моманту 2.2.2.1 і на абазначэнні часу адносна цяперашняга моманту 2.2.1.2. Найменні 2.2.1.1 расчляняюцца на імёны, якія абазначаюць супадзенне з устаноўленым часам 2.2.1.1.1 (бел.: *своечасова, дакладны, пунктуальна* і да т.п.; бал. *навременен, навреме*, *точно* і да т.п.) і якія абазначаюць несупадзенне з устаноўленым момантам 2.2.1.1.2. Апошнія раздзяляюцца на абазначэнні дадатнага несупадзення 2.2.1.1.2.1 (бел. *папярэдне, загадзя, наперад* і да т.п.; бал. *отнапред, овремя, направен* і да т.п.) і адмоўнага несупадзення 2.2.1.1.2.2 (бел. *несвоечасова, рана, позна* і да т.п.; бал. *ненавременно, закъснение, рано* і да т.п.).

Група 2.2.1.2 раздвойваецца на абазначэнні няпэўнага часу адносна цяперашняга моманту 2.2.1.2.1 (бел. *калі-небудзь, калі-нікалі, некалі* і да т.п.; бал. *когато, някого, кога ли* і да т.п.) і на абазначэнні пэўнага часу адносна цяперашняга моманту 2.2.1.2.2, якія далей членяцца на абазначэнні прошлага часу 2.2.1.2.2.1 (бел. *мінуўшчына, даўніна, раней* і да т.п.; бал. *преди, давност, минал* і да т.п.) і няпрошлага 2.2.1.2.2.2. Гэта апошняя група раздзяляецца папалам на абазначэнні цяперашняга часу 2.2.1.2.2.2.1 (бел. *сёння, цяпер, зараз* і да т.п.; бал. *сегашно, веднага, тутакси* і да т.п.) і будучага 2.2.1.2.2.2.2 (бел. *заўтра, будучыня, хутка* і да т.п.: бал. *утре, занапред, предстои* і да т.п.). Абазначэнні часу аднаго дзеяння адносна іншага 2.2.2 членяцца на найменні супадзення ў часе двух дзеянняў 2.2.2.1 (бел. *сінхроннасць, адначасова, разам* і да т.п.; бал. *единовременность, наведнъж, изведнъж* і да т.п.) і на найменні несупадзення з часам іншага дзеяння 2.2.2.2. Апошнія раздзяляюцца на абазначэнні папярэдніцтва аднаго дзеяння (падзеі) адносна іншага 2.2.2.2.1 (бел. *канун, раней, мінулы* і да т.п.; бал. *навечерие, предшествувам, изпреварвам* і да т.п.) і на абазначэнні праходжання па часе аднаго дзеяння (падзеі) у адносінах да іншага 2.2.2.2.2. Другая група ўрэшце рэшт раздзяляецца на абазначэнні нейтральнага праходжання 2.2.2.2.2.1 (бел. *пасля, затым, потым* і да т.п.; бал. *наскоро, после, сетне* і да т.п.) і неадкладнага праходжання 2.2.2.2.2.2 (бел. *тэрміновасць, неадкладнасць, зараз жа* і да т.п.; бал. *срочен, незабавен, неотложен* і да т.п.).

Уся вербальна апісаная тэматычная арганізацыя тэмпаральнай лексікі ў аглядным выглядзе прадстаўлена на схеме дыхатамічнага тыпу, якая, зразумела, прыдатна для ўсіх славянскіх моў.

### 1.4.4. УНУТРЫМОЎНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ЛЕКСІКІ

Уласна лінгвістычныя крытэрыі сістэмнай упарадкаванасці зададзеных слоў у той або іншай ступені судакранаюцца з логіка-паняційнай і тэматычнай арганізацыяй гэтых слоў, у прыватнасці тэмпаральнай лексікі, прынамсі, часта дапускаюць сваё прымяненне ў межах канкрэтных абазначэнняў вузлавых паняццяў часу або яго пэўных адрэзкаў, цыклаў, тэм. Аднак разнастайныя лексічныя групоўкі, што ўзнікаюць на ўнутрымоўных падвалінах, маюць сваю спецыфіку, якая сведчыць аб наяўнасці як агульных асаблівасцяў, так і індывідуальных рыс для кожнай славянскай мовы ў колькасным складзе і ў структурнай арганізацыі такіх груповак.

Унутрымоўныя асновы апошніх, у сваю чаргу, не з'яўляюцца аднароднымі і могуць падзяляцца на розныя тыпы ў залежнасці ад зыходных лінгвістычных крытэрыяў, з дапамогай якіх групуюцца тэмпаральныя словы. У дадзеным выпадку важна, каб указаныя асновы былі прыдатныя для ўсіх славянскіх моў, хаця склад лексічных груповак пры гэтым можа не супадаць, найперш у колькасных адносінах.




Адным з галоўных падмуркаў для ўнутрымоўнай арганізацыі тэмпаральнай лексікі славянскіх моў служыць марфалагічны: з яго дапамогай словы са значэннем часу размяркоўваюцца на часцінамоўныя групоўкі, што можна паказаць на прыкладзе беларускай і сербскахарвацкай моў. Тут, як і ў іншых славянскіх мовах, устойліва вылучаюцца ў асобныя групоўкі прыслоўі часу (бел. *аднойчы, даўно, заўтра, спрадвеку, зімой* і інш.; србх. *отдавно, досад, зими* і інш.), злучнікі (бел. *калі, пакуль, як, з таго часу як* і інш.; србх. *кад, док, откако* і інш.), прыназоўнікі (бел. *перад,*

*пасля, з, на працягу* і інш.; србх. *после, пре, преко* і інш.). Са значэннем часу могуць ужывацца практычна ўсе лічэбнікі і такія разрады займеннікаў, як прыналежныя, указальныя, няпэўныя, пытальныя і інш. Для кожнага дзеяслова тэмпаральнае значэнне адыгрывае настолькі важную ролю, што знайшло сваё адлюстраванне ў абавязковым граматычным афармленні катэгорыі часу. Пераважна з асноўным лексічным значэннем часу ўжываюцца дзеясловы тыпу бел. *жыць, працягваць, спазніцца* і інш., србх. *живети, наставити, закаснити* і інш. Сярод назоўнікаў і прыметнікаў вылучаюцца даволі вялікія групоўкі тэмпаральнай лексікі, якая падзяляецца на розныя тэматычныя падгрупы.

Такім чынам, тэмпаральная лексіка фактычна ёсць сярод слоў амаль усіх часцін мовы і арганізуецца ўнутры апошніх у сукупнасці з дапамогай граматычных паказчыкаў, прыдатных кожнаму марфалагічнаму разраду.

Магутным сродкам унутрымоўнай арганізацыі тэмпаральнай лексікі служыць марфемная агульнасць слоў, і ў асаблівасці каранёвай марфемы, якая з'яўляецца фармальным і семантычным ядром, вакол якога групуюцца словы розных часцін мовы. Каранёвая агульнасць лексем стварае ўнутрымоўныя асновы для ўзнікнення ва ўсіх славянскіх мовах словаўтваральных гнёздаў, розных па дэрывацыйных патэнцыях (параўн.: ЩЕРБА 1974, 290). Напрыклад, у беларускай літаратурнай мове вакол каранёвай марфемы *час* групуюцца наступныя словы: *часавы, часопісны, аднachасны, дачасны, заўчасны, даўгачасны, тагачасны; часам, часова, аднachасна, дачасна, заўчас, падчас; часіна, часалічэнне, часопіс, аднachаснасць, аднachасовасць, дачаснасць, даўгачаснасць, заўчаснасць, падчасак.* Акрамя таго, у беларускіх народных гаворках адзначаюцца словы з гэтым жа коранем: *вычасаваць, часінка, часаванне, начасны, малачасны, часаваць, прачасаваць, дачасаваць, січас, нічас, тойчас, тагочасу, заўчасу* (гл.: ЕЎТУХОЎ 1981). Інакш кажучы, у адно словаўтваральнае гняздо на аснове каранёвай марфемы і лексемы *час* уваходзіць 36 беларускіх слоў розных часцін мовы.

У прынцыпе лексіка групуецца ў розныя парадыгмы і на аснове адзінства некаранёвых марфем, напрыклад суфіксаў (параўн.: ЦЕЙТЛИН 1977, 68–180) ці прэфіксаў, у прыватнасці прэфіксаў са значэннем часу. Напрыклад, у славацкай мове з дапамогай прэфіксаў *po-, pred-, do-* аб'ядноўваюцца розныя словы, якія набываюць пры гэтым тэмпаральнае значэнне: *povojnový* 'пасляваенны', *predvolebný* 'перадвыбарны', *dosiaľ* 'да гэтага часу' і інш. Важна пры гэтым адзначыць, што ў значэнні каранёвых марфем многіх слоў сема часу можа адсутнічаць, а тэмпаральны сэнс адпаведным лексемам надаюць менавіта прэфіксы, якія з'яўляюцца даволі прадукцыйнымі ва ўсіх славянскіх мовах, у тым ліку і ў беларускай.

Найбольш цесна збліжаюцца паміж сабой па сэнсе тэмпаральныя словы ў межах такой з'явы, як сінанімія. Сінанімічныя словы адзначаюцца на розных участках абазначэнняў часавага кантынуума ў славянскіх мовах, утвараюць або пару блізкіх па значэнні слоў, або рады слоў і выразаў, або цэлыя сэнсавыя блокі, у межах якіх яны аб'ядноўваюцца толькі асобнымі аспектамі сваіх значэнняў. Напрыклад, у балгарскай мове ў якасці сінанімічных пар фіксуюцца тэмпаральныя словы *неделя – седмица, заран – сутрин, скоро – бързо* і інш (ДИМИТРОВА, СПАСОВА 1980). У беларускай мове сінанімічны рад, які ўзначальвае слова *часам,* утварае лексемы і іх спалучэнні: *часамі, падчас, парой, момантамі, нячаста, рэдка, зрэдку, выпадкам, сяды-тады, калі-нікалі, зрэдчас, зрэдзь, час ад часу, мала калі, іншы раз, іншым разам, другі раз, іншы дзень, гады ў рады* (КЛЫШКА 1993). З улікам таго, што вызначэнне лексем у тлумачальных слоўніках даецца часта праз пералічэнне

сінонімаў, з лексікаграфічных крыніц шляхам аналізу слоўнікавых артыкулаў можна атрымаць сэнсавыя лексічныя блокі, у межах якіх адзначаюцца і сінанімічныя пары, і сінанімічныя рады тэмпаральнай лексікі. Напрыклад, у слоўніку чэшскай мовы (TRAVNIČEK 1952) для тлумачэння лексемы *věk* выкарыстоўваюцца тэмпаральныя словы *doba, období,* для вызначэння лексемы *doba – čas,* для тлумачэння апошняй ужываюцца словы *živobytí, život; brzo; počasí, povětrnost.* Далей, слова *život* тлумачыцца, з аднаго боку, праз лексемы *působnost, platnost, zákon*, з другога боку – *břicho*, слова *brzo* – праз лексемы *časně, hned, jednou.* На аснове ўліку прыведзеных семантычных сувязяў паміж рознымі словамі атрымліваем сэнсавы блок наступнага выгляду:




У зазначаным блоку фіксуюцца сінанімічныя пары *živobytí – život, hned – jednou, počasí – povětrnost*, сінанімічны рад *věk – doba – čas – živobytí – život*, сінанімічныя комплексы, што будуюцца на розных аспектах значэнняў тэмпаральных слоў, а таксама ёсць словы з нетэмпаральным значэннем (*břicho, zákon* і інш.).

Адным з самых моцных унутрымоўных аб'яднанняў слоў з'яўляецца антанімія, заснаваная на сэнсавым супрацьпастаўленні лексем у межах розных участкаў лексічных сістэм і падсістэм. Падобныя супрацьпастаўленні ўтвараюцца часцей за ўсё з папарна звязаных паміж сабой слоў, якія фіксуюцца там, дзе лексемы суадносяцца з абазначэннямі паняццяў, што падлягаюць якаснай і колькаснай ацэнцы. Напрыклад, у беларускай мове для намінацыі супрацьпастаўленняў на тых або іншых участках паняцця часу выкарыстоўваюцца антанімічныя пары: *адвячорак – дасветак, будучыня – мінуўшчына, вечар – ранак, вясна – восень, даўно – нядаўна, дзень – ноч, жыццё – смерць, заканчэнне – пачатак, зара – змярканне, заўтра – сёння, заўтрашні – учарашні, зачын – канец, зімой – летам, канец – пачатак, маладосць – старасць, маленства – сталасць, мінулае – заўтрашняе, мінулае – сучаснае, нараджэнне – смерць, новы – даўні, нябыт – жыццё, па-маладому – па-старому, памерці – пражыць, позні – ранні, поўдзень – поўнач, развітвацца – сустракацца, світанне – змярканне, свята – будзень, учора – заўтра, фініш – старт, хутка – марудна* і інш. (ЛАЗОЎСКІ 1994). Ва ўкраінскай мове ў часавым кантынууме занатаваны наступныя антанімічныя пары: *весна – осінь, вечір – ранок, вдень – вночі, будень – свято, вмірання – народження, завжди – ніколи, оживати – помирати, завтра – сьогодні, пізно – рано, сучасний – давній, юність – старість, після – до, потім – спочатку, кінець–початок* і інш. (ПОЛЮГА 1987).

Некаторыя словы могуць мець два і больш супрацьпастаўленняў, што сведчыць аб наяўнасці ў падсістэме тэмпаральнай лексікі не толькі сінанімічных, але і антанімічных блокаў. Так, для разгледжаных антонімаў украінскай і беларускай моў выдзяляюцца, адпаведна, наступныя антанімічныя блокі:




Зразумела, аналагічныя і падобныя антанімічныя пары і блокі слоў адзначаюцца ва ўсіх астатніх славянскіх мовах. Усе разгледжаныя віды ўнутрымоўнай арганізацыі тэмпаральнай лексікі грунтуюцца на парадыгматычных сувязях. У звязных тэкстах кожнае слова дзякуючы сваім семантычным і сінтаксічным патэнцыям спалучаецца з іншымі словамі, што з'яўляецца падмуркам для сістэмнай арганізацыі лексем у сінтагматычным плане. Агульны характар сінтагматычных сувязяў тэмпаральных лексем у славянскіх мовах вызначаецца прыналежнасцю гэтых лексем да пэўнай часціны мовы: прыметнікі часцей за ўсё спалучаюцца з назоўнікамі, прыслоўі – з дзеясловамі. Кола спалучальнасці тэмпаральных назоўнікаў і дзеясловаў вынікае з сінтаксічных уласцівасцяў слоў дадзеных часцін мовы. У залежнасці ад граматычных і семантычных уласцівасцяў слоў са значэннем часу апошнія характарызуюцца сваімі ўстойлівымі сінтаксічнымі мадэлямі, напаўненне якіх лексемамі, што спалучаюцца з тэмпаральнымі словамі, вызначаецца планам зместу гэтых слоў. Спруцянелыя сінтагматычныя мадэлі з тэмпаральнымі словамі набываюць моўны статус фразеалагізмаў, якія адзначаюцца ва ўсіх славянскіх мовах. Найбольш прадукцыйнымі кампанентамі для ўтварэння фразеалагічных зваротаў з тэмпаральнымі кампанентамі ў славянскіх мовах з'яўляюцца словы *dьnь, živ, časъ* і інш. Напрыклад, са словам *dьnь* у сербскахарвацкай мове фіксуецца 64 фразеалагізмы (MATEŠIĆ 1982), у польскай – 60 фразеалагізмаў (SKORUPKA 1967), са словам *жив* у балгарскай мове адзначана 32 устойлівых зваротаў (НИЧЕВА, СПАСОВА-МИХАЙЛОВА, ЧОЛАКОВА 1974), са словам *час* у рускай мове прыводзіцца 24 фразеалагізмы (ФРАЗЕОЛОГИЧЕСКИЙ СЛОВАРЬ 1986), у беларускай мове – 15 (ЛЕПЕШАЎ 1993).

## 1.4.5. АСАЦЫЯТЫЎНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ЛЕКСІКІ

Характар і прырода асацыятыўных сувязяў, на падмурку якіх тэмпаральныя словы аб'ядноўваюцца паміж сабой, а таксама з лексічнымі адзінкамі іншых тэматычных груп, эксплiцыруюцца праз псіхалінгвістычныя эксперыменты з носьбітамі мовы. Для выяўлення гэтых сувязяў інфармантам прад'яўляецца слова-стымул (напрыклад, *дзень, вясна, год* і інш.), а ўсе словы-рэакцыі, што ўзніклі ў свядомасці ўдзельнікаў эксперыменту, абагульняюцца ў асацыятыўнае поле (гл.: ЩУР 1974, 80). У адпаведных лексікаграфічных крыніцах такое поле афармляецца як слоўнікавы артыкул. Кожнае слова-рэакцыя ў падобным артыкуле характарызуецца частатой свайго выкарыстання ў адказах інфармантаў. Больш частотнае слова-рэакцыя сведчыць звычайна і аб больш моцнай яго сувязі са словам-стымулам. Разгледзім, напрыклад, склад асацыятыўнага поля беларускай тэмпаральнай лексемы *год* (ЦІТОВА 1981) і чэшскай лексемы *den* (NOVÁK 1988). Сярод самых частых адказаў у беларускіх інфармантаў на слова-стымул *год* апынуўся лічэбнік *1970* (год правядзення эксперыменту), далей ідуць таксама тэмпаральныя словы *новы, высакосны, нараджэння* і інш. У спіс 20 найбольш частотных слоў-адказаў патрапілі 16 тэмпаральных лексем (параўн.: *1917, месяц, вялікі, час, жыццё, мінулы, дзень, прайсці, першы* і інш.), што сведчыць аб устойлівых асацыятыўных сувязях тэмпаральных слоў у свядомасці носьбітаў беларускай мовы.

Найбольш частотнай асацыяцыяй на чэшскае слова *den* зафіксавана тэмпаральная антанімічная лексема *noc*, далей ідуць гіпонімы, што называюць канкрэтныя дні тыдня (*pátek, středa, sobota* і інш.), а таксама словы, якія абазначаюць часткі цэлага, г.зн. дня (*ráno, hodina, poledne* і інш.). Наступны разрад тэмпаральных слоў, якія ўваходзяць у дадзенае асацыятыўнае поле, адносіцца да гіперонімаў (*týden, měsíc, rok* і інш.). Ідэаграфічным сінонімам слова *den* з'яўляецца вербальная рэакцыя *24 hodin*, дэрывацыйныя сувязі праяўляюцца ў асацыяцыях з лексемамі *dnes, dnešní, všední*, а фразеалагічныя – з выразамі *den výroči, den a noc, svatý den* і інш.

Аналагічныя тыпы сувязяў адзначаюцца і для тэмпаральных лексем іншых славянскіх моў. Так, для беларускіх слоў *стары, зіма, заўтра, ноч* аднымі з найбольш частых асацыяцый з'яўляюцца адпаведныя антонімы *малады, лета, сёння, дзень*. У згаданы вышэй слоўнікавы артыкул, што ўзначальваецца лексемай *год*, уваходзяць гіперонімы *час, век, жыццё*, гіпонімы *месяц, дзень, зіма* і інш., сінонімы *12 месяцаў, 365 дзён*, дэрываты *гадавы, пяцігодка, паўгоддзе*, тэматычна звязаныя словы *канікулы, летась, юбілей* і інш., устойлівыя спалучэнні *Новы год, высакосны год, круглы год*, а таксама мноства азначэнняў, якія ўдакладняюць тэмпаральны сэнс зыходнага слова і спалучаюцца з гэтым словам (параўн.: *доўгі, вялікі, кароткі, цяперашні, апошні, мінулы, юбілейны, першы, пражыты, леташні* і інш.).

У слоўнікавым артыкуле ўкраінскага тэмпаральнага слова *весна* (БУТЕНКО 1979) фіксуюцца антонім *осінь*, гіпонімы *березень, травень, квітень* і інш., гіперонімы *життя, рік, пора* і інш., тэматычна звязаныя тэмпаральныя словы *літо, зіма* і інш., дэрываты *веснянка, провесінь, весняний* і інш. Для рускага тэмпаральнага слова *жизнь* (СЛОВАРЬ АССОЦИАТИВНЫХ НОРМ 1977) самай частотнай асацыяцыяй служыць антонім *смерть*, далей у слоўнікавым артыкуле зазначаюцца сінонім *существование*, гіперонім *вечность*, гіпонімы *день, час, отрезок* і інш., дэрываты *жить, жизненный, прожить* і г.д.

Асацыятыўныя сувязі тэмпаральнай лексікі са словамі іншых тэматычных груп выпрацоўваюцца на падмурку, перш за ўсё, як яе агульнага семантычнага патэнцыялу, так і лінгвістычных уласцівасцяў кожнай асобнай славянскай лексемы. Напрыклад, для чэшскага слова *den*, беларускага *дзень* найбольш частотныя асацыяцыі адзначаюцца для тэм, звязаных з паняццем светлага (чэш. *jasný, světlo, bílý* і інш., бел. *свет, белы, сонечны* і інш.), з дадатнай і адмоўнай ацэнкай (чэш. *krasný, ošklivý* і інш., бел. *цудоўны, цяжкі* і інш.), з надвор'ем (чэш. *mrazivý, teplý* і інш., бел. *дажджлівы, зімні* і інш.), з пачуццямі чалавека (чэш. *radost, krušný* і інш., бел. *вясёлы, радасны* і інш.), з працай, паўсядзённымі заняткамі (чэш. *pracovní, škola* і інш., бел. *лекцыі, праца* і інш.), з працягласцю і адзінкамі падліку (чэш. *dlouhý, první* і інш., бел. *першы, кароткі* і інш.).

Такім чынам, у асацыятыўных сувязях тэмпаральных слоў прадстаўлены ўсе тыя віды лексічных адносін, якія магчымы ў лексемы на аснове яе фармальных і семантычных уласцівасцяў і існуюць як у свядомасці носьбітаў мовы, так і ў моўнай сістэме. Пры гэтым з улікам частотнасці выкарыстання пэўных асацыяцый ёсць падставы заключыць, што больш моцныя сувязі рэалізуюцца ў антанімічных, гіпоніма-гіперанімічных, сінанімічных, тэматычных, спалучальных (у тым ліку фразеалагічных) адносінах, г.зн. тых, што грунтуюцца на семантычных уласцівасцях слоў, у той час як сувязі, заснаваныя на фармальнай еднасці лексем, у цэлым з'яўляюцца, калі меркаваць па колькасці адпаведных асацыяцый, значна слабейшымі (параўн., напрыклад, фармальныя асацыяцыі чэшскай лексемы *den – sen, ten, ven* і інш., для беларускага слова *год – карагод, агарод, пот* і інш.). Усё ж фармальныя сувязі слоў таксама ўяўляюць сабой моўную рэальнасць, і іх неабходна ўлічваць пры вывучэнні сістэмнай арганізацыі лексікі беларускай і іншых славянскіх моў. Адметнай уласцівасцю асацыятыўнай арганізацыі лексікі служыць тое, што тут рэалізуюцца і індывідуальныя спосабы групоўкі слоў у свядомасці чалавека. Гэтыя спосабы не з'яўляюцца здабыткам лексічнай сістэмнасці мовы ў цэлым, а прыдатныя толькі маўленчаму і жыццёваму досведу канкрэтнага носьбіта мовы і з'яўляюцца прыватным сродкам упарадкавання слоў у свядомасці таго або іншага індывідуума (параўн., напрыклад, асобныя асацыяцыі з беларускім словам *дзень – кахаць, акно, хлеб, цыган, маці* і інш.).

Наяўнасць у асацыятыўным полі разнастайных па свайму тыпу семантычных і фармальных сувязяў паміж словамі сведчыць пра тое, што сістэмная арганізацыя лексікі ў кожнай славянскай мове з'яўляецца шматмерным феноменам, г.зн. словы аб'ядноўваюцца паміж сабой адначасова ў пары, рады, групы, блокі, спалучэнні на аснове цэлага мноства сэнсавых і знешніх падабенств, чым забяспечваецца гнуткае і варыятыўнае выкарыстанне лексікі ў якасці намінатыўных і камунікатыўных адзінак мовы.

### 1.4.6. ТЫПАЛАГІЧНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ЛЕКСІКІ

Міжмоўныя сувязі слоў са значэннем часу маюць розны па сваёй прыродзе характар, які можна даследаваць і з генетычнага, і з функцыянальнага, і з лінгвакраіназнаўчага, і з семіятычнага, і з іншых пунктаў гледжання. Усё ж для выяўлення ўласна лінгвістычных уласцівасцяў, з дапамогай якіх тыпалагізуецца тэмпаральная лексіка славянскіх моў, звернем увагу найперш на рысы падабенства – разыходжання зададзеных слоў. Паколькі фундаментальнай уласцівасцю любога слова з'яўляецца наяўнасць у ім плана выражэння і плана зместу, якім прыдатны гэтыя рысы, апошнія можна абагульніць на аснове пэўнага віду адносін паміж гэтымі планамі ў тыя або іншыя лексічныя мадэлі. На матэрыяле

абазначэнняў прадуктаў харчавання магчымыя мадэлі для тыпалагічнай арганізацыі лексікі славянскіх моў інвентарызаваны ў працы (ПЛОТНИКОВ, ЯХНОВ 1992). Універсальнасць прапанаваных мадэляў у тым і заключаецца, што яны здатныя аб'яднаць у сваіх межах славянскія лексемы розных тэматычных груп. Пералічым найбольш істотныя лексічныя мадэлі, з дапамогай якіх арганізуецца ў тыпалагічным аспекце тэмпаральная лексіка славянскіх моў.

1. Лексічная мадэль, у межах якой план выражэння і план зместу супастаўляльных тэмпаральных славянскіх слоў або ідэнтычныя, або вельмі падобныя, г.зн. словы розных славянскіх моў (ад дзвюх да ўсіх) супадаюць па сваёй знешняй форме і значэнню (параўн.: *zima, дьнь, sezon* і г.д.), што сведчыць пра роднаснасць славянскіх моў як генетычную, так і тыпалагічную.

2. Лексічная мадэль, што аб'ядноўвае словы з рознымі планамі выражэння, якія суадносяцца з тоеснымі тэмпаральнымі паняццямі. Гэтая мадэль супрацьпастаўляецца першай, бо сведчыць аб лексічных несупадзеннях розных славянскіх моў (параўн.: бел. *раніца* і рус. *утро;* бал. *пролет* і ўкр. *весна*; пол. *grudzeń* 'снежань' і србл. *hodovnik* і г.д.).

3. Лексічная мадэль, у межах якой аднолькавы план зместу рэалізуецца ў розных славянскіх мовах аднакаранёвымі словамі з несупадальнымі афіксамі (параўн.: бел. *лета* і слав. *poletje*, бел. *жнівень* і србл. *žnjeńc,* бел. *чацвер* і пол. *czwartek* і г.д.).

4. Лексічная мадэль, якая прадстаўлена ў розных славянскіх мовах лексемамі з аднолькавым планам выражэння і планам зместу, але паміж словамі маюцца адрозненні ў граматычнай форме (параўн.: чэш. *jaro* 'лета' і слц. *jar* – ніякі і мужчынскі род; бел. *будні* і ўкр. *будень* – множны і адзіночны лік; бел. *сезон* і чэш. *sezóna* – мужчынскі і жаночы род і г.д.).

5. Лексічная мадэль, якая запаўняецца намінатыўнымі адзінкамі з аднолькавым планам зместу, але ў адной славянскай мове гэты змест рэалізуецца формай слова, у другой – формай словазлучэння або апісальнай канструкцыі (параўн.: бел. *суботнік* і србх. *dobrovoljna radna akcija*; бел. *урок* і слав. *učna ura*; бел. *даўніна* і чэш. *dávná minulost* і г.д.).

6. Лексічная мадэль, у межах якой абагульняюцца словы з аднолькавым планам зместу, але з розным планам выражэння, пры гэтым словы захоўваюць у сабе для кожнай з супастаўляльнай славянскай мовы неаднолькавую матывацыю, або ўнутраную форму (параўн.: бел. *сакавік* , укр. *березень* і србл. *nalětnik;* србх. *blagdan* 'свята' і чэш. *svátek*; слав. *spočetka* 'спачатку' і пол. *najpierw* і г.д.).

7. Лексічная мадэль з тоесным або падобным планам выражэння для розных славянскіх моў, але з неаднолькавым планам зместу (параўн.: укр. *квітень* 'красавік' і чэш. *květen* 'май'; слав. *prosinec* 'студзень' і чэш. *prosinec* 'снежань'; бел. *старасць* і слав. *starost* 'узрост' і г.д.).

8. Лексічная мадэль, што рэалізуецца ў розных славянскіх мовах лексемамі з аднолькавым або падобным планам выражэння, але ў адной мове з гэтым планам суадносіцца большы адрэзак часу, чым у другой (параўн. бел. *гадзіна* і србх. *hodina* 'год'; бел. *лета* і слц. *leto* 'год'; бел. *час* і рус. *час* 'гадзіна' і г.д.).

9. Лексічная мадэль, што запаўняецца лексемамі розных славянскіх моў, з аднолькавым планам выражэння, але з супрацьлеглым значэннем, г.зн. з антанімічным (параўн.: бел. *чэрствы* і чэш. *čerstvý* 'свежы'; бел. *летась* і слц. *letos* 'у гэтым годзе'; србх. *jutrašnji* 'сённяшні дзень' і слав. *jutrišni* 'заўтрашні дзень' і г.д.).

10. Лексічная мадэль, у межах якой групуюцца словы з аднолькавым планам зместу, але ў адной славянскай мове маюць матываваную знешнюю форму (звычайна зыходна славянскую), а ў другой – нематываваную форму (звычайна

запазычанае слова), напрыклад, бел. *кастрычнік* і србх. *октобар*; бел. *лістапад* і рус. *ноябрь*; слц. *dejiny* і бел. *гісторыя* і г.д.

Лексічныя мадэлі, пабудаваныя па ўліку характару суадносін паміж планам выражэння і планам зместу тэмпаральных слоў, з'яўляюцца прыдатнымі для тыпалагічнай арганізацыі і іншых тэматычных пластоў лексікі, што стварае надзейны тэарэтычны і эмпірычны падмурак для супастаўляльнага даследавання ўсяго слоўнікавага складу славянскіх моў, бо ў рамкі пералічаных мадэляў укладваюцца фактычна ўсе намінатыўныя адзінкі славянскіх моў.

## 1.5. ПАДАБЕНСТВА І АДРОЗНЕННЕ ФРАЗЕАЛАГІЧНАГА СКЛАДУ БЕЛАРУСКАЙ І ІНШЫХ СЛАВЯНСКІХ МОЎ

Фразеалагічны фонд, які аб'ядноўвае беларускую мову з іншымі славянскімі мовамі, грунтуецца, па-першае, на фармальным і семантычным падабенстве пэўнай сукупнасці ўстойлівых звышслоўных адзінак (параўн.: бел. *бабіна лета*, рус. *бабье лето,* укр. *бабине літо*, србх. *бабино лето*, пол. *babie lato*, чэш. *babí lěto*, слц. *babie leto* і інш.); па-другое, у беларускай мове шматлікія фразеалагізмы будуюцца па тых жа структурных схемах, што і ў іншых славянскіх мовах (параўн.: *лье як з луба*, рус. *льёт как из ведра*, укр. *лити як з ведра*, бал. *вали като ръкав*, србх. *пада као из кабла*, пол. *lije jak z zebra*, чэш. *leje jako z konve*, слц. *leje jako z krhle* і інш.); па-трэцяе, агульнасць многіх фразеалагічных значэнняў узнаўляльных зваротаў беларускай і іншых славянскіх моў засноўваецца на рознай, але празрыстай матывацыі (параўн.: бел. *голы як бізун*, рус. *гол как сокол*, укр. *голий як бубен,* бол. *гол като пушка*, србх. *го као прост,* пол. *goly jako bicz*, чэш. *chudý jako kostelní myš,* слц. *holý jako dlaň* і інш.); па-чацвёртае, беларускія фразеалагізмы падобныя на фразеалагізмы іншых славянскіх моў тым, што ў складзе дадзеных устойлівых адзінак ёсць агульныя кампаненты, часта дэсемантызаваныя. Напрыклад, у фразеалогіі ўсіх славянскіх моў даволі часта выкарыстоўваюцца словы тыпу *даць, мець, рука, сэрца, галава* і да т.п. (параўн.: бел. *даць пытлю*, рус. *дать оплеуху*, укр. *дати пити*, бал. *давам ритник*, србх. *дати по глави*, пол. *dać po nose*, чэш. *dat facku* і інш.; гл.: МОКИЕНКО 1989, 55).

Тым не менш індывідуальная сістэма фразеалагічных адзінак уяўляе адну з найбольш спецыфічных уласцівасцяў кожнай славянскай мовы, дзе адзначаецца мноства выразаў, якім няма эквівалентных адпаведнікаў у суседніх роднасных мовах (параўн.: бел. *на ласкавым хлебе быць, выскачыць як пііліп з канапель, дацца ў знакі* і інш. і рус. *сидеть на шее, сказать невпопад, сидеть в печенках* і інш.; гл.: САНЬКО 1991). Пэўная частка беларускіх фразеалагізмаў мае ў сваім складзе лексічныя кампаненты з забытай, выветранай семантыкай, такія кампаненты называюцца некрацізмамі, і як самастойныя адзінкі не выкарыстоўваюцца не толькі ў іншых славянскіх мовах, але і ў самой беларускай мове (параўн.: *кампаненты бібікі, лахі, лухта, панталык, ходырам, лясы, байды* і інш. у ідыёмах *біць бібікі, лахі пад пахі, плесці лухту, збіць з панталыку, хадзіць ходырам, тачыць лясы, біць байды* і інш.), што, натуральна, робіць фразеалагізмы з падобнымі кампанентамі даслоўна неперакладальнымі на іншыя славянскія мовы і складае адметнасць беларускай фразеалогіі. Калі дадаць да гэтага непаўторную нацыянальную вобразнасць многіх фразеалагізмаў (параўн.: *як пугаю па вадзе; раскажаш пра вераб'я, а перакажуць пра жураўля; выскваркі не варты; на лапату ды за хату* і інш.), асаблівасці іх ужывання ў маўленні, спецыфічную экспрэсію, своеасаблівы каларыт, то ёсць

падставы лічыць беларускія ідыёмы самацветамі нашай мовы, без засваення і выкарыстання якіх немагчыма пазнаць і вывучыць яе прыроду і характар.

## 1.6. ФАНЕТЫЧНЫЯ, ГРАМАТЫЧНЫЯ РЫСЫ ПАДАБЕНСТВА І АДРОЗНЕННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І ІНШЫХ СЛАВЯНСКІХ МОЎ

Фанетычная набліжанасць беларускай мовы да іншых славянскіх моў палягае не толькі ў наяўнасці вялікай колькасці агульных гукаў (фанем), але і ў такіх фанетычных працэсах, што ўласцівыя або ўсім, або большасці дадзеных моў. Да гэтых агульных працэсаў адносяцца, у прыватнасці, страта закрытых складоў, змякчэнне зычных перад ётам. Страта закрытых складоў выклікала, з аднаго боку, узнікненне складовых плаўных, насавых зычных, з другога боку – чаргаванне гукаў ва ўсіх славянскіх мовах (параўн.: бел. *жаць – жну, узяць – вазьму* і інш., србх. *жети – жмем, узети – узмем*, чэш. *žiti–žnu, vziti–vezmu* і да т.п.; гл.: БЕРНШТЕЙН 1974, 24). Змякчэнне зычных перад ётам прывяло да агульнаславянскіх чаргаванняў *с – ш, з – ж* і інш., або да так званай палаталізацыі (параўн.: бел. *насіць – нашу, вазіць – важу* і да т.п.). Ва ўсіх славянскіх мовах зніклі рэдукаваныя (звышкароткія) галосныя *ъ, ь,* якія былі ўласцівы для праславянскай мовы ад глыбокай старажытнасці аж да 12 ст. нашага часу; гл. БИРНБАУМ 1986, 187). У сучаснай беларускай мове страта такіх рэдукаваных бачна пры змяненні слоў тыпу *сон – сну, дзень – дня* і да т.п., калі *о, е,* што ўжываюцца ў моцнай пазіцыі (пад націскам) на месцы памянёных славянскіх адпаведнікаў *ъ, ь*, знікаюць у слабай пазіцыі (у ненаціскным складзе).

У большасці славянскіх моў зніклі насавыя галосныя **ǫ, *ę* (гл.: БОШКОВИЋ 1968, 56–61), якія ў беларускай мове супалі з *у, а* (параўн.: **дǫб – дуб, *пęть – пяць* і да т.п.). Для беларускай мовы, як і для іншых славянскіх моў, характэрна страта музыкальнага націску: у беларускай мове ён змяніўся на дынамічны разнамесны націск, г.зн. склад пад націскам вымаўляецца больш выразна, чым іншыя склады, і можа мяняць у слове сваё месца, напрыклад, пры скланенні імені, спражэнні дзеяслова і інш. (параўн.: *рукá* – назоўны склон адзіночнага ліку і *рýкі* – назоўны склон множнага ліку; *касіць* – інфінітыў і *косім* – множны лік першай асобы цяперашняга часу і інш.).

У галіне граматыкі беларуская мова мае агульныя з іншымі славянскімі мовамі катэгорыі ліку (адзіночны і множны), роду (мужчынскі, жаночы, ніякі) назоўнікаў, якія захоўваюць адзіную тэндэнцыю пры сваім скланенні (гл.: ЛЕКОВ 1958, 130). Напрыклад, пры скланенні адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў фіксуюцца адрозненні вінавальнага склону, які ў адушаўлёных назоўнікаў супадае з родным склонам, а ў неадушаўлёных – з вінавальным (параўн.: бел. *бачу стол*, але *бачу чалавека* і інш.).

У большасці славянскіх моў, у тым ліку і ў беларускай, страціўся парны лік (гл.: ЛЕКОВ 1968, 116). У сувязі са спрашчэннем формы дзеяслоўнага часу ва ўсіх славянскіх мовах развіваецца катэгорыя трывання, якая звычайна захоўвае значэнне часу. Галоўным фактарам пры вызначэнні тыпу скланення ў славянскіх мовах служыць граматычны род. Ва ўсіх славянскіх мовах утварылася новая часціна мовы – лічэбнік, якая не была граматычна аформлена раней, г.зн. у праславянскай мове. Ва ўсіх славянскіх мовах, хаця і з рознай ступенню ўжывальнасці, захаваліся імянныя і займеннікавыя (кароткія і поўныя) прыметнікі, якія выкарыстоўваюцца

дыферэнцыравана: першыя – у якасці прэдыката ў сказе (да таго ж яны страцілі ўласцівасць скланення), другія – у якасці атрыбута, з усімі склонавымі канчаткамі, характэрнымі для назоўнікаў, з якімі спалучаюцца займеннікавыя прыметнікі.

Аднак найбольш глыбінную спецыфіку кожнай мовы, яе індывідуальныя рысы і адметнасць складаюць тыя яе адзінкі і асаблівасці, якія ажыццяўляюць дыферэнцыяльную функцыю, адрозніваюць дадзеную мову ад іншых моў, найперш роднасных і блізкароднасных. Прычым такіх адзінак і асаблівасцяў у любой асобнай славянскай мове не так ужо і шмат, бо яны часта назіраюцца адначасова як мінімум у дзвюх або некалькіх мовах, і такім чынам, не складаюць спецыфікі толькі адной мовы. Тым не менш адметнасць толькі рускай мовы складаюць, напрыклад, група назоўнікаў, якія ў назоўным склоне множнага ліку маюць націск на канчатку *-а* (параўн.: *леса, дома, города* і інш.), канчатак *-ого* толькі ў прыметнікаў рускай мовы вымаўляецца як *-ово.* У беларускай мове да падобных адметных індывідуальных рыс адносяцца гук, што абазначаецца літарай *ў* і ўтварыўся на месцы этымалагічных *л, в, у* (параўн.: бел. *воўк*, рус. *волк,* укр. *вівк,* србх. *вук.* чэш., слц. *vlk*, слав. *volk,* пол. *wilk* і інш.), адсутнасць элемента *н* у займеннікаў 3-й асобы пры скланенні (параўн.: бел. *пра яго*, *аб ім* і інш. і рус. *о нем, о них* і інш.).

Большасць фанетычных і граматычных адметнасцяў беларускай мовы праяўляецца не па прыкмеце іх наяўнасці – адсутнасці, а па ступені сваёй рэалізацыі. Напрыклад, дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану на *-уч(-юч), -ач(-яч),* а таксама стараславянізмы ўжываюцца ў беларускай мове значна радзей, чым у рускай, дзе кожнае дзесятае слова, у прыватнасці, прыпадае на стараславянізмы (гл.: РУССКИЙ ЯЗЫК 1979, 265). Многія адзінкі, рысы, асаблівасці аб'ядноўваюць беларускую мову з адной або некалькімі славянскімі мовамі і адначасова адрозніваюць ад другіх славянскіх моў. Напрыклад, пісьмовую аснову сучаснай беларускай мовы складае кірыліца, якая выкарыстоўваецца таксама ў рускай, украінскай, балгарскай, македонскай і часткова ў сербскахарвацкай мовах, у той час як астатнія славянскія мовы ўжываюць лацініцу. Разам з пералічанымі славянскімі мовамі кірыліца ўжываецца ў 60 розных мовах, на якіх гаворыць каля 10% насельніцтва свету, лацініца ж выкарыстоўваецца ў больш чым 70 розных мовах, на якія прыпадае каля 30% насельніцтва свету (гл.: ИСТРИН 1988, 182–183).

Такім чынам, своеасаблівасць любой славянскай мовы і яе права называцца асобнай, самастойнай мовай праяўляюцца, па-першае, у тым, што ў яе ёсць спецыфічныя ўнутраныя рысы, якія адсутнічаюць у іншых мовах; па-другое, у такой сукупнасці ўсіх яе характарыстык, якія ў цэлым прыдатныя толькі ёй, не паўтараюцца ў іншых мовах, хаця некаторыя характарыстыкі ці рысы, узятыя з гэтай сукупнасці, могуць адзначацца ў суседніх роднасных мовах. Прычым дадзеныя характарыстыкі ці рысы павінны адзначацца перадусім менавіта ў галіне фанетыкі і граматыкі, бо фанетычныя і граматычныя адзінкі і з'явы звычайна не запазычваюцца і з'яўляюцца генетычна закадзіраванымі ў мове, а яе носьбітам цяжка або нават немагчыма пазбавіцца ад іх, і яны стыхійна праяўляюцца ў спантанным маўленні на народнай мове, г.зн. у такім маўленні, якое не падлягае свядомаму кантролю ў пэўных відах маўленчай дзейнасці.

Семантычна тоесныя аднакаранёвыя славянскія лексемы з граматычнага пункту гледжання могуць мець супадзенні, а таксама і адрозненні самага рознага характару. Разгледзім, напрыклад, суадносіны роду назоўнікаў, агульных для беларускай і іншых славянскіх моў. Катэгорыя роду ў назоўнікаў з'яўляецца граматычнай для славянскіх моў, г.зн. абавязковай, фармальна выражанай пэўнымі моўнымі сродкамі, або канкрэтнымі матэрыяльнымі паказчыкамі, і праяўляецца з нязначнымі выняткамі праз аднатыпныя флексіі пры выражэнні розных родаў ва ўсіх славянскіх

мовах: для мужчынскага роду – нулявым канчаткам і фармантай *-а;* для ніякага роду – канчаткамі *-о, -е,* а для некаторых моў – канчаткамі *-а, -я* (бел., укр.), *-í* (чэш.), для жаночага роду – флексіяй *-а* і нулявым канчаткам, а таксама ў некаторых мовах канчаткамі *-і, -е* (пол., чэш.). Пераважная колькасць флексій, што выражаюць мужчынскі, жаночы і ніякі род у славянскіх мовах, як відаць з прыведзеных даных, супадае. Праўда, з тыпалагічнага пункту гледжання, больш эфектыўным сродкам для вычарпальнага апісання катэгорыі роду ў славянскіх мовах служаць сінтаксічныя паказчыкі (гл.: КАРПИНСКАЯ 1966, 104).

У слоўніках звычайна кожны назоўнік суправаджаецца скарочанымі лінгвістычнымі паметамі, якімі адзначаецца яго род. Маўленне людзей, што гавораць на нyродных мовах, часта стракаціць памылкамі менавіта ў выкарыстанні родавых паказчыкаў назоўнікаў і слоў, якія спалучаюцца з імі. З семантычнага аспекту катэгорыя роду ў дачыненні да многіх адушаўлёных назоўнікаў мае выразна акрэсленую тэндэнцыю матывавацца ў славянскіх мовах палавымі адрозненнямі тых істот, што суадносяцца з гэтымі назоўнікамі. Што тычыцца намінацыі дарослых людзей, дадзеная тэндэнцыя праяўляецца даволі паслядоўна (параўн.: бел. *юнак і дзяўчына*, рус. *парень і девушка*, бал. *съпруг і съпруга*, чэш. *manžel* 'муж' і *manželka* 'жонка' і г.д.).

Пры намінацыі ў палавых адносінах нясталых людзей родавая прыналежнасць слоў можа не адпавядаць полу абазначанага чалавека або не выражацца адпаведнымі граматычнымі паказчыкамі (параўн.: бел. *дзіця* – ніякі род для назоўніка, што абазначае асобу і мужчынскага, і жаночага полу; рус. *ребёнок* – мужчынскі род для намінацыі дзяцей абодвух полаў: слав. *dojenček* 'грудное дзіця' – мужчынскі род; србх. *одојче* 'грудное дзіця' – ніякі род і да т.п.).

У дачыненні да найменняў астатніх жывых істот (звяры, птушкі, насякомыя і інш.) для славянскіх моў адзначаецца тэндэнцыя называць больш буйных і больш важных для чалавека прадстаўнікоў фауны словамі з розным родам, што адпавядаюць полу адпаведных істот (параўн.: бел. *конь і кабыла;* бал. *петел* 'певень' і *кокошка* 'курыца'; србх. *ован* 'баран' і *овца* 'авечка' і інш.). Буйныя прадстаўнікі фауны, што не адыгрываюць важнай ролі ў жыцці чалавека, а таксама амаль усе дробныя жывыя істоты абазначаюцца словамі з паказчыкамі роду, які не дыферэнцыруе пол адпаведных істот (параўн.: бел. *пацук, мянтуз, муха, ластаўка* і інш.). У прыгожым пісьменстве і ў фальклоры для выражэння палавых адрозненняў жывых істот могуць папарна аб'ядноўвацца словы, якія абазначаюць кантрастных па полу жывёл і насякомых тыпу воўк і ліса, камар і муха і інш., што праяўляецца ў розных граматычных паказчыках роду.

Аднакаранёвыя асабовыя імёны ў славянскіх мовах пры палавых адрозненнях носьбітаў гэтых імёнаў характарызуюцца адпаведнымі канчаткамі слоў са значэннем асоб жаночага полу (параўн.: бел. *Ян і Яніна, Алесь і Алеся*, пол. *Jarosław i Jarosława, Stanisław* i *Stanisława* і інш.). У многіх славянскіх прозвішчах замужніх жанчын і жанчын-сваячак выкарыстоўваецца прозвішча мужа або бацькі з дабаўленнем фарманты жаночага роду (параўн.: бел. *Быкаў – Быкава, Кузьмін – Кузьміна* і інш.; чэш. *Čapek – Čapková, Hašek – Hašková* і інш.).

У дачыненні да неадушаўлёных назоўнікаў катэгорыя роду фактычна страчвае ў сучасных славянскіх мовах матываванасць адпаведнымі пазамоўнымі рэаліямі, або прамую сувязь з лексічнай семантыкай па відавочнай прычыне адсутнасці палавых адрозненняў у нежывых прадметаў. У гэтым выпадку катэгорыя роду ў назоўнікаў "адносіцца да галіны моўнай тэхнікі" (гл.: ВИНОГРАДОВ 1972, 56), што служыць "для расчлянення, упарадкавання і засваення ўсяго змесціва думкі" (гл.: ПОТЕБНЯ 1968, 461). Адзначым тым не менш, што род і ў неадушаўлёных назоўнікаў патэнцыяльна

зараджаны суадносінамі з біялагічным полам. Такая акалічнасць выкарыстоўваецца, напрыклад, у паэзіі, фальклоры для антрапамарфізацыі нежывых прадметаў і стварэння мужчынскіх і жаночых вобразаў на гэтай аснове. Так, у радках з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля":

*Смятана гэта з тварагом –*
*Краса-дзяўчына з жаніхом...*
*Трасецца сетачка сняжынак,*
*Як смех прыгожанькіх дзяўчынак...–*

граматычная родавая падтрымка ў параўнаннях дзяўчыны са смятанай і апасродкаванасць са сняжынкай, а жаніха – з тварагом спрыяюць узнікненню неабходных і каларытных мастацкіх уяўленняў.

Праўда, пры гэтым ствараюцца цяжкасці для носьбітаў некаторых іншых славянскіх моў як пры перакладзе паэтычных тэкстаў, так і пры іх успрыманні. Чытачам, для якіх сербскахарвацкая мова з'яўляецца роднай, лёгка асэнсаваць, у прыватнасці, параўнанне дзяўчыны са смятанай, бо тут у адпаведным выразе *кисела павлака* 'смятана' апорнае слова жаночага роду, але для носьбітаў польскай ці славацкай моў асацыяцыя дзяўчынкі і сняжынкі не знаходзіць граматычнай падтрымкі, бо тут апорныя словы суадносных адменнікавых выразаў *platek sniegu* і *chumačik sněhový* мужчынскага роду. Для носьбіта славенскай мовы параўнанне жаніха з тварагом не ўяўляецца матываваным, бо ў гэтай славянскай мове слова *skuta* 'тварог' жаночага роду.

Вобразнасць і мастацкасць паэтычнага слова могуць зніжацца, калі граматычны род адпаведных слоў не ўлічваецца аўтарам. Так, пры ўспрыманні невялікага адрэзку таго ж твора Якуба Коласа "Новая зямля":

*І елка ў пары з хваіною,*
*Абняўшысь цесна над вадою,*
*Як маладыя ў час кахання,*
*У апошні вечар расставання... –*

у чытача з дасціпным паэтычным густам можа ўзнікнуць пэўны дыскамфорт, прычынай якога служыць менавіта тое, што двума назоўнікамі жаночага роду *елка* і *хваіна* ўвасабляюцца "маладыя ў час кахання", зразумела, асобы мужчынскага і жаночага полу. Родавыя адрозненні неадушаўлёных назоўнікаў у розных славянскіх мовах неабходна ўлічваць не толькі як фармальны сродак, што неаднолькавым спосабам групуе словы па граматычных падразрадах, але і як сродак, які выкарыстоўваецца для размаітых транспазіцый, перш за ўсё семантычнага характару, у маўленчай дзейнасці, насычанай стылістычнымі тропамі, асацыяцыямі, апасродкаванымі намёкамі і да т.п.

Пры разглядзе назоўнікаў, якія супадаюць у славянскіх мовах па знешняй форме і значэнню, возьмем спачатку пад увагу тыя з іх, што не маюць адрозненняў у родзе. Зразумела, пры гэтым можна вылучыць толькі тры групы слоў па колькасці наяўных у славянскіх мовах мужчынскага, жаночага і ніякага родаў. У дадзеным выпадку не ўлічваецца катэгорыя так званага агульнага роду, што занатоўваецца ў славянскіх мовах для пэўнай групы слоў тыпу *сірата, калека, плакса* і інш., бо ў канкрэтных кантэкстах род падобных слоў праяўляецца сінтаксічнымі сродкамі: 1) неадушаўлёныя назоўнікі, што маюць ва ўсіх славянскіх мовах, або прынамсі ў тых, дзе выкарыстоўваецца агульнае слова, мужчынскі род (параўн.: бел. *стол, хлеб, кажух, дуб, дом* і інш. і адпаведнікі іншых славянскіх моў); 2) неадушаўлёныя назоўнікі, якія характарызуюцца ў славянскіх мовах граматычнай катэгорыяй жаночага роду (параўн.: бел. *кніга, раса, дума, каша, гара* і інш. і іх іншаславянскія адпаведнікі); 3) неадушаўлёныя назоўнікі з граматычным паказчыкам ніякага роду ва ўсіх

славянскіх мовах (параўн.: бел. *сонца, поле, акно, сала* і іх адпаведнікі ў іншых славянскіх мовах). Аднак у вялікай групы семантычна тоесных і аднолькавых па знешняй форме неадушаўлёных назоўнікаў славянскіх моў зазначаюцца і мужчынскі, і жаночы, і ніякі род.

Так, для блізкароднасных беларускай і рускай моў родавыя несупадзенні аднолькавых слоў (гл.: ЕЛИСЕЕВА 1980, 7–11) праяўляюцца ва ўсіх тэарэтычна магчымых камбінацыях: жаночы – мужчынскі (параўн.: бел. *гусь* і рус. *гусь* і інш.), жаночы – ніякі (параўн.: бел. *бялізна* і рус. *белье* і інш.), мужчынскі – жаночы (параўн.: бел. *сабака* і рус. *собака* і інш.), мужчынскі – ніякі (параўн.: бел. *яблык* і рус. *яблоко* і інш.), ніякі – мужчынскі (параўн.: бел. *жарабя* і рус. *жеребенок* і інш.), ніякі – жаночы (параўн.: бел. *брыво* і рус. *бровь* і інш.). Зразумела, пры параўнанні родавых характарыстык аднолькавых слоў усіх славянскіх моў колькасць усемагчымых несупадзенняў можа быць проста бясконцай, бо ў гэтых адносінах славянскія мовы групуюцца самымі разнастайнымі спосабамі (параўн.: бел. *фрэска*, як і ў бал., мак., рус., срб., укр., жаночага роду, а ў пол. *fresk* мужчынскага роду; бел. *архіў* мужчынскага роду, як і ў рус., слав., србх., слц., чэш. мовах, а ў бал., мак. *архива* жаночага роду, а пол. *archiwum* ніякага роду; бел. *цытата* жаночага роду, як і ў рус., укр., а ў бал., мак., србх. *цитат* мужчынскага роду, як і ў пол., слав.; бел. *цымбалы*, рус. *цимбалы*, укр. *цимбали* – назоўнікі множнага ліку, г.зн. словы pluralia tantum без родавай характарыстыкі, а бал., срб. *цимбал* мужчынскага роду, гэтаксама, як і пол., а слав. *čembalo* ніякага роду і г.д.).

Такім чынам, катэгорыя роду захоўвае рэгулярны семантычны характар у славянскіх мовах толькі адносна назоўнікаў, якія абазначаюць дарослых людзей і некаторых важных для апошніх жывёл, пераважна свойскіх. Што тычыцца астатніх адушаўлёных назоўнікаў і ўсіх неадушаўлёных, дадзеная граматычная катэгорыя мае найперш таксанамічнае значэнне, якое поруч з тоеснымі рысамі для разгледжаных моў з'яўляецца ў пэўнай ступені індывідуальным для кожнай з іх, аб чым сведчыць шырокі спектр разыходжанняў у родавай прыналежнасці назоўнікаў паміж славянскімі мовамі, нават блізкароднаснымі.

Ва ўсіх славянскіх мовах адзначаецца наяўнасць слоў такой часціны мовы, як займеннік, але гэтыя словы па сваім колькасным інвентары размяркоўваюцца тут у наступнай паслядоўнасці: слав. – 106, србх. – 104, слц. – 94, рус. – 93, укр. – 88, бал. – 85, србл. – 84, чэш. – 83, мак. – 80, бел. – 76, пол. – 72 (гл.: KATTEIN 1984, 115). Па дадзенай граматычнай прыкмеце беларуская мова адрозніваецца ад іншых славянскіх моў не наяўнасцю – адсутнасцю гэтай прыкметы, а адносна слабейшай ступенню яе праяўлення, меншымі колькаснымі характарыстыкамі, чым ва ўсіх іх, за выключэннем польскай мовы.

У сферы фанетыкі да адметных рыс беларускай мовы адносяцца наступныя:

1) дзеканне і цеканне – з'яўленне афрыкат на месцы этымалагічных мяккіх *д, т* (параўн.: бел. *дзеці, цёця* і інш.; рус. *дети, тетя* і інш.; србх. *деца, тета*; чэш., слц. *děti, teta* і інш., але пол. *dzieci, ciocia*). Як бачым, дадзеная з'ява характэрна і для польскай мовы і, магчыма, узнікла ў беларускай пад уплывам гэтай суседняй мовы (гл.: VONDRÁK 1924, 16);

2) цвёрды *р*, адсутнасць карэляцыі па цвёрдасці – мяккасці ў гэтага зычнага гука (параўн.: бел. *бура, нара* і інш.; рус., укр. *буря, нора* і інш.);

3) фрыкатыўны *г*, адсутнасць карэляцыі па месцы ўтварэння фрыкатыўны – выбухны (параўн.: бел. *гара, нага, грам, гума*; чэш., слц. *hora, noha, gram, guma* і інш.). Толькі фрыкатыўны *г* зазначаецца таксама і ва ўкраінскай літаратурнай мове, а толькі выбухны *г* – у рускай літаратурнай мове;

4) аканне, працэс пераходу ненаціскных *о, э* ў *а;* яканне, пераход ненаціскных *е, ё* ў *я* (у першым складзе перад націскам), што перадаецца на пісьме (параўн.: бел. *вада, каза* і інш.; рус., укр, бал., мак., србх. *вода, коза*; чэш., слц., слав. *voda, koza*; пол., србл. *woda, koza* і інш.;

5) нескладовы *ў* на месцы этымалагічных *л, в, у* пасля галосных (параўн.: бел. *воўк, дзяўчына*; рус. *волк, девушка*; укр. *вовк, дівчина*; србх. *вук, девойка;* пол. *wilk, dziewczyna*; слц. *vlk, dievčina*; чэш. *vlk, dívka*; слав. *volk, dekla* і інш.);

6) цвёрды *ч,* адсутнасць карэляцыі па цвёрдасці – мяккасці ў дадзенага гука (параўн.: бел. *чысты, чорны* і інш.; рус. *чистый, черный* і інш.; укр. *чорний, чистый* і інш.). Карэляцыя зычнага *ч* па цвёрдасці – мяккасці адзначаецца ў сербскахарвацкай і ўкраінскай мовах, у рускай літаратурнай мове *ч* заўсёды мяккі, у іншых славянскіх мовах зазначаная карэляцыя таксама адсутнічае, але гэты гук вымаўляецца цвярдзей рускага *ч*, аднак мякчэй беларускага *ч;*

7) афрыката *дж*, якая з'явілася на месцы этымалагічнага спалучэння **dj* (параўн.: бел. *адраджэнне, хаджэнне* і інш.: рус. *возрождение, хождение* і інш.; бал. *възраждане, ходене* і інш.; слав. *preroditev, hoja* і інш.; пол. *odrodzenie, chodzenie* і інш.; слц. *obrodenie, chodenie* і інш.; чэш. *obrození, chození* і інш.). Афрыката *дж* ужываецца таксама ва ўкраінскай мове (параўн.: *ходжу, відродження* і інш.);

8) падваенне тых некаторых зычных у вымаўленні і на пісьме, якія ўзніклі з іх этымалагічнага спалучэння з *j* (параўн.: бел. *вяселле, свіння* і інш.; рус. *веселье, свинья* і інш.; бал. *веселие, свиня* і інш.; слав. *veselje, svinja* і інш.; слц. *veselosť, sviňa* і інш.; чэш. *veselí, svině* і інш.). Падваенне зычных назіраецца таксама ва ўкраінскай мове (параўн.: *весілля*, але *свиня* );

9) зацвярдзенне губных зычных у канцы слова, як і ў большасці іншых славянскіх моў, акрамя рускай (параўн.: бел. *сем, голуб* і інш.; рус. *семь, голубь* і інш.);

10) наяўнасць пратэтычных (устаўных) гукаў: *в* перад агубленымі галоснымі (параўн.: бел. *вока, вуха* і інш.; рус. *око, ухо* і інш.; укр. *око*, але *вухо* і інш.; бал. *око, ухо* і інш.; србх. *око, уво* і інш.; слав. *oko, uho* і інш.; пол. *oko, ucho* і інш.; слц., чэш. *oko, ucho* і інш.), *а, і* перад спалучэннем зычных (параўн.: бел. *аржаны, ільняны* і інш.; рус. *ржаной, льняной* і інш.; бал. *ръжен, ленен* і інш.; слав. *ržen, lanen* і інш.; слц. *ražný, l'anový* і інш.), *е* паміж зычнымі ў канцы слова (параўн.: бел. *журавель, карабель* і інш.; рус. *журавль, корабль* і інш.). Дадзены галосны ў падобнай пазіцыі адзначаецца ва ўкраінскай мове (параўн.: *журавель, корабель* і інш.), для большасці іншых славянскіх моў зазначанае спалучэнне зычных у канцы слова не назіраецца (параўн.: бал. *жерав, кораб* і інш.; слц. *žeriav, korab* і інш.; чэш. *jeřab, korab* і інш.);

11) страта гука *й* пасля *ы*, *і* ў канцы прыметнікаў і ў загадным ладзе адпаведных дзеясловаў (параўн.: бел. *малады, сіні, бі, пі* і інш.; рус. *молодой, синий, бей, пей* і інш.; укр. *молодий, синій, бий, пий* і інш.). У паўднёваславянскіх і заходнеславянскіх мовах гук *й* у канцы прыметнікаў таксама не ўжываецца (параўн.: бал. *млад, син* і інш.; слц. *mladý, siní* і інш.).

Адметнасць лінгвістычных характарыстык беларускай мовы індывідуальна праяўляецца ў залежнасці ад таго, з якой іншай канкрэтнай славянскай мовай яе параўноўваць. У гэтым выпадку выразна бачна, што, напрыклад, з фанетычных і граматычных рыс аб'ядноўвае адну мову з іншай, а што іх раз'ядноўвае, дыферэнцыруе.

## 1.7. БЕЛАРУСКАЯ МОВА СЯРОД УСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ МОЎ

### 1.7.1. ПАДАБЕНСТВА БЕЛАРУСКАЙ, РУСКАЙ І ЎКРАІНСКАЙ МОЎ

Найбольш цесную генетычную і тыпалагічную роднаснасць беларуская мова мае з суседнімі ўсходнеславянскімі мовамі – рускай і ўкраінскай. Да асноўных асаблівасцяў, якія захаваліся ў гэтых мовах ад агульнай для іх усходнеславянскай, або старажытнарускай, адносяцца наступныя:

1) спалучэнні зычная губная + *j* змяніліся ў спалучэнні з плаўным *l* на месцы *j* (параўн.: бел. *зямля, люблю, лаўлю* і інш., рус., укр. *земля, люблю, ловлю* і інш.);

2) праславянскія спалучэнні **dl, *tl* ва ўсходнеславянскіх мовах страцілі выбухныя *d, t* (параўн.: **vedli* – бел. *вялі*, рус., укр. *вели, * pletl* – бел. *плёў*, рус., укр. *плел* і інш.);

3) праславянскія спалучэнні **dj, *tj* развіліся ў афрыкаты *ч, ж* (параўн.: **medja* – бел. *мяжа*, рус., укр. *межа*, **světja* – бел. *свечка*, рус. *свеча*, укр. *свіча* і інш.; гл.: МЕЙЕ 1951, 77);

4) праславянскія насавыя **ę, *Q* змяніліся ў *а, у* (параўн.: **pętь* – бел. *пяць*, рус. *пять*, укр. *п'ять*; **зQб* – бел., рус., укр. *зуб* і інш.);

5) наяўнасць поўнагалосных на месцы праславянскіх спалучэнняў тыпу **tort, *tert, *telt* (параўн.: бел. *карова, бяроза, галава*; рус., укр. *корова, береза, голова* і інш.; гл.: MIKLOSICH 1879, 84–86);

6) рэдукаваныя галосныя *ъ, ь* выпалі ў слабай (ненаціскной) пазіцыі слова, а ў моцнай (пад націскам) ператварыліся ў *о, е* (параўн.: **мъхъ* – бел., рус., укр. *мох*, але бел., укр. *мху*, рус. *мха*; **дьнь* – бел. *дзень*, рус., укр. *день*, але бел., рус., укр. *дня* і інш.);

7) на месцы пачатковага праславянскага **je* ва ўсходнеславянскіх мовах маем *о, а* (параўн.: **jedinъ* – бел. *адзін*, рус., укр. *один*; **jelenь* – бел. *алень*, рус., укр. *олень* і інш.; гл.: СЕЛИЩЕВ 1968, 494–496; ВИНОКУР 1959, 16–17).

Для фанетычнага складу ўсходнеславянскіх моў характэрнымі з'яўляюцца наяўнасць разнамеснага націску, супрацьпастаўленне цвёрдых і мяккіх зычных (гл.: ГАСПАРОВ, СИГАЛОВ 1974, 185), але ў беларускай мове яно не тычыцца гукаў *д, т, ў, дж, ж, р, ш, ч, ц*, якія заўсёды вымаўляюцца толькі цвёрда, г.зн. не маюць супрацьпастаўлення па дадзенай прыкмеце.

У галіне марфалогіі ўсе ўсходнеславянскія мовы толькі часткова захавалі складаную (аналітычную) сістэму выражэння прошлага часу ў выглядзе плюсквамперфекта (выразы тыпу бел. *прыйшоў быў*, гл.: АНІЧЭНКА 1989, 239–240), фактычна страцілі адрозненні ў тыпах скланення назоўнікаў множнага ліку. Лексіка ўсходнеславянскіх моў характарызуецца большай колькасцю запазычанняў з розных моў у параўнанні з заходнеславянскімі і паўднёваславянскімі, а таксама наяўнасцю некаторых агульных слоў, якія адсутнічаюць у астатніх славянскіх мовах (параўн.: бел. *сорак, сям'я, сабака, дзевяноста* і інш., рус., укр. *сорок, собака*, рус. *семья, девяносто*, укр. *сім'я, дев'яносто* і інш.).

Тым не менш кожная з усходнеславянскіх моў захавала, напрыклад, свае суфіксы суб'ектыўнай ацэнкі (параўн.: бел. *-ачк-* у словах тыпу *галовачка* і да т.п.; рус. *-ушк-* у словах тыпу *головушка* і да т.п.; укр. *-оньк-* у словах тыпу *головонька* і да т.п.).

### 1.7.2. АСНОЎНЫЯ АДРОЗНЕННІ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ

У блізкароднаснай беларускай мове маюцца такія фанетычныя рысы, якія адсутнічаюць у рускай мове: нескладовае *ў* на месцы этымалагічных *в, л* (параўн.: бел. *кроў*, *воўк* і інш. і рус. *кровь, волк* і інш.), наяўнасць пратэтычнага гука *в* перад губнымі галоснымі (параўн.: бел. *вуліца, павуціна* і інш. і рус. *улица, паутина* і інш.), а таксама пратэтычных галосных *а, і* перад спалучэннем зычных (параўн.: бел. *аржаны, ільняны* і інш. і рус. *ржаной, льняной* і інш.); дзеканне, цеканне, г.зн. ужыванне гукаў *дзь, ць* на месцы этымалагічных мяккіх *д', т'* (параўн.: бел. *дзед, цень* і інш. і рус. *дед, тень* і інш.). Беларускае аканне ў адрозненне ад рускага адлюстроўваецца на пісьме (параўн.: бел. *сава, барада* і інш. і рус. *сова, борода* і

інш.); гук *г* у беларускай літаратурнай мове з'яўляецца фрыкатыўным (шчылінным), а ў рускай літаратурнай мове выбухным. Спалучэнне зычных з *j* у беларускай мове выклікае іх падаўжэнне не толькі пры вымаўленні, але і на пісьме (параўн.: бел. *пад печчу, з мякаццю* і да т.п. і рус. *под печью, с мякотью* і да т.п.). У беларускай мове ёсць афрыкаты *дж, дз*, якія адсутнічаюць у рускай мове (параўн.: бел. *дождж, сяджу, дзед, сядзець* і рус. *дождь, сижу, дед, сидеть* і інш.).

У граматычнай сферы беларуская мова характарызуецца адсутнасцю *й* у канцы прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і парадкавых лічэбнікаў (параўн.: бел. *добры, паскораны, чацвёрты* і да т.п. і рус. *добрый, ускоренный, четвертый* і да т.п.), пачатковага зычнага *н* у асабовых займеннікаў пры іх скланенні (параўн.: бел. *з ім, без яго* і да т.п. і рус. *с ним, без него* і да т.п.), рэдкай ужывальнасцю дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу, якія ў рускай мове з'яўляюцца даволі частотнымі. Дзеепрыметнікавыя звароты, што шырока выкарыстоўваюцца ў рускай мове, замяняюцца ў беларускай мове апісальнымі канструкцыямі (параўн.: рус. *Мальчик, гуляющий во дворе, был учеником нашего класса* і бел. *Хлопчык, які гуляе ў двары, быў вучнем нашага класа* і да т.п.). Беларускі прыназоўнік *па* можа ўжывацца з месным склонам назоўнікаў, рускі *по* – толькі з давальным (параўн.: бел. *па вуліцах і плошчах* і рус. *по улицам и площадям* і інш.). У беларускай мове часткова захаваўся клічны склон, які ў рускай мове канчаткова знік (параўн.: бел. *браце, народзе, Іване* і да т.п.). У беларускай мове ў адрозненне ад рускай рэдка ўжываюцца кароткія формы прыметнікаў, пры скланенні назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду наяўныя ў іх заднеязычныя гукі *г, к, х* чаргуюцца са свісцячымі, чаго не назіраецца ў сучаснай рускай літаратурнаймове (параўн.: бел. *нага –назе, рука – руцэ, муха – мусе* і рус. *нога – ноге, рука – руке, муха – мухе* і да т.п.). На канцы беларускіх дзеясловаў першага спражэння ў трэцяй асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу адсутнічае зычны *-т* (параўн.: бел. *ён піша, яна прыедзе* і да т.п. і рус. *он пишет, она приедет* і да т.п.). У беларускай мове шырэй, чым у рускай, ужываецца катэгорыя зборнасці (параўн.: бел. *галлё, збожжа, бярвенне* і інш., якім няма адпаведнікаў у рускай мове ), часцей ужываецца канчатак *-у (-ю)* у назоўнікаў роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду, для вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў выкарыстоўваецца канструкцыя з прыназоўнікам *за* (параўн.: бел. *саладзейшы за мёд, маладзейшы за мяне* і інш. і рус. *слаще меда, моложе меня* і інш.), у рускай мове часцей, чым у беларускай, ужываюцца сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам *к*, якім у беларускай мове адпавядаюць звычайна канструкцыі з прыназоўнікам *да* (параўн.: рус. *подойти к лесу* і да т.п. і бел. *падысці да лесу* і да т.п.; гл.: ГУРСКІ 1962 78, 100, 137, 242, і інш.).

У адрозненне ад рускай арфаграфіі ў беларускай адсутнічае літара ъ, у якасці раздзяляльнага знака выкарыстоўваецца апостраф (параўн.: бел. *сям'я, раз'езд* і да т.п. і рус. *семья, разъезд* і да т.п.), на месцы рускай літары *щ* ужываецца спалучэнне *шч*, а на месцы *и* заўсёды пішацца літара *і*, якая дарэчы выкарыстоўвалася і ў рускім пісьме да 1918 г. У беларускай мове больш паслядоўна захоўваецца фанетычны прынцып напісання слоў, у рускай мове пераважае марфалагічны прынцып пісьма (гл.: ИВАНОВА 1976, 141–170).

### 1.7.3. АСНОЎНЫЯ ПАДАБЕНСТВЫ І АДРОЗНЕННІ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ І ЎКРАІНСКАЙ МОВАМІ

У галіне фанетыкі беларуская мова лучыцца з украінскай і разам з ёй адрозніваецца ад рускай тым, што мае пратэтычныя зычныя (параўн.: бел. *вуха, востры* і інш., укр. *вухо, гострий* і інш. і рус. *ухо, острый* і інш.), падоўжаныя

зычныя (параўн.: бел. *калоссе, ноччу* і інш., укр. *колосся, ніччю* і інш. і рус. *колосья, ночью* і інш.; гл.: БУЛАХОВ, ЖОВТОБРЮХ, КОДУХОВ 1987, 59), губныя зычныя і *р* у канцы слова вымаўляюцца цвёрда, што адлюстроўваецца і на пісьме (параўн.: бел. *восем, цар* і інш., укр. *вісім, цар* і інш. і рус. *восемь, царь* і інш.), этымалагічнае спалучэнне **dj* пераходзіць у *дж,* чаго няма ў рускай мове (параўн.: бел. *хаджу, нараджэнне* і інш.; укр. *ходжу, народження* і інш. і рус. *хожу*, *рождение* і інш.), заднеязычны *г* у беларускай і ўкраінскай літаратурных мовах вымаўляецца як фрыкатыўны, а ў рускай – як выбухны.

У галіне граматыкі беларуская і ўкраінская мовы аб'ядноўваюцца і супрацьпастаўляюцца рускай, па-першае, чаргаваннем заднеязычных і пярэднеязычных зычных пры скланенні назоўнікаў, па-другое, стратай канчатка *-т* у дзеясловаў першага спражэння трэцяй асобы адзіночнага ліку, па-трэцяе, аднесенасцю назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот, у беларускай і ўкраінскай мовах да ніякага роду, а ў рускай – да мужчынскага (параўн.: бел. *цяля*, укр. *теля*; бел., укр. *ягня* і рус. *теленок, ягненок* і інш.). Украінская мова фанетычна адрозніваецца ад беларускай (і рускай) тым, што ўсе зычныя перад *е, і* вымаўляюцца цвёрда, а ненаціскныя галосныя вымаўляюцца выразна, без рэдукцыі; звонкія зычныя ў канцы слоў не аглушаюцца (гл.: УКРАИНСКАЯ ГРАММАТИКА 1986, 17). У арфаграфічнай сістэме ўкраінскай мовы ёсць літары, якія адсутнічаюць у беларускім (і рускім) пісьме: *ї* (абазначае спалучэнне *йі),є* (абазначае гук *е* пасля мяккіх зычных і спалучэнне *йе* ў пачатку слова); ва ўкраінскім алфавіце ў адрозненне ад беларускага няма літар *ы, э*; і разам з беларускім у адрозненне ад рускага няма літары ъ; а літара *е* перадае гук, што ў беларускай (і рускай) мове выражаецца літарай *э*.

У сферы граматыкі ўкраінская мова адрозніваецца ад беларускай (і рускай) наяўнасцю клічнага склону, канчаткам *-ові* ў давальным склоне адушаўлёных назоўнікаў (параўн.: бел., рус. *брату* і ўкр. *братові;* бел. *бацьку*, рус. *отцу* і ўкр. *батькові* і інш.), канчаткам *-мо* ў дзеясловаў трэцяй асобы множнага ліку цяперашняга часу (параўн.: бел. *бачым,* рус. *видим* і ўкр. *бачимо*; бел., рус. *знаем* і ўкр. *знаемо* і інш.), неазначальнай формай дзеяслова (інфінітывам), якая ўтвараецца з дапамогай канчатка *-ти* (параўн.: бел. *пісаць*, рус. *писать* і ўкр. *писати*; бел. *спяваць*, рус. *петь* і ўкр. *спивати* і інш.). Не ўласцівае беларускай (і рускай) мове эпентэтычнае *л* адзначаецца ва ўкраінскіх дзеясловаў трэцяй асобы множнага ліку цяперашняга часу (параўн.: бел. *ловяць, любяць* і інш; рус. *ловят, любят* і інш. і ўкр. *ловлять, люблять* і інш.).

У лексіцы і фразеалогіі ўкраінскай мовы назіраецца шмат слоў і фразеалагізмаў, якія адсутнічаюць у беларускай і рускай мовах (параўн.: укр. *січень*, бел. *студзень*, рус. *январь;* укр. *відмінок*, бел. *склон,* рус. *падеж;* укр. *ани пари з уст*, бел. *маўчаць*, рус. *молчать;* укр. *здоровий глузд*, бел. *разважлівы*, рус. *рассудительный* і інш.).

Такім чынам, аднымі фанетычнымі і граматычнымі рысамі беларуская мова збліжаецца з украінскай мовай і разам з ёй супрацьпастаўляецца рускай, другімі ж, наадварот, упадабняецца рускай і сумесна з ёй адрозніваецца ад украінскай.

## 1.8. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў АДНОСІНАХ ДА ЗАХОДНЕСЛАВЯНСКІХ МОЎ

### 1.8.1. АСНОЎНЫЯ АДРОЗНЕННІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ АД ЗАХОДНЕСЛАВЯНСКІХ

Усе заходнеславянскія мовы (польская, сербалужыцкая, славацкая, чэшская) у галіне графікі адрозніваюцца ад беларускай (а таксама рускай, украінскай, балгарскай, македонскай, што ўжываюць кірыліцу, часткова сербскахарвацкай, дзе

ўжываюцца кірыліца і лацініца) сваім лацінскім алфавітам. Фанетычныя рысы заходнеславянскіх моў характарызуюцца наступнымі асаблівасцямі: па-першае, пастаянным месцам націску ў слове (у сербалужыцкай, славацкай, чэшскай – на першым складзе, у польскай – на перадапошнім, у беларускай мове націск разнамесны); па-другое, захаваннем праславянскіх спалучэнняў зычных *dl, *tl (параўн.: пол. *mydlo*, чэш. *vedl* і бел. *мыла, вёў* і інш.); па-трэцяе, спалучэннямі *t, d* з *j*, якія даюць тут *č, dz (z)* (параўн.: чэш. *svice, sázet*, пол. *świeca, sadzać* і бел. *свечка, саджаць* і інш.); адсутнасцю эпентэтычнага *l* пасля губных у непачатковых пазіцыях слова (параўн.: србл. *zemja*, чэш. *země*, пол. *ziemia*, слц. *zem* і бел. *зямля* і інш.).

Праславянскі рэдукаваны гук *ъ змяніўся ў польскай і чэшскай мовах на *e*, а ў беларускай на *o* (параўн.: пол., чэш. *sen*, а бел. *сон* з праславянскага **sъnъ*; пол., чэш. *mech*, а бел. *мох* з праславянскага **mъxъ* і інш.).

У заходнеславянскіх мовах шырэй, чым у беларускай, ужываюцца мадальныя дзеясловы, а таксама зваротныя формы дзеясловаў у няпэўна-асабовым і абагульнена-асабовым значэннях. У беларускай мове адсутнічаюць кароткія ненаціскныя займеннікі тыпу *go, mi, mu, ci* і інш., якія шырока выкарыстоўваюцца ў заходнеславянскіх мовах (параўн.: пол. *powiem ci*, чэш. *řeknu ti* і бел. *скажу табе* і інш.). На месцы беларускага злучніка *каб* у складаназалежных сказах з даданымі мэты заходнеславянскіх моў ужываецца злучнік *aby*. Зваротная часціца *se* пішацца з дзеясловамі ў заходнеславянскіх мовах асобна, а ў беларускай мове часціца *-ся* – разам; у заходнеславянскіх мовах цалкам захаваўся клічны склон, у той час як у беларускай назіраюцца толькі некаторыя рэшткі гэтага амаль цалкам зруйнаванага доўгім часам склону.

### 1.8.2. АДРОЗНЕННІ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОВАМІ

Польская мова фанетычна адрозніваецца ад беларускай мовы і ад іншых славянскіх моў тым, што захавала ў сабе з праславянскага часу насавыя галосныя *ą*, *ę* (параўн.: пол. *dąb, mięso* і бел. *дуб, мяса* і інш.). На месцы праславянскага галоснага гуку, які пазначаўся літарай *яць*, у сучаснай польскай мове назіраецца чаргаванне а – е, тады як у беларускай мове яно адсутнічае (параўн. пол. *lato – w lecie* і бел. *лета – летам* і інш.). Ненаціскныя галосныя польскай мовы ў адрозненне ад беларускай не рэдуцыруюцца. Гэтаксама як і беларуская мова, польская згубіла мяккі зычны *p'*, але ў адрозненне ад беларускай ён заменены гукамі *ж, ш*, якія ў польскай графіцы абазначаюцца літарай *rz* (параўн.: пол. *rzeka, przed* і бел. *рака, перад* і інш.); афрыката *дз* у польскай мове (*dz*) заўсёды цвёрдая, а ў беларускай – заўсёды мяккая. У польскай графіцы прадстаўлена сем дыграфаў, а ў беларускай мове – толькі два.

Асноўныя кідкія граматычныя адрозненні польскай мовы ад беларускай заключаюцца ў тым, што беларускія дзеясловы прошлага часу маюць аднолькавыя канчаткі для ўсіх форм адзіночнага ліку мужчынскага роду (параўн.: *я, ты, ён бачыў)*, а таксама для ўсіх форм множнага ліку абодвух родаў (параўн.: *мы, вы, яны бачылі);* у польскай мове для кожнай адпаведнай формы маецца свой канчатак, апрача таго, у польскіх дзеясловаў прошлага часу ёсць дзве формы – простая і складаная, апошняя выражае даўно мінулы час, што не мае абазначэння ў беларускай мове. У польскай мове імёны асоб мужчынскага полу множнага ліку захоўваюць сваю асабістую форму (граматычная катэгорыя асобы) дляназоўнага і вінавальнага склонаў: канчатак *-i (-y)* або *-owie* (параўн.: *wojt – wojci, polak – polacy, pan – panowie* і інш.). У польскай мове займеннік 3-й асобы множнага ліку *oni* выкарыстоўваецца для абазначэння мужчынскіх асоб, а *one* – для абазначэння

астатніх асоб, тады як у беларускай мове для наймення ўсіх асоб ужываецца адзін займеннік *яны* (параўн.: JODŁOWSKI 1973, 62).

Зразумела, у беларускай мове адзначаецца шмат слоў і фразеалагізмаў, якія не супадаюць па сваёй форме з іх польскімі адпаведнікамі (параўн.: бел. *пацук* і пол. *szczur,* бел. *нахабнік* і пол. *arogant*, бел. *вяршыня* і пол. *cypel*; бел. *з'ехаць з глузду* і пол. *mieć bzika*, бел. *першы блін камяком* і пол. *pierwsze koty za płoty* і інш.).

### 1.8.3. АСНОЎНЫЯ АДРОЗНЕННІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ АД ЧЭШСКАЙ І СЛАВАЦКАЙ

Блізкароднасныя чэшская і славацкая мовы ў галіне фанетыкі адрозніваюцца ад беларускай мовы наяўнасцю доўгіх і кароткіх галосных фанем (пазначаюцца на пісьме спецыяльным значком – чарка ´ ), якія захаваліся тут ад праславянскай мовы (гл.: NACHTIGAL 1961, 15) і з дапамогай якіх размяжоўваюцца лексічныя і граматычныя значэнні слоў (параўн.: слц. *naraz* 'раптам' і *náraz* 'удар', чэш. *kupuji* 'я купляю' *і kupují* 'яны купляюць' і інш.), складаўтваральных зычных *r, l* (параўн.: чэш. *smrt* 'смерць', слц. *vlk* 'воўк' і інш.; гл.: HAVRÁNEK, JEDLIČKA 1960, 18), прычым у славацкай мове гэтыя зычныя могуць быць як кароткія, так і доўгія. Спецыфічна чэшскім гукам з'яўляецца зычны *ř* (вымаўляецца як *рж, рш* у залежнасці ад спалучальных з ім наступных гукаў: калі галосны ці звонкі зычны – то *рж*, калі глухі зычны – то *рш* ) на месцы мяккага *р'* (параўн.: *řeka* 'рака', *tři* 'тры' і да т.п.), славацкім – галосны *ä,* сярэдні гук паміж *а* і *е,* сустракаецца толькі пасля губных (параўн.: *mäso* 'мяса', *päť* 'пяць' і інш.; гл.: МИСТРИК 1985, 23). У абедзвюх мовах (чэшскай і славацкай) маюцца дыфтонгі, якіх увогуле няма ў зыходна беларускіх словах: чэш. *ou, au, eu* (параўн.: *soud*, 'суд', *autor* 'аўтар', *pneumatika* 'пнеўматыка' і інш.), слц. *ia, ie, iu* (параўн.: *vziat'* 'узяць', *viera* 'вера'*, tretiu* 'трэцюю' і інш.). У параўнанне з адным беларускім фрыкатыўным гукам *г* чэшская і славацкая мовы маюць карэлятыўныя па спосабу ўтварэння (выбухны – фрыкатыўны) зычныя *g – h* (гл.: PALKOVÁ 1994, 209), праўда, выбухны выкарыстоўваецца пераважна ў запазычаных словах. Карэляцыю па цвёрдасці – мяккасці захавалі ў чэшскай мове толькі зычныя *n, d, t* (гл.: MLUVNICE ČEŠTINY 1986, 43–44) у процілегласць беларускай фанетычнай сістэме зычных, якія ў сваёй большасці супрацьпастаўлены па прыкмеце цвёрды – мяккі. Прычым згаданыя чэшскія зычныя захоўваюць цвёрдасць і перад галоснымі пярэдняга рада *е, і*, што немагчыма ў беларускай мове. У славацкай мове зычныя *n, t, d, l* перад *е, і* з'яўляюцца заўсёды мяккімі, астатнія зычныя, акрамя *č, ž, š, j,* зацвярдзелі. Даволі выразная чэшская фанетычная рыса, якая адсутнічае ў беларускай мове, выступае ў выглядзе глыбокага гартаннага выбуху пры вымаўленні слоў з пачатковым галосным. Гэта з'ява называецца прыдыханнем, і ў фанетычнай транскрыпцыі яна перадаецца значком (') перад словам, што вымаўляецца.

У галіне марфалогіі чэшская і славацкая мовы адрозніваюцца ад беларускай тым, што не захавалі форм выражэння катэгорыі адушаўлёнасці – неадушаўлёнасці для назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку. У дадзеных заходнеславянскіх мовах ёсць дзве формы прошлага часу (простая і складаная, апошняя выражае даўно мінулы час, гл.: ПАУЛИНИ 1982, 137), а дзеепрыслоўі характарызуюцца формамі роду і ліку, чаго няма ў беларускай мове (параўн.: чэш. *nesa – nesouce* множны лік для ўсіх родаў, а ў беларускай мове толькі адна магчымая форма, хоць і не зусім ужывальная – *несучы*).

У адрозненне ад беларускай мовы чэшскія назоўнікі ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку маюць па два канчаткі: у назоўнікаў цвёрдай разнавіднасці –

канчаткі *-ovi, -u*, у назоўнікаў мяккай разнавіднасці – канчаткі *-ovi, -i*. Не супадаюць канчаткі і ў назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку роднага і творнага склонаў (параўн.: бел. *гарадоў, гарадамі* і чэш. *hradů, hrady* і інш.); у назоўнікаў жаночага роду адзіночнага ліку – канчаткі творнага склону (параўн.: бел. *жанчынай, песняй* і чэш. *ženou, písní* і інш.). Граматычна нязменныя ў беларускай мове запазычанні тыпу *дэпо, кіно, метро, радыё* і да т.п. у чэшскай і славацкай мовах скланяюцца па адпаведных узорах на аснове канчаткаў падобных слоў. Асабовыя займеннікі чэшскай і славацкай моў адрозніваюцца ад беларускіх асабовых займеннікаў тым, што пры асабовых дзеяслоўных формах могуць не ўжывацца (гл.: ИСАЧЕНКО 1960, 411). Часціца *ne* 'не' ў дадзеных мовах пішацца з дзеясловамі заўсёды разам (у беларускай мове асобна), параўн.: чэш. *nepůjdu* 'не пайду', *nechce* 'не хоча' і да т.п. Дзеясловы ва ўмоўным ладзе чэшскай і славацкай моў могуць быць і ў форме цяперашняга, і ў форме прошлага часу (у беларускай мове толькі ў форме прошлага часу). Асобным дзеясловам, якія з'яўляюцца зваротнымі ў чэшскай мове, у беларускай мове адпавядаюць незваротныя (параўн.: чэш. *mstít se, vejít se* і бел. *помсціць, увайсці* і інш.). Ёсць і адваротныя выпадкі, калі зваротным дзеясловам беларускай мовы адпавядаюць незваротныя дзеясловы чэшскай мовы (параўн.: бел. *застацца, пагадзіцца* і чэш. *zůstat, souhlasit* і інш.). Чэшскай і славацкай мовам прыдатныя два спосабы напісання лічэбнікаў, якія складаюцца з адзінак і дзесяткаў. Напрыклад, лік 22 вербальна можа быць выражаны двума спосабамі: чэш. *dvacet dva* і *dvaadvacet*, слц. *dvadsať dva i dvaadvadsať*, а ў беларускай мове – толькі адным спосабам *дваццаць два*. Акрамя таго, у адрозненне ад беларускай мовы лічэбнік *сто* пішацца ў чэшскай мове асобна ў спалучэннях з іншымі лічэбнікамі (параўн. чэш.: *dvě stě, tři sta, pět set* і г.д.).

У чэшскай і славацкай мовах больш пашыранымі, чым у беларускай мове, з'яўляюцца абагульнена-асабовыя і няпэўна-асабовыя сказы са зваротнымі дзеясловамі, у сказах спрагальныя формы дзеяслова *быць* не апускаюцца, а апускаюцца часта пры іх асабовыя займеннікі (параўн.: чэш. *Jsem učitel* і бел. *Я настаўнік*). У чэшскай і славацкай мовах асобны статус маюць энклітыкі, г.зн. ненаціскныя аднаскладовыя словы (зваротныя займеннікі, часціцы і інш.), якія звычайна ў сказе размяшчаюцца пасля першага націскнога слова. У славацкай мове адзначаецца даволі вялікая колькасць запазычанняў з венгерскай мовы. Лацінскі алфавіт, што выкарыстоўваецца ў чэшскай і славацкай мовах, дапаўняецца дыякрытычнымі (надрадковымі) знакамі для абазначэння даўжыні і мяккасці адпаведных галосных і зычных гукаў. Разыходжанні ў лексічным і фразеалагічным складзе, з аднаго боку, чэшскай і славацкай моў, і, з другога боку, беларускай мовы з'яўляюцца больш значнымі, чым паміж польскай і беларускай мовамі.

### 1.8.4. АСНОЎНЫЯ АДРОЗНЕННІ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ І СЕРБАЛУЖЫЦКАЙ МОВАМІ

Сербалужыцкая мова, якая існуе ў двух варыянтах – ніжне- і верхнелужыцкім, фанетычна адрозніваецца ад беларускай мовы тым, што ненаціскныя і націскныя галосныя не маюць разыходжанняў у сваім вымаўленні, для большасці зычных адсутнічаюць парныя мяккія фанемы, а для *l* – парная цвёрдая фанема. Мяккія парныя фанемы, г.зн. у якіх ёсць цвёрдыя супрацьпастаўленыя карэляцыі *p', b', m', n', r'*, вымаўляюцца мякчэй, чым у беларускай мове, але падобна апошняй у канцы слоў яны губляюць мяккасць, што адлюстроўваецца ў напісанні (без спецыяльнага значка ' ). Шыпячыя *š, ž, č* вымаўляюцца крыху мякчэй, чым *ш, ж, ч* у беларускай мове, і могуць быць ахарактарызаваны як паўмяккія.

У адрозненне ад беларускай мовы ў сербалужыцкай захаваўся парны лік побач з множным і адзіночным. Беларуская мова мае толькі фактычна адну форму прошлага часу, а сербалужыцкая – чатыры (перфект, прэтэрыт, ітэратыўны прэтэрыт, плюсквамперфект). Дзеяслоў-выказнік у структуры сказа сербалужыцкай мовы звычайна займае апошняе месца, у той час як у беларускай мове ён можа займаць месца ў любой пазіцыі сказа ў залежнасці ад яго актуальнага члянення або сэнсу выказвання. Пад уплывам сінтаксісу нямецкай мовы сказ у сербалужыцкай мове будуецца па так званай рамачнай канструкцыі: асабовыя формы дзеяслова знаходзяцца ўнутры сказа, а інфінітыў і дзеепрыметнікавыя формы дзеяслова – у канцы сказа (гл.: МИХАЛК 1974, 251). Уплыў нямецкай мовы адбіўся і на форме творнага склону, які ўжываецца ў сербалужыцкай мове толькі ў спалучэнні з прыназоўнікам z (ze); параўн.: *Wón je stal z bohačom* 'Ён зрабіўся багатым', а ў беларускай мове гэта форма слова можа выкарыстоўвацца і без прыназоўніка. Калі ў беларускай мове звароты дзеясловаў залежнага стану з часціцай *-ся* магчымыя толькі ад дзеясловаў незакончанага трывання (параўн.: *Дом будуецца*, але нельга **Дом пабудаваўся*), то, напрыклад, у верхнелужыцкай мове падобныя звароты ўтвараюцца як ад дзеясловаў незакончанага, так і ад дзеясловаў закончанага трывання (параўн.: србл. *Dom so twari – Dom so dotwari*; гл.: ТРОФИМОВИЧ 1989, 40).

У сербалужыцкай мове значна больш, чым у беларускай, разнастайных запазычанняў з нямецкай мовы, у тым ліку шырока выкарыстоўваюцца нямецкія калькі (параўн.: *sto let stary – hundert Jahre alt* і да т.п.). Верхнелужыцкая мова шэрагам сваіх рысаў збліжаецца з чэшскай мовай, а ніжнелужыцкая – з польскай.

## 1.9. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў АДНОСІНАХ ДА ПАЎДНЁВАСЛАВЯНСКІХ МОЎ

### 1.9.1. АСНОЎНЫЯ РАЗЫХОДЖАННІ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ І ПАЎДНЁВАСЛАВЯНСКІМІ МОВАМІ

Усе паўднёваславянскія мовы адрозніваюцца ад беларускай у сферы фанетыкі тым, што праславянскія спалучэнні **ort, *olt* у пачатку слова ператварыліся ў *rat, lat*, а ў беларускай – у *rot, lot* (параўн.: бал. *лакът*, мак. *лакот*, србх. *лакат,* слав. *lakat* і бел. *локаць* і інш.). Праславянскі галосны *ę* ператварыўся ў паўднёваславянскіх мовах у *е*, а ў беларускай у *а* (параўн.: бал. *пет,* слав. *zet* і бел. *пяць, зяць* і інш.). Зычныя ў паўднёваславянскіх мовах не змякчаюцца перад *е, і* (у беларускай змякчаюцца), праславянскія спалучэнні **tort, *tolt* развіліся ў *trat, tlat,* а ў беларускай мове ў *tarat, torat, tolat* (параўн.: бал. *брада,* слав. *grad* 'замак', србх. *влас* і бел. *барада, горад, волас* і да т.п.). Ва ўсіх паўднёваславянскіх мовах шырока выкарыстоўваецца злучнік *да*, маюцца агульныя лексемы, што адсутнічаюць у іншых славянскіх мовах, і ў прыватнасці, у беларускай (параўн.: бал. *газя*, мак. *гази*, србх. *газити,* слав. *gaziti* і бел. *ступаць* і інш.). У назоўнікаў творнага склону мужчынскага і ніякага роду на цвёрдую зычную ўсе паўднёваславянскія мовы маюць канчатак *-омъ* (у беларускай *-ам*).

### 1.9.2. АДРОЗНЕННІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ АД БАЛГАРСКАЙ І МАКЕДОНСКАЙ МОЎ

У кірыліцкай графіцы балгарскай мовы адсутнічаюць літары *э, ы, ё,* а ў блізкароднаснай македонскай мове да таго ж і літары *й, ъ, ю,* якія ўжываюцца ў

беларускай мове, апрача літары ъ. У македонскай мове ёсць літара *ј*, што вымаўляецца прыблізна як беларускі гук *й*. Літара *е* ў балгарскай мове адпавядае беларускай літары *э*. Праславянскі гук, што называўся *яць*, у балгарскай мове ператварыўся ў *я* або *е* (параўн.: балг. *бял* 'белы', *беліна* 'бялізна' і інш.), а насавы гук *Q* – у ъ (у балгарскай мове гэтай літарай абазначаецца галосны гук сярэдняга пад'ёму сярэдняга рада, параўн.: бал. *ръка* 'рука', *път* 'шлях, пуць' і інш.). У адрозненне ад беларускай мовы ненаціскныя галосныя ў балгарскай і македонскай мовах практычна не рэдуцыруюцца пры вымаўленні, маюць такія ж супраць-пастаўленні, як і націскныя галосныя (гл.: АНДРЕЙЧИН, ПОПОВ, ИВАНОВ 1955, 110), г.зн. усе галосныя незалежна ад месца ў слове выступаюць у моцнай пазіцыі (у беларускай мове ў моцнай пазіцыі выступаюць толькі націскныя галосныя).

Балгарская і македонская мовы ў адрозненне ад флектыўнай беларускай мовы належаць да аналітычных моў са страчаным скланеннем. Граматычная нагрузка тут у значнай ступені выконваецца службовымі словамі (у прыватнасці прыназоўнікамі), якія больш поліфункцыянальныя па семантыцы і часцей ужываюцца, чым у беларускай мове. Склонавыя значэнні ў балгарскай і македонскай мовах перадаюцца менавіта прыназоўнікамі, зазначаецца постпазіцыйны артыкль пад уплывам балканскага моўнага саюзу, згублены інфінітыў (гл.: STIEBER 1973, 10), развітымі з'яўляюцца энклітыкі, або ненаціскныя асабовыя займеннікі, захаваліся разгалінаваныя формы прошлага часу дзеясловаў; параўнальная ступень прыметнікаў і прыслоўяў утвараецца з дапамогай прыстаўкі *по-*. Неазначальная форма дзеяслова выражаецца часціцай *да* і асноўнай формай дзеяслова (першая асоба адзіночнага ліку цяперашняга часу, параўн.: бал. *да чета* 'чытаць', *не мога да работя* 'не магу працаваць' і інш.).

Для балгарскай і македонскай моў характэрным з'яўляецца наяўнасць пераказвальнага ладу (перадае нясведкавыя, з чужых слоў, адносіны прамоўцы да сітуацыі), двайных займеннікаў (параўн.: мак. *му купив нему* 'купіў яму' і інш.), катэгорыі пэўнасці – няпэўнасці (гл.: НОРМАН 1980, 54). Усе гэтыя граматычныя асаблівасці адсутнічаюць у беларускай мове, а некаторыя з іх, у прыватнасці катэгорыя пэўнасці – няпэўнасці, уласціва такім заходнееўрапейскім мовам, як англійская, нямецкая, французская. У балгарскай і македонскай мовах адсутнічаюць наяўныя ў беларускай мове дзеепрыслоўі закончанага трывання, а кароткія і поўныя формы прыметнікаў не супрацьпастаўляюцца, таму адна і тая ж форма можа выконваць у сказе і роль азначэння, і роль выказніка (параўн.: бал. *млад човек* 'малады чалавек' і *Той е млад* 'Ён малады' і інш.). Пытальныя сказы ў балгарскай і македонскай мовах будуюцца з абавязковым удзелам пытальных слоў, тады як у беларускай мове аналагічныя сказы могуць будавацца і без такіх слоў, а з дапамогай парадку слоў і інтанацыі; часціца *ся* пішацца ў абедзвюх мовах асобна ад дзеяслова, як і ў заходнеславянскіх мовах. Формы параўнальнай ступені прыметнікаў і прыслоўяў утвараюцца толькі прэфіксальным спосабам (у беларускай мове суфіксальным, а таксама пры дапамозе слоў *больш, менш* пры складаных формах параўнання). Для балгарскай і македонскай моў характэрнай з'яўляецца поліпрэфіксацыя (параўн.: бал. *препрочита* 'перачытаць', *позаприкажа* 'загаварыць' і інш.), якая менш актыўна ўжываецца ў беларускай мове. У македонскай мове прыналежныя займеннікі трэцяй асобы адзіночнага ліку маюць розныя формы, што залежыць ад граматычнага роду назоўнікаў і чаго няма ў беларускай мове (параўн.: мак. *нејзин молив* 'яе аловак', *нејзина кука* 'яе хата' і інш.). Запазычаныя словы, якія ў беларускай мове не скланяюцца і не змяняюцца па ліку, тыпу *таксі, кіно, меню* і да т.п., у балгарскай і македонскай мовах набываюць формы множнага ліку (параўн.: бал. *таксіта, кіната, менюта* і інш.). У балгарскай і македонскай мовах маецца

шмат запазычанняў з турэцкай і навагрэчаскай моў. Архаічныя для беларускай мовы словы тыпу *чало, глава* ў значэнні 'галава' і інш. з'яўляюцца ў дадзеных мовах звычайнымі і ўжывальнымі.

### 1.9.3. АДРОЗНЕННІ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ І СЕРБСКАХАРВАЦКАЙ МОВАМІ

У сербскахарвацкай мове выкарыстоўваюцца і лацініца, і кірыліца, што было прыдатна і для беларускай мовы ў 19 – пачатку 20 ст. У сучаснай Югаславіі ўжываецца пераважна кірыліца, у Харватыі – лацініца. У кірыліцы сербскахарвацкай мовы замест беларускай літары *й* выкарыстоўваецца *ј*, мяккія *н, л* перадаюцца з дапамогай спецыяльных літар *њ, љ,* ёсць літары, што адсутнічаюць у беларускай і іншых славянскіх мовах для перадачы мяккіх злітных зычных *(ђ, ћ, џ)*, але не ўжываюцца такія літары беларускага алфавіта, як *й, ш, ы, ь, э, ю, я*, а таксама ъ, што адсутнічае і ў беларускім пісьме.

Большасць фанетычных змен пры вымаўленні слова адлюстроўваецца і ў яго напісанні (параўн.: србх. *србин* 'серб', але *српски* 'сербскі' і інш.). Зычны *р* у адрозненне ад беларускай мовы з'яўляецца ў сербскахарвацкай складовым гукам (параўн.: србх. *прст* 'палец' і інш.), на месцы ранейшага складовага *л* выступае *у* (параўн.: србх. *суза* 'сляза', *вук* 'воўк' і інш.). У адрозненне ад беларускай мовы звонкія зычныя на канцы сербскахарвацкага слова не аглушаюцца (гл.: НАММ 1967, 22), а зычныя перад галоснымі пярэдняга рада *е, і* не змякчаюцца. Слабей, чым у беларускай мове, сербскахарвацкія зычныя супрацьпастаўляюцца па цвёрдасці – мяккасці, бо зычныя пераважна з'яўляюцца цвёрдымі.

Адметнай рысай сербскахарвацкага вымаўлення служыць наяўнасць узыходных і сыходных складоў, г.зн. дадзеная славянская мова характарызуецца політанічным націскам, які з'яўляецца разнамесным, але звычайна апошні склад ненаціскны. Зычны *л* у канцы склада пераходзіць у *о* (параўн.: србх. *био* 'быў', *бео* 'белы' і інш.), спалучэнне зычных *чр* дае *цр* (параўн.: србх. *црн* 'чорны' і інш.), адсутнічае падваенне зычных, уласцівае беларускай мове (параўн.: *рани* 'ранні', *мекост* 'мяккасць' і інш.).

У давальным, творным, месным склонах множнага ліку канчаткамі назоўнікаў з'яўляюцца *-има, -ама* (параўн.: србх. *селима* 'сёламі', *горама* 'гарамі' і інш.). У родным склоне адзіночнага ліку адпаведныя займеннікі і прыметнікі маюць канчатак *-га* (параўн.: србх. *свога* 'свайго', *младога* 'маладога' і інш.). У сербскахарвацкай мове захаваліся аорыст, імперфект, перфект, плюсквамперфект для выражэння форм прошлага часу (гл. PRIRUČNA GRAMATIKA 1979, 156), чаго няма ў беларускай мове, апрача слаба прадстаўленага плюсквамперфекта. У адрозненне ад беларускай мовы сербскахарвацкія назоўнікі pluralia tantum маюць радавыя адрозненні, а кароткія формы прыметнікаў шырока выкарыстоўваюцца ў якасці азначэнняў, чаго пазбягае беларуская мова. Простыя і складаныя лічэбнікі ад *пяці* і далей не скланяюцца, за выключэннем слоў *нула, стотина, хиљада, милион, милиjарда.* Зваротная часціца *се*, гэтаксама як у балгарскай і македонскай мовах, пішацца асобна ад дзеяслова.

Адрозненні ў граматыцы паміж беларускай і сербскахарвацкай мовамі могуць тычыцца не толькі прыкметы наяўнасці – адсутнасці той ці іншай граматычнай з'явы, ступені яе ўжывальнасці, але і спосабу яе выкарыстання. Так, наяўная для абедзвюх супастаўляльных моў катэгорыя асобы адрозніваецца тым, што ў сербскахарвацкай мове адзначаюцца больш шырокія магчымасці яе транспазіцыі. Напрыклад, звычайна ў беларускай мове не ўжываецца ў адносінах да другой асобы адзіночнага ліку выказванне з займеннікам у форме першай асобы адзіночнага ліку. Беларуская маці, у прыватнасці, не скажа свайму сыну, які толькі што прачнуўся **Як я сёння спаў*? У такіх выпадках часта выкарыстоўваюцца займеннікі першай асобы множнага

ліку, або займеннікі трэцяй асобы адзіночнага ліку (параўн.: *Як мы сёння спалі*? Або: *Сынок ужо прачнуўся. Як ён сёння спаў*?). У той жа час для сербскахарвацкай мовы выказванні з займеннікам у форме першай асобы адзіночнага ліку з'яўляюцца звычайнымі і ўжывальнымі, г.зн. зварот маці да дзіцяці *Jesam li se naspavao*? **Ці выспаўся я*? у адпаведнай сітуацыі роўнае выказванню *Jsi li se naspavao*? *Ці выспаўся ты*? (гл.: TOŠOVIČ 1995, 202–205).

Значна больш, чым у беларускай мове, у сербскахарвацкай зазначаецца запазычанняў з турэцкай, венгерскай і італьянскай моў.

## 1.9.4. АСНОЎНЫЯ АДРОЗНЕННІ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ І СЛАВЕНСКАЙ МОВАМІ

У лацінскай графіцы славенскай мовы для абазначэння шыпячых, гэтаксама як і ў чэшскай і славацкай мовах, ужываецца надрадковы знак гачэк (параўн.: *č, š* ). Адметнымі асаблівасцямі славенскай фанетыкі ў параўнанні з беларускай з'яўляюцца наступныя: праславянскі насавы галосны *Q ператварыўся ў *o* (параўн.: слав. *zob* 'зуб', *roka* 'рука' і інш.), праславянскае спалучэнне **dj* дало *j* (параўн.: **medja – meja* 'мяжа' і інш.), моцная пазіцыя галосных не звязана з націскам, як у беларускай мове, а з іх даўжынёй (гл.: TOPORIŠIČ 1974, 10), кароткія галосныя могуць нават пад націскам цалкам або часткова нейтралізавацца, а без націску і ўвогуле могуць не вымаўляцца (параўн.: *gospod* 'спадар' вымаўляецца як *gъspod*, а *misliti* 'думаць' як *mislit* і інш.), страчана апазіцыя па цвёрдасці – мяккасці ў зычных *n – ń, l – l',* характэрная для беларускай мовы, а таксама *r – r'*.

У галіне граматыкі славенская мова захавала парны лік, у ёй адсутнічаюць простыя формы прошлага часу аорыст і імперфект, захаваўся супін (дасягальны лад), злучнік *i* выступае ў форме *in,* займеннік *kaj* ужываецца ў значэнні 'што'. Значна шырэй, чым у беларускай мове, выкарыстоўваюцца формы закончанага трывання дзеяслова, якія, у прыватнасці, служаць для выражэння паўтаральнага і ўзуальнага дзеянняў. У адрозненне ад беларускай мовы ў славенскай рэдка ўжываюцца асабовыя займеннікі ў функцыі дзейніка. Адмоўныя часціцы *ne, ni* пішуцца асобна і могуць аддзяляцца ад дзеяслоўных форм іншымі словамі.

Неадушаўлёныя запазычаныя назоўнікі, якія заканчваюцца на галосны (апроч *a*), адносяцца ў славенскай мове да мужчынскага роду (у беларускай звычайна да ніякага), словы тыпу *taksi, tabu, kino* і інш. Адушаўлёных назоўнікаў ніякага роду ў славенскай мове больш, чым у беларускай, а катэгорыя адушаўлёнасці не выражаецца ў множным ліку (параўн.: слав. *vidim potnike, časopise* 'бачым спадарожнікаў, часопісы' і інш.). Акрамя таго, у адрозненне ад беларускай мовы ў славенскай мове да адушаўлёных назоўнікаў адносяцца словы, якія абазначаюць хваробы, планеты, інструменты, механізмы. Катэгорыя пэўнасці – няпэўнасці, што адсутнічае ў беларускай мове, у славенскай мове звязана з апазіцыяй поўных і кароткіх форм прыметнікаў, граматычна залежных ад назоўніка, з якім яны спалучаюцца. У славенскай мове больш, чым у беларускай, пытальных займеннікаў; у значнай ступені страчана ўласцівасць скланення колькасных лічэбнікаў; шырэй у параўнанні з беларускай мовай ужываюцца няпэўныя і пэўна-асабовыя сказы, а таксама разнастайныя лексічныя запазычанні з германскіх і раманскіх моў (гл.: KOROŠEC 1974, 86–87). Нягледзячы на значна меншую тэрыторыю свайго распаўсюджвання і колькасць насельнікаў, славенская мова з'яўляецца больш дыялектна раздробленай, чым беларуская і іншыя славянскія мовы. Спецыялісты (гл.: LOGAR 1974, 91) вылучаюць у славенскай мове каля 40 гаворак, якія аб'ядноўваюцца ў сем дыялектных зон, што вызначаецца складанымі геаграфічнымі ўмовамі жыцця славенцаў.

# 2. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## 2.1. УСТУПНЫЯ ЗАЎВАГІ



Сярод некалькіх тысяч жывых моў, што ўжываюцца ў наш час чалавецтвам, толькі каля 300 найбольш распрацаваных і развітых маюць акрамя прыроджанай гукавой формы і штучную форму, або графічную, пісьмовую. Да такіх моў належыць і беларуская, што сфарміравалася і ўнармавалася цягам 14–15 стст. на аснове адзінай для ўсходніх славян (сучасных беларусаў, рускіх, украінцаў) старажытнарускай (старажытнаўсходнеславянскай) літаратурнай мовы (гл.: ШАКУН 1966, 27; МЕДВЕДЕВ 1967, 43; ФИЛИН 1972, 3), першыя пісьмовыя помнікі якой узыходзяць да 10 ст., напрыклад, надпіс на пячатцы полацкага князя Ізяслава (гл.: БАЦЬКАЎШЧЫНА 1999, 317). У 11–14 стст. на старажытнарускай мове створана даволі шмат рукапісных помнікаў (рэлігійных, дзелавых, мастацкіх і інш.) , частка якіх захавалася да нашага часу, праўда, пераважна ў выглядзе пазнейшых перапісаных копій. Некаторыя з захаваных старажытнарускіх твораў напісаны на беларускай зямлі нашымі славутымі продкамі К.Тураўскім, К.Смаляцічам, Л.Богшам і інш., а таксама невядомымі аўтарамі, бо ў той далёкі час не ўсе помнікі датаваліся і падпісваліся іх стваральнікамі.

Помнікі гэтага часу (11–14 стст.), найбольш знакамітымі з якіх з’яўляюцца “Слова пра паход Ігаравы”, Аповесць мінулых часоў, Руская праўда і інш., служаць агульнай пісьмовай скарбонкай усіх усходніх славян і перакладзены на сучасныя беларускую, рускую, украінскую мовы, што сведчыць, з аднаго боку, пра наяўныя адрозненні паміж сучаснымі ўсходнеславянскімі мовамі, з другога боку, пра адрозненне сучасных усходнеславянскіх літаратурных моў і старажытнарускай.

Такім чынам, старажытнаруская літаратурная мова з’яўляецца зыходнай пісьмовай крыніцай, сумесным культурным здабыткам беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. З улікам наяўнасці пісьмовых помнікаў (мастацкіх тэкстаў, рэлігійнай, дзелавой, мемуарнай, публіцыстычнай, навуковай і іншай літаратуры), што створаны на нашай зямлі, усю гісторыю беларускай літаратурнай мовы можна падзяліць як мінімум на тры выразныя перыяды яе развіцця. Выдзяленне гэтых перыядаў грунтуецца як на ўнутрымоўных, уласна лінгвістычных, крытэрыях, так і на знешніх чынніках, сацыяльных варунках існавання, функцыянавання і развіцця пісьмовай, або ў дадзеным выпадку літаратурнай, мовы, беларускага этнасу.

Першы перыяд (10–14 стст.) служыць, як ужо засведчана вышэй, агульным для ўсіх усходніх славян, гэта перыяд старажытнарускай, ці старажытнаўсходнеславянскай, літаратурнай мовы. На гэты час яшчэ не было кнігадрукавання, таму ўсе пісьмовыя помнікі з’яўляюцца рукапіснымі; да нашага часу захавалася каля тысячы

разнастайных рукапісаў гэтага перыяду, палавіна з якіх прыпадае на 14 ст. (гл.: ДУРНОВО 1969, 46).

Другі перыяд існавання беларускай літаратурнай мовы ахінае 14–18 стст. Ён характарызуецца адзінствам фанетычнай, граматычнай сістэм мовы, наяўнасцю шматлікіх адметных беларускіх лексем, што ўжываюцца і ў нашай сучаснай мове (гл.: АНІЧЭНКА 1982; АНІЧЭНКА 1989). Мова дадзенага перыяду называецца старабеларускай і шчыльна знітавана са старажытнарускай, а ў некаторых рэлігійных творах (напрыклад, выданні Ф.Скарыны) і са стараславянскай, але ў многіх помніках мае шмат уласна беларускіх (у сучасным разуменні) лінгвістычных рыс, вага якіх з'яўляецца неаднолькавай і ў розных жанрах, стылях тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, і ў розных аўтараў літаратурных помнікаў.

Трэці перыяд развіцця беларускай літаратурнай мовы пачынаецца з 18 ст. і доўжыцца па наш час, гэта перыяд новай, сучаснай літаратурнай мовы, якая ўзнікла ў адрозненне ад амаль усіх астатніх славянскіх моў без прамой сувязі з папярэднімі кніжнымі традыцыямі на грунце сярэднебеларускіх народных гаворак, таму яе невыпадкова слынны ўраджэнец зямлі беларускай, польскі літаратурны геній Адам Міцкевіч назваў самай чыстай і багатай з усіх славянскіх моў (гл.: БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА 1988, 32).

У межах выдзеленых перыядаў, якія можна лічыць агульнапрынятымі, часам робіцца яшчэ падрабязнейшае чляненне беларускай літаратурнай мовы (гл.: ШАКУН 1984, 15–19), аднак значная ўвага пры гэтым надаецца знешнім фактарам існавання нашай мовы, бо адсутнічаюць больш менш выразныя лінгвістычныя крытэрыі, найперш фанетычныя і граматычныя. Гэтыя крытэрыі належаць цалкам да ўнутрымоўных і, як правіла, не падлягаюць знешнім, сацыяльным уплывам так моцна, як, напрыклад, лексічныя і семантычныя моўныя з'явы, асабліва ў галіне тэрміналогіі, тапанімікі і інш.

## 2.2. СТАРАЖЫТНАЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІ ПЕРЫЯД (10–14 стст.)

Значная колькасць пісьмовых літаратурных помнікаў гэтага перыяду прыпадае на 12–13 стст., сярод якіх пераважаюць тэксты рэлігійнага зместу і тэксты дзелавой літаратуры (граматы, судзебнікі, дагаворы і г.д.). Асобнае месца займае мастацкі твор "Слова пра паход Ігаравы", напісаны невядомым аўтарам у 12 ст. (гл.: БУЛАХОВ 1989). Да якога прымыкаюць нешматлікія іншыя мастацкія творы, напрыклад, "Павучэнне Уладзіміра Манамаха", "Маленне Данііла Заточніка". Адпаведна наяўным старажытнарускім тэкстам у літаратурнай мове гэтага перыяду вылучаецца як мінімум тры стылі, разнавіднасці: дзелавы, царкоўна-кніжны, свецка-літаратурны (гл.: ЛЕВИН 1964, 19; МЕЩЕРСКИЙ 1995, 34), хаця зроблены спробы больш дэталёва ахарактарызаваць пісьмовую мову нашых продкаў з жанравага пункту гледжання шляхам падзелу яе на драбнейшыя стылі, у прыватнасці на наступныя: летапісна-хранікальны, дакументальна-дзелавы, эпісталярны, царкоўна-богаслужэбны, размоўны (гл.: РУСИНОВ 1977, 174); ці нават на асобныя літаратурныя жанры тыпу аповесць, казанне, прытча, гутарка, плач, павучэнне, слова і г.д. (гл.: КОЛЕСОВ 1989, 13).

Неадназначным з'яўляецца і вызначэнне генетычных каранёў старажытнарускай мовы, ацэнкі якіх буйнейшымі спецыялістамі вагаюцца ад уключэння яе ў разнавіднасць стараславянскай мовы да азначэння як уласна рускай, старажытнарускай. Нагадаем, што тэрмін *старажытнаруская* звязваецца не з сучаснай рускай мовай (велікарускай), а адносіцца ў роўнай ступені да ўсіх усходнеславянскіх моў, г.зн. беларускай, рускай, украінскай (гл.: ХАБУРГАЕВ 1980, 16). Так, адзін з буйнейшых

спецыялістаў у галіне рускай мовы і яе гісторыі акадэмік А.А.Шахматаў лічыў, што слоўнік не толькі старажытнарускай, але і сучаснай рускай мовы больш чым напалавіну складаецца з элементаў старaславянскай мовы (гл.: ШАХМАТОВ 1941, 288). Яшчэ большую долю старaславянізмаў (звыш двух трэцяў) у адносінах да іншых элементаў выдзяляў у сучаснай рускай мове акадэмік Л.У.Шчэрба (гл.: ВИНОГРАДОВ 1978, 68).

Іншыя ж навукоўцы бачылі ў старажытнарускай мове ўласна ўсходнеславянскую аснову, адводзілі старaславянізмам перыферыйную ролю (гл.: ОБНОРСКИЙ 1960, 142–144). Па падліках прыхільнікаў дадзенага пункту гледжання ў сучаснай рускай мове налічваецца толькі 10% старaславянізмаў (гл.: ФИЛИН 1981, 58). Падобныя істотныя разыходжанні ў месцы старaславянізмаў як у старажытнарускай, так і ў сучаснай рускай мовах тлумачацца разуменнямі таго, што такое запазычанае слова; некаторыя моваведы лічаць незапазычаным словам любую лексему, у якой да замежнага кораня далучаецца, у прыватнасці, рускі афікс (параўн.: *журнал – журнальный, декрет – декретный, трамвай – трамвайщик* і г.д., дзе другія члены прыведзеных пар слоў адносяцца да незапазычанняў; гл.: ШАНСКИЙ 1972, 82).

Трэба мець на ўвазе таксама тое, што старажытнарускія тэксты розных жанраў прасякнуты старaславянскімі кампанентамі ў неаднолькавай ступені (гл.: ВИНОКУР 1959, 44–57): найбольшая колькасць старaславянізмаў адзначаецца ў тэкстах рэлігійнага зместу (гл.: ГОРШКОВ 1983, 111), менш у мастацкіх, яшчэ менш у дзелавых тэкстах і амаль адсутнічаюць яны ў эпісталярным жанры, прадстаўленым, у прыватнасці, берасцянымі граматамі, якія знойдзены ў наш час, але напісаны ў 14–18 стст., пераважна на тэрыторыі Ноўгарада, а таксама і Віцебска. Мову гэтых грамат вывучае цэлая навука берасталогія (гл.: ЯНИН 1975; ЗАЛИЗНЯК 1995), і яны ўжо не адносяцца да агульнага старажытнарускага перыяду.

У залежнасці ад таго, якія помнікі даследуе той або іншы спецыяліст, ён робіць і адпаведныя высновы аб характары старажытнарускай літаратурнай мовы і яе , такім чынам, мэтазгодна ацэньваць дыферэнцыравана, з улікам літаратурнага жанру помніка ці нават асаблівасцяў канкрэтнага твору (гл.: СУДАВИЧЕНЯ, СЕРДОБИНЦЕВ, КАДЬКАНОВ 1984, 30–46). Калі ж характарызаваць гэтую мову ў цэлым, сінкрэтычна, уключна ўсе яе стылі, жанры, то можна заключыць, што яна з'яўляецца па сваёй прыродзе змешанай: "дзічку" – старажытнарускай мове "прышчэплена" культурная галінка – старaславянская мова (гл.: ЛАРИН 1975, 109; МЕЩЕРСКИЙ 1981, 40; ТРУБЕЦКОЙ 1987, 515), у выніку чаго атрымалася даволі ўдалая старажытнаўсходнеславянская літаратурная мова, традыцыі якой найбольш паслядоўна доўжыць сучасная руская літаратурная мова, у меншай ступені сучасная украінская літаратурная мова і амаль страціла пераемнасць з ёй (старажытнарускай мовай) памянёныя традыцыі сучасная беларуская літаратурная мова.

З лінгвістычнага пункту гледжання адрозненні паміж старaславянскай і старажытнарускай мовамі тычацца і фанетычных рыс, і граматычных, і лексічных. У адносінах да фанетычных рыс адрозненні палягаюць, напрыклад, у тым, што няпоўнагалосным спалучэнням старaславянскай мовы *ра, ре, ла, ле* адпавядаюць поўнагалосныя спалучэнні старажытнарускай мовы *оро, ере, оло* (параўн. адпаведна: *страна* і *сторона, среда* і *середа, власть* і *волость* і да т.п.), г.зн. што першыя словы з прыведзеных пар запазычаны са старaславянскай мовы, а другія з'яўляюцца ўласна старажытнарускімі (гл.: ГУРСКІ 1962, 8–9). Старaславянскім спалучэнням гукаў *жд, шч (щ)* адпавядаюць старажытнарускія *ж, ч* (параўн.: *чуждый* і *чужой, мощь* і *мочь* і да т.п.), пачатковым старaславянскім літарам (гукам) *ра, е, ю* адпавядаюць старажытнарускія *ро, о, у* (параўн.: *равный* і *ровный, единый* і *один, юродивый* і *урод* і да т.п.). У спалучэнні з плаўнымі гукамі *р, л* рэдукаваныя (скарочаныя) гукі *ъ, ь* у старaславянскай мове знаходзіліся пасля гэтых плаўных

(параўн.: стараславянскія *търгъ, смьрть*, з якіх утварыліся сучасныя рускія словы *торг, смерть* і да т.п.). Стараславянскаму насаваму гуку *е* ў канцы назоўнікаў і прыметнікаў старажытнарускай мовы адпавядаў гук яць (ѣ), стараславянскае *из земл* – старажытнарускае *из землѣ* (сучаснае рускае *из земли*, беларускае *з зямлі).*

Што тычыцца марфалагічных адрозненняў, то прыметнікі давальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду пасля цвёрдых зычных у стараславянскіх формах мелі канчатак *-уему* (*доброуему* і да т.п.), а ў старажытнарускіх – *-ому* (*доброму* і да т.п.), а ў месным склоне адпаведна канчаткі *-ем* і *-ом* (*добрем* і *добром* і да т.п.). У давальным і месным склонах прыметнікаў адзіночнага ліку жаночага роду для стараславянскай мовы меўся канчатак *-и (добреи* і да т.п.) , а для старажытнарускай *-ои (доброи* і да т.п.). У назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду дзеепрыметнікі цяперашняга часу стараславянскай мовы мелі канчатак *-ы (несы* і інш.*),* а ў старажытнарускай *-а (неса* і інш., у сучаснай рускай мове *несущий* і інш.*).* У дзеясловаў цяперашняга часу адзіночнага і множнага ліку 3-й асобы для стараславянскай мовы зазначаўся канчатак *-тъ* , а ў адпаведных старажытнарускіх словах – канчатак *-ть* (адпаведна *несетъ* і *несеть* і да т.п.). Несцяжоным формам імперфекта стараславянскай мовы адпавядалі сцяжоныя формы старажытнарускай (стараславянскае *несеахъ* і старажытнарускае *несяхъ* 'я нес').

У дачыненні да сінтаксісу трэба адзначыць, што сказы стараславянскай мовы будаваліся па больш складаных структурах, у той час як сказы старажытнарускай мовы складаліся шляхам іх злучэнняў пры дапамозе злучнікаў *и, а* і інш.

Даволі шмат адрозненняў паміж стараславянскай і старажытнарускай мовамі фіксуецца ў галіне лексікі (напрыклад, стараславянскія словы *истина, выя, сведетель* і старажытнарускія адпаведнікі *правда, шея, послух*), якая тым не менш у значнай ступені мае ў сучаснай рускай мове стараславянскую афарбоўку (гл.: УЛУХАНОВ 1972, 19–21), а таксама ў галіне фразеалогіі (гл.: СУПРУН 1991,40–43). Пэўную частку слоўніка старажытнарускай мовы складалі запазычанні з замежных моў, найперш грэчаскай (*алтарь, ангел, библия, икона* і інш.), а таксама скандынаўскіх (*тивун, ябеда, якорь, ларь* і інш.), прыбалтыйска-фінскіх (*веретено, серп, грамота, крест, бес* і інш.), цюркскіх (*хан, яр, хоругвь, кощей* і інш.; гл.: ЯКУБИНСКИЙ 1953, 331–350). З дапамогай стараславянскіх суфіксаў *-ени, -ани, -ств (-еств), -ость, -тель, -ущ, -ющ, -ащ, -ящ* і інш. у старажытнарускай мове (і сучаснай рускай ) створана вельмі шмат абстрактных лексем.

Найбольш відным прадстаўніком старажытнарускай літаратуры на тэрыторыі тагачаснай Беларусі быў Кірыла Тураўскі (12 ст.), які на біблейскія тэмы сваімі творамі (казанні, павучанні, словы, малітвы) склаў узоры красамоўных тэкстаў у духу грэка-візантыйскай школы (гл.: КОЖИНОВА 1999, 24–27) з шырокім выкарыстаннем алегорый, сімвалаў, паўтораў, рытарычных пытанняў, параўнанняў, воклічаў і інш. Пісьменнік ужываў таксама складаныя сінтаксічныя канструкцыі са злучнікавай і бяззлучнікавай сувяззю паміж часткамі сказа, у другой з якіх нярэдка тлумачыцца сэнс першай, напрыклад, *И земля семена питающи, зеленую траву ражаеть: весна убо есть красная вера Христова*... гл.: КОВАЛЕВСКАЯ 1978, 86). Ідыястыль (індывідуальная манера выкладання думак, пачуццяў з дапамогай мовы) Кірылы Тураўскага сваімі вобразнымі і выяўленчымі сродкамі з'яўляецца вельмі блізкім да мовы знакамітага ананімнага твора "Слова пра паход Ігаравы", што дало падставу рускаму даследчыку Б.Зотаву лічыць Кірылу Тураўскага аўтарам гэтага мастацкага твора (гл.: БЕЛАРУСІКА 1992, 89).

З іншых старажытнарускіх помнікаў, напісаных на тэрыторыі Беларусі, можна назваць тэкст на крыжы Ефрасінні Полацкай, зроблены Лазарам Богшам (1161), надпісы на камянях у гонар полацкага князя Барыса (12 ст.), а таксама шматлікія

граматы і дагаворы 13–14 стст. (гл.: ЖУРАЎСКІ 1987, 30–31). Помнікі рэлігійнага зместу, перапісаныя на Беларусі ў гэты час (Полацкае, Аршанскае, Друцкае, Тураўскае і інш. евангеллі), а таксама "Жыціе Ефрасінні Полацкай" належаць па сваёй мове да стараславянскіх.

Хаця старажытнаруская літаратурная мова была адзінай для ўсіх усходніх славян, ужо ў 13 ст. ў некаторых пісьмовых дакументах дзелавога характару адзначаюцца ўласна беларускія моўныя рысы, якія адсутнічаюць у рускай і ўкраінскай мовах. Да такіх лінгвістычных адметнасцяў адносяцца, напрыклад, у "Дагаворнай грамаце" смаленскага князя Мсціслава Давідавіча з Рыгай і Готландам словы *колы, погинути, частина* і інш., *у* нескладовае на месцы *в* у закрытым складзе *уздумал, у низ* і інш., поўныя займеннікавыя формы прыметнікаў, што адсутнічаюць у іншых старажытнарускіх помніках. Падобныя рысы зазначаюцца і ў іншых дзелавых пісьмовых дакументах (Грамата князя Гердэна, 1264 г., Грамата полацкага князя Ізяслава, 1265 г., Грамата смаленскага князя Фёдара Расціслававіча, 1281 г., і інш.; гл.: МОЖЕЙКО, ИГНАТЕНКО 1988, 82–84). Выдзеленыя моўныя адметнасці значна пашырыліся ў пісьмовых помніках 14–15 стст., што дае падставу разглядаць многія з іх як уласна беларускія (старабеларускія) і пачынаць адлік узнікнення старабеларускай мовы з 14 ст. і працягваць працэс яе грамадскага функцыянавання да пачатку 18 ст., цягам якога пачаў закладвацца падмурак для ўзнікнення новай беларускай літаратурнай мовы без непасрэдных арганічных сувязяў з кніжнымі тэкстамі, напісанымі на старабеларускай мове, бо арыентацыя новай беларускай літаратурнай мовы скіравана на жывыя беларускія гаворкі, а не на стараславянскія і старажытнарускія моўныя традыцыі.

## 2.3. СТАРАБЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА (14–18 стст.)

### 2.3.1. УСТУПНЫЯ ЗАЎВАГІ

На дадзены перыяд прыпадае не толькі ўзнікненне самабытнай славянскай мовы – беларускай у яе раннім (старабеларускім) варыянце і яе росквіт у 16–17 стст., але і з'яўленне на Беларусі першых сярод усходніх славян друкаваных кніг, першых выдадзеных перакладаў на старабеларускую мову біблейскіх тэкстаў (другіх ва ўсім славянскім свеце пасля чэшскіх друкаваных перакладаў), першых ва ўсёй усходняй Славіі апублікаваных граматык у Вільні, тагачаснага культурнага цэнтра Беларусі, якім ён заставаўся яшчэ і на пачатку 20 ст.; першых сілаба-танічных вершаў С.Полацкага, пашыраных затым і ў колішняй Масковіі; першых сярод усходніх славян друкаваных лексікаграфічных прац Лаўрэнція Зізанія; узорнага для ўсёй Еўропы юрыдычнага помніка Статута Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ); першых сярод славянскіх моў помнікаў, напісаных на беларускай мове арабскай графікай (кітабы); першых лацінскамоўных паэм, прысвечаных беларускім рэаліям ("Песня пра зубра" М.Гусоўскага); стварэнне непараўнальна большай у супастаўленні з іншымі ўсходнімі славянамі колькасці помнікаў дзелавой літаратуры (амаль 600 тамоў Літоўскай метрыкі, пераважная большасць якіх напісана на старабеларускай мове, дзяржаўнай мове ВКЛ).

Усе згаданыя напрамкі развіцця старабеларускай пісьменнасці належаць да прыярытэтных не толькі ў дачыненні да ўсходніх славян, але і да ўсёй Славіі. Моўныя сродкі выражэння, выпрацаваныя тагачаснымі беларускімі асветнікамі, філосафамі, пісьменнікамі, перакладчыкамі, навукоўцамі, дзяржаўнымі дзеячамі і інш., поўна адлюстроўваюць усе разнастайныя бакі жыцця нашых продкаў, аб чым

сведчыць жанравая і стылістычная дыферэнцыяцыя старабеларускай мовы. Пры гэтым пісьмовыя помнікі 14–16 стст. разглядаюцца многімі навукоўцамі як беларуска-ўкраінскія, бо пісьмовая літаратурная мова была на той час адзінай для беларусаў і ўкраінцаў (гл.: МЕДВЕДЬ 1955, 28; ПЛЮЩ 1958, 130–131; ПЛЮЩ 1971, 140), хаця перавага ўласна беларускіх элементаў была ўсё ж большай у помніках 14–15 стст. (гл.: БУЛАХОВСЬКИЙ 1956, 30).

## 2.3.2. АСАБЛІВАСЦІ МОВЫ РЭЛІГІЙНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Першае месца сярод гэтага жанру старабеларускай мовы як па колькасці створанага, так і па часе напісання належыць Францыску Скарыне (1490–1551), аднаму з буйнейшых асветнікаў і энцыклапедыстаў Еўропы 16 ст. (гл.: ФРАНЦЫСК СКАРЫНА 1988). Яго 23 кнігі "Бібліі" на 2440 старонках выдадзены ім на працягу 1517–1525 гг. у Празе і Вільні і палажылі пачатак кнігадрукавання ў усходніх славян, перакладу на родныя мовы біблейскіх тэкстаў, распрацоўцы новых відаў літаратурных жанраў – прадмоў і пасляслоўяў, шырокаму выкарыстанню беларускамоўных сродкаў сярод стараславянскай моўнай асновы рэлігійнай літаратуры, пашырэнню асветы сярод простых людзей, якім найперш прызначаліся біблейскія выданні Ф.Скарыны, беларускага інтэлектуальнага волата.

Агульная характарыстыка мовы друкаваных прац Ф.Скарыны рознымі навукоўцамі з вышынь нашага часу не з'яўляецца адназначнай. Ацэнкі гэтай мовы ў цэлым вагаюцца ад аднясення яе да ўласна старабеларускай (АЛЕКСЮТОВІЧ 1958, 66) да ўключэння з пэўнымі агаворкамі ў склад стараславянскіх (царкоўнаславянскіх) або старажытнарускіх помнікаў (СОБОЛЕВСКИЙ 1980, 62). Паміж гэтымі полюснымі ацэнкамі знаходзіцца большасць характарыстык мовы Ф.Скарыны як змешанай, або старабеларускай з моцным стараславянскім субстратам (КАРСКИЙ 1962, 261), або стараславянскай са шматлікімі беларускімі кампанентамі (ВОЎК-ЛЕВАНОВІЧ 1927, 11) на ўсіх моўных узроўнях (фанетычным, марфалагічным, лексічным, сінтаксічным), або як беларускі варыянт царкоўна-славянскай мовы (ЯСКЕВИЧ 1995, 126–127). Так, на фанетычным узроўні ў мове тэкстаў Ф.Скарыны дастаткова шырока прадстаўлены пераход зычнага *в* у *ў* нескладовае (*у сваихъ справахъ, против усходу солнца, вже, вмерли* і г.д.), што адлюстроўвала тагачаснае жывое беларускае маўленне і характэрна для сучаснай беларускай мовы (гл.: СВЯЖЫНСКІ 1984, 32–34). Ускосным выражэннем якання служыць напісанне літары *е* на месцы малога юса, стараславянскага насавога гука (*хотечи, месець* і інш.); на месцы стара-славянскіх спалучэнняў *гы, кы, хы* часта ўжываюцца спалучэнні *ги, ки, хи ( врагы – враги, глубокыи – глубокии, книгы – книги* і г.д.), якія ўзніклі пад уплывам іх вымаўлення. Часта ў скарынінскіх творах выкарыстоўваецца прыстаўны галосны гук *и (игде, ильвица, иржати* і г.д.), радзей прыстаўныя зычныя *в, г (вуж, гусеница* і інш.). Зрэдку ў напісанні слоў адлюстроўваецца аканне (*золотарев, даканаеть* і інш.), зацвярдзенне губных на канцы слоў, а таксама зацвярдзенне шыпячых і *р* (*жывъ , вашымъ , юдифъ , брытва, трыдцети* і інш.). Больш шырока прадстаўлены ў мове Ф.Скарыны ўласна беларускія марфалагічныя і лексічныя элементы, на якія ў цэлым прыпадае каля 37% супраць 63% стараславянскіх элементаў (БУЛЫКА, ЖУРАЎСКІ, СВЯЖЫНСКІ 1990, 219). Сінтаксічная будова сказаў у скарынінскіх тэкстах грунтуецца пераважна на структурных схемах стараславянскай мовы, хаця адзначаецца ўплыў з боку чэшскай мовы, з якой рабіліся пераклады пражскіх выданняў біблейскіх тэкстаў, а таксама з боку жывых беларускіх гаворак (гл.: РАПАЦЭВІЧ 2000, 15–17). Слоўнікавы склад мовы Ф.Скарыны налічвае звыш 10 000 розных лексічных адзінак, акрамя таго, каля 3000 онімаў (геаграфічныя назвы, прозвішчы людзей), шмат запазычанняў са

стараславянскай мовы і іншых моў (грэчаскай і лацінскай – *аритметика, граматика, риторика* і інш., чэшскай – *врабець, жадость, лебка* і інш., польскай – *велебность, розмаитый, подлугъ* і інш., нямецкай – *барва, вага, фарба* і інш.), шырока прадстаўлены таксама лексічная варыянтнасць і полісемія (гл.: АНІЧЭНКА 1977–1994).

Выданні Ф.Скарыны характарызуюцца высокай паліграфічнай якасцю, шматлікімі гравюрамі, застаўкамі, ініцыяламі (гл.: ГРАВЮРЫ 1990). Так, у пражскіх выданнях зафіксавана 45 гравюр і каля тысячы ініцыялаў, а ў віленскіх выданнях 537 заставак, віньетак і 1027 ініцыялаў (гл.: ФРАНЦЫСК СКАРЫНА 1988, 408), што рабіла біблейскія тэксты зрокава матываванымі, лягчэйшымі для іх успрымання і для засваення зместу. Значна бліжэйшымі для жывой беларускай мовы ў параўнанне з уласна біблейскімі перакладамі з'яўляюцца прадмовы і пасляслоўі Ф.Скарыны, выдадзеныя ў наш час асобнай кнігай (СКАРЫНА 1990).

З другой паловы 16 ст. да нашага часу дайшла выданая ў Нясвіжы праца Сымона Буднага (1530–1593) "Катэхізіс", дзе ў пытаннях і адказах прадстаўлены асноўныя веды аб хрысціянскім веравучэнні ў выглядзе цытат са стараславянскіх помнікаў і беларускага аўтарскага тэксту, прычым беларускамоўнымі элементамі прасякнуты і стараславянскія (царкоўна-славянскія) цытаты. У дадзеным помніку акрамя шырокага ўжывання *ў* нескладовага, характэрнай фанетычнай рысы беларускага маўлення, на месцы *у* адзначаецца імкненне адлюстраваць на пісьме вуснае вымаўленне цвёрдых шыпячых (*иншых, чужыи, маючы* і г.д.); у формах множнага ліку назоўнікаў ужываецца характэрны для сучаснай беларускай мовы канчатак *-ы (-и) (городы, речи* і г.д.), дзеясловы другой асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу маюць пераважна канчатак *-шь* (*бачешь, кажешь* і г.д.), а не *-ши*, тыповы для стараславянскай мовы; дзеясловы трэцяй асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга часу пішуцца з тыповым беларускім канчаткам *-ть (мовить, шкодить* і г.д.) або *-тъ* (*будутъ, разумеютъ* і г.д.). У С.Буднага значна часцей, чым у Ф.Скарыны сустракаюцца ўласна беларускія словы і паланізмы, а радзей стараславянізмы, прычым запазычаныя словы часта таксама тлумачацца ці перакладаюцца на палях кнігі або ў самім тэксце беларускімі лексемамі (*стихиа – початки, владыка – господаръ , обида – кривда* і г.д.). Беларускае жывое маўленне ў зазначаным творы С.Буднага адлюстравана больш паслядоўна і шырока ў параўнанні з папярэднімі выданнямі рэлігійных твораў у Беларусі (біблейскія кнігі Ф.Скарыны, ананімныя "Псалтыр", "Песня песень", "Есфір" і інш.) і яшчэ ў большай ступені прадстаўлена ў "Евангеллі", перакладзеным у 1580 г. на старабеларускую мову В.Цяпінскім (1540–1604). Ужо ў самім напісанні такіх слоў, як *серца, хто, месцо* і інш., адзначаецца выразная тэндэнцыя зблізіць напісанне з жывым беларускім вымаўленнем. Побач з выдзеленымі вышэй беларускімі асаблівасцямі мовы "Катэхізіса" С.Буднага ў мове В.Цяпінскага часта ўжываецца канчатак *-у* ў назоўніках мужчынскага роду роднага склону адзіночнага ліку (*веку, страху, богу, закону* і г.д.), форма інфінітыва прадстаўлена не толькі стараславянскім канчаткам *-ти*, але і ўласна беларускім *-ть* (*погинуть, мовить, спытать* і г.д.), адзначаюцца спробы перакладаць дзеепрыметнікі прошлага часу незалежнага стану з суфіксамі *-вш, -ш* дзеепрыметнікамі з суфіксамі *-н, -л*, што характэрныя для сучаснай беларускай літаратурнай мовы (*погибшаго – згубленаго, погибшим – погинулым* і інш.), а дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі *-ом, -ям* на адпаведныя дзеепрыметнікі з суфіксамі *-н, -т* (*вметаемо – вкидывано* і інш.). Асабліва кідкай беларускай рысай "Евангелля" В.Цяпінскага служаць уласна беларускія словы, шырока выкарыстаныя нашым асветнікам (*блюзнерство, лекаръ, гумно, вельми, прикрость, ростани, краина, ботъ* і інш.).

Нягледзячы на даволі шырокую варыянтнасць напісання слоў, у В.Цяпінскага праяўляецца выразная тэндэнцыя стандартызаваць беларускую арфаграфію. Скіраваць яе ў рэчышча пэўных норм, уніфікаваць апошнія (гл.: КЛІМАЎ 1997, 21). Беларускія фанетычныя, марфалагічныя, лексічныя адметнасці біблейскага тэксту В.Цяпінскага істотна збліжаны з тагачасным жывым маўленнем, што дае падставу разглядаць гэты помнік, як найбольш тыповы прадстаўнік старабеларускай літаратурнай мовы 16 ст., гэтаксама як і рукапісны рэлігійны твор 15 ст. "Чэцці-Менеі" (1489), напісаны паповічам Бярозкам з Навагародка (гл.: СОБОЛЕВСКИЙ 1980, 61, 68), дзе адносна багата адлюстравана беларуская моўная стыхія.

Спецыфічным помнікам старабеларускай літаратуры з'яўляюцца пераважна рукапісныя рэлігійныя мусульманскія тэксты, напісаныя татарамі, што жывуць на Беларусі з 14 ст. да сённяшніх дзён. Старэйшыя з гэтых помнікаў (кітабы, хамаілы) узыходзяць да 16 ст. і маюць памер ад 222 старонак да 601 старонкі рукапіснага тэксту, дзе беларуская мова, якой карысталіся татары, што забылі сваю родную мову, занатавана арабскімі літарамі. З 24 апісаных рукапісаў толькі адзін належыць да дзелавых дакументаў (распіска 1759), а астатнія ўяўляюць сабой па змесце культавыя тэксты, малітвы, апісанні абрадаў і рытуалаў, пераклады адрыўкаў Карана*на беларускую мову і г.д. Лінгвістычная каштоўнасць зазначаных помнікаў палягае ў тым, што арабскімі літарамі паслядоўна і выразна перадаюцца многія фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, якія нерэгулярна, спарадычна фіксаваліся ў старабеларускіх помніках, напісаных кірыліцай. Да такіх асаблівасцяў належаць аканне, яканне, перадача *г* фрыкатыўнага (шчылiннага), афрыкатаў *дж, дз*, мяккага *с* і інш. Па тэкстах гэтых помнікаў назіраецца паступовы пераход ад марфалагічнага да фанетычнага прынцыпу напісання слоў (гл.: АНТОНОВИЧ 1968, 362). Акрамя ўласна беларускіх лексем у дадзеных помніках прадстаўлена і беларуская фразеалогія (*галаву звесіць, сэрца баліць, чыніць паклон* і інш.; гл.: НЕСТЕРОВИЧ 1983). У дачыненні да іншых славянскіх моў арабскае пісьмо прымянялася для запісу тэкстаў толькі на польскай і сербскай мовах.

### 2.3.3. МОВА ДЗЕЛАВОЙ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Да помнікаў дзелавой старабеларускай літаратуры адносяцца розныя пісьмовыя акты, граматы, дагаворы, запісы, кодэксы, законы, позвы, статуты, судзебнікі, уставы, прывілеі, трыбуналы, перапіскі і г.д., што дайшлі да нашага часу ў вялікай колькасці (каля 600 тамоў Літоўскай метрыкі 14–18 стст.). Побач з захаваннем рыс старажытнарускага пісьма, яго канцылярскіх моўных штампаў у дзелавых помніках найбольш адэкватна адлюстроўваліся адметнасці беларускіх народных гаворак, усталёўвалася беларуская грамадска-палітычная і юрыдычная тэрміналогія, асабліва ў знакамітым Статуце Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) у трох яго рэдакцыях (1529, 1566, 1588) і "Трыбунале" 1581 г. (гл.: АЛЕХНА 1999, 12), што служаць узорамі тагачаснай беларускай дзелавой пісьменнасці. З Літоўскай метрыкай (дарэчы на літоўскай мове ў ёй няма аніводнага дакумента, бо літоўская мова на той час яшчэ не мела пісьмовай формы, ліцвінамі называліся жыхары колішняй Беларусі, сучасныя ж літоўцы называліся аукшайтамі, жамойтамі) збліжаюцца па сваіх моўных асаблівасцях шматлікія актавыя кнігі беларускіх гарадскіх упраў, судоў. Так, толькі ў Віленскі і Віцебскі цэнтральныя архівы ў другой палавіне 19 ст. для захавання старажытных помнікаў дзелавой літаратуры дастаўлена каля 20 000 актавых кніг (гл.: ЖУРАЎСКІ 1967, 24).

Уплыў жывой беларускай мовы нарастае ў помніках дзелавой пісьменнасці, заснаванай на старажытнарускай кніжнай традыцыі, па меры іх набліжэння да

нашых дзён. Адначасова ў зазначаных помніках адлюстроўваецца і ўплыў традыцый лацінскага, а таксама польскага справаводства, многія моўныя канцылярскія штампы, перанятыя з гэтых моў.

Рысы жывой беларускай народнай гаворкі, напрыклад, у мове Статута ВКЛ 1588 г., які ў адрозненне ад дзвюх папярэдніх рукапісных рэдакцый (1529, 1566) быў надрукаваны, адрэдагаваны канцлерам Л.Сапегам, што напісаў да яго і прадмову, дзе зазначаў годнасць беларускай мовы: "Если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем".

Тут адзначаюцца і арфаграфічныя, і фанетычныя, і марфалагічныя, і лексічныя, і сінтаксічныя асаблівасці тагачаснай беларускай гутарковай мовы. Літара яць (ѣ), традыцыйна ўжытая ў папярэдніх помніках пад уплывам стараславянскай і старажытнарускай моў і не звязаная з рэальнымі гукамі беларускага маўлення, часта замяняецца літарай *е (вера, ку соромоте, на дорозе* і інш.), якая выкарыстоўваецца тут таксама на месцы малога юса (ѧ), напрыклад, *боронечи, дети, тежар* і інш., што ўскосна адлюстроўвала яканне, характэрнае для цяперашняй беларускай літаратурнай мовы. Зацвярдзенне шыпячых і *р* праяўляецца як варыянтнае напісанне побач са старажытнарускімі формамі (*крывда – кривда, иншый – инший, учынити – учинити* і г.д.). Выбухны гук *г* у запазычаных словах перадаецца дыграфам *кг (кгвалт, кгмах, кгрунт* і г.д.), афрыката *дж* перадаецца спалучэннем літар *дч (приеждчати* і інш.).

У марфалагічным складзе мовы Статута ВКЛ сістэма скланення назоўнікаў з'яўляецца вельмі блізкай да сістэмы сучаснай беларускай літаратурнай мовы і грунтуецца не на асновах слоў, што было характэрным для старажытнарускай мовы, а на родах назоўнікаў. Шырока ўжываецца, напрыклад, канчатак *-у (-ю)* для назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку роднага склону (*посагу, скарбу, огню* і інш.), нават у дачыненні да канкрэтных назоўнікаў тыпу *столу;* побач са старажытнарускімі канчаткамі *-ы (-и)* выкарыстоўваюцца канчаткі *-ове (-еве),* прыдатныя для колішняй беларускай гутарковай мовы і некаторых сучасных беларускіх народных гаворак (*войтове, стрыеве* і інш.) у назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку назоўнага склону; назоўнікі жаночага роду на *-і* (сучаснае трэцяе скланенне) ужываюцца ў родным склоне множнага ліку толькі з канчаткам *-ей (бортей, речей* і інш.). Для дзеяслоўных форм інфінітыва на *-ть* характэрнымі служаць варыянты на *-ти (шкодить – шкодити, ходить – ходити* і інш.), а дзеясловы з асновай на зычны амаль заўсёды ўжываюцца з сучаснымі канчаткамі беларускай літаратурнай мовы *-ти (-чи),* напрыклад, *вести, мочи* і г.д.

Надзвычай багатай у Статуце ВКЛ служыць лексіка, якая адлюстроўвае разнастайныя тэматычныя групы рэалій тагачаснага жыцця беларусаў, а таксама абстрактныя паняцці, што перадаюцца (выражаюцца) сродкамі канцылярска-юрыдычнай мовы: субстантываванымі прыметнікамі (*гребельное, ланцужное* і інш.), аддзеяслоўнымі назоўнікамі (*баченье, гвалтованье* і інш.), назоўнікамі на *-ство* і *-ость (тивунство, шляхетство, безпечность, хтивость* і інш.). Даволі значным пластом лексікі Статута служаць паланізмы (*варунок, маетность* і інш.), лацінізмы (*персона, фундамент* і інш.; гл.: СТАТУТ 1989, 502–506).

У мове "Трыбунала" (1586) напісанне зацвярдзелых зычных пераважае традыцыйныя напісанні, дзе зацвярдзеласць не перадавалася; відавочна фіксуюцца пераходы *у – ў* праз ужыванне літары *в (вжо, вчастник* і інш.). У назоўным склоне множнага ліку субстантывы мужчынскага роду дамінантным канчаткам служыць *-ы (-и).* Тады як канчатак *-ове* сустракаецца рэдка, звужаецца і ўжыванне кароткіх

формаў прыметнікаў, не характэрных для сучаснай беларускай літаратурнай мовы і якія па частаце ўжывання тут суадносяцца як 12 : 23 (гл.: ПАЛЯШЧУК 1999, 11).

Сярод формаў дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу ўжываюцца словы з суфіксам *-н* (*выволеный, осужоный* і інш.). Аснову слоўнікавага складу “Трыбунала” ўтварае спрадвечна беларуская лексіка, на якую прыпадае каля 80% усяго лексікона помніка. Сярод запазычанняў, гэтаксама як і ў Статуце ВКЛ, пераважаюць паланізмы. Складаныя сінтаксічныя канструкцыі помнікаў дзелавой пісьменнасці характарызуюцца наяўнасцю некалькіх звычайна аднародных частак, звязаных падпарадкавальнымі адносінамі, што адрознівае структуру сказаў дадзеных тэкстаў ад структуры сказаў іншых жанраў старабеларускай літаратурнай мовы.

У цэлым для помнікаў дзелавой пісьменнасці характэрным служыць сутыкненне кніжнай традыцыі, што ўсталёўвалася на падмурку старажытнарускай пісьмовай формы і ўласна беларускіх пісьмовых нормаў, заснаваных на народнай гутарковай мове, элементы якой, дарэчы, па колькасных паказчыках пераважаюць адпаведныя элементы кніжнага жанру.

У параўнанні з рэлігійнымі тэкстамі дзелавая беларуская пісьменнасць, нягледзячы на свой у пэўнай ступені штучны характар, была бліжэй да жывога беларускага гутарковага маўлення, бо прызначалася для шырокага выкарыстання ў практычнай дзейнасці людзей. У мове дзелавых дакументаў вельмі слаба прадстаўлены старaславянскія элементы, традыцыйна скарыстаныя ў рэлігійнай літаратуры, у прыватнасці ў Ф.Скарыны. Напрыклад, тут амаль адсутнічаюць непаўнагалосныя формы слоў тыпу *врагъ*, канчатак *-аго* ў прыметнікаў роднага склону мужчынскага і ніякага роду, тыпу *добраго*, дзеепрыметнікі на *-щ* і інш. Найперш праз дзелавую пісьменнасць беларуская мова зрабілася дзяржаўнай у ВКЛ, панавала ва ўсіх сферах жыцця тагачаснага беларускага грамадства, была мовай афіцыйных знешніх зносін, у прыватнасці з Расіяй нават пры аб’яднанні ВКЛ і Польшчы ў адну дзяржаву Рэч Паспалітую, калі беларуская мова ў 1696 г. была выведзена з сацыяльнага ўжытку і фактычна адзінай дзяржаўнай мовай зрабілася польская.

### 2.3.4. МОЎНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ МАСТАЦКАЙ, МЕМУАРНАЙ, НАВУКОВАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Літаратурна-мастацкія творы на старабеларускай мове прадстаўлены найперш перакладнымі тэкстамі “Александрыя”, “Траянская вайна”, “Аповесць аб Трыстане”, “Аповесць аб Баве”, “Гісторыя аб Атыле”, “Хроніка Стрыйкоўскага”, арыгінальнымі паэтычнымі тэкстамі С.Полацкага, А.Рымшы, а таксама творамі невядомых аўтараў, публіцыстычнымі тэкстамі (“Прамова Мялешкі”, “Ліст да Абуховіча” і інш.). У тэкстах гэтага жанру назіраецца змяшэнне ў неаднолькавых прапорцыях розных моўных стыхій: старaславянскай, старажытнарускай, уласна беларускай, польскай, сербскай, што, зразумела, залежала ад аўтараў кожнага канкрэтнага помніка. Так, у беларускіх вершах С.Полацкага адзначаецца моцны ўплыў старaславянскай мовы, у “Аповесці аб Трыстане” і “Аповесці аб Баве” – уплыў сербскай мовы, з якой зроблены пераклад. Тым не менш у перакладных творах зазначаецца вызваленне ад старaславянскага ўплыву і адлюстроўваюцца разнастайныя сродкі жывой беларускай народнай мовы (гл.: ЖУРАЎСКІ 1983, 58). Найбольш адэкватна жывое беларускае маўленне адлюстравана ў палемічных творах “Прамова Мялешкі”, “Ліст да Абуховіча” і інш. Нягледзячы на моўную пярэстасць літаратурна-мастацкіх твораў у цэлым, тут можна выдзеліць тэндэнцыю да ўжывання разнастайных фанетычных, марфалагічных, лексічных, сінтаксічных элементаў уласна беларускай мовы, што

выкарыстоўваліся і самастойна, і ў якасці варыянтаў стараславянскай, старажытнарускай, польскай і іншых моў, з сінтэзу якіх складалася пераважная колькасць старабеларускіх тэкстаў. У літаратурна-мастацкіх творах на старабеларускай мове даволі выразна прасочваецца тэндэнцыя да фанетызацыі пісьма: шырока прадстаўлены пераход пачатковага *у* у *ў* нескладовае шляхам выкарыстання літары *в (вже, вчинити, вдаръ* і г.д.), зацвярдзенне шыпячых і *р (жывот, крычати* і г.д.), наяўнасць літары *э,* якая перадавала цвёрдасць папярэдніх зычных (*везэне, пэвне,сэрцэ* і г.д.) і не ўжывалася ў рэлігійных тэкстах, а толькі зрэдку сустракалася ў помніках дзелавой пісьменнасці.

Марфалагічныя асаблівасці ўласна беларускай мовы рэалізаваліся ў выглядзе канчаткаў *-у (-ю)* для назоўнікаў роднага склону мужчынскага роду адзіночнага ліку і канчаткаў *-ы (-и)* гэтай жа часціны мовы множнага ліку назоўнага склону (гл.: СОЛОХОВ 1992, 9–11). У дзеясловаў трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу першага спражэння часта адсутнічае канчатак *-ть (-тъ*), тыпу *еде, иде, кличе* і г.д., а ў інфінітыве сустракаюцца формы без канцавога *-и (будовать, коштовать, ховать* і г.д.). Шырока ўжываюцца словаўтваральныя сродкі беларускай мовы як у выглядзе прэфіксаў (*забити, погинути, збудовати* і г.д.; гл.: ЖУРАЎЛЁВА 2000, 12), так і ў выглядзе асноваскладання тыпу *всемогучый, доморослый, дееписецъ, малобачный, листопадъ* і інш. (гл.: ПРЫГОДЗІЧ 2000, 142–160).

У лексіцы помнікаў дадзенага жанру пераважаюць поўнагалосныя формы тыпу *беремя, соромъ* і інш., спарадычна адлюстроўваецца аканне (*паламали, дерева* і інш.), адзначаюцца ўжыванні *е* на месцы юса малога, перадача *г* выбуховага дыграфам *кг*, тыпу *строкгий, пожекгнати се* і інш. У некаторых помніках пазначаецца націск, што дае ўяўленне аб акцэнталагічнай сістэме тагачаснай беларускай літаратурнай мовы (*рóбити, товáриство, литéра* і інш.). Ужывальнымі служаць клічныя формы назоўнікаў (*брате, жено, пане* і інш.), якія ў сённяшняй беларускай літаратурнай мове выкарыстоўваюцца зрэдку, хаця яшчэ на пачатку 20 ст., у прыватнасці ў "Беларускай граматыцы для школ" Б.Тарашкевіча, адзначаліся як граматычная норма.

Паўднёва-заходнія беларускія гаворкі паўплывалі на ўжыванне канчатка *-мо* ў загадным ладзе першай асобы множнага ліку дзеясловаў (*даймо, позволмо* і інш.). Неўсталяванасць пісьмовых формаў адлюстравана ў помніках наяўнасцю шматлікіх варыянтаў напісання слоў, тыпу *уже – ужэ – вже – вжэ* і інш. (гл.: ЖУРАЎСКІ 1967, 263–282), тут жа (у помніках) сустракаецца і шмат уласна беларускіх лексем (*бусел, хустка, хвароба, тыдень* і інш.).

З мемуарнай літаратуры да нашага часу захаваліся рукапісныя творы канца 16 – пачатку 17 ст. "Дзённік" Ф.Еўлашоўскага і "Дыярыуш" (грэчаскае слова 'дзённік') А.Філіповіча. Першы помнік (некаторымі даследчыкамі ён ацэньваецца як "Гістарычныя запіскі"; гл.: СВЯЖЫНСКІ 1990) характарызуецца змешанай макаранічнай беларуска-польскай мовай як у галіне лексікі, так і ў галіне граматыкі і арфаграфіі. Польскі ўплыў зазначаецца ў перадачы не характэрных для беларускай мовы выбуховага *г* дыграфам *кг* (*кгвалтовне, зкгинути* і інш.), ужываннем польскага суфікса *-ек (вторек, замек* і інш.), канчаткам *-ем* творнага склону назоўнікаў адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду (*громем, летем* і інш.), канчаткам *-е* прыметнікаў назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку (*велке справы, таке паны* і інш.), постпазітыўным ужываннем прыметнікаў у ролі атрыбутываў (*владычество пинске* і інш.). Асабліва шмат паланізмаў назіраецца ў сферы лексікі (*ницъ , теразъ , шидити* і інш.). У "Дыярыушы" А.Філіповіча багата адлюстраваны асаблівасці жывых беларускіх гаворак як у фанетыцы, граматыцы (напрыклад, канчатак *-и* ў назоўнікаў меснага склону адзіночнага ліку, тыпу *на дереви, в столици*

і інш.), так і ў лексіцы (*кайданы склепикъ* і інш.), аднак і тут адзначаецца даволі моцны ўплыў з боку польскай і лацінскай моў. Паланізмы беларускай літаратурнай мовы ў помніках 17 ст. давалі падставу некаторым польскім навукоўцам разглядаць яе ў якасці разнавіднасці, ці варыянта, польскай мовы.

Летапісныя зборнікі, у якіх адлюстраваны пераважна быт нашых продкаў (захавалася каля 20 зборнікаў), з моўнага пункту гледжання не мелі ў цэлым істотных адрозненняў ад помнікаў старажытнарускай літаратуры, аднак таксама ў той ці іншай ступені зведалі ўплыў беларускіх гаворак, асабліва Баркулабаўскі летапіс (16–17 стст.): зацвярдзелы *р* (*на мору, соберу* і інш.), прыстаўны *в,* шмат беларусізмаў (*збоже, жито, страва, скарб, рада, цибуля* і інш.; гл.: ВАЙТОВІЧ 1977). Большасць летапісаў дайшло ў двух рэдакцыях – кароткай і пашыранай, прычым калі кароткія спісы мала чым адрозніваюцца ад старажытнарускіх арыгіналаў, з якіх яны часам перапісаны (напрыклад, "Аб паходжанні рускай зямлі", "Аб кіеўскіх князях" і інш.), то пашыраныя рэдакцыі адлюстроўвалі і тагачаснае беларускае жыццё (гл.: ШАКУН 1960, 77), напісаны мовай, бліжэйшай да беларускіх гаворак, а таксама да мовы дзелавой літаратуры (гл.: ЧАМЯРЫЦКІ 1969, 100), бо не маюць амаль старaславянскіх моўных рыс і адносна мала моўнастылістычных асаблівасцяў старажытнарускіх летапісаў (архаізмы, звароты, парны лік і інш.). Аднак беларускія летапісы побач з рысамі мясцовых народных гаворак прасякнуты паланізмамі, якія нярэдка тлумачацца ў тэксце ўласна беларускімі лексемамі.

Першай друкаванай граматыкай, якая з'явілася сярод усходніх славян "Кграматыка словеньска языка..." (Вільня, 1586), папярэднічалі пераклады з грэчаскіх і лацінскіх граматык, "Буквар" І.Фёдарава (Львоў, 1574). Але ўжо ў 1596 г. на тэрыторыі тагачаснай Беларусі ў Вільні апублікавана "Грамматика Словенска..." Лаўрэнція Зізанія, дзе апісаны фанетыка і марфалогія царкоўнаславянскай (стараславянскай) мовы. У дадзенай навуковай працы старабеларуская мова ўжыта ў якасці метамовы (мова, з дапамогай якой апісваецца іншая мова, у прыватнасці царкоўна-славянская), тут адлюстраваны і з'явы жывых беларускіх гаворак: зацвярдзелы *р* , аканне, замена яць на *е,* беларускія лексемы *але, друк, праца, певны, добре* і інш. У гэтым жа годзе Л.Зізаній выдаў у Вільні і першую сярод усходніх славян друкаваную лексікаграфічную працу "Лексис...", дзе ў рэестравай (левай) частцы слоўніка змешчана 1061 царкоўна-славянскае слова, а ў тлумачальнай, ці перакладной (правай), частцы – каля 2000 слоў, шмат з якіх з'яўляюцца ўласна беларускімі (*лазня, чкеревики, соромъ, рада, фарба, сюды, населникъ* і інш.). У Вільні ж у 1619 г. выходзіць з друку і знакамітая "Граматики Словенския правилное Синтагма..." Мялеція Сматрыцкага, якая аж да выдадзенай у 1755 г. "Рускай граматыкі" М.В.Ламаносава служыла галоўным лінгвістычным падручнікам сярод усходніх славян, па якім вучыліся граматыцы некалькі пакаленняў нашых продкаў і якую сам М.В.Ламаносаў назваў "вратами учености". Праца прысвечана апісанню стараславянскай мовы, але, як і ў Л.Зізанія, метамовай паслужыла старабеларуская мова, дзе адзначаюцца рысы жывой беларускай гаворкі, усталёўваецца навуковая тэрміналогія ў галіне мовазнаўства, частка гэтых тэрмінаў захавалася да нашага часу ва ўсіх усходнеславянскіх мовах (параўн.: *спряженіе, имя, родъ , склоненіе* і інш.).

## 2.3.5. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СТАРАБЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

У старабеларускіх рукапісах і друкаваных кнігах даволі разнастайна прадстаўлены жывыя моўныя з'явы, прыдатныя для беларускіх гаворак і не характэрныя ў цэлым для рускай і ўкраінскай моў. Да адметных фанетычных з'яў беларускай мовы адносяцца аканне, якое мае агульнабеларускую прыроду (гл.: КАРСКИЙ 1955, 133), і яканне, дзеканне і цеканне, праўда, адлюстраваныя толькі спарадычна з-за існаваўшай пісьмовай традыцыі; гукі *ы, и* на месцы рэдукаваных *ъ, ь* *(молоды, злы, би, пи* і інш.); чаргаванне складоў *ро, ло, ле* з *ры, лы, ли* ў становішчы паміж зычнымі (*кровъ – крыви, глотка – глытати, блескъ – блищати* і г.д.); прыстаўны *и* перад збегам зычных, першы з якіх санорны (*иржа, имгла* і інш.); выпадзенне *и* ў пачатку слоў (*мети* з *имети* і інш.); пераход *е* ў *о* ( *прышолъ, чотыры* і інш.); афрыката *дж*, перададзеная або непасрэдна, або апасродкавана (*ездживаль*, *розъезжчал* і інш.); фрыкатыўны *г* у адрозненне ад выбуховага, што перадаваўся дыграфамі *кг, гк, гг;* падаўжэнне зычных (*веселле* і інш.); зацвярдзелыя *р, ж, ш, ч (прамо, божэ, иншыхъ, чыи* і г.д.); пераход *в, у, л* у *ў* нескладовае, перададзены праз *в (вжо*, *прышовъ* і інш.); прыстаўныя зычныя гукі *в, г* (*восень, гусеница* і інш.); зацвярдзелыя губныя на канцы слова (*семъ, сыпъ* і г.д.) і інш.

З марфалагічных рыс жывой беларускай гаворкі, што праніклі на старонкі старабеларускіх тэкстаў, адзначым скланенне некаторых назоўнікаў тыпу *боль, тень, жаль, насыпъ* і г.д. па ўзору мужчынскага роду, ужыванне канчаткаў *-у (-ю)* у назоўнікаў роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду (*народу, броду* і інш.; гл.: МОВА 1988, 10, 20), канчатак *-ы* ў назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду множнага ліку назоўнага склону (*городы, болоты* і інш.). У сучаснай рускай мове ў падобных выпадках захаваўся парны лік (*два города, два яблока* і г.д.). Адлюстраваны ў старабеларускіх помніках формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў на *-ейш* пасля шыпячых (*мягчейший* і інш.), формы дзеясловаў тыпу *стерегчи, несе, ляжъ, киньмо*, клічны склон (гл.: КАРСКИЙ 1956, 115), службовыя словы *хай, але, або, каб* і інш. З сінтаксічных з'яў трэба адзначыць такія асаблівасці ўласна беларускай мовы, як шырокае ўжыванне поўных формаў прыметнікаў у функцыі выказніка (гл.: БУЛАХАЎ 1971, 31); спалучэнне лічэбнікаў *два, тры, чатыры* з назоўнікамі ў родным склоне множнага ліку (*тры столы* і г.д.); ужыванне сінтаксічных канструкцый *тыпу лепшъ за его, вышелъ от всих, пошолъ до дому, сталося ему* і інш. (гл.: КРАСНЕЙ, ШАКУН 1986, 50–53); выкарыстанне ўласна беларускіх злучнікаў у складаных сказах *што, нібы, калі, як* і інш. (гл.: ГРУЦА 1970, 40–41). Беларускі сінтаксіс гэтага часу зведаў таксама ўплыў з боку стара-славянскай, старажытнарускай і некаторых іншых славянскіх моў, у прыватнасці, чэшскай і сербскай, з якіх рабіліся пераклады на беларускую мову рэлігійных і свецкіх твораў. Сінтаксіс жа астатніх славянскіх моў выпрацоўваўся і шляхам запазычанняў разнастайных канструкцый з заходнееўрапейскіх моў, у тым ліку з лацінскай і грэчаскай (гл.: BAUER 1972).

Слоўнікавы склад старабеларускай мовы характарызуецца надзвычайнай стракатасцю, у ім выдзяляецца найперш пласт спрадвечна беларускай лексікі, куды ўваходзяць агульнаіндаеўрапейскія словы (*маці, сонца, брат, тры, новы* і г.д.), агульнаславянскія (*я, чалавек, дзед, зіма* і інш.), агульнаўсходнеславянскія (*сабака, куст, сорак, сям'я* і інш.), уласна беларускія (*волат, вежа, сейбіт, араты* і інш.), а таксама шматлікія запазычанні з розных моў: польскай (*ксендзъ, кгузик , бадати, теразъ* і інш.), нямецкай (*войтъ, жебракъ, махляръ, ярморокъ* і інш.), грэчаскай (*библия, ересь, идол , монах* і інш.), лацінскай (*сенсъ, гоноръ,*

*интересъ, литера* і інш.), старaславянскай (*азъ, стража, мзда, храмъ* і інш.), цюркскіх (*атаман, товар, торба, ярлык* і інш.), літоўскай (*пуня, стодола, груца, жвір* і інш.), яўрэйскай (*пасха, равинъ, талмудъ* і інш.; гл.: ГІСТАРЫЧНАЯ ЛЕКСІКАЛОГІЯ 1970, 81–144; БУЛЫКА 1980; БУДЗЬКО 1999, 11). У цэлым беларускія запазычанні тычацца пераважна адцягненай лексікі з польскай, нямецкай, лацінскай моў (гл.: БУЛЫКА 1986, 67).

Для старабеларускай мовы характэрным служыць і ўзнікненне ў ёй устойлівых выразаў (фразеалагізмаў), частка якіх захавалася са стараславянскай мовы (*соль земли, глас божий* і інш.), а частка з'яўляецца ўласна беларускай, патрапіўшая ў тэксты з народна-гутарковага маўлення і фальклору (*як свинья в болоте, ходити по людях* і інш.).

Пасля вывядзення беларускай мовы з сацыяльнага ўжытку ў Рэчы Паспалітай польскімі ўладамі ў 1696 г. спецыяльнай пастановай польскага сейма беларуская пісьменнасць рэзка звузіла сферу свайго выкарыстання. Апрача адзінкавых пісьмовых помнікаў дзелавога характару да нашага часу захавалася нязначная колькасць (некалькі дзесяткаў) беларускамоўных уставак у польскамоўныя драматычныя тэксты, дзе тыя персанажы, што прадстаўлены пераважна беларускімі мужыкамі, гавораць на роднай мове, а шляхта, паны – на польскай. У асобных п'есах, напрыклад, "Камедыі" К.Марашэўскага на беларускую мову прыпадае каля трох пятых усяго тэксту твора (гл.: Беларуская мова 1994, 246).

На працягу ўсяго 18 ст. і пачатку 19 ст. беларуская мова існавала пераважна ў вуснай форме, але не толькі як сродак зносін вяскоўцаў, але і як магутнейшы сродак самавыражэння беларускага народа, бо менавіта ў гэты час прадоўжылася і надзвычай шырока разгарнулася вусная народная творчасць у выглядзе песеннага фальклору, казак, паданняў, легендаў, прыказак і прымавак, вершаваных твораў, жартаў і інш., збор якіх актыўна пачаўся ў 19 ст. і працягваецца ў наш час, у выніку чаго мы маем адзін з багацейшых у Еўропе збор (ужо надрукавана звыш 40 тамоў) вуснай народнай творчасці, творчасці беларусаў. Мова фальклору і мова драматычных твораў 18 ст. практычна не мае арганічных сувязяў з кніжнымі традыцыямі старабеларускай мовы, з яе шматлікімі іншамоўнымі ўкрапінамі, прадстаўленымі фанетычнымі, арфаграфічнымі, марфалагічнымі, лексічнымі, сінтаксічнымі запазычаннямі, змешаных у розных прапорцыях у многіх пісьмовых помніках 14–18 стст. Пераважна жывая народная аснова нешматлікіх пісьмовых тэкстаў на беларускай мове 18 ст. паслужыла матываваным стымулам для ўзнікнення ў 19 ст. новай беларускай літаратурнай мовы.

## 2.4. НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА (19 ст. – НАШ ЧАС)

### 2.4.1. МОВА БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Пісьмовыя творы на новай беларускай літаратурнай мове ўзнікаюць у першай палавіне 19 ст. Яны ствараюцца на грунце беларускіх народных гаворак у надзвычай неспрыяльных сацыяльных варунках, калі Беларусь знаходзілася ў складзе Расіі, не мела ні сваёй сістэмы нацыянальнай адукацыі (дарэчы, не маем яе яшчэ і сёння), аніякіх нацыянальных культурных устаноў. Афіцыйная інфармацыйная прастора (справаводства, права, адукацыя і інш.) была амаль цалкам рускамоўнай. Не толькі расійскае чынавенства, якое панавала на Беларусі, але і многія расійскія навукоўцы не прызнавалі факта існавання беларускай мовы, лічылі яе разнавіднасцю рускай

(У.Даль, А.Сабалеўскі, І.Сразнеўскі, А.Патабня і інш.), польскія вучоныя разглядалі беларускую мову як варыянт або дыялект польскай (А.Рыпінскі, С.Ліндэ і інш.; гл.: ГРИНБЛАТ 1968, 22–24), а некаторыя знакамітыя славісты, напрыклад Ф.Міклошыч, – нават украінскай (гл.: ШАКУН 1995, 16) ці пераходны тып мовы ад рускай да ўкраінскай (гл.: LEHR-SPLAWIŃSKI 1954, 110). Дарэчы і ўкраінская мова некаторымі даследчыкамі разглядалася як дыялект рускай, "малорусским наречием" (гл.: ШАХМАТОВ 1916, 7; ПОТЕБНЯ 1973, 21), а не самастойнай славянскай мовай.

Але і ў такіх складаных умовах узнікаюць ананімныя вершаваныя беларускія творы, што перад тым як быць надрукаванымі існавалі ў вуснай і рукапіснай формах. Гэтыя творы набываюць папулярнасць, функцыянуюць у розных варыянтах. Найбольш значнымі з першых помнікаў новай беларускай літаратурнай мовы служаць ананімныя паэмы "Тарас на Парнасе" і "Энеіда навыварат", аўтарства якіх далёка не бясспрэчна і непераканаўча прыпісваецца зараз адпаведна В.Равінскаму і К.Вераніцыну (гл.: БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА 1988, 447, 454).

Абедзве апублікаваныя паэмы з'яўляюцца ўзорам новай беларускай літаратурнай мовы, вобразнай, выразнай, самавітай, маляўнічай, са сваімі адметнымі выяўленчымі сродкамі, якія па-вясковаму проста выкарыстоўваюцца ў прыватнасці для абмалёўкі высокіх боскіх істот. Напрыклад, у "Энеідзе навыварат" гаворыцца пра багіню Венеру, якая "завыла, саплямі змазала ўсё рыла", ці пра Нептуна – "гарэлку добра ён сцябаў", ці пра Эола – "лапці лыкам падплятаў" і інш.

Своеасаблівы моўны натуралізм быў прыдатны і першым аўтарскім творам на беларускай мове (А.Баршчэўскі, А.Рыпінскі, У.Сыракомля, Я.Чачот і інш.). Гэтыя літаратурныя помнікі мастацкай літаратуры напісаны лацінскім алфавітам (гл.: СТАНКЕВІЧ 1939, 11) і добра адлюстроўвалі такія рысы беларускіх народных гаворак, як аканне, яканне, дзеканне, цеканне, канчатак *-ць* у дзеясловаў трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу і інш., што служаць і зараз нормамі беларускай літаратурнай мовы. Знешняе падабенства (дзякуючы лацініцы) з польскамоўнымі тэкстамі паслужылі прычынай таго, што надрукаваныя беларускія творы не прыцягнулі ўвагі з боку шырокай расійскай грамадскасці. Тым не менш беларуская літаратурная мова нават без належнай унармаванасці і навуковай апрацоўкі стыхійна ўсталёўвала свае нормы і правілы найперш у галіне мастацкай творчасці і публіцыстыкі (на лацініцы надрукаваны сем нумароў газеты "Мужыцкая праўда" К.Каліноўскага і, як мяркуюць, яго ж "Ліст з-пад шыбеніцы". У беларускай лацініцы выпрацаваны графічныя сродкі для абазначэння мяккіх зычных, перадачы цвёрдых шыпячых і іншых адэкватных сродкаў фанетычнага пісьма (гл.: ЯНКОЎСКІ 1983, 52–54).

У першай палавіне 19 ст. зроблены спробы стварыць граматыкі новай беларускай мовы, але падрыхтаваныя адпаведныя працы П.Шпілеўскага, К.Нядзведскага не былі надрукаваны ў Маскве, куды яны былі перададзены, па палітычных матывах (беларуская мова не прызнавалася самастойнай расійскімі ўладамі). Па гэтай жа прычыне першапачаткова не быў апублікаваны на беларускай мове пераклад з польскай мовы паэмы А.Міцкевіча "Пан Тадэвуш", зроблены В.Дуніным-Марцінкевічам, які справядліва лічыцца адным з фундатараў новай беларускай літаратурнай мовы, бо стварыў на ёй цэлы шэраг выдатных мастацкіх твораў (паэмы "Гапон", "Шчароўскія дажынкі", п'есы "Залёты", "Пінская шляхта" і інш.), што з'яўляюцца класічнымі, хрэстаматыйнымі, вывучаюцца і зараз як узоры літаратурнага мастацтва беларускай мовы. В.Дунін-Марцінкевіч з'яўляецца і заснавальнікам беларускай драматургіі. У яго творах зафіксаваны многія фанетычныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, лексічныя асаблівасці сучаснай беларускай літаратурнай мовы (аканне, яканне, дзеканне, цеканне, пераход *л, в* у *ў,* па-

доўжаныя зычныя, прыстаўныя галосныя і зычныя і інш.), якія хаця і не заўсёды паслядоўна, але ўводзіліся пісьменнікам у літаратурны і моўны ўжытак. У некаторых яго творах сустракаецца даволі шмат дыялектызмаў (*крупнік* 'крупяны суп', *мэрам* 'быццам' *наўзнак* 'навыварат' і інш.), паланізмаў і русізмаў, што ў значнай ступені тлумачыцца не толькі адпаведным уплывам суседніх моў, але і стылістычнымі мэтамі. Напрыклад, русізмы выразна характарызуюць мову станавога прыстава Кручкова з "Пінскай шляхты" (параўн.: *"Обжалованный Протосовицкий имеет зараз же уплотить пошлин 20..."* і інш.), якія часта перадаюцца ў беларускім афармленні (*вочарадзь, пацярацьь* і інш.).

Закладзеныя В.Дуніным-Марцінкевічам падваліны новай беларускай літаратурнай мовы надалей умацоўваюцца другім класікам і фундатарам айчыннай літаратуры Ф.Багушэвічам, што пісаў: "Мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая... Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі". У вершах паэта (зборнікі "Дудка беларуская", Кракаў, 1891; "Смык беларускі", Познань, 1894) перададзена мова простага селяніна з шырокім выкарыстаннем фальклорных і дыялектных элементаў (*пасталы* 'лапці', *шляма* 'брага' і інш.). Тут паслядоўна праводзяцца такія рысы беларускай мовы, як чаргаванне *г, к, х/ з, ц, с*, дзеканне, цеканне, афрыката *дж,* канчатак *-у* для абстрактных назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку роднага склону і *-а* для адпаведных форм канкрэтных назоўнікаў (параўн.: *смутку,* але *катла* і інш.), канчатак *-ы (-і)* прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, займеннікаў мужчынскага роду назоўнага склону (*цёмны, усякі, трэці* і інш.), суфіксы інфінітыва *-ць* з асновай на галосны (*чытаць, хадзіць* і г.д.) і *-ці* з асновай на зычны (*лезці, прапасці* і г.д.) і інш. Побач з лексікай, звязанай з сялянскім побытам, даволі шырока прадстаўлена грамадска-палітычная лексіка (*адвакат, акт, павестка, асэсар, пратакол* і інш.). Беларускамоўныя творы В.Дуніна-Марцінкевіча і Ф.Багушэвіча непасрэдна паўплывалі на літаратурную творчасць нашага генія Янкі Купалы.

Далейшая выпрацоўка і ўдасканальванне нормаў новай беларускай літаратурнай мовы замацоўваецца ў новых мастацкіх творах 19 ст. А.Гурыновіча, Я.Лучыны, А.Ельскага, Ядвігіна Ш., М.Косіч і інш. Апрача ўжо існаваўшых такіх жанраў, як гутаркі, драматычныя і паэтычныя творы, уводзяцца ў грамадскі ўжытак апавяданні, пераклады, прадмовы, пачала выкарыстоўвацца кірыліцкая графіка, у прыватнасці, у літаратурных творах Я.Лучыны, якой, аднак, не перадавалася цвёрдасць шыпячых і *р*, аканне, падваенне зычных і інш., але паслядоўна адлюстроўваецца яканне, дзеканне, цеканне, адсутнасць канечнага *-й* у прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, адпаведных займеннікаў (мужчынскі род, адзіночны лік, назоўны склон), размежаванне канчаткаў дзеясловаў 1-га і 2-га спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку (*рубіць*, але *піша, друкуе*, але *варыць, засне,* але *лечыць* і да т.п.). Згодна з рускай традыцыяй ужываюцца ў згаданых тэкстах непатрэбныя і адсутныя ў сучаснай беларускай літаратурнай мове літары *ѣ, и,* ъ.

Значна пашыраецца лексічны склад новай беларускай літаратурнай мовы, уводзяцца неалагізмы тыпу *прызаконіць, бацьказабойства* і інш., дыялектызмы, запазычанні з іншых моў, хаця некаторыя пласты старажытнай беларускай лексікі, напрыклад саматызмы, змяніліся мала (гл.: КОЗЫРЕВ 1983, 88).

У пачатку 20 ст. пачалі друкаваць свае мастацкія творы Цётка, Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч. У 1906 г. ў Пецярбургу распачала работу першае беларускае выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца", у Вільні выходзіць першая легальная беларуская газета "Наша доля", пасля забароны якой (апублікавана толькі пяць нумароў) стала друкавацца тут жа газета "Наша ніва", выходзяць таксама газеты "Гоман", "Дзянніца" і інш., узнікаюць новыя беларускія выдавецтвы "Наша хата",

“Мінчук”, “Вясёлка”, “Палачанін” і інш., выходзяць з друку часопісы “Саха”, “Лучына” і інш. (гл.: АЛЕКСАНДРОВІЧ 1971, 163–164). Побач з новымі драматычнымі творамі К.Каганца “Модны шляхцюк” і Я.Купалы “Паўлінка”, “Раскіданае гняздо” з’яўляюцца пераклады на беларускую мову рускай і сусветнай літаратуры (творы Л.Талстога, І.Тургенева, М.Горкага, О.Уайльда, Т.Шаўчэнкі і інш.), што спрыяла значнаму ўзбагачэнню мастацка-выяўленчых сродкаў беларускай літаратурнай мовы. Вырашальную ролю на развіццё апошняй, канчатковае станаўленне яе нормаў адыграла мастацкая дзейнасць Я.Купалы, Я.Коласа (гл.: АБАБУРКА, 1987, 47), М.Багдановіча – ураджэнцаў цэнтральнай Беларусі, гаворкі якой і былі пакладзены ў аснову сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Моўныя сродкі згаданых класікаў беларускай літаратуры выкарыстоўваюцца не толькі ў якасці інфармацыі, для мастацка-выяўленчых мэтаў, але ўжываюцца і як магутны чыннік нацыянальнага абуджэння, эфектыўны фактар выхавання, самавыражэння і самаідэнтыфікацыі беларусаў. У творчасці гэтых беларускіх мастакоў арганічна сплаўляюцца і дыялектызмы, і запазычанні, і фальклорныя элементы, і аказіяналізмы, і літаратурныя набыткі папярэднікаў. Спробы пісаць на рускай мове не далі плёну ні Я.Коласу, ні М.Багдановічу, і толькі сродкамі роднай мовы іх паэзія ўзнялася на сусветныя вяршыні сваёй вобразнасцю, маляўнічасцю, мілагучнасцю. Хаця ў мове класікаў беларускай літаратуры і сустракаюцца дыялектызмы, але радзей, чым у іншых паэтаў і пісьменнікаў 19 – пачатку 20 ст., як правіла, дарэчы ўжываюцца запазычанні з іншых моў, найперш з суседняй польскай і рускай (акрамя М.Багдановіча), і ў той жа час шырока адлюстроўваюцца формы жывых гаворак (параўн.: канчаткі *-а, -е* ў дзеясловаў 2-га спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку тыпу *збура, ахопе* і да т.п.), што не стала, аднак, нормай сучаснай беларускай літаратурнай мовы (параўн.: *збурыць, ахопіць* і да т.п.), канчатак *-ма* ў дзеясловаў загаднага ладу *(кіньма, уцякайма* і да т.п.), клічныя формы назоўнікаў (*браце, песняру, саколе, чалавеча* і да т.п.). Выпрацоўваюцца абстрактныя вобразныя сродкі, ужываецца асананс, алітэрацыя, уводзяцца актавы, пентаметры, рандо, санеты, трыялеты, тэрцыны (паэзія М.Багдановіча). Пашыраецца ўжыванне моўных выяўленчых сродкаў праз выкарыстанне такіх стылістычных прыёмаў, як параўнанні, эпітэты (у Я.Купалы – *воблакі сівыя, хмары вараныя* і інш.; у М.Багдановіча – *срэбны туман, агністы меч* і інш.; у Я.Коласа – *прайшлі агні і моры, як летні туман* і інш.), індывідуальна-аўтарскія прыдаткі (у Я.Купалы – *ногі-мімаходы, брахунец-адвакат* і інш.), перапрацаваныя фразеалагізмы (у Я.Купалы – *вераб’ю па калена, быць у воку рэдзькай* і інш.), узбагачаюцца сінанімічныя найменні, часцей сустракаюцца аказіяналізмы, у прыватнасці асноваскладанні (у Я.Коласа – *цёмнакрыліць, бурапена, санцавей, срэбраплынны* і інш.; у У.Дубоўкі – *цемрашал, дабрабыт* і інш.; у М.Зарэцкага – *самаадчуванне* і інш. (гл.: ПРЫГОДЗІЧ 1990, 64–65), прычым некаторыя з гэтых аказіяналізмаў сталі здабыткам сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

На падмурку выпрацаваных літаратурных норм і выяўленчых сродкаў, распрацаваных у творах класікаў беларускай літаратуры, новая беларуская мова імкліва праявіла і рэалізавала свае багатыя творчыя патэнцыі ва ўсіх кірунках літаратурных мастацкіх жанраў: паэзія (М.Чарот, П.Броўка, П.Глебка, М.Танк, П.Панчанка, А.Куляшоў, Л.Геніюш, Н.Гілевіч, Р.Барадулін і інш.), проза (Ц.Гартны, К.Чорны, М.Гарэцкі, М.Зарэцкі, М.Лынькоў, Я.Брыль, І.Мележ, У.Караткевіч, В.Быкаў, І.Шамякін, У.Арлоў і інш.), драматургія (У.Галубок, К.Крапіва, А.Маўзон, А.Макаёнак, А.Петрашкевіч, А.Дудараў і інш.).

Мова згаданых і іншых майстроў беларускага слова зрабілася ўзорнай, класічнай, хрэстаматыйнай, цытатамі з яе ілюструюцца і правілы беларускай

літаратурнай мовы, і яе нормы ў разнастайных лінгвістычных апісаннях, і характарызуецца семантыка лексем у тлумачальных слоўніках, на дадзеным моўным матэрыяле праводзіцца марфалагічны і сінтаксічны разбор сказаў у вучэбных мэтах. Жыве беларускае мастацкае слова і ў замежжы як у паэтычнай творчасці (Н.Арсеннева, А.Барскі, М.Сяднёў, А.Салавей і інш), так і ў празаічнай (С.Яновіч, Г.Валкавыцкі, М.Гайдук, М.Лукша і інш.; гл.: БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ 2000).

## 2.4.2. МОВА ПУБЛІЦЫСТЫЧНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Да першых публіцыстычных тэкстаў на новай беларускай літаратурнай мове адносяцца і вершаваныя, і празаічныя пісьмовыя помнікі, што доўжылі традыцыі старабеларускай мовы, у прыватнасці "Прамова Мялешкі", "Ліст да Абуховіча" і інш., у якасці літаратурнага жанру, але адрозніваюцца ад апошніх сваімі моўнымі рысамі. Да першых вершаваных публіцыстычных тэкстаў належаць, напрыклад, "Гутарка Данілы са Сцяпанам", да празаічных – нелегальная друкаваная газета "Мужыцкая праўда" К.Каліноўскага, празаічныя гутаркі "Пра багацце і беднасць", "Дзядзька Антон", "Сход", "Размова пана з хлопам", "Гутарка старога дзеда", адозвы царскага ўрада на беларускай мове да народу ("Прамова Старавойта", "Бяседа старога вольніка" і інш.).

У пачатку 20 ст. выходзяць легальныя беларускія газеты і часопісы з публіцыстычнымі матэрыяламі побач з вершамі, апавяданнямі, афіцыйнымі паведамленнямі, спецыяльнымі публікацыямі і інш. Найбольш характэрнай моўнай асаблівасцю публіцыстычнай літаратуры 19 – пачатку 20 ст. служыць далейшае збліжэнне з жывой гутарковай беларускай мовай, чым апраўдваецца ўжыванне мясцовых слоў, фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных асаблівасцяў асобных дыялектаў, агульная неўнармаванасць беларускай мовы, уплыў з боку польскай, рускай і нават украінскай моў (параўн.: *гарны, жальезница* і інш.). З пункту гледжання сучасных нормаў беларускай літаратурнай мовы для публіцыстычных твораў гэтага часу характэрнымі з'яўляюцца амаль паўсюдная і рэгулярная перадача *ў* нескладовага на месцы *л, в*, дзеканне, цеканне, адносна стабільная перадача акання, якання на пісьме, часта выкарыстоўваецца канчатак *-ы (-і)* у назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, адпаведных займеннікаў (*багаты, мужыцкі, другі* і да т.п.), шырока ўжываецца ўласна беларуская паўсядзённая лексіка (*атрута, валацуга, надта, спыняць* і інш.), а таксама шмат слоў (часта запазычаных), звязаных з грамадска-палітычным жыццём краіны (*губернатар, указ, рэкрут, сенат* і інш.).

Сінтаксіс мовы газеты "Мужыцкая праўда", іншых публіцыстычных твораў набліжаны да сінтаксісу сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у наяўнасці складаназалежныя і складаназлучаныя сказы, часткі якіх звязаны злучнікамі *каб, што, калі, бо* і інш. Нягледзячы на моўную стракатасць розных публіцыстычных помнікаў 19 ст., супрэжанай з уплывам дыялектаў беларускай мовы, польскай і рускай моў, назіраецца даволі бачная тэндэнцыя адлюстроўваць важнейшыя фанетычныя, граматычныя, лексічныя рысы жывога беларускага маўлення ў новым літаратурным жанры – публіцыстычным.

У публіцыстычных выданнях пачатку 20 ст. пашыраецца разнавіднасць друкаваных матэрыялаў. Побач з уласна публіцыстычнымі творамі з'яўляюцца нататкі, нарысы, хроніка, інфармацыйныя паведамленні, навукова-папулярныя артыкулы, рэцэнзіі, агляды і да т.п., што спрыяла выпрацоўцы новых сродкаў моўнага выражэння. З 1912 г. газета "Наша ніва" пачынае друкавацца толькі на

кірыліцы (да гэтага часу паралельна выкарыстоўвалася і лацініца). У публіцыстычнай літаратуры замацоўваюцца такія характэрныя фанетычныя рысы беларускай мовы, як аканне, хаця ненаціскны галосны *о* захоўваецца ў некаторых формах дзеяслова (*знало, ведало* і інш.), у запазычаных словах *(ботаніка, конституцыя* і да т.п.) і ў некаторых іншых выпадках, перадача на пісьме *дж,* цвёрдага *р,* пераход *л, в* у *ў* нескладовае, чаргаванне *г, к, х / з, ц, с* перад галоснымі пярэдняга раду, дзеканне, цеканне, падваенне зычных, канчатак *-ы* ў назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду множнага ліку назоўнага склону (*рэбры, словы, сталы* і да т.п.), формы на *-ць* у дзеясловаў з асновай на галосны, *-ці* – у дзеясловаў з асновай на зычны (*жыць, працаваць, памерці, сесьці* і да т.п.). У далейшых нумарах газеты "Наша ніва" паслядоўна перадавалася мяккасць зычных (*сьнег, зьвер* і да т.п.), а ў запазычаных словах – мяккасць *л* (*парлямент, філёзаф* і да т.п.).

Сінтаксічная структура сказа развіваецца ў бок пашырэння падпарадкавальных сувязяў паміж часткамі складанага сказа. У лексіцы публіцыстычных твораў адзначаецца тэндэнцыя да замены запазычаных слоў уласна беларускімі (*кампраміс – згода, арнамент – узор, арамат – пах* і інш.). На старонках "Нашай нівы" з'явіліся назвы беларускіх месяцаў, што ўжываюцца і зараз, шмат калек з польскай і рускай моў, побач з лексічнымі запазычаннямі з гэтых жа моў (параўн.: з рускай мовы – *атчот, стацця, вучэбнік* і інш., замененыя пазней на ўласна беларускія лексемы *справаздача, артыкул, падручнік* і інш.; з польскай – *імпэт, гмах, плён* і інш., што ўжываюцца ў наш час як добра і арганічна засвоеныя словы, як уласна беларусізмы). Істотна папоўніўся пласт адцягненай лексікі, утворанай з дапамогай суфіксаў *-ізм (-ызм), -асць, -ств (-цтв), -нн- (-е)*, параўн.: *аптымізм, фанатызм, класіцызм грамatнасць, сучаснасць, пісьменства, чалавецтва, вызваленне, адраджэнне* і г.д.

Ужо першыя гады існавання масавай беларускай публіцыстычнай прэсы, і ў прыватнасці газеты "Наша ніва" (1906–1915), сталі вырашальнымі для фарміравання пісьмовых літаратурных нормаў беларускай мовы (гл.: КРАМКО, ЮРЭВІЧ, ЯНОВІЧ 1968, 152), многія з якіх застаюцца назменнымі і да нашага часу; узбагаціўся слоўнікавы склад беларускай мовы як за кошт унутраных сродкаў, так і шляхам калькавання і запазычанняў з іншых моў. У мове газеты "Наша ніва" адлюстроўваліся і варыянтныя напісанні слоў пад уплывам найперш паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў беларускай мовы (*калісь* і *кальсьці, пішыць* і *піша, у горле* і *ў горлі, на дарозі* і *на дарозе, зямлёй* і *зямлёю, павіннасцей* і *павіннасцяў, у снох* і *ў снах*, *задрыжэў* і *задрыжаў* і г.д.). Некаторыя з гэтых варыянтаў засталіся і па наш час як раўнапраўная норма (напрыклад, *зямлёй* і *зямлёю, радасцей* і *радасцяў*), іншыя ж зніклі, бо узусам выбраны толькі адзін з канкурэнтаў (напрыклад, *у горле, на дарозе, у снах*).

На старонках газеты "Наша ніва" быў прадстаўлены не толькі публіцыстычны стыль, але і стыль мастацкай літаратуры (у прыватнасці, вершы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, Цёткі і інш.), пачаліся выпрацоўвацца афіцыйна-дзелавы і навуковы стылі ў публікацыях на спецыяльныя тэмы, усталёўваецца новая беларуская тэрміналогія (юрыдычная, эканамічная, грамадска-палітычная). У 20-я гады 20 ст. ў краіне друкуецца шмат газет як цэнтральных ("Савецкая Беларусь", "Звязда", "Чырвоная змена" і інш.), так і мясцовых ("Магілёўская праўда", "Чырвоная Полаччына" і інш.), дзе ў розных прапорцыях і формах прадстаўлены беларуская і руская мовы, часта з іх змяшэннем, што паслужыла адным з чыннікаў для ўзнікнення масавай трасянкі, сумесі дзвюх моў, рускай і беларускай, якая знаходзіцца ў шырокім ужытку і сёння.

У адрозненне ад мовы мастацкай літаратуры, дзе асабліва відавочным з'яўляецца бачны ўплыў жывых беларускіх гаворак, у публіцыстычных тэкстах шырэй не толькі ў галіне лексікі, але і граматыкі выкарыстоўваюцца спецыяльныя формы, калькі, складаныя сінтаксічныя структуры сказаў з рознымі відамі падпарадкавальных сувязяў. На старонках публіцыстычных выданняў прымяняюцца ўстойлівыя выразы, што атрымалі назву канцылярыту, які дапушчальны і апраўданы ў некаторых відах пісьмовых тэкстаў (афіцыйна-дзелавым стылі), але камічна гучыць у гутарковым маўленні на бытавыя ці іншыя неафіцыйныя тэмы (параўн.: *у мэтах выканання, атрымаць прапіску, рэалізаваць пастанову* і да т.п.).

Публіцыстычны стыль, які зацвердзіўся спачатку на старонках пісьмовых выданняў (газет, часопісаў, пракламацый і інш.), зараз шырока ўжываецца ў вуснай форме на радыё, тэлебачанні, у выступленнях прамоўцаў перад грамадскасцю, у некаторых відах лекцый, дакладаў, паведамленняў. Для публіцыстычнага стылю характэрны такія рысы, як даходлівасць, эмацыянальнасць, ацэначнасць, экспрэсіўнасць, пабуджальнасць, што закліканы ўздзейнічаць на чытача (слухача), пераканаць яго думаць і дзейнічаць у неабходным кірунку для аўтара (або часта тых, хто стаіць за ім) прамовы (тэксту).

Публічныя выступленні (друкаваныя выданні) па сутнасці фарміруюць грамадскую думку, сацыяльны настрой людзей, што, такім чынам, нярэдка залежыць не ад умоў жыцця, дабрабыту і матэрыяльнага дастатку людзей, а ад СМІ (сродкаў масавай інфармацыі), якія ствараюць штучна адпаведную інтэлектуальную і духоўную ауру, дзе людзі ўспрымаюць навакольную рэчаіснасць і сваё жыццё не зусім адэкватным спосабам. Для гэтай мэты выкарыстоўваюцца моўныя сродкі, якія пафасна і ўзнёсла накладваюцца на будзённае існаванне і паказваюць яго ў іншым святле (параўн.: *незгасальны агонь, высокія тэмпы, шчаслівая будучыня, народ-пераможца, ударная праца, светлы шлях, жыць дзеля цудоўнага заўтра* і да т.п.), а сваіх апанентаў (ворагаў, апазіцыянераў і г.д.) малююць адмоўнымі вербальнымі сродкамі (*шалёныя псы імперыялізму, ворагі міру і прагрэсу, фашысцкая гадзіна, капіталісты-крывасосы* і да т.п.), што выконваюць пераважна экспрэсіўна-ацэначную функцыю.

Такім чынам, мова публіцыстычных тэкстаў (прамоў) звязана з жывым гутарковым маўленнем слабей, чым літаратура мастацкага стылю, адасобілася ад яго ў свой асобны стыль, увабрала ў сябе і элементы мастацкага стылю, і афіцыйна-дзелавога, і часткова навуковага, зрабілася самай масавай разнавіднасцю і сродкам сацыяльнага існавання і функцыянавання мовы, магутным інструментам у руках тых, каму належаць СМІ, асабліва ва ўмовах манаполіі на іх.

### 2.4.3. МОВА АФІЦЫЙНА-ДЗЕЛАВОЙ І НАВУКОВАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Афіцыйна-дзелавы стыль і часткова навуковы стыль (у першую чаргу спецыяльная тэрміналогія), што былі выпрацаваны найперш у шматлікіх помніках старабеларускай літаратуры (Літоўская метрыка, у тым ліку Статут ВКЛ, "Трыбунал", актавыя кнігі і інш.), на матэрыяле новай беларускай літаратурнай мовы ўфармоўваліся спачатку на старонках публіцыстычнай перыёдыкі (газеты "Мужыцкая праўда", "Наша ніва" і інш.), а затым утварыліся і ўсталяваліся як асобныя літаратурна-моўныя жанры, якія функцыянуюць у прафесійных сферах дзейнасці беларускага грамадства.

У мове газет і іншых перыядычных выданняў 19 – пачатку 20 ст. адзначаецца арыентацыя на жывыя беларускія народныя гаворкі, напрыклад, адлюстроўваецца на пісьме аканне, зацвярдзенне шыпячых і *р*, падваенне зычных, афрыката *дж*,

дзеканне, цеканне, канчаткі інфінітыва *-ць* (з асновай на галосны), *-ці* (з асновай на зычны). Адначасова ўзнікаюць моўныя з'явы, звязаныя з ускладненнем сінтаксічнай структуры сказаў шляхам уключэння ў іх устаўных канструкцый, паўтораў, аднародных частак і інш. Пры словаўтварэнні, у прыватнасці ў газеце "Наша ніва", шырока выкарыстоўваюцца суфіксы *-нік, -ар, -ец, -ач, -іст, -энт (-ант)* для абазначэння асоб па прафесіі (параўн.: *настаўнік, арганізатар, прадавец, чытач, эканаміст, карэспандэнт* і да т.п.), суфіксы *-асць, -цтв, -нн-е, -цц-е, -ізн-а, -ізм* і інш. для канструявання абстрактнай лексікі (параўн.: *папулярнасць, дэпутатства, тлумачэнне, багацце, бялізна, нацыяналізм* і г.д.). Газета друкавала матэрыялы на сацыяльныя, эканамічныя, медыцынскія, біялагічныя і іншыя спецыяльныя і навуковыя тэмы, што спрыяла станаўленню беларускай афіцыйна-дзелавой і навуковай тэрміналогіі.

На пачатку 30-х гадоў 20 ст. на беларускай мове выходзяць 194 газеты (з 234), 27 часопісаў (з 30), апублікаваны 24 тэрміналагічныя зборнікі па розных галінах навукі (біялогія, грамадазнаўства, геаграфія, матэматыка, медыцына, лінгвістыка, логіка, педагогіка, хімія і інш.), у якіх складальнікі арыентаваліся перш за ўсё на лексіку жывой народнай мовы, што пры тэндэнцыі амаль усіх еўрапейскіх моў абапірацца пры напісанні навуковых і спецыяльных тэкстаў на інтэрнацыянальную лексіку, прыводзіла беларускіх аўтараў да стварэння не зусім удалых слоў (параўн.: *бязгодзіца* 'непагадзь', *гельда* 'біржа', *дзяньгубства* 'гультайства', *зельнік* 'гербарый', *злічво* 'сума', *зямец* 'пчалавод', *мутэрка* 'гайка', *наўда* 'рэдкая з'ява', *попіс* 'рэестр', *прыдзвернік* 'швейцар', *растаропіца* 'раздарожжа', *сагрэвак* 'паліва', *старчовы* 'перпендыкулярны' і да т.п.), так і не ўкаранёныя ў сучасныя спецыяльныя тэксты (напрыклад, у артыкулы БелСЭ, вучэбныя дапаможнікі па адпаведных дысцыплінах і інш.).

Згаданы падыход (арыентацыя пры стварэнні спецыяльнай лексікі на беларускія гаворкі) больш-менш прымальна ўдалося часткова рэалізаваць толькі ў дачыненні да батанічнай (гл.: КИСЕЛЕВСКИЙ 1967) і заалагічнай тэрміналогіі, што сілкавалася ўсталяванымі народнымі найменнямі паўсядзённых рэалій (раслінны і жывёльны свет) беларускага вяскоўца. У астатніх галінах навукі ўласна беларускія словы ўжываліся побач з запазычанымі, якія ў наш час, адпаведна з моцнай агульнаеўрапейскай тэндэнцыяй да інтэрнацыяналізацыі мовы навукі, займаюць усё больш значнае месца ў спецыяльных тэкстах і ў слоўніках. Зазначаная тэндэнцыя робіць мову навуковага стылю строгай, дакладнай, аднастайнай, зразумелай, лёгка перакладальнай з беларускай на іншыя мовы і з іншых моў на беларускую.

Мова афіцыйна-дзелавога стылю даволі выразна характарызуецца лагічнасцю, прадпісальнасцю, тэрміналагічнасцю, стандартнасцю, аб'ектыўнасцю, адсутнасцю эмацыянальнасці і вобразнасці. Тут шырока выкарыстоўваюцца аддзеяслоўныя назоўнікі і прыметнікі, амаль адсутнічаюць дзеясловы ў першай і другой асобах, што надае дакументам безасабовы аб'ектыўны характар, часта ўжываецца інфінітыў, пераважаюць дзеясловы незакончанага трывання цяперашняга часу, а звычайныя, паўсядзённыя словы, як правіла, тэрміналагізуюцца.

Афіцыйна-дзелавыя паперы складаюцца па пэўных стандартызаваных узорах, часцей за ўсё запазычаных з рускай дзелавой мовы (гл.: КАЎРУС 1994, 16), але запоўненых пераважна беларускай спецыяльнай лексікай, або інтэрнацыянальнай у беларускім фанетыка-графічным і граматычным афармленні (параўн.: *службовая асоба, выдаткі, паштоўка, аб'ява, рахунак, дэпанент, інвентар* і г.д.). Назіраецца тэндэнцыя замяняць дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі са стараславянскімі суфіксамі *-ущ(-ющ), -ащ(-ящ), -ем, -им,* вельмі ўжывальнымі ў сучаснай рускай мове, на словы без гэтых фармантаў (параўн.: рускі тэрмін *обрабатывающая про-*

*мышленность* і беларускі адпаведнік *апрацоўчая прамысловасць* і адпаведныя далей прыклады *регулирующие статьи* і *рэгулявальныя артыкулы, предполагаемая прибыль* і *дапушчальны прыбытак, обтягивающий* і *абцяжны* і г.д.; гл.: БАГДЗЕВІЧ 2000).

У сучаснай афіцыйна-дзелавой і навуковай мовах адсутнічаюць дыялектызмы і жарганізмы. Прычым для мовы навуковых тэкстаў характэрны такія рысы, як абстрактнасць, абагульненасць, лагічнасць, дакладнасць, выразнасць. Лексічны склад навуковых тэкстаў абумоўлены канкрэтнай галіной ведаў і можа характарызавацца вялізнай колькасцю тэрмінаў і наменклатурных назваў, якія ў сваёй большасці не ўключаюцца ў агульнаўжывальныя слоўнікі.

Беларускія навуковыя тэксты ў наш час створаны і павялічваюцца найперш у галіне гуманітарных навук (мовазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыя і інш.), аднак маюць добра распрацаваныя падставы для сваёй рэалізацыі і ва ўсіх астатніх дысцыплінах, у тым ліку негуманітарных, аб чым сведчыць выданне 12-томнай БелСЭ і публікацыя 18-томнай Беларускай энцыклапедыі (надрукавана ўжо 14 тамоў), дзе змешчаны артыкулы на беларускай мове па ўсіх без выключэння навуках. Развіццю беларускамоўнай негуманітарнай навукі не спрыяюць толькі сацыяльныя і палітычныя варункі нашага сённяшняга грамадскага жыцця, бо, напрыклад, створаная на беларускай мове матэматычная энцыклапедыя, дзе бралі ўдзел у напісанні артыкулаў і матэрыялаў больш сотні матэматыкаў, так і не была апублікавана ў дзяржаўным выдавецтве, выданне спынена ўжо пасля набору карэктуры (гл.: АНЯМЕННЕ, 2000, 129), хаця ўрэшце і надрукавана ў недзяржаўным выдавецтве “Тэхналогія” ў 2001 г.

Для сінтаксісу навуковай і афіцыйна-дзелавой літаратуры характэрны нанізванні родных склонаў назоўнікаў (параўн.: *частка фонду аплаты працы, паляпшэнне ўзроўню жыцця членаў кааператываў нашага горада, вызначэнне ступені даследаванасці аб'ектаў навакольнага асяроддзя гэтага рэгіёна краіны* і да т.п.), складаныя сказы, звязаныя “лагічнымі” злучнікамі *таму што, у сувязі з тым, што, у выніку, чым, тым, такім чынам* і інш.

Навуковы стыль рэалізуецца ў дакладах, лекцыях, паведамленнях, артыкулах, тэзісах, манаграфіях, рэфератах, анатацыях і інш., а афіцыйна-дзелавы – у загадах, аб’явах, распараджэннях, даведках, справаздачах, пратаколах, позвах, статутах, характарыстыках і інш.

Нягледзячы на большую стандартызацыю ў параўнанні з публіцыстычным і мастацкім тэкстамі словаўтваральных, марфалагічных і сінтаксічных сродкаў, на аснове якіх ствараюцца афіцыйна-дзелавыя і навуковыя тэксты, апошнія цалкам знаходзяцца ў межах літаратурнай мовы, спрыяюць яе ўнармаванню, дакладнасці, аб’ектыўнасці, а ўсталяваныя выразы з гэтых тэкстаў пранікаюць у залежнасці ад тэмы паведамлення і ў стыль мастацкай літаратуры, і ў публіцыстычны, і ў гутарковы стылі, адкладваюць там свае адбіткі ў выглядзе скрышталяваных моўных штампаў тыпу *вывесці за дужкі, падвесці рысу, прыйсці да агульнага знамянальніка, спісаць у тыраж, падсумаваць вынікі* і інш. Падобныя штампы выкарыстоўваюцца ў якасці стылістычнага сродку для характарыстыкі персанажаў у мастацкіх творах, ужываюцца часам зусім недарэчна ў гутарковым маўленні і сведчаць пры гэтым аб адсутнасці моўнага густу ў прамоўцы, аб яго нізкай культуры маўлення.

Такім чынам, найбольшую адметнасць афіцыйна-дзелавога і навуковага стылю складаюць іх лексічныя, намінатыўныя сродкі, якія даволі добра распрацаваны ў беларускай мове, аб чым сведчыць публікацыя звыш 600 розных слоўнікаў (гл.: ШЧЭРБІН 1996, 20), а таксама стандартызаваныя словаўтваральныя і сінтаксічныя формы, шматлікія запазычанні. Для паўсюднага выкарыстання беларускай мовы, уключна ва ўсіх негуманітарных навуках, неабходна жаданне аўтараў адпаведных

прац, і самае галоўнае, запатрабаванне грамадствам згаданых прац на беларускай мове, што залежыць перадусім ад спрыяльных знешніх сацыяльных чыннікаў, у той час як унутраныя фактары, наяўны патэнцыял беларускай літаратурнай мовы пры першай жа неабходнасці здатны рэалізавацца ў адпаведных тэкстах любой тэматыкі, усіх жанраў, розных дысцыплін, кожнага стылю.

### 2.4.4. АГУЛЬНАЯ РЭТРАСПЕКТЫВА І ПЕРСПЕКТЫВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

За доўгія гады свайго развіцця і функцыянавання беларуская мова зведала перыяды ўздыму, максімальнага запатрабавання ў грамадстве, напрыклад, цягам 16 ст., калі яна была дзяржаўнай у адной з найвялікшых і развітых краін тагачаснай Еўропы, калі на ёй рабіліся адны з першых у Еўропе біблейскія пераклады, ствараліся знакамітыя юрыдычныя друкаваныя помнікі, у прыватнасці Статут Вялікага Княства Літоўскага; а таксама ў першую трэць 20 ст., калі ўжо на новай беларускай мове была напісана ўзорная мастацкая літаратура сусветнага ўзроўню (творы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, М.Зарэцкага, А.Мрыя і інш.), а сама мова запанавала ва ўсіх сферах жыцця беларускага грамадства; і ўрэшце ў першай палавіне 90-х гадоў 20 ст. абудзіўся сацыяльны інтарэс да беларускай мовы, што праявілася ў маштабнай лексікаграфічнай дзейнасці, у прыняцці "Закона аб мовах", згодна з якім у гістарычна кароткі тэрмін беларуская мова павінна была зрабіцца сапраўды адзінай дзяржаўнай.

Перыяды заняпаду беларускай літаратурнай мовы прыпадаюць на 18 ст. і пачатак 19 ст., аднак ужо ў другой палавіне 19 ст. беларуская мова адрадзілася, як Фенікс з пеплу, на народна-дыялектнай аснове і пасля перыяду росквіту пачала выцясняцца ў 30-я гады 20 ст. на перыферыю сацыяльнага жыцця беларускага грамадства. Ва ўсіх сучасных славянскіх краінах у якасці адзіных дзяржаўных моў юрыдычна зацверджаны мовы адпаведных нацый. Выключэнне складае Беларусь, дзе пасля майскага рэферэндуму 1995 г. большасцю насельніцтва дзяржаўнымі прызнаны дзве мовы – беларуская і руская. Вынікі дадзенага рэферэндуму дэ-юрэ замацаваны і новай Канстытуцыяй 1996 г. Дэ-факта заканадаўчы статус роўнасці дзвюх дзяржаўных моў практычна не рэалізуецца, бо беларуская мова даволі рэдка выкарыстоўваецца ва ўсіх сферах грамадскага, навуковага, эканамічнага, культурнага жыцця краіны. Жывая высокаразвітая літаратурная мова карэннага насельніцтва, хаця і вывучаецца ў школах, у невялікім аб'ёме – у ВНУ, але паўсюдна не ўжываецца.

З улікам таго, што "са школьных навук грунтоўнай падставай школьнай асветы была і будзе родная мова" (гл.: **ЛЁСІК** 1994, 184), можна сцвярджаць пра размыванне падмурка нашай сённяшняй сістэмы адукацыі (параўн.: **BIEDER** 1996, 109). Рарытэтная сітуацыя, калі мова тытульнай нацыі не карыстаецца пашанай сярод значнай часткі насельнікаў і не ўжываецца ёю ў сваім паўсядзённым і рабочым жыцці, з усіх славянскіх краін маецца толькі на Беларусі. Гэта значыць, што сучасная беларуская мова апынулася зараз у такім жа занядбаным стане, як і ў згаданыя вышэй перыяды свайго заняпаду. У падобным стане, дарэчы, знаходзіліся і славянскія мовы нашых вялікіх суседзяў, прычым не толькі паўднёвых (украінцаў), але і заходніх (палякаў), і ўсходніх (рускіх), што можа крыху суцішыць наяўны прэцэдэнт стаўлення і адносін да сваёй роднай мовы з боку значнай часткі грамадства. Напрыклад, у дачыненні да нашых заходніх суседзяў замежнік Іеронім

Вістар у 1542 г. пісаў: “Я не магу здзіўляцца таму, што ў той час, як усялякі іншы народ шануе, развівае, упрыгожвае і старанна апрацоўвае сваю мову, польскі народ грэбуе і пагарджае сваёй мовай... Прычынай таму служыць польская ўласцівасць быць больш схільным да чужых звычак, спраў, людзей і моў, чым да сваіх уласных” (гл.: **ЛЕР-СПЛАВИНСКИЙ** 1954, 160).

Што тычыцца рускай літаратурнай мовы, то яна ў сучасным варыянце стварылася толькі ў першай палавіне 19 ст. намаганнямі А.С.Пушкіна, А.С.Грыбаедава, І.А.Крылова, М.В.Гогаля, М.Ю.Лермантава, І.С.Тургенева і іншых слынных рускіх паэтаў і празаікаў, а адлік існавання новай рускай літаратурнай мовы, як мяркуюць некаторыя аўтарытэтныя, найперш замежныя навукоўцы (А.В.Ісачанка, Д.Уорт і інш.), трэба пачынаць фактычна, як і новай беларускай літаратурнай мовы, толькі з 18 ст. (гл.: УСПЕНСКИЙ 1997, 123), бо яшчэ ў першай трэці 19 ст. яна не карысталася ні пашанай, ні распаўсюджваннем у адукаванай, “вышэйшай”, свецкай часткі рускага грамадства. Так, галоўная гераіня рамана ў вершах А.С.Пушкіна “Яўген Анегін” Таццяна Ларына “русская душой” дрэнна ведала сваю родную мову (параўн.: *Она по-русски плохо знала, // Журналов наших не читала // И выражалася с трудом на языке своем родном...*). Прыведзенае пушкінскае выказванне адносілася і да іншых тагачасных рускіх свецкіх дам, таму што “*И в их устах язык чужой не обратился ли в родной?..*” Аднак польская, руская, а зараз і ўкраінская мова вытрывалі ўсе гістарычныя выпрабаванні напаткаўшага іх лёсу; і цяпер няма аніякіх падстаў меркаваць, што нават у далёкай часавай перспектыве іх носьбіты адмовяцца ад сваіх родных моў на карысць якой-небудзь магчымай сусветнай мовы (натуральнай або штучнай).

Прычыны сённяшняга і ранейшых перыядаў грамадскага заняпаду беларускай мовы можна шукаць у спрадвечнай адсутнасці для беларускага народа сваёй самастойнасці, монаэтнічнасці (гл.: НАСЕВІЧ 1993, 14), хаця пачаткі беларускай дзяржаўнасці закладваліся ўжо ў 10–12 стст. (гл.: ШТЫХАЎ 1992, 107) і часткова рэалізаваліся пад час існавання Вялікага Княства Літоўскага, дзе беларуская мова была дзяржаўнай (гл.: ЕРМАЛОВІЧ 2000). Магутныя працэсы паланізацыі нашай краіны ў 17–18 стст. (гл.: ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ 1994, 262) і русіфікацыі з 18 ст. па наш час не толькі адукацыйнай, адміністрацыйнай, культурнай і іншых сфер жыцця жыхароў нашага краю, але і самой беларускай мовы (гл.: КАРСКІЙ 1920; СТАНКЕВІЧ 1994) сталі вызначальнымі фактарамі існавання беларускай нацыі (калі яшчэ ёсць падставы сцвярджаць пра яе канчатковае ўфармаванне) у апошнія стагоддзі. Хаця “ваганне паміж Захадам і Усходам і шчырая непрыхільнасць ні да аднаго, ні да другога з’яўляюцца асноўнай адзнакай гісторыі беларускага народа” (гл.: АБДЗІРАЛОВІЧ 1993, 9), тым не менш гэтае “ваганне” не спрыяла не толькі “прыхільнасці” да сваіх суседзяў, але і выкарыстанню адзінай беларускай літаратурнай мовы ў сацыяльных сферах жыцця нашай краіны.

Адносна стабільнае ўжыванне новай беларускай літаратурнай мовы можна адзначыць толькі ў фальклоры і прыгожым пісьменстве (гл.: ПАДЛУЖНЫ 1997, 66) або дыялектнай разнавіднасці мовы – на вёсцы ў якасці сродку камунікацыі і духоўнага самавыражэння, аднак у апошнія дзесяцігоддзі беларускія дыялекты, гаворкі пад уплывам рускамоўных СМІ, сістэмы адукацыі, па сутнасці, транс-фармаваліся ў трасянку.

Істотнымі фактарамі звужанага прымянення беларускай мовы ў краіне паслужылі: значнае скарачэнне яе носьбітаў пад час шматлікіх войнаў (гл.: ЛАСТОЎСКІ 1910, 36; 100 ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ 1993, 73), некалькі хваляў

інтэнсіўнай эміграцыі беларусаў, палітычныя рэпрэсіі 30-х гадоў 20 ст., знішчэнне і разграбленне асноўных фондаў беларускіх рукапісаў, першадрукаў, прыватных, манастырскіх, царкоўных, дзяржаўных бібліятэк (гл.: КАЛУБОВІЧ 1993). Прычым у выніку войнаў, рэпрэсій, эміграцый беларускі этнас скарачаўся і катастрафічна збядняўся за кошт сваіх найбольш таленавітых, працаздольных, прадпрымальных, энергічных прадстаўнікоў. Толькі сярод пісьменнікаў, якіх за ўсю гісторыю Савецкай Беларусі, па даных спецыяльнага даведніка (ПІСЬМЕННІКІ 1981), налічвалася каля 500 чалавек, розным рэпрэсіям у савецкі даваенны час падлегла звыш 200, або амаль усе, што жылі на той час (30-я гады 20 ст.; гл.: ЛЕПЕШАЎ 2000, 13).

Падобная "чыстка" беларускага грамадства пад сцягам барацьбы супраць так званых нацыяльных дэмакратаў праведзена і ў дачыненне да іншых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, тым самым фактычна быў ампутаваны мозг сацыяльнага арганізма беларусаў, што прывяло да пэўнага гістарычнага бяспамяцтва, страты арыентацыі ў свеце, падзеленым на нацыі, якія шануюць найперш сваю мову і іншыя адметныя і непаўторныя духоўныя каштоўнасці (традыцыі, звычкі, фальклор, гісторыю, нацыянальных герояў, памятныя даты, сімвалы і г.д.). У 30–40-я гады 20 ст. рэпрэсіі глыбока закранулі і найбольш працаздольную частку самага масавага, вясковага насельніцтва нашай краіны, так званых кулакоў і заможных сялян. Дзякуючы менавіта вяскоўцам беларуская мова захавалася ў сваёй вуснай дыялектнай разнавіднасці і вуснай народнай творчасці пад час працяглай забароны пісьмовай літаратурнай мовы (гл.: ПИЧЕТА 1921, 22) і зноў узнікла ў канцы 18–пачатку 19 ст. ў новай якасці на аснове захаваных вусных гаворак, у прыватнасці сярэднебеларускіх.

У наш час у асобе сваіх не вельмі шматлікіх прадстаўнікоў нацыянальна свядомая інтэлігенцыя тым не менш застаецца амаль адзіным і актыўным выразным захавальнікам беларускай літаратурнай мовы, бо натуральны носьбіт нацыянальнай мовы – вясковае насельніцтва – цяпер ужо не складае большасці жыхароў краіны, бо істотная іх частка мігрыравала ў гарады і ў значнай ступені падлегла асіміляцыі, а астатнія вяскоўцы карыстаюцца пераважна згаданай вышэй трасянкай або ў лепшым выпадку мясцовымі гаворкамі, што таксама пад уплывам СМІ, сістэмы адукацыі, вясковага кіраўніцтва ўяўляюць сабой часцей за ўсё сумесь моўных уласцівасцяў зыходных гаворак і разнастайных элементаў (найперш лексічных) рускай мовы. Насельніцтва сучасных беларускіх гарадоў у цэлым не толькі не дбае пра пашырэнне беларускай мовы і яе паўсюднае ўкараненне, але і карыстаецца ў пераважнай большасці рускай мовай або таксама, як і на вёсцы, трасянкай самага размаітага кшталту: ад рускага маўлення, заснаванага на фанетычных асаблівасцях беларускіх гаворак, да маўлення, у якім у розных прапорцыях перамешаны фанетычныя, граматычныя, лексічныя, фразеалагічныя, стылістычныя асаблівасці, з аднаго боку, беларускай літаратурнай мовы, беларускіх гаворак, з другога боку, суадносныя рысы рускай літаратурнай мовы.

Доўгае афіцыйнае непрызнанне самастойнасці беларускага этнасу з боку царскай Расіі, якая лічыла Беларусь "Северо-Западным краем" і ўкараняла тут ідэю "западного руссизма" (гл.: Цьвікевіч 1992); тэрміналагічныя фактары – назва колішняй Беларусі як Літвы, а яе жыхароў – як "ліцьвіны" (гл.: ПАШКЕВІЧ 1978, 126; ЮХО 1992, 17; ЕРМАЛОВІЧ 1989, 34), назва старабеларускай мовы – рускай (гл.: ЛАСТОЎСКІ 1924, 512, 624), прыводзілі да таго, што культурныя, у тым ліку пісьмовыя, помнікі, створаныя ў нашай краіне нашымі продкамі, прыўлашчваліся то

літоўцамі, то рускімі, асабліва з улікам узнікнення стабільнай назвы *Беларусь* толькі напрыканцы 19 ст. (гл.: КРЫВІЦКІ 1967, 86).

Канфесійны падзел беларусаў на католікаў і праваслаўных пачаўся з 14 ст., калі беларускі князь Ягайла жаніўся з польскай каралевай Ядвігай і прыняў каталіцтва (гл.: КАРОТКІ АГЛЯД 1990, 21). Рэлігійная раз'яднанасць не спрыяла крышталізацыі адзінай нацыянальнай самасвядомасці, таму што гістарычна ўстойлівай сярод усходніх славян з'яўляецца традыцыйная сувязь праваслаўя з рускім этнасам, а каталіцызму – з польскім. Для беларускага ж селяніна "пан, каталік, паляк – гэта ёсць словы, каторыя называюць адну і тую ж катэгорыю" (ІГНАТОЎСКІ 1991, 125). З утварэннем уніяцтва (Брэсцкая унія 1596 г.), якое імкнулася прымірыць разнавер'е на Беларусі, наадварот, канфесійнае разнагалоссе яшчэ больш узмацнілася, што прывяло да ўмяшальніцтва Польшчы і Расіі ў рэлігійную спрэчку і ў рэшце рэшт да падзелу пасля Першай сусветнай вайны Беларусі на Заходнюю і Усходнюю. Заходняя Беларусь зрабілася часткай Польшчы, Усходняя – часткай Савецкага Саюза. З падзелам краіны пачаліся актыўныя працэсы паланізацыі яе заходняй тэрыторыі. Так, калі ў 1920 г. на захадзе Беларусі працавала 500 беларускіх школ, то ў 1925 г. іх тут не засталася аніводнай, беларуская мова была забаронена для ўжывання і ў касцёле (гл.: РАГАЧ 1990, 82). Акцыі ж па абмежаванаму выкарыстанню беларускай мовы ў Савецкай Беларусі шырока разгарнуліся ў 30-я гады 20 ст. і доўжацца з пэўнымі перапынкамі да сённяшняга дня.

Глабальная сусветная тэндэнцыя – выкарыстоўваць у якасці моў-пасрэднікаў і літаратурных моў, а таксама ў якасці сродку зносін найбольш пашыраныя жывыя мовы закранула самым прамым спосабам Беларусь. Пры гэтым некаторыя этнасы воляй лёсу або добраахвотна праз рэферэндумы ўзводзяць у ранг дзяржаўных іншыя так званыя сусветныя мовы (у наш час афіцыйныя мовы ААН), адмаўляюцца ад сваіх родных моў або адводзяць ім абмежаваныя, дэкаратыўныя, дапаможныя ролі ў жыцці свайго грамадства, з прызнаннем дэ-юрэ раўнапраўнага статусу абедзвюх моў (роднай і замежнай, звычайна мовы каланізатараў). Дадзены працэс, што ахінуў спачатку ўсё Заходняе паўшар'е, а таксама некаторыя іншыя кантыненты, закончыўся тут на карысць сусветных моў, але працякае не ўсюды раўнамерна і не ва ўсім прадказальна. Або інакш, у адных выпадках зазначаны працэс набыў, верагодней за ўсё, незваротны характар, у іншых – вяртаецца "на кругі своя", г.зн., з аднаго боку, мноства жывых моў выцясняецца адной або некалькімі, з другога боку, адна мова замяняецца рознымі іншымі мовамі.

Так, на цяперашні час шматлікія мовы абарыгенаў Заходняга паўшар'я практычна спынілі сваё існаванне і заменены або англійскай (ЗША, Канада), або раманскімі (французская мова ў канадскай правінцыі Квебек, іспанская мова ў краінах Паўднёвай Амерыкі, за выняткам Бразіліі, дзе выкарыстоўваецца партугальская мова, належная да раманскіх). Падобная тэндэнцыя рэалізавалася ў Аўстраліі, цэлым кантыненце, і ў некаторых паўднёва-азіяцкіх краінах, дзе ўжываецца англійская мова; на большай частцы афрыканскага кантынента з функцыянаваннем такіх моў, як англійская, французская, партугальская; у сучаснай Расіі, дзе для больш чым ста нацый і народнасцяў, што маюць яшчэ абмежавана ва ўжытку свае родныя мовы, у якасці адзінай дзяржаўнай мовы выкарыстоўваецца руская.

У сярэдневяковай Еўропе амаль тысячу гадоў фактычна адзінай літаратурнай мовай была лацінская, але ў эпоху Адраджэння яна была актыўна выведзена з ужытку і затым заменена ў сацыяльных сферах жыцця нацыянальнымі мовамі.

Латынь захавала свае функцыі ў сучаснай Еўропе толькі пры правядзенні пэўных каталіцкіх богаслужэнняў, у медыцынскіх рэцэптах, у якасці прадмета вывучэння для некаторых спецыяльнасцяў (філалагічныя, гістарычныя і іншыя гуманітарныя дысцыпліны, а таксама медыцынскія) і ў якасці крыніцы многіх інтэрнацыянальных слоў.

Магчыма з Ірландыі, а зараз і Беларусі пачынаецца новы этап выцяснення “малых” нацыянальных моў у Еўропе сусветнымі мовамі. У памянёных краінах згаданы працэс спачатку афіцыйна называецца двухмоўем, бо абедзвюм мовам надаецца юрыдычна раўнапраўны статус, фактычна ж імпліцытна маецца на ўвазе скарачэнне функцый родных моў аж да змярцвення апошніх...

Адзначым, аднак, што ў Еўропе 20 ст. паралельна адбываюцца працэсы станаўлення новых, у прыватнасці славянскіх, моў (напрыклад, македонскай літаратурнай мовы, а на сёння і распад сербскахарвацкай мовы на асобныя мовы – сербскую і харвацкую). Рознанакіраваныя рухі да інтэграцыі і дэзінтэграцыі моў ускладняюць і запавольваюць панаванне толькі некалькіх сусветных моў у шматаблічным чалавечым грамадстве, але не скасоўваюць тэндэнцыі да ўсё больш пашыранага ўжывання гэтых моў. У навуковай і вучэбнай літаратуры ў якасці адной з экстралінгвістычных універсалій фармулюецца ўжыванне англійскай мовы як другой, пасля роднай, мовы ў свеце (гл.: ЛЕВИЦЬКИЙ 2000, 112).

Пералічаныя прычыны ў комплексе, г.зн. сумесна, разам, а не паасобку, у лучнасці з так званай талерантнасцю – характэрнай псіхалагічнай рысай беларусаў, прывялі да фарміравання ў сённяшніх эканамічных і сацыяльных умовах такога насельніцтва краіны, большасць якога ўспрымае нацыянальныя ідэі і пытанні ўкаранення беларускай мовы ў штодзённае жыццё як неактуальныя.

Тым не менш аптымістычныя падставы для паўсюднага выкарыстання беларускай мовы ў грамадскім жыцці краіны ёсць, таму што гэтаму спрыяюць, па крайняй меры, два магутныя наяўныя матэрыяльныя фактары, якія ў рэшце рэшт павінны даць духоўны плён, заснаваны на сваёй мове. Па-першае, па даных апошняга перапісу (1999), звыш 70% насельніцтва Беларусі прызнала беларускую мову роднай, а каля 40% жыхароў рэспублікі карыстаюцца ёй рэгулярна ў сваіх бытавых надзённых справах, дома. Звыш сямі мільёнаў носьбітаў беларускай мовы, што істотна больш усяго насельніцтва такой славянскай краіны, як Славакія (каля пяці мільёнаў), і ў некалькі разоў больш насельніцтва такіх славянскіх краін, як Македонія (1,5 млн.), Славенія (2 млн.), дзе карыстаюцца роднай мовай і шануюць яе ў якасці найвышэйшага духоўнага скарбу народа, здольны ў належных сацыяльных варунках зрабіць менавіта сваю мову, родную, выпрацаваную і выпакутаваную некалькімі пакаленнямі нашых землякоў, універсальным сродкам праяўлення свайго багатага духоўнага патэнцыялу. Сродкамі чужой мовы, нават лепш распрацаванай, вычарпальна самарэалізавацца ніякі народ проста не здатны. Такая вялікая і адна з багацейшых у мінулым краін свету, як Індыя, пры ўзвядзенні на дзяржаўны ўзровень чужой мовы, англійскай, мовы сваіх колішніх каланізатараў, якая стала мовай адукацыі, культуры, навукі і г.д., сталася беднай і мала прыкметнай у сённяшнім свеце. І наадварот, чухонцы, якія былі сімвалам занядбаласці і адсталасці (успомнім словы А.С.Пушкіна “приют убогого чухонца”) у царскай Расіі, пры набыцці сваёй самастойнасці і пераходзе з “великого и могучего”, але чужога сродку самавыражэння і камунікацыі цалкам на сваю родную не пашыраную ў свеце мову ўтварылі адну з высокаразвітых і

заможных краін сучаснай Еўропы. Гаворка ідзе пра сённяшнюю Фінляндыю, жыхары якой у колішняй Расіі і называліся чухонцамі.

Па-другое, нашым народам створаны адзін з багацейшых у Еўропе фальклор і адметнае беларускае прыгожае пісьменства, дзе прадстаўлены арыгінальны светапогляд беларусаў, такія адлюстраваныя на пісьме светаадчуванне і бачанне навакольнага жыцця, якія ўяўляюць сабой духоўную каштоўнасць сусветнага маштабу, бо не паўтараюць іншыя літаратуры і фальклор, не наследуюць ім. Аніводная цывілізацыя не можа дапусціць страты ўжо зафіксаванага ў літаратуры, на пісьме інтэлектуальнага і духоўнага багацця, якое разышлося па ўсім свеце і вывучаецца не толькі беларускімі дыяспарамі, але і найбольш дасціпнымі інтэлектуаламі розных краін. Пры глыбокім і арганічным укараненні роднай мовы ў размаітае шматаспектнае сацыяльнае і духоўнае жыццё жыхароў Беларусі павялічыцца не толькі колькасць прыхільнікаў беларускай мовы, але і істотна ўзвысіцца іх чалавечая годнасць у сваім нацыянальным абліччы, без чаго немагчыма паляпшаць жыццё і рабіць яго больш якасным.

# 3. ГІСТОРЫЯ НАВУКІ АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

## 3.1. ПЕРШЫЯ НАВУКОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Навуковыя нататкі пра беларускую мову ўзнікаюць разам з яе зараджэннем, спачатку ў выглядзе тлумачэнняў незразумелых стараславянскіх лексем, выразаў "простай", ці тагачаснай старабеларускай, мовай найперш у выданнях Францыска Скарыны і іншых перакладчыкаў рэлігійных тэкстаў (С.Будны, В.Цяпінскі і інш.), а затым у выглядзе азбукоўнікаў (гл.: БОТВИННИК 1983), граматык (гл.: МЕЧКОВСКАЯ 1984; ЯСКЕВІЧ 1996), слоўнікаў (гл.: СТАРАБЕЛАРУСКІЯ ЛЕКСІКОНЫ 1992) стараславянскай мовы, дзе метамовай, або мовай апісання, служыла старабеларуская мова. Звычайна мова, з дапамогай якой апісваецца іншая мова, знаходзіцца на ўзроўні, адэкватным стану навуковых ведаў, і служыць для даследчыкаў найбольш зручным і прыдатным інструментам аналізу, сведчыць аб яе належнай распрацаванасці.

Так, Ф.Скарына тлумачыў незразумелыя царкоўна-славянскія глосы (словы) беларускімі лексемамі (параўн.: *кивотъ – скриня, риторъ – мовца, тимпанъ – бубенъ* і інш.). С.Будны і В.Цяпінскі таксама карысталіся аналагічнай беларускай метамовай у падобных выпадках, г.зн. пры перакладзе біблейскіх тэкстаў на тагачасную старабеларускую мову (параўн. у С.Буднага: *благодарение – дякованье, врачъ – лекарь, миръ – покой* і г.д.; у В.Цяпінскага: *начаша – почали, имея – маючи, верыга – ланцуг, мучитель – катъ, зло – лихо* і г.д.).

Пры перакладзе "Катэхізіса" на старабеларускую мову ў сваёй творчай пісьменніцкай дзейнасці С.Будны праявіў сябе і як выдатны мовазнаўца, які ўлічваў і гучанне слоў, і граматычныя формы, і этымалогію, і мнагазначнасць, і змены мовы ў часе, і кантэкст, паралельна даваў ёмістыя і сціслыя вызначэнні вузлавых паняццяў навукі аб мове. Напрыклад, ён фармуляваў: "Слова гэта тое, чым што-небудзь называем", грэчаскае слова logos перакладаў у залежнасці ад кантэксту і як маўленне, і як лік, і як прычына, і як кніга, і як слова і г.д. (гл.: ПОРЕЦКИЙ 1961 51, 57); падкрэсліваў даволі шматлікія граматычныя і сэнсавыя памылкі, зробленыя перакладчыкамі Бібліі са старажытнаяўрэйскай на грэчаскую, лацінскую, стараславянскую мовы (гл.: САВЕРЧАНКА 1993, 90–96).

Першыя невялікія граматыкі (ананімныя) сярод усходніх славян з'явіліся на тэрыторыі тагачаснай Беларусі ў Вільні ("Кграматыка словеньска языка...", 1586), а ўжо праз дзесяць гадоў тут жа была апублікавана "Грамматіка словенска..." Лаўрэнція Зізанія, дзе з дапамогай старабеларускай мовы апісваюцца найперш фанетычныя і марфалагічныя рысы стараславянскай мовы ў выглядзе пытанняў і адказаў. Дадзеная праца паслужыла штуршком і своеасаблівым узорам для стварэння шэрагу лінгвістычных прац, перадусім на тэрыторыі тагачаснай Беларусі і Украіны, якія карысталіся практычна адзінай літаратурнай мовай (старабеларускай і стараўкраінскай), што была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім, куды ўваходзілі Беларусь і Украіна.

Найбольш знакамітай і слыннай лінгвістычнай працай пачатку 17 ст. з'яўляецца "Грамматіки Словенския правилное Синтагма" (Еўе, пад Вільняй) Мялеція Сматрыцкага, які доўгі час жыў і працаваў на Беларусі. Гэтая кніга амаль паўтара стагоддзя служыла ва ўсёй Усходняй Славіі найбольш аўтарытэтнай і глыбокай працай па мовазнаўстве, якую М.В.Ламаносаў назваў "вратами учености" і па ўзору якой створаны першыя навуковыя граматыкі сербскай, балгарскай, рускай моў. У сваю чаргу, Граматыка М.Сматрыцкага напісана па стандарту добра распрацаваных у навуковых адносінах граматык грэчаскай і лацінскай моў, згодна з якімі ў стараславянскай мове асветнікам і вучоным выдзелены чатыры раздзелы: "Арфаграфія", "Этымалогія", "Сінтаксіс", "Прасодыя".

У першым раздзеле дадзена класіфікацыя 40 літар (гукаў) стараславянскай мовы на галосныя і зычныя. Галосныя падзяляліся на кароткія, доўгія, дыфтонгі; зычныя *г, к, х, ц, ж, ч, ш* ахарактарызаваны як зменныя, бо яны чаргуюцца ў стараславянскай мове, ды і амаль ва ўсіх тагачасных літаратурных славянскіх мовах. М.Сматрыцкі вызначыў правілы напісання вялікай літары (якія ў асноўных рысах ужываюцца і ў сучаснай беларускай літаратурнай мове), а таксама выдзеліў знакі прыпынку, сістэматызаваў правілы іх ужывання (гл.: ПРОКОШИНА 1966, 97).

У раздзеле "Этымалогія" (сучасная марфалогія) выдзелены восем часцін мовы (у сучаснай беларускай мове яны называюцца імя, займеннік, дзеяслоў, дзеепрыметнік, прыслоўе, прыназоўнік, злучнік, выклічнік), якія падзяліў на скланяльныя (імёны) і нескланяльныя. У імені выдзелены граматычныя прыкметы роду, ліку, склону і інш., прыметнікі падзелены на дзевяць граматычных разрадаў, вылучаны тры ступені параўнання; займеннікі падзелены на невытворныя і вытворныя, прычым, зазначана аж пяць родаў займеннікаў і чатыры скланенні, а таксама лік, асоба, склон. Дзеяслоў, па М.Сматрыцкаму, характарызуецца пяццю катэгорыямі трывання, лікам (адзіночным, множным, парным), трыма асобамі, ладам, часам (шэсць формаў), родам (пяць формаў, як і ў займеннікаў), спражэннем. Дзеясловы падзяляюцца на невытворныя і вытворныя, вылучаецца катэгорыя дзеепрыслоўя, якая сфарміравалася на базе дзеепрыметнікаў. Сярод нязменных часцін мовы асобнымі параграфамі апісваюцца прыслоўе, прыназоўнік, злучнік, выклічнік, а ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстаны не тоькі стараславянскія прыклады, але і прыклады са старабеларускай мовы.

Пры апісанні сінтаксісу аўтар таксама побач са стараславянскімі канструкцыямі (з пункту гледжання грэчаскай і лацінскай граматык) апісвае і факты старабеларускай мовы, у прыватнасці ў дачыненні да кіравання імён, дзеясловаў.

У апошнім раздзеле "Прасодыя" гаворыца пра асноўныя прынцыпы вершаскладання. Граматыка М.Сматрыцкага аказала вялікі ўплыў на далейшыя выданні лінгвістычных прац у славян (гл.: НИМЧУК 1979, 106–111), перакладзена на лацінскую мову, якая яшчэ заставалася на той час мовай навукі і адукацыі ў Еўропе.

У той час, як у самых значных лінгвістычных працах Л.Зізанія, М.Сматрыцкага старабеларуская мова выкарыстоўвалася пераважна ў якасці метамовы, а аб'ектам апісання служыла стараславянская мова, напісаная ў Сарбоне (Францыя) І.Ужэвічам на латыні "Граматика словенськая", прысвечана ўжо апісанню ўласна старабеларускай (стараўкраінскай) літаратурнай мовы (гл.: **ІСТОРІЯ** 1983, 696; **ЯСКЕВІЧ** 1999, 94–99). Упершыню кніга надрукавана толькі ў 1970 г. у Кіеве, але была вядома славістам у двух рукапісных варыянтах у 18–19 стст.

Граматыка І.Ужэвіча складаецца з трох частак (фанетыка, марфалогія, сінтаксіс), у ёй зафіксаваны характэрныя для сучаснай беларускай літаратурнай мовы зацвярдзенне губных зычных у канцы слоў, а таксама шыпячых, *ц, р*, афрыката *дж*, пераход *л* у *ў* нескладовае, узнікненне прыстаўнога галоснага *і*, канчатак *-у* ў абстрактных назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку роднага склону,

прыстаўка *най-* для ўтварэння формаў ступені параўнання прыметнікаў, ужыта шмат уласна беларускіх слоў (параўн. у сучасным напісанні: *бадай, вязець, лыжка, цнота, забойца* і інш.), некаторыя сінтаксічныя канструкцыі жывой беларускай мовы. Сістэма склонаў назоўнікаў налічвае чатыры разнавіднасці; займеннікі падзелены на тыя ж групы, што і ў сучаснай беларускай граматыцы (асабовыя, зваротныя, прыналежныя, указальныя, азначальныя, пытальныя, або адносныя). У дзеяслова І.Ужэвіч выдзеліў формы імперфекта, перфекта, плюсквамперфекта, якія не былі характэрныя для старабеларускай мовы, але былі прыдатныя для старaславянскай мовы. Пры аналізе дзеясловаў аўтар шырока выкарыстоўвае параўнанні з роднаснымі славянскімі мовамі, а таксама з лацінскай, яўрэйскай, што атрымала далейшае распаўсюджванне ў якасці параўнальна-гістарычнага даследавання мовы ў Еўропе і Расіі толькі праз 150 – 200 гадоў (гл.: БУЛАХОВ 1976, 253).

Падкрэслім той факт, што першыя граматычныя працы амаль для ўсіх новых літаратурных славянскіх моў пісаліся на замежных заходнееўрапейскіх мовах. Даволі шматлікія першыя граматычныя апісанні рускай мовы, створаныя яшчэ да М.В.Ламаносава ў канцы 16 – першай палавіне 18 ст., у пераважнай большасці былі на замежных мовах: невялікая граматычная праца М.Рыдлея – на англійскай мове, выданне англічаніна Г.Лудольфа ў 1696 г. – на лацінскай мове, адпаведныя навуковыя творы В.Ададурава ў 1731 г. – на нямецкай, Гроніна – на шведскай і інш. (гл.: УСПЕНСКИЙ 1997, 439–440). У канцы 18 ст. на нямецкай мове апублікаваны чэшскія граматыкі Ф.Томсы і Ф.Пельцла, а ў 1809 г. "Падрабязная граматыка чэшскай мовы" Й.Добраўскага – таксама на нямецкай мове. У 1790 г. А.Берналок (гл.: ENCIKLOPĖDIA 1993, 32) надрукаваў на французскай мове славацкую граматыку. Балгарская граматыка братоў А. і Д.Цанкавых апублікавана на нямецкай мове ў 1852 г. ў Вене. Таксама на нямецкай мове ў 1768 г. М.Похлін стварыў граматыку славенскай мовы. Першае граматычнае апісанне польскай мовы зроблена П.Статорыўсам-Стаеньскім у 1568 г. на латыні. Таксама на латыні ў 1604 г. з'явілася першая друкаваная граматыка сербска-харвацкай мовы Б.Кашыча, апублікаваная ў Рыме (гл.: MOGUŠ 1993, 78). Значыць, Граматыка беларускай (украінскай) мовы І.Ужэвіча, напісаная ў 1643 г., належыць да адной з першых граматык славянскіх моў.

З іншых лінгвістычных прац, створаных нашымі землякамі ў 17 ст., варта зазначыць "Азбуку" С.Полацкага, напісаную спецыяльна для абучэння грамаце Пятра Першага, і Граматыку І.Капіевіча, складзеную па ўзору Граматыкі М.Сматрыцкага. І.Капіевіч жыў у Амстэрдаме і пасля сустрэчы там з Пятром Першым па наказу апошняга рэфармаваў славянскую графіку такім чынам, што ёй з неістотнымі змяненнямі карыстаюцца ўсе, хто мае зараз кірыліцкае пісьмо (балгары, беларусы, рускія, сербы, украінцы і інш.).

Аднaчасова з граматычнымі апісаннямі мовы на тэрыторыі Беларусі друкаваліся першыя сярод усходніх славян лексікаграфічныя працы (слоўнікі), найбольш вялікай і сур'ёзнай з якіх быў "Лексис сиречь речения въкратьце събранны и из словенскаго языка на простый рускій діялектъ истолъкованы" Л.Зізанія (Вільня, 1596). У слоўніку даецца пераклад на старабеларускую мову 1061 царкоўна-славянскага слова, а для перакладу выкарыстана звыш 2000 беларускіх лексем, многія з якіх захаваліся і ў сучаснай беларускай мове (параўн. прыклады ў сённяшняй арфаграфіі: *лазня, нікчэмны, дзякаваць, вяселле, чакаць, праца, іншы, ручнік* і г.д.) без змен свайго значэння. У слоўніку адлюстраваны важнейшыя фанетычныя і марфалагічныя рысы, характэрныя і для сучаснай беларускай літаратурнай мовы: дзеканне, цеканне, аканне, яканне, чаргаванне *г, к, х / з, ц, с,* падваенне зычных, цвёрдасць шыпячых і

*р*, канчатак *-у* ў родным склоне назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку, замена прыназоўніка *из* на *з* і інш. (гл.: БОТВИННИК 1973, 136).

"Лексіс" Л.Зізанія быў цалкам уключаны ў другую больш значную лексікаграфічную працу "Лексиконъ словенороссkій и имен тлъкованіе" Памвы Берынды, выдадзены ў Кіеве ў 1627 г. (другое выданне 1653 г. у Куцейна пад Оршай). У дадзеным слоўніку на старабеларускую (стараўкраінскаю) мову перакладзена каля 7000 старaславянскіх лексем (у тым ліку прыведзена 2000 уласных імёнаў і запазычанняў з грэчаскай, яўрэйскай і іншых моў), прычым тут рэестравыя словы не толькі перакладзены, але часам і тлумачацца, а часам даецца і іх этымалогія (параўн.: *црквъ – храм бжий, дом бжий. Церковь есть названа от царя, ижъ царскимъ домомъ есть* і інш.; гл.: ШАКУН 1995, 24). У наш час друкуецца "Гістарычны слоўнік беларускай мовы", апублікаваны ўжо 21 выпуск, выдадзена кніга "Старабеларускія лексіконы" (Мінск, 1992), дзе акрамя "Лексіса" Л.Зізанія змешчаны "Лексіс с толкованием славенскіх моў проста" і "Сіноніма славенароская", якія адносяцца да помнікаў старабеларускай мовы. Першы з іх уключае ў сябе 908 рэестравых слоў і адносіцца да 16 ст., можа быць ахарактарызаваны як тлумачальна-перакладны (бо часта даюцца пераклады пераважна са старaславянскай, старажытнарускай, грэчаскай, лацінскай і іншых моў). Другі слоўнік (17 ст.) налічвае каля 5000 рэестравых лексем, найперш уласна беларускіх, якія перакладзены на старажытнарускую мову; у тлумачальнай частцы таксама змешчана вялікая колькасць старaславянізмаў і дыялектызмаў (параўн.: *желудокъ – живот, трибухъ, сирище, стомахъ; лекаръ – балий, врачъ, целитель*; *оборона – возбраненіе, стражба, защищение, оветъ* і да т.п.).

## 3.2. НАВУКОВАЯ АПРАЦОЎКА НОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ Ў 19 ст.

Старабеларуская літаратурная мова ў яе пісьмовым варыянце фактычна была выведзена з афіцыйнага ўжытку з 1696 г., калі наша краіна знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай. Пасля трэцяга падзелу апошняй у 1795 г. Беларусь цалкам патрапіла пад уладу царскай Расіі, высокія службовыя асобы якой нават слухаць не хацелі аб факце існавання не толькі беларускай мовы, але і саміх назваў *беларусы, Беларусь* (нашы прадзеды называліся крывічамі, ліцвінамі, палешукамі, тутэйшымі і інш., а радзіма – Паўночна-Заходнім ці Западнорусским краем). Беларуская мова нават такімі вядомымі рускімі лінгвістамі, як У.Даль, А.Сабалеўскі, І.Сразнеўскі, А.Патабня і інш., лічылася без усялякіх агаворак рускім дыялектам, ці "наречием" рускай мовы. Нават буйнейшы беларускі мовазнавец, заснавальнік усёй беларускай філалогіі Я.Карскі, які амаль усе свае навуковыя працы пра беларусаў і іх мову пісаў па-руску, называў спачатку яе "белорусским наречием".

Літаратурныя творы на новай беларускай мове пачалі друкавацца ў 19 ст. пераважна лацінкай і нелегальна або за межамі Беларусі. За ўсё гэтае стагоддзе апублікавана толькі 75 кніг на беларускай мове. Тым не менш яе лінгвістычныя адметнасці, не падобныя ні на рускую, ні на ўкраінскую, а тым больш і на польскую мовы, былі настолькі відавочнымі, што факт яе непрызнання не мусіў быць доўгім. Пад час і пасля масавых збораў беларускага этнаграфічнага, фальклорнага і гістарычнага матэрыялу ў 19 ст. пачаліся спачатку спарадычныя, несістэматызаваныя навуковыя апрацоўкі беларускай мовы ў выглядзе слоўнікаў, літаратурных нататкаў, заўваг, артыкулаў і першых рукапісных граматык П.Шпілеўскага, К.Нядзвецкага, якія, аднак, так і не былі надрукаваны. Згадвалі пра беларускую мову, яе асаблівасці, у сваіх працах польскія вучоныя, напрыклад, А.Брукнер, што вывучаў мову беларускіх інтэрмедый, а таксама рускія даследчыкі П.Уладзіміраў,

А.Шахматаў, М.Карпінскі і інш., нямецкі лінгвіст К.Апель і інш. Спецыяльнай асобнай працай па беларускай мове, па яе фанетычных і марфалагічных адметнасцях, служыць артыкул І.Нядзёшава (НЕДЕШЕВ 1884), прысвечаны мове фальклору, дзелавой пісьменнасці 16–17 стст., значная публікацыя Я.Карскага (КАРСКИЙ 1893), дзе на вялікім матэрыяле, з уключэннем жывой беларускай мовы, апісаны яе фанетычныя, марфалагічныя, сінтаксічныя з'явы з гістарычнага пункту гледжання.

Найбольш значныя навуковыя здабыткі ў 19 ст. па беларускім мовазнаўстве тычацца лексікаграфічных прац І.Насовіча, Ф.Шымкевіча, М.Гарбачэўскага і інш. Слоўнік беларускай мовы І.Насовіча надрукаваны ў 1870 г. і ўключаў у сваю рэестравую (левую) частку звыш 30 000 слоў, сабраных аўтарам пераважна ў Магілёўскай губерні. У тлумачальнай (правай) частцы слоўніка даецца або пераклад беларускай лексемы на рускую (параўн.: *здрадникъ – изменщикъ, обманщикъ; крама – лавка; криничный – родниковый; потылица – затылок* і г.д.), або апісальная характарыстыка беларускага слова па-руску (параўн.: *сопуха* – 'сажа в печной трубе'; *цэтлик* – 'письменная расписка' і да т.п.). Слоўнік І.Насовіча з'яўляецца дыферэнцыяльным, у яго не ўключаны словы, агульныя для беларускай і рускай моў, тыпу *агонь, зямля, рука* і да т.п. У слоўніку шырока выкарыстаны стылістычныя і граматычныя паметы, часам даюцца этымалагічныя даведкі, у якасці ілюстрацый ужываюцца фальклорныя запісы, парэміі, фразеалагізмы. Слоўнік перавыдадзены факсімільна ў 1983 г. (НАСОВІЧ 1983), што робіць яго даступным не толькі для навукоўцаў, але і для ўсіх, хто цікавіцца беларускім словам сярэдзіны 19 ст. Праца І.Насовіча адзначана ў Расіі Дзямідаўскай прэміяй, атрымала станоўчыя водзывы буйнейшых рускіх і беларускіх вучоных таго яшчэ адносна далёкага дарэвалюцыйнага часу, у прыватнасці, А.Сабалеўскага, А.Пыпіна, І.Сразнеўскага, Я.Карскага, П.Бяссонава і інш.

Слоўнік "Собраніе слов литовско-русского (белорусского) наречія" складзены ў 1838–1840 гг. Ф.Шымкевічам доўгі час захоўваўся ў рукапісным выглядзе і надрукаваны толькі ў наш час на Украіне (гл.: ГАЛАС 1995, 145–180). Дадзены слоўнік уключае ў сябе каля 3000 беларускіх намінатыўных адзінак (слоў, устойлівых выразаў). Частка прыведзеных слоў перакладзена на рускую мову, частка – на іншыя мовы: англійская, венгерская, дацкая, латышская, літоўская, нямецкая, польская, сербская, славацкая, фінская, чэшская, шведская і інш. [параўн.: *або* – 'или' (руская), *атказаць* – 'odkazati' (чэшская), *блекетаць* – 'блекнути' (сербская), *брыль* – 'шляпа' (brihle латышская), *жерства* – 'dziarstwo' (польская), *жлукта* – 'žluktas' (літоўская), *жбан* – 'džbán' (славацкая), *кавнеръ* – 'koller' (нямецкая), *йолуп* – 'jolppi' (фінская), *кофта* – 'koft' (шведская), *лапик* – 'lap' (англійская), *паркан* – 'párkány' (венгерская), *скрыня* – 'skrin' (дацкая), *стреха* – 'стреа' (сербская) і г.д., што можа разглядацца як этымалагічныя нататкі пэўных слоў.].

Значная колькасць слоў пададзена або без усялякага перакладу і тлумачэння (параўн.: *мур, нуда, потрава, шкварыць, шкода, шукаць, ярыца* і інш.), некаторым жа словам даецца надта абагульненае азначэнне (параўн.: *безъ* – 'род кустарника', *казёл* – 'род грибов' і да т.п.).

Звыш 900 беларускіх лексем змяшчаецца ў надрукаваным у 1842 г. ў Санкт-Пецярбургу "Корнеслове русского языка" Ф.Шымкевіча, якія ў згаданай працы Б.Галаса выдзелены асобным спісам.

"Словарь западнорусского наречия" (1850–1851) І.Грыгаровіча захаваўся толькі ў рукапісе (з асобнымі карэктурнымі лістамі на літару А), які ўключае ў сябе звыш 4000 слоў, у тым ліку дыялектызмаў; выдзелены пад нумарамі значэнні полісемічных слоў, прыведзены сінонімы. Словы падрабязна тлумачацца, даюцца граматычныя і стылістычныя паметы. Прадстаўленыя ў слоўніку лексемы выбраны са

старабеларускіх помнікаў, а таксама з жывых беларускіх гаворак, ілюструюцца прыкладамі з гэтых помнікаў, фальклорнымі тэкстамі, парэміямі.

Акрамя зазначаных лексікаграфічных прац захаваўся рукапіс А.Меера "Описание Кричевского графства или бывшего староства" (1786), дзе побач з гістарычнымі, этнаграфічнымі, геаграфічнымі апісаннямі гэтай беларускай мясцовасці змешчана каля 600 беларускіх слоў, кожнае з якіх мае лацінскі ці рускі пераклад або тлумачэнне. Словы размеркаваны па тэматычных рубрыках тыпу "О лесах", "О названиях пернатых", "О растениях и грибах" і да т.п., а ўнутры іх па алфавіце. Дадзеную працу можна лічыць першай спробай ідэаграфічнага апісання беларускай лексікі, поўнага тэматычнага прадстаўлення якой няма і сёння.

Рукапісны "Словарь белорусского наречия" (1845) П.Шпілеўскага ахінае каля паўтары тысячы беларускіх лексем, пазначаных націскам, што дае ўяўленне аб іх вымаўленні, аб характары якога сведчаць таксама адлюстраваныя ў слоўніку дзеканне і цеканне, падоўжаныя зычныя, аканне, пераход *л* у *ў* нескладовае, цвёрдыя *р, ж, ч, ш*. Тлумачэнне беларускіх слоў робіцца пераважна праз іх пераклад на рускую мову (параўн.: *астрожны* – 'тюремный'; *варта* – 'караул, стража'; *фурман* – 'кучер, извозчик' і г.д.), але ўжываюцца таксама і апісальныя звароты, этымалагічныя нататкі, этнаграфічныя апісанні, прыводзяцца некаторыя граматычныя паметы для слоў кожнай знамянальнай часціны мовы. Невялікія беларускія лексікаграфічныя матэрыялы прадстаўлены ў працах Я.Чачота, Я.Карскага, К.Калайдовіча і інш. (гл.: ГУЛІЦКІ 1978, 9–36).

Першыя навуковыя (фанетычныя, граматычныя, лексікаграфічныя) спробы апісання новай беларускай літаратурнай мовы, заснаванай амаль цалкам на народных гаворках, сведчыць пра з'яўленне на лінгвагеаграфічнай карце свету адметнай славянскай мовы, якая дзякуючы сваім глыбінным дыялектным караням захавала ў сябе ў найбольш чыстым выглядзе адну з самых старажытных і развітых моў Еўропы. Страта арганічнай пераемнасці са старабеларускай літаратурнай мовай мае для новай беларускай літаратурнай мовы, такім чынам, і свае дадатныя моманты, бо захаваныя кніжныя традыцыі ў большасці іншых літаратурных славянскіх мовах зрабілі іх у значнай ступені змешанымі, з вялікай доляй іншамоўных запазычанняў. З гэтага пункту гледжання новая беларуская літаратурная мова сталася найбольш натуральнай і найменш падлеглай іншамоўным уплывам, якія, праўда, значна ўзмацніўся ў савецкі перыяд праз рускае пасрэдніцтва на такія стылі беларускай мовы, як навуковы і афіцыйна-дзелавы. Адносная чысціня стылю мастацкай літаратуры кампенсуецца масавым змяшэннем беларускіх і рускіх моўных кампанентаў у гутарковым стылі, узнікненнем трасянкі, што з вуснага маўлення пранікае і ў іншыя стылі беларускай літаратурнай мовы, найперш у публіцыстычны.

## 3.3. НАВУКА АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ Ў 20 ст.

### 3.3.1. ЛІНГВІСТЫЧНАЯ СПАДЧЫНА Я.КАРСКАГА (1861–1931)

Я.Ф.Карскі (1861–1931) справядліва лічыцца заснавальнікам не толькі беларускага мовазнаўства, але і ўсёй беларускай філалогіі, бо ў сваёй навуковай творчасці ён адлюстраваў фактычна ўсё, што створана на беларускай пісьмовай мове і што існавала ў вуснай форме. Ён быў адначасова і лінгвістам, і літаратуразнаўцам, і палеографам, і гісторыкам, і этнографам, і дыялектолагам, і фальклярыстам, або ў цэлым – самым сапраўдным энцыклапедыстам у шырокім сэнсе гэтага слова. Я.Карскі напісаў каля тысячы навуковых прац, большасць з якіх прысвечана даследаванню і апісанню беларускай мовы (і старабеларускай, і новай

беларускай), стаў акадэмікам яшчэ ў царскай Расіі, у 1929 г. быў абраны акадэмікам і аўтарытэтнай Чэшскай акадэміі навук, з 1905 па 1910 гг. працаваў на пасадзе рэктара Варшаўскага універсітэта, які на той час быў рускамоўным, узначальваў камісію пры адкрыцці Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску (1921).

З 1916 г. Я.Карскі жыў і працаваў у Санкт-Пецярбургу, акрамя беларусістыкі займаўся славістыкай, у тым ліку русістыкай, украіністыкай, даследаваў старaславянскую і старажытнарускую мовы. Ён першы стварыў манументальную працу пра беларускую мову і беларусаў – падобных прац да нашага часу не маюць іншыя славянскія народы, прычым у сваім трохтомным даследаванні "Беларусы" (1903–1922), а таксама ў іншых публікацыях ён прааналізаваў старабеларускія помнікі, сучасныя беларускія гаворкі, фальклорныя творы і творы беларускіх пісьменнікаў В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, Цёткі, Я.Лучыны і інш. (пра жыццёвы і навуковы шляхі Я.Карскага гл.: БУЛАХОВ 1981).

Вялікі навуковы інтарэс уяўляюць лінгвагеаграфічныя карты, у прыватнасці "Этнаграфічная карта беларускага племені. Беларускія гаворкі", дзе вызначаны граніцы распаўсюджвання беларускай мовы, якія значна перавышаюць дзяржаўныя межы як тагачаснай, так і сучаснай Беларусі.

У першым томе сваёй грунтоўнай працы "Беларусы" (1903) аўтар разгледзеў пытанні паходжання і геаграфічнага рассялення беларусаў, ахарактарызаваў лінгвістычныя рысы беларускай мовы ў параўнанні з адпаведнымі рысамі рускай і ўкраінскай моў, апісаў фанетыку, граматыку, лексіку беларускай мовы як у ранейшыя часы (калі Беларусь была ў складзе Вялікага Княства Літоўскага), так і ў перыяд 19 – 20 стст. Я.Карскі сведчыць, што канчаткова старабеларуская літаратурная мова склалася ўжо ў 14 ст., а працэс далейшага яе фарміравання і ўдасканальвання працягваўся да 16 ст. Другі том "Беларусаў" (1908–1912) апублікаваны ў трох выпусках і змяшчае ў сябе падрабязную характарыстыку гукаў беларускай мовы ў іх гістарычным развіцці, дэталёвае апісанне дэрывацыі беларускіх слоў (суфіксацыя, прэфіксацыя, асноваскладанне) як з дыяхранічнага, так і з сінхранічнага пунктаў гледжання, марфалагічнае апісанне беларускай мовы ў старажытным і сучасным станах у параўнанні з рускай і ўкраінскай, падрабязна ахарактарызаваў сінтаксіс беларускай мовы, вылучыў пры гэтым усе тыпы простых і складаных сказаў на матэрыяле помнікаў старабеларускай мовы, сучасных беларускіх гаворак, літаратурных і фальклорных твораў.

У трэцім томе "Беларусаў" (1916–1922) разгледжаны тэмы "Народная паэзія", "Старая заходнеруская пісьменнасць", "Мастацкая літаратура на народнай мове". Я.Карскі ўпершыню апісаў дыялектнае чляненне беларускай мовы, выдзеліў у ёй паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялектныя масівы, сярэднебеларускія гаворкі і палескія на аснове выразных лінгвістычных паказчыкаў (моцнае аканне, цвердаэрасць, цоканне, наяўнасць канчатка *-ць* у дзеясловаў трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу і інш.), а ўнутры беларускіх дыялектаў вылучыў шэсць груп народных гаворак. Я.Карскі ўпершыню ўвёў у навуковы ўжытак амаль усе вядомыя на той час старабеларускія літаратурныя помнікі, якія на моўных падставах адмежаваў ад рускіх і ўкраінскіх з улікам знешніх фактараў (месца напісання, аўтар і інш.). Разам з тым вучоны падкрэсліваў пад уплывам тагачаснай навуковай парадыгмы, што панавала ў колішняй імперскай Расіі, не агульнанацыянальны, а рэгіянальны характар беларускай мовы, разглядаў яе як разнавіднасць, адгалінаванне рускай мовы, не ставіў беларускую і рускую мовы ўпоравень як раўнапраўныя самастойныя славянскія мовы. У якасці метамовы (мовы апісання беларускай мовы) Я.Карскі ужываў рускую мову, беларуская ж мова служыла пераважна ў якасці аб'екта апісання.

Тым не менш тытанічная навуковая дзейнасць Я.Карскага на ніве беларушчыны стварыла надзейны эмпірычны і тэарытычны падмурак па ўсебаковаму лінгвістычнаму аналізу і апісанню новай беларускай літаратурнай мовы, чаму паспрыялі як знешнія, так і ўнутраныя, уласна моўныя фактары.

### 3.3.2. БЕЛАРУСКАЕ МОВАЗНАЎСТВА Ў ПЕРШАЙ ПАЛАВІНЕ 20 ст.

Да знешніх чыннікаў, што стваралі спрыяльныя варункі для развіцця беларускай літаратурнай мовы, адносіцца найперш узнікненне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у 1918 г.

Унутранымі фактарамі развіцця беларускай лінгвістыкі паслужылі з'яўленне ў пачатку 20 ст. легальнага перыядычнага беларускага друку (у выглядзе згаданых вышэй беларускіх газет і часопісаў) і, бадай, найбольш магутнай сілы беларускага нацыянальнага самавыяўлення – літаратурных твораў такіх волатаў, як паэты і пісьменнікі нашай краіны Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч, М.Зарэцкі, М.Гарэцкі, З.Бядуля, К.Чорны і інш. Арыгінальнае багатае самавітае друкаванае беларускае слова вымагала свайго навуковага асэнсавання, апісання, унармавання, кадыфікацыі. І менавіта ў год стварэння БНР з'явілася адразу некалькі розных па памеру і якасці друкаваных граматычных прац па беларускай мове, самай вызначальнай з якіх сталася "Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча, дзе сцісла, проста, але навукова грунтоўна і перспектыўна вызначаны асноўныя нормы беларускай літаратурнай мовы, што ў нязменным выглядзе і зараз выкарыстоўваецца беларускай дыяспарай і некаторымі сучаснымі недзяржаўнымі выданнямі Рэспублікі Беларусь (газеты "Наша ніва", "Свабода" і інш.) пад неафіцыйнай назвай "тарашкевіца". У скажоных рэформамі 1933 і 1957 гг. беларуская літаратурная мова ўжываецца пад неафіцыйным найменнем "наркомаўка" ў сістэме адукацыі, дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, іншых дзяржаўных структурах і выданнях. Такім чынам, мы маем на сённяшні дзень фактычна дзве літаратурныя нормы, як і некаторыя замежныя мовы (кітайская, нарвежская, комі, пакуль што адзіная сербскахарвацкая і інш.).

У сваёй "Граматыцы" Б.Тарашкевіч (1892–1941) вызначыў найбольш характэрныя моўныя адметнасці сярэднебеларускіх гаворак у якасці нормы беларускай літаратурнай мовы: фанетычны прынцып напісання для галосных (як чуеш, так і пішы) і марфалагічны прынцып (не заўсёды прама звязаны з вымаўленнем) для зычных, дзеканне, цеканне, зацвярдзенне шыпячых і *р,* асіміляцыя зычных па мяккасці і інш.; прапанаваў правапіс для запазычаных слоў. Марфалагічны прынцып напісання не адлюстроўвае вымаўлення звонкіх зычных на канцы слоў: гаворым, напрыклад, [*сн'эх*], [*сат*], [*боп*] і да т.п., і пішам *снег, сад, боб*; у спалучэннях зычных на сутоках слоў, у словазлучэннях і інш. (напрыклад, пішам *лётчык,* а гаворым [*л'óчык*], пішам *матцы*, а гаворым [*мá¯цы*], пішам *над полем*, а гаворым [*натпóл'эм*] і інш.). Дадзеныя фанетычныя і марфалагічныя прынцыпы напісання захаваліся цалкам і ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Што тычыцца напісання запазычаных слоў, то Б.Тарашкевіч прапанаваў пісаць добра засвоеныя замежныя словы ў адпаведнасці з беларускімі прынцыпамі вымаўлення, тыпу *літара, аратар, вакзал*, а кніжныя, яшчэ не засвоеныя іншамоўныя лексемы пісаць у адпаведнасці з правіламі той мовы, з якой яны запазычаны (параўн.: *Лёндан, монолёг, Голяндыя* і інш.).

Агульнапрынятым навуковым і вучэбным здабыткам працы вучонага (ён жа быў і знакамітым грамадскім, палітычным дзеячом; гл.: ЛІС 1966) сталіся наступныя граматычныя правілы: падзел назоўнікаў на адушаўлёныя і неадушаўлёныя

("ажыўленыя і неажыўленыя"), выдзяленне імён уласных і агульных ("собскіх і агульных"), выдзяленне мужчынскага, жаночага і ніякага роду, адзіночнага і множнага ліку, трох тыпаў скланення (але да шасці сучасных склонаў назоўнікаў дадаваўся яшчэ і клічны, рэшты якога захаваліся і ў наш час); для дзеясловаў вылучаны абвесны, загадны і ўмоўны лад, першае і другое спражэнне, закончанае і незакончанае трыванне, тры формы часу (цяперашні, прошлы, будучы), катэгорыі стану (актыўны і пасіўны); выдзелены дзеепрыметнікі, дзеепрыслоўі; сярод прыслоўяў вылучаюцца прыслоўі месца, часу, спосабу, прычыны, а таксама ступені параўнання; прыведзены ўзоры скланення назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў, узоры спражэння дзеясловаў. Б.Тарашкевіч распрацаваў марфалагічны падзел знамянальнага слова на аснову, корань, канчатак, суфікс, прэфікс, асобна вычленіў двухкаранёвыя словы.

У галіне сінтаксісу вучоны вызначыў галоўныя тыпы сказаў (развітыя, поўныя і няпоўныя; простыя і складаныя – залежныя і незалежныя, дзейнікавыя, выказнікавыя, дапаўняльныя, азначальныя; акалічнасныя: месца, часу, спосабу, мэты, прычыны, умовы), асноўныя (дзейнік, выказнік) і даданыя (азначэнне, дапаўненне, акалічнасць) члены сказа, сцісла ахарактарызаваў галоўныя функцыі знакаў прыпынку. Б.Тарашкевіч пры напісанні сваёй кнігі справядліва лічыў, што вучоны не павінен устанаўліваць правілы, нормы мовы, а толькі замацоўваць, кадыфікаваць тое ў граматыках, што выпрацавана моўнай практыкай.

Граматыка Б.Тарашкевіча выкарыстана пры стварэнні і публікацыі многіх лінгвістычных апісанняў новай беларускай літаратурнай мовы (у прыватнасці, такімі вядомымі айчыннымі навукоўцамі, як Я.Лёсік, А.Багдановіч, Р.Астроўскі, Я.Станкевіч і інш.). У час палітычных рэпрэсій (30-я гады 20 ст.) Б.Тарашкевіч беспадстаўна быў арыштаваны і загінуў у сталінскіх казематах, а яго працы, частка з якіх перавыдадзена ў наш час (гл.: ТАРАШКЕВІЧ 1991), былі забаронены для ўжытку на тэрыторыі СССР.

У 20-я гады 20 ст. на Беларусі разгарнулася шырокая лексікаграфічная дзейнасць, у прыватнасці надрукаваны 24 выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі (алгебра, анатомія, арыфметыка, батаніка, геаграфія, геалогія, геаметрыя, грамадазнаўства, заалогія, лесаводства, логіка, мастацтва, мінералогія, музыка, педагогіка, права, псіхалогія, раслінаводства, сельская гаспадарка, хімія і інш.; гл.: ЖУРАЎСКІ, КРЫВІЦКІ 1979, 5), апублікаваны беларуска-рускі і руска-беларускі перакладныя слоўнікі (гл.: БАЙКОЎ, ГАРЭЦКІ 1924; БАЙКОЎ І НЕКРАШЭВІЧ 1926; ЛАСТОЎСКІ 1924, і інш.), слоўнікі, прысвечаныя вайсковай тэрміналогіі (М.Байкоў і А.Бараноўскі), праву (М.Гуткоўскі), батаніцы (З.Верас), дыялектныя слоўнікі Віцебшчыны (М.Каспяровіч), Чэрвеньшчыны (М.Шатэрнік) і інш.

У гэты ж час распрацоўваюцца тэарытычныя пытанні вывучэння і апісання беларускіх народных гаворак, лінгвагеаграфіі ў публікацыях М.Байкова, П.Бузука, І.Воўка-Левановіча, Я.Карскага, П.Растаргуева і інш. Напрыклад, манаграфічная праца па беларускай дыялекталогіі надрукавана ў 1928 г. П.Бузуком "Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі", дзе разгледжаны фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці гаворак цэнтральнай і ўсходняй Беларусі, а таксама сумежных абласцей Расіі і Украіны, што дае падставу разглядаць вучонага як першага лінгвагеографа-славіста (гл.: РАМАНОВІЧ, ЮРЭВІЧ 1969, 5).

У 1926 г. праведзена Акадэмічная канферэнцыя па пытаннях рэформы беларускага правапісу і азбукі, дзе прынялі ўдзел акрамя айчынных спецыялістаў замежныя лінгвісты і пісьменнікі (М.Фасмер, Ю.Галомбэк, Я.Райніс і інш.). Па выніках працы гэтай канферэнцыі ўтворана Камісія беларускай літаратурнай мовы, якая падрыхтавала і апублікавала ў 1930 г. праект новага беларускага правапісу, аднак у гэты ж час ужо распачаліся масавыя палітычныя рэпрэсіі і з'явілася ідэалагічная

ўстаноўка на зліццё нацый і збліжэнне моў у СССР. У Беларусі створана іншая камісія, якая і распрацавала ў 1933 г. новы праект беларускага правапісу, прыняты ў гэтым жа годзе Саветам Народных Камісараў (СНК) БССР пад назвай "Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу". У афіцыйна прынятым законе не хаваліся палітычныя падставы на адкрытае збліжэнне беларускай мовы з рускай "для выхавання працоўных у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму". Звыш 20 новых правілаў, змешчаных у прынятай пастанове, скажалі ўсталяваныя нормы беларускай літаратурнай мовы шляхам штучнага, ненатуральнага і прымусовага накладвання на іх правілаў рускай мовы. Узаконена, напрыклад, напісанне нехарактэрнага для беларускага вымаўлення ненаціскнога гука *е* ў словах, дзе ён знаходзіўся не ў першым складзе перад націскам; запазычаныя словы павінны перадавацца не паводле правілаў беларускай мовы, а згодна з правіламі мовы-донара, скасавана перадача на пісьме спалучэнне мяккіх зычных перад галоснымі пярэдняга раду (параўн.: *звер, снег* і да т.п. замест *зьвер, сьнег* і да т.п.), што зроблена для збліжэння з адпаведнымі правіламі рускай літаратурнай мовы; канчатак *-ей*, характэрны для рускіх назоўнікаў множнага ліку роднага склону прыйшоў на змену беларускага канчатку *-яў* (напрыклад, замест *магчымасцяў, сувязяў* і інш. рэкамендавана пісаць *магчымасцей, сувязей* і г.д.); беларускі канчатак *-у* назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку роднага склону заменены на канчатак *-а*, прыдатны рускай мове (замест *заводу, інстытуту* і да т.п. пішам цяпер на ўзор рускай мовы *завода, інстытута* і да т.п.). Невядомыя беларускай мове дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу ўзведзены ў ранг літаратурнай нормы і нават зараз не могуць засвоіцца беларускай мовай і ўспрымаюцца як яўныя русізмы (параўн.: *пераўжываемы, падштурхоўваемы* і інш.), гэтаксама як і зваротная форма дзеепрыметнікаў (параўн.: *з пачаўшайся акупацыяй, вызначыўшыхся ў барацьбе* і да т.п.) і інш. (гл.: СТАНКЕВІЧ 1936).

Правапісам 1933 г. карысталіся ў Савецкай Беларусі да 1957 г., калі Савет Міністраў БССР не рэабілітаваў нормы беларускай літаратурнай мовы, а толькі крыху іх падкарэктаваў (упарадкаваны, напрыклад, правілы напісання канчаткаў *-а, -у* ў назоўніках роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду, запазычанні рэкамендавана афармляць на пісьме згодна з правіламі беларускай літаратурнай мовы і інш.).

У дадзены час падрыхтаваны і выйшлі з друку лінгвістычныя працы Ц.Ломцева, К.Гурскага і інш. (гл.: ЛАМЦЁЎ 1935; ГУРСКІ 1940; БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА 1936; СІНТАКСІС 1939), прысвечаныя апісанню фанетыкі, арфаграфіі, марфалогіі, сінтаксісу беларускай літаратурнай мовы і скіраваныя на збліжэнне з адпаведнымі правіламі і нормамі пералічаных раздзелаў рускай літаратурнай мовы. Такі ж характар (збліжэнне з рускай мовай) меў і выдадзены ў 1937 г. самы вялікі на той час перакладны "Руска-беларускі слоўнік" пад рэдакцыяй А.Александровіча ў колькасці 40 000 рэестравых слоў. У гэты ж перыяд методыцы выкладання беларускай мовы прысвечаны апублікаваныя працы Я.Коласа (гл.: БЕЛАКУРСКАЯ 2000).

Пад час сталінскага тэрору 30-х гадоў 20 ст. былі рэпрэсіраваны буйнейшыя беларускія мовазнаўцы М.Байкоў, П.Бузук, І.Воўк-Левановіч, М.Гарэцкі, С.Некрашэвіч, Б.Тарашкевіч і інш., што разам з Вялікай Айчыннай вайной істотна затармазіла развіццё беларускага мовазнаўства, многія пытанні якога ў 50-я гады 20 ст. прыйшлося пачынаць распрацоўваць ледзь не з нуля, прынамсі, фактычна ўжо на новых навуковых прынцыпах.

## 3.3.3. НАВУКОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ДРУГОЙ ПАЛАВІНЕ 20 ст.

У 1952 г. ў Акадэміі навук БССР быў занава створаны Інстытут мовазнаўства (з 1956 г. імя Я.Коласа), які першапачаткова быў адкрыты ў 1929 г., але ў хуткім часе быў рэфармаваны (1935) у Інстытут літаратуры, мастацтва і мовы. З адкрыццём спецыяльнай лінгвістычнай установы звязана разгорнутае і плённае навуковае апісанне беларускай мовы на ўсіх яе ўзроўнях і па ўсіх раздзелах лінгвістыкі (фанетыка, марфалогія, словаўтварэнне, лексіка, сінтаксіс, фразеалогія, стылістыка), а таксама ў розных разнавіднасцях мовы (дыялекталогія, мастацкая літаратура, публіцыстыка, навука і інш.). Асабліва значныя вынікі атрыманы ў апісанні беларускіх дыялектаў, за кошт якіх у вялікай ступені папоўніўся лексічны фонд беларускай літаратурнай мовы (гл.: БАХАНЬКОЎ 1982, 220). У распрацоўцы згаданых аспектаў беларускай мовы актыўны ўдзел прынялі побач з вучонымі Акадэміі навук і выкладчыкі ВНУ як сумесна з першымі, так і самастойна. Напрыклад, вынікам сумеснай працы акадэмічных работнікаў і выкладчыкаў ВНУ стаўся трохтомны “Курс сучаснай беларускай літаратурай мовы” (Мінск, 1957–1961), падручнікі і вучэбныя дапаможнікі М.Гурскага, М.Булахава, М.Жыдовіч, Ю.Мацкевіч, М.Марчанкі, Ц.Ломцева, П.Юргелевіча і інш. Найбольш значнай працай пасляваеннага перыяду з’явілася акадэмічная “Граматыка беларускай мовы” ў двух тамах (Мінск, 1965), якая ў цэлым структурна наследуе акадэмічнай “Граматыцы рускай мовы”, надрукаванай напярэдадні (Масква, 1960). Па аналагічнай структурнай схеме і ў той жа часавай паслядоўнасці выйшла другое акадэмічнае выданне “Беларуская граматыка” ў дзвюх частках (Мінск, 1985, 1986), якія надрукаваны ўслед за публікацыяй двухтомнай “Рускай граматыкі” (Масква, 1980). Дадзеная акалічнасць робіць памянёныя беларускія граматыкі своеасаблівым сколкам з адпаведных рускіх граматык, хаця, зразумела, увесь ілюстрацыйны матэрыял з’яўляецца ў айчынных граматыках беларускім, таксама як і апісанні пэўных фанетычных і граматычных асаблівасцяў, якія не супадаюць у абедзвюх роднасных мовах (параўн.: дзеканне, цеканне, падваенне зычных і інш. ў фанетыцы, адметныя марфалагічныя і сінтаксічныя з’явы і інш.).

Бадай, найбольш значнай навуковай працай у галіне беларускай лінгвістыкі пасляваеннага часу служыць Дыялектны атлас беларускай мовы (ДАБМ), выдадзены ў 1963 г. і якому належыць прыярытэт у славянскім свеце, бо гэта першае поўнае лінгвагеаграфічнае апісанне адной са славянскіх моў (у 1971 г. праца адзначана Дзяржаўнай прэміяй СССР). У ДАБМ налічваецца 338 лінгвістычных карт, дзе паказана тэрытарыяльнае пашырэнне фанетычных (64 карты), акцэнталагічных (15 карт), марфалагічных (115 карт), сінтаксічных (21 карта), лексічных (121 карта) з’яў беларускіх гаворак (гл.: КРЫВІЦКІ 1986, 66–68).

Лагічным і арганічным працягам гэтай вялікай працы служыць унікальнае пяцітомнае выданне “Лексічнага атласа беларускіх гаворак” (ЛАБНГ) (Мінск, 1993–1998), складзенага з 1791 карты, дзе паказана геаграфічнае размеркаванне 25 198 дыялектных лексем, аб’яднаных наступнымі прадметнымі тэмамі: “Жывёльны і раслінны свет” (т. 1), “Сельская гаспадарка” (т. 2), “Чалавек” (т. 3), “Побыт” (т. 4), пяты том прысвечаны апісанню семантычных асаблівасцяў беларускай дыялектнай лексікі, яе дэрывацыйным і акцэнталагічным характарыстыкам. Вялізны эмпірычны матэрыял, сабраны беларускімі навукоўцамі, можа паслужыць надзейнай фактаграфічнай крыніцай, матэрыяльнай базай, што здатны стымуляваць узнікненне цэлых навуковых кірункаў у беларускім і славянскім мовазнаўстве, быць зыходнай асновай для напісання мноства навуковых прац, спектр якіх можа ахінаць разнастайныя ўнутрымоўныя тэмы лексічнай варыянтнасці і сінаніміі, прадметныя

групоўкі лексікі, а таксама тэмы, звязаныя з параўнальным даследаваннем славянскай лексікі. ЛАБНГ паслужыць невычэрпнай крыніцай для этымалагічнага апісання славянскіх моў, дазволіць назаўсёды захаваць багаты і каштоўны светапогляд беларусаў, увасоблены ў дзесятках тысяч розных, як правіла матываваных, дыялектных найменняў. Дадзенай працай засведчана, што беларуская мова, нягледзячы на самыя неспрыяльныя знешнія варункі свайго функцыянавання, працягвае жыць па сваіх унутраных законах як у асобе сваіх непасрэдных носьбітаў, так і ў асобе рупліўцаў, даследчыкаў беларускай мовы, якія захоўваюць і пашыраюць яе навуковую прастору, уводзяць вынікі яе аналізу ў культурны ўжытак, навуковую спадчыну ўсяго чалавецтва.

Надзвычай каштоўнымі служаць таксама тыя працы беларускіх вучоных па збору лексічнага матэрыялу асобных гаворак Беларусі, што надрукаваны ў выглядзе канкрэтных рэгіянальных слоўнікаў: "Слоўнік беларускіх гаворак Паўночна-Заходняй Беларусі і яе пагранічча" (Мінск, т. 1–5, 1979–1986), "Тураўскі слоўнік" (Мінск, т. 1–5, 1982–1987), тры выпускі (1959, 1960, 1970) "Дыялектнага слоўніка" Ф.Янкоўскага, тры выпускі (1970, 1974, 1977) "Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак" пад рэдакцыяй М.Жыдовіч, а таксама шматлікія двухтомныя і аднатомныя выданні слоўнікаў беларускай дыялектнай лексікі М.Абабуркі, І.Бялькевіча, М.Каспяровіча, Е.Мяцельскай, Я.Камароўскага, П.Сцяцко, Л.Шаталавай, М.Шатэрніка, Г.Юрчанкі, Р.Яўсеева і інш.

Істотным здабыткам беларускай лексікаграфіі паслужылі шэсць выпускаў слоўніка айконімаў Я.Рапановіча, трохтомная кніга М.Бірылы па беларускай анамастыцы, працы Я.Адамовіч, В.Жучкевіча, В.Лемцюговай, А.Мезенка, М.Судніка, А.Усціновіча, І.Яшкіна і іншых у гэтым жа кірунку.

Асобны від лексікаграфічнай працы складаюць перакладныя слоўнікі, якія маюць і практычнае значэнне, бо імі карыстаюцца не толькі навучэнцы, але і ўсе тыя, хто сутыкаецца (перакладае, супастаўляе і да т.п.) з дзвюма і больш living рознымі мовамі. У пасляваенны час рознымі выдавецтвамі апублікавана шмат такіх слоўнікаў, у тым ліку "Руска-беларускі слоўнік" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (Мінск, 1953), "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мінск, 1962) з пазнейшымі дапоўненымі і дапрацаванымі выданнямі, "Падручны польска-беларускі слоўнік" пад рэдакцыяй А.Абрэмбскай-Яблонскай і М.Бірылы (Варшава,1962), "Украінска-беларускі слоўнік" В.Лемцюговай (Мінск, 1980), "Беларуска-расейскі слоўнік" Я.Станкевіча (Нью-Йорк, 1989) і інш.

Найбольш значнымі ўласна лінгвістычнымі слоўнікамі, выдадзенымі ў Беларусі, з'яўляюцца "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Мінск, т. 1–5, 1977–1984), "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мінск, 1996), "Марфемны слоўнік беларускай мовы" А.Бардовіча і Л.Шакуна (Мінск, 1975, другое выданне 1989), "Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў" М.Клышкі (Мінск, 1976, другое выданне 1993), "Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы" І.Лепешава (Мінск, т. 1–2, 1993), "Слоўнік іншамоўных слоў" А.Булыкі (Мінск, т. 1–2, 1999), "Слоўнік паронімаў беларускай мовы" С.Грабчыкава (Мінск, 1994), "Частотны слоўнік беларускай мовы" Н.Мажэйка, Я.Супруна (Мінск, т. 1–5, 1976–1992), "Анамастычны слоўнік твораў Я.Коласа" (Мінск, 1990), а таксама "Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Я.Коласа" (Мінск, 1993), "Слоўнік мовы Скарыны" У.Анічэнкі (Мінск, т. 1–3, 1977–1994). Надрукаваны слоўнікі эпітэтаў беларускай мовы М.Пазнякова (Мінск, 1988), Н.Гаўрош (Мінск, 1998). Працягваецца праца над шматтомнымі "Этымалагічным слоўнікам беларускай мовы" (Мінск, т. 1–8, 1978–1993), "Гістарычным слоўнікам беларускай мовы" (Мінск, вып. 1–21, 1982–2001), "Слоўнікам мовы Янкі Купалы" (Мінск, т. 1–2, 1998–1999).

Асобныя манаграфічныя працы прысвечаны апісанню фанетыкі беларускай мовы (М.Бірыла, Л.Вардамацкі, Л.Выгонная, Я.Івашуціч, А.Крывіцкі, А.Падлужны, Э.Смулкова, В.Чэкман, Ф.Янкоўскі і інш.), сярод якіх вылучаецца грунтоўная калектыўная акадэмічная праца "Фанетыка беларускай літаратурнай мовы" (Мінск, 1989, пад рэд. акадэміка А.Падлужнага). Даследаванне прыватных марфалагічных катэгорый прадстаўлена ў манаграфіях М.Жыдовіч, А.Наркевіча (назоўнік), М.Булахава (прыметнік), Ю.Мацкевіч (дзеяслоў), Т.Сцяшковіч (займеннік), А.Чабярука, П.Вярхова (лічэбнік), П.Шубы (прыназоўнік, прыслоўе, дзеяслоў) і інш. Сінтаксічная характарыстыка беларускай мовы дадзена ў манаграфічных працах Л.Бурака, А.Міхневіча, А.Наркевіча, В.Протчанкі, Л.Падгайскага, П.Сцяцко, М.Яўневіча і інш.

Словаўтварэнне ў беларускай мове прааналізавана ў кнігах Л.Шакуна, М.Прыгодзіча, М.Паўленкі і інш. Лексіка беларускай мовы з дыяхранічнага пункту гледжання асветлена ў калектыўнай манаграфіі "Гістарычная лексікалогія беларускай мовы" (Мінск, 1970), а таксама ў кнігах А.Баханькова, М.Булахава. Пэўныя перыяды развіцця і функцыянавання лексікі беларускай мовы адлюстраваны ў даследаваннях М.Абабуркі, А.Булыкі, В.Краснея, М.Крукоўскага і інш. (гл.: ЛЕКСІКАЛОГІЯ 1994).

Фразеалагічны матэрыял беларускай мовы прадстаўлены ў шматлікіх слоўніках як дыялектнага тыпу (М.Даніловіч, Я.Камароўскі і Е.Мяцельская, Г.Юрчанка, Ф.Янкоўскі і інш.), так і літаратурнага, у тым ліку перакладных (І.Кісялёў, І.Лепешаў, З.Санько і інш.). Тэарытычнай распрацоўцы праблем беларускай фразеалогіі прысвечаны манаграфічныя даследаванні А.Аксамітава, М.Даніловіч, У.Коваль, І.Лепешава, Г.Параскевіч, Ф.Янкоўскага і інш.

Вывучэнне гісторыі беларускай мовы пачата Я.Карскім, В.Ластоўскім, Я.Ваўком-Левановічам (гл.: ГЕРМАНОВІЧ 1985, 120–121), якія асвятлялі пераважна перыяд старабеларускага пісьменства, што таксама даследавалася і замежнымі славістамі Х.Стангам, А.Мартэлем і інш. У другой палавіне 20 ст. гісторыя беларускай мовы разглядалася ў манаграфіях, прысвечаных апісанню змяненняў фанетычных з'яў і арфаграфіі (М.Булахаў, А.Булыка, А.Груца, А.Жураўскі, І.Крамко, Д.Ляончанка і інш.), пэўных беларускіх помнікаў пісьменнасці (А.Булыка, Н.Вайтовіч, А.Жураўскі, У.Свяжынскі і інш.). Найбольш значнымі і фундаментальнымі працамі па гісторыі беларускай літаратурнай мовы з'яўляюцца кніга Л.Шакуна "Гісторыя беларускай літаратурнай мовы" (Мінск, 1963, другое выданне 1984, Дзяржаўная прэмія БССР 1986) і калектыўная двухтомная манаграфія "Гісторыя беларускай літаратурнай мовы" [Мінск, т. 1, 1967; т. 2, 1968; аўтары – А.Жураўскі (1-ы том), І.Крамко, А.Юрэвіч, А.Яновіч (2-і том)]. Параўнальнаму і тыпалагічнаму даследаванню беларускай мовы прысвечаны працы У.Анічэнкі, К.Гурскага, В.Лукашанец, Б.Плотнікава, А.Супруна і інш.

Надрукаваныя бібліяграфічныя зборнікі па беларускім мовазнаўстве служаць вельмі карыснай даведачнай літаратурай, дзе сабраны практычна ўсе публікацыі па беларускай мове, часам з кароткімі анатацыямі (гл.: **БЕЛАРУСКАЕ МОВАЗНАЎСТВА,** вып. 1–3, Мінск, 1967–1993).

У наш час айчынныя лінгвісты даследуюць не толькі пытанні, праблемы, тэмы, звязаныя з беларускай мовай, але і практычна ўсе больш-менш значныя аспекты і раздзелы сучаснага мовазнаўства. У прыватнасці апісанню рускай мовы, часам у супастаўленні з беларускай, прысвечаны шматлікія манаграфічныя працы, апублікаваныя ў Беларусі (М.Булахаў, Т.Валынец, А.Гіруцкі, М.Канюшкевіч, І.Козыраў, А.Манаенкава, В.Маслава, Г.Мезенка, А.Міхневіч, В.Нікіцевіч, С.Прохарава, І.Роўда, Л.Чумак, П.Шуба і інш.). Вядуцца параўнальна-гістарычныя, а таксама супастаўляльна-тыпалагічныя апісанні і даследаванні амаль усіх славянскіх

моў (Р.Казлова, У.Карпаў, А.Кожынава, В.Мартынаў, Б.Норман, Б.Плотнікаў, А.Супрун, Г.Цыхун і інш.), вывучэнне стараславянскай мовы, паўднёвых і заходніх славянскіх моў, украінскай мовы, часта ў параўнанні з беларускай (У.Анічэнка, В.Вярэніч, У.Карпаў, В.Крыўчык, В.Лемцюгова, Н.Мажэйка, Н.Мячкоўская, Б.Норман, Б.Плотнікаў, А.Супрун, Г.Ярмоленка і інш.). З германскіх моў апісваюцца ў першую чаргу англійская (Д.Багушэвіч, Ю.Барысаў, Я.Воўшын, Г.Кліменка, Л.Ляшчова, Я.Маслава, В.Няхай, Ю.Панкрац, Т.Паплаўская, Т.Суша, І.Ухванава, З.Харытончык і інш.), нямецкая (С.Гайдучык, В.Галай, Т.Глушак, П.Копанеў, Г.Панкрац, Ю.Папоў, А.Шаранда і інш.). З раманскіх моў найбольш даследуецца французская (Л.Кістанава, З.Лявіт, М.Лешчанка, У.Макараў, Л.Скрэліна, А.Сцяпанава, С.Шашкова і інш.). Распачалося апісанне класічных моў, пераважна лацінскай (Н.Ганчарова, А.Гарнік, Г.Шаўчэнка і інш.), моў Усходу (А.Гардзей, М.Тарэлка і інш.).

У галіне агульнага мовазнаўства даследаваліся праблемы сутнасці і функцыянавання жывых нацыянальных і штучных (машынных) моў (А.Гіруцкі, В.Зубаў, Б.Касоўскі, А.Кіклевіч, В.Мартынаў, А.Міхневіч, Н.Мячкоўская, Б.Норман, Б.Плотнікаў, А.Супрун і інш. псіхалінгвістыкі (А.Кліменка, А.Супрун, А.Цітова і інш.), праблемы кампрэсіі моўнай інфармацыі, рыторыкі (А.Вейзе, А.Міхневіч, Л.Мурына і інш.), актуальныя аспекты сучаснай сацыялінгвістыкі (А.Лукашанец, А.Міхневіч, Н.Мячкоўская, А.Падлужны, І.Токарава і інш.), праблемы эксперыментальнай фанетыкі (К.Барышнікава, Л.Выгонная, С.Гайдучык, А.Каранеўская, Г.Мятлюк, А.Падлужны, Т.Паплаўская і інш.), культуралагічных сувязяў натуральнай мовы (В.Маслава, С.Прохарава, Л.Чумак і інш.), тэорыі перакладу (П.Копанеў, В.Рагойша і інш.).

У сферы матэматычнай і прыкладной лінгвістыкі вывучаюцца пытанні лінгвастатыстыкі (М.Лясохін, К.Лук'яненкаў, В.Нешытой, Б.Плотнікаў і інш.), семіялагічных аспектаў мовы (В.Грыб, В.Мартынаў, Б.Плотнікаў і інш.), камп'ютэрнага прадстаўлення моўных фактаў (А.Зубаў, В.Карпаў, В.Мартынаў і інш.). Лінгвістычныя даследаванні праводзяцца ў Інстытуце мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі, БДУ, Беларускім педагагічным універсітэце імя М.Танка, Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, Гомельскім, Гродзенскім універсітэтах, у Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, іншых навуковых і навучальных установах краіны. Дзейнічае Беларуская асацыяцыя камунікатыўнай лінгвістыкі з выданнем штогодніка "Палілог". Выходзіць навуковы штогоднік Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі "Беларуская лінгвістыка", навуковыя "Веснікі" універсітэтаў і інш.

# 4. СТЫЛІСТЫКА. КУЛЬТУРА МАЎЛЕННЯ

## 4.1. СТЫЛІСТЫЧНАЕ ЧЛЯНЕННЕ МОВЫ

Мова з'яўляецца глабальным дыялектычным па сваёй прыродзе феноменам, які адыгрывае для людзей дзве супрацьлеглыя функцыі: аб'ядноўвае іх у адзіны клас жывых істот з найбольш выразнай, яскравай, адмысловай прыкметай – здольнасць і ўменне гаварыць і ўспрымаць маўленне; а ўнутры гэтага агульнага класа чуйна, пластычна і гнутка дыферэнцыруе людзей па нацыях, па месцы жыхарства (дадзеную асаблівасць адлюстроўвае рэгіянальнае чляненне мовы на дыялекты, групы гаворак, асобныя гаворкі), па разнастайных сацыяльных групоўках (мова фіксуе гэта чляненне людзей сваімі жаргонамі, слэнгамі, арго і інш.), па сферах дзейнасці. Апошняя дыферэнцыяцыя людзей унутры кожнай развітой мовы адбіваецца тым, што яна даволі відавочна падзяляецца на стылі; за кожным з іх трывала замацавана функцыя абслугоўвання пэўных відаў, сфер, галін дзейнасці і жыцця людзей.

У паўсядзённым жыцці і быце, па-за сферамі прафесійнай і грамадскай дзейнасці чалавека выкарыстоўваецца гутарковы стыль мовы, для якога характэрнымі служаць размоўная лексіка (параўн.: *аграменны, шпаргалка, шыбаваць* і г.д.), эліптычная структура сказа (максімальна скарочаныя выказванні, дзе часта апускаюцца словы, звязаныя з вядомымі па сітуацыі маўлення фактамі, прадметамі, падзеямі), ужыванне ўсечаных форм слоў (*Пал Палыч* замест *Павел Паўлавіч*, *тэлек* замест *тэлевізар* і г.д.), актыўнае выкарыстанне парамоўных сродкаў і інш. Гутарковы стыль мовы мае пераважна вусную форму ўжывання; на пісьме яго выкарыстанне абмяжоўваецца ў асноўным мовай персанажаў мастацкіх твораў (драматычных, празаічных, радзей паэтычных). Асобную разнавіднасць гутарковай лексікі складаюць прастамоўныя сродкі выражэння, словы зніжанай неўнармаванай лексікі, грубыя мацерныя словы, што даволі часта знаходзяць месца ў гаворцы малакультурных, слабаадукаваных, нявыхаваных людзей не столькі ў якасці сродку зносін, колькі ў якасці выражэння эмоцый, пачуццяў, ацэнак, а часам і проста ў якасці паразітычных слоў, рэплік, выразаў, што ўжываюцца з-за адсутнасці элементарнай моўнай і агульнай культуры адпаведнага чалавека, або ў асобных сітуацыях сярод сваіх "калег", або выкарыстоўваюцца пэўнымі людзьмі, што знаходзяцца ва ўзбуджаным, псіхічна ненармальным, не кантраляваным свядомасцю стане. Для беларускага маўлення лаянкавая лексіка малахарактэрна, амаль уся яна запазычана з рускай мовы і апошнім часам стала даволі актыўна збірацца і даследавацца расійскімі лінгвістамі (гл.: ЖЕЛЬВИС 1990; РУССКИЙ МАТ 1994; РУССКИЙ МАТ 1997).

Публіцыстычны стыль мовы выкарыстоўваецца найперш у СМІ – сродках масавай інфармацыі (газеты, часопісы, радыё, тэлебачанне, дакументальныя кнігі, публічныя прамовы і выступленні аратараў і інш.). У адрозненне ад гутарковага стылю публіцыстычны рэалізуецца не толькі ў вуснай, але і ў пісьмовай форме, прычым абедзве формы цесна і непасрэдна ўзаемадзейнічаюць паміж сабой: пісьмовы тэкст часта выступае як агучанае вуснае маўленне, а вусныя выступленні, прамовы, інтэрв'ю вядомых палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, прадстаўнікоў навукі, культуры, спорту і інш. часта друкуюцца ў СМІ, праяўляюцца ў пісьмовай форме.

Гутарковы стыль мовы звычайна выкарыстоўваецца ў дыялогу, у якім бяруць удзел, як правіла, два чалавекі, субяседнікі, прамоўца і слухач, што могуць мяняць свае ролі, прамоўца выступае як слухач, а слухач як прамоўца. У публіцыстычным стылі слухачом служыць не адзін чалавек, а вялікая аўдыторыя, часам насельніцтва ўсёй краіны. Таму публіцыстычны стыль мовы патрабуе зразумелага для ўсіх моўнага спосабу афармлення і перадачы думкі, інфармацыі, паведамлення і звычайна мае форму маналога. Значыць, істотнымі асаблівасцямі гэтага стылю служаць выразнасць, зразумеласць, панятнасць, даступнасць інфармацыі для ўсіх, каму яна прызначана. Далей, інфармацыя, афармленая моўнымі сродкамі публіцыстычнага стылю, часта мае на мэце не проста данесці да аўдыторыі пэўныя звесткі, але і падаць іх у належнай форме, прывабным выглядзе, каб прыцягнуць адрасатаў, або інфармантаў, або чытачоў (слухачоў) на бок той пазіцыі, на якой стаіць аўтар паведамлення. Адсюль публіцыстычны стыль часта выступае ў якасці агітацыйнага сродку, і ў такіх выпадках пазбаўлены нейтральнасці. У адпаведнасці з гэтым выбіраюцца і ацэначныя моўныя сродкі, з дапамогай якіх адна і тая ж падзея можа падавацца і як станоўчая з'ява, і як з'ява адмоўная, непрымальная для аўтара паведамлення (параўн., напрыклад: з аднаго боку словы *форум, мітынг*, а з другога – *зборышча, шабаш*, што могуць прымяняцца да адной і той жа падзеі прадстаўнікамі розных палітычных ці сацыяльных інтарэсаў, пунктаў гледжання, або адным і тым жа публіцыстам у залежнасці ад яго пазіцыі, прыналежнасці да пэўнай партыі і г.д.).

Яшчэ адной важнай рысай публіцыстычнага стылю служыць перадача актуальнай, свежай інфармацыі, а таксама паведамленняў на тэмы, якія пастаянна з'яўляюцца цікавымі для аўдыторыі: абмеркаванне набалелых пытанняў жыцця краіны, асобных яе раёнаў, праблем унутранай і знешняй палітыкі і г.д. Для ўздзеяння на аўдыторыю неабходна ўжываць і такія прыдатныя для публіцыстычнага стылю атрыбуты маўлення, як эмацыянальнасць і экспрэсіўнасць, што складаюць не толькі своеасаблівую "ўпакоўку" інтэлектуальнай інфармацыі, але і істотную частку зместу, якая непасрэдна ўплывае на нюансіроўку думкі, на выдзяленне ў ёй найбольш важных момантаў, на ўспрыманне і засваенне слухачамі (чытачамі) паведамленняў у патрэбным для прамоўцы (аўтара) рэчышчы. Згаданыя атрыбуты спрыяюць і больш глыбокаму ўражанню ад выказаных думак і здольны прыводзіць да іх практычнага ўвасаблення ў жыццё, дзейнасць, паводзіны людзей. Самымі характэрнымі моўнымі сродкамі публіцыстычнага стылю служаць разнастайныя тропы, г.зн. ужыванні слоў у пераносным значэнні, скрытыя параўнанні, напрыклад *вахта міру, нацыянальная скарбонка* і да т.п., дзе словы *вахта* і *скарбонка* ўжываюцца ў больш шырокім значэнні, чым першапачатковы сэнс прыведзеных слоў, выкарыстанне ацэначнай і экспрэсіўнай лексікі, прымяненне звароткаў, клічных і пабуджальных сказаў, рытарычных пытанняў, паўтораў і інш.

Афіцыйна-дзелавы стыль мовы абслугоўвае канцылярскую, юрыдычную, адміністрацыйную сферы дзейнасці людзей, і ў адрозненне ад гутарковага стылю рэалізуецца пераважна ў маналагічнай пісьмовай форме (пастановы, загады, рэзалюцыі, указы, інструкцыі, кодэксы, дзелавыя пісьмы, аб'явы, характарыстыкі, даверанасці, распіскі, аўтабіяграфіі, ноты, камюніке, статуты, распараджэнні, мемарандумы, пагадненні, канвенцыі, пратаколы, разнастайныя акты, пэўныя даклады і выступленні і іншыя дакументы). У адрозненне ад разгледжанага вышэй публіцыстычнага стылю тут адсутнічае эмацыянальнасць, даволі шырока ўжываюцца стандартныя формы выражэння, мінімальна прадстаўлены экспрэсіўныя, індывідуальна-аўтарскія сродкі, бо інфармацыя перадаецца, як правіла, ад упаўнаважанай калектывам (установай, міністэрствам, дзяржавай, урадам і інш.) асобы або групы асоб. Выкарыстанне афіцыйна-дзелавога стылю мае на мэце два асноўныя прызначэнні – інфармацыйнае і пабуджальнае, г.зн. у адпаведных дакументах падаюцца не толькі звесткі, але і патрэбы, заклікі, пабуджэнні да іх

выканання тымі, каму яны скіраваны (параўн.: загады, распараджэнні, ноты, пастановы, указы, статуты і інш.). Дакументы афіцыйна-дзелавога стылю патрабуюць дакладнасці, лагічнасці, паслядоўнасці, адназначнасці вербальных фармулёвак, сціслаці, эканомнасці, таму часта афармляюцца на адпаведных бланках ці па ўстаноўленай форме. Лексічныя і сінтаксічныя сродкі афіцыйна-дзелавога стылю даволі строга рэгламентаваны, што надае адпаведным дакументам аб'ектыўнасць, лаканічнасць, афіцыйнасць і катэгарычнасць, пазбаўляе іх двухсэнсоўнасці і расплыўчатасці фармулёвак, палажэнняў. Для мовы дакументаў характэрна шырокае ўжыванне безасабовых канструкцый (рэдка выкарыстоўваюцца формы 1-й і 2-й асобы займеннікаў і дзеясловаў), складаназалежных сказаў з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі, складаных злучнікаў тыпу *ў сувязі з тым, што... у выніку таго, што...* і інш., канцыялярызмаў, клішэ, шаблонаў, перанос якіх, аднак, у іншыя моўныя стылі можа рабіцца толькі для пэўных стылістычных мэтаў (іроніі, насмешкі, гумару, пародыі і інш.). Афіцыйна-дзелавым стылем мовы павінны добра валодаць асобы, вербальная дзейнасць якіх часта рэалізуецца сродкамі гэтага стылю, але ўжывацца павінен ён толькі ў афіцыйных варунках, у штатных службовых сітуацыях, пры падрыхтоўцы дакументаў згаданага вышэй кшталту.

Навуковы стыль прызначаны для фіксавання захоўвання, перадачы інфармацыі ў пэўнай галіне ведаў і характарызуецца такімі ўласцівасцямі, як лагічнасць, дакладнасць, паслядоўнасць, што збліжае яго з афіцыйным стылем. Яшчэ адна рыса, якая лучыць дадзеныя стылі, – першаснасць пісьмовай формы ў адносінах да вуснай. Апошняя існуе ў выглядзе дакладаў, паведамленняў на разнастайных навуковых канферэнцыях, сімпозіумах, семінарах. Адрознівае навуковы стыль ад афіцыйна-дзелавога вышэйшая абстрактнасць, глыбейшая інтэлектуальнасць, шырокая неаднароднасць, залежная ад дыферэнцыяцыі навукі, падзелу яе на мноства дысцыплін, кожная з якіх мае свае спецыфічныя сродкі выражэння і лексічныя, і параграфічныя (неславесныя). Таму ў межах навуковага стылю выдзяляюць падмовы (радыёфізікі, матэматыкі, электронікі, эканомікі і г.д.).

У некаторых навуковых тэкстах вербальныя сродкі служаць асноўным спосабам афармлення думак (пераважная колькасць тэкстаў, належных гуманітарным дысцыплінам), у іншых жа назіраецца спалучэнне вербальных і невербальных сродкаў, прычым гэта спалучэнне адзначаецца ў розных прапорцыях: тэксты ў асноўным негуманітарных галін ведаў могуць быць часам прадстаўлены невербальнымі сродкамі (табліцы множання, разнастайныя матэматычныя даведнікі, геаграфічныя карты, тэхнічныя схемы, альбомы, атласы, сістэмы неславесных камунікацый і інш.). Лексічныя сродкі, што выкарыстоўваюцца ў навуцы для наймення яе асноўных катэгорый, паняццяў, рэалій, называюцца тэрмінамі і патрабуюць асобнага разгляду (гл. адпаведны раздзел кнігі). Вусная форма існавання паведамленняў навуковага стылю ўяўляе сабой, як правіла, агучаны пісьмовы тэкст, г.зн. служыць другаснай у адносінах да пісьма, чым супрацьпастаўляецца найперш гутарковаму стылю і адбываецца ў форме дакладаў, паведамленняў, лекцый, дыспутаў і інш. Навуковы стыль дыферэнцыруецца не толькі ў адносінах да розных гуманітарных і негуманітарных дысцыплін, але і ў дачыненні да сферы прызначэння. У адпаведнасці з апошняй вылучаюцца, у прыватнасці, такія навуковыя падстылі, як уласна навуковы (прызначаны для калег-спецыялістаў), вучэбна-навуковы (рэалізуецца ў разнастайных падручніках і дапаможніках і прызначаны для навучэнцаў), навукова-публіцыстычны (адрасуецца для распаўсюджвання ведаў сярод шырокага кола насельніцтва). У залежнасці ад асаблівасцяў кожнага навуковага падстылю ў ім ужываюцца і розныя моўныя сродкі. Так, стылістычныя фігуры (тропы, параўнанні, эўфемізмы і інш.) займаюць значна большае месца ў навукова-папулярнай літаратуры. У навуковых дыскусіях эмацыя-

нальны кампанент выкарыстоўваецца значна часцей, чым у навуковых дакладах, прычым першыя ўяўляюць сабой дыялог (палілог), а другія – маналог. У дачыненні да знешніх форм (пісьмовая, вусная) навуковы стыль часцей прадстаўлены пісьменна, агучванне пісьмовага навуковага тэксту ўяўляецца даволі складаным для адэкватнага ўспрымання (лепш усё ж засвойваецца змест пісьмовага навуковага тэксту).

Адметнай рысай навуковых тэкстаў служыць шырокае скарыстанне спасылак на разнастайныя крыніцы, якія афармляюцца ў выглядзе бібліяграфіі і складаюць прэсупазіцыйны фон дадзеных тэкстаў, надаюць ім даставернасць, інфармацыйную насычанасць, а аўтарам тэкстаў – неабходную кампетэнтнасць, эрудыцыю і кваліфікаванасць. Даволі разнастайнымі з'яўляюцца і жанры навуковай літаратуры: тэзісы, анатацыя, рэферат, артыкул, манаграфія, дысертацыйныя працы, зборнікі, падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, спецыяльныя даведнікі, у тым ліку энцыклапедычныя, шматлікія слоўнікі (тлумачальныя, перакладныя, граматычныя і інш.) і г.д.

Камунікатыўнай, інфармацыйнай функцыі паведамленняў навуковага стылю папярэднічае пазнавальная функцыя, якая звычайна займае значна большае месца ў творчай дзейнасці спецыяліста. Напрыклад, для напісання кандыдацкай дысертацыі адводзіцца як мінімум тры гады паўсядзённай працы кваліфікаванага спецыяліста, як правіла з вышэйшай адукацыяй, у нашай краіне. Яшчэ больш часу і інтэлектуальных высілкаў патрабуюць напісанні доктарскіх дысертацый, манаграфій, падручнікаў для ВНУ і інш.

Навуковыя працы афармляюцца па выпрацаваных стандартах, строга ўпарадкаваны і структурыраваны, часта суправаджаюцца рэзюме, анатацыямі, нярэдка рэцэнзуюцца і рэферыруюцца (звычайна манаграфічныя выданні), складаюць асноўны фонд бібліятэк спецыяльных устаноў (ВНУ, акадэмічныя інстытуты і інш.). З усіх стыляў літаратурнай мовы навуковы з'яўляецца найбольш міжнародным па свайму характару, бо грунтуецца на параграфемах і на лексіцы інтэрнацыянальнага паходжання (прынамсі, у еўрапейскіх краінах).

Стыль мастацкай літаратуры, прадстаўлены лепшымі майстрамі слова, служыць адначасова і ўзорам літаратурнай мовы ў цэлым. У адрозненне ад афіцыйна-дзелавога і навуковага стыляў ён па сваіх моўных сродках і выражаным змесце мае найбольш глыбокі і адметны нацыянальны характар, таму перакладаць тэксты мастацкай літаратуры на іншыя мовы значна цяжэй, чым афіцыйна-дзелавыя і навуковыя. У мастацкай літаратуры даволі выразна выдзяляюцца такія жанры, як проза, паэзія, драматургія, мемуары, кожны з якіх характарызуецца сваімі моўнымі асаблівасцямі, структурнай арганізацыяй.

Аднак агульным для іх усіх служыць разнастайнае выкарыстанне вобразных сродкаў, абыгрыванне ўнутранай формы слоў, пераробка фразеалагізмаў, а таксама ў залежнасці ад тэматыкі канкрэтнага твора, ад яго аўтара і ўжыванне сродкаў іншых разгледжаных вышэй стыляў. Найбольш істотнай рысай стылю мастацкай літаратуры з'яўляецца рэалізацыя ў ім эстэтычнай функцыі мовы, таму невыпадкова ў якасці сіноніма тэрміна *мастацкая літаратура* ў беларускай мове прымяняецца выраз *прыгожае пісьменства.* Малюнкавасць і вобразнасць мовы мастацкай літаратуры забяспечваецца гарманічным выкарыстаннем усіх стылістычных рэсурсаў канкрэтнай мовы, выпрацаваных цягам яе гісторыі і наяўных на перыяд напісання канкрэтнага твора, у якім могуць быць ужыты і дыялектызмы, і жарганізмы, і неалагізмы, і тэрміны, і канцылярызмы, і кніжныя словы, а таксама архаізмы, аказіяналізмы, гістарызмы і інш. Вобразнасць, эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць выяўленчых сродкаў мастацкай літаратуры грунтуецца на шырокім выкарыстанні мнагазначных слоў, эпітэтаў, сінонімаў, антонімаў, разнастайных тропаў, адмысловых спалучэнняў слоў, эліптычных канструкцый сказа (асабліва ў мове

персанажаў), стылістычных фігур – анафара, катафара, метафара, эпіфара, паралелізм і інш. (гл.: АСНОВЫ КУЛЬТУРЫ 1992, 66).

Мастацкая літаратура таксама характарызуецца тым, што ў ёй вылучаюцца стылі асобных буйных пісьменнікаў, паэтаў, мова якіх мае адметныя індывідуальныя рысы, што адрозніваюць яе ад мовы іншых майстроў слова. Мова асобнага пісьменніка называецца ідыястылем, і яе вывучэнню прысвечана шмат філалагічных прац як літаратуразнаўчых, так і лінгвістычных, многія з якіх маюць характар дысертацыйных работ.

З усіх стыляў мовы стыль мастацкай літаратуры з'яўляецца найбольш сінкрэтычным, амбівалентным, бо ў ім у розных прапорцыях могуць рэалізавацца элементы іншых стыляў, аб'яднаных агульнай для ўсіх функцыяй камунікатыўнасці. Для стыля ж мастацкай літаратуры дадатковай, але, бадай, важнейшай для яе і дыферэнцыяльнай у адносінах да іншых стыляў служыць функцыя эстэтычная (гл.: ЦІКОЦКІ 1995, 274).

Апрача твораў прыгожага пісьменства асобных аўтараў мастацкі стыль ужываецца ў народнай калектыўнай творчасці – фальклоры (казкі, легенды, паданні, песні, байкі і інш.). Мастацкі стыль рэалізуецца і ў пісьмовай, і ў вуснай форме, у форме дыялогу і маналогу, у аўтарскай мове і ў мове персанажаў. Знакамітыя мастацкія творы і іх часткі могуць выкарыстоўвацца ў іншых мастацтвах, пераводзіцца ў іх, напрыклад, у тэатральныя пастаноўкі, кіно, оперы, музычныя творы, творы выяўленчага мастацтва, жывапісу і інш., быць аб'ектам навуковага даследавання, г.зн. апісвацца сродкамі навуковага стылю.

## 4.2. АСНОЎНЫЯ СТЫЛІСТЫЧНЫЯ СРОДКІ МОВЫ

Вобразнасць, экспрэсіўнасць, эмацыянальнасць, эстэтызм мовы дасягаецца шляхам шырокага і ўсебаковага выкарыстання ў ёй разнастайных тропаў – слоў, выразаў, якія ўжываюцца не ў прамым, а ў пераносным значэнні, г.зн. назвы адных прадметаў прымяняюцца для наймення іншых прадметаў, з'яў, на аснове чаго і ўзнікаюць зазначаныя якасці мовы, дзе эстэтычная функцыя часта перавышае намінатыўную і камунікатыўную функцыі мовы або ўраўнаважваецца з імі.

Да тропаў належаць: эпітэт, параўнанне, метафара, метанімія, сінекдаха, перыфраза, алегорыя, гіпербала, іронія і інш. Яшчэ адну групу вобразных сродкаў мовы ўтвараюць так званыя фігуры, апрача згаданых намі ў папярэднім параграфе анафары, катафары, метафары, эпіфары, паралелізму, таксама антытэза, градацыя, інверсія, рытарычнае пытанне, эліпсіс (гл.: ЮРЭВІЧ 1992, 52), граматычныя канструкцыі са своеасаблівай сінтаксічнай будовай, якая надае сказу большую экспрэсію.

Кожны з пералічаных вобразных сродкаў можа стыхійна прымяняцца носьбітам мовы пры выкарыстанні, напрыклад, публіцыстычнага стылю, таму, зразумела, больш эфектыўным будзе іх выкарыстанне пры добрым тэарэтычным веданні і тропаў, і фігур. Пры неўсвядомленым ужыванні, калі змястоўная сутнасць гэтых сродкаў з'яўляецца не зусім зразумелай для прамоўцы, магчымы іх няправільныя, недарэчныя прымяненні, што здатна нашкодзіць яго іміджу.

Для эпітэтаў належаць азначэнні, што ўжываюцца метафарычна (пераносна) пры характарыстыцы пэўнага прадмета, з'явы і надаюць ім пры гэтым і выразнасць, і экспрэсіўнасць. Напрыклад, прыметнік *чорны* ў сваім прамым значэнні звязваецца з колерам і ператвараецца ў эпітэт, калі адносіцца да абазначэння змрочных з'яў рэалій, падзей (параўн.: *чорны піджак* і *чорныя дні*, *чорная хмара* і *чорная зайздрасць*, а таксама ў дачыненні да іншых слоў – *залаты пярсцёнаак* і *залатое сэрца*, *зялёная трава* і *зялёная моладзь*, *жалезны абруч* і *жалезны характар* і інш.).

Параўнаннем выражаецца эксплiцытны (знешне выражаны) перанос якасцяў, прыкмет адной рэчы на іншую, у выніку чаго і ўзнікае экспрэсія, вобраз (параўн.: *мае характар цвёрды, як крэмень; абадралі падаткамі як ліпку; наляцеў на мяне каршуном; стаіць быццам слуп* і г.д.). У адрозненне ад параўнання метафара мае імпліцытна (без злучнікаў *як, быццам, што* і інш.) у сваім выкарыстанні перанос значэнняў або па знешняму падабенству адпаведных рэалій, або па ўнутранаму, або па аналогіі (параўн.: *ножка стала, грэбень лесу, цвёрды характар, вецер пяе, лес нахмурыўся* і да т.п.). Метанімія звязана з пераносам значэнняў па сумежнасці тых ці іншых рэалій, без абавязковага іх падабенства, як гэта зазначаецца для метафар (параўн.: чалавека ў шляпе можна назваць *шляпай,* назва ўстановы выкарыстоўваецца для наймення яе супрацоўнікаў – *на сход сабраўся ўвесь інстытут* і да т.п.). Відам метаніміі з'яўляецца сінекдаха, калі назва часткі прадмета ўжываецца ў значэнні цэлага прадмета, або найменне відавога паняцця – замест радавога, назва адзінкавай рэаліі – замест множнай і інш. (параўн.: *Ён добра валодае словам*, дзе *словам* замяшчаецца мова; у выказванні Я.Купалы *Невясёлая старонка наша Беларусь // Людзі Янкі ды Сымонкі // Птушкі дрозд ды гусь* і інш.).

Перыфразай вобразна апісваецца з дапамогай звышслоўных адзінак мовы тое, што звычайна абазначаецца адным словам (параўн.: замест *дзяўчына – прыгожае стварэнне*, замест *бавоўна – белае золата*, замест *смяяцца – сушыць зубы* і да т.п.). У алегорыі назвай канкрэтнага прадмета перадаецца абстрактнае паняцце, прыкмета, якасць (параўн.: ліса – прыкмета хітрасці, заяц – баязлівасці, пчала – працавітасці і да т.п.). Гіпербалай называюць моцнае перабольшванне, звычайна шляхам адкрытага ці ўтоенага параўнання, а літотай, наадварот, памяншэнне адпаведных абазначэнняў такім жа шляхам (параўн.: *галава, як піўны кацёл; мора слёз* і *хлапчучок з кулачок; утапіцца ў лыжцы вады* і да т.п.).

У антытэзе супрацьпастаўляюцца кантрастныя паняцці, прыкметы, прадметы, назвамі якіх ахопліваецца ўсё абазначанае з пункту гледжання яго палярных якасцяў, супрацьлеглых палюсоў адпаведнай прыкметы (параўн.: *жыццё* і *смерць, дабро* і *зло, чорнае* і *белае* і інш.). Адным з відаў антытэзы з'яўляецца такая фігура, як аксюмаран, што выражае несумяшчальныя паняцці (параўн.: *жывы труп, гарачы снег* і іншыя выразы, пакладзеныя дарэчы ў назву адпаведных рускіх літаратурных твораў Л.Талстога і Ю.Бондарава). Эліпсісам называецца такая структура моўнага паведамлення, дзе апушчаны які-небудзь элемент, што, аднак, не пярэчыць успрыманню зместу выказвання, а, наадварот, надае яму адмысловую выразнасць і дынамізм (параўн.: вядомы выраз Цэзара *Veni, vidi, vici* '*Прышоў, убачыў, перамог*' і да т.п.). Пад інверсіяй разумеецца змена звычайнага агульнапрынятага парадку слоў у выказванні з мэтай сэнсавага або эмацыянальнага выдзялення пэўнай часткі выказвання (параўн.: *Год Новы наступіў* і да т.п.). Градацыя ўяўляе сабой моўны зварот, у якім кожнае наступнае слова ўзмацняе (ці аслабляе) значэнне папярэдняга слова (параўн. радкі з верша М.Багдановіча: *Старадаўняй Літоўскай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць* і да т.п.). У рытарычным пытанні, наступнай стылістычнай фігуры, фармулюецца думка, якая не патрабуе адказу, бо ён само сабой зразумелы, выцякае з ведання сутнасці справы, з'яўляецца аксіяматычным (параўн.: *Хто не любіць сваёй Радзімы* і да т.п.). Паўтор як стылістычная фігура прымяняецца для ўзмацнення той прыкметы, або якасці, аб якіх ідзе гаворка (параўн.: *Шмат, вельмі шмат часу, аддаў я вырашэнню гэтага пытання* і да т.п.). Сутнасць стылістычных фігур анафары і эпіфары заключаецца ў тым, што ў першым выпадку (пры выкарыстанні анафары) розныя сказы пачынаюцца з адных і тых жа слоў, а пры эпіфары розныя сказы заканчваюцца аднымі і тымі ж словамі (параўн.: з аднаго боку, выказванні тыпу *Ці ж я з табой не жыў, ці ж я цябе не любіў, ці ж я табе не дапамагаў,* з другога – *А ён усё скардзіцца, прыйдзе да мяне і скардзіцца, звяртаецца да сяброў і скардзіцца* і г.д.).

Сярод стылістычных рэсурсаў лексікі вылучаюцца сінонімы, антонімы, амонімы, паронімы, эўфемізмы. Да сінонімаў адносяцца словы, блізкія па значэнню, якія абазначаюць адно і тое ж паняцце, і розняцца паміж сабой або семантычнымі адценнямі (параўн.: *буйны, вялікі, велізарны, аграменны* і інш., дзе перадаецца градуальна, з нарастаннем паняцце 'вялікі'), або стылістычным (параўн.: *незвычайны* і *экзатычны*, *самалёт* і *лайнер*, дзе першыя словы адносяцца да нейтральнай лексікі, а другія – да кніжнай). Антонімамі называюцца словы з кантраснымі, супрацьлеглымі значэннямі (параўн.: *добры* і *дрэнны, вялікі* і *маленькі, разумны* і *дурны, хутка* і *павольна* і інш.). Антонімы збліжаюцца з сінонімамі тым, што абазначаюць разам з імі адну і тую ж якасць ці прыкмету, але адрозніваюцца паміж сабой тым, што антонімы абазначаюць палярныя канцы гэтай якасці, прыкметы, а сінонімы градуіруюць адну палавіну гэтай жа якасці, прыкметы (параўн.: прыкмета памеру абазначаецца, з аднаго боку, словамі *грандыёзны, гіганцкі, аграмадны, вялізарны, вялікі, буйны, немалы,* а з другога боку, – словамі *невялікі, малы, дробны, мізэрны, мініяцюрны* і да т.п.). Абедзве групы сінонімаў супрацьпастаўляюцца паміж сабой і звязаны антанімічнымі адносінамі.

Словы, якія цалкам супадаюць па гучанню (напісанню), але маюць розныя значэнні, называюцца амонімамі (параўн.: *кар'ер* 'бег каня' і *кар'ер* 'месца здабычы карысных выкапняў адкрытым спосабам' і да т.п.), а словы, падобныя па гучанню (напісанню), але таксама з рознымі значэннямі, называюцца паронімамі (параўн.: *адрасат* і *адрасант, эканамічны* і *эканомны* і да т.п.). Эўфемізмам карыстаюцца пры замене грубага, непрыстойнага слова ці выраза іншымі моўнымі сродкамі, якія пазбаўлены адмоўных адценняў. Так замест слова *грубы* можна выкарыстаць больш нейтральны адменнік – *няветлівы*, замест слова *п'яны* можна ўжыць фразеалагізмы *пад мухай, пад шафэ*, замест страшнага слова *смерць* – медыцынскі тэрмін *лятальны канец* і г.д.

Эфектыўным стылістычным сродкам мовы з'яўляецца і каламбур, заснаваны на абыгрыванні гукавога складу слова і яго розных значэнняў (параўн.: *Наскочыш у цемры ілбом на дрэва і будзеш свяціць надалей сваім уласным ліхтаром,* дзе слова *ліхтар* мае значэнне 'гузак' і да т.п.). Іронія змяшчаецца звычайна ў словах і выразах, якія зыходна маюць дадатны сэнс, станоўчую характарыстыку, але выражаюць адваротнае, адмоўнае значэнне. Так, словам *разумнік* можна назваць чалавека невысокіх інтэлектуальных здольнасцяў, словам *маладзец* – чалавека, які зрабіў 'немаладзецкі' ўчынак і г.д. Алагізм як стылістычны сродак выкарыстоўваецца ў маўленні для экспрэсіі выразу пры спалучэнні слоў з несумяшчальным, адваротным ці супрацьлеглым, значэннем (параўн.: *прывітаць свістам, прагнаць апладысментамі, сустрэць кулямётным агнём* і да т.п.).

Любой эстэтычнай прамове асобую прывабнасць, пэўны эстэтызм, некаторую мудрасць надаюць разнастайныя фразеалагічныя сродкі мовы, да якіх адносяцца шматлікія выразы, назапашаныя ў мове за ўсю гісторыю яе існавання: у выглядзе ўласна фразеалагізмаў (параўн.: *брацца непасрэдна за справу* і *ўзяць быка за рогі, гультаяваць* і *біць лынды, нічога не атрымаеш* і *фіндос пад нос* і г.д., дзе другія па месцы распалажэння выразы гучаць больш экспрэсіўна і выразна), а таксама прыказак, прымавак, выслоўяў, замоў, афарызмаў, крылатых слоў, аўтарытэтных цытат і выказванняў і г.д., як народнага беларускага паходжання (параўн.: *Чужая яечня не вечна, Божа памажы, але і сам падбяжы, Вазьмі Даніла, што нам няміла* і г.д.; гл.: САНЬКО 1991; ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ 1976), так і з розных замежных моў (параўн.: *альфа і амега, мець зуб, перайсці рубікон, лебядзіная песня* і інш.; гл.: ЛЕПЕШАЎ 1981; ЛЕПЕШАЎ 1993).

## 4.3. ПОЛІСЕМІЯ І АМАНІМІЯ

Полісемія, або мнагазначнасць, служыць адной з неад'емных і арганічных уласцівасцяў любой жывой мовы і заключаецца ў тым, што адной знешняй формай моўнай адзінкі перадаецца два і болей значэнняў, звязаных па сэнсу паміж сабой (параўн.: *лысіна* 1) месца на галаве, дзе вылезлі і не растуць валасы; 2) белая пляма на лбе некаторых жывёл; 3) пра ўчастак чаго-небудзь, пазбаўлены раслінасці, покрыва).

Калі адной формай выражаецца два і болей значэнняў, не звязаных паміж сабой па сэнсу, то такая з'ява называецца аманіміяй [напрыклад, *гасцінец* 1) падарунак; 2) бальшак, тракт; *тэрмін* 1) пэўны прамежак часу, пэўная дата, вызначаны час; 2) слова (злучэнне слоў), што дакладна абазначае пэўнае паняцце ў навуцы, тэхніцы, мастацтве і да т.п. (гл.: СТАРЫЧОНАК 1991)].

Часам граніцу паміж полісеміяй і аманіміяй правесці вельмі цяжка, а то і немагчыма, бо паняцце сувязі паміж рознымі значэннямі формы аднаго слова ці іншай моўнай адзінкі можа быць відавочнай, меней відавочнай, утоенай, а можа ўзнаўляцца толькі шляхам спецыяльных даследаванняў. Так, слова *каса* са значэннямі: 1) доўгія заплеценыя разам валасы; 2) ручная сельскагаспадарчая прылада, якая складаецца з доўгага загнутага ляза, насаджанага на касільна, і служыць для скошвання травы, збожжа і пад.; 3) доўгая вузкая паласа, што цягнецца ад берага, мыс у слоўніках падаецца як тыповыя амонімы (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1996), але магчыма і іх (слоў *каса)* інтэрпрэтацыя як полісемантаў на аснове наяўнасці ў іх агульнай семантычнай прыкметы 'нешта, што мае прадаўгаватую форму', якая і звязвае дадзеныя словы паміж сабой па значэнню.

Размежаванне полісеміі і аманіміі ўяўляе сабой адну з адмысловых і вечных праблем мовазнаўства і вырашаецца тут шляхам выкарыстання разнастайных метадаў (этымалагічных, дыстрыбуцыйных, кантэкстуальных, псіхалінгвістычных і інш.). Важна зазначыць агульнае, што лучыць дадзеныя з'явы (полісемію і аманімію): адной формай выражаецца некалькі значэнняў. Такую з'яву можна разглядаць у межах адзінага паняцця, што тэрміналагізуецца словам *неадназначнасць*. Існаванне неадназначнасці ў мове мае пад сабой надзейны псіхабіялагічны падмурак – абмежаваны аб'ём памяці чалавека, якая ў сваіх аперацыйных дзеяннях карыстаецца наборам 7±2 адзінкі (гл.: МИЛЛЕР 1964), доўгатэрміновы запас складае ўсяго некалькі тысяч намінатыўных адзінак пры наяўнасці мільёнаў апошніх у добра распрацаваных мовах. Так, нават у творах геніяльных носьбітаў канкрэтных моў зафіксаваны даныя, што не перавышаюць зазначаную колькасць ( А.Пушкін – 21 197 розных слоў, В.Шэкспір, М.Лермантаў – каля 15 000 розных слоў, С.Ясенін – каля 19 000, Ф.Скарына – 13 516). Колькасць жа асобных з'яў, паняццяў, прадметаў і іх прыкмет, што ляжаць у аснове значэнняў моўных адзінак, уяўляецца адкрытым, выразна бясконцым мноствам, таму для намінацыі неканечнага ліку рэалій канечным наборам адзінак ёсць толькі два ступеньчатыя шляхі: 1) абагульненае найменне тоесных ці аднолькавых рэалій адной моўнай адзінкай (напрыклад, нам няма патрэбы называць кожны стол, кожнае дрэва, кожную сняжынку, кожную травінку ці кветку асобным словам, дастаткова ўжыць абагульненае найменне тыпу *дрэва, стол, сняжынка, кветка* і да т.п.; 2) найменне розных рэалій, звязаных паміж сабой тымі ці іншымі прыкметамі, адным словам (напрыклад, слова *універсітэт* са значэннем 'будова', са значэннем 'ВНУ', са значэннем 'калектыў людзей, што працуе ў гэтай ВНУ' і інш., нягледзячы на прадметна розную суаднесенасць гэтых значэнняў, лучацца ў межах аднаго полісемічнага слова.

Такім чынам, праблема сумяшчэння абмежаванай уласцівасці нашай памяці і неабмежаванай колькасці знешніх рэалій паспяхова вырашаецца такой выдатнай якасцю намінатыўных адзінак мовы, як іх абагульняльны характар і іх полісемія.

Неадназначнасць такіх камунікатыўных адзінак мовы, як сказы, палягае ў тым, што адно і тое ж выказванне можа наталяцца самым разнастайным зместам у залежнасці ад таго, хто, дзе, калі, у адносінах да якой сітуацыі, якім тонам голасу, з якімі жэстамі і г.д. выкарыстаў яго (выказванне). Так, сказ *Мой сын ужо вярнуўся дадому* ў аднаго чалавека можа абазначаць першакласніка, які пяшком прыйшоў са звычайнай школы, размешчанай побач з домам; у другога – дзевяцікласніка, які прыехаў са спецыялізаванай школы на іншым канцы горада аўтобусам; у трэцяга – студэнта ВНУ, што дабіраецца дадому на метро; у чацвёртага – хлопчыка, што прыйшоў з канцэрту і г.д. з самымі разнастайнымі варыяцыямі зместу практычна да бясконцасці. Тое ж тычыцца і ўжывання асобных слоў рознымі носьбітамі мовы. Напрыклад, слова *свабода* ў вуснах школьніка можа абазначаць перапынак паміж урокамі або адсутнасць заняткаў, для каланіяльных народаў – дзяржаўную незалежнасць, для пэўнага філосафа – пазнавальную неабходнасць і г.д.

Унутрымоўным падмуркам лексічнай полісеміі служыць перанос значэнняў, іх транспазіцыя шляхам разнастайных падабенстваў і параўнанняў абазначаных словамі рэалій, што робіць наша маўленне вобразным, яркім, выразным, матываваным. З улікам успрымання чалавекам з'яў і прадметаў знешняй рэчаіснасці рознымі біялагічнымі органамі, арганізаванымі фізічным целам і змешчаным у ім, апошняе служыць найбольш зручнай і шырока выкарыстальны крыніцай экспансіі пераносных значэнняў (параўн.: *ножкі стала, ручка дзвярэй, язык полымя, нос карабля, галава калоны, плечы машын, калена вала, зуб шасцярні, сэрца рэвалюцыі, мозг класа, хрыбет гор, макушка лесу, лёгкія горада, горла збана, подых ветру* і г.д.). У сваю чаргу прыродныя з'явы, прадметы, іх уласцівасці, якасці, рысы знаходзяць сваё пераноснае мастацкае ўжыванне пры выражэнні знешняга і ўнутранага свету, стану, характару чалавека (параўн.: *бура гневу, мора кахання, рака слёз, зоркавая хвароба, ветраны чалавек, жалезная воля, сярэбраны голас, зялёная моладзь, чырвоны камісар, сонечная ўсмешка* і г.д.).

У пераносным значэнні ва ўсіх мовах шырока выкарыстоўваюцца назвы жывёл і іх якасцяў, асаблівасцяў як у дачыненні да краін (параўн.: *брытанскі леў, расійскі арол, беларускі зайчык* і да т.п.), так і ў адносінах да асобных людзей, якіх часам называюць і *лісой,* і *аслом*, і *свіннёй*, і *пчалой*, і *мошкай*, і *тыграм*, і *акулай*, і *ваўком*, і *індыком*, і *павай* і г.д. Найбольш ужывальнымі падобныя параўнанні, пераносныя значэнні адзначаюцца ў фальклоры, у гутарковым маўленні, у прыгожым пісьменстве. У навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях выкарыстанне полісеміі, аманіміі, разнастайных пераносных значэнняў служыць непажаданай з'явай, бо пярэчыць строгасці, лагічнасці, адназначнасці адпаведных найменняў. Тое, што належыць да набыткаў, пераваг, годнасці (у дадзеным выпадку полісемія і аманімія) аднаго стылю мовы, робіцца недахопам, заганай, недарэчнасцю ў іншым стылі, напрыклад, у афіцыйна-дзелавым.

Непаразуменні ўзнікаюць паміж людзьмі, што гавораць на адной мове часцей за ўсё з-за неадназначнасці яе адзінак. Асабліва выразныя, часам балючыя і нават катастрафічныя наступствы мае невырашаная полісемія для разнамоўных людзей, якія недакладна разумеюць і перакладаюць з адной мовы на другую тыя або іншыя словы, выразы, тэксты. Так, летам 1945 г. японскі ўрад выказаў свае адносіны да Патсдамскай канферэнцыі дакументам, дзе быў выкарыстаны неадназначны дзеяслоў *мокусацусуру,* які мае значэнні 'маўчаць', 'забіць', 'ігнараваць', 'адрынуць' і інш. У кантэксце зазначанага дакумента прыведзены дзеяслоў меў менавіта першае значэнне, але тады быў перакладзены саюзнікамі антыгітлераўскай кааліцыі на англійскую мову як 'адрынуць', што, магчыма, як лічаць некаторыя японскія даследчыкі, і прывяло да трагедыі атамнай бамбардзіроўкі амерыканцамі Хірасімы і Нагасакі (гл.: НАЦИОНАЛЬНО-КУЛЬТУРНАЯ СПЕЦИФИКА РЕЧЕВОГО ПОВЕДЕНИЯ 1977, 325). Полісемічнай можа быць любая значымая адзінка мовы: і марфема, і

слова, і словазлучэнне, і сказ. Нават адзінка плана моўнага выражэння – фанема, што рэалізуецца ў маўленні канкрэтнымі гукамі, здатна выклікаць у многіх людзей розныя сэнсавыя асацыяцыі, напрыклад, з памерам, колерам, прыгожым / непрыгожым і г.д. (гл.: ЛУРИЯ 1968).

У флектыўных мовах, да якіх належыць і беларуская, адзін афікс, як правіла, выконвае некалькі граматычных функцый, або з'яўляецца граматычна неаднназначным. Так, у слове *рукі* канчатак *–і* абазначае і множны лік, і назоўны склон, і адзіночны лік, і родны склон у залежнасці ад націску ў слове: першыя два граматычныя значэнні – калі націск падае на першы склад, другія два граматычныя значэнні – калі націск робіцца на другім складзе. У словазлучэнняў неадназначнасць можа быць граматычнай (параўн.: у выразе *запрашэнне аўтара* месціцца два граматычныя значэнні – *аўтар запрашае, аўтара запрашаюць*) або семантычнай пры набыцці адпаведным выразам пераноснага значэння, у выніку чаго ён робіцца фразеалагізмам (параўн.: *Дзеці просяць кашы* і *Боты просяць кашы* і г.д.). Полісемія розных адзінак мовы звычайна здымаецца кантэкстам іх ужывання, г.зн. сэнсам тых адзінак, якія акаляюць дадзеную шматзначную адзінку; а таксама сітуацыяй зносін, тонам чалавечага голасу, адпаведнымі парамоўнымі сродкамі і інш. Так, полісемічнае слова *корань* праяўляе адно значэнне сярод слоў *суфікс, канчатак, прэфікс, аснова,* другое – сярод слоў *ствол, галіна, кара, лісце, сук,* трэцяе – сярод слоў *квадрат, сума, лічба, куб* і інш.

Такім чынам, мнагазначнасць уласціва пераважна ізаляваным моўным адзінкам, якія ў маўленчых актах рэалізуюць часцей за ўсё толькі адно са сваіх значэнняў, што вынікае з пэўнага кантэксту. Магчымая кантэкстная неадназначнасць мае звычайна або выпадковы, або знарочысты характар. У апошнім выпадку полісемія выкарыстоўваецца для жартаў, каламбураў, анекдотаў і г.д. (параўн.: *Па дарозе ў Луўр д'Артаньян загнаў двух коней, аднаго Партосу, другога Атосу*, дзе дзеяслоў *загнаў* у першай частцы выказвання мае значэнне 'замарыў', а пасля далучэння другой часткі выказвання набывае сэнс 'прадаў', у выніку накладання гэтых сэнсаў усё выказванне ўспрымаецца як каламбур).

Полісемія характэрна для ўсіх жывых моў, але ў большай ступені яна прадстаўлена ў добра распрацаваных мовах цывілізаваных народаў. Напрыклад, для англійскага дзеяслова get у Оксфардскім слоўніку выдзелены 234 значэнні (гл.: ЛАДО 1989, 36), беларускі назоўнік *дзед* мае 46 значэнняў (СТАРЫЧОНАК 1997, 83), беларускі прыназоўнік *у* – 57 значэнняў (ШУБА 1993), рускае слова *идти* – 40 значэнняў (ТОЛКОВЫЙ СЛОВАРЬ 1935) і г.д. Дзякуючы мнагазначнасці сваіх адзінак мова робіцца эканомнай, гнуткай, пластычнай, экспрэсіўнай, эстэтычнай, прывабнай, патэнцыяльна невычэрпнай крыніцай разнастайных вобразаў, стылістычных фігур.

Самыя характэрныя для кожнай лексічнай адзінкі віды полісеміі адлюстроўваюцца ў тлумачальных слоўніках той ці іншай мовы, але так званая аказіянальная мнагазначнасць, што можа праяўляцца практычна ў кожным новым маўленчым акце, не падлягае вычарпальнаму апісанню і складае непаўторны ўнутраны семантычны патэнцыял кожнага агульнаўжывальнага слова. Нават тэрміны, якія навукоўцы імкнуцца ўжываць у больш-менш акрэсленым значэнні, не супадаюць па свайму сэнсу ў выкарыстанні рознымі навуковымі школамі, плынямі, асобнымі вучонымі, патрабуюць на кожнай стадыі развіцця пэўнай галіны ведаў свайго перавызначэння, каб адпавядаць узроўню дасягнутых тут ведаў.

## 4.4. СІНАНІМІЯ І АНТАНІМІЯ

Сінанімія служыць адным з найбольш красамоўных стылістычных сродкаў мовы, бо дае шырокія магчымасці для прамоўцы пазбягаць паўтораў, характарызаваць тыя

ці іншыя з'явы, прадметы багатай семантычнай нюансіроўкай іх зместу шляхам адэкватнай селекцыі іх найменняў, або выбіраць у залежнасці ад сітуацыі зносін, тэмы гаворкі, складу слухачоў ці індывідуальных асаблівасцяў асобнага адрасата найбольш дарэчнае слова з мноства магчымых.

Сінонімамі служаць розныя па знешняй форме словы, якія па свайму значэнню, зместу грунтуюцца на адзіным паняцці, звязаным з пэўнай рэаліяй, але тым не менш адрозніваюцца паміж сабой не толькі несупадальным планам выражэння, але і разнастайнымі сэнсавымі адценнямі, што і надаюць мове пэўны "шарм", ювелірную адгранёнасць перададзенага з іх (сінонімаў) дапамогай паняцця, пачуцця. З аднаго боку, выражаныя сінонімамі семантычныя нюансы могуць мець градуальны характар, г.зн. абазначаць тую ці іншую ўласцівасць, прыкмету, рысу з рознай ступенню рэалізацыі іх якасці. Калі мы параўнаем сінанімічныя пары *добры* і *цудоўны, вялікі* і *каласальны, хуткі* і *маланкавы, даспелы* і *стары* і да т.п., то няцяжка заўважыць, што кожнае другое слова ў супастаўляльных лексічных "дуэтах" выражае адпаведныя прыкметы дабрыні, памеру, хуткасці, узросту з большай інтэнсіўнасцю, з мацнейшай насычанасцю адпаведнай якасці. З другога боку, адна і тая ж рэалія можа называцца сінонімамі, якія належаць да розных стылістычных пластоў лексікі, напрыклад, пры найменні частак цела літаратурнымі (кніжнымі) і прастамоўнымі словамі (параўн.: *вусны* і *грыбы*, *твар* і *рыла, рукі* і *граблі, вочы* і *буркалы* і да т.п.), дзе другія, параўнальныя з першымі лексічнымі візаві, уяўляюцца зніжанымі, грубаватымі, а таму і стылістычна экспрэсіўнымі на фоне сваіх нейтральных адпаведнікаў.

У кожнай мове разнастайна сінанімізуюцца толькі назвы тых паняццяў, рэалій, што маюць істотнае значэнне для яе носьбітаў, выконваюць для іх важную жыццёвую, гаспадарчую, эстэтычную і іншыя функцыі (гл.: УЛЬМАНН 1962, 31). Так, у прыблізна роўных па аб'ёму сінанімічных слоўніках беларускай (КЛЫШКА 1973) і рускай (АЛЕКСАНДРОВА 1968) моў адзначаюцца колькасныя несупадзенні ў найменнях навакольнай рэчаіснасці. Найбольш абагульненыя назвы знешняга свету падрабязней прадстаўлены ў рускай мове: *зямля* ў значэнні 'ўсясвет' мае тут 16 сінонімаў, у беларускай мове – толькі пяць, слова *сфера* ў значэнні 'знешняя рэчаіснасць' мае восем сінонімаў, а беларускі адпаведнік *асяроддзе* не сінанімізуецца ўвогуле, а самае блізкае па сэнсу слова *наваколле* мае толькі два сінонімы. Слова *жизнь* у зазначанай рускай лексікаграфічнай крыніцы сінанімізуецца 11 лексемамі, а беларускае *жыццё* – толькі дзвюма. Калі ж мы звернем увагу на больш канкрэтныя, менш абсяжныя навакольныя з'явы, то назіраецца іх больш падрабязная намінацыя рознымі сінонімамі ў беларускай мове. Такія істотныя для беларускага наваколля рэаліі, як лес, балота, узвышша называюцца адпаведна 14, 8, 12 сінонімамі, а іх рускія эквіваленты маюць адпаведна 4, 4, 6 сінонімаў. Канкрэтызаваныя прыродныя з'явы, што акаляюць жыццё чалавека і складаюць важнейшую частку навакольнай рэчаіснасці, таксама больш разнастайна намінуюцца, па дадзеных памянёных слоўнікаў, у беларускай мове. Напрыклад, беларускае слова *вецер* сінанімізуецца 16 рознымі лексемамі, рускае *ветер* – толькі трыма, беларуская лексема *мяцеліца* мае 10 сінонімаў, руская лексема *метель* – толькі чатыры, беларускае слова *холад* мае 10 сінонімаў, рускае *холод* – пяць, беларускае *рэха* – 12 сінонімаў, рускае слова *эхо* – чатыры, беларускае слова *імгла* – 14 сінонімаў, рускае *мгла* – нуль. Нават з улікам таго, што прынцыпы ўкладання сінанімічных слоўнікаў беларускай і рускай моў рознымі аўтарамі не супадаюць, тым не менш засведчым даволі выразную тэндэнцыю больш дэталёвай сінанімізацыі абагульненых найменняў знешняй рэчаіснасці ў рускай мове, тады як ў беларускай больш падрабязна сінанімізуюцца канкрэтныя найменні рэалій знешняга асяроддзя.

Часам пры мностве намінацый адной прыкметы сінонімы ўпарадкоўваюцца ў адзін рад, дзе кожнае наступнае слова выражае з узмоцненай інтэнсіўнасцю ў параўнанні з папярэднім сінонімам пэўную якасць. Так, паняцце памеру, як мы ўжо занатавалі вышэй, у беларускай мове можа сінанімічна градуіравацца па своеасаблівай семантычнай шкале, на якой па ступені ўзрастання выражанай прыкметы сінонімы размяркоўваюцца ў наступным парадку: *нямалы – буйны – вялікі – аграмадны – гіганцкі – каласальны – грандыёзны*, з другога боку – *невялікі, малы, дробны, мізэрны, мініяцюрны.* Няцяжка заўважыць, што два рады прыведзеных сінонімаў звязаны з абазначэннем аднаго і таго ж паняцця (паняцця памеру), але размяркоўваюцца па розных полюсах шкалы зададзенай прыкметы, і больш таго, кантрастна супрацьпастаўляюцца паміж сабой па стрыжнявых характарыстыках гэтых полюсаў *вялікі – маленькі.* Падобныя супрацьпастаўленыя словы, што належаць да аднаго і таго ж паняцця, адной і той жа абазначанай прыкметы, называюцца антонімамі, якія падобна сінонімам адыгрываюць у маўленні важную стылістычную ролю.

З дапамогай антонімаў супрацьлеглыя полюсы адпаведнай якасці не толькі супрацьпастаўляюцца, але і служаць для разнастайных ацэнак фактаў рэчаіснасці, прычым на аснове кантрасту ацэнка набывае неабходныя экспрэсіўнасць, каларыт, яркасць, бо пунктам адліку для характарыстыкі чаго-небудзь з'яўляецца яго ацэнка з адваротным знакам (параўн.: *не дрэнны, а добры, вялікі, а не маленькі, не дурны, а разумны* і да т.п.). У той час калі сінонімы выкарыстоўваюцца часта пры вызначэнні адпаведнай рэаліі па градуальнаму прынцыпу больш / менш (параўн.: *нядрэнны – добры – цудоўны* і да т.п.), то антонімы прызначаны пераважна для ацэнкі шматлікіх з'яў, прадметаў па прынцыпу так / не, таму могуць утварацца ў прыватнасці ў рускай і беларускай мовах з дапамогай прыстаўкі *не-* ці запазычаных грэчаскага кампанента *анты-* і лацінскага *контр-* і інш. (параўн.: *прыгожы – непрыгожы, дэмакратычны – антыдэмакратычны, рэвалюцыйны – контррэвалюцыйны* і да т.п.).

Належнасць сінонімаў і антонімаў да адной семантычнай сферы часам здатна праяўляцца і тым, што супрацьлеглыя, кантрастныя значэнні ў маўленчым акце набываюць сінонімы, што звычайна дэфінуюцца як словы, блізкія па семантыцы. Асабліва выразна гэта відаць пры ўжыванні і супрацьпастаўленні сінонімаў, якія належаць да розных стылістычных пластоў лексікі (параўн.: *не галава, а башка; не збудаванне, а лачуга; завадатар, а не правадыр* і да т.п.), якія пры гэтым робяцца практычна узуальнымі (кантэкстуальнымі) антонімамі.

Ацэначным вербальным характарыстыкам з дапамогай сінонімаў і антонімаў можа падлягаць усё, што ўяўляе сабой той ці іншы інтарэс для чалавека. Прычым адна і тая ж з'ява дапускае сваю ацэначную кантрастную характарыстыку па шматлікіх якасных параметрах, што выражаюцца адпаведнымі сіноніма-антанімічнымі сродкамі. Так, наша пачуцце можа быць радасным і сумным, добрым і дрэнным, бурным і спакойным, глыбокім і павярхоўным, сяброўскім і варожым, аптымістычным і песімістычным, спантанным і кантраляваным, бязмерным і абмежаваным, шчырым і штучным і г.д., што ацэньваецца адпаведнымі антонімамі, кантраснымі словамі з мноствам прамежкавых адценняў, якія абазначаюцца ўжо сінанімічнымі лексемамі. Нягледзячы на тое, што сіноніма-антанімічныя адносіны паміж лінгвістычнымі адзінкамі характэрны для ўсіх узроўняў мовы (фанетычны, марфалагічны, лексічны, сінтаксічны; параўн.: у рускай і беларускай мовах зычныя фанемы супрацьпастаўляюцца па карэляцыйных прыкметах цвёрдасці / мяккасці, звонкасці / глухасці; марфемы каранёвыя супрацьпастаўляюцца некаранёвым, ці афіксальным; знамянальныя часціны мовы – незнамянальным, адушаўлёныя назоўнікі суадносяцца з неадушаўлёнымі, пераходныя дзеясловы – з непераходнымі, актыўная структура сказа – з пасіўнай), працінаюць яе па ўсёй прасторы (ацэнцы, супрацьпастаўленню, збліжэнню падлягаюць фактычна ўсе моўныя з'явы, якімі

абазначаны адпаведныя рэаліі ), ступень ужывання дадзеных сродкаў не з'яўляецца раўнамернай, а рэгулюецца асаблівасцямі стыляў і жанраў маўлення. У мастацкай літаратуры, красамоўстве сінонімы і антонімы выкарыстоўваюцца ва ўсёй сваёй паўнаце як эфектыўны сродак выражэння, ацэнкі, характарыстыкі той ці іншай рэаліі.

Даволі пажаданай і ўжывальнай з'явай служаць сінонімы і антонімы ў публіцыстычным і гутарковым стылях маўлення. Што тычыцца дзелавых дакументаў, афіцыйных выступленняў, паведамленняў, дакладаў, пісьмовых навуковых тэкстаў, то тут выкарыстанне сінанімічных рэсурсаў мовы з'яўляецца абмежаваным, бо ў згаданых моўных дакументах зазначаецца тэндэнцыя да аб'ектыўнага, часта безацэначнага, нейтральнага выкладання фактаў. Аднак, антанімічныя сродкі мовы прадстаўлены і ў афіцыйна-дзелавых, і ў навуковых тэкстах даволі шырока, таму што дадзенымі сродкамі выражаюцца тыповыя для кожнай галіны ведаў з'явы, якія па сваёй прыродзе належаць да кантрастных (у атмасферы ціск можа быць высокім і нізкім, у эканоміцы можа назірацца пад'ём і спад вытворчасці, у юрыспрудэнцыі – выкананне і парушэнне законаў, у розных сферах чалавечай дзейнасці – поспехі і няўдачы і інш.).

## 4.5. ПАНЯЦЦЕ АБ УНУТРАНАЙ ФОРМЕ

Акрамя відавочнай знешняй формы, якая прадстаўлена ў кожнай мове гукамі, граматычнымі катэгорыямі, фанетычнымі і графічнымі словамі, сказамі (агучанымі і напісанымі), і плана зместу, што выражаецца гэтымі формамі ў выглядзе значэнняў моўных адзінак, для ўсіх жывых моў адзначаецца і наяўнасць унутранай формы. Апошняя служыць своеасаблівым матэрыяльна-ідэальным звяном, якое лучыць форму і змест мовы і яе адзінак у арганічнае цэлае.

Сутнасць унутранай формы палягае ў непаўторным для кожнай мовы спосабе адлюстравання знешняй рэчаіснасці, што матывавана прадстаўляецца і несупадальнымі гукамі, і неаднолькавымі граматычнымі катэгорыямі (параўн., напрыклад: наяўнасць у беларускай мове катыгорыі трывання і адсутнасць катэгорыі пэўнасці / няпэўнасці, і, наадварот, адсутнасць у англійскай мове катэгорыі трывання і наяўнасць граматычнай катэгорыі пэўнасці / няпэўнасці, абавязкова прысутнай пры кожным англійскім назоўніку ў выглядзе адпаведных артыкляў), і, як правіла, рознымі прыкметамі, што кладуцца ў аснову намінацыі пэўнай рэаліі. Так, беларускае слова *пралеска* матывуецца паняццем 'лес', рускі адпаведнік *падснежнік* – паняццем 'тое, што вырастае з-пад снегу', англійскі адпаведнік *snowdrop* 'тое, што падобна на кроплю снега', нямецкі адпаведнік *Schneeglöckchen* 'тое, што падобна на снежны званочак' і г.д. Нават адны і тыя ж знешнія гукі перадаюцца ў кожнай мове неаднолькава, напрыклад, певень "крычыць па-англійску" *cock-a-doodle-doo,* "па-японску" *kokekokko,* "па-дацку" *kukuleku,* а "па-беларуску" *кукарэку* (гл.: ULMANN 1973, 14).

Пры параўнанні розных моў па ўсіх лінгвістычных параметрах апісання даволі кідка, выразна відаць, што ў супастаўляльных мовах не супадаюць і гукі, якімі афармляюцца словы; і словы, што неаднолькава матывуюцца знешнімі прыкметамі абазначаных рэалій; і граматычныя катэгорыі, што якасна і колькасна не супадаюць у розных мовах (прычым, чым больш няроднаснымі з'уляюцца мовы, тым больш у іх адрозненняў); і сказы, якія не супадаюць па сваёй структуры і г.д. І хаця агульны набор матываваных прыкмет ва ўсіх мовах у цэлым супадае (параўн.: наяўнасць гукапераймальных слоў, матэрыяльная аформленасць граматычных значэнняў, выкарыстанне асобных прыкмет, уласцівасцяў рэаліі для яе агульнай намінацыі, перанос значэнняў з адной назвы прадмета на падобны ў нечым на яго іншы прадмет, тыпу *нос чалавека* і *нос карабля*, *фарфор* як рэчыва і як посуд, *кафедра* як

памяшканне і як калектыў супрацоўнікаў і г.д.), але прадстаўлены гэтыя прыкметы, скамбінаваны ў ёй па-асобаму, адмыслова.

Усе згаданыя асаблівасці кожнай мовы складаюць яе непаўторную ўнутраную форму, адметную сістэму бачання знешняга свету, спецыфічны пункт гледжання на яго, неаднолькавыя адлюстраванне і спосаб размеркавання досведу кожнага народа ў сродках сваёй мовы (гл.: ГУМБОЛЬДТ 1984 100–106). Па сутнасці, глыбокае засваенне іншай мовы азначае набыццё новага светабачання, якое духоўна ўзбагачае чалавека, таму мае рацыю меркаванне І.Гётэ, што колькі ведаеш моў, столькі разоў ты чалавек.

Агульная несупадальная карціна адлюстравання знешняга свету, што называецца ўнутранай формай, у кожнай мове складаецца з унутранай формы слоў, фразеалагізмаў, іншых выразаў, якая захавалася ў пераважнай большасці іх шляхам кансервацыі ў сабе прыкмет адпаведных знешніх рэалій. Гэтыя прыкметы і пакладзены ў аснову намінацыі дадзеных рэалій. З улікам таго, што кожны прадмет мае мноства разнастайных прыкмет, ён можа на аснове кожнай з іх атрымаць сваю назву, і такім чынам у мове ўзнікаюць сінонімы. Напрыклад, для наймення толькі двухгадовага жа̀рабя ў беларускай мове ўжываюцца матываваныя словы *перазімак, двузімак, трацяк, стрыгун, двухлетак, гадавік, двухгодка, леташнік* і інш. (гл.: ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС 1993, 43).

У вытоках намінацыі кожнага прадмета ляжыць яго пэўная ўласцівасць, кідкая рыса, асаблівасць, выдзеленая людзьмі, носьбітамі канкрэтнай мовы, і замацаваная фармальна. Так, у аснове беларускага слова *сталяр*, як і рускага *столяр*, ляжыць прыкмета ‘стол‘, г.зн. першапачаткова гэта лексема абазначала спецыяліста па вырабу сталоў (параўн.: аналагічна ў нямецкай мове *Tischler* ‘сталяр‘ ад *Tisch* ‘стол‘, у славенскай *mizar* ‘сталяр‘ ад *miza* ‘стол‘, у латышскай *galdnieks* ‘сталяр‘ ад *galds* ‘стол‘ і г.д.). У слова *стол* унутраная форма, або прыкмета, пакладзеная ў яго назву, на першы погляд, не зусім відавочная, але, як дакладна ўстаноўлена спецыялістамі-этымолагамі (даследчыкамі ўзнікнення асобных слоў), яна зводзіцца да таго ж корня, што і ў слова *засцілаць,* г.зн., што стол – гэта тое, што насцілаюць (параўн. таксама: словы: *пасцель, насціл* і інш.; гл.: ПОТЕБНЯ 1976, 114–115). Але ўжо ў слове *засцілаць*, як і ў іншых найбольш старажытных слоў тыпу *вада, агонь, рука, зямля* і г.д. унутраная форма страчана і можа ўзнаўляцца ў этымалагічнага некаторых выпадках шляхам карпатлівага аналізу, уключна з выкарыстаннем іншых моў. Так, паміж словамі *слых* і *слова* шэраговы носьбіт мовы не бачыць відавочнай сувязі, але яны з’ўляюцца роднаснымі, бо ўтвораны ад дзеяслова *слыць* (гл.: БУСЛАЕВ 1959, 254). Слова *ватрушка,* на першы погляд, адносіцца да нематываваных, але спецыялісты ўстанавілі, што яно паходзіць ад іранскага слова *vatra* ‘агонь‘ і абазначала спачатку від печыва, прыгатаваным на адкрытым агню.

Значыць, матываваная прыкмета, або ў дадзеным выпадку ўнутраная форма слова, у адных выпадках можа знаходзіцца напавідоку, складаць своеасаблівае семантычнае ядро слова (параўн.: *землякоп* ‘той, хто капае зямлю‘, *рыбалоў* ‘той, хто ловіць рыбу‘ і г.д.), у другіх выпадках прыкмета, пакладзеная ў аснову намінацыі, знаходзіцца на перыферыі значэння слова (параўн.: слова *завочнік* ‘студэнт, які вучыцца без адрыву ад вытворчасці‘, *акно,* матываванае словам *вока*, якое аднак непасрэдна не ўваходзіць у семантычную структуру гэтых слоў), у трэціх выпадках унутраная форма слова можа ўступаць у супярэчнасць з асноўным яго значэннем (параўн.: *Наваградак* – літаральна ‘новы горад‘ азначае, аднак, адзін з найбольш старажытных беларускіх гарадоў), у чацвёртых выпадках унутраная форма слова можа страчвацца, бо прыкмета, пакладзеная ў аснову намінацыі прадмета нашымі продкамі, ужо забылася з-за даўнасці часу (параўн.: словы *я, сем, быць, брат* і інш.). Унутраная форма – сведчанне генетычнай сувязі плана зместу і плана выражэння слова, выразу, усёй мовы ў цэлым. У працэсе развіцця мовы гэтая сувязь можа

затуманьвацца або зусім знікаць, тым больш, што матывацыя не спрыяе таму, каб мова была інструментам абстрактнага, адцягненага мыслення, бо "прызямляе" мову, звязвае формы з канкрэтным, рэчыўным зместам.

Унутраная форма слоў робіцца яркім стылістычным сродкам, які даволі актыўна і эфектыўна эксплуатуецца ў мастацкай літаратуры, асабліва ў паэзіі і спецыяльных жанрах (параўн.: РАЗАНАЎ 1998), у красамоўстве, у публіцыстыцы, вусных выступленнях і інш., але ў афіцыйна-дзелавым, навуковым стылях, пры неабходнасці выразіць адцягненую думку, якая павінна быць пазбаўлена дадатковых канатацый, збыткоўных асацыяцый, двухсэнсоўнасці і г.д., быць максімальна дакладнай, адназначнай, дакументальна акрэсленай, унутраная форма, матывацыя, здатна быць перашкодай для адэкватнага выражэння канкрэтнай думкі, палажэння, выказвання. Абстрактнае інтэлектуальнае змесціва думкі патрабуе і адпаведных моўных сродкаў, якія б прадстаўлялі яе ў чыстым выглядзе і дапускалі аднолькавае разуменне з боку адрасатаў (слухачоў, чытачоў). Менавіта таму ў згаданым навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях выкарыстоўваецца спецыяльная лексіка, што складаецца пераважна з запазычаных слоў, як правіла, непасрэдна нематываваных, з моўных штампаў і канструкцый (так званага канцылярыту, які непажаданы ў іншых стылях маўлення, але характэрны для афіцыйна-дзелавых тэкстаў і адпаведных вусных выступленняў). Чым больш адцягненай, строгай, афіцыйнай, навуковай з'яўляецца думка, тым менш павінны выкарыстоўвацца для яе выражэння моўныя сродкі з наяўнай унутранай мовай, матывацыяй. Такім чынам, у мове дзейнічаюць дзве магутныя тэндэнцыі: першая больш старажытная, зыходная, скіравана на ўтрыманне і захаванне матываванасці моўных адзінак, выкарыстанне іх унутранай формы для перадачы эстэтычных момантаў, другая больш позняя, што ўзнікла разам са станаўленнем і развіццём абстрактнага мыслення ў чалавека, імкнецца вызваліць мову і яе формы ад матываванасці. Другая тэндэнцыя служыць адной з прычын таго, што мова навукі ў многіх народаў грунтуецца на запазычаных словах іменна з-за адсутнасці ў апошніх прамой матываванай сувязі з абазначанымі рэаліямі ў межах роднай мовы. Унутраная форма запазычаных слоў можа ўзнаўляцца толькі апасродкавана, шляхам перакладу іх на родную мову. Так, у аснове лінгвістычнага тэрміна *лексікалогія* ляжаць два грэчаскія карані *лексіс* і *логас*, што адпаведна перакладаюцца на беларускую мову як *слова* і *вучэнне*, а лексікалогія, такім чынам, абазначае вучэнне аб словах. Для мовы ж мастацкай літаратуры больш характэрным з'яўляецца выкарыстанне спрадвечна народных, у тым ліку дыялектных, слоў, дзе захавана ўнутраная форма, што спрыяе ўжыванню іх у пераносных, вобразных значэннях і захаванню яркага нацыянальнага каларыту, бо матывацыя сродкаў выражэння кожнай канкрэтнай асобнай мовы з'яўляецца своеасаблівай і непаўторнай.

У флектыўных мовах (мовах з развітой сістэмай афіксаў), да якіх належыць і беларуская, унутраная форма слоў прадстаўлена пераважна дэрывацыйнымі (словаўтваральнымі) сродкамі (параўн.: *падасінавік* 'грыб, які расце пад асінай', *мурашнік* 'месца, дзе жывуць мурашкі' і да т.п.), марфем – гукапераймальнымі сродкамі (параўн.: *гаўкаць, мяўканне* і да т.п.), фразеалагізмаў – праз наяўнасць адпаведных свабодных спалучэнняў слоў (параўн.: *Сабака натапырыў вушы* і *Пачуўшы гаворку пра сябе, хлопчык натапырыў вушы*, дзе ў першым сказе словазлучэнне *натапырыць вушы* з'яўляецца свабодным, а ў другім – звязаным, фразеалагічным, і да т.п.), сказаў – шляхам структурнай матываванасці, напрыклад, размяшчэнне прыметнікаў перад назоўнікамі, дзеясловаў пасля назоўнікаў у беларускай мове залежыць ад функцыянальнай значнасці і семантыкі імён – азначальныя словы (прыметнікі) ставяцца звычайна перад назоўнікамі (субстантывамі), а дзеясловы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў, выражаных назоўнікамі, знаходзяцца ў звычайных выказваннях пасля згаданых назоўнікаў. Аднародныя

члены сказа размяшчаюцца ў паслядоўнасці, залежнай ад "важнасці" адпаведных абазначэнняў. Так, у сказе *На сходзе прысутнічалі прэзідэнт і дзяржгаўны сакратар* нельга мяняць месцамі прыведзеныя дзейнікі, бо гэтым парушаецца афіцыйны статус абазначаных імі асоб (гл.: ЯКОБСОН 1983, 107). Матывацыя можа выражацца таксама разнастайнымі інтанацыйнымі, парамоўнымі сродкамі, шляхам выкарыстання тропаў (пераносных значэнняў, скрытых і знешніх параўнанняў і г.д.), праз спалучальнасць слоў і інш.

## 4.6. КУЛЬТУРА МАЎЛЕННЯ І ЯЕ АСНОЎНЫЯ КАМПАНЕНТЫ

Культура маўлення з'яўляецца вельмі шырокім, ёмістым паняццем, якое звязана не толькі з уменнем правільна, прыгожа, пераканаўча гаварыць, але і з агульнай культурай чалавека, яго знешнім выглядам, адзеннем, манерамі, з уменнем лагічна і дакладна мысліць і аптымальна выражаць разважанні і гатовыя думкі, адэкватна апісваць моўнымі сродкамі любыя жыццёвыя і вытворчыя сітуацыі, правільна, без памылак складаць і афармляць разнастайныя пісьмовыя дакументы, дарэчна і ўмела выкарыстоўваць усе стылістычныя рэсурсы мовы, пра якія гаварылася ў папярэдніх параграфах.

Галоўнымі складнікамі (кампанентамі, арганічнымі часткамі) культуры маўлення служаць правільнасць, дакладнасць, лагічнасць, чыстата, багацце, або разнастайнасць, выразнасць, дарэчнасць і сціслацсь (гл.: АСНОВЫ 1992). Правільнасць маўлення заснавана на прытрымліванні літаратурных норм пры ўжыванні мовы, якія выпрацаваны цягам стагоддзяў і закадыфікаваны (замацаваны афіцыйна як абавязковыя для выканання) у аўтарытэтных граматыках і слоўніках (звычайна акадэмічных выданяў). Літаратурная норма забяспечвае сацыяльнае адзінства мовы, узаемаразуменне паміж усімі носьбітамі ўсіх разнавіднасцяў (дыялекты, жаргоны і інш.) мовы. Адна з галоўных мэт усёй нашай адукацыйнай сістэмы палягае менавіта ў тым, каб кожны адукаваны чалавек авалодаў літаратурнымі нормамі мовы ўжо ў сярэдняй школе, таму на ўрокі, звязаныя з вывучэннем мовы і мастацкай літаратуры як узорнай на гэтай мове, адводзіцца больш за ўсё гадзін. Але і надалей грамадства ўлічвае веданне літаратурнай мовы, бо пры паступленні ў ВНУ, напрыклад, у нашай краіне на ўсе спецыяльнасці абавязкова трэба здаваць экзамен (звычайна сачыненне) па адной з дзяржаўных моў, беларускай або рускай.

З улікам таго, што наша жыццё дынамічна развіваецца ва ўсіх сваіх сферах, мова змушана, каб адэкватна адлюстроўваць усе знешнія змены, таксама развівацца, мяняцца, гнутка і пластычна прыстасоўвацца да новых абставін. Таму ў кожнай жывой мове літаратурнай норме пярэчыць, уступае з ёй у канфлікт, ужыванне (або ўзус), якое пастаянна падмывае кансерватыўныя па сваёй прыродзе нормы і прыводзіць да іх змен. З гэтай нагоды акадэмічныя граматыкі і слоўнікі рэгулярна перавыдаюцца і ў перавыданнях зазначаюцца пэўныя змены літаратурных норм, у прыватнасці ў дачыненні да правапісу, арфаэпіі, некаторых граматычных, арфаграфічных, стылістычных і іншых правіл. Важнасць, істотнасць, аўтарытэтнасць літаратурных норм і правіл у зменены выглядзе падмацоўваецца ўрадавымі пастановамі, якім папярэднічаюць разнастайныя абмеркаванні неабходнасці такіх змен моўных правіл у грамадскасці з улікам думак спецыялістаў, усіх, хто мае дачыненне да працы са словам.

Так, што тычыцца норм беларускай літаратурнай мовы, то толькі ў 20 ст. прыняты дзве ўрадавыя пастановы (1933, 1957), у якіх афіцыйна зацверджаны пэўныя змены ў літаратурных нормах беларускай мовы. У моўным ужытку некаторыя

літаратурныя нормы могуць існаваць у розных варыянтах, якія трэба разглядаць часам як звычайную з'яву. Тым не менш не ўсе ўжывальныя варыянты дапускаюцца ў маўленні, прызначаным для сацыяльнага выкарыстання, бо многія з іх з'яўляюцца проста адхіленнямі ад літаратурнай нормы, якая і дазваляе для ўжывання толькі пэўныя варыянты. Так, беларускія формы слоў *дзіця* і *дзіцё*, *паўтара* і *паўтары*, *раба* і *рабыня* і інш. служаць варыянтамі і дапускаюць сваё раўнапраўнае ўжыванне, а ў формах слоў і словазлучэнняў *пачнём* і *пачнем, у паліто* і *паліце, сабака пабег* і *сабака пабегла* і інш. адзначаюцца памылкі (правільна, *пачнём, у паліто, сабака пабег*). Для выбару правільных, дапушчальных літаратурных норм неабходна карыстацца адпаведнымі слоўнікамі, найбольш аўтарытэтныя і поўныя з якіх павінны быць настольнымі кнігамі кожнага адукаванага чалавека (гл., напрыклад: СЛОЎНІК 1987; ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1977–1984; ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1996, і інш.) .

Унутры агульнай літаратурнай нормы выдзяляюцца арфаэпічныя (правільнасць вымаўлення гукаў, слоў, выказванняў), акцэнталагічныя (правільная пастаноўка націску ў слове і ў спалучэннях слоў), лексічныя (правільны выбар слова для адпаведнага паняцця і для пэўнага кантэксту), марфалагічныя (правільнае ўтварэнне і ўжыванне словаформ), сінтаксічныя (правільнае спалучэнне слоў і пабудова сказаў у адпаведнасці з правіламі літаратурнай мовы).

Беларускія літаратурныя арфаэпічныя нормы грунтуюцца на вызначаных прынцыпах вымаўлення як асобных гукаў, так і іх спалучэнняў у межах слоў і на стыку апошніх. Напрыклад, у адрозненне ад літаратурных норм суседняй блізкароднаснай рускай мовы такі гук беларускай мовы, як *ч,* вымаўляецца толькі цвёрда (у рускай мове – толькі мякка), гук *р* у беларускай мове толькі цвёрды, а ў рускай мове можа быць і цвёрдым, і мяккім, у канцы слоў беларускія губныя зычныя *п, б, м* вымаўляюцца толькі цвёрда, а ў рускай мове – толькі мякка (параўн.: *голуб* і *голубь, насып* і *насыпь, сем* і *семь* і да т.п.). Для беларускай літаратурнай мовы характэрны больш запаволены тэмп маўлення (гл.: Фанетыка 1983, 51–52) і больш выразнае вымаўленне націскных і ненаціскных галосных, чым у рускай мове, і многа іншых асаблівасцяў, засведчаных у спецыяльных працах (гл.: ЯНКОЎСКІ 1966, 13–14).

Акцэнталагічныя нормы заснаваны на правільнай пастаноўцы націску ў слове, які служыць адначасова і фанетычнай прыкметай слова ва ўсіх мовах свету (ГУМБОЛЬДТ 1984, 344). Неправільная пастаноўка націску сведчыць пра недастатковую або нават нізкую культуру маўлення чалавека (параўн. неправільнае вымаўленне слоў: **кіло́метр, *мага́зін, *даку́мент, *адзі́наццаць* і інш. замест правільных норм вымаўлення *кіламе́тр, магазі́н, дакуме́нт, адзіна́ццаць* і інш.). Складанасць акцэнталагічных норм беларускай мовы, таксама як і ў рускай, палягае ў тым, што ў адрозненне ад некаторых іншых моў, дзе націск замацаваны за пэўным складам (напрыклад, у чэшскай мове – на першым складзе, у польскай – на перадапошнім, у французскай – на апошнім), націск з'яўляецца рухомым і можа служыць як для адрознення граматычных форм аднаго слова (параўн.: *гу́бы – губы́*, у першым выпадку назоўны склон множнага ліку слова *губа*, у другім – родны склон адзіночнага ліку прыведзенага слова), так і лексічных значэнняў слоў (параўн.: *бу́йны* 'неспакойны, дзёрзкі' і *буйны́* 'выдатны, значны' і інш.). Тым не менш літаратурныя нормы беларускай мовы для некаторых слоў дапускаюць варыянтны націск (*жы́хар* і *жыха́р, ла́скавы* і *ласка́вы, нада́лей* і *надале́й* і інш.). Фактычна ўсе слоўнікі беларускай мовы прыводзяць лексемы з неабходнымі акцэнтнымі прыкметамі, якія трэба лічыць нарматыўнымі, правільнымі.

Марфалагічныя нормы беларускай мовы, згодна з якімі ўтвараюцца розныя формы зыходнага слова, з'яўляюцца больш стабільнымі, чым акцэнталагічныя, але таксама могуць парушацца недасведчанымі асобамі, людзьмі з нізкай моўнай культурай, а таксама пад уплывам рускай мовы ці дыялектаў беларускай мовы нават адукаванымі носьбітамі мовы. Так, для беларускай літаратурнай мовы ў родным

склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду назоўнікаў вызначаюцца правілы вымаўлення (напісання) ці канчатак *-а*, ці канчатак *-у* (у прыватнасці канчатак *-а* характэрны для канкрэтных назоўнікаў тыпу *стала, дуба, алоўка* і да т.п., а таксама назваў жывых істот, найменняў устаноў, прамежкаў часу, адзінак вымярэння і інш., а канчатак *-у* для абстрактных назоўнікаў тыпу *розуму, характару, ідэалу* і да т.п., а таксама для найменняў рэчываў, месца, памеру, навуковых тэорый і інш.; гл.: БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА 1985, 71–78).

Сінтаксічныя нормы рэгулююць правільнае спалучэнне лексем у словазлучэнні, у сказы і вынікаюць як з граматычных асаблівасцяў асобных беларускіх слоў, так і з прыдатных беларускай мове мадэляў словазлучэнняў і сказаў. Напрыклад, у беларускай мове дзеяслоў *дзякаваць* спалучаецца з субстантывамі ў давальным склоне (*дзякаваць сябру, дзякаваць дзяўчыне* і да т.п.), у той час як рускі адпаведнік *благодарить* – з назоўнікамі ў вінавальным склоне. Безасабовыя пасіўныя канструкцыі характэрны ў беларускай літаратурнай мове для неадушаўлёных назоўнікаў (параўн.: *Ветрам зваліла альху* і да т.п.), але не характэрны для адушаўлёных прадметаў (параўн.: няправільна **Леснікам зваліла альху* і інш.).

Адэкватны выбар слоў для пэўных сітуацый і кантэкстаў рэгулюецца лексічнымі нормамі, якія, аднак, з'яўляюцца менш стабільнымі і распрацаванымі, чым іншыя нормы, бо грунтуюцца не на фармальных падставах, а на тонкіх семантычных і стылістычных адценнях слоў. Нельга, напрыклад, спалучаць рознастылёвую лексіку (параўн.: **кагорта мужыкоў, *сенатары раўлі* і да т.п.), недарэчна ўжываць русізмы ў беларускай літаратурнай мове (параўн.: **недахват кармоў*, правільна *недахоп кармоў*).

## 4.7. ДАКЛАДНАСЦЬ, ЛАГІЧНАСЦЬ І ДАРЭЧНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ

Дакладнасць маўлення палягае ў сэнсавай адпаведнасці яе асобных слоў, выказванняў знешнім рэаліям, сітуацыям або паняццям аб іх, а таксама ў выкарыстанні адзінак маўлення ў тых значэннях, што замацаваны за імі моўнай практыкай і прадстаўлены ў адпаведных кадыфікаваных лінгвістычных даведніках. Дакладнасць звязана з правільнасцю маўлення, непасрэдна з семантыкай моўных адзінак, лексічнымі і сінтаксічнымі нормамі (параўн.: ЛЕПЕШАЎ 1989, 76). Асабліва асцярожна і ўмела трэба выкарыстоўваць шматзначныя словы, не блытаць паронімы тыпу *абагульніць* і *абагуліць, гліняны* і *гліністы* і да т.п. (абагульніць можна толькі думкі, факты, меркаванні і іншыя адцягненыя паняцці, а абагуліць – прылады працы, свойскую жывёлу, мэблю і іншыя канкрэтныя прадметы), размяжоўваць сінонімы (так, сінанімічныя словы *зачыніць* і *закрыць* спалучаюцца з рознымі назоўнікамі, першае, у прыватнасці, з назоўнікамі тыпу *дзверы, вароты* і да т.п., другое – з назоўнікамі тыпу *вочы, твар* і да т.п.).

Для афіцыйна-дзелавога і навуковага стылю дакладнасць служыць абавязковым атрыбутам: гэтаму спрыяюць і, як правіла, адназначная лексіка дадзеных стыляў, шматстайныя гатовыя для ўжывання ўстойлівыя звароты, выразы, стандартныя структуры сказаў, адсутнасць эліптычных канструкцый, і, магчыма, самае галоўнае, наяўнасць добра ўсвядомленых, старанна падрыхтаваных паняццяў, думак, суджэнняў.

Дакладнасць служыць абавязковым кампанентам лагічнасці, з дапамогай якой устанаўліваюцца несупярэчлівыя, паслядоўныя, адпаведныя рэчаіснасці сэнсавыя сувязі паміж часткамі выказвання. Такім чынам, лагічнасць выходзіць за межы слова і праяўляецца ў сказе, у галіне сінтаксіса. Лагічныя сувязі рэалізуюцца адпаведнымі сінтаксічнымі канструкцыямі, у якіх значную ролю адыгрываюць складаныя злучнікі тыпу *таму... што, калі... то, раз... так, як толькі... дык* і інш.; парадкам слоў

(параўн.: *Дзень змяняе ноч, Маці любіць дзіця* і да т.п. – на першым месцы знаходзіцца звычайна суб'ект дзеяння, які, аднак, у пэўных кантэкстах можа быць і аб'ектам; напрыклад, *Маці любіць дзіця, а бацьку любіць маці* і да т.п.). Лагічнасць праяўляецца таксама ў адпаведнасці выказвання тым або іншым падзеям, з'явам, фактам знешняй рэчаіснасці, у адэкватнасці думкам, паняццям, суджэнням. Лагічнасць павінна прымяняцца і па-за межамі сказа да выступленняў, дакладаў, артыкулаў і г.д., якія звычайна будуюцца па лагічнай схеме, маюць устойлівую кампазіцыю: уводзіны (уступ) – асноўная частка – заключэнне. Да таго ж асноўныя палажэнні кожнай такой часткі павінны арганічна і лагічна звязвацца паміж сабой.

Дарэчнасць маўлення павінна непасрэдна нітавацца з дакладнасцю і лагічнасцю, і яе сутнасць заключаецца ў выкарыстанні моўных сродкаў з поўнай адпаведнасцю тэме гаворкі, сітуацыі, або кантэксту, мэце выказвання, колькаснаму і якаснаму складу аўдыторыі (слухачоў, чытачоў, іх узросту, прафесіі, адукаванасці, полу, настрою, месцу жыхарства і іншым асаблівасцям), выбранаму стылю маўлення, часу і варункам зносін. Недарэчна ўжываць у сяброўскай размове кніжныя, афіцыйна-дзелавыя выразы і, наадварот, у афіцыйна-дзелавым, навуковым стылях – гутарковыя ці прастамоўныя словы, бо гэта можа сведчыць не толькі пра нізкую культуру маўлення, але і выклікаць недавер у слухача (слухачоў) да выказанай інфармацыі.

## 4.8. ЧЫСТАТА, ВЫРАЗНАСЦЬ І БАГАЦЦЕ МАЎЛЕННЯ

Чыстата маўлення, якое выкарыстоўваецца ў сацыяльным асяродку, у афіцыйных умовах, забяспечваецца найперш адсутнасцю ў ім чужародных літаратурнай мове элементаў, адсутнасцю ў ім паразітычных гукаў і слоў (тыпу, *гм, э-э-э, ну, так сказаць, як яго, гэта самае, значыцца* і да т.п.), мясцовых слоў, ці дыялектызмаў, прастамоўных лексем і выразаў тыпу *быдта, адылі, було, ыгы, глядзь, скапыціцца, мянціць языком, перці пехадралам* і да т.п., плеаназмаў і таўталогій тыпу *у верасні месяцу, шэсць штук сталоў, пяць чалавек студэнтаў, поўнасцю запоўнены* і да т.п., жарганізмаў тыпу *хіла, клёва, філон, здаць хвасты* і інш., беспадстаўна ўжытых запазычаных слоў і варварызмаў тыпу *о-кэй, стрыт, хаўбек, чао* і інш., канцылярызмаў тыпу *як абстаіць справа, скласці мерапрыемства* і інш., русізмаў тыпу *вучыцель, сражэнне* і інш., наватвораў і аказіяналізмаў тыпу *ажыгуліўся* 'купіў аўтамабіль Жыгулі', *аступеніўся* 'стаў кандыдатам навук' і інш., шматкампанентных скарачэнняў і абрэвіятур тыпу *Белмаслатлушчснабзбыт-кантора* і інш.

Багацце маўлення лучыцца перадусім з разнастайнасцю ўжытых моўных сродкаў і з як можна радзейшым паўтарэннем адных і тых жа слоў і выразаў, асабліва паўтораў нематываваных, бо абмежаваныя моўныя сродкі, іх паўторнае выкарыстанне сведчаць пра беднасць не толькі маўленчых патэнцый аўтара, але і пра невялікі запас думак, пра слабыя інтэлектуальныя здольнасці прамоўцы. Выказванне ж адной і той жа думкі рознымі і шматстайнымі моўнымі сродкамі, як правіла, з'яўляецца вынікам яе многааспектнай і глыбокай асэнсаванасці, добрай засвоенасці, служыць надзейнай падставай для таго, каб вытлумачыць яе ясна, зразумела, данесці па-рознаму ў залежнасці ад складу адрасатаў, аўдыторыі.

Беларуская мова надзвычай багата сінонімамі, якія разнастайна характарызуюць найбольш істотныя для нашага жыцця з'явы, рэаліі і паняцці аб іх. Так, для паняцця, звязанага з гаварэннем, выдзяляецца 73 розныя сінонімы (параўн.: *казаць, размаўляць, гутарыць, гаманіць, мармытаць, балбатаць, балабоніць, субяседнічаць, чаўпці, вярзці* і г.д.), з паняццем 'добра' – 70 розных слоў (параўн.: *неблагі, станоўчы, дасканалы, варты, выдатны, бездакорны, прыстойны, ладны,*

*дыхтоўны, файны, адменны* і інш.), з паняццем ‘многа‘ – 66 розных сінонімаў (параўн.: *шмат, безліч, цьма, навалам, нямала, па горла, хоць адбаўляй* і інш.), а з паняццем ‘хутка‘ – 126 розных слоў (гл.: КЛЫШКА 1993).

У трохтомным руска-беларускім слоўніку для характарыстыкі, тлумачэння, перакладу 110 000 зыходных рускіх лексем выкарыстана звыш 300 000 розных беларускіх слоў (РУССКО-БЕЛОРУССКИЙ СЛОВАРЬ 1993, т.1, 6), што сведчыць пра надзвычай вялікі лексічны запас беларускай мовы, асабліва калі ўлічыць, што ў згаданы слоўнік не ўключаны мільёны спецыяльных слоў (многія дыялектызмы, тапонімы, уласныя імёны, тэрміны і інш.).

Зразумела, гэта не значыць, што, напрыклад, пэўная асоба здольна выкарыстаць усё багацце мовы, бо нават у самых прызнаных майстроў слова, пісьменнікаў, паэтаў, па даных спецыяльных лінгвістычных даследаванняў, адзначаецца прыблізна каля 10–15% агульнаўжывальнай лексікі адпаведнай мовы (напрыклад, у творчасці вядомага рускага паэта С.Ясеніна налічваецца 18 900 розных слоў, у моўнай скарбонцы беларускага паэта і пісьменніка Я.Коласа – каля 37 000 розных слоў). Аднак у сваім маўленні трэба імкнуцца, каб наяўны ў адукаванага носьбіта мовы слоўнікавы склад (каля 10–15 тысяч розных лексем) актыўна выкарыстоўваўся ў яго маўленчай дзейнасці ва ўсёй сваёй разнастайнасці і паўнаце.

Выразнасць маўлення звязана з нагляднасцю, вобразнасцю, малюнкавасцю вербальнага афармлення думак і забяспечваецца дарэчным, умелым ужываннем такіх стылістычных сродкаў, як эпітэты, метафары, параўнанні, фразеалагізмы, парэміі (прыказкі, прымаўкі), перыфразы і інш., каб аптымальна і яскрава данесці да адрасатаў неабходную думку. Фанетычныя і сінтаксічныя сродкі выразнасці вызначаюцца выкарыстаннем усіх інтанацыйных характарыстык маўлення, адпаведнай яснай дыкцыі, рэкамендаваных літаратурных норм вымаўлення і асобных гукаў, і іх спалучэнняў, ужываннем правільных канструкцый спалучэння слоў і канструкцый сказаў. Усе гэтыя сродкі найбольш поўна праяўляюцца ў зазначаных вышэй стылях: мастацкі, публіцыстычны, у меншай ступені гутарковы. У навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях экспрэсія можа тычыцца такіх іх жанраў, як дыскусія, палеміка, лекцыя, вуснае выступленне, рэцэнзія і інш., дзе патрабуецца ацэначная характарыстыка актуальных думак, пытанняў, палажэнняў, што абмяркоўваюцца ў вусных паведамленнях ці публікацыях.

Выразнасць маўлення мае на мэце прыцягваць увагу і інтарэс слухача і падтрымліваць іх увесь час на належным узроўні (гл.: ГОЛОВИН 1980, 186), што дапамагае аптымальна ўспрымаць неабходную інфармацыю. У значнай ступені акрэсленасць думкі вызначаецца кантэкстам, парадкам слоў (параўн. розны сэнс у выразах, якія складаюцца з адных і тых жа слоў: *дзесяць чалавек* і *чалавек дзесяць*; *Ён проста жыў* і *Ён жыў проста* і г.д.), лагічным ці акцэнталагічным выдзяленнем найбольш важных, значных і актуальных частак выказвання, удалым кампазіцыйным размеркаваннем інфармацыйнага матэрыялу ў выступленні ці публікацыі. Выразнасці цяжка дасягнуць, калі прамоўца гаворыць па паперцы, чытае напісанае. Галоўнай перадумовай экспрэсіўнага маўлення служыць самастойнасць мыслення чалавека, максімальнае праяўленне індывідуальнасці сваёй натуры, цесны кантакт з аўдыторыяй, інтарэс аўтара да выказанага паведамлення, поўная рэалізацыя свайго інтэлектуальнага і духоўнага патэнцыялу (не адкладваць на потым тыя ці іншыя думкі, ацэнкі, сродкі іх выражэння і г.д.) і, зразумела, актыўнае выкарыстанне ўсіх моўных сродкаў выразнасці: і фанетычных, і лексічных, і марфалагічных, і фразеалагічных, і сінтаксічных, і стылістычных, і кантэкстуальных.

# 5. ЛЕКСІКАЛОГІЯ

## 5.1. ЛЕКСІКАЛОГІЯ ЯК НАВУКА АБ СЛОЎНІКАВЫМ СКЛАДЗЕ МОВЫ

Лексікалогія (грэчаскае lexis ‘слова‘ і logos ‘вучэнне‘) літаральна абазначае вучэнне аб слове (лексеме) і як спецыяльны раздзел унутранага мовазнаўства ўзнікла толькі ў 20 ст. Практычнае ж даследаванне (апісанне) слоў, і ў прыватнасці беларускай мовы, у выглядзе іх тлумачэнняў пачалося з твораў Ф.Скарыны, які раскрываў значэнні незразумелых для простых людзей царкоўна-славянскіх лексем старабеларускімі словамі на палях сваіх кніг, з “Лексіса” Лаўрэнція Зізанія і іншых лексікаграфічных прац, колькасць якіх на наш час перавышае некалькі сотняў розных відаў.

У дадзеным выпадку практычнае апісанне слоў у лексікаграфічных крыніцах апярэдзіла тыя тэарытычныя даследаванні лексем асобным раздзелам навукі аб мове, што ўсталявалася толькі нядаўна пад найменнем *лексікалогія*. Нягледзячы на позні час свайго ўзнікнення і фарміравання, лексікалогія беларускай мовы зрабілася адной з самых дынамічных і разгалінаваных частак унутранага мовазнаўства, бо амаль за кожным аспектам вывучэння слова стаіць тая ці іншая лексікалагічная дысцыпліна.

Так, даследаванне беларускага слова з дыяхранічнага (гістарычнага) і сінхранічнага (апісальнага) пунктаў гледжання ляжыць у аснове адпаведна гістарычнай лексікалогіі і лексікалогіі сучаснай беларускай мовы. У першай з іх вывучаецца біяграфія (паходжанне) асобных слоў, што прадстаўлена спецыяльнай навукай этымалогіяй (гл.: ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК 1978–1993), і гістарычныя шляхі існавання, развіцця беларускай лексікі ў цэлым (гл.: ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК 1982–2001; ГІСТАРЫЧНАЯ ЛЕКСІКАЛОГІЯ 1970). Сучасны стан беларускай лексікі прадстаўлены як у шматлікіх слоўніках, так і ў спецыяльных даследаваннях (гл.: ЛЕКСІКАЛОГІЯ 1994).

Найбольш кідкія адметныя рысы беларускіх слоў выдзяляюцца ў параўнанні са словамі іншых моў, асабліва блізкароднасных, у прыватнасці рускай (параўн.: ШКРАБА 1994), што вывучаецца супастаўляльнай лексікалогіяй, у межах якой праводзіцца параўнанне слоў звычайна дзвюх ці некалькіх роднасных моў. Больш шырокае супастаўленне беларускай лексікі ў маштабе цэлых груп моў, моўных сем’яў, у прыватнасці славянскай групы, прыводзіць да ўзнікнення тыпалагічнай лексікалогіі (гл.: СУПРУН 1983; ПЛОТНІКАЎ 1999).

Стылістычная дыферэнцыяцыя беларускай мовы скіроўвае навукоўцаў на даследаванне пэўных пластоў лексікі: тэрміналагічнай (гл.: АНТАНЮК 1987), дыялектнай (гл.: ЛЕКСІКА 1971; ПАНЮЦІЧ 1976; ЖЫВОЕ НАРОДНАЕ СЛОВА 1992, і інш.), афіцыйна-дзелавой (гл.: КАЎРУС 1994), гутарковай, сярод якой вылучаюцца сацыялекты (гл.: ЛУКАШАНЕЦ 1999), мастацкай літаратуры (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1981; МОЎНЫЯ АДЗІНКІ 1992), што дае падставу гаварыць пра фарміраванне стылістычнай лексікалогіі беларускай мовы.

Шматбаковаму лексікаграфічнаму і тэарытычнаму апісанню падлягаюць у беларускай мове онімы (уласныя назвы): і тапанімічныя (гл.: ЖУЧКЕВИЧ 1968; ПЫТАННІ 1970), і антрапанімічныя (гл.: БІРЫЛА 1966–1982). Згаданыя працы сведчаць пра крышталяванне ў беларускай лексікалогіі такога раздзелу, як "Анамасіялогія". У якасці асобных частак лексікалогіі можна разглядаць словаўтварэнне (гл.: ШАКУН 1978), лексікаграфію (гл.: ГУЛІЦКІ 1978) і лексічную семантыку.

Такім чынам, сучасная беларуская лексікалогія ўяўляе сабой шырока разгалінаваную ўнутраную дысцыпліну навукі аб мове, дзе вывучаюцца і асобныя аспекты слова, і розныя пласты, групы, аб'яднанні лексікі.

## 5.2. ПРАБЛЕМА ВЫЗНАЧЭННЯ СЛОВА

Слова ў беларускім мовазнаўстве разглядаецца звычайна як апрыёрная, сама сабой зразумелая адзінка мовы, прычым цэнтральная, галоўная, бо драбнейшыя адзінкі мовы (фанемы, марфемы) выдзяляюцца менавіта ў складзе слова, а буйнейшыя (словазлучэнні, сказы) будуюцца са слоў. Асобныя словы і іх сукупнасці выконваюць у мове намінатыўную функцыю, а спалучэнні слоў, ці сказы, камунікатыўную: першай функцыяй носьбіты мовы лучацца з навакольным асяроддзем, робяць праз словы яе рэаліі сваім унутраным здабыткам, другой фукцыяй мова дапамагае зносіцца людзям паміж сабой і стварацы на гэтай падставе адзіны сацыяльны калектыў (этнас, народнасць, нацыю).

Выдзяленне слова ў вуснай форме беларускага маўлення грунтуецца ў цэлым, як і ў большасці іншых моў, на націску (гл.: ГУМБОЛЬДТ 1984, 344), а ў пісьмовай форме – на раздзельным напісанні (гл.: ПИОТРОВСКИЙ 1968, 62), або ў цэлым на пазіцыйнай самастойнасці слова (гл.: МАСЛОВ 1987, 87). Але падобны агульны падыход да вылучэння слова патрабуе цэлага шэрагу ўдакладненняў, тлумачэнняў, інтэрпрэтацый, таму што ў абедзвюх формах існавання беларускай мовы назіраецца даволі шмат неадпаведнасцяў для адназначнага выдзялення слова з маўленчай плыні (з пісьмовага тэксту). У вуснай форме для маналагічнага звязнага маўлення характэрны так званыя энклізы і праклізы (гл.: ЦЫХУН 1968), калі, у прыватнасці, службовыя словы, займеннікі, што месцяцца пасля знамянальных слоў і перад імі, хаця і маюць статус самастойных лексічных адзінак у мове, страчваюць свой націск у маўленні і далучаюцца да знамянальных слоў, вымаўляюцца як адзіны гукавы комплекс. На пісьме складанасць выдзялення слоў фіксуецца ў напісанні некаторых знешне падобных лексічных формаў, то разам, то праз злучок, то асобна (гл.: ПРЫГОДЗІЧ 1994), напрыклад *густанаселены,* але *сумна-ціхі, прыгожа афармлены* і да т.п. Для адрознівання такіх формаў устанаўліваюцца штучныя правілы, але яны (правілы) цяжка засвойваюцца навучэнцамі, бо не заўсёды і не для ўсіх выпадкаў з'яўляюцца лагічнымі і матываванымі (логікі і матывацыі часта бракуе ў самім моўным матэрыяле).

Усё ж пры арыентацыі на пісьмовы тэкст, які трэба прымаць за моўную рэальнасць таксама, як навакольны свет успрымаецца непасрэднай данасцю прадстаўнікамі негуманітарных навук пры яго даследаванні, раздзельнае або злітнае напісанне служыць звычайна крытэрыем або розных слоў, або адпаведна аднаго слова. Аднак і такая, падавалася б выразная матэрыяльная рыса, як злітнае ці раздзельнае напісанне слоў у пісьмовым тэксце не вырашае праблемы выдзялення і вызначэння асобнага слова ў беларускай мове. Так, у вершы Я.Купалы "За годам год" лексічныя формы *годам* і *год* падаюцца асобна, знешне не ва ўсім супадаюць,

але ж кожны носьбіт беларускай мовы ўсведамляе іх як адно слова, толькі прадстаўленае рознымі граматычнымі формамі, што закадыфікавана і адпаведнымі лексікаграфічнымі крыніцамі (арфаграфічнымі, тлумачальнымі і іншымі слоўнікамі).

Сучасная тэарытычная лінгвістыка шырока аперыруе такімі паняццямі, як маўленне і мова. Маўленне – гэта матэрыяльная форма нашай вербальнай дзейнасці, што ўспрымаецца органамі пачуццяў (слыхам – вусная форма, зрокам – пісьмовая форма); мова – адцягненая сутнасць, што абстрагуецца з маўлення ў выглядзе яго найбольш істотных устойлівых рыс. Маўленне і мова адрозніваюцца паміж сабой адпаведнымі суадноснымі бінарнымі (дваічнымі) прыкметамі: канкрэтнае / абстрактнае, індывідуальнае / сацыяльнае, фізіялагічнае / псіхічнае, варыянтнае / інварыянтнае, узуальнае / нарматыўнае і інш. (гл.: ПЛОТНІКАЎ 1994, 139–140). З гэтага пункту гледжання слову (лексеме) як моўнай абстрактнай адзінцы супрацьпастаўляецца словаўжыванне як канкрэтная маўленчая адзінка, што і выражаецца ў пісьмовым тэксце літарай або сукупнасцю літар, размешчаных паміж прабеламі радка тэксту, а ў вусным маўленні – гукам ці сукупнасцю гукаў, паміж якімі магчымы паўзы (гл.: КУЗНЕЦОВ 1964, 75–77).

Моўная адзінка слова (лексема) рэалізуецца ў маўленні адкрытым мноствам аднолькавых маўленчых адзінак – словаўжыванняў, ці, наадварот, з супрацьлеглага пункту гледжання, пункту гледжання маўлення, мноства аднолькавых маўленчых адзінак (словаўжыванняў) аб'ядноўваюцца ў адну моўную адзінку (слова), якая ў адной са сваіх зыходных формаў (напрыклад, адзіночны лік, мужчынскі род для прыметніка, інфінітыў для дзеяслова і г.д.) падаецца ў слоўніках.

Паміж словам і словаўжываннем знаходзіцца яшчэ адна адзінка, прамежкавая, – словаформа, якая лучыць у межах аднолькавай знешняй формы шматлікія тоесныя словаўжыванні. У сваю чаргу, розныя словаформы (граматычныя формы аднаго слова) аб'ядноўваюцца ў адно слова на аснове агульнага лексічнага значэння. Такім чынам, слова ў маўленні рэалізуецца сваімі рознымі граматычнымі формамі – словаформамі (напрыклад, для назоўніка *кніга* – гэта 12 словаформаў: шэсць для розных склонавых формаў адзіночнага ліку і шэсць – для множнага ліку), а словаформа – мноствам словаўжыванняў, аднолькавых у межах кожнай словаформы.

Так, у згаданым вершы Я. Купалы “За годам год” у куплеце:

*За годам год, за родам род,*
*Што хвалі хмар, што плескі вод,*
*Па зменах змен, на ўсход, на сход,*
*За родам род, за годам год, –*

адзначаецца 25 словаўжыванняў, бо ў ім як раз столькі сукупнасцяў літар, размешчаных паміж прабеламі радка прыведзенага тэксту, што падлягае адназначнаму і дакладнаму падліку. У гэтым жа куплеце налічваецца 16 словаформаў, бо аднолькавыя паўтаральныя словаўжыванні *за, годам, год, родам, род, на* аб'ядноўваюцца ў адпаведныя словаформы. Словаформы з адной і той жа асновай і супадальнымі катэгарыяльнымі, граматычнымі (у дадзеным выпадку часцінамоўнымі), а таксама і лексічнымі значэннямі аб'ядноўваюцца ў больш абстрактныя адзінкі словы (*годам – год, родам – род*), а астатнія словаформы і словаўжыванні супадаюць на гэтым абмежаваным матэрыяле са словам, і, такім чынам, у дадзеным урыўку тэксту адзначаецца 13 розных слоў, прадстаўленых тут 16 словафорамі і 25 рознымі словаўжываннямі, якія з'яўляюцца своеасаблівымі тэкставымі экземплярамі слова.

У прааналізаваным тэксце словаўжыванні, словаформы і словы вылучаюцца даволі лёгка і адназначна, але ў беларускім маўленні (пісьмовым тэксце) сустракаюцца прыклады, якія складаюць адвечную праблему для навукоўцаў пры выдзяленні зазначаных лексічных адзінак (словаўжыванняў, словаформаў, слоў). Па ступені нарастальнай складанасці адзначым, па-першае, несупадальныя, або суплетыўныя, формы аднаго і таго ж слова (параўн.: *я – мяне, добры – лепшы, шукаць – знайсці, чалавек – людзі* і да т.п.); па-другое, розныя дэрывацыйныя формы слова (параўн.: *хаціна – хацінка, зямля – зямелька, малы – малюпасенькі* і да т.п.), якія ў слоўніках, складзеных рознымі аўтарамі, пададзены то як розныя словы (аформленыя ў якасці асобных артыкулаў), то як адно слова, прадстаўленае ў межах пэўнага слоўнікавага артыкулу (так, у дачыненні да прыведзенага вышэй слова *хацінка* ў ТСБЛМ падаецца як форма слова *хаціна,* а ў ТСБМ як асобнае слова); па-трэцяе, шматлікія выпадкі полісеміі (мнагазначнасці), якая далёка не заўсёды выразна адрозніваецца ад аманіміі і неаднолькава разглядаецца ў слоўніках (так, у ТСБЛМ формы слова *ваўчок* памяншальнае ад слова *воўк* і *цацка* падаюцца ў якасці полісемантаў, як адно слова, а ў ТСБМ як розныя словы, амонімы).

Словаўжыванні і словаформы прадстаўлены ў звязных пісьмовых тэкстах і ў вусным маўленні, а словы падаюцца ў разнастайных філалагічных слоўніках. У беларускім слове выдзяляюцца выразна дзве яго функцыі – знешняя і ўнутраная. Знешняя скіравана на навакольную рэчаіснасць для намінацыі рэалій (прадметаў, з'яў, дзеянняў і іх прыкмет); унутраная – на іншыя словы для пабудовы выказванняў. Такім чынам, слова можна вызначыць як асноўную намінатыўную адзінку мовы, якая служыць для пабудовы выказванняў. Як ужо зазначалася, першая функцыя слоў лучыць чалавека з вонкавай рэчаіснасцю, другая аб'ядноўвае людзей у пэўныя сацыяльныя суполкі.

## 5.3. СТРУКТУРА І ЗНАЧЭННЕ СЛОВА

Кожнае слова мае план выражэння і план зместу, якія ўтвараюць цэласную арганічную еднасць. План выражэння складаецца з зыходнай знешняй гукавой формы, а ў развітых мовах – і з пісьмовай формы, якая служыць другаснай у адносінах да гукавой; план зместу (ідэальная, унутраная частка слова) уключае ў сябе значэнне, звязанае з нашымі паняццямі, вобразамі, уяўленнямі аб вонкавым свеце, яго рэаліях, і сэнс, абумоўлены кантэкстам і сітуацыяй ужывання слова. Значэнне слова служыць стабільнай моўнай катэгорыяй, а сэнс – маўленчай зменлівай з'явай. Значэнне і сэнс узаемазвязаны, бо значэнне рэалізуецца ў маўленні шматлікімі сэнсамі, з сумы найбольш устойлівых якіх і складаецца значэнне.

У маўленні (звязным тэксце) сэнс слова рэалізуецца шматлікімі і разнастайнымі формамі, што падзяляюцца на ўнутрыслоўныя і пазаслоўныя. Унутрыслоўнымі формамі выражаюцца граматычныя і дэрывацыйныя значэнні, якія складаюць частку плана зместу слова. Так, розныя граматычныя значэнні слова *кніга*, праяўляюцца найперш праз яго канчаткі (*кнігу* – вінавальны склон адзіночнага ліку, *кнігамі* – творны склон множнага ліку і г.д.). Суфіксамі выражаюцца дэрывацыйныя значэнні *кніжачка* – памяншальнае значэнне, *кніжонка* – зневажальнае і інш.).

Пазаслоўныя формы рэалізуюцца праз спалучальнасць лексем, дыстрыбуцыю, кантэкст. Спалучальнасць можа разглядацца з сінтаксічнага і лексічнага пунктаў гледжання. У першай з іх выражаюцца пераважна граматычныя значэнні. У другой

праяўляюцца шматлікія семантычныя рысы зададзенага слова, якія даволі поўна характарызуюць яго. Так, з улікам толькі спалучальных слоў можна "вылічыць" невядомае слова *x* у наступных сінтаксічных канструкцыях: *чытаць x, цікавая x, надрукаваць x, аўтар x, выстаўка x, ілюстраваная x.* Натуральна, у дадзеным выпадку *x* = *кніга*, пра што выразна сведчыць яго прыведзеная лексічная спалучальнасць.

Сэнс слоў у тэксце можа быць прамым і пераносным. У першым выпадку словы абазначаюць непасрэдныя прадметы, з'явы, прыкметы тыпу *Яркія прамяні сонца асвятляюць зямлю.* У другім выпадку назіраюцца разнастайныя метафарычныя ўжыванні слоў. Напрыклад, у радках верша М.Багдановіча:

*Навакол усё паветра*
*У струнах сонца залатых –*



словы *струнах* і *залатых* маюць не прамы, а пераносны сэнс. Сукупнасць шматлікіх тэкставых сэнсаў сілкуе значэнне слова і робіць яго надзвычай багатай, практычна невычарпальнай семантычнай з'явай.

У бяздонным змесціве слова вылучаецца некалькі аспектаў, вакол якіх групуюцца ўсе магчымыя сэнсы. Гэтыя аспекты лексічнага значэння выводзяцца з адносін формы слова (плана выражэння) да пэўных рэалій. Прадметны, або дэнататыўны, аспект вызначаецца адносінамі слова да знешняга аб'екта, яго прыкметы, дзеяння. У ТСБМ лексема *стол,* напрыклад, дэфінуецца як 'прадмет мэблі ў выглядзе шырокай гарызантальнай дошкі на высокіх падпорах (ножках), часам з шуфлядамі, тумбачкамі, на які кладуць, ставяць што-небудзь'. Прадметам (дэнататам) у мовазнаўстве лічаць таксама абстрактныя рэаліі тыпу ідэя, класіцызм, блакіт і да т.п., дэманічныя істоты тыпу дамавік, кентаўр, русалка і г.д.

Сігніфікатыўны аспект значэння характарызуецца адносінамі формы слова да паняцця аб прадмеце. Асаблівасцю гэтага аспекта служыць тое, што нашы паняцці (думкі, уяўленні і да т.п.) аб прадметах мяняюцца ў сувязі з больш глыбокім пазнаннем апошніх, або ў сувязі з пераасэнсаваннем іх ролі ў жыцці людзей, або праз перанос значэнняў. Так, слова *трасянка* ў ТСБМ тлумачыцца як 'стрэсенае сена з саломай, якое ідзе на корм жывёле', але ў апошнія гады гэтае слова набыло дадатковае пераноснае значэнне 'прадукт беларуска-рускага змешанага маўлення', што і зафіксавана ў ТСБЛМ.

Прагматычны аспект значэння характарызуецца адносінамі формы слова да канкрэтнага носьбіта мовы, які ўжывае гэтае слова. Кожны прамоўца (адрасант) укладвае ў выкарыстанае слова такі змест, што даволі часта не адпавядае агульнапрынятаму (слоўнікаваму) значэнню. Так, для персанажа Міхала з паэмы "Новая зямля" Якуба Коласа невялікі гарадок Нясвіж уяўляецца вялікім мегаполісам кшталту Парыжа, які (Нясвіж), зразумела на думку Міхала, вядомы ўсім людзям:

*Здалёк мы, пане гаспадару:*
*Чатыры мілі за Нясвіжам*
*(Міхал лічыў Нясвіж Парыжам,*
*Усім вядомым на ўсім свеце).*

Падобны змест слова носіць індывідуальны (або прагматычны) характар, абумоўлены жыццёвым досведам і светапоглядам пэўнай асобы, у дадзеным выпадку Міхала. Прагматычнае значэнне залежыць ад асаблівасцяў субяседнікаў, таму непаразуменне пры зносінах людзей часта залежыць менавіта ад прагматычнага

значэння слоў. Праз дадзены семантычны аспект у агульнаўжывальных словах здатна ўзнікаць дадатковая інфармацыя, вядомая пад назвай канататыўная, якая спрыяе асіметрычным суадносінам знешняй формы і значэння слова, у той час калі наяўнасць дэнататыўнага і сігніфікатыўнага значэнняў уплывае на захаванне ў ім (слове) сіметрычных адносін паміж планам выражэння і планам зместу, чым забяспечваецца аб'ектыўнае пазнанне і адлюстраванне знешняй рэчаіснасці лексічнымі сродкамі беларускай мовы.

Уласна лінгвістычны аспект лексічнага значэння вынікае з месца слова сярод іншых слоў у лексічнай сістэме і называецца значымасць (гл.: СОССЮР 1977, 148). Характар і ўласцівасці дадзенага семантычнага аспекту з'яўляюцца непаўторнымі і арыгінальнымі для кожнай мовы, таму значымасць лексемы, у прыватнасці беларускай мовы, не заўсёды падлягае дакладнаму паслоўнаму перакладу нават на блізкароднасныя мовы. Так, беларускае слова *гладкі* ў адрозненне ад эквівалентнага знешне рускага адменніка *гладкий* семантычна звязана са словамі *сыты, адкормлены, дагледжаны* і інш. (параўн. прымаўку: *У сваёй маткі ўсе дзеткі гладкі*) і ў гэтым значэнні не перакладаецца на рускую мову прыметнікам *гладкий.*

Складаная структура плана зместу амаль усіх знамянальных агульнаўжывальных слоў беларускай мовы заключаецца і ў тым, што яны маюць па некалькі значэнняў. Наяўнасць у слове больш чым аднаго значэння называецца полісеміяй (гл.: СТАРЫЧОНАК 1997), ці шматзначнасцю (мнагазначнасцю). Яна ўзнікла і актыўна развіваецца ва ўсіх жывых натуральных мовах, таму што ў іх налічваецца абмежаваная колькасць агульнаўжывальных слоў, а рэалій, з'яў і іх прыкмет вакол чалавека – безліч. Для таго каб ахінуць неабмежаваны лік рэалій абмежаванай колькасцю слоў, гэтыя словы выкарыстоўваюцца носьбітам мовы для абазначэння адначасова некалькіх рэалій, звязаных паміж сабой ці тэматычна, ці па падабенству, ці па функцыі, ці па сумежнасці, у выніку чаго слова і набывае некалькі розных значэнняў. Калі паміж значэннямі, якія пакрываюцца знешне тоеснай лексічнай формай, не фіксуюцца семантычныя сувязі засведчанага кшталту, то такая лексічная з'ява называецца аманіміяй. У тлумачальных слоўніках адрозненне паміж полісеміяй і аманіміяй занатоўваецца тым, што розныя значэнні полісемічнага слова падаюцца ў адным артыкуле, а аманімічныя словы ў розных артыкулах. Так, у ТСБМ для дзеяслова *ісці* прыведзена 28 значэнняў, для прыметніка *жывы* – дзевяць, для назоўніка *дарога* – пяць, для прыслоўя *зараз* – два і г.д., а слова *кар'ер* 'бег каня' і *кар'ер* 'месца здабычы карысных выкапняў адкрытым спосабам' прыводзяцца ў розных артыкулах.

Мнагазначнасць служыць адным з відаў семантычнага развіцця слоў, змен, якія пастаянна адбываюцца ва ўнутранай структуры лексемы, у яе плане зместу. Разнастайныя віды семантычных змен адбываюцца па універсальных правілах шляхам пераносу значэнняў ад канкрэтнага на абстрактнае, ад матэрыяльнага на духоўнае і тэрміналагічна замацавана словамі *метафара* (перанос значэнняў па падабенству, функцыі і г.д.; параўн.: *востры нож* і *востры язык, галава чалавека* і *галава калоны* і да т.п.), *метанімія* (перанос значэнняў па сумежнасці; параўн.: *пабудаваць дом* і *ліст з дому, твор Караткевіча* і *чытаць Караткевіча* і да т.п.), *гіпербала* (перабольшванне) тыпу *рабіць з мухі слана, не галава, а дом саветаў* і да т.п., *літота* (змяншэнне) тыпу *хлапчучок з кулачок, карлікавая краіна* і да т.п., *сінекдаха* (перанос значэнняў з часткі на цэлае; параўн.: *у сям'і дзесяць ратоў, у статку сорак галоў* і да т.п.).

Праз полісемію змест слова разгортваецца ўшырыню, а на рознай глыбіні значэння слова месціцца такая семантычная з'ява, як унутраная форма, што лучыць знешнюю абалонку слова і змест у арганічнае цэлае, лексічную еднасць, або проста

слова. Унутраная форма звязваецца з матываванай прыкметай, якая кладзецца ў аснову намінацыі прадмета словам. Так, беларуская назва птушкі *снягір* матывавана прыкметай ‘снег‘, тое ж тычыцца і назвы зімовага месяца *снежань*, фігуры са снегу *снегавік* і інш. Назвы музычных інструментаў *бубен, дудка* матываваны гукапераймальным спосабам, але некаторыя лексемы, як правіла найбольш старажытныя, страцілі матываванасць свайго значэння, сваю ўнутраную форму (параўн.: *вока, снег, рука, лес, вада* і інш.), але ў некаторых выпадках яна можа быць адноўлена шляхам этымалагічнага аналізу. Так, беларускае слова *кішэня* звязана па паходжанню са словам *кішка, лазня* – са словам *лазіць*, г.зн. першыя словы матываваны больш старажытнымі словамі *кішка, лазіць*, якія звычайны носьбіт мовы, неспецыяліст, не суадносіць з вытворнымі словамі.



## 5.4. УПАРАДКАВАНАСЦЬ, АБО СІСТЭМНАСЦЬ, СЛОЎ

Ізаляваныя лексемы ў маўленчай дзейнасці, як правіла, не выкарыстоўваюцца, бо функцыянуюць у спалучэнні паміж сабой. У свядомасці носьбіта мовы словы таксама групуюцца ў розныя сукупнасці, што пры спараджэнні маўлення відаць па тым, як мы выбіраем на кожную сінтаксічную пазіцыю ў выказванні толькі адно слова з некалькіх (мноства) магчымых іншых слоў. Так, у элементарным сказе *Яна прыедзе заўтра* на месцы займенніка *яна* можна ўжыць вялікую колькасць іншых лексічных адзінак (параўн.: *дзяўчына, Алёна, настаўніца, маці, сястра, сяброўка* і інш.), тое ж тычыцца і слоў *прыедзе, заўтра*. Рэалізаваныя эксплiцытныя сувязі слоў у выказванні называюцца сінтагматычнымі, а нерэалізаваныя імпліцытныя (патэнцыяльныя, наяўныя ў свядомасці чалавека) парадыгматычнымі. Менавіта на гэтых найбольш універсальных відах сувязяў грунтуецца лексічная сістэмнасць. Усе астатнія магчымыя аб’яднанні лексем заснаваны на разнастайных відах сінтагматычных і парадыгматычных сувязяў. У пісьмовым тэксце і ў вусным маўленні словы лучацца сінтагматычнымі сувязямі, у шматлікіх слоўніках (антанімічных, сінанімічных, ідэаграфічных, марфемных, тэматычных, словаўтваральных, аманімічных, паранімічных і інш.) – парадыгматычнымі, а ў свядомасці чалавека і парадыгматычнымі, і сінтагматычнымі. Хаця памянёныя слоўнікі і з’яўляюцца штучнымі ўтварэннямі, у іх прадстаўляюцца рэальныя парадыгматычныя сувязі паміж лексемамі, аб’яднаных у тыя ці іншыя пары, рады, разрады, групы, тэмы, палі і г.д.

Найбольш відавочнай сістэмная арганізацыя слоў у пэўныя семантычныя сукупнасці ўяўляецца пры аб’яднанні лексічных адзінак па прадметных тэмах. Пры гэтым само сабой зразумела для кожнага носьбіта беларускай мовы служыць еднасць, напрыклад, усіх назваў дрэў у межах адной групы, назваў жывёл – у другой, назваў людзей – у трэцяй, назваў адрэзкаў часу – у чацвёртай, назваў прадметаў матэрыяльнай культуры (артэфактаў) – у пятай, назваў участкаў прасторы – у шостай, назваў адцягненых паняццяў – у сёмай і г.д. Тэматычныя групы беларускай лексікі служаць прыдатнай асновай для шматлікіх дысертацыйных лінгвістычных прац, дзе адпаведныя словы разглядаюцца з розных пунктаў гледжання (этымалагічнага, сінтаксічнага, частотнага, тыпалагічнага, марфалагічнага, дэрывацыйнага, стылістычнага, гістарычнага, параўнальнага, асацыятыўнага і інш.).

Тэматычныя групоўкі лексікі адлюстроўваюць у сабе, па сутнасці, прадметную класіфікацыю адпаведных знешніх рэалій вонкавага свету. У дачыненні да

тэрміналагічных слоў логіка-прадметная класіфікацыя ўяўляецца больш-менш аднaзначнай, што падмацоўваецца ўсталяваннем пэўных навуковых дысцыплін, скіраваных на вывучэнне згаданых тэм рэалій (параўн.: батаніка, заалогія, астраномія, геаграфія, хімія, фізіка і інш.). Але што тычыцца агульнаўжывальнай лексікі, то пры яе размеркаванні па тэмах узнікаюць складаныя праблемы найперш па прычыне мнагазначнасці слоў, якія могуць адначасова ўключацца ў розныя тэматычныя групы. Напрыклад, слова *конь* уваходзіць у тэматычную групу свойскіх жывёл, у сельскагаспадарчую, транспартную, ваенную, спартыўную і іншыя тэмы. Слова *зямля* можа ўключацца ў прадметныя тэмы, звязаныя з астраноміяй, геаграфіяй, геадэзіяй, геалогіяй, сельскай гаспадаркай, глебазнаўствам і інш. Тэматычная еднасць слоў лучыць апошнія як раўнапраўныя адзінкі аднаго семантычнага поля, але чалавечым розумам гэтыя адзінкі могуць абагульняцца ў рознай ступені і аб'ядноўвацца ўжо не як адзінкі аднапланавыя, а на аснове імплікацыі (уключэння, падпарадкавання, іерархіі).

Словы, звязаныя імплікацыйнымі адносінамі, называюцца гіпонімамі, г.зн. словы, якія семантычна падпарадкоўваюцца іншым словам з больш шырокім значэннем. Сярод імплікацыйных адносін выдзяляюцца дзве разнавіднасці семантычнага падпарадкавання: частка – цэлае і від – род. Словы, што абазначаюць часткі і від адпаведна падпарадкоўваюцца словам, якія суадносяцца з цэлым і родам. Напрыклад, словы *ліст, галіна, сук, ствол, кара* і г.д. падпарадкоўваюцца слову *дрэва*, а лексемы *бык, баран, карова, конь, авечка* і г.д. – слову *жывёла.* Гэта значыць, што словы *ліст, галіна, сук, ствол, кара* і *бык, баран, карова, конь, авечка* служаць гіпонімамі адпаведных лексем *дрэва* і *жывёла*, а апошнія з'яўляюцца для іх адпаведнымі гіперонімамі.

Імплікацыйныя адносіны паміж лексемамі могуць мець шматступеньчаты характар, паводле якога словы ўпарадкоўваюцца ў паслядоўны ланцужок, дзе немагчыма іх перастаноўка без парушэння згаданага ступеньчатага характару іх імплікацыйных сувязяў. Так, канкрэтныя словы са значэннем частак цела чалавека, а таксама відаў чалавека імплікацыйна арганізуюцца ў наступныя ланцужкі: 1) *пазногаць – палец – кісць – рука – цела;* 2*) паляшук – беларус – славянін – еўрапеец – чалавек.* У зазначаных ланцужках кожнае папярэдняе слова з'яўляецца гіпонімам да кожнага наступнага слова, якое, у сваю чаргу, служыць гіперонімам для папярэдняга, падпарадкоўвае яго.

Гіпоніма-гіперанімічныя адносіны выкарыстоўваюцца для семантычнай класіфікацыі лексікі ў ідэаграфічных слоўніках, створаных для многіх моў (на жаль, ідэаграфічны слоўнік беларускай мовы яшчэ чакае сваіх аўтараў), а таксама шырока ўжываюцца ў якасці метамоўнага сродку для раскрыцця лексічных значэнняў у тлумачальных слоўніках. Напрыклад, у ТСБЛМ значэнне слова *зруб* раскрываецца з дапамогай гіпероніма *збудаванне* 'збудаванне з чатырохвугольных вянкоў бярвення', а значэнне слова *сузор'е* – з дапамогай гіпонімаў 'адзін з 88 участкаў, на якія падзелена зорнае неба для зручнасці арыентацыі і абазначэння зорак' (*участак, зорка*). На гіпоніма-гіперанімічных адносінах грунтуецца структура любога пісьмовага тэксту ў паслядоўнасці літара – слова – словазлучэнне – сказ – абзац (раздзел, глава) – тэкст, а таксама структура любой натуральнай мовы: гук – склад – словаўжыванне – словазлучэнне – выказванне – прамова.

## 5.5. ЛЕКСІЧНЫЯ СІНОНІМЫ

Сінанімічныя адносіны ўзнікаюць на аснове семантычнай тоеснасці, падабенства, блізкасці слоў, якія звычайна суадносяцца з адной рэаліяй, з'явай,

паняццем. Чым больш істотнай і жыццёва важнай служыць пэўная рэалія для носьбітаў беларускай мовы, тым больш атрымлівае яна разнастайных сінанімічных найменняў. Так, для беларускага селяніна самай неабходнай свойскай жывёлай быў конь, таму толькі для аднагадовага жарабя выкарыстоўваліся дзесяткі розных сінанімічных слоў, як правіла, матываваных (параўн.: *гадун, сяголетак, перазімак, гадавік, сёлетнік, стрыгун, жарабё, сысун, рачняк, выпустак, леташак, лончак, кусюлёнак, лашонак, адназімак* і інш.; гл.: ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС, т. 1, 1993, 42–43). Некалькі дзесяткаў сінанімічных назваў зафіксавана і для слова *карова* (параўн.: *быська, букса, куца, лабан, рагулька, лабатка, галашчанка, даёха, сеннічок, дроўка, буба, рабеня* і інш.; гл.: АНІЧЭНКА 1999). Тыповым беларускім ландшафтам служылі для вяскоўцаў *балота, лес, бор*, адпаведна найменні гэтых рэалій налічваюцца дзесяткамі (параўн.: для слова *алёс* 'зыбкае балота' – *тапель, гусьцяр, зыбуха, глагаўка, альховіца, мярэча, гусьцяж, чымярэшнік, плав'е, чагар, чагарнік, нэкош, смуга, хмузоўнік, карчоўнік, галёс* і інш.; гл.: ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС, т. 5, 1998, 25). Сінонімы багата прадстаўлены не толькі для назоўнікаў дыялектнай мовы, але і для іншых часцін мовы. Так, у гаворках адной толькі Мсціслаўшчыны для дзеяслова *іцці* 'ісці' зафіксаваны такія сінонімы, як *дзяжыць, перцца, клыпаць, чапаць, дыбаць, цюхаць, цёхаць, поўзць, дрыгаць, ламіць, валіць, каціць, дрынчэць, шаваліць, шпарыць* і інш. (гл.: ЮРЧАНКА 1969, 13–14). У той жа час, напрыклад, для слова *стэп*, не характэрнай з'явы нашага краявіду, не фіксуецца аніводнага сіноніма ў беларускай мове.

У беларускай літаратурнай мове колькасць сінонімаў для намінацыі адпаведных рэалій вагаецца ад двух (параўн.: *рыса, лінія; рэверанс, прысяданне; чай, гарбата* і інш.) да больш за сотню, у прыватнасці для прыслоўя *хутка* зазначана 126 сінонімаў (гл.: КЛЫШКА 1993), таксама ў залежнасці ад значнасці, ролі ў жыцці беларуса канкрэтнай рэаліі, яе прыметы. Сінанімічныя рэсурсы дыялектнай мовы, як відаць з прыведзеных вышэй прыкладаў з ЛАБНГ, складаюцца ў пераважнай большасці пароознаму матываванымі рэгіянальнымі назвамі пэўнай рэаліі, тады як у літаратурнай мове сінанімічнае багацце часта папаўняецца за кошт іншаземных запазычанняў, дзе натуральна матывацыя або адсутнічае, або праяўляецца ўскосна, шляхам дакладнага перакладу запазычанага слова на беларускую мову, напрыклад, *подпіс* і *аўтограф, дабрадзей* і *філантроп, заўвага* і *рэпліка, помнік* і *манумент, абеліск* і г.д. Некаторыя сінанімічныя рады сучаснай беларускай літаратурнай мовы цалкам складаюцца з запазычаных слоў; параўн.: *канікулы* і *вакацыі, дырыжор* і *рэгент, алфавіт – азбука – марзянка; крэсла – фатэль – шэзлонг* і інш.

Многія сінанімічныя гнёзды ўтвараюцца з літаратурных і дыялектных слоў (*венік, мятла, мяцёлка* і *дзяркач, памяценнік, гальнік* і інш.), а таксама з літаратурных, дыялектных і запазычаных слоў (*урач – лекар – доктар – эскулап* і інш.), літаратурных і размоўных слоў (*вучань, школьнік* і *шкаляр; галава* і *кумпал, мазгаўня* і інш.), запазычаных і дыялектных (*абажур* і *кантур* і інш.), запазычаных і размоўных (*веласіпед* і *самакат, эпілепсія* і *падучка, кар'ерыст* і *выскачка, прыстасаванец* і інш.).

Словы могуць сінанімізавацца не толькі паміж сабой, але і з фразеалагічнымі адзінкамі (параўн.: *драмаць* і *кляваць носам; памагчы, падтрымаць* і *ўзяць на буксір, падаць руку; дакучаць, даймаць* і *лезці ў вочы, дурыць галаву* і інш.), са словазлучэннямі (параўн.: *партызан* і *народны мсцівец, лясны салдат; літаратура* і *прыгожае пісьменства; дагэтуль, дасюль* і *да гэтага часу, да гэтага, па гэты час, на гэты дзень, на сённяшні дзень* і інш.). Часам сінонімы складаюцца толькі са словазлучэнняў (параўн.: *дошка гонару* і *чырвоная дошка* і інш.). Сінанімічныя рады складаюцца ў беларускай мове як з аднакаранёвых слоў (параўн.: *дыханне – дых – дух; крэсіва – красава – красадла; паводка – павадзь – разводдзе* і інш.), так і з

рознакаранёвых (параўн.: *даход – прыбытак – барыш; дзеяч – актывіст – функцыянер; пачынальнік – застрэльшчык – ініцыятар – піянер* і інш.), вельмі часта адначасова з аднакаранёвых і рознакаранёвых (параўн.: *пашчасліўіць – пашчасціць – пашанцаваць; прабачыць, выбачаць* і *дараваць, падараваць; помста, адпомста* і *адплата, расплата; хмара, хмурына, хмурынка* і *воблака, аблачына, аблачынка* і інш.).

Усе семантычныя адценні і адрозненні сінонімаў не паддаюцца адназначнай, строгай класіфікацыі, таму падставу для класіфікацыі сінонімаў трэба шукаць у адрозненнях іх формы. Сінанімізавацца здатны словы, якія адрозніваюцца сваімі граматычнымі характарыстыкамі. Так, у дачыненні да назоўнікаў сінонімамі могуць быць словы з розным граматычным родам (параўн.: мужчынскі і ніякі род – *спіс* і *пералічэнне, выпадак* і *здарэнне* і інш.; жаночы і мужчынскі род – *дарога* і *шлях, злосць* і *гнеў* і інш.; жаночы і ніякі род – *раздарожжа* і *развілка, меркаванне* і *думка* і інш.), з розным лікам (параўн.: *зайздрасць* і *завідкі; база* і *ўстоі; шлунне* і *вантробы* і інш.). Зразумела, сінанімізуюцца таксама словы і з супадальнымі граматычнымі характарыстыкамі, родам, лікам і інш. (параўн.: *вартаўнік – ахоўнік, нутро – шлунне, ільдзіна – крыга, валошкі – васількі* і інш.), а таксама словы аднакаранёвыя з аднакаранёвымі (параўн.: *сапернік – праціўнік, расцэнка – такса, руль – штурвал* і інш.), а двухкаранёвыя з двухкаранёвымі (параўн.: *вастраносы – сухарэбры, даматканы і самадзелкавы* і інш.).

З улікам таго, што большасць агульнаўжывальных слоў з'яўляецца мнагазначнымі, яны могуць супадаць толькі па адным са сваіх значэнняў з семантыкай іншых слоў. У выніку гэтага ў лексічнай сістэме беларускай мовы ўтвараюцца разгалінаваныя сінанімічныя сеткі, якія працінаюць гэтую сістэму ў розных напрамках. Так, у ТСБМ адным з шырокіх сродкаў раскрыцця лексічнага значэння служыць выкарыстанне адпаведных сінонімаў. Напрыклад, слова *аснова* тлумачыцца, па-першае, сінанімічнымі лексемамі *каркас* і *касцяк,* па-другое, сінонімамі *грунт* і *падмурак,* па-трэцяе, сінонімамі *ўзор* і *пачатак*, г.зн. значэнне полісемічнага слова сінанімізуецца рознымі парамі лексем, не звязаных паміж сабой семантычна (параўн.: *касцяк* і *падмурак, грунт* і *ўзор, каркас* і *пачатак* і інш.). Далей, значэнні прыведзеных сінонімаў у адпаведных артыкулах дадзенага слоўніка тлумачацца, зразумела, сваімі сінонімамі: лексема *касцяк*, з аднаго боку, сінонімамі *апора, падтрымка, дапамога*, з другога боку, сінонімам *шкілет*, потым значэнне слова *шкілет* характарызуецца, па-першае, сінонімам *схема,* па-другое, сінонімам *астаткі*, а значэнне слова *схема* разгортваецца трыма сінанімічнымі яму лексемамі – *чарцёж; апісанне; палажэнне* і г.д.

Такім чынам, калі б прасачыць хаця б за часткай падобных сінанімічных сувязяў, то можна атрымаць (пабудаваць, выявіць) пэўныя сінанімічныя блокі (канструкцыі) слоў, дзе далёка не ўсе лексемы маюць блізкае падабенства па значэнню.



На прыведзенай схеме для гэтай часткі сінанімічнага блока, які ўзначальвае слова *аснова,* сінанімічныя сувязі не адзначаюцца, у прыватнасці, паміж лексемамі *аснова* і *вадаём, сутнасць* і *апісанне, фундамент* і *падтрымка, крыніца* і *чарцёж* і інш.

Канечне, дадзены сінанімічны блок можна разгортваць і надалей, калі браць пад увагу сінанімічныя словы, прыведзенымі апошнімі правымі на схеме (*чарцёж, апісанне, палажэнне, астаткі* і г.д.), і іх тлумачэнні блізкімі па семантыцы лексемамі (сінонімамі) у адзначанай лексікаграфічнай крыніцы, што сведчыць пра універсальнасць сінанімічных сувязяў, якія, па сутнасці, ахінаюць усе ўчасткі лексічнай сістэмы мовы, утвараюць яе адзіную сінанімічную структуру асабліва з улікам таго, што сінанімічныя адносіны ўзнікаюць і паміж словамі розных часцін мовы (гл.: АПРЕСЯН 1974, 222–223).

Істотным момантам пры даследаванні сінанімічных слоў з'яўляецца выдзяленне сярод іх дамінанты, г.зн. лексемы, якая ўзначальвае сінанімічны рад або блок і найбольш поўна ўвасабляе ў сабе семантычны змест усёй сінанімічнай групы (параўн.: ЩЕРБА 1958, 35). У сінанімічных слоўніках дамінантнае слова прыводзіцца як загалоўнае, першае (параўн.: *размоўца, суразмоўца, субяседнік; мускул, цягліца, біцэпс; дагавор, умова, пагадненне, кантракт, пакт* і інш.), але яно вызначаецца звычайна на аснове інтуіцыі складальніка слоўніка ці наяўных традыцый. У сучасным моваведзнаўстве распрацоўваюцца разнастайныя методыкі вызначэння дамінантных сінонімаў або праз аналіз іх спалучальнасці (гл.: ПЛОТНИКОВ 1979, 41), або шляхам кампанентнага аналізу (гл.: БЕРЕЖАН 1973, 66–67), або псіхалінгвістычнага доследу (гл.: КЛИМЕНКО 1970, 39). Тым не менш праведзеныя даследаванні тычацца толькі асобных сінанімічных груп тых ці іншых моў і фактычна яшчэ не выкарыстоўваюцца ў поўным аб'ёме для мэт лексікаграфічнай практыкі.

З улікам выражанага значэння і выканальных функцый сярод сінонімаў можна выдзеліць раўнацэнныя (ідэаграфічныя), якія прадстаўляюць змест адпаведнай рэаліі без асаблівых семантычных адрозненняў. Сінонімы падобнага кшталту могуць утварацца як спрадвечна беларускімі словамі аднаго стылю, адной разнавіднасці мовы (параўн.: *правасуддзе* і *законнасць, вера* і *надзея, выпадак* і *здарэнне, морда* і *мыза, дзяркач* і *галень* і інш.), а таксама беларускімі літаратурнымі і запазычанымі словамі (параўн.: *мовазнаўства* і *лінгвістыка, правапіс* і *арфаграфія, разведка* і *рэкагнасцыроўка, гучнагаварыцель* і *рэпрадуктар* і інш.).

Градуальныя сінонімы выражаюць змест той ці іншай рэаліі (прадмета, прыкметы, дзеяння) нераўнацэнна, з рознай інтэнсіўнасцю ці ступенню праяўлення яе характэрнай рысы, і могуць утвараць у адпаведнасці з ёй сінанімічныя ланцужкі, дзе кожнае наступнае слова ў большай ступені рэалізуе прадстаўлены гэтымі ланцужкамі агульны змест (параўн., напрыклад: *немалы – буйны – вялікі – велізарны – аграмадны – гіганцкі – грандыёзны; невялікі – малы – дробны – мізэрны – мініяцюрны*).

Стылістычныя сінонімы ўзнікаюць паміж словамі, якія звязаны з адной рэаліяй, але адносяцца да кніжных ці да размоўных лексічных сродкаў выражэння (параўн.: *перст* і *палец, ложа* і *пасцель, падатак* і *паборы, конь* і *кляча, трафарэт* і *капыл* і г.д.).

Кантэкстуальныя, ці аказіянальныя, сінонімы характэрны толькі для канкрэтнага маўлення ці пісьмовага тэксту, у межах якіх збліжаюцца па значэнню розныя словы, што не разглядаюцца ў якасці сінонімаў у лексікаграфічных крыніцах, у межах літаратурнай мовы, дыялекту ці асобнага стылю. Напрыклад, у вядомай беларускай народнай песні "Ручнікі" ёсць наступны радок: "*Янка, мой саколік, памажы хутчэй*", дзе семантычна збліжаюцца словы *Янка* і *саколік*, якія, зразумела, не з'яўляюцца сінонімамі ў беларускай мове наогул, але сінанімізуюцца ў дадзеным кантэксце. У сувязі з разгледжанымі тыпамі лексічных сінонімаў неправамерным ці недакладным служыць іх азначэнне як слоў, здольных замяняць адно другое ў словазлучэнні або

сказе (параўн.: СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1976, 26), бо калі ідэаграфічныя сінонімы сапраўды могуць ужывацца ў адных і тых жа выразах без істотнага скажэння апошніх, то ўжо градуальныя сінонімы пры выкарыстанні іх у адной і той жа пазіцыі могуць мяняць адценні семантыкі адпаведных выразаў (параўн.: *малы чалавек* і *малюпасенькі чалавек* і да т.п.). Стылістычныя ж і кантэкстуальныя сінонімы ўвогуле не дапускаюць сваёй замены, бо гэта вядзе да моўных недарэчнасцяў, ці да скажэнняў, ці да семантычных неадпаведнасцяў тых або іншых выразаў з замененымі сінонімамі (параўн.: *прыгожы твар*, але не **прыгожая морда, цудоўнае гранне,* але не **цудоўнае трэньканне* і да т.п.).

Своеасаблівым відам сінонімаў служаць эўфемізмы, або словы ці выразы, што ўжываюцца замест іншых слоў з мэтай змянення іх экспрэсіўнасці, стылістычнай ацэнкі (параўн.: замест *абжора – гурман*, замест *памёр – аддаў богу душу*, замест *кукіш, фіга – камбінацыя з трох пальцаў* і да т.п.). Эўфемізмы звязаны са старажытным паняццем "табу", якое існавала ў нашых продкаў для забароны называць сваімі імёнамі ўсё, перад чым чалавек меў страх, бо лічыў, што паміж словам і названай ім рэччу існуе прыродная, прамая сувязь.

Развіццё і багацце сінанімічных сродкаў беларускай мовы, як і іншых натуральных развітых моў, залежыць ад двух вызначальных фактараў – знешняга і ўнутранага. Сутнасць знешняга фактару, як ужо згадвалася, палягае ў важнасці рэаліі для носьбітаў мовы (больш істотная рэалія вымагае большай колькасці сінанімічных найменняў). Прырода ўнутранага фактару звязана з законам асіметрычнага дуалізму моўнага знака, у адпаведнасці з якім (законам) форма слова імкнецца ўключыць у сябе як мага больш зместу, што вядзе да полісеміі (ці да аманіміі), а змест, унутраная сутнасць, імкнецца рэалізаваць сябе як мага ў большай колькасці розных форм, несупадальных найменняў, што і прыводзіць да сінаніміі (гл.: КАРЦЕВСКИЙ 1965, 87).

Такім чынам, полісемія і аманімія ўнутрана і знешне звязаныя паміж сабой лексічныя з'явы, якія сведчаць пра тое, што чым больш у той ці іншай мове шматзначных лексем, тым больш у ёй і сінонімаў, і наадварот. Беларуская мова ў гэтым плане належыць да адных з багацейшых моў, бо згаданыя з'явы прадстаўлены ў ёй шырока, разгалінавана, разнастайна, патэнцыяльна невычэрпна.

## 5.6. ЛЕКСІЧНЫЯ АНТОНІМЫ

Лексічныя антонімы ўяўляюць сабой словы, супрацьпастаўленыя па свайму значэнню, якое, аднак, суадносіцца з адлюстраваннем у мове адной і той жа якасці, прыкметы (параўн.: паняцце тэмпературы – *гарачы* і *халодны*; памеру – *вялікі* і *маленькі;* сілы – *моцны* і *слабы;* колеру – *светлы* і *цёмны*; колькасці – *многа* і *мала;* узросту – *малады* і *стары* і г.д.), або двух сутнасцей, рэалій, супрацьпастаўленых па адной якой-небудзь прыкмеце (параўн.: *вораг – сябра, поўнач – поўдзень, радасць – смутак, праўда – хлусня* і да т.п.).

У межах антаніміі лексічныя адзінкі звычайна звязваюцца паміж сабой, або сістэматызуюцца, папарна, але зыходнае слова можа мець некалькі антонімаў і ўтвараць, такім чынам, пэўны антанімічны блок (параўн.: *малы – вялікі, малы – дарослы; новы – стары, новы – былы, новы – даўні, новы – ранейшы; мінулае – будучае, мінулае – заўтрашняе, мінулае – наступнае, мінулае – сучаснае, мінулае – цяперашняе* і г.д.; гл.: ЛАЗОЎСКІ 1994), якія, у адрозненне ад сінанімічнага, складзены не з ланцужкоў, а пар, дуэтаў.

Антанімічныя адносіны ахопліваюць усе тыя лексічныя намінацыі, што падлягаюць якаснаму асэнсаванню і ацэнцы. З лінгвістычнага пункту гледжання антонімы і сінонімы збліжаюцца тым, што яны звычайна вылучаюцца сярод слоў

адной часціны мовы і маюць падобную ці супадальную лексічную спалучальнасць. Яны таксама характарызуюцца і адзінай знешнелінгвістычнай асновай, бо суадносяцца з аднымі і тымі ж якасцямі, уласцівасцямі. Так, наша пачуццё можа быць глыбокім і мелкім, радасным і сумным, добрым і дрэнным, буйным і спакойным, аптымістычным і песімістычным, упэўненым і хісткім і г.д. з мноствам семантычных адценняў, якія абазначаюцца сінанімічнымі словамі.

Антонімы бываюць аднакаранёвымі, утвараюцца з дапамогай разнастайных прэфіксаў ці суфіксаў (параўн.: *воля – няволя, вольны – міжвольны, сіметрыя – асіметрыя, мера – контрмера, гуманны – антыгуманны, мабілізацыя – дэмабілізацыя, гармонія – дысгармонія, яднанне – раз'яднанне; домік – даміна, носік – насішча* і інш.), і рознакаранёвымі (параўн.: *багацце – беднасць, буйны – дробны, аптыміст – песіміст* і г.д.), выражацца адным словам і спалучэннем слоў (параўн.: *усур'ёз – дзеля жарту* і інш.) або спалучэннямі слоў (параўн.: *з радасцю – без усялякай ахвоты* і інш.), словамі з рознымі граматычнымі формамі (параўн.: *ява – трызненне, холад – спякота, дзіця – старац, слёзы – смех, сон – рэальнасць* і інш.), запазычанымі і ўласна беларускімі словамі (параўн.: *анархія – парадак, гуманізм – чалавеканялюбства* і інш.), уласна беларускімі словамі (параўн.: *канец – пачатак, мёртвы – жывы, мяккі – цвёрды* і інш.), запазычанымі словамі (параўн.: *ідэаліст – рэаліст, пасіў – актыў, рэвалюцыя – контррэвалюцыя* і інш.), аднакаранёвымі і двухкаранёвымі (параўн.: *ціхоня – сарвігалава, прымусовы – добраахвотны, высакародны – подлы* і інш.).

З пункту гледжання выражанага зместу антонімы могуць быць сіметрычнымі, калі полюсы прадстаўленай імі якасці, прыкметы знаходзяцца цалкам у раўнамерным стане, г.зн. працяг супрацьпастаўленых паняццяў у той ці іншы бок з'яўляецца ўраўнаважаным і бясконцым (параўн.: *левы – правы, поўнач – поўдзень, лепш – горш* і да т.п.), і несіметрычнымі пры канечным ці нулявым паказчыку аднаго выражанага паняцця і бясконцым іншага, супрацьпастаўленага (параўн.: *дробны – буйны, мала – шмат, плыткі – глыбокі* і да т.п.), дзе першыя словы маюць мяжу адпаведнай якасці, а другія па сваёй якасці доўжацца ў бясконцасць). Абодвы зазначаныя (сіметрычныя і несіметрычныя) тыпы антонімаў з'яўляюцца градуальнымі, г.зн. могуць выражаць пэўную якасць у рознай ступені, што падмацоўваецца граматычнымі сродкамі беларускай мовы праз адпаведныя суфіксы (параўн.: *лявейшы – правейшы, меншы – большы* і інш.) .

Градуальным антонімам па сваёй якасці супрацьпастаўляюцца камплементарныя і канверсівы. Першыя антонімы (камплементарныя) абазначаюць несумяшчальныя паняцці, паміж якімі няма прамежкавых, сярэдніх членаў (параўн.: *жывы – мёртвы, халасты – жанаты, мінус – плюс* і інш.), а другія (канверсівы) звязаны з назвамі ўзаемаабарачальных працэсаў, з'яў (параўн.: *прадаць – купіць, даць – узяць, атака – абарона* і інш.).

Антонімы могуць быць кантэкстуальнымі, ці сітуацыйнымі, аўтарскімі (аказіянальнымі), калі супрацьпастаўленне служыць фактам маўлення, а не мовы, і ў гэтым выпадку не адлюстроўваецца ў адпаведных лексікаграфічных крыніцах (слоўніках антонімаў, тлумачальных і інш.), напрыклад, *менш ды лепш, малы але ўдалы; шчасце за гарамі, а бяда за плячамі* і інш.

Кантрастныя паняцці здатны сумяшчацца і ў значэнні аднаго слова, што атрымала назву энантыясемія. Так, словам *герой* можна назваць і чалавека, які здзейсніў высакародны ўчынак, і чалавека, што зрабіў нешта непрыстойнае (зразумела, у іранічным сэнсе). У вусным маўленні палярныя значэнні аднаго і таго ж слова размяжоўваюцца інтанацыяй голасу ці сітуацыяй маўленчага акту, у пісьмовай форме – кантэкстам, прэсупазіцыяй (фонавымі ведамі), напрыклад,

супрацьлеглыя значэнні адных і тых жа слоў *праславіцца, аддзякаваць, дабрадзей, ваяка* і да т.п.; гл.: ЛЕКСІКАЛОГІЯ 1994, 284–285.

У мастацкіх мэтах словы з супрацьлеглымі значэннямі часам спалучаюцца для стварэння яркіх вобразных сродкаў. Спалучэнне лексем з кантрастным значэннем атрымала назву *аксюмарана* і ўжываецца, як правіла, наўмысна, у выніку чаго ўзнікаюць устойлівыя звароты тыпу *белая варона, выйсці сухім з вады, як мокрае гарыць, квадратура круга* і інш., г.зн., што антанімія ўзнікае не толькі ў парадыгматычным плане мовы, але і ў сінтагматычным, у маўленні.

Супрацьпастаўленню падлягаюць словы розных часцін мовы: назоўнікі (*парадак – анархія, жыццё – смерць, карысць – шкода* і інш.), дзеясловы (*світаць – змяркацца, хваліць – ганіць, спаткацца – растацца* і інш.), прыметнікі (*фізічны – духоўны, сапраўдны – фальшывы, дадатны – адмоўны* і інш.), прыслоўі (*уверх – уніз, узімку – улетку, сумна – весела* і інш.), прыназоўнікі (*пад – над, ад – да, з – без* і інш.), лічэбнікі (*адзін – шмат, першы – апошні* і інш.).

## 5.7. ФАРМАЛЬНЫЯ, ТЭКСТАВЫЯ І АСАЦЫЯТЫЎНЫЯ СУВЯЗІ СЛОЎ

Тэматычныя, гіпоніма-гіперанімічныя, сінанімічныя, антанімічныя сувязі слоў грунтуюцца на разнастайных семантычных аспектах апошніх (прыналежнасці да адной тэмы, іерархіі, блізкасці, кантрастнасці). Акрамя таго, лексічная сістэмнасць беларускай мовы абапіраецца і на знешнюю форму слоў, падабенства якой часам сведчыць і пра семантычную еднасць адпаведных лексем. Так, супадзенне каранёвых марфем прыводзіць да аб'яднання лексем у шматстайныя словаўтваральныя гнёзды (групоўкі), дзе сустракаюцца лексемы розных часцін мовы (параўн.: *праца – працаваць – працавіты – працоўны* і да т.п.). З лексемай *час* словаўтваральнае гняздо можна прадставіць наступным чынам (гл.: ЕЎТУХОЎ 1981, 18):




*прадчасна – прадчасны*
*малачасны*
*дачасны*
*даўчасны*

У лінгвістычных слоўніках (марфемных, словаўтваральных) падобныя групоўкі інвентарызуюцца (пералічваюцца) праз тоеснасць тых ці іншых марфем, прычым колькасны склад такіх груповак вар'іруе ў шырокіх межах, напрыклад, у "Марфемным слоўніку беларускай мовы" (гл.: БАРДОВІЧ, ШАКУН 1989) ад больш за сотню слоў, што пачынаюцца на марфемы *вод / вад*, да двух слоў, якія, напрыклад, прадстаўлены марфемай *ордэн (ордэн, ордэнскі)*.

Заўважым таксама, што сістэматызавацца словы ў беларускай мове і ў свядомасці яе носьбітаў могуць і на грунце супадзення некаранёвых марфем (афіксаў, канчаткаў), што выкарыстоўваецца, у прыватнасці, беларускімі паэтамі пры стварэнні рыфмаваных твораў, а таксама ў некаторых відах фальклорных тэкстаў (песнях, парэміях, замовах і інш.).

Менш істотнымі для апісання лексічнай сістэмнасці ўяўляюцца выпадковыя супадзенні тых фармальных частак слова, якія не суправаджаюцца прамым сэнсавым падабенствам лексем. Так, у традыцыйных алфавітных, тлумачальных, адваротных і іншых слоўніках лексічныя адзінкі ўпарадкоўваюцца па супадзенню сваёй знешняй формы, што дазваляе хутка і лёгка знаходзіць гэтыя адзінкі ў адпаведных слоўніках. Але, калі ў традыцыйным слоўніку лексемы размяркоўваюцца з улікам алфавітнага парадку літар злева направа, то ў адваротным слоўніку – справа налева.

| У звычайным слоўніку | У адваротным слоўніку |
|---|---|
| *абабак* | *ярына* |
| *абабегчы* | *выспа* |
| *бабёр* | *дуб* |
| *выспа* | *абабак* |
| *голас* | *бабёр* |
| *дуб* | *голас* |
| *ярына* | *абабегчы* |

У выніку тоеснасці канцавых элементаў слова ў адваротных слоўніках побач змяшчаюцца часта граматычна аднолькавыя фармальныя разрады слоў (гл.: ВАРДАМАЦКІ, НЕСЦЯРОВІЧ 1994, 3).

У слоўніку паронімаў групуюцца ў пары і рады знешне падобныя словы, якія адрозніваюцца сваім зместам (параўн.: *адрасант – адрасат, ваксаваць – васкаваць, індывідуалізаваны – індывідуалістычны – індывідуальны, кансерватарскі – кансерваторскі – кансерватыўны – кансервацыйны* і г.д.; гл.: ГРАБЧЫКАЎ 1994). Пры гэтым у адных выпадках значэнні паронімаў розняцца істотна (параўн.: *буксаваць* і *буксіраваць, валавы* і *валовы, начынка* і *начынне* і г.д.), у другіх меней істотна (параўн.: *кваканне* і *квактанне, назіральніцкі* і *назіральны, золкі* і *зольны* і да т.п.), у трэціх – адрозніваццa толькі семантычнымі адценнямі (параўн.: *субстантываваны* і *субстантыўны, развараны* і *разварны, нахабны* і *пахабны* і да т.п.) . Такім чынам, паронімы гэта словы, якія падобныя знешне, фармальна, але ў рознай ступені не супадаюць па сваёй семантыцы, рэалізуюць лексічную сістэмнасць на аснове пэўнага падабенства плана выражэння слоў.

Паронімы могуць уключаць у свой склад два словы (параўн.: *пазванок – пазваночнік, транзістарны – транзітны, эфектны – эфектыўны* і г.д.), тры словы (параўн.: *магістр – магістрат – магістрант, экспансіўнасць – экспансія – экспансіянізм, жуpавінны – журавінавы – жураўліны* і г.д.), чатыры словы (параўн.: *каранасты – каранёвы – караністы – карэнны, чарамша – чаромха – чарамшына –*

*чарэшня, халадаць – халадзець – халадзіць – халаднець* і г.д.), шэсць слоў (параўн.: *каланізаваны – каланісцкі – каланізатарскі – каланізацыйны – каланіялісцкі – каланіяльны* і г.д.), сем слоў (параўн.: *духавіты – духовы – духмяны – духоўны – душэўны – душавы – душны* і інш.), восем слоў (параўн.: *гніенне – гніласць – гнілата – гніліна – гнілле – гнілушка – гніль – гніляк),* дзевяць слоў (параўн.: *языкаваты – языкасты – языкаты – языковы – язычаскі – язычковы – язычлівы – язычніцкі – язычны*). Даўжэйшых радоў у згаданай лексікаграфічнай працы (ГРАБЧЫКАЎ 1994) не адзначана.

У праявах мовы (вусным маўленні, пісьмовым тэксце), а таксама ў свядомасці яе носьбітаў семантычныя і фармальныя сувязі паміж словамі сумяшчаюцца, сплятаюцца ў пэўную еднасць, складаны састаў якой можна бачыць або пры аналізе нават невялікай часткі спароджанага звязнага тэксту, або па выніках праведзеных спецыяльных псіхалінгвістычных эксперыментаў. У першым выпадку агаляюцца сэнсавыя і фармальныя сувязі, на аснове якіх рэалізуецца сістэмнасць слоў у працэсах спараджэння мовы, у другім – у свядомасці носьбітаў мовы. Так, у невялікай частцы з верша Л.Геніюш “На сутонні”:

*Добры вечар у хату.*
*З зацярушаных дрэў*
*Сцюжай іней кудлаты*
*Мне на сэрцы асеў.*
*Тут агонь наш у печы.*
*Жар, якому не стлець.*
*Цеплынёю спрадвечнай*
*Мне б душу абагрэць –*

акрамя спалучальных сувязяў, на якіх грунтуецца любы звязны тэкст, можна зафіксаваць гіпанімічныя сувязі паміж словамі *хата* і *печ*, тэматычныя сувязі паміж словамі *сэрца* і *душа, сцюжа* і *іней,* сінанімічнымі адносінамі звязаны назоўнікі *агонь* і *жар,* антанімічнымі – словы *сцюжа* і *агонь,* фармальныя сувязі адзначаюцца паміж рыфмаванымі словамі на аснове еднасці іх канчаткаў і канечных частак (*хату – кудлаты, дрэў – асеў, печы – спрадвечнай, стлець – абагрэць*).

У асацыятыўных аб’яднаннях, што існуюць паміж словамі ў свядомасці чалавека, таксама праяўляюцца семантычныя і фармальныя віды лексічнай сістэмнасці. Гэтыя аб’яднанні, напрыклад, фіксуюцца ў асацыятыўным слоўніку (ЦІТОВА 1981), дзе артыкулы для кожнай лексемы ўяўляюць сабой сукупнасці тых слоў, што звязаны з ёй у калектыўнай памяці інфармантаў (носьбітаў беларускай мовы) разнастайнымі сэнсавымі і фармальнымі адносінамі.

Так, артыкул, што ўзначальвае лексема *праца,* уключае ў сябе антонім *адпачынак,* сінонімы *работа, труд, дзейнасць,* гіперонім *жыццё,* гіпонімы *жніво, баршчына,* аднакаранёвыя дэрывацыйныя лексемы *працавітая, працавітасць, працаўнік, працаёмкі*, рыфмаванае слова *цаца,* тэматычныя словы *стома, завод, калгас* і інш., шматлікія словы са спалучальнымі сувязямі (*бацькі, выдатная, калгасніка, навуковая, руплівая, цяжкая* і інш.).

Такім чынам, і ў тэксце (маўленні), і ў свядомасці носьбітаў беларускай мовы словы звязваюцца адначасова паміж сабой разнастайнымі семантычнымі і фармальнымі сувязямі, якімі лексемы ўпарадкоўваюцца ў складаную сістэму, што забяспечвае хуткі пошук неабходнага слова ў памяці чалавека для пабудовы неабходных сітуацыйных выказванняў, асацыятыўных аб’яднанняў лексем, а для

пісьменнікаў, навукоўцаў і інш. – звязных творчых тэкстаў, а таксама разнастайных слоўнікаў, дзе і фіксуюцца зазначаныя адносіны паміж словамі.

## 5.8. СПАЛУЧАЛЬНАСЦЬ СЛОЎ

Са спалучальнасці лексем ствараюцца словазлучэнні, сказы, тэксты, што, па сутнасці, складаюць сістэму слоў з сінтагматычнага пункту гледжання, у якой прадстаўлены ўсе віды фармальных і семантычных сувязяў, выдзеленыя вышэй. Амаль кожнае асэнсаванае словазлучэнне, якое складаецца са знамянальных лексем, утвараецца на аснове тых жа фармальна-семантычных прыкмет, што і часціны мовы, тыпу прыкмета – носьбіт прыкметы (параўн.: *цікавая кніга* і да т.п.), прадмет – дзеянне (параўн.: *сонца грэе* і да т.п.), дзеянне – аб'ект (параўн.: *чытаць кнігу* і г.д.).

У сказах і больш буйных адзінках тэксту, а таксама ў самім звязным тэксце, словы аб'ядноўваюцца, групуюцца адпаведным зместам, тэмай. У сінтагматычных сістэмных сувязях слоў рэалізуюцца ўсе тыя шматстайныя сістэмныя фармальныя і семантычныя адносіны, што зазначаліся і ў парадыгматычных сувязях слоў: гіпанімічныя (параўн.: *старонка кнігі, месяц года, частка цэлага* і г.д.), гіперанімічныя (параўн.: *мноства адзінак, статак кароў, калектыў студэнтаў* і г.д.), тэматычныя (параўн.: *гнёзды птушак, дывізіённая артылерыя, завеі зімы* і г.д.), антанімічныя (параўн.: *жывы труп, цяпло зімы, белая варона* і г.д.), дэрывацыйныя, або словаўтваральныя (параўн.: *гульма гуляць, адна адзінка, надрукаваць у друку* і г.д.), аманімічныя (параўн.: *каралí кара́лі, а кавалí кава́лі; бацькí ба́цькі, кара́й ка́рай* і г.д.), паранімічныя (параўн.: *эканамічная эканоміка, аператыўная аперацыя, загадкавы загад* і г.д.) і інш.

Семантычная сувязь паміж лексемамі ў словазлучэннях і іншых сінтагматычных аб'яднаннях слоў можа быць неаднолькавай сілы. Звычайна, чым часцей спалучаюцца дадзеныя словы ў тэксце, тым мацней паміж імі семантычная сувязь. У некаторых выпадках пэўнае беларускае слова можа спалучацца толькі з адным якім-небудзь іншым словам, і такое спалучэнне дасягае максімальнай семантычнай сувязі, бо сплаўляецца, сінтэзуецца ёй практычна ў асобную непарыўную адзінку, што называецца фразеалагізмам (параўн.: *бібікі* спалучаецца толькі з дзеясловам *біць, лататы* толькі з дзеясловам *задаць, лахі* толькі са словамі *пад пахі* і г.д.). Паміж фразеалагічнымі і свабоднымі спалучэннямі слоў ляжыць мноства словазлучэнняў пераходнага тыпу, у якіх семантычная сувязь паміж членамі праяўляецца з рознай сілай, што дае падставу лічыць падобныя сувязі градуальнымі і нават вымяраць гэтую сілу з дапамогай спецыяльных квантытатыўных працэдур (гл.: ПЛОТНІКАЎ 1984, 256).

Спалучальнасць слоў звычайна разглядаецца ў сучасным беларускім мовазнаўстве з граматычнага (сінтаксічнага) і лексічнага пунктаў гледжання (гл.: ПАДГАЙСКІ 1971, 5–6), хаця ў жывым маўленні абодва віды спалучальнасці функцыянуюць сінтэтычна, непадзельна, і іх адрозненне ў пэўным сэнсе выклікана пазнавальнымі лінгвістычнымі мэтамі. Аднак у практыцы выкарыстання і асабліва пры тэарытычным вывучэнні мовы магчымы выпадкі, калі граматычная і лексічная спалучальнасці праяўляюцца адносна ізалявана, у "чыстым" выглядзе, што падмацоўвае эмпірычны падмурак для іх лінгвістычнага размежавання.

Граматычна правільныя, але лексічна (семантычна) неверагодныя спалучэнні часам ствараюцца ў навуковых і вучэбных мэтах для вылучэння моўнай адметнасці

сінтаксічнай спалучальнасці. Напрыклад, сказ тыпу **Прынясі ідэю, што лунае пад ложкам* цалкам адпавядае сінтаксічным правілам беларускай мовы, але зусім непрыдатны з семантычнага пункту гледжання, таму яго ўжыванне ў маўленні малаверагодна. Наадварот, граматычна неправільныя, але семантычна абумоўленыя спалучэнні слоў уяўляюцца тыповай з'явай у спантанным маўленні або ў маўленні чалавека, для якога выкарыстаная мова не з'яўляецца роднай. Так, беларускае маўленне якута Папова з аповесці В.Быкава "Трэцяя ракета" дапускае сваё асэнсаванне з пункту гледжання зместу, семантыкі, але не з'яўляецца дапушчальным з пункту гледжання яго граматычнай (і фанетычнай) правільнасці: *"Думаеш Папоў лёгка? Ой, як Папоў дрэнна! Жаўты – камандыр, даўно мой камандыр, харош друг… На Дняпро мы прападал, ой, дрэнна прападал. Якут Папоў цалавал рускі Жаўты. Жаўты цалавал якут Папоў. Казалі: бывай! Немец гранаты кідай. Папоў нет гранаты, Папоў – дваццаць два патроны, Жаўты – чатыры патроны. Адзін страляй – сапсэм прападай".*

Часта сінтаксічная спалучальнасць асабліва выразна праяўляецца ў квазісказах са штучных слоў тыпу **Басаны крумп дыбна лабануў спіжа і бруздзіць сюсяненькага спіжонка*, у якім мы пры няведанні значэнняў квазіслоў тым не менш адзначаем граматычна правільную структуру сказа, беспамылкова можам даць марфалагічную і сінтаксічную характарыстыкі членам гэтага сказа (параўн.: ЩЕРБА 1974, 72; УСПЕНСКИЙ 1957, 315): *басаны, сюсяненькі* – прыметнікі (азначэнні), *крумп, спіж, спіжонак* – назоўнікі (*крумп* – дзейнік, *спіжа, спіжонка* – прамыя дапаўненні), *лабануў, бруздзіць* – дзеясловы (выказнікі), *дыбна* – прыслоўе (акалічнасць способу дзеяння). Больш таго, можна небеспадстаўна цвердзіць, што *крумп, спіж, спіжонак* – 'адушаўлёныя назоўнікі', *басаны* – 'нешта вялікае', *сюсяненькі* – 'нешта маленькае', *спіжонак* – 'дзіця спіжа', *лабануў* – 'аднакратнае дзеянне', *бруздзіць* – 'шматкратнае дзеянне' і г.д.

Звычайна ў будзённым маўленні і ў спецыфічнай маўленчай дзейнасці (мастацкая, навуковая і інш.) лексічная спалучальнасць абумоўлена знешняй сітуацыяй, аб якой ідзе гаворка, і нашымі думкамі аб ёй, спосабамі яе асэнсавання. Па-за гэтымі фактарамі, ізалявана, многія спалучэнні слоў і цэлыя сказы могуць быць незразумелымі. Так, сказ *Зялёная ідэя шалёна спіць* у прамым сэнсе немагчыма ў многіх мовах, у тым ліку і беларускай, таму часта прыводзіцца як хрэстаматыйная бязглуздзіца (параўн.: ЗАСОРИНА 1974, 269), але ў пэўнай сітуацыі можа ўспрымацца як ідэя, якая яшчэ не выспела, знаходзіцца ў стане свайго крышталявання, і ў цэлым з'яўляецца дапушчальным у адпаведным кантэксце або нават прымальным з пункту гледжання пэўных напрамкаў у паэзіі (параўн.: РЕВЗИН 1977, 266) тыпу:

*Зялёныя ідэі шалёна спяць,*
*Варочаюцца ў сне,*
*Аб нечым у скронях шумяць,*
*Нашэптваюць мне.*

Такім чынам, у спалучальнасці слоў фармальна і семантычна рэалізуюцца не толькі непасрэдныя, прамыя, наяўныя структурныя сувязі, што ляжаць у падмурку лексічнай сістэмнасці, але і разнастайныя патэнцыяльныя, магчымыя, глыбока ўнутраныя лексічныя адносіны, якія адлюстроўваюць сітуацыйныя сувязі адпаведных рэалій, паняццяў, суадносных з тымі ці іншымі словамі, а таксама з індывідуальнымі асэнсаваннямі лексічных сувязяў канкрэтнымі носьбітамі мовы.

## 5.9. АГУЛЬНЫЯ КРЫТЭРЫІ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛЕКСІКІ

Лексічных адзінак у беларускай мове намнога больш, чым, напрыклад, фанетычных адзінак, і значна больш, чым граматычных катэгорый, таму разглядаць абсалютна кожнае слова гэтаксама падрабязна, як асобную фанему ці пэўную граматычную з'яву не атрымаецца, бо ў гэтым выпадку неабходна стварыць вялізную колькасць тамоў, кніг, арыентавацца ў якіх цяжка будзе нават спецыялісту-лексіколагу, зразумела, пры стварэнні і публікацыі падобных прац. У надрукаваных тлумачальных слоўніках беларускай мовы сцісла даецца толькі самая абагульненая семантычная характарыстыка найбольш ужывальных беларускіх слоў, прыблізна каля ста тысяч адзінак, у той час як асноўная колькасць лексічных найменняў (мільёны онімаў, тэрмінаў, іншых відаў слоў, у прыватнасці, дыялектызмаў, жарганізмаў, аказіяналізмаў і г.д.), па сутнасці, цалкам нават не інвентарызавана.

З улікам таго, што лексікалогія як самастойны раздзел унутранага мовазнаўства ўзнікла толькі ў другой палавіне 20 ст., дэталёвае і ўсебаковае апісанне ўсіх лексічных адзінак беларускай мовы ўяўляе сабой доўгі па часе і надзвычай карпатлівы, ёмісты па навуковых высілках працэс, які не можа быць канечным, бо ў слоўнікавым складзе беларускай мовы пастаянна ўзнікаюць, стараюцца новыя лексемы, а некаторыя словы, наадварот, выходзяць з ужытку. У плане зместу наяўных лексем увесь час адбываюцца семантычныя змены для таго, каб адэкватна адлюстроўваць пераменлівую рэчаіснасць і пластычна зменлівыя думкі і паняцці чалавека аб гэтай рэчаіснасці.

У найбольш высокаразвітых навуках самыя складаныя праблемы рашаюцца шляхам раздзялення яе на састаўныя часткі, якія і падлягаюць непасрэднаму аналізу, на аснове чаго робіцца канечнае рашэнне праблемы (задачы, ураўнення). Напрыклад, у матэматыцы любое складанае ўраўненне расчляняецца на асобныя часткі, рашэнне і далейшы сінтэз якіх і дае канчатковы вынік.

Аналагічны падыход прымяняецца і да праблемы аналізу беларускай лексікі, якую зыходна трэба раздзяліць на арганічныя, звязаныя паміж сабой часткі, што і ўяўляюць сабой аб'ект першаснага навуковага даследавання. Чляненне беларускай лексікі магчыма рабіць на некалькіх прынцыпова розных падставах, у выніку чаго атрымліваюцца несупадальныя віды яе дыферэнцыяцыі (таксаноміі, класіфікацыі), кожную з якіх прызначана вывучаць асобная лексікалагічная дысцыпліна.

У беларускім мовазнаўстве сярод найбольш агульных ужывальных прынцыпаў зыходнага члянення лексікі можна занатаваць, як мінімум, чатыры з іх, што грунтуюцца на наступных падставах: дыферэнцыяцыя лексікі паводле паходжання, дзяленне лексікі паводле ступені ўжывання, класіфікацыя лексікі паводле сферы ўжывання, размежаванне лексікі паводле наяўных выпрацаваных стыляў беларускай мовы. Кожны зазначаны падыход вымагае распрацоўкі сваіх прынцыпаў і метадаў апісання лексікі і ў якасці практычнага выніку праведзеных даследаванняў – стварэнне розных тыпаў слоўнікаў беларускай мовы.

## 5.10. ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАВОДЛЕ ПАХОДЖАННЯ

Бадай, як і ў кожнай развітой мове, беларуская лексіка сілкуецца з двух асноўных крыніц: сваёй асабістай прыроджанай беларускай і замежнай. Адпаведна

гэтым крыніцам усе лексічныя адзінкі даволі выразна падзяляюцца на спрадвечна беларускія і запазычаныя, хаця апошнія, асабліва старажытныя лексемы, часта так арганічна і ўсебакова засвойваюцца нашай мовай, што набываюць усе магчымыя фанетычныя, дэрывацыйныя, граматычныя, семантычныя характарыстыкі беларускага слова і нічым ад яго не адрозніваюцца, лічацца проста адметнымі беларускімі словамі, бо іх няма, напрыклад, у блізкароднаснай рускай мове (параўн.: *цэгла, гузік, рахунак, шыба, свіран, жабрак, цягнік, маёнтак, бровар, клямка, гандаль* і інш.).

Спрадвечна беларускія словы, у сваю чаргу, не з'яўляюцца аднароднымі, таму што адны з іх дасталіся нам у спадчыну ад агульнаіндаеўрапейскіх каранёў, г.зн. адзначаюцца ва ўсіх або ў большасці індаеўрапейскіх моў, на якіх гаворыць палова насельніцтва зямлі і якія распаўсюджаны па ўсіх заселеных людзьмі кантынентах. Другія спрадвечна беларускія лексемы паходзяць з агульнаславянскай моўнай крыніцы і прыдатны або ўсім, або большасці славянскіх моў, у тым ліку і мёртвым, у прыватнасці старaславянскай. Трэція беларускія словы з'яўляюцца агульнымі для ўсіх усходніх славян, г.зн. беларусаў, рускіх, украінцаў, і не сустракаюцца ў заходніх і паўднёвых славянскіх мовах. Урэшце, чацвёртая група спрадвечна беларускіх лексем адносіцца да ўласнага набытку нашага народа, не ўжываецца нават у блізкароднасных мовах.

Усе зазначаныя групы (крыніцы) спрадвечна беларускай лексікі гістарычна, па часе ўзнікнення характарызуюцца ў прыведзеным парадку іх пералічэння, г.зн. найбольш старажытнымі служаць агульнаіндаеўрапейскія словы, затым ідуць агульнаславянскія, агульнаўсходнеславянскія і ўласна беларускія. Аднак вызначыць дакладны час узнікнення многіх нават уласна беларускіх лексем не ўяўляецца магчымым па прычыне вельмі позняга, у параўнанні з вусным маўленнем, вынаходніцтва пісьма ва ўсіх народаў. Вусная форма камунікацыі выкарыстоўваецца людзьмі не менш сотні тысяч гадоў, літарнае пісьмо сканструявана толькі каля трох тысяч гадоў таму, а беларуская пісьменнасць усталёўваецца яшчэ пазней, у 13–14 стст., або ўсяго каля сямісот гадоў таму.

Індаеўрапейскі пласт лексікі адзначаецца ў індыйскіх, іранскіх, германскіх, раманскіх, балтыйскіх, славянскіх і іншых моўных групах, якія, такім чынам, з'яўляюцца роднаснымі, але ў рознай ступені, што адзначаецца ў неаднолькавым падабенстве знешняй формы слова. Так, беларускаму назоўніку *сонца* ў іншых індаеўрапейскіх мовах адпавядаюць словы з аналагічным значэннем: англійскае sun, гоцкае sauil, італьянскае sole, іспанскае, лацінскае, партугальскае sol, латышскае, літоўскае saule (толькі з рознымі дыякрытычнымі знакамі на пісьме над галоснымі), нямецкае Sonne, старaславянскае *слъньце,* французскае soleil, чэшскае slunce і г.д. Беларускі прыметнік *новы* суадносіцца з падобнай лексемай ва ўсіх славянскіх мовах, а таксама з лексемай старажытнаіндыйскай мовы navas, лацінскай novus, старажытнапрускай nauns, старажытнаірландскай naue, літоўскай naujas, латышскай naujš, нямецкай neue, англійскай new, французскай neuf, італьянскай nuovo, іспанскай nuevo, партугальскай novo, старaславянскай *новъ* і г.д. (гл.: ФАСМЕР, т. 3, 1971, 78, 710–711). Да лексем індаеўрапейскага паходжання адносяцца такія беларускія словы, як *брат, два, тры, ты, бяроза, ліпа, воўк, мыш, бераг, вада, неба, снег, віць, есці, соль, ноч, дзень* і інш. Як правіла, гэта тыя аднакаранёвыя словы розных часцін мовы, якія звязаны з намінацыяй найбольш блізкіх чалавеку рэалій, што непасрэдна акалялі яго будзённае жыццё. Сярод гэтых рэалій адзначым у залежнасці ад непасрэднай блізкасці да чалавека назвы яго частак цела, сваякоў, ежы, прыродных з'яў, раслін, жывёл, збудаванняў, часавых паняццяў, найбольш важных дзеянняў, кідкіх прыкмет рэалій. Зразумела, гучанне і напісанне слоў

індаеўрапейскага паходжання ў розных мовах не супадаюць, але тым не менш рысы падабенства ў іх формах больш-менш відавочныя пры тоеснасці або блізкасці семантыкі згаданых слоў.

Агульнаславянскія лексемы займаюць значна большую долю ў слоўніку беларускай мовы ў параўнанні з індаеўрапейскай. На гэты пласт лексікі прыпадае прыблізна 2% (каля дзвюх тысяч) ужывальных беларускіх слоў. Дадзеныя словы сабраны і прадстаўлены ў спецыяльнай лексікаграфічнай працы (гл.: KOPEČNÝ 1981) і даволі дэталёва называюць найбольш істотныя рэаліі, іх прыкметы, дзеянні, што адносяцца да важнейшых сектараў і ўмоў жыцця нашых агульнаславянскіх продкаў.

Па ступені блізкасці да самога чалавека агульнаславянскія найменні рэалій можна ўпарадкаваць умоўна на наступныя тэматычныя групы: назвы органаў і частак цела (*галава, горла, зуб, сэрца, рука, нага, вока, вуха* і інш.), назвы сваякоў (*дзед, зяць, унук, цесць, свёкар, сват, снаха* і інш.), найменні асоб (*жнец, пастух, сусед, чалавек, халоп* і інш.), з'яў і аб'ектаў навакольнага асяроддзя, прыроды (*бераг, вецер, зямля, балота, лес, рака, раса, дождж, мароз, поле* і інш.), раслін, іх пладоў (*вярба, дрэва, дуб, жолуд, грыб, ліст, яблыня* і інш.), свойскіх і дзікіх жывёл, рыб, птушак, насякомых (*авечка, аса, бык, варона, вугар, карова, конь, муха, лось, рыба, сава* і інш.), прылад працы (*вілы, граблі, долата, нож, саха, серп, шыла* і інш.), карысных выкапняў (*волава, гліна, жалеза, золата, медзь, срэбра* і інш.), адрэзкаў часу (*вечар, век, восень, вясна, год, зіма, месяц, лета, поўдзень, суткі* і інш.), абстрактных паняццяў (*вера, воля, зло, кара, праўда, радасць, сіла, слава, смерць* і інш.).

Акрамя згаданых найменняў, прадстаўленых назоўнікамі, агульнаславянскімі словамі з'яўляюцца назвы дзеянняў, або дзеясловы (*гаварыць, жаць, ісці, каваць, крычаць, малаціць, пасці, ткаць, шыць* і інш.), найменні прыкмет, або прыметнікі (*белы, добры, густы, злы, левы, малады, мокры, мудры, мяккі, правы, цёплы, чорны* і інш.), назвы ліку, або лічэбнікі (*дваццаць, дзесяць, пяць, сем, сто, чатыры* і інш.), займеннікі (*вы, ён, мы, наш, хто, што* і інш.), прыслоўі (*высока, горка, мала, многа, там, учора* і інш.), прыназоўнікі і злучнікі (*а, аб, без, за, і, над, пры, у* і інш.).

Усе прыведзеныя агульнаславянскія лексемы з'яўляюцца старажытнымі, аднакаранёвымі, з невытворнай асновай, уваходзяць у асноўны фонд лексікі беларускай мовы (і іншых славянскіх моў), вельмі ўжывальнымі, міжстылёвымі, з практычна нязменным планам зместу большасці зазначаных слоў, што дайшлі да нас з глыбіні вякоў; а знамянальныя лексемы з'яўляюцца актыўнымі з дэрывацыйнага пункту гледжання.

Усходнеславянская лексіка прыдатна пераважна толькі беларускай, рускай, украінскай мовам і, па сутнасці, пашырае ўсе тыя тэматычныя групы назоўнікаў і слоў іншых часцін мовы, што адзначаны вышэй у дачыненні да агульнаславянскай лексікі (параўн. словы розных тэм і розных часцін мовы: *кулак, шчака, тулава* і інш.; *бацька, пляменнік, падчарка* і інш.; *мяцеліца, снегапад* і інш.; *асака, грузд, куст* і інш.; *жаваранак, гадзюка, кошка* і інш.; *багор, каромысла, качарга* і інш.; *балагур, знахар, селянін* і інш.; *давер, ільгота, марока* і інш.; *бурліць, калыхаць, кіпяціць* і інш.; *белакуры, бойкі, куцы* і інш.; *дзевяноста, сорак, трыццаць* і інш.; *пасля, цяпер, сягоння* і інш.).

Уласна беларуская лексіка літаратурнай мовы мае пераважна народна-гутарковае і дыялектнае паходжанне, г.зн. папоўнілася за кошт слоў беларускіх гаворак, а таксама за кошт захавання старажытнаўсходнеславянскіх лексем, якія не прыжыліся ў рускай і ўкраінскай мовах, ці за кошт агульнаславянскіх лексем, аформленых беларускімі афіксамі, ці за кошт калек з іншых моў, пераважна рускай (уласна

беларускіх слоў, створаных па ўзору, структуры іншамоўнага тыпу: *раздзяржаўленне* з рускага слова *разгосударствление* і да т.п.), ці за кошт арганічна і даўно засвоеных запазычанняў, якія не адчуваюцца чужымі, бо іх паходжанне можа быць выяўлена толькі этымалагічным шляхам.

Да літаратурных слоў дыялектнага паходжання належаць шматлікія найменні як канкрэтных прадметаў самых разнастайных тэм, так і найменні адцягненых паняццяў, назоўнікі (параўн.: *адрына, арэлі, асець, бліскавіца, вярчэнне, далучэнне, даўжыня, дужкі, каршэнь, пожня, студня, сякера, ходня, шыльнік* і інш.), а таксама знамянальныя словы іншых часцін мовы (параўн.: *гаманіць, гасціцца, гнусавы, загойкаць, заплюснуць, кратаць, скалануцца* і інш.). Лексікон сучаснай беларускай літаратурнай мовы толькі за савецкі перыяд жыцця краіны папоўніўся за кошт народна-гутарковай лексікі не менш як на трэць (гл.: БАХАНЬКОЎ 1982, 67).

З іншых уласна беларускіх лексем адзначым агульнаславянскія словы, што не ўжываюцца ў сучасных рускай і ўкраінскай літаратурных мовах (параўн.: *астрог, вабіць, лада, лазня, чараваць* і інш.), агульнаславянскія словы з беларускімі афіксамі (параўн.: *авечка, пустка, пясняр, слухач, спявак, сцежка* і інш.), калькі пераважна з рускіх слоў (параўн.: *спадарожнік* ад *спутник, ухіл* ад *уклон, перабудова* ад *перестройка, падвыпрабавальны* ад *подопытный, харчавік* ад *пищевик, узброенасць* ад *вооруженность* і інш. у дачыненні да пераносных, другасных значэнняў гэтых слоў), арганічна засвоеныя іншаземныя словы, небеларускі характар якіх не адчуваецца носьбітамі мовы і можа выкрывацца толькі шляхам этымалагічнага аналізу (параўн.: *воцат, гумар, дах, зброя, здрада, скарб, фарба, цукар* і інш.), вынікі чаго, праўда, трэба прымаць асцярожна, бо многія словы, падобныя на замежныя, могуць мець агульную крыніцу паходжання.

Сярод запазычаных слоў беларускай мовы можна выдзеліць тры групы: інтэрнацыянальныя словы, што ўжываюцца не меней чым у чатырох мовах, якія належаць да трох розных моўных груп, у прыватнасці еўрапейскіх (гл.: АКУЛЕНКО 1972, 26); словы, запазычаныя з канкрэтнай замежнай мовы і ўласцівыя толькі ёй або ёй і мове, праз якую адбылося запазычанне; варварызмы, або замежныя словы, што ўжываюцца ў беларускай мове, але яшчэ не прыжыліся ў ёй, адчуваюцца як замежныя, не ўключаны ў слоўнікі беларускай літаратурнай мовы.

Да інтэрнацыянальных лексем належаць найперш словы, запазычаныя з грэчаскай і лацінскай моў і звязаныя часцей за ўсё з адцягненымі паняццямі, катэгорыямі навукі, культуры, адукацыі, тэхнічнымі вырабамі, дэталямі (параўн.: грэчаскія запазычанні *акадэмія, бібліятэка, граматыка, дыялектыка, камедыя* і інш.; лацінскія запазычанні *атэстат, дэкан, канстытуцыя, літара, семінар, тэрмін* і інш.). Шмат слоў інтэрнацыянальнага паходжання трапіла ў беларускую мову з англійскай, іспанскай, італьянскай, нямецкай, французскай моў часта праз польскую або рускую (параўн.: англійскія запазычанні *бокс, інтэрнет, камп'ютэр, танк, футбол, хакей* і інш.; іспанскія запазычанні *кабальера, карыда, тарэадор, эльдарада, эмбарга* і інш.; італьянскія лексемы *акорд, арка, арыя, баркарола, купал, капрычыо* і інш.; нямецкія словы *аншлаг, варта, кошт, майстар, фланг, шлагбаум* і інш.; французскія запазычанні *аташэ, баланс, гравюра, дуэль, дырыжор* і інш.).

Многія словы, якія тычацца мовы-донара і беларускай мовы, уключна мову, праз якую адбылося запазычанне, пераняты ад суседніх моў, польскай, рускай, украінскай, літоўскай, а таксама нямецкай, часта праз польскую. Падобныя словы не сталі інтэрнацыянальнымі, бо ўжываюцца ў абмежаванай колькасці моў. Так, з польскай мовы ў беларускую запазычаны словы розных тэматычных груп (параўн.: *кабета, ксёндз, пан, вантроба, вяндліна, парэнчы, пэндзаль, відэльцы, кавадла, маёнтак, млын, вандроўка, здрада, тлум, спрыт* і інш.; гл.: КУРС 1961, 152–157).

Непасрэдна з рускай мовы запазычанні складаюць толькі каля 4% агульнага складу сучаснага лексікону беларускай літаратурнай мовы (гл.: КРУКОЎСКІ 1958, 90) і адносяцца часцей за ўсё да рэалій уласна рускіх, часта савецкага часу, так званыя 'савецізмы', некаторыя з іх найшлі выкарыстанне і ў іншых мовах (параўн.: *абшчына, бальшавік, дзекабрыст, акцябрыст, дзелавітасць, подзвіг, стаханавец* і інш.). З украінскай мовай беларуская мае шмат агульных рыс, бо ў перыяд 14–16 стст. яны фактычна існавалі ў якасці адзінай літаратурнай мовы (гл.: АНІЧЭНКА 1978, 39), мелі, па сутнасці, агульны слоўнікавы склад. Больш-менш выразныя запазычанні з мовы нашых паўднёвых суседзяў адносяцца да такіх слоў, як *бандура, запарожац, кабзар, карбаванец, сярнічка* і інш.).

У адрозненне ад рускай літаратурнай мовы, спрэс насычанай стараславянізмамі, якая і ўтварылася шляхам сінтэзу ўласна рускай і стараславянскай моў, у сучаснай беларускай літаратурнай мове адносна мала запазычанняў са стараславянскай (параўн.: *глава, злак, храм, шлем* і інш.), больш таго некаторыя стараславянскія запазычанні змянілі свой сэнс у беларускай мове на адваротны (параўн.: *благі, блага* адпаведна 'дрэнны', 'дрэнна' ў стараславянскай і сучаснай рускай мовах маюць сэнс 'добры', 'добра').

Нешматлікія запазычанні з літоўскай мовы (гл.: КАРСКИЙ 1962, 391–396) звязаны перш за ўсё з сельскагаспадарчай і бытавой тэматыкай (параўн.: *азярод, еўня, гірса, капшук, клуня, намітка* і інш.). Даволі шмат слоў згаданага тыпу (не інтэрнацыяналізмаў) трапіла ў беларускую мову з нямецкай праз польскую, таму такія лексемы з'яўляюцца ўжывальнымі пераважна ў гэтых трох мовах (параўн.: *барва, гандаль, жабрак, крама, ланцуг, маляр, труна, шпіталь, шыба* і інш.).

Частку лексікону ўсіх усходнеславянскіх моў, і ў прыватнасці беларускай, складаюць цюркізмы, якія трапілі ў беларускую мову або непасрэдна з татарскай, пад час прамога кантактавання з носьбітамі гэтай мовы (войны, гандаль, паселішчы татараў на тэрыторыі Беларусі і інш.), або праз рускую і ўкраінскую мовы, што знаходзіліся пад большым уплывам цюркскіх моў у сувязі з пастаяннымі набегамі печанегаў, полаўцаў і інш. на рускія і ўкраінскія землі і заваявання апошніх татарамі. Цюркізмы часцей за ўсё звязаны з найменнямі канкрэтных прадметаў розных тэматычных груп (параўн.: бытавая лексіка – *арба, аркан, капкан, казан, саман* і інш.; ваенная лексіка – *арда, атаман, казак, калчан* і інш.; назвы жывых істот – *баран, ішак, таракан, сазан* і інш.; найменні прадуктаў харчавання – *кумыс, халва, шашлык* і інш.; назвы адзення – *армяк, кафтан, папаха, тулуп, халат* і інш.; найменні паселішчаў і збудаванняў – *аул, кішлак, шалаш, шацёр* і інш.; назвы раслін і пладоў – *айва, кішміш, саксаул* і інш.). Сустракаюцца ў беларускай мове і запазычанні з фіна-угорскіх моў (параўн.: *акула, гусар, салака, тундра* і інш.), галандскай мовы (параўн.: *боцман, гарпун, дамба, трос* і інш.), скандынаўскіх моў (параўн.: *сага, цівун, фіёрд, якар* і інш.), японскай (параўн.: *дзюдо, кімано, сакура, самурай, харакіры* і інш.), кітайскай (параўн.: *жэньшэнь, фанза, чай, часуча, чуміза* і інш.).

Да варварызмаў належаць словы, якія ўжываюцца пераважна ў вусным маўленні асобных сацыяльных груп насельніцтва, сітуацыйна замацаваны, як правіла, не падлягаюць граматычным зменам, маюць свае лексічныя адменнікі ў беларускай мове (параўн.: *о'кэй* 'добра', *чао* 'да пабачэння', *бэбі* 'дзіця', *мерсі* 'дзякуй', *стрыт* 'вуліца' і інш.).

Запазычаныя словы (асабліва стараславянізмы, грэцызмы, лацінізмы, паланізмы, германізмы) пранікалі ў старабеларускую літаратурную мову або непасрэдна, або праз польскую, у новай беларускай літаратурнай мове інтэрнацыянальныя словы адносна рэдка ўжываліся ў 19 ст., і толькі ў 20 ст. ў сувязі з паўсюдным развіццём асветы, адукацыі, культуры, навукі, тэхнікі пераважна праз рускую мову

пачалі шырока ўкараняцца ў такія стылі беларускай літаратурнай мовы, як навуковы, афіцыйна-дзелавы, публіцыстычны, радзей ужываюцца ў гутарковым стылі і ў стылі мастацкай літаратуры, якія захоўваюць у пэўнай ступені нацыянальны самабытны каларыт, сваю адметнасць і непаўторнасць сярод славянскіх моў.

Калі ўлічыць даныя "Слоўніка іншамоўных слоў" (БУЛЫКА 1999), дзе змешчана каля 25 тысяч запазычаных лексем і даныя ТСБМ у пяці тамах, куды ўключана каля 100 тысяч розных слоў, то на іншамоўныя словы ў беларускай мове прыпадае прыблізна 25% лексікону. На самай спра̀ве гэта лічба істотна меншая, бо мноства тэрмінаў, змешчаных у "Слоўніку іншамоўных слоў" (параўн.: *ааганія, абазія, абандон, баналітэт, бамія, даліхатэка, іанол, ігнітрон, літасолі, рэцініт, ятрагенія* і г.д.), адсутнічаюць у ТСБМ. У агульнаўжывальнай лексіцы беларускай мовы занатавана толькі 5600 замежных слоў (гл.: БУЛЫКА 1993, 3), што складае менш за 10% запазычаных лексем у беларускай мове, прадстаўленых у зазначанай лексікаграфічнай крыніцы (ТСБМ).

Такім чынам, беларуская мова захоўвае чысціню і адметнасць свайго лексічнага складу ў значна большай ступені, чым іншыя славянскія мовы, і ў прыватнасці руская.

## 5.11. СТРАТЫФІКАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛЕКСІКІ ПАВОДЛЕ СФЕРЫ ЎЖЫВАННЯ

З пункту гледжання сферы ўжывання ўвесь слоўнікавы склад беларускай мовы можа быць падзелены на дзве часткі: агульнаўжывальная лексіка і лексіка абмежаванага выкарыстання. Першая частка ўключае ў сябе тыя словы, што прымяняюцца носьбітамі мовы незалежна ад іх прафесіі, месца працы і жыхарства, ад сацыяльнага палажэння, ад полу, ад стылю маўлення і некаторых іншых фактараў (сітуацыя маўлення, узрост удзельнікаў камунікацыі і г.д.). Другая частка беларускай лексікі ўключае словы, звязаныя з прафесійнай дзейнасцю людзей (тэрміны, спецыяльныя словы, наменклатурныя назвы), з месцам (вясковага, раённага) жыхарства (дыялектызмы, рэгіяналізмы), з прыналежнасцю да абмежаваных сацыяльных груп (жарганізмы, аргатызмы, слэнг).

Агульнаўжывальная лексіка складае ядро, з'яўляецца сарцавінай слоўнікавага складу беларускай літаратурнай мовы, выражае найбольш значныя і жыццёва неабходныя думкі людзей. Гэта лексіка ўяўляецца добра вядомай усім носьбітам беларускай мовы, што і забяспечвае яе выкарыстанне ў якасці агульнага сродку зносін, камунікацыі, а таксама ў значнай ступені і сродку асветы, адукацыі, культуры, навукі, бо і ў гэтых сферах выкарыстання мовы наяўнасць агульнаўжывальнай лексікі з'яўляецца абавязковай, неабходнай, незаменнай. Больш таго агульнаўжывальныя словы здатны, напрыклад, тэрміналагізавацца, ператварацца ў спецыяльныя словы пры іх выкарыстанні ў адмысловых тэкстах. Так, агульнаўжывальнае слова *сэрца* можа быць узнёслым, вобразным у паэтычнай мове, тэрмінам – у медыцынскай літаратуры. Будзённае слова *сонца* выкарыстоўваецца і як невычэрпны вобразны лексічны сродак у мастацкай літаратуры, і як спецыяльнае слова ў метэаралогіі, і як тэрмін у астраноміі, фізіцы, касманаўтыцы. У сваю чаргу, тэрміны і спецыяльныя словы па меры пранікнення ў быт людзей адпаведных тэхнічных, навуковых, культурных рэалій робяцца агульнаўжывальнымі, страчваюць сваю спецыфічнасць, што праяўляецца ў іх адносінах спачатку толькі да пэўных сфер дзейнасці чалавека. Так, словы *электрычнасць, радыё, тэлебачанне, рады-*

*куліт, грып, тэатр, сцэна, прафесар, фізік, радыяцыя* і да т.п. зрабіліся сёння лексічным здабыткам паўсядзённай мовы большасці людзей, патрапілі, па сутнасці, у склад агульнаўжывальнага слоўніка.

Такім чынам, жорсткай мяжы паміж дзвюма выдзеленымі часткамі лексікі няма, бо яны раздзяляюцца вялікай пераходнай зонай, пасля знаходжання ў якой пэўны час, лексемы здольны мігрыраваць з адной часткі ў іншую, страчваць зыходна наяўную ў іх рысу агульнаўжывальнасці або вузкаўжывальнасці.

### 5.11.1. ДЫЯЛЕКТНАЯ ЛЕКСІКА

Найбольш старажытны пласт абмежаванай лексікі складаюць дыялектызмы, або рэгіяналізмы, якія яшчэ не засвоены літаратурнай мовай і ўжываюцца на пэўнай тэрыторыі краіны звычайна для наймення канкрэтных будзённых рэалій вяскоўцаў або прыкмет, дзеянняў, звязаных з гэтымі рэаліямі (параўн.: ШАТАЛАВА 1975; ЖЫВОЕ НАРОДНАЕ СЛОВА 1992). Дыялектныя словы служаць невычэрпнай крыніцай для папаўнення лексікону літаратурнай мовы, для ўзбагачэння яе стылістычных рэсурсаў, для мастацкага адлюстравання жыцця пэўных мясцовасцяў, рэгіёнаў краіны, для раскрыцця характараў тых ці іншых персанажаў у прыгожым пісьменстве, для тыпалагічнага аналізу лексікі як разнавіднасцяў адной мовы, так і розных моў і інш. Сярод дыялектызмаў беларускай мовы адрозніваюць наступныя іх віды: фанетычныя, лексічныя, семантычныя, этнаграфічныя, граматычныя, у тым ліку словаўтваральныя.

Фанетычныя дыялектызмы характарызуюцца асаблівасцямі вымаўлення і агульнаўжывальных, і лакальных слоў, прычым гэта вымаўленне розніцца па беларускіх гаворках. У адных выпадках узнікаюць прыстаўныя гукі (параўн.: *гавёс* ‘авёс‘, *асмылкі* ‘смалякі‘, *ізбіць* ‘збіць‘, *госына* ‘асіна‘ і да т.п.), у іншых – наяўныя ў літаратурнай мове гукі і склады адсутнічаюць (скарачаюцца) у дыялектных словах (параўн.: *голка* ‘іголка‘, *ярба* ‘вярба‘, *імя* ‘вымя‘, *лісапет* ‘веласіпед‘ і да т.п.). На месцы не характэрнага для беларускага маўлення гука *ф* ужываюцца гукі *п, х, т, хв, кв* (параўн.: *штрап* ‘штраф‘, *кохта* ‘кофта‘, *Тодар, Хвёдар* ‘Фёдар‘, *квасоля* ‘фасоля‘). У беларускіх гаворках адзначаецца таксама ненаціскны *о*, гук *у* на месцы *ы*, адрозны ад літаратурнай мовы націск у многіх словах, зваротная часціца *-са*, часціца *-ма* і інш. (параўн.: *яечко, спраўно, добра́, мабуць, вурасло, арахі, куры́ца, вярнуўса, аглянуўса, глядайма, хадзема* і інш.).

Граматычныя дыялектызмы маюць у параўнанні з адпаведнымі словамі літаратурнай мовы іншыя канчаткі, у якіх часам выражаюцца несупадальныя катэгорыі ці іншыя дэрывацыйныя марфемы, ці адсутнасць канчаткаў. Напрыклад, дыялектнае *нясець* ‘нясе‘, *кажыць* ‘кажа‘, *садэ* ‘сады‘, *братэ* ‘браты‘, *кося* ‘косіць‘, *ходзя* ‘хадзіць‘ і г.д. Іншы канчатак дыялектнага слова можа прыводзіць да змены яго граматычнай формы ў параўнанні з літаратурным словам (параўн.: *грыпа* ‘грып‘, *траншэй* ‘траншэя‘, *санаторыя* ‘санаторый‘ і г.д.). Наяўнасць у дыялектных дзеясловаў суфіксаў *-му, -мем, -меш* сведчыць пра захаванне ў гэтых словах сінтэтычнай формы будучага часу (параўн.: *рабіцьму* ‘буду рабіць‘, *рабіцьмем* ‘будзем рабіць‘, *рабіцьмеш* ‘будзеш рабіць‘ і да т.п.). Некаторыя дыялектныя словы маюць іншыя ў параўнанні з дыялектнымі лексемамі суфіксы (параўн.: *насевак* ‘насенне‘, *жартун* ‘жартаўнік‘, *цяперака* ‘цяпер‘, *пявун* ‘певень‘ і да т.п.).

Лексічныя дыялектызмы ўяўляюць сабой варыянты агульнавядомых літаратурных слоў пры найменні адных і тых жа прадметаў, з’яў, прыкмет (параўн.: *кавеня* і *качарга, жылач* і *верабей, ясёнка* і *паліто, кулінкі* і *парэчкі, надысь* і

*нядаўна, прастарэкаваць і размаўляць* і г.д.), а этнаграфічныя дыялектызмы называюць рэаліі, характэрныя ў пэўнай мясцовасці і для наймення якіх адсутнічаюць літаратурныя словы (параўн.: *апора* 'корм скаціне з мякіны, мукі, сянной пацярухі', *ясік* 'маленькая падушка', *кляпанікі* 'калошы сваёй работы', *матлахон* 'непаседлівы чалавек', *гаптка* 'пятля з нітак', *дахаўка* 'футравае паўпаліто', *звалока* 'дрэва, на якім вісіць вулей' і г.д.; гл.: СЛОЎНІК 1990). Этнаграфічныя дыялектызмы служаць своеасаблівай безэквівалентнай лексікай агульнанароднай беларускай мовы.

Лексічныя дыялектызмы ўяўляюцца багацейшай крыніцай беларускай сінаніміі па самых разнастайных тэмах: прадметы хатняга начыння (для слова *бочка*, напрыклад, у беларускіх дыялектах зафіксавана звыш 30 розных слоў тыпу *барыла, басэтля, бонда, дашчанік, квуха, забоенка, насыпня, паташоўка, усыпішча, вадзянка, кубел, кузуб, лагва, кадаўб, куфа, бодня, бачурка, лазбень* і інш.); прылады працы (для элементарнейшых віл адзначаецца каля трох дзесяткаў розных найменняў тыпу *дваяк, драпакі, скавыч, трайчакі, сахавілы, габлі, карпач, сцягач, драпцы, ключка, падавень* і інш.), прадукты харчавання (для наймення розных відаў і гатункаў бульбы, напрыклад, ужываецца звыш 60 сінонімаў тыпу *бабоўка, бульма, земякі, кардопля, хелька, кунада, абіранка, разакі, цалкі, гуналь, смаглонікі, тамлёнка, палавічка, бабуры, рулі, цупік, шамшалі* і інш.), а для такіх відаў беларускага ландшафту, як балота (параўн.: *марочна, райставіна, тхлань, альман, багон, мярэча, рычка, вязь, гала, крокаць, ялосмыч, патапеча, трансава, аржа, галёс, грычын, мачылка, вішар, драгба, кацвіна, буза, уздуха, бель, лумiна, галашчок, зыбель, балонне* і інш.) ці поле (параўн.: *блоне, вератнік, цырка, выдма, жарсцвянка, аселіца, старapолле, смактовіна, выдранка, асяродак, даклонь, залезь, плянтоўка, выцераб, сціла, пахань, аднораль, адора, мешань, параціна, жнівішча, стырня, слішча, намякуша, павіха, падгусце, парэчча, узложжа, прыбар, заборышча, асцяроб, слішча, ахвосце* і інш.) адзначаецца каля сотні ці нават больш розных сінанімічных найменняў (гл.: АНІЧЭНКА 1999).

Семантычныя дыялектызмы супадаюць па сваёй знешняй форме з літаратурнымі словамі, але маюць іншае значэнне, служаць спецыфічнымі амонімамі (параўн.: дыялектнае *смага* 'гора, бяда' і літаратурнае *смага* 'моцнае жаданне піць', і адпаведна *галка* 'плечавы сустаў' і *галка* 'від птушкі', *чайка* 'рыбацкая лодка, пласкадонка' і *чайка* 'від птушкі', *касцёр* 'жытні каласоўнік' і *касцёр* 'вогнішча', *дубальтоўка* 'падвойная хустка' і *дубальтоўка* 'двухствольнае паляўнічае ружжо', *дрыгва* 'застылы адвар разам з кусочкамі мяса ці без яго' і *дрыгва* 'балота' і г.д.; гл.: СЦЯЦКО 1970).

Дыялектная лексіка шырока і разнастайна выкарыстоўваецца беларускімі пісьменнікамі ў мастацкіх творах і багата прадстаўлена ў шматлікіх лексікаграфічных крыніцах, і ў прыватнасці ў дыялектных, рэгіянальных, краёвых і іншых слоўніках, у ЛАБНГ, у дысертацыйных і іншых навуковых працах, у гаворцы вясковых жыхароў рэспублікі. У сваю чаргу, дыялектная лексіка папаўняецца за кошт запазычанняў з іншых моў (гл.: СТАНКЕВІЧ 1996) і ўзбагачаецца літаратурнымі словамі, прычым і запазычанні, і беларускія літаратурныя словы часта страчваюць у дыялектах свае фанетычныя, граматычныя і семантычныя рысы, па сутнасці, робяцца фанетычнымі, граматычнымі і лексічнымі дыялектызмамі.

### 5.11.2. ЖАРГАНІЗМЫ І АРГАТЫЗМЫ

Жаргонная і аргатычная лексіка ствараецца на аснове агульнаўжывальных, у тым ліку і запазычаных, слоў шляхам іх пераробкі, пераасэнсавання, спецыфічнага

кантэксту ўжывання і выкарыстоўваецца адносна вузкімі сацыяльнымі праслойкамі грамадства як у мэтах канспіратыўных, завуаляваных зносін, так і ў мэтах пэўнага самасцвярджэння, моўнай экспрэсіі, арыгінальнасці, своеасаблівай знакавасці ці нават снабізму. Жаргонная і аргатычная лексіка можа патрапляць у літаратурную і гутарковую мовы і тэрміналагізуецца словамі *жарганізм, аргатызм.* Яна існуе паралельна з літаратурнымі словамі, г.зн. жаргонныя, аргатычныя словы сінанімізуюцца з літаратурнымі і называюць пры гэтым адны і тыя ж рэаліі, іх дзеянні, прыкметы толькі з рознай экспрэсіяй, выразнасцю, эмацыянальнай афарбоўкай (параўн.: *клёва* і *цудоўна, сціпуха* і *стыпендыя, шпора* і *шпаргалка* і да т.п.).

У той час як жарганізмы ўяўляюць сабой часцей за ўсё экспрэсіўныя лексічныя ўкрапіны ў звычайнае маўленне пэўных сацыяльных груп насельніцтва, аб'яднаных прафесіяй, родам заняткаў, узростам, агульнымі інтарэсамі (школьнікі, студэнты, вайскоўцы, спартсмены і інш.), аргатызмы ўтвараюць спецыяльны від мовы, арго, сацылект, які выкарыстоўваецца для зносін людзей той ці іншай прафесіі, дзейнасці. Арго служыць тайнай мовай, зразумелай для пэўнай суполкі людзей, аб'яднаных не толькі агульнай прафесіяй, але і агульнымі інтарэсамі. Праз арго людзі пэўнай сацыяльнай групы, прафесіі імкнуцца адасобіцца ад іншых людзей. Як спецыяльны від мовы арго не з'яўляецца шырока распаўсюджаным, ён хутчэй асуджаны на выміранне, хаця быў даволі ўжывальным на тэрыторыі Беларусі ў 19 ст. і існаваў праз шматлікія варыянты ў дачыненні да жабракоў, краўцоў, шапавалаў, лабараў, мяшчан, старцаў і г.д. Беларускае арго ўяўляе сабой сумесь беларускай і рускай моў, часткова ўкраінскай, якая (сумесь) мела назвы *лемез, лемезень, лемент, гаўрыднік* і інш. Арго ўключала ў сябе словы, што сустракаліся толькі на тэрыторыі Беларусі: *бахван* 'салдат', *ланко* 'паляк' і інш., або на тэрыторыі і Беларусі, і Расіі: *катруха* 'шапка', *чуз* 'я' і інш., на тэрыторыі і Беларусі, і Украіны: *ёнус* 'сын' і інш. Часта аргатызмы утвараюцца шляхам далучэння да агульнавядомых беларускіх слоў прыставачных элементаў тыпу *ку, шу, тры* і інш., на якія звычайна прыпадае націск (параўн.: *кутрава, шывясна, трыполе* і да т.п.; гл.: РОМАНОВ 1912, 5–6). Пераважную большасць аргатызмаў складаюць назоўнікі тыпу *снопка* 'вясна', *базатка* 'субота', *лыхта* 'смех', *склавота* 'праца', *кулапка* 'вайна', *хвеска* 'песня', *лухтовіна* 'палавіна' і г.д. Аднак, зразумела, у арго сустракаюцца і словы іншых часцін мовы (параўн.: *угалёліць* 'павялічыць', *выкургоньваць* 'ганяць', *лопны* 'поўны', *чумасты* 'махнаты', *шарно* 'дарэмна', *сіварно* 'холадна', *шандра* 'шэсць', *дзекан* 'дзесяць', *манькі* 'мы', *конто* 'што' і інш.). Аргатызмы характарызуюцца вялікай варыянтнасцю (параўн.: *гулёміць – гулёшыць* 'гуляць', *гуд – гудлай – гудлей* 'яўрэй' і інш.), наяўнасцю сінонімаў і антонімаў, полісеміяй і аманіміяй, разнастайнасцю тэматычных груп (гл.: ЛУКАШАНЕЦ 1999, 115–178).

Аргатычная лексіка ўключае ў свой склад і запазычанні з іншых, у прыватнасці заходнееўрапейскіх і цюркскіх, моў (параўн.: *мелюс* 'мёд', *петрус* 'камень' і інш. – з грэчаскай; *штэк* 'палка', *шнейдэр* 'кравец' і інш. – з нямецкай; *басаць* 'рэзаць' і інш. – з татарскай і г.д.; гл.: БЕЛАРУСКАЯ МОВА 1994, 203).

Сутнасць жарганізмаў, адносных да ўжывання пэўнымі сацыяльнымі суполкамі людзей, да іх канкрэтнай прафесійнай дзейнасці, называецца жаргонам. Яго лексічныя і фразеалагічныя сродкі характарызуюцца найперш экспрэсіяй, другаснай намінацыяй агульнавядомых паняццяў, іх прыкмет (параўн.: *філон* і *гультай, хіляць* і *ісці, кімарыць* і *спаць, зубрыць* і *вучыць, салага* і *салдат* 'звычайна першага года службы', *стукач* і *даносчык* і да т.п.; гл.: БОНДАЛЕТОВ 1987, 72).

Жарганізмы характарызуюцца сваёй здольнасцю ўтварацца шляхам пераасэнсавання агульнавядомых слоў (параўн.: *кол* 'нізкая адзнака', *пятак* 'высокая адзнака', *плаваць* 'недакладна і няўпэўнена гаварыць па пэўнай тэме ці адказваць

на пастаўленае пытанне‘, *англічанка* ‘выкладчыца англійскай мовы‘, *зрэзацца, засыпацца* ‘не здаць экзамену, заліку‘, *хвост* ‘акадэмічная запазычанасць‘ і інш. – у студэнтаў; *самавары* ‘мінамёты‘, *гасцінцы* ‘снарады, міны‘, *кацёл* ‘акружэнне‘, *сабантуй* ‘артылерыйскі абстрэл‘ і інш. –у франтавым жаргоне часоў Вялікай Айчыннай вайны; гл.: ЛЕКСІКАЛОГІЯ 1994, 404), выкарыстаннем замежных слоў, часта перарobленых (параўн.: *лафа* ‘добрае жыццё‘ ад англійскага life, *герла* ‘дзяўчына‘ ад англійскага girl, *праменад* ‘прагулка‘ ад французскага promenade, *сантыменты* ‘збыткоўная пачуццёвасць‘ ад французскага santiment і г.д.). Жарганізмы, як і мацерныя словы, не характэрны для беларускага маўлення, бо яны амаль цалкам запазычаны з рускай мовы, часта іх выкарыстанне звязана з надзвычай нізкай агульнай культурай і адсутнасцю культуры маўлення ў носьбітаў мовы.

### 5.11.3. ТЭРМІНЫ

У склад тэрміналогіі ўваходзяць словы, што ўжываюцца ў навуковых і спецыяльных тэкстах і абазначаюць рэаліі, паняцці той ці іншай галіны ведаў. Са звычайным словам тэрмін лучыцца тым, што ў іх (у слове і ў тэрміне) адзначаюцца аднолькавыя граматычныя і лексічныя характарыстыкі. Сярод тэрмінаў вылучаюцца розныя знамянальныя часціны мовы (параўн. у лінгвістыцы: *аорыст, варварызм, лексема* і г.д. – назоўнікі; *адвербіяльны, прэпазіцыйны, параўнальна-гістарычны* і г.д. – прыметнікі; *аналізаваць, спрагаць, транскрыбіраваць* і г.д. – дзеясловы; *граматычна, семантычна, фанетычна* і г.д. – прыслоўі), але тут істотна пераважаюць назоўнікі. Тэрміны кожнай з зазначаных часцін мовы маюць адпаведныя марфалагічныя і сінтаксічныя характарыстыкі, як і ў звычайных агульнаўжывальных слоў. Апрача таго, тэрміны таксама, як і іншыя літаратурныя словы, складаюцца з плана зместу і плана выражэння, уступаюць у сінанімічныя, антанімічныя, гіпоніма-гіперанімічныя, асацыятыўныя, спалучальныя сувязі з іншымі тэрмінамі і міжстылёвымі (нейтральнымі) словамі, утвараюць дэрывацыйныя гнёзды (гл.: ВИНОКУР 1939, 5).

Тым не менш тэрміны адрозніваюцца ад звычайных слоў цэлым шэрагам сваіх асаблівасцяў рознага характару. Па-першае, тэрміны шырока ўжываюцца толькі ў высокаразвітых мовах, дзе іх колькасць істотна перавышае лік агульнаўжывальных слоў. Так, сума толькі хімічных тэрмінаў сягае за мільён адзінак. Па-другое, тэрміны ў адрозненне ад агульнаўжывальных слоў ствараюцца (або кадыфікуюцца) штучна, як правіла, цэлымі калектывамі спецыялістаў на базе (у прыватнасці да многіх еўрапейскіх моў, у тым ліку і для беларускай) грэчаскіх, лацінскіх і іншых інтэрнацыянальных слоў з выкарыстаннем і ўласна беларускай лексікі (параўн. у мовазнаўстве: *граматыка, лексікалогія, марфалогія* і інш. – з грэчаскай мовы; *інфінітыў, суфікс, суплетывізм* і інш. – з лацінскай мовы; *арго, жаргон, тэмбр* і інш. – з французскай мовы; *рэлевантасць, біхеівярызм, слэнг* і інш. – з англійскай мовы; *абзац, аблаут, цытата* і інш. – з нямецкай мовы; *выклічнік, назоўнік, сказ* і інш. – уласна беларускія і г.д.). Гэта асаблівасць тэрмінаў прыводзіць да таго, што тэрміналогія развіваецца не стыхійна, як агульнаўжывальная лексіка, а змяняецца мэтанакіравана, усвядомлена, па меры развіцця ведаў.

Па-трэцяе, у той час як для агульнаўжывальнага слова зыходнай матэрыяльнай формай служыць гукавая, а пісьмовая форма ў мовах з алфавітнымі знакамі служыць толькі яе адбіткам, для тэрміна, наадварот, зыходнай і асноўнай формай

служыць пісьмовая, а агучаная форма выступае ў якасці другаснай, вытворнай ад пісьмовай.

Па-чацвёртае, да знешніх фармальных прыкмет тэрмінаў належыць тое, што апошнія выступаюць часта ў звышслоўнай форме, утвараюцца як са спалучэння слоў (параўн. у мовазнаўстве: *часціна мовы, множны лік, даданы член сказа, размоўная форма літаратурнай мовы* і г.д.), так і са спалучэння сімвалаў і слоў (параўн.: у фізіцы – *n-мерны, β-распад, †-падобны* і інш.).

Семантычныя асаблівасці тэрмінаў заключаюцца ў іх імкненні да адназначнасці і да зліцця іх значэнняў з адпаведнымі навуковымі паняццямі, у тэндэнцыі да сіметрычных суадносін плана выражэння і плана зместу. Дзякуючы першай асаблівасці тэрміны маюць больш абмежаваную лексічную спалучальнасць у параўнанні з агульнаўжывальнымі словамі, дзякуючы другой – сярод тэрмінаў адзначаецца менш сінонімаў, а магчымыя тэрміны-амонімы (а таксама тэрміны-полісеманты, або неадназначныя тэрміны) носяць пераважна міждысцыплінны характар (параўн.: *функцыя* – у лінгвістыцы і матэматыцы; *корань* – у марфалогіі і батаніцы, *кіраванне* – у сінтаксісе і эканоміцы, *штамп* – у стылістыцы і паліграфіі і інш.).

Канатацыі, або дадатковыя значэнні, і семантычныя адценні, што суправаджаюць амаль кожнае ўжытае ў маўленні звычайнае слова, практычна адсутнічаюць у тэрмінаў, бо ў іх канцэнтруюцца і абагульняюцца веды ў асноўным інтэлектуальнага характару. Лексічнае значэнне агульнаўжывальнага слова здольна мяняцца ў залежнасці ад кантэксту, у той час як на змест тэрміна ён уплывае ў значна меншай ступені.

З улікам таго, што нашы веды пастаянна паглыбляюцца, пашыраюцца, пераасэнсоўваюцца, тэрміны патрабуюць на розных этапах развіцця навукі перагляду сваіх азначэнняў або іх удакладненняў, г.зн. дэфініцыі тэрмінаў павінны адпавядаць узроўню навуковых ведаў у пэўнай галіне чалавечай дзейнасці, а самі тэрміны трэба ўжываць у значэнні, што адлюстроўвае той аспект паняцця, які разглядаецца ў межах канкрэтнай навуковай канцэпцыі.

Беларуская тэрміналогія даволі кваліфікавана і глыбока распрацавана ў дачыненні да гуманітарных навук, у прыватнасці лінгвістычная (гл.: ЮРЭВІЧ 1962; СЦЯЦКО, ГУЛІЦКІ, АНТАНЮК 1990) і літаратуразнаўчая (гл.: РАГОЙША 1979; ЛАЗАРУК, ЛЕНСУ 1996), а таксама юрыдычная, гістарычная і інш., што пацвярджаецца існаваннем і далейшым стварэннем значнай колькасці беларускамоўных тэкстаў па адпаведных дысцыплінах.

Што тычыцца негуманітарных сфер ведаў (матэматыка, фізіка, хімія і інш.), то для іх створаны найперш разнастайныя слоўнікі (тлумачальныя, перакладныя і інш.; гл.: ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ СЛОЎНІКІ 2000), у той час як напісаныя беларускамоўныя тэксты, асабліва манаграфічныя, носяць пераважна вучэбны ці энцыклапедычны, даведачны характар і даволі рэдка ствараюцца ў чыста навуковых мэтах (гл.: АРАШОНКАВА І ІНШ. 1999).

Ад тэрмінаў неабходна адрозніваць наменклатурныя найменні, якія служаць для абазначэнняў не абстрактных паняццяў, сутнасцяў, а дэталяў і частак прыбораў, канструкцый і да т.п., г.зн. найменняў, звязаных з абазначэннем канкрэтных рэчаў (параўн.: *болт, гайка, карбюратар, каленчаты вал, каробка перадач, шплінт* і да т.п.; гл.: РЕФОРМАТСКИЙ 1961, 47), а таксама прафесіяналізмы, што абазначаюць тыя ці іншыя спецыяльныя паняцці ў гутарковым маўленні навукоўцаў, супрацоўнікаў спецыяльных устаноў, прадстаўнікоў пэўных галін ведаў (параўн.: *падвал* 'ніжняя частка газетнага ліста', *штопар* 'фігура вышэйшага пілатажу', *балванка* 'чарнавы рукапіс дысертацыйнай ці іншай навуковай працы' і да т.п.).

Тэрміналогія і спецыяльная лексіка служыць для сучаснай беларускай літаратурнай мовы адной з важнейшых крыніц папаўнення яе лексічнага складу, бо шматлікія навуковыя рэаліі і паняцці з вузкіх сфер спецыяльнага выкарыстання робяцца бытавымі, паўсядзённымі, а разам з імі агульным моўным здабыткам становяцца і адпаведныя тэрміны, наменклатурныя назвы (параўн.: *бізнес, валюта, донар, дыягназ, інтэрнет, інфаркт, камп'ютэр, прагноз, ракета, тэлебачанне, тэрапія, тэрмометр, фаза, фракцыя, электрычнасць* і г.д.).

## 5.12. ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАВОДЛЕ СТУПЕНІ ЎЖЫВАННЯ

Паводле ступені свайго ўжывання беларуская лексіка зыходна дзеліцца на актыўную і пасіўную. Актыўная лексіка адзначаецца высокай частотнасцю свайго выкарыстання, непасрэдна звязана з паўсядзённымі рэаліямі нашага жыцця (параўн.: *маці, дзень, дом, вада, вуліца, хлеб, абед, час, рука, ісці, сядзець, спаць, чытаць, белы, высокі, добры, дрэнны* і г.д.), уключае ў сябе злучнікі, займеннікі, невытворныя лічэбнікі, прыназоўнікі, колькасць якіх невялікая, але амаль усе яны вельмі ўжывальныя ў мове. Дадзеная лексіка ахінае ўсе сферы камунікацыі людзей, як правіла, з'яўляецца шматзначнай (так, згодна ТСБМ, у дзеяслова *ісці* – 28 значэнняў, у назоўніка *кола* – 9, *ключ* – 8; а ў прыназоўніка *ў* – 58 значэнняў; гл.: ШУБА 1993, дэрывацыйна разгалінаванай (напрыклад, на аснове слова *вада* ў беларускай мове ўтвораны дзесяткі розных слоў тыпу *вадаём, воднік, водны, вадалаз, вадзіца, вадкасць, вадасцёк, вадапой, вадапад, вадамер, водмель, водападзел, ваданос* і г.д.), характарызуецца шырокай лексічнай спалучальнасцю, адносіцца да стылёва нейтральнай, не ўспрымаецца ні як устарэлае, ні як новае, незвычайнае, уяўляецца добра вядомай усім носьбітам беларускай мовы. У прафесійнай дзейнасці людзей актыўную лексіку складаюць спецыяльныя словы, тэрміны, што зніцаваны з найменнямі актуальных навуковых паняццяў, наменклатурныя назвы разнастайных тэхнічных прыстасаванняў, прылад і іх дэталяў. Спецыяльная лексіка не з'яўляецца агульным моўным здабыткам усіх людзей, але добра вядомая спецыялістам пэўнай галіны, шырока ўжывальная імі ў сваёй працоўнай дзейнасці.

У створаных для беларускай мовы частотных слоўніках актыўная лексіка займае больш высокія пазіцыі (рангі), чым пасіўная. Высокачастотныя словы вызначаюцца сваёй марфалагічнай прастатой, кароткасцю, даўнасцю выкарыстання, шматзначнасцю (гл.: ГИРО 1976, 62). Першая тысяча самых частотных слоў пакрывае да 85% пісьмовага мастацкага тэксту (гл.: МАЖЭЙКА, СУПРУН 1976, 6). Яшчэ большую долю займаюць актыўныя словы ў вусным паўсядзённым маўленні. Так, на першыя 30 самых частотных слоў беларускай гутарковай мовы прыпадае трэць усіх славаўжыванняў, а на першую сотню такіх слоў прыходзіцца больш паловы славаўжыванняў вуснага маўлення (гл.: МАЖЭЙКА, СУПРУН 1989, 5).

Да пасіўнай лексікі, з аднаго боку, адносяцца словы ўстарэлыя, якія сустракаюцца даволі рэдка і перадусім у адмысловых тэкстах на спецыяльныя тэмы або ў пэўных стылістычных мэтах, з другога боку, новыя словы, неалагізмы, што адносна нядаўна пачалі выкарыстоўвацца носьбітамі беларускай мовы, абазначаюць новыя рэаліі нашага жыцця, не характэрныя для яго раней.

Устарэлыя словы падзяляюцца на архаізмы, якія абазначаюць добра вядомыя прадметы і паняцці, што зараз называюцца іншымі, сінанімічнымі словамі (параўн. адпаведна архаічныя і звычайныя словы: *перст* і *палец, чало* і *лоб, дзякло* і

*падатак, каліта* і *сумка, лемантар* і *буквар, саета* і *сукно, ядваб* і *шоўк* і г.д.), і гістарызмы, звязаныя з прадметамі і паняццямі папярэдніх часоў. Гэтыя прадметы і паняцці не характэрны для сённяшніх дзён, але іх найменні ўжываюцца ў гістарычнай літаратуры, якая можа адносіцца дарэчы да зусім нядаўняга часу, бо адлюстроўвае прадметы і з'явы, не тыповыя для сучаснага жыцця (параўн.: з аднаго боку, *войт, дзядзькаванне, калчан, феадал* і інш, з другога – *паскарэнне, перабудова, стаханавец, хата-чытальня* і інш.; лексемы *перабудова* і *паскарэнне* абазначаюць паняцці, што існавалі напярэдадні распаду СССР, і ўтвараюць калькі рускіх слоў *перестройка* і *ускорение,* якія на кароткі час сталі, па сутнасці, інтэрнацыяналізмамі).

Сярод архаізмаў звычайна выдзяляюцца лексіка-фанетычныя (параўн.: *лозунг* і *лёзунг, сымболь* і *сімвал, філёзаф* і *філосаф* і да т.п.), лексіка-словаўтваральныя (параўн.: *лятун* і *лётчык*, *тэза* і *тэзіс* і да т.п.), уласна лексічныя (параўн.: *вакацыі* і *канікулы, чада* і *дзіця* і да т.п.), семантычныя (параўн.: *жывот* у значэнні 'жыццё', *дружына* ў значэнні 'войска князя' і інш.). Гістарызмы і архаізмы ўваходзяць у склад пасіўнай лексікі найперш па прычыне тэматычнай і стылёвай абмежаванасці свайго выкарыстання, але ў адпаведных тэкстах, напрыклад на гістарычную тэму, могуць быць даволі ўжывальнымі і неабходнымі для адэкватнага адлюстравання пэўнага гістарычнага часу і перадачы яго каларыту, адметнасці, спецыфікі. Устарэлымі могуць быць як уласна беларускія словы тыпу *саха, вуй* 'дзядзька па матчынай лініі' і інш., так і запазычаныя лексемы тыпу *аэраплан, бальшавік* і інш.

Неалагізмы беларускай мовы з'яўляюцца ў значнай ступені запазычанымі словамі, якія засвойваюцца пры наяўнасці адпаведных рэалій (параўн.: *гамбургер, дылер, дыскета, круіз, маклер, маркетынг, пейджэр, рэйтынг, слайд, трылер, файл, холдынг, чартэр* і інш.), але ўключаюць у свой склад і ўласна беларускія лексемы тыпу *задзейнічаць, заўзятар, крыжаванка, лецішча, раздзяржаўленне* і інш., што пачалі ўжывацца ў беларускай мове адносна нядаўна, у апошнія дзесяцігоддзі, ці нават гады. Звычайна неалагізмы фіксуюцца (і то не ўсе) толькі ў слоўніках апошніх выданняў (параўн., напрыклад, у ТСБЛМ: *анкетаваць, аэробіка, бартэр, кансэнсус, невяртанец, тэхнакрат, подыум, экстрасэнс, эмбрыёлаг* і інш., якіх няма ў ТСБМ).

Яшчэ адну групу не зусім звычайных лексем, што не ўваходзяць у слоўнікі літаратурнай мовы, утвараюць аказіяналізмы, наватворы, ужытыя пэўнымі аўтарамі ў мастацкіх, навуковых, публіцыстычных тэкстах. Так, у Я.Купалы сустракаюцца словы *вечнабыт, крыліцца, курганіць, небазбор, слёзнавокі, хлебадайны* і інш., у Я.Коласа – *блакітнасць, бурапена, вольнаплынны, светазор* і інш., у М.Багдановіча – *бесскрыдлаты, мленне, салодка-сонны, ціхавейны* і інш.; у Р.Барадуліна – *вясновагалосы, грамасей, рэхавокі* і інш.; у А.Разанава – *прастрань, разнасцежыцца, супротнасць* і інш., якія так і не сталі лексічным здабыткам сучаснай агульнаўжывальнай літаратурнай мовы (не ўключаны ў адпаведныя слоўнікі). Тым не менш некаторыя лексемы, што былі спачатку аказіяналізмамі, сталіся звыклымі і распаўсюджанымі словамі (параўн., напрыклад: *адлюстраваць, мілагучны, мэтазгодны* і інш. – У.Дубоўкі; *светапогляд* і інш. – Я.Коласа) і г.д.

## 5.13. СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛЕКСІКІ

Са стылістычнага пункту гледжання лексіка беларускай мовы зыходна расчляняецца на тры вялікія раўназначныя групы: нейтральная (міжстылёвая,

агульнаўжывальная), кніжная, гутарковая. Нейтральная лексіка ўключае ў сябе словы, якія неабмежавана выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях і разнавіднасцях беларускай мовы, ствараюць касцяк беларускага лексікону, часцей за ўсё адносяцца да спрадвечна беларускіх, агульнаўжывальных, актыўных слоў, што служаць для абазначэння паўсядзённых рэалій нашага жыцця (параўн.: *вока, дождж, ноч, паветра, святло, стол, сын, хлеб, час* і да т.п.), дзеянняў і прыкмет, а таксама іх замяшчальнікаў (дэйктычных слоў) (параўн.: *бачыць, ісці, рабіць, маленькі, прыгожы, шэры, добра, кепска, шмат, мы, ён, свае, я* і да т.п.), ліку, адносін (параўн.: *адзін, тры, сёмы, без, каля* і да т.п.). Нейтральная лексіка можа мець у кантэксце экспрэсіўную і эмацыянальную афарбоўкі, але ў слоўніках падаецца без усялякіх памет, пры наяўнасці сінонімаў з іншых стыляў і разнавіднасцяў мовы нейтральныя словы служаць дамінантамі (параўн.: *гром, пярун, грымоты; дзяўчына, дзеўка, панна; страляніна, кананада, пальба; ежа, правізія, спажытак* і інш.), ужываюцца як у прамым, непасрэдным значэнні, так і ў пераносным (параўн.: *вада* ‘празрыстая вадкасць‘ і ‘беззмястоўнае шматслоўе‘; *сонца* ‘нябеснае свяціла‘ і ‘гімнастычнае практыкаванне‘; *лес* ‘масіў зямлі, зарослы дрэвамі‘ і ‘мноства‘ ў словазлучэннях тыпу *лес рук* і г.д.), выкарыстоўваюцца раўнапраўна ў вуснай і пісьмовай формах мовы. Нейтральная лексіка з’яўляецца натуральнай, простай, зразумелай для ўсіх носьбітаў мовы, служыць своеасаблівым пунктам адліку для лексікі іншых стыляў, фонам, на якім выразна выдзяляюцца кніжная і гутарковая лексіка: першая з іх падзяляецца на навуковую, афіцыйна-дзелавую і публіцыстычную, другая – на ўласна гутарковую і прастамоўную.

Навуковая лексіка ўключае ў свой склад тэрміны, прафесіяналізмы, наменклатурныя назвы, якія ўжываюцца ў спецыяльных тэкстах і вусных размовах сумесна з нейтральнай лексікай, што ў спалучэнні з навуковай страчвае сваю магчымую эмацыянальнасць, экспрэсію, набывае аб’ектыўны, дакладны, непрадузяты, адназначны характар. Тэматыка навуковай лексікі цалкам вызначаецца яе аднесенасцю да канкрэтнай дысцыпліны, дзе яна набывае пэўнае, абмежаванае значэнне. Так, слова *канструкцыя* ў лінгвістыцы і ў тэхніцы мае несупадальнае значэнне: у першым выпадку – гэта ‘размяшчэнне слоў з пункту гледжання іх граматычнай сувязі, граматычная будова словазлучэнняў‘; у другім – ‘будова, узаемнае размяшчэнне частак якога-небудзь збудавання, механізм з такім устройствам‘. Тое ж тычыцца і мноства іншых спецыяльных слоў (параўн.: *аперацыя* ў медыцыне і ў ваеннай справе, *марфалогія* ў біялогіі, геаграфіі і мовазнаўстве і г.д.). Навуковая лексіка беларускай мовы характарызуецца вялікай колькасцю запазычанняў з іншых, найперш заходнееўрапейскіх моў: з грэчаскай (*дыялектыка, дыяхранія, граматыка* і інш.), з лацінскай (*аналіз, аналогія, дыферэнцыяцыя* і інш.) і г.д., можа мець максімальна адцягненае, абстрактнае значэнне ў тэрмінах (параўн.: *акамадацыя, алегорыя, дывергенцыя, дыдактыка, дэдукцыя, філагенез* і да т.п.) і канкрэтнае – у наменклатурных назвах (параўн.: *болт, вінт, муфта, помпа, свярдзёлак, спружына, шайба* і да т.п.), а таксама экспрэсіўную, эмацыянальную афарбоўку – у прафесіяналізмах (параўн.: *абаранак* ‘руль‘, *дворнік* ‘шклоачышчальнік‘, *шапка* ‘загаловак‘ і да т.п., якія набылі другаснае, пераноснае значэнне ў вусных размовах адпаведных спецыялістаў.

Звычайна нейтральныя словы, калі яны абазначаюць рэаліі, падлеглыя навуковаму даследаванню і апісанню, тэрміналагізуюцца ў спецыяльных тэкстах, а тыя істотныя якасці і ўласцівасці гэтых рэалій, што адкрыты ў навуцы, у пэўнай галіне ведаў, часта прадстаўлены не толькі ў дэфініцыі тэрміна, але і ў значэнні суадноснага з ім агульнаўжывальнага слова. Напрыклад, лексема *месяц* у “Слоўніку беларускай мовы” І.Насовіча тлумачыцца шляхам перакладу яе на рускую мову

словам *луна*, а ў ТСБЛМ як ‘планета, самая блізкая да Зямлі‘, вядомая беларуская лексема *вясёлка* ў Ф.Шымкевіча азначаецца рускім словам *радуга*, у ТСБЛМ як ‘шматкаляровая дугападобная паласа на небе, якая ўзнікла ад праламлення сонечных прамянёў у дажджавых кроплях‘ і г.д. У сучасных дэфініцыях гэтых агульнаўжывальных лексем уключаны трывалыя навуковыя даныя пра адпаведныя прыродныя прадметы і з’явы.

У сваю чаргу навуковыя тэрміны і спецыяльныя словы здатны пераходзіць у разрад нейтральных, міжстылёвых, страчваюць пры гэтым сваю “навуковасць” (параўн. словы: *доза, кісларод, патэнцыял, рэакцыя, удзельная вага, фактар* і да т.п., магчымыя ў звычайным маўленні на бытавыя тэмы).

Афіцыйна-дзелавая лексіка ўжываецца ў справаводстве, юрыспрудэнцыі, дыпламатыі, у такіх дакументах, як акты, дагаворы, пастановы, пратаколы, справаздачы і да т.п. Гэтая лексіка пазбаўлена ацэначнасці, вобразнасці, экспрэсіі, суб’ектывізму; характарызуецца дакладнасцю, стэрэатыпнасцю, аб’ектыўнасцю, уніфікаванасцю, стандартнасцю, неасабовасцю (параўн.: *адказчык, выдаткі, даклад, даручэнне, канстытуцыя, урад, установа, зацвердзіць, рэкамендаваць, ратыфікаваць, фінансаваць* і да т.п.; гл.: КАЎРУС 1994, 10–11). Спалучэнні слоў часам выступаюць у выглядзе моўных штампаў (параўн.: *давераная асоба, прыняць меры, прыцягнуць да адказнасці, справаздачны перыяд, узяць пад кантроль* і да т.п.). Згаданыя якасці афіцыйна-дзелавой лексікі забяспечваюць прымяненне ў дзелавых зносінах анкет, бланкаў, фармуляраў і да т.п., якія заклікаsuccessfullyны максімальна уніфікаваць і стандартызаваць мову ў дадзенай галіне чалавечай дзейнасці. Зыходнай формай ужывання тэрмінаў і афіцыйна-дзелавой лексікі служыць пісьмовая, таму агучаныя тэксты з падобнай лексікай успрымаюцца на слых цяжэй, чым зрокам.

Публіцыстычная лексіка выкарыстоўваецца ў сродках масавай інфармацыі і ў вуснай, і ў пісьмовай формах (радыё, тэлебачанне, публічныя лекцыі і выступленні, газеты, часопісы і інш.), разлічана на шырокую аўдыторыю, як правіла, з’яўляецца эмацыянальнай, ацэначнай, грамадска значымай, агітацыйнай па мэце ўжывання. Сярод дадзенага стылістычнага пласта лексікі шмат запазычаных, абстрактных слоў, часта з размытай семантыкай (параўн.: *аб’яднацца, актывізацыя, дасягнуць, дэмакратыя, заклік, ініцыятыва, мітынг, нястомны, патрыёт, перавыканаць, перадавы, свабода, укараніць* і да т.п.), ужыванне якіх здатна ўздзейнічаць не столькі на інтэлект, розум, колькі на пачуцці, падсвядомасць адрасатаў (слухачоў, чытачоў, суразмоўнікаў). Выкарыстанне публіцыстычнай лексікі ў вусным маўленні часта суправаджаецца паралінгвістычнымі сродкамі (асобай інтанацыяй, жэстамі, рухамі цела, выразнай мімікай твару і г.д.), у пісьмовым тэксце – шрыфтавым выдзяленнем асобных слоў, вынясеннем іх у загаловак вялікімі літарамі і інш.

Гутарковая (размоўная) лексіка ўключае ў свой склад пабытовыя, будзённыя словы, звязана з разнастайнымі рэаліямі, дзеяннямі, прыкметамі, а таксама актуальнымі аспектамі побыту і жыцця чалавека, распаўсюджана па ўсёй тэрыторыі ўжывання беларускай мовы, характарызуецца зыходна вуснай формай свайго выкарыстання, нязмушанасцю прымянення, што вядзе да шматлікіх адхіленняў ад літаратурных нормаў, скарочанымі вымаўленнямі слоў, ацэначнай, экспрэсіўнай, эмацыянальнай афарбоўкай апошніх, неафіцыйнасцю, адвольнасцю, вобразнасцю, спантаннасцю. Дадзеныя якасці гутарковай лексікі прыводзяць да разгалінаванай сінанімічнасці, да наймення адной рэаліі шматлікімі словамі (параўн.: *плакса, піскун, румза, нюня; распуснік, блуднік, юрлівец, лавелас, хахаль, жарабец, бугай, кныр* і да т.п.).

У ТСБМ гутарковая лексіка пазначана спецыяльнымі паметамі *груб., разм., лаянк.*, што сведчыць пра спробу яе кадыфікаванай дыферэнцыяцыі на ўласна гутарковую (размоўную), прастамоўную (грубую), лаянкавую (мацерную). Апошняя група гутарковай лексікі не характэрна для беларускай мовы і пераважна

запазычана з рускай мовы. Размоўная лексіка носіць звычайна экспрэсіўны характар (параўн.: *аскарбінка, балбатун, войкаць, здаравяка, шыбаваць* і да т.п.), які, аднак, займае па ступені свайго праяўлення прамежкавае месца паміж нейтральнай і грубай лексікай. Прастамоўныя, грубыя словы нясуць у сябе пераважна негатыўную ацэнку названай рэаліі – асобы, прадмета, з'явы і інш. (параўн.: *вырадак, падліза, плявузгаць, шчанюк* і да т.п.), і ўспрымаюцца ў выглядзе крыўды, абразы, калі звернуты да субяседніка, суразмоўцы. У гэтым пласце лексікі ўжывальнымі служаць часціцы *ах, вось, дык, ну, ой* і да т.п., якія не прыдатны навуковай і афіцыйна-дзелавой лексіцы, але зрэдку ўжываюцца ў публіцыстычнай і мастацкай літаратуры.

Лексіка згаданых стыляў у розных камбінацыях, прапорцыях сінтэзуецца ў слоўніку мастацкай літаратуры, якая, па-першае, у залежнасці ад тэмы твора можа ўключаць у свой склад і навуковую, і афіцыйна-дзелавую, і публіцыстычную, і гутарковую лексіку, а, па-другое, можа таксама змяшчаць на сваіх старонках узвышаныя, вобразныя лексічныя сродкі, асабліва ў паэтычных тэкстах. Метафарычны сэнс гэтых лексічных сродкаў часцей за ўсё праяўляецца ў пэўным кантэксце, у спалучэнні з іншымі словамі. Так, у радках вядомага верша М.Багдановіча *У небе зоркі ад марозу пахаладзеўшыя дрыжаць* слова *зоркі* антрапамарфізуецца, зоркам надаюцца чалавечыя пачуццці праз непасрэднае граматычнае спалучэнне адпаведнага назоўніка з словамі *дрыжаць, пахаладзеўшыя* і апасродкавана праз кантэкст усяго верша.

Уласна паэтычныя, урачыстыя словы не займаюць колькасна значнага месца ў лексіконе мастацкай літаратуры, звычайна не ўваходзяць у лік найбольш частотных адзінак, хаця, зразумела, пры ўжыванні ў ёй займаюць ключавыя пазіцыі (параўн.: *агмень, бацькаўшчына, венцаносны, ветразь, доблесны, легкакрылы, мімалётны, неабсяжны, паходня, слаўны, сусвет, ясназоры* і да т.п.) і незалежна ад кантэксту маюць мастацкую каштоўнасць, падаюцца ў слоўніку са спецыяльнымі паметамі *паэт., нар.-паэт.* адпаведна 'паэтычнае' і 'народна-паэтычнае' словы.

Такім чынам, ужыванне лексікі розных стыляў беларускай мовы залежыць ад жанру, віду маўленчай дзейнасці, вуснай ці пісьмовай формы яе рэалізацыі і тычыцца не столькі вербальнай дзейнасці асобнага чалавека, колькі мовы як сацыяльнай і культурнай з'явы у цэлым. Да таго ж выдзеленыя стылістычныя пласты лексікі не маюць паміж сабой жорсткіх граніц: рознастылёвыя словы здольны выкарыстоўвацца не толькі ў межах пэўнага віду маўленчай дзейнасці, але і ў адпаведнасці з мэтай выказвання, моўнай культурай канкрэтнага чалавека могуць перамяшчацца з аднаго жанру і стылю мовы ў іншыя (з навуковага стылю ў гутарковы і публіцыстычны, з афіцыйна-дзелавога стылю ў мастацкі і г.д.), а таксама здольны пераасэнсоўвацца і рабіцца паўнавартасным лексічным сродкам іншага стылю і адначасова заставацца ў асяродку свайго зыходнага стылістычнага разраду лексікі.

## 5.14. ОНІМЫ

Разнастайныя імёны (онімы) – адсюль і назва іх сукупнасці, а таксама адпаведнай дысцыпліны *анамастыка* – складаюць самую значную па колькасці і своеасаблівую па зместу частку лексікі беларускай мовы. Спецыфіка імёнаў палягае ў тым, што яны ў адрозненне ад усіх іншых разгледжаных слоў (тэрміны, дыялектызмы, жарганізмы, неалагізмы, архаізмы і інш.) абазначаюць не сукупнасці рэалій (прадметаў, з'яў, прыкмет, дзеянняў, паняццяў, вобразаў і г.д.), а адзінкавыя канкрэтныя прадметы, менавіта таму імёнаў у беларускай мове, як і ў іншых жывых мовах, вельмі многа, і ўсе яны назоўнікі.

У залежнасці ад сферы, тэмы намінацыі сярод імёнаў адрозніваюць: антрапонімы – імёны людзей; гідронімы – назвы водных аб'ектаў, тапонімы – найменні геаграфічных аб'ектаў), сярод якіх выдзяляюць айконімы (найменні людскіх паселішчаў), урбонімы (назвы гарадоў), мікратапонімы (назвы дробных геаграфічных аб'ектаў); заанімы (найменні свойскіх жывёл), этнонімы (назвы нацый, народаў, плямён, этнасаў і іншых тэрытарыяльных сукупнасцяў людзей), астронімы (назвы касмічных аб'ектаў, зорак, планет і да т.п.), тэонімы (найменні багоў, дэманаў і іншых незямных істот) і г.д.

Онімы ў сваёй асноўнай масе не ўключаюцца ні ў агульнаўжывальныя літаратурныя (арфаграфічныя, тлумачальныя, перакладныя і інш.), ні ў тэрміналагічныя, ні ў дыялектныя слоўнікі беларускай мовы, хаця робяцца спробы абагульніць, па крайняй меры, пэўную частку імёнаў у спецыяльных лексікаграфічных крыніцах (гл.: БІРЫЛА 1966, 1969, 1982; СУДНІК 1966; ЖУЧКЕВІЧ 1974; УСЦІНОВІЧ 1975; РАПАНОВІЧ 1977–1983 і інш.) ці ў зборніках навуковых прац, у манаграфіях (гл.: БЕЛАРУСКАЯ АНАМАСТЫКА 1977–1985; ШУР 1993, і інш.). Дадзеная акалічнасць тлумачыцца найперш вялізнай колькасцю імёнаў. З улікам таго, што на тэрыторыі Беларусі пражывае каля 10 мільёнаў чалавек і кожны з іх мае сваё ўласнае імя, якое звычайна складаецца з трох частак (прозвішча, імя, імя па бацьку) і вельмі рэдка паўтараецца (паўтараюцца толькі асобныя часткі трохчленнага імені чалавека), то колькасць адных антрапонімаў у беларускай мове перавышае лік усіх агульнаўжывальных слоў у дзесяткі разоў. Поўны канкрэтны падлік і вычарпальная інвентарызацыя ўсіх тапонімаў (назвы паселішчаў, вуліц, плошчаў, дробных геаграфічных аб'ектаў і інш.) Беларусі яшчэ не зроблены, але калі ўлічыць, што ў прыблізна роўнай па плошчы з нашай рэспублікай (450 тысяч квадратных кіламетраў) і па колькасці жыхароў (8,2 млн.) такой еўрапейскай краіне, як Швецыя, тапонімаў зарэгістравана каля 12 млн., то, відаць, і ў Беларусі іх не менш, і, такім чынам, таксама ў дзесяткі разоў больш, чым агульнаўжывальных слоў усёй беларускай мовы (нагадаем, у ТСБМ прадстаўлена прыблізна сто тысяч розных лексем).

Асаблівасцю семантыкі многіх беларускіх антрапонімаў (прозвішчаў людзей) служыць тое, што яны часта матывуюцца агульнымі словамі (параўн.: *Бандарэнка, Маразевіч, Мядзведзеў, Сталярчук, Ткацэвіч* і да т.п. ад агульных слоў *бондар, мароз,мядзведзь, сталяр, ткач* і г.д.), але носьбіты гэтых імёнаў звычайна не маюць нічога агульнага з прыкметамі, скарыстанымі для іх намінацыі, у той час як у агульных словах наяўныя прыкметы складаюць часта важную частку іх зместу.

Найбольш тыповыя прозвішчы беларусаў утвараюцца ад агульных слоў, якія супрэжаны з самымі разнастайнымі відамі нашай флоры (параўн.: *Верас, Вярба, Каліна, Крапіва, Чарот* і інш.), фауны (параўн.: *Бабёр, Верабей, Воўк, Журавель, Лось* і інш.), навакольнага рэльефу (параўн.: *Балота, Дарога, Лог, Пушча* і інш.), ежы (параўн.: *Бульба, Верашчака, Крупеня, Сыракваша* і інш.), артэфактаў (параўн.: *Абух, Багор, Барыла, Бочка, Ліхтар* і інш.), канкрэтных прыродных прадметаў (параўн.: *Валун, Лаза, Смала, Цурка, Шчэпка* і інш.), нацыянальнасцяў, этнасаў (параўн.: *Латыш, Ліцвін, Лях, Татарын, Цыган* і інш.), прыродных з'яў (параўн.: *Буран, Вецер, Гром, Зіма* і інш.), частак цела чалавека і жывёл (параўн.: *Барада, Калена, Лапа, Лыч* і інш.), прафесій (параўн.: *Бондар, Ганчар, Мельнік, Шкляр* і інш.), сваяцтваў (параўн.: *Баба, Братан, Сваяк, Цётка* і інш.), сацыяльнага стану чалавека (параўн.: *Батрак, Войт, Дзяк, Казак* і інш.), разнастайнымі ўласцівасцямі (параўн.: *Балда, Бамбіза* 'непаваротлівы чалавек', *Батура* 'пустамеля, манюка' *Ліхадзей* і інш.).

Кола згаданых антрапонімаў значна пашыраецца за кошт выкарыстаных суфіксаў, у прыватнасці, найбольш пашыраных *-аў, -іч, -энк, -онак, -эня, -чук, -чык, -оўн-, -ск, -цк* і г.д., якія далучаюцца да назваў рэалій або да патронімаў (прозвішчаў, утвораных ад імёнаў людзей тыпу *Афанасій, Іван, Пётр, Васіль, Марына, Ульяна* і

інш.; параўн.: *Бондар, Бондараў, Бандаровіч, Бандарэнка, Бандаронак, Бандарэня, Бандарчук, Бандарчык, Бандароўна, Бандарскі* і інш.).

Імёны і імёны па бацьку (апошнія ўзнікаюць і ўсталёўваюцца на Беларусі ў 18–19 стст.) пасля прыняцця хрысціянства складаюцца пераважна з запазычаных слоў (параўн.: з яўрэйскай – *Іван, Іосіф, Ева, Лізавета* і інш.; з грэчаскай – *Алена, Андрэй, Васіль, Пётр* і інш.; з лацінскай – *Валянціна, Віктар, Марцін, Сяргей* і інш); значная частка імёнаў (у прыватнасці, імёны на *-слаў, -мір, -бор* і інш. тыпу *Вячаслаў, Мечыслаў, Станіслаў, Уладзімір, Любамір, Бранібор* і да т.п.) маюць уласна славянскае паходжанне, сустракаюцца з рознай частатой ва ўсіх славянскіх народаў. Да антрапонімаў належаць таксама псеўданімы, распаўсюджаныя ў дачыненні да палітычных дзеячаў, падпольшчыкаў, пісьменнікаў і інш., што існуюць паралельна з іх сапраўднымі імёнамі

Усе онімы служаць сацыяльнымі найменнямі, г.зн. прыдумваюцца і вызначаюцца людзьмі або ў адпаведнасці з традыцыяй, або з іх уласнымі пажаданнямі, або з рытуальнымі датамі, або даюцца ў гонар каго-небудзь і г.д. і могуць мяняцца (у нашай краіне, напрыклад, дзяўчына пры замужастве звычайна мяняе сваё прозвішча на прозвішча мужа).

Асабліва зменлівы характар онімаў відаць на прыкладзе такіх тапанімічных найменняў, як назвы вуліц, плошчаў або нават гарадоў. Так, цэнтральны праспект сталіцы Беларусі Мінска зараз носіць імя *Францішка Скарыны*, а раней называўся і вуліцай *Захар'еўскай*, і *Савецкай*, і праспектам *Сталіна,* і праспектам *Леніна;* тое ж тычыцца і многіх іншых тапонімаў (параўн.: вуліца ў Мінску: *Віленская – Траецкая – Аляксандраўская – Камунальная – Горкага – Багдановіча* і г.д.). Толькі ў 1964 г. па "просьбе працоўных" на Беларусі зменена звыш 300 назваў населеных пунктаў (гл.: ЛЫЧ 1994, 86–110; ШУР 1998, 195), што сведчыць пра сацыяльны і палітычна каньюнктурны характар гэтых перайменаванняў.

Манаграфічныя навуковыя даследаванні прысвечаны такім беларускім тапанімічным найменням, як айконімы (назвы паселішчаў тыпу *Выселкі, Пагост, Слабада* і інш.; гл.: ЛЕМЦЮГОВА 1970), гідронімы (назвы водных аб'ектаў тыпу *Бярэзіна, Нарач, Прыпяць* і інш.; гл.: ЯШКІН 1971), мікратапонімы (назвы балот, лугоў, лясоў, урочышчаў і інш. тыпу *Ляда, Смалянікі, Гай, Падлужжа* і інш.; гл.: АДАМОВІЧ 1971, МІКРАТАПАНІМІЯ 1974), якія звычайна матывуюцца той ці іншай знамянальнай, кідкай прыкметай, што кладзецца ў аснову іх назвы, таму прымусовая змена апошніх прыводзіць да страты гістарычнай памяці народа, да шматлікіх недарэчнасцяў (параўн.: калгасы і саўгасы імя Суворава, Маркса, Леніна, "Палітаддзелец", "Зара камунізму", "Прагрэс", што ніяк не матывуюцца адпаведнымі рэаліямі), ды і проста сведчыць аб адсутнасці элементарнейшай культуры, павагі да сваіх продкаў, да сваёй гісторыі. Для тапанімічных найменняў, асабліва звязаных з аб'ектамі штучнага характару (назвы паселішчаў, вуліц, плошчаў і г.д.) характэрнымі служаць патранімічныя асновы, г.зн.асабовыя імёны людзей, ад якіх утвараюцца гэтыя найменні (параўн.: *Барысаў, Мсціслаўль, Дзяржынск, Кіраўск* і г.д.).

## 5.15. РАЗВІЦЦЁ ЛЕКСІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У развіцці лексічнага складу беларускай мовы выразна выдзяляюцца два перыяды: старабеларускі (14–18 стст.) і сучасны (18 ст. – наш час). Лексіка старабеларускай літаратурнай мовы фарміравалася на аснове разнастайных моўных крыніц, найбольш значныя з якіх утваралі дыялектныя і гутарковыя словы роднай мовы, або уласна беларускія словы, а таксама словы агульнаславянскага і ўсходнеславянскага (старажытнарускага) паходжання (параўн. Уласна беларускія лексемы: *гультай, доловъ, дыкъ, ежа, закутокъ, мовчки, литвинъ, озеродъ,*

*тямити, хаити, шолудивый* і інш.; агульнаславянскія і стараславянскія лексемы – *агнецъ, бракъ, брести, вещь, владыка, врагъ, врата, длань, древо, мзда, скорбъ, стража, храмъ, хранити* і інш.; старажытнарускія, або ўсходнеславянскія словы, – *вечеряти, городъ, гость, губа, людъ, орати, осока, пушка, сорочка, супругъ* і інш.).

Вялікі пласт лексікі старабеларускай мовы складалі запазычанні з розных моў: з грэчаскай (параўн.: *алтаръ, анафема, архангелъ, библия, диаволъ, епископъ, ересь, идолъ, канонъ, литоргия, монахъ* і інш.), з лацінскай (параўн.: *авторъ, депутатъ, директоръ, инквизиторъ, капитанъ, комисаръ, кредиторъ, магисторъ, ораторъ, професоръ, студентъ* і інш.), з польскай (параўн.: *завше, зацный, звлашча, злото, кгды, кроль, латвый, мша, нендза, патрити, прудкий, шидити, смродъ, ютро, яскиня* і інш.), з нямецкай (параўн.: *бискупъ, бурмистръ, гандель, жебракъ, канцлеръ, лямпа, мастеръ, рахунокъ, рыцаръ, слесаръ, фурманъ, шпиталь, штрафъ, штурмъ* і інш.), з цюркскіх (параўн.: *амбар, атаманъ, баскакъ, баранъ, кабала, колпакъ, мурза, нагайка, товар, торба, сургучъ, шишакъ, ярлыкъ, ямщикъ* і інш.), а таксама з некаторых іншых моў (з літоўскай – *дойлида, евня, клуня, свиренъ* і інш.; з яўрэйскай – *кагал, левіяфан* і інш.; з французскай – *балон, камзол, карабинъ, лафит* і інш.; гл.: ГІСТАРЫЧНАЯ ЛЕКСІКАЛОГІЯ 1970; БУЛЫКА 1980).

Разнамоўныя пласты старабеларускай лексікі прадстаўлены ў неаднолькавых прапорцыях, залежных ад жанравых і стылістычных відаў тэкстаў, ад аўтараў гэтых тэкстаў, ад часу і канкрэтнай тэрыторыі стварэння беларускіх літаратурных помнікаў. Нават у межах аднаго жанру лексічны склад паводле паходжання розніцца даволі істотна. Так, у рэлігійных творах Ф.Скарыны (арыгінальных і перакладных) пераважае стараславянскі лексічны струмень, у творах С.Буднага побач са стараславянскімі і ўласна беларускімі лексемамі значнае месца займаюць паланізмы, а ў В.Цяпінскага ў большай ступені выкарыстоўваюцца спрадвечна беларускія словы пры параўнанні з тэкстамі сваіх папярэднікаў.

Што тычыцца старабеларускіх твораў іншых жанраў, нерэлігійных, то тут таксама адзначаецца лексічная стракатасць, але ў іх значна менш стараславянскіх (царкоўна-славянскіх) слоў, а суадносіны паміж астатнімі пластамі лексікі вагаюцца ў залежнасці ад часу стварэння помнікаў (у 17 ст., напрыклад, больш значную долю займаюць паланізмы), ад іх жанравай прыналежнасці (у перакладных творах адзначаецца больш запазычанняў, чым, напрыклад, у помніках дзелавой і палемічнай літаратуры), ад канкрэтных аўтараў ("Дзённік", або "Дыярыуш" А.Філіповіча мае больш уласна беларускіх слоў, чым "Дзённік", або "Гістарычныя запіскі" Ф.Еўлашэўскага, дзе шмат паланізмаў і лацінізмаў). У наш час працягваецца выпуск "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" (ужо надрукавана 19 выпускаў, Мінск, 1982–2001), пасля заканчэння якога можна стварыць канчатковую лексічную карціну (тэматычную, стылістычную, па паходжанні, па ступені ўжывання і г.д.) старабеларускай літаратурнай мовы.

Лексікон новай беларускай літаратурнай мовы ( яна ўзнікае і ўсталёўваецца ў 18–19 стст. і актыўна развіваецца ў першай палавіне 20 ст., а таксама на пачатку 90-х гадоў 20 ст. і запавольваецца ў сённяшні час у сувязі са стратай афіцыйнага статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай) фарміруецца найперш на ўласна беларускіх рэсурсах (параўн.: найменні месяцаў, часцін мовы, выданні фальклорных і этнаграфічных помнікаў, прычым сабраны на сённяшні дзень збор вуснай народнай творчасці з'яўляецца адным з багацейшых у Еўропе і інш.). Гэты лексікон ствараецца шляхам або непасрэднага пераходу слова з гутарковага стылю, дыялектнай разнавіднасці мовы ў літаратурную мову (параўн.: *водар, гарышча, залева, лугавіна, плыткі, радовішча, ставок* і інш.), або праз афармленне запазычанага кораня іншамоўнага слова беларускімі афіксамі, у выніку чаго новае слова арганічна адаптуецца сістэмай беларускай мовы, набывае ўсе адпаведныя

граматычныя формы і нават не адчуваецца ці слаба адчуваецца носьбітамі мовы яго замежнае паходжанне, асабліва калі слова засвоена на першых этапах развіцця беларускай літаратурнай мовы (параўн.: *гарбуз, кнот, пуд, свіран, торба, шнур* і інш.), а таксама і ў дачыненні да многіх пазнейшых запазычанняў (параўн.: *абцугі, ровар, світэр, цягнік* і інш.).

Карэнныя сацыяльныя, палітычныя і эканамічныя змены жыцця краіны, што адбыліся пад час стварэння БНР, абвяшчэння незалежнасці рэспублікі 1 студзеня 1919 г., прызнанне беларускай мовы афіцыйнай, дзяржаўнай прывялі да бурнага развіцця лексікону беларускай літаратурнай мовы, яго значнага пашырэння па ўсіх кірунках грамадскіх інтарэсаў (адміністрацыйная справа, адукацыя, асвета, культура, навука, прэса, радыё і інш.). Паралельна з пераходам некаторых слоў з актыўнага ўжытку ў пасіўны, з паўсядзённых слоў у гістарызмы (параўн.: *воласць, жандар, земства, павет, парабак,ураднік* і інш.) узнікае шмат новых слоў, што фіксуюць новыя рэаліі тагачаснага беларускага жыцця (параўн.: *абагуліць, грамадазнаўчы, заклік, калгас, навучэнец, працаздольны, працавіты, рабфак, сельсавет, старшынстваваць, ударнік, ячэйка* і інш.). Ствараецца беларуская навуковая тэрміналогія спачатку з апірышчам найперш на ўласныя моўныя рэсурсы (параўн.: *абвод* ‘перыметр’, *абэржа* ‘махіна’, *абручкаванне* ‘кальцаванне’, *зельнік* ‘гербарый’, *мяшанец* ‘гібрыд’, *лупняк* ‘сланец’, *стажок* ‘конус’, *струна* ‘хорда’, *рада* ‘савет’ і інш.), затым тэрміны беларускай мовы ўзбагачаюцца ў рэчышчы шырокага выкарыстання інтэрнацыянальнай лексікі (параўн.: *алгарытм, бройлер, дыктафон, імпарт, кемпінг, круіз, крэдыт, пралетарый, рэнтген, сінтэтыка, тралейбус, тэлевізар* і інш.), аднак і да нашага часу захоўваецца тэндэнцыя і да выкарыстання ўласна беларускіх лексічных сродкаў (параўн.: у горна-здабыўной прамысловасці – *адорвень, апоўзень, выкапень, радовішча* і інш.; гл.: КАЎРУС 1983, 23)

З 30-х гадоў 20 ст., ужо пад час знаходжання Беларусі ў складзе СССР, у выніку суцэльнай русіфікацыі сацыяльнага жыцця краіны функцыі беларускай мовы істотна звужаюцца, аднак не спынілася яе прымяненне ў якасці сродку зносін і сродку адукацыі ў сельскай мясцовасці, дзе на той час пражывала большасць нашага насельніцтва, у мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, у некаторых навуковых дысцыплінах, найперш гуманітарных, што прывяло да ўзбагачэння лексікону беларускай літаратурнай мовы шляхам шырокага выкарыстання слоў беларускіх народных гаворак і шляхам запазычанняў замежных слоў пераважна праз рускую мову. У пачатку 90-х гадоў 20 ст. пасля дэкларыравання суверэнітэту нашай дзяржавы і наданню беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай зноў бурна разгарнулася лексікаграфічная дзейнасць па развіццю і ўдасканальванню беларускай навуковай тэрміналогіі, выдаюцца вучэбныя дапаможнікі на беларускай мове па разнастайных дысцыплінах для ВНУ, навучанне ў якіх планавалася цалкам перавесці на беларускую мову; выходзіць новая Беларуская энцыклапедыя ў 18 тамах, дзе прадстаўлена лексіка ўсіх сфер жыцця, дзейнасці, інтарэсаў беларускага грамадства.

## 5.16. МЕТАДЫ ДАСЛЕДАВАННЯ ЛЕКСІКІ

Для вывучэння і навуковага аналізу лексікі, у тым ліку і беларускай, спецыялістамі распрацаваны цэлы шэраг метадаў, або спосабаў, ці прыёмаў яе пазнання (параўн.: ПРОБЛЕМЫ 1973; МЕТОДЫ 1975, і інш.). З улікам найперш часу існавання ці прымянення гэтых метадаў іх можна падзяліць на традыцыйныя (апісальны, супастаўляльны, гістарычны, гістарычна-параўнальны), якія даўно выкарыстоўваюцца ў мовазнаўстве, і сучасныя (квантытатыўны, псіхалінгвістычны,

дыстрыбутыўны, метад кампанентнага аналізу і інш.), што адносна нядаўна прымяняюцца для характарыстыкі і апісання беларускай лексікі.

Апісальны метад служыць найбольш пашыраным у беларускім мовазнаўстве пры даследаванні лексікі і складаецца з такіх прыёмаў, як назіранне, абагульненне, інтэрпрэтацыя, класіфікацыя слоў. Сутнасць назірання зводзіцца да вылучэння найбольш істотных уласцівасцяў таго ці іншага слова; абагульненні часта выступаюць у выглядзе азначэнняў, ці тлумачэнняў, зместу слова; праз інтэрпрэтацыю выяўляюцца ўсе магчымыя якасці слова ў адносінах да іншых слоў; класіфікацыя грунтуецца на размеркаванні слоў па пэўных уласцівых для іх прыкметах. Дадзены метад характарыстыкі лексем рэалізуецца, напрыклад, у тлумачальных слоўніках, дзе выкарыстоўваюцца такія прыёмы раскрыцця лексічнага значэння, як суаднесенасць яго з радавым паняццем, што ўяўляецца знаёмым для ўсіх носьбітаў беларускай мовы (параўн.: *трактат* – 'навуковая праца, у якой разглядаецца якое-небудзь асобнае пытанне ці праблема' і да т.п.), як вынік дзеяння абазначанай словам рэаліі (параўн.: *след* – 'адбітак ступні нагі, капыта, лапы на якой-небудзь паверхні' і да т.п.), як мэта прызначэння якой-небудзь рэаліі, рэчы (параўн.: *трал* – 'вялікая сетка для лоўлі рыбы з суднаў' і да т.п.). У якасці тлумачэння семантыкі слоў шырока выкарыстоўваюцца таксама сінонімы (параўн.: *лядашчы* – 'кволы, хіжы, нядужы, слабы' і да т.п.), антонімы (параўн.: *мінімальны* – 'максімальны' і да т.п.), гіпонімы (параўн.: *нафтапрадукты* – 'прадукты перапрацоўкі нафты, бензін, газа, мазут' і інш.), гіперонімы (параўн.: *падваліна* – 'брус, памост' і да т.п.), тэматычна роднасныя словы (параўн.: *зялёны* – 'адзін з колераў сонечнага спектру, сярэдні паміж жоўтым і блакітным' і інш.). У якасці лінгвістычнага інструменту апісання лексем выкарыстоўваецца метамова, якая выпрацоўваецца з лексічных сродкаў натуральнай беларускай мовы, часта запазычаных, што тэрміналагізуюцца і разам са звычайнай беларускай граматыкай утвараюць гэты інструмент.

Супастаўляльны метад прызначаны праз параўнанне аднаго слова з іншымі выявіць найбольш істотныя падабенствы і адрозненні гэтых слоў. Параўноўваюцца як словы ўнутры адной мовы, так і словы розных моў. Так, пры супастаўленні рускага слова *собака* і беларускага *сабака* выяўляецца, што яны адрозніваюцца сваім граматычным родам (у беларускай мове гэта лексема мужчынскага роду, а ў рускай – жаночага), пры супастаўленні беларускага слова *рыбнік* і чэшскага rybnik зазначаецца, што пры супадзенні гукавога плана выражэння яны адрозніваюцца сваім зместам: у беларускай мове гэта лексема абазначае 'суп з рыбай' або 'работніка рыбнага промыслу', а ў чэшскай – 'сажалка'; у беларускай мове слова *пушча* – гэта 'вялікі лес', а ў славенскай мове – 'поле' і г.д. Акрамя выяўлення спецыфічных рыс слова супастаўляльны метад выкарыстоўваецца для тыпалагічнай класіфікацыі лексікі, як правіла, роднасных моў.

Гістарычны метад ужываецца для фіксацыі і апісання ўсіх тых змен, якія адбыліся ў слове (лексіконе) за пэўны прамежак часу і звычайна прымяняецца ў спалучэнні з супастаўляльным, таму і часцей за ўсё выступае ў форме гістарычна-параўнальнага метаду. Праз гістарычныя параўнанні лексікі беларускай мовы з лексікай іншых моў выяўляецца роднаснасць беларускай мовы як з усімі славянскімі мовамі, так і з усімі мовамі індаеўрапейскай сям'і (параўн.: слова *брат,* якое амаль супадае па форме і цалкам па значэнню ва ўсіх славянскіх мовах, мае падабенства па форме і ідэнтычнае па значэнню з адпаведнымі словамі іншых індаеўрапейскіх моў: літоўскае brólis, нямецкае Bruder, англійскае brother, французскае frère, італьянскае fratello, старажытнаіндыйскае bhrata, лацінскае frater і інш.). Прычым, чым глыбей апускаемся мы ў сутонне гісторыі, тым больш падабенства знаходзім паміж роднаснымі мовамі, якія ў сучасны момант могуць адрознівацца даволі істотна. Праз наяўнасць тоесных лексем мяркуецца, што калісьці ўсе славяне

карысталіся адзінай мовай, якая зараз рэканструіруецца (аднаўляецца) і называецца прамовай. Яшчэ ў 13 ст. ўсходнія славяне карысталіся адзінай літаратурнай мовай, што называлася старажытнарускай, ці ўсходнеславянскай, адкуль у спадчыну дасталося шмат агульных слоў для сучасных беларускай, рускай і ўкраінскай моў.

Сярод сучасных метадаў даследавання беларускай лексікі даволі шырокае выкарыстанне знайшлі квантытатыўныя прыёмы (гл.: ПЛОТНІКАЎ 1975), якія падзяляюцца на колькасныя і статыстычныя. З дапамогай колькасных спосабаў вызначаецца ўжывальнасць лексічных адзінак, на аснове чаго ствараюцца частотныя слоўнікі розных жанраў беларускай мовы (гл.: МАЖЭЙКА, СУПРУН 1976–1992). Выкарыстанне дадзеных частотных слоўнікаў спрыяе аптымізацыі вывучэння моў, бо, напрыклад, на 1000 самых частых слоў, прыпадае прыблізна 8–9 лексем любога звязнага тэксту, таму менавіта на гэтых словах трэба засяроджваць асобую ўвагу пры засваенні лексікі як роднай, так і замежнай моў. Статыстычныя метады прымяняюцца для выяўлення пэўных заканамернасцяў ва ўжыванні лексікі і тычацца масавых выкарыстанняў слоў, грунтуюцца на прымяненні матэматычных формул, з дапамогай якіх выкрываюцца правілы размеркавання лексічных адзінак у мове, вымяраюцца якасныя характарыстыкі лексікі. Напрыклад, статыстычная арганізацыя любога частотнага слоўніка вызначаецца формулай Цыпфа, згодна з якой адносіны паміж рангам слова (парадкавы нумар, або месца слова ў слоўніку, вызначанае паводле частаты выкарыстання адпаведнай лексемы) і непасрэднай частатой яго ўжывання ўтвараюць канстантную (пастаянную, стабільную) велічыню: $r \cdot f = c$, дзе $r$ – ранг слова, $f$ – частата слова, $c$ – пастаянная велічыня. У дадзенай заканамернасці адлюстроўваюцца ўласцівасці лексічнай арганізацыі нашай памяці, якая звычайна аперыруе больш частотнымі лексемамі, што з’яўляюцца, як ужо зазначалася, больш кароткімі, больш простымі па марфалагічнай структуры, больш мнагазначнымі, больш старажытнымі (гл.: ГИРО 1976).

Дыстрыбутыўны метад даследавання лексікі грунтуецца на ўліку размеркавання слоў у тэксце (іх сумеснай сустракальнасці або спалучальнасці). У любых асэнсаваных звязных тэкстах словы размяркоўваюцца не адвольна, не па знарочыстаму намеру аўтара, а па пэўных заканамернасцях, якія маюць і дэтэрміністычны (лагічны, дакладна прадказальны), і, што значна часцей, імавернасны характар. Дэтэрміністычныя сувязі адзначаюцца паміж словамі, звязанымі прамымі граматычнымі адносінамі, напрыклад, дзеяслоў *чытаць* патрабуе каля сябе назоўніка ў вінавальным склоне, але як канкрэтная лексічная адзінка можа спалучацца з мноствам назоўнікаў, прадказаць якія дакладна часта не ўяўляецца магчымым, таму што чытаць можна і часопіс, і газету, і кнігу, і пісьмо, і абвестку, і пратакол, і аповесць, і нататкі, і праграму і г.д., што залежыць ад канкрэтнай знешняй сітуацыі, ад тэмы, а з лінгвістычнага пункту гледжання – ад кантэксту. Дэтэрміністычныя адносіны адзначаюцца таксама паміж канкрэтнымі кампанентамі многіх фразеалагізмаў (параўн.: *храпавіцкага* можна толькі *задаць, пеклеваны* можа быць толькі *хлеб, дамоклаў* – толькі *меч, лахі* спалучаецца толькі са словамі *пад пахі, петрачок* можа быць толькі *лягенькі, бібікі* можна толькі *біць, шэрачка* спалучаецца толькі са словам *машэрачка* і да т.п.). Спецыялісты распрацавалі некалькі разнавіднасцяў дыстрыбутыўнага аналізу моўных адзінак, і ў прыватнасці лексічных. Так, дыстрыбутыўна-трансфармацыйны аналіз тычыцца слоў, якія ўжываюцца ў сінтаксічных канструкцыях, здольных да аднолькавых трансфармацый (перабудоў). Як правіла, словы, што выкарыстоўваюцца ў тоесных сінтаксічных канструкцыях зазначанага тыпу, маюць падабенства ў сваёй семантыцы. Такі аналіз дае магчымасць для аб’ектыўнай тэматычнай (семантычнай) класіфікацыі слоў без непасрэднага ўліку іх дэнататыўнай суаднесенасці (гл.: МІХНЕВІЧ 1976).

Пры выкарыстанні дыстрыбутыўна-статыстычнага метаду даследчыкі зыходзяць або з уліку частаты сумеснай сустракальнасці слоў у тэксце, або са статыстычнага ўліку спалучальнасці лексем. У першым выпадку засведчана, што чым часцей сустракаюцца побач у тэксце адна з адной тыя ці іншыя лексемы, тым мацней паміж імі семантычная сувязь. Так, можна не сумнявацца, што ў адпаведных тэкстах словы *пісьменнік* і *чытач, студэнт* і *сесія, экзамен* і *адзнака* і да т.п. будуць сустракацца побач значна часцей, чым словы, не звязаныя паміж сабой па значэнню, тыпу *плошча* і *яешня, гара* і *рыба, патэльня* і *апавяданне* і да т.п. У другім выпадку, пры даследаванні спалучальнасці лексем, выяўлена, што для тых з іх, якія маюць больш падабенства ў сваёй дыстрыбуцыі (суме спалучальных слоў), адзначаецца і адпаведна гэтаму падабенству большая колькасць агульных рыс у семантыцы зададзеных лексем (гл.: ПЛОТНИКОВ 1979).

Метад кампанентнага аналізу прызначаны для таго, каб у сукупнасці слоў, роднасных па семантыцы, вылучыць мінімальны набор тых прыкмет, з дапамогай якіх адны словы адрозніваюцца паміж сабой, а іншыя, наадварот, лучацца па гэтай прыкмеце ў пэўную групоўку. Прыкметы, праз якія словы адрозніваюцца адно ад аднаго, называюцца дыферэнцыяльнымі, а тыя прыкметы, з дапамогай якіх словы аб'ядноўваюцца, называюцца інтэгральнымі. Адна і тая ж прыкмета здольна быць інтэгральнай і дыферэнцыяльнай у залежнасці ад таго, якія лексемы супастаўляюцца. Так, для слоў *снег, крэйда, малако* і інш. прыкмета 'белы' служыць інтэгральнай, а для згаданых слоў і супастаўленых з імі лексем *сажа, антрацыт, чарназём* і інш. – дыферэнцыяльнай.

Эфектыўнасць, эканомнасць і кампактнасць апісання слоў праз іх семантычныя прыкметы атрымліваецца за кошт таго, што колькасць гэтых прыкмет істотна менш колькасці даследаваных слоў. Напрыклад, зыходны змест кожнага з тэрмінаў роднасці *бацька, маці, дзядзька, цётка, сын, дачка, пляменнік, пляменніца* можа быць прадстаўлена як камбінацыя з усяго трох наступных семантычных кампанентаў (прыкмет) – ступень роднасці, пол, пакаленне. Пры абазначэнні блізкай ступені роднасці праз літару *а*, няблізкай – праз $\bar{a}$, мужчынскага полу – праз *b*, жаночага – праз $\bar{b}$, старэйшага пакалення – праз *c*, малодшага – праз $\bar{c}$, разгортваем значэнне слова *бацька* камбінацыяй семантычных прыкмет *abc*, *маці* – $a\bar{b}c$, *сын* $ab\bar{c}$, *дачка* – $a\bar{b}\bar{c}$, *дзядзька* – $\bar{a}bc$, *цётка* – $\bar{a}bc$, *пляменнік* – $\bar{a}b\bar{c}$, *пляменніца* – $\bar{a}\bar{b}\bar{c}$, г.зн. кожнае з прыведзеных слоў адрозніваецца ад іншага, як мінімум адной якой-небудзь прыкметай (параўн.: *бацька* і *маці, дачка* і *сын*), як максімум, усімі трыма прыкметамі (параўн.: *бацька* і *пляменніца*).

Метад кампанентнага аналізу ў імпліцытным выглядзе выкарыстоўваецца ў і тлумачальных слоўніках пры раскрыцці значэнняў многіх слоў. Напрыклад, лексема *іголка* ў ТСБМ вызначаецца як 'тонкі металічны шпень з завостраным канцом і вушкам для ніткі', дзе пералічваюцца зыходны ахарактарызаваны прадмет 'металічны шпень' і яго часткі (кампаненты) – 'завостраны канец', 'вушка для ніткі'. Спосаб упарадкаванасці (структура) семантычных прыкмет у слове можа ўяўляцца неаднолькава: у выглядзе лінейнага набору (напрыклад, у разгледжаных вышэй тэрмінаў роднасці), у выглядзе іерархічнай структуры, у прыватнасці, у ідэаграфічных слоўніках, у выглядзе дыхатамічных схем (гл.: ПЛОТНИКОВ, ТРАЙКОВСКАЯ 1989). Так, у структуры кожнага знамянальнага слова выдзяляецца план выражэння і план зместу, план выражэння расшчапляецца на лексему (уласна слова) і словаўжыванне, а план зместу – на значэнне і сэнс, г.зн. на ніжэйшым узроўні лексічнай структуры маем адцягненыя кампаненты мовы і канкрэтныя кампаненты маўлення абодвух разгледжаных планаў слова.Такім чынам, дыхатамічная структура слова можа быць прадстаўлена ў выглядзе

наступнай схемы, дзе вылучаныя кампаненты аказваюцца папарна раздзеленымі і іерархічна арганізаванымі:




Сутнасць псіхалінгвістычных метадаў заключаецца ў тым, каб з іх дапамогай апрацаваць усе тыя звесткі пра словы, якія можна атрымаць ад носьбітаў мовы (інфармантаў) шляхам правядзення з імі спецыяльна арганізаваных эксперыментаў. Сярод апошніх для даследавання лексікі найбольш шырокае распаўсюджванне атрымалі асацыятыўныя методыкі, што могуць быць свабоднымі і накіраванымі. Пры свабодным асацыятыўным эксперыменце інфарманты адказваюць у залежнасці ад мэты даследавання на прапанаванае ім слова-стымул або першым усплыўшым у іх свядомасці іншым словам, або шэрагам слоў, якія ўзнікаюць у памяці інфармантаў за пэўны адрэзак часу (напрыклад, на працягу адной мінуты). Адказы інфармантаў рэгіструюцца, апрацоўваюцца і абагульняюцца ў адзін спіс, дзе атрыманыя словы-адказы звычайна размяркоўваюцца па частотнасці іх ужывання рознымі інфармантамі. На падмурку такіх эксперыментаў створаны, у прыватнасці "Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы" (ЦІТОВА 1981).

Накіраваны асацыятыўны эксперымент ужываецца для даследавання пэўных па характару звестак аб зададзеных словах. Напрыклад, пры вывучэнні відаў семантычных сувязяў слова-стымула інфармантам прапаноўваецца назваць ці сінанімічныя, ці антанімічныя, ці тэматычныя, ці іншыя словы, звязаныя са словам-стымулам пазначанымі сувязямі. Вынікі эксперыментаў апрацоўваюцца і ў залежнасці ад пастаўленых задач даследчык выяўляе ланцужкі асацыяцый зыходнага слова. Сіла семантычных (сінанімічных, антанімічных, тэматычных і інш.) сувязяў і ў гэтых выпадках вызначаецца частатой пэўных слоў-рэакцый у адказ на слова-стымул: чым часцей сустракаюцца зазначаныя словы, тым мацней паміж імі семантычная сувязь канкрэтнага тыпу. Накіраваныя асацыятыўныя эксперыменты могуць быць сінтагматычнымі (пры вывучэнні, напрыклад, кола тых слоў, што спалучаюцца са словам-стымулам) і парадыгматычнымі (пры даследаванні неспалучальных тыпаў сістэмных сувязяў дадзенага слова з іншымі словамі). З дапамогай псіхалінгвістычных эксперыментаў раскрываецца характар лексічнай сістэмнасці (гл.: КЛИМЕНКО 1974; СУПРУН 1996, 137–52), вымяраюцца квантытатыўнымі паказчыкамі суадносіны паміж словамі ў межах семантычнага поля (гл.: ПАПЕЙКА 2000, 14–15) і г.д., адкрываецца доступ да такіх семантычных аспектаў слова, якія не падлягаюць аналізу іншымі спосабамі даследавання мовы.

# 6. ФРАЗЕАЛОГІЯ

## 6.1. ПАНЯЦЦЕ ФРАЗЕАЛОГІІ

Асноўныя функцыянальныя адзінкі мовы (фанемы, марфемы, словы, словазлучэнні, сказы) утвараюць розныя яе ўзроўні і адрозніваюцца паміж сабой і якаснымі, і колькаснымі характарыстыкамі. Фанемы з'яўляюцца аднабаковымі адзінкамі, без паняційнага плана зместу, і іх колькасць у любой мове абмежаваная, не перавышае некалькі дзесяткаў (у беларускай мове, напрыклад, 45 фанем). Адзінкі наступнага ўзроўню мовы – марфемы – уяўляюцца ўжо двухбаковымі, маюць план выражэння і план зместу, іх колькасць у любой жывой мове хаця і абмежаваная, але значна вышэй, чым колькасць фанем, налічвае некалькі тысяч розных адзінак, камбінацыямі якіх утвараюцца адзінкі наступнага ўзроўню мовы – словы, або лексемы. Апошнія служаць цэнтральнымі адзінкамі мовы, бо адзінкі ніжэйшых узроўняў (фанемы, марфемы) лучацца ў іх, а адзінкі вышэйшых узроўняў (словазлучэнні, сказы) утвараюцца з іх спалучэнняў. Словы прадстаўляюць сабой, па сутнасці, адкрыты клас двухбаковых адзінак, але так званы асноўны слоўнікавы склад з'яўляецца адносна абмежаваным для кожнага носьбіта мовы і для кожнага пакалення людзей, бо належыць да моўных адзінак, што, як правіла, не ствараюцца пад час маўлення, а ўзнаўляюцца ў ім у якасці элементаў, ужо гатовых да ўжывання.

Адзінкі наступных узроўняў мовы – словазлучэнні і сказы – складаюць адкрытыя класы элементаў, г.зн. бясконцыя, не абмежаваныя ў колькасных адносінах, і ў адрозненне ад адзінак папярэдніх узроўняў мовы не ўзнаўляюцца, а ствараюцца ў залежнасці ад сітуацыі маўлення і намераў прамоўцы па адпаведных правілах спалучэння адзінак ніжэйшых узроўняў.

На памежжы слоў і словазлучэнняў, слоў і сказаў у любой жывой мове ўтвараецца яшчэ адзін такі клас адзінак з не зусім пэўнымі, размытымі межамі, але тым не менш даволі выразны, які мае структурныя ўласцівасці або словазлучэнняў, або сказаў і непадзельны план зместу (гл.: СМИРНИЦКИЙ 1956, 206), што адпавядае зместу асобных слоў. Гэты клас адзінак збліжаецца са словамі яшчэ і тым, што ў адрозненне ад словазлучэнняў і сказаў дадзеныя адзінкі не ствараюцца, а ўзнаўляюцца як гатовыя для выкарыстання кампаненты мовы. Такія кампаненты мовы могуць ужывацца самастойна, калі яны маюць структуру сказа ці выступаюць у ролі выклічнікаў (параўн., адпаведна: *Язык да Кіева давядзе, Чорт з ведзьмай жэніцца і барані бог, Што за чорт* і інш.), але часцей выкарыстоўваюцца ў якасці строевых, будаўнічых кампанентаў сказа, выконваюць у ім пры гэтым адну марфалагічную ці сінтаксічную функцыю, напрыклад, прыметнікавую (параўн.: *Хлопцы зварылі бульбу ў мундзірах, У лесе стаяла хата на курыных ножках* і інш.), прыслоўную (параўн.: *Настаўнік не сумняваўся ні на секунду, Пападзіся ты мне пад гарачую руку* і інш.) і г.д. Зазначаныя адзінкі мовы (*у мундзірах, на курыных ножках, ні на секунду, пад гарачую руку*) называюцца фразеалагізмамі

і іх можна дэфінаваць як узнаўляльныя адзінкі мовы, што маюць структуру словазлучэння ці сказа, але непадзельны план зместу, як правіла, не залежны ад кантэксту свайго ўжывання, даслоўна неперакладальны на іншыя мовы і часта экспрэсіўны (параўн.: ТОМАШЕВСКИЙ 1983, 240).

## 6.2. МЕЖЫ ФРАЗЕАЛОГІІ І ЗЫХОДНАЕ ЧЛЯНЕННЕ ЯЕ АДЗІНАК

Пры арыентацыі на такія прыведзеныя вышэй у дэфініцыі знешнія крытэрыі фразеалагізмаў, як звышслоўнасць і ўзнаўляльнасць, і такія ўнутраныя крытэрыі, як непадзельнасць плана зместу і незалежнасць яго ад кантэксту, да аб'екта вывучэння ў фразеалогіі трэба адносіць вялізны клас разнародных адзінак: і прыказкі, і прымаўкі, і так званыя крылатыя выразы, і цытаты, і састаўныя тэрміны, і афарызмы, і складаныя злучнікі і прыназоўнікі і інш. Усе падобныя ўстойлівыя выразы разглядаюцца ў навуцы многімі спецыялістамі (параўн.: ТЕЛИЯ 1996, 75) як фразеалагічны матэрыял у шырокім сэнсе слова. Больш таго, некаторыя моваведы лічаць фразеалогію як навуку аб словазлучэннях увогуле (параўн.: АНИЧКОВ 1997, 88; КОПЫЛЕНКО, ПОПОВА 1989, 31, і інш.) і не бяруць пры гэтым пад увагу семантычныя паказчыкі, а ўлічваюць толькі знешнюю звышслоўную форму дадзеных моўных адзінак.

Практычныя даследаванні ў навуцы нярэдка апярэджваюць тэорыю, і на сённяшні дзень склаліся або складваюцца дысцыпліны, у межах якіх вывучаюцца пэўныя часткі фразеалагічнага матэрыялу, вызначаны намі як матэрыял у шырокім сэнсе. Найперш гэты матэрыял можна падзяліць на два вялікія класы на аснове фармальнага і адначасова семантычнага паказчыка, што характарызуецца як семантычная паўната ўстойлівага выразу. Пад апошняй разумеецца самастойны або несамастойны статус адпаведнага выразу, што знешне праяўляецца ў афармленні яго ці з дапамогай закончанага сказа, ці выступленне яго толькі ў форме часткі сказа або ў выглядзе рэплікі, дадатку і інш. Калі параўнаем, напрыклад, два ўстойлівыя выразы *Бабка надвое варажыла* і *Ён прачнуўся чуць свет,* то выразна бачна, што першы з іх служыць самастойным выказваннем, другі – толькі часткай выказвання.

Устойлівыя выразы са структурай сказа членяцца папалам на аснове такога крытэрыя, як наяўнасць (вядомасць) іх аўтара або адсутнасць (невядомасць) аўтара. Адсутнасць канкрэтнага аўтара назіраецца ў прыказках, прымаўках, якія пераважна служаць здабыткам усяго народа, а ў навуцы аб'ядноўваюцца тэрмінам *парэмія*. Другую частку ўстойлівых выразаў-сказаў, аўтарамі якіх звычайна з'яўляюцца вядомыя людзі (пісьменнікі, вучоныя, грамадскія і палітычныя дзеячы, прадстаўнікі культуры, мастацтва і інш.), складаюць цытаты, афарызмы, крылатыя выразы [параўн.: *Мой родны кут, як ты мне мілы* Я.Коласа; *Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі* (Я.Купалы) і інш.] і да т.п. Першы тып устойлівых выразаў (прыказкі, прымаўкі) даследуецца ў спецыяльнай дысцыпліне – парэміялогіі (параўн.: ПЕРМЯКОВ 1988; ПАРЕМИОЛОГИЧЕСКИЕ ИССЛЕДОВАНИЯ 1984, і інш.), другі – у афарыстыцы (параўн.: ФЕДОРЕНКО, СОКОЛЬСКАЯ 1990). Прыказкі не заўсёды выразна адрозніваюцца ад прымавак, але ў многіх выпадках крытэрыем для іх члянення можа служыць уласцівасць прыказак мець не прамое, а пераноснае значэнне, абагульнены сэнс, самастойнае меркаванне, пэўнае павучэнне (параўн.: *Вышэй ілба не падскочыш, Чужымі рукамі жар заграбаць* і інш.), у той час як прымаўкі ўжываюцца ў сваім прамым значэнні, не маюць абагульненага

павучальнага сэнсу (параўн.: *Не ў службу, а ў дружбу, чаго няма, таго і хочацца* і інш.; гл.: ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ 1976, 9). Акрамя таго, прыказкі часта ўяўляюцца мастацкімі вобразамі, у якіх гарманічна сумяшчаюцца прамое і пераноснае значэнні адпаведнага выразу (гл.: ЯНКОЎСКІ 1971, 157–159).

Узнаўляльныя выразы, што выступаюць у ролі членаў сказа, г.зн. не з'яўляюцца самастойнымі выказваннямі, у сваю чаргу, падзяляюцца на паўназначныя члены і непаўназначныя. Да першых адносяцца тыя ўстойлівыя словазлучэнні, у склад якіх уваходзяць знамянальныя часціны мовы і якія выконваюць у сказе пэўную граматычную функцыю (параўн.: *падбіты ветрам* – азначэнне, *як на духу* – акалічнасць, *выбівацца з сіл* – выказнік, *белая варона* – дзейнік або дапаўненне і інш.); да другіх – звышслоўныя выразы, што ўтвараюцца часцей за ўсё з удзелам незнамянальных часцін мовы і выконваюць у сказе ці мадальную (параўн.: *так сказаць, хутчэй за ўсё* і інш.), ці выклічнікавую (параўн.: *ну і ну, вось табе і раз* і інш.), ці службовую ролі (параўн.: *у сувязі з, з улікам таго што* і інш.). Сярод першых зазначаных устойлівых словазлучэнняў па прыкмеце наяўнасць / адсутнасць пераноснага значэння выдзяляюцца дзве групы ўзнаўляльных выразаў: уласна фразеалагізмы тыпу *плячысты на жывот, бярозавая каша* і інш. і састаўныя тэрміны тыпу *кропка з коскай, часціна мовы* і інш. Апошнія звышслоўныя адзінкі разам з аднаслоўнымі тэрмінамі складаюць аб'ект даследавання ў спецыяльнай дысцыпліне – тэрміналогіі, якая знаходзіцца на сутоках лінгвістыкі і той навукі, дзе яны ўжываюцца.

Разгледжаны падзел фразеалагічнага матэрыялу на часткі можна прадставіць у выглядзе наступнай схемы.




З прыведзеных звышслоўных выразаў, што складае фразеалагічны матэрыял у шырокім сэнсе, да фразеалогіі ў вузкім сэнсе адносяцца ўстойлівыя словазлучэнні з назвай "уласна фразеалагізмы" і тыя, якія не з'яўляюцца часткамі сказа, а нясуць самастойнае значэнне, выражаюць або пачуцці прамоўцы (параўн.: *авохці мне, чорт з ім* і інш.), або мадальнасць (параўн.: *само сабой зразумела, калі ласка* і інш.). Менавіта фразеалагічны матэрыял у вузкім сэнсе прадстаўлены ў фразеалагічных слоўніках беларускай мовы (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1993), або яе асобных гаворак (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1976; МЯЦЕЛЬСКАЯ, КАМАРОЎСКІ 1972; ЮРЧАНКА 1977, і інш.), або ў мове асобных пісьменнікаў

(гл.: ФРАЗЕАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК 1993) і налічвае ў сваім складзе некалькі тысяч адзінак. Так, у двухтомным Фразеалагічным слоўніку І.Я.Лепешава, напрыклад, занатавана каля 6000 устойлівых выразаў беларускай мовы, столькі ж адзінак зафіксавана і ў Фразеалагічным слоўніку мовы твораў Я.Коласа. Падобныя звышслоўныя адзінкі і вывучаюцца ў мовазнаўстве з семантычнага, граматычнага, ідэаграфічнага, этымалагічнага, стылістычнага і іншых пунктаў гледжання.

## 6.3. СЕМАНТЫЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Адной з галоўных і першасных задач любой навуковай дысцыпліны, што вывучае пэўныя факты, адзінкі, элементы і да т.п., служыць класіфікацыя канкрэтнага матэрыялу. Адзін з заснавальнікаў фразеалогіі, рускі акадэмік В.У.Вінаградаў, прапанаваў класіфікаваць устойлівыя словазлучэнні на тры групы: фразеалагічныя зрашчэнні, фразеалагічныя адзінкі і фразеалагічныя злучэнні (гл.: ВИНОГРАДОВ 1977, 140–161).

У фразеалагічных зрашчэннях іх агульны сэнс не звязаны зусім са значэннямі тых кампанентаў, якія ўваходзяць у іх склад. Напрыклад, сэнс фразеалагізма *лахі пад пахі* непасрэдна не вынікае са значэнняў ні кампанента *лахі,* ні кампанента *пахі*, а выражае паспешлівасць чалавека, вельмі хуткае дзеянне.

У фразеалагічных адзінствах, таксама як і ў фразеалагічных зрашчэннях, назіраецца непадзельны сэнс, аднак ён пэўным чынам матывуецца значэннямі кампанентаў, што ўваходзяць у склад устойлівай адзінкі. Так, у фразеалагізме *да сёмага поту* ‘да стомы, да знямогі‘ агульны сэнс выраза непасрэдна звязваецца са значэннямі сваіх кампанентаў, бо пот, а тым больш сёмы, можа быць у чалавека, як правіла, у выніку напружанай фізічнай працы, якая і прыводзіць да знямогі, або стомы.

Фразеалагічныя злучэнні маюць у сваім складзе кампанент са свабодным значэннем, якое, аднак, абмяжоўваецца значэннем таго кампанента, што спалучаецца з ім і толькі з ім. Так, слова *заплюшчыць* у беларускай мове спалучаецца толькі са словам *вочы.* Апошняе можа свабодна спалучацца з мноствам іншых слоў, але ў выразе *заплюшчыць вочы* страчвае сваё прамое значэнне, а выраз набывае сэнс ‘знарок не звяртаць ніякай увагі на што-небудзь‘.

У дадатак да трох згаданых класаў фразеалагічных адзінак часам далучаюцца і так званыя фразеалагічныя выразы (гл.: ШАНСКИЙ 1985, 62), значэнне якіх з'яўляецца семантычна члянімым, але якія не ствараюцца прамоўцамі, а ўзнаўляюцца імі пад час маўлення ў якасці гатовых адзінак. Так, выраз *прыняць пастанову* з'яўляецца ўзнаўляльным, хаця і складаецца з адзінак, кожнае з якіх мае сваё значэнне і можа сустракацца ў спалучэнні з іншымі словамі (параўн.: *прыняць госця, прыняць на рукі*, *прыняць лекі* і інш.; *абмеркаваць пастанову, пастанова сходу, важная пастанова* і інш.).

Семантычныя і фармальныя крытэрыі, што пакладзены ў аснову выдзялення памянёных класаў фразеалагізмаў, не заўсёды з'яўляюцца даволі выразнымі і прыдатнымі для класіфікацыі ўсяго без выключэння фразеалагічнага складу жывой мовы, таму ў лінгвістыцы назіраюцца спробы стварыць больш адэкватныя, больш гнуткія і больш дэталёвыя класіфікацыі фразеалагічных адзінак як на аснове ўліку значэнняў асобных кампанентаў

устойлівага выразу, так і на падставе агульных значэнняў фразеалагічных адзінак.

Класіфікацыя ўстойлівых спалучэнняў з улікам значэнняў тых кампанентаў, што ўваходзіць у іх склад, грунтуецца на тыпах выражанымі гэтымі кампанентамі значэнняў. Сярод апошніх выдзяляецца пяць тыпаў: два дэнататыўных (прамых) і тры канататыўных (другасных, пераносных; гл.: КОПЫЛЕНКО, ПОПОВА 1972, 40–42). Першы тып дэнататыўнага значэння (Д1) кампанента вынікае з суадносін апошняга з пэўнай рэаліяй (параўн.: нос – частка твара, рукаў – частка вопраткі і інш.). Другі тып дэнататыўнага значэння (Д2) непасрэдна звязаны з першым па падабенству або сумежнасці і не дапускае сваёй замены іншым кампанентам, напрыклад, рукаў (рэчкі), нос (лодкі) і г.д. У адрозненне ад Д1 дадзенае значэнне Д2 вынікае з кантэксту яго ўжывання. Канататыўнае значэнне ўзнікае толькі ў складзе ўстойлівых зваротаў. Першае такое значэнне (К1) матывуецца апасродкавана значэннем суадноснай лексемы, напрыклад, у фразеалагізме *курыная памяць* ‘памяць, як у курэй‘ значэнне кампанента *курыная* звязана пераносным значэннем з дэнататыўным значэннем адпаведнага прыметніка. У адрозненне ад пераноснага значэння Д2 пераноснае значэнне К1 дапускае сваю замену іншым лексічным адпаведнікам, у прыватнасці для дадзенага значэння *курыная* = *дрэнная*. Гэта пераноснае значэнне слова *курыная* праяўляецца толькі ў спалучэнні са словам памяць. Другі від канататыўнага значэння К2 ужо не матывуецца дэнататыўнай семантыкай суадноснай лексемы, лагічна не вынікае з яе. Так, у фразеалагізме *замарыць чарвячка* кампанент *чарвячка* семантычна не звязаны з адпаведным словам чарвячок, якое, аднак, існуе ў мове. Трэці тып канататыўнага значэння К3 выражаецца тымі кампанентамі, у складзе якіх яно толькі і праяўляецца (параўн.: *гульма гуляць, скаліць зубы, задаць храпавіцкага* і да т.п.) і якія не маюць іншых значэнняў акрамя фразеалагічна звязаных, у дадзеным выпадку ў кампанентах *гульма, скаліць, храпавіцкага.*

У залежнасці ад разнастайных камбінацый кампанентаў з ахарактарызаванымі значэннямі ўсе злучэнні, якія складаюцца з двух паўназначных лексем, падзяляюцца ад свабодных, у якіх спалучаюцца лексемы з прамым значэннем па формуле Д1 + Д1 (параўн.: *пісаць пісьмо, дубовы стол, рана прачнуцца* і да т.п.), да рознай ступені ўстойлівасці; максімум гэтай ступені праяўляецца ў спалучэнні кампанентаў са значэннямі К3 і па формуле К3 + К3 (параўн.: *шэрачка з машэрачкай, баш на баш* і інш.), а мінімум зазначанай ступені – у спалучэнні кампанентаў Д1 + Д2 або Д2 + Д1 (параўн.: *навуковы апарат, вольны пераклад* і інш., дзе словы *апарат* і *вольны* ўжываюцца ў значэнні Д2, а *навуковы* і *пераклад* – у значэнні Д1). Разнастайнымі камбінацыямі двухсастаўных кампанентаў са згаданымі значэннямі (двума дэнататыўнымі і трыма канататыўнымі) выражаецца 15 тыпаў розных па ступені ўстойлівасці фразеаспалучэнняў, г.зн. усе тэарэтычна магчымыя камбінацыі без уліку парадку размяшчэння кампанентаў у спалучэннях. Больш складанымі і шматстайнымі атрымліваюцца класіфікацыі фразеалагізмаў, якія складаюцца з трох і болей кампанентаў, бо рознымі камбінацыямі значэнняў апошніх утвараецца некалькі дзесяткаў тыпаў устойлівых словазлучэнняў. Прапанаваны прынцып класіфікацыі даволі складана рэалізаваць у дачыненні да ўсяго фразеалагічнага матэрыялу, таму што выразна адрозніць усе тыпы значэнняў кампанентаў, з якіх складаюцца ўстойлівыя словазлучэнні, не заўсёды магчыма.

## 6.4. ІДЭАГРАФІЧНАЯ, АБО ТЭМАТЫЧНАЯ, КЛАСІФІКАЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Кожная ўзроўневая адзінка мовы выконвае ў ёй пэўную функцыю: фанема – сэнсаадрознівальную, марфема – строевую, або будаўнічую, яна самастойна не ўжываецца, а служыць для стварэння слоў; слова – намінатыўную, ім называюцца ці абазначаюцца рэаліі рэчаіснасці (вонкавыя прадметы, з'явы, прыкметы, а таксама віртуальныя рэаліі, з'явы, прыкметы); сказы – камунікатыўную, з дапамогай сказаў людзі зносяцца паміж сабой. Фразеалагізм як прамежкавая моўная адзінка сумяшчае ў сябе розныя функцыі: можа выкарыстоўвацца і ў намінатыўнай, і ў камунікатыўнай, і ў экспрэсіўнай функцыях. Апошняя функцыя фразеалагізма даволі відавочна прадстаўлена ім ў тых выпадках, калі ён можа замяшчацца іншымі знамянальнымі адзінкамі мовы (словам, словазлучэннем, сказам), якія страчваюць пры гэтым яго экспрэсію (параўн.: *Ён б'е лынды* і *Ён нічога не робіць*; *Мы самі з вусамі* і *Мы не горшыя за іншых; Не хадзі перад ім на задніх лапках* і *Не дагаджай яму* і інш.). Пры выкананні намінатыўнай функцыі фразеалагізмы, як і словы, дапускаюць сваю ідэаграфічную класіфікацыю, размеркаванне па пэўных прадметных тэмах. У дачыненні да слоў падобныя класіфікацыі зроблены да многіх жывых найбольш распаўсюджаных і найбольш лінгвістычна распрацаваных моў, у прыватнасці англійскай (параўн.: ROGET 1964), нямецкай (параўн.: DORNSEIFF 1959), рускай (параўн.: БАРАНОВ 1995).

Што тычыцца фразеалагічнага матэрыялу, то падобныя класіфікацыі зроблены практычна найперш на матэрыяле парэмій як рускай (параўн.: ДАЛЬ 1984), так і беларускай моў (параўн.: ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ 1976; ВЫСЛОЎІ 1979). Для ўласна фразеалагізмаў, ці фразеалагізмаў у вузкім сэнсе, распрацаваны тэарэтычныя прынцыпы тэматычнай класіфікацыі, якія палягаюць у зыходным чляненні ўстойлівых зваротаў на пэўныя паняційныя палі: прадметнасці, узаемадзеяння і руху, стану і адносін, колькасці і якасці (гл.: АКСАМІТАЎ 1978, 102). Пры гэтым фразеалагізмы са значэннем прадметнасці займаюць у тэматычнай класіфікацыі цэнтральнае месца, бо абазначаюць пэўныя рэаліі ці звязваюцца з імі, а астатнія тэмы фразеалагізмаў суадносяцца з тымі або іншымі якасцямі, уласцівасцямі, дзеяннямі адпаведных рэалій. Фразеалагізмы прадметнасці граматычна будуюцца ў асноўным па структурнай схеме "прыметнік + назоўнік" (параўн.: *мядовы месяц, падкалодная змяя* і інш.), "назоўнік + назоўнік" (параўн.: *пуп зямлі, кола гісторыі* і інш.). Фразеалагізмы ўзаемадзеяння і руху абазначаюць розныя віды дзеянняў, адлюстроўваюць сувязі і адносіны паміж як рэальнымі, так і віртуальнымі аб'ектамі, з'явамі, пачуццё чалавека і інш. Дадзеныя ўстойлівыя злучэнні з'яўляюцца, бадай, самымі шматлікімі ў беларускай мове і будуюцца ў асноўным па структурнай схеме "дзеяслоў + назоўнік" (на месцы назоўніка можа быць іншае знамянальнае слова, прыметнік, прыслоўе, займеннік, лічэбнік; дзеяслоў можа звязвацца з гэтымі словамі знамянальных часцін мовы і непасрэдна і з дапамогай прыназоўніка (параўн.: з аднаго боку, *прыкусіць язык, крывіць душой, дрэнна ляжыць*, з другога боку, *таўчыся пад нагамі, гуляць з агнём, круціцца на языку* і да т.п.). Фразеалагізмы стану і адносін выражаюць фізічны і псіхічны стан, паводзіны чалавека (параўн.: *не па сабе, душа гарыць, лезці ў вяроўку* і інш.), а таксама разнастайныя сувязі паміж рэаліямі, адносіны чалавека (часта эмацыянальныя) да сітуацыі (параўн.: *дзе наша не прападала, вось табе і раз* і да т.п.). Фразеалагізмы колькасці і якасці па-рознаму

характарызуюць прадметы, а таксама дзеянні і стан чалавека (параўн.: *ні жывы ні мёртвы, капля ў моры* і інш.).

Кожная з выдзеленых тэматычных груп фразеалагізмаў беларускай мовы дапускае свой падзел на адпаведныя падгрупы, з дапамогай якіх зыходныя тэмы падрабязна дэталізуюцца. Так, фразеалагізмы прадметнасці падзяляюцца на абазначэнні чалавека (параўн.: *гарачая галава, кавалак дурня* і інш.), абазначэнні жывых істот (параўн.: *курыны жаніх, божая кароўка* і інш.), назвы грамадскіх паняццяў (параўн.: *квасны патрыятызм, літара закону* і інш.), найменні прадметаў і з'яў прыроды (параўн.: *броўнаў рух, калядная ноч* і інш.).

Сярод фразеалагізмаў узаемадзеяння вылучаюцца тэматычныя падгрупы, у якіх аб'ядноўваюцца фразеалагізмы разумовага ўзаемадзеяння (параўн.: *абкруціць вакол пальца* і інш.) і эмацыянальнага (параўн.: *аддаць сэрца* і інш.), а таксама працяглага фізічнага ўзаемадзеяння (параўн.: *намяць бакі* і інш.) і аднаразовага (параўн.: *даць здачы* і інш.). Фразеалагізмы руху падзяляюцца на абазначэнні псіхічных змен (параўн.: *галава круціцца* і інш.) і фізіялагічных (параўн.: *кроў ледзянее* і інш.), а таксама вылучаюцца фразеалагізмы, што абазначаюць перамяшчэнне ў прасторы (параўн.: *хадзіць з кута ў кут* і інш.) і аднаактавыя змяшчэнні (параўн.: *праваліцца скрозь зямлю* і інш.).

Тэматычная група фразеалагізмаў стану падзяляецца на падгрупы, звязаныя з абазначэннем разумовай дзейнасці (параўн.: *ламаць галаву* і інш.) і эмацыянальнай (параўн.: *хоць лажыся ды паміраĭ* і інш.), і падгрупы, што нітуюцца з агульным станам (параўн.: *тры чвэрці да смерці* і інш.) і асобным станам (сон, голад і да т.п.; параўн.: *жывот падцягнула* і інш.).

У сувязі з экспрэсіўным значэннем большасці фразеалагізмаў, звязанымі часта з эмоцыямі і пачуццямі чалавека, падзел усіх устойлівых словазлучэнняў на прадметныя тэмы ўяўляецца больш складаным і менш паслядоўным, чым адпаведнае чляненне лексем. Менавіта таму, у адрозненне ад апошніх у галіне фразеалогіі не складзены ідэаграфічныя слоўнікі, дзе б устойлівыя спалучэнні слоў былі падзелены, у прыватнасці, на тыя тэмы, якія разгледжаны намі вышэй.

## 6.5. КЛАСІФІКАЦЫЯ ЎСТОЙЛІВЫХ СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ ПА СТУПЕНІ ФРАЗЕАЛАГІЧНАСЦІ

Пад ступенню фразеалагічнасці разумеецца сіла семантычнай спаянасці паміж кампанентамі ўстойлівых словазлучэнняў, якія ў гэтым плане размяркоўваюцца па шкале ад свабоднага спалучэння слоў да "стопрацэнтнага" фразеалагізма (параўн.: БАЛЛИ 1961, 89), дзе кампаненты семантычна сплаўляюцца ў адну цалкам непадзельную адзінку. Працэс пераходу свабодных словазлучэнняў ва ўстойлівыя называецца фразеалагізацыяй (гл.: ЯНКОЎСКІ 1978, 233) і, зразумела, розныя ўстойлівыя словазлучэнні знаходзяцца на неаднолькавым шляху да сваёй поўнай фразеалагізацыі (гл.: ЛЕВИЦКИЙ 1989, 48). Задача даследчыка палягае ў тым, каб на аснове пэўных лінгвістычных крытэрыяў, што ўжо выкарыстоўваюцца ў мовазнаўстве для характарыстыкі фразеалагізмаў, вымераць ступень семантычнай спаянасці кампанентаў, або ступень фразеалагічнасці, для кожнага канкрэтнага спалучэння. Пры вырашэнні гэтай задачы атрымліваецца гнуткая градуіраваная класіфікацыя ўстойлівых выразаў па ступені іх фразеалагічнасці у залежнасці ад агульнай колькасці выкарыстаных крытэрыяў, прыдатных дадзенаму ўзнаўляльнаму выразу. Чым больш вызначаных крытэрыяў фразеалагічнасці адзначаецца ў складзе пэўнага выразу, тым больш устойлівым ён з'яўляецца і, наадварот, чым менш такіх крытэрыяў характэрна для канкрэтнага выразу, тым

бліжэй ён да свабоднага спалучэння слоў. У якасці найбольш выразных і распаўсюджаных крытэрыяў фразеалагічнасці выкарыстоўваюцца наступныя (гл.: ПЛОТНІКАЎ 1994, 251–258).

1. Даслоўная ўнутрымоўная неперакладальнасць фразеалагізма, што сведчыць пра непадзельнасць яго значэння. Фармальна дадзены крытэрый праяўляецца, у прыватнасці ў фразеалагічных слоўніках, тым, што значэнне таго ці іншага выразу тлумачыцца не адным, а некалькімі словамі ці словазлучэннямі (параўн.: *ламаць рукі* ‘гараваць, плакаць, лямантаваць, быць у роспачы‘ і інш.). Некаторыя ж устойлівыя словазлучэнні падобнага крытэрыя не маюць, бо дапускаюць свой унутрымоўны пераклад з дапамогай аднаго эквівалентнага па сэнсу (а часта і па знешняй форме) свабоднага словазлучэння, прадстаўленага ў адпаведных слоўніках (параўн.: *заўтрашні дзень* ‘блізкая будучыня‘, *малоць лухту* ‘гаварыць глупства‘ і інш.).

2. Наяўнасць у складзе ўстойлівага словазлучэння застарэлага кампанента з забытай семантыкай (такія кампаненты называюцца некрацізмамі і звычайна не фіксуюцца ў слоўніках як самастойныя лексемы (параўн.: *бібікі, лынды, лахі, лясы* і інш.) або нежывых граматычных форм (параўн.: *еле мажаху, абое рабое* і інш.).

3. Граматычная катэгарыяльнасць, яна ўласціва фразеалагізмам, якія выконваюць у сказе функцыю аднаго яго члена (параўн.: *нячыстая сіла* – дзейнік ці дапаўненні, *мецъ рацыю* – выказнік, *скуры ды косці* – азначэнне, *рука ў руку* – акалічнасць і да т.п.). Дадзены крытэрый адсутнічае ў мадальна-выклічнікавых фразеалагізмаў, а таксама ў спалучэннях, дзе назіраецца жывая сінтаксічная сувязь паміж кампанентамі (параўн.: *прыняць абавязацельствы, правілы дарожнага руху* і інш.).

4. Страта фразеалагізмам сваёй унутранай формы, або нематываванасць яго значэння. Адсутнасць у адпаведных выразаў матывацыі, як правіла, сведчыць аб тым, што яны, таксама як і словы са страчанай унутранай формай (параўн.: *агонь, вада, рука* і інш.), адносяцца да старажытных моўных адзінак і што ў кампанентаў такіх адзінак адсутнічае непасрэдная намінатыўная сувязь з тымі рэаліямі, якія суадносяцца з гэтымі кампанентамі. Калі апошнія ўжываюцца ў сваім прамым значэнні ці ў складзе свабодных словазлучэнняў, то сувязь з адпаведнымі рэаліямі захоўваецца. Напрыклад, кампаненты фразеалагізмаў *па чым фунт ліха* ‘цяжкія выпрабаванні‘, *за словам у кішэню не лезе* ‘знаходлівы ў гутарцы, спрэчцы‘, *на сёмым небе* ‘бязмерна шчаслівы‘ не маюць нічога агульнага ні з фунтам, ні з кішэняй, ні з небам, бо выкарыстоўваюцца зусім у іншым звязным значэнні. Адпаведна ў мове не існуюць і суадносныя свабодныя словазлучэнні, у той час як для фразеалагізмаў, дзе захавалася ўнутраная форма, фіксуюцца эквівалентныя па знешняй форме свабодныя словазлучэнні, якія матывуюць пэўным чынам змест устойлівых аманімічных фразеалагізмаў (параўн.: *заварыць кашу, падліваць масла ў агонь, шыта белымі ніткамі* і інш.).

5. Нязменнасць знешняй граматычнай формы ўсіх кампанентаў канкрэтнага фразеалагізма, што сведчыць пра яго ўзнаўляльнасць як адзінкі цалкам гатовай для ўжывання. Дадзены крытэрый назіраецца ў параўнальных зваротах, тыпу *як мага, як след, хоць ваўкоў ганяй* і інш., у фразеалагізмах з дзеепрыслоўямі (параўн.: *сцяўшы зубы, высалупіўшы язык* і да т.п.) і ў іншых адвербіяльных фразеалагізмаў (параўн.: *у віру на калу, у свіныя галасы* і інш.). Змена граматычнай формы адзначаецца ў дзеяслоўных і субстантыўных фразеалагізмаў (параўн.: *даць лазню – дам лазню – далі лазню* і інш.; *залатыя рукі – залатых рук – залатымі рукамі* і інш.), што сведчыць аб наяўнасці жывых сінтаксічных сувязяў паміж кампанентамі такіх зваротаў і адпаведна меншай ступені іх фразеалагічнасці пры супадзенні іншых зададзеных крытэрыяў.

6. Сінтаксічная немадэліруемасць, яна зазначаецца ў тых устойлівых словазлучэнняў, якія ўтвораны па нежывых, ужо на сённяшні стан мовы не дзейсных граматычных мадэлях (параўн.: *адно дзяржыся, дурань дзверы* і інш.). Большасць устойлівых зваротаў беларускай мовы пабудавана па прадукцыйных мадэлях, якія служаць узорам для стварэння мноства словазлучэнняў, тыпу прыметнік + субстантыў у назоўным склоне (параўн.: *дамоклаў меч* і *зялёнае дрэва* і інш.), дзеяслоў + назоўнік у вінавальным склоне (параўн.: *тачыць лясы* і *чытаць кнігу* і інш.) і г.д.

7. Недапушчальнасць устаўкі унутр узнаўляльнага выразу дадатковага кампанента, ужыванне якога б прыводзіла да пашырэння колькаснага складу дадзенага выразу. Не дапускаюць устаўкі звароты с высокай ступенню семантычнай спаянасці сваіх членаў (параўн.: *фіндос пад нос, плячысты на жывот, уздоўж і ўпоперак* і інш.). Устойлівыя выразы, фразеалагізацыя якіх яшчэ не завершана цалкам, могуць пашыраць свой колькасны склад за кошт устаўкі дадатковых слоў, што не разбураюць дадзены фразеалагізм (параўн.: *душу [ на часткі] рваць, ажаніцца з [сырой] зямлёй* і інш.).

8. Немагчымасць сінтаксічнай трансфармацыі выразу. Частка ўстойлівых словазлучэнняў дапускае змену сваёй сінтаксічнай структуры і захоўвае пры гэтым свой зыходны сэнс, што зближае іх са свабоднымі словазлучэннямі і сведчыць пра недастатковую сілу семантычнай спаянасці кампанентаў дадзенага фразеалагізма. Напрыклад, узнаўляльны абарот з дэсемантызаваным дзеясловам *прыняць абавязацельствы* дапускае сінтаксічныя пераўтварэнні тыпу *прынятыя абавязацельствы*; *абавязацельствы, якія прыняты* і інш. з захаваннем зыходнага зместу ў кожнай новай сінтаксічнай канструкцыі. Многія ж фразеалагізмы, пабудаваныя па такой жа граматычнай мадэлі (дзеяслоў + назоўнік у вінавальным склоне, тыпу *заварочваць аглоблі, прыкусіць язык* і інш.) падобных пераўтварэнняў сваёй сінтаксічнай структуры не дапускаюць, бо гэта прывядзе да іх разбурэння.

9. Адсутнасць варыянтнасці (фанетычнай, марфалагічнай, лексічнай, сінтаксічнай) адпаведна ў кампанентах ідыём і ў яе мадэлі. Наяўнасць аднаго з тыпаў згаданай варыянтнасці сведчыць аб тым, што ў пэўнай колькасці выразаў працэс фразеалагізацыі яшчэ не завяршыўся канчаткова, а семантычная крышталізацыя іх у адно цэлае, у непадзельную па змесце адзінку працягваецца. У беларускай мове фанетычныя варыянты адзначаюцца ў фразеалагізмах *ні слыху ні дыху* (параўн.: *ні слуху ні духу*), *за плячамі* (параўн.: *за плячыма*), *легчы касцямі* (параўн.: *легчы касцьмі*) і інш.; марфалагічныя – ва ўстойлівых зваротах *мераць вокам* (параўн.: *мераць вачыма*), *дзякаваць богу* (параўн.: *дзякуй богу*), *з усяе сілы* (параўн.: *з усіх сіл*) і інш.; лексічныя – у абаротах *галава на плячах* (параўн.: *галава на карку*), *гарыць душа* (параўн.: *гарыць нутро*), *скура ды косці* (параўн.: *скура ды рэбры* і інш.); сінтаксічныя – у фразеалагізмах *бокам вылезці* (параўн.: *праз бок вылезці*), *носам к носу* (параўн.: *нос у нос*), *стаяць у вачах* (параўн.: *стаяць перад вачыма*) і інш.

10. Немагчымасць змены ўстаноўленага парадку размяшчэння кампанентаў у складзе ўзнаўляльнага выразу, бо падобная змена вядзе да змены яго сэнсу ці да разбурэння фразеалагізма (гл.: ЯНКОЎСКІ 1981, 41). Так, у ідыёмах *кроў з малаком, хоць лажыся ды памірай* і інш. нельга мяняць месцамі кампаненты, таму што пры іх змене фразеалагізмы страчваюць свой сэнс, перастаюць быць імі. Многія ж ідыёмы наадварот дапускаюць змену парадку размяшчэння сваіх кампанентаў і цалкам захоўваюць свой змест (параўн.: *і грэх і смех / і смех і грэх, бібікі біць / біць бібікі, балець душой / душой балець* і інш.).

У залежнасці ад колькасці прыведзеных крытэрыяў, што можна занатаваць у любых фразеалагізмах беларускай мовы, апошнія размяркоўваюцца

(класіфікуюцца) па ступені семантычнай злітнасці сваіх кампанентаў ад абсалютнага, стопрацэнтнага фразеалагізма, у якога зазначаюцца ўсе пералічаныя паказчыкі (крытэрыі), да ўстойлівага звароту, якому прыдатны толькі адзін крытэрый, што аб'ядноўвае ўсе ўстойлівыя выразы ў клас фразеалагічных адзінак – семантычны зрух або пераасэнсаванне ўсяго выразу ці якога-небудзь яго кампанента.

Напрыклад, самую высокую меру семантычнай спаянасці кампанентаў можна назіраць у фразеалагізме *абое рабое*, у якім адзначаюцца ўсе дзесяць прыведзеных крытэрыяў: ён даслоўна не перакладаецца, не перафразіруецца, яго змест перадаецца ў слоўніку выразамі 'абсалютна аднолькавыя, адны не лепшыя за другіх, адзін не лепшы за другога'; наяўнасць архаічнай граматычнай формы (другі крытэрый) робіць гэты выраз адначасова сінтаксічна немадэліруемым (шосты крытэрый) і сінтаксічна нетрансфарміруемым (восьмы крытэрый); у сказе гэта ўстойлівае словазлучэнне выконвае ролю азначэння ці акалічнасці (трэці крытэрый); у фразеалагізме страчана ўнутраная форма (чацвёрты крытэрый), а яго граматычная форма з'яўляецца нязменнай (пяты крытэрый); ідыёма не дапускае змены свайго колькаснага складу (сёмы крытэрый); яна не вар'іруецца і мае нязменны парадак кампанентаў (дзевяты і дзесяты крытэрыі).

Самую нізкую ступень фразеалагічнасці маюць выразы тыпу *прыняць пастанову*, бо ў апошнім, у прыватнасці, адзначаецца толькі адзін крытэрый – адсутнасць варыянтнасці (дзевяты крытэрый). Усе ж астатнія зазначаныя паказчыкі фразеалагічнасці для дадзенага выразу не прыдатныя: ён дапускае дакладны ўнутрымоўны пераклад (параўн.: 'пастанавіць; прыняць рашэнне'); у яго складзе адсутнічаюць некрацізмы і застарэлыя граматычныя формы; выраз не выступае ў якасці аднаго члена сказа, бо пры сінтаксічным разборы дзеяслоў *прыняць* характарызуецца як выказнік, а назоўнік *пастанова* як прамое дапаўненне; тут не страчана ўнутраная форма. А граматычная форма абодвух кампанентаў-слоў здольна мяняцца (параўн.: *прынялі пастановы* і інш.); выраз пабудаваны па жывой сінтаксічнай мадэлі, дапускае ўнутр сябе ўстаўкі (параўн.: *прыняць важную пастанову* і інш.); парадак слоў у выразе дапускае змены (параўн.: *пастанову неабходна прыняць* і інш.).

Практычна ўсе фразеалагізмы беларускай мовы размяркоўваюцца па ступені сваёй семантычнай злітнасці паміж разгледжанымі тыпамі ўстойлівых выразаў ў залежнасці ад наяўнасці ў кожнага з іх колькасці фразеалагічных крытэрыяў. Напрыклад, ва ўстойлівым звароце *заткнуць за пояс* фіксуецца пяць розных крытэрыяў: ён тлумачыцца выразамі 'перасягнуць, перавысіць у чым-небудзь', або не падлягае аднаслоўнаму ўнутрымоўнаму перакладу: у сказе выконвае ролю выказніка; не дапускае ўнутр сябе дадатковых кампанентаў, не падлягае сінтаксічным трансфармацыям; у яго адсутнічае і фанетычная, і марфалагічная, і лексічная, і сінтаксічная варыянтнасць. У той жа час у прыведзеным выразе не адзначаюцца такія крытэрыі, як наяўнасць некрацізмаў ці застарэлых граматычных форм, захавалася ўнутраная форма, бо паралельна ў беларускай мове існуе ідэнтычнае па форме свабоднае спалучэнне слоў (параўн.: *Гаспадар заткнуў за пояс сякеру і пайшоў у лес* і інш.); граматычная форма кампанентаў можа мяняцца (параўн.: *заткну за пояс, заткне за пояс* і інш.); выраз пабудаваны па жывой сінтаксічнай мадэлі, а кампаненты ў ім могуць мяняцца месцамі. Значыць, разгледжаны фразеалагізм займае прамежкавае месца паміж абсалютнымі ідыёмамі тыпу *абое рабое* і "слабымі" фразеалагізмамі тыпу *прыняць пастанову*. Такім жа чынам можна вызначыць сілу семантычнай спаянасці кампанентаў, або ступень фразеалагічнасці, любога іншага выразу беларускай мовы.

# 6.6. СЕМАНТЫЧНЫЯ ЎЛАСЦІВАСЦІ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Семантычны патэнцыял фразеалагізмаў рэалізуецца ў двух кірунках: сувязь паміж кампанентамі, якая можа быць рознай сілы, што дапускае сваё вымярэнне з дапамогай разгледжаных вышэй крытэрыяў (гэтую семантычную сувязь можна ахарактарызаваць як унутрымоўную); сувязь са знешняй рэаліяй, якасцю, з'явай, што забяспечвае наяўнасць плана зместу адпаведнага фразеалагізма (дадзеная сувязь лучыць устойлівае словазлучэнне з пазамоўнай рэчаіснасцю і збліжае яго са словам, што праяўляецца, напрыклад, у магчымым перакладзе іншамоўных слоў-лакун фразеалагізмамі, тыпу рускі дзеяслоў *отчихвостить* як *даць дыхту*, прыслоўе *вовсю* як *з усіх сіл* і інш.; гл.: РОЎДА 1999, 96). Апошняя сувязь у фразеалагізме мае тэндэнцыю да скіраванасці на адну якую-небудзь рэалію, г.зн. у адрозненне ад агульнаўжывальнага слова, план зместу якога згодна з законам асіметрычнага дуалізму лінгвістычнага знака (гл.: КАРЦЕВСКИЙ 1965) імкнецца суадносіцца больш чым з адной рэаліяй, што прыводзіць да масавай полісеміі такіх слоў, план зместу фразеалагізма часцей за ўсё абмяжоўваецца адным значэннем. Так, у Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы І.Я.Лепешава, які змяшчае ў сябе каля 6000 устойлівых словазлучэнняў, толькі 873 фразеалагізмы, або каля 15%, маюць па два і больш значэнняў, у той час як усе астатнія з'яўляюцца монасемічнымі. У добра распрацаваных тлумачальных слоўніках каля 80% лексем прадстаўлены як полісемічныя (гл.: БУДАГОВ 1974, 117). Такім чынам, у адносінах да мнагазначнасці план зместу лексем і план зместу фразеалагізмаў мае рознанакіраваныя тэндэнцыі: у першам выпадку – да полісеміі, у другім – да монасеміі.

У адносінах да такой семантычнай з'явы, як аманімія, таксама назіраюцца істотныя адрозненні паміж лексемамі і фразеалагізмамі. У слоўнікавым складзе мовы, асабліва сярод уласных імёнаў, аманімія літаральна віруе (напрыклад, імёны *Алесь, Алёна* і інш. могуць звязвацца з адкрытым мноствам розных асоб), тады як сярод фразеалагізмаў аманімія сустракаецца вельмі рэдка (параўн.: *аддаць канцы* 1)*адплысці, 2) памерці* і інш.).

Сінанімія і антанімія ў аднолькавай ступені прыдатныя і для слоў, і для фразеалагізмаў. Так, для слова *ашукаць* у Слоўніку сінонімаў беларускай мовы (гл.: КЛЫШКА 1993) прадстаўлена 29 лексічных сінонімаў, а для фразеалагізма *абвесці вакол пальца* ў Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1993) – 30 фразеалагічных сінонімаў. Аднак калі сярод сінонімаў беларускай мовы дадзеныя адзінкі (словы і фразеалагізмы) утвараюць часта суцэльны сінанімічны блок (параўн.: *забыць, запамятаваць, выкінуць з галавы; набіць, пабіць, аддубасіць, адхадзіць, намацаць бакі, палічыць рэбры, даць лупцоўку* і інш.), то ў лексікаграфічнай практыцы словы-антонімы могуць не супрацьпастаўляцца фразеалагізмам (гл.: ЛАЗОЎСКІ 1994).

Характар сінанімічных сувязяў паміж словамі адрозніваецца ад характару сінанімічных адносін паміж фразеалагізмамі тым, што лексічныя адзінкі ў складзе сінанімічнага рада ці блока часта градуіруюць адпаведную знешнюю прыкмету па сіле, ці інтэнсіўнасці яе праяўлення (параўн., напрыклад, сінанімічны рад, што выражае громкасць гука па ступені яе праяўлення: *голасна – гучна – гарласта – грымотна – аглушальна* і інш.), тады як большасць фразеалагічных сінонімаў, экспрэсіўныя па сваёй прыродзе, толькі па-рознаму могуць матываваць адпаведную знешнюю з'яву, але не выражаюць пры гэтым розную ступень яе праяўлення (параўн.: устойлівыя словазлучэнні *разяўляць рот, разводзіць рукамі, не верыць сваім вушам, вочы на лоб лезуць*, бадай, з аднолькавай экспрэсіўнай сілай абазначаюць пачуццё здзіўлення). Сукупнасці фразеалагічных сінонімаў, суадносных з пэўнай якасцю і супрацьпастаўленых па сэнсу, г.зн. антанімічныя

паміж сабой, звычайна не размяркоўваюцца па ўсёй шкале дадзенай якасці (што часта назіраецца ў лексічных адзінках), а групуюцца пераважна на супрацьлеглых полюсах пэўнай шкалы. Так, паняцце хуткасці ў беларускай мове, з аднаго боку, выражаецца фразеалагізмамі *як га, аж пыл курэў, як апантаны, на ўсе ногі* і інш., з другога – *ледзве ногі валочыць, як на заўтра трэба, як мокрае гарыць, нага за нагу* і інш.

Значная частка фразеалагізмаў, таксама як і мноства слоў, захавала ў сваёй семантыцы ўнутраную форму, якая розніцца ад лексічнай унутранай формы і па знешніх, і па сэнсавых уласцівасцях. Знешне ўнутраная форма слова матывуе яго значэнне прыкметай, што кладзецца ў назву адпаведнай рэаліі (параўн.: *пешаход* 'той, хто ідзе пешкам', *землякоп* 'той, хто капае зямлю' і інш.), прычым унутраная форма слова можа складаць ядро яго лексічнага значэння, як у прыведзеных прыкладах, а можа знаходзіцца і на яго перыферыі, займаць маргінальнае месца ў семантычнай структуры слова (параўн.: *завочнік* 'студэнт, які вучыцца без адрыву ад вытворчасці'), ці нават, хаця і даволі рэдка, уступаць з ім у супярэчнасць (параўн.: *Навагрудак* – назва аднаго са старажытнейшых беларускіх гарадоў і *Наваполацк* – назва аднаго з нядаўна ўзнікшых гарадоў Беларусі). Унутраная форма слова, як частка значэння апошняга, у большасці выпадкаў мірна суіснуе з іншымі кампанентамі лексічнай семантыкі. Ва ўсіх фразеалагізмах, дзе захавалася матывацыя (у форме паралельнага існавання тоеснага свабоднага спалучэння слоў), унутраная форма, як правіла, уступае ў канфлікт з іх значэннем, што добра відаць пры накладанні фразеалагізмаў на аманімічныя свабодныя спалучэнні слоў (параўн.: *прыкусіць язык, гладзіць па галоўцы, браць быка за рогі* і інш.). Дзякуючы супярэчнасці этымалагічнага і актуальнага значэнняў фразеалагізма звычайна і ўтвараецца экспрэсіўны сродак моўнага выражэння (гл.: ЖУКОВ 1978, 9).

Значэнне слова амаль заўсёды абумоўліваецца кантэкстам, дэтэрмінуецца ім, з'яўляецца сітуацыйна звязаным. Значэнне ж фразеалагізмаў у большасці выпадкаў іх ужывання практычна не залежыць ад кантэксту, які, аднак, дапамагае размяжоўваць фразеалагізм і суадноснае свабоднае словазлучэнне (параўн.: выраз Я. Коласа *А падпіўшым людзям і мора па калена* і сказ *Каля берага было дзецям мора па калена* і інш.), а ў адносна рэдкіх выпадках фразеалагічнай полісеміі адрозніваць яе (параўн.: *язык высалупіўшы* ў сказах *Бегчы язык высалупіўшы* 'вельмі хутка' і *Цягнуць язык высалупіўшы* 'з усіх сіл, не шкадуючы сіл' і інш.).

Большасць кампанентаў у складзе фразеалагізмаў суадносна з лексічнымі адзінкамі (выключэнне складаюць толькі некрацізмы) і ўжываюцца ў свабодных спалучэннях слоў, могуць быць пры гэтым полісемічнымі. Так, слова *кола* за межамі ўстойлівых выразаў тыпу *кола гісторыі* і інш., па даных Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы мае дзевяць розных значэнняў. Аднак у звязным значэнні падобныя лексічныя адзінкі могуць цалкам страчваць сваю семантыку (параўн.: *крывое кола* 'пра ўпартага чалавека' і інш.), а могуць і ў рознай ступені матываваць адпаведнае ўстойлівае словазлучэнне, скіроўваць яго на выражэнне або пэўнага паняцця, або пэўнай тэмы. Так, наяўнасць у складзе фразеалагізма тэмпаральнай лексемы тыпу *дзень, год, век, час* і інш., як правіла, звязана з яго абазначэннем тых або іншых часавых паняццяў і адносін (параўн.: *і дзень і ноч* 'увесь час'; *учарашні дзень* 'тое, што прайшло, мінулае'; *без году тыдзень* 'зусім нядаўна, на працягу кароткага тэрміну'; *мафусаілаў век* 'вельмі доўгае жыццё' і інш.). Наяўнасць у складзе ўстойлівага выразу найменняў асобы часцей за ўсё сведчыць пра тое, што значэнне дадзенага выразу мае адносіны да чалавека, яго якасцяў, здольнасцяў і г.д. (параўн.: *і цар і бог і воінскі начальнік* 'самае галоўнае, адзінае начальства', *свой брат*

‘чалавек блізкі поглядамі, роўны становішчам‘, *ні сват ні брат* ‘зусім чужы чалавек‘ і інш.; гл.: ПАРАСКЕВІЧ 1984, 101).

Наяўнасць жа кампанентаў іншых тэматычных груп у складзе фразеалагізмаў можа не мець ніякіх дачыненняў да яго значэння, не матываваць яго або матываваць ускосна, аддалена (гл.: КОВАЛЬ 1999, 25). Напрыклад, найменні жывёл, дэманаў, частак цела і інш. часцей за ўсё не лучаць адпаведныя фразеалагізмы з суадноснымі паняццямі і тэмамі (параўн.: *воўк у лесе здох* ‘здарылася нешта неспадзяванае‘, *кату па пяту* ‘вельмі малы‘, *галава два вухі* ‘нездагадлівы чалавек‘, *даваць лейцы ў рукі* ‘ставіць каго-небудзь на кіраўнічую пасаду‘, *як перад богам* ‘вельмі шчыра‘ і інш.).

Такім чынам, па сваіх фармальных і семантычных уласцівасцях фразеалагізмы займаюць прамежкавае месца паміж свабодным словазлучэннем і словам у іерархічнай будове мовы. Са словазлучэннем фразеалагізм мае агульнае сваёй знешняй структурай, а са словам – сваім планам зместу, непадзельнасць якога служыць, аднак, у адрозненне ад слова, неаднолькавай у розных фразеалагізмаў, што залежыць ад ступені семантычнай спаянасці іх кампанентаў.

## 6.7. ГРАМАТЫЧНЫЯ ЎЛАСЦІВАСЦІ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Пераважная большасць устойлівых словазлучэнняў беларускай мовы будуецца па мадэлях жывых сінтаксічных канструкцый, што запаўняюцца рознымі лексемамі, як правіла, з пераасэнсаваным значэннем (гл.: ЯНКОЎСКІ 1967, 11) або дэсемантызаванымі кампанентамі. Месцы падобных лексем і кампанентаў могуць займаць незнамянальныя словы (параўн.: *што да чаго, калі што якое, ні з таго ні з сяго, ну і ну* і інш.), незнамянальныя словы разам са знамянальнымі (параўн.: *пад кіпець, у хвасце, на які чорт, на якую трасцу* і інш.), шматстайныя знамянальныя словы (параўн.: *ставіць пытанне рубам, нуль увагі, шалёная муха ўкусіла* і інш.).

Некаторыя беларускія ідыёмы пабудаваны па нежывых сінтаксічных мадэлях, якія зараз уяўляюць сабой застыўшую граматычную з’яву і па якіх не ўтвараюцца свабодныя спалучэнні слоў (параўн.: *чаму не, з боку прыпёку, у свет вочы* і інш.).

Асноўная частка фразеалагізмаў беларускай мовы грунтуецца на сінтаксічных канструкцыях, што служаць прадуктыўнымі і для стварэння разнастайных спалучэнняў слоў з незвязаным значэннем (параўн.: *кроў з малаком* і *хлеб з маслам*, *ставіць на карту* і *класці на спіну*, *развязаць вочы* і *зламаць аловак*, *мышыны жарэбчык* і *гарачае сонца*, *соль зямлі* і *крыло птушкі* і інш.). Адрозненне паміж фразеалагізмамі і адпаведнымі свабоднымі спалучэннямі з граматычнага пункту гледжання палягае ў тым, што першыя адыгрываюць у сказе ролю аднаго яго члена, а другія раскладаюцца на асобныя члены сказа з рознымі сінтаксічнымі функцыямі.

У залежнасці ад сваёй граматычнай ролі ўстойлівыя словазлучэнні падзяляюцца (класіфікуюцца) на наступныя групы, кожная з якіх суадносіцца з пэўнай часцінай мовы, што выконвае ў складзе сказа канкрэтную сінтаксічную ролю.

1. Субстантыўныя (назоўнікавыя) фразеалагізмы суадносяцца з катэгарыяльным граматычным значэннем назоўніка і выконваюць у сказе або функцыю дзейніка (параўн.: *наступіла бабіна лета, кола гісторыі не залежыць ад волі чалавека* і інш.), або функцыю дапаўнення (параўн.: *вітаць зорак першай велічыні, сустрэць блуднага сына* і інш.). У беларускай мове каля 40% назоўнікавых фразеалагізмаў абазначаюць асобу (гл.: ДАНІЛОВІЧ 1991, 16),

параўн.: *пусты млын* 'балбатун', *саламяная ўдава* 'жанчына, якая часова засталася без мужа або афіцыйна не мела яго', *кум каралю* 'свабодны, ні ад каго не залежны' і інш. Найбольш шматлікую групу субстантыўных фразеалагізмаў складаюць словазлучэнні, што будуюцца па мадэлі "прыметнік + назоўнік" (параўн.: *доўгая песня, важная птушка, кракадзілавы слёзы* і інш.). Пераважная колькасць назоўнікавых фразеалагізмаў выступае ў форме адзіночнага ліку, некаторыя з іх маюць аднародавую характарыстыку (параўн.: *мамчына дачка, ваш брат, наша сястра* і інш.), а некаторыя могуць ужывацца як у дачыненні да асоб жаночага, так і мужчынскага полу (параўн.: *глухая цяцера, медны лоб, белая варона* і інш.).

2. Ад'ектыўныя (прыметнікавыя) фразеалагізмы абазначаюць пэўную якасць асобы ці радзей прадмета, выконваюць у сказе або функцыю азначэння, або функцыю іменнага выказніка, адказваюць на пытанне *які* ? (параўн.: *ні жывы ні мёртвы, востры на язык* і інш.). Цэнтральным кампанентам у ад'ектыўных фразеалагізмаў можа быць прыметнік ці іншае слова з атрыбутыўным значэннем (параўн.: *цяжкі на пад'ём, падбіты ветрам* і інш.), дзеяслоў (уключна з залежнымі ад яго словамі), параўн.: *ні мычыць ні целіцца, вады не замуціць* і інш.; субстантыў (назоўнік ці займеннік), параўн.: *з мухамі ў носе, сам не ў сабе* і інш. Дадзеныя фразеалагізмы будуюцца па розных граматычных мадэлях, найчасцейшымі з якіх служаць "назоўнік+прыназоўнік+назоўнік" (параўн.:*вецер у галаве, курам на смех* і інш.), "прыметнік+назоўнік" (параўн.: *высокай пробы,чыстай вады* і інш.), "назоўнік+дзеяслоў" (параўн.: *вады не замуціць, лыка не вяжа* і інш.), структура са словам *як* (параўн.: *як горкая рэдзька, як індык* і інш.).

3. Вербальныя (дзеяслоўныя) фразеалагізмы марфалагічна звязаны ў сказе з дзеясловам і адыгрываюць сінтаксічную ролю выказніка, аб'ядноўваюцца агульным значэннем дзеяння (параўн.: *залiваць вочы, шукаць ветру ў полі* і інш.). На гэтыя ўстойлівыя звароты прыпадае каля 30% усіх фразеалагізмаў беларускай мовы, г.зн. яны з'яўляюцца самымі шматлікімі. У пераважнай большасці стрыжнёвым кампанентам падобных фразеалагізмаў служыць дзеяслоў, але зрэдку ён можа адсутнічаць, бо адпаведны марфалагічны паказчык не характэрны для фразеалагізмаў тыпу *на бакавую* 'лажыцца спаць', *ні ў якую* 'не пагаджацца' і інш. Найбольш тыповымі сінтаксічнымі мадэлямі для дзеяслоўных фразеалагізмаў служыць сінтаксічная канструкцыя тыпу "дзеяслоў +назоўнік" (з прыназоўнікам; параўн.: *налажыць лапу, матаць на вус* і інш.), "прыслоўе+дзеяслоў" (параўн.: *ходырам хадзіць, біцца на смерць* і інш.).

4. Адвербіяльныя (прыслоўныя) фразеалагізмы абазначаюць прыкмету дзеяння і адыгрываюць у сказе сінтаксічную ролю акалічнасці (параўн.: *сцяўшы зубы, у свой час* і інш.). Як і прыслоўі, адвербіяльныя фразеалагізмы могуць абазначаць якасць (параўн.: *душа ў душу, як кот з сабакай* і інш.), колькасць (параўн.: *куры не клююць* 'шмат', *з пятае на дзесятае* 'збольшага' і інш.), спосаб дзеяння (параўн.: *на сваіх двух, усімі праўдамі і няпраўдамі* і інш.), а таксама месца, час, прычыну і мэту дзеяння (параўн.: *за трыдзевяць зямель, чуць свет, з лёгкай рукі, на злосць* і інш.). Найбольш тыповымі сінтаксічнымі мадэлямі адвербіяльных фразеалагізмаў служаць "назоўнік+(прыназоўнік)+ назоўнік" (параўн.: *следам за дзедам, лахі пад пахі* і інш.), "прыназоўнік+ назоўнік+назоўнік" (параўн.: *за панюх табакі, у момант вока* і інш.), "дзеепрыслоўе+назоўнік" (параўн.: *язык высалапіўшы* і інш.), "прыметнік+ назоўнік" (параўн.: *святым духам* і інш.), канструкцыі са злучнікамі хоць і *як* (параўн.: *хоць гаць гаці, як хваробе кашаль* і інш.).

5. Прэдыкатыўныя фразеалагізмы марфалагічна суадносяцца з катэгорыяй стану і ў сказе адыгрываюць ролю прэдыкатыва, які ўзаемазвязаны з вербальнымі, ад'ектыўнымі і адвербіяльнымі функцыямі (параўн.: *не па Сеньцы шапка, яблыку*

*недзе ўпасць* і інш.). Дадзеныя фразеалагізмы будуюцца або па розных сінтаксічных мадэлях спалучэння слоў (параўн.: *не вялікая штука, ні душы, адна трасца* і інш.), або па мадэлях сказаў (параўн.: *Глядзець няма на што, Гарматай не праб'еш* і інш.). Вылучэнне прэдыкатыўных фразеалагізмаў у асобны клас не з'яўляецца агульнапрынятым, таму што ў іх адсутнічаюць выразныя фармальныя паказчыкі, наяўнымі служаць пераважна семантычныя крытэрыі, звязаныя з прыкметай стану. Непрацэсуальнай прэдыкатыўнай прыкметай.

6. Мадальна-выклічнікавыя фразеалагізмы выражаюць або адносіны прамоўцы да зместу выказвання, або непасрэдныя пачуцці і волевыяўленні таго, хто гаворыць. Аб'ядноўвае гэтыя фразеалагізмы тое, што яны не з'яўляюцца членамі сказа, займаюць у ім адасобленае месца і выдзяляюцца пры гэтым знакамі прыпынку. У мадальных фразеалагізмах адзначаюцца такія адносіны прамоўцы да выказвання, як эмацыянальныя (параўн.: *таго і глядзі, дзякуй богу* і інш.); у іх фіксуецца ступень упэўненасці прамоўцы ў рэальнасці сказанага (параўн.: *верагодней за ўсё, само сабой зразумела* і інш.), звароты да субяседніка (параўн.: *будзь добры, калі ласка* і інш.), крыніцы інфармацыі (параўн.: *як кажуць, на думку каго-небудзь* і інш.). Выклічнікавыя фразеалагізмы выражаюць непасрэдныя эмоцыі і станоўчага, і негатыўнага характару (параўн.: *у добры час, хлеб ды соль, рукі прэч, барані бог* і інш.).

Паміж парнымі членамі фразеалагізмаў, утвораных са знамянальных слоў, гэтаксама як і паміж лексемамі ў свабодных словазлучэннях, адзначаюцца тры віды залежнасці (гл.: АРХАНГЕЛЬСКИЙ 1964, 110): 1) дэтэрмінацыя – адзін член устойлівага спалучэння прадвызначае з'яўленне другога, яго форму (параўн.: *цягнуць лямку, спачываць на лаўрах, нячысты дух* і інш.); 2) сумяшчэнне – кожны член з'яўляецца незалежным, не прадвызначае з'яўленне другога (параўн.: *след прастыў, асіна плача* і інш.); 3) узаемазалежнасць – абодва члены прадказваюць адзін аднаго, з'яўляюцца ўзаемазвязанымі (параўн.: *ні бэ ні мэ, і смех і грэх* і інш.). У адрозненне ад свабодных спалучэнняў, дзе граматычна залежнае слова дэтэрмінуецца тым словам, якому яно падпарадкоўваецца, сярод членаў фразеалагізма дэтэрмінантам можа выступаць граматычна залежнае слова ў тых выпадках, калі яно прадказвае з'яўленне граматычна галоўнага кампанента (параўн.: *даваць лататы, шарашкіна кантора* і інш., дзе словы *лататы* і *шарашкіна* з'яўляюцца фразеалагічна звязанымі і патрабуюць свайго ўжывання толькі ў спалучэнні са словамі *даваць* і *кантора*, хаця апошнія і кіруюць імі граматычна).

## 6.8. СТРАТЫФІКАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ ПАВОДЛЕ ПАХОДЖАННЯ І СТЫЛЯЎ

Фразеалагічны склад беларускай мовы фарміраваўся на працягу стагоддзяў рознымі спосабамі і на аснове шматлікіх крыніц, асноўны пласт устойлівых словазлучэнняў складаюць спрадвечна беларускія выразы (гл.: ЯНКОЎСКІ 1981, 52), якія з'яўляюцца або ўласна беларускімі (параўн.: *біць бібікі, шалёная муха ўкусіла* і інш.), або агульнаўсходнеславянскімі (параўн.: *кульгаць на абедзве нагі, глухая цяцера* і інш.), або агульнаславянскімі (параўн.: *бабіна лета, як з вядра* і інш.). Частка фразеалагізмаў з'яўляецца агульнай для беларускай і адной з суседніх славянскіх моў (параўн.: беларускі і рускі выразы *гол як сакол, самі з вусамі* і інш.; беларускі і ўкраінскі фразеалагізмы *калі ласка, хоць гвалт крычы* і інш.; беларускі і польскі звароты *як пілiп з канапель, ад шчырага сэрца* і інш.; гл.: ЛЕПЕШАЎ 1993).

Даволі шматлікі пласт фразеалагізмаў складаюць запазычанні з розных славянскіх моў і з моў заходнееўрапейскіх (параўн.: СОЛОДУХО 1982). Першая крыніца прадстаўлена перадусім стараславянскай мовай, на якую перакладзены

біблейскія тэксты, што былі напачатку, бадай, адзіным пісьмовым донарам фразеалагізмаў для многіх еўрапейскіх моў, у тым ліку і для беларускай (параўн.: *царства нябеснае, раб божы, святая святых* і інш.). З іншых славянскіх моў найбольш прыкметнымі служаць запазычанні з суседніх рускай (параўн.: *казанская сірата, усім мірам* і інш.), украінскай (параўн.: *даць гарбуз, збіць з панталыку* і інш.), польскай (параўн.: *відаць пана па халявах, даць дыхту* і інш.) моў.

Другая крыніца, адкуль сілкуецца беларуская фразеалогія, прадстаўлена непасрэдна мёртвай лацінскай мовай (параўн.: *персона нон грата, гомо сапіенс* і інш.), таксама калькамі з грэчаскай, лацінскай і іншых еўрапейскіх моў, з якіх звычайна запазычваюцца структурныя схемы і вобразная аснова фразеалагізмаў, запоўненая ўласна беларускімі кампанентамі (параўн.: з грэчаскай – *агнём і мячом, лебядзіная песня* і інш.; з лацінскай – *зачараванае кола, святая прастата* і інш.; з французскай – *мець зуб, гарматнае мяса* і інш.; з нямецкай – *ламаць галаву, вось дзе сабака закапана* і інш.; з іспанскай – *пятая калона, рыцар журботнага вобраза* і інш.; з італьянскай – *камедыя закончана* і інш.; з англійскай – *халодная вайна* і інш.).

Агульнанародная фразеалогія беларускай мовы (гл.: СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1984, 76–77) уключае ў свой склад устойлівыя выразы, якія паходзяць з розных дыялектаў і гаворак (гл.: ЮРЧАНКА 1972; ЮРЧАНКА 1974; ЯНКОЎСКІ 1968; параўн.: *на свой капыл, хоць заліся* і інш.), фальклору (параўн.: *у трыдзевятым царстве, казка пра белага бычка* і інш.), кніжных крыніц (параўн.: *спісаць у тыраж, залаты цялец* і інш.), а таксама з твораў асобных пісьменнікаў (параўн.: *свінтус грандыёзус* К.Крапівы, *расперазаць бруха* В.Дуніна-Марцінкевіча, *людзьмі звацца* Я.Купалы, *мой родны кут* Я.Коласа і інш.; гл.: ЛЕПЕШАЎ 1976; ЦІКОЦКІ 1995, 92–93).

Фразеалагізмы, якія выкарыстоўваюцца ва ўсіх моўных стылях і без выразных экспрэсіўных і эмацыянальных ацэнак, адносяцца да агульнаўжывальных, нейтральных выразаў (параўн.: *даць слова, стаць на ногі* і інш.). Устойлівыя выразы, якія ўжываюцца пераважна ў пісьмовай мове і, як правіла, з пазітыўнай ці ўзнёслай ацэнкай, належаць да кніжнай фразеалогіі (параўн.: *выйсці ў людзі, краевугольны камень* і інш.). Размоўную фразеалогію складаюць выразы, якія ўжываюцца ў вуснай мове часцей за ўсё з адмоўным адценнем (асуджэнне, іронія, пагардлівасць і г.д.; параўн.: *даць дуба, сушыць мазгі* і інш.). Сярод размоўных фразеалагізмаў выдзяляюцца прастамоўныя (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1984, 48), якія часта маюць грубаватую, зніжаную афарбоўку (параўн.: *гад печаны, сукін сын, адна трасца* і інш.) і ўжываюцца як у вусным маўленні, так і ў мастацкіх творах, звычайна ў мове асобных персанажаў.

Пісьмовымі фразеаграфічнымі крыніцамі ўстойлівых выразаў беларускай мовы служаць як агульналітаратурныя тлумачальныя і перакладныя слоўнікі, так і спецыяльныя слоўнікі, дзе сабраны і тлумачацца і дыялектныя, і агульнанародныя, і кніжныя, і інтэрнацыянальныя ўстойлівыя выразы, а таксама фразеалагізмы, ўжытыя ў творах асобных пісьменнікаў.

# 7. ФАНЕТЫКА. ФАНАЛОГІЯ

## 7.1. АБ'ЕКТ ФАНЕТЫКІ І ЯЕ АСНОЎНЫЯ ДЫСЦЫПЛІНЫ

У аснове абодвух беларускіх лінгвістычных тэрмінаў ляжыць грэчаскі лексічны кампанент, які кірыліцай перадаецца словам *фон,* што значыць гук, голас, тон, або найменні дысцыплін *фанетыка* і *фаналогія* матывуюцца адпаведным перакладам з грэчаскай мовы, ужывальным у большасці еўрапейскіх моў для назвы навук аб гукавой форме мовы.

Значыць, прадметам вывучэння дадзеных навук служыць менавіта гукавая матэрыя мовы, яе зыходны прыроджаны план выражэння, бо пісьмовая форма з'яўляецца другаснай, часцей за ўсё вытворнай ад гукавой для моў з літарным алфавітам. Знешняе фармальнае падабенства згаданых лінгвістычных тэрмінаў у дадзеным выпадку вынікае з еднасці аб'екта даследавання, які, аднак, у сучасным мовазнаўстве разглядаецца з двух бакоў, або аспектаў, пунктаў гледжання: маўлення і мовы. У нашай маўленчай дзейнасці (акты гаварэння і яго ўспрымання) вылучаецца ўласна маўленне, ці канкрэтныя, успрымальныя нашымі органамі пачуццяў гукі чалавечага голасу, і мова, ці адцягненая, абагульненая з'ява, якая ўяўляе сабой разумовы канструкт і аб'ядноўвае (сінтэзуе) у сябе ўсе тыя стабільныя, канстантныя рысы, што паўтараюцца ў бясконцых актах маўлення, і, такім чынам, лучыць іх, нягледзячы на індывідуальны і непаўторны характар кожнага акту, у сацыяльна значымыя, зразумелыя для ўсіх носьбітаў пэўнай мовы, адзінкі.

Фанетыка – гэта навука аб гуках маўлення, а фаналогія – навука аб гуках мовы. Фанетыка вывучае вонкавую членападзельную гукавую матэрыю маўлення, яго дыскрэтныя кампаненты, іх акустычныя і артыкуляцыйныя характарыстыкі, асаблівасці і правілы спалучэння выдзеленых кампанентаў, прасадычныя (націск, мелодыка, інтанацыя, тон і інш.) уласцівасці гукаў і гукавых ланцужкоў маўлення. Фаналогія ж даследуе суадносныя з гукамі чалавечага голаса, але ўжо абстрактныя, адцягненыя мінімальныя адзінкі мовы, якія называюцца фанемамі і характарызуюцца з пункту гледжання тых функцый, што выконваюцца імі ў мове. Так, найбольш частотны гук беларускай мовы *а*, на яго прыпадае амаль кожны пяты гук нашага маўлення (гл.: КРЫВІЦКІ, ПАДЛУЖНЫ 1984, 21), пры выкарыстанні асобным носьбітам мовы характарызуецца бясконцымі і разнастайнымі індывідуальнымі нюансамі свайго вымаўлення ў залежнасці як ад сваёй пазіцыі ў слове (націскны ці ненаціскны, пачатак, сярэдзіна ці канец слова, акружэнне іншымі гукамі, або дыстрыбуцыя, і г.д.), так і ад псіхафізіялагічных уласцівасцяў кожнага асобнага чалавека (пол, узрост, фізічны і псіхічны стан чалавека ў момант маўлення і г.д.). Тым не менш уся бясконцая колькасць вымаўленых, вымаўляемых зараз і сказаных у будучым

варыянтаў гука аб'ядноўваюцца ў адзін інварыянтны кампанент, ці фанему, на аснове найперш сваёй галоўнай дыферэнцыяльнай функцыі ў мове. Такой функцыяй фанемы служыць сэнсаадрознівальная функцыя, з дапамогай якой мы не блытаем словы, а падзяляем іх на выразныя, самастойныя адзінкі са сваім індывідуальным і непаўторным сэнсам, планам зместу.

Гукі нашай мовы з'яўляюцца аб'ёмнымі, шматмернымі адзінкамі, таму навука аб іх, фанетыка, падзяляецца на цэлы шэраг паддысцыплін у залежнасці ад падыходу да таго ці іншага аспекту гэтых адзінак, або пункту гледжання. Так, агульная фанетыка вывучае асаблівасці гукаў чалавечага голасу ўвогуле, незалежна ад пэўнай мовы. Супрацьпастаўляецца і адначасова суадносіцца з ёй прыватная фанетыка, што займаецца апісаннем гукаў канкрэтнай мовы, беларускай, англійскай, чэшскай і г.д. (гл.: ЩЕРБА 1958, 162–167). Дадзеныя паддысцыпліны звязаны паміж сабой, бо агульная фанетыка грунтуецца на матэрыяле тых эмпірычных маўленчых фактаў, што вывучае прыватная фанетыка, якая, у сваю чаргу, выкарыстоўвае тэарэтычныя прынцыпы, устаноўкі, палажэнні і інш., распрацаваныя ў нетрах агульнай фанетыкі. Гукі могуць аналізавацца ў адносінах да пэўнага часу іх выкарыстання і ў адносінах да гістарычна розных прамежкаў часу іх ужывання. У першым выпадку фанетыка называецца сінхранічнай, або апісальнай, у другім – дыяхранічнай, або гістарычнай. Калі гукі голасу адной мовы апісваюцца ў параўнанні з гукамі голасу іншай мовы, то такая фанетыка называецца супастаўляльнай, а калі даследуюцца гукі цэлых моўных сем'яў, то фанетыка называецца тыпалагічнай. Вылучаецца таксама эксперыментальная, ці прыкладная, фанетыка (гл.: ЗЛАТОУСТОВА, ПОТАНИНА, ТРУНИН-ДОНСКОЙ 1986), якая аналізуе гукі з дапамогай разнастайных сучасных тэхнічных сродкаў (асцылографы, кімографы, магнітафоны, рэнтген, фотаапаратура і інш.). Падобныя лабараторыі створаны ў буйнейшых навуковых і вучэбных установах, у прыватнасці, у НАН Беларусі, Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце і інш. Прыкладная фанетыка апісвае гукі і іх разнастайныя характарыстыкі ў дачыненні да праблем выкладання той ці іншай мовы для больш эфектыўнага засваення яе гукавога плана выражэння і правільнага нарматыўнага вымаўлення гукаў і іх спалучэнняў, напрыклад, якой-небудзь замежнай мовы ці сваёй роднай.

Акустычная фанетыка вывучае гукі з пункту гледжання такіх іх уласцівасцяў, як вышыня, сіла, тэмбр, інтанацыя, мелодыка і г.д. (гл.: ПАДЛУЖНЫ 1977), а артыкуляцыйная фанетыка даследуе гэтыя ж гукі з пункту гледжання месца іх утварэння, дзеяння ўсіх тых фізіялагічных органаў (лёгкія, галасавыя звязкі, язык, зубы, губы, гартань і інш.) чалавека, якія бяруць удзел у спараджэнні гукаў.

Такім чынам, фанетыка беларускай мовы вывучае гукі з розных аспектаў і ў залежнасці ад гэтых аспектаў можа быць і апісальнай (сінхранічнай), і гістарычнай (дыяхранічнай), і супастаўляльнай, і эксперыментальнай, і акустычнай, і артыкуляцыйнай.

# 7.2. АКУСТЫЧНЫЯ ХАРАКТАРЫСТЫКІ ГУКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Гукі беларускай мовы ў межах фанетыкі даследуюцца ў першую чаргу з акустычнага і артыкуляцыйнага аспектаў. З акустычнага пункту гледжання ўсе гукі чалавечага голасу прадстаўляюць сабой гэткія ж хвалі, якія мы бачым на вадзе, напрыклад, пры ветры або калі на спакойную ваду кінуць які-небудзь прадмет (камень, палку і г.д.). Аднак паветра, дзе распаўсюджваюцца гукі, мы не ўспрымаем зрокам, таму мы гэтыя хвалі не бачым, але чуем сваім слыхам і можам запісаць іх на спецыяльным прыборы як акустычна (напрыклад, на магнітафон), так і графічна (напрыклад, на асцылограф). У графічным запісе выява гука можа быць сінусаідальнай (раўнамернай) і несінусаідальнай (скажонай). У сінусаідальным запісе адлюстроўваюцца тоны, якія маюць выгляд



а ў несінусаідальным – шумы з выявай тыпу



Тоны атрымліваюцца пры вымаўленні галосных, шумы – пры вымаўленні зычных гукаў. У першым выпадку гукавая хваля праходзіць без перашкод ад месца ўтварэння (галасавых звязак) праз маўленчы апарат да акаляючага нас паветра, дзе яна і распаўсюджваецца; у другім – хваля натыкаецца ў маўленчым апараце чалавека на розныя перашкоды, што маюць выгляд змычак або шчылін, якія ўтвараюцца на шляху ад галасавых звязак да вонкавага асяроддзя, паветра (параўн.: ПОТЕБНЯ 1976,102). Утвораныя перашкоды і трансфарміруюць гукавую хвалю,ператвараюць яе з сінусаідальнай у несінусаідальную.

Важнейшымі акустычнымі характарыстыкамі гукаў служаць вышыня, сіла і тэмбр (гл.: ЗИНДЕР 1979, 99). З артыкуляцыйнага пункту гледжання вышыня гуку залежыць ад частаты ваганняў нашых галасавых звязак. Гэтаксама як і звычайная струна, напрыклад у гітары, звязкі могуць быць, па-першае, у кожнай асобы рознай даўжыні і таўшчыні. У сярэднім, галасавыя звязкі жанчын складаюць даўжыню – 1,2 см, мужчын – 1,5 см; па-другое, звязкі могуць быць напятымі ў розных людзей неаднолькава, быць больш напятымі і менш напятымі. Звычайна ў жанчын і дзяцей атрымліваецца больш высокі тон голасу пры маўленні, бо яны маюць фізіялагічна танейшыя, карацейшыя, больш напятыя звязкі. У сталых людзей, як правіла, напятасць звязак меншая, таму голас такіх людзей атрымліваецца ніжэйшым. Напятасць звязак можа памяншацца ў выніку, напрыклад, застужвання горла ці пры стамленні чалавека ад доўгага па часе маўлення, таму ў хворых і стомленых людзей голас таксама ніжэйшы.

З акустычнага пункту гледжання вышыня голасу ўяўляе сабой частату ваганняў зазначанай вышэй хвалі ў паветры. Чым часцей вагаецца хваля, тым вышэйшым атрымліваецца тон голасу. Так, з дзвюх графічна запісаных хваляў



першая з іх перадае больш высокі голас, чым другая. Вышыня гукаў вымяраецца ў герцах (адзін герц раўняецца аднаму ваганню хвалі ў адну секунду). Наш слых успрымае гукі вышынёй, якія знаходзяцца ў межах ваганняў ад 16 герц да 20 000 герц. Гукі вышынёй ніжэйшыя за 16 герц называюцца інфрагукамі і не чуюцца чалавечым органам слыху, але ўспрымаюцца некаторымі жывёламі (зайцамі, сабакамі і інш.). Гукі вышэйшыя за 20 000 герц называюцца ультрагукамі і таксама не чуюцца людзьмі, хаця і ўздзейнічаюць на наш арганізм, таму выкарыстоўваюцца ў медыцыне для лячэння пэўных захворванняў. Ультрагукі ўспрымаюцца, у прыватнасці, кажанамі, якія з вялікай хуткасцю могуць лётаць у цемры і не сутыкацца з перашкодамі дзякуючы высокачастотнай хвалі, што выпрацоўваецца іх органамі і адбіваецца ад прадметаў, магчымых на шляху істоты і ўспрымальных яе органам пачуцця.

Нашы органы маўлення здатныя спараджаць гукі з частатой ад 70 да 11 000 ваганняў у секунду, а слых найбольш адчувальны да гукаў з частатой каля 2000 герц. Гукавыя хвалі пры звычайным усярэдненым з акустычнага пункту гледжання маўленні знаходзяцца ў межах ад 100 да 8000 герц.

Сіла гука суадносіцца з амплітудай вагання паветранай хвалі: чым большай з'яўляецца гэта амплітуда, тым мацнейшым будзе і сіла гука (гл.: ПОЛИВАНОВ 1991, 83). Напрыклад, на графічных выявах дзвюх гукавых хваль



большую сілу адлюстроўвае першая хваля, дзе амплітуда вагання значна большая за амплітуду вагання другой хвалі. Сіла гука вымяраецца ў дэцыбелах (дб). Мы можам успрымаць сваім слыхам гукі сілай да 300 дб, а гукі чалавечага голасу, якія мы можам спараджаць, знаходзяцца ў межах ад 20 дб (шэпт) да 80 дб (моцны крык). Сіла гука звычайнага маўлення складае прыблізна 60 дб. У прыродзе, дзе адбыліся станаўленне і эвалюцыя чалавека, не сустракаецца звычайна гукаў больш за 130 дб, але яны могуць стварацца штучна, напрыклад, у выглядзе бомбавых выбухаў, гарматных стрэлаў і г.д. Гукі такой сілы здатныя разбураць наш слыхавы апарат, чалавек глохне. Сілу гука нельга блытаць ці атаясамляць з яго громкасцю, або гучнасцю, якая атрымліваецца са спалучэння абедзвюх зазначаных вышэй акустычных характа-

рыстак гука (вышыні і сілы) і з'яўляецца больш складанай сутнасцю: адну і тую ж громкасць могуць складаць гукі з несупадальнымі параметрамі сілы і вышыні. Так, аднолькавай громкасці будзе гук, сіла якога вымяраецца 40 дб, а вышыня 1000 герц, і гук сілай 80 дб і вышынёй 200 герц, або ў выглядзе арыфметычнага ўраўнення 40 дб + 1000 герц = 80 дб + 200 герц.

Тэмбр служыць індывідуальнай акустычнай уласцівасцю голасу кожнага чалавека і мае такія ж непаўторныя характарыстыкі свайго гучання, як і адбіткі пальцаў: пры графічным запісе гукавой хвалі ў кожнай асобы адлюструецца нераўнамерная сінусоіда з адметнай канфігурацыяй, а пры ўспрыманні на слых мы можам апазнаць голас знаёмага чалавека нават калі ён знаходзіцца за межамі нашага бачання (напрыклад, за якой-небудзь перашкодай ці ў цемры). Неаднолькавы тэмбр людзей абумоўлены з артыкуляцыйнага пункту гледжання несупадзеннямі ў будове іх маўленчага апарата (розныя велічыні рэзанатарнай поласці рота і носа, індывідуальныя ў кожнага чалавека шчыльнасць і памер зубоў, таўшчыня губ, языка і інш.). З акустычнага пункту гле-джання тэмбр утвараецца з тонаў і абертонаў. Тон служыць своеасаблівай сарцавінай гука, яго асновай і ўзнікае ад раўнамернага вагання галасавых звязак, а абертоны ўяўляюць сабой напластаванні дапаўняльных тонаў на згаданую сарцавіну. Дапаўняльныя тоны атрымліваюцца ад сутыкненняў асноўнага тону з рознымі перашкодамі (гартань, паднябенне, язык, зубы, губы і інш.) на шляху ад галасавых звязак да губ. Сінусаідальны тон скажаецца ад абертонаў, і атрымліваецца ўжо нераўнамерная індывідуальная ў кожнага чалавека хваля, або тэмбр.

Усе членападзельныя гукі нашага голасу маюць свае ўстойлівыя акустычныя ўласцівасці, якія адрозніваюць іх адзін ад аднаго незалежна ад таго, хто і як (громка або ціха, хутка або запаволена, усхвалявана або спакойна і г.д.) вымаўляе дадзеныя гукі. Канстантныя, стабільныя ўласцівасці членападзельных гукаў чалавечага голасу абумоўлены гушчынёй слаёў паветра і месцам іх размеркавання на той агульнай карціне кожнага вымаўленага гука, якая атрымліваецца і бачна пры яго запісе з дапамогай тэхнічных прыбораў. Адметны акустычны партрэт асобнага членападзельнага гука называецца фармантай. Фарманты гукаў прыкметна скажаюцца ў спантанным маўленні, дзе гукі ў розных камбінацыях спалучаюцца паміж сабой і пэўным чынам трансфарміруюцца пры хуткім пераходзе ад аднаго да другога. Тым не менш у фанетыцы на кожны гук заведзены свае фарманты, у якіх адлюстраваны яго важнейшыя акустычныя характарыстыкі.

## 7.3. АРТЫКУЛЯЦЫЙНЫЯ ХАРАКТАРЫСТЫКІ І КЛАСІФІКАЦЫЯ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ

Артыкуляцыйныя характарыстыкі гукаў звязаны з фізіялагічнай дзейнасцю нашых органаў маўлення. Вытворчасць гэтымі органамі кожнага гука складаецца з трох аперацый: экскурсія (падрыхтоўка органаў маўлення да працы), вытрымка (збліжэнне пасіўных і актыўных органаў, іх рабочы стан на момант вымаўлення гукаў), рэкурсія (вяртанне органаў у зыходны стан, каб падрыхтавацца для вымаўлення чарговага гука). Змены дадзеных аперацый пры маўленні адбываюцца вельмі хутка і важнейшай з іх для артыкуляцыйнай характарыстыкі гукаў служыць вытрымка, якая можа адносіцца да ўтварэння не аднаго гука, а цэлага ланцужка гукаў адначасова (гл.: СОССЮР 1990, 128).

Да актыўных органаў маўленчага апарата належаць лёгкія (фізіялагічная ўстаноўка, што забяспечвае энергіяй, ці плынямі паветра, усю дзейнасць зга-

данага апарата), галасавыя звязкі, складзеныя з двух пучкоў эластычных мышц, якія прымацаваныя да рухомых і нерухомых храсткоў гартані, мяккае паднябенне, якое рэгулюе падачу паветра ў насавы рэзанатар, язык (самы актыўны орган, што мяняе аб'ём рэзанатарнай поласці рота), ніжняя сківіца, губы. Пасіўнымі органамі служаць зубы, цвёрдае паднябенне ў роце і поласць носа. З улікам дзейнасці зазначаных органаў маўлення, іх канкрэтнага стану пры вымаўленні пэўных гукаў беларускай мовы выводзіцца артыкуляцыйная характарыстыка апошніх, падзеленых найперш на галосныя і зычныя. Месца ўтварэння галосных гукаў з'яўляецца лакалізаваным, а зычных – нелакалізаваным (гл.: ЛАМЦЁЎ 1935, 12).

Адзін з заснавальнікаў першай у свеце фанетычнай лабараторыі (Казань, 1884) В.А.Багародзіцкі назваў галосныя ротаразмыкальнікамі, бо пры іх утварэнні гукавая хваля праходзіць без істотных перашкод ад галасавых звязак да знешняга паветранага асяроддзя, а зычныя – ротазмыкальнікамі, таму што пры іх вымаўленні на шляху гукавой хвалі ўзнікаюць, як ужо адзначалася, перашкоды ў выглядзе змычак або шчылін (БОГОРОДИЦКИЙ 1939, 37). Звычайна гукі вымаўляюцца не ізалявана, а ў разнастайных спалучэннях, таму, напрыклад, пры вытворчасці галоснага пасля зычнага дзейнасць актыўных органаў маўлення скіравана на пашырэнне праходу гукавой хвалі ад месца ўтварэння да вонкавага асяроддзя.

Галосных гукаў у беларускай мове значна менш, чым зычных, і артыкуляцыйная класіфікацыя меншай колькасці адзінак з'яўляецца больш простай. У прыватнасці, галосныя прадстаўляюцца сістэмна арганізаванымі па ўліку такіх актыўных органаў маўлення, як найперш язык, затым губы. Пры вымаўленні галосных гукаў наш язык адначасова перамяшчаецца ў роце двума напрамкамі пад вуглом прыблізна 90 градусаў, г.зн. і па вертыкалі, і па гарызанталі. Па вертыкалі рухаецца сярэдзіна языка, або яго спінка, а па гарызанталі – самы кончык языка. У залежнасці ад таго, дзе фіксуюцца ў роце дадзеныя часткі языка пры вымаўленні кожнага канкрэтнага галоснага гука, усе галосныя беларускай мовы падзяляюцца, з аднаго боку, на галосныя верхняга, сярэдняга і ніжняга пад'ёму (па палажэнню спінкі языка ў момант вымаўлення кожнага асобнага гука), з другога боку, на галосныя пярэдняга, сярэдняга і задняга рада (па палажэнню ў роце кончыка языка таксама на момант вымаўлення кожнага асобнага гука). З улікам памянёных палажэнняў спінкі і кончыка нашага языка і будуецца артыкуляцыйная табліца галосных гукаў у выглядзе трохвугольніка (гл.: БОНДАРКО, ВЕРБИЦКАЯ, ГОРДИНА 1991, 25), у прыватнасці і беларускай мовы. Пры занясенні ў такую табліцу шасці галосных (а менавіта столькі іх налічваецца ў нашай мове) атрымліваецца наступная іх класіфікацыя:

| Пад'ём | Рад | | |
|---|---|---|---|
| | Пярэдні | Сярэдні | Задні |
| Верхні | *і* | | у |
| Сярэдні | е | *ы* | *о* |
| Ніжні | | *а* | |

Пры вымаўленні галоснага *і* кончык языка займае пярэднюю пазіцыю ў роце (прыціснуты да альвеолаў ніжніх зубоў), а спінка языка максімальна паднята да цвёрдага паднябення, але не датыкаецца да яго, утварае вузкую

шчыліну ў роце для праходу гукавой хвалі. У параўнанні з гукам *і* галосны *е* пры ізаляваным вымаўленні з'яўляецца, па-першае, менш пярэднім, па-другое, ніжэйшым, што можна зафіксаваць па стану адпаведна кончыка і спінкі языка. Галосныя *о, у* займаюць у табліцы адзін рад, а менавіта, задні (кончык языка прымае максімальна аддаленае палажэнне ў роце ад альвеолаў ніжніх зубоў, самы задні рад у сваім перамяшчэнні па гарызанталі), але адрозніваюцца па пад'ёму спінкі языка: пры вымаўленні *у* яна знаходзіцца бліжэй да паднябення (галосны верхняга пад'ёму). Адрозненні па пад'ёму служаць адзінай дыферэнцыяльнай рысай *у* і *о*, бо апрача рада яны яшчэ збліжаюцца і тым, што ў іх утварэнні бяруць удзел і губы, якія пры гэтым акругляюцца, таму *о* і *у* называюцца агубленымі галоснымі. У беларускай мове агубленымі з'яўляюцца толькі галосныя задняга рада.

Для вымаўлення галоснага *а* спінка языка займае самую нізкую пазіцыю па сваім пад'ёме ў роце, а кончык языка фіксуецца ў сярэднім палажэнні: атрымліваецца найбольш адкрытая і самая лёгкая для вымаўлення галосная беларускай мовы. Магчыма, таму *а* і з'яўляецца найбольш частотным гукам у нашай мове, характэрнай рысай якой і служыць аканне (гл.: СЦЯЦКО 1998, 6–7). Галосны *ы* займае сярэднюю пазіцыю і па радзе, і па пад'ёме і, такім чынам, уяўляе сабой геаграфічны цэнтр вакальнай сістэмы беларускай мовы. У маўленчай плыні ўсе галосныя могуць крыху змяшчацца па радзе і пад'ёме, што залежыць ад характару папярэдніх зычных, з якімі яны спалучаюцца: меншыя зрухі адбываюцца пасля цвёрдых зычных, большыя – пасля мяккіх. Аднак у цэлым гэтыя перамяшчэнні не парушаюць суадносін паміж галоснымі: трохвугольная двухмерная класіфікацыя іх мае стабільную прыроду, а ў сувязі з гэтым і аб'ектыўны характар.

## 7.4. АРТЫКУЛЯЦЫЙНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА І ЗЫХОДНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Зычных гукаў у беларускай мове амаль у шэсць разоў больш, чым галосных, таму для іх класіфікацыі недастаткова ўлічваць дзейнасць толькі аднаго актыўнага органа маўлення (языка), як гэта рабілася пры сістэмным прадстаўленні галосных, таму што пры вымаўленні зычных бярэ ўдзел больш органаў, прычым не толькі актыўныя з іх, але і пасіўныя. Пры спараджэнні зычных неабходна ўлічваць не толькі месца ўтварэння гукаў, бо многія з іх "робяцца" ў адным і тым жа месцы (параўн.: *п, б, м* і інш.), але і спосаб утварэння, і шэраг іншых прыкмет, каб атрымаць прымальную класіфікацыю ў выглядзе табліцы, накшталт Перыядычнай табліцы хімічных элементаў Дз.Мендзялеева, у якой бы кожнаму зычнаму адводзілася адна і толькі адна клетачка.

З улікам той ролі, якую адыгрываюць разнастайныя артыкуляцыйныя прыкметы пры ўтварэнні зычных гукаў беларускай мовы, гэтыя прыкметы падзяляюцца на канстытуцыйныя (галоўныя, асноўныя), карэляцыйныя (супрацьпастаўленыя) і адносныя (ступень удзелу голасу пры вымаўленні зычных гукаў). Канстытуцыйныя прыкметы ў сваю чаргу грунтуюцца на ўліку такіх двух важнейшых параметраў выпрацоўкі гукаў нашымі органамі маўлення, як месца і спосаб утварэння. Па месцы ўтварэння зычныя гукі беларускай мовы размяркоўваюцца па своеасаблівай гарызантальнай шкале, на якой неабходна ўлічваць той пункт нашага маўленчага апарата, дзе ўтвараецца перашкода,

змычка або шчыліна, пры вымаўленні адпаведнага зычнага. Калі назіраць за памянёнымі перашкодамі і пачынаць фіксаваць іх ад месца, утворанага вонкавымі органамі маўлення (у прыватнасці губ), і паступова перамяшчацца ў глыбіню маўленчага апарата аж да максімальна аддаленай ад першапачатковага вонкавага месца ўтварэння пункта перашкод, то атрымаем наступны рад распалажэння змычак і шчылін пры вымаўленні зычных: губныя, губна-зубныя, зубныя, пярэднеязычныя, сярэднеязычныя, заднеязычныя. У дадзеным выпадку пад улік прымаецца найперш як і пры вымаўленні галосных дзейнасць і стан пераважна актыўных органаў маўлення.

Па спосабу ўтварэння зычныя гукі падзяляюцца на выбуховыя (перашкода, у прыватнасці змычка, на шляху гука пераадольваецца пасродкам яе імгненнага разрыву, у выніку чаго і атрымліваецца выбух; параўн.: *т, д, б, к* і інш.), шчылінныя (перашкода ў выглядзе вузкай шчыліны, таму пры вымаўленні адпаведных зычных іх можна доўжыць у часе, напрыклад, шыпець, свісцець (параўн.: *ш, с, з* і інш.), афрыкаты, або выбухова-шчылінныя (перашкода атрымліваецца са спалучэння змычкі і шчыліны (параўн.: *ц, ч, дз* і інш.), плаўныя (паветра праходзіць праз перашкоду без прыкметнага выбуху пры невялікай хуткасці, напрыклад, пры вымаўленні *л*), насавыя (утвараюцца пры апушчаным мяккім паднябенні, у выніку чаго паветра праходзіць праз насавую поласць), дрыжачыя (кончык языка вагаецца, напрыклад, пры ўтварэнні зычнага *р*). Пры вымаўленні плаўных, насавых і дрыжачых зычных у значна большай ступені ўдзельнічаюць галасавыя звязкі, чым пры ўтварэнні выбуховых, фрыкатыўных і афрыкат, таму першыя тры тыпы зычных называюць санорнымі, астатнія – шумнымі. Дадзеная прыкмета называецца адноснай і, такім чынам, падзяляе зычныя беларускай мовы на шумныя і санорныя (гл.: ПАДЛУЖНЫ, ЧЭКМАН 1973, 14–21).

Пры пабудове двухмернай табліцы для класіфікацыі зычных гукаў беларускай мовы неабходна па гарызанталі адзначыць іх месца ўтварэння, а па вертыкалі – спосаб утварэння. З улікам гэтых параметраў атрымліваем наступную табліцу:

| Месца / Спосаб | Губныя | Пярэднеязычныя | Сярэднеязычныя | Заднеязычныя |
|---|---|---|---|---|
| Выбуховыя<br>Шчылінны<br>Афрыкаты<br>Плаўныя<br>Дрыжачыя<br>Насавыя | | | | |

Назіранні за беглым маўленнем носьбітаў беларускай мовы прыводзяць да высновы, што месца ўтварэння некаторых зычных (напрыклад, *г, х*) адсоўваецца яшчэ на адну ступень далей за заднеязычныя, у выніку чаго згаданыя гукі ўжо могуць быць ахарактарызаваныя не як заднеязычныя, а як фарынгальныя (гл.: СЕРЕБРЕННИКОВ 1988, 98), таму можна ўтварыць яшчэ адну пазіцыю па гарызанталі табліцы, дзе пазначана месца ўтварэння, і ў выпадку неабходнасці запоўніць найменнем фарынгальнага зычнага.

Тым не менш дзвюх разгледжаных артыкуляцыйных прыкмет, месца і спосабу ўтварэння, аказваецца недастаткова, каб адвесці пад кожны зычны гук беларускай мовы на прыведзенай табліцы адну клетачку, г.зн. дакладна вызначыць на прыведзенай двухмернай выяве месца кожнага зычнага. Напрыклад, чатыры беларускія зычныя *п, п', б, б'* маюць аднолькавае месца ўтварэння (губныя) і аднолькавы спосаб утварэння (выбуховыя), таму ўсе яны займуць адно месца (адну клетачку) у левым верхнім кутку табліцы. Для раздзялення памянёных гукаў неабходна выкарыстаць яшчэ адзін параметр, які называецца карэлятыўным і ўключае ў сябе супрацьпастаўленне зычных па цвёрдасці – мяккасці, глухасці – звонкасці. З улікам канстытуцыйных (месца і спосаб утварэння), адносных (па ўдзеле голасу ў вымаўленні зычных яны падзяляюцца на шумныя і санорныя) і карэляцыйных прыкмет атрымліваем наступную артыкуляцыйную класіфікацыю беларускіх зычных.

| Месца / Спосаб | Губныя | Пярэднеязычныя | Сярэднеязычныя | Заднеязычныя |
|---|---|---|---|---|
| | *цв. м.* | *цв. м.* | | *цв.* |
| М | | | | |
| Выбуховыя *гл.*<br>*зв.* | *п'    т*<br>*б    б'* | <br>*д* | | *к    к'*<br>*г    г'* |
| Шчылінныя *гл.*<br>*зв.* | *ф    ф'*<br>*в    в'* | *с,    ш    с*<br>*з,    ж    з'* | | |
| Афрыкаты *гл.*<br>*зв.* | | *ц,    ч    ц'*<br>*дз,    дж    дз'* | | |
| Плаўныя | *ў* | *л    л'* | *й* | |
| Насавыя | *м    м'* | *н    н'* | | |
| Дрыжачыя | *р* | | | |

**Заўвага:** скарачэнні ў табліцы абазначаюць *цв.* – цвёрдыя, *м.* – мяккія, *зв.* – звонкія, *гл.* – глухія; плаўныя, насавыя і дрыжачыя адносяцца да санорных, астатнія – да шумных.

## 7.5. ДАДАТКОВЫЯ АРТЫКУЛЯЦЫЙНЫЯ ХАРАКТАРЫСТЫКІ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Як відаць з прыведзенай табліцы, для дэталёвай класіфікацыі ўсіх зычных беларускай мовы трох зыходных артыкуляцыйных прыкмет (канстытуцыйныя, адносныя, карэлятыўныя), што знаходзяцца ў навуковым ужытку, аказваецца ўсё ж недастаткова, таму што пары пярэднеязычных цвёрдых фрыкатыўных гукаў і афрыкат *с* і *ш* , *з* і *ж* , *ц* і *ч* , *дз* і *дж* займаюць па адной клетачцы (па адному месцу). Для раздзялення зычных кожнай дадзенай пары неабходна ўвесці яшчэ адзін артыкуляцыйны параметр на падставе ўліку ўжо пасіўнага органа маўлення, які бярэ ўдзел пры ўтварэнні згаданых гукаў беларускай мовы. Зычныя, што прыведзены першымі ў памянёных парах, г.зн. *с, з, ц, дз* адносяцца да зубных, а іхнія супрацьпастаўленыя партнёры па пасіўнаму органу – да пярэднепаднябенных. Класіфікацыйная табліца, такім чынам, пашыраецца ў гарызантальным напрамку на адну графу (пярэднеязычныя цвёрдыя раздзяляюцца на зубныя і пярэднепаднябенныя), а кожны зычны гук займае ў ёй (табліцы) сваё пэўнае месца, вызначанае наяўнасцю ў канкрэтнага гука выкарыстаных артыкуляцыйных прыкмет.

Табліца ўяўляе агульную карціну сістэматызацыі зычных гукаў беларускай мовы. У межах гэтай агульнай карціны гукі ўтвараюць сістэмныя пары і рады ці застаюцца паасобку ў залежнасці ад таго, па наяўнасці / адсутнасці якіх акустычных і артыкуляцыйных прыкмет суадносяцца, упадабняюцца, супрацьпастаўляюцца беларускія зычныя. Так, па месцы ўтварэння, згодна з прыведзенай класіфікацыяй, зычныя беларускай мовы падзяляюцца на губныя, пярэднеязычныя, сярэднеязычныя і заднеязычныя. Да губных зычных адносяцца гукі, у вымаўленні якіх актыўны ўдзел бяруць вонкавыя органы нашага маўленчага апарата – губы. Пры вымаўленні губных утвараецца або змычка, або вузкая шчыліна. Усе губна-губныя зычныя беларускай мовы з'яўляюцца змычнымі (параўн.: *п, б, м* і іх мяккія карэляты), а губна-зубныя – шчылiннымі (параўн.: *в, ф* і іх мяккія адпаведнікі, а таксама ізаляваны *ў* ).

Пярэднеязычныя гукі беларускай мовы складаюць самую вялікую групу зычных: да іх адносяцца цвёрдыя *т, д, с, з, ж, ш, ц, ч, дж, дз, л, н, р*, прычым пры ўтварэнні зычных *ж, ш, дж, ч* месца ўтварэння адсунута ад зубоў у глыб цвёрдага паднябення; сярод гэтых чатырох зычных *ж/ш* утвараюць карэлятыўную пару па звонкасці / глухасці. Да таго ж *ж, ш* з'яўляюцца шчылiннымі, а *дж, ч* – афрыкатамі, першая з іх звонкая, другая – глухая. Астатнія пярэднеязычныя цвёрдыя таксама падзяляюцца на змычныя (*т, д, н, л, р*), шчылінныя *(з, с)* і афрыкаты *(дз, ц)*. У першай з трох прыведзеных груп *т / д* супрацьпастаўляюцца па глухасці / звонкасці, але разам з'яўляюцца шумнымі і кантрастуюць па прыкмеце шумныя / санорныя з зычнымі *н, л, р*. Другая група пярэднеязычных цвёрдых утворана з пары гукаў *з/с*, што карэлiруюць паміж сабой па прыкмеце звонкасці / глухасці. Трэцюю групу ўтвараюць афрыкаты *дз, ц*, першая з якіх з'яўляецца звонкай, другая – глухой.

Да сярэднеязычных у беларускай мове належыць адзін ізаляваны шчылінны *й*, пры вымаўленні якога бяруць актыўны ўдзел галасавыя звязкі, таму гэты гук называецца санорным, утвораная імі паветраная хваля без выбуху пераадольвае перашкоду ў выглядзе шчыліны паміж сярэдняй спінкай языка і цвёрдым паднябеннем; атрыманы гук называецца яшчэ і плаўным. Заднеязычныя гукі *г, к, х* падзяляюцца па спосабу ўтварэння на выбуховы *к* і шчылінныя *г, х*, апошнія ўтвараюць карэлятыўную пару па звонкасці / глухасці.

Па карэлятыўнай прыкмеце цвёрдасці / мяккасці зычныя беларускай мовы ўтвараюць два суадносныя рады гукаў (гл.: ЧЭКМАН 1970), а таксама ізаляваныя цвёрдыя і мяккія гукі.

Цвёрдыя *п, б, в, ф, с, з, л, м, н, к, г, х, д, т.*
Мяккія *п', б', в', ф', с', з', л', м', н', к', г', х', дз', ц'.*

Ізаляванымі цвёрдымі, г.зн. зычнымі гукамі, што не маюць мяккіх карэляцый, з'яўляюцца ў беларускай мове *ц, дз, дж, ў, р, ж, ш*, а толькі мяккім – гук *й.*

Звернем увагу на тое, што мяккія зычныя *дз', ц'* карэлiруюць па прыкмеце мяккі / цвёрды не з гукамі *дз, ц*, а з *д, т*, што складае адмысловую асаблівасць гукавой сістэмы беларускай мовы і атрымала найменне дзеканне, цеканне. Мяккія адрозніваюцца ад цвёрдых па месцы ўтварэння тым, што вымаўляюцца з дапамогай дадатковай сярэднепаднябеннай артыкуляцыі.

Паводле ўдзелу голасу і шуму зычныя беларускай мовы падзяляюцца на санорныя (утвараюцца з дапамогай голасу, актыўна працуюць галасавыя звязкі) і шумныя (голас пры іх утварэнні адыгрывае меншую ролю, чым пры вымаўленні санорных). Да санорных зычных належаць у беларускай мове гукі *в, в', ў, й, л, л', м, м', н, н', р.* Усе астатнія зычныя гукі адносяцца да шумных і чcostаюцца на звонкія і глухія. Глухія зычныя ўтвараюцца толькі з дапамогай шуму і ўключаюць у сябе наступныя гукі беларускай мовы: *п, п', ф, ф', с, с', х,*

*х', к, к', т, ц, ц', ч, ш*. Шумныя зычныя ўтвараюцца рознымі спосабамі ў залежнасці ад характару перашкоды, якая пераадольваецца гукавой хваляй у ротавай поласці, і падзяляюцца на змычныя *( б, б', п, п', к, к', д, т )*, шчылінныя *(в, в', ф, ф', з, з', с, с', г, г', х, х', ж, ш)*, змычна-шчылінныя, або афрыкаты (*дз, дж, ц, ч, дз', ц'*). З пералічаных вышэй санорных да шчылінных таксама належаць гукі *ў, й*, а да змычных – *м, м', н, н', л, л', р*, прычым месца ўтварэння змычных санорных адрозніваецца ад аналагічнага месца шумных тым, што перашкода мае адначасова выгляд і змычкі (у адным месцы), і шчыліны (у другім месцы моўнага апарата): праз шчыліны паміж бакамі языка пры змычцы кончыка языка з цвёрдым паднябеннем праходзіць гукавая хваля для ўтварэння зычных *л, л'*, таму іх называюць бакавымі; а пры вымаўленні гукаў *м, м'* паветра з лёгкіх пераадольвае змычку, утвораную губамі, а *н, н'* – кончыкам языка і зубамі, адначасова паветра праходзіць пры вымаўленні ўсіх чатырох згаданых гукаў і праз насавую поласць, таму ўсе яны называюцца насавымі. Санорны *р* утвараецца шляхам вібрацыі кончыка языка, прыбліжанага да альвеолаў верхніх зубоў, таму гэты гук называецца дрыжачым, ці вібрантам.

Пры вымаўленні зычных *дж, ч, ж, ш* прымае ўдзел пярэдняя частка языка, якая па месцы артыкуляцыі ссунута ад альвеолаў пярэдніх зубоў у глыб ротавай поласці, а бакавыя краі языка ўтвараюць шчыльную змычку з верхнімі карэннымі зубамі. Пярэдняя частка языка змыкаецца з цвёрдым паднябеннем пры пачатковым вымаўленні *дж, ч* і ўтварае вузкую шчыліну пры наступным этапе іх вымаўлення, а таксама – пры ўтварэнні гукаў *ш, ж*. Праз зробленую ў ротавай поласці вузкую плоскую шчыліну дадзеныя гукі праходзяць з шыпеннем, таму іх называюць шыпячымі. Пры ўтварэнні зычных *дж, ж* бяруць удзел таксама галасавыя звязкі, таму гэтыя гукі супрацьпастаўляюцца сваім партнёрам па месцы ўтварэння *ч, ш* як звонкія і глухія, г.зн. утвараюць прапорцыю *дж : ч = ж : ш*.

Свісцячыя гукі *с, с', з, з', ц, ц', дз'* атрымалі сваю назву ад адцення свісту, якое суправаджае іх вымаўленне і супрацьпастаўляюцца ўнутры групы па спосабу ўтварэння на фрыкатыўныя (шчылінныя) і афрыкаты (выбухова-шчылінныя), г.зн. *с, с', з, з' / ц, ц', дз'*, а таксама па карэлятыўнай прыкмеце цвёрдасці / мяккасці *(с, з, ц / с , з', ц', дз')*. З улікам пасіўнага органа вымаўлення да сярэднепаднябенных адносіцца гук *й*, а таксама блізкія да яго па гэтай прыкмеце заднеязычныя мяккія гукі *г', к' , х'* .

У некаторых запазычаных словах, што ўжываюцца ў беларускай мове, сустракаецца выбуховы гук *г* (параўн.: *ганак, гузік, гонта, гільза* і інш.), які выступае ў двух варыянтах – цвёрдым і мяккім. Гэты гук з'яўляецца змычным і па гэтай прыкмеце супрацьпастаўляецца фрыкатыўнаму *г*, па прыкмеце звонкасці / глухасці ён супрацьпастаўляецца шумнаму гуку *к*.

## 7.6. ЧЛЯНЕННЕ ГУКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ З АКУСТЫЧНАГА ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ

Акустычныя характарыстыкі гукаў супрэжаны з гукавымі ўласцівасцямі, з улікам якіх выдзяляюцца глухая змычка, звонкая змычка, санорная змычка, галосны сегмент (участак акустычнага моўнага сігналу), дрыжачы сегмент, выбух, глухая і звонкая фрыкацыя, глухая і звонкая афрыкацыя. Пры глухой змычцы адсутнічае гукавы сігнал, а пры звонкай ён у наяўнасці і ствараецца галасавымі звязкамі. Санорная змычка ўяўляецца самастойным сегментам, які

вымаўляецца з удзелам і галасавых звязак, і насавой поласці. Галосны сегмент характарызуецца вялікай амплітудай ваганняў гукавой хвалі і яе свабодным праходам непасрэдна праз ротаваю поласць. Дрыжачы сегмент атрымліваецца ад узрастання і кароткачасовага спаду амплітуды вагання гукавой хвалі, якая ўтвараецца ад удалення кончыка языка ад цвёрдага паднябення (узрастанне амплітуды вагання) і набліжэння да яго (спад амплітуды вагання гукавой хвалі). Для выбуху ўласціва неперыядычнасць ваганняў гукавой хвалі, рэзкае нарастанне яе амплітуды, якая, аднак, не з'яўляецца вялікай і не працяглая ў часе. Глухі фрыкатыўны сегмент прадстаўляецца працяглым шумам з амплітудай вагання, якая паступова нарастае, а затым памяншаецца. Звонкі фрыкатыўны сегмент вызначаецца меншай інтэнсіўнасцю гука ў параўнанні з глухімі фрыкатыўнымі сегментамі. Звонкі афрыкатыўны сегмент адрозніваецца ад адпаведнага глухога наяўнасцю звонкай змычкі і перыядычных ваганняў гукавой хвалі; для глухога афрыкатыўнага сегмента прыдатныя глухая змычка і неперыядычныя ваганні гукавой хвалі. З улікам разгледжаных сегментаў усе гукі беларускай мовы падзяляюцца на наступныя групы (гл.: ФАНЕТЫКА 1989, 70).

Галосныя *а, о, е, у, і*;
Санорныя *л, л', н, н', м, м', ў, й*;
Дрыжачыя *р*;
Выбуховыя глухія *п, п', к, к', т* ;
Выбуховыя звонкія *б, б', д, g, g'*;
Фрыкатыўныя глухія *ф, ф', с, с', х, х', ш*;
Афрыкатыўныя звонкія *дз, дз', дж*;
Афрыкатыўныя глухія *ц, ц', ч*.

## 7.7. ПАНЯЦЦЕ ФАНЕМЫ

Гукі маўлення з улікам іх індывідуальных акустычных характарыстык утвараюць, па сутнасці, адкрытае мноства адзінак, але з пункту гледжання функцый, або ролі, якую яны выконваюць у кожнай мове, ці адцягненай інварыянтнай і сацыяльнай з'явы, абагульняюцца ў фанемы, абстрактныя адзінкі. У межах гэтых адзінак нейтралізуюцца не толькі індывідуальныя асаблівасці кожнага вымаўленага гука ў выкананні асобным носьбітам мовы, але і ўзнаўляюцца тыя істотныя ўласцівасці гука, якія ён страчвае ў маўленчай плыні, пры спалучэнні з іншымі гукамі. Напрыклад, ненаціскныя галосныя няверхняга пад'ёму (*е, о, а*) у спантанным маўленні страчваюць некаторыя свае важныя акустычныя рысы, рэдуцыруюцца да непазнавальнасці, упадабняюцца адзін аднаму так, што іх немагчыма адрозніць па матэрыяльных прыкметах паміж сабой: звонкія зычныя аглушаюцца ў канцы слова і перад глухімі, г.зн. па сваіх акустычных прыкметах робяцца зусім іншымі гукамі. Аднак, калі ўлічваць тыя функцыі, якія выконваюць гукі мовы, дадзеныя гукі застаюцца стабільнымі фаналагічнымі адзінкамі, тоеснымі самі сабе, нягледзячы на сваю акустыка-артыкуляцыйную варыянтнасць, залежную ад мноства розных фактараў. Найперш, памянёныя функцыі палягаюць у адрозненні сэнсу слоў, г.зн. сэнсаадрознівальная функцыя служыць зыходнаму і асноўнаму дыферэнцыяльнаму прызначэнню фанемы (параўн.: словы *код* і *кот*, *баз* і *бас*, *краб і крап* і інш. адрозніваюцца сваім сэнсам, хаця звонкія зычныя нейтралізуюць сваю немаркіраваную прыкмету, якая праяўляецца, аднак, пры змяненні слова, напрыклад, пры яго скланенні).

Акрамя таго, фанемы адыгрываюць строевую функцыю ў мове, з іх будуюцца якасна новыя двухбаковыя (з планам выражэння і планам зместу) значымыя адзінкі – марфемы і словы. Са спалучэння аднабаковых нязначымых саміх па сабе фанем, напрыклад, *с, а, д* атрымліваем прыгожае слова *сад*, што функцыянуе ў мове ў якасці новай моўнай адзінкі, лексічнай. Фанемы выконваюць таксама размежавальную функцыю, з дапамогай якой мы квантуем, расчляняем маўленчую плынь на тыя часткі, што маюць заданы сэнс. Так, маўленчая плынь, што складаецца з наступных спалучэнняў гукаў *марылёнтрэсымонцяляпасэсідарружужрэ* носьбітамі французскай і беларускай моў члeніцца неаднолькава, на розныя сукупнасці фанем і, натуральна, атрымліваецца прынцыпова розны сэнс. Гэта дае падставу герою твора У.Караткевіча «Млын на сініх вірах» Асінскаму заключыць, што беларуская мова «нічым не горшая за французскую». Ды і звычайнае беларускае выказванне *Вось ліса з мядзведзем падышлі к гэтаму мясу*, запісанае на магнітафонную стужку, лёгка і адназначна ўспрымаецца слухачамі, носьбітамі беларускай мовы, пры яго нармальным праслухоўванні як адзінага цэлага. Але калі гэты запіс даваўся слухачам па асобных невялікіх кавалках, то большасць з праслуханых гукавых частак распазнавалася слухачамі няправільна і арганізоўвалася ў сукупнасці, ці спалучэнні, гукаў кшталту *вослесадзмедзве, восліс, восліст, бо ліса медзвед, вось ліса з нядзвець, вошліс, вошлі сажні* і да т.п. Пры паўторных праслухоўваннях спалучэнні гукаў асэнсоўваліся ў межах асобных слоў тыпу *вот, после, восем, возле, воск, вослед, вос, вош, вошлі, бо* і да т.п. Двухмоўнасць слухачоў праяўлялася ў арганізацыі гукаў па межах адпаведных рускіх слоў (*вот, возле, вошлі* і г.д.), і толькі пасля разумення першых слоў выказвання астатнія словы ўспрымаюцца фактычна беспамылкова (гл.: ФАНЕТЫКА СЛОВА 1983, 11–12) з правільным іх граматычным дапасаваннем і спалучэннем, згодна з правіламі беларускай мовы і сэнсам як асобных слоў, так і ўсяго выказвання.

## 7.8. СТРУКТУРА ФАНЕМЫ

Фаналагічны, функцыянальны падыход да драбнейшых адзінак мовы паспрыяў таму, што даследчыкі выявілі іх структуру, якой прадэманстравана складаная будова гэтых адзінак, што доўгі час разглядаліся як непадзельныя, апошнія «цаглінкі» мовы. Выяўленай структурай арганізоўваюцца ў межах фанемы яе больш дробныя кампаненты, ці прыкметы, з сукупнасці якіх, прычым сістэмна ўпарадкаваных (гл.: КАСЕВІЧ 1983, 87), і складаецца любая фаналагічная адзінка. Аказалася, што ў многіх найбольш яскравых выпадках сэнс розных супастаўляльных слоў адрозніваецца не цэлымі фанемамі, а толькі іх кампанентамі (прыкметамі), якія і выконваюць дыферэнцыяльную, або сэнсаадрознівальную, функцыю

Значыць, у адных выпадках словы, што складаюцца з аднолькавай колькасці фанем, могуць адрознівацца поўным несупадзеннем гэтых фанем (параўн.: *сок* і *тур*, *груша* і *яблык*, *кніга* і *бусел* , *брыво* і *слуга* і да т.п.), у другіх – пэўнай сукупнасцю фанем (параўн.: *рама* і *маці*, *сват* і *брат*, *вёска* і *дошка* і да т.п.), у трэціх – асобнымі фанемамі (параўн.: *стол* і *стул*, *праца* і *прага, суніца* і *куніца, док* і *ток* і да т.п.). Менавіта пры ўліку апошніх несупадзенняў, калі словы адрозніваюцца толькі адной фанемай, выяўляецца для любой мовы поўны інвентар яе фанем, колькасць якіх для самай дэталёва членападзель-

най мовы свету не περавашае прыкладна восем дзесяткаў розных сэнсаадрознівальных адзінак.

Некаторыя словы, як ужо гаварылася, адрозніваюцца не цэлымі фанемамі, а толькі іх кампанентамі, ці прыкметамі, якія і называюцца дыферэнцыяльнымі. Гэтыя прыкметы ў канкрэтнай фанемы выяўляюцца шляхам яе супастаўлення з іншымі фанемамі, і тыя з прыкмет, што адрозніваюць не толькі супастаўленыя фанемы, але і сэнс адпаведных слоў, называюцца фаналагічна істотнымі. Найбольш выразна падобныя прыкметы бачны ў тых выпадках, калі фанемы, што параўноўваюцца, адрозніваюцца толькі адной такой прыкметай, у той час як астатнія наяўныя ў іх складзе прыкметы з'яўляюцца тоеснымі, супадаюць. Згаданы падыход да вывучэння фанемы распрацаваны заснавальнікам фаналогіі М.С.Трубяцкім, што і дэфінаваў фанему як "сукупнасць фаналагічна істотных прыкмет, уласцівых дадзенаму моўнаму ўтварэнню" (гл.: ТРУБЕЦКОЙ 1960, 45).

Значыць, фанема як функцыянальная адзінка ўяўляецца не ў выглядзе часцінкі матэрыі, гукавой хвалі, ці нават не ў выглядзе фарманты, а ў выглядзе пучка структурна арганізаваных прыкмет, што супрацьпастаўляюць канкрэтную фанему іншай фанеме і здольны выконваць сэнсаадрознівальную ролю ў слове. Наяўныя прыкметы ў кожнай фанемы выяўляюцца шляхам супастаўлення яе з іншымі фанемамі дадзенай мовы, у прыватнасці беларускай. Найбольш выразна фаналагічна істотныя (сэнсаадрознівальныя) прыкметы праяўляюцца менавіта ў тых выпадках, калі супастаўленыя фаналагічныя адзінкі беларускай мовы адрозніваюцца толькі адной прыкметай, а астатнія супадаюць і з'яўляюцца для дадзенай пары фанем інтэгральнымі, тоеснымі, супадальнымі.

Напрыклад, каб выявіць прыкметы, што функцыянуюць у складзе зычнай беларускай фанемы *б* і складаюць яе змест, сутнасць, супастаўляем гэтую фанему з іншымі зычнымі беларускай мовы, найперш з тымі, якія адрозніваюцца ад яе толькі адной сэнсаадрознівальнай прыкметай. Пры супастаўленні фанем *б* і *м* адзначаем прыкмету неназальнасці ў фанемы *б* (гэта адзіная прыкмета, якая не супадае, а адрознівае супастаўленыя фанемы, бо ўсе астатнія наяўныя прыкметы ў іх супадаюць – выбуховасць, губнасць, цвёрдасць, звонкасць). Пры супастаўленні фанем *б* і *п* адзначаем, што адзінай прыкметай, з дапамогай якой адрозніваюцца дадзеныя зычныя беларускай мовы, служыць наяўнасць прыкметы звонкасці ў першай фанемы і карэлятыўнай прыкметы глухасці ў другой фанемы, *п*. Далей, калі супаставім фанемы *б* і *в*, то зазначаем, што яны адрозніваюцца прыкметай змычнасці, якой характарызуецца першая фанема, тады як фанеме *в* прыдатнай па спосабу ўтварэння служыць прыкмета фрыкатыўнасці, або шчыліннасці. Фанема *б* розніцца ад фанемы *б'* па карэлятыўнай прыкмеце цвёрдасці / мяккасці. Ад фанемы *д* зычны *б* адрозніваецца толькі месцам утварэння, прыкметай губны / пярэднеязычны (усе астатнія зазначаныя вышэй прыкметы ў іх супадаюць: цвёрдасць, неназальнасць, звонкасць, змычнасць).

Усе вылучаныя супастаўляльным спосабам прыкметы фанемы *б* з'яўляюцца фаналагічна істотнымі, таму што яны адыгрываюць у беларускай літаратурнай мове сэнсаадрознівальную ролю (параўн.: адпаведна для кожнай выдзеленай прыкметы наступныя пары слоў, што адрозніваюцца сваім сэнсам, *бак* і *мак*, *бар* і *пар*, *бал* і *вал*, *бэз* і *без*, *бык і дык*). Такім чынам, фанема *б* складаецца з фаналагічна істотных (сэнсаадрознівальных) прыкмет неназальнасці, звонкасці, выбу-

ховасці, цвёрдасці, губнасці, што можна прадставіць наступнай структурнай выявай фанемы *б*.




У складзе некаторых фанем беларускай мовы могуць адзначацца і тыя прыкметы, якія з'яўляюцца фаналагічна неістотнымі, бо яны не выконваюць свайго асноўнага функцыянальнага прызначэння – адрозніваць сэнсы слоў. Напрыклад, для зычнага гука беларускай мовы *с* прыдатныя такія прыкметы, як пярэднеязычнысць, шчыліннасць (фрыкатыўнасць), глухасць, цвёрдасць, неназальнасць. Першыя чатыры прыкметы з'яўляюцца для фанемы *с* фаналагічна істотнымі, бо з іх дапамогай у беларускай мове адрозніваецца сэнс слоў (параўн.: *сорам / хорам, сом / том, соль / золь, саджу / сяджу*). Прыкмета ж неназальнасці служыць для зычнага *с* фаналагічна неістотнай, таму што ў беларускай мове ёй няма кантрастнай апазіцыі, у якой бы знаходзіўся супрацьпастаўлены партнёр с сэнсаадрознівальнай функцыяй. У дадзеным выпадку гэтая функцыя ў беларускай мове аказалася незапатрабаванай, бо прыкметай неназальнасці / назальнасці для фанемы *с* словы нашай мовы не адрозніваюцца, хаця не выключана, што ў іншых мовах свету згаданая прыкмета для фанемы *с* можа быць сэнсаадрознівальнай.

Такім чынам, пэўныя прыкметы выконваюць дыферэнцыяльную функцыю ў складзе канкрэтнай фанемы найперш у дачыненні да вызначанай мовы, бо тое, што з'яўляецца сэнсаадрознівальнай прыкметай для адной мовы, можа не адыгрываць фаналагічна істотнай ролі ў іншай мове. Напрыклад, прыкмета выбуховасці / фрыкатыўнасці фанемы *г* не з'яўляецца сэнсаадрознівальнай для беларускай і рускай моў (у беларускай мове гэты зычны толькі фрыкатыўны, у рускай літаратурнай мове – толькі выбуховы), але ў нямецкай мове дадзеная прыкмета служыць для адпаведнага выбуховага *g* і фрыкатыўнага *h* фаналагічна істотнай, бо з яе дапамогай адрозніваюцца многія словы (параўн.: *Gast* 'госць' і *Hast* 'паспешлівасць', *gut* 'добра' і *Hut* 'шляпа', *Gabe* 'падарунак' і *habe* 'маю' і інш.).

Магчымыя *г* выбуховы ў беларускай мове для запазычаных слоў ці *г* фрыкатыўны ў рускай мове (для царкоўна-славянскіх слоў тыпу *бог, господи, благо* і інш.) не ўтвараюць карэляцыі са сваімі зыходнымі адпаведнікамі, бо не выконваюць сэнсаадрознівальнай ролі.

Прыведзеныя прыкметы, што складаюць структуру і змест фанем беларускай мовы, з'яўляюцца па сваёй прыродзе дыхатамічнымі (бінарнымі, парнымі) і таму служаць адначасова вельмі зручным метамоўным сродкам для вычарпальнага апісання і характарыстыкі фанем беларускай мовы. Так, з улікам

толькі адной дыхатамічнай прыкметы вакальнасць / кансанантнасць усе гукі беларускай мовы прадстаўляюцца ў выглядзе наступнай табліцы.

| | Вакальнасць | Кансанантнасць |
|---|---|---|
| алосныя | + | – |
| Санорныя зычныя | + | + |
| Шумныя зычныя | – | + |

Лагічнасць і эфектыўнасць дыхатамічнага аналізу фанем прывялі да такой інвентарызацыі дыферэнцыяльных прыкмет, што ўсяго 12 пар карэляцый тыпу звонкасць / глухасць, цвёрдасць / мяккасць, вакальнасць / кансанантнасць і інш. аказалася дастатковым для несупярэчлівага і вычарпальнага апісання фаналагічных сістэм усіх моў свету (гл.: ЯКОБСОН, ХАЛЛЕ 1962, 254; ФАНТ 1964, 206–216).

## 7.9. ДЫФЕРЭНЦЫЯЛЬНЫЯ ПРЫКМЕТЫ ФАНЕМ

З вылучаных Р.Якабсанам і яго амерыканскімі калегамі 12 пар супрацьпастаўленых фаналагічна істотных прыкмет у дачыненні да характарыстыкі фаналагічных сістэм розных моў свету (гл.: ЯКОБСОН, ФАНТ, ХАЛЛЕ 1962, 210) прынамсі 10 пар з'яўляюцца прыдатнымі для апісання фанем беларускай мовы.

1. Вакальнасць – невакальнасць; па дадзенай прыкмеце супрацьпастаўляюцца, з аднаго боку, гукі, якія з акустычнага пункту гледжання маюць выразную фарманту, і, з другога боку, гукі з менш выразнай фармантай, або галосныя і санорныя зычныя / шумныя зычныя.

2. Кансанантнасць – некансанантнасць; дадзеная прыкмета грунтуецца з акустычнага пункту гледжання на ўліку колькасці энергіі, затрачанай на вымаўленне гука; супрацьпастаўляюцца моцныя гукі (усе галосныя) і слабыя гукі (усе зычныя).

3. Высокая танальнасць – нізкая танальнасць; пасродкам гэтай прыкметы супрацьпастаўляюцца гукі з канцэнтрацыяй энергіі ў верхніх частотах спектра ніжнім частотам спектра (ротавая поласць менш расчлянёная і большая па аб'ёму, чым пры вымаўленні гукаў высокай танальнасці); да гукаў высокай танальнасці ў беларускай мове належаць галосныя пярэдняга рада, зубныя і пярэдненёбныя зычныя, а таксама *й*; гукі з нізкай танальнасцю ўключаюць у сябе галосныя непярэдняга рада, заднеязычныя і губныя зычныя.

4. Дыфузнасць – кампактнасць; дыфузныя гукі характарызуюцца меншай канцэнтрацыяй энергіі ў цэнтральнай вобласці спектра і ахопліваюць галосныя верхняга пад'ёму, губныя і зубныя зычныя; кампактным гукам пры вымаўленні адпавядае вялікая канцэнтрацыя энергіі ў вузкай цэнтральнай вобласці спектра, да іх адносяцца галосныя няверхняга пад'ёму, усе нёбныя зычныя.

5. Бемольнасць – небемольнасць; якасць бемольных гукаў вызначаецца з артыкуляцыйнага пункту гледжання вузкай шчылінай утварэння і пашырэннем ротавага рэзанатара, да бемольных гукаў належаць усе губныя як галосныя,

так і зычныя; да небемольных адносяцца ў беларускай мове ўсе нелабіялізаваныя гукі.

6. Дыезнасць – недыезнасць; усе дыезныя фанемы з'яўляюцца мяккімі, характарызуюцца з акустычнага пункту гледжання зрухам фармант да верхняй часткі спектра, з артыкульцыйнай – палаталізацыяй, дадатковым пад'ёмам сярэдзіны спінкі языка да цвёрдага паднябення; усе цвёрдыя гукі адносяцца да недыезных фанем.

7. Рэзкасць – нярэзкасць; рэзкія гукі вызначаюцца з акустычнага пункту гледжання большай інтэнсіўнасцю шуму, з артыкуляцыйнага – дадатковай перашкодай на шляху гукавой хвалі; да рэзкіх гукаў у беларускай мове адносяцца афрыкаты і дрыжачы *р*, усе астатнія гукі належаць да нярэзкіх.

8. Звонкасць – глухасць; звонкія гукі характарызуюцца наяўнасцю гарманічных ваганняў у ніжніх частотах спектра; пры вымаўленні зычных згаданыя ваганні адсутнічаюць.

9. Насавыя – ротавыя; з артыкуляцыйнага пункту гледжання пры вымаўленні насавых гукаў апрача ротавай поласці бярэ ўдзел насавая поласць, у выніку чаго атрымліваюцца дадатковыя фарманты: да насавых у беларускай мове належаць *м, н, л, м', н', л', р*; усе астатнія гукі адносяцца да ротавых.

10. Перарыўнасць – неперарыўнасць; перарыўныя гукі з артыкуляцыйнага пункту гледжання ўтвараюцца шляхам іх рэзкага вымаўлення, гукавая хваля разрывае змычку, з акустычнага – перарыўныя гукі характарызуюцца шырокімі палосамі частот; да перарыўных у беларускай мове належаць змычныя, да неперарыўных – галосныя, шчылінныя і насавыя (параўн.: КАМАРОЎСКІ, СЯМЕШКА 1985, 41–44; ОБЩЕЕ ЯЗЫКОЗНАНИЕ 1983, 307).

## 7.10. ФАНАЛАГІЧНЫЯ АПАЗІЦЫІ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Для сістэмнага аналізу і класіфікацыі фанем важным і неабходным уяўляюцца вылучэнне і апісанне тыпаў апазіцый, якія з'яўляюцца магчымымі паміж фаналагічнымі адзінкамі. Згодна з М.С.Трубяцкім, існуюць наступныя тыпы апазіцый паміж фанемамі (гл.: ТРУБЕЦКОЙ 1960, 74–83).

Аднамерныя і шматмерныя. Аднамерныя апазіцыі характарызуюць па пэўных прыкметах толькі адну пару фанем. Так, па прыкметах "цвёрды, зубны, выбуховы" супрацьпастаўляецца ўсяго адна пара беларускіх зычных фанем *т* і *д*. Шматмерныя апазіцыі ўключаюць у сваю сферу больш фанем, чым адна пара, напрыклад, па прыкметах "цвёрды, звонкі, шчылінны" супрацьпастаўляюцца не толькі беларускія зычныя *в* і *з*, але і *ж*.

Прапарцыянальныя і ізаляваныя. Першы тып апазіцыйных адносін паміж фанемамі паўтараецца, зазначаецца не толькі ў адной пары фанем, але і ў іншых парах, напрыклад, па прыкмеце "цвёрдасць / мяккасць" у беларускай мове апазіцыя паўтараецца для зычных *п / п', б / б', в / в', з / з'* і інш., усяго 13 пар беларускіх зычных фанем дубліруюць дадзены тып адносін. Ізаляваная апазіцыя характэрна толькі для адной пары фанем і не паўтараецца па зададзеных прыкметах у іншых парах. Напрыклад, прыкметы, што характарызуюць фанемы *п* і *ш* (глухасць, выбуховасць / шчыліннасць, губнасць / пярэднеязычнасць, неназальнасць, цвёрдасць) не выходзяць за межы дадзенай пары, не распаўсюджваюцца на характарыстыку іншых пар фанем беларускай мовы.

Прыватыўныя, градуальныя, эквіпалентныя. Прыватыўнымі апазіцыямі характарызуюцца тыя фанемы, у адных з якіх адзначаецца наяўнасць пэўнай

прыкметы, а ў іх суадносных партнёраў дадзеная прыкмета адсутнічае, тады як усе астатнія наяўныя прыкметы з'яўляюцца для іх агульнымі. Прыватыўная апазіцыя назіраецца, напрыклад, у зычных фанем беларускай мовы, супрацьпастаўленых па наяўнасці / адсутнасці такіх прыкмет, як назальнасць / неназальнасць, звонкасць / глухасць. Градуальныя, або ступеньчатыя, апазіцыі праяўляюцца наяўнасцю ў дадзеных фанем адной і той жа прыкметы, прадстаўленай, аднак, у іх з рознай ступенню, з неаднолькавай паўнатой сваёй рэалізацыі. Так, па ступені пад'ёму языка галосныя беларускай мовы *у* і *о* адрозніваюцца тым, што *у* з'яўляецца больш высокім, чым *о,* хаця сама прыкмета "пад'ём языка" прыдатная ім абодвум. Эквіпалентныя, або раўназначныя апазіцыі ўключаюць у сябе фанемы, для якіх характэрна зададзеная прыкмета, прычым служыць для іх раўнапраўнай, але якасна рознай. Напрыклад, фанемы *п* і *к* па прыкмеце "месца ўтварэння" маюць паміж сабой эквіпалентную апазіцыю: першая – губна-губная, другая – заднеязычная. Дадзены тып апазіцый служыць самым распаўсюджаным, найбольш частотным у беларускай мове.

## 7.11. АПЕРАЦЫЙНЫЯ ПРАВІЛЫ ВЫЛУЧЭННЯ ФАНЕМ, ТЫПЫ ФАНЕМНАЙ ДЫСТРЫБУЦЫІ

У межах фаналогіі для выдзялення і інвентарызацыі фанем распрацаваны аперацыйныя правілы, якія прыдатны і для беларускай мовы. Так, згодна з першым такім правілам, калі два гукі сустракаюцца ў адной і той жа пазіцыі і могуць замяшчаць адзін аднаго і не мяняць пры гэтым значэння слова, то такія гукі з'яўляюцца факультатыўнымі варыянтамі адной фанемы: *г* выбуховы і *г* фрыкатыўны ў беларускай мове адносяцца да адной фанемы, таму што іх выкарыстанне ў адной і той жа пазіцыі не прыводзіць да змены або да скажэння значэнняў адпаведных слоў.

Другое аперацыйнае правіла звязана з тым, што калі два акустычна (або артыкуляцыйна) роднасныя гукі ніколі не сустракаюцца ў адной і то жа пазіцыі, то яны служаць варыянтамі адной і той жа фанемы. Так, у беларускай мове галосны *ы* фіксуецца толькі пасля цвёрдых зычных, а *і* – толькі пасля мяккіх зычных, значыць, згодна з дадзеным правілам яны функцыянальна прадстаўляюць два варыянты адной фанемы.

Трэцяе аперацыйнае правіла выкарыстоўваецца для вызначэння і выдзялення розных фанем. Калі два гукі сустракаюцца ў адной і той жа пазіцыі і пры замене іх адзін адным мяняецца значэнне слова або скажаецца да непазнавальнасці, то такія гукі служаць фанетычнымі рэалізацыямі дзвюх розных фанем. Напрыклад, калі ў беларускім слове *рот*, першую фанему заменім на фанемы *б* ці *к*, то атрымліваем зусім іншыя словы з адрозным ад першага значэннем (адпаведна *бот* і *кот*). Калі гэтую ж фанему заменім на *ж*, то атрымаем незразумелае, скажонае да непазнавальнасці квазіслова **жот.* Значыць, ва ўсіх трох выпадках мы маем справу з трыма рознымі фанемамі *б, к, ж.*

З аперацыйнымі правіламі вылучэння фанем лучыцца і яшчэ адно важнае лінгвістычнае паняцце, якое называецца дыстрыбуцыяй, у дадзеным выпадку фанемнай, якое звязана з размеркаваннем фаналагічных адзінак у межах слова. Так, пры супадзенні ў супастаўляльных словах усіх пар фанем, акрамя адной пары, якая і адрознівае словы, адзначаецца кантрастная дыстрыбуцыя

(параўн.: *горад* і *голад, казка* і *каска, куток* і *каток* і інш., дзе адпаведныя пары *р / л, з / с, у / о* знаходзяцца ў кантрастнай дыстрыбуцыі, што згодна з трэцім аперацыйным правілам прыводзіць да змянення значэнняў слоў).

Дапаўняльная дыстрыбуцыя адзначаецца ў фанем, якія не сустракаюцца ў адной і той жа пазіцыі (у дачыненні да беларускай мовы гэта фанемы *ы, і*), і супрэжана з другім прыведзеным аперацыйным правілам. Дыстрыбуцыя, што называецца свабодным чаргаваннем фанем, вынікае з першага правіла, згодна з якім фанемы могуць свабодна замяшчацца адна адной без змянення сэнсу слова (напрыклад, *г* выбуховы і *г* шчылінны, *е* адкрыты і *е* закрыты, *р* пярэднеязычны і *р* язычковы і інш. ў беларускай мове).



## 7.12. ПАНЯЦЦЕ ГІПЕРФАНЕМЫ І НЕЙТРАЛІЗАЦЫІ ФАНЕМ

У першым і другім аперацыйных правілах выдзялення фанем (дапаўняльная дыстрыбуцыя і свабоднае чаргаванне фанем) мы маем справу з рознымі гукамі, але не з рознымі фанемамі, бо апошнія не выконваюць сэнсаадрознівальнай функцыі. Таму фанемы падобнага тыпу *(і, ы; г* выбуховы і *г* фрыкатыўны і інш.) называюцца факультатыўнымі варыянтамі адной інварыянтнай фанемы. Пры арыентацыі на функцыю фанем і іх месца ў слове фактычна не бярэцца пад увагу акустычная і артыкуляцыйная якасць гукаў, праз якія рэалізуюцца ў маўленні моўныя адзінкі – фанемы. Гэтыя якасці могуць быць настолькі істотна рознымі, што пярэчаць нашаму моўнаму пачуццю, з дапамогай якога мы адрозніваем гукі і абагульняем іх у фанемы. Больш таго, за межамі пэўнай пазіцыі, дзе могуць сустракацца якасна розныя гукі, апошнія, як правіла, прадстаўляюць сабой рэалізацыі іншых фанем. Напрыклад, у славаформах *луг – лузе – лужок – лугам – лугі* на канцы каранёвай марфемы маем фанетычныя адзінкі *х, з', ж, г, г'*, якія ў дадзеным выпадку не выконваюць сэнсаадрознівальнай функцыі, але ў іншых словах і ў іншай пазіцыі яны, зразумела, дыферэнцыруюць словы і з'яўляюцца прадстаўнікамі розных фанем. У залежнасці ад пазіцыі той ці іншай навуковай школы ў мовазнаўстве прыклады прыведзенага тыпу, калі фанетычныя адзінкі з'яўляюцца якасна рознымі, атрымліваюць неаднолькавую інтэрпрэтацыю. У адным выпадку гэтыя адзінкі разглядаюцца як розныя фанемы, якія чаргуюцца ў дадзенай пазіцыі, г.зн. адбываецца мена фанем. У другім выпадку, калі паслядоўна ўлічваць дыферэнцыяльную функцыю такіх адзінак, апошнія аб'ядноўваюцца ў адзін інварыянт, які атрымаў назву гіперфанемы. Прычым гіперфанемы могуць займаць месца не толькі на стыку марфем, як гэта было паказана на прыкладзе са славаформамі лексемы *луг*, але і ў корані слова. Так, у дэрывацыйным гняздзе *вада – водны – вадзяны – вадкасць* маем у корані якасна розныя гукі, што транскрыбіруюцца адпаведна як [Λ], [*о*], [ъ], [*а*]. У падобных выпадках фанемныя рэалізацыі таксама могуць разглядацца або як чаргаванне фанем, або як адна гіперфанема. Для вывучэння фанетычных з'яў, што адбываюцца на сутоках марфем, узнікла цэлая лінгвістычная дысцыпліна, якая называецца марфаналогіяй, а фаналагічныя адзінкі, утвораныя на канцы марфем, называюцца марфанемамі (гл.: ШУБА 1987, 3–20).

У пэўных пазіцыях слова фанемы могуць страчваць сваю дыферэнцыяльную прыкмету і супадаць, такім чынам, са сваім карэлятыўным партнёрам па

усіх прыкметах, якія з'яўляюцца ў іх цалкам інтэгральнымі. Напрыклад, у слоў *род* і *рот* канечная фанема першага слова *д* страчвае па законах беларускага літаратурнага вымаўлення сваю дыферэнцыяльную прыкмету звонкасці і атаясамліваецца ў дадзенай пазіцыі з *т*. Такая з'ява страты дыферэнцыяльнай прыкметы атрымала назву нейтралізацыі. Для выяўлення ўсіх дыферэнцыяльных прыкмет фанемы істотным аказваецца паняцце моцнай і слабай пазіцыі. Моцнай пазіцыяй для галосных беларускай мовы служыць іх палажэнне пад націскам, для зычных – палажэнне перад і паміж галоснымі. Значыць, калі змяніць форму слова *род* і ўжыць яго, напрыклад, у давальным склоне *род-у*, то страчаная ў адной пазіцыі (на канцы слова) прыкмета праявіцца ў другой пазіцыі, г.зн. сутнасць самой фанемы можна разглядаць як стабільную і ўлічваць пры яе апісанні менавіта той яе змест, што рэалізуецца ў моцнай пазіцыі (у дадзеным выпадку паміж галоснымі). Фанемы, што страцілі сваю прыкмету ў выніку яе нейтралізацыі, аб'ядноўваюцца ў гіперфанемы са сваімі апазіцыйнымі партнёрамі, гэтаксама як і фанемы ў пазіцыях чаргавання на стыках марфем або ў корані слова.

## 7.13. СІНТАГМА-ФАНЕМЫ І ПАРАДЫГМА-ФАНЕМЫ

Усе значымыя адзінкі мовы ад сказа да марфемы з сінтагматычнага пункту гледжання, або лінейнага, падлягаюць паслядоўнаму чляненню на драбнейшыя адзінкі: сказ члeніцца на словазлучэнні, словазлучэнні – на словы, словы – на марфемы, марфемы – на фанемы. Далей фанемы лінейнага, ці сінтагматычнага, члянення адзінак мовы не адбываецца, і з дадзенага пункту гледжання фанема служыць драбнейшай непадзельнай апошняй "цаглінкай" мовы, або сінтагма-фанемай. З лінейных камбінацый сінтагма-фанем паслядоўна будуецца мова: фанемы → марфемы → словы → словазлучэнні → сказы → дыскурсы → тэксты → мова.

Але калі браць фанему не як частку лінейнага ланцужка, не як сінтагматычную адзінку, а ізалявана ад яго як самастойную адзінку мовы і супастаўляць яе з такімі ж іншымі самастойнымі адзінкамі, то такі пункт гледжання на фанему называецца парадыгматычным, а саму адзінку называюць парадыгма-фанемай (параўн.: ПАНОВ 1967, 286). Менавіта парадыгматычны падыход да фанемы дазволіў яе расшчапіць на больш дробныя часцінкі, якія называюцца дыферэнцыяльнымі ці сэнсаадрознівальнымі прыкметамі. Значыць, на сінтагматычнай восі мовы фанема з'яўляецца драбнейшай адзінкай мовы, а на парадыгматычнай – падзяляецца на прыкметы, з дапамогай якіх адбываецца, як гэта было паказана вышэй, дыферэнцыяцыя значэнняў слоў. На падмурку дыферэнцыяльных і інтэгральных прыкмет фанемы ўтвараюць сістэму, упарадкаваную суадноснымі прыкметамі еднасць, што звычайна і прадстаўляецца графічна ў выглядзе табліц, схем, тых або іншых выяў і г.д. (гл., напрыклад, у дачыненні да фанем беларускай мовы: CZEKMAN, SMUŁKOWA 1988, 189–287).

# 7.14. ФАНАЛОГІЯ І АРФАГРАФІЯ. ГРАФІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Нягледзячы на тое, што фанема служыць мінімальнай моўнай адзінкай, якая з сінтагматычнага пункту гледжання не падзяляецца на часткі, яна не мае адназначнай інтэрпрэтацыі з боку спецыялістаў, якія належаць не толькі да розных навуковых школ, але і да адной школы. Напрыклад гук *ы* ў беларускай мове вылучаецца ў якасці самастойнай адзінкі фактычна ва ўсіх фанетычных апісаннях і класіфікацыях, але ён не мае фаналагічнага статуса, не выконвае сэнсаадрознівальнай функцыі, таму характарыстыка яго ўпоравень з іншымі мінімальнымі адзінкамі мовы з'яўляецца супярэчлівай: такой фаналагічнай адзінкі нібы і не існуе ў беларускай мове, але ёй знаходзіцца месца ў большасці адпаведных класіфікацый беларускіх фанем.

Хаця фаналогія як навука аб драбнейшых адцягненых адзінках мовы ўзнікла толькі ў 20 ст., інтуітыўна патрэба ў гэтых адзінках адчувалася вельмі даўно, па крайняй меры, з часоў стварэння першых алфавітных сістэм, калі адзін гук адлюстроўваўся адным графічным знакам, што характарызуецца як геніяльнае адкрыццё (гл.: СОССЮР 1977, 75–76), а алфавітнае адлюстраванне членападзельнасці мовы зазначаецца нават як яе сутнасць (гл.: ГУМБОЛЬДТ 1985, 410). Вынаходнікі літарнага пісьма для розных моў (у тым ліку Кірыла і Мяфодзій для славянскай пісьменнасці, якая ва ўдасканаленым выглядзе выкарыстоўваецца ў сучаснай беларускай мове) кіраваліся ў сваёй творчай дзейнасці не столькі на характар вымаўлення гукаў, на іх акустычныя якасці, колькі на функцыі гукаў. Менавіта таму фактычна безліч гукаў маўлення, класы якіх і аб'ядноўваюцца ў сучасным мовазнаўстве ў фанемы (гл.: ГЛИСОН 1959, 225), пры іх пісьмовым адлюстраванні зводзілася ўсяго да некалькіх дзесяткаў літар, з дапамогай якіх фіксаваўся не фанетычны, а пераважна фаналагічны прынцып пісьма. Звядзенне мноства рэальных гукаў нашага маўлення да абмежаванай колькасці фаналагічных адзінак і літар адбываецца, магчыма, і таму, што ў гэтых адзінках фіксуюцца толькі тыя прыкметы, якія служаць фаналагічна істотнымі, г.зн. адыгрываюць сэнсаадрознівальную ролю, з'яўляюцца дыферэнцыяльнымі ў мове, нясуць функцыянальную нагрузку (гл.: РЕФОРМАТСКИЙ 1970, 9–10). Іменна падсвядомая фаналагічная арыентацыя стваральнікаў алфавітаў прыводзіць да таго, што спецыялістамі так і не створаны строгія арфаграфічныя сістэмы, якія б цалкам адпавядалі гукавым сістэмам той ці іншай мовы. Больш таго, некаторыя алфавіты, напрыклад лацінскі для англійскай мовы, маюць істотныя несупадзенні з гукамі пэўнай мовы.

Кірыліцкі алфавіт сучаснай беларускай літаратурнай мовы больш паслядоўна адлюстроўвае яе фанетычную сістэму (гл.: КАМАРОЎСКІ 1972, 21), але, зразумела, далёка не адэкватна адпавядае ёй (параўн.: ПАДЛУЖНЫ 1969, 137), бо мае, па-першае, літары, якім няма гукавых адпаведнікаў, напрыклад *ь* (параўн.: ГВОЗДЕВ 1963, 36); па-другое, адной літарай перадаюцца або спалучэнні двух гукаў (параўн.: *я, е, ё, ю*), або якасна розныя гукі ці фанемы (цвёрдыя і мяккія, звонкія і глухія і інш.). Асобныя гукі беларускай мовы перадаюцца спалучэннямі літар, у прыватнасці дыграфамі *дз, дж*, а таксама спалучэннем з мяккім знакам (параўн.: *гусь, радасць, пісьмо* і інш.); спалучэннем

літар перадаецца і вымаўленне падоўжаных зычных (параўн.: *збожжа, вяселле, насенне* і інш.).

Для перадачы пяці галосных фанем беларускай мовы, якія выконваюць сэнсаадрознівальную ролю, выкарыстоўваецца 10 літар: *а, е, ё, і, о, у, э, ы, ю, я*. З іх так званыя ётавыя *е, ё, і, ю, я* ў пачатку слова, а пасля галосных, ў, апострафа ў сярэдзіне і ў канцы слова выражаюць спалучэнне гукаў ( й + адпаведны галосны *э, о, і, у, а*). З дапамогай дадзеных літар перадаецца і мяккасць зычных (параўн.: *люк – лук, нёс – нос, спяць – спаць, сіта – сыта, без – бэз* і г.д.). 14 беларускіх літар *б, в, г, дз, з, к, л, м, н, п, с, ф, х, ц* перадаюць на пісьме і цвёрдыя зычныя (у прыватнасці, пасля галосных, што абазначаюцца літарамі *а, о, ы, у, э*), і мяккія (абазначаюцца спалучэннем з ётавымі ці з мяккім знакам). Літары *д, дж, ж, р, т, ў, ч, ш* абазначаюць на пісьме адпаведныя цвёрдыя зычныя гукі. Правапіс галосных і зычных гукаў беларускай літаратурнай мовы падпарадкоўваецца кадыфікаваным правілам (гл.: КАМАРОЎСКІ 1965).

У складзе сённяшняга беларускага алфавіта налічваецца 34 літары, кожная з якіх мае чатыры варыянты свайго графічнага адлюстравання, або чатыры графемы: рукапісная, друкаваная, малая, вялікая.

*А, а*, а, А; *б, Б*, б, Б; *в, В*, в, В; *г, Г*, г, Г; *д, Д*, д, Д; *дж, Дж*, дж, Дж; *дз, Дз*, дз, Дз; *е, Е*, е, Е ; *ё, Ё*, ё, Ё; *ж, Ж*, ж, Ж; *з, З*, з, З; *і, І*, і, І; *к, К*, к, К; *л, Л*, л, Л; *м, М*, м, М; *н, Н*, н, Н; *о, О*, о, О; *п, П*, п, П; *р, Р*, р. Р; *с, С*, с, С; *т, Т*, т, Т; *у, У*, у, У; *ў, Ў*, ў, Ў; *ф, Ф*, ф, Ф; *х, Х*, х, Х; *ц, Ц*, ц, Ц; *ч, Ч, ч*, Ч; *ш, Ш*, ш, Ш; *ы, Ы*, ы, Ы; *ь, Ь*, ь, Ь; *э, Э*, э, Э; *ю, Ю*, ю, Ю; *я, Я*, я, Я.

Паслядоўнасць размяшчэння літар у алфавіце з'яўляецца штучнай, умоўнай, але яе трэба ведаць гэтаксама добра, як табліцу множання, бо ў прыведзеным алфавітным парадку будуюцца разнастайныя слоўнікі (тлумачальныя, энцыклапедычныя, арфаграфічныя і г.д.), картатэкі і каталогі ў бібліятэках, шматлікія даведнікі, адрасныя і тэлефонныя кнігі і да т.п.

## 7.15. ПУНКТУАЦЫЯ

Апрача чатырох спосабаў напісання літар, графіку беларускага пісьма складаюць апостраф ('), знак націску (´), злучок (-), знакі прыпынку: кропка ( . ), коска ( , ), працяжнік ( – ), кропка з коскай ( ; ), двукроп'е ( : ), шматкроп'е ( ... ), пытальнік ( ? ), клічнік ( ! ), двукоссе ( " ). Да асобных графічных знакаў адносяцца дужкі з абодвух бакоў ( ), дужка з правага боку ), знак параграфа ( § ), інтэрвал паміж словамі, чырвоны радок для выдзялення абзацаў, разнастайныя сродкі выдзялення тэксту і яго частак (падкрэсліванні рознымі лініямі, курсіўныя і іншыя спосабы перадачы тэксту, колер, контуры і парадак размяшчэння шрыфту – па вертыкалі, наўкасяк, у разрадку, у няпоўны радок і г.д.) і інш. (параўн.: КЛЮСАЎ, ЮРЭВІЧ 1972, 5–15).

У тэкстах выкарыстоўваецца таксама шмат іншых невербальных сродкаў перадачы інфармацыі: лічбы, разнастайныя сімвалы, формулы, графікі, дыяграмы, малюнкі, фотаздымкі і да т.п., якія разам з вербальнымі сродкамі ства-

раюць арганічную еднасць і ў залежнасці ад сферы прызначэння тэксту прадстаўлены ў розных прапорцыях з імі (гл.: ПЛОТНИКОВ 1992).

З усіх графічных знакаў найбольшая ўвага ў апісаннях беларускай пісьмовай мовы адводзіцца знакам прыпынку, якія вывучаюца ў спецыяльным раздзеле – пунктуацыі. Тэрмін *пунктуацыя* ўжываецца і для абазначэння ўсёй сукупнасці знакаў прыпынку, што служаць найперш для перадачы інтанацыйных, сэнсавых і сінтаксічных асаблівасцяў мовы. Знакі прыпынку структурыруюць думку, увасобленую на пісьме, а таксама пэўным чынам кампенсуюць адсутнасць у ім прасадычных, суперсегментных кампанентаў вуснага маўлення. Правільная расстаноўка знакаў прыпынку ў тэксце служыць неабходным чыннікам пісьменнасці і адукаванасці чалавека, уваходзіць у мінімум абавязковых ведаў, якімі павінен валодаць любы навучэнец.

Сфарміраваныя спосабы напісання знакаў прыпынку беларускай мовы звязаны з традыцыяй, частатой і складанасцю іх выкарыстання ў пісьмовых тэкстах. Простыя і найбольш частотныя знакі пішуцца адным дотыкам да паперы, а ў залежнасці ад складанасці напісання размяркоўваюцца ў наступнай паслядоўнасці: кропка, коска, працяжнік, двукроп'е, кропка з коскай, выклічнік, пытальнік, дужкі, шматкроп'е. Знакі, якія ўжываюцца менш часта, патрабуюць, як мінімум, двух дотыкаў пры сваім напісанні.

Кропка служыць найбольш кароткім матэрыяльна эканомным знакам, з'яўляецца абавязковым кампанентам любога пісьмовага тэксту, абазначае межы паміж сказамі, асноўнымі камунікатыўнымі адзінкамі тэксту, падрыхтоўвае чытача да пераходу ў іншую сферу думкі, увасобленай у наступным сказе, які пішацца з вялікай літары. Апрача самастойнай функцыі, кропка ўжываецца ў якасці састаўнога кампанента іншых знакаў прыпынку (двукроп'е, кропка з коскай, клічнік, пытальнік, шматкроп'е).

Коска з'яўляецца, бадай, самым ужывальным знакам прыпынку, самым полісемічным у беларускай мове, бо здатна выконваць розныя функцыі ў пісьмовым тэксце, замяняць іншыя знакі прыпынку (працяжнік, двукроп'е, кропку з коскай, кропку). У спецыяльным даведніку (гл.: ПРАВІЛЫ БЕЛАРУСКАЙ АРФАГРАФІІ І ПУНКТУАЦЫІ 1959) адзначаецца 35 выпадкаў ужывання коскі (гл. таксама: БУРАК 1980), што значна больш, чым колькасць розных выкарыстанняў любога іншага знака прыпынку. У адных выпадках пастаноўка коскі на пісьме стандартызуецца і прадказальна (выдзяленне дзееприметнікавых і дзеепрыслоўных канструкцый, уводных слоў і сказаў, зваротаў, структурыраванне складаных сказаў і інш.), у другіх выпадках – коска служыць цалкам аўтарскім знакам і не рэгламентуецца адпаведнымі правіламі і прадпісаннямі, бо выражае індывідуальную сэнсава-інтанацыйную структуру адпаведнага паведамлення.

Шматфункцыянальным знакам прыпынку служыць працяжнік, для якога ў зазначаным даведніку зафіксаваны 22 выпадкі яго рознага ўжывання і які здольны замяняць у тэксце іншыя знакі прыпынку (коску, двукроп'е, шматкроп'е), некаторыя лексічныя адзінкі тыпу *ёсць, з'яўляецца* і інш., а таксама словы і выразы, якія паўтараюцца ў сказе, супрацьпастаўляюцца адзін аднаму, абазначаюць чаргаванні або перыядычныя змены падзей і інш., выступае ў якасці спалучальнага знака ў словазлучэннях тыпу *цягнік Мінск – Варшава, матч Дынама – Спартак* і інш.

Адносна складаным знакам прыпынку служыць двукроп'е як па сваёй будове (складаецца з двух элементаў, кропак), так і па ўжыванню. Наяўнасць гэтага знака прыпынку сігналізуе аб тым, што мы маем справу з няпростым выказваннем і па спосабу выражэння, і па змесце. У такім выказванні або нешта ўдакладняецца, або пералічваецца, або аб'ядноўваюцца дзве яго часткі, напрыклад, аўтарская і прамая мова. Двукроп'е можа ўступаць у сінанімічныя адносіны з працяжнікам, характарызуецца тым, што заўсёды ўжываецца ў сярэдзіне складанага выказвання. Двукроп'е рэдка ўжываецца ў назвах твораў, але амаль абавязкова сустракаецца ў бібліяграфічных апісаннях, спасылках, каталогах, картатэках. Пры пераводзе прамой мовы ва ўскосную двукроп'е трансфарміруецца ў коску.

Бадай, самым складаным знакам прыпынку служыць кропка з коскай. Па выражанаму сэнсу, па сваёй будове, па характару ўжывання дадзены знак ляжыць на памежжы кропкі і коскі, знешне матывуецца імі. Галоўнай яго функцыяй служыць аб'яднанне адносна самастойных сказаў у больш складанае адзінства – складаназлучаны сказ, паміж членамі якога ёсць імпліцытная сувязь, што і праяўляецца знешне дадзеным знакам прыпынку.

Знакамі канца сказа служаць акрамя кропкі клічнік, пытальнік, шматкроп'е, якія непасрэдна перадаюць на пісьме адпаведныя інтанацыйна-сэнсавыя характарыстыкі гучання таго ці іншага сказа. Пытальнік можа перадаваць інтанацыю прамога ці рытарычнага пытання ў канцы сказа, але здатны ўжывацца і ў сярэдзіне складанага сказа, пасля дадaнай пытальнай яго часткі. Клічнік звычайна выражае або эмацыянальны, або ўрачысты, або ўзрушаны, або прывітальны, або пажадальны характар паведамленняў, у канцы якіх ён ужываецца. Клічнік суправаджае таксама гукапераймальныя словы, выклічнікі і выклічнікавыя выразы, некаторыя пабочныя і ўстаўныя словы, звароткі з адпаведнай інтанацыяй, незалежна ад таго, у якім месцы сказа яны знаходзяцца.

Шматкроп'е выкарыстоўваецца ў канцы інтанацыйна незакончанага паведамлення, якое абрываецца па прычыне замінкі, хвалявання прамоўцы, пошуку неабходнага спосабу выказвання думкі і інш.

У залежнасці ад розных інтанацыйных і сэнсавых характарыстык выказвання знакі прыпынку могуць ужывацца ў камбінацыях адзін з другім (напрыклад, клічнік і пытальнік), паўтарацца для перадачы інтэнсіўнасці той ці іншай інтанацыі, каб максімальна перадаць акустычны малюнак вуснага паведамлення.

## 7.16. ПАНЯЦЦЕ ТРАНСКРЫПЦЫІ

Паколькі суадносіны паміж літарамі беларускага алфавіта і гукамі беларускай мовы не з'яўляюцца адэкватнымі, для дакладнай перадачы гучання маўлення выкарыстоўваецца фанетычная транскрыпцыя, дзе кожны гук перадаецца асобным графічным знакам (гл.: КУРС 1961, 16–17). Такім чынам, фанетычная транскрыпцыя служыць пераходам ад літары да гука на аснове тых правіл чытання, якія дзейнічаюць ў дадзенай мове (гл.: УСПЕНСКИЙ 1996, 621). Транскрыпцыю трэба адрозніваць ад транслітэрацыі, што перадае адэкватнае напісанне слоў чужой мовы. Так, назва рускага горада *Арол* транскрыбіруецца як [*арол*], а транслітаруецца як [*ор'ол*]. Для транскрыпцыі і

транслітэрацыі ўжываюцца літары беларускага алфавіта і спецыяльныя значкі, што перадаюць адметнасць гучання затранскрыбіраванага слова. У беларускай транскрыпцыі не выкарыстоўваюцца ётавыя літары, а таксама мяккі знак, замест якога прымяняецца коска, што ставіцца справа і зверху ад літары, суадноснай з мяккім зычным. Гукі, словы, словазлучэнні, сказы і тэксты, што падлягаюць транскрыпцыі, заключаюцца ў квадратныя дужкі (параўн.: [*л'*], [*п'эн'*], [*ц'ашк'і дз'эн'*], [*наступ'іла ц'оплайэ л'эта*] і да т.п.). Знак [͡] над літарамі *дз, дж* перадае злітнае вымаўленне дадзеных зычных беларускай мовы; націск кожнага слова, якое мае звыш двух складоў, памячаецца значком [']. Пры падоўжаным вымаўленні зычных выкарыстоўваецца гарызантальная рыска, якая ставіцца над адпаведнай літарай (параўн.: [*б'ярв'эн̄'э*], [*збож̄а*]. Пытальны і клічны знакі прыпынку ў канцы сказа застаюцца назменнымі. Астатнія знакі прыпынку, якія перадаюцца паўзай у вусным маўленні абазначаюцца нахіленымі рыскамі: адной рыскай [ / ] – кароткая паўза, дзвюма рыскамі [//] – доўгая паўза. Дзвюма рыскамі звычайна перадаецца паўза паміж сказамі ці асобныя сэнсава значымыя выдзяленні кампанентаў сказа пры яго актуальным чляненні (гл.: СЯМЕШКА 1999, 80–82). Выбуховы заднеязычны гук, які выкарыстоўваецца ў некаторых запазычаных словах, найперш з польскай мовы, і супрацьпастаўлены па спосабу ўтварэння фрыкатыўнаму заднеязычнаму гуку, перадаецца ў транскрыпцыі літарай *г*, а фрыкатыўны – літарай *h* [*гірса* і *hадзіна*, *ганак* і *hот* і інш.]. Службовыя словы ў тых выпадках, калі яны спецыяльна не выдзяляюцца ў маўленні, калі на іх не падае лагічны націск, вымаўляюцца як адно фанетычнае цэлае разам са знамянальнымі словамі, што спалучаюцца з імі, і перадаюцца транскрыпцыяй у адных квадратных дужках, параўн.: *пад домам* [*падомам*], *над хатай* [*натхатай*] і г.д.

Пры транскрыбіраванні дыялектнага беларускага маўлення, дзе скарыстоўваюцца гукі і іх спалучэнні, якім няма адпаведнікаў у літаратурнай мове, ужываюцца дадатковыя знакі. Так, закрытыя галосныя паўночна-заходняга дыялекту беларускай мовы *о, е* перадаюцца на пісьме пры іх транскрыбіраванні спецыяльным значком [ˆ]; параўн.: [*л'ˆес*], [*кˆот*], а дыфтонгі гэтага ж дыялектнага вымаўлення значком [͡]; параўн.: [*л'і͡ес*], [*ку͡он'*]. Літарамі *ъ, ь* перадаюцца рэдукаваныя ненаціскныя галосныя гукі, што ўжываюцца на месцы націскных *а, о, е*; параўн.: [*дз'ьс'атьк, в'ьсна*] і г.д.

## 7.17. НАЦІСК У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Важнай фанетычнай рысай беларускага вымаўлення служыць націск, які належыць да суперсегментных, несамастойных акустычных з'яў, але ва ўсіх мовах на ім грунтуецца адзінства слова (гл.: ГУМБОЛЬДТ 1984, 344). У адрозненне ад заходнеславянскіх моў, дзе націск замацаваны ў пэўных месцах слова, у беларускай мове націск з'яўляецца разнамесным, г.зн. можа быць на першым складзе (параўн.: *хата, кніга* і інш.), на другім (параўн.: *карова, зямля* і інш.), на трэцім (параўн: *барада, крыжачок* і інш.), на чацвёртым (параўн.: *баранаваць, бібліятэка* і інш.; гл.: АСНОВЫ 1992, 109–110). У параўнанні з некаторымі паўднёваславянскімі мовамі, напрыклад сербскахарвацкай, дзе націск з'яўляецца політанічным, музыкальным, склады слова характарызуюцца ўзыходзячым і сыходзячым тонамі, у беларускай мове націск – дынамічны, вы-

значаецца большай сілай і працягласцю ў адносінах да іншых складоў слова. Для адных парадыгм беларускіх слоў націск фіксуецца на пэўных складах і не залежыць ад граматычных змяненняў (у прыватнасці скланення і спражэння) адпаведных слоў. Такі націск можа быць ахарактарызаваны як нерухомы: ён адзначаецца як на корані слова (параўн.: *светлы, светлага, светламу, светлым, светлыя, светлых*), так і на афіксах (параўн.: *чытаць, чытаю, чытаеш, чытае, чытаем, чытаюць, чытаеце, чыталі, чытаў* і да т.п.; параўн.: ІВАШУЦІЧ 1981, 92). Рухомы націск зазначаецца на розных складах аднаго і таго ж слова пры яго граматычным ці дэрывацыйным змяненні (параўн.: *рукі / рукі* – назоўны склон множнага ліку і родны склон адзіночнага ліку слова *рука*, а таксама дэрыват *ручны* і інш.; гл.: БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА 1985, 354–355).

Націск у беларускай мове выконвае кульмінацыйную функцыю, якая дае мажлівасць зафіксаваць пэўную колькасць лексічных адзінак у тым або іншым адрэзку маўлення, а таксама дыферэнцыяльную, або сэнсаадрознівальную, функцыю, якая дазваляе размежаваць граматычныя формы аднаго слова (параўн.: *бацькі / бацькі, сядзіш / сядзіш* і да т.п.) і значэнні розных слоў (параўн.: *прыклад – прыклад, мука – мука* і да т.п.; гл.: SMUŁKOWA 1978, 9).

У беларускай мове націск адзначаецца толькі ў знамянальных слоў. Службовыя словы далучаюцца ў маўленчай плыні да знамянальных слоў і не маюць тут, такім чынам, націску. Далучэнне службовага слова да знамянальнага і ўвогуле ненаціскных складоў да націскных прыводзіць да фактычнага існавання ў маўленні аднаго гукавога комплексу, які называецца фанетычным словам. У апошнім кансалідаваную функцыю адыгрывае менавіта націскны склад, вакол якога аб'ядноўваюцца ненаціскныя склады (гл.: ВЫГОННАЯ 1991, 92, 101), што адыгрываюць перыферыйную ролю ў арганізацыі моўнай плыні вакол выдзеленых націскам складоў, звязаных непасрэдна таксама з прасодыяй слова, інтанацыйным малюнкам выказвання. Службовыя словы, якія стаяць перад націскам знамянальнага слова, называюцца праклітыкамі, пасля націскнога склада – энклітыкамі (гл.: ЦЫХУН 1968). Праклітыкі ў беларускай мове служаць больш ужывальнымі, чым энклітыкі, што выклікана вялікай частотнасцю прыназоўнікаў, якія звычайна стаяць перад знамянальным словам і могуць утвараць аманімію з адпаведнымі складамі (параўн.: *за абрыў – забрыў, з мора – змора, пакаралі – па каралі* і да т.п.; такія супадзенні часта выкарыстоўваюцца паэтамі ў якасці эфектыўнага стылістычнага сродку). Праклітыкамі звычайна выступаюць таксама злучнікі, некаторыя часціцы (у прыватнасці адмоўныя), асабовыя займеннікі. Энклітыкі, або службовыя словы, што стаяць пасля знамянальнага слова, сустракаюцца ў беларускай мове радзей, чым праклітыкі, і могуць далучацца як да іншых службовых слоў, так і да знамянальных, з якімі ўтвараюць адно фанетычнае слова (параўн.: *як жа, перш чым, так што* і інш.; *знаў бы, дапамагай жа* і інш.). З энклітык найбольш ужывальнымі ў беларускай мове служаць часціцы.

Ненаціскныя склады ў адносінах да націскных у межах фанетычнага слова маюць неаднолькавую выразнасць гучання (гл.: ВАЙТОВІЧ 1968): звычайна пры нармальным беларускім маўленні найбольш апазнавальным галосным з тых, што пераходзяць у іншыя гукі, з'яўляюцца галосныя першага перадnaціскнога склада (гл.: КАРСКИЙ 1955, 36). Галосныя другога пераднаціскнога склада таксама вымаўляюцца больш выразна, чым паслянаціскныя галосныя: адкрытыя канечныя склады гучаць больш выразна за астатнія паслянаціскныя

склады. У шматскладовых і складаных словах, акрамя асноўнага націску, узнікае дапаможны (фіксуецца знакам [`]), як правіла, слабейшы за асноўны, але выразнейшы, чым пры вымаўленні астатніх галосных фанетычнага слова (параўн.: *добрасумленны, прэм'ер-міністр* і да т.п.). Ужыванне дынамічнага націску тлумачыцца, з аднаго боку, рытміка-арганізацыйнымі асаблівасцямі маўлення, з другога боку, сэнсавымі фактарамі, можнасцямі выразнага выдзялення і самастойнага ўжывання адной з частак фанетычнага слова. Так, у фанетычным слове *чалавек-амфібія* пабочны націск у першай частцы складанага слова вынікае з самастойнасці слова *чалавек,* а ў слове *перараэмеркаваць* – з асаблівасцяў рытмічнай арганізацыі гучальнай матэрыі складанага шматскладовага слова, бо для беларускай мовы не ўласцівымі з'яўляюцца значныя міжнацыскныя прамежкі.

Сэнсавая роля націску ў слове палягае не толькі ў тым, што ён дапамагае адрозніць словы, якія складаюцца з аднолькавых фанем (параўн.: *ма́рыць* і *мары́ць*, *ка́са* і *каса́* і да т.п.), але і вылучыць лексемы з моўнай плыні, сканцэнтраваць на іх увагу пры так званым лагічным націску, калі ў слове месціцца ці асобы змест, ці сэнс паведамлення ў значнай ступені лакалізуецца ў дадзеным слове. Для пераважнай большасці беларускіх слоў характэрным служыць наяўнасць аднаго асноўнага націску. Толькі адносна невялікая колькасць слоў дапускае два націскі (параўн.: БІРЫЛА 1986; БІРЫЛА 1992), прычым адным з такіх варыянтных па вымаўленні слоў аддаецца перавага, яны лічацца больш правільнымі, чым іх канкурэнты (параўн.: з суадносных слоў *дзі́ўны і дзіўны́, сму́тны* і *смутны́* і інш. – больш правільнымі з'яўляюцца словы з націскам на першым складзе). У другіх выпадках абодва варыянты прызнаюцца раўнапраўнымі (параўн.: *ла́скавасць* і *ласка́васць*, *лі́тасціва* і *літасці́ва* і інш.), у трэціх выпадках адзін з варыянтаў націску ў слове прызнаецца літаратурным, другі – размоўным (параўн.*: найміт* і *наймі́т*, *ніякі* і *ніякі́, шчыпцы* і *шчы́пцы, абу́тнік* і *абутні́к* і да т.п.), г.зн. адзначаецца стылістычнае размежаванне слоў. У чацвёртых выпадках націск не на тым складзе лічыцца неправільным (параўн.: **мага́зін, *а́гент, *інстру́мент* і інш.). У многіх жа выпадках пастаноўка націску не на патрэбным складзе прыводзіць да неапазнання слова, практычна да яго скажэння ці нават разбурэння (параўн.*: *снежа́нь, *бара́да, *ста́ліца* і да т.п.).

## 7.18. ІНШЫЯ СУПЕРСЕГМЕНТНЫЯ ХАРАКТАРЫСТЫКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Вуснае маўленне, акрамя націску, які служыць уласцівасцю толькі яго асобнай часткі, фанетычнага слова, характарызуецца і такімі абавязковымі суперсегментнымі з'явамі, як інтанацыя, тон, гучнасць, мелодыка, рытм, тэмп, акцэнт, вышыня, тэмбр і інш., што праяўляецца ў частках маўлення большых, чым слова, у выказваннях, маналогах, звязных тэкстах (гл.: БОНДАРКО 1981, 159–171). На пісьме згаданыя фанетычныя характарыстыкі знаходзяць некаторае адлюстраванне ў знаках прыпынку і іншых авербальных сродках, што суправаджаюць пісьмовы тэкст. У вусным жа гучанні нашага маўлення суперсегментныя ўласцівасці ўяўляюцца настолькі разнастайнымі і невычэрпнымі, наколькі такім служыць багацце выказанай думкі і канатацый, што адцяняюць

яе нюансы і аспекты. Гучальная матэрыя і змест (семантыка) лучацца ў мове шматстайнымі матываванымі сувязямі і разам утвараюць яе арганічнае адзінства (гл.: ЖУРАВЛЕВ, 1974; ЛЕВИЦКИЙ 1973). Асабліва значную сэнсавую нагрузку нясуць суперсегментныя характарыстыкі ў такіх відах маўленчай дзейнасці, як красамоўства, паэзія, мастацкае чытанне і інш. (гл.: КАЛЯДА , ШАГІДЗЕВІЧ 1993; РАЛЬКО 1986). Інтанацыя, у прыватнасці, выступае ў вусным маўленні не толькі як пастаянны і абавязковы каментатар думкі (гл.: БАЛЛИ 1961, 118), але і як яе інтэрпрэтатар, таму што адно і тое ж выказванне, складзенае з аднолькавых слоў, можа наталяцца разнастайнымі сэнсамі аж да бясконцасці і да іх супрацьлегласці ў залежнасці ад таго, хто яго сказаў, у якой сітуацыі, з якімі суперсегментнымі ўласцівасцямі (гл.: КАЛЯДА 1989, 76–81). Гукавая гама выказвання служыць такой жа вытанчанай і бяздоннай па сваёй нюансіроўцы, як і яго змест. Спробы звесці бясконцыя суперсегментныя характарыстыкі беларускіх выказванняў да некалькіх тыпаў інтанацыйных канструкцый (параўн.: ВЫГОННАЯ 1991, 172–181; СЯМЕШКА, ШКРАБА, БАДЗЕВІЧ 1996, 109–111) фіксуюць у сябе толькі нязначную тонавую частку невычэрпных гукавых багаццяў беларускага вуснага маўлення, якія непасрэдна нітуюцца з усім магчымым змесцівам думкі, аформленай вербальнымі сродкамі. Апошнія здатны суправаджацца як сацыяльна значымымі суперсегментнымі з'явамі, якія зразумелыя для ўсіх носьбітаў беларускай мовы (параўн.: пытальныя, клічныя, рытарычныя і інш. сказы), так і індывідуальнымі афарбоўкамі, што праяўляецца ў непаўторных асабістых для кожнага носьбіта мовы суперсегментных яе характарыстыках. Гэтыя характарыстыкі ўдакладняюць, адцяняюць, выграньваюць, удасканальваюць змест любога паведамлення, наталяюць яго адпаведнымі пачуццямі, эмоцыямі прамоўцы (параўн.: ЛЁСІК 1926, 73, 116).

## 7.19. ПАНЯЦЦЕ АРФАЭПІІ. ВЫМАЎЛЕННЕ ГАЛОСНЫХ

Зразумеласць і дакладнасць вуснага маўлення дасягаюцца не толькі правільнай пастаноўкай націску ў фанетычных словах, неабходнай інтанацыяй выказвання, але і нарматыўным вымаўленнем яе асобных галосных і зычных гукаў, іх спалучэнняў (гл.: ЯНКОЎСКІ 1966). Распрацоўкай агульнаабавязковых норм літаратурнага вымаўлення займаецца раздзел мовазнаўства, які называецца арфаэпіяй. Веданне арфаэпічных норм і карыстанне імі ў паўсядзённым маўленні служыць паказчыкам агульнай культуры чалавека, якой не можа быць без культуры маўлення, а праз маўленне матэрыялізуецца ўвесь духоўны свет чалавека, вызначаецца змястоўнасць і багацце гэтага свету.

Выпрацаваныя і закадыфікаваныя ў спецыяльнай літаратуры (навуковай, даведачнай, вучэбнай) арфаэпічныя нормы знаходзяцца ўвесь час пад уплывам гутарковага спантаннага маўлення, або ўзусу, які служыць антыноміяй нормы і супярэчнасць з якім вядзе з цягам часу да змяненняў у мове. У варунках масавага білінгвізму, што характэрны для Беларусі, найбольш значнаму ўздзеянню беларускія арфаэпічныя нормы падлягаюць з боку рускага маўлення, што прыводзіць да інтэрферэнцыі, у тым ліку і на фанетычным узроўні мовы, і да ўзнікнення трасянкі, дзе змешваюцца рысы беларускага і рус-

кага вымаўлення. Акрамя таго, літаратурныя нормы маўлення аказваюцца пад уплывам асаблівасцяў дыялектнага вымаўлення многіх носьбітаў мовы, а таксама арфаграфіі, калі напісанае слова агучваецца непасрэдна ў абход арфаэпіі. Каб пазбегнуць уплыву ўсіх згаданых фактараў правільнае літаратурнае маўленне павінна бесперарыўна знаходзіцца пад усвядомленым кантролем самога прамоўцы, што патрабуе і значнай увагі, і інтэлектуальных высілкаў, бо згодна з прынцыпам эканоміі энергіі, або проста "чалавечай лянотай" (гл.: ПОЛИВАНОВ 1968, 81), кожны чалавек імкнецца гаварыць як яму зручней, з меншымі намаганнямі, карацей. Памянёны прынцып прыводзіць звычайна да такой лаканічнасці вуснага маўлення, калі скарачаецца выказванне да эліптычных форм, а ў фанетычным слове больш-менш выразна чуюцца толькі націскныя галосныя, у той час як канчаткі слоў могуць страчвацца, гэтаксама як і ненаціскныя галосныя, што рэдукуюцца часам да сваёй поўнай непазнавальнасці.

Арфаэпічныя нормы літаратурнага вымаўлення патрабуюць ад прамоўцы або выразнай артыкуляцыі ўсіх гукаў, або такога іх гучання, якое знаходзіцца ў межах пэўных правіл, выпрацаваных і замацаваных практыкай маўлення і рэкамендаваных у сацыяльным ужытку. Дадзеныя нормы ў адносінах да ўсіх націскных галосных беларускай літаратурнай мовы, а таксама ў дачыненні да ненаціскных *і, ы, у* зводзяцца да іх выразнага вымаўлення. Астатнія ненаціскныя галосныя рэдуцыруюцца, але таксама не страчваюць усіх сваіх акустычных якасцяў. У адпаведнасці з характэрнай фанетычнай рысай беларускай мовы – аканнем, галосныя *о, э, а* пасля цвёрдых зычных ва ўсіх ненаціскных складах пераходзяць у *а*, вымаўляюцца як *а*, за выняткам не засвоеных іншамоўных запазычанняў і асобных беларускіх лексем (параўн.: *інжынер, рэкорд, крывавы* і інш.). Гэтыя ж гукі *о, э, а* пасля мяккіх зычных у першым пераднаціскным складзе пераходзяць таксама ў *а*, але на пісьме ён перадаецца як *я*, а сам працэс называецца яканнем (параўн.: *лясок, нясу, цяпер* і інш.). Пачатковы гук *і* пасля цвёрдых зычных (акрамя *г, к, х*), што стаяць у канцы папярэдняга слова, а таксама ў складаных словах з першай часткай на цвёрды зычны, пераходзіць у гук *ы* (параўн.: *горад* [ *ы* ] *вёска, лес* [ *ы* ] *поле, Іван з* [*ы*]*рай, пед*[*ы*] *нстытут* і г.д., *але смех* [ *і*] *грэх* і да т.п.). Пасля галоснага ў сярэдзіне слова перад націскным *і* вымаўляецца эпентэтычны (устаўны) гук *й* (параўн.: *кра*[*йі*]*на, сва*[*йі*]*мі* і г.д.), які ўзнікае таксама перад націскным *і* ў пачатку слова, марфемы, пасля апострафа і мяккага знака (параўн.: [*йі*]*голка, за*[*йі*]*мжыць, сям*[*йі*], *Іль*[*йі*]*ч* і г.д.). Эпентэтычны *й* узнікае і пры вымаўленні запазычаных слоў паміж спалучэннямі галосных (параўн.: *сацы*[*йа*]*льны, ды*[*йа*]*лог* і да т.п.). У тых выпадках, калі ў канцы папярэдняга слова стаіць галосны гук, *і* пераходзіць у *й* (параўн.: *хлопцы* [*й*]*граюць, на* [*й*]*ржышчы, арэхі* [*й*] *жалуды* і да т.п.). Прыназоўнік *у* і пачатковы *у* вымаўляюцца як *ў*, калі папярэдняе слова заканчваецца галосным (параўн.: [*зазвінела ў вушах*], [*чытала ўчора*] і да т.п.).

## 7.20. ВЫМАЎЛЕННЕ ЗЫЧНЫХ

У беларускай мове ёсць зычныя гукі, якія адсутнічаюць у суседняй рускай мове, у прыватнасці афрыкаты *дз, дз', дж*, што абазначаюцца на пісьме дзвю-

ма літарамі, але вымаўляюцца як адзін гук. Цвёрдая афрыката [*дз*] сустракаецца толькі у запазычаных і гукапераймальных словах (параўн.: *нэндза, дзынкаць* і інш.). Гук [*дз'*] ужываецца ў беларускай мове значна часцей, чым [*дз* ] і ўзнік на месцы этымалагічнага мяккага [*д'*], які ёсць у рускай мове, але адсутнічае ў беларускай (параўн.: *дед* і *дзед*, *дети* і *дзеці* і інш.). Гук [*дж*] прыдатны ў асноўным дзеяслоўным формам (параўн.: *сяджу, гляджу* і інш.), а таксама аддзеяслоўным назоўнікам (параўн.: *адраджэнне, пасяджэнне* і інш.) і з'яўляецца адносна рэдкім гукам. На мяжы прыстаўкі і кораня сустракаюцца спалучэнні гукаў [*дз*], а таксама [*дж*] , якія вымаўляюцца асобна (параўн.: *падземка, аджаць* і да т.п.). Адсутнічае ў беларускай мове і мяккі зычны [*т*], на месцы якога вымаўляецца [*ц'*] (параўн.: *кот*, але *ко*[*ц'*] *ік*, *рот*, але *ў ро*[*ц'*]*е* і інш.).

Гук [*г*] у беларускай мове служыць звонкім фрыкатыўным гукам, які па першай прыкмеце супрацьпастаўляецца глухому [*х*], а па другой – выбуховаму [*к*] (параўн.: [*г*]*ор* і [*х*]*ор*, [*г*]*од і* [*к*]*од* і інш.). Выбуховы *г* вымаўляецца толькі ў некаторых словах, запазычаных пераважна з польскай мовы (параўн.: [*г*]*узік, шва*[*г*]*ер* і інш.). Гукі *ж, ч, ш, р* вымаўляюцца заўсёды ў беларускай літаратурнай мове цвёрда (параўн.: [*ж*]*ыццё*, [*ч*]*орны*, [*ш*]*эпт, пе*[*р*]*ад* і інш.). Гэтаксама цвёрда вымаўляюцца губныя гукі *п, б, м, ф* у канцы слоў і перад *й* (параўн.: [*б'*]*йу, цэ*[*п*], *се*[*м*], *скі*[*ф*], [*п'*]*йаны* і інш.). Губна-зубны зычны [*в*] на канцы слова, а таксама паміж галоснымі перад зычным вымаўляецца як [*ў*] (параўн.: *мова – моў, слова – слоў, галава – галоўка* і інш.).

Звонкія зычныя ў беларускім літаратурным вымаўленні перад глухімі і ў канцы слоў страчваюць прыкмету звонкасці, гэтаксама як і ў рускай мове, але ў адрозненне ад украінскай (гл.: АНІЧЭНКА 1982, 50), і гучаць як глухія, а глухія перад звонкімі, наадварот, вымаўляюцца як звонкія (параўн.: *гора*[*т*], *гара*[*т*]*ка* і *ка*[*з'*]*ба* і інш.). Зубныя зычныя *с, з* у палажэнні перад мяккімі зычнымі (апрача *г, к, х*) прыпадабняюцца ім і вымаўляюцца мякка (параўн.: [*с'*]*певы*, [*з'*]*лева* і інш., але [*с*]*ківіца*, [*з*]*гінуць* і інш.). Свісцячыя зычныя перад шыпячымі, а шыпячыя перад свісцячымі прыпадабняюцца да адпаведных гукаў, г.зн. да гукаў, што ідуць пасля іх (параўн.: [*ш*]*ытак 'сшытак'*, *чэ*[*с*]*кі 'чэшскі'* і інш.). Змякчаюцца перад мяккімі зубнымі зычнымі [*дз'*], [*ц'*, [*н'*], а таксама перад [*й* ] і зубныя гукі [*н*], [*л*] (параўн.: [*каман'дз'ір*], [*л'йэ*] і інш.), якія, аднак, перад астатнімі мяккімі зычнымі застаюцца цвёрдымі (параўн.: [*тонк'і*], [палк'і], і інш.). Заднеязычныя [*г*], [*к*], [*х*] перад мяккімі зычнымі вымаўляюцца як цвёрдыя (параўн.: [*выгл'ат*], [*кл'ін*], [*хл'еп*] і інш.). Зычныя гукі ў спалучэнні з *й* вымаўляюцца падоўжана (гл.: КАРСКИЙ 1962, 446), гэтаксама як зычныя *дз, ж, з, л, н, с, ц, ч, ш* у становішчы паміж галоснымі (гл.: БЕРНШТЕЙН 1961, 266), што адлюстроўваецца на пісьме падвоеным напісаннем адпаведных літар (параўн.: *палаводдзе, збожжа, рыззё, галлё, карэнне, калоссе, смецце, ноччу, узвышша* і інш.). Зубныя змычныя гукі *д, т* перад афрыкатамі *ч, ц* прыпадабняюцца ім і вымаўляюцца адпаведна як падоўжанае *ч* або *ц* (параўн.: [*рак'ечык*], [*у буцы*] і інш.). Перад мяккімі зычнымі [*в*], [*м*] гукі [*д*], [*т*] змякчаюцца і гучаць як [*дз*], [*ц*] (параўн.: [*дз'ве*], [*змярц'в'елы*] і інш.). Спалучэнні зычных [*зск*] вымаўляюцца як [*ск*] (параўн.: *кіргі* [*ск*]*і* і інш.), а [*дск*] як [*цк*] (параўн.: *лю*[*ц*]*кі* і інш.). Спалучэнне зычных [*чн*] вымаўляецца нязменна (гл.: ЯНКОЎСКІ 1972, 66) згодна з напісаннем (параўн.: *гу*[*чн*]*ы, бае*[*чн*]*ы* і інш.).

Аднак на мяжы слоў спалучэнні зычных гукаў не заўсёды падпарадкоўваюцца зазначаным правілам, што залежыць найперш ад хуткасці маўлення, індывідуальных асаблівасцяў прамоўцы і іншых фактараў. Так, шыпячыя перад свісцячымі на стыку слоў могуць мяняцца толькі па прыкмеце глухасці / звонкасці: глухія прыпадабняюцца звонкім (параўн.: [*не бол'ж за нас*] і інш.), а свісцячыя перад шыпячымі вымаўляюцца як шыпячыя, г.зн. падпарадкоўваюцца агульнаму правілу, якое тычыцца вымаўлення спалучэнняў адпаведных зычных і ўнутры слова, а таксама на мяжы толькі службовых і знамянальных слоў (параўн.: [*жахам*] *'з жахам'*, але [*воз жыта*] і інш.). Вымаўленне слоў іншамоўнага паходжання таксама мае пэўныя адхіленні ад норм літаратурнага вымаўлення, бо на адпаведныя словы, напрыклад, не распаўсюджваецца дзеканне (параўн.: *дэкада, дыяспара* і інш.) і цеканне (параўн.: *тэатр, тэзіс* і інш.); на месцы афрыкаты *дж* можа ўжывацца спалучэнне гукаў *дж* (параўн.: *джэм, таджык* і інш.).

Такім чынам, у многіх выпадках арфаэпічных норм беларускага літаратурнага вымаўлення пры дэрывацыі слоў і змяненні іх граматычных форм адзначаюцца разнастайныя чаргаванні як галосных (параўн.: аканне, яканне), так і зычных гукаў (параўн.: прыпадабненне гукаў, іх падоўжанае вымаўленне і інш.). Дадзеныя чаргаванні назіраюцца ў пэўных пазіцыях гука ў слове, таму называюцца пазіцыйнымі. На якасць вымаўленага гука ўплываюць суседнія гукі, а на якасць галосных дадаткова і іх адносіны да месца націску ў слове (гл.: ЮРГЕЛЕВІЧ 1974, 47).

## 7.21. ГІСТАРЫЧНЫЯ ЧАРГАВАННІ ГУКАЎ

Змены гукаў у словах беларускай мовы могуць тлумачыцца не толькі сучаснымі фанетычнымі працэсамі, але і тымі працэсамі, што дзейнічалі ў мове раней і былі выкліканы, у прыватнасці, іншым наяўным інвентаром гукаў. Сістэма гукаў на сённяшні час змянілася, а вынікі старажытных фанетычных працэсаў захаваліся; існыя з даўніх часоў чаргаванні называюцца гістарычнымі. Зразумела, раней гэтыя чаргаванні былі пазіцыйнымі. Так, у праславянскай мове існавалі доўгія і кароткія галосныя (гл.: СЕЛИЩЕВ 1968, 562), якія захаваліся, напрыклад, у сучасных чэшскай і славацкай мовах. На аснове ранейшых чаргаванняў кароткіх і доўгіх галосных у сучаснай беларускай мове назіраюцца чаргаванні *у – о – ы* (параўн.: *сухі – сохнуць – засыхаць*). Агульнаеўрапейскі кароткі гук *у* быў прадстаўлены ў праславянскай мове рэдукаваным гукам *ъ, які ў моцнай пазіцыі (пад націскам) рэалізаваўся галосным *о* (параўн.: *збіраць,* але *збор* і інш.). На месцы старажытнага кароткага *і*, які чаргаваўся з доўгім *і,* узнік рэдукаваны гук *ь*, што ў сучаснай беларускай мове чаргуецца з *я* (параўн.: *браць*, але *бяру* і інш.). Да старажытных часоў узыходзіць таксама чаргаванне *а / е* (параўн.: *насіць / несці* і інш.). Гук *а* чаргаваўся раней і з насавымі галоснымі, якія ў беларускай мове зніклі (захаваліся ў польскай мове), на месцы падобных чаргаванняў маем зараз мену гука *а* і насавых зычных (параўн.: *жаць*, але *жну*, *узяць*, але *вазьму* і інш.). Даволі шырока прадстаўлены ў сучаснай беларускай мове гістарычныя чаргаванні галосных *о, е* з нулём гука, якія звязаны з існаваннем рэдукаваных галосных **ь, *ъ* (параўн.: *дзень / дня, сон / сну* і інш.). Спецыфічнымі для беларускай мовы

служаць гістарычныя чаргаванні *ро, ло* з *ры, лы* (параўн.: *гром / грымець, глотка / глытаць* і інш.; гл.: АНІЧЭНКА 1982, 62).

Манафтангізацыя старажытных дыфтонгаў **оу, *еу* прывяла да ўзнікнення ў беларускай мове спалучэнняў *ав, яв* і іх чаргаванняў перад зычнымі адпаведна з *у, ю* (параўн.: *начаваць / начую, кляваць / клюю* і інш.). Вынікам старажытнай першай палаталізацыі (памякчэння) заднеязычных *г, к, х* паслужыла іх чаргаванне перад галоснымі пярэдняга рада з *ж, ч, ш* (параўн.: *дарагая / даражыць, рука / даручыць, страх / страшыць* і інш.), а таксама чаргаванні заднеязычных з шыпячымі, якія ўзніклі на месцы **j* (параўн.: *плакаць / плачу, сухі / сушыць, друг / дружок* і інш.). Са старажытным гукам **j* звязаны ў беларускай мове чаргаванні шыпячых і пярэднеязычных *д, дз, т, ц', з, с, ст* (параўн.: *лазіць / лажу*, *прасіць / прашу* і інш.), чаргаванні губных з губнымі плюс *л* (параўн.: *купіць / куплю, карміць / кармлю* і інш.), а таксама пярэднеязычных (апрача *р, дж*) з падоўжанымі гукамі (параўн.: *соль / соллю, ноч / ноччу, восень / восенню* і інш.; гл.: ТРУБЕЦКОЙ 1987, 149–150). Вынікам так званай другой палаталізацыі заднеязычных служаць у беларускай мове іх гістарычныя чаргаванні са свісцячымі (параўн.: *бераг / на беразе, паверх / на паверсе* і інш.; гл.: ГУРСКІ 1962, 54–57). Не звязанымі з палаталізацыяй з'яўляецца чаргаванне *л* з *ў*, якое рэгулярна рэалізуецца ў дзеясловах мужчынскага роду прошлага часу (параўн.: *была / быў, чытала / чытаў* і інш.; гл.: КУРС 1961, 49).

У галіне фанетыкі беларуская літаратурная мова адрозніваецца ад дыялектаў беларускай мовы як сваім вакалізмам, кансанантызмам, так і адметнасцю вымаўлення многіх гукаў, якасцю фанетычных працэсаў і інш. (гл.: ЯНКОЎСКІ 1961, 30–55; БЛІНАВА, МЯЦЕЛЬСКАЯ 1980, 28–66).

# 8. МАРФАЛОГІЯ

## 8.1. ГРАМАТЫЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ І ЯГО АСНОЎНЫЯ КРЫТЭРЫІ

Марфалогія (грэчаскае morphē ‘форма‘ і logos ‘вучэнне‘) з’яўляецца адной з галоўных і важнейшых частак унутранага мовазнаўства, у прыватнасці беларускага, дзе вывучаюцца тыя аспекты плана зместу слоў, якія выражаюцца пэўнымі граматычнымі, ці фармальнымі, сродкамі. Гэтыя сродкі характарызуюцца сваёй рэгулярнасцю, ці паўтаральнасцю, і замацаванасцю за імі моўнай практыкай асобных значэнняў, што называюцца граматычнымі. Такім чынам, у межах марфалогіі даследуюцца граматычныя значэнні слова, якія разам з лексічнымі складаюць яго план зместу. Граматычнае значэнне існуе ў арганічнай еднасці з лексічным (параўн.: ПОТЕБНЯ 1958, 39), але тым не менш абстрагуецца са слоў як адносна самастойная існасць для таго, каб больш дэталёва ахарактарызаваць тую частку невычарпальнай моўнай семантыкі, што цалкам належыць да кампетэнцыі лінгвістыкі, бо план зместу слова як адзінае цэлае даследуецца і ў філасофіі, і ў логіцы, і ў псіхалогіі, і ў іншых навуках, звязаных з вывучэннем мыслення, свядомасці, пачуццяў, знітаваных з мовай і апасродкаваных ёй.

Граматычнае значэнне выдзяляецца з семантычных нетраў слова з дапамогай цэлага шэрагу лінгвістычных крытэрыяў, на аснове якіх праводзіцца больш-менш выразная мяжа з лексічным значэннем. Згаданыя крытэрыі можна сфармуляваць у выглядзе наступных разгорнутых палажэнняў.

1. Лексічнае значэнне слова служыць індывідуальнай уласцівасцю апошняга. Кожнае слова мае свой асобны план зместу, які хаця часта і перасякаецца са значэннямі іншых слоў, з’яўляецца адметным для кожнага слова, бо мае ў сябе пэўныя дыферэнцыяльныя рысы, што адрозніваюць адно слова ад іншых. Граматычнае значэнне слова прадстаўляецца надіндывідуальным, таму што яно прыдатнае не аднаму якому-небудзь слову, а цэламу шэрагу лексем (гл.: ШУБА 1969, 6), якія на аснове еднасці дадзенага значэння аб’ядноўваюцца ў граматычныя парадыгмы, або разнастайныя граматычныя класы слоў. З улікам таго, што адно і тое ж слова можа змяшчаць у сябе адначасова некалькі граматычных значэнняў (напрыклад, назоўнік характарызуецца наяўнасцю ў ім роду, ліку, склону і інш.), гэтае слова ўваходзіць у розныя граматычныя парадыгмы. Такім чынам, у якасці першага крытэрыя граматычнага значэння служыць яго надіндывідуальны, калектыўны характар, наяўнасць яго ў мностве слоў.

2. Матэрыяльным падмуркам граматычнага значэння з’яўляюцца разнастайныя фармальныя паказчыкі (параўн.: БЛУМФИЛД 1968, 176), праз якія яно і выражаецца, і фіксуецца. Гэтыя паказчыкі могуць існаваць як у межах слова, так і па-за словам, напрыклад, у выглядзе службовых часцін мовы (артыкляў, прыназоўнікаў, часціц і інш.). Найбольш распаўсюджанымі граматычнымі, матэрыяльнымі паказчыкамі для беларускай мовы служаць разнастайныя афіксы (канчаткі, прэфіксы, суфіксы), якія

адзначаюцца ў складзе пераважнай большасці слоў, адзін і той жа афікс, напрыклад канчатак, звычайна выражае ў беларускай мове некалькі розных граматычных значэнняў і, такім чынам, з'яўляецца поліфункцыянальным. Так, канчатак *-о* ў слове *акно* выражае і граматычнае значэнне ніякага роду, і значэнне адзіночнага ліку, і аманімічнае значэнне назоўнага / вінавальнага склону. Граматычнае значэнне можа матэрыялізавацца такімі фармальнымі паказчыкамі, як націск (параўн.: *тра́вы – травы*, множны лік назоўнага склону і адзіночны лік роднага склону дадзенага слова *трава*). За межамі лексемы яе граматычнае значэнне часцей за ўсё ў беларускай мове рэалізуецца прыназоўнікамі (параўн.: месны склон) або парадкам слоў у сказе, інтанацыяй, лагічным націскам (гл.: РАГАЎЦОЎ, ЮРЭВІЧ 1987, 105–112).

3. Важнай прыкметай граматычнага значэння служыць яго абавязковы характар (гл.: КАРЦЕВСКИЙ 1928, 7), г.зн. што яно з'яўляецца заўсёды наяўнай і неад'емнай уласцівасцю слова пры яго ўжыванні, строга прадпісваецца для яго выкарыстання любым носьбітам мовы. Так, згаданыя значэнні роду, ліку, склону абавязкова суправаджаюць кожны назоўнік беларускай мовы, а такое значэнне, як пэўнасць / няпэўнасць, што служыць абавязковым, ці граматычным, напрыклад, для англійскай мовы, у беларускай мове далёка не заўсёды суправаджае ўжыванне кожнага назоўніка, здольна праяўляцца толькі лексічнымі сродкамі (параўн.: *гэты чалавек* і *які-небудзь чалавек*), з'яўляецца неабавязковым, а таму і не выражае граматычнага значэння. Апошняе з гэтага пункту гледжання ўяўляецца як бы закадзіраваным у слове, генетычна зададзеным у ім, своеасаблівым сродкам, што лучыць форму і змест слова ў адну сутнасць.

4. Лексічнае значэнне слова можа быць канкрэтным і абстрактным, прычым абстрактнасць развіваецца на аснове абагульнення тых ці іншых уласцівасцяў пэўных знешніх рэалій і саміх абазначаных словам рэалій, г.зн. пазамоўных з'яў. Граматычнае значэнне можа быць толькі абстрактным, прычым у кожным з іх абстрагуюцца і тэрміналагізуюцца ўнутрымоўныя рэаліі, якія могуць прама ці апасродкавана матывавацца пазамоўнымі рэаліямі (параўн.: катэгорыі часу, асобы, ліку і інш.), а могуць мець цалкам унутрымоўны характар (параўн.: катэгорыю склону імені, катэгорыю спражэння дзеяслова і інш.).

5. Граматычныя значэнні, ў адрозненне ад лексічных, уяўляюць сабой закрыты клас. У той час як колькасць граматычных значэнняў з'яўляецца абмежаванай і іх звычайна інвентарызуюць у граматычных апісаннях канкрэтных моў, лексічныя значэнні ўтвараюць у любой жывой мове адкрытае мноства, якое да таго ж слабей структурыравана, чым сістэма граматычных значэнняў (гл.: МЕЛЬЧУК 1997, 242–243). Такім чынам, граматычныя значэнні маюць надіндывідуальны характар, з'яўляюцца абавязковымі для мовы, рэалізуюцца разнастайнымі і рэгулярнымі фармальнымі паказчыкамі, уяўляюць сабой унутрымоўную абстрактную існасць, з'яўляюцца добра структурыраваным закрытым мноствам.

## 8.2. СУАДНОСІНЫ ПАМІЖ ЛЕКСІЧНЫМ І ГРАМАТЫЧНЫМ ЗНАЧЭННЯМІ

Нягледзячы на памянёныя крытэрыі граматычнасці правесці дэмаркацыйную лінію паміж лексічнай і граматычнай семантыкай часта немагчыма нават пры наяўнасці ў слове выразных фармальных паказчыкаў. Так, у слове *асін-к-а* коранем *асін-* выражаецца рэчыўнае значэнне, суфіксам *-к-* – дэрывацыйнае, або дадатковае, значэнне, канчаткам *-а* – адноснае, цалкам унутрымоўнае значэнне, якое сігналізуе пра характар сувязі слоў у паведамленні і можа матэрыяльна мяняцца ў залежнасці ад гэтага характару (параўн.: *асінка стаіць, бачыць асінку,*

*гаварыць аб асінцы, на галінках асінкі* і г.д.). Лексічнае значэнне ўтвараецца з сумы рэчыўнага і дэрывацыйнага, а граматычнае – з сумы дэрывацыйнага і адноснага, што можна паказаць у выглядзе наступнай выявы.

Рэчыўнае дэрывацыйнае адноснае




Лексічнае значэнне ў гэтым выпадку як бы ўрастае ў граматычнае нават з пункту гледжання фармальнага выражэння граматычнага значэння, праз суфікс, а граматычнае значэнне праз гэты ж фармальны кампанент арганічна нітуецца з лексічным (параўн.: СЕПИР 1993, 90–91).

Яшчэ больш складаны характар суадносін маюць лексічныя і граматычныя значэнні не на фармальным, а на семантычным узроўні, бо яны перараз-мяркоўваюцца не толькі на матэрыяле розных моў (напрыклад, катэгорыя трывання мае ў беларускай мове граматычную прыроду, у англійскай – лексічную, бо не з'яўляецца ў ёй абавязковай), але і ў розныя перыяды развіцця адной і той жа мовы. Памянёнае значэнне трывання пры развітой сістэме форм выражэння часу ў праславянскай і старажытнаўсходнеславянскай мовах не было граматычным, але ў сувязі са спрашчэннем граматычных форм часу (было восем форм выражэння – адна форма цяперашняга часу, чатыры формы прошлага, тры формы будучага; засталося толькі тры – формы цяперашняга, прошлага і будучага часу; гл.: БОРКОВСКИЙ, КУЗНЕЦОВ 1963, 251; МОЖЕЙКО, ИГНАТЕНКО 1988, 139), у сучаснай беларускай мове з лексічнай формы зрабілася граматычнай. І наадварот, катэгорыя парнага ліку раней была граматычнай, зараз з'яўляецца лексічнай, хаця фармальныя рэшткі яе выражэння захаваліся ў асобных устойлівых выразах сучаснай беларускай мовы (параўн.: *абое рабое* і інш.).

Пры характарыстыцы і апісанні граматычных значэнняў сучаснай беларускай мовы часта нельга абысціся без выкарыстання разнастайных семантычных дэфініцый і прыкмет, якія скрыта (утоена) або яўна ўводзяцца ў апісанне тых або іншых граматычных катэгорый і з'яў. Так, пры размеркаванні знамянальных слоў па часцінах мовы ў навуковых працах (гл.: БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА 1985) назоўнік вызначаецца як "часціна мовы з агульным значэннем прадметнасці...", дзеяслоў – як "часціна мовы, якая абазначае дзеянне або стан ...", прыметнік – як "часціна мовы, якая абазначае прыкмету прадмета...", прыслоўе – як "часціна мовы, якая абазначае працэсуальную прыкмету дзеяння...".

Семантычныя крытэрыі выкарыстоўваюцца пры размеркаванні падобных слоў па розных граматычных разрадах: назоўнікі падзяляюцца на агульныя і ўласныя, канкрэтныя і абстрактныя, адушаўлёныя і неадушаўлёныя, зборныя і рэчыўныя; прыметнікі – на якасныя, адносныя і прыналежныя; прыслоўі – на азначальныя (якасныя, колькасныя і спосабу дзеяння) і акалічнасныя (прыслоўі са значэннем часу, месца, прычыны і інш.) і г.д. Нават пры класіфікацыі слоў па граматычных класах (часцінах мовы) у сінкрэтычным выглядзе або разам выкарыстоўваюцца звычайна і фармальныя, і семантычныя прыкметы (параўн.: СМИРНИЦКИЙ 1959 100–101), таму гэтую класіфікацыю мэтазгодна ахарактарызаваць як лексіка-

граматычную (параўн.: КРИВИЦКИЙ, МИХНЕВИЧ, ПОДЛУЖНЫЙ 1990, 80), бо пры апірышчы толькі на фармальныя паказчыкі словы размяркоўваюцца на нетрадыцыйныя граматычныя класы (параўн.: ПЛОТНИКОВ, ТРАЙКОВСКАЯ 1989, 43–46). Так, у П.Ф.Фартунатава да аднаго граматычнага класа адносяцца лексемы без форм словазмянення, г.зн. прыслоўі, дзеепрыслоўі, інфінітывы і нескланяльныя назоўнікі, якія ў традыцыйных граматыках належаць да розных часцін мовы (гл.: ФОРТУНАТОВ 1956 155–175). У І.Я.Анічкава дзеепрыслоўі, дзеепрыметнікі, інфінітывы адначасова ўваходзяць у розныя граматычныя разрады (АНИЧКОВ 1997, 311). На падставе пераважна семантычных крытэрыяў некаторыя даследчыкі выдзяляюць такую часціну мовы, як катэгорыю стану (гл.: ЩЕРБА 1974, 90–91; ШУБА 1975, 30–35), але іншыя навукоўцы адносяць словы тыпу *холадна, весела* і да т.п. у выразах *на вуліцы холадна, мне весела* да прэдыкатыўных прыслоўяў (гл.: ЮРГЕЛЕВІЧ 1974, 238).

У граматычных апісаннях беларускай мовы стабільна вылучаюцца наступныя знамянальныя часціны мовы: назоўнік, прыметнік, займеннік, лічэбнік, якія аб'ядноўваюцца ў катэгорыю імені; а таксама дзеяслоў (яго формы дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе), прыслоўе. Да незнамянальных часцін мовы, па словах Л.У.Шчэрбы "дробных слоў", адносяць злучнікі, прыназоўнікі, часціцы, выклічнікі і як асобны разрад – гукапераймальныя словы (гл.: ГРАМАТЫКА 1962).

## 8.3. НАЗОЎНІК І ЯГО ЛЕКСІКА-ГРАМАТЫЧНЫЯ РАЗРАДЫ

Назоўнік характарызуецца як часціна мовы са значэннем прадметнасці, выражанай марфалагічнымі катэгорыямі роду, ліку, склону. Паняцце прадметнасці ахінае не толькі найменні канкрэтных рэалій рэчаіснасці, але і назвы адцягненых рэалій, якасцяў, дзеянняў, прыкмет, працэсаў, з'яў, уласцівасцяў і інш. Катэгарыяльнае значэнне прадметнасці не можа служыць адэкватным адпаведнікам канкрэтнай прадметнасці, што служыць асновай для выдзялення толькі аднаго класа назоўнікаў (канкрэтныя назоўнікі тыпу *стол, кніга, дрэва* і да т.п.). Па сутнасці, значэнне прадметнасці ўяўляецца лексічнай катэгорыяй, якая афармляецца пэўнымі граматычнымі паказчыкамі, таму назоўнікі правамерна называюць лексіка-граматычным разрадам слоў. Асабліва відавочна лексіка-граматычны характар назоўнікаў праяўляецца пры іх класіфікацыі на ўжо згаданыя разрады, што традыцыйна вылучаюцца з улікам і лексіка-семантычных, і марфалагічных крытэрыяў (адушаўлёныя і неадушаўлёныя, канкрэтныя і абстрактныя, агульныя і ўласныя, зборныя, рэчыўныя). Межы гэтых разрадаў назоўнікаў перакрыжоўваюцца, бо адны і тыя ж словы звычайна ўключаюцца адначасова ў некалькі груп. Напрыклад, адны адушаўлёныя назоўнікі могуць быць ахарактарызаваныя і як уласныя, і як абстрактныя (параўн.: *Алесь, Яніна, Сымон* і да т.п.), іншыя – як агульныя і як канкрэтныя (параўн.: *цясляр, дзяўчына, маці* і інш.).

Акрамя лексіка-граматычных разрадаў, назоўнікі натуральна падзяляюцца на разнастайныя тэматычныя групоўкі, якія часцей за ўсё вылучаюцца ў межах памянёных разрадаў (параўн.: назвы раслін, жывёл, прылад працы і інш. – сярод канкрэтных назоўнікаў, назвы духоўных паняццяў, грамадскіх фармацый, навуковых плыняў і інш. – сярод абстрактных назоўнікаў і г.д.). Агульныя і ўласныя назоўнікі падзяляюцца на аснове таго, што першыя абагульняюць назвы аднародных прадметаў у адзін клас, абазначаюць не асобныя прадметы, а мноства прадметаў або тоесных цалкам (параўн.: *кропля, суніца, яйка* і да т.п.), або з агульнай дамінантнай рысай (параўн.: *дом, стул, хмара* і да т.п.); другія ж абазначаюць

асобныя прадметы і рэаліі з шэрагу аднатыпных, індывідуалізуюць іх (параўн.: *Мінск* – сярод мноства гарадоў, *Беларусь* – сярод мноства краін, *Ганна* – сярод мноства імёнаў і г.д.).

Сярод уласных імёнаў вылучаюцца імёны людзей (параўн.: *Скарына, Купала, Каліноўскі* і інш.), тапанімічныя і астранамічныя назвы (параўн.: *Гродна, Нарач, Сатурн* і інш.), найменні прадпрыемстваў, арганізацый выдавецтваў, назвы гатункаў, вырабаў і інш. (параўн.: завод "*Віцязь*", выдавецтва "*Полымя*", каманда "*Дынама*", тэлевізар "*Гарызонт*" і да т.п.). У адрозненне ад агульных назоўнікаў уласныя ўжываюцца, як правіла, у адной форме ліку, часцей у адзіночным, не супрацьпастаўляюцца па ім (параўн.: *Спартак*, *Брэст*, але *Баранавічы* і *горад / гарады, дождж / дажджы* і інш.). У множным ліку могуць ужывацца ўласныя імёны, якія адносяцца, напрыклад, да розных людзей (параўн.: *два Сымоны, сям'я Пратасавых* і інш.).

Ва ўзаемасувязях агульных і ўласных імёнаў існуе адваротная залежнасць: агульныя імёны часцей выкарыстоўваюцца ў значэнні ўласных, пэўным чынам матывуюць іх (параўн.: *Колас* і *колас*, *Крапіва* і *крапіва*, *Танк* і *танк* і інш.), у той час як уласныя імёны ўжываюцца ў значэнні агульных значна радзей (параўн.: *форд, наган, хам* і інш.; гл.: КУРИЛОВИЧ 1962, 264). На пісьме ўласныя назвы адрозніваюцца ад агульных тым, што пішуцца ў беларускай мове заўсёды з вялікай літары.

Канкрэтныя і абстрактныя назоўнікі размяжоўваюцца тым, што ў першых граматычная і лексічная прадметнасць супадае, тады як у другіх адзначаецца толькі граматычная прадметнасць. Але канкрэтныя назоўнікі абазначаюць не толькі ўспрымальныя нашымі органамі пачуццяў прадметы (параўн.: *канапа, куст* і да т.п.), але і больш ёмістыя рэаліі, калі нашымі органамі пачуццяў фіксуецца толькі іх частка (параўн.: *рака, снег* і да т.п.). Абстрактныя назоўнікі абазначаюць адцягненыя паняцці, пачуцці, якасці, прыкметы, дзеянні (параўн.: *свабода, каханне, дабрыня, блакіт, гарачыня* і да т.п.), не спалучаюцца, як правіла, з лічэбнікамі і рэдка выкарыстоўваюцца ў форме множнага ліку. Абстрактныя назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку маюць канчаткі *-у (-ю)*, а іх канкрэтныя адпаведнікі *-а (-я)* (параўн.: *бою, характару* і інш. і *пальца, дывана* і інш.).

У некаторых выпадках мяжа паміж канкрэтнымі і абстрактнымі назоўнікамі не з'яўляецца выразнай, што прыводзіць да іх неадназначнай граматычнай характарыстыкі. Так слова *канікулы* ў беларускай мове разглядаецца як канкрэтнае (гл.: БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА 1985, 55), а ў блізкароднаснай рускай мове – як абстрактнае (гл.: СОВРЕМЕННЫЙ РУССКИЙ ЯЗЫК 1971, 167). Абстрактныя назоўнікі па свайму ўтварэнню часта з'яўляюцца аддзеяслоўнымі ці адпрыметнікавымі (параўн.: *хваляванне, чырвань* і да т.п.). Канкрэтны або абстрактны характар пэўных назоўнікаў часам можа вызначацца кантэкстам. Так, у сказах *Праз вёску пралягала грунтавая дарога* і *Ён удала выбраў сваю жыццёвую дарогу* слова *дарога* ў першым выпадку мае канкрэтнае значэнне, а ў другім – абстрактнае.

Падзел назоўнікаў на адушаўлёныя і неадушаўлёныя заснаваны на семантычным крытэрыі, бо адушаўлёныя назоўнікі звычайна абазначаюць жывых істот, а неадушаўлёныя – нежывыя прадметы, паняцці, падзеі, прыкметы і інш., прычым дадзены сэнсавы крытэрый падмацоўваецца марфалагічнымі паказчыкамі (гл.: БУЛАХОВСКИЙ 1978, 65): у адушаўлёных назоўнікаў форма вінавальнага склону множнага ліку супадае з родным склонам, а ў неадушаўлёных – з формай назоўнага склону (параўн.: *бачыць студэнтаў*, але *бачыць кнігі* і да т.п.). Неабходна аднак заўважыць, што зазначаны моўны паказчык часам не супадае з прыроднымі характарыстыкамі адпаведных прадметаў, бо адушаўлёнымі назоўнікамі могуць абазначацца, напрыклад, нежывыя людзі (параўн.: *нябожчык, тапелец*,

*мярцвяк* і інш.), або віртуальныя, міфічныя істоты, дэманы (параўн.: *чорт, вядзьмак, русалка* і інш.), або шахматныя фігуры, цацкі, ігральныя карты (параўн.: *ферзь, лялька, козыр* і да т.п.). Неадушаўлёнымі ж назоўнікамі называюць расліны, мікраарганізмы (параўн.: *клён, грыб, чарот, бацыла* і да т.п.), якія з біялагічнага пункту гледжання з'яўляюцца жывымі. Згодна з граматычным крытэрыем да неадушаўлёных назоўнікаў адносяцца абазначэнні сукупнасцей людзей ці іншых жывых істот (параўн.: *полк, натоўп, статак, касяк, табун* і інш.). У пэўных кантэкстах неадушаўлёныя назоўнікі могуць набываць значэнне адушаўлёных (параўн.: *узяць языкоў* у сэнсе палонных і да т.п.).

Сярод агульных назоўнікаў асобую групу складаюць зборныя, якія абазначаюць сукупнасць аднародных прадметаў (адушаўлёных і неадушаўлёных), што ўяўляюць сабой адно цэлае (параўн.: *моладзь, машкара, каменне* і да т.п.). З граматычнага пункту гледжання зборныя назоўнікі характарызуюцца тым, што большасць з іх не мае карэляцыі па ліку, ужываецца пераважна ў форме адзіночнага ліку і не спалучаецца з колькаснымі лічэбнікамі. У якасці фармальнай падмацаванасці для выдзялення зборных назоўнікаў у асобны лексіка-граматычны разрад выступаюць спецыфічныя словаўтваральныя суфіксы *-ств- (-цтв-), -нік-, -няк-, -ін-, -ар-, -ур-* і інш. (параўн.: *птаства, хвойнік, маладняк, садавіна, агентура, дзетвара* і г.д.). Меншую групу зборных назоўнікаў утвараюць словы, што выражаюць ідэю непадзельнасці цэлага, складзенага з аднародных адзінак, лексічна, без спецыяльных суфіксаў (параўн.: *люд, хлам, друз, посуд* і інш.). Многія зборныя назоўнікі супрацьпастаўляюцца адпаведным асабовым назоўнікам са значэннем адзінкавасці (параўн.: *хвойнік / хваіна, люд / людзіна* і інш.), але не ўсе з іх маюць падобную карэляцыю (параўн.: *хмыз* / ?, *моладзь* / ? і інш.).

Лексіка-граматычную групу ўтвараюць таксама рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць аднародныя па саставу матэрыялы, што пры дзяленні на часткі не страчваюць якасцяў цэлага. Падобна зборным назоўнікам рэчыўныя не маюць супрацьпастаўленых адпаведнікаў па ліку і выступаюць або толькі ў форме адзіночнага ліку (параўн.: *цэмент, мука, малако* і інш.), або толькі множнага (параўн.: *апількі, дрожджы, духі* і інш.). У суадносных формах *віно – віны, масла – маслы* і да т.п. супрацьпастаўляюцца не столькі лікавыя, колькі якасныя характарыстыкі згаданых рэчываў. Да зборных назоўнікаў адносяцца найменні металаў (параўн.: *жалеза, бронза, латунь* і інш.), хімічных элементаў (параўн.: *аміяк, кісларод, азот* і інш.), прадуктаў харчавання (параўн.: *алей, соль, хлеб* і інш.), лякарстваў і медыцынскіх прэпаратаў (параўн.: *валідол, ёд, стрэптацыд* і інш.), раслін (параўн.: *ажына, чарот, шыпшына* і інш.), прамысловых вырабаў (параўн.: *абутак, сукно, шоўк* і інш.), сельскагаспадарчых культур (параўн.: *авёс, бульба, капуста* і інш.), вадкасцяў і сыпучых матэрыялаў (параўн.: *нафта, пясок* і інш.), прыродных з'яў (параўн.: *град, дождж, снег* і інш.). Некаторыя рэчыўныя назоўнікі супрацьпастаўляюцца аднакаранёвым назоўнікам са значэннем адзінкавасці (параўн.: *бульба – бульбіна, пясок – пясчынка, салома – саломінка* і інш.), што словаўтваральна збліжае іх са зборнымі назоўнікамі. Граматычны характар рэчыўных назоўнікаў мужчынскага роду выражаецца тым, што ў родным склоне яны звычайна маюць канчатак *-у (-ю)*, параўн.: *мёду, пяску, алею* і інш. (але *аўса, хлеба*), што ўсе рэчыўныя назоўнікі выступаюць у форме аднаго ліку (пераважна адзіночнага), што яны не спалучаюцца з колькаснымі лічэбнікамі.

## 8.4. КАТЭГОРЫЯ РОДУ

Род служыць адной з найбольш глабальных граматычных катэгорый, якая праяўляецца не толькі ў імён (назоўнікаў, прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, займеннікаў), але і ў пэўных формах дзеяслова (прошлы час адзіночнага ліку, абвесны лад, дзеепрыметнікі). У пераважнай большасці назоўнікаў адзіночнага ліку род выражаецца фармальна, з дапамогай пэўных канчаткаў, на аснове якіх усе гэтыя назоўнікі размяркоўваюцца па трох марфалагічных разрадах: мужчынскі, жаночы і ніякі род.

У дачыненні да многіх адушаўлёных назоўнікаў катэгорыя роду даволі выразна матывуецца біялагічным полам адпаведных асоб, дзякуючы чаму ўтвараецца натуральнае супрацьпастаўленне назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, якія сумесна супрацьпастаўляюцца ў сваю чаргу назоўнікам ніякага роду.

Такім чынам, род служыць для адушаўлёных назоўнікаў найперш семантычнай катэгорыяй, што аднак таксама даволі паслядоўна афармляецца марфалагічнымі паказчыкамі і яшчэ больш выразна і дакладна сінтаксічнымі сродкамі, праз спалучальнасць назоўнікаў з рознымі азначэннямі. Для неадушаўлёных назоўнікаў семантычная матываванасць роду не з'яўляецца відавочнай, але можа праяўляцца пры антрапамарфізацыі нежывых прадметаў і істот, што абазначаюцца словамі, род якіх не дыферэнцыруе іх біялагічны пол (параўн.: *акула, камар, муха, мыш* і інш.), і можа праяўляцца не толькі ў паэзіі, фальклоры, але і ў паўсядзённай мове (параўн.: *Уся вёска выйшла па грыбы, Амаль увесь Мінск выехаў на бульбу, Усё сяло ўздыхнула з палёгкай* і інш.). Значыць, матывацыя граматычнага роду біялагічным полам уяўляецца даволі празрыстай (гл.: ПАУЛЬ 1960, 315).

З семантычнага пункту гледжання да назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду адносяцца адпаведныя назвы асоб мужчынскага і жаночага полу (параўн.: *дзядзька, хлопчык* і інш. – мужчынскі род, *сястра, кабета* і інш. – жаночы род), прычым і такія назоўнікі (звычайна запазычаныя словы), якія марфалагічна не маюць форм свайго выражэння, або нескланяльныя назоўнікі (параўн.: *кулі* – мужчынскі род, *лэдзі* – жаночы род і інш.). У тэксце род нескланяльных назоўнікаў паслядоўна праяўляецца сінтаксічна праз форму дапасаванага да іх слова (параўн.: *прыгожае кімано, ветлівая мадам, замежны аташэ* і да т.п.).

З марфалагічнага пункту гледжання да мужчынскага роду адносяцца назоўнікі з нулявым канчаткам у назоўным склоне і канчаткамі *-а (-я), -у (-ю)* у родным склоне, а таксама тыя назвы асоб мужчынскага полу, якія маюць канчатак *-а (-я)* у назоўным склоне (параўн.: *мужчына, дзядуля* і інш.). Да назоўнікаў жаночага роду належаць словы з канчаткамі *-а (-я)* і нулявым канчаткам у назоўным склоне і з канчаткам *-ы (-і)* у родным склоне (параўн.: *хата – хаты, восень – восені, ноч – ночы, зямля – зямлі* і да т.п.). Да ніякага роду адносяцца назоўнікі з канчаткамі *-о (-ё), -а (-я), -е* ў назоўным склоне, назоўнікі на *-мя,* нескланяльныя неадушаўлёныя назоўнікі тыпу *шасі, метро, рагу, фота* і інш.

Для сучаснай беларускай мовы характэрнай з'яўляецца наяўнасць групы назоўнікаў на *-а (-я)* агульнага роду, якія ў залежнасці ад сваёй накіраванасці на знешні адушаўлёны прадмет могуць мець і мужчынскі, і жаночы, і ніякі род, што знаходзіць сваё фармальнае падмацаванне толькі сінтаксічнымі сродкамі (параўн.: *малы сірата, малая сірата, малое сірата* і да т.п.). Некаторыя назоўнікі марфалагічна належаць да мужчынскага роду, але могуць суадносіцца з найменнямі асоб і мужчынскага, і жаночага полу, што сінтаксічна можа выражацца адпаведнымі канструкцыямі тыпу *Прафесар прачытаў лекцыю* і *Прафесар прачытала лекцыю*, а можа і не выражацца, але суадноснасць з полам асобы вынікае з сітуацыі або кантэксту.

У абрэвіятурах род назоўнікаў вызначаецца паводле роду апорнага слова: *НАН* – Нацыянальная акадэмія навук – жаночы род, *ЦУМ* – Цэнтральны універсальны магазін – мужчынскі род, *СКБ* – спецыяльнае канструктарскае бюро – ніякі род. Род тых запазычаных назоўнікаў з нязменнай формай, якія абазначаюць птушак, жывёл, некаторыя неадушаўлёныя прадметы, звязваецца з граматычнымі паказчыкамі родавага наймення (гіпероніма), што ўключае ў сябе адпаведныя відавыя назвы (гіпонімы); параўн.: *цэцэ* 'муха' – жаночы род, *цынандалі* 'віно' – ніякі род, *сірока* 'вецер' – мужчынскі род і да т.п., або з'яўляецца мужчынскім пры найменні жывых істот (параўн.: *шымпанзэ, какаду, поні* і інш.), або ніякім пры намінацыі неадушаўлёных прадметаў (параўн.: *меню, метро, купэ* і інш.).

Пры вызначэнні роду нязменных назоўнікаў, якія абазначаюць геаграфічныя паняцці і аб'екты, служаць назвамі газет, часопісаў і да т.п., таксама выкарыстоўваецца граматычны паказчык роду таго абагульненага (родавага) наймення, што ўключае ў сябе гэтыя назоўнікі (параўн.: *Батумі* 'горад' – мужчынскі род, *Місісіпі* 'рака' жаночы род, *Антарыо* 'возера' – ніякі род, Юманітэ 'газета' – жаночы род, Таймс 'часопіс' – мужчыскі род і да т.п.). Род тых абрэвіятур, што скланяюцца, вызначаецца не адпаведнай граматычнай прыкметай стрыжнявога слова (слоў), а фармальным паказчыкам, які праяўляецца гэтай абрэвіятурай (параўн.: *ВАК* – Вышэйшая атэстацыйная камісія, *ВАКам* – мужчынскі род і інш.).

Некаторыя назоўнікі сучаснай беларускай мовы маюць варыянтныя формы роду (гл.: ЖЫДОВІЧ 1969, 12–29), г.зн. ужываюцца ў мужчынскім, у жаночым і ў ніякім родах (параўн.: *зал – зала, салат – салата, клавіш – клавіша, санаторый – санаторыя, шаша – шасэ* і інш.). У залежнасці ад канкрэтнай суаднесенасці адушаўлёнага назоўніка, ад мастацкіх, экспрэсіўных, стылістычных мэтаў выказвання фактычна кожны назоўнік у пэўным кантэксце семантычна можа надзяляцца любым родам для таго, каб больш выразна падкрэсліць тыя ці іншыя якасці адпаведных рэалій, матываваных канкрэтным родам.

У дзеясловаў прошлага часу і ўмоўнага ладу катэгорыя роду выражаецца адпаведнымі канчаткамі: мужчынскі род – нулявым канчаткам (параўн.: *гаварыў, пісаў бы* і да т.п.); жаночы род – канчаткам *-а* (параўн.: *гаварыла, пісала б* і да т.п.); ніякі род – канчаткамі *-а*, *-о* (параўн.: *сонца грэла, дзіця расло* і да т.п.). Граматычнае значэнне роду ў прыметнікаў залежыць ад роду назоўнікаў, да якіх яны дапасуюцца і род якіх яны дубліруюць і марфалагічна, і сінтаксічна. Для назоўнікаў агульнага роду і нязменных назоўнікаў дапасаваны прыметнік служыць адзіным фармальным сродкам выражэння катэгорыі роду (параўн.: *цікавае кіно, прыгожы какаду, маленькая плакса* і інш.).

Такім чынам, катэгорыя роду з'яўляецца па сваёй прыродзе лексіка-граматычнай, і нават у дачыненні да адушаўлёных назоўнікаў можа рэалізавацца ці чыста лексічнымі сродкамі (параўн.: *бацька – маці, юнак – дзяўчына, дзядзька – цётка* і інш.), ці словаўтваральнымі (параўн.: *студэнт – студэнтка, акцёр – актрыса* і інш.), ці сінтаксічнымі (параўн.: *наш дырэктар – наша дырэктар, доктар наведаў – доктар наведала* і інш.). Вызначальную ролю пры гэтым адыгрывае семантычны крытэрый (гл.: ЛАЙОНЗ 1978, 305), заснаваны на суаднесенасці адушаўлёнага назоўніка з пэўнай асобай. Семантычная матываванасць родавай характарыстыкі назоўнікаў, якія абазначаюць не людзей, а іншых жывых істот, у значнай ступені залежыць ад інтарэсаў чалавека: калі гэтыя істоты маюць для чалавека пэўнае значэнне (гл.: БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА 1936, 15), з'яўляюцца важнымі для яго з якога-небудзь пункту гледжання (напрыклад, гаспадарчага), то іх назвы звычайна дыферэнцыруюцца ў родзе лексічнымі або граматычнымі сродкамі (параўн.: *конь – кабыла, бык – карова, баран – авечка, певень – курыца, казёл – каза* і інш.). Адрозніваюцца ў родзе таксама найменні буйных дзікіх жывёл,

характэрных для пражывання таго ці іншага этнасу і звычайна адлюстраваных у яго фальклоры як тыповыя дзейныя асобы (параўн.: *воўк – ваўчыца, мядзведзь – мядзведзіца* і інш.). Як правіла, назвы дробных жывёл, большасці птушак, рыб, насякомых, а таксама тых істот, што рэдка сустракаюцца ці зусім не сустракаюцца ў жыцці пэўнага этнасу, не маюць родавых адрозненняў (параўн.: *мыш, ластаўка, лінь, муха, жук, акула, дыназаўр* і інш.).

Для неадушаўлёных назоўнікаў катэгорыя роду адыгрывае пераважна класіфікацыйную ролю, хаця і не выключана выкарыстанне дадзенага граматычнага паказчыка ў мастацкіх мэтах (параўн.: *Беларусь – мая шыпшына* У.Дубоўкі, *А гэты ветрык дураслівы // Траве зялёнай чэша грывы, // У садку жартуе з верабінай, // Як голец-хлопец той з дзяўчынай* Я.Коласа і інш.). Вядомы рускі выраз *Одесса – мама, Ростов – папа* ўяўляецца небеспадстаўным з семантычнага пункту гледжання, бо сілкуецца адпаведнай і надзейнай граматычнай падтрымкай, у той час як выраз *Киев – матерь городов русских* выйшаў з ужытку не толькі таму, што пераразмеркаваліся найменні, звязаныя з паняццем Русь, але і па граматычнай прычыне.

## 8.5. КАТЭГОРЫЯ ЛІКУ

Лексіка-граматычная катэгорыя ліку семантычна знаходзіць сваё выражэнне ў асобным разрадзе слоў – лічэбніках, а таксама ў некаторых формах дзеясловаў, у многіх назоўніках, займенніках, прыметніках, прыслоўях, з дапамогай якіх можна выразіць (азначыць) любы лік, і дакладны, і няпэўны. У параўнанні з родам катэгорыя ліку больш паслядоўна і выразна матывуецца знешняй рэальнасцю: адзінкавасцю або множнасцю пазначаных словамі прадметаў, з'яў, прыкмет, а таксама іх расчлянёнасцю (параўн.: НЕХАЙ, ПОПЛАВСКАЯ 1983, 100). У залежнасці ад таго, злічонымі ці незлічонымі з'яўляюцца адпаведныя абазначэнні, назоўнікі беларускай мовы падзяляюцца на словы, што маюць адзіночны і множны лік, словы толькі з адзіночным лікам, або singularia tantum, словы толькі з множным лікам, або pluralia tantum. Да слоў толькі адзіночнага ліку належаць уласныя назвы (параўн.: *Купала, Беларусь, Мінск* і да т.п.), рэчыўныя назоўнікі (параўн.: *вада, сена, золата* і інш.), адцягненыя назоўнікі са значэннем прыкметы, дзеяння, стану (параўн.: *братэрства, сінь, ідэалізм* і інш.), зборныя назоўнікі (параўн.: *студэнцтва, птаства, ламачча* і інш.), назвы месяцаў, напрамкі свету (параўн.: *лістапад, жнівень, поўдзень* і інш.). Pluralia tantum складаюць назоўнікі, што абазначаюць парныя або састаўныя прадметы (параўн.: *сані, акуляры, шахматы* і інш.), некаторыя абстрактныя паняцці (параўн.: *паводзіны, зносіны, гульні* і інш.), паўтаральныя дзеянні, працэсы (параўн.: *дэбаты, заняткі, жмуркі* і інш.), пэўныя часавыя адрэзкі, святы, абрады (параўн.: *канікулы, дажынкі, заручыны* і інш.), некаторыя ўласныя імёны (параўн.: *Смалявічы, Афіны, Гімалаі* і інш.), назвы сукупнасці чаго-небудзь (параўн.: *аліменты, дрожджы, фінансы* і інш.), найменні частак цела (параўн.: *лёгкія, бронхі, ныркі* і інш.). Некаторыя множналікавыя назоўнікі падлягаюць злічэнню (параўн.: *трое саней, двое сутак, шмат дэбатаў* і інш.). Назоўнікі з суадноснымі формамі адзіночнага і множнага ліку абазначаюць і канкрэтныя прадметы (параўн.: *стол – сталы, літара – літары, ліст – лісты* і інш.), і адцягненыя паняцці (параўн.: *думка – думкі, тэорыя – тэорыі, погляд – погляды* і інш.).

Фармальна граматычнае значэнне назоўнікаў адзіночнага ліку праяўляецца нулявым канчаткам у назоўным склоне (параўн.: *конь, дуб, горад* і інш.), канчаткамі *-а, (-я), -о, -е* (параўн.: *галава, вішня, акно, поле* і інш.); множнага ліку – канчаткамі *-ы, (-і)* (параўн.: *хаты, коні* і інш.), радзей – *-е* (параўн.: *мінчане, сяляне* і інш.), а таксама сінтаксічна праз формы спалучальных з назоўнікамі азначэнняў, якія або

дубліруюць марфалагічна выражаныя формы ліку (параўн.: *галасісты салавей, смачная рыба, моцнае дрэва* і інш.), або служаць адзіным сродкам яго выражэння для нязменных форм назоўнікаў (параўн.: *прыгожае кашнэ – прыгожыя кашнэ* і інш.). Асобныя назоўнікі і займеннікі ўтвараюць форму множнага ліку суплетыўным спосабам (параўн.: *чалавек – людзі, я – мы* і інш.).

Для значэнняў катэгорыі адзіночнага і множнага ліку ўласцівы транспазіцыі (гл.: МАРТЫНОВ 1982, 101), бо ў пэўных сітуацыях і кантэкстах памянёныя значэнні могуць ужывацца адно на месцы другога (параўн.: *У нашых лясах водзіцца воўк і ліса* і *Мне не хочацца жыць у розных там аўстраліях* і інш.). Адно з істотных адрозненняў паміж катэгорыямі адзіночнага і множнага ліку палягае ў тым, што першая звязана з паняццем пэўнасці, другая – з паняццем няпэўнасці (гл.: РЕВЗИН 1977, 155–156).

Множны лік рэчыўных назоўнікаў часцей за ўсё мае адносіны не да ўласна ліку, а да розных тых семантычных асаблівасцяў слоў, што адлюстроўваюць гатункі, якасці, інтэнсіўнасць, аб'ём і іншыя ўласцівасці рэчаў (параўн.: *калійныя солі, малдаўскія віны, пяскі пустыні, сібірскія снягі* і інш.), пры гэтым падобныя словы часта тэрміналагізуюцца (гл.: АРАШОНКАВА, БУЛЫКА, ЛЮШЦІК, ПАДЛУЖНЫ 1999, 119). У адносінах да ўласных асоб множны лік ужываецца для іх размежавання (параўн.: *браты Казловы, дзве Тані* і інш.).

У дзеясловаў значэнне множнага ліку праяўляецца марфалагічнымі сродкамі для форм цяперашняга часу і загаднага ладу (параўн.: *слуха-ю, слуха-ем, слуха-еш, слуха-еце, слуха-е, слуха-юць, слуха-й, слуха-йце*); у дзеясловаў прошлага часу і ўмоўнага ладу – адпаведнымі родавымі канчаткамі (параўн.: адзіночны лік – нулявы канчатак, *-а, -о* ў прыкладах *нёс, няс-л-а, няс-л-о* і да т.п.), а ў гэтых жа дзеяслоўных формах множнага ліку – канчаткам *-і* (параўн.: *няс-л-і* і да т. п.).

Прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, дзеепрыметнікі, некаторыя займеннікі або дубліруюць граматычныя значэнні ліку назоўнікаў, да якіх яны дапасуюцца (параўн.: *чорны конь – чорныя коні, першая птушка – першыя птушкі, цэлы дзень – цэлыя дні* і інш.), або, як ужо зазначалася, служаць адзінай формай выражэння ліку ў нязменных назоўнікаў (параўн.: *лепшае кіно – лепшыя кіно, хуткае таксі – хуткія таксі* і інш.).

## 8.6. КАТЭГОРЫЯ СКЛОНУ

Граматычная катэгорыя склону выражае адносіны паміж словамі ў сказе або ў словазлучэнні і праяўляецца фармальна праз канчаткі імён ці сінтаксічным спосабам у нескланяльных назоўнікаў праз дапасаваныя да іх словы. Гэта катэгорыя значна слабей матывуецца лагічнымі або знешнімі фактарамі, чым катэгорыі ліку і роду, і залежыць у асноўным ад адносін паміж словамі ў сказе (гл.: МЕЙЕ 1951, 371), прычым у адных граммем гэтай катэгорыі ў большай ступені праяўляюцца лагічныя паняцці (месны і творны склон), у другіх граммем (назоўны, родны, давальны, вінавальны) у меншай ступені (гл.: СТЕПАНОВ 1975, 141). У сучаснай беларускай мове налічваецца шэсць склонаў (назоўны, родны, давальны, вінавальны, творны, месны), акрамя таго захаваліся рэшткі клічнага склону, якія, аднак, у сённяшніх граматычных апісаннях не разглядаецца ў якасці самастойнага, хаця вылучаўся ў першай беларускай граматыцы (гл.: ТАРАШКЕВІЧ 1929, 16), быў характэрным для агульнаславянскай мовы (гл.: ШАХМАТОВ 1957, 16). Значэнне кожнага склону служыць даволі складаным комплексам семантычных функцый і граматычных характарыстык (параўн.: БЮЛЕР 1993, 217–220), якія рэалізуюцца ў залежнасці ад ролі, месца імені ў сказе. Згодна з Р.Якабсанам, катэгорыя склону ў славянскіх

мовах апісваецца праз бінарную схему, якая ілюструе наяўнасць / адсутнасць адпаведнай семантычнай прыкметы ў кожнай склонавай форме. У прыватнасці, для беларускай мовы гэта схема прадстаўляецца наступным чынам (скарачэнні склонаў: Н. – назоўны, Р. – родны, Д. – давальны, В. – вінавальны, Т. – творны, М. – месны):




Значэнне накіраванасці змяшчае ўказанне на прадмет, на які скіравана дзеянне, і выражаецца формамі вінавальнага і давальнага склону імені. Значэнне перыферыйнасці канцэнтруецца ў форме імені, якое абазначае прадмет і мае ў выказванні не галоўнае, а пабочнае месца (у дадзеным выпадку – гэта творны, давальны і месны склоны імені). Аб'ёмнасць прыкметы паказвае мяжу ўдзелу прадмета ў дзеянні і выражаецца формамі роднага і меснага склонаў (гл.: ЯКОБСОН 1985, 167–169).

Адзначым, аднак, што склонавыя формы імені з'яўляюцца полісемічнымі па свайму значэнню (параўн.: КАЦНЕЛЬСОН 1986, 117). Так, форма назоўнага склону можа абазначаць у беларускай мове і суб'ект дзеяння і аб'ект (у пасіўных канструкцыях; параўн.: *Зямля праграваецца* і *Зямля прагрэта* і інш.). Формай роднага склону можа выражацца частка цэлага (параўн.: *шклянка вады* і да т.п.), прыналежнасці (параўн.: *хата бацькі* і да т.п.), азначэнне (параўн.: *гады юнацтва* і да т.п.) і інш. Творны і месны склоны імені таксама маюць шырокі спектр значэнняў ва ўсіх славянскіх мовах, у тым ліку і ў беларускай (гл.: КАРСКИЙ 1956, 393–420). Прамы аб'ект дзеяння, у сваю чаргу, можа выражацца іменем і ў родным, і ў вінавальным склонах (параўн.: *чытанне кнігі* і *чытаць кнігу*), а ўскосны аб'ект у давальным, творным і месным склонах (параўн.: *дзякаваць настаўніку, пахне яблыкам, закон аб адукацыі* і да т.п.).

У залежнасці ад роду і наяўнасці тых або іншых канчаткаў назоўнікі ў беларускай мове класіфікуюцца на тры асноўныя тыпы скланення (гл.: НАРКЕВІЧ 1976, 83–86). Да першага скланення належаць назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам (параўн.: *дом, чытач*, *Алесь* і інш.), большасць назоўнікаў ніякага роду (параўн.: *акно, галлё, поле, сала* і інш.) разам з пяццю імёнамі на *-мя* (*бярэмя, вымя, полымя, семя, цемя*). Другое скланенне ўключае ў сябе назоўнікі жаночага роду з канчаткамі *-а (-я)* у назоўным склоне адзіночнага ліку (параўн.: *галава, зямля* і інш.). Трэцяе скланенне ахінае назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам (параўн.: *гусь, кроў, ноч* і інш.).

Пад выдзеленыя тыпы скланення не падпадаюць рознаскланяльныя назоўнікі (назвы маладых істот, назоўнікі на *-мя*, назвы асоб са значэннем сацыяльнага становішча, назоўнікі агульнага роду, назоўнікі мужчынскага роду на *-а, (-я),*

некаторыя назоўнікі ніякага роду і інш.; параўн.: *ваўчаня, імя, дваранін, армянін, плакса, мужчына, старшыня, вуха, неба* і інш.). Асобны тып скланення ўтвараюць субстантываваныя прыметнікі, дзеепрыметнікі, якія скланяюцца па ўзору прыметнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду, а таксама множналікавыя назоўнікі тыпу *нажніцы, сані* і да т.п. Марфалагічна нязменныя назоўнікі, запазычаныя з іншых моў, складаюць групу нескланяльных слоў (параўн.: *пані, паліто, Чылі* і інш.), склон якіх, аднак, праяўляецца праз сінтаксічныя паказчыкі. З уласна беларускіх нязменных назоўнікаў трэба адзначыць жаночыя прозвішчы на зычны (параўн.: *Гурловіч, Корзюк, Раманчык* і інш.), а таксама ўтвораныя ад агульных назоўнікаў ніякага роду (параўн.: *Калена, Матавіла* і інш.), прозвішчы мужчынскага і жаночага роду на -о (параўн.: *Гурло, Ралько* і інш.), прозвішчы на *-іх, (-ых)* тыпу *Касых, Рудых* і інш., большасць абрэвіятур (параўн.: *БПА, МТЗ* і інш.) і некаторыя іншыя.

Назоўнікі першага скланення маюць у родным склоне адзіночнага ліку канчаткі *-а, (-я), -у, (-ю)* (параўн.: *брата, вучня, гушчару, болю* і інш.), у давальным склоне – канчаткі *-у, (-ю)* (параўн.: *брату, вучню* і інш.), у вінавальным склоне адушаўлёныя назоўнікі маюць канчаткі роднага склону, неадушаўлёныя – назоўнага (параўн.: *брата, боль* і інш.), у творным склоне – канчаткі *-ом, (-ём), -ам, (-ем)* (параўн.: *гушчаром, канём, братам, вучнем* і інш.), у месным склоне – канчаткі *-е, -у, (-ю), -ы, (-і)* (параўн.: *аб браце, пастуху, кавалю, гушчары, болі* і інш.).

Найбольш складанымі пры напісанні служаць канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку роднага і меснага склонаў. Пры іх выбары трэба кіравацца нарматыўнымі слоўнікамі беларускай мовы (гл. ў прыватнасці: СЛОЎНІК 1987). Звычайна канчаткі *-у (-ю)* у родным склоне адзіночнага ліку маюць наступныя групы слоў з абагульненым значэннем: абстрактныя назоўнікі са значэннем прыкмет, дзеянняў, пачуццяў, разумовых паняццяў, напрамкаў прасторы і неакрэсленых прамежкаў часу, грамадскіх і палітычных фармацый, з'яў прыроды, захворванняў і інш. (параўн.: *блакіту, пералёту, болю, розуму, абшару, інтэрвалу, капіталізму, ветру, радыкуліту* і да т.п.); рэчыўныя назоўнікі (параўн.: *воску, тлушчу, клею, паркалю* і да т.п.); назоўнікі са зборным значэннем (параўн.: *натоўпу, бярэзніку, рою, утылю* і да т.п.).

Для назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку меснага склону выбар канчаткаў залежыць ад апошняга зычнага асновы: канчатак *-е* маюць назоўнікі з цвёрдай асновай (параўн.: *клён – на клёне, луг – у лузе* і інш.); канчатак *-у* прыдатны назоўнікам з асновай на *-к-* (параўн.: *у банку, на карку* і інш.), назоўнікам на *-г, -х* са значэннем адцягненых паняццяў (параўн.: *бегу, руху* і інш.), іншамоўнага паходжання (параўн.: *дыялогу, цэху* і інш.), уласным назвам (параўн.: *Гамбургу, Цюрыху* і інш.), а таксама некаторым канкрэтным назоўнікам (параўн.: *на рычагу, на арэху* і інш.); канчатак *-ы* характэрны для назоўнікаў з асновай на *р, ц* і шыпячыя (параўн.: *у гушчары, на пальцы, аб стрыжы* і інш.); канчатак *-і* маюць назоўнікі з асновай на мяккі зычны і *й* (параўн.: *на агні, аб сталі, у музеі* і інш.).

Назоўнікі другога скланення адзіночнага ліку маюць у родным склоне канчаткі *-ы (-і)* (параўн.: *гары, кнігі* і інш.), у давальным склоне – канчаткі *-ой (-ою), -ей (-ею), -ай (-аю), -яй (-яю)* [параўн.: *гарой (-ою), жняёй (-ёю), кнігай (-аю), лініяй (-яю)* і інш.], у месным склоне – канчаткі *-е, -ы, -і, -э* (параўн.: *аб кнізе, на гары, аб жняі, на шчацэ* і інш.). Выбар канчаткаў у месным і давальным склонах як і ў назоўнікаў першага скланення залежыць ад зычнага асновы, а таксама ад месца націску: канчатак *-е* прыдатны для назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны і *г, х*, якія ў беларускай мове чаргуюцца з *з, с;* канчатак *-э* адзначаецца ў назоўнікаў на *-к* (які чаргуецца з *ц)* і націскам на канчатку; канчатак *-ы* маюць назоўнікі на *ж, ш, ч, р, ц*, а таксама на *-к* (які чаргуецца з *ц*) з ненаціскным канчаткам.

Назоўнікі трэцяга скланення ў родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку маюць канчаткі *-і, -ы* (параўн.: *гусі, мышы* і інш.); канчаткі вінавальнага склону супадаюць с канчаткамі назоўнага склону; у творным склоне для гэтых назоўнікаў характэрны канчаткі *-у, -ю* (параўн.: *гуссю, мышшу* і інш.), прычым тут адзначаецца пасля галосных падаўжэнне зычных, апрача губных, *р, л,* калі аснова заканчваецца збегам зычных (параўн.: *радасцю, поўсцю* і інш.). Пасля губных і *р* асновы дадзеных назоўнікаў у творным склоне перад галоснымі пішацца апостраф (параўн.: *глыб – глыб'ю, шыр – шыр'ю* і інш.).

У рознаскланяльных назоўнікаў адзіночнага ліку ва ўскосных склонах адзначаюцца канчаткі, уласцівыя і першаму, і другому, і трэцяму скланенню. Назоўнікі ніякага роду на *-мя (імя, племя, стрэмя)* маюць двухварыянтнае скланенне: з суфіксам *-ен* (скланяюцца як назоўнікі другога скланення за выключэннем творнага склону, дзе яны маюць канчатак першага скланення *-ем – іменем, племенем, стрэменем*) і без суфікса (скланяюцца як назоўнікі першага скланення – *племя, племю, племем, аб плем*і). Назоўнікі мужчынскага роду на *-а (-я)* у родным і вінавальным склонах адзіночнага ліку змяняюцца па ўзору другога скланення (параўн.: *бацькі, старшыні, бацьку, старшыню* і інш.). Канчаткі творнага склону залежаць ад тыпу асновы і націску падобных слоў: у гэтых назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны фіксуецца ці ненаціскны канчатак *-ам* (параўн.: *бацькам, мужчынам* і інш.), ці націскны *-ой (-ею)* [параўн.: *Фамой (-ою), тамадой (-ою)*]; і г.д., з асновай на мяккі зычны адзначаюцца канчаткі *-ем* (параўн.: *Васем, дзядулем* і інш.), *-ею (-ёю)* [параўн.: *суддзёй (-ёю), старшынёй (-ёю)* і г.д.]. Гэтаксама ў залежнасці ад асновы і націску пішуцца канчаткі давальнага і меснага склонаў (параўн.: *Фаме, аб Фаме* – другое скланенне, *мужчыну, аб мужчыну* – першае скланенне). Па гэтаму ж узору скланяюцца і назоўнікі агульнага роду пры абазначэнні імі асоб мужчынскага полу (параўн.: *гарэза, гарэзу, гарэзам, аб гарэзу*). Назоўнік *сірата* скланяецца па ўзору другога скланення незалежна ад полу абазначанай асобы (параўн. *сіраты, сіраце, сірату, сіратой (-ою), аб сіраце*). Назоўнікі са значэннем маладых істот набываюць у давальным і месным склонах суфікс *-яц* і змяняюцца па ўзору трэцяга скланення (параўн.: *ягняці, дзіцяці, аб ягняці, дзіцяці* і г.д.), а ў творным склоне маюць канчатак першага скланення (параўн.: *ягнём, дзіцём* і г.д.).

У множным ліку назоўнікі ўсіх тыпаў скланення маюць аднолькавыя канчаткі, за выключэннем роднага склону: назоўны склон – канчаткі *-ы (-і)* (параўн.: *мужчыны, землі* і інш.), а з асновай на *-анін – -е* (параўн.: *мінчанін – мінчане* і інш.); давальны склон – канчаткі *-ам (-ям)* (параўн.: *мужчынам, землям* і інш.); вінавальны склон – канчаткі неадушаўлёных назоўнікаў супадаюць з канчаткамі назоўнага склону, адушаўлёных назоўнікаў – з канчаткамі роднага склону; творны склон – канчаткі *-амі (-ямі)* (параўн.: *мужчынамі, землямі* і інш.); месны склон – канчаткі *-ах (-ях)* (параўн.: *мужчынах, землях* і да т.п.).

Канчаткі назоўнікаў роднага склону залежаць ад тыпу скланення: назоўнікі другога скланення маюць нулявы канчатак, калі аснова заканчваецца на адзін зычны (параўн.: *хат, сцен* і інш.), канчаткі *-аў (-яў)* – на збег зычных (параўн.: *земляў, гульняў* і інш.), нулявы канчатак, калі другі зычны асновы гук *к* (параўн.: *думак, шапак* і інш.); назоўнікі першага скланення маюць канчаткі *-аў (-яў), -оў (-ёў), -эй (-ей)* (параўн.: *інжынераў, вучняў, братоў, аваднёў, вачэй, коней* і г.д.).

Назоўнікі трэцяга скланення ў родным склоне множнага ліку пад націскам маюць канчаткі *-эй (-ей)* (параўн.: *мышэй, абласцей* і інш.); не пад націскам – канчаткі *-аў (-яў)* (параўн.: *рэчаў, даляў* і інш.). Для некаторых назоўнікаў у множным ліку роднага склону адзначаюцца варыянтныя канчаткі: нулявы / *-аў (-яў)* (параўн.: *партызан / партызанаў, вішань / вішняў* і інш.); *-аў (-яў) / -эй (-ей)* (параўн.: *печаў / пячэй, можнасцяў / можнасцей* і інш.). Свае асаблівасці скланення ў беларускай мове

маюць уласныя назоўнікі. Прозвішчы на *г, к, х* з ненаціскным канчаткам *-а*, утвораныя ад адпаведных назваў прадметаў жаночага роду (параўн.: *кніга, трэска, муха* і інш.) набываюць у давальным і месным склонах канчаткі ў залежнасці ад полу асобы: пры абазначэнні асобы жаночага полу дадзеныя прозвішчы скланяюцца як адпаведныя назоўнікі другога скланення (параўн.: *Алёне Кнізе, Марыне Трэсцы, Веры Мусе* і інш.), а пры абазначэнні асоб мужчынскага полу маюць канчаткі рознаскланяльных назоўнікаў (параўн.: *Івану Кнігу, Пятру Трэску, Васілю Муху* і інш.). Астатнія прозвішчы, якія паходзяць ад назваў прадметаў жаночага роду на *-а* (параўн.: *суша, луста, гушча* і інш.), скланяюцца незалежна ад полу асобы як адпаведныя назоўнікі жаночага роду. Калі ж прозвішчы на *-а* не суадносяцца з назвамі прадметаў, яны скланяюцца як адпаведныя назоўнікі мужчынскага роду толькі ў дачыненні да асоб мужчынскага полу (параўн.: *Карызна, Карызны,. Карызне, Карызну, Карызнам, Карызне*). Прозвішчы асоб жаночага полу ў гэтым выпадку не скланяюцца, а таксама не скланяюцца калі яны заканчваюцца на зычны (параўн.: *Ніны Верас, Таню Кузьмянок, Верай Барадзіч* і інш.) і калі паходзяць ад назваў прадметаў ніякага роду (параўн.: *Шыла, Калена* і інш.). Не скланяюцца прозвішчы асоб мужчынскага і жаночага роду на націскны *-о* (тыпу *Жудро*, *Ралько* і інш.), на *-ых, -іх* (параўн.: *Сядых, Мялкіх* і інш.). Мужчынскія прозвішчы на *-аў, -еў, -оў (-ёў), -ін (-ын)* і жаночыя на *-ав (-а), -ев (-а), -ов (-а), -ін (-а), -ын (-а)* змяняюцца па змешанаму тыпу скланення: мужчынскія прозвішчы маюць канчаткі назоўнікаў першага скланення з цвёрдай асновай у родным, давальным, вінавальным склонах (параўн.: *Пятрова, Пятрову* і г.д.), а ў творным склоне – канчатак *-ым*, як прыметнікі (параўн.: *Пятровым*), у месным склоне – канчатак *-е* (параўн.: *аб Пятрове*), або варыянтны канчатак *-у* (*аб Пятрову*); жаночыя прозвішчы ў вінавальным склоне маюць канчатак назоўнікаў другога скланення (параўн.: *Пятрову*), а ў родным, давальным, творным, месным склонах – аднолькавыя канчаткі, як і ў прыметнікаў (параўн.: *Пятровай*).

Тапонімы ніякага роду змяняюцца пры скланенні па ўзору агульных назоўнікаў з адпаведнымі асновамі (параўн.: назоўны, вінавальны, родны – *Жодзіна,* давальны – *Жодзіну,* творны – *Жодзінам*, месны – *аб Жодзіне*); тапонімы мужчынскага роду з асновай на зычны скланяюцца як назоўнікі першага скланення (словы тыпу *Днепр, Віцебск, Быхаў* і інш.); тапонімы жаночага роду на *-а (-я)* змяняюцца па мадэлі назоўнікаў другога скланення (словы тыпу *Рэчыца, Нароўля* і да т.п.). Тапонімы ў форме множнага ліку скланяюцца як адпаведныя агульныя назоўнікі (словы тыпу *Ляхавічы, Жупраны* і да т.п.).

У прыметнікаў, некаторых займеннікаў (прыметнікавых), дзеепрыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў прыдатная ім катэгорыя склону цалкам залежыць ад таго назоўніка, з якім яны спалучаюцца. З улікам таго, што ў беларускай мове азначальнае слова звычайна размяшчаецца перад назоўнікам, яно і сігналізуе пра марфалагічныя якасці назоўніка (параўн.: *новаму* – давальны склон, адзіночны лік, мужчынскі або ніякі род адпаведнага субстантыва). Асабліва выразна марфалагічная катэгорыя склону прыметнікаў праяўляецца пры іх азначэнні нязменных назоўнікаў (параўн.: *новаму дэпо, прыгожым метро, цікавага інтэрв'ю* і да т.п.).

Склонавыя канчаткі прыметнікаў, ад якіх утвараюцца субстантывы, змяняюцца па так званаму ад'ектыўнаму тыпу скланення і характарызуюцца сваёй адноснай устойлівасцю: у адзіночным ліку мужчынскага роду назоўнага склону – канчаткі *-ы (-і),* ніякага – *-ое, -ае (-яе*); жаночага – *-ая (-яя*), роднага склону мужчынскага і ніякага роду – *-ога, -ага (-яга*), жаночага – *-ой, -ай (-яй), -ое, -ае (-яе*); давальнага склону мужчынскага і ніякага роду – *-ому, -аму* (*-яму),* жаночага роду – *-ой, -ай (-яй*); вінавальнага склону жаночага роду – *-ую (-юю),* ніякага роду як і ў назоўным склоне; мужчынскага роду адушаўлёнага ці неадушаўлёнага як і ў родным ці назоўным склонах; у творным склоне для мужчынскага і ніякага роду – канчаткі *-ым (-ім),*

жаночага роду – канчаткі *-ой, -ай (-яй), -ою, -аю (-яю)*; у месным склоне для мужчынскага і ніякага роду – канчаткі *-ым (-ім)*, для жаночага роду – канчаткі *-ой, -ай (-яй)*. У множным ліку для ўсіх родаў канчаткі прыметнікаў супадаюць: назоўны склон – *-ыя (-ія)*, родны – *-ых (-іх)*, давальны – *-ым (-ім)*, вінавальны, як і ў назоўным або родным, творны – *-ымі (-імі)*, месны – *-ых (-іх)*.

## 8.7. ПРЫМЕТНІК

Часціна мовы, якая называе статычную прыкмету або ўласцівасць рэаліі, абазначанай назоўнікам, і мае залежныя ад яго граматычныя катэгорыі роду, ліку, склону. Пры гэтым з семантычнага пункту гледжання абазначаная прыметнікам прыкмета не мае аб'ёму, але пры спалучэнні з назоўнікам аўтаматычна набывае яго (гл.: ТЕНЬЕР 1988, 81), рэалізуе толькі з ім, бо ўтварае разам адзіны семантычны комплекс (гл.: БАЛЛИ 1955, 226). З улікам гэтых залежных ад назоўнікаў граматычных форм да прыметнікаў далучаюцца парадкавыя лічэбнікі, прыметнікавыя займеннікі, дзееприметнікі, якія першасна выступаюць у атрыбутыўнай функцыі, што сінтаксічна афармляецца дапасаваным азначэннем. Другаснай функцыяй прыметнікаў з'яўляецца іх выступленне ў ролі прэдыкатыва (гл.: ШАКУН 1953), своеасаблівага сінтаксічнага цэнтра выказвання, калі яны служаць састаўной часткай выказвання (параўн.: *Высокае і прыгожае дрэва* і *Дрэва было высокім і прыгожым*), часцей за ўсё ў творным склоне, прэдыкатыўныя канструкцыі з якімі пачалі актыўна ўжывацца яшчэ ў старабеларускай мове (гл.: БУЛАХАЎ 1971, 39). Па сваіх лексіка-граматычных асаблівасцях прыметнікі падзяляюцца на якасныя, што непасрэдна абазначаюць прыкмету рэаліі (параўн.: *зялёная трава, цікавая думка* і да т.п.), і адносныя, што выражаюць прыкмету рэаліі праз супастаўленне з іншай рэаліяй (параўн.: *птушынае гняздо, нарачанскі край* і да т.п.).

Якасныя прыметнікі выражаюць прыкметы, што праяўляюцца з рознай ступенню інтэнсіўнасці і граматычна афармляюцца з дапамогай паказчыкаў вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання, дапускаюць сваю лагічную інтэрпрэтацыю, матываванай адпаведнай якасцю прадметаў (гл.: ЕСПЕРСЕН 1958, 285). Сярод адносных прыметнікаў вылучаюцца прыналежныя, якія выражаюць індывідуальна свае адносіны да пэўнай асобы (параўн.: *бацькава хата, вучнёўскі сшытак* і інш.). Праз пераносныя значэнні адносныя прыметнікі ў пэўных кантэкстах здольны выступаць у ролі якасных (параўн.: *жалезны характар, залатая душа* і інш.) і, наадварот, якасныя прыметнікі ў адпаведных кантэкстах набываюць роль адносных (параўн.: *чорны хлеб, звонкі гук* у сэнсе 'зычны' і інш.).

Вышэйшая ступень параўнання якасных прыметнікаў мае простую (сінтэтычную) форму выражэння, што ўтвараецца пры дапамозе суфіксаў *-ейш (-эйш)* тыпу *смелы – смялейшы, ціхі – цішэйшы* і да т.п., і складаную (аналітычную), што ўтвараецца праз далучэнне да адпаведных прыметнікаў слоў *больш (болей), менш (меней)*, тыпу *больш каштоўны, менш якасны* і інш. (гл.: БУЛАХАЎ 1964, 169–184). Простая форма найвышэйшай ступені ўтвараецца з дапамогай прыстаўкі *най-*, якая далучаецца да простай формы вышэйшай ступені (параўн.: *дабрэйшы – найдабрэйшы* і інш.), а складаная форма ўтвараецца аналітычным спосабам з дапамогай слоў *самы, найбольш, найменш*, якія далучаюцца да зыходнай формы якасных прыметнікаў (параўн.: *самы добры, менш прыгожы* і інш.).

Якасныя прыметнікі могуць выступаць у поўнай і кароткай форме (параўн.: *вясёлы – весел, смутны – смуцен* і інш.), але кароткія формы ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца малаўжывальнымі (гл.: КАВАЛЁВА, СЦЯЦКО 1970, 95); яны не скланяюцца як раней і амаль паўсюдна выцеснены поўнымі формамі (гл.: ЯНКОЎСКІ 1983, 161–163). Кароткія прыметнікі пры сваім выкарыстанні выступаюць пераважна

ў ролі прэдыкатываў, выражаюць не пастаянныя, а часовыя прыкметы, знаходзяць прымяненне ў некаторых паэтычных творах (параўн.: *Люб і смуцен час прыгоды, Даль імгліста нерухома* ў Я.Коласа і інш.), ва ўстойлівых выразах (параўн.: *Славен бубен за гарамі, Кожны кулік на сваім балоце вялік* і інш.), практычна не ўжываюцца як азначэнні ў іншых відах маўленчай дзейнасці. Для якасных прыметнікаў уласціва антанімія (параўн.: *добры – дрэнны, разумны – дурны* і інш.).

Займеннікавыя прыметнікі (параўн.: *мой, твой, наш, гэты, які, усякі* і інш.), гэтаксама як і субстантыўныя займеннікі (параўн.: *я, мы, хто, нішто* і інш.), выконваюць аднолькавую функцыянальную ролю, выступаюць у якасці замяшчальнікаў знамянальных слоў, аднак розняцца паміж сабой тым, што граматычныя катэгорыі першых (займеннікавых прыметнікаў) вызначаюцца тымі назоўнікамі, з якімі яны спалучаюцца; а ў другіх (субстантыўных займеннікаў) праяўляюцца самастойна. Сярод займеннікавых прыметнікаў вылучаюцца прыналежныя (параўн.: *мой, наш, ваш* і інш.), указальныя (параўн.: *гэты, той, такі* і інш.), азначальныя (параўн.: *кожны, увесь, іншы* і г.д.), пытальна-адносныя (параўн.: *чый, які, каторы* і інш.), няпэўныя (параўн.: *абы-чый, які-небудзь, чый-небудзь* і інш.), адмоўныя (параўн.: *нічый, ніякі* і інш.). Дадзеныя займеннікавыя прыметнікі спалучаюцца ў родзе, ліку, склоне з адпаведнымі назоўнікамі, але гэта не тычыцца займеннікаў тыпу *які*, што выкарыстоўваюцца ў якасці злучнікавых слоў (параўн.: *кніга, якую я чытаў; кніга, над якой я задумаўся* і г.д.).

З дэрывацыйнага пункту гледжання ў беларускай мове выдзяляецца даволі вялікі разрад складаных прыметнікаў, якія ўзнікаюць часцей за ўсё праз злучэнне двух (радзей трох) знамянальных слоў тыпу *высакародны, аксамітна-чорны, бел-чырвона-белы* і інш. (гл.: ГНЕЎКА 1963).

Як і сярод назоўнікаў, сярод прыметнікаў ёсць група нязменных слоў, якія не скланяюцца, не змяняюцца па родах і ліках, маюць ва ўсіх выпадках свайго ўжывання нулявы канчатак. Звычайна нязменныя прыметнікі з'яўляюцца запазычанымі словамі, выступаюць у сінтаксічнай функцыі азначэнняў, але ў адрозненне ад уласна беларускіх і засвоеных запазычаных прыметнікаў займаюць у словазлучэнні постпазіцыйнае месца (параўн.: *колер хакі, вага нета, гатунак люкс, мова хіндзі* і інш.). Арганічна засвоеныя беларускай мовай запазычаныя словы падобнага тыпу могуць набываць поўную форму прыметнікаў і граматычна змяняцца як і яны (параўн.: *тканіна колеру бардо* і *бардовая тканіна, бардовай тканіны, бардовы пінжак, бардовыя пінжакі* і інш.).

Пераважная большасць прыметнікаў скланяецца па прыведзенаму вышэй ад'ектыўнаму тыпу субстантываваных прыметнікаў (гл. папярэдні параграф), але прыналежныя прыметнікі змяняюцца па змешанаму тыпу скланення. У назоўным і вінавальным склонах яны маюць кароткую форму: у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду – нулявы канчатак (параўн.: *бацькаў, Алесяў* і інш.), жаночага роду – канчатак *-а* (параўн.: *сястрына хустка* і інш.), ніякага роду не пад націскам *-а* (параўн.: *птушкіна гняздо* і інш.), а пад націскам *-о* (параўн.: *даччыно кашнэ* і інш.). У вінавальным склоне прыналежныя прыметнікі адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду пры спалучэнні з неадушаўлёнымі назоўнікамі маюць кароткую форму, як і ў назоўным склоне (параўн.: *бацькаў дом, бацькава поле* і інш.), а прыналежныя прыметнікі жаночага роду маюць кароткую форму з канчаткам *-у* (параўн.: *бацькаву хату, Аленчыну кнігу* і інш.). Прыналежныя прыметнікі множнага ліку ўсіх родаў у назоўным і вінавальным склонах маюць кароткую форму з канчаткам *-ы* (параўн.: *бацькавы гоні, матчыны клопаты* і інш.). Ва ўсіх астатніх склонах канчаткі прыналежных прыметнікаў супадаюць з канчаткамі прыметнікаў ад'ектыўнага тыпу скланення.

## 8.8. ЛІЧЭБНІК

Часціна мовы, якая абазначае пэўную або няпэўную колькасць, мае катэгорыю склону, а таксама менш выразна граматычныя катэгорыі роду і ліку. Лічэбнікі могуць ужывацца ў якасці самастойных слоў, што абазначаюць адцягнены лік, і несамастойна ў спалучэнні з субстантывамі. Колькасць лічэбнікаў у беларускай мове, як і ў іншых мовах свету, служыць закрытым мноствам (гл. ЧЕЙФ 1975, 261), але іх камбінацыямі (спалучэннямі асобных лічэбнікаў) можна выразіць бясконцы лік розных адзінак. З семантычнага пункту гледжання лічэбнікі падзяляюцца на пэўна-колькасныя, што фіксуюць дакладны лік чаго-небудзь (параўн.: *сем, дваццаць, сто* і інш.), і няпэўна-колькасныя (гл.: ВЯРХОЎ 1961, 4, 21), якія выражаюць недакладны лік адзінак (параўн.: *многа, мала, шмат, некалькі* і інш.).

Сярод пэўна-колькасных лічэбнікаў выдзяляюцца зборныя, што абазначаюць колькасць як адно цэлае, адзінства (параўн.: *сямёра, пяцёра* і інш.), дробавыя, што абазначаюць часткі цэлага (параўн.: *адна пятая, тры сёмых* і інш.) або цэлае і яго часткі (параўн.: *шэсць цэлых восем дзевятых* і інш.), прычым могуць выражаць і незлічоныя прадметы, адцягненыя паняцці, матэрыяльныя рэчывы (параўн.: *тры пятых аб'ёму вады, дзве трэціх насельніцтва* і інш.). Зборныя лічэбнікі часцей за ўсё спалучаюцца з назвамі маладых істот (параўн.: *трое ягнят, пяцёра парасят* і інш.), асобамі мужчынскага полу (параўн.: *двое салдат, чацвёра вучняў* і інш.), субстантываванымі прыметнікамі, асабовымі займеннікамі, множналікавымі назоўнікамі (параўн.: *двое незнаёмых, нас трое, чацвёра саней* і інш.), пры набыцці імі сэнсу прыслоўяў тыпу *ўдвух* (гл.: ЧЕРНЫШЕВ 1970, 542). Зборныя лічэбнікі не маюць роду і ліку, утвараюцца звычайна ад колькасных лічэбнікаў у межах ад двух да дзесяці, натуральна робяцца субстантывамі (параўн.:*Сямёра аднаго не чакаюць* і інш.), рэдка выкарыстоўваюцца ў навуковым і ў афіцыйна-дзелавым стылях. Зборны лічэбнік *абодва* (мужчынскі і ніякі род) у жаночым родзе мае форму *абедзве*, а пры спалучэнні з назоўнікамі, што абазначаюць асоб мужчынскага і жаночага роду, ужываецца форма *абое* (гл.: СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1997, 116–117).

Як і дробавыя лічэбнікі, няпэўныя спалучаюцца з назоўнікамі, што абазначаюць матэрыяльныя рэчывы, абстрактныя рэаліі (параўн.: *шмат снегу, мала розуму* і інш.).

Лічэбнікі з'яўляюцца тыповымі не граматычнымі, а лексіка-граматычнымі разрадамі слоў, бо выражанае імі паняцце мае найперш семантычную прыроду (гл.: СУПРУН 1969, 4), у той час як марфалагічныя катэгорыі прадстаўлены ў іх непаслядоўна і менш выразна (гл.: РЕФОРМАТСКИЙ 1987, 77–81), таму што адны лічэбнікі надзелены граматычнымі характарыстыкамі назоўнікаў (словы тыпу *тысяча, мільён* і інш.), другія – прыметнікаў (парадкавыя лічэбнікі), трэція маюць не зусім вызначаны граматычны статус (словы тыпу *шмат, некалькі* і інш.). У матэматыцы лічэбнікі выступаюць як абазначэнні абстрактных велічынь і могуць функцыянаваць самастойна, без спалучэння з назоўнікамі (параўн.: *Тры плюс тры будзе шэсць* і да т.п.). У адрозненне ад слоў іншых часцін мовы многія лічэбнікі могуць дубліравацца на пісьме лічбамі, і арабскімі, і лацінскімі, якія ўжываюцца часта ў пісьмовым тэксце побач і ў спалучэнні з вербальнымі сродкамі (параўн.: *у 1999 годзе, 2/3 атрыманай сумы* і інш.).

Па сваёй граматычнай структуры лічэбнікі падзяляюцца на простыя, складаюцца з аднаго кораня (параўн.: *два, тры, пяць* і інш.), складаныя, маюць як мінімум дзве асновы (параўн.: *пяцьдзесят, пятнаццаць* і інш.), састаўныя, утвараюцца з двух і болей лічэбнікаў-слоў (параўн.: *трыццаць тры, пяцьсот семдзесят шэсць* і інш.). Асноўнай граматычнай прыкметай лічэбнікаў служыць катэгорыя склону, бо ўсе яны, акрамя *паўтара, паўтары, дзевяноста, мала, шмат, многа, нямала*, скланяюцца.

Па родах і ліках змяняецца толькі колькасны лічэбнік *адзін*, а толькі па родах – *паўтара, паўтары, абодва, абедзве, два, дзве*. Астатнія колькасныя лічэбнікі не маюць катэгорый роду і ліку, апрача тых, што належаць па сваіх граматычных прыкметах да назоўнікаў (словы тыпу *більён, мільярд* і інш.). У склад назоўнікаў уключаюцца ўтвораныя ад лічэбнікаў словы накшталт *тройка, сотня, дзесятак* і інш., якія маюць родавыя адрозненні, спалучаюцца з лічэбнікамі і прыметнікамі (параўн.: *адна пяцёрка, цудоўная дзесятка* і інш.) і акрамя ліку выражаюць прадметнасць. Пэўныя колькасныя лічэбнікі пры постпазіцыйным ужыванні выражаюць прыблізную колькасць (параўн.: *сем чалавек* і *чалавек сем* і інш.). Катэгорыю адушаўлёнасці маюць толькі лічэбнікі *адзін, два, тры, чатыры*. Асобную невялікую групу лічэбнікаў складаюць займеннікавыя, што ўключаюць у свой склад словы *колькі, некалькі, столькі, гэтулькі* і інш. Дадзеныя словы выступаюць як адносныя і пытальныя займеннікі, у спалучэнні з дзеясловамі як прыслоўі, а таксама ўжываюцца для абазначэння няпэўнай колькасці (гл.: ЧАБЯРУК 1977, 8). У апошнім выпадку гэтыя словы звычайна спалучаюцца з назоўнікамі ў родным склоне (параўн.: *столькі радасці, колькі хваляванняў* і інш.) і скланяюцца як прыметнікі множнага ліку.

Парадкавыя лічэбнікі па сваёй семантыцы адносяцца да лічэбнікаў, а па граматычных уласцівасцях – да прыметнікаў. У першым выпадку яны суадносяцца з пэўнымі колькаснымі паняццямі, маюць сваё вызначанае месца пры лічэнні, могуць выражацца на пісьме лічбамі (параўн.: *11-ы паверх, 2000-ы год* і інш.). Марфалагічныя катэгорыі роду, ліку, склону ў парадкавых лічэбніках прадстаўлены як і ў граматычна зменных прыметнікаў. У састаўных лічэбніках пры гэтым скланяецца толькі апошняя слова (параўн.: *у тысяча дзевяцьсот дзевяноста дзевятым годзе* і інш.).

Граматычнай асаблівасцю дробавых лічэбнікаў служыць тое, што яны ўтвараюцца з колькасных лічэбнікаў (у лічніку) і парадкавых (у назоўніку; параўн.: *адна трэцяя, тры пятых* і інш.). Пры спалучэнні дробавых лічэбнікаў з назоўнікамі, апошнія ўжываюцца ў родным склоне (параўн.: *адна чацвёртая кілаграма* і інш.). Да дробавых лічэбнікаў адносяцца словы *паўтара* (ужываецца ў спалучэнні з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду) і *паўтары* (выкарыстоўваецца ў спалучэнні з назоўнікамі жаночага роду). Колькасныя лічэбнікі *адзін, два, тры, чатыры* дапасуюцца да назоўнікаў, а лічэбнікі ад *пяці* і вышэй граматычна кіруюць назоўнікамі.

Скланенне лічэбнікаў адбываецца па розных узорах. Лічэбнікі *адзін, адна, адно* скланяюцца як прыметнікі, лічэбнікі *пяць – дзесяць, адзінаццаць – дваццаць, трыццаць* скланяюцца па ўзору скланення назоўнікаў жаночага роду тыпу *радасць*. Лічэбнікі *сорак, сто* маюць толькі дзве склонавыя формы (назоўны і вінавальны – *сорак, сто*, астатнія склоны – *сарака, ста*). Зборныя лічэбнікі скланяюцца як займеннікі *твае, свае*. У дробавых і састаўных лічэбнікаў скланяюцца ўсе кампаненты-словы, у складаных лічэбнікаў *дзвесце – дзевяцьсот* скланяюцца абедзве часткі, якія маюць канчаткі назоўнікаў ніякага роду множнага ліку.

## 8.9. ЗАЙМЕННІК

Часціна мовы, якая ўказвае на прадмет, колькасць, якасць, фактычна замяняе пры гэтым словы іншых часцін мовы пры няведанні адпаведных назваў ці наўмысна або можа замяняцца імі, калі вядомы адпаведныя рэаліі. Колькасць займеннікаў, гэтаксама як і лічэбнікаў, абмежаваная; яны ўтвараюць закрытае мноства, прыдатныя ўсім мовам свету (гл.: БЕНВЕНИСТ 1974, 285). Нягледзячы на марфалагічную разнароднасць займеннікаў (гл.: БЛОХ 1986, 75), яны аб'ядноўваюцца тым, што ўваходзяць у адно поле дэйксісу, ці ўказальнае поле, сітуацыйныя па

семантыцы, здольныя выступаць на месцы іншых імён і ў эўфемістычнай функцыі (гл.: РЕФОРМАТСКИЙ 1979, 93).

У залежнасці ад таго, словы якіх часцін мовы замяшчае займеннік, вылучаюцца займеннікі-назоўнікі (параўн.: *ты, яны, хто* і інш.), займеннікі-прыметнікі (параўн.: *наш, свой, твой* і інш.), займеннікі-лічэбнікі (параўн.: *колькі, столькі, гэтулькі* і інш.), займеннікі-прыслоўі (параўн.: *адсюль, тады, так* і інш.), а таксама магчыма і займеннікі-прэдыкатывы (гл.: МАСЛОВ 1987, 166). Для ўсіх займеннікаў характэрна катэгорыя склону, але граматычныя катэгорыі роду і ліку праяўляюцца імі непаслядоўна і звязаны з пэўнымі разрадамі займеннікаў. З улікам найперш семантычных асаблівасцяў выдзяляюцца займеннікі асабовыя (*я, ты, ён, яна, яно, мы, вы, яны*), зваротны (*сябе*), прыналежныя (*мой, твой, свой, яго, яе, наш, ваш, іх*), указальныя (*гэты, гэтакі, такі, той*), азначальныя (*кожны, іншы, сам, самы, увесь, усякі, усё, усе, уся*), пытальна-адносныя (*хто, што, які, чый, каторы*), адмоўныя (*ніхто, нішто, нічый, ніякі*), няпэўныя (*нехта, нешта, некаторы, хтосьці, штосьці, абы-хто* і інш.; гл.: СЦЯШКОВІЧ 1977).

Асабовыя займеннікі служаць аналітычным сродкам выражэння персанальнасці (гл.: ВИНОКУР 1990, 243), прычым займеннікі 3-й асобы выражаюць не толькі персону, а і выступаюць у ролі найбольш абагульненага ўказальніка на ўсе магчымыя прадметы, з'явы, прыкметы, паняцці ў якасці іх замяняльніка. Асабовыя займеннікі *я, ты* не маюць марфалагічнай катэгорыі роду, якая, аднак, праяўляецца сінтаксічнымі сродкамі праз прэдыкатыўную сувязь з дзеясловамі прошлага часу (параўн.: *я быў, ты быў, я была, ты была),* або з магчымымі азначэннямі, што часцей за ўсё выступаюць у якасці прыдатка (параўн.: *я, зацікаўлены кнігай; яна, зацікаўленая кнігай* і інш.). Катэгорыя ліку ў асабовых займеннікаў *я, ты* праяўляецца праз суплетыўныя формы *мы, вы*, якія абазначаюць мноствы розных асоб уключна *я, ты*. Для асабовых займеннікаў характэрна транспазіцыя (гл.: ЮРЭВІЧ 1983, 118), г.зн. адзін займеннік ужываецца ў значэнні і на месцы іншага. *Мы* можа абазначаць *я, вы* можа выступаць на месцы *ты* (так званая форма ветлівасці), *ён* – на месцы і *я*, і *ты* і г.д. Пры скланенні асабовых займеннікаў адзначаецца суплетывізм асноў [параўн.: назоўны – *я, ты, мы, вы, ён, яна, яно, яны;* родны – *мяне, цябе, нас, вас, яго, яе, яго, іх;* давальны – *мне, табе, нам, вам, яму, ёй, яму, ім;* вінавальны – *мяне, цябе, нас, вас, яго, яе, яго, іх*; творны – *мной (-ою), табой (-ою), намі, вамі, ім, ёй (-ёю), ім, імі;* месны – *аба мне, аб табе, аб нас, аб вас, аб ім, аб ёй, аб ім, аб іх*].

Зваротны займеннік *сябе (сабе)* указвае на тое, што аб'ектам дзеяння служыць сам суб'ект, або асоба, прадмет і інш., пра якія ідзе гаворка. Гэты займеннік не мае катэгорыі ліку, роду, а таксама назоўнага склону (у творным склоне мае дзве формы – *сабой* і *сабою*), можа адносіцца да 1, 2, 3-й асобы абодвух лікаў, выступае ў сказе як дапаўненне, скланяецца па ўзору займенніка *ты*, можа выступаць у функцыі часціцы (параўн.: *Маўчыць сабе ды і ўсё* і інш.).

Прыналежныя займеннікі ўказваюць на 1, 2, 3-ю асобы, якія з'яўляюцца ўладальнікамі прадмета: *мой, наш* – 1-я асоба; *твой, ваш* – 2-я асоба; *яго, яе, іх* – 3-я асоба; *свой* – усе тры асобы. Прыналежныя займеннікі *мой, твой, наш, ваш* маюць катэгорыі ліку, роду, склону (скланяюцца па ўзору прыметнікаў); займеннікі *яго, яе, іх* не скланяюцца. У некаторых склонавых формах прыналежных займеннікаў магчымы варыянтныя канчаткі (параўн.: *нашы* і *нашыя*, *нашай* і *нашаю* і інш.).

Указальныя займеннікі *гэты, той, такі, гэтакі* маюць марфалагічныя формы роду, ліку, склону; скланяюцца па ўзору прыметнікаў). Значэнні займеннікаў *гэты, той* з'яўляюцца карэлятыўнымі: ужываюцца пры ўказанні адпаведна на блізкі і далёкі прадметы. Займеннікі *такі, гэтакі* ўдакладняюць або выдзяляюць сэнс пры характарыстыцы якасці прадмета, могуць паказваць падабенства рэалій.

Лічэбнікавыя займеннікі *столькі, гэтулькі*, што адносяцца да ўказальных, не маюць катэгорый роду і ліку, скланяюцца па ўзору прыметнікаў множнага ліку. Займеннік *гэты (гэта)* можа набываць вельмі адцягненае значэнне і субстантывавацца (параўн.: *Гэта было зусім нядаўна* і інш.). У вусным маўленні ўказальныя займеннікі часта суправаджаюцца такім паралінгвістычным сродкам, як жэст, што ўдакладняе іх змест; на пісьме іх значэнне вынікае з кантэксту, дзе яны могуць выражаць, у прыватнасці, і ступень якасці (параўн.: *Хлопчык такі разумны* і інш.), выступаць у граматычнай функцыі звязкі (параўн.: *Лес – гэта наша багацце* і інш.).

Азначальныя займеннікі *іншы, кожны, любы, сам, самы, увесь, усякі* выражаюць абагульненую якасць або маюць выдзяляльны сэнс, характарызуюцца граматычнымі катэгорыямі роду, ліку, склону (скланяюцца па ўзору скланення прыметнікаў з адпаведнай асновай – цвёрдай ці мяккай). Займеннікі *кожны, любы, усякі* служаць сінонімамі, выкарыстоўваюцца для вылучэння прадметаў з аднароднай сукупнасці (параўн.: *кожны з іх*, *любы з іх, усякі з іх* і інш.). Займеннікі *ўвесь, усе, усё* здольны субстантывавацца (параўн.: *Усе выйшлі на працу* і інш.), а некаторыя азначальныя займеннікі ў пэўных кантэкстах набываюць ролю або мадальнага слова, або ўзмацняльнай часціцы, або выкарыстоўваюцца для выражэння ступені якасці (параўн.: *на самай справе, усё лягчэй, самы лепшы* і інш.).

Пытальна-адносныя, ці пытальныя і адносныя, займеннікі ўключаюць у сябе адны і тыя ж словы (*хто, што, які, чый, каторы*), якія ва ўсіх індаеўрапейскіх мовах ужываюцца ў адной форме (гл.: СЕМЕРЕНЬИ 1980, 224), аднак, адрозніваюцца функцыянальна і таму, па сутнасці, з'яўляюцца амонімамі. У першай функцыі гэтыя словы выражаюць пытанні аб асобах, істотах, прадметах, іх якасцях ці прыналежнасці, што ў вусным маўленні выражаецца інтанацыйна, на пісьме – пытальным знакам. У другой функцыі дадзеныя займеннікі выражаюць сэнсавыя і граматычныя адносіны паміж галоўнай і даданай часткамі складаназалежнага сказа. Займеннікі *каторы, чый, які* характарызуюцца марфалагічнымі катэгорыямі роду, ліку, склону (скланяюцца па ўзору прыметнікаў), а ў займенніках *хто, што* род і лік могуць выражацца не марфалагічнымі, а сінтаксічнымі сродкамі; пры скланенні гэтыя займеннікі набываюць суплетыўныя формы (параўн.: *хто – каго – каму* і інш., *што – чаго – чаму* і інш.). У даданых сказах адносныя займеннікі могуць выступаць і ў ролі галоўных членаў сказа, і ў ролі даданых. Слова *каторы* служыць сінонімам слова *які* і ўжываецца ў сучаснай беларускай мове даволі рэдка.

Няпэўныя займеннікі *нехта, нешта, абы-хто, абы-што, хто-небудзь, што-небудзь, хтосьці, нейкі, некаторы* і інш. указваюць на невядомыя прадметы (адушаўлёныя і неадушаўлёныя), тыя ці іншыя прыкметы, на прыналежнасць прадметаў, значэнні якіх не вынікае з кантэксту і не вызначаецца ім (гл.: GŁUSZKOWSKA 1985). Для няпэўных займеннікаў характэрны катэгорыі роду, ліку, склону, якія ў іх супадаюць з адпаведнымі пытальна-адноснымі займеннікамі, што выкарыстоўваюцца для іх утварэння з дапамогай афіксаў *не-, абы-, -небудзь, -сьці.* Адмоўныя займеннікі (*ніхто, нішто, ніякі, нічый, некага*, *нечага)* указваюць на адсутнасць тых рэалій, якія яны абазначаюць. Дадзеныя займеннікі выкарыстоўваюцца ў адмоўных сказах, дзе ёсць словы *не, няма* (параўн.: *Ніхто не хацеў паміраць, Нічога на стале няма* і інш.), утвараюцца ад пытальных шляхам далучэння прэфікса *ні-*. Займеннікі *ніхто, нішто* выступаюць у сказе як субстантывы. Адмоўныя займеннікі скланяюцца па ўзору скланення адпаведных пытальных. Словы *некага, нечага* не маюць назоўнага склону, гэтаксама як і займеннік *сябе,* але яны належаць да малаўжывальных у сучаснай беларускай мове.

У якасці займеннікаў могуць выступаць словы іншых часцін мовы, напрыклад, колькасны лічэбнік *адзін*, парадкавы – *другі* (параўн.: БУСЛАЕВ 1992, 236), прыметнік *цэлы* і інш. (параўн.: *Адзін з іх быў тут цэлы дзень* і інш.), што называецца

пранаміналізацыяй. Аднак значна часцей самі займеннікі выступаюць у ролі іншых часцін мовы. Так, значэнні субстантываў могуць набываць азначальныя, прыналежныя займеннікі (параўн.: *кожны хоча, нашы ідуць* і інш.). У якасці часціц могуць ужывацца зваротны займеннік *сабе*, указальны займеннік *гэта*, слова *ўсё*, займеннікі *колькі, які*, словы *штосьці, нешта* і інш. (гл.: СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1997, 140–141).

## 8.10. ДЗЕЯСЛОЎ

### 8.10.1. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ДЗЕЯСЛОВА І ЯГО ТРЫВАННІ

Часціна мовы, якая выражае дзеянне або стан асоб, прадметаў, з'яў з дапамогай граматычных катэгорый асобы, часу, трывання, стану, ладу, пераходнасці / непераходнасці. Формамі дзеяслова выражаюцца таксама катэгорыі ліку, а ў прошлым часе і катэгорыя роду. З семантычнага пункту гледжання дзеяслоў характарызуецца як носьбіт працэсуальнай прыкметы, якая доўжыцца ў часе, з фармальнага – здольнасцю ўтварацца ад любых самастойных слоў (гл.: ВАСІЛЕЎСКІ 1970, 101–102), наяўнасцю такіх разрадаў унутры сябе, як інфінітыў, асабовыя і безасабовыя дзеясловы, пераходныя і непераходныя дзеясловы, зваротныя дзеясловы, дзеепрыметнікі, дзеепрыслоўі. Інфінітыў і дзеепрыслоўе адносяцца да нязменных слоў і часам вылучаюцца ў асобны граматычны разрад разам з прыслоўямі, формамі параўнання ступеней прыметнікаў (параўн.: УШАКОВ 1995, 107).

Зменным формам дзеяслова прыдатна катэгорыя ліку, што залежыць ад тых слоў, з якімі дзеяслоў граматычна звязваецца ў выказванні (параўн.: *студэнт чытае, яны чытаюць* і інш.). Асабовыя формы дзеясловаў спрагаюцца (змяняюцца па часе, асобе, ліку, ладзе, роду), выступаюць у сказе як прэдыкатывы (гл.: ЖИРМУНСКИЙ 1976, 76–77). З усімі дзеяслоўнымі формамі ў якасці іх прыкмет спалучаюцца прыслоўі. Агульнакатэгарыяльнымі граматычнымі значэннямі дзеясловаў служаць трыванне і стан, астатнія катэгорыі ўласцівы толькі асобным разрадам дзеясловаў.

Катэгорыя трывання ўваходзіць у больш глабальную катэгорыю аспектуальнасці (гл.: МАСЛОВ 1984, 5) і звязана з выражэннем абмежаванасці або неабмежаванасці дзеяння, якое мае часта суадносныя дзеяслоўныя формы закончанасці / незакончанасці (гл.: МАЦКЕВІЧ 1959, 82). Значэнне абмежаванасці з'яўляецца маркіраваным (гл.: МЕЛЬЧУК 1998, 19) і абазначае дзеянне ці адзінкавае непадзельнае (параўн.: *хлопнуць, крыкнуць* і інш.), ці непадзельнае з невыражанай працягласцю (*прачытаць, паслухаць* і інш.), ці падзельнае працяглае (параўн.: *папаліць, папастукаць* і інш.). Усе адзначаныя дзеясловы маюць закончанае трыванне, якім супрацьпастаўляюцца дзеясловы незакончанага трывання, што выражаюць дзеянні, не абмежаваныя ў сваёй праяве, у прыватнасці, паўтаральныя (параўн.: *стукаць, ляпаць* і інш.), падзельныя працяглыя (параўн.: *выбягаць, выходзіць* і інш.), непадзельныя з невыражанай працягласцю (параўн.: *пісаць, чытаць* і інш.; гл.: ЛОМТЕВ 1956, 119). Пры супадзенні лексічных значэнняў дзеясловы закончанага і незакончанага трыванняў утвараюць суадносныя пары, члены якіх адрозніваюцца толькі граматычна (параўн.: *рабіць – зрабіць, ламаць – адламаць, гаварыць – сказаць* і інш.) Фармальна завершанасць дзеяння фіксуецца дзеясловамі закончанага трывання прошлага часу (*прачытаў, зрабіў, адламаў* і інш.), тады як дзеясловы закончанага трывання будучага часу паказваюць, што дзеянне завершыцца пасля моманту гутаркі (параўн.: *прачытаю, зраблю, адламаю* і інш.).

Дзеясловы, якія не ўтвараюць суадносных пар у адносінах да выражэння мяжы дзеяння, называюцца аднатрывальнымі і могуць мець або толькі форму закончанага трывання (параўн.: *расплакацца, набыць* і інш.), або толькі форму незакончанага трывання (параўн.: *ганарыцца, адсутнічаць* і інш.).

Дзеясловы незакончанага трывання спалучаюцца з іншымі дзеясловамі тыпу *скончыць*, *пачаць* і да т.п., а дзеясловы закончанага трывання з падобнымі дзеясловамі не спалучаюцца. Дзеясловы, што не ўтвараюць суадносных трывальных пар, маюць асаблівасці ў сваёй лексічнай семантыцы, якая характарызуецца ўказаннем на пачынальнасць дзеяння (параўн.: *закрычаць, пабегчы, узляцець* і інш.), на абмежавальнасць дзеяння (параўн.: *пагартаць, праспаць, перабегчы* і інш.), аднакратнасць, ці інхаатыўнасць, дзеяння (параўн.: *мігнуць, глынуць* і інш.), выніковасць дзеяння (параўн.: *абрынуць, выскачыць, злезці* і інш.), мнагакратнасць, ці ітаратыўнасць, дзеяння (параўн.: *папаездзіць, папанасіць* і інш.), перарывістасць (параўн.: *пакусваць*, *узмахваць* і інш.), суправаджальнасць (параўн.: *прыпяваць, падсвістваць* і інш.), размеркавальнасць, ці дыстрыбутыўнасць (параўн.: *панадпісваць, ператрэсці* і інш.; гл.: ШУБА 1987, 158–160).

Фармальна катэгорыя трывання выражаецца рознымі афіксамі (параўн.: *купляць – купіць, пісаць – напісаць* і інш.), суплетыўнымі асновамі (параўн.: *браць – узяць, лавіць – паймаць* і інш.), націскам (параўн.: *выклíкáць – вы́клікаць, рассыпáць – рассы́паць* і інш.), чаргаваннем гукаў (параўн.: *выбіраць – выбраць, называць – назваць* і інш.).

Дзеясловы закончанага трывання маюць парадыгмы форм будучага простага часу і дзеепрыметнікаў прошлага часу, незакончанага трывання – парадыгму форм цяперашняга і будучага складанага часу, дзеепрыметнікаў цяперашняга і прошлага часу:

*слухаю* → *праслухаю*, *праслухаўшы*, *праслуханы*

*слухаць* → *слухаю*, *буду слухаць*, *слухаючы*, *слухаемы*, слухаўшы

У беларускай мове для некаторых дзеясловаў адзначаецца ступеньчатае ўтварэнне трывання (гл.: СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1980 148–149). Так, дзеясловы закончанага трывання ўтвараюцца ад дзеясловаў незакончанага трывання з дапамогай прыставак (параўн.: *пісаць – выпісаць* і да т.п.). Далей ад прыставачнага дзеяслова закончанага трывання ўтвараецца дзеяслоў незакончанага трывання з дапамогай суфіксаў (у прыватнасці, *-ва-, -іва-, -ыва-, -оўва-, -ёўва-*) тыпу *выпісаць – выпісваць*. І ўрэшце ад дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе прыставак *па-, на-* утвараюцца дзеясловы закончанага трывання (параўн.: *выпісваць – навыпісваць* і інш.).

## 8.10.2. КАТЭГОРЫІ СТАНУ, ПЕРАХОДНАСЦІ, ЗВАРОТНАСЦІ ДЗЕЯСЛОВА

Катэгорыя стану выражае адносіны да суб'екта і аб'екта, прычым лагічны суб'ект не заўсёды супадае з граматычным, г.зн. дзейнікам у сказе (параўн.: *Студэнт прачытаў кнігу* і *Кніга прачытана студэнтам* – лагічны суб'ект адзін, а дзейнік розны: у першым сказе – *студэнт*, у другім – *кніга*). У сувязі з гэтым адрозніваюць незалежны стан, калі дзеянне зыходзіць ад суб'екта, што з'яўляецца ў сказе дзейнікам; і залежны стан, калі аб'ект дзеяння з'яўляецца ў сказе дзейнікам, а суб'ект дапаўненнем (падобныя сінтаксічныя канструкцыі называюцца адпаведна

актыўнымі і пасіўнымі; гл.: ШУБА 1968, 20). Залежны і незалежны стан уяўляюцца ў значнай ступені абагульненымі граматычнымі катэгорыямі, якія пры сваёй дэталёвай дыферэнцыяцыі расшчапляюцца на некалькі дзесяткаў больш дробных граматычных значэнняў (гл.: ХОЛОДОВИЧ 1979, 285). У беларускай мове дзеясловы залежнага стану ўтвараюцца пераважна ад пераходных дзеясловаў незакончанага трывання, а ад пераходных дзеясловаў закончанага трывання ўтвараюцца дзеепрыметнікі залежнага стану (параўн.: *Лекцыя слухаецца студэнтамі* і *Лекцыя праслухана студэнтамі* і інш.). Некаторыя полісемічныя дзеясловы беларускай мовы з'яўляюцца двухстанавымі: іх граматычнае значэнне вызначаецца кантэкстам (параўн.: *Мяч кідаўся гандбалістам па варотах* – закончанае трыванне; *Ён кідаўся на мяне з кулакамі* – незакончанае трыванне). У межах катэгорыі стану вылучаюцца значэнні сумеснасці і ўзаемнасці (гл.: АНТАНЮК 1981).

Дзеясловы залежнага стану часцей за ўсё ўтвараюцца ад дзеясловаў незалежнага стану з дапамогай постфікса *-ся (-ца)*, тыпу *бачыў – бачыўся, ламаць – ламацца* і да т.п. Катэгорыя стану арганічна звязана з пераходнасцю / непераходнасцю дзеясловаў і са зваротнымі дзеясловамі (гл.: НОРМАН 1972).

Пераходныя дзеясловы выражаюць дзеянне, якое прама ці ўскосна пераходзіць на другі прадмет ад суб'екта гэтага дзеяння. У беларускай мове субстантывы, на якія непасрэдна пераходзіць дзеянне, выражанае дзеясловам, ужываюцца звычайна ў вінавальным склоне (параўн.: *слухаць голас, бачыць настаўніка* і інш.), радзей у родным (у прыватнасці пры дзеясловах жадання, просьбы і некаторых прыставачных дзеясловаў тыпу *нарабіць, наглядзецца* і да т.п., пры абазначэні субстантывам часткі прадмета тыпу *напіцца вады* і да т.п., пры наяўнасці ў дзеяслова часціцы *не* тыпу *не слухаеш прамовы* і да т.п. і ў некаторых іншых выпадках). Пры непрамым пераходзе дзеяння на прадмет абазначэнне апошняга ўжываецца ў розных ускосных склонах, акрамя вінавальнага (параўн.: *гуляць у футбол, ківаць галавой, жыць з сястрой* і да т.п.). Дзеясловы, што абазначаюць не накіраванае на прадмет дзеянне, называюцца непераходнымі, да якіх адносяцца, у прыватнасці, дзеясловы руху (параўн.: *ісці, бегчы* і інш.), дзеясловы са значэннем стану ці ўласцівасці (параўн.: *спаць, настаўнічаць* і інш.).

Пры далучэнні да розных форм дзеяслова, пераважна да пераходных, постфікса *-ся* ўтвараюцца зваротныя дзеясловы, што абазначаюць дзеянні, скіраваныя на сам суб'ект гэтага дзеяння. Згаданы постфікс можа выступаць у форме *-ца*, калі далучаецца да інфінітыва на *-ць* (параўн.: *грэць – грэцца* і да т.п.) або да форм 3-й асобы абодвух лікаў ( параўн.: *грэе – грэецца, грэюць – грэюцца* і да т.п.). Частка беларускіх дзеясловаў ужываецца толькі ў зваротнай форме (параўн.: *баяцца, смяяцца* і інш.), а даволі значная колькасць непераходных дзеясловаў не мае зваротнай формы (параўн.: *ехаць, расці* і інш.).

Пераходныя дзеясловы, што спалучаюцца з назоўнікамі ў творным склоне, маюць суадносныя па стане пары з непераходнымі дзеясловамі (параўн.: *ствараць – ствараціа мастаком, ажыццяўляць – ажыццяўляцца кіраўніком* і да т.п.). Астатнія дзеясловы адносяцца да аднастанавых незалежных ці аднастанавых залежных, у прыватнасці да незалежных – пераходныя дзеясловы тыпу *касіць, чытаць* і інш., што спалучаюцца з прамым дапаўненнем, непераходныя дзеясловы без постфікса *-ся* (параўн.: *бегчы, вісець* і інш.), непераходныя дзеясловы з постфіксам *-ся (-ца)*, тыпу *прайсціся, мыцца* і інш. Да дзеясловаў залежнага стану адносяцца зваротныя дзеясловы з постфіксам *-ся (-ца)*, якія спалучаюцца з творным склонам назоўніка-суб'екта (параўн.: *малюецца мастаком, пішацца студэнтам* і інш.). Да залежнага стану адносяцца і дзеепрыметнікі, што таксама спалучаюцца з творным склонам назоўніка-суб'екта (параўн.: *намалявана мастаком, напісана студэнтам* і інш.). Дзеясловы незалежнага стану ўжываюцца ва ўсіх граматычных формах. Дзеясловы

залежнага стану часцей за ўсё маюць форму 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку ўсіх трох часоў, а таксама форму дзеепрыметнікаў: дадзеныя формы спалучаюцца з назоўнікам у творным склоне.

### 8.10.3. КАТЭГОРЫЯ ЛАДУ

У катэгорыі ладу выражаюцца адносіны абазначанага дзеясловам дзеяння да рэчаіснасці. Катэгорыя ладу ўваходзіць у больш шырокую катэгорыю мадальнасці (гл.: МЕЩАНИНОВ 1982, 87), дзе ўяўляецца самай граматычна выражанай і марфалагічна аформленай. У залежнасці ад таго, з'яўляецца дзеянне рэальным, ці пажаданым, ці магчымым, вылучаецца адпаведна абвесны, загадны і ўмоўны лад.

Дзеясловамі абвеснага ладу абазначаюцца рэальныя дзеянні, якія або сцвярджаюцца, або адмаўляюцца (параўн.: *Зіма наступіла, Сонца не свеціць* і інш.). Дзеясловамі загаднага ладу выражаецца патрабаванне ці пабуджэнне да выканання дзеяння (параўн.: *прынясі кнігу, бяры падарунак* і інш.). Дзеясловамі ўмоўнага ладу абазначаюцца магчымыя ці пажаданыя дзеянні (параўн.: *Прынёс бы ты мне кнігу, Хутчэй бы наступіла вясна* і інш.).

Толькі дзеясловам абвеснага ладу ўласцівы граматычныя формы ўсіх трох часоў (цяперашні, будучы, прошлы). Дзеясловы загаднага ладу не маюць катэгорый часу, змяняюцца па асобах, часткова па ліках. Найбольш ужывальнай граматычнай формай загаднага ладу служыць другая асоба адзіночнага ліку, якая ўтвараецца з дапамогай канчатка *-і (-ы),* што далучаецца да асновы дзеясловаў цяперашняга часу, або без канчатка (параўн.: *схадзі, вучы, сядзь* і інш.), а таксама 2-я асоба множнага ліку, што ўтвараецца праз далучэнне да адпаведнай формы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку постфікса *-це* (параўн.: *прынясіце, сядзьце* і да т.п.). Формы загаднага ладу ўтвараюцца таксама ад дзеясловаў першай асобы множнага ліку, 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку з дапамогай часціц *давай (давайце), няхай (хай)* тыпу *давай зробім, няхай (хай) зробіць (зробяць)* і інш.

Дзеясловы ўмоўнага ладу не змяняюцца ў часе, не маюць формы асобы (але гэтая форма можа выражацца аналітычнымі сродкамі), характарызуюцца катэгорыямі роду, ліку, трывання і абазначаюць ірэальныя дзеянні, якія магчымы толькі пры пэўных варунках. Формы ўмоўнага ладу ўтвараюцца ад дзеясловаў прошлага часу з дапамогай часціцы *бы (б).* Формам катэгорыі ладу ўласцівы транспазіцыі (гл.: КАЎРУС 1980, 122), г.зн. ужыванні дзеясловаў аднаго ладу ў значэнні другога (параўн.: *Сёння пойдзеш на дзяжурства ты; А ён вазьмі, ды і зрабі гэту працу* – дзеясловы абвеснага і загаднага ладу ўжываюцца адпаведна ў значэнні загаднага і абвеснага ладу і інш.). Формы загаднага ладу не ўтвараюцца звычайна ад безасабовых дзеясловаў і дзеясловаў, што характарызуюць дзеянні неадушаўлёных прадметаў (параўн.: *кіпець, цячы, світаць* і да т.п.).

### 8.10.4. КАТЭГОРЫЯ ЧАСУ

У катэгорыі дзеяслоўнага часу адлюстроўваюцца адносіны дзеяння да моманту гутаркі. Дзеянне, што адбываецца падчас гутаркі, выражаецца дзеясловамі цяперашняга часу, да моманту гутаркі – дзеясловамі будучага часу, пасля моманту гутаркі – дзеясловамі прошлага часу.

Паміж катэгорыямі часу і трывання маецца арганічная сувязь (гэтыя катэгорыі лучацца ў межах шырэйшых катэгорый тэмпаральнасці; гл.: БОНДАРКО 1978, 146; TEMPORALITÄT UND TEMPUS 1995, і таксісу, гл.: ТЕОРИЯ 1987, 234): дзеясловы незакончанага трывання выступаюць у формах цяперашняга, прошлага і будучага складанага часу, дзеясловы закончанага трывання – у формах прошлага і будучага

простага часу. У форме дзеясловаў цяперашняга часу выкарыстоўваюцца ўсе асабовыя формы адзіночнага і множнага ліку, пры гэтым асоба і лік выражаюцца дзеяслоўнымі канчаткамі (параўн.: *чытаю, чытаеш, чытае; чытаем, чытаеце, чытаюць*). Форма дзеясловаў будучага часу рэалізуецца як сінтэтычнымі сродкамі (будучы просты: *напішу, прачытаю* і інш.), так і аналітычнымі (будучы складаны: *буду пісаць, буду чытаць* і інш.). Дзеясловы прошлага часу маюць формы мужчынскага, жаночага і ніякага роду (параўн.: *жыў, жыла, жыло* і інш.), закончанага і незакончанага трывання (параўн.: *рабіў – зрабіў* і інш.).

У цэлым дзеяслоўныя формы часу з'яўляюцца суадноснымі з рэальным часам, хаця ў пэўных кантэкстах і сітуацыях магчымы ўжыванні адных форм у значэнні іншых (параўн.: *Іду я ўчора па вуліцы, Вы сядзіце, а я пайшоў* – дзе дзеяслоў цяперашняга часу ўжываецца ў першым сказе ў значэнні прошлага, а дзеяслоў прошлага часу *пайшоў* у другім сказе – у значэнні будучага часу і інш.). Акрамя таго, дзеясловы цяперашняга часу выражаюць так званы абсалютны час, калі дзеянне служыць працэсуальнай прыкметай, уласцівай для адпаведных прадметаў ва ўсе часы (параўн.: *Вада замярзае пры нуль градусаў; Птушкі лётаюць у паветры* і інш.).

## 8.10.5. КАТЭГОРЫІ АСОБЫ, ЛІКУ І РОДУ ДЗЕЯСЛОВА

Катэгорыяй асобы выражаюцца адносіны дзеяння і яго стваральніка (суб'екта) да прамоўцы. У залежнасці ад таго, хто ўтварае дзеянне (сам прамоўца, субяседнік або асоба, што не бярэ ўдзел у гаворцы, або тое, пра што гаворыцца), выдзяляюцца адпаведна першая, другая і трэцяя асоба дзеяслова, якія ўваходзяць у больш шырокую катэгорыю персанальнасці, што выражаецца і асабовымі займеннікамі, і іншымі паказчыкамі (гл.: БОНДАРКО 1971, 47; PERSONALITÄT UND PERSON 1999), або яшчэ ў шырэйшую катэгорыю персанальнасці / імперсанальнасці, што ўключае ў сябе катэгорыі ладу, часу і асобы (гл.: УКРАИНСКАЯ ГРАММАТИКА 1986, 86).

Асобы дзеяслова могуць выступаць у адзіночным і множным ліку, што марфалагічна выражаюцца яго канчаткамі, аналітычна асабовымі займеннікамі, субстантывамі пры выражэнні 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку. Катэгорыя асобы не праяўляецца ў дзеясловаў прошлага часу (параўн.: *я быў, ты быў, ён быў* і інш.). Дзеясловы, значэнні якіх звязаны з дзеяннем ці станам, што ўзнікаюць і існуюць самі па сабе, без канкрэтнага стваральніка, называюцца безасабовымі (параўн.: *світае, сутоньваецца, нездаровіцца* і інш.). Яны не маюць роду і ліку, выражаюцца формай 3-й асобы адзіночнага ліку абвеснага ладу ўсіх трох форм часу, абазначаюць звычайна прыродныя з'явы, псіхічны ці біялагічны стан чалавека. Як і для іншых марфалагічных катэгорый, для катэгорыі асобы характэрна транспазіцыя: ужыванне адных форм асобы ў значэнні іншых. Так, першая асоба множнага ліку можа ўжывацца ў значэнні першай асобы адзіночнага ліку (так званае аўтарскае *мы*); форма другой асобы множнага ліку часта выступае для абазначэння асобы адзіночнага ліку (форма ветлівасці), а другая асоба адзіночнага ліку здольна выступаць у абагульненым значэнні (параўн.: *Што пасееш, тое і пажнеш* і да т.п.) і г.д. Катэгорыя асобы сумесна з катэгорыяй ладу і часу фарміруюць важнейшую ўласцівасць сказа – прэдыкатыўнасць, ці адносіны да рэчаіснасці.

Марфалагічная катэгорыя ліку ў дзеяслова выражае суадноснасць дзеяння з адным ці некалькімі яго ўтваральнікамі, прадстаўлена двума формамі – адзіночным і множным лікам, што звычайна дубліруе форму ліку адпаведнага субстантыва, разам з якім дзеяслоў утварае ядро выказвання. Канчаткі дзеяслова, што ўказваюць на лік, адначасова рэалізуюць і катэгорыю асобы (параўн.: *слухаю – слухаем, слухаеш – слухаеце* і інш.). У безасабовых дзеясловаў адсутнічае катэгорыя ліку, бо няма супрацьпастаўлення адзіночны / множны лік; яны ўжываюцца толькі ў форме

адзіночнага ліку. Катэгорыя ліку з'яўляецца граматычнай, бо не заўсёды адпавядае рэальнаму ліку, напрыклад, пры ўжыванні ветлівага *Вы*, пры апусканні ў маўленні асобы выказвання (параўн.: *вам тэлефанавалі* і інш.).

Гэтаксама як і катэгорыя ліку, катэгорыя роду ў дзеяслова дубліруе адпаведны род тых субстантываў, з якімі спалучаецца ў межах сказа ці суадносіцца ў дыскурсе. Катэгорыя роду праяўляецца ў дзеясловаў прошлага часу нулявым канчаткам (мужчынскі род), канчаткам *-а* (жаночы род), канчаткам *-о* (ніякі род), які адначасова ўказвае і на катэгорыю ліку. Формы роду звязаны і з той катэгорыяй асобы, якая для мужчынскага і жаночага роду звычайна не рэалізуецца ў 3-й асобе дзеяслова, што стасуецца пераважна з формамі ніякага роду, ужываецца ў беларускай мове як правіла ў дачыненні да безасабовых дзеясловаў.

### 8.10.6. СПРАЖЭННЕ ДЗЕЯСЛОВА

З улікам асабовых канчаткаў дзеясловаў выдзяляюцца два тыпы спражэння (змяненне па асобах і ліках у цяперашнім і будучым часе абвеснага ладу, а ў прошлым часе – і па родах) – першае і другое, якія прасцей за ўсё вызначаць па канчатках 2-й асобы адзіночнага ліку і 3-й асобы множнага ліку. Так, для дзеясловаў першага спражэння характэрны адпаведныя канчаткі *-еш (-эш, -аш) і -уць (-юць),* а для дзеясловаў 2-га спражэння – канчаткі *-іш (-ыш)* і *-аць (-яць*). Вызначыць тыпы спражэння можна і на аснове інфінітыўных форм дзеяслова: да 2-га спражэння адносяцца дзеясловы на *-іць (-ыць*), а таксама дзеясловы *гнаць, спаць, стаць, належаць, баяцца*, дзеясловы на *-ець (-эць),* калі *е (э)* не знаходзяцца ў першай асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу пад націскам (параўн.: *глядзець – гляджу, гарэць – гару* і інш.). Усе астатнія дзеясловы належаць да першага спражэння.

Такім чынам, для дзеясловаў першага і другога спражэння характэрны наступныя канчаткі (гл.: БЕЛАРУСКАЯ МОВА 1994, 202).

| Лік | Асоба | Канчаткі 1-га спражэння | Канчаткі 2-га спражэння |
|---|---|---|---|
| Адзіночны | 1-я<br>2-я<br>3-я | -у -ю<br>-еш -эш -аш<br>-е -э -а | -у -ю<br>-іш -ыш<br>-іць -ыць |
| Множны | 1-я<br>2-я<br>3-я | -ем -эм -ём -ом -ам<br>-еце -эце -яце -ёце<br>-уць -юць | -ім -ым<br>-іце -ыце<br>-аць -яць |

Канчаткі абодвух тыпаў спражэння маюць дзеясловы *бегчы, есці, даць*, якія называюцца рознаспрагальнымі.

### 8.10.7. ДЗЕЕПРЫМЕТНІК

Дзеепрыметнікі звычайна адносяць да дзеяслоўных форм са значэннем прыкметы, якая праяўляецца ў часе (працэсуальная прыкмета). Значэнне прыкметы і часу робяць гэтую форму дзеяслоўна-іменнай, што падмацоўваецца наяўнасцю ў дадзенай форме дзеяслоўных катэгорый часу, трывання, стану і іменных катэгорый роду, ліку, склону. Дзеепрыметнікі адрозніваюцца ад дзеясловаў тым, што не маюць форм асобы і ладу, а ад прыметнікаў тым, што не маюць формаў суб'ектыўнай ацэнкі. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу могуць мець кароткія формы (параўн.: *кніга прачытана* і інш.), якія, аднак, малаўжывальныя ў сучаснай беларускай мове (параўн.: ЛЯОНЧАНКА 1957, 25), хаця раней (у старабеларускай

мове)з яны даволі шырока выкарыстоўваліся ў якасці прэдыкатываў (гл.: ЖУРАЎСКІ 1967, 280).

Дзеепрыметнікі незалежнага стану характарызуюць таго, хто (што) утварае дзеянне (параўн.: *знікшы незнаёмец, набалелае пытанне* і інш.), залежнага стану – таго, хто (што) падлягае дзеянню (параўн.: *засеянае поле, адамкнутыя дзверы* і інш.). Дзеепрыметнікі незалежнага і залежнага стану з суфіксамі *-уч (-юч), -ач (-яч), -ем (-ом), -ім, -ш-, -уш-*, якія з'яўляюцца прадуктыўнымі ў рускай мове, гэтаксама як і зваротныя дзеепрыметнікі, малаўжывальныя ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. На месцы такіх дзеепрыметнікаў рускай мовы ў беларускай мове могуць ужывацца дадзеныя сказы (параўн.: *танцующий кавалер – кавалер, які танцуе* і да т.п.), прыметнікі (параўн.: *воображаемый сюжет – уяўны сюжэт* і да т.п.), назоўнікі (параўн.: *будущее человечества – будучыня чалавецтва* і да т.п.), дзеясловы (параўн.: *загоревшийся костёр ярко светил – вогнішча загарэлася і ярка свяціла* і да т.п.), развітыя прыдаткі (параўн.: *витамины, стимулирующие активность – вітаміны – стымулятары актыўнасці* і да т.п.) і інш. (гл.: СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1997, 193–194). Найбольш ужывальнымі ў беларускай мове з'яўляюцца дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага і незалежнага стану з суфіксамі *-л-, -н-, -ан-, -ен-, -т-* (параўн.: *пажоўклы лес, поле было ўзарана, зачараваны хлопчык, вандроўнік быў стомлены падарожжам, закрыты твар* і інш.), якія выступаюць у ролі азначэнняў і прэдыкатываў. Пераважна азначальная функцыя дзеепрыметнікаў спрыяла іх пераходу ў прыметнікі, калі на першы план выступае не працэсуальная прыкмета, а якасная, што часцей за ўсё ўзнікае пры метафарычным ужыванні дзеепрыметнікаў незалежнага стану з суфіксам *-л-* і дзеепрыметнікаў залежнага стану з суфіксамі *-н-, -ан-, -ен-, -т-* (параўн.: *заляжалы тавар, стрыманы чалавек, сасмаленая палка, неабжытая спадчына* і інш.). Пры ўжыванні дзеепрыметнікаў разам з паясняльнымі словамі ўтвараецца дзеепрыметнае словазлучэнне, сінтаксічна непадзельная адзінка, якая выконвае ў сказе функцыю аднаго яго члена – азначэння.

### 8.10.8. ІНФІНІТЫЎ І ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

Гэтыя формы дзеяслова адносяцца да нязменных. Інфінітыў з'яўляецца пачатковай формай дзеяслова, якая не мае ні асобы, ні ладу, ні ліку, ні часу, але ўказвае на трыванне, стан, пераходнасць / непераходнасць, зваротнасць / незваротнасць. Фармальным паказчыкам інфінітыва, ці неазначальнай формы дзеяслова, служаць канцавыя марфемы (суфіксы) *-ць* (далучаецца да асновы дзеяслова на галосны, параўн.: *даць, ехаць* і інш.), *-ці* (далучаецца да асновы дзеяслова на зычны, параўн.: *везці, пасці* і інш.), *-чы* (далучаецца да асновы дзеяслова на заднеязычныя *г, к*, параўн.: *бегчы, секчы* і інш.). Інфінітывы на *-ці, -чы* адносяцца да малаўжывальных у сучаснай беларускай літаратурнай мове. У форме інфінітыва дзеясловы падаюцца разнастайнымі слоўнікамі (арфаграфічнымі, марфалагічнымі, тлумачальнымі і інш.).

Дзеепрыслоўе ўключае ў сябе нязменныя формы дзеясловаў, якія абазначаюць дадатковыя дзеянні пры галоўным дзеянні, выражаным выказнікам. З генетычнага пункту гледжання дзеепрыслоўі ўзніклі ад кароткіх дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу (гл.: БУЛЫКА, ЖУРАЎСКІ, КРАМКО 1979, 397). Дзеепрыслоўе, як вынікае з яго назвы, сумяшчае рысы дзеяслова і прыслоўя: падобна дзеяслову яно мае закончанае і незакончанае трыванне (параўн.: *чытаючы – прачытаўшы* і інш.), можа быць зваротным і незваротным (параўн.: *мыючы – мыючыся* і інш.), пераходным і непераходным (параўн.: *слухаючы лекцыю – стоячы наверсе* і інш.), мае толькі незалежны стан (параўн.: *узяўшыся за рукі* і інш.),

але не мае формы часу, якая злілася ў ім з катэгорыяй трывання. Падобна прыслоўю, дзеепрыслоўе выконвае ў сказе сінтаксічную ролю акалічнасці, паясняе дзеяслоў-выказнік, не змяняецца. У некаторых паўночна-заходніх гаворках Беларусі дзеепрыслоўе закончанага трывання ўжываецца ў функцыі выказніка, тыпу *тут ручай перасохшы, ён быў прыехаўшы* і да т.п. (гл.: АНІЧЭНКА 1973, 108). Пры ўжыванні з паясняльнымі словамі дзеепрыслоўе ўтварае спалучэнне, якое выступае ў сінтаксічнай функцыі аднаго члена сказа (акалічнасці), выдзяляецца на пісьме коскай (коскамі). У сказе дзеепрыслоўе кіруе субстантывамі, можа паясняцца прыслоўямі (параўн.: *хутка ідучы* і інш.) і пераходзіць у прыслоўі пры перадачы прыкметы дзеяння (параўн.: *стаяў не рухаючыся* = *стаяў нерухома* і інш.). Дзеепрыслоўе ў сказе выражае дадатковае дзеянне, што, як і асноўнае дзеянне, утвараецца адной асобай, прадметам, з'явай.

## 8.11. ПРЫСЛОЎЕ

Часціна мовы, якая абазначае разнастайныя прыкметы дзеянняў, стану, якасцяў прадмета ў адносінах да дзеяслова (дзеепрыслоўя), прыметніка (дзеепрыметніка), назоўніка, а таксама і да іншага прыслоўя. У параўнанні са словамі іншых знамянальных часцін мовы прыслоўе з'яўляецца найменш граматычным, бо не скланяецца, не спрагаецца, не мае марфалагічных катэгорый роду, ліку, склону, часу, трывання, ладу і інш. Аднак у вялікай групы прыслоўяў, якія адносяцца да разраду якасных, адзначаюцца ступені параўнання і формы суб'ектыўнай ацэнкі, чым выражаецца розная ступень якасці ці ўласцівасці пэўнай прыкметы, што праяўляецца марфалагічна ў формах вышэйшай, найвышэйшай ступеняў параўнання.

Вышэйшая ступень параўнання ў сваю чаргу мае простую, ці сінтэтычную, форму, якая ўтвараецца пераважна праз далучэнне да асновы зменных прыслоўяў суфікса *-ей (-эй)*, тыпу *даўно – даўней, доўга – даўжэй* і інш., і складаную, або аналітычную, што ўтвараецца спалучэннем слоў *больш, менш* з якаснымі прыслоўямі (параўн.: *больш проста, менш складана* і інш.). Найвышэйшая ступень параўнання таксама мае простую форму, якая ўтвараецца праз далучэнне да формы вышэйшай ступені параўнання прыстаўкі *най-* (параўн.: *найпрыгажэй, найцямней* і інш.), і складаную, што ўтвараецца праз спалучэнне слоў *найбольш, найменш*, а таксама *вельмі, надта, надзвычай* і інш. з прыслоўямі (параўн.: *найбольш рацыянальна, найменш заблытана* і інш.). Формы суб'ектыўнай ацэнкі выражаюцца без параўнання з дапамогай ужывальных суфіксаў *-еньк- (-аньк-)*, тыпу *хуценька, скоранька* і да т.п., і менш ужывальных *-утк- (-ютк-), -усеньк- (-юсеньк-), -ечк- (-ачк-), -усенечк- (-юсенечк), -енн- (-энн-), -эрн-, -эзн-(-эразн-), -ават-* і інш., якія выкарыстоўваюцца пераважна ў гутарковым маўленні (параўн.: *блізютка, ціхусенька, недалечка, страшэнна, даўжэзна* і інш.).

Паводле свайго значэння прыслоўі дзеляцца на якасныя з граматычнымі характарыстыкамі ступеней параўнання і суб'ектыўнай ацэнкі (параўн.: *проста – просценька – прасценечка* і да т.п.), колькасныя, што выражаюць дзеянне і прыкмету па ступені іх праяўлення (параўн.: *багата, крыху* і інш.), акалічнасныя, што членяцца на прыслоўі месца (параўн.: *блізка, далёка* і інш.), часу (параўн.: *даўно, заўтра* і інш.), прычыны (параўн.: *згарача, спрасонку* і інш.), мэты (параўн.: *знарок, назло* і інш.), якасна-акалічнасныя, у якіх сумяшчаецца значэнне якасных і акалічнасных прыслоўяў (параўн.: *бягом, па-брацку* і інш.).

Па сваёй дэрывацыйнай структуры прыслоўі падзяляюцца на невытворныя (нематываваныя, тыпу *куды, дзе* і да т.п.) і вытворныя (матываваныя знамянальнымі словамі ўсіх іншых часцін мовы, ад якіх яны паходзяць, тыпу *вясной, хутка, утрох, па-мойму* і інш.). Прыслоўі, якія непасрэдна абазначаюць прыкметы, адносяцца да

знамянальных, а якія толькі ўказваюць на іх – да займеннікавых (параўн.: *тут, тады, калі* і інш.). Граматычная транспазіцыя прыслоўяў праяўляецца ў тым, што яны даволі шырока могуць выкарыстоўвацца ў значэнні іншых часцін мовы: назоўнікаў (параўн.: *Залатое ўчора не вернецца да нас* і інш.), прыназоўнікаў (параўн.: *Хадзіць вакол дома* і інш.), часціц (параўн.: *Заняткі пачнуцца роўна а другой гадзіны* і інш.), мадальных слоў (параўн.: *Безумоўна, мы яшчэ сустрэнемся* і інш.), злучнікаў (параўн.: *Не ведаў, дзе знаходзіцца* і інш.), прэдыкатываў (параўн.: *Для мяне гэта даволі рана* і інш.). Семантычная транспазіцыя праяўляецца ў выкарыстанні слоў адных тэматычных груп у значэнні іншых, напрыклад, прыслоўі месца могуць ужывацца ў значэнні прыслоўяў часу (параўн.: *там, пасля* і інш.).

Прыслоўі шырока выкарыстоўваюцца для ўтварэння слоў іншых знамянальных часцін мовы з дапамогай разнастайных афіксаў: назоўнікаў (параўн.: *вакол – ваколіца* і інш.), займеннікаў (параўн.: *чамусьці, па-іхняму, зусім* і інш.), прыметнікаў (параўн.: *заўтра – заўтрашні* і інш.), дзеясловаў (параўн.: *даволі – задаволіць* і да т.п.), іншых прыслоўяў (параўн.: *учора – заўчора* і інш.), а таксама незнамянальных слоў (гл.: ВИНОГРАДОВ 1972, 313–318; БУРАК 1985, 182–184). У ролі прыслоўяў выкарыстоўваюцца фразеалагізмы тыпу *час ад часу, ні сном ні духам* і інш., службовыя часціны мовы ў пэўных кантэкстах (*хто за, хто ўстрымаўся, хто супраць* і інш.), а таксама неспрагальныя дзеяслоўныя формы тыпу *загадзя, нехаця, жартуючы, чуць* і інш. (гл.: ШУБА 1962, 177–182).

## 8.12. СЛУЖБОВЫЯ ЧАСЦІНЫ МОВЫ

Дадзеныя словы характарызуюцца тым, што не маюць намінатыўнага значэння, выкарыстоўваюцца ў мове для сувязі знамянальных слоў, з'яўляюцца граматычна нязменнымі, нешматлікімі, але шырока ўжывальнымі. Да службовых часцін мовы адносяцца прыназоўнікі і злучнікі. Прыназоўнікі выкарыстоўваюцца для падпарадкавальнай сувязі галоўнай і залежнай лексемы ў словазлучэннях, выражаюць разнастайныя сінтаксічныя адносіны, у якіх адлюстроўваюцца пэўныя знешнія сувязі паміж адпаведнымі рэаліямі: прасторавыя (параўн.: *выехаць з горада, пайсці ў лес* і інш.), часовыя (параўн.: *з дня ў дзень, перад навальніцай* і інш.), аб'ектныя (параўн.: *стукаць у дзверы, марыць пра волю* і інш.), меры і ступені (параўн.: *турбот па горла, шчасце без меры* і інш.), прыналежнасці (параўн.: *гузік ад кашулі, кніга з бібліятэкі* і інш.), мэты (параўн.: *хадзіць па грыбы, падрыхтаваць да экзаменаў* і інш.), прычыны (параўн.: *зачырванецца ад хвалявання, скакаць ад радасці* і інш.), атрыбутыўнасці (параўн.: *торт з крэмам, галава без розуму* і інш.), спосабу дзеяння (параўн.: *адказваць без падрыхтоўкі, працаваць з натхненнем* і інш.), кампаратыўныя (параўн.: *мацнейшы за мяне, вышэйшы супраць бацькі* і інш.). Назва дадзенага лінгвістычнага тэрміна з'яўляецца матываванай, бо ў беларускай мове словы гэтай непаўназначнай часціны мовы ўжываюцца ў спалучэннях слоў іншых граматычных разрадаў (уключна назоўнікі) іменна з назоўнікам (субстантывам), які граматычна падпарадкоўваецца ім. Прычым кіраваць субстантывам можа кожнае знамянальнае слова пры дапамозе прыназоўніка: дзеяслоў (параўн.: *дзякаваць за падарунак* і інш.), назоўнік (параўн.: *паход па мясцінах* і інш.), прыметнік (параўн.: *лепшы за нас* і інш.), прыслоўе (параўн.: *высока над намі* і інш.), лічэбнік (параўн.: *двое з адной школы* і інш.), займеннік (параўн.: *я з сябрам* і інш.).

Адцягненае значэнне прыназоўнікаў служыць асновай полісеміі многіх з іх (параўн.: *выйсці на работу, спадзявацца на поспех, ехаць на аўтобусе, быць на месцы* і інш., дзе прыназоўнік *на* выражае розныя семантыка-граматычныя адносіны паміж паўназначнымі словамі). Высокая частотнасць прыназоўнікаў (у лік першых дзесяці самых ужывальных слоў беларускай мастацкай прозы, паэзіі, а таксама фальклору ўваходзіць чатыры прыназоўнікі *у, на, за, а*; гл.: МАЖЭЙКА, СУПРУН

1976; МАЖЭЙКА, СУПРУН 1982; МАЖЭЙКА, СУПРУН 1992), што служыць прычынай іх мнагазначнасці. Так у спецыяльным слоўніку прыназоўнікаў для *у* зафіксавана 57 значэнняў, *на* – 47 значэнняў, *з* – 38 значэнняў (гл.: ШУБА 1993).

Па свайму паходжанню прыназоўнікі падзяляюцца на невытворныя (параўн.: *за, без, на, пры, для* і інш.) і вытворныя, да якіх адносяцца прыназоўнікі, што генетычны звязаны з іншымі часцінамі мовы, у прыватнасці, з прыслоўямі (параўн.: *абапал дарогі, вакол дрэва* і інш.), назоўнікамі (параўн.: *у час адпачынку, па прычыне гэтага* і інш.), дзеясловамі (параўн.: *нягледзячы на цяжкасці, дзякуючы табе* і інш.). Па вонкавай структуры прыназоўнікі падзяляюцца на простыя (параўн.: *для, пры, над* і інш.), складаныя (параўн.: *па-над, з-за* і інш.), састаўныя (параўн.: *на чале з, у залежнасці ад* і інш.). Прыназоўнікі могуць ужывацца з адным склонам, кіраваць ім: родны склон – *ад, без, да, дзеля, для, ля, каля, з-за, з-пад, з-над, заміж, паміма, акрамя, апрача, без, замест, звыш, наконт, накшталт, паводле, падчас, сярод, на працягу, за кошт, на аснове, за выключэннем* і інш.; давальны склон – *адпаведна, дзякуючы, згодна, к, насустрач, насуперак, паралельна, услед* і інш.; вінавальны склон – *нягледзячы на, пра, праз, цераз, у адказ на*; творны склон – *згодна з, на чале з, па-за, поруч з, разам з, следам за, у сувязі з* і інш.

З двума склонамі ўжываюцца прыназоўнікі *над, пад, перад* (вінавальны і творны), *аб, на, пры* (вінавальны і месны), *паміж* (родны і творны), *паўз, скрозь* (родны і вінавальны), *упоперак* (родны і давальны). З формамі трох склонаў выкарыстоўваюцца прыназоўнікі *з, за, між* (родны, вінавальны, творны), *па* (давальны, вінавальны, месны), *у* (родны, вінавальны, месны). Многія прыназоўнікі ўступаюць у сінанімічныя адносіны паміж сабой (параўн.: *на полі – у полі, пасля вайны – па вайне, пра яе – аб ёй* і інш.), могуць ужывацца ў розных варыянтах (параўн.: *к – ка, над – нада, з – са, у – ва* і інш.; гл.: ШУБА 1971, 21–46).

Злучнік – непаўназначнае службовае слова, якое звязвае лексемы ў сказе, а сказы ў тэксце, выражае паміж імі граматычныя і семантычныя адносіны, выконвае сінтаксічную, арганізацыйную ролю. З улікам менавіта сінтаксічных функцый злучнікі падзяляюцца на злучальныя, што служаць для аб'яднання сінтаксічна раўнапраўных адзінак мовы (слоў, словазлучэнняў, сказаў), падпарадкавальныя, якія выкарыстоўваюцца для сувязі сінтаксічна нераўнапраўных кампанентаў (частак складаназалежнага сказа). Сярод злучальных выдзяляюцца спалучальныя *і, ды* (у значэнні *і*), *як ...так, ні ...ні*, супастаўляльныя *а, аднак, але, ды* (у значэнні *але), затое, не толькі ... але*, размеркавальныя *або, ці, або ... або, ці ... ці* і інш. Сярод падпарадкавальных адрозніваюць тлумачальныя (*што, як, чым)*, прычынныя (*бо, таму што* і інш.), часавыя ( *калі, як, пакуль* і інш.), умоўныя (*каб, калі б, раз* і інш.), мэтавыя (*для, каб, абы* і інш.), выніковыя (*дык, то* і інш.), уступальныя (*хоць, няхай* і інш.), параўнальныя (*як, чым, нібы* і інш.). Злучнікі могуць быць полісемантычнымі, выражаць, напрыклад, і раўнапраўныя адносіны паміж часткамі выказвання, і супастаўляльныя (параўн.: *я ды ён; не я, ды ён* і інш.), часавыя і ўмоўныя (параўн.: *наведаю, калі буду мець час; калі не дамовімся, будзе кепска* і інш.).

З генетычнага пункту гледжання злучнікі падзяляюцца на невытворныя (параўн.: *а, і, але, ды* і інш.) і вытворныя, што паходзяць ад слоў іншых часцін мовы: займеннікаў (параўн.: *што, таму што* і інш.), прыслоўяў (параўн.: *калі, пакуль, як* і інш.), дзеясловаў (параўн.: *няхай, хаця* і інш.), часціц (параўн.: *ці, быццам* і інш.). Па сваёй знешняй структуры злучнікі дзеляцца на простыя (параўн.: *і, што, каб* і інш.) і састаўныя, якія складаюцца з некалькіх слоў (параўн.: *таму што, для таго каб* і інш.). Па спосабу ўжывання сярод злучнікаў выдзяляюцца адзіночныя (параўн.: *а, бо, чым* і інш.), парныя (параўн.: *не толькі ... але і, калі ... то* і інш.), паўторныя (параўн.: *то ... то, ці ... ці* і інш.). Амонімамі злучнікаў *што, калі, чым, як* і інш. у складаназалежных сказах выступаюць злучальныя словы, якія выконваюць ролю членаў сказа і адносяцца да пэўных знамянальных часцін мовы. Злучнікі могуць быць стылістычна нейтральнымі, ужывацца ва ўсіх сацыяльных функцыях маўлення (параўн.: *але, і, калі* і інш.),

размоўнымі, выкарыстоўвацца пераважна ў вусным маўленні (параўн.: *дык, дарма што* і інш.), кніжнымі, ужывацца, як правіла, у афіцыйным стылі, пісьмовым тэксце (параўн.: *у сувязі з тым што, нягледзячы на тое што* і інш.).

Да непаўназначных часцін мовы адносяцца і звязкі, якія маюць дзеяслоўнае паходжанне, выражаюць граматычныя катэгорыі часу, ладу састаўнога выказніка, чым і адрозніваюцца ад іншых службовых слоў. У процілегласць звязкам, што служаць першай часткай састаўнога выказніка, іншыя словы, якія выступаюць у ролі другой часткі састаўнога выказніка, належаць да неспрагальных слоў, суадносяцца з дзейнікам праз звязку, нясуць часта пры гэтым асноўную сэнсавую нагрузку дадзенага члена сказа. Лексічнае значэнне звязак можа захоўвацца па-рознаму, у залежнасці ад чаго яны падзяляюцца на знамянальныя (напрыклад, дзеясловы руху або стану, параўн.: *Ён вярнуўся задаволены* і інш.), паўзнамянальныя (дзеясловы *тыпу стаць, рабіцца, з'яўляцца* і інш., параўн.: *Ён з'яўляецца чэмпіёнам краіны* і інш.), незнамянальныя (формы дзеяслова *быць*, тыпу: *Ён быў узрушаны* і інш.).

## 8.13. ЧАСЦІЦЫ І МАДАЛЬНЫЯ СЛОВЫ

Часціцы – дапаможныя словы, якія надаюць дадатковыя кантэкстуальныя сэнсавыя адценні словам, словазлучэнням, сказам, актуалізуюць іх семантычны патэнцыял. У адрозненне ад такіх непаўназначных слоў, як прыназоўнікі, злучнікі, што выконваюць пераважна сінтаксічныя функцыі, часціцы адыгрываюць ролю своеасаблівага семантычнага каментатара іншых знамянальных моўных адзінак. У адпаведнасці з гэтай роляй яны падзяляюцца на тры асноўныя сэнсавыя групы, унутры якіх звычайна вылучаюць больш дэталёвыя падгрупы. Гэтыя групы ўключаюць, па-першае, часціцы, што выражаюць дадатковыя семантычныя адценні, па-другое, часціцы, якія выражаюць мадальныя адценні, па-трэцяе, часціцы, што абазначаюць эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні (гл.: КИСЕЛЕВ 1976).

Сярод часціц з дадатковым семантычным адценнем выдзяляюцца ўказальныя (*вось, вунь, гэта)*, азначальна-ўдакладняльныя (*амаль, акурат, іменна, проста, прыблізна*, *чыста*, *сапраўды, якраз*), вылучальна-абмежавальныя (*выключна, толькі, усяго, хаця, хіба* і інш.). Сярод мадальных часціц адрозніваюць сцвярджальныя (*так, але* і інш.), адмоўныя (*не, ні, ані)*, пытальныя (*а, ну, няўжо, ці, хіба* і інш.), параўнальныя (*быццам, нібы* і інш.), пабуджальныя (*давай, няхай, ану* і інш.). Эмацыянальна-экспрэсіўныя часціцы падзяляюцца на клічныя (*вось, як, ну* і інш.) і ўзмацняльныя (*аж, і нават, дык ні, так* і інш.). Некаторыя з пералічаных канкрэтных часціц з'яўляюцца полісемічнымі, ужываюцца ў розных выдзеленых падгрупах (параўн.: *так, вось, ні* і інш.). Некаторыя ж часціцы даволі шырока выкарыстоўваюцца ў значэнні слоў іншых граматычных класаў (часцін мовы), у прыватнасці злучнікаў (параўн.: *і, ні, але, ды, хаця* і г.д.), і могуць лічыцца граматычнымі амонімамі. Значная колькасць часціц ужываецца як словаўтваральны і сінтаксічнаўтваральны сродак для пабудовы іншых лексем і граматычных канструкцый. Такімі часціцамі-кампанентамі ў беларускай мове служаць *абы-, ані-, не-, ні-, -небудзь, -сьці* (параўн.: *абы-куды, аніхто, нехта, нішто, што-небудзь, хтосьці* і інш.). Для ўтварэння аналітычных загаднага і ўмоўнага ладу дзеясловаў ужываюцца часціцы *давай, няхай, бы* і інш. (параўн.: *давай вырашаць, няхай прынясе, пайшоў бы* і інш.). Асобныя часціцы выкарыстоўваюцца для выражэння сінтаксічных адносін у складаных сказах, г.зн. адыгрываюць, як ужо зазначалась, ролю злучнікаў, і для выканання марфалагічных функцый пры ўжыванні ў якасці прыставак (параўн.: *не надта прыгожы* і *непрыгожы, ні які* і *ніякі, не было нікога ані* і *не было анікога* і інш.). Прычым некаторыя былыя часціцы цалкам перайшлі ў разрад словаўтваральных афіксаў (параўн.: *-ка, -небудзь, -сьці, -сь, -ся, -сьці, -та* і інш. ў словах *дай-ка, калі-небудзь, хтосьці, штось, як-та* і інш.).

Па свайму паходжанню часціцы падзяляюцца на невытворныя (параўн.: *і, а, але, вунь, жа, не* і інш.) і вытворныя, якія суадносяцца з адпаведнымі паўназначнымі словамі, а таксама з выклічнікамі (параўн.: *выключна, гэта, давай, ах, ну, так* і інш.). Праз спалучэнні дзвюх і болей аднаслоўных часціц утвараюцца састаўныя часціцы, што надаюць, як правіла, выказванню павышаную экспрэсію (параўн.: *дык вось, абы толькі, куды там* і інш.).

Да мадальных слоў у беларускай мове адносяцца нязменныя лексічныя адзінкі, якія выражаюць адносіны прамоўцы да рэчаіснасці ці да выказанага паведамлення. Мадальнасць з'яўляецца глабальнай семантыка-граматычнай катэгорыяй (гл.: MODALITÄT UND MODUS 1994), якая можа выражацца граматычнымі формамі (катэгорыя ладу), дзеясловамі, часціцамі. Мадальныя словы ўключаюць у свой склад нязменныя моўныя адзінкі тыпу *безумоўна, бясспрэчна, відавочна, мабыць, напэўна, сапраўды* і інш., з дапамогай якіх перадаюцца разнастайныя значэнні даверу / недаверу, пэўнасці / няпэўнасці, магчымасці / немагчымасці і г.д. Большасць мадальных слоў паходзіць ад слоў іншых часцін мовы, але практычна страціла іх зыходнае лексічнае значэнне, зрабілася, па сутнасці, іх амонімамі (параўн., напрыклад: назоўнікі *праўда*, *факт* і інш., кароткія прыметнікі *вядома, магчыма* і інш., прыслоўі *зразумела, відавочна* і інш., дзеясловы *здаецца, мусіць* і інш. і суадносныя з гэтымі рознымі часцінамі мовы адпаведныя мадальныя словы). Пры пераходзе лексем згаданага тыпу да мадальных слоў страчваецца іх граматычная зменнасць, мадальныя словы замацоўваюцца ў мове адной якой-небудзь формай. У якасці мадальных могуць ужывацца ўстойлівыя словазлучэнні тыпу *па ўсёй верагоднасці, можа быць* і інш. У сказе мадальныя словы сінтаксічна не звязваюцца з іншымі членамі сказа, што падмацоўваецца іх выдзяленне на пісьме знакамі прыпынку, а ў вусным маўленні – адпаведнай інтанацыяй.

## 8.14. ВЫКЛІЧНІКІ І ГУКАПЕРАЙМАЛЬНЫЯ СЛОВЫ

У разрад выклічнікаў адносяцца нязменныя словы, якія непасрэдна выражаюць розныя эмоцыі, пачуцці, пабуджэнні, заклікі і да т.п. Выклічнікі не ўваходзяць у сінтаксічную структуру сказа, але звязаны з яго зместам, выдзяляюцца на пісьме знакамі прыпынку, маюць адметную, залежную ад сітуацыі маўлення інтанацыю і экспрэсію.

Па свайму сэнсу выклічнікі падзяляюцца на эмацыянальныя (параўн.: *а*! *эх*! *эй*! *ой*! *ах*! *фу*! *брава*! і інш.) і імператыўныя (параўн.: *алё*! *кыш*! *марш*! *но*! *стоп! цыц*! і інш.). Па паходжанню сярод выклічнікаў вылучаюцца невытворныя (тыпу *ах*! *ого*! і інш.) і вытворныя (гл.: БЕЛАРУСКАЯ МОВА 1987, 414–415), што суадносяцца са словамі іншых часцін мовы (параўн.: *божа*! *чорт*! *годзе*! і інш.). Выклічнікі могуць субстантывавацца, пераходзіць у часціцы, служыць базай для ўтварэння дзеясловаў з дапамогай адпаведных афіксаў (параўн.: *ахаць, охаць, нукаць, ойкаць* і інш.). Асобны разрад выклічнікаў складаюць этыкетныя словы тыпу *добры дзень*! *калі ласка*! *дзякуй*! і інш. Выклічнікі займаюць спецыфічнае месца сярод іншых часцін мовы, не ўваходзяць ні ў склад знамянальных, ні ў склад службовых, незнамянальных слоў.

Гукапераймальнымі словамі імітуюцца разнастайныя гукі жывой і нежывой прыроды (параўн.: *ку-ку, дзын-дзын* і да т.п.). Часцей за ўсё гукаперайманні перадаюцца на пісьме паўторамі, у якіх умоўна і прыблізна адлюстроўваецца падабенства гукаў, суадносных са словамі. Гукапераймальныя словы могуць субстантывавацца, ужывацца ў ролі практычна як любога члена сказа, так і самога сказа, служаць словаўтваральнай асновай для ўзнікнення дзеясловаў (параўн.: *татакаць, мяўкаць* і інш.). У некаторых граматычных апісаннях беларускай мовы (гл.: КУРС 1957, 290) гукапераймальныя словы разглядаюцца як асобны разрад выклічнікаў.

# 9. СІНТАКСІС

## 9.1. АПІСАЛЬНЫ СІНТАКСІС



### 9.1.1. ПЫТАННЕ АБ АДЗІНКАХ АПІСАЛЬНАГА СІНТАКСІСУ

Традыцыйна словазлучэнне лічыцца ў беларускай лінгвістыцы, побач са сказам, асноўнай адзінкай сінтаксісу. Вытокі гэтай устойлівай традыцыі ва ўсходнеславянскай лінгвістыцы звычайна знаходзяць у "Расійскай граматыцы" М.В.Ламаносава, не ўлічыўшы таго факта, што сам М.В.Ламаносаў "варотамі сваёй вучонасці" называў "Граматыку" беларускага і ўкраінскага пісьменніка-палеміста, рэлігійнага і грамадска-палітычнага дзеяча, вучонага і педагога Мялеція Сматрыцкага, які "адным з першых... пачаў распрацоўваць пытанні стылістычнага сінтаксісу, даў падрабязнае апісанне разнастайных стылістычных фігур" (гл.: **БЕЛАРУСКАЯ МОВА. ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ**. 1994, 161). Тэрмін "сінтагма" вынесены нават у загаловак гэтай працы – "Грамматіки славенския правилное синтагма" (Еўе, 1619). Акрамя таго, аб спалучэнні слоў ("сложении речений") гаворыцца яшчэ ў папярэдняй знакамітай усходнеславянскай граматыцы "Грамматіка словенска съвершеннаго искуства осми частій слова и иных нуждных" Лаўрэнція Зізанія (Вільня, 1596). У гэтай жа граматыцы, выдадзенай больш чым на 150 гадоў раней за "Российскую грамматику" М.В.Ламаносава, даецца і азначэнне сказа як спалучэння слоў, якое перадае завершаную думку (гл.: **БУЛАХОВ** 1976, 107).

Сучасныя беларускія даследчыкі надаюць асаблівую ўвагу словазлучэнню, пачынаючы з пяцідзесятых гадоў. Словазлучэнні вывучаюцца як сінтаксічныя ўтварэнні са сваімі граматычнымі, семантыка-сінтаксічнымі, функцыянальнымі дыферэнцыяльнымі адзнакамі (гл.: **ПАДГАЙСКІ** 1971; **НАРКЕВІЧ** 1972; **БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА** 1986, 6–113). Статус словазлучэння па-рознаму вызначаецца даследчыкамі ў залежнасці ад аспекту даследавання: адносна слова і сказа, мовы і маўлення. Таму нельга адназначна сцвярджаць, як гэта наглядаецца ў некаторых працах (гл.: **РАГАЎЦОЎ** 2001, 6), што існуе супярэчнасць паміж выказваннямі "Словазлучэнне ўзнікае пры пабудове сказаў і вычляняецца са сказа" і "Словазлучэнне, як і слова, выступае матэрыялам для пабудовы сказа, яго структурным элементам" г.зн. існуе да сказа і па-за сказам (гл.: **ЯЎНЕВІЧ, СЦЯЦКО,** 1987, 5) без удакладнення аспекту даследавання гэтага сінтаксічнага ўтварэння.

Разглядаючы словазлучэнне як свабоднае (у адрозненне ад сэнсава ці граматычна звязанага) аб'яднанне двух ці больш паўназначных слоў на аснове падпарадкавальных адносін, мы спынімся далей на характарыстыцы словазлучэнняў з боку фармальна-граматычнай будовы, агульнага граматычнага значэння, тыпу сувязі паміж кампанентамі, тыповага, стылістычна нейтральнага парадку слоў, наяўнасці тыповай сінанімікі.

## 9.1.2. СЛОВАЗЛУЧЭННЕ

### 9.1.2.1. СЛОВАЗЛУЧЭННЕ З ДЗЕЯСЛОВАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

Словазлучэнні з дзеясловам у ролі галоўнага кампанента з'яўляюцца самым шматлікім, разнастайным і складаным тыпам словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове. Гэта абумоўлена шырокай спалучальнасцю і разнастайнасцю семантыка-сінтаксічных значэнняў самога дзеяслова, які з'яўляецца граматычным і семантычным ядром сказа і ўступае ў падпарадкавальныя сувязі амаль з усімі дадзенымі членамі сказа. Выключэнне практычна складае толькі азначэнне.

Простыя дзеяслоўныя словазлучэнні падзяляюцца на 7 разрадаў.

Першы разрад простых дзеяслоўных словазлучэнняў падзяляецца на 9 груп.

1) Дзеяслоў+назоўнік у родным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы перадаюць пераважна а б ' е к т н ы я значэнні з рознымі адценнямі.

Словазлучэнні са значэннем жадання, дасягнення аб'екта: *Юрка падняў на Варыводу вочы і ч а к а ў а д к а з у* (Я.Колас); *Людзі сена сушаць, косяць ды п а г о д ы ў неба п р о с я ц ь* (К.Крапіва); *Неадкладна д а б і ц ц а ў к л ю ч э н н я Байсака ў партызанскае злучэнне і там дзейнічаць у залежнасці ад сітуацыі* (М.Лынькоў); *Ну, ж а д а ю ў д а ч ы* (В.Быкаў); *В о л і з а х а ц е л і? Якой волі?* (Я.Колас).

Словазлучэнні гэтай падгрупы абмежаваны як з боку галоўнага, так і з боку залежнага кампанента. Галоўным кампанентам тут выступаюць дзеясловы са значэннем жадання, імкнення, дасягнення, дачынення, якія абумоўліваюць семантыку залежнага кампанента – назоўніка з адцягненым значэннем.

2) Дзеяслоў+назоўнік у давальным склоне.

Гэтыя словазлучэнні выражаюць а б ' е к т н ы я адносіны з некалькімі адценнямі, абумоўленымі семантыкай галоўнага і залежнага слоў: *З назвы, якую нашы продкі д а л і гэтаму к р а ю, відаць, што асноўнае, найбольш характэрнае для яго – лес* (В.Вольскі); *Пан з Канева н е д а р у е х а р а с т в у тваёму, як не ўмее даравацi ён нідзе нікому* (Я.Купала).

У залежнасці ад непасрэднай або ўскоснай накіраванасці дзеяслоўнага дзеяння гэтыя словазлучэнні выражаюць:

уласна аб'ектнае значэнне: *Былі гэта ўсё лесавыя падарункі, якія заўсёды п р ы н о с і ў Астап сваёй малой Н а д з е й ц ы* (М.Лынькоў); *Пасля старанна прытрусіў хрусткім быльнягом бруствер, а д д а ў лапату Г л е ч ы к у...* (В.Быкаў);

ускосна аб'ектнае значэнне: *І яму здавалася, што ён лашчыць усё тую ж малую сваю Надзейку, якая так р а д а в а л а с я калісьці кожнай ш а п ц ы суніц, берасцянаму к о ш ы к у, к а ч а н я ц і, жывой в а в ё р ц ы...* (М.Лынькоў).

Параўнальна невялікая частка словазлучэнняў гэтай групы выражае д а п а ў н я л ь н ы я адносіны: *Але аб замоўчванні тут гаварыць не прыходзіцца: па-першае, замазванне розных недахопаў с у п я р э ч ы л а п р ы н ц ы п а м самакрытыкі* (Я.Колас).

3) Дзеяслоў+назоўнік у вінавальным склоне.

Большая частка гэтых словазлучэнняў выражае а б ' е к т н ы я адносіны з адценнямі канкрэтна-фізічнага і адцягненага (не канкрэтна-фізічнага) уздзеяння на аб'ект: *Астап г л а д з і ў шурпатымі далонямі яе* [Надзейкі] *р у к і, плечы, прытуліў да грудзей яе галаву* (М.Лынькоў); *Да змяркання ён в ы к а п а ў глыбокі, у свой рост, а к о п ч ы к, п р ы л а д з і ў на дне п р ы с т у п а к* (В.Быкаў).

Словазлучэнні з уласна аб'ектнымі адносінамі заснаваны на сувязі моцнага кіравання паміж галоўным і залежным словамі. Фармальнай прыкметай гэтых канструкцый з'яўляецца магчымасць іх трансфармацыі ў сінанімічныя пасіўныя, напрыклад: *шыюць сукенку – сукенка шыецца* (кім-н.); *пілуюць дрэва – дрэва пілуецца* (кім-н.); *ловяць рыбу – рыба ловіцца* (кім-н.); *абагульняюць факты – факты абагульняюцца* (кім-н.); *умацоўваюць сувязі – сувязі ўмацоўваюцца* (кім-н.).

У словазлучэннях з аб'ектна-прасторавым адценнем пасіўная трансфармацыя з'яўляецца патэнцыяльна магчымай, аднак пасіўныя канструкцыі гэтага тыпу ў сучаснай беларускай мове непрадуктыўныя: *пераскокваюць ручэй – ручэй пераскокваецца* (кім-н.); *пераступаюць парог – парог пераступаецца* (кім-н.); *пераплываюць рэчку – рэчка пераплываецца* (кім-н.).

Прамы парадак слоў у словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі – постпазіцыя залежнага кампанента.

4) Дзеяслоў+назоўнік у творным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы шырока прадстаўлены ў сучаснай мове і перадаюць разнастайныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

Значная частка гэтых словазлучэнняў выражае а б ' е к т н а е значэнне са шматлікімі адценнямі, звязанымі з семантыкай галоўнага і залежнага слоў: *Станцыя н а п о ў н і л а с я л ю д з ь м і* (К.Чорны)*; Сумны восеньскі адвячорак п о ў н і ў с я ш э р а с ц ю фарбаў, надакучлівай сцюдзёнай золлю і ўсеабдымнай трывогай навіслай над краем бяды* (В.Быкаў); *С т р а к о ч у ц ь а р ы ф м о м е т р а м і, л я с к а ю ц ь к о с т а ч к а м і лічыльнікаў, падрахоўваючы не толькі рублі, а і капейкі* (І.Навуменка); *І ад кожнага слова шчымела сэрца, в я р э д з і л а душу чорным с у м а м* (М.Лынькоў); *А кабан ад яго* [дзеда Талаша] *– крокаў сорак-пяцьдзесят і так з а х а п і ў с я р а б о т а ю, што нічога не бачыць і не чуе...* (Я.Колас).

Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі заснаваны на сувязі кіравання. Прамы парадак слоў – постпазіцыя залежнага кампанента.

5) Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне.

Прыназоўнікавыя словазлучэнні дзеясловаў з назоўнікамі, у тым ліку і з назоўнікамі ў родным склоне, значна больш шматлікія і больш разнастайныя па семантыка-сінтаксічных значэннях у параўнанні з беспрыназоўнікавымі канструкцыямі. Гэта ў значнай ступені абумоўлена тым, што яны ўключаюць у сябе шырокі круг разнастайных па значэннях прыназоўнікаў.

Словазлучэнні гэтай групы выражаюць розныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

П р а с т о р а в ы я: *І бачыць дзед Талаш – вялізны дзікі кабан в ы х о д з і ц ь з ляснога г у ш ч а р у і брыдзе па чэрава ў снезе, не зважаючы на дзеда* (Я.Колас);

А б ' е к т н ы я: *Пракоп зноў прачышчае нос, праводзіць рукою па вусах – р ы х т у е ц ц а д а г у т а р к і з Чыкілевічам* (Я.Колас); *Хто галубку убароніць, ў с ц е р а ж э а д з г у б ы, як няўбачна пападзецца ў каршуновы дзюбы* (Я.Купала);

Ч а с а в ы я: *Д а з м я р к а н н я ён ужо в ы к а п а ў глыбокі, у свой рост, акопчык...* (В.Быкаў);

П р ы ч ы н н ы я: *А сэрца з р а д а с ц і з а с к а ч а, кроў адвагай забурліцца* (Я.Купала); *Ён моцна сціснуў яе руку і, н е м о г у ч ы з - з а с л ё з в ы м а в і ц ь слова, хутка павярнуўся і пайшоў* (І.Шамякін);

А з н а ч а л ь н а - а к а л і ч н а с н ы я: *Д а б о л ю н а п я ў ш ы і позірк і слых, ён чуе хаду тваю, вецер* (П.Глебка); *К р ы ч а л і абое д а х р ы п а т ы, да знямогі* (К.Крапіва);

А з н а ч а л ь н а - к о л ь к а с н ы я: У *снежні яшчэ лік заяў у калгасе д а й ш о ў д а п я т н а ц ц а ц і* (Я.Брыль);

М э т а в ы я: *Н е д л я мірнай прыемнай р а з м о в ы адны тут с а б р а л і с я блізкія людзі* (А.Куляшоў); *Я п р а д а ў сваю кніжачку сам д з е л я р а т у н к у Эльзы* (Э.Самуйлёнак);

А б м е ж а в а л ь н ы я: *Ён не толькі ў з м у ж н е ў з в ы г л я д у, стаў больш разважлівы і спакойны, ён пасмялеў* (І.Шахавец).

Словазлучэнні з прасторавымі і аб'ектнымі адносінамі заснаваны на сувязі кіравання, словазлучэнні з часавымі, прычыннымі, мэтавымі, азначальна-акалічнаснымі, азначальна-колькаснымі і абмежавальнымі значэннямі заснаваны на сінтаксічнай сувязі іменнага прымыкання. Прамы парадак слоў – постпазіцыя залежнага члена, хоць выпадкі прэпазіцыі залежнага кампанента даволі частыя: *Фішар – падслепаваты кніжнік, з в і н т о ў к і с т р э л ь н у ц ь не ўмее, заплюшчвае вочы, калі націскае на спуск – вось і ваюй з такімі* (В.Быкаў).

6) Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне.

У параўнанні са словазлучэннямі з родным прыназоўнікавым словазлучэнні з давальным прыназоўнікавым значна менш пашыраны ў беларускай мове. Яны абмежаваны па ўжывальнасці прыназоўнікаў, па семантыка-сінтаксічных значэннях і па прадуктыўнасці ў сучаснай мове.

Асноўная частка словазлучэнняў гэтай групы выражае прасторавыя і аб'ектныя значэнні, другая невялікая частка – часавыя, азначальна-акалічнасныя, размеркавальна-колькасныя, абмежавальныя і прычынна-выніковыя.

П р а с т о р а в ы я: *І з і м я і м ч у с я ў сіні прастор, к сваёй Б е л а р у с і, да сініх азёр* (К.Буйло);

А б ' е к т н ы я: *П р ы ц я г н у л і Бандароўну к п а н у ў святліцу, як праступніцу якую, ці як чараўніцу* (Я.Купала);

Ч а с а в ы я: *Шчыра апрацаваныя палі р ы х т а в а л і к л е т у ўраджай і радавалі людское вока* (К.Чорны);

А з н а ч а л ь н а - а к а л і ч н а с н ы я: *З в я р а е м нумар п а к в і т у і вось яна – наша сасна* (Я.Брыль); *Гэты надзел д а с т а ў с я яму п а ж э р а б ' ю* (Я.Колас);

Р а з м е р к а в а л ь н а - к о л ь к а с н ы я: *Кожны начлежнік в ё з з дому п а п а л е н у дроў* (Я.Колас);

А б м е ж а в а л ь н ы я: *Аказалася, што да гэтага яна працавала касіркаю, п а б у х г а л т э р ы і в е д а л а мала (*Я.Скрыган);

П р ы ч ы н н а - в ы н і к о в ы я: *У калгас ён п р ы е х а ў п а р а ш э н н ю райкома камсамола* (З газет).

Словазлучэнні з аб'ектнымі і прасторавымі значэннямі з прыназоўнікам *к* заснаваны на сувязі кіравання, астатнія – на сувязі прымыкання. Прамы парадак слоў – постпазіцыя залежнага члена.

Словазлучэнні з прыназоўнікам *падобна* сінанімічны параўнальным зваротам са злучнікам *як: возера блішчыць падобна люстэрку – возера блішчыць, як люстэрка.*

7) Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у вінавальным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы вельмі прадуктыўныя і шырока ўжывальныя ў сучаснай беларускай мове. Яны выражаюць шырокі круг семантыка-сінтаксічных значэнняў.

П р а с т о р а в ы я: *Дзверы зараз жа адчыніліся, і Лабко ў в а й ш о ў у к у х - н ю* (Я.Колас); *Мы б маглі заўтра п а е х а ц ь у Ж д а н о в і ч ы* (Я.Скрыган); *Адзін в ы х о д ж у н а д а р о г у* (П.Глебка);

А б ' е к т н ы я: *Постаці калгаснікаў, іх справа...— усё гэта з л і в а л а с я ў адзіны суцэльны в у з е л уражанняў...* (Я.Колас);

Часавыя: *У поўдзень рабілі перапынак* (Я.Маўр); *Мікалай хату будзе некалі на вясну ставіць* (К.Чорны);

Азначальна-акалічнасныя: *Аброс па пояс барадою* (П.Трус); *Малы цераз брыво глянуў угору на старшага і ўсміхнуўся* (К.Крапіва); *Пад смех усяго класа Данік садзіцца і пачынае маляваць* (Я.Брыль);

Азначальна-колькасныя: *Выжыналі па дзве і па тры нормы* (К.Крапіва); *Так дружба іх цягнулася можа з год* (Я.Скрыган);

Колькасныя: *Гэта ў дзесяць разоў павялічвала яго трывогу і нецярплівасць* (К.Крапіва); *Нарэшце сонца ўжо зайшло на чвэрць* (П.Глебка);

Мэтавыя: *Хацелася нешта сказаць у апраўданне, але не было калі думаць* (А.Васілевіч); *Прыехаў Казімір на завод ад глаўка на рэвізію* (Я.Скрыган); *Я з горада еду дамоў на спачын* (П.Глебка);

Прычынныя: А *вось на другую зіму ён праз смеласць сваю і загінуў* (Я.Брыль).

Словазлучэнні гэтай групы з аб'ектнымі і прасторавымі значэннямі заснаваны на сувязі кіравання. Значную частку гэтых словазлучэнняў складаюць такія, у якіх залежныя назоўнікі ў вінавальным склоне з прыназоўнікамі *у, на, за, праз, цераз* абумоўлены марфалагічнай структурай і семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі дзеясловаў.

Прамы парадак слоў у гэтых словазлучэннях – постпазіцыя залежнага члена.

Словазлучэнні з часавымі, прычыннымі, мэтавымі, азначальна-акалічнаснымі, азначальна-колькаснымі, колькаснымі і іншымі значэннямі заснаваны на сувязі прымыкання, напрыклад: *вяртацца пад вечар, затрымаць на суткі, крычаць праз шум.* У такіх канструкцыях назоўнікі набліжаюцца па сваёй семантыка-сінтаксічнай функцыі да прыслоўяў: *Толькі пад вечар вярнуліся мы ў горад* (В.Вольскі).

8) Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы прадуктыўныя і выражаюць разнастайныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

Аб'ектныя: *Санітары з ліхтарыкам ішлі ў гэты бок паўз акопы* (К.Чорны);

Узаемнасці дзеяння: *Напярэдадні таго дня, калі Панас меўся спаткацца з бацькам пад тоўстым дубам каля Сухога поля, сярод ночы раптам пачуўся стук у дзверы Талашовай хаты* (Я.Колас);

Сумеснасці дзеяння: *Зося сядзела з практыкантам на прызбе* (К.Чорны); *Дзік ходзіць з дзічыхай, за ім – табун воўчы* (Я.Купала);

Азначальна-акалічнасныя: *Злосна прайшоўся па хаце і з сілаю шпурнуў на лаву рукавіцы* (Я.Колас); *Уязджалі са стогнам падводы на двор* (А.Куляшоў);

Прасторавыя: *Паўлюк чакаў за вёскай, ва ўмоўленым месцы* (Я.Брыль); *За акном цвіў сад* (Я.Скрыган);

Часавыя: *І з першымі праменнямі асенняга сонца пайшла банда ў лес* (Х.Шынклер).

Большая частка словазлучэнняў з аб'ектнымі значэннямі, а таксама словазлучэнні са значэннямі ўзаемнасці і сумеснасці дзеяння заснаваны на сінтаксічнай сувязі кіравання. У словазлучэннях са значэннем узаемнасці дзеяння залежная частка з прыназоўнікам *з (між)* абумоўлена марфалагічнымі (прыстаўкі *з-, с-, пера-* і інш.) і семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі дзеяслова: *здружыцца з суседкай, развітацца з вучнямі, пераглядвацца з сябрамі, дзяліцца з сястрой.* Словазлучэнні з прасторавымі, азначальна-акалічнаснымі і часавымі значэннямі

заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання. Прамы парадак слоў – постпазіцыя залежнага члена.

9) Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы выражаюць наступныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

П р а с т о р а в ы я: *Пасля іх часта п а ч а л і б а ч ы ц ь разам у п а р к у, у кіно* (Я.Скрыган);

А б ' е к т н ы я: *Нешта такое б а ч ы ў Алёша ў гэтых л ю д з я х* (К.Чорны);

Ч а с а в ы я: *П а к а х а ў Тарас дзяўчыну ў д з я ц і н с т в е, рана* (Я.Купала);

Я к а с н а - а к а л і ч н а с н ы я: *Ж ы в і ў р а д а с ц і, у шчасці, у яснай долі, слаўнай волі* (Я.Купала).

Словазлучэнні гэтай групы заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання. Прамы парадак слоў – постпазіцыя залежнага члена.

У другі разрад уваходзяць словазлучэнні дзеясловаў з прыметнікамі.

Словазлучэнні дзеясловаў з прыметнікамі ў якасці залежнага кампанента маюць якасныя прыметнікі і выражаюць якасна-азначальныя значэнні: *Войт памеркаваў і з н а й ш о ў гэты спосаб н я з р у ч н ы м... (*Я.Колас*).*

Залежныя словы ў гэтых словазлучэннях звычайна маюць форму назоўнага або творнага склону: *ехаў усхваляваны, выглядаў бадзёрым.* Прамы парадак слоў – постпазіцыя залежнага члена. Дзеяслоў звязаны з залежным прыметнікам сінтаксічнай сувяззю прымыкання.

Трэці разрад складаюць словазлучэнні дзеясловаў з дзеепрыметнікамі.

Словазлучэнні дзеясловаў з дзеепрыметнікамі характарызуюцца тымі ж асаблівасцямі, што і словазлучэнні дзеясловаў з прыметнікамі. Яны адрозніваюцца ад папярэдніх толькі наяўнасцю ў іх складзе кампанентаў, якія выражаюць суб'екты або акалічнасці дзеяння, параўн.: *выглядаць узрушаным – выглядаць узрушаным падзеямі.* Часам суб'екты або акалічнасці дзеяння ў словазлучэннях з дзеепрыметнікамі ў ролі залежнага кампанента хоць і змяшчаюцца ў іх семантыцы, але не выражаны адпаведнымі кампанентамі ў складзе словазлучэнняў, якія пры гэтым маюць форму простых словазлучэнняў: *ехаць занепакоеным, з'явіцца ўсхваляваным.* Аднак простыя словазлучэнні дзеясловаў з дзеепрыметнікамі ў беларускай мове ўжываюцца рэдка: *Алесь варочаўся дахаты таксама занепакоены* (П.Броўка).

У чацвёрты разрад уключаюцца словазлучэнні дзеясловаў з парадкавымі лічэбнікамі.

Словазлучэнні дзеясловаў з парадкавымі лічэбнікамі выражаюць а з н а ч а л ь н ы я значэнні з адценнем парадку, паслядоўнасці дзеяння: *П е р ш а я п р а х а п і л а с я бабка Наста* (Я.Колас). Залежныя парадкавыя лічэбнікі могуць мець форму назоўнага або творнага склону *(першая прахапілася, другім ішоў).*

Галоўны і залежны члены гэтых словазлучэнняў звязаны сінтаксічнай сувяззю прымыкання. Парадак членаў у гэтых словазлучэннях строга не зафіксаваны, ён залежыць ад месца дзейніка і выказніка ў сказе. Пры размяшчэнні на першым месцы дзейніка, а на другім выказніка (прамы парадак слоў у сказе) залежны кампанент словазлучэнняў дзеясловаў з парадкавымі лічэбнікамі звычайна знаходзіцца ў постпазіцыі і наадварот. Параўн.: *Спартсмен першы перасек фінішную рысу* і *Першы перасек фінішную рысу спартсмен.* Аднак пры неабходнасці асабліва падкрэсліць азначальнае значэнне парадку, паслядоўнасці дзейнасці ён ставіцца на першае месца: *Ты п е р ш а я п р ы в я л а мяне на гэты завод* (М.Паслядовіч).

Пяты разрад складаюць словазлучэнні дзеясловаў з займеннікамі.

У залежнасці ад разраду займеннікаў, якія выступаюць у ролі залежнага кампанента, гэтыя словазлучэнні падзяляюцца на дзве няроўныя часткі. Першую і асноўную частку канструкцый складаюць словазлучэнні з залежнымі займеннікамі з абагульнена-прадметным значэннем ва ўскосных склонах. Гэтыя словазлучэнні ўключаюць тыя ж групы прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых канструкцый, што і разгледжаныя вышэй дзеяслоўныя словазлучэнні з назоўнікам у ролі залежнага кампанента. Адрозненні паміж словазлучэннямі з назоўнікам і абагульнена-прадметным займеннікам у ролі залежнага кампанента звязаны з некаторай абмежаванасцю семантычных адносін і тыпаў сінтаксічнай сувязі канструкцый з залежным займеннікам, а таксама з іх некаторай спецыфікай у парадку кампанентаў.

Так, словазлучэнні з залежнымі абагульнена-прадметнымі займеннікамі ў родным склоне без прыназоўніка выражаюць толькі а б ' е к т н ы я адносіны і заснаваны на сувязі кіравання (у параўнанні з адпаведнымі канструкцыямі з залежнымі назоўнікамі, частка якіх выражае часавыя адносіны і заснавана на сувязі прымыкання). Практычна не ўжываюцца словазлучэнні з часавымі і іншымі акалічнаснымі адносінамі і з залежнымі абагульнена-прадметнымі займеннікамі ў іншых склонах (без прыназоўнікаў і з прыназоўнікамі).

Дзеяслоўныя словазлучэнні з абагульнена-прадметным займеннікам розных склонаў у ролі залежнага кампанента выражаюць звычайна аб'ектныя адносіны з рознымі адценнямі: *Сягоння мы п а м а г а л і я м у пасынкаваць памідоры* (П.Броўка).

Другую, значна меншую, частку словазлучэнняў з займеннікам у ролі залежнага кампанента складаюць словазлучэнні з абагульнена-якаснымі і абагульнена-колькаснымі займеннікамі. Гэтыя словазлучэнні выражаюць я к а с н а - а з н а ч а л ь н ы я значэнні з адценнямі меры, ступені, шырыні ахопу праяўлення дзеяння: *Тут бой п а ў с т а в а ў т а к і м, якім быў у сапраўднасці* (І.Мележ); *Т а к і м з д а в а ў с я ёй бацька* ("Чырвоная змена"); *Клянецца ён пад сонцам мірным б ы ц ь г э т к і м, як яны ў атацы* (П.Панчанка). Яны заснаваны на сувязі прымыкання. Найбольш пашыраны парадак слоў у гэтых словазлучэннях – постпазіцыя залежнага члена.

Шосты разрад фарміруецца са словазлучэнняў дзеясловаў з дзеясловамі, дзе вылучаецца група "дзеяслоў+залежны інфінітыў". Канструкцыі з прыдзеяслоўным інфінітывам хоць і шырока ўжывальныя ў сучаснай беларускай мове, аднак у іх складзе ў якасці галоўнага кампанента могуць выступаць толькі дзеясловы пэўных семантычных груп. Да іх адносяцца мадальныя дзеясловы жадання, магчымасці, неабходнасці, імкнення, здольнасці, адчування, волевыяўлення і інш.; дзеясловы руху, а таксама дзеясловы, якія абазначаюць пачатак, працяг і завяршэнне дзеяння: *З раёна м е л а с я п р ы е х а ц ь сёння нейкая брыгада* (Я.Колас); *Але глухі шолах у лесе п р ы м у с і ў дзеда Талаша п р ы с л у х а ц ц а і прыгледзецца* (Я.Колас).

Залежны інфінітыў звязаны з кіруючым дзеясловам адносінамі прымыкання. Прамы парадак слоў – постпазіцыя залежнага кампанента.

Па сваёй функцыі залежны прыдзеяслоўны інфінітыў можа быць суб'ектным і аб'ектным. Суб'ектны інфінітыў называе дзеянне, якое выконваецца дзейнікам-суб'ектам, таксама як і дзеянне, названае кіруючым асабовым дзеясловам *(Я згаджаюся прыехаць – Я згаджаюся+Я прыеду): Хлопцы н а д у м а л і с я п а й с ц і ў грыбы* (Я.Колас).

Словазлучэнні з суб'ектным інфінітывам пры дзеясловах з агульным мадальным значэннем з'яўляюцца сінанімічнымі канструкцыямі з даданым дапаўняльным са злучнікам *што* і нярэдка могуць замяняцца апошнімі: *пагразіў выгнаць – пагразіў,*

*што выганіць; спадзяваўся пачуць – спадзяваўся, што пачуе.* Такая суадноснасць з'яўляецца рэгулярнай толькі для словазлучэнняў з мадальна-маўленчымі дзеясловамі, пры якіх інфінітыў выконвае функцыю дапаўнення.

Канструкцыі з суб'ектным інфінітывам пры дзеясловах руху, стану сінанімічны канструкцыям з даданым акалічнасным сказам мэты са злучнікам *каб: пайшоў паглядзець – пайшоў, каб паглядзець; прылёг падрамаць – прылёг, каб падрамаць.*

Аб'ектны інфінітыў называе дзеянне, якое выконваецца суб'ектам, што выражана іменным дапаўненнем у вінавальным або давальным склоне *(Я прашу яго прынесці кнігу – Я прашу+Ён прыносіць): ...Букрэй з а г а д а ў з а в а л і ц ь дарогу з грэбляю, каб конніца не магла праскочыць* (Я.Колас); *Згоды не пыталі, добра, што д а з в о л і л і р а з в і т а ц ц а з сям'ёй* (І.Навуменка).

Другую групу ўтварае канструкцыя "дзеяслоў прошлага часу+дапасаваны дапаможны дзеяслоў *быць*". Гэтыя сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні выконваюць у сказе ролю выказніка *(спынілася была, пачалі былі, прыехаў быў): Раіса адразу з нервовай трывогай у вачах с х а п і л а б ы л а яго за руку, а потым сама схамянулася, засмяялася* (М.Зарэцкі).

Большая частка такіх словазлучэнняў абазначае дзеянне, якое не было даведзена да канца або не дало жаданага выніку, паколькі перарвалася другім дзеяннем: *Андрэй б ы ў п а в я р н у ў с я, каб ісці назад, але яго цягнула нейкая сіла да гэтай кучкі* (Я.Колас).

У некаторых выпадках такія словазлучэнні абазначаюць даўномінулае дзеянне, якое па значэнні адпавядае старажытнаму плюсквамперфекту: *Карызна памятае, як усяго месяцы з тры таму п р ы е х а ў б ы ў у іхні раён таварыш Гайдук* (М.Зарэцкі).

Асобныя групы словазлучэнняў з дзеясловамі ў якасці галоўнага і залежнага кампанентаў складаюць канструкцыі "дзеяслоў+дапасаваны дзеяслоў" *(ехаць-плысці, шуміць-гудзе),* "дзеяслоў+зваротны дзеяслоў з адмоўем *не*" *(чакае не дачакаецца),* "дзеяслоў (інфінітыў)+залежны інфінітыў з адмоўем *не*" *(ісці не ісці, чакаць не чакаць).*

Пералічаныя словазлучэнні колькасна абмежаваныя і мала ўжывальныя, аднак яны складаюць спецыфічныя і самастойныя групы дзеяслоўных канструкцый: *П л ы-л а - ц а л а в а л а с я хмарка з зямлёю* (Я.Колас); *Ш у м і ц ь - г у д з е зялёны гай* (Я.Колас).

Сёмы разрад простых дзеяслоўных словазлучэнняў складаюць спалучэнні дзеясловаў з прыслоўямі. Словазлучэнні гэтай групы ў адпаведнасці з разрадам залежных прыслоўяў выражаюць розныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

Я к а с н а - к о л ь к а с н ы я: *Яны з а с т а л і с я ў ш а с ц ё х, агорнутыя самотай ростані, і нейкі час моўчкі пазіралі ўслед капітану, батальёну, кароценькая, зусім не батальённая калона якога, мерна пагойдваючыся ў вячэрняй імгле, х у т к а а д д а л я л а с я к лесу* (В.Быкаў).

Я к а с н а - а к а л і ч н а с н ы я: *Начлежнікі е х а л і ш у м н а* (Я.Колас);

П р а с т о р а в ы я: *Ён увесь п а д а ў с я н а п е р а д...* (М.Лынькоў); *Усё с п я-в а л а н а в о к а л* (П.Броўка);

Ч а с а в ы я: *Я іх у ч о р а ў Мачулішчы а д в ё з, да маткі – спакайней усё ж* (М.Лынькоў); *Доктара ч а к а л і н а з а ў т р а* (К.Чорны);

П р ы ч ы н н ы я: *С п р а с о н к у в ы ц я ў с я аб рог вушака* (І.Мележ);

М э т а в ы я: *А цяпер ён н а ў м ы с н а с т а р а ў с я не думаць пра гэта* (К.Крапіва); *Аднойчы ён з н а р о к п а ч а к а ў, пакуль яна выйдзе пасля работы* (Я.Скрыган).

Словазлучэнні з прыслоўем у ролі залежнага члена заснаваны на сувязі прымыкання. Прамы парадак слоў – постпазіцыя залежнага кампанента.

Сярод складаных словазлучэнняў выдзяляюцца два разрады: а) словазлучэнні дзеясловаў са свабоднымі спалучэннямі слоў; б) словазлучэнні дзеясловаў з фразеалагічнымі зваротамі. У першым разрадзе можна вылучыць чатыры групы.

1) Дзеяслоў+некалькі сузалежных ці падзалежных кампанентаў.

Складаныя дзеяслоўныя словазлучэнні ўтвараюцца на аснове пераважнай большасці простых словазлучэнняў трыма асноўнымі спосабамі: 1) шляхам далучэння да залежнага кампанента аднаго ці некалькіх удакладняльных слоў: *чакаць лета – чакаць вясёлага лета;* 2) шляхам далучэння аднаго ці некалькіх удакладняльных слоў да галоўнага кампанента: *змагацца, чакаць лета – з вялікай нецярплівасцю чакаць лета;* 3) шляхам далучэння аднаго ці некалькіх удакладняльных слоў да залежнага і галоўнага кампанентаў: *чакаць лета – з вялікай нецярплівасцю чакаць вясёлага лета.*

Свабодныя складаныя дзеяслоўныя словазлучэнні характарызуюцца тымі ж фармальнымі і семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, што і адпаведныя простыя дзеяслоўныя словазлучэнні: *Між лоз купчастых д р э м л е  с р э б н ы  Н ё м а н* (А.Астрэйка).

2) Дзеяслоў+група слоў, якія перадаюць аднародныя звязаныя паняцці.

Гэтыя канструкцыі маюць аб'ектныя і акалічнасныя значэнні: *Ён вучыўся добра, хоць вельма мала с я д з е ў  з а  с ш ы т к а м і  і  к н і ж к а м і* (А.Кулакоўскі).

Яны не могуць быць зведзены да простых словазлучэнняў, паколькі пры скарачэнні залежнага кампанента змяняецца або страчваецца сэнс канструкцыі: *гутарыць з бацькам і сынам, размяшчацца між Мінскам і Барысавам.* Залежны кампанент у гэтых словазлучэннях можа размяшчацца як перад галоўным, так і пасля яго.

Сустракаюцца выпадкі, калі дзеяслоў і залежнае словазлучэнне раздзелены іншымі членамі сказа: *Кляновіч п р о с і ц ь Грушку д а ц ь  п р а ч ы т а ц ь пісьмо сябрам* (П.Пестрак).

Канструкцыі “дзеяслоў+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне” выражаюць пераважна а к а л і ч н а с н ы я  і  а б ' е к т н ы я значэнні: *гаварыць бацькоўскім тонам, ісці босымі нагамі.*

Сярод акалічнасных складаных сінтаксічна непадзельных канструкцый найбольш значную частку складаюць словазлучэнні з часавым значэннем. У гэтых словазлучэннях залежная частка выражаецца спалучэннем парадкавага лічэбніка або ўказальнага ці азначальнага займенніка ў родным склоне з назоўнікам у родным склоне: *прыехаў дзевятага мая, сустрэў таго дня, прыходзіў кожнай раніцы* і пад. Залежны кампанент, які называе пэўны адрэзак часу, ужываецца тут толькі ў форме адзіночнага ліку: *Ажно т р э ц я г а  д н я князь  п р ы д у м а ў  адну для дружыны пацеху, забаву* (Я.Купала).

Словазлучэнні ў родным склоне з указальнымі ці азначальнымі займеннікамі ў складзе залежнага кампанента з'яўляюцца сінанімічнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі з адпаведнымі словамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *у* або без яго: *заходзіў кожнай раніцы – заходзіў кожную раніцу; пазваніў таго ж дня – пазваніў у той жа дзень.*

Адметная прыкмета такіх словазлучэнняў – наяўнасць пры назоўніку ў форме роднага склону дапасаванага азначэння, выражанага ўказальным ці азначальным займеннікам, парадкавым лічэбнікам або прыметнікам. Гэтыя азначэнні ўтвараюць з

азначаемым словам непадзельныя словазлучэнні: *К о ж н а й  н о ч ы хто-небудзь п р ы я з д ж а е ў лагер партызанскіх сем'яў* (Я.Брыль).

Спалучэнні тыпу *аднаго дня, аднаго разу* з'яўляюцца ўстойлівымі зваротамі, уласцівымі літаратурнай і народнай мове. Яны абазначаюць час дзеяння.

3) Дзеяслоў+складаная назва.

Залежны член у такіх канструкцыях непадзельны, ён можа размяшчацца як перад галоўным, так і пасля яго: *Новае Сяло адбудаваць, прыехаць у Вялікія Лукі.*

4) Дзеяслоў+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне.

Да гэтай групы адносяцца словазлучэнні: *ісці шпаркім крокам, апрацаваць прынятым спосабам.*

У сказах залежныя ад дзеясловаў такія сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ўтвараюць адзін член сказа, хоць семантычна яны і могуць чляніцца, як свабодныя словазлучэнні. Так, у сказе: *Але вось дзве постаці ш п а р к і м  к р о к а м  і д у ц ь цераз палянку* (П.Пестрак) – сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне *шпаркім крокам,* выконвае адпаведна сінтаксічныя функцыі акалічнасці і дапаўнення. У спалучэнні з кіруючым дзеясловам *ідуць* яно ўтварае складаную дзеяслоўную канструкцыю "дзеяслоў+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне".

Сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне можа размяшчацца як перад кіруючым дзеясловам, так і пасля яго, аднак найбольш прадуктыўныя канструкцыі з прэпазіцыяй дзеяслова.

Найбольш пашыраны парадак слоў у словазлучэннях з акалічнаснымі адносінамі – постпазіцыя залежнага члена. Пры выражэнні недакладнасці абазначэння часу, прасторы або колькасці назоўнік у складзе колькасна-іменнага спалучэння займае месца перад лічэбнікам. Пры назоўніку ў такіх выпадках можа быць прыназоўнік *з(са): Ужо м е с я ц ы  с а  д в а, а можа і болей, дзядзька练акоп н о с і ц ь у сабе гэты клопат і гэтыя неадступныя думкі аб калгасе* (Я.Колас); *Д а  л е с у  б ы л о в я р с т ы  ч а т ы р ы* (Я.Колас).

Колькасныя словазлучэнні лексічна абмежаваны з боку залежнага кампанента, які выражаецца звычайна толькі назоўнікамі (або сінтаксічна непадзельнымі спалучэннямі) з колькасна-часавым, колькасна-прасторавым або ўласна колькасным значэннем.

Найбольш тыповымі мадэлямі складаных дзеяслоўных словазлучэнняў гэтай групы з'яўляюцца "дзеяслоў+(назоўнік творнага склону+прыметнік)": *смяяцца бясклапотным смехам, сказаць спакойным тонам;* "дзеяслоў+(назоўнік у родным склоне+дапасаванае азначэнне, выражанае ўказальным ці азначальным займеннікам або парадкавым лічэбнікам)": *прыехаць той зімы, заходзіць кожнай раніцы, нарадзіцца 10 верасня;* "дзеяслоў+(дзеяслоў+назоўнік)": *абяцаць зрабіць даклад, імкнуцца прыняць абавязацельствы;* "дзеяслоў+(назоўнік у вінавальным склоне+назоўнік у родным склоне)": *убачыць кавалак неба, прынесці вядро вады;* "дзеяслоў+(назоўнік у вінавальным склоне+прыметнік)": *сустракаць незнаёмага чалавека, цікавіцца героіка-патрыятычнай тэматыкай;* "дзеяслоў+(назоўнік у вінавальным склоне+прыназоўнік+прыметнік)": *працаваць у паўночны час, купацца ў зімнюю пару;* "дзеяслоў+(назоўнік у месным склоне+прыназоўнік+прыметнік)": *з'явіцца ў поўным складзе, сустракацца на вышэйшым узроўні;* "дзеяслоў+(колькасна-іменнае словазлучэнне)"; *чакаць трох чалавек, сабралася многа людзей.*

У другім разрадзе "Словазлучэнні дзеясловаў з фразеалагічнымі зваротамі" выражаецца пераважна а б ' е к т н а е або а к а л і ч н а с н а е значэнне: *перастаць кідаць позіркі, абяцаць даць зарок.* Залежны кампанент (фразеалагізм) у

гэтых словазлучэннях стаіць пераважна пасля галоўнага дзеяслова, часам ён можа аддзяляцца ад дзеяслова іншымі членамі сказа: *Дома яна п р а ч ы т а л а ўсё а д н ы м д у х а м, і здалося, што ўсё гэта яшчэ няпраўда* (Я.Скрыган).

Часам залежны фразеалагізм з мэтай узмацнення можа паўтарацца: *Млечны пуць, ён п р а л ё г з в е к у ў в е к, з в е к у ў в е к* (А.Куляшоў).

Сустракаюцца і выпадкі прэпазіцыі залежнага фразеалагізма: *Тут ён з у с ё й с і л ы ш т у р х н у ў камлюк на ваду* (Я.Колас).

### 9.1.2.2. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫМЕТНІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА



Простыя словазлучэнні з прыметнікам у ролі галоўнага слова падзяляюцца на канструкцыі.

1) Прыметнік+назоўнік у родным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы лексічна абмежаваны з боку галоўнага і залежнага кампанентаў, аднак па ўжывальнасці яны не ўступаюць словазлучэнням іншых груп. Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі кіравання, яны выражаюць а б ' е к т н ы я адносіны з рознымі адценнямі.

Асабліва вялікай прадуктыўнасцю характарызуюцца словазлучэнні, у якасці галоўнага кампанента якіх выступаюць якасныя прыметнікі *поўны, варты, дастойны, годны: поўны ягад, варты жалю, дастойны павагі, годны гонару* і пад. У якасці залежных кампанентаў гэтых словазлучэнняў выступаюць пераважна назоўнікі з адцягненым значэннем: *Каля Нёмана рассцілаўся луг, п о ў н ы незвычайнага х а р а с т в а* (Я.Колас).

2) Прыметнік+назоўнік у давальным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы самыя прадуктыўныя сярод беспрыназоўнікавых канструкцый з прыметнікам у ролі галоўнага кампанента. Яны выражаюць а б ' е к т н ы я адносіны з некаторымі адценнямі.

Асаблівай прадуктыўнасцю характарызуецца семантычная падгрупа словазлучэнняў з прыметнікамі *характэрны, уласцівы, сімпатычны, агідны, блізкі, родны, дарагі, чужы, патрэбны, небяспечны, шкодны, вядомы, агульны, арганічны, брыдкі, варожы, прыкры, выгадны, карысны, страшны* і пад., якія маюць у якасці сінонімаў канструкцыі з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *для: характэрны пісьменніку – характэрны для пісьменніка; блізкі чалавеку – блізкі для чалавека; дарагі сябру – дарагі для сябра; арганічны характару – арганічны для характару; карысны справе – карысны для справы; страшны ворагу – страшны для ворага.*

3) Прыметнік+назоўнік у творным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы выражаюць абмежавальныя, часавыя і прасторавыя адносіны з рознымі адценнямі. Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі кіравання і прымыкання і характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю ў сучаснай беларускай мове: *хворы душой, небяспечны ўскладненнямі, багаты ягадамі, бедны ведамі, вядомы азёрамі, шчаслівы позіркам.*

4) Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы выражаюць камплетыўныя і аб'ектныя адносіны.

Канструкцыі з к а м п л е т ы ў н ы м і (дапаўняльнымі) адносінамі заснаваны на сувязі кіравання. Гэта словазлучэнні з прыназоўнікамі *з, сярод* і прыметнікамі найвышэйшай ступені параўнання: *самы моцны з каманды, смялейшы (самы смелы) з хлопцаў* і інш. У якасці залежных кампанентаў у такіх словазлучэннях выступаюць

назоўнікі множнага ліку або назоўнікі са значэннем множнасці: *бліжэйшы з дамоў, самы бойкі сярод дзяцей, самы шкодны са статка* і інш.

Да словазлучэнняў з камплетыўнымі адносінамі належаць таксама канструкцыі з прыметнікамі *апошні, бліжні, сярэдні, крайні, пярэдні,* а таксама з парадкавымі лічэбнікамі: *апошні з шарэнгі, сярэдні з калоны, крайні з будынкаў, першы з коннікаў.*

5) Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне.

Гэтыя словазлучэнні складаюць колькасна невялікую і малаўжывальную групу. Словазлучэнні з аб'ектнымі і аб'ектна-абмежавальнымі адносінамі заснаваны на сувязі кіравання і ўжываюцца з прыназоўнікам *к: здольны к матэматыцы, нявдатны к працы.*

Абмежавальныя адносіны з рознымі адценнямі выражаюцца канструкцыямі з прыназоўнікам *па,* якія характарызуюцца высокай прадуктыўнасцю ў сучаснай беларускай мове. Яны ўтвараюцца шырокім кругам якасных і адносных прыметнікаў: *незвычайны па форме, зменлівы па знешнасці.* Словазлучэнні гэтага тыпу заснаваны па сувязі кіравання.

Адзінкавыя канструкцыі "прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне" выражаюць прычынныя адносіны і адносіны меры. Апошнія прадстаўлены словазлучэннямі з прыназоўнікам *к: Глянеш на жыта, высокае к небу* (М.Засім). Яны маюць у якасці сінонімаў словазлучэнні з прыназоўнікам *да,* якія характарызуюцца большай ужывальнасцю і прадуктыўнасцю для выражэння адносін меры, параўн.: *высокі к небу – высокі да неба.* Прамым парадкам слоў у гэтых словазлучэннях з'яўляецца постпазіцыя залежнага назоўніка. Адваротны парадак выкарыстоўваецца рэдка.

Адзінкавыя словазлучэнні з прычыннымі адносінамі прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікам *па: танны па неапрацаванасці, слабы па старасці: Стаіць ля варот румын-дзядок, па-руску вітаецца з намі. Бародка яго па старасці срэбная, кашуля па беднасці – зрэбная, лапці – са скуры-сырыцы* (А.Зарыцкі). Словазлучэнні гэтага тыпу сінанімічны больш ужывальным канструкцыям з прыназоўнікамі *з-за, з прычыны* і назоўнікамі ў родным склоне: *танны па неапрацаванасці – танны з-за неапрацаванасці – танны з прычыны неапрацаванасці; непрыгодны па зношанасці – непрыгодны з-за зношанасці – непрыгодны з прычыны зношанасці; слабы па старасці – слабы з-за старасці – слабы па прычыне старасці.*

Прамым парадкам слоў у словазлучэннях гэтага тыпу з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца ў мастацкай літаратуры, пераважна ў паэтычных творах і ў размоўным стылі.

6) Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у вінавальным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы з'яўляюцца даволі прадуктыўнымі і разнастайнымі па характару сінтаксічных сувязей і выражаемых адносінах.

Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі заснаваны на сувязі кіравання. Яны прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікамі *на, за: злосны на сябра, адчувальны на крытыку, хуткі на выдумкі, памятлівы на зло, гатовы на бой, сквапны на грошы, ахвочы на размовы, падобны на сябра, хворы на сэрца; удзячны за дапамогу, адказны за правядзенне, спакойны за брата.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *на* маюць абмежавальнае адценне: *Калі стары Бязручка скупы на словы, то сын гаворыць і за сябе, і за бацьку* (Я.Колас); *Насустрач ёй узыходзіць высокі і стары чалавек, таксама з твару вельмі падобны на Сашку* (К.Чорны); *І гэта ноч, як бы жывая, і быццам нешта яна знае,*

*але аб тым казаць не хоча, бо н а  р а з м о в ы  н е  а х в о ч а* (Я.Колас); *Васіль быў лагодны, н е п а м я т л і в ы  н а  з л о чалавек* (І.Мележ).

Словазлучэнні з ч а с а в ы м і адносінамі складаюць колькасна абмежаваны круг канструкцый з прыназоўнікамі *за, праз, у: знаёмы за год, прывычны за жыццё; (добра) вядомы праз жыццё; гатовы ў пару.*

Большая частка канструкцый з часавымі адносінамі мае ў якасці залежнага кампанента назоўнік у вінавальным склоне з паясняльным словам. Простыя словазлучэнні абмежаваны і з боку колькасці, і з боку прадуктыўнасці: *Учора, калі дзень хіліўся да вечара і па кутках асядаў прыцемак, не было відаць гэтай так в я д о м а й  п р а з  ж ы ц ц ё  хаціны* (П.Пестрак).

Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання. Прамым парадкам слоў з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента.

Словазлучэнні з адносінамі п р ы з н а ч э н н я або м э т ы нешматлікія, аднак яны характарызуюцца шырокай ужывальнасцю. Яны заснаваны на аснове сінтаксічнай сувязі прымыкання і прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікамі *на, у: прыгодны на рагатку, патрэбны на будаўніцтва; прыгодны ў ежу, варты ў артысты.*

Гэтыя словазлучэнні абмежаваны з боку галоўнага члена, у якасці якога выступаюць прыметнікі з семантыкай годнасці, прызначэння.

7) Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы прадстаўлены даволі значнай колькасцю разнастайных па прадуктыўнасці і тыпах выражаемых адносін канструкцый.

Словазлучэнні з а б ' е к т н ы м і адносінамі з'яўляюцца самымі прадуктыўнымі сярод канструкцый з творным прыназоўнікавым. Яны заснаваны на сувязі кіравання і прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікамі *з, пад, паміж (між), перад: суседні з вёскай, адзіны з народам; насмешлівы над таварышамі, не ўладны над часам; вядомы пад імем (пад прозвішчам, пад назвай), скрыты пад назвай; шчыры перад таварышамі, адкрыты перад сябрамі, бездапаможны перад цяжкасцямі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *з* складаюць самы прадуктыўны тып словазлучэнняў гэтай групы. Даныя словазлучэнні заснаваны на сувязі кіравання: *Адзін снарад упаў на край с у с е д н я г а  з  Ю р ы е м акопа* (І.Мележ).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *перад* з аб'ектнымі адносінамі колькасна абмежаваныя, аднак шырока ўжывальныя ў сучаснай мове. Большая частка гэтых канструкцый, у якасці залежнага кампанента якіх ужываюцца адушаўлёныя назоўнікі, мае адценне ўзаемнасці і мае сінанімічныя словазлучэнні з прыназоўнікамі *з, да: шчыры перад людзьмі – шчыры з людзьмі – шчыры да людзей; адкрыты перад сябрамі – адкрыты з сябрамі – адкрыты да сяброў.* Другая, нязначная частка словазлучэнняў, у якіх у якасці залежнага кампанента выступаюць неадушаўлёныя назоўнікі, тыпу *бездапаможны перад цяжкасцямі, бяссільны перад засухай* не мае такіх сінонімаў.

Словазлучэнні "прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне" з аб'ектнымі адносінамі характарызуюцца постпазіцыяй залежнага кампанента: *Два акны выходзілі на двор, а сенцы былі а г у л ь н ы я  з суседняй  к в а т э р а й* (К.Чорны).

Адваротны парадак слоў выкарыстоўваецца з мэтай вылучыць прадмет або асобу, выражаныя залежным назоўнікам, на якія распаўсюджваецца пэўная прыкмета, названая галоўным кампанентам.

Словазлучэнні з  а з н а ч а л ь н ы м і адносінамі заснаваны на сувязі прымыкання і прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікам *з (са): шэры з блакітам,*

*сіні з паяском, чырвоны з кветкамі, жоўты з адлівам, тонкі з гарбінкай, блакітны з гарошкам. Уяе ш э р ы х з с і н я в і н к а й вачах ён прачытаў спачатку нешта падобнае на здзіўленне* (М.Лынькоў). Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю і ўжывальнасцю ў сучаснай мове. Сінонімаў яны не маюць. Канструкцыям з прыназоўнікам *з* характэрна постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў ужываецца вельмі рэдка.

Словазлучэнні з п р а с т о р а в ы м і адносінамі складаюць шырокі і разнастайны па ўжывальнасці тып канструкцый з прыназоўнікамі *над, пад, за, паміж (між), перад, побач з,* заснаваных на сінтаксічнай сувязі прымыкання: *светлы над морам, нізкі над лесам; вузкі пад лесам, зялёны пад гарой; непрыкметны за лесам, нябачны за паваротам; рыхлы між купінамі, зялёны між бярозамі; рэдкі перад горадам, апошні перад вяршыняй; вытаптаны побач з домам, свежы побач з возерам.*

Усе пералічаныя словазлучэнні прадуктыўныя і шырока ўжываюцца ў сучаснай мове. За выключэннем словазлучэнняў з прыназоўнікам *паміж (між),* гэтыя канструкцыі не маюць сінонімаў.

Канструкцыі з прыназоўнікам *паміж (між)* сінанімічны словазлучэнням з прыназоўнікам *сярод* і назоўнікамі ў родным склоне: *зялёны паміж (між) бярозамі – зялёны сярод балот; звілісты паміж (між) дрэвамі – звілісты паміж (між) дамамі.* Некаторая спецыфіка ў семантыцы гэтых канструкцый не заўсёды дазваляе іх узаемазамену, параўн.: *рыхлы між купін (снег) – рыхлы сярод купін.*

Словазлучэнням “прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне” з прасторавымі адносінамі характэрна постпазіцыя залежнага кампанента: *Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу, на ўсіх, хто праходзіў міма, – сціплая, н е п р ы к м е т н а я з а нязграбным п л о т а м, блізка да вялікіх дрэў* (І.Мележ).

Адваротны парадак слоў выкарыстоўваецца рэдка: *Снег пад м е с я ц а м с і- н я в а т а - і с к р ы с т ы мяняецца, мільгаціць* (К.Крапіва).

Словазлучэнні з часавымі адносінамі складаюць колькасна невялікі, аднак даволі шырока ўжывальны тып канструкцый. Яны заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання з прыназоўнікамі *за, перад (прад): цьмяны за часам, патускнелы, за часам; узбуджаны перад экзаменам, апошні перад вясной.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *за* з’яўляюцца адзінкавымі ў сучаснай мове: *Уваскрасалі ў памяці ц ь м я н ы я з а ч а с а м, дробязныя – як здавалася тады – факты, здарэнні, якія знайшлі фіксацыю ў спадарожніку-блакноце* (Х.Шынклер). Яны маюць адценне прычыны і з’яўляюцца сінанімічнымі канструкцыям з прыназоўнікамі *з-за ад* і назоўнікамі ў родным склоне: *цьмяны за часам – цьмяны з-за часу – цьмяны ад часу; патускнелы за часам – патускнелы з-за часу – патускнелы ад часу.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *перад (прад)* маюць абмежавальнае адценне: *У грудзях было п р ы в ы ч н а е п е р а д б о е м адчуванне нейкай пустаты, калі іншыя пачуцці змяняе адно – чаканне і прага бітвы* (І.Мележ). Сінонімаў гэтыя словазлучэнні не маюць.

Канструкцыям “прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне” з часавым значэннем звычайна ўласціва постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак кампанентаў ужываецца рэдка.

8) Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне.

Словазлучэнні гэтай групы складаюць даволі шырокі і разнастайны ў адносінах да семантыка-сінтаксічных асаблівасцей і прадуктыўнасці тып канструкцый.

Словазлучэнні з п р а с т о р а в ы м і адносінамі заснаваны на сувязі прымыкання з прыназоўнікамі *на, па, пры, у: недаступны на дрэве, шырокі на канцы; зялёны па берагах, пыльны па абочынах; пясчаны пры беразе, слізкі пры ўваходзе; зялёны ў лагчынах, зацішны ў лесе.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *на* характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю. Некаторыя з гэтых спалучэнняў маюць сінанімічныя канструкцыі з назоўнікамі ў творным склоне без прыназоўніка: *зялёны на пагорках – зялёны пагоркамі; спелы на палянках – спелы палянкамі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *па* таксама характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю ў сучаснай мове.

Даволі прадуктыўныя словазлучэнні з прыназоўнікам *пры,* сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікам *каля: пясчаны пры беразе – пясчаны каля берага; слізкі пры ўваходзе – слізкі каля ўвахода.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *у* характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю і семантычнай неаднароднасцю. Некаторыя словазлучэнні з прыназоўнікам *у* сінанімічны канструкцыям з творным беспрыназоўнікавым: *зялёны ў лагчынах – зялёны лагчынамі; жоўты ў праталінах – жоўты праталінамі* і пад.

Словазлучэнні "прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне" з прасторавымі адносінамі характарызуюцца перавагай постпазіцыі залежнага кампанента.

Словазлучэнні з адносінамі прычыны і абумоўленасці заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання. Яны даволі шырокія ў колькасных адносінах і па семантыка-сінтаксічных асаблівасцях, ужываюцца з прыназоўнікамі *на, пры, у, па: ружовы на ветры, бадзёры на марозе; сляпы пры бляску, араматны пры цвіценні; цёмны ў змроку, іскрысты ў праменнях; адсутны па хваробе (па дазволу).*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *на* са значэннем абумоўленасці маюць прасторавае адценне: *На ім* [іржэўніку] *роўнымі радамі ляжалі кучкі з а л а т о й н а с о н ц ы саломы* (І.Шамякін). Гэтыя словазлучэнні маюць сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікамі *ад, з-за* і назоўнікамі ў родным склоне: *ружовы на ветры – ружовы ад ветру – ружовы з-за ветру; бадзёры на марозе – бадзёры ад марозу – бадзёры з-за марозу.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *пры* колькасна абмежаваныя, аднак даволі шырока ўжывальныя. Гэтыя словазлучэнні, таксама як і словазлучэнні з прыназоўнікам *на,* маюць сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікамі *ад, з-за* і назоўнікамі ў родным склоне: *сляпы пры бляску – сляпы ад бляску – сляпы з-за бляску; цёмны пры лямпе – цёмны ад лямпы – цёмны з-за лямпы.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *у* колькасна абмежаваныя, хоць і даволі шырока ўжывальныя. Таксама як і папярэднія канструкцыі з адносінамі абумоўленасці, гэтыя словазлучэнні адпаведны канструкцыям з прыназоўнікамі *ад* і *за: цёмны ў змроку – цёмны ад змроку – цёмны з-за змроку; іскрысты ў праменнях – іскрысты ад праменняў – іскрысты з-за праменняў.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *па* выражаюць прычынныя адносіны. Яны адзінкавыя ў беларускай мове: *Паказанні сведак, а д с у т н ы х п а законных п р ы ч ы - н а х, суд пастанавіў агаласіць у свой час* (Я.Колас). Гэтыя словазлучэнні не маюць сінонімаў.

Словазлучэнні "прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне" з адносінамі абумоўленасці, прычыны характарызуюцца перавагай постпазіцыі залежнага кампанента: *Выгляд яго, суровы і в е л і ч н ы ў асвятляльна белым к а ў п а к у і ў жаўтаватым халаце, спалохаў Валянціну Андрэеўну* (І.Шамякін). Адваротны парадак членаў амаль не ўжываецца.

Словазлучэнні з часавымі адносінамі заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання з прыназоўнікамі *на, па, пры, у: слепаваты на старасці, малы на пачатку; звонкі па прадвесні, сакавіты па вясне; неабходны пры ад'ездзе, дакладны пры выкананні; цікавы ў мінулым, небывалы ў вяках.*

Асобныя разрады словазлучэнняў з прыметнікамі ўтвараюць наступныя канструкцыі. Формы ступеняў параўнання прыметнікаў з прыслоўямі і часціцамі. Словазлучэнні гэтага тыпу заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання і выражаюць адносіны м е р ы, с т у п е н і п а в ы ш э н н я або п а н і ж э н н я я к а с- ц і, якая выражаецца галоўным кампанентам: *многа мацнейшы, значна цікавейшы.*

Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю і ўжывальнасцю. Сінанімічных канструкцый яны не маюць. Характарызуюцца прэпазіцыяй залежнага кампанента. Такі парадак слоў з'яўляецца прамым для гэтых канструкцый: *Асілкаў шмат было на свеце, быў ш м а т д у ж э й ш ы наш народ* (Я.Купала).

Адваротны парадак слоў у гэтых словазлучэннях сустракаецца вельмі рэдка.

Словазлучэнні "прыметнік+прыслоўе" заснаваны на сінтаксічнай сувязі п р ы м ы- к а н н я: *сонечна шчаслівы, зычна пявучы, пакутліва цяжкі* і выражаюць у адпаведнасці з семантыкай прымыкаемага прыслоўя разнастайныя адносіны.

А з н а ч а л ь н ы я: *невыразна маркотны, афіцыйна строгі, пачварна тоўсты.* Словазлучэнні з гэтымі адносінамі складаюць вельмі шырокі і прадуктыўны тып словазлучэнняў прыметнікаў з прыслоўямі. Гэта тлумачыцца ў многім няспынным ростам якасных прыслоўяў у сучаснай мове.

С т у п е н і, м е р ы праяўлення прыкметы: *гранічна важны, бязмерна шчаслівы, непамерна моцны.* Словазлучэнні з гэтымі адносінамі таксама шырока ўжывальныя і прадуктыўныя ў сучаснай мове.

П р ы ч ы н н ы я: *таму неспакойны (усхваляваны, заклапочаны, нервовы), чамусьці незразумелы (няпэўны, недаверлівы, смутны, радасны, узнёслы).* Гэтыя словазлучэнні абмежаваны з боку залежнага кампанента, у якасці якога выступаюць толькі прыслоўі *таму, чамусьці, чагосьці.* Аднак, нягледзячы на гэта, словазлучэнні з прычыннымі адносінамі характарызуюцца шырокай ужывальнасцю.

Ч а с а в ы я: *заўжды неспакойны, звычайна гаварлівы, адвеку малады.* Словазлучэнні гэтай семантыкі хоць і больш шырокія ў колькасных адносінах, аднак таксама абмежаваныя з боку залежнага кампанента, у якасці якога выступаюць прыслоўі часу. Словазлучэнні з часавымі адносінамі характарызуюцца шырокай ужывальнасцю.

П р а с т о р а в ы я: *знізу белы, звонку прыгожы, нідзе не лішні, знадворку глянцаваны.* Словазлучэнні з прасторавымі адносінамі колькасна абмежаваны з боку залежнага кампанента, аднак характарызуюцца шырокай ужывальнасцю.

Словазлучэнні прыметнікаў з інфінітывам заснаваны на сінтаксічнай сувязі п р ы- м ы к а н н я і выражаюць камплетыўныя, або аб'ектныя, адносіны: *бяссільны змагацца, здатны пагуляць, волен сказаць, рады сказаць, ахвочы марыць.* Словазлучэнні з інфінітывам у якасці залежнага кампанента характарызуюцца

шырокай ужывальнасцю кароткіх форм прыметнікаў: *Аж душа мая святлее і с п я в а ц ь я зноў г а т о ў* (Я.Колас).

Сярод словазлучэнняў прыметнікаў з займеннікамі выдзяляецца група “прыметнік+абагульнена-прадметны займеннік”, якая складае асноўную частку прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых словазлучэнняў разглядаемага разраду. Па сваіх семантыка-сінтаксічных уласцівасцях яны аднатыпны адпаведным словазлучэнням з назоўнікам у ролі залежнага кампанента: *І нельга будзе Мечыку крыкнуць у сваё апраўданне, што агню нарабіў не ён, а н е н а в і с н ы я м у і ўсім калгаснікам Дзёма Чыжык* (М.Паслядовіч).

Найбольш пашыраны парадак слоў у гэтых словазлучэннях – постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў выкарыстоўваецца для больш выразнага падкрэслівання прыкметы, выражанай галоўным кампанентам. Словазлучэнні з адваротным парадкам слоў выкарыстоўваюцца пераважна ў паэтычных творах: *Хіба ж п е р а д к і м я в і н н а, што так радасці хачу?* (А.Астрэйка). Група “прыметнік+азначальны займеннік” уключае словазлучэнні, адзінкавыя ў колькасных адносінах, аднак шырока ўжывальныя. У ролі залежнага кампанента ў іх выступаюць азначальныя займеннікі *увесь, сам.* Словазлучэнні з займеннікам *увесь* маюць значэнне вычарпальнасці прыкметы: *увесь шэры, увесь чорны, увесь мёрзлы, увесь сухі.* Сінонімаў гэтыя канструкцыі не маюць. Найбольш пашыраным парадкам слоў з'яўляецца прэпазіцыя залежнага кампанента – займенніка. Адваротны парадак слоў ужываецца пры асаблівым падкрэсліванні прыкметы: *Голас быў ціхі, спакойны, д а ў с я г о а б ы я к а в ы* (М.Лынькоў).

Словазлучэнні з займеннікам *сябе* выражаюць значэнне сумеснасці, узаемнасці. Яны заснаваны на сувязі прымыкання з прыназоўнікам *паміж (між): падобныя паміж (між) сабою, роўныя між сабою, незнаёмыя між сабой, блізкія між сабой.* Сінонімаў гэтыя словазлучэнні не маюць. Характарызуюцца ўстойлівай перавагай канструкцый з постпазіцый залежнага кампанента: *Пісьменніцкае асяроддзе складаецца з талентаў яркіх і менш яркіх, н е п а д о б н ы х п а м і ж с а б о й* (Я.Колас).

Яшчэ адзін разрад дадзеных словазлучэнняў складае канструкцыя “прыметнік+ прыметнік”. Асноўную частку словазлучэнняў гэтага разраду утвараюць адзінкавыя ў колькасных адносінах, аднак вельмі ўжывальныя канструкцыі таўталагічнага характару з прыназоўнікамі *з, сярод, для,* якія набліжаюцца да ўстойлівых: *роўны сярод роўных, лепшы з лепшых, выдатнейшы з выдатных* і пад. Да гэтага разраду адносяцца і значна менш ужывальныя аднатыпныя словазлучэнні нетаўталагічнага характару: *незразумелы для новых, дзіўны для староннiх, звычайны для дасведчаных* і пад.

Складаныя словазлучэнні з прыметнікамі ў ролі галоўнага члена раздзяляюцца на наступныя разрады.

1) Словазлучэнні прыметнікаў са свабоднымі спалучэннямі слоў у якасці залежнага кампанента. Яны характарызуюцца вялікай ужывальнасцю і разнастайнасцю семантыка-сінтаксічных значэнняў, што ў многім тлумачыцца шырокімі магчымасцямі мовы ў выражэнні адценняў прыкмет, якасцяў, уласцівасцяў прадметаў і з'яў: *Эх, што можа быць д а р о ж а й в о л ь н а й в о л е ч к і, палёў?* (Я.Колас); *Ты – м а р ц о в а г а с н е г у б я л е й, броўкі – д о л і с і р о ц к а й ч а р н е й* (М.Багдановіч).

2) Прыметнік+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне. Словазлучэнні гэтага разраду вызначаюцца шырокай ужывальнасцю, разнастайнасцю семантычных адносін, парадку кампанентаў і ступені прадуктыўнасці. У якасці залежнага кампанента ў гэтых канструкцыях выступаюць словазлучэнні, якія з'яўляюцца адным членам сказа. Пры аддзяленні залежнага кампанента, абавязковага дэтэрмінатара

да залежнага назоўніка, страчваецца сэнс канструкцыі: *міралюбівыя людзі добрай волі, цудоўны ў вячэрні час, праўдзейны ў поўным складзе, зразумелы на ўсіх мовах.*

Адносна фармальна-граматычнай будовы вылучаюцца наступныя складаныя словазлучэнні.

Група 1. Прыметнік+назоўнік у родным склоне+дэтэрмінатар.

Словазлучэнні гэтай групы прадстаўлены канструкцыямі з а б ' е к т н ы м і і ч а с а в ы м і адносінамі. Першыя даволі прадуктыўныя ў сучаснай мове: *Ён жа сам і п я т а й ч а с ц і таго н е в а р т, што тытуню мне напсаваў* (К.Крапіва).

Непрадуктыўнымі складанымі словазлучэннямі з залежным назоўнікам у родным склоне і пэўным дэтэрмінатарам з'яўляюцца канструкцыі з часавымі адносінамі: *Проста, скажу табе, што з а ў т р а ш н я г а д н я п э ў н ы не быў* (Э.Самуйлёнак).

Група 2. Прыметнік+назоўнік у вінавальным склоне+дэтэрмінатар.

Гэтыя прадуктыўныя складаныя словазлучэнні з сінтаксічна непадзельным залежным кампанентам выражаюць а к а л і ч н а с н ы я адносіны з адценнямі часу і колькасці (або меры): *Але мне здаецца, ані не страцілі і ніколі не страцяць свае глыбокае цікавасці тыя таемныя, к о ж н ы р а з н о в ы я, своеасаблівыя шляхі, па якіх ідзе чалавек ад вузка асабістых сваіх разломаў да поўнага расчынення сябе ў калектыве* (М. Зарэцкі).

Словазлучэнні тыпу *тры сажні шырокі, два сажні глыбокі* не адпавядаюць норме сучаснай беларускай мовы. Яны былі характэрны для старабеларускай мовы і ўжываюцца для вырашэння выразна стылістычных задач у творчасці некаторых пісьменнікаў і паэтаў. Замест іх у сучаснай беларускай мове часам ужываюцца складаныя канструкцыі з прыназоўнікам *у: шырокі ў тры сажні, глыбокі ў два сажні,* аднак больш прадуктыўнымі з'яўляюцца адпаведныя назоўнікавыя словазлучэнні: *шырынёй у тры сажні, глыбінёй у два сажні.*

Словазлучэнні тыпу *варты дзесяць рублёў, варты рублёў трыццаць* характарызуюцца невысокай прадуктыўнасцю. Замест іх часта ўжываюцца значна больш прадуктыўныя словазлучэнні тыпу *каштуе дзесяць рублёў, каштуе рублёў трыццаць.* Трэба адзначыць, што складаныя словазлучэнні з сінтаксічна непадзельнымі спалучэннямі складаюць пераважную большасць канструкцый групы "прыметнік+назоўнік у вінавальным склоне".

Група 3. Прыметнік+назоўнік у творным склоне+дэтэрмінатар.

Асаблівай прадуктыўнасцю характарызуюцца гэтыя складаныя словазлучэнні, якія маюць таўталагічны характар і выражаюць у асноўным а б м е ж а в а л ь н а - а б ' е к т н ы я адносіны: *вясёлы нястрымнай весялосцю, шчаслівы шчасцем дзяцей.* Залежны кампанент гэтых словазлучэнняў выражаны назоўнікам, аднакарэнным з галоўным прыметнікам, і абавязковым дэтэрмінатарам.

Некаторыя з гэтых складаных словазлучэнняў выражаюць ч а с а в ы я адносіны: *Над цёмным лесам з'явіўся невялічкі але р э з к і г э т к а ю п а р о ю вецер, і макушкі злёгку зашумелі, заківаліся* (М.Гарэцкі).

Адзінкавыя складаныя канструкцыі з залежным кампанентам – назоўнікам у творным склоне з дэтэрмінатарам выражаюць а б м е ж а в а л ь н ы я адносіны з удакладненнем унутранага зместу прыкметы: *Мы ўлюбёныя сэрцам у мір і спакой, мы ш ч а с л і в ы я с ё н н я ш н і м д н ё м* (К.Кірэенка).

Група 4. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне+дэтэрмінатар. Гэтыя словазлучэнні выражаюць у асноўным ч а с а в ы я адносіны: *сумны ад таго дня, незабыўны ад тых часоў, невядомы да таго часу, новы для таго часу.*

Складаныя словазлучэнні гэтай групы з п р а с т о р а в ы м і адносінамі прадстаўлены адзінкавымі, аднак шырока ўжывальнымі канструкцыямі з непадзельнымі словазлучэннямі *адзін ад аднаго, адзін да аднаго: Гэтая дарога злучае два беларускія абшары, сваёй прыродай, характарам і выглядам д а л ё к і я а д з і н а д а д н а г о* (К.Чорны).

Складаныя словазлучэнні са значэннем м е р ы, с т у п е н і прадстаўлены адзінкавымі канструкцыямі: *І такім чынам* [Булавін] *у адзін вясновы дзень з'явіўся ў н о в а й д а а п о ш н я й х а т ы вёсцы Баравікі* (П.Пестрак).

Група 5. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне+дэтэрмінатар. Гэтыя складаныя словазлучэнні даволі часта выражаюць п р а с т о р а в а - л а к а л ь н ы я адносіны: *Цераз курганы і заводы в і д о ч н ы я п а ў с ё й з я м л і, ад гэтых сцен, ад Валгаграда праспекты міру праляглі* (М.Лужанін).

Група 6. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у вінавальным склоне+дэтэрмінатар. Гэтыя складаныя словазлучэнні выражаюць ч а с а в ы я і п р а с т о р а в а - л а к а л ь н ы я адносіны: *Ён рэдка смяяўся. Быў у в е с ь ч а с з л о с н ы, надзьмуты* (П.Броўка); *Гэй ты, князь! Гэй п р а с л а в е н н а ц э л ы, б е л - с в е т!* (Я.Купала).

Група 7. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне+дэтэрмінатар. Адзінкавыя складаныя словазлучэнні гэтай групы выражаюць ч а с а в ы я адносіны з абмежавальным адценнем: *Панас сядзеў каля стала і слухаў у с т у п н у ю п е р а д п а ч а т к а м с х о д у прамову Камекі* (П.Галавач).

Група 8. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне+дэтэрмінатар. Нязначная колькасць гэтых складаных словазлучэнняў, якія характарызуюцца даволі шырокай ужывальнасцю, выражае ч а с а в ы я адносіны: *А пытанні гэтыя пастаўлены як эпізадычныя, а праз іх і сама справа фактычна зводзіцца да як к а ш т о ў н а г а т о л ь к і н а т ы м э т а п е эпізоду* (К.Чорны).

## 9.1.2.3. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЛІЧЭБНІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

Словазлучэнні гэтага тыпу з'яўляюцца прадуктыўнымі і шырокаўжывальнымі: *шэсць лыжак, дваццаць сталоў, многа дрэў, сто крокаў, двое з прысутных, трое сяброў, некалькі чалавек, дзвесце двароў, трэці з боку, адзін з вучняў, двое з вінтоўкамі.* Яны характарызуюцца спецыфікай сінтаксічных сувязяў кампанентаў. Пэўнаколькасныя лічэбнікі да *пяці* ў назоўным і вінавальным склонах дапасуюцца да адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў: *тры сталы, дзве кніжкі, чатыры талеркі; трох сыноў, двух коней, чатырох сясцёр.* Пэўнаколькасныя лічэбнікі ад *пяці* і вышэй, няпэўнаколькасныя і зборныя лічэбнікі ў назоўным склоне, а таксама ў вінавальным, які супадае з назоўным, кіруюць назоўнікамі і іншымі словамі, што выступаюць у ролі назоўнікаў: *сем крэслаў, многа кніжак, некалькі сталоў.* Ва ўскосных склонах гэтыя лічэбнікі дапасуюцца да назоўніка *(трох кніжак, шасці сталоў, некалькіх крэслаў).*

Словазлучэнні гэтага тыпу не маюць сінонімаў. Прамым парадкам слоў з'яўляецца прэпазіцыя галоўнага члена – лічэбніка. Парадак членаў у іх строга замацаваны. Змена парадку кампанентаў словазлучэнняў з пэўнаколькаснымі лічэбнікамі ў ролі галоўнага слова прыводзіць да змены значэння. Канструкцыі з постпазіцыяй лічэбніка атрымліваюць значэнне недакладнай, прыблізнай колькасці (*сем кніг – кніг сем*). Адваротны парадак кампанентаў у словазлучэннях з

няпэўнакалькаснымі лічэбнікамі (постпазіцыя лічэбніка) ужываецца рэдка, а ў словазлучэннях са зборнымі лічэбнікамі практычна не ўжываецца.

### 9.1.2.4. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЗАЙМЕННІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

Словазлучэнні гэтага тыпу колькасна абмежаваныя і разнастайныя ў адносінах прадуктыўнасці. Словазлучэнні з асабовымі і зваротным займеннікамі з'яўляюцца непрадуктыўнымі. Да гэтых займеннікаў могуць адносіцца толькі адасобленыя азначэнні: *С о н н а я, я н а хістанулася на нагах і шпарка пайшла ў хату* (К.Чорны).

Словазлучэнні з няпэўнымі займеннікамі характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю, яны ўключаюць у якасці залежнага кампанента прыметнікі, дзеепрыметнікі, займеннікі іншых разрадаў: *нехта задаволены, нешта незвычайнае, што карыснае, нешта знаёмае*.

Словазлучэнні гэтага тыпу не маюць сінонімаў. Прамым парадкам у гэтых канструкцыях з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца рэдка. Тып сувязі – далучэнне.

### 9.1.2.5. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫСЛОЎЕМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

Канструкцыі з прыслоўем у ролі галоўнага слова падзяляюцца на 3 разрады (а, б, в) у залежнасці ад граматычнага класа залежнага слова.

Парадак кампанентаў гэтых словазлучэнняў адносна ўстойлівы. У канструкцыях "прыслоўе+прыслоўе" звычайна наглядаецца прэпазіцыя залежнага кампанента, а ў канструкцыях "прыслоўе+назоўнік" і "прыслоўе+займеннік" – постпазіцыя: *роблена па-старыкоўску, цікава для шматлікіх слухачоў, ізалявана ад усіх нас.* Галоўны і залежны кампаненты звязаны сінтаксічнай сувяззю прымыкання.

***а) словазлучэнні прыслоўяў з прыслоўямі***

Канструкцыі гэтага разраду падзяляюцца на 9 груп у залежнасці ад граматычных разрадаў прыслоўяў. Пры гэтым не ўсе тэарэтычна магчымыя мадэлі словазлучэнняў рэалізуюцца ў сучаснай беларускай мове. Так, не адзначаны прыслоўныя словазлучэнні з колькасным прыслоўем у ролі галоўнага кампанента, а таксама канструкцыі "акалічнаснае прыслоўе+якаснае прыслоўе", дзе акалічнаснае выступае ў ролі галоўнага кампанента.

**Група 1. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+якаснае прыслоўе**

Гэтыя спалучэнні выражаюць я к а с н ы я адносіны: *Марудна пасоўваючыся над аблокамі і с а м о т н а к в о л а курлыкаючы, ляцеў там у невядомую далеч невялікі ланцужок журавоў* (В.Быкаў).

Залежнае якаснае прыслоўе далучаецца да галоўнага на аснове сувязі прымыкання. Парадак слоў у даных канструкцыях устойлівы: залежны кампанент звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі да галоўнага: *падкрэслена ветліва, прарэзліва тужліва, неверагодна мілагучна, неяк загадкава, аднолькава шчыра.* Інверсія тут немагчыма. Пры змене парадку кампанентаў словазлучэння галоўнае слова ўспрымаецца як залежнае. Гэта або змяняе сэнс канструкцыі, або робіць яе незразумелай (параўн.: *кампазіцыйна проста – проста кампазіцыйна; жыццёва пераканаўча – пераканаўча жыццёва; аднолькава роўна – роўна аднолькава*).

**Група 2. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+колькаснае прыслоўе**

Гэтыя спалучэнні выражаюць я к а с н а - а к а л і ч н а с н ы я адносіны: *Было т р о х і в у с ц і ш н а аднаму сярод цемрадзі і глухмені лесу* (Я.Колас).

У даных словазлучэннях залежнае колькаснае прыслоўе прымыкае да якаснага. Залежны кампанент звычайна стаіць у прэпазіцыі да галоўнага, аднак часам сустракаюцца выпадкі інверсіі: *Н е с п а к о й н а т р о х і было на сэрцы ў Паўлюка, дый злосць яго стала праходзіць* (Я.Колас).

Па сваіх семантыка-сінтаксічных уласцівасцях да гэтых словазлучэнняў далучаюцца і канструкцыі з якасным прыслоўем вышэйшай ступені параўнання ў ролі галоўнага кампанента: *Пасля смерці бацькі ён стаў любіць яе ў д в а я б о л е й* (В.Быкаў).

**Група 3. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+ якасна-акалічнаснае прыслоўе**

Гэтыя словазлучэнні выражаюць я к а с н ы я адносіны: *Глечык захлябнуўся слязьмі і крыўдай і п а - х л а п е ч ы з в о н к а з неспатольнай здзічэлай роспаччу закрычаў услед* (В.Быкаў).

Залежнае якасна-акалічнаснае прыслоўе прымыкае да якаснага і стаіць звычайна перад ім.

**Група 4. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+акалічнаснае прыслоўе**

Словазлучэнні данай групы ўжываюцца ў сучаснай беларускай мове вельмі рэдка. Па такой мадэлі ўтвараюцца толькі спалучэнні з акалічнаснымі прыслоўямі мэты ў ролі залежнага кампанента: *сумыслу павольна, незнарок голасна.*

Гэтыя канструкцыі заснаваны на сувязі прымыкання, парадак слоў – прэпазіцыя залежнага кампанента: *Гаснуў дзень н а з н а р о к п а к р ы с е* (А.Астрэйка).

**Група 5. Словазлучэнні якасна-акалічнаснае прыслоўе+ якаснае прыслоўе**

Гэтыя словазлучэнні таксама вельмі рэдка ўжываюцца ў сучаснай беларускай мове. Яны выражаюць азначальныя адносіны: *неяк знянацку, роблена па-старыкоўску, неяк па-святочнаму.*

Прамы парадак кампанентаў – залежнае якаснае прыслоўе размяшчаецца перад галоўным словам. Такія словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання.

**Група 6. Словазлучэнні якасна-акалічнаснае прыслоўе+колькаснае прыслоўе**

Названыя словазлучэнні таксама выражаюць а з н а ч а л ь н ы я адносіны: *Хоць рушылі а м а л ь а д р а з у за артылерыйскімі выбухамі... вораг яшчэ спрабаваў утрымацца* (І.Мележ).

Залежны кампанент – колькаснае прыслоўе – звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі: *зусім па-летняму, амаль адначасова, крыху наўзбоч.* Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання.

**Група 7. Словазлучэнні якасна-акалічнаснае прыслоўе+акалічнаснае прыслоўе**

Ужываюцца вельмі рэдка. Яны выражаюць а з н а ч а л ь н ы я адносіны.

Парадак слоў – прэпазіцыя залежнага кампанента: *па-заліхвацку набакір, уздоўж радамі.* Гэтыя словазлучэнні ўтвораны на аснове сувязі прымыкання.

У ролі галоўнага кампанента словазлучэнняў гэтай групы ўжываюцца прыслоўі месца, часу і вельмі рэдка – прычыны і мэты. Магчымасці ўтварэння канструкцый з

гэтымі прыслоўямі абмежаваны. Да акалічнасных прыслоўяў прымыкаюць пераважна колькасныя прыслоўі: *зусім блізка, крыху наводшыбе, зусім позна, яшчэ зацемна, зусім спрасоння, амаль нізавошта, амаль назнарок, трохі напаказ.* Толькі да прыслоўяў месца і часу могуць прымыкаць акрамя колькасных адпаведна прасторавыя і часавыя прыслоўі: *недзе ззаду, далёка адсюль, высока ўгару, учора вечарам, сёння ноччу, калісьці даўно.*

**Група 8. Словазлучэнні акалічнаснае прыслоўе+колькаснае прыслоўе**

Названыя словазлучэнні выражаюць а з н а ч а л ь н а - к о л ь к а с н ы я адносіны: *Быццам павінен быў страціць штосьці дарагое, значэнне якога зразумеў т о л ь к і  ц я п е р, вельмі позна* (І.Мележ). Яны заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання.

Звычайны парадак слоў у гэтых словазлучэннях – прэпазіцыя залежнага члена. Інверсія дапускаецца рэдка.

**Група 9. Словазлучэнні акалічнаснае прыслоўе (месца, часу)+акалічнаснае прыслоўе (месца, часу)**

Гэтыя словазлучэнні выражаюць адпаведна п р а с т о р а в ы я і ч а с а в ы я адносіны: *Увесь час білі варожыя гарматы, але снарады рваліся н е д з е  з з а д у* (І.Мележ); *П о з н а  ў в е ч а р ы пачуўся шолах лісцяў пад нагамі* (Я.Колас).

Залежны кампанент звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі да галоўнага, аднак інверсія сустракаецца даволі часта: *Д а ў н о  к а л і с ь ц і, вясновым ранкам, з далінаў Нёмна крыжацкі комтур да прускіх замкаў гнаў шмат палонных* (М.Танк). Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання.

***б) словазлучэнні прыслоўяў з назоўнікамі***

**Група 1. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне**

Гэтыя словазлучэнні ўключаюць канструкцыі з прыназоўнікамі *да, для, ад: моцна да болю, зразумела для вучняў, асобна ад дзяцей.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *да* выражаюць а з н а ч а л ь н ы я адносіны з адценнем меры і ступені, спалучэнні з прыназоўнікамі *для, ад* – аб'ектныя адносіны.

Звычайны парадак членаў – постпазіцыя залежнага назоўніка: *Ідуць кожны па сваёй патрэбе: хто па ягады, хто па грыбы, хто нарваць мяккага вішу на сяннік, а хто неўзаметку, п а т а е м н а  а д  лесніковага в о к а, укасіць між кустоўя капу сена* (І.Навуменка).

Залежны кампанент звязаны з галоўным на аснове сувязі прымыкання.

**Група 2. Якаснае прыслоўе вышэйшай ступені параўнання+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне**

У якасці залежнага кампанента словазлучэнні данай групы ўключаюць назоўнікі ў родным склоне без прыназоўнікаў або з прыназоўнікамі *да, ад, за.* Гэтыя словазлучэнні вельмі распаўсюджаны ў сучаснай беларускай мове: *Плывуць аблокі над ёй высока... яна ж в ы ш э й саміх а б л о к а ў* (П.Броўка); *Вунь, бачыш, п р а в е й д р э ў ц а  як бы купінкі – кулямёт* (І.Мележ).

У сучаснай беларускай літаратурнай мове з двух сінанімічных канструкцый – беспрыназоўнікавых і прыназоўнікавых – большай ужывальнасцю характарызуюцца апошнія (параўн.: *вышэй аблокаў – вышэй за аблокі; правей лесу – правей ад лесу; бліжэй вёскі – бліжэй да вёскі*). Аднак беспрыназоўнікавыя канструкцыі часам маюць

сваю семантычную спецыфіку і не могуць быць заменены прыназоўнікавымі: *вышэй лесу, ніжэй палавіны.* Беспрыназоўнікавыя словазлучэнні гэтай групы шырока ўжываюцца ў размоўным стылі мовы, у мове мастацкай літаратуры; пераважнае выкарыстанне гэтых канструкцый характэрна для многіх беларускіх гаворак. Прыназоўнікавыя словазлучэнні гэтай групы выражаюць, таксама як і беспрыназоўнікавыя, адносіны прыпадабнення з пэўнымі адценнямі, абумоўленымі семантыкай прыназоўнікаў.

Канструкцыі з прыслоўямі вышэйшай ступені ў якасці галоўнага кампанента адрозніваюцца ад астатніх тыпам сувязі паміж кампанентамі: яны заснаваны на сувязі кіравання (параўн.: *высока ў аблоках* і *вышэй аблокаў).* Парадак членаў – постпазіцыя залежнага кампанента.

**Група 3. Словазлучэнні якасна-акалічнаснае прыслоўе+прыназоўнік+назоўнік ва ўскосных склонах**

Гэтыя словазлучэнні выражаюць а б ' е к т н ы я адносіны: *употай ад людзей, упоперак да сцяны.*

Прамым парадкам для гэтых словазлучэнняў з'яўляецца постпазіцыя назоўніка, хоць залежны кампанент даволі часта стаіць перад галоўным – якасна-акалічнасным прыслоўем: *...Пабеглі, не чуючы ног пад сабою, з а г р у к а т а м у с л е д, насустрач невядомасці* (П.Глебка).

Звычайна тып сувязі ў словазлучэннях "якасна-акалічнаснае прыслоўе+назоўнік" – кіраванне. Аднак сярод іх ёсць асобныя адзінкавыя выпадкі спалучэння прыслоўяў з назоўнікамі, заснаванага на сувязі прымыкання: *наўскос да шляху, напрасткі па цаліку, напрасткі к вёсцы, упоперак да гасцінца.*

У спалучэннях тыпу *наперарэз ворагу, насустрач поезду* прыслоўі перайшлі ў прыназоўнікі, хоць некаторыя з іх яшчэ захоўваюць сваю спецыфіку *(наўздзіў людзям, наўздагон шчасцю).* Актывізацыя пераходу прыслоўяў у прыназоўнікі наглядаецца і ў прыназоўнікавых словазлучэннях якасна-акалічнасных прыслоўяў з назоўнікамі і займеннікамі. Многія якасна-акалічнасныя прыслоўі, якія набліжаюцца да акалічнасных прасторавых, поўнасцю перайшлі ў прыназоўнікі: *Паводле падання, н е д з е п а б л і з у а д г э т ы х м я с ц і н быў забіты князь Ігар, той самы, што двойчы за адзін год хацеў пажывіцца данінай у непакорных драўлян* (І.Навуменка). Гэта адносіцца таксама да вельмі пашыраных канструкцый з прыназоўнікам *з: Пасля дэманстрацыі Іван Лобік і Нупрэй Гіль р а з а м з М і ц е м прыйшлі пад сасну* (І.Навуменка).

Пры інверсіі пераход прыслоўяў у прыназоўнікі не адбываецца (параўн.: *стараўся разам з бацькам* і *стараўся з бацькам разам*). Гэта адносіцца і да словазлучэнняў, у якіх якасна-акалічнасныя прыслоўі кіруюць беспрыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *ветру наперакор, людзям наўздзіў, шчасцю наўздагон.*

**Група 4. Словазлучэнні акалічнаснае прыслоўе (месца, часу)+прыназоўнік+назоўнік ва ўскосных склонах**

Гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца вельмі пашыранымі і прадуктыўнымі ў сучаснай беларускай мове. Выражаюць п р а с т о р а в ы я або ч а с а в ы я адносіны: *Н е п а д а л ё к а д г а р б к а ішлі павозкі са снарадамі* (І.Мележ); *Яна падыходзіць н а з а д д а сваe х а т ы* (К.Чорны); *Д з е с ь ц і н а суседняй а с і н е яшчэ выркалі галубы, ды, пераклікаючыся з нястомнымі берасцянкамі, па лесе залівалася зараначка* (М.Лобан).

Парадак кампанентаў у гэтых словазлучэннях – постпазіцыя залежнага кампанента. Аднак сустракаюцца і выпадкі інверсіі: *Я зноў сябе кінуў з а р э ч к у н а з а д, бягу п а р ы д л ё ў к у д а х а т ы* (Я.Колас). Таксама як і ў спалучэннях з якасна-акалічнаснымі прыслоўямі ў ролі галоўнага слова, у канструкцыях з акалічнаснымі прыслоўямі прасторы многія прыслоўі перайшлі ў прыназоўнікі *(побач з дрэвам, далёка ад хаты, поруч з сябрамі, следам за байцом).*

Канструкцыі "прыслоўе часу+назоўнік" уключаюць у якасці залежнага кампанента назоўнікі роднага, вінавальнага, меснага і часам творнага склонаў з прыназоўнікамі: *вечарам пасля работы, раніцай другога дня, далёка за поўнач, назаўтра пад вечар, сёння на світанні* і пад.

Пераўнальна з прасторавымі прыслоўнымі канструкцыямі словазлучэнні з прыслоўямі часу значна менш разнастайныя і ўжывальныя ў сучаснай беларускай мове. Залежныя назоўнікі могуць і не мець прамога часавага значэння і толькі кантэкстуальна ўказваюць на пэўны момант ці прамежак часу: *Усведамленне гэтага прыйшло яшчэ т а д ы ў в а г о н е* (П.Пестрак).

***в)словазлучэнні прыслоўяў з займеннікамі***

Прыслоўныя словазлучэнні з займеннікамі з'яўляюцца нешматлікімі, пераважна прыназоўнікавымі. Гэтыя канструкцыі паўтараюць некаторыя мадэлі словазлучэнняў з назоўнікамі *(поруч з ім, следам за вамі, збоку ад усяго, наводшыбе ад усіх* і пад.): *З б о к у к а л я я г о шугае агонь* (Я.Колас); *Плывуць аблокі н а д ё й в ы с о к а...* (П.Броўка); *Яшчэ некалькі цягнулася з з а д у а д і х* (І.Мележ).

Яны абмежаваны з боку залежнага слова: да прыслоўяў могуць прымыкаць толькі асабовыя займеннікі і азначальны займеннік *увесь (уся, усё, усе)*. Пытальна-адносныя займеннікі прымыкаюць да прыслоўяў толькі ў тых выпадках, калі яны з'яўляюцца злучальнымі словамі ў дадзеных частках складаназалежных сказаў: *За ўзгоркам паказаўся лясок, з б о к у а д я к о г а цягнулася рэчка.*

## 9.1.3. СКАЗ

Шматлікасць і разнастайнасць азначэнняў сказа, пачынаючы ад першых усходнеславянскіх граматык Лаўрэнція Зізанія і Мялеція Сматрыцкага і заканчваючы сучаснымі даследаваннямі ў межах апісальнага, гістарычнага, функцыянальнага, семантычнага, стылістычнага, аўтарскага, камунікацыйнага сінтаксісу і сінтаксісу тэксту абумоўлена як тым, што кожная мова на кожным этапе свайго развіцця мае сваю форму выражэння думкі (гл.: ПОТЕБНЯ 1958, 71), так і аб'ектыўнай рознааспектнасцю самой гэтай камунікацыйнай адзінкі, што і абумоўлівае рознааспектны падыход да яе аналізу і азначэння. Гэта рознааспектнасць відавочная нават у прыведзеным вышэй пераліку разнастайных сінтаксісаў у сучаснай лінгвістыцы.

Тым не менш вылучаныя ў азначэнні Лаўрэнція Зізанія ў русле антычных граматык дзве прынцыпова важныя асаблівасці сказа, якія заключаюцца ў тым, што сказ ёсць спалучэнне слоў (першая, фармальная, асаблівасць), якое выказвае завершаную думку (другая, зместавая, асаблівасць), захоўваюцца і ў азначэннях сучасных апісальных граматык "Слово есть реченій сложеніе. Еже являет мысль самосвершенну".

Калі абумоўленасць шматлікіх і разнастайных азначэнняў сказа шматаспектнасцю яго даследавання ўжо знайшла дастатковае адлюстраванне ў лінгвістычнай літаратуры, то абумоўленасць азначэнняў, самой сутнасці сказа і асобных яго характарыстык у мове і маўленні спецыфікай пэўнай мовы толькі пачынае

даследавацца, у прыватнасці – у межах сучаснага кірунку нацыянальна-культурны кампанент у мове і маўленні.

Глыбокія выказванні сусветна вядомага ўкраінскага і рускага лінгвіста А.А.Патабні аб нацыянальнай адметнасці і аб гістарычнай зменлівасці сказа (гл.: Потебня 1958, 82–83; Потебня 1968, 5) знаходзяць актыўнае развіццё і ў сучаснай кагнітыўнай лінгвістыцы (гл.: ПАЎЛОЎСКАЯ 2001, ВЕРНИКОВСКАЯ 1998), у канцэптавых падыходах, якія абазначаюцца часта тэрмінам "канцэптуальны" (гл.: МИХАЙЛОВА 1998, 1–19).

Агульная канцэпцыя сказа як формы выражэння думкі ў кожнай нацыянальнай мове, распрацаваная ў працах А.А.Патабні ў русле першых усходнеславянскіх граматык Лаўрэнція Зізанія, Мялеція Сматрыцкага, Івана Ужэвіча, знайшла адлюстраванне ў азначэнні сказа дадзеным В.У.Вінаградавым: "Сказ – гэта граматычна аформленая па законах дадзенай мовы цэласная адзінка маўлення, якая з'яўляецца галоўным сродкам фарміравання, выражэння і паведамлення думкі" (гл.: ГРАММАТИКА 1960, 65).

Граматычнае і інтанацыйнае афармленне сказа па законах пэўнай мовы падкрэсліваецца і ў азначэнні В.С.Ахманавай: "Граматычна і інтанацыйна аформленая па законах пэўнай мовы цэласная адзінка мовы, якая з'яўляецца галоўным сродкам фарміравання, выражэння і паведамлення думкі аб некаторай рэчаіснасці і адносін да яе прамоўцы" (гл.: АХМАНОВА 1966, 347).

У азначэннях некаторых іншых сучасных даследчыкаў, у тым ліку і беларускіх, адлюстраванне граматычных і інтанацыйных заканамернасцей пэўнай мовы адсутнічае (гл.: СЯМЕШКА, ШКРАБА, БАДЗЕВІЧ 1996, 487) або нават адмаўляецца (гл.: РАГАЎЦОЎ 2001, 25).

### 9.1.3.1. СІНТАКСІЧНЫЯ СУВЯЗІ Ў СКАЗЕ

Сувязь, пры якой дзейнік абумоўлівае формы выказніка і наадварот, звычайна называецца к а а р д ы н а ц ы й н а й. Яна адрозніваецца ад дапасавальнай сувязі як віду падпарадкавальнай сувязі ў словазлучэнні па тым, што: "1) дапасаванне – сувязь аднабаковая; 2) дапасаванне адбываецца ва ўсёй сістэме форм, а пры каардынацыі аб'ядноўваюцца дзве пэўныя словаформы; 3) пры дапасаванні ўжываюцца толькі формы слоў; пры каардынацыі – яшчэ і парадак размяшчэння і інтанацыя; асабліва гэта яскрава назіраецца ў сказах тыпу *Восень дажджлівая; Ноч цёмная; Жанчына стомленая; Кнігі мае;* 4) пры дапасаванні ўзнікаюць адносіны ўласна атрыбутыўныя, а пры каардынацыі – прэдыкатыўныя" (гл.: ВАЛГИНА 1991, 61; РАГАЎЦОЎ 2001, 28).

Сувязь паміж дзейнікам і выказнікам, якая не мае фармальнага выражэння, тыпу *рэчка побач; маці дома* называецца с у р а з м я ш ч э н н е м (гл.: БУРАК 1987, 34).

П р ы ц я г н е н н е – від сінтаксічнай сувязі паміж дзейнікам і выказнікам, пры якой іменная частка састаўнога выказніка звязана з дзейнікам з дапамогай дзеяслоўнай звязкі. Напр.: *Дні былі цёплымі і сонечнымі.*

П а ў п р э д ы к а т ы ў н ы я сувязі блізкія да прымыкання або дапасавання, хоць і змяшчаюць элемент прэдыкатыўнасці: *Ёй, засмучанай, усё было нецікава.* Некалькі разнавіднасцяў паўпрэдыкатыўнай сувязі вылучае Л.І.Бурак (гл.: БУРАК 1987, 37).

Пры дапамозе п а я с н я л ь н а й сувязі са сказам звязваюцца адасобленыя члены, што ўдакладняюць або тлумачаць змест пэўных членаў сказа: *Яго хвалявала толькі адно – праца.*

П а р а ў н а л ь н а я сувязь служыць для ўключэння ў сказ параўнальных зваротаў: *Хмары белыя, як вата.*

З дапамогай д а л у ч а л ь н а й сувязі са сказам звязваюцца далучальныя канструкцыі: *Ён часта сумуе, дый моцна.*

І н т р а д у к ц ы й н а й (суадноснай) сувяззю звязваны са сказам звароткі, пабочныя і ўстаўныя канструкцыі: *Наташа,не сумуй; Тады, здавалася ёй, яна будзе шчаслівай; На двары стала холадна (нанач браўся мароз).*

Прыдаткі звязваюцца з паясняльным словам і выражаюць паўпрэдыкатыўныя адносіны з дапамогай а п л і к а ц ы й н а й: *Яны цэлымі днямі маглі збіраць ягады – дзеці лесу.*

У ліку непрэдыкатыўных падпарадкавальных сувязяў у сказе вылучаюць сувязь с в а б о д н а г а п р ы м ы к а н н я (гл.: СОВРЕМЕННЫЙ РУССКИЙ ЛИТЕРАТУРНЫЙ ЯЗЫК 1998, 63), хоць такія акалічнасці часам называюцца д э т э р м і н а н т а м і – членамі сказа, якія адносяцца да ўсяго сказа ў цэлым, а не да асобных яго частак (гл.: КРАТКАЯ РУССКАЯ ГРАММАТИКА 1989, 481, 482). *На наступны дзень прыйшоў ён на працу вельмі рана.*

Прэдыкатыўнасць выступае асноўнай прыкметай сказа як мінімальнай камунікацыйнай адзінкі. Частка даследчыкаў разумее пад прэдыкатыўнасцю – суадняселне зместу сказа з рэчаіснасцю і звязвае яе з сінтаксічнымі катэгорыямі мадальнасці, часу і асобы.

Іншыя даследчыкі ўключаюць у значэнне мадальнасці катэгорыю сінтаксічнага часу і выключаюць катэгорыю асобы (гл.: ШВЕДОВА 1966, 147; ГРАММАТИКА СОВРЕМЕННОГО РУССКОГО ЯЗЫКА 1970, 542).

Поўнае апісанне катэгорыі мадальнасці сучаснай беларускай мовы на аснове даследавання працэсаў канцэптуалізацыі, катэгарызацыі, прататыпічным прынцыпе структуравання мадальных адзінак з улікам прагматычных фактараў іх выкарыстання зроблена ў працы Н.Ю.Паўлоўскай (гл.: ПАЎЛОЎСКАЯ 2001).

### 9.1.3.2. ТЫПЫ СКАЗАЎ

#### 9.1.3.2.1. Тыпы сказаў па характары выражаных адносін да рэчаіснасці, па мэце выказвання і інтанацыйным афармленні

С ц в я р д ж а л ь н ы я сказы не маюць фармальных сродкаў выражэння сцвярджальнасці, калі не лічыць, што сама адсутнасць у структуры сказа адмоўных слоў і з'яўляецца такім фармальным сродкам. Напр.: *Белая завея ўгаманілася* (С.Кухараў); *Сыпаўся дробны і мерзлы снег* (К.Чорны).

А д м о ў н ы я сказы маюць у сваёй структуры адмоўныя словы, якія і з'яўляюцца фармальным сродкам выражэння катэгорыі адмоўнасці. Напр.: *Не не спіць, не дрэмле старажытны бор* (Я.Колас). *Не цэніце клопатаў людскіх вы ані-ні* (А.Бачыла); *І ў цябе нікога няма, апроч брата?* (К.Чорны).

Сказы з адмоўем пры выказніку ці пры іншым члене сказа пры наяўнасці проціпастаўлення некаторыя даследчыкі лічаць а д м о ў н а – с ц в я р д ж а л ь н ы м і, паколькі ў гэтых выпадках "член сказа з часціцай не выражае адмаўленне наяўнасці ў рэчаіснасці пэўнага дзеяння, прадмета ці прыкметы, а член сказа, які абазначае проціпастаўленае дзеянне, прадмет ці прыкмету, – сцвярджэнне наяўнасці

апошніх" (гл.: КУРС СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ 1959, 28). Сказы з адмоўем пры выказніку звычайна называюцца агульнаадмоўнымі, а сказы з адмоўем пры даданых членах сказа – часткова-адмоўнымі. Напр.: *Васіль не стрымаў усмешкі* (І.Шамякін); *Я слухаю твой сказ не новы* (У.Хадыка).

Апавядальным называецца сказ, у якім паведамляецца аб наяўнасці або адсутнасці чаго-небудзь як аб факце рэчаіснасці. Да іх адносяцца такім чынам сцвярджальныя і адмоўныя сказы. Інтанацыя гэтых сказаў характарызуецца невялікім павышэннем голасу на лагічна вылучаным слове, без рэзкіх парушэнняў роўнага цячэння маўлення. Напр.: *Ноч скончылася. Неба пабялела. Плыў дзень. У лагеры яшчэ не было ніякага гуку* (К.Чорны).

Пытальным называецца сказ, у якім выражаецца запытанне аб пэўнай з'яве рэчаіснасці. Ён звычайна патрабуе адказу на выказанае запытанне. Напр.: *"А вы, уласна кажучы, хто? Інжынер?"–"Не. Настаўніца. Агітатар"* (І.Шамякін).

Сказ, у якім выражаецца пабуджэнне да дзеяння называецца пабуджальным. Пабуджэнне можа быць накіравана да іншых асоб або да самой гаворачай асобы ў складзе групы асоб, у якую яна ўваходзіць. Напр.: *Нехта з хлопцаў пазнаў Андрэя і крыкнуў: "Андрэй, заходзь!"* (П.Пестрак); *Шпарчэй хадзем. У гарадку спыняцца не будзем* (К.Чорны).

Клічнымі называюцца сказы эмацыянальна афарбаванага маўлення, што вымаўляюцца з клічнай інтанацыяй. Ад таго, якія пачуцці перадаюцца ў сказе залежаць розныя значэнні клічнай інтанацыі. Параўн.: *Яшчэ гучыць у маім сэрцы твой шэпат, голас ціхіх мар. Вясна мая, юнацтва жар, у свет расчыненыя дзверцы!* (Я.Колас); *Хай славіцца век, чалавек, бязмежная веліч твая!* (П.Панчанка); *З рэпрадуктараў чуцен гадзінніка бой, голас сэрца – Масквы – звонкі і пераліўны... Слухай свет, словы непераможнага гімна!* (М.Танк); *А ў зале загуло: "Міколу слова даць!"* (А.Бачыла).

Паводле наяўнасці галоўных і даданых членаў вылучаюцца неразвітыя, няпоўныя, развітыя сказы.

Сказы, якія складаюцца толькі з галоўных членаў называюцца неразвітымі. Яны могуць быць як двухсастаўнымі, так і аднасастаўнымі. Напр.: *Набліжалася світанне* (П.Пестрак); *Ноч. У мроку нікнуць травы і кусты* (Я.Колас).

Няпоўнымі называюцца сказы з адсутнымі галоўнымі або даданымі членамі. Яны адрозніваюцца ад эліптычных канструкцый.

Развітымі звычайна называюць сказы, у якіх акрамя галоўных членаў ёсць даданыя члены. Напр.: *Ціхі, сонечны вераснёвы ранак* (П.Пестрак); *Над прасторамі аснежаных чаротаў гулялі віхуры* (там жа).

Паводле граматычнай структуры вылучаюцца простыя і складаныя сказы.

### 9.1.3.2.2. Просты сказ

Простымі называюцца сказы, якія маюць адну прэдыкатыўную аснову і выражаюць адну закончаную думку. Напр.: *У той дзень было ясна, сонечна* (К.Чорны).

Па наяўнасці аднаго ці двух галоўных членаў сказы падзяляюцца на аднасастаўныя і двухсастаўныя.

Аднасастаўныя сказы ў сваю чаргу падзяляюцца на дзейнікавыя і выказнікавыя паводле наяўнасці ў іх структуры дзейніка або выказніка.

Выказнікавыя падзяляюцца на:

а) п э ў н а - а с а б о в ы я, у якіх дзейнік адсутнічае, але на дзеючую асобу ўказвае граматычная форма выказніка-дзеяслова 1-й ці 2-й асобы. Напр.: *Дні вялікай сучаснасці, нашы бурныя дні! У праменнях, у яснасці, у святочным агні бачу вас, залацістыя, праз гады і вякі* (П.Глебка);

б) н я п э ў н а - а с а б о в ы я, у якіх дзейніка няма, а выказнік абазначае дзеянне няпэўнай асобы. Напр.: *Уранку старшага лейтэнанта Аляксея Лагуновіча... выклікалі ў штаб брыгады* (І.Мележ);

в) а г у л ь н а - а с а б о в ы я, у якіх дзейніка няма, а выказнік абазначае дзеянне, якое можа адносіцца да любой асобы. Напр.: *Лісты, лісты! Яны, як порах. Ад сэрца іх далей трымай* (М.Танк);

г) б е з а с а б о в ы я сказы, у якіх выказнік абазначае дзеянне (стан), не звязанае з якой-небудзь дзеючай асобай, таму дзейнік у іх адсутнічае. Напр.: *Хораша летам у лесе!* (І.Мележ); *Было ўжо за поўнач* (М.Лынькоў); *Ужо добра бралася на вячорні змрок* (К.Чорны);

д) і н ф і н і т ы ў н ы я сказы, у якіх дзейніка няма, а выказнік выражаны незалежным інфінітывам. Напр.: *"Ісці ці не ісці да паўстанка",– думалася Трацюку* (П.Кавалёў).

А д н а с а с т а ў н ы я д з е й н і к а в ы я сказы прадстаўлены разнастайнымі н а м і н а т ы ў н ы м і канструкцыямі, у якіх галоўны член выражаны формай назоўнікам назоўнага склону. Напр.: *Чэрвеньская спёка... Няспынная плынь машын, павозак* (І.Мележ).

Асобна вылучаюцца с л о в ы - с к а з ы: *"Сапёры павінны ўвайсці ў горад разам з першымі салдатамі". – "Зразумела..."* (І.Мележ).

Да а д н а с а с т а ў н ы х сказаў умоўна можна аднесці таксама некаторыя граматычна неаформленыя ў выглядзе сказаў адрэзкі мовы. Напр.: *Трэба было хутчэй ачысціць шлях на Мінск. Мінск... Чарняхоўскі папрасіў, каб яму паказалі даныя авіяразведкі* (І.Мележ).

### 9.1.3.2.2.1. Галоўныя члены сказа

Галоўныя члены сказа складаюць яго прэдыкатыўную аснову, знаходзяцца паміж сабой у прэдыкатыўнай сувязі.

Д з е й н і к у двухсастаўных сказах можа быць выражаны адным словам (назоўнікам, лічэбнікам, займеннікам, субстантываванымі формамі і інш.), а таксама сінтаксічна непадзельнымі спалучэннямі розных часцін мовы ў пэўных граматычных формах (лічэбнікаў з назоўнікамі, прыслоўяў з назоўнікамі і інш.). У адпаведнасці з гэтым вылучаюцца дзве асноўныя разнавіднасці дзейніка – п р о с т ы і с к л а д а н ы.

П р о с т ы д з е й н і к часта выражаецца назоўнікам і іншымі часцінамі мовы ў значэнні назоўніка. Напр.: *Сымон замёр, стаіў дыханне...* (Я.Колас); *Сёння гэтыя думкі-надзеі старой здаліся няспраўджаным сном* (П.Кавалёў); *Кругом абышоў ён сялібу сваю. Ніхто не азваўся* (М.Танк); *Дзесяць дзеліцца на два і пяць без астачы. Праз хвіліну вартавы прывёў затрыманых* (І.Шамякін); *Спачатку саскочыў з вежы Быстроў, за ім зараджаючы* (І.Мележ); *"Што загадаеце, таварыш "пяты"?" – пытаўся камандзір палка Сібірак* (І.Мележ); *Ля агню сядзелі трое* (Т.Хадкевіч); *У сяле ён* [танкіст] *лячыўся ў той час, калі нашы на ўсход адступалі* (А.Куляшоў); *Усе сціхлі... Многія ў гэтых словах адчулі як бы дакор сабе* (І.Мележ); *Трэба ісці, але куды? Гэта "куды" ўстала цяпер перад Пракопам з усёй вострасцю і ў поўнай велічы* (Я.Колас).

Просты дзейнік можа быць выражаны таксама неазначальнай формай дзеяслова. *Сядзець аднаму на хутары стала неўцярпёж* (Я.Колас).

Часам ролю дзейніка могуць выконваць розныя сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні:

а) колькасна-іменныя спалучэнні: *Чатыры чалавекі захварэла якраз у такую пару* (І.Мележ); *Тысячы салдат і афіцэраў ведалі яго асабіста* (І.Мележ); *Угары пырснула і павісла некалькі ракет* (І.Мележ);

б) словазлучэнні з неазначальна-колькаснымі назоўнікамі ў форме назоўнага склону (*група, гурт, маса, рад, частка, большасць, меншасць, рота, батальён і г.д.): Група хлапчукоў смела кружылася вакол шырокай палянкі* (І.Шамякін);

в) словазлучэнні, у якія ўваходзяць колькасны лічэбнік *адзін* у форме назоўнага склону і назоўнікі ці іншыя часціны мовы ў значэнні назоўніка, асабовыя займеннікі ў форме роднага склону множнага ліку. *Адзін з трактарыстаў – мой брат* (І.Шамякін).

В ы к а з н і к у двухсастаўных сказах можа быць выражаны адной формай дзеяслова, адным імем, спалучэннем імені са звязкай і іншымі спалучэннямі двух самастойных дзеясловаў ці самастойнага дзеяслова з прыметнікам і дзеепрыметнікам, а таксама сінтаксічна непадзельнымі і фразеалагічна ўстойлівымі словазлучэннямі. У адпаведнасці з гэтым адрозніваюцца тры асноўныя віды выказніка: п р о с т ы д з е я с л о ў н ы і п р о с т ы і м е н н ы, с а с т а ў н ы, с к л а д а н ы.

П р о с т ы выказнік можа быць выражаны дзеясловам у розных формах. *Адшумеў лістапад, адзвінелі дажджы, і зіма панагнала пякучых вятроў* (П.Панчанка); *Не шумі ж ты, вецер, у лістах вярбы* (П. Глебка); *Каб крыніцай зрабіцца я мог пад вярбой на шырокім полі, сэрца білася б без трывог, не змаўкала б яно ніколі* (Р.Няхай).

У с к л а д н е н ы дзеяслоўны выказнік выражаецца шляхам паўтарэння таго ж дзеяслова або далучэння сінанімічнага дзеяслова з мэтай узмацнення і дасягнення большай выразнасці мовы: *Едуць, едуць коннікі па полі* (П.Панчанка); *Скачуць-плачуць сухавеі* (З.Бядуля).

Выказнік, які складаецца з дзеяслоўнай звязкі (дапаможнага дзеяслова) і іменнай часткі называецца с а с т а ў н ы м і м е н н ы м: *Гэта і ёсць паўстанак* (П.Кавалёў); *Дзіця ёсць дзіця* (І.Шамякін).

У функцыі іменнай часткі састаўнога выказніка найчасцей выступаюць назоўнікі, прыметнікі і дзеепрыметнікі ў назоўным, творным, радзей у іншых склонах. *Да вайны Макушэнка быў дырэктарам суседняй сямігодкі* (І.Шамякін); *Дарога была роўная, сухая* (Я.Колас); *Стары хвойны лес быў высечаны* (К.Чорны).

С к л а д а н ы м называецца выказнік, выражаны двума паўназначнымі словамі. Па форме і значэнні вылучаецца некалькі асноўных разнавіднасцей складанага выказніка:

а) з асабовым дзеясловам, які мае значэнне пачатку, прадаўжэння або заканчэння дзеяння (*пачаць, стаць, пусціцца, кінуцца, прадаўжаць, працягваць, застацца, скончыць, перастаць, пакінуць* і г.д.), і неазначальнай формай дзеяслова: *Рыгор прысеў, разгарнуў кніжку і прыняўся чытаць* (Ц.Гартны);

б) з асабовай формай мадальных дзеясловаў са значэннем *жадання, намеру, магчымасці (немагчымасці), волевыяўлення* і г.д. і неазначальнай формай дзеяслова: *Лабановіч мусіў прызнацца, што такіх смачных грыбоў ён не еў ніколі* (Я.Колас);

в) са словамі *рад, гатоў, павінен, абавязан* і неазначальнай формай дзеяслова: *Я бачыць рад, што пачала ад коп зямля ўгінацца* (П.Панчанка);

г) з асабовым дзеясловам *бачыць, адчуваць* і пад. і прыметнікам, дзеепрыметнікам або займеннікам у форме вінавальнага або творнага склону: *А Грышку таго рудога бачыла раненага* (І.Мележ); *Клянецца ён пад сонцам мірным быць гэткім, як яны ў атацы* (П.Панчанка);

д) з асабовым дзеясловам руху, стану і прыметнікам ці дзеепрыметнікам, часам указальным або азначальным займеннікам, звычайна ў назоўным, радзей у творным склоне: *Дрэвы стаялі маўклівыя* (І.Мележ); *Сядзіць Даніла спахмурнелы з сваёй Марынкай за сталом* (Я.Колас); *Яна вярталася назад павесялеўшай* (І.Мележ).

### 9.1.3.2.2.2. Даданыя члены сказа

Даданыя члены сказа сінтаксічна залежаць ад галоўных (ці іншых даданых) і паясняюць, удакладняюць або дапаўняюць іх значэнне; яны служаць для выражэння непрэдыкатыўных адносін – атрыбутыўных (азначальных), аб'ектных (дапаўняльных) ці адвербіяльных (акалічнасных), у сувязі з чым падзяляюцца на азначэнні, дапаўненні і акалічнасці.

Д а п а ў н е н н е паясняе ў сказе слова са значэннем дзеяння ці прыкметы і звязваецца з паяснёным словам аб'ектнымі адносінамі, адказвае на пытанні ўскосных склонаў.

У функцыі дапаўнення могуць выступаць формы ўскосных склонаў назоўнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў, субстантываваныя формы, інфінітыў, непадзельныя спалучэнні слоў: *Стэфка глядзіць на хворага з жалем у вачах* (З.Бядуля); *У душы ён усё яшчэ на штосьці спадзяваўся, чагосьці чакаў* (І.Шамякін); *А прыгажэйшай з семярых назваць сапраўды не так лёгка* (Я.Колас); *Ад яго яна навучылася чытаць і пісаць і хутка пачала рабіць гэта нават лепш, чым ён* (І.Шамякін); *Цыпрук не даслухаў да канца яго "бывала"* (З.Бядуля); *Фартэп'яна выдае хрыплыя, дрыжучыя гукі, а гадзіннік урачыстым басавым тонам пачынае біць свае дванаццаць разоў* (З.Бядуля).

Дапаўненне звычайна адносіцца да дзеяслова, аднак яно можа адносіцца да назоўнікаў, прыметнікаў, прыслоўяў. Таму дапаўненні падзяляюцца на тры асноўныя групы: п р ы д з е я с л о ў н ы я, п р ы й м е н н ы я, п р ы а д в е р б і я л ь н ы я.

А з н а ч э н н е паясняе ў сказе слова з прадметным значэннем і абазначае прыкмету, якасць ці ўласцівасць прадмета.

Д а п а с а в а н ы я а з н а ч э н н і выражаюць якасць, прыкмету без дадатковых адценняў. Яны знаходзяцца ў поўнай граматычнай залежнасці ад назоўніка ці субстантываванага слова: *Моцна трэснула сухая галінка, і зашасталі хваёвыя лапкі* (К.Крапіва).

Дапасаваныя азначэнні звычайна выражаюцца прыметнікамі, займеннікамі, лічэбнікамі, дзеепрыметнікамі: *Разложыстых дубоў шырокі шчыт маўклівасцю трывожна апавіт...* (Я.Колас); *А тут якраз наплыла нізкая хмара, паваліў густы пушысты снег* (А.Бялевіч); *І табе, пясняр, зносяць песень дар твае вольныя ўнукі і дзеці* (Я.Колас); *Санкі нясуць удаль гэтых чацвярых людзей* (З.Бядуля); *Паднятыя і ачышчаныя баравікі шчаслівы грыбнік клаў на чыстае месца ў кучу* (Я.Колас).

Н е д а п а с а в а н ы я а з н а ч э н н і не прыпадабняюцца да форм азначаемага слова, а знаходзяцца з ім у граматычнай сувязі кіравання або прымыкання. Яны выражаюць якасць, прыкмету прадметаў з дадатковымі акалічнаснымі ці дапаўняльнымі адценнямі.

У функцыі недапасаваных азначэнняў выступаюць назоўнікі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі або без прыназоўнікаў, інфінітыў, прыслоўе і дзеепрыслоўе: *Да яго падыходзілі прысядзібныя землі калгаснікаў* (Я.Колас); *Малады настаўнік з прыветлівым тварам і вясёлым, добрым смехам адразу спадабаўся Міхасю* (Я.Колас); *За гэткія свае здольнасці збіраць і разносіць навіны яго ў вёсцы празвалі Поштай* (К.Крапіва); *На вуліцы тарахцелі калёсы, даносіліся паасобныя крыкі папольску* (П.Пестрак).

П р ы д а т а к як асобны від азначэння звычайна выражаецца назоўнікам або іншай субстантываванай часцінай мовы і дапасуецца да азначаемага слова ў форме склону: *Пуста ў хатцы, ніхто ў ёй не жыве, пакінулі яе людзі, а ў прыбудоўцысенцах гаспадарыць адзін толькі неспакойны вецер* (Я.Колас).

У функцыі прыдатка можа выступаць адзін назоўнік або спалучэнне назоўнікаў. Асобна вылучаюцца р а з в і т ы я п р ы д а т к і, якія маюць пры сабе азначэнне: *Жаўранкі, вясёлыя і нястомныя песняры поля, плавалі ў затуманеным гарачынёй паветры* (Э.Самуйлёнак).

А к а л і ч н а с ц і часцей за ўсё звязаны ў сказе з дзеясловам, радзей – з прыметнікам, прыслоўем, назоўнікам і безасабова-прэдыкатыўнымі словамі. Акалічнасці выражаюцца звычайна прыслоўямі і дзеепрыслоўямі: *Іван заўсёды чытае гэты ліст, чытае паціху ўголас, каб чуў і сусед* (М.Лынькоў); *Хлопцы беглі без аглядкі, часта спатыкаючыся і падаючы* (Э.Самуйлёнак).

У залежнасці ад таго, на якія прыкметы дзеяння або стану ўказваюць акалічнасці, яны падзяляюцца на акалічнасці м е с ц а, ч а с у, с п о с а б у д з е я н н я, м е р ы, с т у п е н і, п р ы ч ы н ы, м э т ы, у м о в ы: *Супраць скверыка хлапчукі падбіраюць патроны* (З.Бядуля); *Жыў калісьці ў маёнтку нашым пан* (М.Лынькоў); *Як хітра, мудра збудавана! Як чыста, хораша прыбрана!* (Я.Колас); *Цэлыя ночы сядзеў пан у сваім пакоі* (М.Лынькоў); *Родная ўсмешка гэтая кранула маці да слёз* (І.Шамякін); *Ад такіх пераліванняў з пустога ў парожняе ён заўсёды ўваходзіў у цяжкі настрой* (З.Бядуля); *І пайшлі грамадой беднякі-парабкі ў бары, у лясы радзіць рады* (З.Бядуля); *Я цяпер зусім упэўнены, што, будучы інжынерам, я буду адчуваць сябе на сваім месцы* (К.Чорны).

#### 9.1.3.2.2.3. Аднародныя члены сказа

А д н а р о д н ы м і называюцца два або некалькі членаў сказа, якія выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю, адносяцца да аднаго і таго ж слова ці словазлучэння і характарызуюцца інтанацыяй пералічэння.

Аднароднымі могуць быць:

дзейнікі: *Белы пух атрэслі з шапак хвойнікі, ляскі* (Я.Колас); *Першыя замаразкі ды калючы паўночны сівер сведчылі аб набліжэнні недалёкай зімы* (А.Якімовіч); *І лісце і травы ад росаў зардзелі* (Я.Купала);

выказнікі: *На калгасным полі жыта красавала, кланялася ветру, колас налівала* (А.Русак); *Марознае ранне звініць па вуглах, ружовіць на сіверы шчокі* (А.Звонак); *Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах або лянівa аглядалі лагчыны* (Я.Колас);

азначэнні: *На дне пясочак жоўты, чысты, вадою згладжаны, зярністы* (Я.Колас); *Над полем хадзілі мяккія і халаднаватыя веснавыя хмары* (П.Галавач); *Вецер свежы і салёны на гальку кідае шалёна грамады пеннае вады* (А.Звонак);

дапаўненні: *Кандрат Назарэўскі аніяк не аддаваў увагі ні сонцу, ні цішыні на полі і ў лесе* (К.Чорны); *Я малым хлапчуком палюбіў твае пушчы і нівы, і блакітныя рэкі,*

*і мора зялёных лугоў* (П.Панчанка); *На бітву грозную ішоў народ за шчасце, за зямлю, за долю* (Р.Няхай);

акалічнасці: *Да ракі са смехам і крыкам бягуць ад сяла хлапчукі* (А.Куляшоў); *На шэрую прамёрзлую зямлю бязгучна і густа сыплецца першы снег* (Я.Брыль); *Удваіх нам з табой па жыцці гэтак добра і лёгка ісці* (А.Астрэйка).

Па аб'ёму аднародныя члены сказа могуць выражацца як асобнымі словамі, так і словазлучэннямі: *Пракламацыі закраналі галоўным чынам трох кітоў самаўладства: цара, духавенства і землеўласнікаў* (Я.Колас); *Пакрычыць* [Янка] *на жонку, на каня, на курэй, дык, здаецца, і лягчэй зробіцца* (К.Крапіва); *Маладому свайму пакаленню ён* [гісторык] *апіша з палётам арліным, як бліскотна з бетону, з камення, з цэглы, з сталі, з жалеза, ў праменнях тут за гмахам рос гмах на руінах* (Я.Купала); *Мы, горды роднаю зямлёю, разумнай працай смелых рук, народаў добраю сям'ёю, вялікай моваю сваёю, святым і правым імем – друг* (М.Лужанін); *Праз шырокую дарогу, праз зялёную дуброву, праз жытнёвыя палі па арэхі мы пайшлі* (Н.Тарас).

У адным радзе аднародных членаў могуць ужывацца і словы, і словазлучэнні: *Пад раніцу Аляксей і двое танкістаў былі ў горадзе* (І.Новікаў); *Лес наступаў і расступаўся, лужком зялёным разрываўся* (Я.Колас).

Нельга ставіць у адзін рад аднародных членаў асобныя словы (ці словазлучэнні) і даданыя сказы: *Экскурсанты цікавіліся гісторыяй экспанатаў і якія ёсць спосабы рэстаўрацыі.* Першы з аднародных членаў у гэтым сказе выражаны словазлучэннем *(гісторыяй экспанатаў)*, другі – даданым сказам *(якія ёсць спосабы рэстаўрацыі).* Правільна было б напісаць: *Экскурсанты цікавіліся гісторыяй экспанатаў і спосабамі рэстаўрацыі.*

У адзін рад аднародных членаў нельга таксама ўключаць дзеепрыметныя, дзеепрыслоўныя словазлучэнні і даданыя сказы: *На стале ляжала папка з двума ўмяшчальнымі аддзеламі і з якой ён заўсёды хадзіў на працу.* Правільна было б напісаць: *На стале ляжала папка з двума ўмяшчальнымі аддзеламі, з якой ён заўсёды хадзіў на працу.* Пры такім напісанні даданы азначальны сказ *(з якой ён заўсёды хадзіў на працу)* не ставіцца ў адзін рад з даданым членам сказа азначэннем *(з двума ўмяшчальнымі аддзеламі).*

У сказе можа быць некалькі груп аднародных членаў, звязаных з рознымі словамі і маючых розныя сінтаксічныя функцыі: *Станем, пастаім, запомнім і маскоўскі гул бясконцы, і міг сустрэчы светлы, дарагі, і родныя – пад ціхім зімнім сонцам па-над Крамлём – чырвоныя сцягі.* Тут аб'яднаны тры групы аднародных членаў сказа: выказнікі *(станем, пастаім, запомнім)*, дапаўненні з паясняльнымі словамі *(гул, міг, сцягі)*, азначэнні *(светлы, дарагі).*

З а ў в а г а. Аднароднымі членамі сказа не з'яўляюцца:

1. Словы, якія паўтараюцца ў мэтах узмацнення і стаяць побач: *У ніцай лазе крычаў і крычаў драч* (І.Пташнікаў); *А Пракопавы думкі ідуць ды ідуць* (Я.Колас); *Не хадзі, сынок, у двор, не хадзі, лепш у тую старонку не глядзі* (М.Танк).

2. Словы, якія цесна звязаны паміж сабой па сэнсу і сінтаксічна (з'яўляюцца адным членам сказа) і не вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння: *Маланка асвяціла хмары з верху і да нізу* (Т.Хадкевіч); *Ад мяжы і да мяжы ветрык конікам бяжыць* (З.Бядуля). У прыведзеных прыкладах сінтаксічна і семантычна непадзельныя словазлучэнні *(з верху і да нізу, ад мяжы і да мяжы)* выконваюць у сказе агульную сінтаксічную функцыю акалічнасці.

3. Сінанімічныя спалучэнні слоў з дэфісным напісаннем: *Пачала Алена думаць-меркаваць. Вынікам такога думання-меркавання было яе пісьмо да пана Зыгмуся* (Я.Колас); *У сказах-былінах, у думах народа жыве Руставелі* (Я.Колас).

Па граматычных асаблівасцях аднародныя члены сказа ў большасці выпадкаў з'яўляюцца аднолькавымі часцінамі мовы, але часам яны могуць выражацца і рознымі часцінамі мовы: *Напрасцяк, цераз поле, я пайшоў да школы і яшчэ здалёк пачуў голас настаўніцы і хор дзяцей* (І.Шамякін); *Ядвіся была вясёлая і ў добрым настроі. Кузьма Аркадзьевіч працаваў не спяшаючыся, без лішняй мітусні* (І.Гурскі); *Замак быў двухпавярховы, з сутарэннямі* (У.Караткевіч).

З а ў в а г а. Не спалучаюцца ў якасці аднародных членаў інфінітыў і назоўнік: *Ён любіў паляванне і рыбаліць.*

Аднолькавыя часціны мовы ў функцыі аднародных членаў сказа часам могуць ужывацца ў розных граматычных формах: *На палях і над лясамі ззяе пагодлівы сонечны дзень* (П.Пестрак); *У вагоне ехалі салдаты, некалькі афіцэраў* (П.Галавач). Аднак пры гэтым яны павінны задавальняць асноўным патрабаванням да аднародных членаў – выражаць адну і тую ж сінтаксічную катэгорыю (у прыведзеным прыкладзе – дзейнік) і адказваць на адно пытанне. Калі ж члены сказа, якія павінны быць аднароднымі, пастаўлены ў розных граматычных формах і адказваюць на розныя пытанні, то сувязь паміж імі парушаецца: *На сходзе абмяркоўваліся такія пытанні, як пасяховасць, дысцыпліна, аб удзеле ў грамадскім і культурным жыцці інстытута.* Трэці аднародны член у гэтым сказе выражаны назоўнікам у форме меснага склону і адказвае на пытанне *аб чым?,* у той час як два першыя – назоўнікамі ў форме вінавальнага склону і адказваюць на пытанне *што?* Сказ пабудаваны няправільна. У стылістычна правільным варыянце аднародныя члены павінны адказваць на адно пытанне: *На сходзе абмяркоўваліся такія пытанні, як пасяховасць, дысцыпліна, удзел у грамадскім і культурным жыцці інстытута.*

Па характару лагічных сувязяў аднародныя члены сказа павінны адпавядаць двум асноўным правілам класіфікацыі або сістэматызацыі прадметаў, з'яў, прыкмет:

1) характарызаваць прадмет, з'яву, асобу па адной агульнай прыкмеце (па колеру, паходжанню, роду заняткаў і г.д.), г.зн. мець агульную лагічную аснову. Так, у сказе *Ліда – вясёлая па натуры і любіць смяяцца* (А.Кулакоўскі) аднародныя члены хоць і выражаны рознымі часцінамі мовы (прыметнік і дзеяслоў з залежнымі словамі), аднак характарызуюць асобу па агульнай прыкмеце – асаблівасці характару. Уключэнне ў гэты рад такіх азначэнняў, якія характарызуюць асобу па паходжанню, роду заняткаў, не адпавядала б характару лагічных сувязяў паміж аднароднымі членамі. У сказе *Да парку прымыкаў вялікі пладовы сад* (М.Лынькоў) азначэнні *вялікі* і *пладовы* не з'яўляюцца аднароднымі. Першае характарызуе прадмет па аб'ёму, другое – па віду;

2) члены дзялення, выражанага аднароднымі членамі сказа, павінны ўзаемна выключацца. Парушэнне гэтага правіла вядзе да ўтварэння сінтаксічна і стылістычна няправільных канструкцый. Так, у сказе *У небе кружылі птушкі і буслы* словы *птушкі* і *буслы* не выключаюць адно аднаго, таму што *буслы* – паняцце відавое ў адносінах да родавага паняцця, выражанага словам *птушкі.*

З а ў в а г а. Шырока распаўсюджаныя ў друку парныя словазлучэнні *камсамольцы і моладзь, піянеры і школьнікі, моладзь і студэнты* (у выразе *фестываль моладзі і студэнтаў)* у выніку частага ўжывання ў публіцыстычных тэкстах сталі ўстойлівымі зваротамі і ўспрымаюцца як адзінае цэлае, хоць фармальна яны і не адпавядаюць асноўным лагічным патрабаванням да адна-

родных членаў. Так, у пералічэннях *камсамольцы і моладзь, моладзь і студэнты* няма агульнай асновы дзялення (*моладзь* – па ўзросту, а *камсамольцы, студэнты* адпаведна па прыналежнасці да грамадскай арганізацыі, па роду заняткаў), словы *піянеры* і *школьнікі* часткова супадаюць (усе *піянеры* – школьнікі).

Аднародныя члены сказа злучаюцца паміж сабой злучнікамі, бяззлучнікавым спосабам (інтанацыяй пералічэння) або камбінаванай сувяззю (злучнікавай і бяззлучнікавай): *Даўгая і трудная хада без дарог па лесе прытаміла дзеда Талаша* (Я.Колас); *Вецер гнаў з сасонніку гарачы водар смалы і змешваў яго з хмельным пахам паспелай збажыны* (І.Шамякін); *Вядуцца ў пушчы куніца, выдра, тхор, гарнастай, ласка, ліс* (В.Вольскі); *Пасябравала лета з вятрамі, цеплынёй, ірдзеннем зыркіх кветак, вясёлай сінявой, з дажджамі праліўнымі, туманамі, расой, жытамі наліўнымі, гамонкаю лясоў...* (М.Калачынскі); *Нам пакараюцца мора і рэкі, горы і нетры зямлі* (Я.Колас); *Мы будзем купацца, гуляць, загараць і дружна вясёлыя песні спяваць* (П.Броўка).

У некаторых выпадках члены сказа ўжываюцца ў спалучэнні са словамі, якія паўтараюцца перад некалькімі або перад усімі аднароднымі членамі. Такія словы служаць для ўзмацнення, падкрэслівання тых членаў сказа, перад якімі яны ўжываюцца: *Сярод таварышаў Сцёпка выдзяляўся сваёю стараннасцю ў навуцы, сваёю сталасцю і сур'ёзнасцю* (Я.Колас); *І ўсе думкі іх, усе гутаркі, усе надзеі, усе жаданні былі пераплецены з разуменнямі – хлеб, зямля, праца, падаткі* (П.Галавач).

Аднародныя члены часам могуць раздзяляцца іншымі членамі сказа: *Мы шчасцем, воляю багатыя і працаю сваёй* (А.Астрэйка).

Паміж аднароднымі членамі сказа могуць выражацца спалучальныя, супраціўныя, раздзяляльныя, супастаўляльныя і ўступальныя адносіны, для чаго ўжываюцца адпаведныя злучнікі:

спалучальныя: *і, ды* (у значэнні *і), ні – ні, таксама* (часта ў спалучэнні са злучнікамі *і, а): Рослыя ліпы і клёны цягнуцца ўгору ля вокак* (М.Калачынскі); *Бярозы ды алешыны з усіх бакоў акружалі возера* (Я.Маўр); *Не шкадуй ні сіл, ні часу, І папрацуй, юнача, дбала* (П.Панчанка); *Гэта быў светлы і таксама прасторны пакой* (Я.Колас);

супраціўныя: *але, а, аднак, затое, ды* (у значэнні *але): Асадчы быў стомлены, але вясёлы* (І.Гурскі); *Патрэбны жывыя людзі, а не порах* (К.Чорны); *Сонца толькі што ўзышло, аднак прыгравала ўжо даволі горача* (Э.Самуйлёнак); *Глухі не чуе, затое бачыць, як арол* (А.Якімовіч); *Свеціць, ды не грэе* (Прыказка);

раздзяляльныя: *ці, ці(то) – ці, або, або – або, то – то, ці то – ці то, ні то – ні то, не то – не то: Шумелі бярозы на гром ці на вецер* (М.Лужанін); *Ці то сініца, ці якая другая птушка пераляцела цераз дарогу і звонка зацілікала* (М.Лынькоў); *Малашкін прыходзіў на кватэру абедаць у тры або ў чатыры гадзіны* (П.Пестрак); *Зімой забіраўся на печ і або спаў, або над нечым упарта думаў* (М.Лупсякоў); *Маці здзіўлена глядзела то на Алёшку, то на мужчын* (А.Якімовіч); *Ці то ад жадання развеяць набегшы смутак у сяброўкі, ці то ад агульнага настрою, навеянага гэтым палявым бязмежжам, Васіліна павесялела* (Т.Хадкевіч); *Ні то ён спалохаўся Макара, ні то адчуў, што не варта гаварыць з ім* (К.Чорны); *Пануры голас з цемры не то гаворыць, не то марыць* (М.Лынькоў).

Пры аднародных членах сказа могуць ужывацца двайныя супастаўляльныя злучнікі (часта з уступальным або абмежавальным адценнем): *як – так і, не толькі – і, хоць і – але, хоць – ды, хоць – але, не столькі – колькі, калі не – то (дык), як – дык* і інш. Першая частка такіх злучнікаў ставіцца перад першым аднародным

членам, а другая – перад другім: *Палікарпаўна вяла на ўчастак не толькі сваіх махорачніц, а і яшчэ некаторых жанчын з брыгады* (А.Кулакоўскі); *Хоць і стомлены быў дзед Талаш, але заснуў не адразу* (Я.Колас); *Як дзень, так і ноч ідуць паязды ды ідуць* (А.Якімовіч); *Аграном пабываў калі не ва ўсіх, то ў шасці калгасах* (З газет).

Часам пры аднародных членах ужываецца няпарны злучнік *хоць (хаця),* які выражае ўступальнае значэнне: *Яго падтрымалі дружнымі, хоць і няроўнымі галасамі* (У.Шахавец); *Біяграфію сваю ён* [Міхаська] *расказаў хутка: яна ў яго была кароткай, хоць і даволі характэрнай* (А.Кулакоўскі).

Калі да пералічаных у сказе аднародных членаў сказа далучаюцца іншыя аднародныя члены, якія дапаўняюць, удакладняюць папярэднія аднародныя члены, то яны звязваюцца з дапамогай далучальных злучнікаў *і, ды, а, прычым, таксама.* Такія аднародныя члены сказа называюцца далучальнымі: *І броўны ў сценах вельмі ладны: шырокі, роўны, без прыточак, і жоўценькі, як той жаўточак* (Я.Колас); *Вірчэўскі прыехаў у "Новы свет" забраць трактар, а заадно і малатарню, якую неабходна было перагнаць у калгас "Барацьбіт"* (Т.Хадкевіч); *Чалавек ён добры, пакладзісты, прычым настойлівы* (І.Мележ).

Калі аднародныя члены патрабуюць аднолькавых прыназоўнікаў, то неабходнасць паўтарэння іх перад кожным аднародным членам залежыць ад аб'ёму і колькасці аднародных членаў. Калі аднародныя члены развітыя і іх рад доўгі, то прыназоўнік неабходна паўтараць: *Цябе акрыляе адвагай песня пра подзвіг "Варага", пра сэрца Лазо, пра віхуры, пра грукат гармат на Амуры* (К.Кірэенка); *Акрамя гэтых пакутлівых пытанняў, была яшчэ злосць на самога сябе за сваю нястрыманасць, за тое, што раскрычаўся* (І.Шамякін); *Гэты твар з вострым абцягнутым падбародкам, з жоўтым касцістым носам, з ямкамі на шчоках, з цёмнымі ценямі пад запалымі вачыма, з глыбокімі рысамі маршчын – ні ў чым не нагадваў Міхаіла Танарджыя* (Э.Самуйлёнак).

Незалежна ад аб'ёму і колькасці аднародных членаў паўтараюцца прыназоўнікі з мэтай асаблівага падкрэслівання значэння таго, што выражае кожны з аднародных членаў: *Дзеда непакоіла думка аб доме, аб Панасе* (Я.Колас); *Ён вельмі многа думае аб Скіп'ёўскім Пераброддзі, аб Ганне і аб бацьку, аб Скіп'ёўскім лесе і аб усім, што ў гэтым баку робіцца* (К.Чорны); *А той глядзіць на іх з прыветнай мінай, з усмешкай ціхай, з цеплынёй* (Я.Колас); *Як жа хораша з сябрамі песні пець Алёнцы шчаснай пра зямлю сваю: з барамі, з лугамі, з полем, з небам ясным* (К.Кірэенка).

Абавязковым з'яўляецца паўтарэнне прыназоўнікаў пры аднародных членах, звязаных паўторнымі або двайнымі злучнікамі, а таксама адзіночнымі супраціўнымі, уступальнымі і далучальнымі злучнікамі: *Людзі – або ў дварах пад павецямі, або ў хатах* (П.Галавач); *Так заўсёды рабілася на вуліцы, калі ці то ў пахмурны, ці то ў сонечны дзень раздавалася паблізу тая песня* (М.Лынькоў); *У Адама былі галіфэ і з чырвоным, і з зялёным, і з сінім кантам* (К.Чорны); *Тое было і з пасекай, і з канавамі на балоце, як капалі, і з вялікай сажалкай за садамі, у якой разводзілі пасля карпаў, і з лядамі ў лесе, на якіх вырошчвалі потым добрае проса* (М.Лынькоў); *Адзін з такіх сходаў стаў знамянальным не толькі для мінчан, але і для ўсяго завода* (А.Кулакоўскі); *Народ не пра вайну гамоніць, а пра дом* (П.Глебка); *Не за цяжкую работу, не за вечную турботу, а за іншы, горшы здзек слязьмі плакаў чалавек* (З.Бядуля).

Калі рад аднародных членаў змяшчае некалькі семантычна аб'яднаных груп, то прыназоўнік паўтараецца пры кожнай групе і служыць фармальным паказчыкам такіх груп.

Неабходнасць паўтарэння прыназоўнікаў залежыць таксама ад ступені сэнсавай сувязі аднародных членаў сказа. Калі ў якасці аднародных выступаюць сэнсава далёкія словы ці словазлучэнні, то паўтарэнне прыназоўніка перад кожным з такіх аднародных членаў з'яўляецца абавязковым: *Мікуцічане – народ грамадскі, любіць пагутарыць аб розных рознасцях: аб замежнай палітыцы, аб вайне, аб заработках, аб цяжкасцях жыцця, аб тым, што нешта на свеце робіцца і нешта гатуецца і што павінна адбыцца, бо далей так жыць нельга* (Я.Колас).

Абавязковым з'яўляецца паўтарэнне пры аднародных членах розных злучнікаў: *Людзі заўсёды чым-небудзь былі заняты: уранку і ўвечары, летам і зімою, у хаце і на двары, у полі, на балоце, у лесе...* (І.Мележ).

Часта прыназоўнікі паўтараюцца перад парамі аднародных членаў, звязваючы іх і часткова выконваючы пры гэтым функцыі злучнікаў: *За поплавам былі дзве вуліцы новых хат і дамкоў з жоўтымі шуфлядамі і шалёўкай вокан, з кветкамі ад вуліцы і вяндлярнямі на агародах* (К.Чорны); *Праходзяць дні, ідуць сваёй чарадою зімы і леты з іх халадамі і спякотамі, з іх бурамі і навальніцамі* (Я.Колас); *Тыя гады прымусілі нас змалку прывучацца да плуга і касы, да пілы і сякеры, да гэбля і долата, да малатка і кавадла* (К.Чорны); *Яны ў хаце, сенцах, прызбах стоячы падглядаюць у акно* (П.Галавач). У апошнім сказе апушчэнне прыназоўнікаў *на, у* перад аднароднымі членамі недапушчальнае, а пабудаваная такім чынам канструкцыя няправільная, паколькі парушаюцца правілы дзеяслоўнага прыназоўнікавага кіравання: **Людзі былі заняты ў хаце, двары, полі, балоце, лесе.*

Калі не ставіцца мэта асабліва падкрэсліць пералічаемае ў аднародных членах, то пры неразвітых блізкіх па сэнсу аднародных членах, звязаных бяззлучнікавай сувяззю або адзіночнымі спалучальнымі злучнікамі, аднолькавыя прыназоўнікі не паўтараюцца: *Дарожны, рэпертуар складаецца з польскіх, беларускіх, рускіх, украінскіх песень* (Я.Брыль); *Зямля маёй цудоўнай Магілёўшчыны, ты ўся з красы і радасці саткана* (К.Кірэенка); *Перад народам і Радзімай клятвай вернай, нерушымай паклянуся я* (Я.Колас); *З шумам і гамам раскладалі начлежнікі агонь* (Я.Колас). У складзе вельмі доўгага рада аднародных членаў прыназоўнік можа паўтарыцца адзін раз з мэтай узмацніць сувязь аднародных членаў. Пры гэтым прыназоўнік часткова выконвае функцыю злучніка: *Пасябравала лета з вятрамі, цеплынёй, ірдзеннем зыркіх кветак, вясёлай сінявой, з дажджамі праліўнымі, туманамі, расой, жытамі наліўнымі, гамонкаю лясоў* (М.Калачынскі).

Нельга паўтараць прыназоўнік пры аднародных членах, калі першы аднародны член уключае ў свой склад слова (або некалькі слоў), агульнае для ўсіх аднародных членаў: *Клумбы, і газоны, і ўтрыманыя ў парадку дрэвы сведчылі аб яго дбайнасці і ўмельстве* (Э.Самуйлёнак). У прыведзеным сказе прыназоўнік *аб* не паўтараецца.

Не паўтараюцца таксама прыназоўнікі пры аднародных дапасаваных азначэннях, якія адносяцца ў сказе да ўскосных дапаўненняў або да акалічнасцей: *І паціху вецер сіні на празрысты, лёгкі насціл залаты гарох рассыпаў трапяткіх, нямых узор'яў* (П.Панчанка); *Хата была зроблена з тоўстых, чыста пагабляваных, роўных бярвенняў* (І.Шамякін); *Падняўшы капот, ён заглянуў у цёплы, супакоены матор, пасля паволі абышоў машыну* (Я.Брыль). У прыведзеных сказах паўтарэнне прыназоўнікаў *на, з, у* пры аднародных азначэннях немагчыма.

Калі азначаемае аднароднымі азначэннямі ўскоснае дапаўненне стаіць перад гэтымі азначэннямі, то прыназоўнік ставіцца толькі пры дапаўненні і не паўтараецца пры аднародных членах: *Алёша аж уздыхнуў ад паўнаты жыцця, вялікай, бескарыснай* (М.Лынькоў); *Машыны, напоўненыя мяшкамі з зернем, буйным і цяжкім, накіраваліся ў горад* ("Чырвоная змена", 1982). У прыведзеных прыкладах

прыназоўнікі *ад, з* стаяць перад ускоснымі дапаўненнямі *паўнаты, зернем* і пры залежных ад іх аднародных азначэннях паўтарацца не могуць.

### 9.1.3.2.2.3.1. Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа

Коскамі раздзяляюцца аднародныя члены, звязаныя:

без злучнікаў: За *гарамі, за даламі, у балотах пустынных паўставала, вырастала новая краіна* (Я.Купала); *Крылатая машына сарвалася з месца, памчалася па полі, з гулам пайшла ўгару* (Э.Самуйлёнак); *Шаройка быў у новай ватоўцы, у баранняй шапцы, з бярданкай за плячыма* (І.Шамякін);

двайнымі злучнікамі: *Хоць і стомлены быў дзед Талаш, але заснуў не адразу* (Я.Колас); *Як партызанам, так і падпольшчыкам трэба асабліва пільнавацца дысцыпліны* (М.Лынькоў); *Усё гэта не толькі не задавальняла Андрэя, а нараджала новыя пытанні* (П.Галавач);

паўторнымі спалучальнымі злучнікамі або пералічальна-размеркавальнымі: *Хапала затое клопатаў цётцы Ганне. Але гэта ўжо ў яе характары жаночым: і павесяліць, і паспачувае, і з чалавекам аб усім пагаворыць, і распытае часам, а што да чаго* (М.Лынькоў); *Адзін толькі штаб, ды разведка, ды Толя Клімёнак ведаюць пра новую блакаду* (Я.Брыль); *Гвіція то майстраваў у пограбе, то складаў перамытыя бочкі пад павець, то знікаў некуды па справах* (Э.Самуйлёнак); *Ці брыдзеш цэлы дзень па снезе, ці сядзіш за сталом, – усюды адны толькі думкі, адно і на сэрцы* (Я.Брыль);

адзіночнымі супраціўнымі, уступальнымі і далучальнымі злучнікамі: *Чорны мак, ды смачны, белая рэдзька, ды горкая* (Прыказка); *Я прыпамінаю пакоі, але пазнаю іх не адразу* (П.Галавач); *У хату, грукнуўшы дзвярамі, не ўваходзіць, а ўскоквае дзяўчына* (М.Лынькоў); *"Крэпкі народ, хоць і жыве ў балотах", – падумаў Лабановіч* (Я.Колас); *Ён* [Даніла Платонавіч] *хадзіў яшчэ шпарка і ўпэўнена, хоць і абапіраўся на кій* (І.Шамякін); *Спазніліся мы, хоць і вельмі застаць іх хацелі* (А.Куляшоў); *Флейтавы голас івалгі часам прыпынялі сваім серабрыстым звонам берасцянкі, а то і салаўі* (І.Новікаў); *Пабачыш свайго Марку, дык скажы яму, няхай не туляецца адзін, а ідзе да нас ды людзей з сабой няхай кліча* (Я.Колас);

злучальнымі словамі, якія выражаюць паслядоўнасць: *Сымоніха ўхапілася парадкаваць хату, потым пабегла даглядаць сваю лысую* (М.Лынькоў); *Сакольны прыслухаўся, потым падняў галаву* (А.Кулакоўскі); *Разам з другімі пастаяў ён каля парога, пасля падышоў у куток і сеў на пустое месца* (К.Чорны).

Пры групе аднародных членаў сказа могуць ужывацца абагульняльныя словы, якія звычайна выконваюць такую ж сінтаксічную функцыю ў сказе і належаць да той жа семантычнай групы, што і аднародныя члены сказа, але маюць больш шырокае значэнне, якое адносіцца да значэння аднародных членаў сказа як род к віду або цэлае к частцы: *Дзіця ўбачыла новыя мясціны: зялёны хвойнік, шэрае поле* (К.Чорны); *Сады і поле – усё маўчыць* (А.Астрэйка).

У функцыі абагульняльных слоў могуць выступаць:

займеннікі (звычайна займеннік *усё): Усё наўкола – і сцены, і дзеці, і дошка чорная, і настаўнік – усё расло і расплывалася ўшыркі, і захапляла сабой яе* (П.Галавач).

Абагульняльнае слова займеннік *усё* часам ужываецца ў спалучэнні са словам *гэта: Светлыя, высокія дамы, на сценах якіх стараннымі рукамі будаўнікоў вылеплены белыя галубы міру, два рады маладых ліп, мноства кветак перад*

*дамамі, гладкі асфальт плошчы – усё гэта стварала настрой задавальнення і святочнасці* (П.Броўка);

прыслоўі (прыслоўе *усюды* і інш.): *Вясна, кажуць, прыгожая ўсюды: і ў полі, і ў лесе, і ў горадзе* (Я.Брыль); *У хаце прыбрана па-местачковаму: сціпла, проста, скупавата* (П.Пестрак); *Людзі заўсёды чым-небудзь былі заняты: уранку і ўвечары, летам і зімою, у хаце, на двары, у полі, на балоце, у лесе* (І.Мележ).

З а ў в а г а. Пры абагульняльных словах – займенніку *усё* і прыслоўях *усюды* і інш., якія могуць паўтарацца з мэтай узмацнення, часам ужываюцца словы *літаральна, абсалютна* і пад., якія служаць для пацвярджэння выказанай думкі: *Далікатнасць, сардэчнасць адносін, найтанчэйшыя перажыванні, чарадзейная сіла кахання, захапленне прыгажосцю прыроды, пачуцці адданасці і любові да Радзімы – усё, што на першы погляд немагчыма вызначыць і выказаць словамі, літаральна ўсё знайшло і знаходзіць сваё выяўленне ў слове, у вобразе, у паэзіі, у мастацтве* (В.Вітка);

назоўнікі: *На поўдзень – лес – алешнік і дубняк – усё далей і далей адыходзіў ад ракі* (І.Шамякін); *У вагоне было дастаўлена першае прыладдзе: маторная лодка, лесапільны інструмент, рыдлёўкі* (К.Чорны);

дзеясловы: *Вечарам Люба пачала прыбіраць у хаце: месці, мыць, чысціць, выносіць і прыносіць* (К.Чорны); *Але Сцёпка сваё вядзе: чытае, піша, думае, разважае* (Я.Колас).

З мэтай узмацнення пры аднародных членах з абагульняльным словам можа паўтарацца займеннік *гэты: Гэты зараснік, і гэта азярцо, і гэтыя сцежкі баравыя – усё схавалі снягі* (К.Чорны); *Усё тут яму знаёма: і гэты корч, і гэтая бяроза, і кожны куст малінніку і ажавін, і сонечныя ўзгоркі з суніцамі, і хваёвыя гушчары, і купіны, зарослыя чарнічнікам* (Т.Хадкевіч);

прыметнікі: *Сняжынкі ўпалі на рукавічку і доўга не таялі. Яны былі розныя: і як прамяністыя зорачкі, і круглыя з іскрыстымі ражкамі, і прадаўгаватыя, а некаторыя з іх нават нагадвалі літары з азбукі, якую вывучалі цяпер у школе хлопчыкі* (Т.Хадкевіч); *Прыгожыя былі тыя ночы: цёплыя, светлыя, пахучыя і шчаслівыя* (У.Карпаў).

Акрамя асобных слоў, у функцыі абагульняльных могуць выступаць і словазлучэнні:

сінтаксічна падзельныя (свабодныя), якія складаюцца з уласна абагульняльнага слова і залежнага ад яго слова (або слоў), што выконвае ў сказе іншую сінтаксічную функцыю ў параўнанні з абагульняльным словам: *За кустамі пярэсціцца розныя колеры зямлі: зялёныя ўзгоркі, ціхія лагчыны, рэдкія чорныя палосы першай раллі і леташняя шэрань веснавой цаліны* (К.Чорны); *На сцяне віселі розныя сталярскія інструменты: пілкі, гэблі, цыркулі, стамескі* (І.Шамякін). У прыведзеных прыкладах абагульняльныя словы *(колеры, інструменты)* маюць пры сабе залежныя словы *(розныя, сталярскія)*, якія выконваюць у сказе сінтаксічныя функцыі азначэння, у той час як самі абагульняльныя словы (як і адпаведныя групы аднародных членаў) з'яўляюцца дзейнікамі;

сінтаксічна непадзельныя, якія складаюцца з двух або некалькіх слоў, што выконваюць у сказе адну агульную сінтаксічную функцыю: *У канцылярыі было многа моладзі: і хлопцы і дзяўчаты* (Я.Колас); *У Тамаша стала многа ўсякай адзежы на ўсякія ўзросты: і на дзесяць год, і на дванаццаць, і на пятнаццаць, і на васемнаццаць, і на дваццаць* (К.Чорны); *У мужчынскім зале цырульні працуе шэсць майстроў: дзве жанчыны і чатыры мужчыны* (Я.Брыль); *Яна жыла нецікавым жыццём: без радасці, без захаплення* (З газет). У прыведзеных прыкладах

словазлучэнні *многа моладзі, на ўсякія ўзросты, шэсць майстроў, нецікавым жыццём* выконваюць у сказе тыя ж сінтаксічныя функцыі, што і адпаведныя групы аднародных членаў;

фразеалагічныя: *Сын жыве сваёй воляй: усё вырашае самастойна, бацькам толькі паведамляе аб фактах свайго жыцця* (З газет). У гэтым прыкладзе фразеалагічнае словазлучэнне *жыве сваёй воляй* выконвае ў сказе адзіную сінтаксічную функцыю выказніка, якая супадае з сінтаксічнай функцыяй аднародных членаў *усё вырашае самастойна, бацькам толькі паведамляе аб фактах свайго жыцця;*

тэрміналагічныя: *Пад разложыстым дубам прытуліўся камандны склад батальёна: Шалёхін, тры ротныя камандзіры і начальнік кулямётнай каманды* (Я.Колас). Тэрміналагічнае словазлучэнне *камандны склад,* якое выступае ў функцыі абагульняльнага слова, выконвае адзіную сінтаксічную функцыю выказніка, аналагічную сінтаксічнай функцыі групы аднародных членаў *Шалёхін, тры ротныя камандзіры і начальнік кулямётнай каманды.*

Абагульняльныя словы часцей за ўсё выражаюцца тымі ж часцінамі мовы, што і адпаведныя групы аднародных членаў, напрыклад: *Рыбацкая снасць: сетка, нераткі, вуды – была адмысловая ў дзядзькі Мартына* (Я.Колас); *На нартах у мяшках былі прадукты: мяса, кансервы, сухары* (І.Шамякін). Найбольш частым выпадкам выражэння абагульняльнага слова і адпаведных яму аднародных членаў рознымі часцінамі мовы з'яўляецца ўжыванне назоўнікаў і дзеясловаў або назоўнікавых і дзеяслоўных словазлучэнняў у функцыі аднародных членаў з абагульняльнымі словам – займеннікам *усё* (часам з залежнымі ад яго словамі) або прыслоўем *усюды: Сонца асвятляла ўсё: палі, вёску, рэчку і луг* (В.Каваль); *Размова з простымі і шчырымі людзьмі, кароткае падарожжа цераз палі, дзе ўсюды кіпела работа, сустрэчы ў райцэнтры – усё перажытае за дзень нарадзіла ў сэрцы нейкае вельмі светлае пачуццё* (І.Шамякін); *Пайсці ў грыбы ці ў тую рыбу, або паехаць на сялібу, ці ў млын малоць на хлеб збажынку – усё гэта вабіла хлапчынку* (Я.Колас); *На рэках, будоўлях і нівах, на поўдзень, на поўнач і ўсход – усюды працуе рупліва вялікі савецкі народ* (А.Бачыла); *Усё ўсюды было ўслана лісцем: і вуліца, і двары* (А.Кулакоўскі).

Сустракаюцца і іншыя выпадкі выражэння абагульняльнага слова і аднародных членаў сказа рознымі часцінамі мовы: *Яны зайшлі ў кантору ўтраіх: Урбановіч, Віктар і Цімка* (У.Карпаў); *Даказваў ён пераканаўча: з фактамі, з аргументацыяй і вывадамі* (З газет). У прыведзеных прыкладах у якасці абагульняльных слоў выступаюць прыслоўі, а ў якасці аднародных членаў – назоўнікі.

Аднародныя члены сказа і абагульняльнае слова могуць выражацца словамі розных граматычных форм адной часціны мовы: *У канцылярыі было многа моладзі: і хлопцы, і дзяўчаты* (Я.Колас).

Абагульняльныя словы ставяцца перад аднароднымі членамі або пасля іх, напрыклад: *Былі тут розныя будынкі: гуменцы, гумны і адрынкі, хлявы і стайні, і абгоры, дабра, нажытку цэлы горы* (Я.Колас); *Рускія і ўкраінцы, беларусы і грузіны, казахі і ненцы, Еўропа і Амерыка, Індыя, Афрыка і Азія – увесь свет штодня прыходзіць пакланіцца чалавеку, імя якога, як сцяг, заклікае да барацьбы, да творчай працы* (М.Паслядовіч).

Парадак размяшчэння абагульняльнага слова і аднародных членаў сказа ў многім вызначаецца граматычнай і семантычнай характарыстыкай абагульняльнага слова. Так, абагульняльныя словы, выражаныя назоўнікамі, дзеясловамі, прыслоўямі (за выключэннем прыслоўя *усюды),* прыметнікамі, у пераважнай большасці выпадкаў стаяць перад аднароднымі членамі сказа: *У высокім куп'і на балоце і ў*

*кустах водзяцца розныя балотныя птушкі: бекасы, кулікі, кнігаўкі, качкі* (А.Якімовіч); *Яна ўзялася за работу: набрала бярэма дроў, унесла ў хату і, запаліўшы газоўку, стала класці іх у печ* (К.Чорны); *Усе былі апрануты пасвяточнаму: чысценька і прыгожа* (Я.Колас).

Абагульняльныя словы, выражаныя займеннікам *усё* і прыслоўем *усюды* маюць адвольнае размяшчэнне ў адносінах да адпаведных аднародных членаў сказа, напрыклад: *Шырокі адкрыты твар са спакойным позіркам удумлівых воч, упэўненыя рухі, павольная хада, моцны поціск важкай пляскатай далоні – усё гэта гаварыла аб характары гэтага чалавека* (М.Лынькоў); *Усё: зямля, дрэвы, стрэхі – пакрылася звонкай ледзяной коркай* (І.Шамякін); *Усюды – у горадзе і ў вёсцы – праца рупная ідзе* (М.Чарот). З мэтай узмацнення і пры ўмове вялікай колькасці аднародных членаў сказа абагульняльныя словы, выражаныя займеннікам *усё* і прыслоўем *усюды*, могуць ужывацца двойчы: перад аднароднымі членамі і пасля іх: *І ад сонца здавалася шырокім усё: і глыбокае неба, і спустошаная на зіму ўраджаем зямля, і нават дробны камень пасярод палявой травы і зрэзанай саломы,— усё да туманавай сіні блізкіх лясоў, да рэчак і азёр, да дзеравяных хат і мураваных будынкаў, да ўсяго малога і вялікага, сярод чаго пазнаны былі вялікія бунты радасці і смутку* (К.Чорны); *Усё наўкола – і сцены, і дзеці, і дошка чорная, і настаўнік – усё расло і расплывалася ўшыркі, і захапляла сабой яе* (П.Галавач).

Д в у к р о п ' е ставіцца ў сказах з прэпазіцыяй абагульняльнага слова. Пры чытанні гэтых сказаў пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі сказа голас паніжаецца і робіцца паўза: *Вочы свецяцца добрым даверам, дзеці вераць так шчыра ўсім: чалавеку, і дрэву, і зверу, тэлефільмам і кнігам сваім* (П.Панчанка); *Краскі, краскі – цэлае мора розных красак: белых, жоўтых, чырвоных, блакітных, сініх* (Б.Сачанка).

П р а ц я ж н і к пры аднародных членах ставіцца ў сказах з постпазіцыяй абагульняльнага слова: *Трава і дрэва, рыба і звер – усё ёсць* (І.Шамякін).

#### 9.1.3.2.2.4. Адасобленыя даданыя члены сказа

А д а с о б л е н ы м і даданымі членамі сказа называюцца інтанацыйна і сэнсава выдзеленыя даданыя члены ў структуры сказа, а само гэта выдзяленне – адасабленнем даданых членаў. У сказе могуць адасабляцца азначэнні, дапаўненні, акалічнасці. Па сваёй ролі ў сказе адасобленыя даданыя члены (асабліва адасобленыя звароты) у пэўнай ступені збліжаюцца з даданымі часткамі складаназалежных сказаў.

А д а с о б л е н ы я а з н а ч э н н і могуць быць:

дапасаванымі: *Месяц, яркі і круглы, абліў наваколле халодным святлом* (З.Бядуля); *Дружбы шмат сардэчнай у людзей, шчырай, слаўнай і вясёлай* (А.Астрэйка); *Дружбу нашу, здабытую ў бітвах грымотных, зробім вечнай, магутнай* (К.Кірэнка);

недапасаванымі: *Высокі дом, з цагляным падмуркам, з чарапічным дахам, быў адным з самых прыкметных у вёсцы* (М.Ткачоў); *Без шапкі, у адной гімнасцёрцы, Васіль з усяе сілы працаваў вёсламі* (І.Шамякін);

у форме прыдаткаў: *Трактар – конь стальнапалосы – імчыцца віхрам да мяжы* (П.Трус); *Сумленны, усімі паважаны чалавек, сапраўдны камуніст і актыўны*

*грамадскі работнік, Людвік Шэўчык, мае вялікі аўтарытэт сярод сваіх суайчыннікаў* (А.Кулакоўскі).

Дапасаваныя азначэнні выражаюцца прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, часта з залежнымі ад іх словамі: *Вечар, ціхі, цёплы, ахутваў змрокам зямлю* (А.Пальчэўскі); *Далі, яркія, празрыстыя як шкло, пачалі зацягвацца валокнамі шэрай бавоўны* (З.Бядуля); *На паляне, пакрытай буйнымі кроплямі расы, стаялі дзве казулі* (Я.Маўр).

Недапасаваныя азначэнні выражаюцца ў асноўным назоўнікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі і размяшчаюцца пасля азначаемых імі слоў: *Максімка, узрушаны, загарэлы, у белым фартуху, з кельмаю ў руках, стаіць на кладцы сцяны* (І.Гурскі).

Адасобленыя прыдаткі выражаюцца адзіночнымі назоўнікамі або іменнымі словазлучэннямі з назоўнікамі ў ролі галоўнага слова: *Дадому з зімоўкі далёкай ляцяць нашы госці – шпакі* (М.Хведаровіч).

Адасобленыя азначэнні ўсіх трох пералічаных тыпаў у адпаведнасці са сваімі функцыямі падзяляюцца на тры групы.

П е р ш у ю групу складаюць азначэнні, якія побач з уласна азначальным значэннем маюць адценне дадатковага паведамлення аб пэўных прадметах ці асобах. Яны адносяцца да назоўніка або займенніка, якія выступаюць у ролі дзейніка, дапаўнення ці акалічнасці: *На палях нерухома ляжала восень, шэрая, аднастайная* (І.Шамякін); *Ён падыходзіць, светлы час, агорнуты красой чароўнай* (У.Дубоўка); *Быў у замку дзед Даніла, родам дзесь з-пад Мазыра* (Я.Колас); *Знаёмыя хлопцы – Дняпра ветэраны – на стрыжань выводзяць свае караваны* (А.Вялюгін).

Д р у г у ю групу складаюць азначэнні з дадатковым акалічнасным адценнем. Яны не толькі адносяцца да назоўніка або займенніка ў ролі дзейніка, дапаўнення ці акалічнасці, але па сэнсу звязаны таксама з дзеясловам, што выступае ў ролі выказніка: *Выхапіў хлопчык з агню каленкор, выбег, трывожны, на двор* (А.Вялюгін); *Дзеці, бадзёрыя і радасныя, прыйшлі ў школу* (Р.Няхай); *Куст травы, не закіданы снегам, тырчэў з-пад прызбы* (К.Чорны); *Мінск – у зелені і белі – цудоўнай песняй зазвініць* (М.Машара); *Паўлюка Труса, як сапраўды нацыянальнага паэта-патрыёта, не магла не хваляваць тэма Заходняй Беларусі* (Р.Няхай).

Т р э ц ю ю групу складаюць азначэнні, якія адносяцца да другіх азначэнняў і ўдакладняюць або паясняюць прыкметы, што абазначаны гэтымі азначэннямі: *На левым, больш высокім, беразе ад лесу засталася толькі адна сухаверхая асіна* (І.Шамякін); *Над зялёным лугам, усыпаным рознымі кветкамі, гулі пчолы* (А.Якімовіч); *Гэта стварыла ёй славу працавітай, з залатымі рукамі, дзяўчыны* (Т.Хадкевіч).

А д а с о б л е н ы я д а п а ў н е н н і звычайна выражаюцца спалучэннямі назоўнікаў або займеннікаў ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі *акрамя, апрача, замест, за выключэннем* і інш. Яны могуць размяшчацца як у прэпазіцыі, так і ў постпазіцыі адносна кіруючага дзеяслова, аднак канструкцыі з прэпазіцыяй больш ужывальныя: *У садзе, апрача розных гатункаў яблык, растуць грушы, вішні, слівы* (ЛіМ, 1984); *На зямлі, замест карычневай, сухой і слізкай іглiцы, спаліся дываны з сівых імхоў, купчастай папараці і зялёнага бруснічніку* (Я.Маўр). Па азначэнню адасобленыя дапаўненні падзяляюцца на тры групы: адасобленыя дапаўненні, якія абазначаюць прадметы і з'явы, што ўключаюцца ў рад іншых [*Акрамя кучаравых бярозак, на ўзгорку расла высокая сухаверхая хвоя* (З.Бядуля)], выключаюцца з рада іншых [*Усё лета, за выключэннем некалькіх дзён, было цёплае надвор'е*

(Чырвоная змена, 1983)] і замяшчаюцца іншымі прадметамі або з'явамі [*Замест адказу, матчыны пальцы даволі блізка знаёмяцца з Міколкавым вухам* (М.Лынькоў)].

Адасобленыя акалічнасці па спосабу выражэння і па семантыка-сінтаксічнай функцыі дзеляцца на дзве групы:

1) адасобленыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі: *Я працы, турботаў і шчасця паклажу нясу, не сагнуўшыся, людзям наўпрост* (А.Звонак); *Расчасаўшы пышныя кудры, лес па пояс убраўся ў туман* (Я.Колас);

2) адасобленыя акалічнасці, выражаныя назоўнікамі з прыназоўнікамі або прыслоўямі: *На поўдні, за большай затокай, выразна адлюстроўваецца ў вадзе высока падняты жоўтым абрывістым берагам сасняк* (Я.Брыль).

Адасобленыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі, выражаюць:

1) другарадныя дзеянні, якія адбываюцца адначасова або перад ці пасля асноўнага дзеяння, выражанага дзеясловам: *Марцін Крамарчык усміхнуўся, аглядаючы здалёк постаць Адама Турчына* (Э.Самуйлёнак); *Пацалаваўшы Марылю і сына, каваль рушыў ранкам новага дня ў вялікую дарогу* (К.Чорны);

2) уласна акалічнасныя значэнні:

спосабу дзеяння. Гэтыя акалічнасці выражаюцца дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання [*Спяваючы, калоны дэманстрантаў шырокім патокам плылі па вуліцы* (Э.Самуйлёнак); *Прымінаючы рослую густую траву, па лугавіне ішлі зубры* (Т.Хадкевіч)] або дзеепрыслоўямі прошлага часу закончанага трывання [*Бабка стаяла, падпёршы рукою шчаку, і назірала за выразам твару настаўніка* (Я.Колас)]. Дзеепрыслоўі могуць знаходзіцца як у прэпазіцыі, так і ў постпазіцыі да дзеяслова-выказніка;

часу: *Не даязджаючы да горада кіламетраў шэсць ці восем, аўтобусы часта спыняліся набіраць ваду* (К.Чорны); *Дзядзька, цеста замяшаўшы, качаў галушкі, міску ўзяўшы* (Я.Колас). Адасобленыя акалічнасці часу выражаюцца дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання і прошлага часу закончанага трывання, якія могуць размяшчацца як у прэпазіцыі, так і ў постпазіцыі да выказніка: *Падыходзячы да высокай брамы, панадворка, хлопец учуў гамонку ў двары* (В.Быкаў);

прычыны: *Жмурачыся ад зіхотнага сонца, Ганна неравяла позірк на поле* (І.Мележ); *Нейкія замежныя салдаты, зорку запрымеціўшы маю, па панэлі грукаюць заўзята і з павагай чэсць мне аддаюць* (П.Панчанка). Парадак размяшчэння гэтых адасобленых акалічнасцей, выражаных дзеепрыметнікамі незакончанага трывання цяперашняга часу і закончанага трывання прошлага часу, адносна выказніка адвольны: *Марыя Іванаўна асцярожна хадзіла каля агню, баючыся патрывожыць Уладзіміра Ільіча* (І.Гурскі);

умовы: *Шчасце ў працы знайшоўшы, добра поле араць* (П.Броўка); *Не пакарміўшы каня, многа не наарэш* (Прыказка). Гэтыя адасобленыя акалічнасці выражаюцца пераважна дзеепрыслоўямі прошлага часу закончанага трывання і стаяць перад выказнікам;

уступкі: *У вёсцы, нягледзячы на позні час, чуваць былі песні дзяўчат* (У.Краўчанка). Адасобленыя акалічнасці гэтай семантычнай групы звычайна ўключаюць у якасці галоўнага слова дзеепрыслоўі *нягледзячы, не зважаючы* і стаяць перад выказнікам;

мэты: *Я здарожыўся, сеў каля хаты, чакаючы сонейка* (А.Куляшоў); *Чародка маленькіх рыбак спынілася ў вадзе, нібы да нечага прыслухоўваючыся* (А.Чар-

нышэвіч); *Раз летнім днём цераз дарогу мурашка пруцік валакла ды прыпынілася была, чакаючы сяброўку на падмогу* (К.Крапіва). Адасобленыя акалічнасці мэты стаяць пераважна пасля выказніка.

У адрозненне ад акалічнасцей, якія абазначаюць дадатковае або пабочнае дзеянне, адасобленыя акалічнасці пералічаных вышэй разрадаў звычайна не выражаюцца дзеепрыслоўямі без залежных слоў.

Адасобленыя акалічнасці, выражаныя назоўнікамі розных склонавых форм, падзяляюцца на дзве групы.

П е р ш у ю групу складаюць адасобленыя акалічнасці, якія звязаны з выказнікам і дапаўняюць або паясняюць яго змест, напрыклад: *Бульдозер, за крокам крок, насыпае, раўняе пясок* (М.Хведаровіч); *У хаце цёпла, але сусед, па вясковай звычцы, не распранаецца, нават не расшпіляе доўгага кажуха з вялікім калматым каўняром* (М.Лужанін).

Характэрнай асаблівасцю гэтых акалічнасцей з'яўляецца тое, што большасць з іх у аднолькавых сінтаксічных умовах можа адасабляцца і не адасабляцца, што залежыць ад мэты выказвання і жадання або нежадання выдзеліць пэўную акалічнасць, каб надаць ёй большае значэнне. Параўн.: *Бульдозер, за крокам крок, насыпае, раўняе пясок* (М.Хведаровіч) і *Бульдозер за крокам крок насыпае, раўняе пясок; У хаце цёпла, але сусед, па вясковай звычцы, не распранаецца, нават не расшпіляе доўгага кажуха з вялікім калматым каўняром* (М.Лужанін) і *У хаце цёпла, але сусед па вясковай звычцы не распранаецца, нават не расшпіляе доўгага кажуха з вялікім калматым каўняром.*

Часцей за ўсё акалічнасці гэтай групы займаюць прэпазіцыйнае становішча адносна выказніка.

Да д р у г о й, шырока ўжывальнай групы, належаць адасобленыя акалічнасці, якія звязаны з іншымі акалічнасцямі і служаць для іх удакладнення або дадатковай характарыстыкі, напрыклад: *На другім краі поля, за рэчкай, ледзьве-ледзьве вызначалася купка дрэў* (Р.Няхай); *На поўдні, за большай затокай, выразна адлюстроўваецца ў вадзе высока падняты жоўтым абрывістым берагам сасняк* (Я.Брыль); *Далёка, аж за лесам, ледзь прыкметна блішчалі агні горада* (П.Пестрак); *Учора, раніцай, дзеці хадзілі ў грыбы* (Б.Мікуліч).

Адасобленыя акалічнасці другой групы адносяцца да іншых акалічнасцей; у параўнанні з адасабленнем акалічнасцей першай групы тут адасабленне сінтаксічна і семантычна абумоўлена, паколькі азначэнні, якія стаяць пасля другіх азначэнняў і ўдакладняюць або дадаткова характарызуюць іх, звычайна адасабляюцца. Таму ў адрозненне ад акалічнасцей першай групы адасабленне гэтых акалічнасцей не залежыць ад жадання гаворачага і ў гэтай сінтаксічнай пазіцыі з'яўляецца абавязковым: *Дзесьці там, каля вёскі, чуліся галасы людзей* (М.Лынькоў); *Ужо там, на другім беразе, узнімаліся віхрам новыя гукі* (М.Лынькоў).

Адасобленыя акалічнасці гэтай групы заўсёды знаходзяцца ў постпазіцыі да тых акалічнасцей, з якімі яны не звязаны па сэнсу, і не могуць аддзяляцца ад іх іншымі членамі сказа. У адносінах да выказніка адасобленыя акалічнасці ў большасці выпадкаў размяшчаюцца ў прэпазіцыі, хоць постпазіцыя патэнцыяльна дапушчальная, а пабудаваныя такім чынам канструкцыі з'яўляюцца сінтаксічна правільнымі: *Будынак сельсавета стаяў воддаль ад вёскі, між старым садам і поплавам* (І.Шамякін). У канструкцыях з прэпазіцыйным размяшчэннем адасобленых акалічнасцей яны (акалічнасці) больш падкрэсліваюцца, вылучаюцца, што і абумоўлівае значна большую пашыранасць такіх канструкцый у параўнанні са сказамі з постпазіцыйным размяшчэннем адасобленых акалічнасцей. Параўн.: *На даляглядзе,*

*паміж вясковых сядзіб, узвышаюцца гмахі заводаў* (В.Вольскі) і *Узвышаюцца на даляглядзе, паміж вясковых сядзіб, гмахі заводаў; Дзесьці там, каля вёскі, чуліся галасы, людзей* (М.Лынькоў) і *Чуліся галасы людзей дзесьці там, каля вёскі.* Асабліва пашыраныя ў сувязі з гэтым простыя сказы, якія пачынаюцца з акалічнасцей: *Тут, на палянцы, сярод цёмнага лесу, панавала незвычайная цішыня* (З.Бядуля); *Кіламетраў за трыццаць пяць на поўдзень ад Мазыра, на правым беразе Прыпяці, раскінулася па-над ракой невялікае мястэчка Нароўля* (У.Краўчанка).

Сустракаюцца выпадкі сувязі папярэдняй акалічнасці са звязанай з ёй адасобленай акалічнасцю з дапамогай слоў *звычайна, часам, заўсёды, як правіла,* і пад., напрыклад: *Кожнае лета Колас выязджаў у якую-небудзь вёску, звычайна ў Пухавіцкі раён, бліжэй да лесу, да Свіслачы* (М.Лынькоў) .

Папярэднія акалічнасці, звязаныя з адасобленымі, могуць быць выражаны як назоўнікамі розных ускосных склонаў, так і прыслоўямі:

месца: *Над самай рэчкаю, на ўзгоркавым беразе, узнімалася няроўная сцяна лесу* (Я.Маўр); *У вышыні, у блакітнай далі, гучна жаўранкі спявалі* (З.Бядуля); *Далей, за берагам, на ўзвышшы хваіны лапамі калышуць* (А.Астрэйка);

часу: *Пасля выступлення старшыні, справаздачы рабілі брыгадзіры* (І.Шамякін); *У той жа дзень, праз час каторы, прыйшоў сюды Марцін з каморы* (Я.Колас); *Пад Новы год, марознай ноччу, гарэла ў зорах вышыня* (А.Бялевіч);

прычыны: *У хаце цёпла, але сусед, па вясковай звычцы, не распранаецца, нават не расшпіляе доўгага кажуха з вялікім калматым каўняром* (М.Лужанін);

спосабу дзеяння: *Дзедава хата стаіць усімі вокнамі на возера, да сонца* (Я.Брыль); *Не зусім рытмічна – у залежнасці ад порцыі збажыны – шархацяць шнэкі і транспарцёры камбайна* (І.Шамякін);

уступкі: *На лузе, нягледзячы на ранні час, весела званілі косы* (У.Краўчанка); *Увесь вечар, нягледзячы на холад, дзверы не зачыняліся* (К.Чорны).

Даданыя члены сказа адасабляюцца:

1. Пры неабходнасці асабліва падкрэсліць тое, што выражаецца даданымі членамі, параўн.:

*Звычайна маўклівы, Васіль гаварыў амаль бесперапынна.*

*Звычайна маўклівы Васіль гаварыў амаль бесперапынна* (І.Шамякін).

*Дзень стаіць над зямлёй, урачысты і сіні* (П.Броўка).

*Дзень стаіць над зямлёй урачысты і сіні.*

*Прыгрэты сонцам, Сілівон ледзь не прыдрамаў крыху* (М.Лынькоў) .

*Прыгрэты сонцам Сілівон ледзь не прыдрамаў крыху.*

*Невялікае і неглыбокае, азярцо ляжала сярод поля* (Т.Хадкевіч) .

*Невялікае і неглыбокае азярцо ляжала сярод поля.*

2. Пры пэўным парадку слоў, у прыватнасці:

а) пры размяшчэнні розных тыпаў азначэнняў пасля азначаемых слоў: *Вечар ціхі, цёплы, ахутваў змрокам зямлю* (А.Пальчэўскі); *Мы ехалі сенажацямі, усыпанымі кветкамі* (Я.Скрыган); *Дыхнуў вецярок ласкавы, цёплы* (Б.Мікуліч); *Акрамя вартаўніка, апранутага ў чорны кажух і высокую шапку, у выканкоме нікога не было* (М.Зарэцкі);

б) пры размяшчэнні паміж азначэннямі і азначаемымі назоўнікамі (дзейнікамі) дзеяслова (выказніка): *Жыхар тайгі, уладар бясконцы. сопак, вечназялёны, вечна малады, здружыўся кедр з марозамі і спёкамі, знаём яму пажараў горкі дым* (А.Звонак);

в) пры дадатковым характары даданых членаў: *Цягнік прыпыніўся на хвіліну на невялікай станцыі, апошняй перад гарадком* (М.Лынькоў); *Доўга не спалася Васілю ў гэту ноч, такую звычайную і незвычайную* (І.Мележ); *Ляжыць залатая даліна, стомленая ад гарачыні* (М.Хведаровіч);

г) пры неабходнасці ўдакладнення даданых членаў сказа, да якіх адносяцца адасобленыя члены сказа: *Непадалёку ад станцыі, каля самага лесу, бялее гарадскі хлебазавод* (А.Кулакоўскі); *На сцяне вісеў павялічаны, Жарнавіковай работы, партрэт Сашы* (П.Пестрак); *Усё лета, за выключэннем некалькіх дзён, было цёплае надвор'е* ("Чырвоная змена", 1984); *Побач з ложкам вісіць яго, Платонава, гітара* (П.Пестрак);

д) пры празмерным ускладненні залежных адасабляемых даданых членаў: *Паабапал дарогі высокай сцяной, то пышна-зялёнай, то сіняватай афарбоўкі, стаяў лес, шчодра заліты сонечным светам* (Т.Хадкевіч);

ж) пры семантыка-сінтаксічнай неспалучальнасці даданых членаў, у прыватнасці – азначэнняў з азначаемымі дзейнікамі, выражанымі асабовымі займеннікамі, напрыклад: *Вясёлыя, шчаслівыя, мы дзень страчаем свой* (А.Астрэйка); *Абмытая ветрам, начною расою, павевам ружовай зары, ты* [Беларусь] *гордая юнай і свежай красою, завеш працаваць і тварыць* (А.Звонак).

### 9.1.3.2.2.5. Экспрэсіўнае вылучэнне членаў сказа

Асноўнымі спосабамі вылучэння членаў сказа, якое ў сучаснай мове стала вельмі распаўсюджаным, з'яўляюцца адчляненне, далучэнне і анакалуф.

Сінтаксічна-стылістычны прыём экспрэсіўнага вылучэння членаў сказа, пры якім гэты член сказа адрываецца ад асноўнай часткі сказа, але застаецца звязаным з ім па сэнсу, называецца адчляненнем. Напрыклад: *Бухчаў Стась! Вось каго Галляш і не любіў, можна сказаць, ненавідзеў і нават пабойваўся* (К.Чорны).

Пры адчляненні ўтвараецца асобная канструкцыя, пэўным чынам аддзеленая пунктуацыйна (звычайна клічнікам ці шматкроп'ем) ад сказа, з якім яна звязана па сэнсу. Яе звычайна называюць "назоўны ўяўлення" або "назоўны тэмы". Вылучаны такім чынам назоўнік вымаўляецца эмацыянальна-экспрэсіўна, падкрэслівае, вылучае тое, аб чым будзе сказана ў наступным, і стварае напружанасць выкладу.

Сінтаксічна-стылістычны прыём дабаўлення да асноўнага выказвання дадатковых звестак і тлумачэнняў, якія ўзнікаюць у свядомасці гаворачага ўжо пасля таго, як выказана галоўная думка, называецца далучэннем.

Далучэнне ўласціва гутарковаму маўленню, а таксама мове мастацкай літаратуры і публіцыстычнаму стылю. Дабаўленне дадатковых думак, звестак, тлумачэнняў да асноўнага выказвання стварае ўражанне непасрэднасці і маўлення, ажыўляе выклад думак, пачуццяў: *Я хацеў бы таксама вось так... Тут. І адзін. І каб да апошняй хвіліны на нагах* (І.Шамякін); *Ці ж дзіва, што і ад Сезама ў яго ёсць ключы. Уласныя* (В.Палтаран).

Сінтаксічна-стылістычны прыём афармлення канструкцыі, пры якім структура пачатку сказа разыходзіцца са структурай яго канца, называецца анакалуфам: *Сястра Косцікава – Волечка – гэта ж... любіў ён яе* (А.Макаёнак); *А зямля – болей бы такой зямлі* (І.Мележ).

### 9.1.3.2.3. Сінанімічныя сінтаксічныя канструкцыі

У якасці сінтаксічных сінонімаў (паралельных сінтаксічных канструкцый) выступаюць асобныя члены сказа і даданыя сказы. Сярод членаў сказа сінанімічнымі часцей за ўсё могуць быць дзеепрыслоўныя словазлучэнні і канструкцыі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі: *Закончыўшы работу, ён вырашыў прайсціся па парку – Пасля заканчэння работы ён вырашыў прайсціся па парку.* Такі ж агульны сэнс мае і даданы сказ часу: *Пасля таго, як работа была закончана, ён вырашыў прайсціся па парку.* Даданыя азначальныя сказы могуць быць заменены адасобленымі дзеепрыметнымі словазлучэннямі: *Кніга, якую парэкамендавала настаўніца, усім спадабалася – Кніга, парэкамендаваная настаўніцай, усім спадабалася.*

Кожная з сінанімічных канструкцый пры блізкім агульным сэнсе мае свае сэнсавыя і стылістычныя асаблівасці. Пэўныя ўласцівасці сінтаксічнай канструкцыі нельга лічыць яе перавагай над іншымі канструкцыямі або, наадварот, недахопам. Усё залежыць ад мэты выказвання і павінна падпарадкоўвацца агульнай задачы дакладнага і сінтаксічна правільнага выражэння думкі.

#### 9.1.3.2.3.1. Сінаніміка аднародных дзеяслоўных выказнікаў і канструкцый “выказнік+выказнік+дзеепрыслоўнае словазлучэнне”

Аднародныя дзеяслоўныя выказнікі і канструкцыі з дзеепрыслоўным словазлучэннем утвараюць сінанімічныя пары, паміж якімі ёсць пэўная сэнсавая і стылістычная розніца. Параўн.: *Лейтэнант схамянуўся, заспяшаўся на кладку, якая была перакінута на месцы разбуранага мастка* (І. Мележ) і *Лейтэнант схамянуўся, заспяшаўшыся на кладку, якая была перакінута на месцы разбуранага мастка.*

З прыведзенага прыкладу відаць, што пры аднолькавым агульным змесце выказвання ў першай канструкцыі выражаецца незалежнасць і паслядоўнасць дзеяння, пералічаемых аднароднымі выказнікамі. У другой канструкцыі, па-першае, выражаецца ўзаемная звязанасць дзеянняў і пабочны дадатковы характар другога дзеяння ў адносінах да першага, якое набыло характар галоўнага дзеяння *(‘схамянуўся, заспяшаўшыся‘).* Па-другое, значэнне паслядоўнасці ў другой канструкцыі аслабляецца, утвораная дзеепрыслоўная канструкцыя набывае мэтавае значэнне *(схамянуўся, заспяшаўшыся – ‘схамянуўся з мэтай заспяшацца‘).* У адпаведнасці са зместам і мэтай выказвання неабходна выбраць адну з гэтых канструкцый, каб дакладна выказаць думку.

Калі аднародныя выказнікі выражаюць адначасовыя дзеянні, то семантычныя суадносіны разглядаемых канструкцый некалькі змяняюцца, параўн.: *Марознае ранне звініць па вуглах, ружовіць на сіверы шчокі* (А.Звонак) і *Марознае ранне звініць па вуглах, ружовячы на сіверы шчокі.* У прыведзенай пары сінанімічных канструкцый, як і ў папярэдняй, ёсць адрозненне па звязанасці і падпарадкавальнай залежнасці дзеянняў, аднак у параўнанні з папярэдняй парай утвораны дзеепрыслоўны зварот набывае значэнне дадатковага, пабочнага дзеяння. У аналагічнай сінанімічнай пары *Ён расказваў і размахваў рукамі – Ён расказваў, размахваючы рукамі* пры агульным для ўсіх папярэдніх сінанімічных пар адрозненні па звязанасці і падпарадкавальнай залежнасці дзеянняў канструкцыя “аднародны выказнік+дзеепрыслоўнае словазлучэнне” набывае значэнне спосабу дзеяння [расказваў (як?), размахваючы рукамі].

У залежнасці ад семантыкі аднародных выказнікаў утвораныя канструкцыі з дзеепрыслоўным словазлучэннем могуць выражаць розныя акалічнасныя значэнні, уласцівыя дзеепрыслоўньм словазлучэнням:

часу дзеяння: *ішоў дамоў і абдумваў – абдумваў* (калі?), *ідучы дамоў; выйшаў з завода і зменшыў крок – зменшыў крок* (калі?), *выйшаўшы з завода; скончыў школу і паступіў – паступіў* (калі?), *скончыўшы школу;*

прычыны: *пагойдваліся ад ветру і скрыпелі – скрыпелі* (чаму?), *пагойдваючыся ад ветру; зірнуў на шчыток паказчыкаў і спахмурнеў – спахмурнеў* (чаму?), *зірнуўшы на шчыток паказчыкаў; доўга ішоў і знямогся зусім – знямогся зусім* (чаму?), *доўга ідучы;*

умовы: *набраўся смеласці і сказаў – сказаў* (пры якой умове?), *набраўшыся смеласці; сабраў усе сілы і прыўзняўся – прыўзняўся* (пры якой умове?), *сабраўшы ўсе сілы;*

уступкі: *не зважаў на дождж і ішоў – ішоў, не зважаючы на дождж ('ішоў, хоць быў дождж'); не звяртаў увагі на Іллюка і гаварыў з гасцямі – гаварыў з гасцямі, не звяртаючы ўвагі на Іллюка ('гаварыў з гасцямі, хоць побач быў Іллюк'); не чакаў канца сходу і выйшаў – выйшаў, не чакаючы канца сходу ('выйшаў, хоць яшчэ ішоў сход').*

У большасці выпадкаў патэнцыяльна магчыма ўтварэнне дзвюх канструкцый "аднародны выказнік+дзеепрыслоўнае словазлучэнне" на аснове двух аднародных выказнікаў (з пераўтварэннем у дзеепрыслоўнае словазлучэнне кожнага з выказнікаў): *сядзеў за сталом і чытаў кнігу – сядзеў за сталом, чытаючы кнігу* і *чытаў кнігу, седзячы за сталом.* Аднак больш адпаведнымі па сэнсу з'яўляюцца канструкцыі, у якіх асноўны па зместу аднародны выказнік захоўваецца, а другі пераўтвараецца ў дзеепрыслоўнае словазлучэнне. Звычайна пры неабходнасці замены ў сказе аднародных выказнікаў на канструкцыю "аднародны выказнік+ дзеепрыслоўнае словазлучэнне" сэнсава і сінтаксічна правільным з'яўляецца:

1) для ўтварэння канструкцый са значэннем дадатковага або пабочнага дзеяння, спосабу дзеяння, мэты дзеяння – захаванне першага аднароднага выказніка і пераўтварэнне ў дзеепрыслоўнае словазлучэнне другога выказніка, напрыклад: *Ён сядзеў і чытаў кнігу – Ён сядзеў, чытаючы кнігу* (значэнне дадатковага, пабочнага дзеяння); *Ён расказваў і размахваў рукамі – Ён расказваў, махаючы рукамі* (значэнне спосабу дзеяння); *Ён спыніўся і чакаў сябра – Ён спыніўся, чакаючы сябра* (значэнне мэты). У такім варыянце дзеянне, выражанае першым аднародным выказнікам, становіцца асноўным, а дзеянне, выражанае другім выказнікам, – дадатковым, пабочным або са значэннем спосабу дзеяння (параўн.: *сядзеў за сталом, чытаючы кнігу* і *чытаў кнігу, седзячы за сталом);*

2) для ўтварэння канструкцый са значэннямі часу, прычыны, умовы, уступкі неабходна другі аднародны выказнік пакінуць без змен, а першы пераўтварыць у дзеепрыслоўнае словазлучэнне: *скончыў сярэднюю школу і паступіў – паступіў, скончыўшы сярэднюю школу* (значэнне часу дзеяння); *пагойдваліся ад ветру і скрыпелі – скрыпелі, пагойдваючыся ад ветру* (значэнне прычыны); *сабраў усе сілы і прыўзняўся – прыўзняўся, сабраўшы ўсе сілы* (значэнне ўмовы); *не зважаў на дождж і ішоў – ішоў, не зважаючы на дождж* (значэнне ўступкі).

З а ў в а г а 1. Усё сказанае вышэй аб канструкцыі з дзеепрыслоўным зваротам цалкам адносіцца і да адпаведных канструкцый з адзіночным дзеепрыслоўем, параўн.: *сядзеў за сталом і чытаў кнігу – сядзеў за сталом, чытаючы кнігу; сядзеў за сталом і чытаў – сядзеў за сталом, чытаючы.*

З а ў в а г а 2. Часам утварэнне канструкцый "дзеяслоў-выказнік+дзеепрыслоўнае словазлучэнне" немагчыма з-за словаўтваральных асаблівасцей пэўных дзеясловаў.

Пры замене аднародных дзеяслоўных выказнікаў канструкцыяй "дзеяслоў-выказнік+дзеепрыслоўнае словазлучэнне" (і наадварот) неабходна памятаць асаблівасці гэтых блізкіх, але не зусім аднолькавых па сэнсу канструкцый. Гэта – магчымасць вылучэння галоўнага і дадатковага, пабочнага, дзеяння, а таксама выражэнне акалічнасных значэнняў у канструкцыях з дзеепрыслоўным словазлучэннем і выражэнне раўнапраўнасці і незалежнасці дзеянняў у аднародных выказніках. Для нагляднасці выкарыстаем прыведзены ў кнізе М.Я.Цікоцкага "Стылістыка беларускай мовы" прыклад праўкі сказа з першай рэдакцыі рамана І.Мележа "Мінскі напрамак". У першай рэдакцыі было: *Ён глядзеў на яе валасы, што выбіліся з-пад хусткі, на шыю, на бесклапотны, даверлівы ў сне твар і тут упершыню адчуў, што шчасце яму без яе немагчыма.* Імкненнем вылучыць галоўную думку *(ён адчуў, што шчасце без яе немагчыма),* падкрэсліць дэталі і зрабіць усю фразу больш цэласнай тлумачыцца выкарыстанне ў другой рэдакцыі дзеепрыслоўнага словазлучэння: *Гледзячы на яе валасы, што выбіліся з-пад хусткі, на шыю, на бесклапотны, даверлівы ў сне твар, ён адчуў, што шчасце без яе немагчыма.*

### 9.1.3.2.3.2. Сінаніміка дзеепрыслоўных словазлучэнняў і даданых сказаў

Прааналізаваныя вышэй сінанімічныя пары канструкцый "аднародныя дзеяслоўныя выказнікі – дзеяслоў-выказнік+дзеепрыслоўнае словазлучэнне" *(спыніўся і чакаў сябра – спыніўся, чакаючы сябра)* часта можна працягваць трэцяй сінанімічнай канструкцыяй – даданым сказам *(спыніўся і чакаў сябра – спыніўся, чакаючы сябра – спыніўся, каб пачакаць сябра).* Аднак пры гэтым трэба адзначыць некаторыя абмежаванні для замены двух папярэдніх канструкцый трэцяй канструкцыяй. Першае – гэта семантычнае абмежаванне. Сінтаксічных сінонімаў у форме даданых сказаў не маюць дзеепрыслоўныя словазлучэнні найбольш пашыранай групы са значэннем дадатковага або пабочнага дзеяння *(курылі, нічога не гаворачы; спыніліся, ціха скрыгануўшы коламі),* а таксама словазлучэнні са значэннем спосабу дзеяння *(ішоў, нікуды не спяшаючыся; глядзеў, не зводзячы вачэй).* Сінанімічнымі даданымі сказамі могуць замяняцца дзеепрыслоўныя словазлучэнні з выразна выражанымі акалічнаснымі значэннямі:

мэты *(затрымацца і дачытаць кнігу – затрымацца, дачытваючы кнігу – затрымацца, каб дачытаць кнігу; звярнуць і пайсці сцежкай – звярнуць, пайшоўшы сцежкай – звярнуць, каб пайсці сцежкай);*

прычыны *(пагойдваліся ад ветру і скрыпелі – скрыпелі, пагойдваючыся ад ветру – скрыпелі, таму што пагойдваліся ад ветру; баяліся спёкі і схаваліся ў цяньку – схаваліся ў цяньку, баючыся спёкі – схаваліся ў цяньку, таму што баяліся спёкі);*

часу *(скончыў работу і пайшоў адпачыць – пайшоў адпачыць, скончыўшы работу – пайшоў адпачыць, калі скончыў работу; павячэраў і напісаў пісьмо – напісаў пісьмо, павячэраўшы – напісаў пісьмо, калі павячэраў);*

умовы *(набраўся рашучасці і сказаў бы – сказаў бы, набраўшыся рашучасці – сказаў бы, каб набраўся рашучасці; добра падрыхтаваўся і выступіў бы – выступіў бы, добра падрыхтаваўшыся – выступіў бы, каб добра падрыхтаваўся);*

уступкі *(не зважаў на стомленасць і працаваў – працаваў, не зважаючы на стомленасць – працаваў, хоць быў стомлены; не чакаў канца пасяджэння і выйшаў – выйшаў, не чакаючы канца пасяджэння – выйшаў, хоць яшчэ ішло пасяджэнне).*

Другое абмежаванне пры ўжыванні даданых сказаў замест аднаго з аднародных выказнікаў або замест дзеепрыслоўнага словазлучэння звязана з іх семантыкай. Як ужо адзначалася пры супастаўленні сінанімічных пар "аднародныя дзеяслоўныя выказнікі – дзеяслоў-выказнік+дзеепрыслоўнае словазлучэнне", для апошняй канструкцыі характэрна большая выражанасць акалічнасных значэнняў (спосабу дзеяння, мэты, прычыны, умовы, уступкі, часу) у параўнанні з аднароднымі дзеяслоўнымі выказнікамі (параўн.: *насцярожыўся і чакаў адказу – насцярожыўся, чакаючы адказу).* У даданых сказах акалічнасныя значэнні мэты, прычыны, умовы, уступкі, часу яшчэ больш узмацняюцца, а значэнні паслядоўнасці або адначасовасці дзеянняў, а таксама значэнне нязвязнасці дзеянняў, выражаныя аднароднымі выказнікамі, амаль зусім страчваюцца.

Для дасягнення дакладнасці выражэння думкі і правільнай пабудовы сказа неабходна ўлічваць прыведзеныя вышэй абмежаванні ва ўжыванні і семантыцы даданых сказаў. Так, напрыклад, меншая выразнасць акалічнасных значэнняў у дзеепрыслоўных словазлучэннях у параўнанні з даданымі сказамі часам дазваляе ўтварэнне двух даданых акалічнасных сказаў замест аднаго словазлучэння. Напрыклад, дзеепрыслоўнае словазлучэнне ў канструкцыі *Прагуляўшыся па парку, ён адчуў бадзёрасць* можна замяніць і даданым сказам часу *(Ён адчуў бадзёрасць, калі прагуляўся па парку),* і даданым прычыны *(Ён адчуў бадзёрасць, таму што прагуляўся па парку).* У залежнасці ад выказваемай думкі ўзнікае неабходнасць выбару з гэтых двух даданых сказаў. Акрамя таго, замена ў прыведзенай канструкцыі дзеепрыслоўнага словазлучэння даданымі сказамі можа быць наогул немагчымай, калі неабходна падкрэсліць дадатковы, пабочны характар дзеяння, выражанага дзеепрыслоўем *прагуляўшыся,* і галоўнасць дзеяння ці стану, выражанага дзеясловам з залежным словам *адчуў бадзёрасць.* У такім выпадку семантычна і сінтаксічна правільным будзе варыянт з дзеепрыслоўным словазлучэннем. Гэта адносіцца таксама і да тых выпадкаў, калі неабходна выразіць значэнне спосабу дзеяння *(Ён ішоў, часта спыняючыся),* паколькі дзеепрыслоўныя словазлучэнні са значэннямі дадатковага, пабочнага дзеяння і спосабу дзеяння не маюць адпаведных даданых сказаў.

Пры выбары дзеепрыслоўнага словазлучэння або даданага сказа неабходна таксама ўлічваць агульныя адметныя ўласцівасці кожнай з гэтых канструкцый пры блізкасці агульнага сэнсу. Такія, напрыклад, як сціслацсць дзеепрыслоўных словазлучэнняў у параўнанні з даданымі сказамі, прыналежнасць іх пераважна да пісьмовай літаратурнай мовы і выразнасць акалічнасных значэнняў, падпарадкавальнай сувязі з галоўным дзеяннем даданых сказаў у параўнанні з дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі. Выбар адной з гэтых канструкцый павінен падпарадкоўвацца задачы дакладнага і сінтаксічна і стылістычна правільнага выражэння думкі. Прааналізуем прыклад выкарыстання дзеепрыслоўных словазлучэнняў і даданага сказа часу ў мове Я.Брыля: *Кустамі, калечачы босыя ногі (тут толькі ўспомніла пра боты пад ложкам), дабегла да бярэзніку. Пасля ўбілася ў росны гушчар і, ныраючы пад галлё, сарвала хустку, парвала сукенку і двойчы спатыкнулася. І толькі тады, калі спатыкнулася на ламачыну трэці раз і ледзь-ледзь не ўпала, Ліда пайшла памалу, тулячы дачушку да задыханых... грудзей.* У першых двух сказах з мэтай дынамічнага апісання хуткіх, напружаных дзеянняў герaіні аўтар выкарыстоўвае сціслыя, лаканічныя дзеепрыслоўныя словазлучэнні, падкрэсліваючы толькі галоўныя дзеян-

ні, выражаныя дзеясловамі *дабегла, убілася, сарвала хустку, парвала сукенку, двойчы спатыкнулася.* У трэцім сказе, падкрэсліваючы і большую спакойнасць і павольнасць далейшага дзеяння *(пайшла памалу),* пісьменнік выкарыстоўвае дадаены сказ часу *калі спатыкнулася на ламачыну трэці раз і ледзь-ледзь не ўпала* (а не дзеепрыслоўнае словазлучэнне).

### 9.1.3.2.3.2.1. Граматычныя і стылістычныя абмежаванні ў выкарыстанні дзеепрыслоўных словазлучэнняў

1. Сказы з дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі трэба будаваць такім чынам, каб суб'ект дзеяння або стану, выражанага ў дзеепрыслоўным словазлучэнні, супадаў з суб'ектам дзеяння або стану, выражаным выказнікам. Нельга сказаць: *Любуючыся горадам, у ветэрана ўзнікалі ўспаміны аб мінулым.* Дзеепрыслоўе *любуючыся* выражае дзеянне, якое выконваецца суб'ектам, абазначаным назоўнікам *ветэран,* а суб'ект дзеяння, выражанага выказнікам *узнікалі,* у гэтым сказе абазначаецца словам *успаміны.* Памылкі такога тыпу даволі часта сустракаюцца ў вусным і пісьмовым маўленні *(Лёгшы спаць, у яго засталося не выключанае святло; Уступіўшы ў сацыялістычнае спаборніцтва, у брыгадзе значна ўзрасла працоўная дысцыпліна* і г.д.). Няправільныя сказы гэтага тыпу неабходна выпраўляць, замяняючы ўскосныя склонавыя формы суб'екта дзеепрыслоўнага дзеяння *(у ветэрана, у яго, у брыгадзе)* на форму назоўнага склону з неабходнымі марфалагічнымі і семантычнымі зменамі ў выказніку: *Любуючыся горадам, ветэран успамінаў аб мінулым; Лёгшы спаць, ён пакінуў не выключаным святло; Уступіўшы ў сацыялістычнае спаборніцтва, брыгада значна павысіла працоўную дысцыпліну.*

2. Дзеепрыслоўныя словазлучэнні нельга ўжываць у безасабовых канструкцыях. Нельга, напрыклад, сказаць: *Наведаўшы музей, яму захацелася сустрэцца з даўнімі сябрамі; Вярнуўшыся дамоў, на вуліцы вечарэла.* У такіх канструкцыях для выражэння акалічнасных значэнняў неабходна выкарыстоўваць дадаеныя члены сказа або дадаеныя акалічнасныя сказы: *Пасля наведвання музея яму захацелася сустрэцца з даўнімі сябрамі* або *Калі ён наведаў музей, яму захацелася сустрэцца з даўнімі сябрамі* або *Пасля таго, як ён наведаў музей, яму захацелася сустрэцца з даўнімі сябрамі.*

Выключэннем з гэтага правіла з'яўляюцца безасабовыя сказы са словамі *трэба, неабходна, можна, нельга, цяжка, лёгка, добра* і г.д., якія шырока ўжываюцца з дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі: *Азнаёміўшыся з працай прадпрыемства, можна было адразу зрабіць вывад аб яе высокай арганізаванасці; Пагаварыўшы з дзяўчынай, лёгка было заўважыць яе ўсхваляванасць* і г.д.

3. Не ўжываюцца дзеепрыслоўі пры выказніках, выражаных дзеясловамі ці дзеепрыметнікамі залежнага стану. Нельга, напрыклад, сказаць: *Зрабіўшы ўсе неабходныя разлікі, архітэктарамі складваўся план забудовы; Адкладваючы гэту справу надалей, імі была зроблена памылка; Узяўшы дадатковыя абавязацельствы, рабочымі перавыкананы план.* Ужыванне такіх канструкцый магчыма толькі з дзеясловамі і дзеепрыметнікамі незалежнага стану: *Зрабіўшы ўсе неабходныя разлікі, архітэктары складвалі план забудовы; Адкладваючы гэту справу надалей, яны зрабілі памылку; Узяўшы дадатковыя абавязацельствы, рабочыя перавыканалі план.*

4. Дзеепрыслоўі могуць ужывацца ў форме цяперашняга і прошлага часу, аднак пры выкарыстанні гэтых форм неабходна ведаць заканамернасці суадносін паміж

часам, на які ўказвае выказнік, і часам, на які ўказвае дзеепрыслоўнае словазлучэнне.

Дзеепрыслоўі незакончанага трывання абазначаюць дзеянні, што адбываюцца адначасова з дзеяннямі, на якія ўказваюць дзеясловы, або спосаб дзеяння: *Падыходзячы да высокай брамы, панадворка, хлопец учуў гамонку ў двары* (В.Быкаў); *Пампей салодка пацягнуўся і, дымячы цыгаркай, прылёг на траву* (А.Стаховіч); *Недзе блізка звінеў і грукаў трамвай, сціхаючы і спыняючыся на прыпынках* (В.Адамчык). Яны могуць выкарыстоўвацца пры дзеясловах прошлага і цяперашняга часу: *Конюх, трымаючы лейцы, сядзеў у перадку брычкі* (М.Машара) і *Конюх, трымаючы лейцы, сядзіць у перадку брычкі.*

Дзеепрыслоўі закончанага трывання звычайна абазначаюць дзеянні, што адбываліся раней за дзеянні, на якія ўказваюць дзеясловы, і ўжываюцца пры дзеясловах прошлага і цяперашняга часу: *Паабедаўшы, касцы паселі ў цень пад разложыстым векавечным дубам* (М.Машара); *Клякочуць задаволена, закончыўшы рамонт сваіх гнёздаў, буслы* (М.Паслядовіч).

Акрамя абазначэння дзеянняў, якія адбываліся раней дзеяслоўнага дзеяння, дзеепрыслоўі закончанага трывання могуць выкарыстоўвацца для выражэння спосабу дзеяння: *Распусціўшы голле, дуб адзін расце на шырокім полі* (Я.Купала); *Многа лет і зім дуб стаяў стары, комель-стан пахіліўшы на ваду* (Я.Колас).

Часам дзеепрыслоўі закончанага трывання могуць ужывацца пры дзеясловах будучага часу, абазначаючы дзеянні, якія адбыліся раней дзеяслоўных, або спосаб дзеяння: *Пад песню гармоніка хлопец свае ўспамінае мясціны, дзе Прыпяць, разліўшыся, схопіць і вырве з карэннем яліны* (А.Вялюгін). У такой пазіцыі дзеепрыслоўі закончанага трывання могуць ужывацца і для выражэння дадатковага, пабочнага дзеяння: *Возьме наш хлопец жалеза кавалак ды, кінуўшы ў горан, нагрэе ўдала* (П.Броўка).

### 9.1.3.2.3.3. Сінаніміка канструкцый з аддзеяслоўнымі назоўнікамі і даданых сказаў

У адзін рад сінтаксічных сінонімаў “аднародныя дзеяслоўныя выказнікі – дзеяслоўны выказнік+дзеепрыслоўнае словазлучэнне – даданы сказ” можна паставіць і канструкцыі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі, параўн.: *Ён наведаў музей і захацеў сустрэцца з даўнімі сябрамі – Наведаўшы музей, ён захацеў сустрэцца з даўнімі сябрамі – Калі ён наведаў музей, ён захацеў сустрэцца з даўнімі сябрамі* (або *Пасля таго, як ён наведаў музей, ён захацеў сустрэцца з даўнімі сябрамі) – Пасля наведвання музея ён захацеў сустрэцца з даўнімі сябрамі.* Апошняя канструкцыя – з аддзеяслоўным назоўнікам *наведванне* – сінанімічная па сэнсу даданаму сказу часу, хоць і мае свае граматычныя і стылістычныя асаблівасці.

Пры выбары паміж канструкцыямі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі і даданымі сказамі неабходна ўлічваць характар тэксту (як з боку яго функцыянальна-стылістычнай прыналежнасці, так і з боку сінтаксічнага афармлення пэўнага сказа і папярэдніх сказаў) і мэту выказвання.

Канструкцыі з аддзеяслоўным назоўнікам надаюць выказванню большую сцісласць і лаканічнасць, пры гэтым некалькі аслабляюцца акалічнасныя значэнні часу, мэты, выражаныя даданымі сказамі, параўн.: *Калі ўвайшлі дарослыя, дзеці адразу прыціхлі – З прыходам дарослых дзеці адразу прыціхлі.* Аддзеяслоўныя назоўнікі ўносяць у выказванне адценне кніжнага або афіцыйна-дзелавога маўлення, што неабходна ўлічваць пры выбары патрэбнай канструкцыі, параўн.: *Для таго каб*

*павысіць якасць працы, трэба прыняць неабходныя меры – Для павышэння якасці працы трэба прыняць неабходныя меры.* У тэкстах навуковага стылю пры выбары паміж гэтымі сінанімічнымі канструкцыямі перавага таксама звычайна аддаецца канструкцыям з аддзеяслоўным назоўнікам, параўн.: *Для таго каб рэакцыя працякала нармальна – Для нармальнага працякання рэакцыі.* Звязаныя з частым выкарыстаннем гэтых канструкцый стылістычна памылковыя ў агульналітаратурнай мове з'явы (нанізванне аднолькавых склонаў, неапраўданае расшчапленне выказніка і пад.) з'яўляюцца характэрнай асаблівасцю навуковых тэкстаў і не лічацца ў навуковым стылі адхіленнем ад стылістычных норм.

Канструкцыі з аддзеяслоўным назоўнікам семантычна абмежаваны ў параўнанні з даданымі сказамі. Так, найбольш пашыраныя канструкцыі, суадносныя з даданымі сказамі часу, мэты, а канструкцыі, суадносныя з даданымі сказамі прычыны, умовы, уступкі, амаль зусім не ўжывальныя ў сучаснай беларускай мове.

Акрамя канструкцый, сінанімічных з даданымі акалічнаснымі сказамі, шырока ўжываюцца ў літаратурнай мове канструкцыі з аддзеяслоўным назоўнікам у ролі дапаўнення, якія выступаюць сінтаксічнымі сінонімамі да адпаведных інфінітываў: *Неабходна часцей практыкаваць наведванне тэатраў, праводзіць абмеркаванне работы культурна-масавага сектара* і *Неабходна часцей наведваць тэатры, абмяркоўваць работу культурна-масавага сектара.*

### 9.1.3.2.3.4. Сінаніміка дзеепрыметных словазлучэнняў і даданых сказаў

Дзеепрыметнае словазлучэнне і даданы сказ утвараюць сінанімічныя канструкцыі з пэўнымі сэнсавымі і стылістычнымі адрозненнямі: *На вялікай прасторы не было відаць нікога, апрача цяляці, якое заблытала адну нагу ў вяроўку і шалёна скакала* (К.Крапіва) і *На вялікай прасторы не было відаць нікога, апрача цяляці, заблытаўшага адну нагу ў вяроўку і шалёна скакаўшага.*

У даданым азначальным сказе больш падкрэсліваецца дзеянне, а ў дзеепрыметным словазлучэнні – прыкмета. Таму ў залежнасці ад мэты выказвання неабходна выбіраць адпаведны варыянт.

Выбар аднаго з двух гэтых сінтаксічных сінонімаў залежыць і ад сінтаксічных характарыстык сказа і папярэдняга тэксту: калі ў сказе ўжо ёсць азначэнне, выражанае даданым сказам са словам *які,* то пажадана выбіраць дзеепрыметнае словазлучэнне.

У граматычных і сэнсавых адносінах неабходна замяняць сказ дзеепрыметным словазлучэннем, калі няясна, з якім назоўнікам у галоўным сказе звязана слова *які.* Напрыклад, у сказе *Вяршыні хвояў, якія былі асветлены цёплымі праменямі блізкага да заходу сонца, ярка вылучаліся на фоне цёмнай хмары* няясна, да якога назоўніка *(вяршыні* ці *хвоі)* адносіцца азначальны сказ. Параўн.: *Вяршыні хвояў, асветленыя цёплымі праменямі блізкага да заходу сонца, ярка вылучаліся на фоне цёмнай хмары.*

Сфера ўжывання дзеепрыметніка ў сучаснай беларускай мове значна абмежавана ў параўнанні з рускай. Таму даданыя азначальныя сказы значна больш пашыраны, чым дзеепрыметныя словазлучэнні.

Па сваіх стылістычных характарыстыках дзеепрыметнае словазлучэнне – кніжная канструкцыя, яна робіць выказванне больш лаканічным, сціслым.

Паколькі па сваіх семантычных і граматычных асаблівасцях дзеепрыметнікі вельмі блізкія да прыметнікаў, то яны часта спалучаюцца з апошнімі ў якасці

аднародных членаў сказа з мэтай больш поўнага і яркага апісання: *Забалочаная паляна, акружаная з усіх бакоў цёмнай сцяною лесу, млела ад гарачыні* (З. Бядуля).

### 9.1.3.2.4. Складаны сказ

С к л а д а н ы м і называюцца сказы, што складаюцца з дзвюх ці некалькіх састаўных частак, якія маюць форму простых сказаў, і ўтвараюць адно сінтаксічнае цэлае. Напр.: *У цёмную ветраную ноч, калі таямніча хіліліся вербы і шапталіся сасняківі на прыдарожных пясчаніках, Надзя выслала Сашу Грынявіцкага, члена баявой тройкі, які назваў сябе "Валодзя", конна за пятнаццаць кіламетраў у сяло Наваселле папярэдзіць, каб не ўзбройваліся* (П.Пестрак).

С к л а д а н ы я сказы падзяляюцца на з л у ч н і к а в ы я і б я з з л у ч н і к а в ы я ў адпаведнасці з выкарыстаннем і не выкарыстаннем злучнікаў і злучальных слоў у іх структуры: *Над вадой ля берага ціха спіць асока, ды вада зялёная жаліцца-шуміць* (М.Багдановіч); *Мора злуе, крэпнуць хвалі, з дзікім шумам бераг рвуць; гром грыміць у сіняй далі, з мора брызгі ў неба б'юць* (Цётка).

У залежнасці ад формы сінтаксічнай сувязі састаўных частак і характару сінтаксічных адносін сярод злучнікавых складаных сказаў выдзяляюцца с к л а д а н а з л у ч а н ы я, с к л а д а н а з а л е ж н ы я і с к л а д а н ы я с к а з ы п е р а х о д н а г а т ы п у: *Ці там ветры халодныя дзьмуць, ці зямелька спавіта цяплом* (Ц.Гартны); *Яны спаткаліся так, быццам ведалі адзін аднаго з маленства* (К.Чорны); *Варта было зрабіць які-небудзь промах, і ўся аперацыя правалілася б...* (В.Казлоў).

Асобна вылучаюцца сказы к а м б і н а в а н а й п а б у д о в ы з рознымі відамі сувязі: *Калі пасля працяглай паездкі вяртаешся ў горад, у якім жывеш і які лічыш родным, усё здаецца табе тут інакшым, чым ты пакідаў: як быццам і людзей на вуліцах стала больш, і рух аўтамашын і трамваяў жвавейшы, пашырэлі вуліцы і плошчы, пасвятлелі сцены будынкаў, прыбавілася дрэў і кветак на бульварах, у парках і скверах* (Т.Хадкевіч).

#### 9.1.3.2.4.1. Складаназлучаны сказ

С к л а д а н а з л у ч а н ы я с к а з ы – гэта сказы, у якіх састаўныя часткі аб'яднаны з л у ч а л ь н ы м і злучнікамі на аснове спалучальных, супастаўляльных, пералічальна-размеркавальных, а таксама далучальных адносін.

Сінтаксічная сувязь састаўных частак складаназлучанага сказа, пры якой гэтыя часткі адносна раўнапраўныя ў выражэнні адзінай складанай думкі, называецца з л у ч а л ь н а й сувяззю.

Часткі складаназлучаных сказаў цесна ўзаемазвязаны семантычна і граматычна на аснове аднаго з відаў злучальнай сувязі: спалучальнай, супастаўляльнай, пералічальна-размеркавальнай, далучальнай.

Граматычная і семантычная ўзаемасувязь частак складаназлучаных сказаў выяўляецца ў тым, што структура другой і наступнай састаўных частак звычайна абумоўлена структурай першай састаўной часткі, што знаходзіць выражэнне ў парадку слоў, у наяўнасці займеннікаў і прыслоўяў, якія замяняюць асобныя члены першай састаўной часткі; у пропуску некаторых членаў, якія ёсць у першай састаўной частцы: *На гары шуміць хваіна, а ў даліне вербалоз* (П.Трус).

Раўнапраўнымі ў семантычных і граматычных адносінах выступаюць толькі тыя састаўныя часткі складаназлучаных сказаў, у якіх няма слоў з аднолькавым

лексічным значэннем і якія маюць аднатыпную граматычную структуру. Звычайна гэта складаназлучаныя сказы з адносінамі адначасовасці, уласнасупастаўляльнымі, супрацiўнымі і пералічальна-размеркавальнымі: *Дрыжаць у золаце асіны, і гнуцца кісці верабіны* (Я.Колас); *Людзі смяяліся, а дзед сваю думку думаў* (Я.Колас); *Час не чакае, а работа стаіць* (Ц.Гартны); *То мароз марозіць, то золіць слата* (Я.Купала).

Спалучальная ўзаемасувязь адлюстравана ў трывальна-часавых суадносінах выказнікаў састаўных частак: *Ноч падыходзіць, і хмары ўстаюць* (Я.Колас). Спалучальнай узаемасувяззю аб'яднаны састаўныя часткі складаназлучаных сказаў, у якіх паведамляецца аб з'явах і падзеях, што адбываюцца адначасова або паслядоўна.

Асноўным граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў са спалучальнымі адносінамі ў беларускай мове з'яўляюцца злучнікі *і, ды, а,* і злучальныя словы *потым, затым, пасля.*

Узаемаадносіны адначасовасці і паслядоўнасці як разнавіднасці спалучальных узаемаадносін перадаюцца як трывальна-часавымі суадносінамі выказнікаў састаўных частак складаназлучанага сказа, так і пералічанымі вышэй злучнікамі і злучальнымі словамі.

Супастаўляльная ўзаемасувязь знаходзіць сваё выражэнне ў лексічным значэнні супастаўленых членаў: *Гаварыў больш бацька, а маці толькі калі-нікалі ўстаўляла некалькі слоў* (К.Крапіва). У сучаснай беларускай мове састаўныя часткі складаназлучаных сказаў з супастаўляльнымі адносінамі аб'ядноўваюцца з дапамогай злучнікаў і слоў, якія ўжываюцца ў функцыі злучнікаў: *а, ж(жа), але, ды, і, затое, аднак, толькі, аж (ажно), наадварот, тым не менш.*

Уласнасупастаўляльныя ўзаемаадносіны заснаваны на звычайным адрозненні паміж супастаўленымі прадметамі і з'явамі: *Чмель пузаты на басолі гучна грае, а на скрыпцы ёмка пчолка падсякае* (М.Багдановіч).

Супрацiўныя ўзаемаадносіны заснаваны на супрацьлегласці супастаўленых прадметаў і з'яў: *Ты піла заморскае віно, а яны пот і кроў сваю лілі* (З.Бядуля).

Узаемаадносіны неадпаведнасці заснаваны на тым, што супастаўленыя прадметы і з'явы не адпавядаюць адны адным: *Значыць, працу напішу я, а яна будзе лічыцца вашай?* (К.Крапіва).

Пералічальна-размеркавальная ўзаемасувязь выражаецца ў характары злучальных элементаў: *Ці то йшлі на працу сяляне, ці пастушкі дзе гналі кароў на пашу, ці мо рухаўся паблізу які вайсковы атрад* (М.Лынькоў). Сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з пералічальна-размеркавальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі: *і – і, ні – ні, то – то, ці – ці, або – або (альбо – альбо), ці то – ці то, ні то – ні то* і іншыя.

Далучальная ўзаемасувязь знаходзіць выражэнне ў інтанацыйным афармленні і разнародным складзе аб'яднаных частак: *Банадыся трэба жаніць, ды і дачка на выданні* (М.Лынькоў).

Паколькі далучальныя злучнікі выступаюць сродкамі сувязі састаўных частак у структуры складаназлучанага сказа, то ёсць падставы ўключаць сказы з такімі злучнікамі ў склад складаназлучаных сказаў, а не ў склад складаных сінтаксічных цэлых: *Надыходзіць вясна, а вясною нейк мімаволі цягне цябе на прастор, на поле* (Я.Колас).

Спецыфікай складаназлучаных сказаў з далучальнай сувяззю з'яўляецца тое, што далучаная частка змяшчае дадатковыя звесткі адносна зместу папярэдняй

часткі. Пры гэтым дадатковае паведамленне далучанай часткі заўсёды суправаджаецца пэўнымі экспрэсіўнымі адценнямі. Далучальная сувязь мае шматлікія разнавіднасці.

Д а л у ч а л ь н а - п е р а л і ч а л ь н ы я сінтаксічныя ўзаемаадносіны адрозніваюцца тым, што змест далучанай часткі не вынікае са зместу папярэдняй, а як бы нанізваецца на яго. Дзякуючы гэтаму дасягаецца больш поўнае апісанне агульнай складанай з'явы. Сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-пералічальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *ды, ды і, а* і інш.: *А цяпер хаця малачка пакаштуй, ды хлеб вось тут у мяне прызапашаны* (М.Лынькоў); *Шрыфт у нас ёсць, ды і ў атрадзе Кандыбы маюцца шрыфты дзвюх раённых друкарань* (І.Шамякін); *А ў мяне дзяржаўная крама, а ў мяне грошы... а я ніколі чужой капейчынай не жыў*... (М.Лынькоў).

Д а л у ч а л ь н а - а з н а ч а л ь н ы я ўзаемаадносіны заснаваны на такім далучэнні састаўной часткі, якое характарызуе папярэднюю састаўную частку. Сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-азначальнымі адносінамі выступаюць злучнікі *і, ды, а* і інш.

Калі далучаная састаўная частка азначае ўвесь змест першай састаўной часткі, то непасрэдна за далучальным злучнікам звычайна знаходзіцца ўказальны займеннік *гэта (гэты, гэтая, гэтае, гэтыя)*, які знаходзіцца ў другой састаўной частцы і выконвае функцыю дзейніка або дапаўнення: *Вы скромны чалавек, і гэта робіць вам чэсць* (Я.Колас).

Калі далучаная састаўная частка характарызуе асобныя члены першай састаўной часткі, то ўказальны займеннік ужываецца ў функцыі азначэння: *Прыходзяць людзі па сваіх справах, а спраў гэтых у воласці многа* (Я.Колас).

Часам у ролі ўказальнага слова пры азначаемым дзейніку выкарыстоўваецца займеннік *той (тая, тое, тыя)*, які звычайна размяшчаецца за гэтым дзейнікам. *Ён уяўляў будоўлю па-свойму, і будоўля тая нагадвала велізарны млын, пастаўлены на магутнай плаціне* (П.Броўка).

Д а л у ч а л ь н а - т л у м а ч а л ь н ы я ўзаемаадносіны заснаваны на такім далучэнні састаўной часткі, пры якім яны тлумачаць папярэднюю састаўную частку: раскрывае ці канкрэтызуе яе змест. У якасці сродку сувязі ўжываюцца наступныя словы і словазлучэнні (*гэта значыць, а іменна, напрыклад)*, якія ўжываюцца ў функцыі злучнікаў: *Да самага апошняга часу засталіся такія віды раслін, якія ў працэсе сваёй жыццядзейнасці ўтвараюць рэчывы з высокай ступенню вуглефікацыі; напрыклад, некаторыя складанакветкавыя расліны адкладаюць у каляплодніках так званы фітамелон да сямі працэнтаў* (З часопіса).

Гэтыя сказы часцей за ўсё выкарыстоўваюцца ў мове газет, навуковых прац, паколькі характар навуковага апісання патрабуе шматлікіх удакладненняў, доказаў, тлумачэнняў.

Д а л у ч а л ь н а - а б м е ж а в а л ь н ы я ўзаемасувязі заснаваны на такім далучэнні, пры якім далучаная частка змяшчае дадатковае паведамленне, удакладняе і абмяжоўвае межы таго, аб чым паведамляецца ў папярэдняй састаўной частцы. Сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-абмежавальнымі адносінамі выступаюць злучнікі *ды і то, і то* і інш.: *Слых мой толькі праз момант ловіць музыку ціхага шуму лісця, ды і то мне спачатку здаецца, што гэта ўсё яшчэ шуміць у галаве* (Я.Брыль); *Ну, можа самы найменшы элемент трывогі ў яго быў апошнімі часамі, і то з'яўляўся ён не часта* (К.Чорны).

Д а л у ч а л ь н а - в ы л у ч а л ь н ы я ўзаемаадносіны заснаваны на такім далучэнні састаўной часткі, пры якім гэта частка служыць для вылучэння і

падкрэслівання чаго-небудзь вельмі важнага са зместу папярэдняй састаўной часткі. Таму далучальна-вылучальныя адносіны заўсёды ўскладняюцца пэўным узмацняльным адценнем. Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў з далучальна-вылучальнымі адносінамі аб'ядноўваюцца з дапамогай злучнікаў *і, але, тым больш: Тады ў яго і без Несцяровіча будзе даведка, і такая, якую ён сам сабе хоча* (К.Чорны); *Хацела паступіць у інстытут, але ў які – сама не ведала* (З газет); *Было яшчэ ўсё ж такі душнавата, тым больш, што і вецер сюды амаль не пранікаў* (А.Кулакоўскі).

Д а л у ч а л ь н а - п р ы ч ы н н ы я ўзаемаадносіны заснаваны на такім далучэнні састаўной часткі, пры якім у далучанай частцы змяшчаецца дадатковае ўказанне на прычыннае значэнне папярэдняй часткі. У ролі злучальнага сродку выкарыстоўваюцца злучнікі *і, а* ў спалучэнні са словам *таму: Гэту асаблівасць адразу адчуў Васіль Бусыга, а таму прывітанне яго пану Крулеўскаму было яшчэ болей пачцівым, як звычайна* (Я.Колас).

Д а л у ч а л ь н ы я з а д ц е н н е м н е ч а к а н а с ц і ўзаемаадносіны заснаваны на такім далучэнні састаўной часткі, пры якім узнікае элемент нечаканасці або раптоўнасці. Злучальным сродкам выступае злучнік *аж (ажно)*, часам часціца *раптам: Я так крэпка сплю на печы, ажно тут – штурхель у плечы* (Я.Купала); *Не скончыў расказваць стары Купрыян, і раптам – трывога!* (Я.Колас).

Д а л у ч а л ь н а - з а к л ю ч н ы я ўзаемаадносіны заснаваны на такім далучэнні састаўной часткі, пры якім у ёй змяшчаюцца дадатковыя звесткі заключнага характару. Састаўныя часткі з гэтымі адносінамі аб'ядноўваюцца з дапамогай злучнікаў *і, ды, ды і,* а таксама пабочных слоў *значыць (значыцца), адным словам (словам): Пачатак быў зроблены, і, трэба сказаць, пачатак не дрэнны...* (Я.Брыль); *Людзі казалі, ды ці мала чаго людзі гавораць!* (М.Лынькоў); *Тры зімы толькі хадзіла ў школу, дый калі ўжо тое было!* (Я.Колас); *Увесь час ён маўчыць – значыцца, у яго многа важнага ў душы...* (К.Чорны); *Дзяўчына заспрачалася, раззлавалася, расплакалася, адным словам, адбылася "сяброўская сварка"* (Я.Маўр).

Акрамя пералічаных вышэй тыпаў складаназлучаных тыпаў сказаў існуюць с к л а - д а н а - з л у ч а н ы я с к а з ы ў с к л а д н е н а г а т ы п у.

Да гэтых сказаў адносяцца тыя, у якіх аб'ядноўваецца больш за дзве састаўныя часткі, што знаходзяцца ў камбінаваных сінтаксічных узаемаадносінах: паміж першай і другой існуюць сінтаксічныя адносіны аднаго тыпу, паміж другой і трэцяй – сінтаксічныя адносіны другога тыпу. Самі па сабе такія сінтаксічныя ўзаемаадносіны не складаюць чаго-небудзь новага: *Нясліся зыкі песень здольных, у лясах раз-пораз адбівалісь, і ім узгоркі адклікалісь, і радасць біла ў песнях вольных* (Я.Колас); *На некалькі хвілін страляніна спынілася, потым яшчэ зласней застракаталі кулямёты і затахкалі вінтоўкі* (І.Мележ).

### 9.1.3.2.4.2. Складаназалежны сказ

Складаны сказ, у якім адна састаўная частка тлумачыць другую састаўную частку і звязана з гэтай часткай з дапамогай падпарадкавальнага злучніка ці злучальнага слова, называецца с к л а д а н а з а л е ж н ы м. Такім чынам, адна з састаўных частак складаназалежнага сказа семантычна і сінтаксічна падпарадкавана другой частцы. Адносна незалежная частка атрымала назву г а л о ў н а й, а залежная ад яе называецца д а д а н а й. Семантычныя і сінтаксічныя адносіны паміж галоўнай і даданай часткамі афармляюцца з дапамогай розных сродкаў: злучнікаў або злучальных слоў; суадносін формаў слоў у складзе галоўнай і даданай

частак (трывальна-часавых суадносін дзеясловаў-выказнікаў); парадку размяшчэння галоўнай і даданай частак у складаназалежным сказе; інтанацыі і інш.

Сказы, у якіх сувязь паміж даданай і галоўнай часткамі выражаецца пры дапамозе злучнікаў, называюцца сказамі са злучнікавым падпарадкаваннем, а сказы, у якіх даданая частка звязваецца з галоўнай пры дапамозе злучальнага (адноснага) слова, называюцца сказамі з адносным падпарадкаваннем. У сказах з адносным падпарадкаваннем сувязь даданай часткі з галоўнай значна цяснейшая, чым у сказах са злучнікавым падпарадкаваннем. Параўн.: *Ён здагадваецца, што́ я чытаю – Ён ведае, што я чытаю.*

Да злучальных слоў адносяцца займеннікі і прыслоўі *які, каторы, чый, хто, што, колькі, дзе, куды, адкуль, як, чаму* і інш. У большасці выпадкаў злучальныя словы маюць на сабе лагічны націск.

У галоўнай частцы складаназалежнага сказа могуць быць займеннікі і прыслоўі, якія канкрэтызуюцца ў даданай частцы. Яны з'яўляюцца адным з сінтаксічных сродкаў сувязі і выконваюць ролю ўказання на аб'ект дзеяння ці прыкметы, на розныя акалічнасці дзеяння і г.д. Такія ўказальныя займеннікі і прыслоўі называюцца суадноснымі словамі.

Калі лексічнае значэнне суадносных слоў аслабляецца, то яны могуць поўнасцю адыходзіць к даданай частцы і станавіцца часткай складанага злучніка: *таму што, для таго каб, у той час як, так як, тады як* і інш.

У залежнасці ад адносін паміж састаўнымі часткамі складанага сказа і пэўных груп злучнікаў, злучальных слоў, вылучаюцца складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі, часу, месца, умовы, прычыны, мэты і г.д.

Складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі маюць у сваім складзе залежную частку, якая характарызуе прадмет, дзеянне, стан абазначаны пэўным словам галоўнай часткі: *Вось тая хвоя з вехаю, ад якой трэба ступіць колькі крокаў направа* (Я.Колас); *Вада збярэцца такая, што аднойчы разбурыць усё...* (П.Броўка). Сродкам сувязі выступаюць злучальныя словы *які* (зрэдку – *каторы*), *чый, што, хто, дзе, куды, адкуль, калі, як* і злучнікі *нібы, быццам, каб.*

Залежная частка можа азначаць у галоўнай любы член сказа (дзейнік, дапаўненне, іменную частку састаўнога выказніка, недапасаванае азначэнне, акалічнасць): *І пакаціўся гром, якому век рэхам грымець* (М.Танк); *Ціхенька адзеўшыся, Міхалка павольненька выцягнуў торбачку, у якую яшчэ з вечара злажыў усе свае рэчы* (Я.Колас); *Між дзвярыма і другою сцяною прытулілася шафа са шклянымі ўверсе дзверцамі, за якімі стаялі кнігі роўненькімі радочкамі* (Я.Колас); *У дзень, калі было прызначана новае спатканне, паліў дождж як з вядра* (П.Броўка); *Усе складалі свае парашуты ў адно месца, пад нізенькую каржакаватую ігрушу, якая дзіка расла, растапырыўшыся і пакрывіўшыся над шырокім жытнім полем* (К.Чорны); *Максім глядзіць неяк зусім незвычайна, з усмешкай, якая з'яўляецца рэдка* (Я.Брыль).

Злучнік або злучальнае слова звычайна знаходзіцца на пачатку даданай часткі: *Вось той самы прыпынак яго, да якога ён ішоў* (А.Куляшоў). Адзінкавыя выключэнні сустракаюцца пераважна ў паэтычных творах. *"Бо, сыны мае, – так кажа, – жывяце ў краіне, чалавечая дзе праца намарна не гіне"* (Я.Купала).

Складаназалежныя сказы з даданымі дапаўняльнымі ўключаюць залежную частку, якая з'яўляецца разгорнутым дапаўненнем да пэўнага члена галоўнай часткі або раскрывае змест дапаўнення-займенніка: *Раман чула прыслухоўваўся да ўсяго, што рабілася вакол* (Я.Колас); *Ты зразумей, які гэта чалавек, якая душа!..* (І.Шамякін). Сродкам сувязі з'яўляюцца злучнікі *што, каб, як,*

*быццам, як быццам, нібы, ці,* пытальна-адносныя займеннікі і прыслоўі *хто, што, які, чый, колькі, наколькі, дзе, куды адкуль, калі, як, пакуль.*

Дададныя дапаўняльныя часткі часцей за ўсё адносяцца да дзеясловаў: *Я знаю, што цяжка і горка свой дом пакідаць і сяло* (А.Астрэйка). Часам яны могуць тлумачыць і некаторыя назоўнікі са значэннем успрыняцця, паведамлення, разумовай дзейнасці, пачуццяў, унутранага стану: *І ад думкі гэтай, як ад свядомасці, што яна – апошняя магчымасць выйсці з тупіка, стала і радасна і нейк трошкі не па ўзросту страшнавата* (Я.Брыль). Даволі рэдка дададныя дапаўняльныя адносяцца да прыметнікаў, якія звычайна абазначаюць пачуццё ці ўнутраны стан: *Ды ці мог ён, Рыгор, быць пераконан да пэўнасці, што Зося ні каліва, ні беднага не любіць Васіля* (Ц.Гартны).

Звычайна дададная дапаўняльная знаходзіцца ў п о с т п а з і ц ы і адносна галоўнай: *Ён разумее ўжо, што за бацьку няма чаго і няма на каго злаваць* (Я.Брыль).

У выпадках п р э п а з і ц ы і дададнай дапаўняльнай часткі адносна галоўнай гэта дададная дапаўняльная лагічна вылучаецца: *Як яно будзе далей, сказаць цяжка* (Я.Колас). Часам прэпазіцыйнае размяшчэнне дададнай дапаўняльнай абумоўлена кантэкстам: *"Можа вы таму, што не ўсё добра ў нас..." – "Што не ўсё добра, я сам бачу"* (П.Броўка).

Складаназалежныя сказы з дададнымі д з е й н і к а в ы м і ўключаюць залежную частку, якая выконвае функцыю дзейніка ў адносінах да выказніка галоўнай часткі або раскрывае канкрэтны змест дзейніка-займенніка галоўнай часткі: *Усё, што вы бачыце перад сабой, доўга падрыхтоўвалася і доўга будавалася* (Р.Мурашка).

Адносна сродкаў сувязі складаназалежныя сказы з дададнымі дзейнікавымі падзяляюцца на дзве групы: з с у а д н о с н ы м словам у галоўнай частцы і без яго.

Дзейнікам у галоўнай частцы звычайна выступаюць займеннікі *той (тая, тое), кожны, усякі, усё* і інш., у ролі злучальных слоў ужываюцца *хто, што, які* і інш.: *Той, што хадзіў па пакоі, выскачыў за дзверы* (Р.Мурашка); *Даведалася дзяўчына, што ў іх за справа...* (А.Якімовіч).

Склонавая форма злучальнага слова залежыць ад яго сінтаксічнай функцыі ў дададнай частцы, форма роду слоў *які, каторы* – ад формы роду слова галоўнай часткі.

Сродкам сувязі ў складаназалежных сказах з дададнай часткай, якая выконвае функцыю дзейніка ў адносінах да выказніка галоўнай часткі, з'яўляюцца злучнікі і злучальныя словы *што, як, быццам, каб, хто, які, дзе, куды* і інш.: *І ўсё, што калісь перажыта, цішэй спускаецца на дно* (Я.Колас).

Калі дададная частка з'яўляецца дзейнікам да выказніка галоўнай, то галоўная частка знаходзіцца ў п р э п а з і ц ы і да залежнай: *Здавалася, што з вечнай ночы выплыў першы дзень на зямлі – белы, малады і марозліва пахучы* (З.Бядуля). П о с т п а з і ц ы я галоўнай часткі ў такіх выпадках сустракаецца вельмі рэдка: *Як яны адлётваюць, калі, для людзей заўсёды невядома* (А.Астрэйка).

Складаназалежныя сказы з дададнымі в ы к а з н і к а в ы м і ўключаюць залежную частку, якая раскрывае канкрэтны змест выказніка-займенніка (звычайна ўказальнага) галоўнай часткі: *А Марына не такая, як цяпер, а такая, якая была тады, калі ён вярнуўся з сваіх тых вандраванняў* (К.Чорны). У ролі выказніка галоўнай часткі ўжываюцца словы *той (тая, тое), такі (такая, такое), гэтакі (гэтакая, гэтакае).* Сродкам сувязі з'яўляюцца злучнікі і злучальныя словы *што, які, хто, як, быццам, каб* і інш.

Даданая выказнікавая частка звычайна знаходзіцца ў п о с т п а з і ц ы і да галоўнай: *Яна, гэтая Параска, такая, што ў яе на языку нішто не затрымаецца* (Р.Сабаленка).

Адваротны парадак слоў у галоўнай частцы выкарыстоўваецца пры неабходнасці падкрэсліць выказнік: *Не такі той крук, што выпусціць з рук* (Прыказка).

Складаназалежныя сказы з даданымі ч а с у ўключаюць залежную частку, якая знаходзіцца з галоўнай у часавых адносінах: *Ходзяць зоры над краінай нізка... Досвіткам, калі чуць-чуць відно, самая вялікая зарніца падае ў маё акно* (П.Глебка). Сродкам сувязі выступаюць злучнікі *калі, як, пакуль, ледзь, ледзь толькі, як толькі, толькі што, з таго часу як, у той час як* і інш.

Даданыя часткі маюць дзве разнавіднасці ў залежнасці ад адначасовасці ці неадначасовасці дзеянняў з тымі, аб якіх гаворыцца ў галоўнай частцы. У сказах з адносінымі а д н а ч а с о в а с ц і даданая частка звязваецца з галоўнай злучнікамі *калі, як, пакуль: І гэтак штоночы, да першай зарніцы, калі непагоды гудуць, адна за другой да заходняй граніцы журботныя думы лятуць* (П.Глебка).

У сказах з адносінамі н е а д н а ч а с о в а с ц і сродкам сувязі выступаюць разнастайныя простыя і складаныя злучнікі: *калі, як, пакуль, пакуль, ледзь толькі, як толькі, перад тым як, з таго часу як* і інш.: *Ледзь толькі пехацінцы мінулі алешнік, як поруч, вострa скрыгочучы, важка загрукаталі выбухі* (І.Мележ).

Складаназалежныя сказы з даданымі м е с ц а ўключаюць залежную частку, якая змяшчае ўказанне на месца ці прастору, дзе знаходзіцца ці адбываецца тое, пра што гаворыцца ў галоўнай частцы: *Там, дзе вайна зялёны сад агнём смяротным апаліла, зноў маладых каштанаў шмат мы працавіта насадзілі* (М.Танк). У якасці сродку сувязі выкарыстоўваюцца злучнікі *дзе, куды, адкуль*.

Злучнікі звычайна размяшчаюцца на пачатку даданай часткі: *Выйшлі з ёй, дзе сенажатная краса зіхцела, як вясёлкі мнагацветны ўзор...* (Я.Купала). Залежная частка можа адносіцца непасрэдна да выказніка галоўнай часткі або да акалічнасці месца галоўнай часткі, якая выражаецца прыслоўем, назоўнікам ці словазлучэннем: *А новае мора сыпле алмазы, дзе сонца гуляе з хвалямі разам і тушыць увечар свой жар* (Я.Колас); *Я зноў жыву ад гораду ўдалі, дзе я знайшоў куток у сваім гусце* (Я.Колас).

Акалічнасць месца, якая ўдакладняецца або раскрываецца зместам даданай часткі, звычайна выражана займеннікавымі прыслоўямі *там, туды, адтуль, усюды, адусюль*, якія выконваюць ролю суадносных слоў. Звычайна пэўныя суадносныя словы адпавядаюць пэўным злучнікам: *там, усюды – дзе; туды – куды; адтуль, адусюль – адкуль: І мы спяшаемся туды, дзе маладая весялосць* (Я.Брыль); *Ён варушыўся, клапаціўся і памагаў усюды, дзе толькі цяжэй было* (К.Чорны).

Даданая частка звычайна размяшчаецца пасля галоўнай. У выпадку п р э п а з і ц ы і даданай часткі галоўная можа пачынацца часціцай *то: І дзе ён не павернецца, то ўсюды так ці інакш натыкаецца на праклятае палена* (Я.Колас). Даданая частка знаходзіцца ў сярэдзіне галоўнай толькі тады, калі яна непасрэдна адносіцца да акалічнасці галоўнай часткі: *А там у зацішку на майдане, дзе вербы ў квецені маўчаць, да долу хіляцца ў тумане нямыя постаці дзяўчат* (П.Трус).

Складаназалежныя сказы з даданымі п р ы ч ы н ы ўключаюць залежную частку, у якой раскрываецца прычына ці даецца абгрунтаванне таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы: *Жыла ў ім цяга да роднай сялібы. Можа таму яна і паглыблялася, што жыццё сваё бацька правёў на калёсах, заўсёды ў руху, вечна далёка ад сваёй сялібы і сям'і* (П.Пестрак). Сродкам сувязі выступаюць простыя

злучнікі *бо, як, што, паколькі* і складаныя злучнікі *таму што, ад таго што, затым што, дзеля таго што, па той прычыне што* і пад.

Месца дадзенай прычыннай часткі адносна галоўнай у асноўным залежыць ад злучніка. Залежныя часткі са злучнікам *бо* заўсёды размяшчаюцца пасля галоўнай часткі: *Прыемна глядзець на такую ўсмешку, бо ўсе мы заўсёды чакаем і хочам радасці* (Я.Брыль). Залежныя часткі са злучнікам *як* могуць размяшчацца і на пачатку сказа. Галоўная частка ў такіх выпадках пачынаецца часціцай *то: Як я тут ёсць чалавек староннi, то... можа мне і не трэба ўмешвацца* (Я.Колас).

Залежныя часткі са злучнікам *што* звычайна знаходзяцца ў постпазіцыі: *Не журыся горненька і не плач, што са мною, любая, не была* (П.Глебка). Прэпазіцыйнае месца залежных прычынных частак уласціва гутарковай мове: *Каб ты ведала, колькі людзей ездзіць. Гэта што мы дома сядзім, дык нічога не бачым* (М.Паслядовіч).

Залежныя часткі з астатнімі прычыннымі злучнікамі могуць быць як у прэпазіцыі, так і ў постпазіцыі.

Складаназалежныя сказы з даданымі мэты змяшчаюць залежную частку, якая ўказвае на мэту ці прызначэнне названага ў галоўнай частцы: *Вясна ідзе. Сып снегу больш, зіма, каб поле небывала ўскаласіла* (П.Панчанка). Сродкам сувязі выступаюць злучнікі *каб, абы, для таго каб, дзеля таго каб, на тое каб* і інш.

Залежная частка звычайна займае постпазіцыйнае становішча: *Ты зрабіўся вельмі добры, Мікалай Лявонавіч, ты хочаш прымірыць усіх, абы ціха было* (М.Паслядовіч). Размяшчэнне дадзенай часткі перад галоўнай з'яўляецца абавязковым толькі тады, калі гэтая частка звязана з папярэднім тэкстам якім-небудзь злучнікам: *А каб застаць яго дома, ён і прыехаў так рана* (У.Краўчанка). Калі дадзеная частка раскрывае мэту толькі аднаго дзеяння з некалькіх у галоўнай частцы, то яна размяшчаецца ў сярэдзіне галоўнай: *Спытаўся я наўздагад, каб толькі не слухаць няшчырасці, але трапіў якраз* (Я.Брыль).

Складаназалежныя сказы з даданымі ўмовы ўключаюць залежную частку, якая ўказвае на ўмову ажыццяўлення таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы: *Калі абедзве часткі няроўнасці маюць дадатны агульны множнік, то на яго можна падзяліць абедзве часткі няроўнасці* (А.Кісялёў). Сродкам сувязі выступаюць злучнікі *калі, як, каб, раз, абы* і інш.

Залежная частка звычайна займае прэпазіцыйнае становішча: *І вось як бацька выйдзе зрана ды стрэльбу накрыж перакіне – і ў палясоўшчыцкім ён чыне, дапраўды, змахвае на пана!* (Я.Колас). Калі галоўная частка стаіць пасля залежнай, то яна звычайна пачынаецца часціцамі *то, дык*, або пабочнымі словамі са значэннем выніку: *Каб сапраўды быў знаёмы голас, то я ўспомніў бы, хто* (К.Чорны). Залежная частка стаіць пасля галоўнай, калі яна змяшчае дадатковую заўвагу да асноўнага сэнсу ўсяго выказвання, заключанага ў галоўнай частцы: *Навошта мне, рыбка, твая дапамога, калі ў мяне ў кішэні не такі памочнік* (А.Якімовіч).

Складаназалежныя сказы з даданымі ўступальнымі змяшчаюць залежную частку, змест якой з'яўляецца процілеглым таму, што паведамляецца ў галоўнай частцы. *Хоць і не ведаў аб гэтых строгасцях дзед Талаш, але, адчуваючы свае грахі перад акупантамі, ён таксама трымаў вуха востра* (Я.Колас). Сродкам сувязі выступаюць злучнікі *хоць (хаця), няхай (хай), дарма што, нягледзячы на тое што* і інш.

Уступальная сувязь блізкая да супраціўнай, таму складаназалежныя сказы з уступальнымі даданымі набліжаюцца да складаназлучаных сказаў. Асабліва яскрава

гэта праяўляецца, калі часткі складанага сказа звязваюцца парнымі злучнікамі, першым з якіх выступае падпарадкавальны ўступальны злучнік, а другім – адзін з супраціўных злучнікаў (*а, але, ды, толькі* і інш.): *Хоць мне цяжка, толькі з вамі* [думкамі] *не адзін я ў свеце* (Я.Колас).

Залежная частка можа размяшчацца як пасля галоўнай, так і перад галоўнай, а таксама ў сярэдзіне галоўнай часткі. Залежная ўступальная частка, як і іншыя залежныя часткі складаназалежных сказаў, займае п р э п а з і ц ы й н а е становішча тады, калі яна звязана з папярэднім тэкстам: *І хоць усё ў кабінеце здавалася святочна ўрачыстым, на спакойным твары старшыні Алесь заўважыў нейкую асаблівую заклапочанасць* (П.Броўка). Калі залежная ўступальная частка адносіцца не да апошняга дзеяння аб якім паведамляецца ў галоўным, то яна змяшчаецца ў сярэдзіне галоўнай: *Раз-поразу ён азіраўся назад і ў бакі, хоць нельга было нічагуткі ўгледзець перад сабою, і ўсё прыгінаўся як найніжэй* (Ц.Гартны).

Складаназалежныя сказы з даданымі в ы н і к о в ы м і ўключаюць залежную частку, якая раскрывае вынік таго, пра што гаворыцца ў галоўнай частцы: *Поезд адыходзіць пад вечар, так што добрых яшчэ гадзіны тры на зборы* (П.Броўка). Сродкам сувязі выступае злучнік *так, што.*

Паколькі паміж галоўнай і залежнай часткай існуюць прычынна-выніковыя адносіны, то гэтыя сказы набліжаюцца да складаназалежных з даданымі прычыны. Аднак у даданай выніковай частцы ўвага акцэнтуецца не на прычыне, а на выніку: *Яны* [бярвенні] *былі карычневыя, закураныя, так што нічым не розніліся ад іншых сцен у хаце* (П.Броўка).

Залежныя выніковыя часткі адносяцца не да якога-небудзь аднаго слова, а да ўсёй галоўнай часткі: *Бацькі прыносілі яму яду, так што галадаць не прыходзілася* (Я.Колас).

У навуковым і публіцыстычным стылях у функцыі выніковага злучніка могуць ужывацца словазлучэнні *ў выніку чаго, у выніку гэтага*. У гэтай функцыі выступае і прыслоўе *таму: Відаць, утаміўся за ўчарашні дзень і вечар, таму і заснуў так моцна* (М.Лынькоў).

Складаназалежныя сказы з даданымі м е р ы і с т у п е н і ўключаюць залежную частку, у якой раскрываецца мера праяўлення дзеяння, прыкметы ці стану, выражаныя дзеясловам, прыметнікам, прыслоўем або назоўнікам галоўнай часткі: *Аднойчы так засядзеўся над рэчкаю з вудай, што мама поцемку сустрэла мяне на лузе* (Я. Брыль); *Адзін быў зусім стары, гэтакі стары, што, здаецца, мала што бачыў навокал сябе* (К.Чорны). Сродкам сувязі выступаюць злучнікі *што, як, нібы* і інш.

Залежная частка знаходзіцца звычайна пасля галоўнай: *Ён цяпер ішоў гэтак няроўна і нязграбна нейк, што чапляўся, небарак, нагамі за кожную няроўнасць* (К.Чорны).

Складаназалежныя сказы з даданымі х а р а к т а р у і с п о с а б у д з е я н н я змяшчаюць залежную частку, якая паказвае якім чынам або якім спосабам адбываецца дзеянне, названае ў галоўнай частцы: *Толькі трэба зрабіць так, як бы гэта было незумысня* (Я.Колас). Сродкам сувязі выступаюць злучнікі *як, як бы, быццам, нібы, каб, што* і інш. Гэтым злучнікам у галоўнай частцы можа адпавядаць суадноснае слова *так (гэтак).*

Залежная частка звычайна размяшчаецца пасля галоўнай: *Мы не хочам жыць так далей, як жылі нашы дзяды* (Я.Колас). Калі змест залежнай часткі адносіцца не да апошняга аднароднага члена ў галоўнай частцы, то яна змяшчаецца ў сярэдзіне галоўнай часткі. *Выплыве тады ён* [шчупак], *серабрыста кружачы, ціха так, каб*

*хвалі соннай не збудзіць, і з-пад сетак сініх вуснамі сцюдзёнымі пачынае зоры дзедавы лавіць* (М.Танк).

Складаназалежныя сказы з дададзенымі супастаўляльнымі і параўнальнымі змяшчаюць залежную частку, змест якой супастаўляецца ці параўноўваецца са зместам галоўнай часткі: *Як шпарка, у некалькі гадзін, сохла зямля ў веснавы дзень пасля дажджу, гэтак шпарка і неўзаметку ўядаліся ў жыццё сляды гэтага новага ветру* (К.Чорны). Сродкам сувязі выступаюць злучнікі *як, чым, наколькі, у той час як, тады як* і інш. Злучнікам *як, чым, наколькі* ў галоўнай частцы абавязкова адпавядаюць суадносныя словы *так (гэтак), тым, настолькі (нагэтулькі)*.

Залежная частка можа размяшчацца перад галоўнай, пасля галоўнай і ў сярэдзіне галоўнай часткі. Перад галоўнай часткай звычайна размяшчаецца дададзеная частка са злучнікам *чым: Чым больш уставала гэтых перашкод, тым больш расло ў Сцёпкі ўпартае жаданне дабіцца свайго* (Я.Колас).

Складаназалежныя сказы з далучальнай сувяззю ўключаюць залежную частку, якая змяшчае дадатковае паведамленне, якое тлумачыць або дапаўняе сказанае ў галоўнай частцы: *Багата чаго бачыла гэтая лесавая шапка, ёмістая, касматая, сям-там падсмаленая ля лясных вогнішчаў, прастрэленая ў некалькіх мясцінах, гэта калі Канапелька апрабоўваў сваю новую пістонаўку, высока ўгору падкінуўшы шапку* (М.Лынькоў). Сродкам сувязі выступаюць злучальныя словы *што* (у розных склонах, з прыназоўнікамі ці без іх), *дзе, куды, калі* і інш.

Залежная частка звычайна знаходзіцца ў постпазіцыі адносна галоўнай. *Ішлі мядзведзіцкія па адным, па два, хапаючыся за шулы і шчыкеты, намацваючы нагамі каменні, углядаючыся ў пратаптаныя сляды, выбіраючы, дзе святлейшая, сушэйшая лапінка, і трапляплі знячэўку ў самую сярэдзіну лужыны, ад чаго пырскі імпэтна разляталіся ва ўсе бакі, як аскепкі ад разрыву снарада* (К.Крапіва).

### 9.1.3.2.4.3. Бяззлучнікавы складаны сказ

Бяззлучнікавым складаным сказам называецца складаны сказ, часткі якога ўзаемазвязаны сэнсава, структурна і інтанацыйна без дапамогі злучнікаў або злучальных слоў: *Вёска згарэла дашчэнту, жыхары паразбегліся* (Э.Самуйлёнак); *Бяду нажыці ўсякі можа, бяды пазбыцца – не ўсякі* (Я Купала); *Помніцца яму – адзін раз нешта гналася за ім да самага мястэчка* (Ц.Гартны).

Вылучаюцца:

бяззлучнікавыя складаныя сказы аднароднага складу (з аднатыпнымі часткамі): *Поезд прайшоў, шлагбаум падняўся, стары чалавек перайшоў праз рэйкі і ўвайшоў у глухі завулак* (К.Чорны);

бяззлучнікавыя складаныя сказы неаднароднага складу (з разнатыпнымі састаўнымі часткамі): *Такі добры быў пах – хацелася дыхаць і дыхаць!* (І.Мележ).

Сярод бяззлучнікавых складаных сказаў з аднатыпнымі часткамі вылучаюцца складаныя сказы з часавымі і супастаўляльнымі адносінамі: *Шчабяталі пад страхой ластаўкі, гулі пчолы за сцяной* (М.Лынькоў); *У гэты дзень зямля спявала, калоссе морам зашумела, ясней і сонца нам заззяла, грамчэй і песня зазвінела* (А.Русак); *Над ракою ў спакою зацвітала каліна; у сяле за ракою вырастала дзяўчына* (Я. Купала); *Былому – былое, новаму – новае...* (П. Броўка).

Сярод бяззлучнікавых складаных сказаў з разнатыпнымі часткамі вылучаюцца сказы з суб'ектнымі, аб'ектнымі, атрыбутыўнымі, акалічнаснымі адносінамі.

У бяззлучнікавых складаных сказах з с у б ' е к т н ы м і адносінамі другая частка выконвае функцыю дзейніка адносна выказніка першай састаўной часткі: *Мне здаецца – прастор набухае агнём навальніц* (П.Панчанка).

У бяззлучнікавых складаных сказах з а б ' е к т н ы м і адносінамі другая частка выконвае функцыю дапаўнення адносна першай састаўной часткі: *З даўніх пор кажуць: праца спорыцца пры песні* (К.Буйло).

У бяззлучнікавых складаных сказах з а т р ы б у т ы ў н ы м і адносінамі другая частка выконвае функцыю азначэння адносна дзейніка, дапаўнення, іменнага выказніка першай часткі: *Была калісь пара: гучэла завіруха і замяла маёй мінуўшчыны сляды* (М.Багдановіч); *Карысць бадай што тут адна: не будзем мецъ мы талакна* (К.Крапіва); *Справа ў яго складаная: кожны няўдалы рух ці недахоп увагі могуць сапсаваць дэталь...* (А.Кулакоўскі).

У бяззлучнікавых складаных сказах з а к а л і ч н а с н ы м і адносінамі перадаюцца прычынна-выніковыя, умоўна-выніковыя адносіны, адносіны спосабу дзеяння і інш.: *Апошнімі начамі яму даводзілася мала спаць – ён цяпер пакутае ад моцнага галаўнога болю* (І.Мележ); *А зірнеш на поле – сэрца сціснецца...* (Я.Колас); *Было калісьці так: англійскі фунт на біржах свету ўздымаў тайфун* (П.Панчанка).

Асобна вылучаюцца складаныя сказы з б я з з л у ч н і к а в а - д а л у ч а л ь н а й сувяззю, якія маюць разнатыпныя часткі, другая з якіх з'яўляецца дадатковым паведамленнем адносна зместу першай. Сярод гэтых сказаў вылучаюцца:

бяззлучнікавыя складаныя сказы з д а л у ч а л ь н а - а з н а ч а л ь н ы м і адносінамі. У гэтых сказах другая частка характарызуе ролю, якасць, прызначэнне таго, што сказана ў першай: *Добра ў яго выходзіла, гладка, я гэтак ніколі не расказаў бы* (А.Кулакоўскі);

бяззлучнікавыя складаныя сказы з д а л у ч а л ь н а - д а п а ў н я л ь н ы м і адносінамі. У гэтых сказах другая частка дапаўняе змест аднаго з членаў першай часткі: *Я збудаваў дом новы, ля саду ён стаіць...* (А.Русак);

бяззлучнікавыя складаныя сказы з д а л у ч а л ь н а - т л у м а ч а л ь н ы м і адносінамі. У гэтых сказах другая частка тлумачыць і раскрывае змест першай часткі: *Пранізвае цішу сярэбраны свіст – то далі калыша гудком машыніст* (К.Буйло);

бяззлучнікавыя складаныя сказы з д а л у ч а л ь н а - в ы л у ч а л ь н ы м і адносінамі. У гэтых сказах другая частка з'яўляецца дадатковым паведамленнем з вылучэннем чагосьці важнага са зместу або паводле зместу першай састаўной часткі: *Дэлегацыя ўсё захаплялася ды хваліла пана дырэктара, нават зазнялі яго з ясельным дзіцем на руках* (М.Лынькоў);

бяззлучнікавыя складаныя сказы з д а л у ч а л ь н а - в ы н і к о в ы м і адносінамі. У гэтых сказах другая частка змяшчае вынік, які не выцякае непасрэдна са зместу першай часткі, а з'яўляецца дадатковым паведамленнем адносна гэтага зместу: *Выйду рана, гляну ў поле, – зарасло поле травой* (П.Трус);

бяззлучнікавыя складаныя сказы з д а л у ч а л ь н а - з а к л ю ч н ы м і адносінамі. У гэтых сказах другая частка змяшчае дадатковыя звесткі заключнага характару адносна зместу першай часткі. У другой частцы такіх складаных сказаў часта выкарыстоўваюцца мадальныя словы *відаць, няйначай*: *Яблыня гэтая была седлаватай і аднабокай: відаць, нямала давялося ёй перанесці ўсякіх нягод* (А.Кулакоўскі).

Сярод бяззлучнікавых складаных сказаў у с к л а д н е н а г а т ы п у вылучаюцца два віды:

сказы, у якіх кожная сінтаксічная група з'яўляецца злучэннем некалькіх састаўных частак. Такія сінтаксічныя групы вызначаюцца паралелізмам будовы, які выяўляецца ў аднолькавай колькасці аднатыпных або разнатыпных частак, паміж якімі існуюць аднайменныя сінтаксічныя адносіны: *Хацеў сказаць слова – язык не варушыўся; хацеў бегчы за Максімам – ногі не слухалі* (Я.Колас);

сказы, у якіх адна сінтаксічная група з'яўляецца злучэннем некалькіх частак, а другая складаецца толькі з адной часткі. Сінтаксічныя групы не маюць паралелізму будовы: *Адбывалася яшчэ многа важнага і патрэбнага: за Галаскамі пракрычала балотная птушка, з шашы доўга чуўся грузавы аўтамабіль, запахла роснаю травою, неба за агародамі цьмела, зламаная саломіна гойдалася на браме: узнімаўся нанач вецер* (К.Чорны).

## 9.2. ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-СЕМАНТЫЧНЫ СІНТАКСІС

Функцыянальна-семантычны сінтаксіс вывучае і сінтаксічныя функцыі моўных сродкаў у выражэнні граматычна рэлевантных семантычных катэгорый, і "тыя семантычныя катэгорыі, што вызначаюць граматычную (не індывідуальную) спалучальнасць слоў і выяўляюцца праз аналіз моўных структур" (гл.: БЕЛАРУСКАЯ МОВА 1994, 485). Пытанне "аб семантычнай абумоўленасці сінтаксічных працэсаў і семантычнай будове сінтаксічных структур", упершыню не толькі пастаўленае, а і ў значнай меры распрацаванае ў беларускай лінгвістыцы прафесарам А.Я.Міхневічам у сямідзесятыя гады (гл.: МІХНЕВІЧ 1976, 3–264), не страчвае сваёй актуальнасці і сёння.

Цэнтральным паняццем функцыянальна-семантычнага сінтаксісу выступае функцыянальна-семантычная катэгорыя.

Такім чынам, тэрмін функцыянальна-семантычная катэгорыя не выключае катэгарыяльна-граматычных сродкаў выражэння, якія могуць складаць аснову, граматычнае ядро функцыянальна-семантычнай катэгорыі. Аднак да ліку функцыянальна-семантычных катэгорый належаць таксама і тыя, якія зусім не маюць катэгарыяльна-граматычных, г.зн. "чыста" граматычных сродкаў выражэння, маюць толькі лексіка-граматычныя па характары сродкі выражэння, г.зн. адносяцца да скрытаграматычных, селекцыйных функцыянальна-семантычных катэгорый.

Значэнні, якія з'яўляюцца граматычнымі ў адных мовах, могуць быць неграматычнымі ў другіх. Так, значэнне пэўнасці – няпэўнасці ў славянскіх мовах неграматычнае. Яно перадаецца толькі тады, калі неабходна дакладна паведаміць, аб якіх прадметах (з'явах ці асобах) ідзе размова: аб пэўных прадметах (*Ён узяў тыя алоўкі)* ці аб прадметах наогул *(Ён узяў алоўкі).* У раманскіх і германскіх мовах гэта значэнне граматычнае. Яно мае пастаянныя сродкі выражэння (напрыклад, нямецкія пэўныя і няпэўныя артыклі) і перадаецца пры кожным назоўніку незалежна ад таго, важнае яно для пэўнага выказвання або не. Станавыя значэнні таксама выражаны ў розных мовах па-рознаму.

Значэнні, якія з'яўляюцца ў некаторых мовах марфалагічнымі катэгорыямі, часцей за ўсё рэлевантныя для сістэмы кожнай мовы і павінны стаць аб'ектам лінгвістычнага даследавання (гл.: АПРЕСЯН 1967, 18).

Напрыклад, магчымасць рэлевантнасці функцыянальна-семантычных станавых значэнняў сумеснасці і ўзаемнасці пацвярджаецца тым, што ў асобных мовах яны маюць пастаянныя марфалагічныя формы выражэння.

Аднак вызначэнне рэлевантнасці значэнняў па прынцыпе іх граматычнасці ў якіх-небудзь мовах знешняе адносна пэўных моўных фактаў. Да таго ж у асобных

выпадках такі спосаб вызначэння бывае часам немагчымы нават з чыста тэхнічнага боку.

У сучаснай лінгвістыцы распрацаваны падыход да вывучэння семантычнага аспекту мовы, які дазваляе вызначыць характар значэння моўнай адзінкі на аснове асаблівасцей самой гэтай адзінкі. Галоўным зыходным прынцыпам гэтага падыходу з'яўляецца тое, што паміж сінтаксічна рэлевантнымі значэннямі слоў і іх граматычнымі ўласцівасцямі ёсць двухбаковая залежнасць. Словы пэўнай семантычнай групы маюць падобныя сінтаксічныя або марфалагічныя ўласцівасці. Так, дзеясловы са значэннем сумеснасці тыпу *тоўпіцца, купчыцца, раіцца* маюць агульную і характэрную толькі для іх сінтаксічную ўласцівасць патрабаваць пасля сябе акалічнасць "вакол чаго?". Усе яны маюць у сваім марфалагічным складзе ўтваральную аснову зборнага назоўніка і афікс *-ца(-ся)*. Дзеясловы такой марфалагічнай структуры заўсёды змяшчаюць у сваім значэнні сему 'сумесна', 'супольна', 'разам'. Аналагічна дзеясловы, у марфалагічным складзе якіх ёсць прыстаўка *пера-* у спалучэнні з афіксам *-ца (-ся) (перакідвацца, пераменьвацца, перашэптвацца* і інш.), выражаюць значэнне ўзаемнасці дзеяння.

Залежнасць паміж семантыкай і граматычнымі функцыямі слова неаднаразова падкрэслівалася многімі даследчыкамі. Апісанне граматычнага ладу і слоўнікавага складу мовы з улікам гэтай узаемнай залежнасці – актуальная праблема функцыянальна-семантычнага сінтаксісу.

Улік названай залежнасці дае магчымасць строга апісаць семантыку і пазбегнуць неапраўданага драбнення семантычных груп слоў, якое без выкарыстання фармальных паказчыкаў практычна можна працягваць бясконца. Вылучэнне семантычных груп слоў па фармальных паказчыках дазваляе таксама выявіць і зрабіць аб'ектам даследавання некаторыя граматычна рэлевантныя значэнні, якія не былі яшчэ аб'ектам спецыяльнага даследавання, так званыя скрытаграматычныя функцыянальна-семантычныя значэнні.

Устанаўленнем рэлевантнасці пэўнага значэння для сістэмы мовы не заканчваецца, а толькі пачынаецца яго вывучэнне, накіраванае на вызначэнне яго канкрэтнай моўнай прыроды, асаблівасцей функцыянавання і г.д. Так, граматычная рэлевантнасць значэнняў сумеснасці і ўзаемнасці яшчэ не сведчыць аб тым, што названыя значэнні маюць у сучаснай беларускай мове характар граматычных катэгорый.

У выніку шматгадовай дыскусіі аб сутнасці граматычнай катэгорыі выпрацаваны два асноўныя пункты погляду:

1. Граматычная катэгорыя – набор форм, аб'яднаных адзіным граматычным значэннем і адзінствам фармальных паказчыкаў.

2. Граматычная катэгорыя – проціпастаўленне не менш чым двух процілеглых узаемавыключаючых адзін аднаго па значэнню радоў форм.

Абодва гэтыя пункты погляду на сутнасць граматычнай катэгорыі мэтазгодна было б разглядаць не як процілеглыя, а як узаемадапаўняльныя. Першае азначэнне характарызуе названае паняцце з боку яго моўнага зместу і аб'ёму, другое – з боку ўзаемаадносін асноўных складальнікаў.

У адпаведнасці з гэтым для вызначэння граматычнай катэгарыяльнасці пэўных рэлевантных значэнняў варта перш за ўсё высветліць наступныя пытанні: Ці выражаюцца дадзеныя значэнні марфалагічнымі формамі слоў? Ці рэгулярна ўзнаўляюцца формы, якія афармляюць названыя значэнні, у пэўным лексіка-граматычным кантэксце? Ці падзяляюцца ўсе формы выражэння дадзеных значэнняў на два або некалькі радоў, процілеглых па дыферэнцыяльных семантычных

прыкметах у межах агульнага катэгарыяльнага значэння і па фармальных паказчыках?

Напрыклад, станавыя значэнні сумеснасці і ўзаемнасці хоць і выражаюцца ў сучаснай беларускай мове з дапамогай сродкаў марфалагічнай структуры дзеяслова, аднак маюць, акрамя таго, шмат іншых сродкаў выражэння, якія не заўсёды з'яўляюцца адназначнымі і рэгулярнымі паказчыкамі гэтых значэнняў. Паколькі дадзеныя станавыя значэнні перадаюцца марфалагічнымі, сінтаксічнымі і лексічнымі сродкамі, ёсць падставы характарызаваць іх як функцыянальна-семантычныя (лексіка-граматычныя па характары сродкаў выражэння) катэгорыі.

Пры даследаванні падобных функцыянальна-семантычных катэгорый мы зыходзім з таго, што для вывучэння моўных значэнняў, як катэгарыяльна-граматычных, так і некатэгарыяльных (так званых скрытаграматычных, селекцыйных), неабходна апісаць не толькі марфалагічныя формы слова, але і ўсе звязаныя з канструкцыйнымі асаблівасцямі сказа моўныя сродкі іх выражэння.

Апісанне разнародных моўных сродкаў выражэння функцыянальна-семантычных катэгорый у многім абапіраецца на тэорыю паняційных катэгорый, асновы якой былі распрацаваны О.Есперсенам (гл.: ЕСПЕРСЕН 1958). З мэтай падкрэсліць, што размова ідзе аб моўных сродках выражэння і моўнай семантыцы, у сучаснай літаратуры замест тэрміна “паняційная катэгорыя” часта ўжываюцца тэрміны “функцыянальна-семантычная”, “лексіка-граматычная” або “граматыка-лексічная” катэгорыя.

Яскравым прыкладам такога ўзаемадзеяння семантыкі і сінтаксісу з'яўляецца, у праватнасці, семантыка і моўнае выражэнне станавых значэнняў – суб'ектна-аб'ектных адносін, якія ляжаць у аснове кожнага выказвання. У якасці прыкладу прывядзем некаторыя працы даследчыкаў, якія ставяць за мэту апісаць усе патэнцыяльна магчымыя станавыя значэнні, пабудаваць вылучэнне семантычных станаў. У аснову вылучэння і апісання патэнцыяльна магчымых станавых значэнняў гэтыя даследчыкі кладуць паняцце аб двух узроўнях сказа: сінтаксічным і семантычным.

На аснове такога падыходу стан азначаецца як “рэгулярнае абазначэнне ў дзеяслове адпаведнасці паміж адзінкамі сінтаксічнага ўзроўню і адзінкамі семантычага ўзроўню” (гл.: ХОЛОДОВИЧ 1979, 284). Прычым пад фармальным абазначэннем у дзеяслове вельмі слушна разумеюцца не толькі флектыўнае выражэнне, але і аналітычныя формы, пераўтварэнні.

У адпаведнасці з такім азначэннем катэгорыі стану актыўны стан – гэта форма дзеяслова, пры якой суб'ект дзеяння выражаны дзейнікам, а аб'ект – прамым дапаўненнем; у пасіўным стане дзейнікам выражаецца семантычны аб'ект, а суб'екту адпавядае агентыўнае дапаўненне.

На аснове паслядоўнага супастаўлення сінтаксічных і семантычных актантаў дзеяслова А.А.Халадовіч вылучае 34 патэнцыяльна магчымыя станы. Пры гэтым ён адзначае, што такая, здавалася б, вялікая колькасць патэнцыяльна магчымых станаў на самай справе не з'яўляецца празмернай. Па-першае, рэальны лік станаў у кожнай мове значна меншы, чым дэдуктыўна вылічаны. Па-другое, як паказвае прааналізаваны даследчыкам матэрыял, у розных мовах сустракаюцца самыя “неверагодныя” з пункту гледжання носьбіта адной канкрэтнай мовы станы.

Для ілюстрацыі тых нечаканасцей, якія могуць узнікнуць пры выражэнні стану ў розных мовах, Халадовіч прыводзіць прыклад адначасовага ўтварэння двух пасіўных станаў у адным сказе інданезійскай мовы і паказвае паслядоўны працэс “параджэння”: *Бацька дазволіў Аміру трымаць ліст – Бацька дазволіў лісту быць трыманым Амірам – Ліст быў дазволены бацькам быць трыманым Амірам.*

Прапанаваны А.А.Халадовічам падыход удакладняе, канкрэтызуе існуючыя ўяўленні аб аб'ёме катэгорыі стану.

Разнароднасць асноўных, звязаных са станам апазіцый, з аднаго боку (актыў – пасіў, зваротнасць – незваротнасць, пераходнасць – непераходнасць), і іх непарыўная сувязь – з другога, абумоўліваюць супярэчлівасць, якая заўсёды ўзнікала пры аналізе катэгорыі стану. “Калі канцэпцыя стану імкнулася ахапіць усе з'явы, звязаныя са станам, то ў адным радзе аказваліся разнародныя моўныя факты – марфалагічныя, сінтаксічныя, лексіка-сінтаксічныя, словаўтваральныя. Пры такім падыходзе, натуральна, не атрымлівалася класіфікацыі станаў на адзіным прынцыпе. Калі ж станавая тэорыя імкнецца праводзіць класіфікацыю станаў на аснове адзінага прынцыпу, то выпадаюць і не знаходзяць месца многія на самай справе звязаныя са станам з'явы” (гл.: БОНДАРКО 1971, 55). З боку моўнага зместу гэта супярэчлівасць выклікана характарам названай катэгорыі. Стан адносіцца да ліку граматычных катэгорый, якія не маюць адназначных і спецыялізаваных марфалагічных форм, а выражаюцца вялікай колькасцю разнародных сродкаў. Усе гэтыя сродкі выконваюць агульную семантычную функцыю. Марфалагічныя станавыя формы дзеяслова нельга разглядаць без уліку пэўных сінтаксічных канструкцый, у якіх яны ўжываюцца, граматычныя сродкі выражэння станавых значэнняў у сваю чаргу цесна звязаны з лексічнымі і словаўтваральнымі.

У беларускай і наогул славянскіх мовах дзеяслоў не мае самастойных і адназначных сродкаў не толькі для выражэння ўсяго багацця і разнастайнасці тыпаў суб'ектна-аб'ектных адносін, заключаных у катэгорыі стану, але і для перадачы асобных станавых значэнняў. Кожны тып суб'ектна-аб'ектных адносін таксама выражаецца сукупнасцю разнародных моўных сродкаў.

Перад даследчыкамі, такім чынам, узнікае складаная задача: даць поўнае апісанне катэгорыі стану з ахопам усіх звязаных з ім моўных фактаў і пазбегнуць пры гэтым супярэчлівасці, якая ўзнікае з-за разнароднасці моўнага характару гэтых з'яў.

З метадалагічнага боку супярэчлівасць пры спробах поўнага апісання катэгорыі стану ў значнай ступені выклікана, на нашу думку, адсутнасцю паслядоўнага размежавання зместавага і фармальнага аспектаў гэтай катэгорыі.

Так, аналізуючы апазіцыю актыў – пасіў, якая безумоўна належыць да ліку станавых, можна адзначыць, што па змесце яна ўяўляе пэўны тып суб'ектна-аб'ектных адносін, а ў плане формы выражаецца некалькімі сродкамі, адны з якіх марфалагічныя, другія сінтаксічныя. Да марфалагічных адносіцца, напрыклад, афікс *-ца(-ся),* які выступае найбольш спецыялізаваным і рэгулярным паказчыкам суб'ектна-аб'ектных адносін актыўнасці – пасіўнасці *(дом будуюць студэнты – дом будуецца студэнтамі).* Такім чынам, фармальна-марфалагічная апазіцыя зваротнасць – незваротнасць выступае тут (у той сваёй частцы, у якой яна звязана з выражэннем названага тыпу суб'ектна-аб'ектных адносін) сродкам выражэння, г.зн. фармальным аспектам катэгорыі стану.

Акрамя апазіцыі актыў – пасіў, да зместу катэгорыі стану можна аднесці і іншыя рэлевантныя для сістэмы мовы суб'ектна-аб'ектныя адносіны, напрыклад, адносіны ўзаемнасці, сумеснасці, уласна-зваротныя і г.д.

Узводзячы значэнні сумеснасці і ўзаемнасці ў ранг асобных функцыянальна-семантычных станавых катэгорый, мы перш за ўсё прымаем пад увагу выразную семантычную акрэсленасць значэнняў ‘сумесна‘ і ‘ўзаемна‘ і наяўнасць у сучаснай беларускай мове спецыялізаваных марфалагічных, сінтаксічных і лексіка-граматычных сродкаў іх выражэння (гл.: АНТАНЮК 1981, 35–86).

Калі кваліфікацыя значэння ўзаемнасці як асобнай функцыянальна-семантычнай станавай катэгорыі не выклікае вялікіх сумненняў (значэнне ўзаемнасці вылучаецца, хоць і ў больш вузкім, "чыста марфалагічным" аспекце, і традыцыйнай апісальнай граматыкай), то аналагічная кваліфікацыя значэння сумеснасці дзеяння патрабуе дадатковага абгрунтавання. Надаючы гэтаму значэнню статус асобнай станавай катэгорыі (побач з катэгорыяй узаемнасці), мы кіраваліся, з аднаго боку, яго аднапарадкавасцю з апошняй у дзеяслоўнай семантыцы, з другога – яго семантычнай адмежаванасцю і наяўнасцю ў марфалагічнай структуры дзеясловаў і ў іх дыстрыбуцыйна-трансфармацыйных характарыстыках спецыфічных моўных паказчыкаў гэтага значэння.

Значэнні сумеснасці і ўзаемнасці выражаюцца ў сучаснай беларускай мове не толькі марфалагічнымі сродкамі дзеяслова, таму іх характарыстыка толькі як дзеяслоўных катэгорый была б няпоўнай, абмежаванай. Удалая спроба выяўлення іншых сродкаў выражэння значэння ўзаемнасці з прыцягненнем дыстрыбуцыйных паказчыкаў гэтага значэння зроблена ў славістыцы Б.Ю.Норманам на матэрыяле балгарскага дзеяслова (гл.: НОРМАН 1967, 115–116).

Разнастайнасць сродкаў выражэння катэгорый сумеснасці і ўзаемнасці ў сучаснай беларускай мове становіцца асабліва відавочнай, калі перакласці некалькі дзеясловаў сумеснага і ўзаемнага дзеяння з мовы, у якой ёсць спецыялізаваныя, пастаянныя і адназначныя марфалагічныя сродкі выражэння дадзеных катэгорый.

### 9.2.1. ТЭОРЫЯ ПОЛЯ Ў ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-СЕМАНТЫЧНЫМ СІНТАКСІСЕ

Методыка, якая дазваляе ахапіць усё кола аб'ектыўна існуючых сродкаў выражэння пэўнай катэгорыі, звязана з паняццямі "поле" і "палявы падыход". Гэтыя паняцці ўсё шырэй выкарыстоўваюцца ў лінгвістыцы. Аб тым, наколькі шырока яны ўжываюцца і да якой ступені разнастайны круг моўных з'яў, вылучаных з дапамогай паняцця "поле", сведчыць ужо нават пералік словазлучэнняў са словам *поле* ў лінгвістычнай літаратуры: функцыянальна-семантычнае поле, лексемнае поле, поле множнасці, станавасці, мадальнасці, часу, ліку, сцвярджэння, адмаўлення, трансфармацыйнае поле, лексіка-граматычнае поле і г.д.

Выкарыстанне палявога падыходу пры вывучэнні граматычных з'яў ужо дало рад вынікаў. Аднак існуюць і тэорыі, якія даказваюць неправамернасць гэтага паняцця. Прычыны яго адмаўлення ў лінгвістыцы такія ж, як і ва ўсіх навуках, у якіх яно стала шырока ўжывацца (фізіка, псіхалогія, біялогія, сацыялогія). Гэта, па-першае, разнароднасць прыроды з'яў, якія абазначаюцца тэрмінам "поле", па-другое, шмат азначэнняў гэтага паняцця. Гэтыя фактары ўзаемазвязаныя: менавіта разнароднасць з'яў, абазначаных тэрмінам "поле", абумовіла ў значнай ступені вялікую колькасць іх азначэнняў.

Функцыянальна-семантычнае поле ўключае ў сябе сродкі розных моўных узроўняў. Улік узаемасувязі і ўзаемадзеяння адзінак розных моўных узроўняў – асноўнае дасягненне методыкі вывучэння граматычных і граматыкалізаваных з'яў, якая звязана з паняццем функцыянальна-семантычнага поля. Такія моўныя значэнні, якія выражаюцца ў мове сукупнасцю разнародных сродкаў, могуць быць выяўлены толькі з дапамогай адэкватнай методыкі. Тут размова ідзе не аб метадзе, які змешвае лексіку з граматыкай (як лічылі некаторыя даследчыкі ў той перыяд, калі толькі пачыналася распрацоўка тэарэтычных асноў палявога падыходу) (гл.: прадмову Б.А.Ільіна ў кнізе: ЕСПЕРСЕН 1958), а аб спосабе вывучэння аб'ектыўна існу-

ючых аб'яднанняў адзінак розных узроўняў мовы, утвораных на аснове выканання агульнай семантычнай функцыі.

Элементы полевага падыходу стыхійна выкарыстоўваліся ў граматыцы з даўніх часоў, паколькі пры апісанні такіх складаных граматычных катэгорый, як стан, трыванне, мадальнасць, нельга абысціся без уліку сінтаксічных, словаўтваральных і лексіка-граматычных сродкаў. Пры вывучэнні граматыкі наогул практычна немагчыма абмежавацца кругам граматычных форм. Так, граматыкалізаванае спалучэнне *адзін аднаго* з'яўляецца ў сучаснай беларускай мове не менш рэгулярным, спецыялізаваным і адназначным сродкам выражэння станавага значэння ўзаемнасці, чым такі сродак марфалагічнай структуры дзеяслова, як афікс *-ца (-ся).*

Тут жа неабходна дадаць, што сродкі розных моўных узроўняў, якія выражаюць аднолькавае значэнне, не проста "дубліруюць" адзін аднаго. Яны не з'яўляюцца аднароднымі і тоеснымі, кожны з іх адлюстроўвае спецыфіку свайго ўзроўню. Акрамя таго, кожны з іх выражае пэўную дыферэнцыяльную семантычную прыкмету ў межах агульнага значэння, канкрэтызуе або дапаўняе значэнні іншых сродкаў. На неабходнасць расшырыць паняцце фармальнай катэгорыі ўказваў А.М.Пяшкоўскі: "Чым важнейшае для мовы якое-небудзь фармальнае значэнне, тым больш разнастайнымі і тым больш шматлікімі спосабамі абазначаецца яно ў гукавым баку маўлення, быццам мова ўсімі даступнымі ёй сродкамі імкнецца да пастаўленай перад сабой мэты – выразіць дадзенае значэнне, і на абавязку даследчыка-моваведа ляжыць не толькі раскрыць дадзенае значэнне на якім-небудзь адным факце, але і знайсці ўсе факты мовы, што выяўляюць яго, якімі б яны ні былі разнастайнымі" (гл.: ПЕШКОВСКИЙ 1956, 48–49).

Сутнасць такога расшырэння паняцця граматычнай катэгорыі заключаецца ў фіксацыі і ўліку ўсіх спосабаў абазначэння граматычных значэнняў, не зважаючы на стракатасць фармальных сродкаў гэтага абазначэння.

Неапраўданасць падыходу да граматычнай катэгорыі, заснаванага на так званай "фетышызацыі" флектыўнай формы, адзначалася і младаграматыкамі. Яны ўказвалі на прынцыповую раўназначнасць розных прыёмаў выражэння граматычнай думкі. Апошняе хоць і несла ў сабе пагрозу змяшання ўсіх моўных узроўняў, аднак раскрыла шырокія магчымасці для апісання разнародных моўных сродкаў, якія ўжываюцца для выражэння граматычна рэлевантных значэнняў – марфалагічных, сінтаксічных, словаўтваральных, інтанацыйных і інш. Менавіта гэта і паслужыла ў далейшым падставай для таго, каб называць младаграматыкаў заснавальнікамі тэорыі поля.

Пры такім падыходзе, па-першае, марфалагічныя формы слоў не з'яўляюцца адзінымі ў выражэнні граматычнай катэгорыі. Яны становяцца складальнай часткай усіх разнастайных сродкаў выражэння. Па-другое, чыста граматычныя паказчыкі наогул не выступаюць у якасці вырашальных пры вылучэнні граматычна рэлевантных функцыянальна-семантычных катэгорый.

У замежнай лінгвістычнай літаратуры, як вядома, таксама назіраецца тэндэнцыя да выхаду за рамкі фармальнай граматыкі і шырокага прыцягнення фактаў розных узроўняў мовы пры вывучэнні граматычна істотных з'яў. Гэта тэндэнцыя ляжыць у аснове такіх паняццяў і тэрмінаў, як "антыграматыка", "функцыянальная граматыка", "граматычныя палі" і інш. Расшырэнне межаў граматыкі абумоўлена "пратэстам" супраць дагматызму і схематызму ў выкладанні і імкненнем стварыць новую граматыку, якая арыентуецца на змест. Імкненне ўдасканаліць вывучэнне граматыкі, замяніць фармальную граматыку функцыянальнай вылілася ў дыскусію аб функцыянальнай граматыцы.

Якасная спецыфіка палевага падыходу ў параўнанні з прааналізаванымі меркаваннямі аб спосабе вывучэння граматычных з'яў заключаецца ў сістэматызацыі рада прынцыпаў і прыёмаў аналізу, якія раней не выкарыстоўваліся сістэмна.

Функцыянальна-семантычнае поле – гэта сукупнасць разнародных і ўзаемазвязаных на аснове агульнай семантычнай функцыі сродкаў выражэння пэўнага граматычна рэлевантнага значэння. Такое азначэнне функцыянальна-семантычнага поля адпавядае яго сутнасці з боку анталогіі, з боку яго існавання як аб'ектыўнай дадзенасці – сукупнасці лексіка-граматычных сродкаў. З метадалагічнага боку мы разумеем паняцце функцыянальна-семантычнага поля як падыход да фактаў мовы з пункту гледжання тэорыі поля, як пэўны прынцып, які патрабуе ўліку шматлікіх фактараў, на характарыстыцы асноўных з якіх мы коратка спынімся.

І. Агульнасць семантыка-сінтаксічнай функцыі разнародных сродкаў выражэння моўнай катэгорыі. Гэта прыкмета выступае асновай поля: менавіта агульная семантычная функцыя аб'ядноўвае сукупнасць кампанентаў і стварае ўмовы для іх узаемадзеяння. Напрыклад, у палях сумеснасці і ўзаемнасці дзеяння агульнай семантычнай функцыяй усіх разнародных кампанентаў з'яўляецца адпаведная семантычная функцыя сумеснасці і ўзаемнасці. Марфалагічныя, сінтаксічныя, словаўтваральныя і лексічныя сродкі выражэння гэтых значэнняў адрозніваюцца паміж сабой прыналежнасцю да таго ці іншага моўнага ўзроўню і абумоўленымі гэтай прыналежнасцю ўласцівасцямі, аднак агульная семантычная функцыя аб'ядноўвае іх. На гэтай падставе яны могуць узаемадзейнічаць – уступаць у адносіны сінанімічнасці, дапаўняльнай дыстрыбуцыі, залежнасці і г.д., нягледзячы на тое, што кожны з моўных сродкаў, якія адносяцца да гэтага поля, мае сваё спецыфічнае значэнне (граматычнае, лексічнае або словаўтваральнае). Агульная для ўсіх кампанентаў функцыянальна-семантычнага поля семантычная функцыя не з'яўляецца тоеснай паняційнай, лагічнай катэгорыі, хоць і абапіраецца на яе. Таму што ў кожнай нацыянальнай мове функцыянальна-семантычнае поле мае сваё спецыфічнае напаўненне.

ІІ. Узаемадзеянне ў межах функцыянальна-семантычнай катэгорыі адзінак розных узроўняў мовы. Выражае важнейшую ўнутраную характарыстыку поля: функцыянальна-семантычнае поле існуе і функцыянуе ў выніку ўзаемадзеяння яго разнародных кампанентаў. Гэта ўласцівасць функцыянальна-семантычных палёў адрознівае іх ад іншых аб'яднанняў моўных адзінак, якія ахопліваюць толькі аднародныя элементы. Узаемадзеянне адзінак розных узроўняў мовы ў складзе функцыянальна-семантычнага поля заснавана на выражэнні кожным з разнародных кампанентаў поля пэўнай дыферэнцыяльнай семантычнай прыкметы ў межах агульнага значэння поля і на размеркаванасці дыферэнцыяльных семантычных прыкмет паміж цэнтрам поля і перыферыяй. Выражаючы пэўныя дыферэнцыяльныя семантычныя прыкметы, асобныя кампаненты поля знаходзяцца ў адносінах сінанімічнасці, дапаўняльнай дыстрыбуцыі, антанімічнасці. Так, спалучэнне *адзін аднаго* знаходзіцца ў адносінах няпоўнай эквівалентнасці з мнагазначным афіксам *-ца(-ся).*

Узаемасувязі разнастайных кампанентаў функцыянальна-семантычнага поля не выпадковыя, а ўстойлівыя, пастаянныя. Яны ўпарадкаваны ў адносінах выканання агульнай семантычнай функцыі. У выніку гэтай упарадкаванасці ўзаемасувязей функцыянальна-семантычнае поле ўяўляе сабой спецыфічнае ўтварэнне, якое мае ўласныя асаблівасці і заканамернасці існавання, а таксама функцыянавання. Сваімі ўласцівасцямі яно адрознізаецца як ад кожнага са сваіх кампанентаў, так і ад іх

сумы. Упарадкаванасць узаемасувязей кампанентаў функцыянальна-семантычнага поля знаходзіць рэальнае выражэнне ў яго структуры.

III. Наяўнасць структуры як пэўнай упарадкаванасці ўзаемасувязей кампанентаў у адносінах да агульнай асновы як важная ўласцівасць функцыянальна-семантычнага поля. Асноўнай прыкметай структуры з'яўляецца чляненне цэнтр – перыферыя. Аналіз моўных класаў і катэгорый з дапамогай паняццяў "цэнтр" і "перыферыя" найбольш адпавядае натуральным умовам функцыянавання мовы, паколькі абсалютна абмежаваных класаў і катэгорый у мове няма. Наяўнасць цэнтральных і перыферыйных з'яў уласціва ўсім моўным аб'ектам, таму гэта рыса будовы здаўна адзначалася многімі даследчыкамі пры аналізе розных фактаў мовы. Асаблівасцю палевага падыходу з'яўляецца тое, што дадзенае чляненне выступае пры выкарыстанні гэтай методыкі ў якасці крытэрыю выдзялення поля, а самі паняцці "цэнтр" і "перыферыя" набываюць характар навуковых тэрмінаў. Таму натуральна, што пры такім ужыванні ўзнікае неабходнасць у распрацоўцы навуковых прынцыпаў і крытэрыяў вылучэння цэнтральных і перыферыйных сродкаў.

Высвятленню асноўных, прыкмет членаў проціпастаўлення цэнтр – перыферыя ўдзяляецца значная ўвага ў працах сучасных даследчыкаў. Усе адзначаныя даследчыкамі прыкметы цэнтра і перыферыі поля зводзяцца ў агульным выглядзе да наступных:

1. Уласцівасць кампактнасці, канцэнтрацыі прыкмет, якія характэрны для дадзенай сукупнасці (цэнтр), – уласцівасць дыфузнасці, разрэджанасці такіх прыкмет (перыферыя). Напрыклад, такія кампаненты функцыянальна-семантычнага поля сумеснасці, як сродкі марфалагічнай структуры дзеяслова [афікс *-ца (-ся)* у спалучэнні з дзеяслоўнымі прыстаўкамі *раз- (рас-), з- (с-)* або з асновай зборнага назоўніка, ад якой утваран дзеяслоў], сканцэнтроўваюць у сабе адначасова семантычныя прыкметы часавай і прасторавай сумеснасці *(дзеці разбегліся, людзі тоўпіліся* і інш.). Перыферыйныя ж кампаненты гэтага поля выражаюць асобныя з гэтых дыферэнцыяльных семантычных прыкмет. Так, складаназалежная канструкцыя з часавым злучнікам *калі* і дзеясловам-выказнікам незакончанага трывання тыпу *дзеці вярталіся, калі вярталася маці* выражае дыферэнцыяльную семантычную прыкмету часавай сумеснасці *(дзеці вярталіся адначасова з маці)*. Семантычная прыкмета прасторавай сумеснасці таксама выражаецца перыферыйнымі кампанентамі поля – акалічнасцямі месца, устойлівымі словазлучэннямі і інш.

Такім чынам, семантычныя прыкметы сумеснага дзеяння рассеяны, размеркаваны ў вобласці перыферыі поля сярод мноства сродкаў – сінтаксічных, словаўтваральных, лексіка-граматычных, фразеалагічных і лексічных. У цэнтральных кампанентах функцыянальна-семантычнага поля сканцэнтраваны дыферэнцыяльныя семантычныя прыкметы, якія найбольш поўна адлюстроўваюць змест усяго функцыянальна-семантычнага поля. Перыферыйныя ж кампаненты выражаюць асобныя адценні ўнутры агульнай функцыянальнай семантыкі поля, канкрэтызуюць і дапаўняюць семантыку цэнтральных сродкаў.

2. Найбольшая спецыялізаванасць пэўнага сродку або сродкаў для выражэння значэння функцыянальна-семантычнай катэгорыі (цэнтр) – меншая ступень спецыялізаванасці, пабочная роля ў рэалізацыі дадзенага значэння (перыферыя). Напрыклад, у дзеясловах *сыходзіцца, збягацца* і інш. афікс *-ца (-ся)* у спалучэнні з прыстаўкай *з- (с-)* спецыяльна прызначаны для выражэння значэння сумеснасці, акалічнасці ж месца і часу ў сказе *Людзі прыйшлі ў вызначаны час у адно і тое ж месца* не з'яўляюцца спецыялізаванымі, адыгрываюць пабочную ролю ў рэалізацыі гэтай функцыі.

3. Сканцэнтраванне сувязей, адносін, удзел у максімальным ліку апазіцый (цэнтр) – змяншэнне сеткі сувязей, праяўленне той ці іншай ступені ізаляванасці (перыферыя). Так, большасць зваротных дзеясловаў узаемнага дзеяння як цэнтральных кампанентаў функцыянальна-семантычнага поля ўзаемнасці ўтвараюць пастаянную апазіцыю па прыкмеце ўзаемнасць – неўзаемнасць з адпаведнымі незваротнымі дзеясловамі: *біць – біцца, сустракаць – сустракацца, абдымаць – абдымацца* і інш. Перыферыйныя кампаненты функцыянальна-семантычнага поля таксама могуць утвараць апазіцыі, аднак такія апазіцыі размешчаны ў шырокай зоне лексікі і не з'яўляюцца пастаяннымі; параўн.: *узаемна – аднабакова, сумесна – адзін* і інш.

4. Максімальная функцыянальная нагрузка (цэнтр) – змяншэнне такой нагрузкі (перыферыя). Высокая функцыянальная нагрузка як уласцівасць цэнтральных кампанентаў функцыянальна-семантычнага поля вынікае з канцэнтрацыі сувязей і спецыфічных прыкмет.

5. Рэгулярнасць, высокая частотнасць ужывання (цэнтр) – нерэгулярнасць або меншая рэгулярнасць, меншая ўжывальнасць (перыферыя).

6. Паступовыя пераходы, частковыя перасячэнні. Гэту прыкмету граматычных з'яў адзначалі А.М.Пяшкоўскі, Л.У.Шчэрба і В.У.Вінаградаў. Ёсць даследаванні, у якіх апісваюцца пераходныя выпадкі сярод адзінак розных моўных узроўняў (гл.: БОНДАРКО 1971, 21–42). Паступовыя пераходы і частковыя перасячэнні ўласцівы граматычным з'явам таму, што граматычныя ўтварэнні звычайна маюць не адну, а цэлы рад прыкмет, якія ў той ці іншай ступені і ў розных спалучэннях уласцівы і іншым з'явам, па-рознаму размяркоўваючыся паміж рознымі бакамі, формамі і праяўленнямі гэтых з'яў. У выніку межы паміж асобнымі граматычнымі з'явамі ў сферы парадыгматыкі часта цяжка вызначыць. Гэтыя з'явы аказваюцца не строга акрэсленымі ўтварэннямі, хоць у паасобных выпадках такая структура і магчыма.

Акрамя названых прыкмет, функцыянальна-семантычныя палі сумеснасці і ўзаемнасці маюць спецыфічныя ўласцівасці, якія патрабуюць вывучэння.

# 10. СЛОВАЎТВАРЭННЕ

Словаўтварэнне – раздзел унутранага мовазнаўства, дзе вывучаецца структура слова як з сінхранічнага пункту гледжання, так і з дыяхранічнага. Пры дыяхранічным даследаванні лексемы ўстанаўліваецца яе матывавальная (зыходная, невытворная) аснова і матываваная (другасная, вытворная). Сярод вытворных слоў вылучаюць тыя, што складаюцца з сэнсаў састаўных кампанентаў (параўн.: *стол-ік* 'маленькі стол', *казл-ёнак* 'дзіця казла' і да т.п.), і тыя, значэнні якіх не раскладаюцца на часткі (параўн.: *мысл-і-цель, пісьм-ен-н-ік* і да т.п.). У апошнім выпадку слова нагадвае па свайму значэнню своеасаблівую ідыёму, або словазлучэнне з непадзельным значэннем тыпу *біць лынды* 'гультаяваць'. Пры сінхранічным даследаванні слоў выяўляюцца наяўныя жывыя сувязі паміж марфемамі ў лексемах (параўн.: *белы* і *белізна, горкі* і *гарката,* але не *белы* і *бялізна*, дзе сувязі паміж каранёвымі марфемамі высвятляюцца з дапамогай этымалагічнага аналізу).

Вывучэннем значымых частак слова займаюцца таксама такія раздзелы мовазнаўства, як марфеміка – даследуе функцыі марфем, семантычныя, фармальныя ўласцівасці, спалучальнасць і тыпы марфем у слове; марфалогія – вывучае састаў і граматычныя значэнні марфем кожнай часціны мовы; марфаналогія – аналізуе чаргаванні фанем на межах марфем (параўн.: *род-ы, нарадз-і-ць, на-радж-эн-н-е* і да т.п.; гл.: ЗЕМСКАЯ 1973, 77–80; ШУБА 1987, 3–20). Маюць непасрэднае дачыненне да словаўтварэння этымалогія і лексікалогія. Словаўтварэнне нярэдка разглядаецца ўнутры апошняй дысцыпліны.

## 10.1. УДАКЛАДНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ПАНЯЦЦЯЎ

Сярод праблем удакладнення і сістэматызацыі паняццяў словаўтварэння асабліваe месца займае дакладнае вызначэнне мяжы паміж зместам блізкіх па значэнні тэрмінаў, аб'ектная і канцэптуальная аднесенасць якіх шмат у чым перакрыжоўваецца, але не супадае ў цэлым. Дыферэнцыяцыя значэння і ўжывання такіх тэрмінаў можа быць выяўлена ў выніку іх супастаўлення. З гэтай мэтай ніжэй супастаўляюцца найбольш важныя тэрміны словаўтварэння і марфемікі.

*Вытворнасць – матываванасць, матывацыя.* У навуковай і вучэбнай літаратуры распаўсюджана сінанімічнае ўжыванне гэтых тэрмінаў. Аднак існуе слушная думка, што яны павінны ўжывацца дыферэнцыявана, з улікам адрозненняў у іх аб'ектнай і канцэптуальнай аднесенасці.

Названае адрозненне тэрмінаў *вытворнасць і матываванасць, матывацыя* трывала замацавалася ў беларускай лінгвістычнай літаратуры ў такіх другасных састаўных намінацыях, як віды словаўтваральнай матывацыі, непасрэдныя (апасродкаваныя) матывацыі, тыповыя (нетыповыя) матывацыі, зыходныя (незыходныя) матывацыі, адзінкавыя (неадзінкавыя) матывацыі, метафарычныя матывацыі і інш. Аднак адрозненне гэтых тэрмінаў далёка не заўсёды ўлічваецца пры ўтварэнні

састаўных тэрмінаў: *утваральная аснова* і *матывавальная аснова, утваральная база* і *матывавальная база* і інш.

У сувязі з дастатковай выразнасцю адрознення паміж тэрмінамі *вытворнасць і матываванасць* і трываласцю замацавання гэтых тэрмінаў у лінгвістычнай практыцы ўзнікае неабходнасць іх кадыфікацыі ў слоўніку лінгвістычных тэрмінаў. Тэрмін *матывацыя,* які часта ўжываецца як сінонім да *матываванасць,* таксама мэтазгодна дыферэнцыяваць і ўжываць для абазначэння агульнай з'явы сэнсавай залежнасці паміж двума словамі.

Вынікам упарадкавання тэрміналогіі канкрэтных галін ведаў і асобных раздзелаў навук з'яўляецца стварэнне тэрміналагічных сістэм. У якасці прыкладу работы ў гэтым напрамку прывядзем вопыт упарадкавання лінгвістычнай тэрміналогіі словаўтварэння і марфемікі.

Першая спроба сістэматызацыі паняццяў словаўтварэння ў беларускай лінгвістыцы ў поўным аб'ёме (гл.: АНТАНЮК 1987, 127–136) зроблена з улікам вопыту сістэматызацыі тэрмінаў у "Слоўніку славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі" (Прага, 1977. Т. 1), які ўключае і матэрыял беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі, і сучасных даследаванняў па сістэматызацыі навуковай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі (гл.: АНТАНЮК 1987; ДАНИЛЕНКО 1977; КАНДЕЛАКИ 1977).

Для дасягнення пастаўленай мэты (стварыць тэрміналагічную сістэму словаўтварэння і марфемікі на аснове выяўленых заканамернасцей развіцця тэрміналогіі гэтай сферы і агульных прынцыпаў упарадкавання тэрміналогіі ў напрамку стварэння тэрмінасістэм) быў праведзен аналіз развіцця тэрміналогіі словаўтварэння і марфемікі беларускай мовы і зроблена сістэматызацыя гэтай тэрміналогіі. Праведзены аналіз развіцця гэтай тэрміналогіі па характары можна назваць гістарычна-канцэптуальным, паколькі ён выкананы ў храналагічным парадку з адначасовым аналізам развіцця асноўных канцэпцый і адпаведных тэрмінаў. Спачатку коратка спынімся на асноўных выніках гэтага аналізу, пасля прадставім распрацаваную сістэму тэрмінаў словаўтварэння і марфемікі.

Тэрміналагічная сістэма словаўтварэння і марфемікі сфарміравалася ў рускім і ў беларускім мовазнаўстве ў асноўным на працягу апошніх трох дзесяцігоддзяў. Раней, г.зн. у той перыяд, калі словаўтварэнне не вылучалася ў асобны раздзел мовазнаўства і ўключалася ў склад або марфалогіі, або лексікалогіі, даследчыкі карысталіся мінімальнай колькасцю першапачатковых тэрмінаў і апісальных намінацый тэрміналагічнага характару, якія яшчэ не былі самастойнай тэрмінасістэмай.

Распрацоўка асобных пытанняў словаўтварэння ў беларускай мове і станаўленне беларускай тэрміналогіі словаўтварэння пачынаецца са старабеларускага перыяду. Так, тэрміны *корань, афікс, суфікс, флексія, аснова,* якія складаюць першапачатковую сістэму намінацый адзінак структуры слова, ужываюцца ў першых друкаваных граматыках Лаўрэнція Зізанія (1596) і Мялеція Сматрыцкага (1619). Як вядома, аўтары гэтых граматык услед за шматлікімі папярэднімі рукапіснымі, а затым і надрукаванай ў Вільні "Кграматика словеньска языка" (1586), абапіраліся ў трактоўцы моўных з'яў на старажытную грэчаскую і лацінскую лінгвістычную традыцыю, аднак з улікам спецыфікі асобнай рэдакцыі (тыпу) царкоўна-славянскай мовы на Беларусі і Украіне і ўласна асаблівасцей беларускай і ўкраінскай моў.

Выдатнай падзеяй у фарміраванні лінгвістычных паняццяў канца 19 – пачатку 20 ст. з'явіліся працы заснавальніка беларускага мовазнаўства Я.Ф.Карскага. У прыватнасці, асновай для развіцця сучаснай беларускай тэрміналогіі словаўтварэння і марфемікі стала яго праца "Гістарычны нарыс словаўтварэння і словазмянення ў беларускай мове", дзе знайшлі адлюстраванне ўсе новыя паняцці і тэрміны словаўтварэння таго часу: *словоизменение, словообразование, опро-*

*щение, удвоение корня слова, сложение корней (слов)* і інш. Паняційны фонд словаўтваральнай тэрміналогіі Я.Ф.Карскага і праведзенае даследчыкам размяшчэнне матэрыялу “па раздзелах і артыкулах” былі выкарыстаны ў далейшым развіцці даследаванняў па беларускаму словаўтварэнню, хоць сам Я.Ф.Карскі неаднаразова рэкамендаваў беларускім лінгвістам больш шырока выкарыстоўваць лінгвістычную тэрміналогію старабеларускага перыяду.

У выніку шырокага функцыянальнага развіцця беларускай мовы ў першыя два дзесяцігоддзі паслякастрычніцкага перыяду, актывізавалася распрацоўка лінгвістычнай тэрміналогіі. Услед за першай школьнай граматыкай Б. Тарашкевіча разгарнулася праца над асобнымі пытаннямі беларускай мовы і падрыхтоўкай беларускай граматыкі.

Асаблівая актывізацыя даследаванняў у галіне словаўтварэння назіраецца ў 50 – 60-я гады (гл.: ГРАМАТЫКА. Т.1 1962, і інш.), у якіх побач з распрацоўкай асобных паняццяў беларускага словаўтварэння атрымалі распрацоўку і ўдакладненне такія тэрміны, як *словаўтваральны тып, словаўтваральная мадэль, фармант, вытворная аснова, правілы словаўтварэння, формаўтварэнне, словаўтварэнне; лексіка-семантычнае, лексіка-сінтаксічнае, марфолага-сінтаксічнае словаўтварэнне; марфалагічныя спосабы словаўтварэння* і інш.

К канцу 60-х гадоў беларускае словаўтварэнне склалася ў асобную галіну лінгвістыкі са сваёй уласнай тэрміналагічнай сістэмай. Сістэма тэрмінаў словаўтварэння ў асноўным дасягнула навуковага ўзроўню словаўтваральнай тэорыі таго часу і ў далейшым развівалася ў адпаведнасці з развіццём новых навуковых даследаванняў у гэтай галіне мовазнаўства. У некаторай ступені яна знайшла адлюстраванне і фіксацыю (гл.: ГРАМАТЫКА. Т. 1 1962; ЮРЭВІЧ 1962).

Фарміраванне гэтай тэрмінасістэмы адбывалася ў шырокім славянскім і еўрапейскім кантэксце, што знайшло сваё адлюстраванне ў двухтомным “Слоўніку славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі” (гл.: SLOVNÍK 1977), асабліва ў першым яго томе, які ўяўляе сабой слоўнік сістэмнага тыпу.

Беларускае словаўтварэнне ў 70 – пачатку 80-х гадоў папоўнілася новымі даследаваннямі ў напрамку сінхроннага словаўтварэння. З'явіліся манаграфічныя даследаванні (гл.: СЦЯЦКО 1977; ШАКУН 1978; ПАЎЛЕНКА 1978). Атрымалі развіццё і ўдакладненне такія тэрміны, як *словаўтваральнае значэнне, словаўтваральная мадэль, словаўтваральны тып, сістэма словаўтварэння, словаўтваральны фармант* і інш.

У апошняе дзесяцігоддзе грунтоўную распрацоўку атрымалі пытанні словаскладання ў беларускай мове (гл.: ПРЫГОДЗІЧ 2001), пабудовы мадэлі граматычнага даследавання сістэмы словаўтварэння беларускай мовы на аснове іерархіі адзінак словаўтварэння і іх узроўневай інтэрпрэтацыі (гл.: ЛУКАШАНЕЦ 2001), а таксама пытанні тэрмінаўтварэння (гл.: БАГДЗЕВІЧ 2000).

Тэрмінасістэма словаўтварэння адлюстроўвае асноўныя напрамкі спецыялізацыі тэрмінаў і адпаведна дзеліцца на тры падсістэмы. Кожная падсістэма мае сваю аб'ектную вобласць: 1) з'явы словаўтваральнай сістэмы мовы, 2) пагранічныя, сумежныя з'явы і з'явы, якія, перасякаючыся са словаўтварэннем, адносяцца да іншых моўных сістэм; 3) паняцці, аспекты і метады даследавання словаўтварэння. Усю сукупнасць словаўтваральных тэрмінаў, якімі мы валодаем на сённяшні дзень (~500), мы размежавалі па наступных падсістэмах:

А. З'явы словаўтваральнай сістэмы мовы.

I. Адзінкі словаўтварэння.

II. Фармальныя і функцыянальныя ўласцівасці адзінак словаўтварэння.

III. Словаўтваральныя адносіны.

IV. Словаўтваральныя працэсы.

Б. Назвы пагранічных з'яў, якія ўзнікаюць у выніку ўзаемадзеяння словаўтварэння з іншымі моўнымі сістэмамі.

I. Тэрміны марфемікі і марфаналогіі.

II. Тэрміны формаўтварэння.

III. Тэрміны словаўтваральнай намінацыі.

IV. Тэрміны сінтаксічнай дэрывацыі.

В. Назвы методыкі словаўтваральнага даследавання.

I. Тэрміны аспектаў словаўтварэння.

II. Тэрміны метадаў навуковага аналізу словаўтварэння.

III. Тэрміны словаўтваральнага аналізу.

IV. Тэрміны марфемнага аналізу.

V. Тэрміны марфаналагічнага аналізу.

VI. Тэрміны словаўтваральнага сінтэзу.

## 10.2. ТЫПЫ МАРФЕМ

Хаця слова і ўяўляе сабой з семантычнага і структурнага гледжання адзінае цэлае, у яго складзе шляхам лінгвістычнага аналізу выдзяляюцца састаўныя часткі, што маюць значэнне і паўтараюцца ў іншых словах. Гэтыя часткі называюцца *м а р ф е м а м і* (параўн.: *вад-а, вод-н-ы, вад-а-збор, сцян-а, хлеб-н-ы* і г.д.). Большасць слоў складаецца з падобных марфем, але некаторыя марфемы структурна раўняюцца словам (параўн.: *тут, дэпо, пяць, я, ледзь, метро* і г.д.). Сярод марфем вылучаюцца каранёвыя: яны маюць рэчыўнае значэнне, асноўнае ў слове (параўн.: *зямл-я, зямл-як, зямл-ян-к-а* і г.д.), і службовыя, або афіксы, што нясуць у сабе або дэрывацыйнае, дадатковае, значэнне (параўн.: *дом-ік,* дзе суфікс *-ік* дадае значэнне памяншальнасці зыходай каранёвай марфеме), або адносная, рэляцыйнае, прадстаўленае флексіямі (канчаткамі), што служаць для сувязі слоў у словазлучэннях ці выказваннях.

Марфема з'яўляецца моўнай абагульненай адзінкай, якая рэалізуецца ў маўленні морфам, што выдзяляецца ў складзе канкрэтнай словаформы. Напрыклад, марфема *луг* можа рэпрэзентавацца морфамі *луж, луг'* і інш. у словаформах *луж-ок, луг-і.* Са структурнага пункту гледжання афіксальныя марфемы адрозніваюцца ад каранёвых тым, што, як правіла, паўтараюцца ў складзе розных слоў і з'яўляюцца больш ужывальнымі (частотнымі) у маўленні, чым каранёвыя, якія могуць быць і непаўтаральнымі (параўн.: *ён, меню* і інш.). Сярод афіксальных марфем вылучаюцца дэрывацыйныя (словаўтваральныя) тыпу *-чык-, -ізн-* і г.д. (параўн.: *груз-чык, вял-ізн-ы* і інш.) і словазменныя тыпу *-а, -і* і г.д. (параўн.: *мух-а, мух-і* і інш.).

### 10.2.1. КОРАНЬ СЛОВА

Корань уяўляе сабой цэнтральную марфему слова, у якой засяроджана рэчыўнае значэнне і якая далучае да сябе іншыя, службовыя марфемы, канцэнтруе іх вакол сябе. Апошнія ўдакладняюць лексічнае значэнне слова, спалучаюць з іншымі словамі ў выказванні. Корань вылучаецца звычайна ў цэлым мностве роднасных слоў, што могуць належыць да розных часцін мовы (параўн.: *кошт, кашт-оў-н-ы, кашт-оў-н-а, кашт-а-ва-ць* і г.д.). Каранёвая марфема нярэдка можа супадаць з самастойным словам (параўн.: *дуб, конь, шэсць* і г.д.). У тых выпадках, калі корань слова не падлягае далейшаму чляненню на значымыя часткі, яго называюць невытворнай асновай, якая, такім чынам, супрацьпастаўляецца

вытворнай аснове слова, дзе вылучаюцца і корань, і афіксы (параўн., з аднаго боку: *вад-а, зямл-я* і да т.п., з другога – *водн-ы, землян-ы* і да т.п.).

Выдзяленне кораня слова грунтуецца на супастаўленні з іншымі словамі, звычайна роднаснымі, у якіх агульная паўтаральная частка і служыць коранем (параўн.: *крык, крык-ну-ць, крык-лів-ы* і г.д.). Корані слоў бываюць свабоднымі, калі яны сустракаюцца ў чыстым выглядзе, або без афіксаў (параўн.: *горад* і *горад-а, горад-у* і г.д.) і звязанымі. Звязаныя корані ў чыстым выглядзе не ўжываюцца (параўн.: *вул-іц-а, вул-іч-н-ы, вул-ачк-а* і г.д.). Калі корань заканчваецца на галосную фанему, то ён называецца адкрытым (параўн.: *пе-ць, лі-ць* і г.д.), калі на зычную фанему – закрытым (параўн.: *галав-а, рук-а* і г.д.). У выніку гістарычных і пазіцыйных чаргаванняў гукаў фанемны склад кораня можа мяняцца (параўн.: *бот – боцік, сяду – сядзіш, пень – пянёк* і г.д.).

У некаторых выпадках корань слова выдзеліць даволі складана, бо ён можа ўтварацца з адной фанемы (параўн.: *аб-у-ць* і г.д.), або з рознага складу фанем (параўн.: *гн-а-ць* і *ган-ю* і г.д.). На аснове адзінага кораня словы ўтвараюць дэрывацыйныя гнёзды.

### 10.2.2. СУФІКС

Суфіксы адносяцца да службовых марфем і надаюць слову, як ужо згадвалася, дадатковае, або дэрывацыйнае, значэнне (параўн.: *канапа – канап-к-а, дом – дам-ін-а* і г.д.). Суфіксы размяшчаюцца заўсёды пасля кораня слова або пасля другога суфікса і іх месца з'яўляецца ў беларускай мове нязменным (параўн.: *грыб – грыб-ок – грыб-оч-ак* і г.д.). Далучэнне суфікса да кораня слова можа мяняць часцінамоўную прыналежнасць апошняга (параўн.: *бег – бег-а-ць, кніга – кніж-н-ы* і г.д.). У склад суфікса можа ўваходзіць адна фанема (параўн.: *бял-і-ць, артыст-к-а* і г.д.), дзве фанемы (параўн.: *дабр-ат-а, крык-ун* і г.д.) і болей (параўн.: *сан-лів-ы, гарман-іст, фантаз-ірав-а-ць* і г.д.). Калі суфікс заканчваецца на галосную, ён называецца адкрытым (параўн.: *гля-ну-ць* і г.д.), калі на зычную – зыкрытым (параўн.: *садоў-нік* і да т.п.). Пры наяўнасці некалькіх суфіксаў у слове, апошні з іх указвае на часцінамоўную прыналежнасць гэтага слова (параўн.: *актыв-іст-к-а* – назоўнік, *дабр-от-н-ы* – прыметнік, *на-шруб-оў-ва-ць* – дзеяслоў і г.д.).

Суфіксы ў пераважнай большасці выпадкаў маюць матэрыяльнае выражэнне, але сустракаюцца і матэрыяльна не выражаныя суфіксы, якія называюцца нулявымі. Так, загадны лад дзеяслова ў беларускай мове можа выражацца пры дапамозе суфікса *-і* (параўн.: *ган-і, няс-і* і да т.п.), на фоне якога адсутнасць суфікса ў іншых дзеясловаў загаднага ладу сігналізуе менавіта аб гэтай форме дзеяслова (параўн.: *кінь, ляг* і да т.п.). Суфіксы могуць мець як уласна беларускае паходжанне тыпу *-к, -нік, -іц-* і інш., так і замежнае тыпу *-ізм, -іст, -аж, -ірав-* і інш.

Кожны суфікс у беларускай мове, як і ў рускай, звычайна характарызуе тую ці іншую часцінамоўную прыналежнасць пэўнага слова, напрыклад, суфікс *-нік-* азначае, што адпаведнае слова з'яўляецца назоўнікам (параўн.: *падрыў-нік, прызыў-нік* і г.д.), *-ава-* сведчыць пра аднесенасць лексемы да дзеяслова (параўн.: *чар-ава-ць, гар-ава-ць* і г.д.), *-ліў-* указвае на тое, што слова служыць прыметнікам (параўн.: *маўк-лів-ы, крык-лів-ы* і г.д.; гл. пра гэта: ОБРАЗОВАНИЕ 1979, 74–140). Ад суфіксаў неабходна адрозніваць суфіксоіды, у значэнні якіх сумяшчаецца семантыка і кораня, і суфікса, г.зн. дадзены значымы кампанент (суфіксоід) адносіцца да марфем пераходнага тыпу, напрыклад: *-вод* (параўн.: *пчалавод, харавод* і г.д.), *-мер* (параўн.: *землемер, вадамер* і г.д.), *-люб* (параўн.: *жыццялюб, праўдалюб* і г.д.), *-роб* (параўн.: *хлебароб, земляроб* і г.д.) і інш. Вылучэнне суфіксоідаў у асобны тып марфем складае на сённяшні дзень лінгвістычную праблему, бо гэту марфему не заўсёды

адназначна і проста адрозніваць ад кораня, напрыклад, у словах *футбол, аўтобус, графаман, тэлефон* і да т.п. адпаведныя марфемы *-бол, -бус, -ман, -фон* разглядаюцца аднымі даследчыкамі як корань, іншымі як суфіксоід (гл.: ШАКУН 1978, 23–24).

### 10.2.3. ПРЫСТАЎКА

Прыстаўкі, або прэфіксы, уяўляюць сабой службовыя марфемы, якія размяшчаюцца перад коранем слова, выконваюць словазменную (параўн.: *прыгажэй – най-прыгажэй, чытаць – пра-чытаць* і г.д.) і значна радзей словаўтваральную функцыю (параўн.: *год – штогод, час – падчас* і інш.). З дапамогай прыставак утвараюцца і новыя словы (параўн.: *горад – пры-гарад, лес – уз-лес-с-е* і інш.). У той час калі суфіксы далучаюцца да кораня слова, прыстаўкі – да цэлага слова і часцей за ўсё не змяняюць часцінамоўнай прыналежнасці лексемы. Найбольш ужывальнымі з'яўляюцца прыстаўкі ў дачыненні да дзеясловаў, вельмі часта выкарыстоўваюцца, у прыватнасці, для ўтварэння трывальных пар тыпу *рабіць – зрабіць, рыхтаваць – падрыхтаваць* і да т.п.). Адна і тая ж прыстаўка можа ўжывацца пры ўтварэнні слоў розных часцін мовы (параўн. прыстаўка *за-* ў словах: *загародка, загародны, загарадзіць зашмат* і да т.п.). Прыстаўкі могуць складацца з адной фанемы (параўн.: *у-ступ-і-ць, а-лагіч-н-ы* і г.д.), быць дзвюхфанемнымі (параўн.: *на-нес-ці, аб'-езд* і г.д.), шматфанемнымі (параўн.: *неда-гле-дзіць, перад-апошні* і г.д.). У слове могуць сустракацца дзве і болей прыстаўкі (параўн.: *па-на-насіць, па-на-вы-дзіраць* і г.д.).

Большасць прыставак сучаснай беларускай мовы з'яўляецца незапазычанай, уяўляе сабой закрыты клас марфемных адзінак. Выключэнне складаюць запазычаныя прэфіксы, састаў якіх можа папаўняцца марфемнымі сродкамі іншых моў (параўн.: *анты-, архі-, гіпа-, гіпер-, дэ-, контр-, суб-, супер-, ультра-* і інш.). Значная колькасць уласна беларускіх прыставак утварылася на аснове прыназоўнікаў, а таксама часціц, аб чым сведчыць паралельнае ўжыванне ў мове прыставак і суадносных з імі службовых слоў (параўн.: *пры-горак* і *пры гары, абы-хто* і *абы пайсці, не-задаволены* і *не задаволены працай* і г.д.). Калі прыстаўка ўтвараецца ад знамянальнага слова, то яна набывае статус прэфіксоідаў (параўн.: *унутрысістэмны, звыш-натуральна* і г.д.), якія разам з суфіксоідамі складаюць клас афіксоідаў. Пры заканчэнні прыставак на галосны гук яны называюцца адкрытымі (параўн.: *пра-ўнук, па-лічыць* і г.д.), пры наяўнасці зычнай канцоўкі – закрытымі (параўн.: *пад-несці, раз-лік* і г.д.). Адрозніваюць невытворныя прыстаўкі, калі яны не раскладаюцца на значымыя часткі (параўн.: *аб-легчыць, з-рабіць* і г.д.), і вытворныя, што складаюцца са структурных частак, як правіла, двух этымалагічна розных прэфіксаў (параўн.: *а-без-зброіць, не-да-вучыцца* і г.д.), якія зараз утвараюць адзінае цэлае, у прыватнасці, *абез-, неда-.*

У дзеясловаў прыстаўкі выконваюць або граматычную функцыю, напрыклад трывальную, або канкрэтызуюць выражанае дзеясловам дзеянне (параўн.: *несці* і *да-несці, пры-несці, пад-несці, на-несці, уз-несці, за-несці, у-несці, аб-несці, раз-несці, пера-несці, пра-несці, вы-несці* і інш.). Запазычаныя прыстаўкі актыўна спалучаюцца з уласна беларускімі словамі, утвараюць пры гэтым своеасаблівы лексічны гібрыд (параўн.: *анты-народны, ультра-гук, контр-дзеянне, супер-вокладка* і г.д.). У адрозненне ад суфіксаў, значэнне якіх у пэўнай ступені вызначаецца семантыкай кораня (параўн.: *калгас-нік* і *курат-нік, рамес-нік* і *злуч-нік* і г.д.), значэнне прэфікса не падлягае семантычнаму ўплыву з боку асновы слова, а, наадварот, само ўздзейнічае на яе (асновы) сэнс (параўн.: *апошні* і *перад-апошні, нармальны* і *не-нармальны, ідэйны* і *без-ыдэйны* і г.д.).

## 10.2.4. КАНЧАТАК

Канчаткі, або флексіі, адносяцца да службовых марфем, якія прадстаўляюць словазменныя формы і выкарыстоўваюцца для сінтаксічнага аб'яднання слоў у межах словазлучэнняў, сказаў. Канчаткі ўжываюцца, як правіла, у канцы слоў, не ўваходзяць у аснову слова і не ўплываюць на яго лексічнае значэнне. Аснова слова і складаецца з усіх марфем, каранёвых і некаранёвых, за выключэннем са складу слова менавіта канчатка. Канчаткі шырока прымяняюцца ў граматычна зменных часцінах мовы: назоўніках, дзеясловах, прыметніках, лічэбніках, займенніках, і не характэрны для прыслоўяў, інфінітываў, службовых слоў, апрача звязак (гл.: СІНТАКСІС 1939, 36–41). Канчаткі падзяляюцца на аднафанемныя, як правіла, галосныя (параўн.: *дрэв-а, дрэв-у, дрэв-е* і да т.п.), дзвюхфанемныя, часцей за ўсё спалучэнні галосных і зычных (параўн.: *мэбл-яй, алоўк-ам* і г.д.), трохфанемныя (параўн.: *чорн-ымі, здаров-ага* і г.д.). У складаных лічэбніках адзначаюцца два і болей канчаткі (параўн.: *тр-ох-сот, тр-ох-ст-ах* і г.д.). У пэўных выпадках канчаткі выконваюць не толькі словазменную, але і словаўтваральную функцыю (параўн.: *Валянцін* і *Валянцін-а, ліс* і *ліс-а* і г.д.), дзе канчатак выражае акрамя словазменнага і дэрывацыйнае значэнне, якое ў беларускай мове часцей за ўсё перадаецца суфіксамі тыпу *воўк – ваўч-ыц-а* і г.д. Канчаткі могуць быць нулявымі, калі яны фармальна не выражаны, але праяўляюцца ў парадыгме словазменных форм (параўн.: *конь-ø, але кан-я, кан-ю, кан-ём* і г.д.). Нулявая форма пазначаецца сімвалам *ø*. Усе канчаткі беларускай мовы зводзяцца да невялікай іх колькасці, аднак яны вельмі частотныя, ужывальныя, характарызуюцца такімі ўласцівасцямі, як шматзначнасць і аманімія. Канчаткі звычайна супрацьпастаўляюцца аснове слова і выразна выдзяляюцца пры скланенні імёнаў або пры спражэнні дзеясловаў (параўн.: *снег, снег-а, снег-у, снег-ам, снез-е, сняг-і, сняг-оў, сняг-ам, сняг-амі, сняг-ах* і г.д.; *бач-у, бач-ыш, бач-ыць, бач-ым, бач-аць, бач-ыце* і г.д.). Менавіта па сістэме адпаведных канчаткаў вызначаюцца тыпы скланення імёнаў і спражэння дзеясловаў. Канчаткі, што складаюцца з двух фанем, з'яўляюцца звычайна закрытымі (параўн.: *агн-ём, трав-ой* і г.д.), а з трох – адкрытымі (параўн.: *верш-амі, кул-ямі* і г.д.), але сустракаюцца і непрадуктыўныя двухфанемныя адкрытыя канчаткі тыпу *людзь-мі*. Канчаткі прыдатныя толькі зменным словам. У імёнах канчаткі сумяшчаюць у сабе значэнні роду і ліку (параўн.: *рук-амі* – творны склон і множны лік і г.д.), у дзеясловаў – значэнні асобы і ліку (параўн.: *піш-у* – першая асоба адзіночнага ліку і г.д.). Адзін канчатак можа выражаць да трох граматычных значэнняў (параўн.: *прыгож-ая* – назоўны склон, адзіночны лік, жаночы род).

## 10.2.5. ІНШЫЯ ТЫПЫ МАРФЕМ

Асобны клас службовых марфем утвараюць постфіксы, або аглютынатыўныя суфіксы, якія размяшчаюцца пасля канчаткаў, але тым не менш уваходзяць у склад аднаго слова і выражаюць як яго граматычнае, так і словаўтваральнае значэнне. У беларускай мове да постфіксаў адносяцца фарманты *-ся, -ца, -цца, -сьці, -сь, -небудзь, -це* і інш. (параўн.: *смяю-ся, смяе-цца, што-сьці, хто-сь, чаго-небудзь, прынясі-це* і г.д.). Постфіксы, як і многія прэфіксы, этымалагічна ўзыходзяць да службовых слоў, у дадзеным выпадку да часціц і займеннікаў, таму словы з падобнымі элементамі з'яўляюцца вытворнымі. Напрыклад, постфікс *-ся* ўзнік ад займенніка *сябе* (параўн.: *мыю сябе = мыюся* і г.д.; гл.: ЛОМТЕВ 1951, 108). У асноўным постфіксы адыгрываюць словаўтваральную ролю, акрамя марфемы *-це*, якая мае словазменны сэнс. Як і прыстаўкі, постфіксы далучаюцца не да кораня, а да цэлага слова. Постфіксы могуць далучацца і да нязменных слоў тыпу *ну-ка, усё-*

*такі* і інш. Постфікс *-ся (-ца)* утварае пары пераходных – непераходных дзеясловаў (параўн.: *сніць – сніцца, будаваць – будавацца* і г.д.). Постфіксы адносяцца да аглютынатыўных афіксаў, якія "прыклейваюцца" да зыходнай асновы слова.

Да інтэрфіксаў належаць злучальныя элементы, якія аб'ядноўваюць простыя асновы ў саставе складанага слова, лучаць іх (асноў) значэнні ў адзінае цэлае. У беларускай мове да інтэрфіксаў належаць фарманты *-а-, -е-, -і-, -о-, -ух-, -ох-* (параўн.: *сям-і-складовы, цепл-а-ход, земл-е-ўпарадкаванне, час-о-піс, дв-ух-томны, тр-ох-павярховы* і г.д.) часам спецыялісты вылучаюць такія службовыя афіксы, якія складаюцца са спалучэння прыстаўкі і суфікса, што далучаюцца да асновы слова (параўн.: *пад-барод-ак* і г.д.). Спалучэнне такіх элементаў называецца конфіксам, або цуркумфіксам; лучнасць прыстаўкі і суфікса носіць функцыянальны характар у межах слова. Матэрыяльная раз'яднанасць прыведзеных элементаў дапускае іх інтэрпрэтацыю як прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне, але адметнасць яго палягае ў выкананні адзінай словаўтваральнай ролі.

Сярод службовых марфем некаторыя даследчыкі (гл.: СОВРЕМЕННЫЙ РУССКИЙ ЛИТЕРАТУРНЫЙ ЯЗЫК 1981, 140–141) выдзяляюць асноваўтваральныя элементы, якія выкарыстоўваюцца для фарміравання асновы слоў: *-j-, -в-, -н-* (параўн.: *буду-j-уць, жыв-у-ць, ста-н-уць* і г.д.). Да словаўтваральных элементаў належаць таксама фарманты *-ер-, -ен-, -ёс-, -а-, -е-, -о-* (параўн.: *мац-ер-ы, няб-ёс-ы, крыч-а-ць, глядз-е-ць, пал-о-ць* і г.д.).

## 10.3. ВАРЫЯНТНАСЦЬ, СІНАНІМІЯ, ПОЛІСЕМІЯ, АМАНІМІЯ, АНТАНІМІЯ МАРФЕМ

Варыянты марфем, або аламорфы, уяўляюць сабой звычайна матэрыяльна падобныя, але не ідэнтычныя выражэнні адной і той жа марфемы, і могуць адносіцца да ўсіх іх тыпаў як каранёвых, так і службовых (некаранёвых) тыпу *леў – ільв-іца, гарб-ун – гар-бач, вад-ой – вад-ою, з-біраць – са-біраць* і г.д. Варыянты могуць быць фанетычна абумоўленымі (параўн.: *клуб [клуп] – клуб-а* і да т.п.), марфалагічна абумоўленымі (параўн.: *вялік-ай – вялік-аю* і да т.п.), гістарычна абумоўленымі (параўн.: *рак-а – рэч-к-а* і да т.п.; гл.: ПОТИХА 1970, 51–56). Пры сінаніміі матэрыяльна розныя марфемы маюць або тоеснае, або блізкае значэнне. Напрыклад, несупадальныя суфіксы *-ец-, -ік-, -нік-, -цель, -чык-* і інш. ў складзе многіх слоў выражаюць значэнне асобы (параўн.: *крав-ец, нафтав-ік, працаў-нік, выхавац-ель, груз-чык* і да т.п.). Сінанімічны характар маюць і розныя канчаткі, напрыклад, пры выражэнні роднага склону ў словах *яблык-а, кніг-і, сястр-ы,* і розныя прэфіксы, напрыклад, у словах *най-важнейшы* і *архі-важны, звыш-рэакцыйны* і *ультра-рэакцыйны.* Варыянтнасць і сінанімія ўяўляюць сабой лінгвістычную з'яву, блізкую па сваёй прыродзе – выражаюць падобныя або тоесныя значэнні пры матэрыяльным несупадзенні носьбітаў (марфем) гэтых значэнняў.

Паміж полісемічнымі і аманімічнымі марфемамі няма выразных межаў, бо семантычны крытэрый – сувязь паміж марфемамі па сэнсе не дапускае ў многіх выпадках адназначнай трактоўкі, а строгіх фармальных крытэрыяў размежавання дадзеных з'яў (полісеміі і аманіміі) не існуе. Напрыклад, суфікс *-нік* у словах *кіраўнік* і *лет-нік* звязваецца з выражэннем несупадальных значэнняў – найменне асобы і найменне збудавання: у словах *лёт-чык* і *паль-чык* аднолькавы суфікс *-чык* выражае адпаведна асобу і памяншальнасць і г.д. Падобныя выпадкі ўжывання адных і тых жа суфіксаў знаходзяцца бліжэй да аманіміі. У іншых жа выпадках, напрыклад, *вяскоў-ец, кіта-ец,* суфікс *-ец* мэтазгодна лічыць полісемічным, бо адпаведныя словы абазначаюць асобу. Больш відавочным з'яўляецца аманімічны

характар каранёвых марфем і канчаткаў. Так, у словах *пера-нос-іц-а* і *пад-нос* каранёвая марфема *-нос-* выражае розныя рэчыўныя значэнні, а канчатак *-а* ў лексемах *вясн-а* і *дв-а* звязваецца са словамі розных часцін мовы і, зразумела, таксама з неаднолькавымі лексічнымі значэннямі.

Такім чынам, семантычны паказчык, хаця і не з'яўляецца дастаткова выразным служыць тым не менш у многіх выпадках крытэрыем размежавання полісеміі і аманіміі марфем.

Антанімічныя марфемы надаюць адпаведным словам кантрастны характар, словы супрацьпастаўляюцца па той ці іншай семантычнай прыкмеце (параўн.: *прыехаць – ад'ехаць, калгас-нік – калгас-ніц-а, сцян-а – сцен-ы* і г.д.).

## 10.4. ПРАДУКТЫЎНЫЯ І НЕПРАДУКТЫЎНЫЯ, РЭГУЛЯРНЫЯ І НЕРЭГУЛЯРНЫЯ АФІКСЫ

Прадуктыўныя афіксы супрацьпастаўляюцца непрадуктыўным па здольнасці ўтвараць словы: першыя з іх бяруць актыўны ўдзел у сінхранічным словаўтварэнні. Прадуктыўныя марфемы адзначаюцца сярод усіх відаў афіксаў: прыставак (параўн.: *анты-, без-, не-, за-, па-* і інш.), суфіксаў (параўн.: *-нік-, -чык-, -іст-* і інш.) пры ўтварэнні назоўнікаў тыпу *спадарож-нік, ракет-чык, хаке-іст* і г.д.; *-оў-, -н-* і інш. пры ўтварэнні прыметнікаў тыпу *вандр-оў-н-ы, лазер-н-ы* і інш.; *-ава-, -ірава-, -ы-* і інш. пры ўтварэнні дзеясловаў тыпу *камплект-ава-ць, радз-ірав-а-ць, халтур-ы-ць* і інш.; *-у, -а* і інш. пры ўтварэнні прыслоўяў тыпу *па-англійск-у, візуальн-а* і інш. Непрадуктыўныя афіксы практычна не выкарыстоўваюцца пры ўтварэнні новых слоў і адзначаюцца таксама сярод прыставак (параўн.: *пра-дзед, су-часны* і г.д.), суфіксаў (параўн.: *каб-зар, сей-біт, пас-тух,- разь-б-а* і інш.), канчаткаў (параўн.: *да-м, е-м* і г.д.). Прадуктыўнымі ў наш час з'яўляюцца некаторыя афіксоіды тыпу *-вед, -воз, -ход* (параўн.: *беларуса-вед, мата-воз, атама-ход* і г.д.). Паняцце прадуктыўнасці – непрадуктыўнасці мае дыяхранічны характар, у той час як паняцце рэгулярнасці – нерэгулярнасці – сінхранічны характар. Рэгулярныя афіксы вызначаюцца сваёй паўтаральнасцю, узнаўляльнасцю, маюць шырокія формаўтваральныя сувязі; пры іх (афіксаў) дапамозе складаюцца вялікія парадыгмы слоў (параўн.: канчаткі дзеясловаў першага і другога скланенняў: *-е, -іць* і інш.; суфіксы назоўнікаў *-іст-, -нік-, -к-* і інш., канчаткі прыметнікаў *-і (-ы), -аў (-оў)* і інш., прэфіксы *па-, за-* і інш.). Да нерэгулярных афіксаў належаць тыя, што не паўтараюцца ў іншых словах (параўн.: *пашт-амт, дубл-ікат, франц-уз, сюр-рэалізм, ба-хваліцца* і інш.). Звычайна нерэгулярныя афіксы служаць і непрадуктыўнымі, але не ўсе прадуктыўныя афіксы з'яўляюцца рэгулярнымі. Напрыклад, некалі прадуктыўныя суфіксы *-ін-, -ств-* зараз амаль не прымяняюцца для стварэння новых слоў (гл.: ВИНОКУР 1959, 426–427).

## 10.5. ЧЛЯНЕННЕ СЛОЎ

### 10.5.1. МАРФЕМНЫ І СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫ АНАЛІЗ

Марфемны аналіз, або расчляненне слова менавіта на значымыя часткі (гл.: МИЛОСЛАВСКИЙ 1980, 31), ажыццяўляецца шляхам яго (слова) параўнання з іншымі лексемамі, якія маюць у сваім складзе агульныя фармальнасэнсавыя кампаненты – корані, прыстаўкі, суфіксы і інш., прычым важным служыць іменна сэнсавая сувязь суадносных фармальных частак слова, асабліва кораня, які

з'яўляецца структурным і семантычным ядром любога слова. Амаль усе марфемы характарызуюцца паўтаральнасцю, узнаўляльнасцю ў складзе многіх слоў, што называюцца вытворнымі, прычым істотным трэба прызнаць не толькі паўтаральнасць марфем, але і іх аднесенасць да аднаго сінхранічнага стану мовы.

Параўнанне для вылучэння значымых марфем праводзіцца на аснове еднасці кораня і на аснове агульнасці афіксаў. Супадзенне афіксаў дае падставу вылучыць аснову або корань (параўн.: *крам-нік, халадзіль-нік; праз-мер-н-ы, праз-мер-н-асць; па-кор-лів-а, па-кор-лів-асць, па-кор-лів-ы* і г.д.), а таксама іншыя значымыя часткі слова (параўн.: прыстаўкі *анты-хрыст, анты-под, анты-номія;* суфіксы *інсул-ін, кака-ін, вазел-ін* і інш.; флексіі *зім-ы, вясн-ы, сцян-ы* і інш.). Больш аргументаваным і доказным лічыцца пры вылучэнні марфем падвойнае супастаўленне: параўнанне слоў з адным і тым жа коранем і параўнанне слоў з адным і тым жа афіксам. Калі аснова слова дзеліцца на марфемы, яна называецца вытворнай, бо ўключае ў свой склад акрамя кораня і афіксы (параўн.: *за-зямл-і-ць, дуб-ов-ы* і г.д.); пры цэльнасці асновы слова, яго непадзельнасці яно называецца невытворным (параўн.: *сем, або, меню* і да т.п.).

Словаўтваральны аналіз грунтуецца на ўстанаўленні характару сувязяў паміж марфемамі ў слове, на высвятленні спосабу ўтварэння слоў, на выяўленні вытворнасці – невытворнасці слова і напрамку матываванасці супастаўляльных слоў. З дапамогай марфемнага аналізу выкрываецца структура слова, з дапамогай словаўтваральнага – матывавальная аснова. Напрыклад, марфемны аналіз дае магчымасць выявіць, што слова *перад-зім-н-і* складаецца з чатырох марфем: кораня *-зім-*, прэфікса *перад-*, суфікса *-н-*, канчатка *-і;* а словаўтваральны – вызначыць, што слова складаецца з матывавальнага кораня *-зім-* і фармантаў *перад-, -н-, -і*. Абодва віды аналізу слова арганічна нітуюцца паміж сабой і маюць на мэце ўстанавіць механізм утварэння пэўнай лексемы. Прычым пры словаўтваральным аналізе выяўляецца не толькі пара структурна ўзаемазвязаных слоў, але і цэлыя іх ланцугі, калі кожнае папярэдняе слова матывуе наступнае, служыць для яго ўтваральнай асновай (параўн.: *лес – ляс-н- ы – лясн-ік – лясніч-ы, лесніч-оў-к-а – леснічов-ач-к-а* і да т.п.), і, такім чынам, эксплiцыруецца шматступеньчаты характар беларускага словаўтварэння. У той час як марфемны аналіз адказвае на пытанне, з якіх частак складаецца слова, словаўтваральны – як гэта слова ўтваралася. Праблемы, звязаныя з члянімасцю слоў на марфемы, з аднаго боку, лучацца з выкарыстаннем адзінкавых марфем, якія няма з чым супастаўляць (параўн.: слова *маліна*, дзе суфікс *-ін-* вычляняецца на аснове яго паўтаральнасці ў многіх словах тыпу *рабіна, каліна, свініна, бужаніна* і г.д.), але корань *мал-*, як і *раб-, кал-, бужан-*, у рэчыўным значэнні не мае сваіх адпаведнікаў, таму з марфемнага пункту гледжання дадзенае слова падаецца ў слоўніку як *малін-а* (гл.: БАРДОВІЧ, ШАКУН 1989).

### 10.5.2. ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗМЕНЫ СТРУКТУРЫ СЛОВА

Гістарычныя змены, што здараюцца ў дыяхранічным стане мовы і ў яе адзінках, у прыватнасці ў словах, даследуюцца з дапамогай этымалагічнага аналізу, вынікі якога не ўплываюць на марфемны падзел слова з сінхранічнага пункту гледжання. Тым не менш дадзеныя этымалагічнага аналізу неабходна ўлічваць, каб засведчыць факты змянення структуры слова ў часе і больш дакладна ўстанавіць марфемны падзел слова ў сінхраніі. Напрыклад, слова *ільгота* мае ў сучасным стане невытворную аснову, але з гістарычнага пункту гледжання яно ўтварылася ад назоўніка *льга* 'магчымасць' (гл.: БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА 1936, 149) і суфікса *-от-*, які зараз не вылучаецца ў гэтым слове, бо стаў арганічнай часткай яго асновы. Гістарычныя змены, што адбываюцца ў марфемным складзе слова, з'яўляюцца

даволі разнастайнымі і тэрміналагізуюцца ў мовазнаўстве такімі словамі, як *апрошчанне, перараскладанне, ускладненне* і інш. (гл.: БОГОРОДИЦКИЙ 1939, 153–156).

### 10.5.2.1. АПРОШЧАННЕ

Апрошчанне звязана з гістарычным ператварэннем слова раней марфемна члянімага у нечлянімае, вытворнага ў невытворнае, г.зн. калі ў мінулым слова выразна падзялялася на структурныя часткі (марфемы), то ў сучасны момант такога падзелу ўжо не існуе, бо колішнія марфемы "сплавіліся" ў адзінае цэлае і не вылучаюцца ў якасці самастойных, падаюцца ў адпаведных слоўніках без падзелу на часткі (параўн.: *рубель* – раней *руб-ель, беларус* – раней *бел-а-рус, дар* – раней *да-р* і г.д.). Апрошчанне тычыцца найперш пераразмеркавання структуры слова на мяжы кораня і суфікса (параўн.: *рубеж* – гістарычна *руб-еж* і да т.п.), на мяжы прыстаўкі і кораня (параўн.: *убог-і* – гістарычна *у-бог-і* і інш.), на стыку двух каранёў (параўн.: *Беларусь* і гістарычна *Бел-а-русь* і інш.). Апрошчанне можа быць поўным, калі зліццё марфем сталася настолькі арганічным, што вызначыць ранейшую марфемную структуру слова можна толькі шляхам грунтоўнага этымалагічнага аналізу (параўн.: *падзол* – ад *зала, палка* – ад *палец* ці *паліць, нішчымны* – ад *ні з чым* і г.д.; гл.: ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК 1993).

Многія невытворныя словы, хаця і ў рознай ступені, захоўваюць прыкметы свайго былога члянення на марфемы, і ў такіх выпадках апрошчанне называецца няпоўным. Напрыклад, слова *шапка* падаецца ў адпаведных слоўніках беларускай мовы (гл.: БАРДОВІЧ, ШАКУН 1989; БАРДОВІЧ, КРУТАЛЕВІЧ, ЛУКАШАНЕЦ 2000) як *шапк-а,* г.зн. без падзелу на корань і суфікс, якія ў сучаснай беларускай мове ўжо ўтвараюць адзінае цэлае, але калі супаставіць гэта слова з лексемай *шап-а-вал* і з лексемамі *куч-к-а, дош-к-а,* то даволі выразна можна падзяліць яго на марфемы *шап-к-а.* Пры зрашчэнні марфем у адзіную структуру парушаюцца ранейшыя семантычныя і дэрывацыйныя сувязі паміж часткамі слова, адбываецца так званая дээтымалагізацыя, страчваецца матывацыя слова. Так, лексема *жыта* разглядаецца зараз як невытворная, але з улікам этымалагічнага аналізу высвятляецца, што яна звязана са словам *жыць* і мела, такім чынам, матывавацыю, з'яўлялася вытворным і падзялялася на марфемы *жы-т-а.* На аснове апрошчання лексічны склад мовы ўзбагачаецца новымі каранёвымі марфемамі, якія служаць асновай для ўтварэння новых слоў (параўн.: *жыта – жыт-н-і – жыт-н-ёв-ы – жытн-ік* і г.д.).

Прычынай апрошчання служаць фанетычныя і семантычныя змены зыходных вытворных слоў, магчымая архаізацыя апошніх, у выніку чаго адбываецца страта ранейшых семантычных сувязяў паміж вытворнай і невытворнай лексемамі. Так, слова *грэбень* (гістарычна *грэб-ень* этымалагічна звязана са словам *грэбці,* але сучаснае слова *грэбці* страціла адно са сваіх ранейшых значэнняў 'часаць валасы', таму семантычная і словаўтваральная сувязь гэтых слоў (*грэбень* і *грэбці*) парушылася, што прывяло да дээтымалагізацыі слова *грэбень*, да страты яго матывацыі і да апрошчання, г.зн. да змянення яго марфемнай структуры.

### 10.5.2.2. ПЕРАРАСКЛАДАННЕ

Пры перараскладанні ў працэсе гістарычнага развіцця мовы слова можа застацца вытворным, але марфемы ў яго складзе падзяляюцца па-іншаму, чым было першапачаткова; звычайна пры гэтым памяншаецца колькасць марфем, як мінімум дзве з іх зліваюцца ў адну, але слова па-ранейшаму захоўвае свой гукавы склад, вытворнасць, г.зн. у яго саставе могуць заставацца дзве і болей марфемы. На-

прыклад, у слове *гарлачык* раней выдзялялася тры марфемы *гарл-ач-ык*, але ў выніку зліцця першага афікса з коранем адбылося пераразмеркаванне яго марфемнага складу і ў сучаснай беларускай мове лексема падаецца як дзвюхмарфемная *гарлач-ык*, тым не менш гэта лексема застаецца вытворнай. Некаторыя ж словы з вытворных у працэсе перараскладання робяцца невытворнымі, а матывацыйны характар такога слова можа выяўляцца шляхам этымалагічнага аналізу. Так, у слова *ваявода* раней выдзяляліся марфемы *ва-я-вод-а* (параўн.: з аднаго боку *вай-н-а, вой-ск-а* і г.д., з другога – *пал-я-вод, рахунк-а-вод* і г.д.), але ў выніку перараскладання ў сучаснай мове першыя тры марфемы зліліся ў адну і марфемная структура слова падзяляецца не на чатыры значымыя кампаненты, а на дзве *ваявод-а*; слова захоўвае матывацыю, але робіцца з сінхранічнага пункту гледжання невытворнай, матывацыйны ж характар гэтага слова можа выяўляцца шляхам этымалагічнага аналізу.

Змяненне марфемных межаў слова можа адбывацца паміж прыстаўкай і коранем (параўн.: раней *сън-я-ти*, зараз *з-ня-ць* і інш.), паміж коранем і суфіксам (параўн.: раней *голыдь-ба,* зараз *гал-ыцьб-а* і інш.), паміж суфіксамі (параўн.: раней *сват-аў-ство*, зараз *сват-аўств-о*), паміж суфіксам і канчаткам (параўн.: у словах *сценам, землям* – сучасныя канчаткі *-ам, -ям* уваходзілі раней у склад словаўтваральных суфіксаў; гл.: ШАКУН 1978, 58).

У выніку перараскладання ўзнікаюць новыя марфемы як каранёвыя, так і некаранёвыя, і новыя мадэлі ўтварэння слоў. Так, ад ранейшага суфікса *-ік* у сучаснай беларускай мове ўзніклі шляхам гістарычных зменаў структуры слова новыя суфіксы *-нік, -чык, -шчык, -льшчык*, а суфікс *-ец* пашырыўся і можа выглядаць як *-анец, -вец* і інш. (параўн.: *беж-анец, мовазна-вец* і інш.). Пасля перараскладання могуць утварацца і новыя прыстаўкі тыпу *неда-* (параўн.: *неда-рэз-а-н-ы*, раней *не-да-рэз-а-н-ы, неда-ліч-ы-ць*, раней *не-да-ліч-ы-ць; абез-* (параўн.: *абез-зямел-і-ць*, раней *а-без-зямел-і-ць* і інш.).

Такім чынам, пры перараскладанні за кошт колькаснага змяншэння марфемнага складу канкрэтнага слова павялічваецца колькасны склад марфем беларускай мовы.

### 10.5.2.3. УСКЛАДНЕННЕ

Ускладненне звязана з марфемным працэсам ператварэння былога невытворнага слова ў вытворнае, матывованага ў нематываванае, а таксама ў аддзяленні ад каранёвай марфемы службовай, афікса ад афіксоіда. Гэты працэс словаўтварэння адваротны па сваёй прыродзе апрошчанню. Часцей за ўсё ўскладненню падлягаюць запазычаныя словы, што спачатку ўспрымаліся як невытворныя, але ў выніку іх уключэння ў лексічную сістэму беларускай мовы, пад яе уплывам, у пэўных парадыгмах марфемны склад новага слова можа чляніцца не на тыя кампаненты, што адзначаюцца ў іншых суадносных словах, зразумела, пры матэрыяльным супадзенні частак дадзеных слоў. Пры гэтым запазычанае слова трансфармуе свой гукавы склад, прыстасоўвае яго да сістэмы адпаведных беларускіх слоў. Напрыклад, невытворнае слова *гравюра*, запазычанае з французскай мовы, пад уплывам структуры беларускай мовы і ўзнікшых на базе запазычання новых слоў *гравіраваць, гравёр, гравіроўка* стала чляніцца *грав-юр-а*. Невытворнае слова *анархія,* запазычанае з грэчаскай мовы, таксама зрабілася марфемна члянімым, бо паралельна на яго аснове ўтварыліся лексемы *анархіст, анархія, анархічны.* Паўтаральны ў гэтых словах элемент *анарх-* і дае падставу падзяліць марфемна слова як *анарх-і-я*.

Ускладненне тычыцца таксама і запазычаных замежных словаўтваральных афіксаў тыпу *контр-, архі-, анты-, -аж, -ізм, -іст* і інш., якія ў спалучэнні і з запазычанымі словамі (параўн.: *контр-агент, архі-біскуп, анты-дэмакратыя, мант-аж, ідэал-ізм, камун-іст* і г.д.), і з уласна беларускімі (параўн.: *контр-прапанова, архі-важны, анты-народны, ліст-аж, менша-візм, служб-іст* і г.д.) узбагачаюць словаўтваральны патэнцыял беларускай мовы.

### 10.5.2.4. ІНШЫЯ ВІДЫ ЗМЕН У БЕЛАРУСКІМ СЛОВАЎТВАРЭННІ

Да марфалагічных змен у складзе слова мае адносіны і гістарычны працэс дэкарэляцыі, калі марфема з цягам часу мяняе свой статус, напрыклад, з прыстаўкі робіцца суфіксам, як гэта сталася з марфемай *-ам,* што ў творным склоне назоўніка *ніз* з'яўляецца канчаткам, а пры адвербіялізацыі словаформы *нізам,* або пры пераходзе яе ў прыслоўе, зрабілася ў складзе апошняга суфіксам *(ніз-ам)*. У слове *лавец* каранёвая марфема *лав-* зараз успрымаецца як дзеяслоўнае ад інфінітыва *лавіць,* але яе этымалогія ўзыходзіць да старажытнага назоўніка *ловъ* 'лавец' (параўн.: *рыбалоў, звералоў* і г.д.), г.зн. статус дадзенай марфемы змяніўся, з назоўнікавай яна зрабілася дзеяслоўнай.

Дыфузія, або зліццё, сцяжэнне двух частак слова ў адну, назіраецца, напрыклад, пры накладанні матэрыяльна супадальных кампанентаў кораня і суфікса ў адзін элемент тыпу *мінскі, віцебскі* і г.д. (параўн.: *магілёў-ск-і, быхаў-ск-і* і інш., дзе такога супадзення няма і марфема *-ск-* вылучаецца выразна). У прыметнікаў тыпу *белаваты, чарнаваты* элемент *-ав* належыць адначасова і да ўтваральнай асновы гэтых слоў, і да суфікса *-ават*, што выражае непаўнату якасці, таму ёсць падставы фіксаваць і ў дадзеным выпадку дыфузію.

Пры замяшчэнні, наступным відзе гістарычных змен у марфемнай структуры слова, адзначаецца замена адной значымай часткі слова іншай, пры гэтым словаўтваральная і марфемная структура лексемы не мяняецца з колькаснага пункту гледжання, але мяняецца якасць (семантыка) адной з марфем. Так, у слове *салянка* (матывавальны кампанент *соль*) адбылася замена каранёвай марфемы *сел* (першапачаткова *сял-ян-к-а* літаральна 'сялянская ежа') на марфему *сал.* У слове *сініца* (першапачаткова стражытнаўсходнеславянскае *зініца* ад гукапераймальнага элемента *зінь*) адбылася замена *зінь* на *сінь* па аналогіі з *сіні* і, такім чынам, таксама адзначаецца замяшчэнне (гл.: ШАНСКИЙ, ИВАНОВ, ШАНСКАЯ 1971, 409).

Аглютынацыя фіксуецца ў тых выпадках, калі два словы, што былі раней самастойнымі, у тым ліку знамянальнае і службовае, зліваюцца ў адно, складаюць з сінхранічнага пункту гледжання непадзельнае марфемнае адзінства (параўн.: *хаваюся* ад *хаваць сябе,* дыялектнае *пісацьмеш* ад *пісаць маеш* – сінтэтычная форма будучага часу дзеяслова *пісаць* і г.д.).

Пры рэдырывацыі ў працэсе гістарычнага перааснсавання ўтваральная лексема з сучаснага пункту гледжання разглядаецца як вытворная. Напрыклад, лексема *зараза* тлумачыцца цяпер як вытворная ад дзеяслова *заразіць* (гл.: БАРДОВІЧ, КРУТАЛЕВІЧ, ЛУКАШАНЕЦ 2000, 125), але шляхам этымалагічнага аналізу ўстаноўлена, што, наадварот, дзеяслоў *заразіць* з'яўляецца вытворным ад назоўніка *зараза.* Словаўтваральны ланцужок у дадзеным выпадку ўяўляецца наступным чынам: *разіць* → *заразіць* 'забіць' → *зараза* 'забойства' → *зараза* 'эпідэмія' → *заразіць* 'перадаць заразу' (гл.: ШАНСКИЙ 1968, 251).

Зваротнае словаўтварэнне адзначаецца ў тых выпадках, калі ад больш складанай моўнай з'явы ўтвараецца прасцейшая, а не наадварот. Так сталася са словам *даяр*, утворанага ад *даярка; радыёвяшчанне* ўспрымаецца як

дзеепрыметнікавае ўтварэнне ад слова *радыёвяшчаць*, а на самай справе ўтварылася з двух слоў *радыё* і *вяшчанне* (гл.: ЛОПАТИН 1973, 128–132).

## 10.6. АСНОЎНЫЯ СПОСАБЫ СЛОВАЎТВАРЭННЯ

Апошнія дзесяцігоддзі характарызуюцца асабліва актыўным працэсам словаўтварэння ў беларускай мове. У сучасным словаўтварэнні актыўна выкарыстоўваюцца ўсе спосабы словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы: марфалагічны, лексіка-семантычны, марфолага-сінтаксічны, лексіка-сінтаксічны. Галоўнае месца ў словаўтварэнні займае марфалагічны спосаб, з дапамогай якога ўзбагачаецца склад розных часцін мовы і лексічная сістэма беларускай мовы ў цэлым.

Працэс словаўтварэння цесна звязаны і з лексікай, і з граматыкай. Сувязь з лексікай выяўляецца ў развіцці слоўнікавага складу мовы, сувязь з граматыкай – у тым, што новыя словы афармляюцца па адпаведных мадэлях у межах тых граматычных катэгорый, якія ўласцівы мове.

### 10.6.1. ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНЫ СПОСАБ

У межах лексіка-семантычнага спосабу новыя словы з'яўляюцца ў выніку паступовагаператварэння значэнняў шматзначнага слова ў амонімы: *доўг*[1] (запазычанасць) – *доўг*[2] (абавязак).

Пры лексіка-семантычным спосабе новыя паводле гукавога складу словы не ўтвараюцца. Наглядаецца толькі падзел аднаго слова на амонімы, якія набываюць усе рысы самастойных слоў: *завод* (прамысловае прадпрыемства) і *завод* (механізм).

У такіх словах семантычная сувязь на сучасным сінхронным зрэзе адсутнічае, аднак у мінулым яна часцей за ўсё наглядалася: *кулачок* (памяншальнае да *кулак*) і *кулачок* (дэталь машыны).

Лексіка-семантычныя словаўтварэнні ў сучаснай беларускай мове малапрадуктыўныя. Акрамя таго, калі разглядаць словаўтварэнне як працэс сучаснай мовы, то ўтварэнне слоў з дапамогай лексіка-семантычнага спосабу, якое выступае з'явай дыяхраніі, не адносіцца да элементаў гэтага працэсу.

### 10.6.2. МАРФОЛАГА-СІНТАКСІЧНЫ СПОСАБ

У межах марфолага-сінтаксічнага словаўтварэння новыя словы ўзнікаюць шляхам пераходу слоў з адной часціны мовы ў другую. Сюды адносяцца:

*субстантывацыя* (пераход у назоўнікі): *дзяжурны* (параўн.: *дзяжурны вучань*), *хворы* (параўн.: *хворы чалавек*), *стары* (параўн.: *стары чалавек*), *сталовая* (параўн.: *сталовая лыжка*), *працоўныя* (параўн.: *працоўныя людзі*), *ляснічы, рулявы, пірожнае* і г.д.;

*ад'ектывацыя* (пераход у прыметнікі): *арганізаваны чалавек* (параўн.: *арганізаваная студэнтамі вечарына*), *бліскучыя здольнасці* (параўн.: *бліскучыя на сонцы кроплі*), *ляжачы, сыпучы, пахучы* і г.д.;

*прана мiналiзацыя* (пераход у займеннікі): *дадзеная падзея*, г.зн. 'гэта падзея', '*тая, аб якой ідзе размова*', *цэлы*, г.зн. 'увесь' (*цэлы дзень – увесь дзень*), *адзін*, г.зн. 'нейкі знаёмы ці незнаёмы' (*стаяў каля аднаго дома*) і г.д.;

а д в е р б і я л і з а ц ы я (пераход у прыслоўі): *ісці на ўдачу* (параўн.: *спадзявацца на ўдачу*), *зраблю па-вашаму* (параўн.: *зраблю па вашай парадзе*); *вярхом, крокам, часам, ранкам, восенню* і г.д.

На падставе таго, што марфолага-сінтаксічнае словаўтварэнне адбываецца ў дыяхраніі, многія даследчыкі не ўключаюць яго ў склад словаўтваральнай сістэмы мовы.

### 10.6.3. ЛЕКСІКА-СІНТАКСІЧНЫ СПОСАБ

У межах лексіка-сінтаксічнага словаўтварэння новыя словы ўзнікаюць ў выніку зрашчэння спалучэння слоў у адну лексічную адзінку: *сёння (сяго дня), мімаволі (міма волі), глыбокапаважаны (глыбока паважаны), вельмішаноўны (вельмі шаноўны), вечназялёны (вечна зялёны), супрацьпастаўляць (супраць пастаўляць).*

Паколькі лексіка-семантычнае словаўтварэнне адбываецца ў дыяхраніі, то многія даследчыкі слушна выводзяць яго за межы словаўтварэння.

### 10.6.4. МАРФАЛАГІЧНЫ СПОСАБ

Марфалагічны спосаб з'яўляецца асноўным у беларускім словаўтварэнні. Вытворныя словы складаюць асноўную частку слоўніка, існуюць шматлікія словы, на базе якіх утвораны дзесяткі вытворных слоў. Слова ўтворанае ад іншага слова называецца *в ы т в о р н ы м* або словам *з в ы т в о р н а й (м а т ы в а в а н а й)* асновай. Аснова, ад якой утвораны іншыя асновы, называецца *ў т в а р а л ь н а й (м а т ы в а в а л ь н а й).*

У межах марфалагічнага спосабу новыя словы ствараюцца:

1. З дапамогай суфікса: *лет-**н**-і, земл-**ян**-ы, сад-**ов**-ы, каз-**а-ць**, кіраў-**нік**, знішча-**льнік**.*

2. З дапамогай прыставак (прэфіксаў): ***звыш**-хуткасны, **пера**-чытаць, **су**-курснік, **за**-будаваць, **вы**-гадаваць.*

3. З дапамогай прэфікса і суфікса: **а**-поўдн-**і**, **да**-верх-**у**, **да**-рэшт-**ы**, **з**-бок-**у**, **на**-прадвесн-**і**.

4. З дапамогай постфікса: вітац-**ца**, сустракац-**ца**, вучыц-**ца**.

5. Без афікса: *выбух, шыр, кара, задума, ціш, высь, бег, стук, скрып, сум, блакіт, вар, шум, кліч.*

6. Складанне слоў або асноў: *мовазнаўства, шасціпавярховы, сукенка-касцюм.*

7. Скарачэннем асноў, пры якім слова ўтвараецца:

а) з пачатковых складоў цэлага словазлучэння: *прафком, філфак;*

б) з пачатковай часткі аднаго слова і цэлага другога слова: *насценгазета, сельсавет;*

в) з алфавітных назваў пачатковых літар слоў, якія складаюць словазлучэнне: РБ, БДУ, БДПУ, БПА.

8. Адваротным словаўтварэннем (рэдэрывацыяй), пры якой слова ўтвараецца ў выглядзе ўтваральнага: *даяр* (парнае ўтварэнне да слова *даярка*).

Часам адно і тое ж вытворнае слова можна суаднесці з двума рознымі ўтваральнымі словамі.

# 10.7. СЛОВАЎТВАРЭННЕ ЧАСЦІН МОВЫ

## 10.7.1. УТВАРЭННЕ НАЗОЎНІКАЎ

*Суфіксальныя назоўнікі* з суфіксам *-аж (-яж)* утвораны ад запазычаных дзеясловаў і назоўнікаў або запазычаны ў гатовым выглядзе. Адметнай семантычнай прыкметай аддзеяслоўных назоўнікаў з'яўляецца аманімічнасць, абумоўленая іх дзеяслоўным утварэннем: з аднаго боку, утвораны назоўнік мае значэнне адцягненай працэсуальнасці, звязанай з семантыкай дзеяслова, з другога – прадметнасці, звязанай з семантыкай утворанага назоўніка: *дрэнаж, дубляж, інструктаж, мантаж, рэпартаж* і г.д.

Адназоўнікавыя ўтварэнні катэгорыі прадметаў з суфіксам *-аж (-яж)* маюць зборнае значэнне і служаць для намінацыі рэчываў ці сукупнасці прадметаў: *сянаж, карданаж, эстампаж, этыкетаж, трыкатаж* і г.д.

Назоўнікі з суфіксам *-ай* тыпу *ураджай, малачай* у адрозненне ад разгледжаных вышэй назоўнікаў з суфіксам *-аж (-яж)* утвораны ад незапазычаных лексем, словаўтваральны тып характарызуецца нязначнай прадуктыўнасцю ў сучаснай агульналітаратурнай дэрывацыі.

Назоўнікі з суфіксам *-ак (-як)* утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў. Адназоўнікавыя словы характарызуюцца некаторай прадуктыўнасцю ў агульналітаратурнай лексіцы, а таксама ў геалагічнай, батанічнай, медыцынскай і заалагічнай тэрмінасістэмах: *вапняк, сасняк, сыпняк, гусак, бяляк, шарак* утвораны ад сваямоўных лексем.

Адпрыметнікавыя назоўнікі катэгорыі прадметаў, з'яў з суфіксам *-ак (-як)* нешматлікія, незапазычаныя, часам з'яўляюцца кароткімі варыянтамі двухслоўных намінацый: *таварняк – таварны цягнік, паражняк – парожні цягнік.*

Назоўнікі з суфіксам *-няк* утвораны пераважна ад асноў назоўнікаў: *жалязняк, плітняк, дубняк, лазняк, вішняк, вярбняк, беразняк* і г.д. Сустракаюцца і ўтварэнні ад асноў прыметнікаў тыпу *маладняк, сушняк.* Гэтыя назоўнікі абазначаюць у асноўным сукупнасць аднолькавых дрэў, раслін, названых утваральным незапазычаным словам.

Назоўнікі з суфіксам *-ік (-ык)* утвараюцца пераважна ад прыметнікаў і абазначаюць канкрэтныя прадметы, з'явы, жывёл як носьбітаў прыкмет, абазначаных утваральнымі прыметнікамі: *штурмавік, ледавік, паравік, прапускнік; дажджавік, рыжык, пясчанік; месячнік, ранішнік, суботнік; аўсянік, драпежнік, драцянік, стаеннік, галавасцік, канаплянік* і г.д. Некаторыя з гэтых слоў утвораны на аснове словазлучэнняў: *штурмавы самалёт – штурмавік, дажджавы чарвяк – дажджавік, драпежны звер – драпежнік, стаенны конь – стаеннік* і пад. Словаўтваральны тып з суфіксам *-ік* высокапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні, характарызуецца даволі значнай прадуктыўнасцю ў заалагічнай тэрміналогіі. Гэтыя назоўнікі ўтвораны ад незапазычаных прыметнікаў.

Назоўнікі з суфіксам *-нік* утвараюцца ад дзеясловаў, назоўнікаў і прыметнікаў. Аддзеяслоўныя тэрміны абазначаюць прадметы, прыстасаванні для выканання пэўных дзеянняў: *выпарнік, паглыбнік, адборнік, адстойнік, акучнік* і г.д., а таксама некаторыя паняцці тыпу *дзельнік, множнік* і інш. Лексемы гэтага дэрывацыйнага тыпу ўтвораны ад незапазычаных дзеясловаў. У агульналітаратурным словаўтварэнні аддзеяслоўныя дэрываты са значэннем прадметаў з суфіксам *-нік* адзінкавыя, але прадуктыўныя ў тэхнічнай тэрміналогіі.

Адназоўнікавыя лексемы з суфіксам *-нік* катэгорыі прадметаў служаць для намінацыі памяшканняў, ёмістасцей паводле іх прызначэння: *кароўнік, цялятнік,*

*багажнік, патроннік* і г.д.; сукупнасцей аднародных дрэў, кустоў і раслін, названых утваральным словам: *алешнік, арэшнік, бярэзнік, хвойнік, маліннік, ажыннік, бруснічнік, рабіннік, агурочнік, ягаднік, бурачнік* і г.д. Тып прадуктыўны ў агульналітаратурным і тэрміналагічным словаўтварэнні. Адпрыметнікавыя назоўнікі з суфіксам *-нік* нешматлікія, служаць для намінацыі сукупнасцей дрэў, кустоў і раслін: *кедроўнік, маркоўнік, тутоўнік.* Некаторыя з гэтых слоў з'яўляюцца словаўтваральнымі варыянтамі адпаведных па семантыцы адназоўнікавых утварэнняў: *альхоўнік (альховы) – алешнік (алешына).*

Назоўнікі з суфіксам *-оўнік (-эўнік)* утвараюцца пераважна ад асноў назоўнікаў, служаць для намінацыі сукупнасцей дрэў, кустоў, раслін і характарызуюцца тымі ж уласцівасцямі, што і адпаведныя назоўнікі з суфіксам *-нік: бабоўнік, бульбоўнік, кустоўнік, макоўнік, мядоўнік, дзядоўнік, піхтоўнік* і г.д. Некаторыя з іх з'яўляюцца словаўтваральнымі варыянтамі назоўнікаў, утвораных ад прыметнікаў з дапамогай суфікса *-нік* тыпу *(бульбяны) бульбянік – (бульба) бульбоўнік.* Гэтыя словы ўтвораны ад незапазычаных назоўнікаў. Словаўтваральны тып з суфіксам *-оўнік* характарызуецца пэўнай прадуктыўнасцю толькі ў батанічнай тэрміналогіі.

Назоўнікі з суфіксамі *-нь, -ень, (-вень), -ань* звычайна ўтвараюцца ад асноў пераважна незапазычаных дзеясловаў. Яны служаць для намінацыі жывёл або птушак па іх спецыфічных рысах: *попаўзень, певень* і г.д.; прадметаў і з'яў прыроды, якія служаць вынікам пэўнага дзеяння: *апоўзень, выкапень, лівень* і г.д. Дэрывацыйны тып з названымі суфіксамі з'яўляецца непрадуктыўным у словаўтварэнні.

Назоўнікі з суфіксам *-ец (-ац)* утвораны ад асноў незапазычаных прыметнікаў і дзеепрыметнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, з'яў, рыб па іх прыкметах, а таксама прадметаў, якія служаць вынікам пэўных дзеянняў: *сырэц, макрэц, сівец, глушэц, жывец; саджанец, сеянец* і г.д. У тэрміналагічным словаўтварэнні дэрывацыйны тып з суфіксам *-ец (-ац)* характарызуецца больш высокай прадуктыўнасцю ў параўнанні з агульналітаратурным.

Назоўнікі з суфіксам *-льнік* утвораны ад асноў незапазычаных дзеясловаў, служаць для намінацыі прадметаў, прылад ці рэчываў па іх прызначэнні або ўласцівасцях: *акісляльнік, апыляльнік, выключальнік, вымяральнік, знішчальнік, паглынальнік, паскаральнік, разрыхляльнік, раствaральнік, узбуджальнік, маразільнік, напільнік* і г.д. Гэты дэрывацыйны тып вельмі прадуктыўны ў тэрміналогіі і значна менш прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Назоўнікі з суфіксам *-іц-а (-ыц-а)* утвораны ад асноў прыметнікаў і служаць для намінацыі насякомых і птушак: *капусніца, сініца* і г.д.; раслін: *аўсяніца, гарчыца, касцяніца, кісліца, чарніца* і г.д.; частак расліны, цела чалавека, жывёлы: *грыбніца, паясніца, рагавіца* і г.д.; хвароб: *грудніца, крапіўніца* і г.д. Словаўтваральнымі базамі некаторых назоўнікаў гэтага дэрывацыйнага тыпу з'яўляюцца словазлучэнні, у склад якіх уваходзіць утваральны прыметнік: *крапіўная ліхаманка — крапіўніца, рагавая абалонка — рагавіца* і г.д. Тып малапрадуктыўны.

*Нульсуфіксальныя назоўнікі* катэгорыі прадметаў, з'яў утвараюцца ад асноў дзеясловаў, прыметнікаў, а таксама шляхам эліптычнай субстантывацыі.

Аддзеяслоўныя назоўнікі ўтвораны пераважна ад незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі інструментаў, прыстасаванняў ці вынікаў дзеяння: *адвал, аправа, запруда, заціск, набор, прывад, пража, прыпой, прышчэп, ціск* і г.д. Тып прадуктыўны ў сучасным словаўтварэнні.

Адпрыметнікавыя назоўнікі ўтвораны ад запазычаных прыметнікаў і служаць для намінацыі матэрыялаў тыпу *пластык, эластык.* Тып атрымлівае прадуктыўнасць у сучасным тэрмінаўтварэнні.

Асобны разрад нульсуфіксальных назоўнікаў катэгорыі прадметаў складаюць адпрыметнікавыя назоўнікі ад'ектыўнага скланення. Да іх адносяцца:

а) назоўнікі жаночага роду, якія служаць для намінацыі памяшканняў, устаноў паводле прызначэння: *аперацыйная, перавязачная, прафесарская, прыёмная, слясарная, сталярная* і г.д.; назвы афіцыйных дакументаў, папер: *накладная, суправаджальная* і г.д. Тып прадуктыўны ў сучасным словаўтварэнні.

б) назоўнікі ніякага роду, якія служаць для намінацыі лекаў, страў, адзення: *слабіцельнае, снатворнае; заліўное, салодкае; штацкае* і г.д.; адзінак класіфікацыі расліннага і жывёльнага свету: *бясхвостае (бясхвостыя), зонтычнае (-ыя), клубневае (-ыя), млекакормячае (-ыя), ракападобнае (-ыя)* і г.д. Тып прадуктыўны ў медыцынскай, кулінарнай, прыродазнаўчай тэрміналогіі.

в) множналікавыя назоўнікі, якія служаць для намінацыі відаў выплатных грошай: *адпускныя, аўтарскія, пад'ёмныя, прэміяльныя, сутачныя.* Тып прадуктыўны.

г) назоўнікі, словаўтваральнай базай якіх выступаюць словазлучэнні "назоўнік+прыметнік": *выхадны (выхадны дзень), зборная (зборная каманда), кантрольная (кантрольная работа)* і г.д. Тып прадуктыўны.

*Прэфіксальныя назоўнікі* з прэфіксам *анты-* служаць для намінацыі прадметаў, з'яў, процілеглых тым, што названы ўтваральным словам: *антыкосмас, антыракета, антысвет, антыцыклон.* Тып набывае прадуктыўнасць у астранамічнай тэрміналогіі, уключае запазычаныя, пераважна інтэрнацыянальныя лексемы.

Назоўнікі з прэфіксам *звыш-* служаць для намінацыі прылад, якія адрозніваюцца больш высокімі якасцямі ці ўздзеяннем у параўнанні з названым утваральным словам: *генератар – звышгенератар, рэактар – звышрэактар* і г.д.. Тып непрадуктыўны, уключае ўтварэнні ад інтэрнацыянальных слоў.

Назоўнікі з прэфіксам *над-* абазначаюць прадметы, якія маюць тыя ж уласцівасці, што і названыя ўтваральным словам, але займаюць у прасторы ці класіфікацыі месца над імі: *надкіслата, надсістэма, надскурка* і г.д. Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі, уключае пераважна незапазычаныя тэрміны.

Назоўнікі з прэфіксам *прата-* служаць для намінацыі першапачатковасці прадметаў, з'яў, названых утваральным словам: *пратазорка, пратанема, пратаплазма, пратасамалёт, прататып* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, тэрміны гэтага дэрывацыйнага тыпу ўтвораны ад запазычаных і незапазычаных лексем.

Назоўнікі з прэфіксам *процi-* служаць для намінацыі прадметаў, з'яў, процілеглых тым, што названы ўтваральным словам: *procівага, проціракета, проціцячэнне* і г.д. Тып прадуктыўны. Назоўнікі гэтага дэрывацыйнага тыпу ўтвораны ад запазычаных і незапазычаных лексем.

Назоўнікі з інтэрнацыянальным прэфіксам *суб-* служаць для намінацыі прадметаў, што складаюць частку або падпарадкаваны ці мяжуюць з тым, што названа ўтваральным словам: *субдамінанта, субпрадукты, субстратасфера, субтытры, суб'ядро* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі. Тэрміны гэтага дэрывацыйнага тыпу ўтвораны пераважна ад запазычаных інтэрнацыянальных лексем.

Назоўнікі з інтэрнацыянальным прэфіксам *супер-* служаць для намінацыі прадметаў больш высокай якасці ці ўзмоцненасці дзеяння ў параўнанні з названымі ўтваральным словам: *супертанкер, суперэкспрэс, суперфасфат, суперцэмент* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі. Тэрміны гэтага дэрывацыйнага тыпу ўтвораны ад інтэрнацыянальных лексем.

Назоўнікі з прэфіксам *супраць-* нешматлікія, замест іх часта ўжываюцца тэрмінаўтваральныя варыянты з прэфіксам *проці-: супрацьвага – процівага, супрацьракета – проціракета, супрацьцячэнне – проціцячэнне.*

Назоўнікі з інтэрнацыянальным прэфіксам *ультра-* маюць тое ж агульнае значэнне павышанай якасці або ўздзеяння, што і назоўнікі з прэфіксам *звыш-*, аднак у большасці выпадкаў варыянтных утварэнняў з гэтымі прэфіксамі не ўзнікае, паколькі кожны прэфікс замацоўваецца за пэўнымі назоўнікамі, параўн.: *ультрагук, ультрамарын, ультраструктура, ультрафільтр* і *звышгенератар, звышкамплект.*

Назоўнікі з прэфіксам *экстра-* маюць тое ж значэнне, што і назоўнікі з прэфіксамі *звыш-, ультра-: экстрааўтобус, экстраклас, экстраматч, экстрасамалёт* і г.д. Словаўтваральныя варыянты назоўнікаў з гэтымі прэфіксамі звычайна не ўтвараюцца дзякуючы пэўнай замацаванасці, спецыялізаванасці кожнага прэфікса. Тып прадуктыўны. Словы гэтага тыпу ўтвараюцца ад запазычаных, пераважна інтэрнацыянальных і незапазычаных лексем.

Такім чынам, назоўнікі катэгорыі прадметаў, з'яў, утвораныя прэфіксальным спосабам, займаюць значна меншае месца ў параўнанні з назоўнікамі суфіксальнага ўтварэння, якія з'яўляюцца самымі шматлікімі сярод асноўных катэгорый лексікі.

У адрозненне ад суфіксальнага словаўтварэння катэгорыі прадметаў, з'яў, якое пашырана як у тэрміналагічным, так і ў агульналітаратурным словаўтварэнні, прэфіксальнае служыць значна больш прадуктыўным у тэрміналагічным словаўтварэнні ў параўнанні з агульнаўжывальным.

Прэфіксы, якія выкарыстоўваюцца для ўтварэння назоўнікаў катэгорыі прадметаў, з'яў, звычайна змяняюць семантыку ўтваральных слоў, часта служаць для ўтварэння антонімаў да гэтых слоў, не ўплываючы на іх граматычныя характарыстыкі. У большасці выпадкаў прэфіксы служаць для ўтварэння новых назоўнікаў ад ужо існуючых.

Па генетычным складзе большасць гэтых прэфіксаў (7 з 10) запазычаныя, з іх значная частка належыць да інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду.

Утваральныя словы назоўнікаў катэгорыі прадметаў, з'яў таксама ў большасці выпадкаў належаць да інтэрнацыянальных. Прэфіксальны спосаб утварэння назоўнікаў гэтай катэгорыі характарызуецца значна большай аналагічнасцю

*Суфіксальна-прэфіксальныя назоўнікі* з прэфіксам *а-* і суфіксам *-ак* утвораны ад асноў незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, якія мяжуюць з тымі ці з'яўляюцца часткай тых, што названы ўтваральным словам: *адонак* (сельскагаспадарчае), *апечак, асяродак* (грамадазнаўчае) і г.д.

Тып непрадуктыўны для сучаснага беларускага словаўтварэння. Выкарыстоўваецца часам у сельскагаспадарчай, промыславай, грамадазнаўчай тэрміналогіі.

Назоўнікі з прэфіксам *а-* і суфіксам *-к-*, якія належаць да граматычнай катэгорыі множналікавых назоўнікаў, утвараюцца ад незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі адходаў апрацоўкі льну, канапель: *ачоскі, атрускі, ацяробкі.* Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі з прэфіксам *аб-* і суфіксам *-к-* утвараюцца ад асноў назоўнікаў і з'яўляюцца адзінкавымі: *абножка* (батан. – пылок з кветак), *абножкі* (від воўны). Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі з інтэрнацыянальным прэфіксам *анты-* і суфіксам *-ін* утвараюцца ад асноў запазычаных і незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі рэчываў, медыцынскіх прэпаратаў, якія дзейнічаюць супраць таго, што названа ўтваральным словам: *антыгрыпін, антыкамарын, антымоль* і г.д. Тып прадуктыўны ў медыцынскай тэрміналогіі, фармакалогіі. Словаўтваральнымі варыянтамі назоўнікаў гэтага тыпу выступаюць назоўнікі з суфіксам *-лін* тыпу *туберкулін.*

Назоўнікі з прэфіксам *між-* і суфіксам *-j-э* ўтвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі частак паміж прадметамі, названымі ўтваральным словам: *міжброўе, міжгор'е, міжлессе, міжраддзе, міжрэчча* і г.д. Тып прадуктыўны.

Назоўнікі з прэфіксам *на-* і суфіксам *-нік* утвораны ад асноў незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі інструментаў, прыстасаванняў: *навушнік, наканечнік, намордпік, напульснік* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, шырока выкарыстоўваецца таксама ў размоўным стылі мовы.

Назоўнікі з прэфіксам *над-* і суфіксам *-j-э* абазначаюць часткі цела чалавека, жывёлы, птушак, часткі прадметаў, якія знаходзяцца над тым, што названа ўтваральным словам: *надброўе, надлоб'е, надпечча, надкрылле, надплечча* і г.д. Гэты ж прэфікс маюць адзінкавыя назоўнікі з суфіксамі *-нік, -к-а, -іц-а: надкаленнік, надныраннік, надскурка, надкосніца.* Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і менш прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Назоўнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ак* утвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, частак цела, якія знаходзяцца ніжэй або блізка да таго, што абазначана ўтваральным словам: *падбародак, падносак, падкрылак, падлесак, падмурак, падпечак, падсітак, падсвінак, падстрэшак* і г.д. Тып малапрадуктыўны ў сучасным словаўтварэнні.

Назоўнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ов-ік (-ав-ік)* утвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі відаў грыбоў паводле іх размяшчэння: *асіна — падасінавік, падбярозавік, паддубовік* і г.д. Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі з прэфіксам *пад- і* суфіксам *-ік* утвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі асобін жывёльнага свету адносна падабенства да названых утваральным словам: *падворлік, падлешчык, пад'язік* і г.д. Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-нік* утвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, якія знаходзяцца пад тым, ніжэй таго, што абазначана ўтваральным словам: *падкаленнік, паддоннік* і г.д. Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі з прэфіксам *перад-* і суфіксам *-j-э* ўтвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, частак цела, што знаходзяцца перад названым утваральным словам: *гара — перадгор'е, перадплечча, перадсэрдзе* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Адзінкавыя тэрміны з названым прэфіксам маюць суфіксы *-ак (перадкрылак), -нік (перадплужнік).*

Назоўнікі з прэфіксам *су-* і суфіксам *-j-э* ўтвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, якія складаюцца з некалькіх аднолькавых прадметаў, абазначаных утваральным словам: *сузор'е, суквецце, суплоддзе* і г.д. Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі, непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

*Назоўнікі, утвораныя спосабам аснова- і словаскладання,* размяркоўваюцца паміж некалькімі словаўтваральнымі тыпамі.

Словаўтваральны тып "аснова назоўніка+злучальны элемент складанага слова+ назоўнік" катэгорыі прадметаў, з'яў, у якім кампаненты складанага слова злучаны спалучальнай сувяззю і суадносяцца са спалучальнымі словазлучэннямі: *жалеза і бетон – жалезабетон, законапраект, лесастэп, лесатундра, насаглотка, серавадарод, торфабрыкет, трагікамедыя, шкловалакно* і г.д. У якасці злучальнага элемента складанага слова выступае інтэрфікс *-а- (-я-).* Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Словаўтваральны тып "аснова назоўніка+злучальны элемент складанага слова+ назоўнік", у якім кампаненты складанага слова злучаны падпарадкавальнай сувяззю і суадносяцца з падпарадкавальнымі словазлучэннямі: *балон для газу – газабалон, паласа лесу – лесапаласа, пасека для пчол – пчалапасека, сховішча для бульбы –*

*бульбасховішча, тара для шкла – шклатара* і г.д. У ролі злучальнага кампанента выступае інтэрфікс -а-. Тып самы прадуктыўны сярод складаных утварэнняў катэгорыі прадметаў, з'яў.

Прадуктыўны словаўтваральны тып складаюць таксама назоўнікі-кампазіты з аналагічнымі падпарадкавальнымі адносінамі іменнага кіравання, у якіх першы кампанент з'яўляецца ўсечанай асновай назоўніка: *бак для бензіну – бензабак, сховішча для бензіну – бензасховішча* і г.д. Да гэтага тыпу адносяцца таксама трохкампанентныя складаныя назоўнікі з аналагічнымі адносінамі паміж першым і апошнім кампанентамі і ўсечанай асновай прыметніка, які выступае азначэннем да апошняга (апорнага) кампанента: *мотазапчасткі – запасныя часткі для матацыкла, аўтазапчасткі* і г.д.

Словаўтваральны тып "аснова прыметніка+злучальны кампанент складанага слова+назоўнік", у якім кампаненты складанага слова звязаны падпарадкавальнай сувяззю і суадносяцца з падпарадкавальнымі словазлучэннямі з азначальнымі адносінамі паміж кампанентамі: *новая будоўля – новабудоўля, сухія фрукты – сухафрукты* і г.д. У якасці злучальнага кампанента выступае інтэрфікс *-а-(-я-).* Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прадуктыўны словаўтваральны тып складаюць таксама шматлікія назоўнікі-кампазіты з аналагічнымі падпарадкавальнымі азначальнымі адносінамі, у якіх першы кампанент з'яўляецца ўсечанай асновай прыметніка. У якасці першага кампанента выступаюць многія інтэрнацыянальныя асновы, якія звычайна называюцца інтэрнацыянальнымі тэрмінаэлементамі: *авія-*, *аўта-*, *агра-, астра-, бія-, вела-, заа-, касма-, мота-, радые-, сейсма-, стэрэа-, тэле-, тэрма-, турба-, фота-, электра-, энерга-.* Сярод назоўнікаў гэтага словаўтваральнага тыпу семантычна вылучаюцца складаныя назоўнікі, якія служаць для намінацыі галін навук. Яны складаюць самастойную катэгорыю тэрмінаў – назвы навук і раздзелаў навук.

Словаўтваральны тып "аснова лічэбніка+злучальны кампанент складанага слова+назоўнік", у якім кампаненты складанага слова звязаны падпарадкавальнай сувяззю і суадносяцца з падпарадкавальнымі словазлучэннямі з азначальнымі адносінамі паміж кампанентамі: *двухвокіс, першакрыніца.* У якасці злучальнага кампанента выступае інтэрфікс *-а-*. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Асобны словаўтваральны тып складаюць назоўнікі-кампазіты, якія ўтвараюцца ў выніку спалучэння звязаных асноў (у асноўным інтэрнацыянальнага характару, так званых інтэрнацыянальных тэрмінаэлементаў) і назоўнікаў (апорных кампанентаў) з дапамогай злучальных элементаў складаных слоў. У якасці звязаных кампанентаў выступаюць наступныя: *аўта-* (сінанімічны кампаненту *сама-*): *аўтабіяграфія, аўтапартрэт; астра-, аэра-, бія-, відэа-, геа-, гідра-, макра-, мікра-, міні-, неа-, полі-, тэле-, фота-.* Сярод назоўнікаў гэтага словаўтваральнага тыпу семантычна вылучаюцца складаныя назоўнікі, якія служаць для намінацыі галін навукі. Яны адносяцца да самастойнай семантычнай катэгорыі.

Да словаўтваральнага тыпу катэгорыі прадметаў, з'яў адносяцца і назоўнікі (складаныя або простыя) са звязаным апорным (другім) кампанентам. Да найбольш ужывальных адносяцца тыпы з наступнымі звязанымі апорнымі кампанентамі: *-граф, -грама, -метр, -скоп, -фон, -дром, -план, -стат, -бус, -мабіль, -кар, -тэка, -рам(а), -мер, -трон.*

Акрамя пералічаных вышэй усечаных асноў і звязаных кампанентаў тут выкарыстоўваюцца яшчэ такія: *страта-, арыфма-, верта-, дыя-, аква-, антрапа-, біблія-, кардыя-, тралей-, фана-, храна-.*

*Назоўнікі, утвораныя суфіксальна-складаным спосабам,* звычайна складаюцца з дзвюх асноў, прычым папярэдні кампанент падпарадкаваны па сэнсе наступнаму, апорнаму. Асобныя ўтварэнні змяшчаюць тры асновы і больш.

*Назоўнікі з дзеяслоўнай асновай у якасці апорнага кампанента* размяркоўваюцца па некалькіх словаўтваральных тыпах.

Назоўнікі з суфіксам *-нік* абазначаюць прадметы, якія служаць для выканання дзеянняў, названых дзеяслоўнымі (апорнымі) асновамі і канкрэтызаваных першымі асновамі. Дзеяслоўныя асновы такія ж, як і ў суфіксальных назоўніках з суфіксам *-нік.* У якасці першых асноў выступаюць назоўнікавыя: *маслаадстойнік, мачаточнік, паразборнік, саломапад'ёмнік, смеццезборнік, судапад'ёмнік, токапрыёмнік.* Тып высокапрадуктыўны ў тэхнічнай тэрміналогіі.

Назоўнікі з суфіксам *-к-а* абазначаюць прадметы (механізмы, прыстасаванні), якія служаць для выканання дзеянняў, названых дзеяслоўнай асновай і канкрэтызаваных адносна аб'екта папярэдняй назоўнікавай або прыметнікавай асновай. Дзеяслоўныя асновы тыя ж, што і ў суфіксальных назоўніках з суфіксам *-к-а: вадакачка, клеверацёрка, мясарубка, фарбацёрка* і г.д. У некаторых назвах механізмаў дзеяслоўныя асновы маюць прэфіксы: *газаачыстка, самазборка, самаскідка* і г.д. Тып прадуктыўны ў сучаснай тэхнічнай тэрміналогіі.

Назоўнікі з суфіксам *-лк-а* служаць для намінацыі прадметаў (механізмаў, прыстасаванняў), якія выконваюць дзеянні, названыя асновай дзеяслова і канкрэтызаваныя назоўнікавай асновай. Дзеяслоўныя асновы тыя ж, што і ў суфіксальных назоўніках з суфіксам *-лк-а: бульбасаджалка, газонакасілка, землечарпалка, камнедрабілка, каноплямялка, сокавыціскалка* і г.д. Тып прадуктыўны ў сучаснай тэхнічнай тэрміналогіі.

Назоўнікі з суфіксам *-н-я* абазначаюць памяшканні, якія служаць для выканання дзеянняў, названых дзеяслоўнай (апорнай) асновай і канкрэтызаваных папярэдняй пераважна назоўнікавай асновай: *вінакурня, каменяломня, лесапільня, мукамольня, піваварня* і г.д. Тып непрадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні.

Назоўнікі з суфіксам *-авік* абазначаюць прадметы, што служаць для выканання дзеянняў, названых апорнымі дзеяслоўнымі асновамі і канкрэтызаваных папярэднімі прыметнікавымі: *ветрарухавік, электрарухавік.* Тып набывае некаторую прадуктыўнасць у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

Назоўнікі з суфіксам *-ец (-ац),* утвораныя суфіксальна-складаным спосабам з асновай дзеяслова ў якасці апорнага кампанента, адзінкавыя: *браняносец, мінаносец.* Як і назоўнікі папярэдніх тыпаў, яны служаць для намінацыі прадметаў, якія ўтвараюць дзеянне, названае апорнай дзеяслоўнай асновай і канкрэтызаванае першай асновай, звычайна назоўнікавай. Тып непрадуктыўны.

*Назоўнікі з назоўнікавай асновай у якасці апорнага кампанента* размяркоўваюцца паміж некалькімі словаўтваральнымі тыпамі.

Назоўнікі з суфіксам *-к-а* служаць для намінацыі пераважна адушаўлёных прадмётаў, жывёл, якія характарызуюцца прыкметай, названай апорнай назоўнікавай асновай і канкрэтызаванай першай асновай: *краснапёрстка, сіняхвостка, шыладзюбка* і г.д.

Назоўнікі з суфіксам *-ок* служаць для намінацыі неадушаўлёных і адушаўлёных прадметаў, якія характарызуюцца прыкметамі, названымі апорнай назоўнікавай асновай і канкрэтызаванымі першай асновай. У якасці першай асновы выступаюць асновы лічэбнікаў і прыметнікаў, кампаненты *паў-* і *мала-: адналетак, малалетак, паўкровак, паўстанак, першагодак* і г.д.

*Назоўнікі са звязанымі апорнымі кампанентамі* размяркоўваюцца паміж некалькімі словаўтваральнымі тыпамі.

Назоўнікі з суфіксамі *-і/-а (-ы/-а)* і звязанымі апорнымі кампанентамі *-граф, -метр, -скоп, -фон, -тып, -хром* служаць для намінацыі фізічных з'яў, галін навукі і тэхнікі, сфер дзейнасці, названых апорным кампанентам і ўдакладненых першым кампанентам: *паліграфія, рэнтгенаскапія, секундаметрыя, стэрэафанія, фотатыпія, фотахрамія* і г.д. Першыя кампаненты, пераважна ўсечаныя і звязаныя, таксама як і апорныя, адносяцца да інтэрнацыянальных тэрмінаэлементаў. Тып прадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні.

У межах *складаных назоўнікаў з нулявым суфіксам* вылучаюцца *назоўнікі з дзеяслоўнай асновай у якасці апорнага кампанента.* Назоўнікі гэтага словаўтваральнага тыпу служаць для намінацыі прадметаў, прыстасаванняў па іх прызначэнні, названым апорным кампанентам і канкрэтызаваным першым кампанентам. У якасці першага кампанента выступаюць назоўнікі: *громаадвод, водазабор, вадасцёк, касмалёт, ледакол, самазвал, турбаход, электравоз; вадаклюй* (птушка), *плескажыл, трубкажыл* (назвы чарвей), *пескарый* (рыба) і г.д. Тып прадуктыўны ў сучаснай навукова-тэхнічнай і часткова ў прыродазнаўчай тэрміналогіі.

Найбольш частотнымі з'яўляюцца наступныя апорныя кампаненты: *-мер (вадамер, газамер, гукамер), -рэз (вадарэз, кустарэз), -ед (дрэваед, караед), -воз (землявоз, лесавоз), -ход (атамаход), -падвод, -адвод, -правод (токападвод, газаадвод, бензаправод), -мёт (агнямёт, кулямёт), -кол (ледакол), -варот (водаварот, кругаварот), -кід, -скід (стагакід, вадаскід)* і інш.

*Назоўнікі з назоўнікавай асновай у якасці апорнага кампанента* прадстаўлены пераважна назоўнікамі мужчынскага роду 1-га скланення, служаць для намінацыі адушаўлёных або неадушаўлёных прадметаў, якія маюць адносіны да таго або характарызуюцца тым, што названа апорнай асновай: *караняплод, вінтакрыл* (тэхн.). У якасці першай выступаюць асновы: прыметнікаў *(даўганос, чарназём);* лічэбнікаў *(аднарог, васьміног, мнагачлен);* назоўнікаў *(качканос, ластахвост, лісахвост, насарог);* дзеясловаў *(верталіст, балігалоў)* і г.д. Тып прадуктыўны ў прыродазнаўчай і часткова ў тэхнічнай тэрміналогіі

Назоўнікі жаночага роду катэгорыі прадметаў сярод складаных назоўнікаў з апорным кампанентам – асновай назоўніка адзінкавыя: *сараканожка.*

*Назоўнікі абрэвіятуры* катэгорыі прадметаў па семантыцы падзяляюцца на дзве асноўныя групы:

1) якія служаць для намінацыі арганізацый, устаноў, грамадскіх арганізацый (*ВНУ, ТЮГ, ВАК, прафком* і г.д.);

2) якія служаць для намінацыі механізмаў, прыстасаванняў па іх адметных прыметах: *мапед, падлодка, эсмінец* і г.д.

Па структуры вылучаюцца наступныя тыпы абрэвіятур катэгорыі прадметаў:

1) абрэвіятуры ініцыяльнага тыпу з двума падтыпамі: а) утварэнні са спалучэнняў пачатковых літар слоў: *ВНУ* (вэнэу); б) утварэнні са спалучэння пачатковых гукаў слоў [*БАМ* (бам), *ТЮГ, МАЗ, ВАК*];

2) абрэвіятуры складовага тыпу: *прафком, сельмаг*;

3) абрэвіятуры змешанага складова-ініцыяльнага тыпу – утварэнні, якія сумяшчаюць элементы папярэдніх тыпаў: *педВНУ*;

4) абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковай часткі першага слова і канцавой (ці пачатковай і канцавой) другога: *ваенны камісарыят – ваенкамат, эскадравы мінаносец – эсмінец* і г.д.;

5) абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковай часткі аднаго слова і цэлага другога слова: *нарсуд* і г.д.

Некаторыя абрэвіятуры сумяшчаюць адзнакі абрэвіяцыі і складання: *спортінвентар, Беларусьфільм, Грузіякіно* і г.д. Усе зазначаныя тыпы абрэвіятур шырока ўжываюцца.

Абрэвіятуры – чыстыя скарачэнні (частка аднаго слова) шырока выкарыстоўваюцца ў размоўным стылі, маюць зніжанае экспрэсіўнае значэнне ў параўнанні з нескарочанымі тэрмінамі: *веласіпед – велік, мультфільм – мульцік, тэлевізар – тэлік* і г.д..

## 10.7.2. УТВАРЭННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ

*Суфіксальныя прыметнікі* складаюць некалькі словаўтваральных тыпаў.

Прыметнікі з суфіксам *-ан- (-ян-)* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне 'зроблены з таго ці з прымессю таго, што названа ўтваральным словам': *алавяны, жалезны, супясчаны, тарфяны, шкляны* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і высокапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з суфіксам *-н-* утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў, радзей – ад прыслоўяў. Адназоўнікавыя прыметнікі служаць для намінацыі якасцей, названых утваральным словам: *бромавадародны, варыянтны, дагаворны, кантынентальны, комплексны, паралельны, рэлейны, турбагенератарны, эвалюцыйны* і г.д. Яны ўтвараюцца ад невытворных назоўнікаў і ад складаных. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і высокапрадуктыўны ў агульналітаратурнай мове. Аддзеяслоўныя прыметнікі служаць для намінацыі якасцей, уласцівасцей адносна магчымасцей падвяргацца пэўнаму дзеянню або здольнасці ўтвараць пэўнае дзеянне: *адкідны, выхлапны, заліўны, зацiскны* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Адпрыслоўныя прыметнікі нешматлікія. Яны служаць для абазначэння якасці прадмета паводле розных акалічнасцей: *апрыёрны, падоўжаны, папярочны* і г.д.

Прыметнікі з суфіксам *-ов- (-ав-, -ев-)* утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў. Адназоўнікавыя прыметнікі маюць значэнне 'які адносіцца да таго або ўласцівы таму, што названа ўтваральным словам': *аркестравы, балансавы, гадавы, манеўровы, фінансавы, этылавы* і г.д. Асобныя тэрміны, як і агульналітаратурныя словы гэтага тыпу, ужываюцца ў двух варыянтах: з націскным і ненаціскным суфіксам. Варыянты *металёвы, сталёвы* выкарыстоўваюцца пераважна ў мастацкай літаратуры, у гутарковым стылі. Хоць некаторыя з іх пашыраны ў навуковым стылі (параўн.: у лінгвістыцы *стылёвы* і інш.). Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Аддзеяслоўныя прыметнікі маюць значэнне 'які прызначаны для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам': *буравы, скакавы, страхавы* і г.д. Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з суфіксам *-авіт- (-явіт-)* адзінкавыя, утвораны ад назоўнікаў (параўн.: *ядавіты* і г.д.). Тып непрадуктыўны.

Прыметнікі з суфіксам *-чат-* утвараюцца пераважна ад назоўнікаў. Сустракаюцца адзінкавыя ўтварэнні ад дзеясловаў *(узрыўчаты,* побач з *выбуховы),* якія замацаваліся ў беларускім тэрмінаўтварэнні пад уплывам рускай мовы.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць агульнае значэнне 'мае ў сабе тое ці падобны на тое, што названа ўтваральным словам': *зубчаты, каленчаты, рэпчаты* і г.д. Тып непрадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з суфіксам *-іст- (-ыст-)* утвораны ад назоўнікаў і прыметнікаў. Адназоўнікавыя прыметнікі маюць значэнне 'валодае ўласцівасцямі таго, мае ці змяшчае (нярэдка ў вялікай меры) тое, што абазначана ўтваральным словам': *балоцісты, валакністы, гарысты, падзолісты* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. Адпрыметнікавыя прыметнікі служаць для намінацыі якасцей паводле пэўнай колькасці ці прымесі таго, што названа ўтва-

ральным словам: *глiнiсты, пясчанiсты, сярнiсты, тарфянiсты* i г.д. Тып малапрадуктыўны ў тэрмiналогii i прадуктыўны ў агульналiтаратурным словаўтварэннi.

Прыметнiкi з суфiксам *-к-* утвараюцца ад асноў назоўнiкаў i дзеясловаў. Адstation назоўнiкавыя прыметнiкi маюць агульную семантыку 'мае ў сабе тое, характарызуецца тым, што названа ўтваральным словам': *вада – вадкi* i г.д. Тып непрадуктыўны ў тэрмiналогii i малапрадуктыўны ў агульналiтаратурным словаўтварэннi. Аддзеяслоўныя прыметнiкi маюць агульную семантыку 'мае ўласцiвасць цi здольнасць выклiкаць дзеянне, названае ўтваральным дзеясловам': *гнуткi, ломкi, плаўкi, сыпкi* i г.д. Тып малапрадуктыўны ў тэрмiналогii i прадуктыўны ў агульналiтаратурным словаўтварэннi.

Прыметнiкi з суфiксамi *-iм-, -ом- (-ем-)* маюць значэнне 'здольны выканаць цi падвергнуцца дзеянню, названаму ўтваральным словам': *ядомы, значымы, вядомы, рухомы* i г.д. Тып малапрадуктыўны ў тэрмiналогii i непрадуктыўны ў агульналiтаратурным словаўтварэннi.

Прыметнiкi з суфiксамi *-н-, -он- (-ён-, -ен-)* адзiнкавыя, яны маюць значэнне 'падлеглы дзеянню цi заключае вынiк дзеяння, названага ўтваральным словам': *гашаны, дадаены, адушаўлёны, дублены, мяшаны* i г.д. У агульналiтаратурным словаўтварэннi тыпы з суфiксамi *-н-, -ен-* прадуктыўныя; з суфiксам *-он- (-ен-)* малапрадуктыўныя.

Такiм чынам, як паказвае аналiз, суфiксальныя тэрмiны прыметнiкi катэгорыi якасцей, уласцiвасцей займаюць значнае месца сярод суфiксальных утварэнняў тэрмiналагiчнага характару ў структурна-семантычных адносiнах (параўн.: *Суфiксальныя тэрмiны назоўнiкi*) i складаюць прадуктыўны клас тэрмiнаў гэтай катэгорыi. Аднак у адносiнах да ўсёй сукупнасцi семантычных i словаўтваральных тыпаў суфiксальных прыметнiкаў у агульналiтаратурным словаўтварэннi яны складаюць нязначную частку.

Па-першае, значная частка словаўтваральных суфiксаў прыметнiкаў не ўдзельнiчае ў тэрмiнаўтварэннi. Да iх адносяцца, напрыклад, усе суфiксы з прыналежным значэннем, прадуктыўныя ў агульналiтаратурным словаўтварэннi: *-ач- (-яч-), -iн- (-ын-), -ават- (-яват-), -авiт- (-явiт-), -ат-, -аст- (-яст-), -iв- (-ыв-), -лiв-, -чыв-, -ск-, -уч- (-юч-), -ашч- (-яшч-), -ушч- (-юшч-), -л-, -т-* i некаторыя iншыя менш прадуктыўныя суфiксы. У тэрмiнаўтварэннi не ўдзельнiчаюць таксама ўсе суфiксы прыметнiкаў суб'ектыўнай ацэнкi i стылiстычнай мадыфiкацыi.

Па-другое, амаль усе словаўтваральныя суфiксы прыметнiкаў адрознiваюцца значна больш высокай прадуктыўнасцю ў агульналiтаратурным словаўтварэннi ў параўнаннi з тэрмiнаўтварэннем. Толькi адзiнкавыя словаўтваральныя суфiксы (звычайна невысокай прадуктыўнасцi) характарызуюцца аднолькавай або некалькi большай прадуктыўнасцю ў тэрмiнаўтварэннi ў параўнаннi з агульналiтаратурным словаўтварэннем. Гэта прадуктыўны ў тэрмiналогii i ў агульналiтаратурным словаўтварэннi суфiкс *-iст- (-ыст-),* непрадуктыўны ў тэрмiналогii i ў агульналiтаратурным словаўтварэннi суфiкс *-чат-,* малапрадуктыўны ў тэрмiналогii i ў агульналiтаратурным словаўтварэннi суфiкс *-ов- (-ав-, -ев-),* высокапрадуктыўны ў тэрмiналогii i прадуктыўны ў агульналiтаратурным словаўтварэннi суфiкс *-н-*, якi служыць для ўтварэння адназоўнiкавых тэрмiнаў прыметнiкаў, малапрадуктыўныя ў тэрмiналогii i непрадуктыўныя ў агульналiтаратурным словаўтварэннi суфiксы *-iм-, -ом- (-ем-).*

Прыметнiкi суфiксальнага ўтварэння адрознiваюцца аналагiчнасцю словаўтваральных тыпаў i iх прадуктыўнасцю ў тэрмiналогii i ў агульналiтаратурным словаўтварэннi.

*Прэфiксальныя прыметнiкi* ўтвараюцца ад саміх прыметнiкаў.

Прыметнiкi з iнтэрнацыянальным прэфiксам *а-* абазначаюць адсутнасць прыметы, названай утваральным словам: *абiягенны, алагiчны, амаральны, анармальны,*

*арытмічны, асіметрычны, асінхронны, атраўматычны, атрэніраваны* і г.д. Тып высокапрадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. Як сродак, не тыповы для агульнаўжывальнай мовы (вуснай і пісьмовай), часам выкарыстоўваецца для стварэння камічнага эфекту ў мове мастацкай літаратуры.

Прыметнікі з інтэрнацыянальным прэфіксам *анты-* па характары семантычнай сувязі з утваральным прыметнікам дзеляцца на тры падтыпы:

1) прыметнікі, якія абазначаюць прыкмету, процілеглую той, што названа ўтваральным прыметнікам: *антыгістарычны, антыгуманны, антымастацкі, антыпедагагічны, антысанітарны* і г.д.;

2) прыметнікі са значэннем ‘накіраваны супраць таго, што названа назоўнікам, якім у сваю чаргу матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *антываенны* ‘накіраваны супраць вайны‘, *антыграмадскі, антыдыктатарскі, антынародны, антырэлігійны, антыфашысцкі* і г.д.;

3) прыметнікі са значэннем ‘накіраваны супраць таго, што названа словазлучэннем з утваральным прыметнікам у якасці азначэння‘: *антыгадзючны* ‘накіраваны супраць заражэння ядам гадзюкі‘, *антыфосфараарганічны* ‘накіраваны супраць заражэння фосфараарганічнымі атручальнымі рэчывамі‘, *антытаксічны* ‘накіраваны супраць дзеяння таксічных рэчываў‘ і г.д.

Названыя семантычныя падтыпы часта сумяшчаюцца і ў адным прыметніку: падтыпы 1 і 2 – у прыметніках *антынавуковы* (‘процілеглы навуковаму‘ і ‘накіраваны супраць навукі‘), *антыматэрыялістычны* (‘процілеглы матэрыялістычнаму‘ і ‘накіраваны супраць матэрыялістаў‘); 2 і 3 – у прыметніках *антырабочы (антырабочы законапраект* ‘законапраект, накіраваны супраць рабочых‘) і інш. Тып высокапрадуктыўны ў грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, у кніжным і публіцыстычным стылях мовы. У агульналітаратурным словаўтварэнні непрадуктыўны, аднак тэрміны з прэфіксам *анты-* шырока пранікаюць у вуснае маўленне, фіксуюцца тлумачальнымі і перакладнымі слоўнікамі беларускай мовы.

Прыметнікі з інтэрнацыянальным прэфіксам *архі-* служаць для намінацыі вышэйшай ступені праяўлення прыкметы, названай утваральным словам: *архіпраблематычны, архірэакцыйны* і г.д. Тып прадуктыўны.

Прыметнікі з прэфіксам *без- (бес-)* служаць для абазначэння адсутнасці або процілегласці прыкметы: *безазоцісты, безапорны* (стан), *безнаяўны, бесступенчаты, безвільготны, бязатамны, бязлісцевы, бязрэйкавы, бяз’ядзерны, бяссіласавы, бяспланавы* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з прэфіксам *каля-* маюць значэнне ‘які знаходзіцца вакол або каля таго, што названа словам, якім у сваю чаргу матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *калявосевы, калямесячны, каляротавы, каляпесцікавы, каляэкватарны* і г.д. Часам прыметнікі гэтага словаўтваральнага тыпу матывуюцца словазлучэннямі – *каляшчытавідны* ‘які знаходзіцца каля шчытавіднай залозы‘. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, набывае прадуктыўнасць у наватворах агульналітаратурнай мовы звычайна з адценнем ‘які прымыкае да чаго-н., каго-н.‘: *калялітаратурны, калянавуковы, каляфутбольны* і г.д. Такія наватворы звычайна маюць негатыўную канатацыйную афарбоўку.

Прыметнікі з прэфіксам *па-* складаюць два семантычныя тыпы:

1) прыметнікі са значэннем ‘утвораны, вымераны, размеркаваны ў адпаведнасці з тым, што названа словам, якім матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *падаходны, пазямельны, пакватальны, паўзводны; пааперацыйны* (кантроль), *пагадзінная, парадковая* (аплата) і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

2) прыметнікі са значэннем 'які адбыўся пасля таго, што названа словам, якім матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік': *парэвалюцыйны, парэформенны* і г.д. Тып непрадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з прэфіксам *пад-* складаюць два тыпы:

1) прыметнікі са значэннем 'які знаходзіцца ніжэй або паблізу таго, што названа словам, якім у сваю чаргу матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік': *падводны, падкранавы, падрэйкавы, падротавы* і г.д.;

2) прыметнікі са значэннем 'які знаходзіцца ў сферы, у веданні таго, што названа словам, якім у сваю чаргу матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік': *падвопытны, падкантрольны, падсправаздачны, падцэнзурны* і г.д. Абодва тыпы прадуктыўныя ў тэрміналогіі і менш прадуктыўныя ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з прэфіксам *пасля-* маюць значэнне 'які адбываецца або адбыўся пасля таго, што названа ўтваральным словам або словазлучэннем з утваральным прыметнікам': *пасляаперацыйны, пасляваенны, пасляпускавы, пасляродавы, пасляўтраўматычны, паслякастрычніцкі, пасляледніковы, паслятрэцічны, пасля-гарантыйны* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з прэфіксам *пост-* маюць тое ж значэнне, што і тэрміны папярэдняга тыпу: *постінфарктны, пострадыяцыйнае* (абпрамяненне), *постэмбрыянальны* (перыяд) і г.д. У параўнанні з папярэднім гэты тып характарызуецца прадуктыўнасцю толькі ў тэрміналогіі, агульналітаратурнаму словаўтварэнню ён не ўласцівы.

Прыметнікі з прэфіксам *перад-* маюць значэнне 'які непасрэдна папярэднічае (у часе або ў прасторы) таму, што названа ўтваральным прыметнікам': *перадвыбарны, перадзанальны, перадпалярны, перадпасяўны, перадплечавы* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з прэфіксам *пры-* маюць значэнне 'які знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці да таго, што названа ўтваральным словам або словазлучэннем з утваральным словам у якасці ўтваральнага прыметніка': *прыанальны* ('які знаходзіцца паблізу анальнай адтуліны'), *прыдзеяслоўны, прыпалярны, прыпланетны, прыпартовы* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з прэфіксам *пра-* маюць значэнне 'прыверcharacterжаны таму, ажыццяўляемы на карысць таго, што названа ўтваральным словам': *праамерыканскі, праімперыялістычны, пракаланізатарскі, пракансерватыўны, прафашысцкі* і г.д. Тып прадуктыўны ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі, дзе ўтварэнні з прэфіксам *пра-* антанімічныя прыметнікам з прэфіксам *анты-* і маюць негатыўную афарбоўку.

Прыметнікі з прэфіксам *проці-* маюць значэнне 'накіраваны супраць таго, што названа ўтваральным словам або словазлучэннем з гэтым утваральным словам': *проціакісляльны, процігніласны, процікаразійны, проціравдыяцыйны, проціsклератычны; проціатамны, проціпаветраны, проціхімічны* 'накіраваны супраць атамнага, паветранага, хімічнага нападзення' і г.д. Тып прадуктыўны ў сучаснай тэхнічнай, ваеннай, медыцынскай, грамадска-палітычнай тэрміналогіі. У агульналітаратурным словаўтварэнні малапрадуктыўны.

Прыметнікі з прэфіксам *супраць-* маюць значэнне, аналагічнае тыпу з прэфіксам *проці-*, аднак характарызуюцца значна меншай ужывальнасцю: *супрацьпажарны, супрацьтанкавы, супрацьхімічны* і г.д.

Прыметнікі з прэфіксам *звыш-* служаць для намінацыі гранічна высокай ступені праяўлення прыкметы, названай утваральным словам: *звышкрытычны, звышмалы, звышмарозаўстойлівы, звышмоцны, звышхуткасны* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з запазычаным прэфіксам *супер-* маюць такое ж значэнне, як і папярэднія, аднак характарызуюцца значна меншай прадуктыўнасцю як у тэрміналогіі, так і ў агульналітаратурным словаўтварэнні: *суперрадыяцыйны, суперхуткасны, суперэластычны, суперэфектыўны* і г.д.

Прыметнікі з інтэрнацыянальным прэфіксам *ультра-* служаць для намінацыі гранічнай ступені прыкметы ў навукова-тэхнічнай і празмернай ступені прыкметы ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі: *ультравысокі, ультракароткі, ультрафіялетавы* і г.д. У грамадска-палітычнай тэрміналогіі тэрміны з прэфіксам *ультра-* часта маюць негатыўную канататыўную афарбоўку: *ультралевы, ультраправы, ультрарэакцыйны.*

Прыметнікі з інтэрнацыянальнымі прэфіксамі *ір-, ім-* служаць для абазначэння адсутнасці прыкметы, названай утваральным словам: *іррацыянальны, ірэальны, ірэгулярны* і г.д. Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Сярод прэфіксальных утварэнняў ёсць словаўтваральныя сінанімічныя пары, якія ў асноўным утвараюцца ў выніку выкарыстання сваямоўнага і запазычанага, у большасці выпадкаў інтэрнацыянальнага, прэфіксаў: *несіметрычны – асіметрычны, процікаразійны – антыкаразійны, звышрэвалюцыйны – архірэвалюцыйны; звышхуткасны – суперхуткасны* і г.д. Сінанімічныя словаўтваральныя пары ўтвараюцца таксама і тэрмінамі з запазычанымі прэфіксамі: *амаральны – антымаральны, архірэакцыйны – ультрарэакцыйны, супервысокі – ультравысокі* і г.д.

Як паказвае аналіз, прэфіксальнае адпрыметнікавае ўтварэнне тэрмінаў катэгорыі якасці характарызуецца не толькі значнай прадуктыўнасцю ў параўнанні з суфіксальным прыметнікавым тэрмінаўтварэннем, а і высокай прадуктыўнасцю і шматлікасцю словаўтваральных тыпаў у параўнанні з агульналітаратурным словаўтварэннем прыметнікаў. Так, сярод 14 асноўных тэрмінаўтваральных тыпаў 11 характарызуюцца большай прадуктыўнасцю ў тэрміналогіі ў параўнанні з агульналітаратурным словаўтварэннем, а асобныя прэфіксы выкарыстоўваюцца толькі ў тэрміналогіі.

Большая частка тэрмінаўтваральных суфіксаў (8 з 14) запазычаная, прычым усе запазычаныя суфіксы належаць да інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду.

Значная частка прэфіксальных прыметнікаў з агульным значэннем якасці адносіцца да медыцынскіх тэрмінаў і служыць для абазначэння "пунктаў" цела чалавека па іх размяшчэнню адносна адзін аднаго, а таксама месца захворвання [унутры якога-небудзь органа (або часткі цела), побач з ім, у яго верхняй або ніжняй частцы]: *падкоркавы, прадсардэчны, унутрысардэчны, асумкаваны, падчэраўны, падартэрыяльны, прадскрівічны, пад'язычны, падскурны, пазачэрапны, міжмышачны, міжклеткавы* і пад. Акрамя катэгарыяльнага значэння якасці, уласцівага прыметнікам, гэтыя тэрміны выражаюць таксама прасторавыя значэнні, якія перадаюцца пэўнымі прэфіксамі.

Значна меншую, але даволі шырокую групу тэрмінаў прыметнікаў з агульным значэннем якасці складаюць астранамічныя і касмічныя тэрміны, якія служаць для характарыстыкі размяшчэння пэўных аб'ектаў адносна арыенціра: *калясонечны, каляпланетны, каляземны* ['які акружае сонца (планету Зямля), рухаецца вакол іх'] і г.д.

З дапамогай прэфіксаў у тэрміналогіі выражаюцца практычна тыя ж тыпы прасторавых адносін, што і ў агульнаўжывальнай лексіцы. Напрыклад, становішча пад чым-небудзь: *падартэрыяльны, падрэберны, падслізісты;* становішча ўнутры чаго-небудзь: *асумкаваны, унутрыартэрыяльны, унутрынасавы, унутрысардэчны;* становішча над чым-небудзь: *надбрушынны, надносавы, надрэберны;* становішча па-за чым-небудзь: *пазабрушынны, пазамышачны,*

*пазачэрапны;* становішча паміж чым-небудзь: *міжклеткавы, міжмышачны;* становішча паблізу чаго-небудзь: *каляпланетны, калясонечны;* становішча перад чым-небудзь: *прадсардэчны, прадсківічны;* становішча за чым-небудзь: *зазубны;* становішча на чым-небудзь: *наземны;* становішча пасля чаго-небудзь: *паслянаціскны, пасляледніковы* і інш. Пералічаныя вышэй у складзе тэрмінаў прэфіксы *каля-, між-, прад-, унутры-, паза-* ўваходзяць у клас так званых адносных прэфіксаў, яны маюць у сістэме мовы карэлятыўныя прыназоўнікі або прыслоўі.

Значная частка прэфіксальных прыметнікаў мае запазычаныя або інтэрнацыянальныя сінонімы: *заднепаднябенны – постпалатальны, зазубны – постдэнтальны, унутрынасавы – інтраназальны, унутрысардэчны – інтракардыяльны* і г.д. Прэфіксальныя прыметнікі з запазычанай асновай часам ужываюцца як з запазычаным прэфіксам, так і з сваяўмоўным: *падартэрыяльны – гіпаартэрыяльны, унутрыартэрыяльны – інтраартэрыяльны, унутрывенны – інтравенны* і г.д.

Некаторыя запазычаныя або інтэрнацыянальныя прэфіксальныя тэрміны прыметнікі не маюць нацыянальных адпаведнікаў у беларускай і рускай мовах: *посткансанатны* 'які размешчаны пасля зычнага гука' (патэнцыяльна магчымае па аналогіі з прыведзенымі вышэй тэрмінамі ўтварэнне *паслязычны* практычна не выкарыстоўваецца з прычыны шырокай распаўсюджанасці інтэрнацыянальнага тэрміна); *посткардыяльны* 'які ляжыць за сэрцам' (патэнцыяльна магчымы нацыянальны эквівалент *засардэчны* па аналогіі з *падсардэчны, прадсардэчны, унутрысардэчны* не атрымаў распаўсюджання і кадыфікацыі ў сувязі з яго мнагазначнасцю і пэўнай стылістычнай афарбоўкай размоўнага стылю); *прэмалярны* 'які мае адносіны да малога карэннага зуба' (нацыянальны аднаслоўны тэрмін прыметнік не мог быць утвораны, паколькі ў беларускай мове, як і ў рускай, адсутнічае аднаслоўная намінацыя малога карэннага зуба).

*Суфіксальна-прэфіксальныя прыметнікі* ўтвараюцца пераважна ад асноў назоўнікаў, пры гэтым выкарыстоўваюцца суфіксы *-н-, -ск-* з іх варыянтамі і суфікс *-ов-(-ав-)*.

Па значэннях гэтыя прыметнікі не адрозніваюцца ад адпаведных прэфіксальных утварэнняў, а па семантыцы і структуры ўтваральных слоў – ад адпаведных тыпаў суфіксальных прыметнікаў з тымі ж суфіксамі.

Прыметнікі з прэфіксам *ад-* і суфіксамі *-н-, -ов-* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне 'які паходзіць або ўтвораны ад таго, што названа ўтваральным словам': *аддзеяслоўны, адыменны, адпрыметнікавы, адпрыслоўны* і г.д. Тып прадуктыўны ў лінгвістычнай тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Прыметнікі з прэфіксам *без-/бяз-(бес-/бяс-)* і суфіксам *-н-* утвараюцца ад назоўнікаў: *безбілетны, беспілотны, бяссуфіксны* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і высокапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

*Складаныя прыметнікі* падзяляюцца на:

складанне са спалучальнымі адносінамі асноў: *глуханямы, асенне-зімовы, кісла-салодкі, хлебабулачны, гісторыка-філалагічны, хіміка-біялагічны* і г.д.;

складанне з падпарадкавальнымі адносінамі асноў: *кнігагандлёвы, формаздабывальны, вуглепадобны, жыццяздольны, усемагутны, політэхнічны, тэлевымяральны, агульназразумелы, агульнапашыраны, наваствораны* і г.д.

*Складанні са звязанымі апорнымі кампанентамі* звычайна выкарыстоўваюцца ў тэрміналогіі: *трохвалентны, шчытавідны, фотагенічны* і г.д.

*Суфіксальна-складаныя прыметнікі* адрозніваюцца ад самастойных суфіксальных прыметнікаў іншым суфіксам: *тагачасны, левабярэжны, буйнаплодны, чужаземны, шматплодны, усебаковы, самакіравальны, энергабудаўнічы, добразычлівы* і г.д.

*Прыметнікі-зрашчэнні* ўтвараюцца на аснове апорнага кампанента прыметніка або дзеепрыметніка без удзелу афіксаў, шляхам зрашчэння кампанентаў словазлучэння ў адно слова: *вечназялёны, доўгачаканы, вельмішаноўны, глыбокапаважаны, рэдканаселены* і г.д.

### 10.7.3. УТВАРЭННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ

*Суфіксальным спосабам* утвараюцца:

парадкавыя лічэбнікі: *трэці* (ад колькаснага *тры, суфікс -эц-); саракавы (*ад колькаснага *сорак,* суфікс *-ав-)* і г.д.;

зборныя лічэбнікі: *двое, трое* (суфікс *-oj-), пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзевяцёра, дзесяцёра* [суфікс *-ёр- (-ер-)*] і г.д.

*Нульсуфіксальным спосабам* утвараюцца парадкавыя лічэбнікі ад колькасных: *пяць – пяты, дваццаць – дваццаты* і г.д.

*Складаныя лічэбнікі* ўтвараюцца:

суфіксальна-складаным спосабам: *тысячны, мільённы, мільярдны* і г.д.;

нульсуфіксальным складаным спосабам: *стошасцідзесяты, чатырохсотвасьмідзесяты* і г.д.*;*

чыстым складаннем: *дваццаць восьмы, трыццаць шосты, сто сорак сёмы* і г.д.

### 10.7.4. УТВАРЭННЕ ЗАЙМЕННІКАЎ

*Прэфіксальным спосабам* утвараюцца няпэўныя і адмоўныя займеннікі: *нехта, нешта, нейкі, нечый, некаторы, некалькі; абы-які, абы-колькі, абы-хто, абы-што, абы-чый; ніхто, нішто, ніякі, нічый, ніколькі.*

*Суфіксальным спосабам* утвораны займеннікі-амонімы: *ягоны (яго+ -н- ы), іхні (іх+ -н-і), наскі (уст. наш+ -ск-і са сцягненнем шс>с).*

*Постфіксальным спосабам: хтосьці, штосьці, якісьці, чыйсьці; хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, колькі-небудзь.*

*Складаныя займеннікі (зрашчэнні)* узніклі шляхам аб'яднання пытальна-адносных з адмоўнымі (*хто-ніхто, што-нішто)* або ўказальных *(той, тое, такі)* і *сёй, сёе, сякі.*

### 10.7.5. УТВАРЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ

*Суфіксальныя дзеясловы* складаюць некалькі словаўтваральных тыпаў.

Дзеясловы з суфіксам *-а- (-я-)* нешматлікія, утвараюцца ад назоўнікаў *(казыраць)* і дзеясловаў *(выключаць, саджаць)* і маюць значэнне 'утвараць дзеянне паводле таго, што названа ўтваральным словам'.Тып непрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Дзеясловы з суфіксам *-ава- (-ява-)* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне:

'даваць тое, пакрываць тым, што названа ўтваральным словам' *(крэдытаваць, фінансаваць, вапнаваць, нікеляваць* і г.д.);

'утвараць дзеянне паводле таго, што названа ўтваральным словам' *(камплектаваць, рэцэнзаваць, цюкаваць* і г.д.);

'утвараць дзеянне з дапамогай таго, што названа ўтваральным словам' *(дрыляваць, пілаваць* і г.д.*).*Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Дзеясловы з суфіксам *-ізава- (-ызава-)* утвараюцца пераважна ад запазычаных назоўнікаў і прыметнікаў. Адназоўнікавыя дзеясловы маюць значэнні:

'падвяргаць дзеянню чаго-н., рабіць каго-н. схільным да чаго-н.' *(бактэрызаваць, дагматызаваць, імунізаваць, інвентарызаваць, матэматызаваць, рэвалюцыянізаваць, танізаваць, экранізаваць* і г.д.);

'змяшчаць у пэўнае месца' *(шпіталізаваць, дыспансерызаваць* і г.д.). Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнні:

'надзяляць прыкметай, уласцівай утваральнаму слову' *(актывізаваць, беларусізаваць, дэмакратызаваць, еўрапеізаваць, яравізаваць* і г.д.);

'апрацаваць пэўным чынам' *(гальванізаваць, герметызаваць* і г.д.). Тып прадуктыўны ў грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Дзеясловы з суфіксам *-ірава- (-ырава-)* утвараюцца пераважна ад запазычаных назоўнікаў і маюць значэнне 'падвяргаць дзеянню тым, што названа ўтваральным словам': *акупіраваць, амнісціраваць, анатаміраваць, аперыраваць, браніраваць, зандзіраваць, пікіраваць* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Дзеясловы з суфіксам *-ства-* ўтвараюцца ад незапазычаных і запазычаных назоўнікаў і абазначаюць дзеянне ў адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *апякунстваваць, дырэктарстваваць, старшынстваваць, шэфстваваць* і г.д. Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі.

Аналіз суфіксальных дзеясловаў катэгорыі працэсаў, дзеянняў паказвае выключную ролю суфіксальнага дзеяслоўнага тэрмінаўтварэння ў гэтай структурна-семантычнай катэгорыі: тэрміны дзеясловы катэгорыі працэсаў, дзеянняў утвараюцца з дапамогай 5 суфіксаў з 12 асноўных дзеяслоўных суфіксаў агульналітаратурнай мовы. Тры словаўтваральныя тыпы з'яўляюцца прадуктыўнымі. Суфіксальныя тэрміны дзеясловы іншых структурна-семантычных катэгорый (прадметаў, з'яў; якасцей, станаў; прафесій, сфер дзейнасці і інш.) з'яўляюцца адзінкавымі і не выяўляюць пэўных тэрмінаўтваральных заканамернасцей.

Даволі значная прадуктыўнасць прааналізаваных вышэй тыпаў у тэрміналогіі структурна-семантычнай катэгорыі працэсаў, дзеянняў абумоўлена катэгарыяльнымі ўласцівасцямі дзеясловаў.

*Прэфіксальныя дзеясловы* з прэфіксам *аб- (аба-, а-)* утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'давесці дзеянне да выніку': *ацынкаваць, азеляніць, асвятліць, асушыць* і г.д.

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Дзеясловы з інтэрнацыянальным прэфіксам *дыс-* утвораны ад дзеясловаў і служаць для намінацыі працэсаў, дзеянняў, супрацьлеглых названым утваральным словам: *дысгарманіраваць, дыскваліфікаваць* і г.д. Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі.

Дзеясловы з інтэрнацыянальным прэфіксам *дэ- (дэз-)* утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'выканаць дзеянне, супрацьлеглае названаму ўтваральным словам, ануляваць вынік гэтага дзеяння': *дэзарганізаваць, дэзінфіцыраваць, дэкваліфікаваць, дэмабілізаваць, дэмілітарызаваць* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Дзеясловы з прэфіксам *за-* ўтвораны ад дзеясловаў і выражаюць значэнне 'давесці дзеянне да выніку': *зашыфраваць, закадзіраваць, запраграмаваць* і г.д. Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Аналіз прэфіксальных дзеясловаў катэгорыі працэсаў, дзеянняў паказвае даволі значную ролю прэфіксальнага дзеяслоўнага тэрмінаўтварэння ў гэтай структурна-семантычнай катэгорыі: тэрміны дзеясловы катэгорыі працэсаў, дзеянняў утвараюцца з дапамогай 4 прэфіксаў з 21 асноўнага дзеяслоўнага прэфікса агульналітаратурнага словаўтварэння, у той час як прэфіксальныя тэрміны дзеясловы іншых структурна-семантычных груп адзінкавыя. Тэрміны, утвораныя з дапамогай двух прэфіксаў, складаюць прадуктыўныя тэрмінаўтваральныя тыпы.

Даволі значная прадуктыўнасць прэфіксальных тыпаў дзеяслоўнага тэрмінаўтварэння ў межах структурна-семантычнай катэгорыі працэсаў, дзеянняў абумоўлена катэгарыяльнымі ўласцівасцямі дзеясловаў.

У параўнанні з суфіксальным тэрмінаўтварэннем катэгорыі працэсаў, дзеянняў прэфіксальнае тэрмінаўтварэнне характарызуецца некалькі меншай прадуктыўнасцю.

*Суфіксальна-прэфіксальныя дзеясловы* з прэфіксам *а- (аб-, аба-) і* суфіксамі *-ава-, -і- (-ы-)* утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў. Адназоўнікавыя тэрміны маюць значэнне ‘абкружыць, надзяліць прадмет тым, што названа ўтваральным словам‘: *акучыць, аслупаваць; абілеціць, абмундзіраваць, агучыць, аснасціць* і г.д. Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне ‘надаць прыкмету, названую ўтваральным словам‘ і характарызуюцца такой жа прадуктыўнасцю: *абнавіць, асушыць, ахаладзіць* і г.д.

Дзеясловы з прэфіксамі *абез- (абес-, абяз-, абяс-)* і суфіксамі *-і- (-ы-), -е- (-э-, -а-)* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне ‘пазбавіць таго, што названа ўтваральным словам‘: *абязболіць, абязводзіць, абястлушчыць* і г.д. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Дзеясловы з прэфіксам *пры-* і суфіксам *-і-* ўтвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне ‘прыблізіць да таго, што названа ўтваральным словам‘: *прызямліць, прылуніць* і г.д. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу адзінкавыя; сярод іх запазычанні з рускай тэрміналогіі *(прылуніць).*

Дзеясловы з прэфіксам *раз- (рас-)* і суфіксам *-і- (-ы-)* утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў. Адназоўнікавыя дзеясловы маюць значэнне ‘ператварыць у тое, што названа ўтваральным словам раз’яднаць‘: *распыліць, расчапіць* (атам) і г.д. Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне ‘надзяліць прыкметай, названай утваральным словам‘: *размякчыць, разрэдзіць* і г.д. Тыпы непрадуктыўныя ў тэрміналогіі і малапрадуктыўныя ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Дзеясловы з прэфіксам *у- (ува-)* і суфіксам *-і- (-ы-)* утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў. Адназоўнікавыя дзеясловы маюць значэнне ‘прывесці што-н. у стан, названы утваральным словам‘: *узаконіць, ураўнаважыць* і г.д. Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне ‘надзяліць прыкметай, названай утваральным словам‘: *увільгатніць, ушчыльніць* і г.д. Тыпы непрадуктыўныя ў тэрміналогіі і малапрадуктыўныя ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Аналіз суфіксальна-прэфіксальных дзеясловаў катэгорыі працэсаў, дзеянняў паказвае пэўную ролю суфіксальна-прэфіксальнага дзеяслоўнага тэрмінаўтварэння ў гэтай структурна-семантычнай катэгорыі, што абумоўлена катэгарыяльнымі асаблівасцямі дзеясловаў як часціны мовы. Суфіксальна-прэфіксальныя дзеясловы катэгорыі працэсаў, дзеянняў утвараюцца з дапамогай 4 прэфіксаў (у спалучэнні з адпаведнымі суфіксамі) з 22 прэфіксаў агульналітаратурнага словаўтварэння. Суфіксальна-прэфіксальныя дзеяслоўныя тэрмінаўтваральныя тыпы катэгорыі працэсаў, дзеянняў характарызуюцца нязначнай прадуктыўнасцю: толькі адзін тэрмінаўтваральны тып характарызуецца высокай прадуктыўнасцю.

Для астатніх структурна-семантычных катэгорый прэфіксальна-суфіксальнае дзеяслоўнае тэрмінаўтварэнне нехарактэрна. У параўнанні з суфіксальным і прэфіксальным тэрмінаўтварэннем гэтай катэгорыі суфіксальна-прэфіксальнае значна менш пашыранае.

*Суфіксальна-постфіксальныя дзеясловы* нешматлікія, маюць пэўную прадуктыўнасць пераважна ў сельскагаспадарчай тэрміналогіі, утвараюцца ад назоўнікаў шляхам адначасовага далучэння суфікса *-і-* і постфікса *-цца.* Яны маюць агульнае значэнне 'ствараць тое, што названа ўтваральным словам': *каласіцца, парасіцца, цяліцца, ягніцца* і г.д.

*Суфіксальна-прэфіксальна-постфіксальныя дзеясловы* ўтвараюцца ад назоўнікаў шляхам адначасовага далучэння прэфікса *а- (аб-, аба-),* суфікса *-і- (-ы-)* або *-ава-* і постфікса *-ся (-цца): абанкруціцца, асцябліцца, атаварыцца; агнездавацца* і г.д. Тыпы малапрадуктыўныя ў тэрміналогіі і агульна-літаратурным словаўтварэнні.

*Дзеясловы на базе асноваскладання* ўтвараюцца шляхам злучэння дзвюх асноў з падпарадкавальнымі адносінамі і складаюць два прадуктыўныя ў тэрміналогіі тыпы.

Дзеясловы, утвораныя шляхам далучэння да назоўнікаў інтэрнацыянальнага звязанага апорнага кампанента *-фікаваць* і інтэрфіксаў *-а-, -і-: кінафікаваць, радыёфікаваць, электрыфікаваць; ітэнсіфікаваць* і г.д. маюць значэнне 'абсталяваць ці надзяліць тым, што названа ўтваральным словам'.

Дзеясловы, утвораныя шляхам складання апорнага кампанента – зваротнага дзеяслова і першага кампанента – займеннікавай асновы *сам-* і інтэрфікса *-а-: самаакупіцца, самазагарэцца, самастрахавацца* і г.д. маюць значэнне 'самастойна выконваць дзеянне, названае апорным дзеясловам'.

## 10.7.6. УТВАРЭННЕ ПРЫСЛОЎЯЎ

*Суфіксальныя адпрыметнікавыя прыслоўі* абазначаюць прыкмету, названую ўтваральным словам, з дадатковым акалічнасным значэннем: *багата, бедна, дваяка, добра, рашуча, штодзённа* і г.д.

*Адназоўнікавыя прыслоўі* ўтвараюцца з дапамогай суфіксаў *-ой (-аю), -ай (-аю), -яй (-яю), -ом (-ам), -амі (-ямі),* аманімічных канчаткам творнага склону назоўнікаў: *раніцай, ранкам, днём, вясной, часамі, дабром, сілай* і г.д.

Некаторыя прыслоўі маюць суфіксы *-у (-ю),* аманімічныя канчаткам вінавальнага склону: *крыху, кроплю;* суфіксы *-ком*: *сілком; -оў: дамоў.*

*Адлічэбнікавыя прыслоўі* адзінкавыя: *двойчы, тройчы, аднойчы.*

*Аддзеяслоўныя прыслоўі* утвораны з дапамогай суфіксаў *-ма: бегма, кішма, лежма; -ом (-ам) -ком: бягом, валам, тырчком, цурком* і г.д.

*Адпрыслоўныя прыслоўі* ўтвораны з дапамогай суфіксаў *-авата, -енька (-анька), -енечка (-анечка), -утка (-ютка), -усенька (-юсенька): высакавата, слабавата, добранька, хуценька, віднютка, ціхутка, памаленечку, ціхусенька* і г.д.

*Прэфіксальныя прыслоўі* ўтвараюцца ад саміх прыслоўяў: *залішне, замнога, задоўга; зацямна, засвятла; недалёка, нямала, няшмат* і г.д.

*Прэфіксальна-суфіксальныя адназоўнікавыя прыслоўі* ўтвараюцца з дапамогай:

прэфікса *а-* і суфікса *-і (-ы): апоўначы, апоўдні;*

прэфікса *да-* і суфіксаў *-і (-ы) -у: данізу, дадому, дахаты, дарэшты;*

прэфіксаў *з- (с-, со-, са-)* і суфіксаў *-у (-ю), -і (-ы)*: *збоку, знізу, спераду;*

з прэфіксам *на-* і суфіксаў *-і (-ы), -е: напрадвесні, наперадзе, нарэшце, наводшыбе;*

прэфікса *на-* і суфіксаў *-а (-о), -у: надзіва, наліха, насілу, напалову;*

прэфікса *па-* і суфіксаў *-і (-ы), -е, -у (-ю): пазавуголлі, пападваконню, папераду, папраўдзе:*

прэфікса *у-* і суфіксаў *-у, -ы: увесну, угару; убакі, унаймы;*

прэфікса *у-* і суфіксаў *-ы, -е: увечары, угары, урэшце, усярэдзіне;*

прэфіксаў *ад-, за-, к-, спад-, у-* і суфіксаў *-а, -ам, -у, -ку: адвеку, замужам, кверху, спадылба, узімку.*

*Адпрыметнікавыя прыслоўі* ўтвораны з дапамогай:

прэфікса *да-* і суфікса *-а: дапазна, дачыста;*

прэфікса *з- (с-)* і суфікса *-а (-я): здаўна, злева, справа, зрання;*

прэфікса *з-* і суфікса *-у: злёгку, зрэдку, змоладу;*

прэфікса *на-* і суфікса *-а: начыста, надоўга; налева, направа;*

прэфікса *па-* і суфікса *-аму (-яму): па-веснавому, па-дзяржаўнаму, па-святочнаму;*

прэфікса *па-* і суфікса *-у: па-бацькоўску, па-гаспадарску, па-мастацку;*

прэфікса *па-* і суфікса *-ы: па-воўчы, па-чалавечы;*

прэфікса *у-* і суфікса *-ую: усляпую, ушчыльную;*

прэфікса *у-* і суфікса *-а: улева, управа;*

прэфікса *у-* і суфікса *-е: удвайне, утрайне.*

*Адзайменнікавыя прыслоўі* ўтвараюцца з дапамогай:

прэфікса *а-* і суфікса *-аму (-яму): па-вашаму, па-іхняму;*

прэфікса *на-* і суфікса *-і: наколькі, настолькі;*

прэфікса *на-* і суфікса *-о: нашто;*

складанага прэфікса *наво-* і суфікса *-а: навошта;*

прэфікса *ніза-* і суфікса *-о: нізашто.*

*Адлічэбнікавыя прыслоўі* ўтвараюцца з дапамогай:

прэфікса *на-* і суфікса *-е (-э): надвае, натрае;*

прэфікса *у-* і суфікса *-я (-а): удвая, утрая;*

прэфікса *у-* і суфікса *-іх (-ых), -ох (-ёх), -ух (-юх): удваіх, утраіх; удвох, упяцёх; удвух ( удзвюх).*

*Аддзеяслоўныя прыслоўі* ўтвараюцца з дапамогай:

прэфікса *без- (бес-)* і суфікса *-ку: бесперастанку, безупынку;*

прэфікса *у-* і суфікса *-ку: ўперамежку, упрыкуску;*

прэфіксаў *з- (-с), на-* і суфіксаў *-у, -кі, -ку: зроду, навыперадкі, спрасонку.*

*Адпрыслоўныя прыслоўі* ўтвараюцца з дапамогай прэфікса *па-* і суфікса *-у: патроху, памалу, падоўгу.*

*Прэфіксальна-нульсуфіксальныя* адназоўнікавыя прыслоўі ўтвараюцца з дапамогай прэфіксаў *на-, у-: наверх, наперад; увосень, удзень, удалячынь.*

*Аддзеяслоўныя прыслоўі* ўтвараюцца з дапамогай прэфіксаў *на-, у-, наўз-, наў-, з-, няў-, по-, над-, за-, па-, з-, наўс-: навыварат, наўгад, нападхват, наперабой; узамен, уроскід, усутыч; наўзамен, наўздагон; наўкос, наўскос; зноў; няўцям; побліз; надгаладзь; замуж; зараз; паверх; здалёк.*

*Складаныя прыслоўі* са спалучальнымі адносінамі кампанентаў: *дзе-нідзе, калі-нікалі, як-ніяк.*

*З падпарадкавальнымі адносінамі кампанентаў* утвараюцца на аснове апорных кампанентаў – прыслоўяў ці дзеепрыслоўяў у функцыі прыслоўяў; адпрыметнікавых прыслоўяў: *паўлежачы* і *напаўлежачы, паўсур'ёзна* і *напаўсур'ёзна; даўным-даўно, поўным-поўна, даўным-даўнесенька, поўным-поўнюсенька.*

*Суфіксальна-складаныя прыслоўі* ўтвараюцца на аснове апорных кампанентаў:

асноў назоўнікаў, з дапамогай суфіксаў *-у, -а, -ы, -я: штохвіліны, штотыдня, штомінуту;*

асноў дзеясловаў, з дапамогай суфікса *-ам: самавукам, самаходам; мімаездам, мімалётам;*

асноў назоўніка, з дапамогай суфікса *-ам, -ым: век – векам, адзін – адным.*

*Нульсуфіксальна-складаныя прыслоўі* ўтвараюцца на аснове апорнага назоўнікавага кампанента, з дапамогай нулявога суфікса: *штодзень, штомесяц, штогод.*

*Прэфіксальна-нульсуфіксальна-складаныя прыслоўі* ўтвараюцца з дзвюх аднолькавых асноў: *крыж-накрыж, перш-наперш.*

*Прэфіксальна-суфіксальныя прыслоўі* ўтвараюцца на базе назоўнікавай асновы, з дапамогай першага кампанента *паў-* (скарочаны варыянт слова *палавіна)*, прэфіксаў *на-, у-* і суфіксаў *-у, -а, -ы, -е: напаўголасу, упаўголаса, напаўпаварота, напаўдарозе, напаўсілы* і г.д.

## 10.8. СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫЯ ТЫПЫ, МАДЭЛІ, ГНЁЗДЫ

Мноства разнастайных спосабаў словаўтварэння як прадуктыўных, так і непрадуктыўных, у межах якіх раэлізуецца безліч семантычных адценняў адпаведных лексем, вымушае даследчыкаў аб'ядноўваць гэтыя спосабы на аснове тых ці іншых тоесных прыкмет у пэўныя ўзоры. Аб'яднанне адбываецца найперш па знешніх фармальных і ўнутраных семантычных прыкметах. Напрыклад, словы *народнік, чараўнік, гаротнік, жартаўнік, асветнік, рameснік, аднакласнік, заложнік, агароднік* і г.д. утвараюць еднасць, па-першае, на аснове фарманта *-нік*, па-другое, на грунце аднесенасці дадзеных слоў да асобы. Зразумела, згаданы рад слоў з'яўляецца адкрытым і можа ў часе функцыянавання мовы папаўняцца новымі аналагічнымі па структуры лексемамі. Менавіта на падмурку фармальных і семантычных прыкмет узнікаюць словаўтваральныя тыпы, у межах якіх рэалізуюць свае дэрывацыйныя можнасці любыя новыя словы, што могуць змяшчаць у сабе памянёныя прыкметы. Прычым па-за межамі словаўтваральных тыпаў застаецца адносна невялікая колькасць слоў, што мае, як правіла, не зусім выразны склад марфем (параўн.: *імянін-ы* ці *ім-ян-ін-ы, старшын-я* ці *стар-ш-ын-я* і г.д.). У залежнасці ад таго, якім крытэрыям, фармальным ці семантычным, сінхранічным ці дыяхранічным, аддае перавагу даследчык, па-рознаму могуць вызначацца межы і аб'ём пэўнага словаўтваральнага тыпу. Больш-менш прымальнымі агульнымі прыкметамі пры вызначэнні словаўтваральных тыпаў з'яўляюцца адзіная часцінамоўная прыналежнасць слоў, еднасць словаўтваральнага афікса, семантычная роднаснасць утваральных асноў. Іменна з улікам апошняй прыкметы знешне падобныя па марфемнаму складзе словы (ідэнтычныя па часцінамоўнай прыкмеце і па наяўнасці тоеснага афікса) тыпу *грыбнік* і *халаднік, будаўнік* і *страўнік* і інш. адносяцца да розных словаўтваральных тыпаў.

Словаўтваральная мадэль уяўляе сабой гіпанімічнае паняцце ў адносінах да словаўтваральнага тыпу, бо ў складзе апошняга можа вылучацца некалькі мадэляў, заснаваных на еднасці больш канкрэтных прыкмет. Так, у складзе аднаго словаўтваральнага тыпу могуць выдзяляцца розныя мадэлі ў залежнасці ад таго, адбываюцца ці не адбываюцца чаргаванні фанем на сутоках марфем (параўн.: з аднаго боку, *лес – лясок, стол – столік* і да т.п., з другога, *луг – лужок, бык – бычок* і да т.п.), ёсць у словаўтваральнага тыпу інтэрфікс ці яго няма (параўн.: з аднаго боку, *нов-а-будоўля, брон-е-цягнік* і да т.п., з другога, *Слаўгарад, Беларусьфільм* і да т.п.).

У залежнасці ад прыведзеных лінгвістычных фактараў унутры аднаго словаўтваральнага тыпу вылучаюцца розныя мадэлі. Зразумела, што не кожны тып раздзяляецца на мадэлі, тым не менш апошнія пры іх выдзяленні прадстаўляюць пэўны словаўтваральны тып больш дыферэнцыравана.

Словаўтваральныя тыпы могуць быць прадуктыўнымі, калі на іх аснове можа будавацца мноства новых слоў (параўн.: канструкцыі з прыстаўкамі *не-, без-* і інш., з суфіксам *-асць, -нік, -цель* і інш.), і непрадуктыўнымі (напрыклад, словаўтварэнні з суфіксам *-тух* тыпу *пастух*), на аснове якіх практычна не ўзнікае новых слоў, або малапрадуктыўнымі. Прадуктыўныя словаўтваральныя тыпы з'яўляюцца адкрытымі, непрадуктыўныя – закрытымі. Прычым у першым выпадку любое новаўвядзенне будзе зразумелым (параўн.: **неабідчык, *беспадарункавы, *каханасць, *пісальнік, *музейнасць* і г.д., чым даволі шырока карыстаюцца пісьменнікі і паэты, некаторыя са словаўтварэнняў якіх атрымалі назву аказіяналізмаў тыпу *чужаніца* Я.Купалы, *языкачос* П.Панчанкі і інш.), у другім выпадку (непрадуктыўная мадэль) новаўтварэнні практычна не ўзнікаюць.

Дзякуючы еднасці як каранёвых, так і некаранёвых марфем словы аб'ядноўваюцца ў разнастайныя групоўкі, прычым на супольнасці каранёвай марфемы словы ўтвараюць дэрывацыйныя гнёзды (гл.: ГИНЗБУРГ 1979, 156–250), у склад якіх могуць уваходзіць дзесяткі розных слоў. Так, на аснове каранёвага элемента *-вод-* можна пабудаваць вялікае словаўтваральнае гняздо, што зроблена, напрыклад, на матэрыяле рускай мовы (гл.: ТИХОНОВ 1985). Адпаведны беларускі слоўнік (БАРДОВІЧ, КРУТАЛЕВІЧ, ЛУКАШАНЕЦ 2000) не змяшчае такіх гнёзд, але аб іх будове можна меркаваць і на падставе прыведзеных даных у рускім слоўніку, бо прынцыповай розніцы ў словаўтваральнай будове беларускіх і рускіх лексем няма. Так, у рускай мове да рэестравага артыкула са згаданай каранёвай марфемай *-вод-* прыведзена 338 розных слоў, якія групуюцца вакол яе, кожнае слова мае свой уласны марфемны склад, прычым унутры гнязда аднакаранёвыя словы аб'ядноўваюцца ў рады тыпу *вада – водны – падводны – падводнік* і да т.п.

Словаўтваральныя гнёзды, заснаваныя на семантычнай і матэрыяльнай еднасці марфем, праз аналітызм (параўн.: *маўклівы чалавек – маўчун* і да т.п.) і транспазіцыю (параўн.: *-ац, -іч, -анін* і інш. як суфіксы ўтварэння асобы тыпу *горац, крывіч, мінчанін)* складаюць вялікія дэрывацыйныя палі (гл.: НИКИТЕВИЧ 1985, 109–115) і сістэматызуюць увесь лексікон як семантычна, так і фармальна ў арганічнае адзінства, што спрыяе кожнаму носьбіту мовы аператыўна знаходзіць неабходнае слова ў сваёй памяці для хуткага канструявання звязнага маўлення.

# 11. СПЕЦЫЯЛЬНАЯ ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## 11.1. ЗЫХОДНЫЯ ПАНЯЦЦІ І ПРАБЛЕМЫ

***Паводле сферы выкарыстання лексіка беларускай мовы падзяляецца на агульнаўжывальную і абмежаванага выкарыстання.*** У склад лексікі абмежаванага выкарыстання звычайна ўключаюць дыялектныя, спецыяльныя і жаргонныя словы. У сваю чаргу спецыяльная лексіка падзяляецца на **тэрміналогію, прафесіяналізмы і наменклатуру**. Слова ***тэрміналогія*** выкарыстоўваецца ў двух асноўных значэннях:

1. Сістэма тэрмінаў пэўнай галіны навукі, тэхнікі або мастацтва, якая адлюстроўвае адпаведную сістэму паняццяў. Напрыклад, *тэрміналогія эканомікі, моваэнаўчая, юрыдычная тэрміналогія*. У больш шырокім сэнсе слова ***тэрміналогія*** ўжываюць для абазначэння агульнай сукупнасці тэрмінаў гэтых галін дзейнасці.

2. Раздзел мовазнаўства, які займаецца вывучэннем тэрмінаў (гл.: АНТАНЮК 1987, 1995).

Пад прафесіяналізмамі звычайна разумеюць словы і выразы, уласцівыя мове прадстаўнікоў якой-небудзь прафесіі, сферы дзейнасці. Прафесіяналізмы і тэрміны складаюць паняцце "спецыяльная лексіка". Але тэрміны адрозніваюцца ад прафесіяналізмаў сістэматызаванасцю, унармаванасцю, кадыфікаванасцю. Прафесіяналізмы ж часта з'яўляюцца паўафіцыйнымі словамі, выкарыстоўваюцца вузкім колам спецыялістаў, пераважна ў гутарковым стылі і характарызуюцца эмацыянальнасцю, напр., у асяроддзі камп'ютэршчыкаў: *вінда* (віндаўс), *клава* (клавіятура), *жалеза* (камп'ютэр), *знесці вінду* (удаліць віндаўс). Прыкмета эмацыянальнасці прынцыпова адрознівае прафесіяналізмы ад тэрмінаў, якім уласціва неэмацыянальнасць, дакладнасць, адназначнасць, наяўнасць строга вызначанай дэфініцыі (азначэння) і інш.

Паняцце "наменклатура" некаторыя даследчыкі размяжоўваюць з паняццем тэрміналогія, падкрэсліваючы абстрактнасць паняццяў і катэгорый тэрміналогіі і канкрэтнасць прадметаў, якія абазначаюцца наменклатурнымі знакамі, напр., геграфічныя тэрміны *рака, гара* і геграфічная наменклатура – *назвы канкрэтных гор, рэк*. Некаторыя даследчыкі ўключаюць наменклатуру ў склад тэрміналогіі, падкрэсліваючы агульныя прыкметы тэрмінаў і наменклатуры.

Прынцыповае значэнне для даследавання тэрміналогіі і яе месца ў сучаснай беларускай мове, утварэння, упарадкавання і складу нацыянальнай тэрміналогіі, узаемадзеяння паміж агульнаўжывальнай лексікай і тэрміналогіяй мае вырашэнне пытання аб сутнасці паняцця "тэрмін". Спробы вызначэння сутнасці гэтага паняцця маюць глыбокую навуковую традыцыю. Сярод мноства існуючых ад старажытнагрэчаскай навукі часоў Платона азначэнняў тэрміна асноўнае месца займаюць тыя, якія адзначаюць яго суаднесенасць са строгай дэфініцыяй і кваліфікуюць тэрмін як знак спецыяльнага паняцця.

У большасці сучасных лінгвістычных даследаванняў адзначаюцца таксама прыкметы дэфінітыўнасці, сістэмнасці, спецыяльнасці тэрмінаў, іх адрозненне ад наменклатурных назваў і інш.

У сваёй аснове прыкметы дэфінітыўнасці, сістэмнасці, спецыяльнасці тэрмінаў не з'яўляюцца процілеглымі пэўным уласцівасцям агульнаўжывальных слоў. Так, прыкмета дэфінітыўнасці, якая выяўляецца ў тым, што навуковае азначэнне выступае неад'емнай часткай тэрміна, па сваёй сутнасці з'яўляецца толькі спецыфічным праяўленнем агульных суадносін "знак – абазначанае", "слова – значэнне".

Прыкмету сістэмнасці тэрміна ў сэнсе суаднесенасці яго з сістэмай паняццяў таксама нельга назваць прынцыпова адметнай рысай у параўнанні з агульнаўжывальным словам. Яе адметная асаблівасць заключаецца толькі ў тым, што тэрміны як словы або словазлучэнні пэўнай спецыяльнай сферы (навука, тэхніка, мастацтва і інш.) суаднесены з сістэмай паняццяў *гэтай* сферы, у той час як пэўная тэматычная група агульнаўжывальнай лексікі суаднесена з сістэмай адпаведных паняццяў іншай сферы. Аднак пры больш дэталёвым аналізе семантычнай суаднесенасці тэрмінаў, іх лексічнай і сінтаксічнай спалучальнасці, словаўтваральных гнёздаў і інш. выяўляюцца іх адметныя рысы ў параўнанні з агульнаўжывальнымі словамі.

Тэрмін не проціпастаўлены па сваіх асноўных прыкметах агульнаўжывальнаму слову. І гэта пацверджана на матэрыяле тых даследаванняў, у якіх тэрміналогія разглядаецца ў складзе літаратурнай лексікі ў якасці найважнейшага элемента функцыянальнага стылю літаратурнай мовы, або самастойнай функцыянальнай разнавіднасці агульналітаратурнай лексікі, або без размежавання гэтых двух паняццяў і з іх сінанімічным выкарыстаннем з паняццем "мова навукова-тэхнічнай літаратуры".

Аднак адрозненне тэрміна ад агульнаўжывальнага слова не абмяжоўваецца толькі яго асаблівай функцыяй. Сама гэта асаблівая функцыя, якая праяўляецца, на думку даследчыкаў, у сферы намінацыі (галіны навукі, тэхнікі, мастацтва...) і ў сферы ўжывання (вузкае кола спецыялістаў дадзенай галіны), накладвае пэўную спецыфіку на прыроду тэрмінаў як моўных знакаў, сістэму іх утварэння, сістэмную граматычную і семантычную арганізацыю. У сувязі з гэтым заканамернасці словаўтварэння, лексіка-генетычныя, лексіка-граматычныя, лексіка-семантычныя і іншыя працэсы характарызуюцца ў тэрміналогіі пэўнай спецыфікай, прычым сама гэта спецыфіка ў кожнай нацыянальнай мове выяўляецца па-свойму.

Такім чынам, выказванні, што тэрміны – гэта тыя ж словы, справядлівае толькі на ўзроўні агульнага падыходу да вырашэння праблемы аб уключэнні або неўключэнні тэрміналогіі ў сістэму мовы.

Такі агульны падыход да вызначэння сутнасці тэрміна апраўданы і неабходны для вызначэння тэарэтычных прынцыпаў характарыстыкі статусу тэрмінаў як пэўных знакаў. Аднак ён не выключае неабходнасці ўлічваць спецыфіку тэрміна, якая заключаецца ў тым, што гэта слова (або словазлучэнне) са *спецыяльна-абумоўленым* характарам дэфінітыўнасці, сістэмнасці, адназначнасці ў складзе ўпарадкаванай тэрміналагічнай сістэмы, звязаным з асаблівасцямі сістэмы навуковых, тэхнічных, мастацкіх і іншых паняццяў.

Сутнасць другога, прынцыпова іншага падыходу да вызначэння месца тэрміналогіі ў лексічнай сістэме мовы, заключаецца ў тым, што тэрміналогія выводзіцца за межы лексічнай сістэмы агульналітаратурнай мовы. Паколькі ў выніку такога падыходу тэрміналогія вылучаецца за межы агульналітаратурнай лексікі, то лагічна з'яўляецца як бы магчымасць і неабходнасць яе "самастойнага" ўзнікнення і развіцця, незалежна ад стану развіцця лексічнай, словаўтваральнай, граматычнай і лексіка-семантычнай сістэмы мовы. Такая "самастойнасць", у сваю чаргу, дапускае магчымасць сітуацыі, калі мова з развітай лексічнай, словаўтваральнай, граматычнай, лексіка-семантычнай сістэмамі не здольна выконваць функцыі пера-

дачы і захоўвання навукова-тэхнічнай інфармацыі. У прыватнасці, на некаторых нарадах па пытаннях функцыянавання і развіцця нацыянальных моў у часы былога СССР даводзілася часам чуць ад удзельнікаў (мала знаёмых нават з існаваннем традыцый выкарыстання беларускай мовы ў навучанні) аб тым, што цяжка ўявіць, як можна перадаць навукова-тэхнічныя паняцці ў беларускай тэрміналогіі. На вялікі жаль, такія выказванні даводзіцца калі-нікалі чуць і сёння. Развітасць сістэмы мовы пры гэтым як бы і не прымаецца ў разлік.

Прыведзенае вышэй выказванне аб тым, што "ў агульнай мове няма тэрмінаў як моўных знакаў, а ёсць словы, якія з'яўляюцца па паходжанні тэрмінамі", можна прызнаць слушнымі толькі ў дачыненні да характарыстыкі тэрмінаў як элементаў, знакаў пэўнай тэрміналагічнай сістэмы, у якой яны толькі і здольны выконваць сваю намінатыўную функцыю ці функцыю выражэння пэўнага паняцця, адным словам, толькі ў дачыненні да функцыянальнай характарыстыкі тэрмінаў. Яно ні ў якой меры не выражае генетычную характарыстыку тэрмінаў, крыніц, спосабаў і сродкаў іх моўнага афармлення.

Непарыўная сувязь нацыянальнай тэрміналогіі з адпаведнай мовай выразна наглядаецца на матэрыяле беларускай мовы, прычым як у гістарычным аспекце, так і на сучасным этапе яе развіцця.

Як вядома, тэрміналагічная лексіка старабеларускай мовы 14 – першай паловы 17 ст. развівалася і функцыянавала вельмі актыўна ў сувязі з выкарыстаннем яе ва ўсіх сферах дзяржаўнай, гаспадарчай, грамадскай, культурна-асветніцкай і іншай дзейнасці, паколькі юрыдычна і фактычна старажытная беларуская мова была ў той час дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага. У выніку ў ёй была выпрацавана багатая і разгалінаваная сістэма тэрміналагічных сродкаў, якая адлюстроўвала асноўныя напрамкі гаспадарчага, грамадскага, культурна-навуковага жыцця: грамадска-палітычная і юрыдычная, сельскагаспадарчая, промыславая (тэрміналагічная лексіка промыслаў), гандлёвая, вайсковая, а таксама мовазнаўчая, матэматычная, астранамічная і інш.

У прыватнасці, фарміраванне грамадска-палітычнай і юрыдычнай старажытнай беларускай лексікі было найбольш раннім і інтэнсіўным у выніку яе выкарыстання ў дзяржаўных, судовых установах, у знешніх дзяржаўных і гандлёвых сувязях Вялікага Княства Літоўскага. Актыўнае фарміраванне гандлёвай старажытнай беларускай лексікі адбывалася з 15 ст. разам з бурным развіццём гарадоў з іх рамеснай і гандлёвай дзейнасцю, узнікненнем буйных мясцовых рынкаў, цэнтрамі якіх былі Мінск (па-тагачаснаму Менск, Менеск, дзе выразна прасочваецца этымалогія назвы, непасрэдна звязаная з выключнай роляй горада ў гандлёва-эканамічных сувязях) Брэст, Віцебск. Гандлёвая тэрміналогія расшыралася і пад уплывам знешняга гандлю гарадоў Вялікага Княства Літоўскага з растучымі гарадамі Рускай дзяржавы, а пасля разгрому Тэўтонскага ордэна – з Захадам, праз Прыбалтыку, прычым афіцыйнае афармленне гандлёвых сувязей ажыццяўлялася на беларускай мове. Вайсковая тэрміналогія старажытнай беларускай мовы інтэнсіўна развівалася ў выніку таго, што знаходзячыся ў геаграфічным цэнтры Еўропы, насельніцтву Беларусі даводзілася прымаць удзел у важнейшых ваенных падзеях 14–18 стст. Сфарміраваная старажытнабеларуская ваенная тэрміналогія адлюстроўвала даволі высокі ўзровень развіцця вайсковай справы таго часу.

К канцу 16 ст. ў сувязі з тым, што Беларусь у выніку Люблінскай уніі аказалася ў складзе Рэчы Паспалітай, пачынаецца актыўная паланізацыя беларускага і ўкраінскага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага, у прыватнасці, адкрытая паланізацыя школы. Беларуская мова паступова страчвае сваю поўнафункцыянальнасць, выцясняецца польскай і лацінскай з афіцыйнай сферы.

Пералічаныя вышэй групы старажытнабеларускай тэрміналагічнай лексікі атрымалі ў сучаснай беларускай лінгвістыцы даволі падрабязны аналіз, чаго зусім нельга сказаць, як гэта ні парадаксальна, аб большасці галін сучаснай тэрміналогіі, якая ў беларускім мовазнаўстве не толькі не вывучалася, але і не атрымлівала сістэмнага ўпарадкавання і выкарыстання. (Апошняе безумоўна звязана з абмежаваннем функцый беларускай мовы ў сферах дзяржаўнага, грамадска-палітычнага, навуковага, эканамічнага жыцця, у выніку чаго на мэтанакіраванае развіццё і ўпарадкаванне тэрміналогіі многіх галін навукі, тэхнікі накладвалася маўклівая забарона, яно "не заахвочвалася", адпаведныя тэрміналагічныя слоўнікі не выдаваліся і г.д.)

Такія экстралінгвістычныя фактары, як забарона беларускай мовы, Варшаўскім сеймам у 1696 г. і пазней забарона яе царскім урадам Расіі, якія выклікалі больш чым стогадовы перапынак у развіцці пісьмовай традыцыі старажытнабеларускай і сучаснай беларускай мовы, адмоўна ўздзейнічалі на пераемнасць развіцця лексікі беларускай мовы. Некаторыя даследчыкі вызначаюць у гэтай сувязі нават страту пераемнасці пісьмовых традыцый паміж старажытнай і новай, сучаснай, беларускай мовай.

Відавочна, што ў найбольшай ступені адмоўна ўздзейнічаў перапынак функцыянавання беларускай мовы ў пісьмовай форме на фарміраванне тэрміналогіі, паколькі замацаванне тэрмінаў адбываецца перш за ўсё ў пісьмовых тэкстах. Здавалася б, што аб пераемнасці тэрміналагічнай лексікі ў такіх умовах наогул гаварыць немагчыма. Тым не менш аналіз адпаведнай тэрміналагічнай лексікі старажытнабеларускага пісьменства і сучаснай тэрміналогіі канкрэтных галін выяўляе відавочную сувязь, што наглядаецца нават пры самым першапачатковым супастаўленні. У старажытнабеларускіх словах *держава, звычай, здрадца, лист, пильновать, позыченье, помста, пригон, пригонныя люди, сварка, сведка, умова, шибеница; вага, важити, весец, гандель, гляк, грош, жалезник, кошт, крам, крама, купец, купованье, мостовое, мыто, перекуп, померное, прибыток, продавати, речи, рынок, стадола, танный, уздоймом (агулом), уторговати; аранье, ботвинье, жито, збожье, зерне, лов (звериный, пташный, рыбный), селище, садиба, стайня; войско, воевник, наруч, начинье, зброя стрельчая, люди ратные, рукавицы панцеровые; будованье, бытие, вапно, выхованье, грошы, жниво, зброя, истина, мова, небязпечность, особа, оборонца, паша, потреба, пытанье, сведомость, скарб, скрага, утиск, якость* мы без цяжкасцей пазнаем сучасныя тэрміны адпаведных галін. Больш таго, беларусы, як і іншыя народы з даўняй пісьмовай традыцыяй, сапраўды могуць ганарыцца тым, што сучасны студэнт (які валодае беларускай мовай) можа без цяжкасцей чытаць помнікі старажытнага беларускага пісьменства. У чым жа сакрэт значнай ступені пераемнасці тэрміналагічнай лексікі пры значным перапынку ў развіцці пісьмовай традыцыі ў гэтай сферы?

Адказ на гэта пытанне можа быць толькі адзін: у непадзельнай сувязі тэрміналогіі і агульнаўжывальнай лексікі, пісьмовай і вуснай формаў кожнай нацыянальнай мовы, у тым ліку і беларускай. Уласна ў гэтым і заключаецца доказ такой непарыўнасці на матэрыяле беларускай мовы ў гістарычным аспекце. Будучы забароненай у пісьмовай форме і ў афіцыйна-дзелавой сферы, беларуская мова не перастала развівацца ў жывой народнай гаворцы, захоўваючы сваю сістэму сродкаў і выпрацоўваючы шматлікія новыя адзінкі, выкарыстаныя пазней у тэрміналагічным значэнні.

Доказам непарыўнай сувязі тэрміналогіі з лексічнай сістэмай мовы на сучасным этапе яе развіцця з'яўляецца тое, што, як паказвае практыка працы над тэрміналагічнымі слоўнікамі сучаснай беларускай мовы, аб'ектыўных складанасцей для

перадачы ўсіх намінацый і паняццяў сучасных навук у беларускай мове не існуе, хоць у большасці галін навукі і тэхнікі сістэматычная распрацоўка беларускай тэрміналогіі не праводзілася. Такім чынам, нягледзячы на адсутнасць сістэматычнай і мэтанакіраванай дзейнасці па распрацоўцы і ўпарадкаванню беларускай тэрміналогіі многіх вузкіх галін навукі, беларуская мова валодае ўсімі лексічнымі, граматычнымі, словаўтваральнымі і іншымі сродкамі для перадачы паняццяў і рэалій сучасных навук.

Гэту парадаксальную на першы погляд сітуацыю можна растлумачыць зноў жа толькі цеснай сувяззю агульнаўжывальнай лексікі, словаўтваральных, граматычных і іншых моўных сродкаў з тэрміналогіяй і тэрмінаўтварэннем.

Акрамя заключэння аб непарыўнай сувязі тэрміналогіі з сістэмай адпаведнай нацыянальнай мовы, на аснове праведзенага аналізу гістарычных фактаў і фактаў сучаснай тэрмінаграфічнай практыкі можна зрабіць вывад аб пэўнай заканамернасці. Сутнасць гэтай заканамернасці заключаецца ў тым, што сучасныя літаратурныя мовы (у тым ліку і беларуская), якія маюць даўнюю пісьмовую традыцыю, развітую сістэму лексічных, словаўтваральных, лексіка-семантычных, граматычных і іншых сродкаў, здольны выконваць усе функцыі чалавечых зносін, адной з якіх з'яўляецца так званая мова навукі і тэхнікі. Сама па сабе гэта заканамернасць і сведчыць аб непарыўнай сувязі тэрміналогіі з сістэмай сродкаў адпаведнай нацыянальнай мовы.

У выніку можна зрабіць заключэнне, што аб'ектыўна-моўных абмежаванняў для развіцця і выкарыстання беларускай тэрміналогіі не існуе. Аднак існуюць іншыя, пераважна суб'ектыўныя абмежаванні. Гэта недастатковае валоданне беларускай мовай некаторымі вучонымі, выкладчыкамі; служачымі, праблемы папаўнення тэрміналагічнага фонду ў сувязі з развіццём адпаведных галін дзейнасці, пытанні моўнай палітыкі і інш.

Відавочна, што менавіта моўная палітыка дзяржавы вызначае "запатрабаванасць" ці "незапатрабаванасць" нацыянальнай тэрміналогіі ў адпаведнасці з выкарыстаннем або невыкарыстаннем нацыянальнай мовы ў дзяржаўных органах, у навуцы, выкладанні, эканамічным і грамадска-палітычным жыцці, як відавочна і тое, што сучасная моўная палітыка недастаткова садзейнічае запатрабаванасці беларускай мовы і тэрміналогіі. У той жа час ёсць пэўная мяжа для ўзнаўлення і актывізацыі тэрміналагічнай лексікі. Пры працяглай незапатрабаванасці, нефункцыянальнасці яна паступова набывае элементы штучнасці, безжыццёвасці, уласцівыя так званым мёртвым мовам ці, вобразна кажучы, мёртвым стылям пэўных няпоўнафункцыянальных моў, магчымасць далучэння да якіх для беларускай мовы зусім не выключана без кардынальных змен у сучаснай моўнай палітыцы Рэспублікі Беларусь. У сучаснай беларускай тэрміналогіі ўжо існуе пласт тэрмінаў, якія пры сваёй адпаведнасці зместу паняццяў, рэалій і заканамернасцям сучаснай беларускай мовы ўспрымаюцца як штучныя (часам ацэньваюцца носьбітамі мовы як недарэчныя, "смешныя") толькі з-за таго, што звязваюцца ў свядомасці з "ненавуковым" ці "недзелавым" стылем, паколькі практыкі выкарыстання ў навуковым і дзелавым стылях не маюць. Асацыяцыя толькі з агульнаўжывальным, часта нават толькі з размоўна-бытавым стылямі і выклікае іх непрымальнасць, "смешнасць".

Усе функцыі мовы як найважнейшага сродку зносін паміж людзьмі пэўным чынам звязаны з развіццём грамадства, паколькі такія істотныя з'явы, якія вылучаюць чалавека з біялагічнага свету як Homo sapiens (чалавек разумны) – мова, свядомасць і грамадскі характар працоўнай дзейнасці, быцця, – цесна ўзаемазвязаны паміж сабой. Асноўныя функцыі мовы і маўлення маюць розную ступень універсальнасці ці

этнічнай адметнасці, што вельмі актуальна для так званых дзвюхмоўных і дыглосных моўных сітуацый, якія ўласцівы сучаснаму беларускаму грамадству.

Выключная значнасць камунікатыўнай ролі і дасканаласці мовы як найважнейшага сродку зносін становіцца зразумелай у тым відавочным факце, што ўзрастанне ролі чалавечых зносін выступае адной з умоў і складальных частак сацыяльнага прагрэсу. Развіццю грамадства адпавядае развіццё маўленчых зносін, здольных адлюстроўваць і наладжваць складаную і разнастайную дзейнасць людзей ва ўсіх сферах грамадскага быцця.

Для грамадстваў з так званымі дзвюхмоўнымі і дыглоснымі сітуацыямі рэалізацыя камунікатыўных функцый абедзвюх моў з'яўляецца складанай і практычна невырашальнай у поўнай меры. Хоць моўная сітуацыя як адзін з прадметаў сацыялінгвістыкі - гэта з'ява шматаспектная, шматпрыкметная і адзіная класіфікацыя ўсёй разнастайнасці моўных сітуацый на Зямлі практычна немагчыма, аднак агляды такіх сітуацый на аснове тыпалагічна значымых прыкмет паказваюць, што збалансаваныя (раўнаважныя) моўныя сітуацыі пры юрыдычна абвешчаным шматмоўі ці двухмоўі практычна немагчымы. Гэта пацвярджаецца звычайна прыкладамі Швейцарыі, Бельгіі і іншых краін. Напрыклад, з чатырох дзяржаўных моў Швейцарыі (рэтараманская, французская, нямецкая, італьянская) сацыяльны статус рэтараманскай, якую лічаць роднай 50 тысяч чалавек - менш 1% насельніцтва, няроўны становішчу астатніх моў Швейцарыі.

Параўноўваючы моўную сітуацыю Беларусі, можна адзначыць адваротнае становішча: па даных перапісу 1979 г. каля 84% (а па даных перапісу 1999 г. - каля 82%) беларусаў, якія жылі ў БССР і каля 70% усяго насельніцтва лічыла роднай беларускую мову, аднак па сваіх сацыяльных функцыях яна зараз, як і ў перыяд БССР стаіць відавочна ніжэй за рускую. Акрамя таго, сам факт, што 18% беларусаў (на 2% больш у параўнанні з данымі перапісу 1979 г.) сёння не лічаць мову сваіх продкаў роднай мовай, сведчыць аб працэсе асіміляцыі карэннага насельніцтва Беларусі ва ўмовах пераважнага выкарыстання рускай мовы ў дзяржаўным і грамадскім жыцці. Да таго ж значны працэнт гарадскога насельніцтва ва ўмовах недастатковай папулярызацыі, культывавання нацыянальнай мовы і культуры слаба валодае беларускай мовай.

Відавочна, што побач з інтэграцыйнымі працэсамі ў эканоміцы патрэбны не менш актыўныя працэсы ў папулярызацыі, культывавання нацыянальнай мовы, культуры, як гэта наглядаецца зараз у славянскім свеце, у Заходняй Еўропе (дзяржаўныя меры Францыі, Германіі ў падтрымку моў карэнных этнасаў). Відавочна, што для захавання беларускай мовы ва ўмовах беларуска-рускага двухмоўя неабходна яе дзяржаўная падтрымка. Як і любая іншая мова, якая знаходзіцца ў суседстве з мовай самай вялікай дзяржавы свету, што мае значна большую вядомасць, значны міжнародны прэстыж, прытым, што рускамоўнае насельніцтва Беларусі вызначаецца значна большай сацыяльнай актыўнасцю, займае кіраўніцкія пасады ў дзяржаве, беларуская мова не зможа захаваць высокі сацыяльны статус. Адным з найважнейшых момантаў выступае ў гэтым напрамку пашырэнне функцый беларускай мовы ў дзяржаўнай сферы, у грамадскім жыцці, яе выкарыстанне ў органах дзяржаўнага кіравання, у дзяржаўных арганізацыях, установах, на прадпрыемствах.

Мова - найважнейшае культурнае дасягненне народа, аб'ект яго любові і гонару. Яна мае і вялікую кансалідуючую ролю ў грамадстве. Па-першае, аб'ядноўвае пакаленні з глыбокай даўніны, па-другое, аб'ядноўвае грамадства на кожным канкрэтным адрэзку часу і ў геаграфічнай прасторы. Мы можам і сёння чытаць і разумець помнікі старажытнага беларускага пісьменства - дагаворы старажытнага Полацка, Віцебска,

Смаленска з Рыгаю і Гоцкім берагам, старажытныя беларускія берасцяныя граматы, "Дагавор Полацка з Рыгай", 1330 г., "Даравальную грамату" Вітаўта літоўскім канонікам, 1399 г., "Судзебнік" караля Казіміра Ягелончыка, 1468 г., "Кнігу судовых спраў", 1516 г., Статут Вялікага Княства Літоўскага і іншыя тэксты дзелавога старажытнабеларускага пісьменства (да нашага часу дайшлі амаль 600 тамоў твораў старажытнага беларускага дзелавога пісьменства так званай Літоўскай метрыкі).

Мноствам старажытных беларускіх помнікаў можна сапраўды ганарыцца, іх колькасць, асабліва друкаваных, значна большая з суседнімі Расіяй і Украінай. Можна ганарыцца і самім фактам таго, што пры вядомых перапынках у выкарыстанні беларускай мовы ў дзяржаўным і грамадскім жыцці нам зразумелы ўсе пісьмовыя старажытнабеларускія тэксты, што сведчыць аб захаванні моўнай пераемнасці. Аднак, імкнучыся да аб'ектыўнасці, нельга не сказаць, што ў нашым грамадстве не захавалася ў належнай меры самае галоўнае – шырокае веданне гэтых моўных помнікаў старажытнабеларускага пісьменства, як і народна-гістарычных традыцый у цэлым.

Дзелавое старажытнабеларускае пісьменства 14–18 стст., летапісы 15–17 стст., мастацкая і палемічная літаратура, першыя беларускія і ўсходнеславянскія граматыкі, рэлігійная літаратура 16–17 стст., у тым ліку і выдатная спадчына Ф.Скарыны, перакладная жыційная літаратура 15–16 стст., мемуарная літаратура 17 ст. – уся гэта багатая моўная спадчына часта проста невядома людзям і таму не можа быць аб'ектам любові і гонару, вялікім аб'яднаўчым фактарам.

Аб'яднаўчая роля мовы ў гістарычным часе становіцца аб'ектыўна магчымай таму, што мова – гэта сродак камунікацыі, а не яе змест, які, як вядома, зменлівы. Сродак жа камунікацыі – гэта нешта універсальнае, нязменнае для ўсіх пакаленняў. Аднак сёння мы не можам сказаць, што беларуская мова выконвае кансалідуючую функцыю ў грамадстве, яе сацыяльны статус зніжаецца. Чыста аб'ектыўна не можа выконваць такую функцыю і руская мова, паколькі не з'яўляецца мовай карэннага насельніцтва (па даных перапісу насельніцтва 1999 г. беларускую мову лічаць роднай 7 мільёнаў 30 тысяч чалавек – 82% беларусаў і 18% небеларусаў).

Узмацненне інтэграцыйных працэсаў у эканоміцы еўрапейскіх і іншых дзяржаў свету, узрастанне сусветнай стандартызацыі адбываюцца адначасова з актывізацыяй гуманітарнай культуры, у цэнтры якой знаходзіцца цікавасць да індывідуальнасці, адметнасці. У гэтай сувязі сучасныя сацыяльныя лінгвісты адзначаюць, што ўзмацняецца цяга самых розных народаў да сваіх каранёў, да "свайго роднага", блізкага, нідзе не паўтаральнага, у тым ліку – да роднай мовы. Для чалавека ў роднай мове захоўваецца жыццёва важны вопыт першага знаёмства са светам. Вось чаму так важна зберагчы гэта натуральнае моўнае асяроддзе.

Выразным сведчаннем таго, што для чалавека вельмі важна зберагчы традыцыйнае, натуральнае моўнае асяроддзе выступае той факт, што нягледзячы на значныя перыяды забароны або абмежаванага выкарыстання беларускай мовы ў дзяржаўным грамадскім жыцці, пераважная большасць беларусаў лічыць яе роднай.

Сучасная канцэпцыя гуманітарнай падрыхтоўкі спецыялістаў заснавана на сусветнай гуманістычнай тэндэнцыі захавання і развіцця нацыянальна-культурных асаблівасцяў.

Для станаўлення і развіцця асобы кіраўніка, лідэра асабліва неабходны сфарміраваныя веды па пытаннях нацыянальнай мадэлі свету, сутнасці нацыянальнага светаўспрымання, звязанага з рэалізацыяй ідэй дабра і справядлівасці ў грамадстве, дзяржаве, народна-гістарычных традыцый, якія бяруць свой пачатак з асаблівасцей этнагенезу. Яны выяўляюцца ў адметных рысах псіхалогіі, паводзін і

адлюстраваны ў народных традыцыях, у этнаграфіі, рэлігіі, фальклоры, народным укладзе жыцця, мове, літаратуры і іншых пластах нацыянальнай культуры.

Па сутнасці толькі ў выніку дасягнення і абагульнення ведаў аб нацыянальным менталітэце, нацыянальным характары, аб асаблівасцях фарміравання ідэі беларускай дзяржаўнасці і ідэй дабра і справядлівасці ў дзяржаве ўвогуле, асаблівасцей нацыянальнай самасвядомасці і міжнацыянальных адносін і г.д. магчымы выяўленне і фармуляванне нацыянальнай ідэі, якая з'яўляецца неабходным элементам пабудовы эфектыўнай дзяржавы.

Сусветная практыка дзяржаўна-эканамічнага развіцця сведчыць аб тым, што хоць эканоміка і з'яўляецца рухавіком развіцця дзяржавы, аднак сілкуецца гэты рухавік з крыніцы гуманітарнай якасці, паколькі ў аснове развіцця грамадства знаходзіцца чалавек з яго духоўнымі якасцямі, каштоўнасцямі, запатрабаваннямі.

Усведамленне і ўлік нацыянальных асаблівасцяў не як нечага вышэйшага ў параўнанні з іншымі народамі, а як непаўторнага злучэння нацыянальных і агульначалавечых рыс і каштоўнасцей", мае прынцыпова важнае значэнне для кансалідацыі народа на аснове высокіх духоўных крыніц, традыцый, каштоўнасцей, гэта значыць мае грамадскае і дзяржаўнае значэнне. Узнаўленне і развіццё нацыянальных форм быцця на аснове вывучэння нацыянальнага гістарычнага вопыту і духоўных каштоўнасцей ствараюць самыя спрыяльныя ўмовы для развіцця асобы.

Практыка сучаснага жыцця паказвае, што многія спецыялісты, кіраўнікі ці ўвогуле не разважаюць пра такія грамадска важныя пытанні, як нацыянальныя асаблівасці, нацыянальная ідэя, ці свядома адыходзяць ад такіх разважанняў з-за несфарміраванасці названых вышэй ведаў і перакананняў, часта абумоўленай гістарычнымі ўмовамі. Пры фарміраванні гэтых ведаў і перакананняў важна не аддаваць такое прынцыпова важнае пытанне на водкуп толькі аднаму грамадска-палітычнаму руху. Гэта наносіць вялікі ўрон усяму працэсу развіцця нацыянальнай самасвядомасці, кансалідацыі грамадства на аснове нацыянальных традыцый, станаўленню нацыянальнай ідэі.

Яшчэ адным важным комплексам пытанняў гуманітарнай падрыхтоўкі кіраўнікоў выступаюць цесна звязаныя з пытаннямі беларусазнаўства праблемы сацыялінгвістыкі: народы свету і мовы, шматмоўныя супольнасці, сусветная стандартызацыя і нацыянальная культура, мовы свету і нацыянальна-моўная палітыка, нацыянальныя асаблівасці, мова як духоўная спадчына, якая аб'ядноўвае пакаленні, сітуацыя двухмоўя ў свеце, дыглосія як від незбалансаванага двухмоўя, прававы статус моў і юрыдычны спектар падыходаў да моў, законы аб мове і правы асобы (адміністрацыйная практыка, фінансава-эканамічныя рычагі), мова і грамадства, мова і этнас, мова і культура і г.д.

Асобным аспектам гуманітарнай лінгвістычнай падрыхтоўкі кіраўнікоў з'яўляецца фарміраванне ведаў аб маўленчых паводзінах і культуры маўлення ў прафесійна-службовых адносінах, аб асаблівасцях афіцыйна-дзелавога стылю, маўленчай культуры дзелавой палемікі, публічнага дзелавога маўлення, рэкламнай дзейнасці, арганізацыйнай дзейнасці.

## 11.2. ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫТОКІ ФАРМІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Пры аналізе фарміравання тэрміналогіі неабходна паслядоўна размяжоўваць працэс натуральнага папаўнення тэрміналагічнай лексікі ў ходзе развіцця пэўных галін навукі і ўласна тэрміналагічную работу па ўпарадкаванні гэтай лексікі. Натуральнае папаўненне тэрміналагічнай лексікі неаддзельна ад умоў развіцця і функ-

цыянавання нацыянальнай мовы. Паколькі беларуская мова характарызуецца працягласцю і перарывістасцю яе гістарычнага развіцця, то ёсць падставы сцвярджаць, што натуральнае фарміраванне беларускай тэрміналогіі таксама з'яўляецца працяглым, але перарывістым.

Іменна перарывістасцю працэсу фарміравання беларуская мова адрозніваецца ад рускай, хоць большасць іншых славянскіх моў у 17–18 стст. таксама перажыла працяглы час заняпаду і нават забыцця. Такія экстралінгвістычныя фактары, як забарона беларускай мовы Варшаўскім сеймам у 1696 г. і негатыўныя адносіны да яе царскага ўрада Расіі, якія выклікалі больш чым стогадовы разрыў паміж пісьмовымі традыцыямі старабеларускай і сучаснай беларускай мовы ў 17–18 стст., адмоўна ўздзейнічалі на пераемнасць натуральнага фарміравання тэрміналагічнай лексікі, паколькі замацаванне навуковых тэрмінаў адбываецца перш за ўсё ў працэсе іх ужывання ў друкаваных выданнях. Лексікаграфічная ж і ўласна тэрміналагічная работа у такіх сацыяльных умовах наогул не магла быць арганізавана. Пэўнае ўяўленне аб складзе і развіцці навуковай лексікі старабеларускай мовы маем зараз толькі з сучасных даследаванняў дзелавых помнікаў беларускай пісьменнасці 14–18 стст. (гл.: ЖУРАЎСКІ 1967). Многія тэматычныя пласты старабеларускай лексікі даследаваліся ў кандыдацкіх дысертацыях В.А.Бекіша, Н.І.Гілевіч, З.П.Даўнене, В.Дз.Еўтухова, З.А.Зяневіча, Т.Г.Казачонак, М.А.Корчыца, П.Ф.Крапівіна, В.А.Купрэенкі, У.М.Лазоўскага, А.З.Марчанкі, Г.В.Паповай, К.У.Скурата, А.К.Шыкаловіча, І.В.Шадурскага, І.І.Чартко і інш.

Першапачатковай асновай фарміравання тэрміналагічнай лексікі старабеларускай мовы правамерна лічыць намінацыі розных прадметаў і з'яў прыроды ў народным маўленні і пазней фіксацыю гэтых намінацый у пісьмовых помніках старабеларускай мовы.

У гэтай сувязі неабходна адзначыць вялікую ролю пісьмовай традыцыі, развітых лексічных, словаўтваральных, граматычных і іншых моўных сродкаў у развіцці тэрміналогіі кожнай нацыянальнай мовы, у тым ліку і беларускай. Так, нягледзячы на больш чым стогадовы перыяд заняпаду, забароны ў афіцыйнай сферы і ў пісьмовай форме ў 17–18 стст., дзякуючы старажытнай пісьмовай традыцыі, высокаму ўзроўню развіцця беларускай мовы ў 14 – першай палове 17 ст., на беларускай літаратурнай мове ў 19 ст. былі створаны не толькі шэдэўры мастацкай літаратуры, але і напісаны навукова-папулярныя творы, творы палітычнай сатыры і інш. Гэтая ж з'ява наглядаецца і ў іншых славянскіх мовах. І нягледзячы на тое, што працяглы перыяд заняпаду і забароны ў пісьмовай форме дае падставу некаторым даследчыкам гаварыць аб страце старажытнай беларускай пісьмовай традыцыі, мы і сёння карыстаемся многімі юрыдычнымі, грамадска-палітычнымі, эканамічнымі, гандлёвымі і іншымі тэрмінамі старабеларускай мовы, зафіксаванымі ў Статутах ВКЛ (1529, 1566, 1588) і шматлікіх іншых старабеларускіх тэкстах. Колькасць такіх тэрмінаў, іх словаўтваральныя і спалучальныя магчымасці ў развіцці сучаснай беларускай тэрміналогіі такія значныя, што мы лічым гэтыя словы асновай фарміравання беларускай тэрміналогіі.

Таму для разумення працэсу развіцця беларускай тэрміналогіі вельмі важна ўзгадаць аб узнікненні і развіцці пісьменнасці на Беларусі.

Узнікненне пісьменнасці на тэрыторыі сучаснай Беларусі адбывалася адначасова з узнікненнем пісьменнасці ва ўсёй Кіеўскай Русі. Розныя надпісы, зробленыя кірыліцай рамеснікамі Кіева, Ноўгарада, Полацка, Смаленска, Чарнігава і іншых старажытнарускіх цэнтраў на прадметах бытавога прызначэння, дазволілі сучасным даследчыкам прыйсці да вываду, што пісьменнасць на Русі мела значнае распаўсюджанне і не канцэнтравалася толькі пры рэлігійных і культурна-палітычных

цэнтрах. У аднолькавай ступені гэта адносіцца і да заходняй часткі Кіеўскай Русі, на тэрыторыі якой існавалі буйныя цэнтры старажытнарускай пісьменнасці.

Захаваліся археалагічныя помнікі матэрыяльнай культуры 11–12 стст., якія сведчаць аб шырокім распаўсюджанні пісьменнасці сярод насельніцтва заходняй часткі былой старажытнарускай дзяржавы. Гэта восем камянёў-валуноў з надпісамі на тэрыторыі Полацкага княства, пастаўленых або як помнікі ў гонар якіх-небудзь знатных людзей, падзей, або як пагранічныя знакі. З археалагічных знаходак трэба адзначыць і выяўлены ў час раскопак у Пінску ў 1955 г. гліняны гладыш з надпісам *ярополчно вино,* што па меркаваннях даследчыкаў азначае 'віно Яраполка'. Надпіс адносяць да 11 ст. На тэрыторыі Беларусі знойдзена таксама некалькі прасліц (шыферных кольцаў, што надзяваліся на верацёны), якія адносяцца да 11–15 стст., з надпісамі кірыліцкімі літарамі (гл.: АЛЕКСЕЕВ, 1955, 129–132).

Знойдзеныя ў Смаленску, Віцебску, Мсціславе дзелавыя запісы і прыватныя лісты на бытавыя і гаспадарчыя тэмы на бяросце (берасцяныя граматы) таксама сведчаць аб шырокім выкарыстанні пісьма ў заходняй Русі і з'яўляюцца сродкам фіксацыі некаторых моўных намінацый прадметаў і паняццяў рэчаіснасці таго часу, у тым ліку і намінацый тэрміналагічнага характару. Так, у тэксце знойдзенай у 1959 г. у Віцебску берасцянай граматы, якая адносіцца да 13–14 стст., можна вылучыць наступныя словы, што ўвайшлі ў склад тэрміналагічнай лексікі старабеларускай мовы і сталі асновай для стварэння асобных тэрмінаў з розных галін гаспадарчай дзейнасці: *грыўня, жыта, купіць, наяўнасць, прадаць. Ад Сцяпана к Няжылу. Калі ты прадаў адзенне, то купі мне жыта за 6 грыўняў. А калі чаго не прадаў, то прышлі мне ў наяўнасці. Калі ж прадаў, то, дабрадзей мой, купі мне жыта* (грамата захоўваецца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі). Каля 480 выяўленых пры раскопках старажытнарускіх гарадоў дакументаў і прыватных лістоў на бяросце 11–15 стст., таксама як і надпісы на прадметах бытавога прызначэння, сведчаць, што ў Старажытнай Русі і ў Вялікім Княстве Літоўскім пісьменнасць была пашырана не толькі сярод феадалаў, духавенства, але і сярод простых гараджан, жанчын.

На тэрыторыі былых заходнярускіх зямель знойдзена некалькі старажытных рукапісных кніг 11 ст. Да іх адносяцца вядомы Слуцкі псалтыр, урывак Тураўскага евангелля, Супрасльскае евангелле і Супрасльскі рукапіс, знойдзеныя ў Супрасльскім манастыры паблізу Беластока. Гэтыя кніжныя помнікі напісаны на стараславянскай мове з некаторымі ўсходнеславянскімі моўнымі асаблівасцямі (канчатак *-тъ* у трэцяй асобе дзеясловаў, спалучэнне *-ро-* замест старославянскага *-ра-*). Месца напісання гэтых кніг дакладна не вызначана, аднак сам факт іх знаходжання ў Беларусі безумоўна звязаны з развіццём кніжнасці на беларускіх землях.

Захаваліся мясцовыя пісьмовыя помнікі 12 ст., значную частку якіх складаюць перапісы твораў царкоўнай літаратуры з захаваннем старославянскай мовы арыгіналаў і слабым адлюстраваннем усходнеславянскіх моўных асаблівасцей. Арыгінальных твораў таго часу захавалася мала, яны дайшлі да нас пераважна ў больш позніх копіях.

Заходнярускія землі далі плеяду таленавітых пісьменнікаў, слава аб якіх распаўсюдзілася па ўсёй Кіеўскай Русі. Сярод іх епіскап Кірыл, які праславіў сябе высокамастацкімі казаннямі, Клімент Смаляціч і Аўрамій Смаленскі, Ефрасіння Полацкая, з імем якой звязаны адзін з нямногіх дзелавых запісаў 12 ст., што дайшоў да нас, – надпіс на крыжы, падараваным ёю ў 1161 г. Спаскай царкве ў Полацку.

13 стагоддзе ў гісторыі пісьменнасці на тэрыторыі сучаснай Беларусі характарызуецца значна большай колькасцю помнікаў, больш разнастайным характарам іх тэматыкі, што звязана і з больш шырокім выкарыстаннем лексікі, якая служыла для намінацыі прадметаў, з'яў прыроды, паняццяў гаспадарчага і грамадскага жыцця. У гэтых помніках больш шырока адлюстраваны моўныя асаблівасці, якія

вылучалі насельніцтва заходняй Русі яшчэ ў межах Полацкага і Тураўскага княстваў ад астатняй часткі Кіеўскай Русі і пачалі праяўляцца ў значна большай ступені з ростам феадальнай адасобленасці.

Апошняе дае падставы даследчыкам лічыць 13 ст. пачатковым этапам фарміравання старабеларускай мовы і беларускай народнасці.

Далейшае развіццё мовы беларускай народнасці адбывалася ў межах Вялікага Княства Літоўскага, дзе заходнеруская пісьмовая мова была афіцыйнай дзяржаўнай мовай. Паколькі ў дзелавых помніках таго часу праяўляюцца як беларускія, так і ўкраінскія моўныя рысы, то помнікі з больш яскравымі беларускімі рысамі адносяць да ліку помнікаў старабеларускай мовы [рэдакцыі Статута (1529, 1566, 1588), Слуцкі летапіс, Летапіс Рачынскіх, Супрасльскі летапіс, Летапіс Быхаўца, Баркулабаўскі летапіс, перакладная Александрыя, перакладныя аповесці аб трох каралях, аб Трыстане і інш.]. З 15 ст. ў Беларусі адкрываюцца першыя школы.

У 1517 г. вядомы беларускі асветнік Францыск Скарына з Полацка выдае ў Празе першую ва ўсходнеславянскім свеце друкаваную кнігу ("Псалтыр") на стараславянскай мове, у 1517–1519 гг. – "Біблію" ў перакладзе на пісьмовую беларускую мову таго часу са сваімі прадмовамі, каментарыямі і тлумачэннямі. Затым у Вільні ён выдае "Малую падарожную кніжыцу" і "Апостал", у якіх у значнай ступені адлюстраваліся асноўныя рысы беларускага маўлення і ў прыватнасці – у лексіцы тэрміналагічнага характару *(вызволити, даремный, дорослый, доконалый, збройный, листъ, мовца, научение, небезбеченство, отчина, разумность, речи добрые, скарб, час).*

Усходнеславянскае кнігадрукаванне, пачатае Ф.Скарынай, прадоўжылі выдатныя кнігадрукары Б.Ваяводка, С.Будны, В.Цяпінскі, І.Фёдараў, П.Мсціславец, Мамонічы, В.Гарабурда, Я.Карцан, Д.Лянчыцкі, Я. і П.Кміты, С.Собаль і інш.

У другой палавіне 16–18 ст. кнігадрукаванне на тэрыторыі Беларусі (у Брэсце, Нясвіжы, Цяпіне, Лоску, Вільні, Ашмяне Мураванай, Любчы, Слуцку, Магілёве, Мінску, Куцейне, Буйнічах, Бялынічах, Полацку, Гродне, Супраслі, Пінску, Слоніме, Заслаўі і іншых беларускіх гарадах і мястэчках) распаўсюджваецца яшчэ шырэй. Гэтым тлумачыцца той факт, што беларуская пісьменнасць у параўнанні з пісьменнасцю іншых усходнеславянскіх народаў найбольш багата старадаўнімі друкаванымі кнігамі. Кнігі ў друкарнях 16–18 стст. выдаваліся на старабеларускай, старaславянскай, польскай, лацінскай мовах.

Надрукаваная ў гэты перыяд літаратура складалася перш за ўсё з царкоўных твораў, а таксама з твораў, звязаных з грамадска-палітычнай і рэлігійнай барацьбой паміж прыхільнікамі і праціўнікамі царкоўнай уніі, паколькі большасць друкарняў належала мясцовым магнатам, праваслаўным брацтвам ці езуітам і каталіцкім манастырам. Свецкі характар мела толькі некаторая частка кніг: граматыкі, слоўнікі, буквары, календары, у якіх зафіксавана значная колькасць тэрміналагічнай лексікі. У палемічных творах выкарыстоўвалася грамадска-палітычная тэрміналогія.

Кнігі больш позняга перыяду паўней адлюстроўвалі народную беларускую мову. Калі першая надрукаваная ў Віленскай друкарні граматыка братоў Мамонічаў "Кграматыка словенська езыка..." (1586) была арыентавана на кніжна-славянскую мову, то ўжо выдадзеная ў Вільні ў 1596 г. "Граматика словенска" давала тлумачэнні з выкарыстаннем жывой народнай мовы (гл.: СУПРУН, КАЛЮТА 1981, 43). Друкаваныя слоўнікі з'яўляюцца ў Беларусі ў канцы 16 ст., у прыватнасці "Лексис" Лаўрэнція Зізанія.

У літаратуры выкарыстоўвалася пераважна кірыліцкае пісьмо, хоць у Беларусі існавалі і польска-лацінскія друкарні. Так, друкарня Мамонічаў, у якой было выдадзена асабліва многа розных па зместу кніг, у апошні перыяд свайго існавання выдавала больш лацінічных кніг, чым кірыліцкіх.

## 11.3. АСНОЎНЫЯ САЦЫЯЛІНГВІСТЫЧНЫЯ ФАКТАРЫ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Да ліку фактараў, якія садзейнічалі фарміраванню як беларускай мовы наогул, так і тэрміналагічнай лексікі ў 14–17 стст., можна аднесці, па-першае, тое, што з другой палавіны 14 ст. пісьмовая беларуская мова стала дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага. Гэта спрыяла развіццю поўнафункцыянальнасці старабеларускай мовы, фарміраванню яе асноўных стыляў, у тым ліку навуковага.

Па-другое, як ужо адзначалася, у першай палавіне 16 ст. ў Беларусі ўзнікла, а к сярэдзіне 16 ст. атрымала шырокае распаўсюджанне кнігадрукаванне, якое ў значнай ступені садзейнічала выпрацоўцы лексічных норм, расшырэнню слоўніка, замацаванню намінацый новых навуковых паняццяў у моўнай практыцы.

Найбольш развітымі (з пункту погляду натуральнага фарміравання) галінамі тэрміналогіі ў 14–17 стст. былі тыя, якія абслугоўвалі асноўныя напрамкі гаспадарчага, навуковага і грамадскага жыцця беларускага народа. Гэта грамадска-палітычная, юрыдычная, гандлёвая, сельскагаспадарчая, промыславая, ваенная тэрміналогія, а таксама тэрміналогія мовазнаўства, астраноміі, матэматыкі і інш.

### 11.3.1. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ, ЮРЫДЫЧНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

Фармаванне гэтай тэрміналогіі было найбольш раннім і інтэнсіўным у параўнанні з іншымі галінамі старабеларускай тэрміналогіі дзякуючы функцыянаванню мовы ў якасці дзяржаўнай. Захавалася мноства помнікаў дзелавога пісьменства старабеларускай мовы, напісаных у канцы 14 – першай палавіне 17 ст. Гэта дакументы, складзеныя пры канцылярыі вялікага літоўскага князя і ў мясцовых дзяржаўных установах Вільні, Гродна, Магілёва, Брэста, Полацка, Мсціслава, Навагрудка і інш., некаторыя дакументы напісаны пры двары польскага караля і адрасаваны ў Літву, асобныя дакументы складзены на Украіне, у якіх пісцы, імкнучыся прытрымлівацца афіцыйнага беларускага пісьма, ахвяравалі некаторымі фанетычнымі, граматычнымі і лексічнымі з'явамі жывой украінскай мовы.

Буйнейшым помнікам старабеларускага пісьменства з'яўляецца Літоўская метрыка, якая ўключае разнастайныя дагаворы, акты, граматы, запісы, прывілеі, Статуты Вялікага Княства Літоўскага. Значную ролю ў станаўленні грамадска-палітычнай тэрміналогіі адыгралі творы старабеларускай палітычнай сатыры і палемікі (прадмовы і пасляслоўі Францыска Скарыны, С.Буднага, В.Цяпінскага, “Прамова Мялешкі”, “Ліст да Абуховіча”).

Асноўную частку грамадска-палітычных тэрмінаў у пералічаных помніках складаюць агульныя для ўсходнеславянскіх моў тэрміны, якія ўзніклі ў працэсе шматвяковага гаспадарчага і культурнага ўзаемадзеяння ўсходнеславянскіх плямён і народнасцей на тэрыторыі Старажытнай Русі: *копа, мыто (пошліна), оброкъ, окупъ, переметъ, послухъ, право, ремесленикъ, рубель, челядинъ* і г.д. Многія з гэтых тэрмінаў зараз з'яўляюцца гістарызмамі, другая частка пасля пэўных фанетычных і граматычных змен увайшла ў сучасную беларускую тэрміналогію.

Значнае месца займаюць тэрміны, узятыя з народнай мовы. Яны ўтвораны шляхам тэрміналагізацыі агульнаўжывальных слоў або з дапамогай словаўтваральных сродкаў старабеларускай мовы: *сведка* (ст.-рус. *послухъ*), *забойца* (ст.-рус. *головникъ*), *статок, статки* (ст.-рус. *добытокъ, имение*) і г.д. Частка гэтых тэрмінаў замацавалася ў беларускай грамадска-палітычнай тэрміналогіі: *держава, звычай,*

*здрадца, листъ, пильноватъ, позыченье, помста, пригонъ, пригонныя люди, сварка, умова, шыбеница* і г.д.

Нярэдка ў дзелавых дакументах і творах палітычнай сатыры сустракаюцца варыянты тэрмінаў старажытнарускага і мясцовага, больш позняга паходжання. Некаторыя тэрміны, якія ўвайшлі ў гэтыя творы з жывой беларускай мовы, не замацаваліся пасля ў старабеларускай і сучаснай тэрміналогіі ў выніку працэсаў стылістычнай дыферэнцыяцыі, актыўнага выкарыстання некаторых запазычаных слоў, якія першапачаткова ўжываліся толькі ў пэўных рэгіёнах, а пазней распаўсюдзіліся на шырокай тэрыторыі: *бонда* (частка, выдзелены пай), *клетка* (лаўка, крама), *камора* (таможня) і г.д.

Каля 10% ад усёй колькасці юрыдычных і справаводчых тэрмінаў старабеларускай мовы складаюць запазычанні з польскай і іншых заходнееўрапейскіх моў, а таксама з лацінскай (часта праз польскую): *авантюра, акт, апеляция, вага, грунт* (аснова, падстава), *декретъ, конституция, коштъ, мандатъ, пляцъ, рахунокъ, скарбникъ, скарбовый, скарга* і інш.

Пранікненне гэтых тэрмінаў у старабеларускую пісьмовую мову было выклікана неабходнасцю наймення новых для таго часу з'яў і паняццяў грамадскага жыцця, і таму асноўная частка запазычаных тэрмінаў захавалася ў сучаснай беларускай тэрміналогіі. Аднак узрастальнае ўздзеянне польска-лацінскай пісьменнасці на беларускую ў 16–17 стст. нярэдка прыводзіла да пранікнення неапраўданых паланізмаў і лацінізмаў у старабеларускую пісьмовую мову наогул і ў грамадска-палітычную тэрміналогію ў прыватнасці: *посэльство* (даручэнне), *кроль* (кароль), *пенязи* (грошы), *члонки* (члены), *звытяжство* (перамога), *варунокъ* (умова) і г.д.

Часам сустракаюцца ў грамадска-палітычнай і юрыдычнай тэрміналогіі і царкоўна-славянскія элементы: *вражда, милосердие, стражъ, благочестие* і г.д. Некаторыя грамадска-палітычныя тэрміны царкоўна-славянскага паходжання *(брение, воставати, гнушатися, десница, нищий, просвещати, смирити, страна, упредити* і інш.) выкарыстоўваюцца ў пісьмовых помніках канца 14 – пачатку 18 ст. як варыянты побач з існуючымі ў старабеларускай мове тэрмінамі з каранёвымі марфемамі нецаркоўна-славянскага паходжання, што дае падставу даследчыкам сцвярджаць, што частка лексікі царкоўна-славянскай мовы лічылася пісцамі таго часу блізкай і зразумелай чытачу. Гэта ў сваю чаргу сведчыць аб магчымасці ўплыву царкоўна-славянскай мовы на фарміраванне грамадска-палітычнай тэрміналогіі.

### 11.3.2. ГАНДЛЁВАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

Актыўны працэс фарміравання гандлёвай старабеларускай тэрміналогіі пачаўся ў 15 ст., разам з бурным развіццём гарадоў з іх рамеснай і гандлёвай дзейнасцю. На тэрыторыі Беларусі ў Вялікім Княстве Літоўскім у гэты час узнікалі буйныя лакальныя рынкі, цэнтрамі якіх былі Мінск, Брэст, Віцебск. У таварна-грашовыя адносіны ўцягвалася таксама і вёска. Узрослыя ўнутраныя гандлёвыя сувязі садзейнічалі дастаткова цесным кантактам насельніцтва, што спрыяла фарміраванню адзінай лексікі, у тым ліку адзінай гандлёвай тэрміналогіі.

Спрыяльны ўплыў на расшырэнне гандлёвай тэрміналогіі аказваў таксама знешні гандаль гарадоў Вялікага Княства Літоўскага з растучымі гарадамі Маскоўскай дзяржавы, а пасля разгрому Тэўтонскага ордэна – з Захадам, праз Прыбалтыку, прычым афіцыйнае афармленне гандлёвых сувязей ажыццяўлялася на старабеларускай мове.

Гандлёвая тэрміналогія старабеларускай мовы як ядро вельмі шырокага і разнастайнага па складу пласта старабеларускай гандлёвай лексікі ўключае

тэрміналагічныя назвы арганізацыі гандлёвага працэсу, працэсаў і дзеянняў куплі-продажу, спосабаў куплі-продажу, асоб, занятых у гандлі, таварных якасцей прадметаў куплі-продажу, месц гандлю і гандлёвых збудаванняў, гандлёвых пошлін.

Асноўную частку гандлёвай тэрміналогіі складае спрадвечная лексіка, каля 40% якой адносіцца да агульнаўсходнеславянскага перыяду: *вага, важити, весецъ, грошъ, золотникъ, купецъ, купити, купля, локоть, мена, мерка, мехъ, мостовое, мыто, перекупъ, номерное, прибытокъ, продавати, торговля, торговое, цена, чоповое* і інш.

Каля 60% спрадвечнай гандлёвай тэрміналогіі складаюць тэрміны, утвораныя спосабам тэрміналагізацыі старабеларускіх слоў, іншымі спосабамі тэрмінаўтварэння і стварэння неалагізмаў на старабеларускай моўнай аснове ў перыяд раздзельнага існавання ўсходнеславянскіх моў. Значная частка гэтых тэрмінаў з прычыны гістарычных умоў з'яўляецца агульнай з украінскай, польскай, чэшскай гандлёвай тэрміналогіяй 15–17 стст.: *гандель, глякъ, жалезнік, клетка, крама, коштъ, купованне, речи, рынок, стадола, танный, уздоймом, уторговати* і г.д.

Некаторыя тэрміны, якія ўзніклі ў 15–17 стст., з'яўляюцца састаўнымі, пераважна двухслоўнымі, у якіх адно слова – тэрмін агульнаўсходнеславянскага перыяду, другое надае гэтаму тэрміну новае, больш канкрэтнае значэнне: *вага Полацкая, вес Мстиславский, мера Берестейская* і г.д.

Значную частку старабеларускай гандлёвай тэрміналогіі складаюць запазычанні. Многія з іх увайшлі ў старабеларускую тэрміналогію з рускай мовы або праз яе пасрэдніцтва: *алтын, аршин, деньга, копейка, половинка,* з польскай або праз яе пасрэдніцтва: *барыл, дукат, кварта, кесяк, левик, монета* і інш. Некаторыя тэрміны былі запазычаны з літоўскай мовы: *кентвиртайня, воск* (вагавая адзінка), *пундель;* з нямецкай: *кипа, лаштъ, тузинъ, центноръ* і інш.

Даволі часта ў гандлёвай тэрміналогіі 15–17 стст. сустракаюцца сінанімічныя рады або пары, якія складаюцца са слоў агульнаўсходнеславянскага перыяду, старабеларускіх і запазычаных: *торгъ – купецтво – гандель; товаръ – речи – рухлядь; купля – торгъ – крамъ; агуломъ – уздаймомъ* і інш.

## 11.3.3. СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

У цэлым тэрміналогія, якая выкарыстоўвалася ў старабеларускай мове для намінацыі зямельных уладанняў; прылад апрацоўкі зямлі, разнастайных працэсаў сяўбы і ўборкі ўраджаю; асоб, занятых у сельскай гаспадарцы і г.д., з'яўляецца агульнай для ўсходнеславянскіх моў: *борона, жито, косити, истрава, копа, молотити, овесъ, аранье, сеянье, снопъ, ярица* і інш.

Колькасць уласна беларускіх інавацый *(ботвинье, збожье, зерне, насенье, стайня)* тут значна меншая ў параўнанні з грамадска-палітычнай і гандлёвай тэрміналогіяй. Запазычанні старабеларускага перыяду ў сельскагаспадарчай тэрміналогіі адзінкавыя.

У параўнанні з іншымі галінамі сельскагаспадарчая тэрміналогія характарызуецца асаблівa вялікай ступенню варыятыўнасці і сінанімічнасці. У значнай меры гэта можна растлумачыць тым, што ў сінанімічных радах гэтай тэрміналогіі знайшлі адлюстраванне працэсы ўзаемапранікнення (у выніку практычнага выкарыстання) элементаў лексікі старажытнарускай, жывой беларускай, польскай моў і разнастайных мясцовых гаворак, напрыклад: *служба, потяглъ, потугъ, подымье* – для абазначэння цяглавага сялянскага землеўладання; *дворище, подворье, избище, селище, садиба* – для абазначэння месца размяшчэння сялянскай хаты з гаспадарчымі прыбудовамі. Сустракаюцца пары, якія складаюцца з тэрміна ўсходнеславянскага паходжання і паланізма: *именье – маёнтокъ.*

## 11.3.4. ПРОМЫСЛАВАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

Тэматычна гэта тэрміналогія пчалярства (бортніцтва), рыбалоўства, палявання, салеварэння, вытворчасці будаўнічых, бытавых і транспартных матэрыялаў (гонты, клёпак для бочак, палазоў, дуг, дзёгцю, смалы) і г.д. Аснову промыславай тэрміналогіі складаюць тэрміны старажытнарускага паходжання, якія служаць для абазначэння розных працэсаў, матэрыялаў, прылад, прадуктаў працы і асоб, звязаных з пералічанымі промысламі беларускага народа: *бобровище, воскъ, долото, дубрава, ловъ (звериный, пташный, рыбный), лубъ, лукъ, лыко, охотникъ, сеть, стрелецъ, стругъ* і г.д.

Значную частку промыславай тэрміналогіі складаюць уласна беларускія тэрміны: *копылъ, кубелъ, лезиво, лесничий, обрубъ, оступъ, пчельница, свепеть* і г.д. Некаторыя з іх вядомы ў польскай мове: *затока, лезиво, пушча, рубеж* і г.д.

Нешматлікія запазычанні з нямецкай, французскай, шведскай і іншых моў пранікл ў старабеларускую мову праз польскую, літоўскую і рускую мовы-пасрэдніцы: *барсук, бровар, горностай, карпъ, плотка, сагайдакъ, шатеръ* і інш.

## 11.3.5. ВАЕННАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

Знаходзячыся ў геаграфічным цэнтры Еўропы, насельніцтва Беларусі прымала ўдзел у важнейшых ваенных падзеях 14–18 стст. Таму цалкам заканамерна, што ў старабеларускай мове сфарміравалася шырокая тэматычная група лексікі, якая адлюстроўвала даволі высокі ўзровень развіцця ваеннай справы таго часу. Ядром гэтай тэматычнай групы з'яўляецца ваенная тэрміналогія, прадстаўленая пераважна намінацыямі зброі, войска, удзельнікаў узброенай барацьбы.

Да ліку найбольш старажытных адносяцца тэрміны, якія ўзніклі ў агульнаславянскую эпоху. З семантычнага боку яны вылучаюцца агульным характарам абазначаемых паняццяў і рэалій *(войско, оружие)*, з боку моўнага афармлення – элементам старaславянскай мовы: *древо, дружина, сторожа.*

Найбольш значную ў колькасных адносінах частку ваеннай тэрміналогіі старабеларускай мовы складаюць тэрміны перыяду ўсходнеславянскага моўнага адзінства, большасць якіх утворана з дапамогай усіх асноўных спосабаў тэрмінаўтварэння (семантычнага, марфалагічнага, сінтаксічнага): *конный, начинье, рукавицы; воевникъ, наручъ, щитоноша; зброя стрельчая, люди ратные, рукавицы панцеровые.*

Другую ў колькасных адносінах частку тэрмінаў перыяду ўсходнеславянскага моўнага адзінства складаюць ваенныя найменні іншамоўнага паходжання, якія ўвайшлі ў старабеларускую мову ў 14–18 стст., "яны складаюць каля 50% разгледжаных аднакампанентных намінацый *(алябарда, гвардия, гетманъ, гусаръ, дракгония, жолнеръ, капалинъ, капитанъ, можсдчеръ, оркганки, пуклеръ, райтаръ, рота, сагайдакъ* і інш.)".

## 11.3.6. МОВАЗНАЎЧАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

Развіццё мовазнаўчай думкі ў Беларусі і выхад першых граматык былі звязаны не толькі з патрэбамі вывучэння царкоўна-славянскай і старабеларускай моў, але і з грамадска-палітычнымі працэсамі таго часу. На тэрыторыі Беларусі як цэнтры ўсходнеславянскай культуры ў 16–17 стст. у процідзеянне езуіцкім калегіям, якія культывавалі лацінскую і польскую мовы, шырока распаўсюдзіліся праваслаўныя так званыя брацкія вучылішчы і школы. Для гэтых вучылішч і школ патрабаваліся

дапаможнікі. З мэтай вывучэння беларускай мовы былі апублікаваны першыя граматыкі і іншая лінгвістычная літаратура.

Першай друкаванай граматыкай ва ўласным сэнсе гэтага слова была надрукаваная ў Вільні ў 1586 г. у друкарні братоў Мамонічаў "Кграматыка словенська языка...", затым у 1596 г. "Граматика словенска" Лаўрэнція Зізанія. У 1619 г. у Еўі (пад Вільняй) выйшла "Грамматика..." Мялеція Сматрыцкага, якая пасля перавыдавалася ў Маскве. Кожная наступная граматыка, якая выдавалася ў гэты перыяд на тэрыторыі Беларусі, усё глыбей адлюстроўвала народную беларускую мову.

Мовазнаўчая тэрміналогія граматык і іншых філалагічных выданняў служыць для намінацыі фанетычных і марфалагічных асаблівасцей мовы, многіх граматычных катэгорый. У значнай колькасці створаная ў той час лінгвістычная тэрміналогія захавалася ва ўсходнеславянскіх мовах да нашага часу. Некаторая частка выкарыстаных у першых граматыках мовазнаўчых тэрмінаў мае лексічнае і марфалагічнае афармленне, уласцівае беларускай мове: *певный* (пэўны), *родный* (родны).

Раннімі элементамі слоўнікавай работы і работы па ўнармаванню і уніфікацыі тэрміналогіі ў старабеларускі перыяд трэба прызнаць выяўленне на палях рукапісных і друкаваных тэкстаў тэрміналагічных разначытанняў *(замудение – закоснение, пребывающая – преходящая, поздобляеть – познаеть* і інш.), сінанімічныя замены цяжка зразумелых для чытача тэрмінаў у царкоўна-славянскіх тэкстах уласна беларускімі тэрмінамі тыпу *вчинокъ, невдяченъ, прикладъ, клопотъ,* каментыраваныя тлумачэнні на беларускай мове асобных беларускіх слоў і выразаў.

Важным этапам развіцця беларускай тэрміналагічнай лексікі з'яўляецца ўведзены Францыскам Скарынай у шырокую практыку кніжнікаў спосаб тлумачэння слоў з дапамогай глос на "боцех" выдадзеных кніг. Сярод скарынінскіх і іншых глос значнае месца займаюць намінацыі жывёльнага і расліннага свету: *горлица – сивоворонка, онагры – лоси, скумни – львенята; пажитъ – былие, рамнумъ – осот;* прыродна-геаграфічныя тэрміны: *хляби – продухи, холмы – узгорки;* царкоўна-культавыя: *кивотъ – скриня, стакти – ладан;* грамадска-палітычныя: *анфипатъ – намесникъ, конвокация – зьездъ, послание – листъ;* назвы адзінак вымярэння: *талантъ – центнеръ, сиклевъ – лотовъ* і інш.

Тлумачэнне "цёмных" слоў-тэрмінаў з дапамогай глос садзейнічала станаўленню аднастайнага моўнага і сэнсавага ўжывання тэрмінаў, расшырэнню старабеларускай тэрміналагічнай лексікі і выконвала ў рамках пэўных тэкстаў асноўныя функцыі слоўнікаў, у тым ліку і тэрміналагічных.

У 17 ст. ў сувязі з выкарыстаннем беларускай мовы як мовы афіцыйнай пісьменнасці і ў якасці сродка знешніх зносін распаўсюджваецца тлумачэнне беларускіх тэрмінаў з дапамогай рускіх глос: *выличать – вычитать, грашовые – денежные, поданья – подати, час – время* і інш.

Побач з расшырэннем тлумачэння слоў з дапамогай глос у канцы 16 ст. з'яўляюцца так званыя "прыточнікі", або гласарыі, якія прыкладаліся да царкоўных кніг. Яны таксама змяшчаюць некаторую колькасць тэрмінаў. Вялікае значэнне для развіцця беларускай тэрміналогіі маюць створаны ў 1596 г. Лаўрэнціем Зізаніем першы славяна-беларускі слоўнік і "Лексіконь словенороссillиcкий..." Памвы Бярынды (1627). Значная частка змешчаных у іх тэрмінаў захавалася да нашага часу і складае ўстойлівае ядро беларускай тэрміналогіі: *байка, будаванье, бытие, вапно, выхованье, грошы, жниво, зброя, истина, мова, небязпечность, особа, оборонца, паша, потреба, пытанье, сведомость, скарбъ, скарга, утискъ, якость* і інш.

Работа па фарміраванню і уніфікацыі тэрміналогіі як самастойны від тэрміналагічнай дзейнасці ў старабеларускай мове не вялася (ва ўсякім разе, такое заключэнне можна зрабіць па тых помніках старабеларускай мовы, якія захаваліся),

хоць сінанімічныя замены тэрмінаў, глосы, "прыточнікі" і слоўнікі таго часу, безумоўна, выконвалі таксама і функцыі ўнармавання і уніфікацыі тэрміналогіі.

К канцу XVI ст. ў сувязі з тым, што Беларусь у выніку Люблінскай уніі аказалася ў складзе Рэчы Паспалітай, пачынаецца актыўны працэс паланізацыі беларускага і ўкраінскага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага, у прыватнасці, адбываецца адкрытая паланізацыя школы. Беларуская мова паступова страчвае сваю поўнафункцыянальнасць, выцясняецца польскай і лацінскай з афіцыйнай сферы. У 17–18 стст. на старабеларускай мове былі выдадзены толькі адзінкавыя навуковыя кнігі (гістарычныя хронікі, астранамічныя зборнікі), хоць, як паказвае аналіз, навуковая тэрміналогія гэтых помнікаў даволі багатая і разнастайная, што сведчыць аб дастаткова высокім узроўні развіцця навукі і асветы на беларускіх землях.

Нягледзячы на даўнія лексікаграфічныя традыцыі беларускіх пісцоў і на наяўнасць развітой тэрміналогіі ў друкаваных выданнях, у 17–18 стст. не было выдадзена спецыяльных тэрміналагічных слоўнікаў па асобных галінах ведаў. Праўда, нельга не адзначыць, што хоць сучасныя беларускія лексікографы выканалі грунтоўную і паслядоўную працу па адшуканню і даследаванню лексікаграфічных крыніц, няма ўпэўненасці ў тым, што зараз выяўлены ўсе помнікі беларускай лексікаграфіі. Па-першае, кнігасховішчы на тэрыторыі Беларусі знішчаліся ў шматлікіх спусташальных войнах мінулых стагоддзяў, а таксама спецыяльна прысланым з Ватыкана ордэнам езуітаў з мэтай паланізацыі беларусаў. Па-другое, некаторыя старабеларускія лексікаграфічныя помнікі маглі загінуць нявыяўленымі ў час апошніх войн падобна да таго, як загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны каштоўны рукапіс шаснаццацітомнага "Беларуска-руска-польскага слоўніка" Я.Ціхінскага.

Ажыццёўленае ў канцы 18 ст. пасля доўгага панавання польскіх феадалаў уз'яднанне Беларусі з Расіяй не садзейнічала развіццю беларускай мовы і асабліва афіцыйна-дзелавога стылю, паколькі беларуская мова была забаронена ў афіцыйна-дзелавой сферы, не выкарыстоўвалася ў грамадскім жыцці.

Пасля доўгага перапынку ў развіцці беларускай тэрміналогіі, абумоўленага названымі вышэй гістарычнымі ўмовамі фарміравання беларускай нацыі, у пачатку 20 ст. адбылося некаторае ажыўленне тэрміналагічнай работы. Пасля выдання царскім урадам так званага закона аб свабодзе друку пачалі актыўную работу шматлікія легальныя беларускія выданні таго часу, і ў прыватнасці выданні навуковага і навукова-папулярнага зместу, якія змяшчалі шмат тэрмінаў. Многія з іх былі распрацаваны самімі аўтарамі выданняў. Навукова-папулярныя публікацыі насілі ў пэўным сэнсе нарматыўны характар, садзейнічалі ўкараненню навуковай тэрміналогіі ў моўную практыку і змяшчалі, такім чынам, некаторыя элементы работы па ўпарадкаванню беларускай тэрміналогіі.

Аўтары навукова-папулярных публікацый пачатку 20 ст. выкарыстоўвалі магчымасці беларускай мовы. Шырока ўжываліся словы ўласна беларускага паходжання: *адліга, высадкі, гародніна, гук, зык, маладзік, маланка, навальніца, надвор'е, паводка, пазыка, праменні, працаўнік, пухліна, сухоты, хвароба;* лексемы ўсходнеславянскага паходжання: *бялок, высыпка, засуха, лячэбнік, кушчэнне, малакроўе, прадажа, пошліна;* агульнаславянскія словы: *абарот, вага, волава, воспа, гаспадар, дзяржава, жэрэла, карысць, почка, суд, торг, урад, ядро.*

Значная частка тэрмінаў, змешчаных у часопісах пачатку 20 ст., замацавалася ў тэрміналагічнай практыцы і ўвайшла ў сучасную беларускую тэрміналогію адпаведных галін навукі, хоць многае і было адкінута з часам, паколькі на старонках гэтых часопісаў нярэдка ўжывалася вузкарэгіянальная лексіка, узнікалі варыянтныя рады *(адліга – атлега; заліва – лівень – улева; маланьня – маланка; суш – суша;*

*шал* – *шаленства* і інш.). Беларуская тэрміналогія пачатку 20 ст. ў параўнанні з папярэднім перыядам у пэўнай меры ўзбагацілася лексічна.

Нягледзячы на некаторае расшырэнне сферы функцыянавання беларускай мовы, яна ўсё яшчэ не адпавядала тым задачам, якія ўзнікалі ў працэсе далейшага развіцця грамадска-палітычнага жыцця, нацыянальнай культуры і літаратуры беларускага народа.

## 11.4. АСАБЛІВАСЦІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ Ў САВЕЦКІ ПЕРЫЯД. СУЧАСНЫ СТАН РАЗВІЦЦЯ

З утварэннем Беларускай ССР сфера функцыянавання беларускай мовы значна расшырылася. Арганізацыя сярэдняй і вышэйшай школы, стварэнне нацыянальнага перыядычнага друку, падрыхтоўка школьных падручнікаў, перакладчыцкая дзейнасць, развіццё навуковых даследаванняў патрабавалі хуткага развіцця і ўдасканалення беларускай мовы, і ў першую чаргу распрацоўкі тэрміналогіі хоць бы ў аб'ёме выкладання на роднай мове ў сярэдняй школе, стварэння праграм, падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў.

У 1919 г. была створана Тэрміналагічная камісія з мінскіх настаўнікаў, якая распрацавала асноўныя тэрміны для беларускай пачатковай школы, надрукаваныя потым у "Праграме беларускай пачатковай школы" на 1919/20 навучальны год.

У лютым 1921 г. у рэспубліцы была створана Навукова-тэрміналагічная камісія, якая працавала спачатку пры Народным камісарыяце асветы, затым, з 1922 г. па 1929 г., – у Інстытуце беларускай культуры, а ў 1929 – 1930 гг. – у Акадэміі навук БССР. Яна правяла вялікую работу па ўпарадкаванню беларускай навуковай тэрміналогіі. У выніку з'явіліся кароткія слоўнікі тэрмінаў па граматыцы, логіцы, арыфметыцы, алгебры, батаніцы, геаметрыі, аналітычнай геаметрыі і трыганаметрыі, апублікаваныя ў "Весніку Народнага камісарыята асветы БССР" і 24 слоўнікі па розных галінах навукі, апублікаваныя ў адпаведных выпусках "Беларускай навуковай тэрміналогіі" на працягу 1922 – 1930 гг.

Побач з слоўнікавай работай і ўзбагачэннем паняційна-тэрміналагічнага фонду значным укладам Навукова-тэрміналагічнай камісіі ў развіццё беларускай тэрміналогіі з'явілася распрацоўка тэарэтычных і практычных пытанняў тэрміналогіі, якія актыўна абмяркоўваліся ў галіновых секцыях камісіі. Частковае адлюстраванне гэтыя пытанні знайшлі ў выдадзенай Інстытутам беларускай культуры ў 1925 г. "Інструкцыі для збору народнага слоўнікава-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове". Створаная ў 1930 г. камісія для складання слоўніка жывой беларускай мовы сумесна з Навукова-тэрміналагічнай камісіяй падрыхтавала "Інструкцыю для збору тэрміналагічнага матэрыялу тэхнічнага характару", якая адлюстроўвала некаторыя тэарэтычныя і практычныя пытанні распрацоўкі тэхнічнай тэрміналогіі.

Перарывістасць працэсу фарміравання беларускай тэрміналагічнай лексікі ў выніку гістарычных умоў развіцця і функцыяніравання беларускай мовы ў 17–18 стст. не толькі выклікала разрыў паміж традыцыямі старабеларускай мовы і традыцыямі сучаснай беларускай мовы і аказала адмоўны ўплыў на пераемнасць развіцця тэрміналагічнай лексікі, а і абумовіла некаторую спецыфіку шляхоў і прынцыпаў развіцця новай беларускай навуковай тэрміналогіі. У значнай ступені гэта спецыфіка знайшла адлюстраванне ў актыўным выкарыстанні дыялектных слоў.

У першыя два паслякастрычніцкія дзесяцігоддзі, калі вялася актыўная распрацоўка паняційна-тэрміналагічнага фонду беларускай навуковай тэрміналогіі, склалася своеасаблівая сітуацыя суадносін розных пластоў лексікі беларускай мовы як крыніц фарміравання навуковай тэрміналогіі. Хоць некаторая частка грамадска-палітычнай, юрыдычнай, гандлёвай, сельскагаспадарчай, прамысловай, моваз наўчай тэрміналогіі, замацаванай у помніках пісьменнасці 14–18 стст., з пэўнымі фанетычнымі і марфалагічнымі зменамі ўвайшла ў новую беларускую тэрміналогію, аднак частка старабеларускай лексікі з прычыны доўгага перапынку ў выкарыстанні была забыта і не магла быць істотнай крыніцай слоўнага матэрыялу. Да таго ж тэрмінаў старабеларускай мовы, якія ўвайшлі ў новую беларускую тэрміналогію *(держава, звычай, здрадца, листъ, пильновать, пригонъ, сварка, сведка, умова; вага, гандель, крама, рынок; ботвинье, жито, збожье, зерне, насенье, оранье, садиба, снопъ, стайня* і інш.), было недастаткова для абазначэння новых паняццяў сацыяльнага і эканамічнага жыцця, навуковых даследаванняў.

Асноўнай крыніцай стварэння новых тэрмінаў з'явілася кніжная лексіка новай беларускай мовы. Аднак многія лексемы новай беларускай мовы характарызаваліся вялікай варыятыўнасцю і не мелі стабільнай практыкі выкарыстання, што ўскладняла іх прымяненне ў якасці тэрмінаў.

Такая ж сітуацыя склалася з размоўнай літаратурнай лексікай як крыніцай фарміравання тэрміналогіі, паколькі гэты пласт лексікі ў новай беларускай мове адрозніваўся вельмі высокай ступенню варыятыўнасці з прычыны слабой унармаванасці толькі ўзнікшай літаратурнай мовы. Аналагічная з'ява наглядалася і з кніжнай лексікай, якая таксама не магла стаць істотнай крыніцай фарміравання навуковай тэрміналогіі.

Усё пералічанае вышэй стала важным аб'ектыўным фактарам актывізацыі дыялектнай лексікі як крыніцы фарміравання беларускай навуковай тэрміналогіі.

Прынцыпы стварэння новых тэрмінаў у адносінах да розных крыніц моўнага матэрыялу распрацоўваліся Навукова-тэрміналагічнай камісіяй і выкладаліся ў прадмовах да выпускаў "Беларускай навуковай тэрміналогіі". Асноўным з гэтых прынцыпаў было выкарыстанне сродкаў беларускай мовы. Першым спосабам рэалізацыі гэтага прынцыпу было ўжыванне існуючай агульнаўжывальнай лексікі беларускай мовы: *апавяданне, гук, зваротак, пытальнік, вапняк, вільгаць, вочка, выкапні, вышыня, бок, глеба, глей, гук, дакладнасць адносная, кірунак руху, ланцуг замкнуты, лік ваганняў, паліва, прамень накіраваны, святло адлюстраванае, святло бачнае, святло простае, сіла знадворная, сіла цяжару, тлушчы, хваля, цела празрыстае, цела пругкае, ціск* і інш. Асноўная частка тэрмінаў, створаных шляхам тэрміналагізацыі агульнаўжывальных слоў, трывала замацавалася практыкай і складае аснову сучаснай беларускай тэрміналогіі. Недаўгавечнымі аказаліся тыя, якія мелі інтэрнацыянальныя адпаведнікі.

Другім спосабам выкарыстання сродкаў беларускай мовы пры стварэнні новых тэрмінаў было шырокае прымяненне на базе нацыянальнай мовы афіксальнага словаўтварэння, аснова- і словаскладання, калькавання, семантычнага перакладу: *агнетрывалы, ахоўны, вейкавае цела, зрух слаёў, голанасенныя, павойныя* (расліны), *паглынальнік, светланосны, светлапераломчая здольнасць, светлачулы, сілавы мнагакутнік, сціскальнасць вадкасцей.*

Члены Навукова-тэрміналагічнай камісіі шырока практыкавалі стварэнне на беларускім лексічным і словаўтваральным матэрыяле тэрмінаў-неалагізмаў, якія ў большасці выпадкаў адпавядалі навуковаму зместу адпаведных паняццяў, словаўтваральным заканамернасцям беларускай мовы і трывала замацаваліся ў сучаснай беларускай тэрміналогіі: *адвольны множнік (произвольный множитель),*

*азначальны сказ (определительное предложенне), даследаванне (исследованае), датычная (касательная), дзель (частное), лічнік (числитель), магутнасць (мощность), назоўнік (знаменатель), прастора (пространство), ступень (степень), суквецце (соцветие), уяўны (воображаемый)* і інш.

Значная частка створаных неалагізмаў не замацавалася ў беларускай тэрміналогіі з прычыны шырокай ужывальнасці ў практыцы інтэрнацыянальных і славянскіх, у першую чаргу рускіх, адпаведнікаў, а таксама з прычыны штучнасці асобных наватвораў і недакладнай адпаведнасці навуковаму зместу абазначаемых паняццяў: *асяродак (цэнтр), красленне (чарчэнне), кругадрэз (сегмент), прастакутнік (прамавугольнік), пэўнік (аксіёма).* Такія тэрміны даваліся ў выпусках "Беларускай навуковай тэрміналогіі" ў якасці варыянтаў (на першым ці на другім месцы) побач з запазычаным тэрмінам і прапаноўваліся на суд грамадскасці і часу. Да запазычання як прынцыпу фарміравання беларускай тэрміналогіі члены Навукова-тэрміналагічнай камісіі адносіліся дыферэнцыравана ў розных галіновых тэрмінасістэмах. Значна большы працэнт запазычаных слоў ў фізіка-тэхнічным, матэматычным і геалагічным выпусках "Беларускай навуковай тэрміналогіі" (40–50%) у параўнанні з сельскагаспадарчым, батанічным і грамадазнаўчым выпускамі (каля 15%). У выпуску фізічнай тэрміналогіі, праект якога быў складзены выкладчыкам Беларускага дзяржаўнага універсітэта А.Ю.Міцкевічам у 1927–1928 гг. (6906 тэрмінаў) на рускай, беларускай і французскай мовах, збліжэнне з інтэрнацыянальнай тэрміналогіяй высоўваецца на першае месца. Без перакладу на беларускую мову даюцца таксама амаль усе запазычаныя тэрміны бухгалтарскай тэрміналогіі: Дыферэнцыраваны падыход укладальнікаў выпускаў да запазычання тэрмінаў у розных галіновых тэрміналогіях цалкам апраўданы як з пункту погляду генетычнага складу, так і з боку тэндэнцый іх развіцця. Так, у батанічнай тэрміналогіі ў адрозненне ад мінералагічнай словы нацыянальнага паходжання складаюць пераважную большасць, што пэўным чынам адбіваецца і на тэндэнцыях развіцця гэтых тэрмінасістэм.

Укладальнікі тэрміналагічных выпускаў адносіліся да запазычвання з асцярожнасцю. Беларуская частка тэрміналагічных выпускаў Навукова-тэрміналагічнай камісіі змяшчае ў сярэднім да 70% тэрмінаў ад колькасці іх у рускай частцы. Значная колькасць іншамоўных тэрмінаў дадзена ў выпусках у якасці варыянтаў да беларускіх, пераважна неалагізмаў.

У агульным падыходзе ўкладальнікаў выпускаў да запазычанняў знайшлі адлюстраванне тэндэнцыі нацыянальнага пурызму, характэрныя для ўсіх народаў у перыяд бурнага фарміравання нацый. Гэтым тлумачыцца і некаторая колькасць неапраўданых неалагізмаў, частковая замена інтэрнацыянальных тэрмінаў нацыянальнымі адпаведнікамі. Аднак, як паказвае аналіз 24 тэрміналагічных выпускаў Навукова-тэрміналагічнай камісіі, імкненне да выкарыстання сродкаў нацыянальнай мовы ў цэлым не мела якіх-небудзь крайнасцей.

Укладальнікі выпускаў кіраваліся таксама прынцыпамі паўнаты і сістэмнасці тэрміналогіі кожнай галіны ведаў, аднак бачылі пры гэтым недасканаласць выдаваемых імі слоўнікаў у паслядоўнасці правядзення гэтых прынцыпаў і звярталіся за дапамогай да зацікаўленых асоб і ўстаноў.

З мэтай дасягнення паўнаты і сістэмнасці публікуемых слоўнікаў была выкарыстана форма двухмоўнага руска-беларускага слоўніка. Руская частка служыла канвой для выяўлення асноўнага паняційнага фонду кожнай галіны ведаў і ў значнай меры выконвала функцыю так званага "папярэдняга слоўніка". З гэтай жа мэтай пры ўкладанні слоўнікаў выкарыстоўвалася таксама ўкраінская і польская тэрміналогіі адпаведных дысцыплін. Складанай праблемай для ўкладальнікаў было

сумяшчэнне прынцыпу паўнаты тэрміналогіі з патрабаваннямі педагагічнай практыкі.

Агульным недахопам усіх 24 выпускаў тэрміналогіі можна назваць недакладнае вызначэнне межаў паняційнага зместу канкрэтных галін ведаў. З гэтай прычыны ў кожным з выпускаў змяшчаецца значная частка тэрмінаў, якія належаць да іншых галін навукі і паўтараюцца ў некалькіх выпусках. Гэты недахоп, відаць, усведамляўся аўтарамі, паколькі кожны наступны выпуск характарызуецца большай навуковай строгасцю ў выбары тэрмінаў.

Абмеркаванне розных пытанняў тэрміналогіі ў 20–30-я гады праводзілася ў асноўным на пасяджэннях галіновых секцый Навукова-тэрміналагічнай камісіі, агульных сходах камісіі, сходах адпаведных аддзелаў Інстытута беларускай культуры і Арфаграфічна-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта. Матэрыялы гэтых абмеркаванняў змешчаны ў "Бюлетэні Інстытута беларускай культуры" і ў "Запісках аддзелаў Беларускай акадэміі навук". Дыскусіі ў друку па пытаннях тэрміналогіі закраналі і пытанні моўнага афармлення асобных тэрмінаў і іх адпаведнасці зместу пэўных паняццяў. Так, змешчаныя ў раздзеле "Культура мовы" палемічныя артыкулы накіраваны на нарматыўна-лінгвістычную ацэнку асобных тэрмінаў і на больш дакладнае размежаванне іх значэнняў. Падобныя дыскусіі праводзіліся таксама на старонках часопісаў "Адраджэнне", "Плуг", на старонках "Прац беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У.І.Леніна пры Народным камісарыяце БССР" і інш. Вынікам гэтых дыскусій была актывізацыя працэсу ўнармавання беларускай тэрміналогіі.

Не ўсе рэкамендаваныя тэрміны былі ў аднолькавай ступені апраўданымі з пункту погляду моўнай практыкі і адпаведнасці зместу пэўных паняццяў, і ўкладальнікі слоўнікаў працавалі над іх удасканаленнем. Так, Слоўнік матэматычнай тэрміналогіі 1922 г., падрыхтаваны Ф.Більдзюкевічам, Д.Бураком, А.Круталевічам, уключаў 901 тэрмін і хоць адпавядаў асноўным патрабаванням сярэдняй і вышэйшай школы, аднак змяшчаў і некаторыя недакладныя тэрміны. Так, змешчаныя ў рускай частцы тэрміны тыпу *развертывание, шестигранник,* утвораныя ад ужывальных у беларускай мове агульнаславянскіх і ўсходнеславянскіх асноў, перакладаліся неалагізмамі *развіненне, шасцёхсценнік.* У той жа час сустракаюцца і асобныя неапраўданыя русізмы, якія потым не замацаваліся ў беларускай тэрміналогіі: *расчот* (сучаснае *разлік).* Асноўная частка такіх тэрмінаў была заменена ў выданні 1927 г., якое ўключала 3550 тэрмінаў і было некалькі дапрацавана Галоўнай тэрміналагічнай камісіяй, членамі якой былі народныя пісьменнікі Беларусі Янка Купала і Якуб Колас. У выданні 1927 г. частка неалагізмаў, прапанаваных у першым выданні, была заменена рускімі тэрмінамі, аформленымі ў адпаведнасці з беларускай арфаграфіяй *(абвод – перыметр, валец – цыліндр, кантаслуп – прызма, простастаўная лінія – перпендыкуляр* і інш.) або больш блізкімі да тэрмінаў рускай мовы *(развіненне – разгортванне,* рус. *развёртывание, шасцёхсценнік – шасціграннік,* рус. *шестигранник).*

Нягледзячы на значную работу па паляпшэнню тэрміналогіі, творчы пошук найбольш адпаведных лексічных, марфалагічных і словаўтваральных сродкаў нацыянальнай мовы, аўтарам другога выдання Слоўніка матэматычнай тэрміналогіі не ўдалося цалкам пазбегнуць некаторых штучных наватвораў і недакладна выкарыстаных беларускіх лексем, асобных русізмаў, якія з цягам часу былі адсеяны выкладчыцкай і тэрміналагічнай практыкай. Асноўная ж частка матэматычных тэрмінаў, прапанаваных у выпусках матэматычнай тэрміналогіі 1922 і 1927 гг., трывала ўвайшла ў школьныя дапаможнікі па матэматыцы, алгебры, геаметрыі і трыганаметрыі: *дадатковы (дополнительный), залежная велічыня (зависящая*

*величина), сапраўднае значэнне (действительное значение), сумножнік (сомножитель)* і інш.

У роўнай меры гэта адносіцца і да распрацоўкі і замацавання ў выкладчыцкай практыцы тэрміналогіі іншых галін ведаў.

Так, у аснову граматычнай тэрміналогіі школ і ВНУ рэспублікі ўвайшлі прапанаваныя Навукова-тэрміналагічнай камісіяй тэрміны *акалічнасць (обстоятельство), будучы час (будущее время), зваротак (обращение), злучок (черточка), канчатак (окончание), клічнік (восклицательный знак), пабочны сказ (побочное предложение), парны лік (двойственное число), пытальнік (вопросительный знак), якасны прыметнік (качественное прилагательное)* і інш.

У аснову батанічнай тэрміналогіі ўвайшлі прапанаваныя камісіяй найбольш распаўсюджаныя ў Беларусі народныя назвы: *ажына (ежевика), багун (багульник), глеба (почва), гронка (кисть), драўніна (древесина), пылок (пыльца), тлушчы (жиры)* і інш.

Некаторая частка трывала замацаваных у падручніках і дапаможніках тэрмінаў з цягам часу перацярпела марфалагічныя і словаўтваральныя змены, якія былі выкліканы або няпоўнай адпаведнасцю прапанаваных тэрмінаў пэўным словаўтваральным мадэлям і граматычным нормам, або агульнымі зменамі ў беларускім правапісе, параўн. некаторыя грамадска-палітычныя тэрміны ў фанетыка-словаўтваральным афармленні 20-х гадоў і ў сучасным: *асыгноўка – асігнаванне, гаспадарскі разлік – гаспадарчы разлік, прывілей – прывілея, тэрміналёгія – тэрміналогія.*

Характэрнай асаблівасцю тэрміналогіі, распрацаванай Навукова-тэрміналагічнай камісіяй, была высокая ступень варыятыўнасці, абумоўленая перш за ўсё падачай часткі запазычаных тэрмінаў разам з беларускімі лексемамі або неалагізмамі. Імкненне ўкладальнікаў тэрміналагічных выпускаў максімальна выкарыстаць беларускія эквіваленты тлумачыцца не толькі элементамі нацыянальнага пурызму, аб чым ужо гаварылася, але і даволі часта тым, што на раннім этапе развіцця навукі ў Беларусі вучоныя і папулярызатары навукі ў сваіх публікацыях навуковага і навукова-папулярнага зместу часта выкарыстоўвалі замест невядомых шырокаму колу чытачоў запазычаных тэрмінаў словы жывой беларускай мовы, а часам і вузкія рэгіяналізмы, якія і былі зафіксаваны ўкладальнікамі выпускаў. Акрамя таго, аналагічнымі матывамі часам кіраваліся і самі ўкладальнікі пры неабходнасці выбару паміж запазычаннем і словам жывой народнай мовы.

Нельга не адзначыць пры гэтым, што фіксацыя ў слоўніках побач з многімі запазычанымі тэрмінамі беларускіх варыянтаў, нягледзячы на негатыўны бок варыятыўнасці ў тэрміналогіі, прынесла потым значную карысць тэрміналагічнай практыцы, незалежна ад таго, які з варыянтаў замацаваўся, паколькі наглядна паказвала матэрыял абедзвюх крыніц фарміравання тэрміналогіі і аддавала яго на суд грамадскасці і часу: *абанемент – перадаплата, аўтаномія – самаўрад, акцыя – пай, акцыянер – пайшчык,ануляваць дагавор – скасаваць дагавор, арбітраж – пасрэдніцтва, бал – ацэнка* і г.д.

У арганізацыйным плане ўсе тэрміналагічныя выпускі ствараліся аднатыпна. Праект кожнага выпуска разглядаўся і дапрацоўваўся на пасяджэннях адпаведнай галіновай секцыі, зацвярджаўся на агульным сходзе Навукова-тэрміналагічнай камісіі, затым абмяркоўваўся і зацвярджаўся на агульным сходзе адпаведнага аддзела Інстытута беларускай культуры і на пасяджэнні Арфаграфічна-тэрміналагічнай камісіі Інстытута. Акрамя таго, усе выпускі выходзілі ў свет як праекты, з мэтай прыцягнуць увагу да распрацоўкі беларускай тэрміналогіі ўсіх зацікаўленых

асоб і адпаведных устаноў, аб чым спецыяльна гаварылася ў прадмовах да выпускаў.

Пасля стварэння Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР была разгорнута работа па ўкладанню больш вузкіх спецыяльных тэрміналагічных слоўнікаў. У 1932 г. выдадзены першы выпуск Слоўніка тэхнічнай тэрміналогіі. Распрацоўку навукова-тэхнічнай тэрміналогіі планавалася прадоўжыць, але, на жаль, пазней работа ў гэтым напрамку спынілася. Менш распрацаванай навукова-тэхнічная тэрміналогія застаецца і зараз у сучаснай беларускай мове.

У сярэдзіне 30-х гадоў была разгорнута актыўная работа над падрыхтоўкай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. У працэсе гэтай работы быў унесены значны ўклад у справу ўнармавання беларускай тэрміналогіі. Толькі на працягу 1935 г. выдадзена 15 выпускаў праектаў энцыклапедычных слоўнікаў па розных галінах навукі агульным аб'ёмам каля 500 друкаваных аркушаў.

У распрацоўку тэрміналогіі розных галін ведаў у 20–30-я гады значны ўклад унеслі народныя пісьменнікі Беларусі Якуб Колас і Янка Купала. Удзел класікаў беларускай мовы ў фарміраванні тэрміналагічнай лексікі – з'ява не выпадковая. Заўважана, што ў распрацоўку тэрміналогій усіх нацыянальных моў народаў СССР у паслякастрычніцкі перыяд унеслі важкі ўклад выдатныя пісьменнікі.

Гаворачы аб ролі Якуба Коласа і Янкі Купалы ў працэсе станаўлення беларускай навуковай тэрміналогіі, можна вылучыць тры асноўныя аспекты дзейнасці вялікіх майстроў слова ў гэтым працэсе:

непасрэдны ўдзел у распрацоўцы тэрміналогіі ў час работы ў Навукова-тэрміналагічнай камісіі;

развіццё тэарэтычных палажэнняў аб узаемадзеянні тэрміналагічнай і агульнаўжывальнай лексікі, аб мастацка-выяўленчых асаблівасцях тэрміналагічнай лексікі;

выкарыстанне навуковай тэрміналогіі ў сваіх творах.

Акрамя распрацоўкі тэрміналогіі гуманітарных навук у якасці членаў гуманітарнай секцыі камісіі, Якуб Колас і Янка Купала як члены Галоўнай тэрміналагічнай камісіі прымалі ўдзел у абмеркаванні і зацвярджэнні тэрміналогіі іншых галін ведаў, якая распрацоўвалася ў прыродазнаўчай, матэматычнай і іншых секцыях. Членамі Галоўнай тэрміналагічнай камісіі складзена і значная частка прадмоў, дзе выкладзены асноўныя прынцыпы распрацоўкі беларускай тэрміналогіі і стварэння новых тэрмінаў.

Вялікае нарматыўнае значэнне ў фарміраванні беларускай тэрміналогіі меў і актыўна прапагандуемы народным пісьменнікам пункт погляду адносна рэгіяналізмаў. Так, характарызуючы мову М. Лынькова па раману "На чырвоных лядах", Якуб Колас адзначаў, што гэты выдатны майстар слова дапускае ўхіленні ад норм чыстаты мовы, ужываючы вузкія правінцыялізмы. Сярод іх ён называе і словы-тэрміны: *скрыпкі (рыбацкая снасць), малачайня (малочная), правіць (кіраваць), таяць (раставаць)* і інш.

У мове сваіх твораў Якуб Колас выкарыстоўваў тэрміналагічную лексіку, па-першае, для апісання саміх з'яў і абставін сацыяльнага, эканамічнага, гаспадарчага жыцця нашай краіны, у якіх жылі і дзейнічалі героі твораў, па-другое, у якасці своеасаблівага мастацкага сродку, з дапамогай якога ён раскрывае вобразы сваіх герояў.

Сярод лексікі, якая выкарыстоўвалася Якубам Коласам для апісання сучаснай яму рэчаіснасці, асобна вылучаецца прадметная лексіка, звязаная з апісаннем жыцця дакастрычніцкай вёскі і побыту сялянства: *навой, нарогі, панарады, пастаўнік, саха, цапільна* і г.д.: *На прыгумент, поруч з садам, Павець з гумном*

*стаяла радам, А пад паветкаю п р ы л а д ы: В а з о к, к а л ё с ы, п а н а р а д ы, Старыя с а н і, в о с і, к о л ы І в у л л я ў некалькі на пчолы, Яшчэ не кончаных; с у- д з і н а, Стары ц а б э р а к, п а ў а с м і н а І розны хлам і лом валяўся, Ад сонца, дожджыку хаваўся – патрэбны рэчы ёсць, вядома.* Прадметная лексіка не з'яўляецца тэрміналагічнай у навуковым сэнсе гэтага паняцця, аднак уласцівыя ёй словаўтваральныя асаблівасці, спецыялізацыя суфіксаў маюць шмат агульнага з тэрміналагічным словаўтварэннем. Таму яе аналіз у мове вялікага майстра слова мае лінгвістычную вартасць для працэсу развіцця і ўнармавання беларускай тэрміналогіі.

Для адлюстравання новай, савецкай рэчаіснасці, бурных сацыяльных, гаспадарчых, эканамічных змен у жыцці рэспублікі і ўсёй краіны Якуб Колас шырока выкарыстоўваў грамадска-палітычныя, эканамічныя, сельскагаспадарчыя тэрміны. Лексічнае, марфалагічнае, словаўтваральнае афармленне гэтых тэрмінаў аказвала непасрэднае ўздзеянне на працэс фарміравання беларускай тэрміналогіі, станаўленне нормы, замацаванне пэўных тэрмінаў у моўнай практыцы: *вышэйшая школа, грамадская работа, краязнаўчы гурток, культурна-асветніцкая праца, меліярацыя, мясцовая ўлада, рабочы клуб, рабфак, хата-чытальня, эканамічнае адраджэнне, электрамашына* і г.д.

У якасці прыкладу прымянення пісьменнікам тэрміналагічнай лексікі як мастацкага сродку прывядзем выкарыстанне ім тэрміна *грамадзянін* у мэтах раскрыцця тыповага вобраза паліцэйскага чыноўніка ў трылогіі "На ростанях": (Маршалак:) – *"Г р а м а д з я н і н" ...звярніце ўвагу – "г р а м а д з я н і н!" Няма, бачыце, больш мужыка, а ёсць толькі "г р а м а д з я н е", якіх крыўдзіць, эксплуатуе... і... якая там яшчэ ў іх тэрміналогія? "Г р а м а д з я н і н" Скірмунт!.. Га? Як вам падабаецца?.. Такая нагласць!"*

Аб выключнай уважлівасці Якуба Коласа да мастацкага слова і глыбокім усведамленні важнасці расшырэння і ўдасканалення слоўніка пісьменніка шляхам выкарыстання лексікі розных моўных стыляў, у тым ліку і навуковага, сведчаць многія яго выказванні. Іменна такая пазіцыя ў адносінах да мастацкага слова і свайго слоўніка дазваляе пісьменніку, на думку Якуба Коласа, пазбегнуць збітых выразаў, даць дакладнае і высокамастацкае адлюстраванне з'яў рэчаіснасці.

Такім чынам, непасрэдны ўдзел класікаў беларускай мовы ў распрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі, тэарэтычнае асэнсаванне і прапаганда розных моўных стыляў і выяўленчых сродкаў, шырокае ўжыванне тэрміналагічнай лексікі ў мастацкіх творах унеслі адчувальны ўклад у фарміраванне новай беларускай навуковай тэрміналогіі на пачатковай стадыі яе фарміравання і ўпарадкавання.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ў рэспубліцы не было агульнага цэнтра распрацоўкі і ўпарадкавання тэрміналагічнай лексікі. Адсутнасць такога цэнтра, а таксама кіруючых дапаможнікаў па тэрміналогіі стала прычынай значнага павелічэння варыятыўнасці: з'явілася мноства варыянтных пар тыпу *шагаючы экскаватар* і *крочачы экскаватар, выключацель* і *выключальнік, скорасць* і *хуткасць* і г.д. Вялікая ступень варыятыўнасці тэрмінаў характэрна для выдадзеных у 1947–1950 гг. брашур і кніг па тэхналогіі металаў, будаўнічай справе, механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Моўная практыка патрабавала ўзнаўлення ў рэспубліцы тэрміналагічнай работы. У 1955 г. у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР быў створаны сектар тэрміналогіі, які функцыянаваў да 1965 г. У гэтым сектары падрыхтаваны і выдадзены "Русско-белорусско-латинский словарь ботанической терминологии" (Мн., 1967), "Русско-белорусский словарь общественно-политической терминологии" (Мн., 1970), створана картатэка і падрыхтаваны "Русско-белорусский словарь сельскохозяйственной терминологии" (рукапіс), картатэка для Руска-

беларускага політэхнічнага слоўніка. Названыя слоўнікі, а таксама "Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў" (Мн., 1962), "Кароткі слоўнік літаратуразнаўчай тэрміналогіі" (Мн., 1963) ствараліся на аснове прынцыпу збліжэння беларускай тэрміналогіі з рускай. З 1965 г. па 1979 г. у рэспубліцы не было спецыяльнага тэрміналагічнага цэнтра.

У 50-я гады пад кіраўніцтвам Я.Коласа была праведзена вялікая навукова-арганізацыйная работа па стварэнню тэрміналагічнай камісіі пры Акадэміі навук БССР, у задачы якой планавалася ўключыць каардынацыйную і нармалізуючую дзейнасць па беларускай тэрміналогіі, а таксама выданне бюлетэня рэкамендуемых тэрмінаў. Смерць Я.Коласа перашкодзіла ажыццяўленню гэтай задумы.

Значную ролю ў распрацоўцы і ўнармаванні беларускай тэрміналогіі ў 60–70-я гады адыграла падрыхтоўка выдання Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, якая вялася сіламі самых розных спецыялістаў рэспублікі. Пры Галоўнай рэдакцыі энцыклапедыі была створана і паспяхова працавала прадстаўнічая Камісія па навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі пад кіраўніцтвам народнага пісьменніка Беларусі К.Крапівы. Камісія правяла вялікую работу па ўпарадкаванню ўжо існуючай тэрміналогіі і па стварэнню шматлікіх новых тэрмінаў. Многія з гэтых тэрмінаў былі ўтвораны шляхам выкарыстання існуючай у беларускай мове лексікі і на аснове законаў беларускага словаўтварэння, напрыклад: *збежнасць, звадкаванне газаў, нацёкі, адбойка, адвображанне* і пад.

У 60–70-я гады некаторыя пытанні беларускай тэрміналогіі знайшлі асвятленне ў радзе дысертацыйных прац па даследаванню пэўных тэматычных аб'яднанняў слоў і асобных галіновых тэрміналогій у сучаснай беларускай мове.

У 1979 г. у рэспубліцы створана Тэрміналагічная камісія Акадэміі навук БССР, якая складалася з дзевяці секцый і ўключала вядучых вучоных, спецыялістаў розных галін ведаў. Асноўнымі задачамі камісіі з'яўляліся: распрацоўка тэарэтычных асноў і методыкі ўпарадкавання беларускай тэрміналогіі; практычнае ўпарадкаванне тэрміналогіі і падрыхтоўка слоўнікаў; сістэматызацыя рускай тэрміналогіі вядучых у рэспубліцы галін навукі і тэхнікі; кансультацыя ўстаноў і арганізацый рэспублікі па пытаннях тэрміналогіі і рэкамендацыі навукова-даследчым і навучальным установам па пытаннях распрацоўкі тэрміналагічнай тэматыкі; падрыхтоўка і выданне тэрміналагічных зборнікаў; абмеркаванне і рэкамендацыя да друку тэрміналагічных выданняў, падрыхтаваных навуковымі ўстановамі рэспублікі; вывучэнне вопыту работы Камітэта навукова-тэхнічнай тэрміналогіі АН СССР і тэрміналагічных органаў рэспублік.

У 80-я гады выдадзеныя новыя лінгвістычныя слоўнікі (Русско-белорусский словарь лингвистических терминов. Мн., 1988; Сцяцко П.У., Гуліцкі М.Ф., Антанюк Л.А. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў. Мн., 1990).

Паколькі тэрміны ўзнікалі і развіваліся на глебе нацыянальнай мовы, то лексічная, словаўтваральная, граматычная, лексіка-семантычная сістэмы мовы ляжаць у аснове кожнай галіновай тэрміналагічнай сістэмы. Патэнцыяльная здольнасць беларускай тэрміналогіі перадаць сучасную сістэму паняццяў розных галін ведаў абумоўлена высокім навукова-тэхнічным патэнцыялам рэспублікі, развітасцю лексічных і граматычных сродкаў беларускай мовы і наяўнасцю пэўнай практыкі выкарыстання беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі ў беларускім перыядычным друку, на беларускім радыё, тэлебачанні, у навуковых выданнях.

Практычная работа над слоўнікамі розных галін ведаў паказвае, што аб'ектыўна-моўных перашкод для распрацоўкі беларускай тэрміналогіі не існуе, аб чым сведчаць і паспяховыя спробы падрыхтоўкі слоўнікаў па асобных галінах тэхнічных ведаў. У той жа час існуючая практыка выкарыстання беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі сведчыць аб тым, што хоць патэнцыяльна гэтая тэрміналогія, як і

тэрмінасістэмы іншых галін ведаў, здольна перадаць усю сістэму навукова-тэхнічных паняццяў на сучасным сусветным узроўні, аднак яна патрабуе значнай работы ў напрамку ўпарадкавання і сістэматызацыі.

Адносна асноўных тэндэнцый сучаснага развіцця беларускай тэрміналогіі можна вылучыць два аспекты, адзін з якіх – уласна лінгвістычны, унутрымоўны, а другі – экстралінгвістычны, пазамоўны.

Сучасныя ўмовы развіцця і функцыянавання беларускай мовы ў сённяшніх абставінах безумоўна аказваюць уздзеянне на абодва аспекты гэтага развіцця.

Адносна ўласна лінгвістычнага, унутрымоўнага аспекту такое ўздзеянне выражаецца ў характары падбору моўных сродкаў выражэння сучасных паняццяў у галіне навукова-тэхнічных ведаў. Аналіз навуковых беларускамоўных публікацый у часопісах "Весці Акадэміі навук Беларусі", "Веснік БДУ", навукова-папулярных артыкулаў у перыядычным друку і інш. паказаў выразную тэндэнцыю выкарыстання нацыянальных моўных сродкаў ва ўмовах выбару паміж запазычаным (часцей рускамоўным) і беларускамоўным варыянтамі.

На ўзроўні словаўтварэння гэта тэндэнцыя знаходзіць выражэнне перш за ўсё ў пашыраным выкарыстанні ўласцівых для беларускай мовы суфіксаў *-ава- (-ява-); -льн-, -н-; -льнік-, -нік-; -к-; -йн-; -чн-, -к-* і інш. замест запазычаных з рускай мовы ці агульных для беларускай і рускай моў суфіксаў *-ірава-; -ем-, -ім-; -цель-; -ушч- (-юшч-), -ашч- (яшч-): дэфармаваць, інтэнсіфікаваць, апрабоўваць, праграмаваць, дубляваць, дэгазаваць, маркаваць; пранікальны, згаральны, распазнавальны, сціскальны, сувымерны, растваральны, расцяжны, падзельны, дапушчальны, злучны, сумяшчальны, незварны, паглынальны, расцякальны, адрознівальны, змешвальны, насычальны, аднаўляльны; акісляльнік, самападавальнік, награвальнік, прарывальнік, засцерагальнік, разбуральнік, глушыльнік, аслабляльнік, праяўляльнік, узмацняльнік; токаправодны, нержавейны; загартоўная (сталь), плаўкі (электрод)* і пад.

На лексічным узроўні тэндэнцыя выкарыстання нацыянальных моўных сродкаў ва ўмовах выбару паміж запазычаным (часцей рускім) і беларускамоўным варыянтамі таксама выразна наглядаецца ў выкарыстанні ўласна беларускай лексікі.

Другая тэндэнцыя сучаснага развіцця беларускай тэрміналогіі, якая выдзелена і прааналізавана вышэй, – гэта тэндэнцыя павелічэння шматслоўных тэрміналагічных намінацый. Названая з'ява характэрна для тэрмінасістэм усіх сучасных нацыянальных моў, хоць яна і ўступае ў супярэчнасць з прынцыпамі эканоміі моўных сродкаў і з патрабаваннямі да тэрміна. Аналіз тэрміналогіі ў мовах з больш працяглай функцыянальнай традыцыяй (англійскай, французскай) паказвае, што свядомая тэрміналагічная работа па стварэнню аднаслоўных тэрмінаў праводзіцца там значна больш паслядоўна і паспяхова, што даволі часта служыць шырокаму распаўсюджванню англамоўных тэрмінаў у іншых мовах.

Аналіз сацыялінгвістычных фактараў выкарыстання беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі паказвае выразную супярэчлівасць у яе сучасным становішчы, якое ў многім абумоўлена папярэднім станам функцыянавання беларускай тэрміналогіі. Гэта супярэчлівасць заключаецца ў тым, што, з аднаго боку, у Беларусі ёсць усе аб'ектыўныя ўмовы для функцыянавання нацыянальнай тэрмінасістэмы, з другога ж боку, у навукова-тэхнічнай сферы выкарыстоўваецца пераважна руская тэрміналогія. Сапраўды, па звестках перапісу 1989 г. беларускую мову лічаць роднай 7094 тыс. жыхароў Беларусі (74,2%), што складае значную як у маштабах рэспублікі, так і ў супастаўленні з насельніцтвам функцыянуючых моў свету колькасць (а па даных перапісу насельніцтва 1999 г. беларускую мову лічаць роднай 7 мільёнаў 30 тысяч чалавек – 82% беларусаў і 18% небеларусаў). Ёсць і іншыя аб'ектыўныя экстралінгвістычныя ўмовы: тэрытарыяльная кампактнасць пражывання насель-

ніцтва, узровень развіцця вытворчых сіл Рэспублікі Беларусь, колькасць нацыянальнай інтэлігенцыі, стан падрыхтоўкі кадраў у вышэйшай школе, навукова-даследчых інстытутах і інш.

Прычынамі пераважнага выкарыстання рускай тэрмінасістэмы ў сферы тэхнічных навук з'явіліся дамінуючая роля рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін у рэспубліках былога СССР; эканамічная і палітычная інтэграцыя рэспублік у былым СССР, функцыянаванне яго па сутнасці як унітарнай дзяржавы; блізкасць беларускай і рускай моў і значна большая развітасць рускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі ў параўнанні з беларускай пачынаючы са стварэння БССР і канчаючы нашым часам і інш.

Да гэтых сацыяльна-гістарычных прычын дадаецца, у прыватнасці, тое, што навукова-тэхнічная галіна ведаў была ў найбольшай ступені арыентавана на запатрабаванні агульнасаюзных міністэрстваў і ведамстваў, і перш за ўсё – на запатрабаванні ваенна-прамысловага комплексу. У такіх умовах беларуская тэрмінасістэма, як і беларуская мова наогул у гэтай сферы, аказалася непатрэбнай, не запатрабаванай інфармацыйнымі і камунікацыйнымі мэтамі.

У сучасных жа ўмовах пераарыентацыі навукова-тэхнічных ведаў на ўнутраныя патрэбы Рэспублікі Беларусь узнікае важнейшы аб'ектыўны сацыялінгвістычны фактар выкарыстання беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі. У той жа час, паколькі Беларусь не можа развівацца ў ізаляцыі ад усёй сусветнай супольнасці, то беларускія даследчыкі павінны ведаць не толькі нацыянальную, а і іншыя мовы і ажыццяўляць шырокі абмен навукова-тэхнічнай інфармацыяй на міжнародным узроўні.

Такім чынам, арыентацыя навукова-тэхнічных ведаў на ўнутраныя патрэбы рэспублікі вызначаецца ў даследаванні як неабходная ўмова, базавы сацыялінгвістычны фактар выкарыстання беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

Да ліку астатніх сацыялінгвістычных фактараў адносяцца: нацыянальна арыентаваная моўная палітыка, высокі ўзровень выкладання беларускай мовы ў сярэдняй і вышэйшай школах, у сістэме падрыхтоўкі навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі, дзяржаўная падтрымка ўстаноў, арганізацый, выдавецтваў, прыватных асоб па рэалізацыі ініцыятыў, накіраваных на выкарыстанне беларускай мовы ў сферы навукова-тэхнічнай галіны ведаў, ВНУ тэхнічнага профілю, у сферы прамысловай вытворчасці і інш. Асабліва важнае месца на першым этапе вырашэння гэтай задачы належыць інфармацыйна-даведачнаму забеспячэнню (слоўнікі, даведнікі, падручнікі, дапаможнікі розных тыпаў і інш.) і ўпарадкаванню беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, якія з'яўляюцца неабходнай умовай выкарыстання тэрміналагічнай сістэмы беларускай мовы на практыцы.

## 11.5. ХАРАКТАРЫСТЫКА СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ ПАВОДЛЕ ПАХОДЖАННЯ

Сучасная беларуская тэрміналогія вельмі разнастайная па паходжанні і спосабах утварэння. Працяглы гістарычны перыяд фарміравання беларускай тэрміналогіі абумоўлівае наяўнасць у яе складзе як старых слоў, зафіксаваных у першых помніках пісьменства *(дзяржава, гандаль, жыта, кошт, насенне, пасол, сведка),* так і новых *(авіяпраполка, адаптометр, астранаўт, аўтаадказчык, аўтатыповы, прываднёнае).* Паколькі на працягу ўсёй гісторыі фарміраванне беларускай тэрміналогіі адбывалася ва ўмовах кантактавання з іншымі мовамі, у тым ліку і неславянскімі, то ў яе склад увайшлі як спрадвечна беларускія словы і лексемы агуль-

наўсходнеславянскага перыяду *(выкапні, гук, прамень, свідраванне, святло, сказ, цеплыня, хуткасць)*, так і запазычанні *(анілін, антыбіётык, антытаксін, дэзадаратар, ішэмія, сінтагма, сінтэз, экстэр'ер).*

Пры ўсёй разнастайнасці крыніц фарміравання беларускай тэрміналогіі ў розныя гістарычныя перыяды развіцця беларускай мовы галоўнай крыніцай стварэння новых тэрмінаў і папаўнення канкрэтных галіновых тэрміналагічных сістэм з'яўляецца лексічная і словаўтваральная сістэма агульналітаратурнай беларускай мовы. Выкарыстанне лексічных сродкаў нацыянальнай мовы пры стварэнні тэрмінаў адбываецца перш за ўсё шляхам ужывання агульналітаратурных слоў у тэрміналагічным значэнні: *грамадства, дрэва, жывёла, зорка, зямля, месяц, расліна.* Адзначаючы, што да ліку агульналітаратурных слоў, якія адначасова з'яўляюцца тэрмінамі ў пэўных тэрміналагічных сістэмах, адносіцца шырокі пласт лексікі, звязаны тэматычна з грамадствам, чалавекам, прыродай, жывёльным і раслінным светам і г.д., сучасныя даследчыкі слушна заўважаюць: "Гэтыя словы належаць да шырокай агульналітаратурнай і вузкай спецыяльнай сферы. Абазначальнае і абазначаючае ў іх у гэтых розных сферах супадаюць. Адрозніваюцца яны аб'ёмам семантыкі, аб'ёмам інфармацыі, тыпам значэння" (гл.: ДАНИЛЕНКО 1977, 23).

З паняційна-інфармацыйнага боку з'ява поліфункцыянальнасці такіх слоў (адначасовага выкарыстання іх у агульналітаратурнай мове і ў мове навукі) характарызуецца даследчыкамі як рэалізацыя розных тыпаў інфармацыі ў залежнасці ад суадносін слова з агульнаўжывальным значэннем або навуковым паняццем. Аб характары ўтварэння агульнаўжывальнага і тэрміналагічнага значэнняў такіх поліфункцыянальных слоў цікавыя назіранні зрабіў А.А.Патабня. Адрозніваючы агульнаўжывальнае і спецыяльнае значэнні слоў *дрэва, прычына* і пад., ён адзначыў, што "пад значэннем слова наогул разумеюцца дзве розныя рэчы, з якіх адну, якая належыць да сферы мовазнаўства, назавем бліжэйшым, другую, якая складае прадмет іншых навук, – далейшым значэннем слова... бліжэйшае значэнне слова н а р о д н а, між тым далейшае ў кожнага рознае па якасці і колькасці элементаў, – а с а б і с т а. З асабістага разумення ўзнікае вышэйшая аб'ектыўнасць думкі, навуковая, але не інакш, як пры пасрэдніцтве народнага разумення, г.зн. мовы і сродкаў, стварэнне якіх абумоўлена стварэннем мовы" (гл.: ПОТЕБНЯ 1958 2, 19–20). Прыведзенае вышэй выказванне А.А.Патабні аб асабістым характары тэрміналагічнага значэння агульнаўжывальных слоў адкрывае, на наш погляд, падыход да асэнсавання адной з важнейшых асаблівасцей гэтага значэння ў параўнанні з агульнаўжывальным. Гэта асаблівасць заключаецца ў індывідуальна-аўтарскім спосабе яго стварэння, у адрозненне ад агульнаўжывальнага значэння, якое ствараецца ўсім народам. Названая асаблівасць з'яўляецца прыватным праяўленнем індывідуальна-аўтарскага характару ўзнікнення тэрмінаў наогул у параўнанні са словамі агульналітаратурнай мовы.

Агульнаўжывальнае значэнне ў параўнанні з тэрміналагічным не заўсёды дакладнае, канкрэтнай ілюстрацыяй чаго могуць служыць прыклады азначэння слоў у агульналітаратурных тлумачальных і спецыяльных слоўніках: *бязважкасць* – уласцівасць і стан бязважкага (*бязважкі* – які мае вельмі нязначную, малую вагу; лёгкі) (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1977 1, 436) і *бязважкасць* – стан механічнай сістэмы, пры якім знешнія сілы і яе рух не выклікаюць узаемнага ціску адных частак сістэмы на другія (гл.: БОЛСУН, РАПАНОВІЧ 1979, 24); *вязкасць* – уласцівасць вязкага (вязкі – клейкі, ліпкі, цягучы) (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1977 1, 599) і *вязкасць* – уласцівасць вадкасці і газаў аказваць супраціўленне перамяшчэнню адной іх часткі адносна іншых (гл.: БОЛСУН, РАПАНОВІЧ 1979, 30); *золата* – хімічны элемент, высакародны метал жоўтага колеру, які валодае вялікай гібкасцю і

цягучасцю (скарыстоўваецца для вырабу каштоўных рэчаў і як мера каштоўнасцей (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1978 2, 509) і *золата* – хімічны элемент, атамны нумар 79, атамная маса 196,97. Метал ярка-жоўтага колеру, шчыльнасць 19 320 кг/м$^3$, тэмпература плаўлення 1064 °С, выкарыстоўваецца як мера каштоўнасцей (гл.: БОЛСУН, РАПАНОВІЧ 1979, 46).

Роля агульнаўжывальных слоў як крыніцы развіцця пэўных тэрміналагічных сістэм значна ўзрастае ў выніку шырокага выкарыстання гэтых слоў як найбольш агульных па значэнні ў складзе тэрміналагічных словазлучэнняў, якія служаць для намінацыі больш вузкіх паняццяў: *вытворчасць – абшчынная в., аграмаджаная в., аўтаматызаваная в., буйная машынная в., буйная сельскагаспадарчая в., валавая в., грамадская в., дамашняя в., дзяржаўная в., дробнатаварная в., духоўная в., збожжавая в., земляробчая в., індустрыяльная в., кааператыўная в., калектыўная в., капіталістычная в., капіталістычная таварная в., мануфактурная в., масавая в., матэрыяльная в., машынная в., многагаліновая в., нацыянальная в., непе-рапынная в., паточная в., патрыярхальная в., прамыслова-кааператыўная в., прамысловая в., простая в., простая таварная в., прыватнакапіталістычная в., рамесная в., ручная в., рэнтабельная в., саўгасная в., сацыялістычная в., сельская в., сельская дамашняя в., сельская фабрычная в., сельскагаспадарчая в., серыйна-паточная в., сукупная в., сумежная в., сусветная в. прадуктаў земляробства, сусветная прамысловая в., сялянская в., сялянская дробнатаварная в., таварная в., фабрычная в., фабрычна-заводская в., феадальная в., цэхавая рамесная в., эканамічная в.; в. абсалютнай прыбавачнай вартасці, в. адноснага перанасялення, в. адноснай прыбавачнай вартасці, в. вартасці, в. духоўных даброт, в. духоўных каштоўнасцей, в. жыццёвых сродкаў, в. і ўзнаўленне, в. капіталу, в. каштоўнасцей, в. на экспарт, в. прадметаў спажывання, в. прыбавачнай вартасці, в. прадукцыі на душу насельніцтва, в. прамысловай прадукцыі, в. сельскагаспадарчай прадукцыі, в. спажывецкіх вартасцей, в. сродкаў вытворчасці, в. сродкаў спажывання, в. сыравіны, в. тавару.*

У сучасным тэрмінаўтварэнні ў адрозненне ад перыяду 20–30-х гадоў агульнаўжывальныя словы, якія адначасова з'яўляюцца тэрмінамі, набываюць тэрміналагічнае значэнне пераважна ў складзе састаўных тэрмінаў. Так, словы *вока, памяць, крок, плынь, струмень* набылі тэрміналагічнае значэнне ў працэсе ўтварэння састаўных тэрмінаў: *вока буры, галаграфічная памяць, крок перыядычных мікраструктур, моўная плынь, плазмавы струмень* і г.д. Утварэнне ж простых (аднаслоўных) тэрмінаў шляхам тэрміналагізацыі агульналітаратурных слоў тыпу *хваля, поле* займае ў сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні нязначнае месца *(шумнасць* фіз. 'узровень акустычных шумаў' і пад.).

Паколькі, як ужо адзначалася, агульнаўжывальныя словы, што адначасова выкарыстоўваюцца і ў функцыі тэрмінаў, тэматычна звязаны пераважна з грамадствам, чалавекам, прыродай, жывёльным і раслінным светам, то найбольшая ўдзельная вага такіх слоў і ўтвораных на іх аснове састаўных тэрмінаў адзначаецца ў навуках грамадскага і прыродазнаўчага профілю, а таксама ў анатамічнай і медыцынскай тэрміналогіі. Для ілюстрацыі дадаткова да прыведзеных вышэй эканамічных тэрмінаў са словам *вытворчасць* у якасці галоўнага кампанента прывядзём зафіксаваныя тэрміналагічныя словазлучэнні глебазнаўства са словам *глеба: г. балотная, г. глыбоказалежная, г. дзярновая звязанапясчаная, г. дзярнова-перагнойна-глеевая, г. дзярнова-глеяватая, г. дрэніраваная, г. забалочаная, г. звязнасупясчаная, г. змытая лугавая, г. намыўная, г. паверхнева-пераўвільготненая, г. падзолістая, г. пераўвільготненая, г. супясчаная, г. сыпкая, г. сярэднепадзоленая, г. тарфяна-глеевая, г. тарфяная сярэднемагутная, г. цемнаколерная, г. шэрая лясная.*

Трэба адзначыць вялікую ўдзельную вагу агульнаўжывальных вытворных слоў, якія адначасова выкарыстоўваюцца ў якасці тэрмінаў, не толькі ў названых вышэй напрамках' навукі. Гэта тэрміны розных галін навукі і тэхнікі з агульным катэгарыяльным значэннем працэсаў, спосабаў дзеяння, напрыклад тэхнічныя тэрміны: *абдзірка, абкочванне, адпал, апрацоўка, выбіўка, выцяжка, даводка, дзяўбанне, загартоўка, заклёпка, зацяжка, зварка, змазка, коўка, нарэзка, прамыўка, свідраванне, струганне, урэзванне*. Аб шырокім выкарыстанні такіх слоў у якасці галоўных кампанентаў тэрміналагічных словазлучэнняў сведчаць шматлікія састаўныя тэрміны. Так, з тэрмінам *апрацоўка* зафіксавана каля 60 тэрміналагічных словазлучэнняў: *абразіўная а., аддзелачная а., аднаінструментальная а., адначасовая а., анодна-механічная а., анодна-хімічная а., вадкасна-абразіўная а., высокатэмпературная тэрмахімічная а., гарачая а., групавая а., даводачная а., дадатковая а. халодным валачэннем, канчатковая а., магнітна-імпульсная а., механічная а., наступная а., нізкатэмпературная а., нізкатэмпературная тэрмамеханічная а., паверхневая а., папярэдняя а., паточная а., паўчыставая а., першасная а., пескаструменная а., такарная а., тэрмамеханічная а., тэрмічная а., ультрагукавая а., фінішная а., халодная а., хіміка-механічная а., чарнавая а., чыставая а., шатравальная а., шротаструменная а., электраімпульсная а., электракантактная а., электрамеханічная а., электратэрмічная а., электрахімічная а., электраэразійная а.; а. аўтаклаўным спосабам, а. без зняцця стружкі, а. без урэзвання, а. выбухам, а. выцісканнем, а. з ахалоджваннем, а. з вузкім допускам, а. зняццем стружкі, а. з падачай, а. з ударам, а. металу рэзаннем, а. металу ціскам, а. начарна, а. начыста, а. рэзаннем, а. спосабам зрушэння, а. халодным валачэннем, а. холадам, а. ціскам* і інш.

Удзельная вага агульнаўжывальных слоў як крыніцы моўнага матэрыялу ў развіцці пэўных тэрміналагічных сістэм значна ўзрастае за кошт адначасовага выкарыстання словаўтваральных магчымасцей гэтых слоў і ўжывання іх у складзе пэўных тэрміналагічных словазлучэнняў. Напрыклад, на семантычнай і словаўтваральнай базе агульнаўжывальнага слова *зорка* названым вышэй камбінаваным спосабам утвараюцца састаўныя астранамічныя тэрміны: *зорнае неба* – сукупнасць нябесных свяцiл, якія відаць на начным небе; *зорнае скопішча* – група зорак, якія звязаны паміж сабой сіламі ўзаемнага прыцягнення і маюць агульнае паходжанне; *зорная велічыня* – пазасістэмная адзінка, мера бачнага бляску зорак, планет і іншых нябесных свяціл; *зорная карта* – адлюстраванне на плоскасці ўчасткаў ці цэлых паўшар'яў зорнага неба на аснове картаграфічных праекцый, градуснай сеткі і адпаведнага маштабу; *зорны дождж* – безліч метэораў, якія падаюць у атмасферу, калі Зямля сутыкаецца з метэорным патокам (гл.: БОЛСУН, РАПАНОВІЧ 1979, 47).

Агульналітаратурныя словы беларускай мовы, якія адначасова ўжываюцца ў якасці тэрмінаў, характарызуюцца шырокімі словаўтваральнымі магчымасцямі, што, таксама як і шырокі ўдзел іх ва ўтварэнні тэрміналагічных словазлучэнняў, спрыяе павелічэнню ўдзельнай вагі лексікі нацыянальнай мовы ў складзе тэрміналогіі: *вага – узважванне; вада – вадазбор, вадаскід, водааддача, водаправоднасць, водапранікальнасць, водаспажыванне, водаўпоры, вадкасць, звадкаванне; звышправаднік – звышправоднасць; вільгаць – вільгацезапасы, вільгацяёмістасць, вільгацямер, вільготнасць; гліна – глінаванне; гук – гукабачанне, гуказапіс, гукаправоднасць, гіпергук, інфрагук, ультрагук; лес – залясенне; прылада – прыладабудаванне; торф – затарфаванасць* (мясцовасці); *ціск – сціскальнасць.*

Значная частка агульналітаратурных слоў, якія выкарыстоўваюцца ў беларускай тэрміналогіі, перацярпела ў працэсе тэрміналагізацыі пэўныя семантычныя пераўтварэнні. Гэта можна растлумачыць як вынік "прыстасавання" слова з шырокім

агульнаўжывальным значэннем для намінацыі вузкаспецыяльнага паняцця. У тых выпадках, калі агульнаўжывальныя словы не зусім дакладна выражалі змест навуковага паняцця, у семантыку гэтых слоў дадаткова ўносіліся лагічна апрацаваныя новыя навуковыя значэнні. "Лінгвістычна гэта вяло да ўскладнення семантычнай структуры слова. Лексічнае значэнне станавілася недастатковым для выражэння зместу навуковага паняцця. Канкрэтызацыя яго (расшырэнне, звужэнне і інш.) фактычна прыводзіла да адпачкавання новага слова са спецыялізаваным значэннем, да з'яўлення семантычнага неалагізма" (гл.: ДАНИЛЕНКО 1977, 24), параўн.: *мноства* – вельмі вялікая колькасць каго-, чаго-небудзь і ў матэматыцы – сукупнасць элементаў, якія вылучаны ў асобную групу па якой-небудзь агульнай прыкмеце. *Тэорыя мностваў* (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1979 3, 170); *пліта* – вялікі плоскі камень або кавалак металу і пад. з плоскай роўнай паверхняй (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1979 3, 275) і *пліта* – вялікія ўчасткі платформы – буйнай адносна ўстойлівай вобласці зямной кары, якой уласцівы павольныя ваганні, часам разломы і расколы – з тоўшчай асадкавых парод і глыбінёй залягання фундамента да 3–5 і больш кіламетраў.

Агульналітаратурнае слова *колер,* якое адносіцца да запазычанняў старабеларускага перыяду, даўно адаптавалася і атрымала семантычнае развіццё ў беларускай мове, мае агульнаўжывальнае значэнне 'светлавы тон чаго-небудзь; афарбоўка' (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1978 2, 708) і больш дакладнае тэрміналагічнае значэнне ў фізіцы – 'уласцівасць цел ці з'яў выклікаць пэўнае зрокавае адчуванне ў адпаведнасці са спектральным саставам і інтэнсіўнасцю святла, якое яны адбіваюць ці выпрамяняюць' (гл.: БОЛСУН, РАПАНОВІЧ 1979, 60). Акрамя гэтага, у больш вузкіх значэннях слова *колер* тэрміналагізавалася ў жывапісе – 'адценне фарбы, густата, ступень яркасці яе' і ў якасці спецыяльнага паняцця ў фарбатэхнічнай вытворчасці – 'падрыхтаваны для афарбоўкі чаго-небудзь састаў фарбы'.

Як ужо адзначалася вышэй, пэўная канкрэтызацыя і звужэнне семантыкі наглядаюцца і ў тых тэрмінах, якія адначасова належаць да агульналітаратурнай сферы *(вада, зорка, зямля, прастора, чалавек).* Фармальнае пацвярджэнне гэтага можна знайсці, у прыватнасці, у параўнанні спалучальнасці і магчымасцей развіцця прамых і пераносных значэнняў адпаведных слоў у агульналітаратурнай і спецыяльнай сферах ужывання.

Важным спосабам выкарыстання лексікі агульналітаратурнай мовы ў стварэнні навуковых тэрмінаў з'яўляецца пераноснае ўжыванне агульналітаратурных слоў: *атамы-с у с е д з і, п а ў г о л а я часціца* і пад.

Перанос значэнняў у стварэнні беларускіх тэрмінаў даволі часта распаўсюджваецца на ўласныя імёны. Так, назвы некаторых марак вырабаў, відаў раслін, парод жывёлы паходзяць ад беларускіх імён і назваў гарадоў: электроннавылічальныя машыны *"Мінск-22", "Мінск-32",* халадзільнікі *"Мінск-5", "Мінск-15",* сорт бульбы *"Паўлінка",* каровы *беларускія чырвоныя,* качкі *жлобінскія.*

Нярэдкія выпадкі ўтварэння тэрмінаў шляхам надання новага значэння ўжо існуючым у іншай галіне ведаў. Так, лінгвістычны тэрмін *поле* стаў шырока выкарыстоўвацца ў апошнія дзесяцігоддзі ў выніку надання новага навуковага зместу аналагічнаму тэрміну, які шырока ўжываецца ў фізіцы, матэматыцы, кібернетыцы; тэхнічны тэрмін *звяно* выкарыстоўваецца таксама ў медыцыне *(звяно вегетатыўнай нервовай сістэмы),* у раслінаводстве *(механізаванае звяно)* і г.д. У некаторых выпадках немагчыма дакладна вызначыць, які з існуючых у розных галінах навукі тэрмінаў асноўны, а які вытворны: *успрымальнасць* у псіхалогіі, медыцыне, ахове раслін і г.д.

Частка новых беларускіх тэрмінаў утвараецца шляхам сэнсавага перакладу і калькавання рускіх тэрмінаў. Пры гэтым выкарыстоўваюцца як лексічныя, так і сло-

ваўтваральныя сродкі беларускай мовы: *гаспадарчы разлік (хозяйственный расчет), хуткасны (скоростной), шчыльны (плотный)* і г.д.

Запазычанні змяшчаюць значную частку інтэрнацыянальнай лексікі. Яны абазначаюць новыя паняцці, з'явы і працэсы ў сацыяльнай, палітычнай, культурнай, дзяржаўна-эканамічнай і іншых сферах развіцця.

Побач з плённымі вынікамі ўзаемадзеяння ўласна беларускіх і іншых славянскіх элементаў у тэрміналогіі ўзнікае і праблема сінаніміі, варыянтнасці. Гэта абумоўлена магчымасцямі дваякага афармлення тэрмінаў, напрыклад: *хуткі* (рэактар) – *быстры* (рэактар), *першасны – пярвічны, дзірвана-падзолісты – дзярнова-падзолісты, узбагачэнне* (глебы) – *абагачэнне* (глебы) і г.д.

Генетычны аналіз тэрмінаў, зроблены на матэрыяле "Руска-беларускага слоўніка грамадска-палітычнай тэрміналогіі", паказвае, што характэрнай асаблівасцю беларускай грамадска-палітычнай тэрміналогіі з'яўляецца высокая ўдзельная вага тэрмінаў, утвораных шляхам злучэння інтэрнацыянальных з беларускімі элементамі: *бюджэтнае кіраванне, ведамаснае кіраванне, канстытуцыйнае кіраванне, рэспубліканскае кіраванне, самадзяржаўнае кіраванне, фінансавае кіраванне, цэнтралізаванае кіраванне.* Гэтыя тэрміны складаюць найбольш шматлікую генетычную групу, каля 46%. Другую па велічыні групу тэрмінаў складаюць беларускія словы і словазлучэнні, якія займаюць 34% ад усяго матэрыялу аналізуемага слоўніка: *кіраванне, кіраўніцтва справамі, кіраванне вытворчасцю, выдаткі на кіраўніцтва; адносны ўзровень развіцця, жыццёвы ўзровень выдаткаў вытворчасці; ураўнаванне грамадзян у правах, ураўняльнае землекарыстанне; умовы працы.* Інтэрнацыянальныя тэрміны складаюць у слоўніку каля 20%.

Высокая ўдзельная вага інтэрнацыяналізмаў у беларускай грамадска-палітычнай тэрміналогіі сведчыць аб актыўнай выпрацоўцы агульнага тэрміналагічнага фонду моў, што адлюстроўвае агульнасць рэалій і паняццяў грамадска-палітычнага і гаспадарча-эканамічнага жыцця народаў.

Тэрміны, якія ўзяты з агульналітаратурнай мовы або запазычаны як гатовыя найменні, складаюць толькі частку тэрміналогіі. Важным спосабам выкарыстання сродкаў нацыянальнай мовы і міжнароднага тэрміналагічнага фонду пры стварэнні новых тэрмінаў выступае таксама словаўтварэнне, і ў першую чаргу суфіксальнае. Значная частка тэрмінаў утвараецца з дапамогай розных суфіксаў ад асноў ужо існуючых тэрмінаў [*сенаж – сенажыраванне, тлушчы – тлустасць* (малака)], некаторая частка – ад асноў агульнаўжывальных слоў з адначасовай тэрміналагізацыяй утвораных слоў: *захавальнасць, паказчык, бачнасць* і інш.

У параўнанні з суфіксацыяй прэфіксацыя распаўсюджана ў сучаснай беларускай тэрміналогіі значна менш. Часцей выкарыстоўваюцца суфіксальна-прэфіксальныя ўтварэнні: *акультурванне, зрэджванне, увільгатненне, узбуйненне.*

## 11.6. ГРАМАТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Агульная граматычная характарыстыка тэрміналогіі абумоўлена знакавай, семіятычнай спецыфікай тэрміна і таму не супадае поўнасцю з граматычнай характарыстыкай звычайнай лексікі агульналітаратурнай мовы. Спецыфіка паняццяў, абазначаных тэрмінамі, заключаецца ў тым, што яны не страчваюць сваёй цэласнасці незалежна ад таго, якімі (простымі ці састаўнымі) сродкамі перадаецца іх змест. Таму, паколькі фармальныя межы асобнага тэрміна знаходзяцца ў прамой залежнасці ад зместавых межаў тэрмінаванага паняцця, "структурныя тыпы

тэрміналагічных назваў поўнасцю не супадаюць з адзінкамі намінацый у агульналітаратурнай мове" (гл.: ДАНИЛЕНКО 1977 36–37). Да ліку традыцыйна вылучаемых структурных тыпаў тэрміналагічных назваў звычайна адносяць тэрміны словы (невытворныя, вытворныя, складаныя, абрэвіятуры) і тэрміны словазлучэнні (свабодныя і несвабодныя). Трэцім структурным тыпам з'яўляюцца слушна вылучаныя ў працы В.П.Даніленка тэрміны сімвалы-словы – асобны "камбінаваны структурны тып тэрміналагічнай намінацыі, у склад якой, побач са слоўнымі знакамі, уваходзяць сімвалы" (гл.: ДАНИЛЕНКО 1977, 37). Пытанне аб тым, якімі часцінамі мовы прадстаўлена тэрміналогія, дыскусійнае. Пункт погляду, згодна з якім тэрміны – гэта перш за ўсё назоўнікі, мае пэўныя падставы як з боку аб'ектыўных даных (пераважная большасць кадыфікаваных у слоўніках, даведніках, стандартах тэрмінаў – назоўнікі), так і з боку тэарэтычнай інтэрпрэтацыі гэтых даных.

Аднак існуюць, на наш погляд, дзве акалічнасці, якія не дазваляюць прызнаць назоўнікі адзіным лексіка-граматычным сродкам тэрміналогіі. Па-першае, намінацыя з'яўляецца носьбітам хоць і найбольш значных, але не выключна ўсіх зместаў у пазнанні рэчаіснасці. Пацвярджэннем апошняга можа быць значная частка тэрмінаў прыметнікаў, напрыклад, у медыцынскай тэрміналогіі: *міжмышачны, падкоркавы, падсардэчны, падслізісты, пазачэраўны, унутрывенны* і інш. Па-другое, назоўнік з яго шырокімі семантычнымі і словаўтваральнымі магчымасцямі ўсё-такі нельга прызнаць вычарпальным сродкам перадачы ўсіх прыкмет якасці, дзеяння, акалічнасці, якія змешчаны ў некаторых навуковых паняццях.

У сучасным моваэнаўстве выразна акрэслілася тэндэнцыя ўключэння ў склад тэрміналогіі розных часцін мовы, што адкрывае новыя перспектыўныя бакі ў вывучэнні асаблівасцей мовы навукі і тэхнікі. Прытрымліваючыся гэтага напрамку ў тэрміналагічных даследаваннях, мы вылучаем у сферы функцыянавання беларускай навуковай тэрміналогіі не толькі тэрміны назоўнікі, якія складаюць, безумоўна, пераважную большасць беларускіх тэрмінаў, але і тэрміны прыметнікі, тэрміны дзеясловы і тэрміны прыслоўі. Пры гэтым трэба, аднак, адзначыць, што тэрміны прыслоўі, колькасць якіх у беларускай тэрміналогіі абмежавана з прычыны нефункцыянальнасці многіх тэрмінаў вузкіх напрамкаў навукі ў беларускай мове, не адлюстроўваюць семантычную спецыфіку беларускай мовы.

Уключэнне ў склад тэрміналогіі не толькі тэрмінаў назоўнікаў, але і тэрмінаў прыметнікаў, тэрмінаў дзеясловаў дазваляе выявіць асаблівасці ўтварэння і функцыянавання іменных, ад'ектыўных і дзеяслоўных тэрмінаў, вызначыць іх словаўтваральныя магчымасці ў якасці вытворных асноў пры стварэнні тэрміналагічных словаўтваральных гнёзд у сістэме беларускай тэрміналогіі.

У беларускай тэрміналогіі ўтварэнне тэрмінаў ажыццяўляецца на базе асноўных афіксаў, набор і размеркаванне якіх абумоўлены асноўнымі заканамернасцямі беларускага словаўтварэння наогул і тэндэнцыяй да спецыялізацыі афіксаў у тэрміналагічнай лексіцы. Некаторыя асаблівасці тэрмінаўтварэння звязаны таксама з адрозненнямі ў прадуктыўнасці пэўных словаўтваральных мадэлей паміж тэрміналагічным і агульналітаратурным словаўтварэннем.

Асаблівасцю сучаснай навуковай тэрміналогіі беларускай мовы, як і тэрміналогій іншых моў, з'яўляецца наяўнасць у яе складзе побач з аднаслоўнымі намінацыямі мноства складаных утварэнняў, якія прадстаўлены трохслоўнымі і больш словазлучэннямі. Ва ўсіх словазлучэннях, якія выражаюць навукова-тэхнічныя паняцці, з'явы, працэсы, назіраецца тэндэнцыя расшырэння галоўнага кампанента. Гэта выклікаецца экстралінгвістычнымі фактарамі, заканамерным імкненнем да больш дэталёвага і канкрэтнага выражэння паняццяў: *аддзелачная апрацоўка адтулін, дзяўбанне спосабам абкаткі, бясцэнтравае шліфаванне з*

*падоўжнай падачай* і інш. Такія тэрміны, натуральна, не зусім зручныя. У мове спецыялістаў яны, як правіла, замяняюцца больш кароткімі, якія, аднак, не заўсёды з'яўляюцца дакладнымі найменнямі адпаведных паняццяў і не могуць быць кадыфікаваны ў якасці тэрмінаў. З гэтай прычыны наглядаюцца разыходжанні ў афармленні навукова-тэхнічных тэрмінаў у слоўніках і ў навуковай літаратуры, з аднаго боку, і функцыянаваннем іх у паўсядзённым маўленні спецыялістаў у вытворчасці, з другога. Гэта ж з'ява наглядаецца і ў адносінах да двухслоўных тэрміналагічных словазлучэнняў тыпу *свідраванне па калібрах (сверление по калибрам), дакладнае шліфаванне (точное шлифование), двухбаковая даводка (двусторонняя доводка), стыкаванне ўнакладку (стыкование внакладку), папярэдняе свідраванне (предварительное сверление)* і інш., якія часта замяняюцца ў маўленні спецыялістаў больш кароткімі, хоць і не зусім дакладнымі аднаслоўнымі намінацыямі, у значнай частцы выпадкаў з дабаўленнем суфіксаў суб'ектыўнай ацэнкі, што надаюць словам стылістычную афарбоўку размоўнасці: *шрубавае змацаванне – шрубоўка (винтовое скрепление – винтовка), падоўжнае фрэзераванне – падоўжка (продольное фрезерование – продолка)* і пад.

Тэндэнцыя замены двухслоўных словазлучэнняў аднаслоўнымі ў маўленні спецыялістаў вызначаецца шмат у чым як імкненнем да кароткасці, так і імкненнем дасягнуць адзінства зместу тэрміна і яго моўнага афармлення, пераадолець абумоўленую знакавай спецыфікай тэрмінаў супярэчнасць паміж раздзельнаафармленасцю, полікампанентнасцю тэрміна ў плане структурнага выражэння і семантычным адзінствам уваходзячых у склад тэрміналагічнага словазлучэння лексічных адзінак у плане зместу. Даследаванне спосабаў утварэння кароткіх варыянтаў тэрмінаў у мове спецыялістаў з'яўляецца, на наш погляд, перспектыўным для распрацоўкі агульных прынцыпаў скарачэння аб'ёму тэрміналагічных словазлучэнняў у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

Тэндэнцыя стварэння кароткіх тэрмінаў замест тэрміналагічных словазлучэнняў знаходзіцца ў рэчышчы агульнай заканамернасці паскарэння сацыяльна-прафесіянальнай дыферэнцыяцыі мовы ў эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

У сферы масавай камунікацыі даволі часта побач з поўнымі тэрміналагічнымі словазлучэннямі сустракаюцца ў якасці сінонімаў кароткія варыянты тэрмінаў з маўлення спецыялістаў. Гэтыя варыянты выкарыстоўваюцца пераважна з мэтай ажывіць выказванне, перадаць каларыт маўлення спецыялістаў.

У сістэме адукацыі функцыянуюць, як правіла, поўныя тэрміналагічныя словазлучэнні, характэрныя для навуковага стылю і кадыфікаваныя ў слоўніках.

Меркаванне аб рознаўзроўневым характары сродкаў выражэння значэнняў, змешчаных у агульналітаратурным слове як граматычнай адзінцы, ужо не выклікае сумнення. У галіне даследавання граматычных і лексіка-граматычных значэнняў яно пацвярджаецца і развіваецца не толькі вынікамі выяўлення і апісання рознаўзроўневых сродкаў выражэння, але і даследаваннем комплексаў гэтых сродкаў у іх узаемадзеянні ў працэсе функцыянавання, а таксама вывучэннем характару семантыка-сінтаксічных функцый элементаў такіх комплексаў (гл.: АНТАНЮК 1981, 85–123).

Больш праблематычным у параўнанні з рознаўзроўневым характарам выражэння граматычных значэнняў працягвае заставацца пытанне аб рознаўзроўневым характары намінацый. Метадалагічна правільнай у гэтых адносінах з'яўляецца, на наш погляд, канцэпцыя, заснаваная на тым, што наяўнасць аналітычнага спосабу выражэння граматычных і лексічных значэнняў лагічна наводзіць на думку аб словаўтваральным аналітызме і што словазлучэнне як раздзельнаафармленае адзінства не толькі можа, але і павінна разглядацца ў функцыянальнай суадноснасці

са словам як дэрывацыйнай адзінкай (таксама як яно разглядаецца ў адпаведнасці са словам як лексічнай і граматычнай адзінкай).

Аналіз тэрміналагічных словазлучэнняў дае шырокі матэрыял, які пацвярджае справядлівасць гэтага меркавання (як вядома, сінтаксічны спосаб тэрмінаўтварэння наогул з'яўляецца адным з асноўных, побач з семантычным і марфалагічным, і значна больш прадуктыўным у тэрміналогіі ў параўнанні з яго прадуктыўнасцю ў агульналітаратурнай мове). Акрамя таго, са шматлікіх тэрміналагічных словазлучэнняў вылучаюцца такія, у якіх азначаемы кампанент (назоўнік) функцыянальна прыраўноўваецца да пэўнага словаўтваральнага суфікса і выконвае, такім чынам, дэрывацыйную функцыю. Гэта ў першую чаргу тэрміналагічныя словазлучэнні прыметнік + назоўнік з агульным значэннем: *рэзальнае прыстасаванне, вымяральны інструмент, выпрамляльнае прыстасаванне, спякальны агрэгат, множыльны апарат, злучальная муфта, рэзальная гарэлка, кантрольнае прыстасаванне.* Азначаемы кампанент гэтага словазлучэння *(прыстасаванне, інструмент, агрэгат, апарат)* функцыянальна супадае са словаўтваральным суфіксам *-льнік,* які ў сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні служыць для выражэння значэння прылады або вытворцы дзеяння.

У многіх выпадках тэрміны словазлучэнні ўказанага тыпу маюць аднаслоўныя эквіваленты з названым суфіксам: *вымяральны інструмент – вымяральнік, выпрамляльнае прыстасаванне – выпрамляльнік, апыляльны агрэгат – апыляльнік, выпаральны агрэгат – выпаральнік.* Аднак у некаторых выпадках утварэнне аднаслоўнага тэрміна, якому аддаецца перавага ў тэрміналогіі на аснове прынцыпу кароткасці, бывае немагчымым з прычыны словаўтваральнай і семантычнай недастатковасці адпаведнага прыметніка.

Дэрывацыйную функцыю выконваюць і азначаемыя назоўнікі з агульным значэннем 'прылада, механізм, прыстасаванне' ў словазлучэннях тыпу *ўпакоўны апарат, сартавальная станцыя*, што пацвярджаецца магчымасцямі іх эліптавання, напрыклад: *упакоўная, сартавальная.*

Да ліку названых словазлучэнняў адносяцца таксама шматлікія словазлучэнні, якія служаць для абазначэння асоб па прафесіі, роду заняткаў, рэчываў па іх прызначэнню або ўласцівасцях і г.д.

Такім чынам, сярод тэрміналагічных словазлучэнняў асобна вылучаюцца словазлучэнні дэрывацыйнага тыпу, сярод якіх мы адрозніваем сінтаксічныя і лексічныя.

Спецыяльнага аналізу заслугоўваюць узнікаючыя ў сувязі з вылучэннем дэрывацыйнага тыпу тэрміналагічных словазлучэнняў пытанні яго суадносін з іншымі тыпамі тэрміналагічных словазлучэнняў. Разгляд словазлучэння як сродку тэрмінаўтварэння патрабуе таксама яго аналізу ў сістэме іншых сродкаў тэрмінаўтварэння.

Актуальнасць даследавання дэрывацыйных тэрміналагічных словазлучэнняў у названых аспектах абумоўлена, з аднаго боку, павелічэннем прадуктыўнасці сінтаксічнага спосабу тэрмінаўтварэння, з другога – узрастальным уплывам мовы навукі на развіццё агульналітаратурнай мовы.

Тэрміналагічныя словазлучэнні з'яўляюцца намінатыўнымі адзінкамі, якія характарызуюцца полікампанентнасцю, раздзельнааформленасцю ў структурных адносінах і семантычным адзінствам у адносінах зместу.

Характэрнай асаблівасцю тэрміналагічнага словазлучэння як адзінкі мовы з'яўляецца пастаянства яго саставу, што ў аднолькавай ступені адносіцца да тэрміналагічных словазлучэнняў, пабудаваных на аснове розных сінтаксічных тыпаў сувязі (дапасавання, кіравання, прымыкання).

Узаемадзеянне аднаслоўных тэрмінаў (звычайна вытворных) і полікампанентных (з двух, трох і больш слоў) дэрывацыйных тэрміналагічных словазлучэнняў падпа-

радкоўваецца агульнамоўным заканамернасцям узаемаадносін сінтэтычных і аналітычных дэрыватаў і спецыфічным заканамернасцям развіцця і функцыянавання тэрміналогіі.

Для больш дыферэнцыяванай характарыстыкі агульнамоўных заканамернасцей узаемадзеяння сінтэтычных і аналітычных дэрыватаў размяжуем іх суадноснасць на стадыі ўтварэння і на стадыі функцыянавання з адначасовым вылучэннем пэўнай спецыфікі кожнай з гэтых стадый у дачыненні да тэрміналагічнай дэрывацыі параўнальна з агульналітаратурнай.

Характарызуючы агульнамоўныя заканамернасці на стадыі ўтварэння дэрыватаў, нельга, напрыклад, зрабіць адназначнае заключэнне, што тэрміны *апыляльнік, выпаральнік, размеркавальнік; аптэкар, бібліятэкар, разьбяр; аналізатар, тарыфікатар; аднаўляльнік* і падобныя ўтвораны афіксальным спосабам шляхам інтэграцыі словазлучэнняў *апыляльны (выпаральны, размеркавальны) механізм; аптэчны (бібліятэчны) работнік, спецыяліст па разьбе; аналізавальнае (каталізавальнае, тарыфікавальнае) прыстасаванне; аднаўляльнае (замацавальнае) рэчыва.*

На падставе выкладзенага вышэй разумення сутнасці словаўтварэння мы не адносім працэс утварэння слоў тэрмінаў тыпу *імправізатар, камплектатар; білецёр, вахцёр; глушыльнік; таможнік, чыгуначнік* і падобных да так званай універбізацыі толькі на той падставе, што існуюць адпаведныя дэрывацыйныя словазлучэнні *імправізавальнае (камплектавальнае) прыстасаванне; работнік білетнай касы, вахценны работнік; глушыльнае прыстасаванне, работнік таможні (чыгункі)* і г.д.

У той жа час нельга пакідаць па-за ўвагай тое, што вытворныя словы даволі часта ўтвараюцца не толькі на фоне ўжо існуючых словазлучэнняў з аналагічным намінатыўным значэннем, а і пад уплывам імкнення надаць больш кампактную форму асобна аформленаму аналітычнаму ўтварэнню, якім з'яўляецца словазлучэнне.

Аналізуючы гэтыя факты, іх агульную аснову і абумоўленасць, трэба шукаць, на наш погляд, у агульнамоўных заканамернасцях намінатыўнай дэрывацыі, якія маюць пэўную спецыфіку ў тэрміналогіі.

Ва ўзаемадзеянні суадносных тэрмінаў слоў і тэрмінаў словазлучэнняў на стадыі ўтварэння знаходзяць выражэнне дзве асноўныя тэндэнцыі: тэндэнцыя да збыткоўнасці (у тэрміналогіі – да максімальнай дакладнасці тэрміна) і тэндэнцыя эканоміі моўных сродкаў. Апошняя атрымала ў словаўтварэнні шматлікія абазначэнні: *кампрэсія, сцісканне, сцяжэнне, апрашчэнне, эліптызацыя, скарачэнне, універбізацыя, інтэграцыя.*

У адрозненне ад агульнамоўнай дэрывацыі, калі назва паняццяў, прадметаў рэчаіснасці даволі часта ўзнікае першапачаткова ў форме полікампанентнай намінацыі апісальнага характару *(дзяўчынка са светлымі валасамі, пяцідзённы навучальны тыдзень),* а пазней, пад уплывам тэндэнцыі эканоміі моўных сродкаў, атрымлівае больш кампактны выгляд *(светлавалосая дзяўчынка, пяцідзёнка),* у тэрмінаўтварэнні суадносны з пэўным дэрывацыйным словазлучэннем аднаслоўны тэрмін пад уздзеяннем аналогіі і спецыялізацыі тэрмінаўтваральных суфіксаў часцей за ўсё адразу ўзнікае і замацоўваецца ў навуковым стылі ў выглядзе аднаслоўнай намінацыі *(вымяральнік, аднаўляльнік).* Такім чынам, у тэрміналагічнай дэрывацыі пры наяўнасці словаўтваральных магчымасцей адпаведных асноў утварэнне аднаслоўных вытворных намінацый адбываецца звычайна без так званага пераходнага перыяду "ад словазлучэння да слова". Пашыральным і ўдакладняльным элементам, якім звычайна ў складзе дэрывацыйных словазлучэнняў выступаюць залежныя кампаненты, у вытворных словах-тэрмінах з'яў-

ляюцца адпаведныя "спецыялізаваныя" суфіксы, што і вырашае праблему матываванасці тэрміна. Так, словаўтваральная структура тэрмінаў з агульным значэннем 'прыстасаванне, механізм' у залежнасці ад характару ўтваральных асноў змяшчае суфіксы *-нік, -льнік, -ар (-яр), -атар (-ятар), -цель;* спецыяльныя суфіксы маюць у тэрміналогіі, як вядома, аднаслоўныя вытворныя намінацыі асоб па прафесіі, роду дзейнасці; намінацыі працэсаў, спосабаў дзеяння і г.д.

На стадыі функцыянавання аднаслоўныя тэрміны часам замяняюцца дэрывацыйнымі словазлучэннямі (часцей у навукова-папулярным і іншых стылях мовы з мэтай большай зразумеласці для неспецыялістаў, а часам і ў навуковым стылі з мэтай большай дакладнасці). Аднак у асноўным пры наяўнасці аднаслоўных дэрыватаў і адпаведных дэрывацыйных словазлучэнняў у сферы функцыяніравання значная перавага аддаецца аднаслоўным тэрмінам, хоць імкненне да аднаслоўнасці намінацыі ажыццяўляецца далёка не заўсёды з прычыны словаўтваральных уласцівасцей слоў, семантычных і стылістычных абмежаванняў, экстралінгвістычных фактараў.

У агульналітаратурнай мове, як справядліва адзначаюць многія даследчыкі, разгорнутыя намінацыі больш частотныя ў параўнанні з аднаслоўнымі з прычыны магчымасці пашырэння, намінатыўнай гібкасці, удакладнення паняццяў, выражэння катэгарыяльных прыкмет галоўнага і залежнага кампанентаў словазлучэнняў, падкрэслівання тых ці іншых элементаў намінацыі.

Больш шырокаму функцыянаванню аднаслоўных тэрмінаў у параўнанні з адпаведнымі дэрывацыйнымі словазлучэннямі садзейнічае побач з адзначанай вышэй спецыялізацыяй суфіксаў значна меншая ступень стылістычнай і семантычнай дыферэнцыяцыі тэрмінаў слоў і тэрмінаў словазлучэнняў у параўнанні з аналагічнымі дэрыватамі ў агульналітаратурнай мове. Так, паралельнае функцыянаванне ў агульналітаратурнай мове вытворных назоўнікаў *багацей, грамацей, лежань, смяльчак, весяльчак, ганарлівец, баязлівец* і дэрывацыйных словазлучэнняў *багаты чалавек, граматны чалавек, лянівы чалавек, смелы чалавек, вясёлы чалавек, ганарлівы чалавек, баязлівы чалавек* часта абумоўлена markрознымі стылістычнымі функцыямі гэтых дэрыватаў. У складзе навуковай тэрміналогіі сітуацыя іншая, паколькі тэрмінам звычайна не ўласціва эмацыянальна-ацэначная характарыстыка намінантаў: *вымяральнік – вымяральны механізм, камплектатар – камплектавальнае прыстасаванне.* Абмежаванні стылістычнага характару тут адзінкавыя: *гандляр – работнік гандлю, газетчык – газетны работнік.* Адзінкавымі з'яўляюцца ў выкарыстанні аднаслоўных тэрмінаў і абмежаванні семантычнага характару, якія звычайна не маюць месца ў навуковым стылі мовы: *бягун* – 'спартсмен, які займаецца бегам', 'чалавек, які бяжыць'.

Важную ролю ў выбары паміж аднаслоўнай намінацыяй і дэрывацыйным словазлучэннем адыгрывае таксама прынцып кароткасці тэрміна ў мэтанакіраванай рабоце па ўпарадкаванню і кадыфікацыі навуковай тэрміналогіі.

Тым не менш агульнапрызнаным фактам з'яўляецца тое, што колькасць тэрмінаў словазлучэнняў у кожнай галіновай тэрміналагічнай сістэме нязменна ўзрастае. Пры гэтым нельга не адзначыць таксама значны колькасны рост шматслоўных тэрмінаў словазлучэнняў, якія даволі часта выклікаюць негатыўную ацэнку лінгвістаў і спецыялістаў пэўных галін ведаў. Так, у сучаснай беларускай тэрміналогіі нафта- і газаздабычы ўжываюцца наступныя шматслоўныя тэрміналагічныя словазлучэнні: *балансір станка канатнага бурэння, барабан лябёдкі буравога каната, барабан для шланга з цэнтральнай намоткай, бомба для вылучэння флюіду пад ціскам, бюрэтка для аналізу газаў, калонкавае бурэнне*

*свідравін вялікага дыяметра, вада для прамывання свідравін ударнага бурэння, умоўная вязкасць прамывальнай вадкасці.*

Павелічэнне аб'ёму тэрміналагічных словазлучэнняў тлумачыцца ў першую чаргу неабходнасцю ўсё больш дыферэнцыяванай намінацыі паняццяў і рэалій: *бурэнне → бурэнне свідравін → бурэнне свідравін вялікага дыяметра → калонкавае бурэнне свідравін вялікага дыяметра* і г.д. У якасці больш поўнай ілюстрацыі магчымых змен аб'ёму тэрміналагічнага словазлучэння ў залежнасці ад дэталізацыі зместу паняцця прывядзем асноўныя словазлучэнні з тэрмінам *бурэнне: б. алмазнае, б. апорнае, б. аўтаматызаванае, б. без цыркуляцыі, б. бяскернавае, б. бяструбнае, б. вібрацыйнае, б. вібравярчальнае, б. геолагаразведвальнае, б. гідраманіторнае, б. гідраўдарнае, б. гарызантальнае, б. глыбокае, б. далатамі, б. дапаможнае, б. доследнае, б. дробнае, б. звышхуткаснае, б. з прамыўкай, б. калонкавае, б. камбінаванае, б. кантрольнае, б. крэмуснае, б. куставае, б. магнітастрыкцыйнае, б. механічнае (станочнае), б. наземнае, б. накіраванае, б. на скляпенні, б. падсолевае, б. пад ціскам, б. пнеўмаўдарнае, б. пошукавае, б. пошукава-разведвальнае, б. разведвальнае, б. ручное, б. рэактыўна-турбіннае, б. рэкагнасціравальнае, б. свідравіны (праходка або праводка свідравіны), б. структурна-пошукавае, б. сухое, б. турбіннае, б. ударнае, б. ударна-вярчальнае, б. ударна-канатнае, б. ударна-штангавае, б. ультрагукавае, б. хуткаснае, б. цвердасплаўнае, б. чыстае, б. шарошачнае, б. шлангакабельнае, б. шнэкавае, б. шротавае, б. шротаструменнае, б. штангавае, б. эксплуатацыйнае, б. электрабурам, б. электрагідраўлічнае, б. эразійнае.*

Пераважная большасць прыведзеных двухслоўных тэрмінаў словазлучэнняў з апорным назоўнікам *бурэнне* ўтворана на аснове азначальнай сувязі паміж галоўным і залежным кампанентамі з мэтай дэталізацыі паняцця "бурэнне". Пры гэтым большая частка такіх словазлучэнняў мае ў якасці залежнага азначальнага кампанента прыметнікі: *бурэнне алмазнае, бурэнне апорнае, бурэнне бяскернавае, бурэнне вібрацыйнае, бурэнне выбухное* і г.д.

Некаторая частка гэтых словазлучэнняў мае ў якасці залежнага азначальнага кампанента складаныя прыметнікі: *бурэнне вібравярчальнае, бурэнне вібраўдарнае, бурэнне магнітастрыкцыйнае, бурэнне рэактыўна-турбіннае, бурэнне шлангакабельнае* і інш.

Прадуктыўным спосабам дыферэнцыяцыі паняццяў з'яўляецца выкарыстанне пры галоўным кампаненце залежных назоўнікаў. Гэтыя словазлучэнні выражаюць азначальна-акалічнасныя адносіны: *бурэнне без цыркуляцыі, бурэнне пад ціскам.*

Частка двухслоўных тэрміналагічных словазлучэнняў з залежным дыферэнцыявальным назоўнікам выражае інструментальныя адносіны: *бурэнне долатамі, бурэнне шротам, бурэнне электрабурам.*

Тэрмінаванае паняцце можа адрознівацца шляхам указання аб'екта і адпаведна ўтварэння двухслоўных словазлучэнняў з аб'ектнымі адносінамі: *бурэнне свідравін, бурэнне накірунку.*

Яшчэ большая ступень дыферэнцыяцыі паняцця "бурэнне" і адпаведна ўскладненне тэрміналагічнага словазлучэння ўзнікае ў выніку неабходнасці адначасовай характарыстыкі яго з якаснага, інструментальнага, аб'ектнага або акалічнаснага аспекту: *бурэнне карціровачнае перасоўнай буравай установкай, бурэнне марское з сушы нахільна накіраванае, бурэнне на нафту пошукавае.*

Цэнтральнае паняцце нафта- і газаздабычы "бурэнне свідравін" атрымала ў сучаснай беларускай тэрміналогіі развіццё з боку ўдакладнення абодвух яго кампанентаў – "бурэнне" і "свідравіна", што знайшло выражэнне ў развіцці не толькі галоўнага (гл. прыведзеныя вышэй прыклады), а і залежнага кампанента: *бурэнне ацэначных свідравін, бурэнне дапаможных свідравін, бурэнне нацiскальных свідравін,*

*бурэнне перадавых свідравін, бурэнне ўшчыльняльных свідравін, бурэнне эксплуатацыйных свідравін.*

Пры больш дыферэнцыраваным азначэнні паняцця "свідравіна" ўзнікае неабходнасць чатырохслоўных словазлучэнняў з ускладненым залежным назоўнікам: *бурэнне свідравін вялікага дыяметра, бурэнне свідравіны з падземнай выпрацоўкі.*

Яшчэ большае ўскладненне тэрміналагічных словалучэнняў узнікае пры адначасовым ускладненні галоўнага і залежнага кампанентаў: *бурэнне эксплуатацыйных свідравін апярэджвальнае, бурэнне перадавых свідравін з прамыўкай.*

Шматслоўныя тэрміналагічныя словазлучэнні, якія набліжаюцца па аб'ёму да дэфініцый тэрмінаў, узнікаюць у выніку шырокай дэталізацыі паняццяў "бурэнне" і "свідравіна": *бурэнне ўшчыльняльных свідравін з прамыўкай глiністым растворам з дабаўкамі, бурэнне эксплуатацыйных свідравін з прадуўкай забою ўвільготненым паветрам, бурэнне свідравін вялікага дыяметра з адборам керна пародаразбуральным інструментам, бурэнне эксплуатацыйных свідравін з мясцовай цыркуляцыяй прамывачнай вадкасці, бурэнне перадавых свідравін перасоўнай буравой устаноўкай.*

У залежнасці ад характару пашырэння тэрміналагічных словазлучэнняў можна вылучыць некаторыя шляхі іх кандэнсацыі. Адзін з такіх шляхоў – сэнсавая кандэнсацыя з апорай на семантычна дамінуючыя кампаненты: *бурэнне алмазнымі каронкамі – алмазнае бурэнне, бурэнне дапаможных свідравін – дапаможнае бурэнне* (па такой тэрмінаўтваральнай мадэлі патэнцыяльна магчыма ўтварэнне двухслоўных словазлучэнняў шляхам элімінацыі слова *свідравіна: бурэнне ацэначных свідравін – ацэначнае бурэнне, бурэнне контурных свідравін – контурнае бурэнне, бурэнне націскальных свідравін – націскальнае бурэнне, бурэнне перадавых свідравін – перадавое бурэнне, бурэнне ўшчыльняльных свідравін – ушчыльняльнае бурэнне, бурэнне эксплуатацыйных свідравін – эксплуатацыйнае бурэнне* і інш.), *бурэнне пад шахтны накірунак – бурэнне накірунку, бурэнне цвердасплаўнымі каронкамі – цвердасплаўнае бурэнне.*

Пэўная ступень кандэнсацыі тэрміналагічных словазлучэнняў можа быць дасягнута шляхам больш шырокага ўжывання прыставачных утварэнняў замест назоўнікаў з прыназоўнікамі: *бурэнне без цыркуляцыі – безцыркуляцыйнае бурэнне.*

Шляхам апоры на семантычна дамінуючыя кампаненты можна ўтвараць семантычна кандэнсаваныя словазлучэнні на аснове чатырохслоўных словазлучэнняў: *бурэнне свідравін вялікага (малога) дыяметра – бурэнне вялікага (малога) дыяметра – вялікае (малое) бурэнне, бурэнне свідравіны з падземнай выпрацоўкі – бурэнне з падземнай выпрацоўкі – падземнае бурэнне.*

Пералічаныя вышэй кандэнсаваныя словазлучэнні, утвораныя па названых мадэлях, захоўваюць дастатковую матываванасць і практычна могуць рэкамендавацца і кадыфікавацца з мэтай кароткасці тэрміналагічных намінацый без дадатковых каментарыяў, тлумачэнняў і ўзгадненняў.

Рад складаных тэрміналагічных словазлучэнняў можа быць кандэнсаваны з некаторай стратай матываванасці: *бурэнне свідравін з разгрузкай снарада – разгрузачнае бурэнне, бурэнне свідравін з нагрузкай снарада – нагрузачнае бурэнне, бурэнне карціроўнае перасоўнай буравой устаноўкай – бурэнне карціроўнае перасоўнае, бурэнне самаходнай буравой устаноўкай – бурэнне самаходнае.*

Адным з прадуктыўных шляхоў кандэнсацыі тэрміналагічных словазлучэнняў з'яўляецца ўжыванне складаных слоў замест двухслоўнага дэтэрмінавальнага кампанента і адначасовай элімінацыі асобных слоў (з апорай на семантычна дамінуючыя кампаненты): *бурэнне з мясцовай цыркуляцыяй прамывачнай вадкасці –*

*мясцова-цыркуляцыйнае бурэнне, бурэнне з мясцовай прамыўкай – мясцова-прамыўное бурэнне, бурэнне з безупыннай прамыўкай – безупынна-прамыўное бурэнне, бурэнне са зваротнай прамыўкай – зваротна-прамыўное бурэнне, бурэнне з прымяненнем калоны ўцяжараных бурыльных труб – калона-ўцяжаранае бурэнне, бурэнне з прадзіманнем забою газам – газапрадзімальнае бурэнне; бурэнне з прадзіманнем забою ўвільготненым паветрам – увільготнена-паветранае прадзімальнае бурэнне, бурэнне з прамыўкай гліністым растворам – глініста-прамыўное бурэнне, бурэнне з прамыўкай гліністым растворам з дабаўкамі для ўмацавання сценак свідравіны – глініста-прамыўное ўмацавальнае бурэнне.*

Пэўная частка шматслоўных тэрмінаў можа быць кандэнсавана шляхам іншай інтэрпрэтацыі: *бурэнне суцэльным забоем – бяскернавае бурэнне, бурэнне з адборам керна – калонкавае бурэнне.*

Адным са спосабаў ажыццяўлення прынцыпу кароткасці тэрмінаў з'яўляецца выкарыстанне прозвішчных намінацый замест матываваных: *бомба для вызначэння пругкасці пароў у нафтапрадуктах – бомба Рэда.*

Пры ўтварэнні складаных прыметнікаў у якасці дэтэрмінавальнага кампанента тэрміналагічных словазлучэнняў узнікаюць пытанні аб межах і ўмовах выкарыстання такіх складаных утварэнняў. Аналіз фактычнага матэрыялу і патрабаванне лагічнасці тэрмінаў сведчаць, што такія ўтварэнні магчымы толькі ў тых выпадках, калі састаўныя часткі складанага прыметніка характарызуюць паняцце з аднаго боку. Няправільнымі з'яўляюцца, напрыклад, тэрміналагічныя словазлучэнні, у якіх адна частка дэтэрмінавальнага складанага прыметніка характарызуе паняцце з якаснага боку, а другая – з боку інструмента выканання дзеяння: *калонкавае бурэнне свідравін вялікага дыяметра – калонкава-вялікае бурэнне*; адна частка характарызуе паняцце з якаснага боку, другая – з боку спосабу дзеяння: *бурэнне ўдарнае хуткаснае – бурэнне ўдарна-хуткаснае*, параўн.: *бурэнне вібраўдарнае, бурэнне вібравярчальнае, бурэнне гідраманіторнае, бурэнне гідраўдарнае, бурэнне пнеўмаўдарнае, бурэнне рэактыўна-турбіннае, бурэнне ўдарна-вярчальнае, бурэнне ўдарна-канатнае, бурэнне ўдарна-штангавае.*

З прычыны немагчымасці ўтварэння складаных прыметнікаў, састаўныя часткі якіх характарызуюць паняцце з розных аспектаў, не могуць быць кандэнсаваны наступныя трохслоўныя тэрміналагічныя словазлучэнні з двума дэтэрмінавальнымі прыметнікамі: *бурэнне пошукавае калонкавае, бурэнне ультрагукавае хуткаснае, бурэнне шнэкавае глыбокае, бурэнне эксплуатацыйнае штангавае, бурэнне электрабурам апярэджвальнае, бурэнне эразійнае пошукавае* і інш.

## 11.7. СЕМАНТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Характарызуючы семантычныя працэсы ў сучаснай тэрміналагічнай лексіцы, у першую чаргу неабходна асобна вылучаць сам факт наяўнасці сінаніміі, мнагазначнасці, аманіміі ў тэрміналогіі і аналіз гэтых працэсаў з боку знакавай сутнасці, развіцця і функцыянавання тэрмінаў як спецыфічных моўных знакаў.

Сучаснаму стану беларускай навуковай тэрміналогіі ўласціва высокая ступень сінаніміі і мнагазначнасці. Характарыстыка семантычных працэсаў сінаніміі, мнагазначнасці, аманіміі з боку развіцця і функцыянавання тэрмінаў у працах айчынных і замежных даследчыкаў змяшчае align рознабаковую і даволі часта супярэчлівую ацэнку.

Можна вылучыць тры аспекты, якія ахопліваюць асноўную праблематыку, звязаную з характарыстыкай даных семантычных працэсаў у тэрміналогіі. Гэта даследаванне працэсаў сінаніміі, аманіміі, мнагазначнасці ў адносінах да: 1) сутнасці і функцыянальнага прызначэння тэрмінаў; 2) развіцця асобных тэрмінаў і пэўных тэрміналагічных сістэм; 3) упарадкавання тэрміналогіі. Пры гэтым неабходна адзначыць, што часта дыскусіі адносна агульнай станоўчай або (часцей) адмоўнай ацэнкі сінаніміі, мнагазначнасці, аманіміі ў тэрміналогіі абумоўлены тым, што аўтары пэўных канцэпцый ацэньваюць гэтыя з'явы з розных пунктаў погляду, адпаведна вылучаным вышэй тром аспектам іх характарыстыкі.

Так, у адносінах да сутнасці і функцыянальнага прызначэння тэрмінаў цалкам правамерным з'яўляецца сцвярджэнне многіх аўтараў аб тым, што калі лексіцы агульналітаратурнай мовы характэрны адна- і мнагазначныя суадносіны знака і абазначаемага, што і знаходзіць выражэнне ў сінаніміі, мнагазначнасці, аманіміі, то тэрміналогіі ўласцівы такія адносіны, пры якіх аднаму знаку адпавядае адно азначаемае. Тэрмінам у адрозненне ад агульнаўжывальных слоў не характэрна ўласнае знакавае развіццё ў працэсе ўжывання, паколькі функцыянальным прызначэннем тэрміналагічных знакавых сістэм з'яўляецца моўнае выражэнне сістэмы прадметна-лагічных адносін паміж паняццямі пэўнай галіны ведаў. Таму адпаведнасць знака і абазначаемага ў тэрміналагічнай сістэме павінна быць адназначнай.

Акрамя таго, згодна з агульнай заканамернасцю знакавых сістэм, якія дзейнічаюць у натуральных мовах, у межах аднаго семантычнага поля знак не паўтараецца, у процілеглым выпадку ён страчвае адну з галоўных сваіх функцый – першасную функцыю адрознення. Таму ў тэрміналагічнай сістэме ў адпаведнасці з гэтай агульнай семантычнай заканамернасцю прынцыпова выключаюцца адносіны аманіміі і полісеміі. У аспекце ж развіцця асобных тэрмінаў і тэрміналагічных сістэм семантычныя працэсы сінаніміі, мнагазначнасці, аманіміі з'яўляюцца аб'ектыўным момантам, неабходным элементам развіцця. Практычна гэта пацвярджаецца ў праведзеным В.П.Даніленка размежаванні дзвюх сфер аналізу тэрміналогіі: сферы фіксацыі (лексікаграфічныя жанры: спецыяльныя слоўнікі, зборнікі рэкамендаваных тэрмінаў, тэрміналагічныя дзяржаўныя стандарты) і сферы функцыянавання (спецыяльная літаратура: артыкулы, манаграфіі, часткова творы навукова-папулярнага характару) (гл.: ДАНИЛЕНКО 1977, 15). Калі ў сферы фіксацыі, якая адлюстроўвае найбольш устойлівыя, абгрунтаваныя тэрміны і азначэнні, сінонімы, мнагазначныя словы, амонімы – з'явы адносна рэдкія, то ў сферы функцыянавання, якая адлюстроўвае рэальнае развіццё тэрмінаў, гэтыя з'явы ўспрымаюцца як аб'ектыўна абумоўленыя.

З мэтай больш дыферэнцыяванага аналізу семантычных працэсаў у аспекце развіцця асобных тэрмінаў і тэрміналагічных сістэм мэтазгодна адрозніваць сінанімію, мнагазначнасць, аманімію, абумоўленыя ўдасканаленнем і развіццём моўнага афармлення тэрмінаў і ўдакладненнем унутранага зместу адпаведных паняццяў. Так, для намінацыі слоўнікаў у розныя гістарычныя перыяды выкарыстоўваліся тэрміны ***глосы, гласарыі, азбукоўнікі, вакабулярыі, лексіконы.*** Зараз гэтыя тэрміны выкарыстоўваюцца ў беларускім мовазнаўстве як назвы слоўнікаў пэўнай гістарычнай эпохі. Аднак некаторыя з іх атрымалі развіццё ў сучаснай тэрміналогіі: тэрмін ***вакабулярый*** сустракаецца як назва слоўнікаў-дадаткаў да хрэстаматый ці асобных частак падручнікаў, а ***лексікон*** – для абазначэння запасу слоў, выразаў якога-небудзь чалавека ці галіны ведаў . Яшчэ адным прыкладам сінаніміі, якая ўзнікла ў выніку развіцця моўнага афармлення тэрмінаў, з'яўляюцца ў лінгвістычнай тэрміналогіі тэрміны ***загаловачнае слова,***

***рэестравае слова, чорнае слова, загаловачная адзінка***, якія служаць для абазначэння моўнай адзінкі, што адкрывае слоўнікавы артыкул. У сучаснай беларусістыцы найбольш трывала замацаваўся тэрмін ***загаловачнае слова***. Аднак у сувязі з выданнем марфемных, граматычных, словаўтваральных, адваротных слоўнікаў, слоўнікаў спалучальнасці, слоўнікаў фразеалагізмаў, слоўнікаў скарачэнняў, слоўнікаў асацыятыўных норм гэты тэрмін стаў недакладным.

Такім чынам, з боку моўнага афармлення прапанаваны тэрмін не з'яўляецца аптымальным, аднак неабходнасць удакладнення існуючага тэрміна ў сувязі з развіццём самога паняцця відавочная. Практыка выкарыстання ў навуковых артыкулах і манаграфіях паказвае актывізацыю тэрміна ***загаловачная адзінка***, што з'яўляецца апраўданым, паколькі ў лінгвістыцы шырока ўжываецца тэрмін ***моўная адзінка*** для абазначэння структурных элементаў мовы розных узроўняў.

Адзначанае вышэй патрабаванне да моўнага афармлення тэрміна, якое можна назваць матываванасцю, не з'яўляецца абсалютным, аднак паколькі тэрмінам мікрасістэмы "слоўнікавы артыкул" традыцыйна ўласціва гэта якасць, то яно стала рашаючым у працэсе практычнага замацавання тэрміна.

Пад матываванасцю мы разумеем у гэтым выпадку не агульнатэарэтычную праблему матываванасці – нематываванасці моўнага знака, прызнаючы, што ёсць матываваныя і нематываваныя намінацыі, а такое праяўленне гэтай з'явы ў тэрміналогіі, пры якім "даны змест паддаецца больш ці менш непасрэднаму суаднясенню з адпаведным выражэннем" (гл.: АХМАНОВА 1969).

З удасканаленнем моўнага афармлення і матываванасці тэрмінаў звязана сінанімія і варыянтнасць беларускіх тэрмінаў розных галін ведаў. Так з'явіліся варыянты *тлушчавая кіслата, тлушчамалочнасць і тлустая кіслата, тлустамалочнасць; полымны фатометр, агністы фатометр, палымяны фатометр; сівец тырчасты і сівец стаячы; унутрычэраўнае развіццё і ўнутрывантробнае развіццё; збожжавы палетак і зерневы палетак; даўгавоўнавая парода* (авечак) *і даўгашэрсная парода* (авечак). На падставе большай матываванасці і дакладнасці перадачы зместу ў якасці нарматыўных слушна рэкамендуюцца першыя кампаненты пералічаных вышэй пар і радоў тэрмінаў. Даволі часта ўдакладненне моўнага афармлення тэрміна цесна звязана з удакладненнем яго месца ў тэрміналагічнай сістэме, г.зн. з удакладненнем зместу паняцця. Так, з дзвюх тэрміналагічных намінацый ***складовы націск*** і ***слоўны націск*** у беларускай лінгвістыцы слушна аддаецца перавага другой у сувязі з наяўнасцю мікрасістэмы ***слоўны націск, лагічны націск, фразавы націск***.

Сінанімія, мнагазначнасць, аманімія, выкліканыя зменамі ў моўным афармленні тэрмінаў, як ужо адзначалася ў першай частцы, былі асабліва характэрны для пачатковага этапа фарміравання беларускай тэрміналогіі, калі адбываўся адбор лепшых сродкаў і існавалі многія варыянты.

У сучаснай тэрміналогіі таксама сустракаюцца выпадкі лексічнай варыянтнасці, калі адначасова ўжываюцца беларускія тэрміны або кампаненты тэрмінаў і запазычанні: *неазначальная форма – інфінітыў; родны склон – генітыў; змешванне сігналаў – гетэрадзініраванне сігналаў; аптычнае змяшанне – аптычнае гетэрадзініраванне, укараненне – імплантацыя (нейтронаў), уваходны стан – інстан* і інш., а таксама варыянты, якія ўзніклі на аснове выкарыстання тэрмінаў, утвораных рознымі спосабамі тэрмінаўтварэння: прамога запазычвання, калькавання, стварэння нацыянальнага эквівалента і г.д.

У адрозненне ад слоў агульналітаратурнай мовы тэрміны з розным моўным афармленнем і аднолькавай семантыкай не маюць стылявых і сэнсавых адроз-

ненняў, што дае падставу большасці даследчыкаў адносіць іх да ліку варыянтаў, або дублетаў.

Шматлікія тэрміналагічныя варыянты ў сучаснай беларускай тэрміналогіі ўтвараюцца ў выніку адначасовага выкарыстання больш разгорнутых і кароткіх намінацый. Пры гэтым наглядаецца тэндэнцыя да замацавання кароткіх тэрмінаў: *мезазойская эра – мезазой, палеазойская эра – палеазой, юрскі перыяд – юра, трыясавы перыяд – трыяс, мезазойскі свет – мезасвет; фотапластычны эфект – фотаэфект, фізічная адсорбцыя – фізіясарбацыя, п'езадвайное праменепраламленне – п'езадвупраламленне, фотаэлектрычны эліпсаметр – фотаэліпсаметр, фотаадчувальная кераміка – фотакераміка, фотахімічная актыўнасць – фотаактыўнасць* і інш.

Часам тэндэнцыя да кароткасці тэрміна рэалізуецца некалькімі спосабамі, што знаходзіць выражэнне ў з'яўленні некалькіх варыянтаў кароткіх тэрмінаў: *фотаэлектрарухальная сіла – фотаэрс, фотанапружанне.* Першы кароткі варыянт у прыведзеным прыкладзе ўтвораны шляхам выкарыстання абрэвіяцыі, другі – шляхам падбору больш сціслага лексічнага матэрыялу.

Значнай варыянтнасцю адрозніваюцца сучасныя тэрміны, створаныя па прынцыпу матываванасці. Даволі часта гэта абумоўлена выкарыстаннем сінанімічных слоў для дасягнення такой матываванасці [*фотаадшчапленне – фотаадрыў* (часціцы), *расшчапленне – размацаванне* (дыслакацый, віхраў і г.д.)] або слоў у прамым і пераносным значэнні *(астаткавыя напружанні – "замарожаныя" напружанні).* Гэтыя словы, як відаць з прыкладаў, могуць выкарыстоўвацца як кампаненты складаных або састаўных тэрмінаў. Некаторыя варыянты матывацыі тэрмінаў утвараюцца шляхам выкарыстання антанімічных слоў: *эластааптычны – пругкааптычны, эластадынаміка – пругкадынаміка, эластагідрадынаміка – пругкагідрадынаміка, эластастатыка – пругкастатыка.* Часта варыянты матываваных тэрмінаў узнікаюць на аснове намінацыі розных аспектаў тэрмінаванага паняцця: *імпульсная лампа – лампа-ўспышка* і інш.

Некаторыя тэрміналагічныя варыянтныя пары складаюцца з матываванага і нематываванага тэрміна *(напрамак завёртвання – знак спіральнасці)* або рознай ступені ці аспекту матываванасці *(гібрыдны гетэрапераход – аморфнакрышталічны гетэрапераход* (у паўправадніку), *нейтральны ток – ток нейтральных часціц, начное бачанне – бачанне ў цемры).*

Асноўнае адрозненне працэсаў сінаніміі, мнагазначнасці, аманіміі, абумоўленых зменамі ў моўным афармленні тэрмінаў, ад гэтых працэсаў у агульнаўжывальнай лексіцы заключаецца ў тым, што яны працякаюць у межах, "якія не парушаюць семантычнай пэўнасці тэрміна" (гл.: ДАНИЛЕНКО 1977, 65). Гэта адрозненне, на наш погляд, характарызуе вынікі названых працэсаў у сэнсе іх уздзейнічання на семантыку тэрмінаў. Калі ж звярнуцца да параўнання самой сутнасці і функцыянальнага прызначэння гэтых працэсаў у агульнаўжывальнай лексіцы і тэрміналогіі, то трэба адзначыць у першую чаргу тое, што працэсы аманіміі, сінаніміі, мнагазначнасці ў навуковым тэксце маюць прынцыпова іншыя функцыянальныя характарыстыкі ў параўнанні з іншымі стылямі мовы. Так, у мастацкім стылі яны маюць пэўнае функцыянальнае прызначэнне як фігуры маўлення, мастацкія сродкі. У навуковым жа стылі гэтыя лексіка-семантычныя з'явы не выконваюць такой ролі, паколькі не з'яўляюцца неабходнай прыналежнасцю гэтага стылю мовы і падпарадкоўваюцца асноўнай функцыі навуковага тэксту.

У аспекце функцыянальнай характарыстыкі аманіміі, сінаніміі, мнагазначнасці можна вылучыць два тыпы амонімаў, сінонімаў, мнагазначных тэрмінаў. Да першага тыпу адносяцца тыя, якія ўзніклі на аснове адпаведных працэсаў у агульнаўжывальнай лексіцы ў выніку тэрміналагізацыі гэтай лексікі. Яны змяшчаюць у

сабе пэўныя рэшткавыя характарыстыкі сінаніміі, аманіміі агульналітаратурнай мовы.

Да другога тыпу адносяцца тыя сінонімы, амонімы, мнагазначныя і антанімічныя тэрміны, якія ўзніклі на аснове іншых сродкаў стварэння тэрмінаў (не шляхам тэрміналагізацыі адпаведных слоў і значэнняў слоў агульналітаратурнай мовы). Сінонімы, амонімы, мнагазначныя тэрміны другога тыпу зусім не звязаны ў свядомасці носьбітаў мовы з эмацыянальнасцю і выяўленчасцю, характэрнымі для адпаведных лексіка-семантычных працэсаў агульналітаратурнай мовы, і цалкам падпарадкаваны асноўнай функцыі навуковага стылю – функцыі захавання і перадачы навуковай інфармацыі.

Значная частка сінонімаў, мнагазначных тэрмінаў, амонімаў узнікае ў тэрміналогіі ў працэсе другога аспекту развіцця тэрміналогіі – удакладнення зместу пэўных тэрмінаў у выніку развіцця пэўных галін ведаў. Семантычныя працэсы, звязаныя з гэтым аспектам, звычайна характарызуюцца як спецыфічныя семантычныя працэсы ў тэрміналогіі ў параўнанні з агульнаўжывальнай лексікай. Гэта ў першую чаргу характэрная для навуковых тэрмінаў спецыфічная мнагазначнасць, якая выражаецца у зменах дэфініцыі тэрміна пры пастаянстве самой тэрміналагічнай намінацыі. У гэтай сувязі даследчыкі адзначаюць: "...неабходна ўлічваць вядомае палажэнне дыялектыкі аб рухомым, цякучым, зменлівым характары з'яў рэчаіснасці. Гэта азначае, што і сістэма навуковых паняццяў любой спецыяльнай навукі не з'яўляецца нерухомай і пастаяннай, а па меры далейшага развіцця гэтай навукі павінна змяняцца і пераглядацца" (гл.: СИФОРОВ 1974, 105–106).

Яскравай ілюстрацыяй развіцця зместу тэрмінаў з'яўляюцца некаторыя лінгвістычныя тэрміны. Так, у сучаснай лінгвістыцы актыўна распрацоўваецца напрамак, звязаны з больш шырокім разуменнем паняцця "граматычная катэгорыя". Пры гэтым даследчыкі кіруюцца вельмі слушнай думкай, што для поўнага даследавання граматычных катэгорый неабходна выяўляць і ўлічваць не толькі марфалагічныя формы, але і ўсе моўныя сродкі іх выражэння, якія звязаны з канструктыўнымі асаблівасцямі словазлучэння і сказа. Пры даследаванні марфалагічных (флектыўных) граматычных катэгорый, напрыклад роду, ліку, склону, такі падыход дазваляе зрабіць аналіз гэтых катэгорый як на марфалагічным, так і на сінтаксічным і лексіка-граматычным узроўнях. Да вывучэння ж дыстрыбуцыйна-трансфармацыйных, так званых скрытаграматычных катэгорый, падобны падыход наогул адзіна магчымы, паколькі апісанне з'яў, якія адносяцца да сферы граматыкалізаванай семантыкі, "немагчыма без апоры на фармальныя сродкі, без прыцягнення да аналізу значна больш шырокага кола тыпаў граматычных спосабаў, чым тыя, што звычайна разглядаюцца ў граматычных апісаннях" (гл.: МІХНЕВІЧ 1976, 7). Мэта такога даследавання заключаецца ў тым, каб выявіць сродкі і комплексы сродкаў у беларускай мове, напрыклад, для выражэння станавых значэнняў сумеснасці і ўзаемнасці, выявіць, такім чынам, аналітычныя спосабы выражэння катэгорыі стану ў беларускай мове.

Пры такім падыходзе выкарыстоўваецца прынцып "ад значэння да формы". Гэты падыход найбольш прыдатны пры вылучэнні пэўных значэнняў і ўзвядзенні іх у аб'ект лінгвістычнага аналізу, паколькі форма ў даным выпадку вельмі разнародная, што няцяжка заўважыць нават пры знешнім супастаўленні моўных фактаў. Так, у канструкцыі *Бацька з сынам абнялі адзін аднаго* станавае значэнне ўзаемнасці дзеяння звязана: 1) з марфалагізаваным спалучэннем *адзін аднаго,* якое выступае тут у функцыі афікса *-ца(-ся) (абнялі адзін аднаго – абняліся);* 2) з семантыка-сінтаксічнымі асаблівасцямі дзеяслова *абнімаць,* што абумоўліваюць яго ўжывальнасць са спалучэннем *адзін аднаго,* а таксама ўжывальнасць з афіксам *-ца (-ся);* 3) з наяўнасцю сродкаў выражэння двух выканаўцаў дзеяння (спалучэння назоўнікаў назоўнага і творнага склонаў, якія звязаны прыназоўнікам *з* і з множным лікам дзеяслова); 4) з адушаўлёнасцю ўдзельнікаў дзеяння.

## 11.8. ЗАДАЧЫ ЎПАРАДКАВАННЯ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

У сучасных умовах бурнага развіцця ўсіх галін навукі пытанні ўпарадкавання тэрміналогіі набываюць асаблівую актуальнасць. Вынікам работы па ўпарадкаванню павінна быць ацэнка адпаведнасці тэрміна паняццю, тым патрабаванням, якім павінен задавальняць тэрмін як член пэўнай тэрміналагічнай сістэмы, і стварэнне новых лагічна абгрунтаваных тэрмінаў. Упарадкаванне навуковай тэрміналогіі ўключае два асноўныя аспекты: сістэматызацыю і ўдакладненне навуковых паняццяў і адпаведных тэрмінаў канкрэтных галін навукі (спецыяльна-навуковае, змястоўнае ўпарадкаванне) і сістэматызацыю моўнага афармлення навуковых тэрмінаў (лінгвістычнае ўпарадкаванне). Гэтыя аспекты нельга лічыць абсалютна незалежнымі. Яны звязаны паміж сабой на аснове той агульнай сувязі, якая існуе паміж мысленнем і мовай, паняццем і словам. Так, лінгвістычнае ўпарадкаванне тэрмінаў *абшыванне – абшыўка, азатаванне – азаціроўка, насяканне – насечка, плакіраванне – плакіроўка, плаўленне – плаўка, разбіванне – разбіўка* і іншых звязана са зместам адпаведных паняццяў: тэрміны з суфіксамі *-анн-, -енн-* служаць для абазначэння працэсаў, дзеянняў, а з *-к-* – для абазначэння прадметаў, атрыманых у выніку адпаведных працэсаў, дзеянняў, або інструментаў, прылад, з дапамогай якіх утвараюцца гэтыя працэсы, дзеянні.

Актуальнасць лінгвістычнага ўнармавання тэрміналогіі абумоўлена ўзрастаннем яе ўдзельнай вагі ў складзе беларускай літаратурнай мовы і вялікай важнасцю пытанняў культуры беларускай мовы, у тым ліку і культуры навуковага тэксту ў сучаснай беларусістыцы.

Па-першае, моўнае афармленне навуковых тэрмінаў, якія шырокім патокам уваходзяць у агульналітаратурную мову, адбіваецца на чысціні беларускага маўлення. Па-другое, прадуктыўнасць некаторых мадэляў утварэння тэрмінаў аказвае ўплыў на словаўтваральныя мадэлі ў агульналітаратурнай мове. У якасці прыкладаў апошняга можна прывесці шматлікія ўтварэнні з суфіксам *-асць,* якія шырока выкарыстоўваюцца ў сучасным беларускім словаўтварэнні для абазначэння адцягненых прыкмет *(ажыццявімасць, магчымасць, мэтазгоднасць, неабходнасць, справядлівасць, устойлівасць, уяўнасць)* пад уздзеяннем вялікай прадуктыўнасці такіх утварэнняў у тэрміналагічнай лексіцы *(адзначанасць, бінарнасць, гемагеннасць, дыскрэтнасць, інварыянтнасць, прадметнасць, спантаннасць).* Шырокая ўжывальнасць у тэрміналагічнай лексіцы ўтварэнняў з суфіксамі *-із-*, *-ацы- (гуманізацыя, вітамінізацыя, інтэлектуалізацыя, структурызацыя, хімізацыя), -к- (кампаноўка, мотка, перабіўка, плаўка, прадуўка, фармоўка),* некаторая актывізацыя ўтварэнняў з суфіксам *-уч- (-юч-)* таксама аказваюць актывізавальны ўплыў на прадуктыўнасць такіх утварэнняў у агульналітаратурнай мове, перш за ўсё ў кніжным стылі.

Неабходна адзначыць, што, нягледзячы на хуткі рост паняційна-тэрміналагічнага фонду ў паслякастрычніцкі перыяд і ва ўмовах сучаснай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, звыш 80 гадоў адносна актыўнага развіцця – гэта параўнальна невялікі адрэзак часу для сістэматызацыі нават такога “мабільнага”, у значнай ступені свядома рэгулюемага пласта лексікі, як тэрміналогія. Адрозніваючы сферу фіксацыі (слоўнікі, зборнікі рэкамендаваных тэрмінаў і г.д.) і сферу функцыянавання навуковых тэрмінаў (манаграфіі, артыкулы, тэзісы, рэфераты, даклады, навукова-папулярныя і вучэбныя выданні), адзначым, што ў найбольшай ступені параўнальна кароткі перыяд станаўлення беларускай тэрміналогіі і бурнае развіццё навукі ў эпоху НТР адбіваюцца на моўным афармленні тэрмінаў у сферы

функцыянавання, г.зн. у сферы іх практычнага выкарыстання ў розных жанравастылістычных тэкстах.

Сучаснае развіццё тэрміналогіі, з аднаго боку, патрабуе такіх якасцей культуры навуковага тэксту, як дакладнасць, сцісласць, адназначнасць, лагічнасць, што абумоўлена адэкватным адлюстраваннем у тэрмінах сістэмы паняццяў адпаведных галін навукі, адпаведнасцю тэрміналогіі ўзроўню развіцця сучасных навук. З другога боку, ва ўмовах актыўнага тэрмінаўтварэння беларускім навуковым тэкстам уласціва высокая ступень сінанімічнасці тэрмінаў: *стойкасць – устойлівасць, знешні – вонкавы – знадворны, назапашванне – намнажэнне – накапленне, раскладанне – разлажэнне – распад, утрыманне – змяшчэнне, араматычныя вуглевадароды – водарныя вуглевадароды, адбіццё – адлюстраванне – адвображанне* і г.д.

Не менш частыя выпадкі словаўтваральнай варыятыўнасці: *цепланасіцель – цепланосьбіт, выпрамяненне – выпраменьванне, адкладанні – адклады.*

Нярэдка назіраюцца разыходжанні ў фанетычнай і марфалагічнай адаптацыі запазычаных тэрмінаў: *цітрацыя – цытрацыя – цітраванне – цытраванне – тытрацыя – тытраванне, дыацылаты ртуці – дыяцылаты ртуці, дэфарміраванне – дэфармаванне.*

Актуальнай задачай упарадкавання беларускай тэрміналогіі з'яўляецца вывучэнне практыкі ўжывання тэрмінаў у навуковых тэкстах і публікацыя слоўнікаў рэкамендаваных тэрмінаў. Не страчвае сваёй актуальнасці і праблема папаўнення паняційна-тэрміналагічнага фонду ў адпаведнасці з узроўнем развіцця сучаснай навукі. У многіх галінах навукі праблема папаўнення паняційна-тэрміналагічнага фонду была вырашана да 50–60-х гадоў 20 ст. Да гэтага часу склалася і папаўнялася толькі ў сувязі з новымі зменамі ў сістэме паняццяў грамадска-палітычная, літаратуразнаўчая, лінгвістычная, гістарычная, батанічная тэрміналогія.

Менш развітымі і ўпарадкаванымі былі ў той перыяд і ў значнай меры застаюцца зараз тэхнічная, медыцынская, геалагічная і некаторыя іншыя галіновыя тэрміналогіі.

Таму важнай задачай сучаснай беларускай тэрміналогіі застаецца стварэнне тэрміналагічных слоўнікаў тэхнічных, медыцынскіх, геалагічных і іншых тэрмінаў. Ёсць таксама неабходнасць у папаўненні слоўнікаў, падрыхтаваных у 50–60-я гады.

Істотнай асаблівасцю практычнай арганізацыі работы ў рэспубліцы па ўпарадкаванню тэрміналогіі з'яўляецца тое, што яна патрабуе актыўнага ўдзелу вучоных-спецыялістаў, паколькі якасць упарадкаванай тэрміналогіі ў значнай ступені вызначаецца паўнатой і сістэмнасцю паняццяў пэўных галін навуковых ведаў.

Пры ўпарадкаванні беларускай навуковай тэрміналогіі неабходна абапірацца на некаторыя агульныя прынцыпы, выпрацаваныя тэрміналагічнай тэорыяй. У гэтай сувязі нельга не адзначыць, што ў тэрміналогіі складваецца набор зыходных палажэнняў, якія прымаюцца без доказу, г.зн. свая аксіяматыка, што з'яўляецца важнейшай прыкметай і ўмовай фарміравання яе (тэрміналогіі) як навукі.

Разам з тым ёсць рад спецыфічных аспектаў і задач у стварэнні методыкі распрацоўкі і ўпарадкавання тэрміналогіі ва ўмовах беларуска-рускага білінгвізму. Працэс асваення тэрмінаў грэка-лацінскага, англійскага, французскага, нямецкага паходжання часта адбываецца праз пасрэдніцтва рускай мовы, запазычаныя тэрміны прыходзяць у беларускую мову семантычна засвоенымі рускай мовай і ў такім варыянце замацоўваюцца ў беларускай тэрміналагічнай сістэме.

Некаторая спецыфіка задач і методыкі тэрміналагічнай работы ў Беларусі звязана з рознай ступенню функцыянавання беларускай і рускай моў у асобных

галінах навукі. Калі навуковая літаратура гуманітарнага, біялагічнага, сельскагаспадарчага цыклаў выдаецца ў значнай ступені на беларускай мове, то новая тэрміналогія фізікі, кібернетыкі, матэматыкі, хіміі ствараецца пераважна на рускай мове. У сувязі з гэтым усё больш актуальнай становіцца задача ўпарадкавання рускай тэрміналогіі вядучых галін навукі і тэхнікі ў рэспубліцы. Такая неабходнасць узнікае як з прычыны ўплыву на гэту тэрміналогію ўмоў беларуска-рускага двухмоўя, мясцовых навуковых школ і напрамкаў, так і з прычыны патрэб міжнароднай уніфікацыі навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

Стварэнне новых тэрмінаў як пэўны від лінгвістычнай праектыўнай дзейнасці (тэрмінатворчасць) звязана з улікам трох асноўных фактараў. Гэта – веданне асноўных заканамернасцей словаўтварэння нацыянальнай мовы, улік ступені адпаведнасці пэўнага тэрміна зместу абазначанага паняцця і ўлік патрабаванняў моўнай палітыкі ў галіне тэрміналогіі. Першыя два аспекты даволі часта з'яўляюцца аб'ектам спецыяльнага аналізу ў айчыннай і зарубежнай лінгвістыцы. Апошні ж аспект не толькі не атрымаў пакуль належнага асвятлення, але і не быў сфармуляваны як асобная сацыялінгвістычная праблема, хоць у практыцы тэрмінаўтварэння ён нязменна імпліцытна прысутнічае. Спынімся на ім больш падрабязна.

Даволі часта тэрміны атрымліваюць ацэнку з боку носьбітаў мовы, якія не з'яўляюцца спецыялістамі пэўнай галіны ведаў. Адабрэнне або асуджэнне пэўных тэрмінаў выказваецца звычайна ў такіх выпадках адносна знешняга моўнага афармлення новых тэрмінаў з пункту погляду патрэб камунікацыі, культуры мовы.

Новыя навуковыя тэрміны даволі часта атрымліваюць ацэнку і з боку спецыялістаў, якія характарызуюць пэўныя намінацыі адносна іх адпаведнасці мысліцельна-класіфікацыйнай і навукова-пазнавальнай дзейнасці ў пэўнай навуковай, тэхнічнай або прафесіянальнай галіне.

Размежаванне ацэнак новых тэрмінаў носьбітамі мовы і спецыялістамі пэўнай галіны ведаў неабходна, паколькі даволі часта гэтыя ацэнкі не супадаюць.

Улік ацэнкі новых тэрмінаў шырокай грамадскасцю з'яўляецца актуальнай задачай сацыялінгвістыкі з пункту погляду вызначэння моўнай палітыкі пры стварэнні і кадыфікацыі новых тэрмінаў, тэрміналагічных сістэм і падсістэм.

Цікавыя назіранні і вывады адносна адрозненняў у азначэннях тэрмінаў у залежнасці ад таго, дадзены яны спецыялістамі або неспецыялістамі, прыведзены ў даследаванні балгарскага моваведа М.Паповай (гл.: ПОПОВА 1986, 164–170). Прыняўшы тлумачальныя слоўнікі балгарскай мовы, прызначаныя для шырокага кола чытачоў, за неспецыяльныя крыніцы, а тэрміналагічныя слоўнікі і энцыклапедыі – за спецыяльныя крыніцы, яна вылучыла 96 груп тэрмінаў з 200 па прыкмеце супадзення іх дэнататыўнага значэння і адрознення сігніфікатыўнага значэння ў першых і другіх крыніцах. Такім чынам, выяўляецца факт несупадзення дэфініцый тэрмінаў у спецыяльных і неспецыяльных слоўніках і ставіцца пытанне, ці трэба свядома ў тэрміналагічнай рабоце імкнуцца да розных азначэнняў тэрмінаў у спецыяльных і неспецыяльных выданнях з улікам таго, што тэрмінаўтварэнне не ёсць унутраная справа спецыялістаў, а род сацыяльнай дзейнасці.

Даволі часта на старонках перыядычнага друку шырокай грамадскасцю абмяркоўваюцца пытанні шырокага пранікнення іншамоўных слоў у рускую і ў беларускую мовы, у прыватнасці тэрмінаў. У адносінах да запазычанняў у тэрміналогіі справа выглядае значна больш складана ў параўнанні з агульнамоўнымі запазычаннямі, што звязана з сусветнай тэндэнцыяй інтэрнацыяналізацыі навуковых даследаванняў. Паказальна, што выказванні спецыялістаў і неспецыялістаў аб запазычванні тэрмінаў таксама даволі часта аказваюцца прама

процілеглымі, што ў значнай ступені абумоўлена некаторай “падпарадкаванасцю” першых названаму вышэй працэсу інтэрнацыяналізацыі навукі.

У беларускай тэрміналогіі адносіны да запазычанняў былі даволі выразна сфармуляваны ў 20-я гады 20 ст. Навукова-тэрміналагічнай камісіяй і застаюцца ў прынцыпе такімі ж у сучаснай практыцы. У агульным выглядзе іх можна сфармуляваць наступным чынам: калі пэўны іншамоўны тэрмін шырока выкарыстоўваецца ў сферы функцыянавання і ў блізкароднасных славянскіх мовах, то няма патрэбы ствараць беларускі адпаведнік.

Аднак у практыцы тэрмінаўтварэння пытанне аб запазычванні заўсёды павінна вырашацца з улікам усіх як унутрымоўных, так і экстралінгвістычных фактараў. Як паказвае матэрыял, прычынай выкарыстання спецыялістамі запазычаных тэрмінаў часам бываюць не ўнутрымоўныя фактары і не ўмовы развіцця пэўных даследаванняў. Пераважнае ўжыванне некаторых запазычаных тэрмінаў у рускай і беларускай мовах часта абумоўлена пеяратыўнай афарбоўкай адпаведных рускіх і беларускіх слоў, якая хоць і прысутнічае ў запазычаных эквівалентах, аднак менш відавочная. Так, для тэрмінацыі мікракамп’ютэраў, са стварэннем якіх пачалася па ўсеагульнаму прызнанню тэхналагічная рэвалюцыя, часцей за ўсё ў рускай, а пасля і ў беларускай мовах выкарыстоўваецца тэрмін англійскай мовы *чып* (рус. *чип),* у перакладзе *блыха.* Рускі тэрмін *блоха* і адпаведны беларускі *блыха* ўжываюцца рэдка, што ў значнай меры абумоўлена семантыкай і стылістычнай афарбоўкай гэтых слоў, якія (семантыка і стылістычная афарбоўка) у адпаведным англійскім тэрміне для носьбітаў рускай мовы не такія відавочныя. Так званыя *біялагічныя блохі, міні-блохі,* стварэнне якіх зараз абмяркоўваюць вучоныя і якія будуць змяшчаць у адным кубічным сантыметры аб’ём патэнцыяльнай інфармацыі, які можна параўнаць з чалавечым мозгам, таксама часцей за ўсё абазначаюцца тэрмінамі з англійскім словам *чып: біялагічныя чыпы, міні-чыпы.*

Сярод праблем упарадкавання навуковай тэрміналогіі розных галін навукі асаблівае месца займае дакладнае вызначэнне мяжы паміж зместам блізкіх па значэнню тэрмінаў, аб’ектная і канцэптуальная аднесенасць якіх шмат у чым перакрыжоўваецца, але не супадае ў цэлым. Дыферэнцыяцыя значэння і ўжывання такіх тэрмінаў можа быць выяўлена ў выніку іх супастаўлення. З гэтай мэтай ніжэй супастаўляюцца найбольш важныя тэрміны словаўтварэння і марфемікі.

***Вытворнасць – матываванасць, матывацыя.*** У навуковай і вучэбнай літаратуры распаўсюджана сінанімічнае ўжыванне гэтых тэрмінаў. Аднак існуе слушная думка, што яны павінны ўжывацца дыферэнцыявана, з улікам адрозненняў у іх аб’ектнай і канцэптуальнай аднесенасці.

Названае адрозненне тэрмінаў ***вытворнасць – матываванасць, матывацыя*** трывала замацавалася ў беларускай лінгвістычнай літаратуры ў такіх другасных састаўных намінацыях, як віды словаўтваральнай матывацыі, непасрэдныя (апасродкаваныя) матывацыі, тыповыя (нетыповыя) матывацыі, зыходныя (незыходныя) матывацыі, адзінкавыя (неадзінкавыя) матывацыі, метафарычныя матывацыі і інш. Аднак адрозненне гэтых тэрмінаў далёка не заўсёды ўлічваецца пры ўтварэнні састаўных тэрмінаў: ***утваральная аснова* і *матывавальная аснова, утваральная база* і *матывавальная база*** і інш.

У сувязі з дастатковай выразнасцю адрознення паміж тэрмінамі *вытворнасць* і *матываванасць* і трываласцю замацавання гэтых тэрмінаў у лінгвістычнай практыцы ўзнікае неабходнасць іх кадыфікацыі ў слоўніку лінгвістычных тэрмінаў. Тэрмін *матывацыя,* які часта ўжываецца як сінонім да *матываванасць,* таксама мэтазгодна адрозніваць і ўжываць для абазначэння агульнай з’явы сэнсавай залежнасці паміж двума словамі.

Вынікам упарадкавання тэрміналогіі канкрэтных галін ведаў і асобных раздзелаў навук з'яўляецца стварэнне тэрміналагічных сістэм.

Прызнаючы вялікую значнасць практычнай работы па ўпарадкаванню тэрміналогіі як у аспекце сістэматызацыі паняццяў, так і ў плане моўнага афармлення асобных тэрмінаў, нельга, аднак, не адзначыць, што ключавым звяном упарадкавання з'яўляецца вырашэнне шэрагу праблем, звязаных з агульнай метадалогіяй ажыццяўлення такой дзейнасці. Пад паняццем "метадалогія" мы разумеем сістэму прынцыпаў і спосабаў арганізацыі і пабудовы тэарэтычнай і практычнай дзейнасці.

Цэнтральнай сярод метадалагічных праблем, якія адносяцца да галіны ўпарадкавання тэрміналогіі, з'яўляецца, на нашу думку, распрацоўка прынцыпаў пабудовы ўпарадкаваных тэрміналогій.

Распрацоўка такіх прынцыпаў заснавана на ўяўленні аб аптымальнай тэрміналагічнай сістэме. Стварэнне ж аптымальнай тэрмінасістэмы мае рад прынцыпова адметных уласцівасцей у параўнанні з даследаваннем існуючых, натуральна сфарміраваных тэрміналогій. Перш за ўсё гэтыя асаблівасці абумоўлены прыналежнасцю распрацоўкі прынцыпаў стварэння аптымальнай тэрмінасістэмы і даследавання існуючых тэрмінасістэм да прынцыпова розных сфер чалавечай дзейнасці і розных тыпаў навуковых даследаванняў. Распрацоўку аптымальнай тэрміналагічнай сістэмы і сродкаў яе стварэння мы адносім да той сферы дзейнасці, якая характарызуецца ў сучасным навуказнаўстве як праектыўная. У адрозненне ад пазнавальнай дзейнасці, праектыўная дзейнасць накіравана на ўяўнае стварэнне новых утварэнняў, якія адпавядаюць пэўным папярэдне сфармуляваным патрабаванням, забяспечваюць рашэнне пэўных задач. Зразумела, што ў працэсе распрацоўкі прынцыпаў стварэння ўпарадкаваных тэрміналогій павінны ўлічвацца заканамернасці існуючых тэрміналогій, такія, напрыклад, як выкарыстанне сродкаў нацыянальнай мовы, запазычванне тэрмінаў, дакладнасць у тэрміналагічнай сістэме, паўната і іншыя.

## 11.9. ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ І МІЖНАРОДНАЯ УНІФІКАЦЫЯ СУЧАСНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

У сучасных умовах актыўнага міжнароднага супрацоўніцтва і абмену навуковай інфармацыяй асаблівую актуальнасць набывае не толькі праблема ўпарадкавання тэрміналогіі ў кожнай нацыянальнай мове, а і міжнародная каардынацыя тэрміналагічнай работы. Неабходнай асновай як унутрымоўнага, так і міжнароднага ўпарадкавання тэрміналогіі з'яўляецца сістэматызацыя і ўнармаванне існуючых тэрмінаў.

Ператварэнне практычнага тэрмінаўтварэння ў свядома скіраваны працэс і міжнародная каардынацыя тэрміналагічнай работы садзейнічаюць зносінам і міжнароднаму навуковаму супрацоўніцтву вучоных ва ўмовах масавага ўзнікнення новых тэрмінаў (так званы "тэрміналагічны выбух") у выніку бурнага развіцця навукі і тэхнікі. Дарэчы ўспомніць аб тым, што аб'ём навукова-тэхнічнай інфармацыі з пачатку 20 ст. ўзрос у 8–10 разоў, а асобныя тэрмінасістэмы, у прыватнасці хіміі, налічваюць зараз па некалькі мільёнаў тэрмінаў.

Першаступеннае значэнне для міжнароднага супрацоўніцтва вучоных і абмену навуковай інфармацыяй мае напрамак інтэрнацыяналізацыі ў тэрміналагічнай рабоце і мэтанакіраванае фарміраванне інтэрнацыянальнага банка тэрміналагічнай лексікі.

Традыцыйныя сродкі пераадолення моўнага бар'ера – вывучэнне моў і пераклад (як вядома, аб'ём перакладу ў наш час павялічваецца ў свеце на 15–20% штогод) не могуць цалкам задаволіць сферу міжнароднага навуковага супрацоўніцтва ва ўмовах расшырэння сумеснай і паралельнай распрацоўкі многіх навуковых праблем вучонымі розных краін, непасрэдных навуковых кантактаў вучоных.

Неабходнасць міжнароднай уніфікацыі тэрмінаў павінна прымацца ў разлік пры ўпарадкаванні тэрмінасістэм нацыянальных моў. Пры ацэнцы таго ці іншага тэрміна неабходна ўлічваць не толькі ўнутрысістэмныя фактары, а і шырокі інтэрнацыянальны кантэкст мовы навукі. Заўважана, што некаторыя тэрміны, якія цалкам адпавядаюць унутрымоўным патрабаванням, з міжнароднага пункту погляду могуць аказацца неаптымальнымі, а тое, што з'яўляецца не зусім апраўданым у асобна ўзятай мове, можа апраўдаць сябе ў плане суадносін з іншымі мовамі.

Пэўныя вынікі ў рабоце па мэтанакіраванаму фарміраванню інтэрнацыянальнага слоя навуковых тэрмінаў дасягнуты Міжнароднай арганізацыяй па уніфікацыі тэрміналагічных неалагізмаў (МАУТН), каардынацыйны цэнтр якой створаны і працуе ў Варшаве пры падтрымцы ЮНЕСКА (заснавальнік і прэзідэнт МАУТН прафесар З.Стаберскі). У прыватнасці, эфектыўным сродкам міжнароднай уніфікацыі тэрмінаў з'яўляецца пастаянная рубрыка "Інтэрнацыянальная навуковая тэрміналогія (неалагізмы ў напрамку уніфікацыі)", якая рыхтуецца членамі МАУТН і публікавалася ў часопісе "Babel", афіцыйным органе Міжнароднай федэрацыі перакладчыкаў, у часопісе "Neoterm".

Работа гэтай рубрыкі (аператыўная рассылка спісаў патэнцыяльна інтэрнацыянальных тэрмінаў пэўных галін ведаў членам МАУТН і атрыманне эквівалентаў гэтых тэрмінаў у адпаведных мовах) з'яўляецца не толькі станоўчым вопытам у гэтай галіне, але і аптымальным варыянтам збору і распаўсюджвання інфармацыі такога роду. Аднак неабходная аператыўнасць абмену і апрацоўкі інфармацыі можа быць дасягнута пры шырокім выкарыстанні самых сучасных камп'ютэрных сістэм.

Удасканаленне работы па міжнароднай уніфікацыі новых тэрмінаў можа быць дасягнута шляхам выяўлення патэнцыяльных інтэрнацыяналізмаў у новых публікацыях (артыкулах, манаграфіях) адпаведных галін навукі (а не толькі выбаркай іх з існуючых слоўнікаў). Фіксацыя тэрмінаў у спецыяльных слоўніках часта значна адстае ад функцыянавання гэтых тэрмінаў у спецыяльнай літаратуры па чыста "тэхнічных" прычынах: спецыяльныя слоўнікі выдаюцца, як правіла, адзін раз у дзесяць, а то і ў дваццаць гадоў, а новыя публікацыі па адпаведных галінах навукі выходзяць бесперапынна.

У ідэале названая вышэй рубрыка "Інтэрнацыянальная навуковая тэрміналогія (неалагізмы ў напрамку уніфікацыі)" таксама павінна быць арыентавана на пераадоленне гэтага разрыву, г.зн. па магчымасці ўключаць тэрміны, якія трывала замацаваліся ў практыцы ўжывання ў навуковых тэкстах. Праўда, рэалізацыя такой прапановы для ўкладальнікаў рубрыкі звязана з вялікай работай па збору і аналізу тэрміналогіі навуковых тэкстаў. Аднак уніфікацыя менавіта такой тэрміналогіі ў першую чаргу неабходна перакладчыкам і вучоным.

Такім чынам, аператыўнае выяўленне новых інтэрнцыянальных або патэнцыяльна інтэрнацыянальных тэрмінаў, іх скаардынаваная апрацоўка і ўдакладненне тэрмінолагамі розных краін у напрамку міжнароднай уніфікацыі з'яўляецца першапачатковай задачай міжнароднага ўпарадкавання і мэтанакіраванага стварэння шырокага слоя тэрмінаў-інтэрнацыяналізмаў.

Другой задачай у гэтым напрамку з'яўляецца аператыўная інфармацыя спецыялістаў аб новых інтэрнацыянальных тэрмінах. Вырашэнне гэтай задачы мае вялікае практычнае значэнне для перакладчыкаў, спецыялістаў, для паскарэння абмену навуковай і тэхнічнай інфармацыяй. Як ужо адзначалася, некаторы ўклад у вырашэнне гэтай задачы ўносіць публікацыя названай вышэй рубрыкі, якая рыхтуецца Міжнароднай арганізацыяй па уніфікацыі тэрміналагічных неалагізмаў і публікуецца ў часопісе "Babel". Аднак больш эфектыўнае дасягненне асноўнай мэты рубрыкі (дапамога перакладчыкам і спецыялістам), безумоўна, звязана з расшырэннем сферы яе функцыянавання. Іменна з гэтым звязана ў першую чаргу ступень уздзеяння міжнародных інфармацыйных выданняў на фарміраванне інтэрнацыянальнай навуковай тэрміналогіі і на працэс міжнароднай уніфікацыі тэрмінаў. Расшырэнню сферы функцыянавання названай рубрыкі ў значнай ступені магла б садзейнічаць яе публікацыя са спасылкай на крыніцу ў філалагічных і спецыяльных навуковых часопісах у розных краінах.

Асобнай праблемай міжнароднай уніфікацыі тэрміналогіі з'яўляецца даўно наспеўшая неабходнасць уніфікацыі вельмі вялікай колькасці тэрмінаў, якія не з'яўляюцца "чыстымі" інтэрнацыяналізмамі (г.зн. тэрмінамі, якія цалкам сталі інтэрнацыянальнымі), а маюць у складзе інтэрнацыянальныя марфемы, што дазваляе спецыялістам розных краін разумець іх сэнс без перакладу. Прыкладам могуць служыць шматлікія тэрміны са значэннем дзеяння, працэсу ў рускай і беларускай мовах, якія уключаюць запазычаныя каранёвыя марфемы, што належаць да інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду.

Гэта, у прыватнасці, дэрываты ад бяспрэфіксных дзеясловаў: *дарнаванне* (ад ням. *Dorn* – металічны шып, дорн) – працісканне з некаторым нацягам стальнога стрыжня (дорна) або шарыка праз папярэдне апрацаваную адтуліну з мэтай калібравання, умацавання і змяншэння шурпатасці паверхні адтулін дэталей; *плакіраванне* (ад фр. *plaquer* – пакрываць) – нанясенне на паверхню металічных лістоў тонкага слою іншага металу; *ханінгаванне* (англ. *honing* ад *hone* – ханінгаваць) – аддзелка паверхні загатовак спецыяльным інструментам – хонам; *шабрэнне* (ням. *Shaben* ад *shaben* – скабліць) – аддзелачная апрацоўка паверхні шляхам зняцця тонкай стружкі шаберам; *шэвінгаванне* (англ. *shaving* ад *shave* – брыць, скабліць) – аддзелачная апрацоўка бакавых паверхняў зубчатых калёс і г.д. У рускай мове адпаведна *дорнование, плакирование, хонингование, шабрение, шевингование.*

Практычная работа ў галіне міжнароднай уніфікацыі тэрмінаў, якія ўключаюць інтэрнацыянальныя тэрмінаэлементы, а таксама тэрмінаў-калек звязана з тэарэтычнай праблемай асэнсавання статусу і зместу гэтых тэрмінаў, заканамернасцей іх узнікнення і развіцця ў сучасную эпоху.

У вырашэнні практычных і тэарэтычных пытанняў міжнароднай уніфікацыі тэрмінаў асаблівай увагі заслугоўвае асноўны напрамак развіцця тэрміналогіі ў кожнай нацыянальнай мове – адбор лексічных сродкаў нацыянальнай мовы і іх фармалізацыя, ператварэнне ў тэрміны.

Гэты напрамак, здавалася б, менш за ўсё звязаны з працэсам міжнароднага збліжэння і уніфікацыі і, відаць, з гэтай прычыны не разглядаўся даследчыкамі ў прапанаваным аспекце. Аднак ён не павінен заставацца па-за ўвагай іменна з пазіцый міжнароднага збліжэння навуковых тэрмінаў, таму, па-першае, што тэрміналагізацыя агульналітаратурнай лексікі нацыянальнай мовы з'яўляецца асноўным спосабам тэрмінаўтварэння ў мовах свету, па-другое, што ў гэтым асноўным напрамку развіцця тэрміналогіі прасочваюцца пэўныя заканамернасці, якія ўласцівы ўсім мовам і могуць быць выкарыстаны як інструмент міжнароднай уніфікацыі тэрмінаў.

Гэта ў першую чаргу структурная і семантычная матываванасць вытворных тэрмінаў, спецыялізацыя тэрмінаўтваральных марфем і інш., параўн.: рус. *сверление,* бел. *свідраванне,* англ. *boring,* ням. *Bohren;* рус. *выжигание,* бел. *выпальванне,* англ, *burning,* ням. *Ausbrennen* і інш. Гэта з'ява цалкам заканамерная, паколькі тэрміны назоўнікі аддзеяслоўнага тыпу, як правіла, рэалізуюць значэнні, катэгарыяльна ўласцівыя дзеяслову, у даным выпадку – значэнні дзеяння, спосабу вытворчасці. Такім чынам, паколькі большасць вытворных тэрмінаў структурна і семантычна матывавана зыходнымі адзінкамі, то супастаўляльнае даследаванне механізма іх стварэння на аснове карэляцыі адпаведных семантыка-сінтаксічных канструкцый у розных мовах з'яўляецца актуальнай задачай як сучаснай тэрміналогіі ўвогуле, так і міжнароднай каардынацыі сістэмы тэрмінаўтварэння ў прыватнасці.

На думку даследчыкаў, "у кожным аднаслоўным тэрміне, вытворным або складаным слове павінен прысутнічаць тэрмінаэлемент, які б паказаў, да якой катэгорыі паняццяў належыць тэрмінаванае паняцце" (гл.: КАНДЕЛАКИ 1967, 38). Такі тэрмінаэлемент, інакш дыферэнцыруючы словаўтваральны фармант, у сукупнасці з матывуючай асновай утварае новы тэрмін.

У гэтых адносінах да мовы навукі, і ў прыватнасці да тэрміналогіі, цалкам падыходзіць шырока вядомы прыклад Л.У.Шчэрбы, у якім падабраны бяссэнсавыя па зместу "словы" з захаваннем, аднак, пэўных марфалагічных форм і граматычных сувязей слоў у сказе, у выніку чаго носьбіт рускай мовы з дастатковай дакладнасцю можа вызначыць агульны змест фразы. Аналагічна любы чалавек, які мае ўяўленне аб граматычнай сістэме рускай, беларускай, англійскай, нямецкай і іншых моў, зможа зразумець агульны змест навуковага выказвання (тым больш, калі ён спецыяліст у данай галіне ведаў, а пэўная частка тэрміналогіі з'яўляецца інтэрнацыянальнай). Іменна дзякуючы гэтаму нам неаднаразова даводзіцца чуць, што спецыяліст, які не ў дастатковай ступені валодае пэўнай мовай, разумее агульны змест праслуханага навуковага даклада на гэтай мове.

З пункту погляду супастаўляльнага вывучэння тэрміналагічнага словаўтварэння ў напрамку уніфікацыі тэрмінаў у розных мовах безумоўную цікавасць уяўляе ў гэтым плане выяўленне агульных заканамернасцей суадносін такіх адметных фармантаў і іх упарадкаванне ў розных мовах. Так, пэўнай часткі тэрмінаў са значэннем дзеяння, спосабу вытворчасці ўласцівы наступныя адметныя словаўтваральныя фарманты: рус. *-ни-е (сверление, выжигание),* бел. *-нн-е (свідраванне, выпальванне),* англ, *-ing (boring, burning),* ням. *-en (Bohren, Ausbrennen)* і г.д. У гэтым выпадку адпаведныя тэрміны кожнай з пералічаных моў змяшчаюць эквівалентныя фарманты *(ни-е, -нн-е, -ing, -en).*

Такім чынам, на марфемным узроўні таксама прасочваюцца агульная тэндэнцыя ўтварэння тэрмінаў у мовах свету, якая абумоўлена ў даным выпадку заканамернасцю спецыялізацыі тэрмінаўтваральных суфіксаў са значэннем дзеяння, спосабу вытворчасці. Актуальнай задачай міжнароднай каардынацыі ў галіне тэрмінаўтварэння з'яўляецца вывучэнне гэтай тэндэнцыі і ператварэнне яе ў свядома скіраваны працэс, у прынцып тэрмінаўтварэння. Напрыклад, вывучэнне заканамернасцей суадносін дыферэнцыяльных фармантаў у групе тэрмінаў аддзеяслоўных назоўнікаў розных моў *(валачэнне, тачэнне, дзяўбанне, рэзанне, згінанне, прабіванне, апырскванне, фрэзераванне, вальцаванне, азатаванне, навугляроджванне* і пад.) магло б даць вялікі матэрыял для тыпалагічнага даследавання і міжнароднай уніфікацыі тэрмінаў.

Да ліку важнейшых праблем інтэрнацыяналізацыі навуковай тэрміналогіі адносіцца і мэтанакіраванае папаўненне фонду інтэрнацыянальных тэрмінаў у нацыянальных мовах. У межах гэтай агульнай праблемы шмат пытанняў, якія ў

аднолькавай меры датычацца як працэсу стварэння новых тэрмінаў для абазначэння новаадкрытых паняццяў, рэалій, так і працэсу выбару варыянтаў або сінонімаў з ліку ўжо існуючых тэрмінаў, якія маглі б стаць інтэрнацыянальнымі. Гэтым пытанням удзяляецца вялікая ўвага ў сучасным тэрміназнаўстве.

Зусім правамерна да ліку важнейшых фактараў развіцця інтэрнацыянальнага фонду тэрмінаў некаторыя даследчыкі адносяць выкарыстанне тэрмінаў і тэрмінаэлементаў класічных моў, скарочаных тэрмінаў, прозвішчных namінацый і г.д.

Галоўная праблема, якая ўзнікае перад тэрмінолагамі пры стварэнні такіх тэрмінаў, – праблема матываванасці, г.зн. іх унутранай семантычнай суаднесенасці з абазначанымі паняццямі і рэаліямі. Даволі часта адсутнасць матываванасці была падставай для поўнага адмаўлення гэтых тэрмінаў некаторымі лінгвістамі. Безумоўна, калі ў структуры тэрміна ёсць фармальныя і семантычныя элементы, якія адлюстроўваюць пэўныя прыкметы тэрмінаванага паняцця, то такія тэрміны маюць пэўныя перавагі. Аднак пры ўсебаковым падыходзе да пытання матываванасці тэрміна нельга не адзначыць, што тут ёсць і іншыя аспекты. У прыватнасці, адным з гэтых аспектаў мы называем матываванасць тэрмінаў генетычным складам пэўнага рада тэрмінаў. Так, калі назвы некаторай групы мінералаў паходзяць з грэчаскай і лацінскай моў, то лексемы гэтых моў для абазначэння новаадкрытых мінералаў той жа групы былі б не толькі больш апраўданыя, чым створаныя так званыя ўнутрана празрыстыя, або ўнутрана матываваныя, тэрміны пэўнай нацыянальнай мовы, але і больш матываваныя, як бы гэта ні выглядала дзіўна на першы погляд. Тое, што лацінскія і грэчаскія назвы, а таксама скарочаныя або прозвішчныя назвы для абазначэння аднародных паняццяў у нацыянальнай мове ўжо выкарыстаны, з'яўляецца дастатковай умовай матывацыі тэрмінаў гэтага рада.

Матываваныя такім чынам тэрміны маюць адну бясспрэчную перавагу перад унутрана матываванымі тэрмінамі нацыянальных моў. Яны адназначныя і не маюць сінонімаў у адрозненне ад апошніх, якія часта маюць мноства сінонімаў па той прычыне, што кожны з іх абазначае розныя прыкметы тэрмінаванага паняцця.

Асноватворным момантам пры выбары паміж нацыянальным і інтэрнацыянальным тэрмінам выступае, на наш погляд, прыняцце палажэння аб тым, што інтэрнацыянальнае ў сваёй аснове не супярэчыць нацыянальнаму як у развіцці слоўнікавага складу мовы наогул, так і ў развіцці тэрміналогіі ў прыватнасці.

Аналіз словаўтваральнай структуры тэрміналагічнай лексікі рускай і беларускай моў як гуманітарных, так і навукова-тэхнічных галін навукі пацвярджае і напаўняе канкрэтным зместам палажэнне аб адзінстве нацыянальнага і інтэрнацыянальнага.

Цікавы матэрыял для вывучэння ўзаемадзеяння нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў навукова-тэхнічнай тэрміналогіі дае, напрыклад, аналіз словаўтваральнай структуры нацыянальных і інтэрнацыянальных тэрмінаў. Спынімся коратка для ілюстрацыі на аддзеяслоўных субстантыўных дэрыватах з агульным значэннем 'прадмет (машына, прылада, рэчыва, установа), прызначаны для выканання дзеяння' ў рускай і беларускай мовах.

У рускай мове яны прадстаўлены сямю асноўнымі найбольш прадуктыўнымі тыпамі, тры з якіх з'яўляюцца нацыянальнымі тэрмінамі і чатыры – інтэрнацыянальнымі, а таксама некалькімі малапрадуктыўнымі ў тэрміналогіі тыпамі. У беларускай мове гэтыя дэрываты прадстаўлены пяццю словаўтваральнымі тыпамі нацыянальных і тымі ж чатырма тыпамі інтэрнацыянальных тэрмінаў.

Словаўтваральны тып з суфіксамі *-тель, -итель* (бел. *-льнік* і *-цель): испаритель, отражатель, предохранитель, распределитель, поглотитель, глушитель* –

*выпарнік, адбівальнік, засцерагальнік, размеркавальнік, паглынальнік, глушыцель* і інш.

Большая частка тэрмінаў словаўтваральнага тыпу з суфіксамі *-тель, -итель* (бел. *-льнік, -цель)* адносяцца да галіны тэхнікі, некаторыя – да галіны хіміі.

Словаўтваральны тып з суфіксам *-ник* (бел. *-нік, -лк-, -нк-*) менш прадуктыўны ў параўнанні з першым. Ён змяшчае пераважна сельскагаспадарчыя тэрміны са значэннем 'прылада, прыстасаванне', якія папаўняюцца новаўтварэннямі менш інтэнсіўна. Гэтаму словаўтваральнаму тыпу ў беларускай мове адпавядае тып з аналагічным суфіксам: *запашник – заворваннік, отборник – адборнік.*

Чатыры словаўтваральныя тыпы з суфіксамі *-атор, -ор (-ёр, -ер), -ант, -ат [бел. -атар, -ар (-ёр, -ер), -ант, -ат]* прадстаўлены у рускай і беларускай тэрміналогіі запазычанымі назоўнікамі рознай ступені інтэрнацыянальнасці ў розных моўных арэалах: *аккумулятор, вибратор, стабилизатор; балластер, дезинсектор, инверсор; адсорбент, консервант, вулканизат, концентрат, фильтрат – акумулятар, вібратар, стабілізатар; баластэр, дэзінсектар, інверсар; адсарбент, кансервант, вулканізат, канцэнтрат, фільтрат.*

Словаўтваральная структура адпаведных беларускіх тэрмінаў аднатыпная са структурай рускіх тэрмінаў, паколькі яны змяшчаюць аднатыпныя словаўтваральныя элементы.

Наяўныя ў рускай і беларускай мовах нацыянальныя эквіваленты гэтых запазычанняў, як правіла, адносяцца да аднаго пэўнага словаўтваральнага тыпу. Так, усе рускія эквіваленты тэрмінаў, якія належаць да тыпу з суфіксам *-атор,* маюць у сваёй словаўтваральнай структуры суфікс *-тель,* параўн.: *аккумулятор – накопитель, имитатор – подражатель, конденсатор – нагнетатель, фиксатор – закрепитель.* Беларускія эквіваленты гэтых тэрмінаў таксама характарызуюцца аднатыпнасцю словаўтваральнай структуры. Яны звычайна маюць суфікс *-нік,* часам ужываюцца з суфіксам *-цель,* параўн.: *акумулятар – накапляльнік (накапіцель), кандэнсатар – нагнятальнік, фіксатар – замацавальнік.* У параўнанні з рускай тэрміналогіяй разгледжанай семантыкі 'прадмет (машына, прылада, рэчыва, установа), прызначаны для выканання дзеяння', беларуская тэрміналогія характарызуецца меншай колькасцю нацыянальных тэрмінаў, эквівалентных пэўным інтэрнацыянальным, г.зн. больш шырокім выкарыстаннем інтэрнацыянальных тэрмінаў. Так, у рускай тэрміналогіі замест інтэрнацыянальнага тэрміна *імітатар* часам ужываецца нацыянальны эквівалент *подражатель,* у беларускай жа тэрміналогіі адпаведны нацыянальны эквівалент не ўжываецца.

Аднатыпнасць словаўтваральнай структуры нацыянальных тэрмінаў, адпаведных пэўным інтэрнацыянальным, захоўваецца ва ўсім словаўтварэнні пералічаных вышэй тэрмінаў. У прыватнасці, утвораныя ад гэтых тэрмінаў нацыянальныя дэрываты са значэннем працэсу, дзеяння таксама маюць аднатыпную словаўтваральную структуру. У рускай мове яны ўключаюць у свой склад фармант *-ни-е,* у беларускай – *-нн-е: аккумуляция – накопление* (бел. *накапленне, назапашванне), конденсация – нагнетание (бел. нагнятанне), фиксация – закрепление* (бел. *замацаванне*).

Запазычаныя вытворныя назоўнікі з пэўнымі словаўтваральнымі фармантамі не аказваюць уплыву на словаўтваральныя мадэлі нацыянальных эквівалентаў і вытворных ад іх тэрмінаў.

Словаўтваральныя мадэлі запазычаных тэрмінаў не маюць прынцыповых адрозненняў ад нацыянальных, яны супадаюць са словаўтваральнымі мадэлямі

адпаведных лексіка-марфалагічных разрадаў. Таксама як і для нацыянальных, для запазычаных тэрмінаў удзел у працэсе словаўтварэння з'яўляецца неабходнай умовай функцыянавання ў мове.

Словаўтваральныя тыпы з *суфіксамі -ак, -ач, -ун, -ок, -лк-, -л-*: *резак, драч, тягач, колун, шатун, подпилок, подтопок, мялка, сушилка, сверло, точило (бел. разак, драч, цягач, калун, шатун, падпілак, падпалак, мялка, сушылка, свярдзёлак, тачыла*) з'яўляюцца непрадуктыўнымі. Названыя суфіксы надаюць вытворным словам некаторую суб'ектыўна-эмацыянальную афарбоўку, якая не характэрна для прадуктыўных словаўтваральных тыпаў. Большасць гэтых тэрмінаў мае агульнаславянскае паходжанне, што абумоўлівае цесную блізкасць іх словаўтваральных фармантаў у рускай і беларускай мовах.

Унутры пералічаных словаўтваральных тыпаў ёсць пэўныя адрозненні паміж утварэннем рускіх і беларускіх тэрмінаў. Так, беларускі тэрмін *свярдзёлак* належыць да першага з пералічаных тыпаў (з суфіксам *-ак*), у той час як рускае *сверло* належыць да апошняга словаўтваральнага тыпу (з суфіксам *-л-о*).

Важнейшым пытаннем інтэрнацыяналізацыі тэрміналогіі з'яўляецца уніфікацыя сістэм паняццяў і адпаведных тэрмінаў у нацыянальных мовах. Сістэматызацыя тэрмінаў пэўных галін ведаў у нацыянальных мовах у значнай меры з'явілася б перадумовай прадухілення тых разыходжанняў (часам значных), якія існуюць зараз у азначэннях тэрмінаў на розных мовах. Пры гэтым трэба адзначыць, што хоць у апошні час тэрміналогіяй цікавяцца шматлікія спецыялісты адпаведных галін навукі, якія займаюцца ў асноўным пытаннямі адпаведнасці тэрмінаў пэўным паняццям, лінгвісты, якія даследуюць моўныя аспекты ўпарадкавання тэрмінаў, спецыялісты ў галіне логікі, якія цікавяцца пытаннямі лагічнай паслядоўнасці тэрмінаў і іх іерархізацыяй, усё больш відавочнай становіцца неабходнасць работы падрыхтаваных спецыялістаў па пытаннях навуковай тэрміналогіі – тэрмінолагаў. Спалучаючы ўсе названыя вышэй і некаторыя іншыя аспекты ўпарадкавання навуковай тэрміналогіі ў нацыянальных мовах, тэрмінолагі павінны комплексна вырашаць тэарэтычныя і практычныя задачы тэрміналагічнай работы.

Вынікам міжнароднай работы па сістэматызацыі тэрмінаў пэўных галін ведаў у нацыянальных мовах з'яўляецца "Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў" сістэмнага тыпу, які ўключае сістэматызаваныя тэрміны лінгвістыкі 14 моў.

Несумненна актуальнай і своечасовай з'яўляецца пастаноўка пытання аб стварэнні міжнародных сістэм паняццяў (незалежна якімі – нацыянальнымі або інтэрнацыянальнымі – тэрмінамі яны абазначаюцца ў розных мовах). Стварэнне такіх сістэм шмат у чым садзейнічала б узаемаразуменню і супрацоўніцтву вучоных, перадачы навуковай інфармацыі, удасканаленню тэрміналогіі адпаведных галін навукі многіх краін і г.д.

Неабходнай у сувязі з гэтым уяўляецца дзейнасць спецыяльнай міжнароднай арганізацыі, якая б займалася распрацоўкай такіх сістэм паняццяў. Пэўныя цяжкасці ў ажыццяўленні гэтай дзейнасці, безумоўна, ёсць. Адным з важных з'яўляецца і пытанне аб тым, на якіх мовах будуць перадавацца распрацаваныя міжнародныя сістэмы тэрмінаў. Відаць, аптымальным варыянтам было б выкарыстанне моў, якія адлюстроўваюць найбольш высокі ўзровень развіцця сусветнай навукі з улікам прадстаўленасці ў іх найбольш шматлікіх груп моў, моўных арэалаў. Ёсць і іншыя складаныя метадалагічныя і арганізацыйныя праблемы такой работы, аднак яе неабходнасць і вялікая значнасць бясспрэчныя.

Для інтэрпрэтацыі сучаснага працэсу інтэрнацыяналізацыі навуковых тэрмінаў і распрацоўкі прынцыпаў свядомай мэтанакіраванай работы ў гэтым напрамку вялікае значэнне маюць не толькі разгледжаныя вышэй унутрымоўныя праблемы і

заканамернасці развіцця тэрміналагічнай лексікі пэўных моў, а і ўлік так званых экстралінгвістычных сацыяльна-гістарычных умоў развіцця моў, і ў прыватнасці – фарміравання тэрміналагічнай лексікі. Пад уплывам гістарычных умоў развіцця мовы, а таксама развіцця пэўных галін ведаў суадносіны нацыянальнага і інтэрнацыянальнага фондаў розных тэрміналагічных сістэм у розных мовах маюць даволі істотныя адрозненні, якія нельга не ўлічваць пры распрацоўцы прынцыпаў свядомай, мэтанакіраванай інтэрнацыяналізацыі пэўнай часткі навуковых тэрмінаў.

У перыяд работы па распрацоўцы нацыянальнай тэрміналогіі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. і ўтварэння Беларускай ССР у сувязі з патрэбамі нацыянальнага перыядычнага друку, радыё, з выкарыстаннем беларускай мовы ва ўсіх сферах дзейнасці, стварэннем падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на роднай мове для беларускай сярэдняй і вышэйшай школы, у адносінах да запазычанняў і інтэрнацыяналізмаў праявіліся ў пэўнай ступені пурыстычныя тэндэнцыі, характэрныя для ўсіх народаў у перыяд актыўнага развіцця нацый. Аднак у працэсе далейшага развіцця беларускай тэрміналогіі выкарыстанне інтэрнацыяналізмаў станавілася ўсе больш шырокім, і параўнанне суадносін нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў сучаснай беларускай тэрміналогіі з адпаведнымі галінамі рускай паказвае некаторую перавагу інтэрнацыяналізмаў у беларускай тэрміналогіі. Апошняе ў значнай меры абумоўлена спецыфікай гістарычнага развіцця лексікі беларускай мовы.

## 11.10. ТЭРМІНАЎТВАРЭННЕ

У тэрміналагічным словаўтварэнні актыўна выкарыстоўваюцца ўсе спосабы словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы: семантычны, сінтаксічны, марфалагічны.

Галоўнае месца ў тэрмінатворчасці займае марфалагічны спосаб. Хоць асноўныя заканамернасці марфалагічнага словаўтварэння ў тэрміналогіі супадаюць з агульналітаратурнымі, аднак у гэтым спосабе тэрмінаўтварэння ёсць шэраг адметных рыс.

У беларускім тэрмінаўтварэнні наглядаецца актыўнасць пераважнай большасці ўласцівых агульналітаратурнай мове афіксальных словаўтваральных мадэлей, але прадуктыўнасць іх у агульналітаратурным і тэрміналагічным словаўтварэнні мае даволі істотныя адрозненні.

Сінтаксічны спосаб тэрмінаўтварэння характарызуецца значна большай прадуктыўнасцю ў параўнанні з агульналітаратурным словаўтварэннем.

Прааналізуем выкарыстанне ў беларускім тэрмінаўтварэнні асноўных марфалагічных і сінтаксічных сродкаў.

### 11.10.1. КАТЭГОРЫЯ ПРАДМЕТАЎ, З'ЯЎ

#### 11.10.1.1. ТЭРМІНЫ НАЗОЎНІКІ

##### 11.10.1.1.1. Тэрміны, утвораныя афіксальным спосабам

###### 11.10.1.1.1.1. Суфіксальныя тэрміны

Тэрміны з суфіксам *-аж (-яж)* утвораны ад запазычаных дзеясловаў і назоўнікаў або запазычаны ў гатовым выглядзе. Адметнай семантычнай прыкметай аддзеяслоўных тэрмінаў з'яўляецца іх аманімічнасць, абумоўленая дзеяслоўным утварэннем гэтых тэрмінаў назоўнікаў: з аднаго боку, утвораны тэрмін мае значэнне

адцягненай працэсуальнасці, звязанай з семантыкай дзеяслова, з другога – прадметнасці, звязанай з семантыкай утворанага назоўніка: *дрэнаж, дубляж, інструктаж, мантаж, рэпартаж.*

З мэтай лінгвістычнага ўпарадкавання тэрмінаў гэтага тэрмінаўтваральнага тыпу неабходна мэтанакіравана праводзіць работу ў кірунку спецыялізацыі суфіксаў: *дрэнаж – дрэнажаванне, інструктаж – інструктаванне.* Для намінацыі паняццяў з прадметным значэннем мэтазгодна паслядоўна рэкамендаваць суфікс *-аж,* а для тэрмінавання працэсаў – па магчымасці суфікс *-нн-*, параўн.: *дубляж – дубляванне, масаж – масажаванне* (аднак *мантаж* з прадметным і з працэсуальным значэннямі). Некаторыя аддзеяслоўныя тэрміны з суфіксам *-аж (-яж)* маюць толькі прадметнае значэнне: *фіксаж.*

Да гэтага тэрмінаўтваральнага тыпу набліжаецца тэрмін *продаж,* утвораны ад незапазычанага дзеяслова *прадаваць* з дапамогай суфікса *-ж.*

Адназоўнікавыя тэрміны катэгорыі прадметаў з суфіксам *-аж(-яж)* маюць зборнае значэнне і служаць для намінацыі рэчываў ці сукупнасці прадметаў: *сянаж, карданаж, эстампаж, этыкетаж, трыкатаж.* У параўнанні з агульналітаратурным словаўтварэннем, дзе тып з суфіксам *-аж (-яж)* з'яўляецца малапрадуктыўным, у сучасным тэрмінаўтварэнні ён атрымлівае ўсё большую прадуктыўнасць. Большасць тэрмінаў гэтага словаўтваральнага тыпу з'яўляецца інтэрнацыянальнай і не мае ніякіх граматычных і семантычных адрозненняў у рускай і беларускай мовах.

Тэрміны з суфіксам *-ай* утвораны пераважна ад назоўнікаў і належаць да сельскагаспадарчай і батанічнай тэрмінасістэм: *ураджай, малачай.* У адрозненне ад разгледжаных вышэй тэрмінаў з суфіксам *-аж (-яж)* гэтыя тэрміны ўтвораны ад незапазычаных лексем, словаўтваральны тып характарызуецца прыкладна аднолькавай нязначнай прадуктыўнасцю ў сучаснай агульналітаратурнай і тэрміналагічнай дэрывацыі.

Тэрміны з суфіксам *-ак(-як)* утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў. Адназоўнікавыя тэрміны гэтага тэрмінаўтваральнага тыпу характарызуюцца некаторай прадуктыўнасцю ў геалагічнай, батанічнай, медыцынскай і заалагічнай тэрмінасістэмах: *вапняк, сасняк, сыпняк, гусак, бяляк, шарак* утвораны ад сваямоўных лексем. У цэлым тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі, характарызуецца некалькі больш высокай, хоць у цэлым нязначнай, прадуктыўнасцю ў агульналітаратурнай лексіцы. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны тэрмінаўтваральны тып, які характарызуецца прыкладна аднолькавай прадуктыўнасцю.

Адпрыметнікавыя тэрміны катэгорыі прадметаў, з'яў з суфіксам *-ак(-як)* адзінкавыя, незапазычаныя, з'яўляюцца кароткімі варыянтамі двухслоўных тэрмінаў: *таварняк – таварны поезд, паражняк – парожні поезд.*

Аддзеяслоўныя тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу таксама ўтвораны ад незапазычаных лексем, характарызуюцца нязначнай ужывальнасцю ў сучаснай тэрміналогіі, хоць даволі актыўна ўтвараліся раней у промыславай, сталярнай і іншых тэрмінасістэмах: *дзяржак, разак, чарпак, стаяк.* Яны служаць для намінацыі пераважна прадметаў, прызначаных для дзеяння, названага ўтваральным словам. У сучаснай тэрміналогіі некалькі актывізуецца ўтварэнне тэрмінаў гэтага тэрмінаўтваральнага тыпу для намінацыі вынікаў адпаведнага дзеяння: *здымак, злепак, дамешак, перапынак.* У агульналітаратурнай мове тып характарызуецца значна большай прадуктыўнасцю. У рускай мове яму адпавядае аналагічны словаўтваральны тып з нязначнай прадуктыўнасцю ў тэрміналогіі.

Тэрміны з суфіксам *-ат (-ят)* утвораны ад асноў запазычаных назоўнікаў і дзеясловаў. Адназоўнікавыя тэрміны служаць для намінацыі:

а) грамадскіх ці палітычных сістэм, пасад, устаноў, што пэўным чынам звязаны з асобай, названай утваральным словам: *каліфат, султанат, эмірат; дэканат, рэктарат.*

Тып непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні, мае прадуктыўнасць у грамадска-палітычнай тэрміналогіі, уключае пераважна інтэрнацыянальныя тэрміны, запазычаныя ў асноўным праз рускую тэрміналогію. У рускай тэрміналогіі гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны;

б) хімічных злучэнняў з элементам, які названы ўтваральным словам: *алюмінат, карбанат, нітрат, сульфат, фасфат, хларат, храмат.*

Тэрміны з суфіксам *-атар* утвораны ад асноў дзеясловаў і назоўнікаў і служаць для намінацыі прыбораў, прыстасаванняў: *акумулятар, аналізатар, вентылятар, вібратар, дэгазатар, кандэнсатар, пластыфікатар, рэзанатар;* памяшканняў: *ізалятар, акліматызатар.* Рад утварэнняў з суфіксам *-атар* мае суадносіны як з назоўнікамі, так і з дзеясловамі: *акумулятар – акумуляцыя* і *акумуліраваць, кандэнсатар – кандэнсацыя* і *кандэнсаваць.* Гэтыя тэрміны ўтвораны ад запазычаных дзеясловаў і назоўнікаў, іх словаўтваральная структура аднатыпная з адпаведнымі рускімі тэрмінамі, большасць гэтых тэрмінаў мае інтэрнацыянальны характар.

Тып прадуктыўны ў тэхнічнай тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Тэрміны з суфіксам *-няк* утвораны пераважна ад асноў назоўнікаў: *жалязняк, плітняк, дубняк, лазняк, вішняк, вярбняк, беразняк.* Сустракаюцца і ўтварэнні ад асноў прыметнікаў: *маладняк, сушняк.* Гэтыя тэрміны абазначаюць у асноўным сукупнасць аднолькавых дрэў, раслін, названых утваральным словам, часам наменклатуру геалагічнай навукі. Утвораны ад незапазычаных лексем. У рускай мове гэтаму малапрадуктыўнаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ік (-ык)* утвараюцца пераважна ад прыметнікаў і абазначаюць канкрэтныя прадметы, з'явы, жывёл як носьбітаў прыкмет, названых утваральнымі прыметнікамі: *штурмавік, ледавік, паравік, прапускнік; дажджавік, рыжык, пясчанік; месячнік, ранішнік, суботнік; аўсянік, драпежнік, драцянік, стаеннік, галавасцік, канаплянік.* Некаторыя з гэтых тэрмінаў утвораны на аснове тэрміналагічных словазлучэнняў: *штурмавы самалёт – штурмавік, дажджавы чарвяк – дажджавік, драпежны звер – драпежнік, стаенны конь – стаеннік* і пад.

Словаўтваральны тып з суфіксам *-ік* высокапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні, характарызуецца даволі значнай прадуктыўнасцю ў заалагічнай тэрміналогіі. Гэтыя тэрміны ўтвораны ад незапазычаных прыметнікаў. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-нік* утвараюцца ад дзеясловаў, назоўнікаў і прыметнікаў. Аддзеяслоўныя тэрміны абазначаюць прадметы, прыстасаванні для выканання пэўных дзеянняў: *выпарнік, паглыбнік, адборнік, адстойнік, акучнік,* а таксама некаторыя паняцці: *дзельнік, множнік* і інш.

Тып прадуктыўны ў тэхнічнай тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад незапазычаных дзеясловаў, у рускай мове гэтаму тыпу адпавядаюць два, з суфіксам *-ник і -тель,* параўн.: *отборник, отстойник; испаритель, углубитель* і пад., а таксама *делитель, множитель.* У агульналітаратурным словаўтварэнні аддзеяслоўныя дэрываты са значэннем прадметаў з суфіксам *-нік* адзінкавыя.

Адназоўнікавыя тэрміны з суфіксам *-нік* катэгорыі прадметаў служаць для намінацыі памяшканняў, ёмістасцей паводле іх прызначэння: *кароўнік, цялятнік, багажнік, патроннік;* сукупнасцей аднародных дрэў, кустоў і раслін, названых

утваральным словам: *алешнік, арэшнік, бярэзнік, хвойнік, маліннік, ажыннік, брусьнічнік, рабіннік, агурочнік, ягаднік, бурачнік.*

Тып прадуктыўны ў агульналітаратурным і тэрміналагічным словаўтварэнні. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу створаны пераважна з выкарыстаннем сродкаў словаўтварэння і шляхам тэрміналагізацыі агульнаўжывальных слоў, шырока выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях беларускай мовы.

Адпрыметнікавыя тэрміны з суфіксам *-нік* нешматлікія, служаць для намінацыі сукупнасцей дрэў, кустоў і раслін: *кедроўнік, маркоўнік, тутоўнік.* Некаторыя з гэтых тэрмінаў з'яўляюцца словаўтваральнымі варыянтамі адпаведных па семантыцы аднaзоўнікавых тэрмінаў: *альхоўнік (альховы) – алешнік (алешына).*

Тэрміны з суфіксам *-оўнік (-эўнік)* утвараюцца пераважна ад асноў назоўнікаў, служаць для намінацыі сукупнасцей дрэў, кустоў, раслін і характарызуюцца тымі ж уласцівасцямі, што і адпаведныя тэрміны з суфіксам *-нік: бабоўнік, бульбоўнік, кустоўнік, макоўнік, мядоўнік, дзядоўнік, піхтоўнік.* Некаторыя з іх з'яўляюцца словаўтваральнымі варыянтамі тэрмінаў, утвораных ад прыметнікаў з дапамогай суфікса *-нік (бульбяны) бульбянік – (бульба) бульбоўнік.* Гэтыя тэрміны ўтвораны ад незапазычаных назоўнікаў.

Тэрмінаўтваральны тып з суфіксам *-оўнік* характарызуецца пэўнай прадуктыўнасцю толькі ў батанічнай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тэрмінаўтваральнаму тыпу ў асноўным адпавядае аналагічны тып, а таксама тэрмінаўтваральны тып з суфіксам *-ник,* некаторыя беларускія тэрміны не маюць аднаслоўных адпаведнікаў у рускай тэрміналогіі з прычыны словаўтваральных магчымасцей адпаведных утваральных асноў: параўн.: бел. *дзяды – дзядоўнік,* руск. *осот – стебли осота.*

Тэрміны з суфіксамі *-нь, -ень, (-вень), -ань* звычайна утвараюцца ад асноў пераважна запазычаных дзеясловаў. Яны служаць для намінацыі жывёл або птушак па іх спецыфічных рысах: *попаўзень, певень;* прадметаў і з'яў прыроды, якія з'яўляюцца вынікам пэўнага дзеяння: *апоўзень, выкапень, лівень.* У рускай тэрміналогіі няма цалкам эквівалентнага тэрмінаўтваральнага тыпу, суфіксам *-нь, -ень (-вень), -ань* адпавядаюць суфіксы *-ем, -ух, -нь* і інш.: *ископаемое, петух, ливень, оползень.*

Словаўтваральны тып з названымі суфіксамі з'яўляецца непрадуктыўным як у агульналітаратурным, так і ў тэрміналагічным словаўтварэнні.

Тэрміны з суфіксам *-ец (-ац)* утвораны ад асноў незапазычаных прыметнікаў і дзеепрыметнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, з'яў, рыб па іх прыкметах, а таксама прадметаў, якія з'яўляюцца вынікам пэўных дзеянняў: *сырэц, макрэц, сівец, глушэц, жывец; саджанец, сеянец.*

У тэрміналагічным словаўтварэнні словаўтваральны тып з суфіксам *-ец (-ац)* характарызуецца больш высокай прадуктыўнасцю ў параўнанні з агульналітаратурным. У рускай тэрміналогіі словаўтваральны тып з адпаведным суфіксам не з'яўляецца адэкватным беларускаму.

Тэрміны з суфіксам *-льнік* утвораны ад асноў незапазычаных дзеясловаў, служаць для намінацыі прадметаў, прылад ці рэчываў па іх прызначэнні або ўласцівасцях: *акісляльнік, апыляльнік, выключальнік, вымяральнік, знішчальнік, паглынальнік, паскаральнік, разрыхляльнік, растваральнік, узбуджальнік, маразільнік, напільнік.*

Гэты словаўтваральны тып вельмі прадуктыўны ў тэрміналогіі і значна менш прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу амаль цалкам адпавядае тып з суфіксам *-тель* і часткова тэрмінаўтваральны тып з аналагічным суфіксам: *окислитель, опылитель, выключатель, измеритель, ис-*

*требитель, поглотитель, ускоритель, рыхлитель, растворитель, возбудитель; морозильник, напильник.*

Тэрміны з суфіксам *-іт (-ыт)* утвораны пераважна ад асноў назоўнікаў і служаць для намінацыі мінералаў і руд: *магнетыт, металіт, саламіт, фасфарыт.* З дапамогай суфікса *-іт* утвораны таксама назвы хвароб: *міякардыт, плеўрыт, трахеіт.* Гэтыя тэрміны пераважна запазычаныя, большасць іх мае інтэрнацыянальны характар.

Тэрмінаўтваральны тып з суфіксам *-іт (-ыт)* характарызуецца высокай прадуктыўнасцю ў геалагічнай і медыцынскай тэрмінасістэмах. Агульналітаратурнаму словаўтварэнню гэты тып катэгорыі прадметаў не ўласцівы.

У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны. Тэрміны з суфіксам *-ун* утвораны ад асноў дзеясловаў і служаць для намінацыі прадметаў, прыстасаванняў паводле іх уласцівасцей і прызначэння: *зыбун, калун, падун, шатун.* Гэтыя тэрміны пераважна незапазычаныя, нешматлікія. У рускім тэрмінаўтварэнні словаўтваральнаму тыпу з суфіксам *-ун* адпавядае аналагічны. Некаторыя з гэтых тэрмінаў з'яўляюцца сінонімамі да адпаведных двухслоўных намінацый: *шатун – шатунны механізм* і пад.

Тэрміны з суфіксам *-цель* утвораны ад дзеясловаў і служаць для намінацыі прылад дзеяння: *аднавіцель, аслабіцель, глушыцель, праявіцель, уцяпліцель.* Большасць тэрмінаў з гэтым суфіксам запазычана з рускай мовы. Тэрмінаўтваральны тып з суфіксам *-цель* сінанімічны значна больш прадуктыўнаму ў беларускім тэрмінаўтварэнні тыпу з суфіксам *-нік.* Прасочваецца заканамернасць выкарыстання суфікса *-цель* для ўтварэння тэрмінаў ад запазычаных рускіх дзеяслоўных асноў, у той час як ад уласна беларускіх дзеяслоўных асноў утвараюцца словаўтваральныя варыянты з суфіксам *-нік,* параўн.: *закрепитель – замацавальнік.* Тэрміны, утвораныя ад агульнаславянскіх і ўсходнеславянскіх дзеяслоўных асноў, характарызуюцца высокай ступенню словаўтваральнай варыянтнасці ў сферы функцыянавання: *аслабіцель – аслабляльнік, выключацель – выключальнік, уцяпліцель – уцяпляльнік, праявіцель – праяўляльнік.* Пад уздзеяннем словаўтваральнага тыпу рускай мовы часам такой варыянтнасцю характарызуюцца і тэрміны, утвораныя ад уласна беларускіх дзеяслоўных асноў, параўн.: рус. *восстановитель,* бел. *адноўнік – аднавіцель.* Відавочна, што ва ўсіх названых выпадках перавага павінна аддавацца варыянтам з суфіксам *-нік.*

Тэрміны з суфіксам *-чык (-шчык)* утвораны ад асноў дзеясловаў і служаць для намінацыі механізмаў, прыстасаванняў: *перадатчык, разліўшчык, тралёўшчык.* Большая частка гэтых тэрмінаў побач са значэннем прадмета мае значэнне асобы па прафесіі і запазычана з рускай мовы.

Тып непрадуктыўны ў агульнаўжывальным і тэрміналагічным словаўтварэнні.

Тэрміны з суфіксам *-ыш (-іш)* утвораны ад незапазычаных асноў прыметнікаў і дзеясловаў і служаць для намінацыі прадметаў прыроды, раслін: *галыш, спарыш.* Словаўтваральны тып з суфіксам *-ыш (-іш)* характарызуецца пэўнай эмацыянальна-стылістычнай афарбоўкай і выкарыстоўваецца пераважна ў нетэрміналагічным словаўтварэнні. Нешматлікія тэрміны з гэтым суфіксам належаць пераважна да геалагічнай і батанічнай тэрмінасістэм. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны з некалькі іншым лексічным напаўненнем.

Тэрміны з суфіксам *-ішч-а (-ышч-а)* і яго фанетычнымі варыянтамі *-лішч-а, -авішч-а, -бішч-а* ўтвараюцца ад незапазычаных назоўнікаў, дзеясловаў і прыметнікаў. Аднаазоўнікавыя і адпрыметнікавыя тэрміны служаць для намінацыі:

а) месца паводле прадмета, які на ім знаходзіцца, або паводле пэўнай прыкметы: *глінішча, гарадзішча, дворышча, днішча, печышча; аўсянішча, балацянішча, бульбянішча, стагавішча.*

Тып прадуктыўны ў сельскагаспадарчай і прамысловай тэрміналогіі, у размоўным стылі мовы;

б) частак прадметаў: *тапарышча, каранішча, кайлавішча, малатавішча, нажавішча.*

Тып непрадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні.

Аддзеяслоўныя тэрміны з суфіксамі *-ішч-а, -лішч-а, -бішч-а* служаць для намінацыі ўстаноў, памяшканняў адносна прызначэння: *вучылішча, стойбішча, такавішча.*

Тып непрадуктыўны ў сучасным тэрміналагічным і агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні словаўтваральнаму тыпу з суфіксамі *-ішч-а, -лішч-а, -бішч-а* адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-j- (-оўj-)* (арфаграфічна словы на *-е, -'ё)* утвараюцца ад дзеясловаў і прыметнікаў. Яны служаць для намінацыі прадметаў паводле выніку пэўнага дзеяння або паводле прыкметы, абазначанай утваральным словам: *гняздоўе, зімоўе; вярхоўе, нечарназем'е, нізоўе.*

Тып непрадуктыўны ў тэрміналагічным і агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-іц-а (-ыц-а)* утвораны ад асноў прыметнікаў і служаць для намінацыі насякомых і птушак: *капусніца, сініца;* раслін: *аўсяніца, гарчыца, касцяніца, кісліца, чарніца;* частак расліны, цела чалавека, жывёлы: *грыбніца, паясніца, рагавіца;* хвароб: *грудніца, крапіўніца.*

Словаўтваральнымі базамі некаторых тэрмінаў гэтага словаўтваральнага тыпу з'яўляюцца словазлучэнні, у склад якіх уваходзіць утваральны прыметнік: *крапіўная ліхаманка – крапіўніца, рагавая абалонка – рагавіца.*

Тып малапрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму часткова адпавядае аналагічны і часткова словаўтваральны тып з суфіксам *-ик-а: капустница, синица, горчица; земляника, черника.*

*Нульсуфіксальныя* тэрміны катэгорыі прадметаў, з'яў утвараюцца ад асноў дзеясловаў, прыметнікаў, а таксама шляхам эліптычнай субстантывацыі.

Аддзеяслоўныя тэрміны ўтвораны пераважна ад незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі інструментаў, прыстасаванняў ці вынікаў дзеяння: *адвал, аправа, запруда, заціск, набор, прывад, пража, прыпой, прышчэп, ціск.*

Тып прадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму ўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны.

Адпрыметнікавыя тэрміны ўтвораны ад запазычаных прыметнікаў і служаць для намінацыі матэрыялаў: *пластык, эластык.* Тып атрымлівае прадуктыўнасць у сучасным тэрмінаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Асобны разрад нульсуфіксальных тэрмінаў катэгорыі прадметаў складаюць адпрыметнікавыя назоўнікі ад'ектыўнага скланення. Да іх адносяцца:

а) назоўнікі жаночага роду, якія служаць для намінацыі памяшканняў, устаноў паводле прызначэння: *аперацыйная, перавязачная, прафесарская, прыёмная, слясарная, сталярная;* назвы афіцыйных дакументаў, папер: *накладная, суправаджальная.*

Тып прадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны;

б) назоўнікі ніякага роду, якія служаць для намінацыі лекаў, страў, адзення: *слабіцельнае, снатворнае; заліўное, салодкае; штацкае;* адзінак класіфікацыі расліннага і жывёльнага свету: *бясхвостае (бясхвостыя), зонтычнае (-ыя), клубневае (-ыя), млекакормячае (-ыя), ракападобнае (-ыя), сумкавае (-ыя).*

Тып прадуктыўны ў медыцынскай, кулінарнай, прыродазнаўчай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны;

в) множналікавыя назоўнікі, якія служаць для намінацыі відаў выплатных грошай: *адпускныя, аўтарскія, пад'ёмныя, прэміяльныя, сутачныя.*

Тып прадуктыўны, у рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны;

г) назоўнікі, словаўтваральнай базай якіх выступаюць словазлучэнні "назоўнік+прыметнік": *выхадны (выхадны дзень), зборная (зборная каманда), кантрольная (кантрольная работа), падаходны (падаходны падатак).*

Тып прадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Асобны разрад нульсуфіксальных тэрмінаў складаюць нешматлікія назоўнікі ад'ектыўнага скланення, утвораныя ад дзеепрыметнікаў, якія служаць для намінацыі матэматычных паняццяў: *аднімаемае, дзялімае.*

### 11.10.1.1.1.2. Прэфіксальныя тэрміны

Тэрміны з прэфіксам *анты-* служаць для намінацыі прадметаў, з'яў, процілеглых тым, што названы ўтваральным словам: *антыкосмас, антыракета, антысвет, антыцыклон.*

Тып набывае прадуктыўнасць у астранамічнай тэрміналогіі, уключае запазычаныя, пераважна інтэрнацыянальныя лексемы.

Тэрміны з прэфіксам *звыш-* служаць для намінацыі прылад, якія адрозніваюцца больш высокімі якасцямі ці ўздзеяннем у параўнанні з названымі ўтваральным словам: *генератар – звышгенератар, рэактар – звышрэактар.*

Тып непрадуктыўны. Уключае ўтварэнні ад інтэрнацыянальных слоў.

Тэрміны з прэфіксам *над-* абазначаюць прадметы, якія маюць тыя ж уласцівасці, што і названыя ўтваральным словам, але займаюць у прасторы ці класіфікацыі месца над імі: *надкіслата, надсістэма, надскурка.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі, уключае пераважна незапазычаныя тэрміны. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *прата-* служаць для намінацыі першапачатковасці прадметаў, з'яў, названых утваральным словам: *пратазорка, пратанема, пратаплазма, пратасамалёт, прататып.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад запазычаных і незапазычаных лексем. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *процi-* служаць для намінацыі прадметаў, з'яў, процілеглых тым, што названы ўтваральным словам: *процівага, проціракета, проціцячэнне.*

Тып прадуктыўны. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад запазычаных і незапазычаных лексем. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *суб-* служаць для намінацыі прадметаў, што складаюць частку або падпарадкаваны ці мяжуюць з тым, што названа ўтваральным словам: *субдамінанта, субпрадукты, субстратасфера, субтытры, суб'ядро.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны пераважна ад запазычаных інтэрнацыянальных лексем.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *супер-* служаць для намінацыі прадметаў больш высокай якасці ці ўзмоцненасці дзеяння ў параўнанні з названымі ўтваральным словам: *супертанкер, суперэкспрэс, суперфасфат, суперцэмент.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад інтэрнацыянальных лексем.

Тэрміны з прэфіксам *супраць-* нешматлікія, замест іх часта ўжываюцца тэрмінаўтваральныя варыянты з прэфіксам *проці-: супрацьвага – процівага, супрацьракета – проціракета, супрацьцячэнне – проціцячэнне.*

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *ультра-* маюць тое ж агульнае значэнне павышанай якасці або ўздзеяння, што і тэрміны з прэфіксам *звыш-*, аднак у большасці выпадкаў варыянтных утварэнняў з гэтымі прэфіксамі не ўзнікае, паколькі кожны прэфікс замацоўваецца за пэўнымі тэрмінамі, параўн.: *ультрагук, ультрамарын, ультраструктура, ультрафільтр* і *звышгенератар, звышкамплект.*

Словаўтваральны тып з прэфіксам *ультра-* ў параўнанні з прэфіксам *звыш-* адрозніваецца значна большай прадуктыўнасцю ў тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны пераважна ад інтэрнацыянальных лексем.

Тэрміны з прэфіксам *экстра-* маюць тое ж значэнне, што і тэрміны з прэфіксамі *звыш-, ультра-: экстрааўтобус, экстраклас, экстраматч, экстрасамалёт.* Словаўтваральныя варыянты тэрмінаў з гэтымі прэфіксамі звычайна не ўтвараюцца дзякуючы пэўнай замацаванасці, спецыялізаванасці кожнага прэфікса.

Тып прадуктыўны. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвараюцца ад запазычаных, пераважна інтэрнацыянальных, і незапазычаных лексем.

Такім чынам, тэрміны катэгорыі прадметаў, з'яў, утвораныя прэфіксальным спосабам, займаюць значна меншае месца ў параўнанні з тэрмінамі суфіксальнага ўтварэння, якія з'яўляюцца самымі шматлікімі сярод асноўных катэгорый тэрміналагічнай лексікі. Прэфіксальныя ўтварэнні складаюць 10 словаўтваральных тыпаў: 7 прадуктыўных, 1 малапрадуктыўны, 2 непрадуктыўныя.

У адрозненне ад суфіксальнага словаўтварэння катэгорыі прадметаў, з'яў, якое пашырана як у тэрміналагічным, так і ў агульналітаратурным словаўтварэнні, прэфіксальнае з'яўляецца значна больш прадуктыўным у тэрміналагічным словаўтварэнні ў параўнанні з агульнаўжывальным.

Прэфіксы, якія выкарыстоўваюцца для ўтварэння тэрмінаў катэгорыі прадметаў, з'яў, звычайна змяняюць семантыку ўтваральных слоў, часта служаць для ўтварэння антонімаў да гэтых слоў, не ўплываючы на іх граматычныя характарыстыкі. У большасці выпадкаў прэфіксы служаць для ўтварэння новых тэрмінаў ад ужо існуючых.

Па генетычным складзе большасць гэтых прэфіксаў (7 з 10) запазычаныя, з іх значная частка належыць да інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду.

Утваральныя словы тэрмінаў катэгорыі прадметаў, з'яў таксама ў большасці выпадкаў належаць да інтэрнацыянальных.

Прэфіксальны спосаб утварэння тэрмінаў гэтай катэгорыі характарызуецца значна большай аналагічнасцю.

З рускім тэрмінаўтварэннем адпаведнай катэгорыі не толькі па саміх словаўтваральных тыпах, а і па іх лексічным напаўненні ў параўнанні з суфіксальным спосабам, што тлумачыцца вялікай удзельнай вагой інтэрнацыянальных тэрмінаэлементаў і аднолькавай семантыкай незапазычаных прэфіксаў у блізкародных рускай і беларускай мовах.

### 11.10.1.1.1.3. Суфіксальна-прэфіксальныя тэрміны

Тэрміны з прэфіксам *а- і* суфіксам *-ак* утвораны ад асноў незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, якія мяжуюць з тымі ці з'яўляюцца часткай тых, што названы ўтваральным словам: *адонак* (сельскагаспадарчае), *апечак, асяродак* (грамадазнаўчае).

Тып непрадуктыўны для сучаснага беларускага тэрмінаўтварэння і агульнаўжывальнага словаўтварэння. Выкарыстоўваецца часам у сельска-

гаспадарчай, прамысловай, грамадазнаўчай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны з некалькі іншым лексічным напаўненнем.

Тэрміны з прэфіксам *а-* і суфіксам *-к-*, якія належаць да граматычнай катэгорыі множналікавых назоўнікаў, утвараюцца ад незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі адыходаў апрацоўкі льну, канапель: *ачоскі, атрускі, ацяробкі.*

Тып непрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні тэрмінам гэтага словаўтваральнага тыпу адпавядаюць тэрміны з рознымі прэфіксамі і суфіксамі.

Тэрміны з прэфіксам *аб-* і суфіксам *-к-* утвараюцца ад асноў назоўнікаў і з'яўляюцца адзінкавымі: *абножка* (батан. – пылок з кветак), *абножкі* (від воўны).

Тып непрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *анты-* і суфіксам *-ін* утвараюцца ад асноў запазычаных і незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі рэчываў, медыцынскіх прэпаратаў, якія дзейнічаюць супраць таго, што названа ўтваральным словам: *антыгрыпін, антыкамарын, антымоль.*

Тып прадуктыўны ў медыцынскай тэрміналогіі, фармакалогіі. Словаўтваральнымі варыянтамі тэрмінаў гэтага тыпу выступаюць тэрміны з суфіксам *-лін* тыпу *туберкулін.* У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *між- і* суфіксам *-j-*э ўтвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі частак паміж прадметамі, названымі ўтваральным словам: *міжброўе, міжгор'е, міжлессе, міжраддзе, міжрэчча.*

Тып прадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны словаўтваральны тып.

Тэрміны з прэфіксам *на-* і суфіксам *-нік* утвораны ад асноў незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі інструментаў, прыстасаванняў: *навушнік, наканечнік, намордн͏ік, напульснік.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, шырока выкарыстоўваецца таксама ў размоўным стылі мовы. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны з некаторымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні.

Тэрміны з прэфіксам *над-* і суфіксам *-j-э* абазначаюць часткі цела чалавека, жывёлы, птушак, часткі прадметаў, якія знаходзяцца над тым, што названа ўтваральным словам: *надброўе, надлоб'е, надпечча, надкрылле, надплечча.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і менш прадуктыўны ў агульналітаратурным тэрмінаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэты ж прэфікс маюць адзінкавыя тэрміны з суфіксамі *-нік, -к-а, -іц-а: надкаленнік, надныравчнік, надскурка, надкосніца.*

Тэрміны з прэфіксам *каля-* і суфіксам *-нік* утвораны ад асноў незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі частак раслін, размешчаных вакол таго, што названа ўтваральным словам: *калякветнік, каляплоднік.*

Тып непрадуктыўны, выкарыстоўваецца ў батанічнай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з прэфіксам *около-* і суфіксам *-ник: околоцветник, околоплодник.*

Тэрміны з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ак* утвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, частак цела, якія знаходзяцца ніжэй або блізка да таго, што абазначана ўтваральным словам: *падбародак, падосак, падкрылак, падлесак, падмурак, падпечак, падсітак, падсвінак, падстрэшак.*

Тып малапрадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні і агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ов-ік(-ав-ік)* утвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі відаў грыбоў паводле іх размяшчэння: *асіна – падасінавік, падбярозавік, паддубовік.*

Тып непрадуктыўны, у рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ік (-ык)* утвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі асобін жывёльнага свету адносна падабенства да названых утваральным словам: *падворлік, падлешчык, пад'язік.*

Тып непрадуктыўны, у рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-нік* утвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, якія знаходзяцца пад тым, ніжэй таго, што абазначана ўтваральным словам: *падкаленнік, паддоннік.*

Тып непрадуктыўны у сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *перад-* і суфіксам *-j-э* ўтвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, частак цела, што знаходзяцца перад названым утваральным словам: *гара – перадгор'е, перадплечча, перадсэрдзе.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным славаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з прэфіксам *пред-* і суфіксам *-ие(-ье): предгорье, предплечье, предсердие.*

Адзінкавыя тэрміны з названым прэфіксам маюць суфіксы *-ак (перадкрылак), -нік (перадплужнік).*

Тэрміны з прэфіксам *су-* і суфіксам *-j-э* ўтвораны ад назоўнікаў і служаць для намінацыі прадметаў, якія складаюцца з некалькіх аднолькавых прадметаў, абазначаных утваральным словам: *сузор'е, суквецце, супloддзе.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі, непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з прэфіксам *со-* і суфіксам *-ие: созвездие, соцветие, соплодие.*

#### 11.10.1.1.1.4. Тэрміны, утвораныя спосабам аснова- і словаскладання

Тэрмінаўтваральны тып "аснова назоўніка+злучальны элемент складанага слова+назоўнік" катэгорыі прадметаў, з'яў, у якім кампаненты складанага слова злучаны спалучальнай сувяззю і суадносяцца са спалучальнымі словазлучэннямі: *жалеза і бетон – жалезабетон, законапраект, лесастэп, лесатундра, насаглотка, серавадарод, торфабрыкет, трагікамедыя, шкловалакно.* У якасці злучальнага элемента складанага слова выступае інтэрфікс *-а- (-я-).*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрмінаўтваральны тып "аснова назоўніка+злучальны элемент складанага слова +назоўнік", у якім кампаненты складанага слова злучаны падпарадкавальнай сувяззю і суадносяцца з падпарадкавальнымі словазлучэннямі: *балон для газу – газабалон, паласа лесу – лесапаласа, пасека для пчол – пчалапасека, сховішча для бульбы – бульбасховішча, тара для шкла – шклатара.* У ролі злучальнага кампанента выступае інтэрфікс -а-.

Тып самы прадуктыўны сярод складаных утварэнняў катэгорыі прадметаў, з'яў. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны з пэўнымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні.

Прадуктыўны тэрмінаўтваральны тып складаюць таксама назоўнікі-кампаненты з аналагічнымі падпарадкавальнымі адносінамі іменнага кіравання, у якіх першы кампанент з'яўляецца ўсечанай асновай назоўніка: *бак для бензіну – бензабак, сховішча для бензіну – бензасховішча.*

Да гэтага тыпу адносяцца таксама трохкампанентныя складаныя тэрміны назоўнікі з аналагічнымі адносінамі паміж першым і апошнім кампанентамі і ўсечанай асновай прыметніка, які выступае азначэннем да апошняга (апорнага) кампанента: *мотазапчасткі – запасныя часткі для матацыкла, аўтазапчасткі.*

У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрмінаўтваральны тып "аснова прыметніка+злучальны кампанент складанага слова+назоўнік", у якім кампаненты складанага слова звязаны падпарадкавальнай сувяззю і суадносяцца з падпарадкавальнымі словазлучэннямі з азначальнымі адносінамі паміж кампанентамі: *новая будоўля – новабудоўля, сухія фрукты – сухафрукты.* У якасці злучальнага кампанента выступае інтэрфікс *-а- (-я-).*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным тэрмінаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Прадуктыўны тэрмінаўтваральны тып складаюць таксама шматлікія назоўнікі-кампазіты з аналагічнымі падпарадкавальнымі азначальнымі адносінамі, у якіх першы кампанент з'яўляецца ўсечанай асновай прыметніка. У якасці першага кампанента выступаюць многія інтэрнацыянальныя асновы, якія звычайна называюцца інтэрнацыянальнымі тэрмінаэлементамі:

авія- (авіяцыйны): *авіябомба, авіякампанія, авіялінія;*

аўта- (аўтамабільны ці аўтобусны): *аўтатранспарт, аўтавакзал;*

аўта- (аўтаматычны): *аўтапагрузчык, аўтарэгуліроўшчык, аўтавыключальнік;*

агра- (агранамічны або сельскагаспадарчы): *агратэхніка, агракомплекс, аграаб'яднанне;*

астра- (астранамічны); *астрабатаніка, астрафізіка;*

бія- (біялагічны): *біяфізіка, біяхімія;*

вела- (веласіпедны): *велакрос, велачасткі;*

заа- (заалагічны): *зааферма, заапарк;*

касма- (касмічны): *касмафізіка;*

мота- (маторны); *моталодка, мотапіла;*

мота- (матарызаваны): *мотапяхота, мотабрыгада;*

мота- (матацыклетны): *мотагонкі, мотаспорт;*

радые- (радыелагічны): *радыебіялогія, радыетэрапія;*

сейсма- (сейсмічны): *сейсмастанцыя;*

стэрэа- (стэрэаскапічны): *стэрэакіно, стэрэаэфект;*

тэле- (тэлевізійны): *тэлеперадача, тэлеэкран, тэлеатэлье;*

тэрма- (тэрмічны): *тэрмаізаляцыя, тэрмабур;*

турба- (турбінны): *турбагенератар, турбакампрэсар;*

фота- (фатаграфічны): *фотаапарат, фотакопія;*

электра- (электрычны): *электрапрыбор, электранагравальнік;*

энерга- (энергетычны): *энергасістэма, энергагігант* і інш.

Сярод тэрмінаў гэтага словаўтваральнага тыпу семантычна вылучаюцца складаныя назоўнікі, якія служаць для намінацыі галін навук. Яны складаюць самастойную катэгорыю тэрмінаў – назвы навук і раздзелаў навук.

Тэрмінаўтваральны тып "аснова лічэбніка+злучальны кампанент складанага слова+назоўнік", у якім кампаненты складанага слова звязаны падпарадкавальнай сувяззю і суадносяцца з падпарадкавальнымі словазлучэннямі з азначальнымі адносінамі паміж кампанентамі: *двухвокіс, першакрыніца.* У якасці злучальнага кампанента выступае інтэрфікс *-а-.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Асобны тэрмінаўтваральны тып даюць назоўнікі-кампазіты, якія ўтвараюцца ў выніку спалучэння звязаных асноў (у асноўным інтэрнацыянальнага характару, так званых інтэрнацыянальных тэрмінаэлементаў) і назоўнікаў (апорных кампанентаў) з дапамогай злучальных элементаў складаных слоў. У якасці звязаных кампанентаў выступаюць наступныя:

аўта- (сінанімічны кампаненту сама-): *аўтабіяграфія, аўтапартрэт;*

астра- (які адносіцца да зорак): *астраспектраскоп, астраграфія;*

аэра- (сінанімічны да авія-): *аэравакзал;*

аэра- (які мае адносіны да паветра): *аэрадынаміка;*

бія- (які адносіцца да жыцця): *біятокі;*

відэа- (які адносіцца да перадачы адлюстравання на адлегласці): *відэазапіс, відэатэлефон;*

геа- (які адносіцца да зямлі): *геабатаніка, геахімія;*

гідра- (які адносіцца да вады): *гідраізаляцыя, гідрадынаміка, гідралакатар;*

макра- (антанімічны да мікра-): *макраклімат, макрарэльеф;*

мікра- (вельмі малы, звязаны з вывучэннем празмерна малых прадметаў, велічынь): *мікраарганізм, мікрабіялогія;*

міні- (малы, кароткі ў часе): *міні-партыя* (шахм.), *міні-футбол;*

мона- (адзіночны): *монакультура, монатэізм;*

неа- (новы): *неарэалізм, неафашызм;*

полі- (які складаецца з многіх частак): *полівітамін, поліметал;*

тэле- (які ажыццяўляецца з дапамогай тэлеэкрана): *тэлекантроль, тэлекіраванне;*

фота- (які адносіцца да святла, да светлавой энергіі): *фотасінтэз, фотахімія.*

Сярод тэрмінаў гэтага словаўтваральнага тыпу семантычна вылучаюцца складаныя назоўнікі, якія служаць для намінацыі галін навукі. Яны адносяцца да самастойнай семантычнай катэгорыі.

Да тэрмінаўтваральнага тыпу катэгорыі прадметаў, з'яў адносяцца і назоўнікі (складаныя або простыя) са звязаным апорным (другім) кампанентам. Да найбольш ужывальных адносяцца тыпы з наступнымі звязанымі апорнымі кампанентамі:

-граф – у назвах прылад, механізмаў, прыбораў, прызначаных для запісу чаго-небудзь: *барограф, сейсмограф, фанограф, цынкограф;*

-грама – у назвах прадметаў, якія з'яўляюцца вынікам запісу чаго-н. або якім-н. чынам: *радыяграма, сейсмаграма, тэлеграма, фанаграма, шыфраграма;*

-метр – у назвах вымяральных прыбораў: *віброметр, каларытометр, мікрометр, рэнтгенометр, таксометр;*

-скоп – у назвах аптычных і іншых прыбораў і інструментаў, звязаных з назіраннем над чым-н.: *мікраскоп, спектраскоп, тэлескоп, фільмаскоп, макраскоп;*

-фон – у назвах прыбораў, звязаных з узнаўленнем або перадачай гуку: *відэафон* (першы кампанент слова запазычаны з рускай мовы), *гідрафон, дыктафон, тэлефон, шлемафон;*

-дром – у назвах пляцовак, прыстасаваных для розных спаборніцтваў, выпрабаванняў машын, узлёту і пасадкі лятальных апаратаў: *аэрадром, вададром, касмадром, мотадром, ракетадром, ролікадром* (пляцоўка для катання на ролікавых каньках), *танкадром;*

-план – у назвах лятальных апаратаў: *аэраплан, гідраплан, дэльтаплан, ракетаплан, стратаплан;*

-стат – у назвах нерухомых або рухомых толькі пад знешнім уздзеяннем апаратаў і прыстасаванняў: *аэрастат, гідрастат, стратастат;*

-бус – у назвах відаў грамадскага транспарту: *аўтобус, аэробус, гідробус, мікробус, тралейбус;*

-мабіль – у назвах сродкаў перамяшчэння: *аўтамабіль, электрамабіль;*

-кар – у назвах невялікіх памерам прыстасаванняў для перавозкі чаго-небудзь: *аўтакар, тралейкар, электракар;*

-тэка – у назвах збору чаго-небудзь або памяшканняў для захоўвання гэтых збораў: *бібліятэка, дыскатэка, гратэка, картатэка, фанатэка, фільматэка;*

-рам(а) – у назвах відовішчаў, якія ахопліваюць шырокую прастору: *вірыярама, кругарама, стэрэарама;*

-мер – у назвах хімічных рэчываў па характары іх будовы: *ізамер, палімер;*

-трон – у назвах прыстасаванняў, памяшканняў для навуковых доследаў: *біятрон, кліматрон, мікратрон.* У якасці першага кампанента, які носіць удакладняльны характар, у складаных тэрмінах назоўніках са звязанымі апорнымі кампанентамі выступаюць як цэлыя (няўсечаныя) асновы назоўнікаў *(цукрыметр, шараскоп),* так і ўсечаныя *(дыктафон).*

Акрамя пералічаных вышэй усечаных асноў і звязаных кампанентаў тут выкарыстоўваюцца яшчэ такія:

страта- (стратасферны): *стратастат;*

арыфмо- (арыфметычны); *арыфмометр, арыфмограф;*

верта- (верталёт): *вертадром;*

дыя- (дыяпазітыў): *дыярама;*

аква-: *аквамабіль;*

антрапа-: *антрапометр;*

біблія-: *бібліятэка;*

кардыя-: *кардыяграма;*

тралей-: *тралейбус, тралейкар;*

фана-: *фанатэка;*

храна-: *хранометр,* а таксама іншыя больш рэдкія і вузкаспецыяльныя.

#### 11.10.1.1.1.5. Тэрміны, утвораныя суфіксальна-складаным спосабам

Суфіксальна-складаныя тэрміны, як правіла, складаюцца з дзвюх асноў, прычым папярэдні кампанент падпарадкаваны па сэнсе наступнаму, апорнаму. Асобныя ўтварэнні змяшчаюць тры асновы і больш.

##### 11.10.1.1.1.5.1. Тэрміны з дзеяслоўнай асновай у якасці апорнага кампанента

Тэрміны з суфіксам *-нік* абазначаюць прадметы, якія служаць для выканання дзеянняў, названых дзеяслоўнымі (апорнымі) асновамі і канкрэтызаваных першымі асновамі. Дзеяслоўныя асновы такія ж, як і ў суфіксальных тэрмінах з суфіксам *-нік.* У якасці першых асноў выступаюць назоўнікавыя: *маслаадстойнік, мачаточнік, паразборнік, саломапад'ёмнік, смеццезборнік, судапад'ёмнік, токапрыёмнік.*

Тып высокапрадуктыўны ў тэхнічнай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны, які істотна адрозніваецца лексічным напаўненнем і значна меншай прадуктыўнасцю.

Тэрміны з суфіксам *-к-а* абазначаюць прадметы (механізмы, прыстасаванні), якія служаць для выканання дзеянняў, названых дзеяслоўнай асновай і канкрэтызаваных адносна аб'екта папярэдняй назоўнікавай або прыметнікавай асновай. Дзеяслоўныя асновы тыя ж, што і ў суфіксальных тэрмінах з суфіксам *-к-а: вадакачка, ільнацёрка, мясарубка, фарбацёрка.*

У некаторых назвах механізмаў дзеяслоўныя асновы маюць прэфіксы: *газаачыстка, самазборка, самаскідка.*

Тып прадуктыўны ў сучаснай тэхнічнай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-лк-а* служаць для намінацыі прадметаў (механізмаў, прыстасаванняў), якія выконваюць дзеянні, названыя асновай дзеяслова і канкрэтызаваныя назоўнікавай асновай. Дзеяслоўныя асновы тыя ж, што і ў суфіксальных тэрмінах з суфіксам *-лк-а: бульбасаджалка, газонакасілка, землечарпалка, камнедрабілка, каноплямялка, сокавыціскалка.*

Тып прадуктыўны ў сучаснай тэхнічнай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-н-я* абазначаюць памяшканні, якія служаць для выканання дзеянняў, названых дзеяслоўнай (апорнай) асновай і канкрэтызаваных папярэдняй пераважна назоўнікавай асновай: *вінакурня, каменяломня, лесапільня, мукамольня, піваварня.*

Тып непрадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны, які таксама характарызуецца непрадуктыўнасцю.

Тэрміны з суфіксам *-авік* абазначаюць прадметы, што служаць для выканання дзеянняў, названых апорнымі дзеяслоўнымі асновамі і канкрэтызаваных папярэднімі прыметнікавымі: *ветрарухавік, электрарухавік.*

Тып набывае некаторую прадуктыўнасць у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з суфіксам *-тель: ветродвигатель, электродвигатель.*

Тэрміны з суфіксам *-ец(-ац),* утвораныя суфіксальна-складаным спосабам з асновай дзеяслова ў якасці апорнага кампанента, адзінкавыя: *браняносец, міна-носец.* Як і тэрміны папярэдніх тыпаў, яны служаць для намінацыі прадметаў, якія ўтвараюць дзеянне, названае апорнай дзеяслоўнай асновай і канкрэтызаванае першай асновай, звычайна назоўнікавай.

Тып непрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны, які таксама характарызуецца непрадуктыўнасцю.

### 11.10.1.1.1.5.2. Тэрміны з назоўнікавай асновай у якасці апорнага кампанента

Тэрміны з суфіксам *-к-а* служаць для намінацыі пераважна адушаўлёных прадмётаў, жывёл, якія характарызуюцца прыкметай, названай апорнай назоўнікавай асновай і канкрэтызаванай першай асновай. У якасці першай выступаюць асновы:

1) прыметнікаў *(краснапёрка, пласкацелка, сіняхвостка);*
2) лічэбнікаў *(паўкроўка, сараканожка);*
3) назоўнікаў *(караняножка, шыладзюбка);*
4) дзеясловаў *(трасагузка).*

Тып прадуктыўны пераважна ў тэрміналогіі прыродазнаўчых навук. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-j-э* служаць для намінацыі з'яў, якія характарызуюцца наяўнасцю таго, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана першай асновай. У якасці першай выступаюць асновы:

1) прыметнікаў *(белакроўе, шматтэм'е);*
2) лічэбнікаў *(двухмоўе, шматкроп'е);*
3) назоўнікаў *(народаўладдзе, траваполле).*

Тып малапрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны з некаторымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні.

Тэрміны з суфіксам *-ок* служаць для намінацыі неадушаўлёных і адушаўлёных прадметаў, якія характарызуюцца прыкметамі, названымі апорнай назоўнікавай

асновай і канкрэтызаванымі першай асновай. У якасці першай асновы выступаюць асновы лічэбнікаў і прыметнікаў, кампаненты *паў-* і *мала-: адналетак, малалетак, паўкровак, паўстанак, першагодак.*

Тып непрадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні, некаторыя тэрміны гэтага тыпу ўжываюцца пераважна ў размоўным стылі, маюць больш ужывальныя і кадыфікаваныя ў слоўніках лексічныя сінонімы, параўн.: *малалетак – непаўналетні.* У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны з некаторымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні, параўн.: рус. *пятистенок, полушубок,* бел. *пяцісценка, кажух.*

Тэрміны з суфіксам *-ц-ы* служаць для намінацыі інструментаў, якія характарызуюцца тым, што названа апорнай асновай, і канкрэтызуюцца першай асновай. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу адзінкавыя. Апорным кампанентам выступаюць асновы слоў *губа* і *зуб,* у якасці першага кампанента – асновы прыметнікаў *востры* і *плоскі: вастрагубцы, вастразубцы, пласкагубцы, пласказубцы.*

Тып непрадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны, які таксама характарызуецца непрадуктыўнасцю.

#### 11.10.1.1.1.5.3. Тэрміны са звязанымі апорнымі кампанентамі

Тэрміны з суфіксамі *-і/-а(-ы/-а)* і звязанымі апорнымі кампанентамі *-граф, -метр, -скоп, -фон, -тып, -хром* служаць для намінацыі фізічных з'яў, галін навукі і тэхнікі, сфер дзейнасці, названых апорным кампанентам і ўдакладненых першым кампанентам: *паліграфія, рэнтгенаскапія, секундаметрыя, стэрэафанія, фотатыпія, фотахрамія.* Першыя кампаненты, пераважна ўсечаныя і звязаныя, таксама як і апорны, адносяцца да інтэрнацыянальных тэрмінаэлементаў.

Тып прадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні.

### 11.10.1.1.1.6. Складаныя тэрміны з нулявым суфіксам

#### 11.10.1.1.1.6.1. Тэрміны з дзеяслоўнай асновай у якасці апорнага кампанента

Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу служаць для намінацыі прадметаў, прыстасаванняў па іх прызначэнні, названым апорным кампанентам і канкрэтызаваным першым кампанентам. У якасці першага кампанента выступаюць назоўнікі: *громаадвод, водазабор, вадасцёк, касмалёт, ледакол, самазвал, турбаход, электравоз; вадаклюй* (птушка), *плескажыл, трубкажыл* (назвы чарвей), *пескарый* (рыба).

Тып прадуктыўны ў сучаснай навукова-тэхнічнай і часткова ў прыродазнаўчай тэрміналогіі. У рускай тэрміналогіі яму адпавядае аналагічны.

Найбольш частымі з'яўляюцца наступныя апорныя кампаненты: *-мер (вадамер, газамер, гукамер); -рэз (вадарэз, кустарэз), -ед (дрэваед, караед), -воз (землявоз, лесавоз), -ход (атамаход); -падвод, -адвод, -правод (токападвод, газаадвод, бензаправод), -мёт (агнямёт, кулямёт), -кол (ледакол), -варот (вадаварот, кругаварот), -кід, -скід (стагакід, вадаскід)* і інш.

#### 11.10.1.1.1.6.2. Тэрміны з назоўнікавай асновай у якасці апорнага кампанента

Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу прадстаўлены пераважна назоўнікамі мужчынскага роду 1-га скланення, служаць для намінацыі адушаўлёных або неадушаўлёных прадметаў, якія маюць адносіны да таго або характарызуюцца тым, што названа апорнай асновай: *караняплод, вінтакрыл* (тэхн.). У якасці першай выступаюць асновы: прыметнікаў *(даўганос, чарназём);* лічэбнікаў *(аднарог, васьміног,*

*мнагачлен)*; назоўнікаў *(качканос, ластахвост, лісахвост, насарог)*; дзеясловаў *(верталіст, балігалоў)*.

Назоўнікі жаночага роду катэгорыі прадметаў сярод складаных тэрмінаў з апорным кампанентам – асновай назоўніка адзінкавыя: *сараканожка*.

Тып прадуктыўны ў прыродазнаўчай і часткова ў тэхнічнай тэрміналогіі. У рускай тэрміналогіі яму адпавядае аналагічны.

#### 11.10.1.1.2. Тэрміны абрэвіятуры

Тэрміны абрэвіятуры катэгорыі прадметаў па семантыцы падзяляюцца на дзве асноўныя групы:

1) якія служаць для намінацыі арганізацый, устаноў, грамадскіх арганізацый (*ВНУ, ТЮГ, ВАК, прафком*);

2) якія служаць для намінацыі механізмаў, прыстасаванняў па іх адметных прыкметах: *мапед, падлодка, эсмінец*.

Па структуры вылучаюцца наступныя тыпы тэрмінаў абрэвіятур катэгорыі прадметаў:

1) абрэвіятуры ініцыяльнага тыпу з двума падтыпамі: а) утварэнні са спалучэнняў пачатковых літар слоў (*ВНУ* (вэнэу); б) утварэнні са спалучэння пачатковых гукаў слоў *[БАМ* (бам), *ТЮГ, МАЗ, ВАК]*;

2) абрэвіятуры складовага тыпу (*прафком, сельмаг*);

3) абрэвіятуры змешанага складова-ініцыяльнага тыпу – утварэнні, якія сумяшчаюць элементы папярэдніх тыпаў: *педВНУ*;

4) абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковай часткі першага слова і канцавой (ці пачатковай і канцавой) другога: *ваенны камісарыят – ваенкамат, эскадравы мінаносец – эсмінец*;

5) абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковай часткі аднаго слова і цэлага другога слова: *нарсуд*.

Некаторыя тэрміны сумяшчаюць адзнакі абрэвіяцыі і складання: *спортінвентар, Беларусьфільм, Грузіякіно*.

Усе тыпы абрэвіятур шырока ўжываюцца ў тэрміналогіі.

Абрэвіятуры – чыстыя скарачэнні (частка аднаго слова) часта выкарыстоўваюцца ў размоўным стылі, маюць зніжанае экспрэсіўнае значэнне ў параўнанні з нескарочанымі тэрмінамі: *веласіпед – велік, мультфільм – мульцік, тэлевізар – тэлік*.

### 11.10.1.2. КОМПЛЕКСНЫЯ ТЭРМІНЫ

Словазлучэнні "назоўнік+залежны просты прыметнік": *кіслародная падушка, кніжная палата, комплексная брыгада, назыўны сказ, нерухомая маёмасць, санорныя зычныя, тутавае дрэва, цытварны палын*. Парадак слоў у гэтых словазлучэннях – прэпазіцыя залежнага кампанента. У медыцынскай і прыродазнаўчай тэрмінасістэмах побач з прэпазіцыяй залежнага кампанента выкарыстоўваецца і постпазіцыя: *перапонка барабанная, вены полыя, тканка злучальная, зубы вочныя, сустаў каленны, рэфлекс умоўны, абалонка серозная, баравік заечы, боб конскі, грыбы паразітныя, капуста марская, мох аленевы, груша земляная, корань фіялкавы, бабёр балотны, жук каларадскі, жук майскі*.

У сферы фіксацыі тэрміналагічныя словазлучэнні катэгорыі прадметаў, з'яў кадыфікуюцца як з прэпазіцыяй, так і з постпазіцыяй залежнага кампанента.

Галоўны кампанент звязаны з залежнымі азначальнымі адносінамі. Тып сувязі – дапасаванне.

Словазлучэнні "назоўнік+залежны складаны прыметнік": *сельскагаспадарчая арцель, сельскагаспадарчае таварыства, добраахвотнае таварыства, заканадаўчая ініцыятыва, страўнікава-кішэчны тракт, шчытападобная залоза, фразеалагічнае зрашчэнне, аднародныя дзейнікі, аднасастаўны сказ, мнагакратны дзеяслоў, рознаспрагальны дзеяслоў, інфрачырвоныя прамяні, лесапільная рама, трохфазны ток, чарнаплодная рабіна, чалавекападобныя малпы, марганцавакіслы калій, вуглякіслы газ, высакародныя металы, палеазойская эра, мезазойская культура, плацежаздольны попыт, панарамны кінафільм.*

Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца такім жа парадкам кампанентаў, як і словазлучэнні з простымі прыметнікамі ў якасці залежнага кампанента. Кампаненты словазлучэння звязаны азначальнымі адносінамі. Тып сувязі – дапасаванне.

Словазлучэнні "назоўнік+дапасаваны назоўнік": *бібліятэка-чытальня, карабель-спадарожнік, крэсла-ложак, ракета-зонд, ракета-носьбіт, ракета-спадарожнік, сабака-сышчык, салон-вагон, самалёт-снарад, табель-каляндар, тэлефон-аўтамат, школа-інтэрнат.*

Парадак кампанентаў у гэтых складаных тэрмінах устойлівы: залежны (спецыфічны) кампанент заўсёды ў постпазіцыі да галоўнага. Тэрміны гэтага тыпу заснаваны на злучальнай сувязі.

Словазлучэнні "назоўнік+залежны назоўнік без прыназоўніка": *стол знаходак, зуб мудрасці, круг кровазвароту, пункт кіпення, метад замяшчэння, каробка перадач, рэакцыя замяшчэння, лінія агню, гонка ўзбраення квадратура круга, часціны мовы, крытэрый ісціны, камбінаторыка гукаў, паласа адчужэння.*

Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца постпазіцыяй залежнага кампанента. Кампаненты словазлучэнняў характарызуюцца азначальнымі, аб'ектнымі, камплетыўнымі адносінамі. Тып сувязі – кіраванне.

Словазлучэнні "назоўнік+залежны назоўнік з прыназоўнікам" адзінкавыя: *кропка з коскай.* Парадак слоў – постпазіцыя залежнага кампанента. Кампаненты звязаны аб'ектнымі і азначальнымі адносінамі. Тып сувязі – кіраванне.

Словазлучэнні "залежны прыметнік+назоўнік+залежны назоўнік": *крытычны стан рэчыва, метрычная сістэма мер, перыядычная сістэма элементаў.*

У словазлучэннях гэтага разраду залежны прыметнік звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі да галоўнага кампанента, а назоўнік – у постпазіцыі, галоўны кампанент звязаны з залежным прыметнікам азначальнымі адносінамі, а з назоўнікам – аб'ектнымі або камплетыўнымі, у адпаведнасці з гэтым тыпы сувязі паміж галоўным і залежнымі кампанентамі – дапасаванне і кіраванне.

Словазлучэнні "назоўнік+некалькі залежных прыметнікаў": *абсалютная зямельная рэнта, белыя крывяныя цельцы, белыя крывяныя шарыкі, вегетатыўная нервовая сістэма, чырвоныя крывяныя цельцы, чырвоныя крывяныя шарыкі.* Такіх тэрміналагічных словазлучэнняў нямнога.

Парадак слоў у гэтых словазлучэннях – прэпазіцыя складанага залежнага кампанента, выражанага двума дапасаванымі прыметнікамі. Галоўны і залежны кампаненты звязаны азначальнымі семантыка-сінтаксічнымі адносінамі. Тып сувязі – дапасаванне.

Словазлучэнні "назоўнік+залежны назоўнік з азначальным словам": *бюро добрых паслуг, каэфіцыент карыснага дзеяння.*

Парадак слоў у гэтых тэрміналагічных словазлучэннях – постпазіцыя складанага залежнага кампанента, выражанага назоўнікам з азначальным словам. Галоўны і залежны кампаненты звязаны азначальнымі семантыка-сінтаксічнымі адносінамі.

Тып сувязі – кіраванне. Як паказвае аналіз тэрміналагічных словазлучэнняў катэгорыі прадметаў, з'яў, гэты тып тэрміналагічнай намінацыі з'яўляецца самым прадуктыўным у параўнанні з іншымі катэгорыямі. Найбольш шырока прадстаўлены двухслоўныя тэрміны з прыметнікам у якасці залежнага кампанента. З 1185 тэрміналагічных словазлучэнняў, зафіксаваных у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы", звыш 710 адносіцца да семантычнай катэгорыі прадметаў, з'яў. З іх каля 650 – двухслоўныя тэрміны з прыметнікам у якасці залежнага кампанента.

Тэрміналагічныя словазлучэнні характарызуюцца высокай прадуктыўнасцю ва ўсіх галіновых тэрміналагічных сістэмах, што ў многім тлумачыцца неабходнасцю больш дыферэнцыяванай, паглыбленай намінацыі прадметаў, з'яў, якая дыктуецца пазамоўнымі патрабаваннямі развіцця розных галін навукі.

Незалежна ад структурна-семантычных адносін і сінтаксічных тыпаў сувязі паміж кампанентамі словазлучэнняў тэрміналагічныя словазлучэнні катэгорыі прадметаў, з'яў характарызуюцца пастаянствам іх саставу, што з'яўляецца адметнай прыметай тэрміналагічных словазлучэнняў наогул.

Сярод словазлучэнняў гэтай катэгорыі вылучаецца група канструкцый фразеалагічнага характару, якія характарызуюцца не толькі пастаянствам свайго складу, а і структурна-семантычнай непадзельнасцю: *жывое срэбра, анатамічны тэатр, сляпая кішка, сардэчная сумка, сонечнае спляценне, Адамаў яблык, магнітная бура, вока буры, гусіная лапка, ільвіны зеў, марская зорка, грымучы газ, лятучая рыба, інфузорная зямля.*

## 11.10.2. КАТЭГОРЫЯ ПРАЦЭСАЎ, ДЗЕЯННЯЎ

### 11.10.2.1. ТЭРМІНЫ НАЗОЎНІКІ

#### 11.10.2.1.1. Тэрміны, утвораныя афіксальным спосабам

##### 11.10.2.1.1.1. Суфіксальныя тэрміны

Тэрміны з суфіксамі *-нн-е, -а-нн-е, -е-нн-е, -э-нн-е* займаюць значнае месца ў сістэме сучаснай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі. Яны ўтвораны ад асноў уласна беларускіх і запазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі працэсаў або апрадмечаных дзеянняў: *аднаўленне, валачэнне, выпадзенне, плаўленне, тачэнне, укараненне.* Значная колькасць запазычаных утваральных дзеясловаў належыць да інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду: *дарнаванне, плакіраванне, ханінгаванне.*

Рад тэрмінаў з названымі суфіксамі побач са значэннем працэсу, дзеяння маюць значэнне суб'ектаў дзеяння або прылады, сродку ажыццяўлення дзеяння: *камандаванне, праўленне; зазямленне, угнаенне.*

Гэты словаўтваральны тып прадуктыўны як у тэрміналогіі, так і ў агульнаўжывальнай лексіцы. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае тып з суфіксамі *-нн-е, -а-нн-е.*

Тэрміны з суфіксам *-к-а* ўтвораны ад незапазычаных дзеясловаў і складаюць прадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні тып: *варка, зборка, коўка, наладка, праўка, прамерка, апрацоўка, фарміроўка.* У агульнаўжывальным словаўтварэнні тып характарызуецца некалькі меншай прадуктыўнасцю. Некаторыя тэрміны з суфіксам *-к-а* маюць тэрмінаўтваральныя варыянты з суфіксам *-н-не,* якія звычайна характарызуюцца значна большай ужывальнасцю ў сферы функцыянавання і

кадыфікаваны ў слоўніках беларускай мовы ў якасці асноўных: *абрэзка – абрэзванне, фармоўка – фармаванне.*

У рускім тэрмінаўтварэнні тэрмінаўтваральнаму тыпу з суфіксам *-к-а* адпавядае аналагічны, які характарызуецца большай прадуктыўнасцю ў параўнанні з беларускай мовай. Тэрміны з гэтым суфіксам у рускай мове маюць значна менш словаўтваральных варыянтаў з суфіксам *-нн-е* або з'яўляюцца асноўнымі пры наяўнасці апошніх, параўн.: бел. *абрэзка* і *абрэзванне* – рус. *обрезка;* бел. *наладка* і *наладжванне* – рус. *наладка;* бел. *фармоўка* і *фармаванне* – рус. *формовка.*

Тэрміны з суфіксам *-ур-а* ўтвораны ад асноў запазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі адцягненых дзеянняў, працэсаў адносна роду заняткаў: *карэктура, рэжысура.* Большасць утваральных дзеясловаў з'яўляецца інтэрнацыянальнай.

Побач са значэннем дзеяння гэтыя тэрміны маюць і прадметнае значэнне выніку адпаведнага дзеяння: *карэктура* – працэс працы карэктара і прадмет працы карэктара.

Для намінацыі дзеянняў, працэсаў замест тэрмінаў з суфіксам *-ур-а* часта ўжываюцца словаўтваральныя варыянты з суфіксам *-нн-е: карэктура – карэкціраванне.*

У агульналітаратурным словаўтварэнні тып непрадуктыўны.

Тэрміны з суфіксам *-ацыj-а* і яго варыянтам *-ізацыj-а* ўтвораны ад асноў дзеясловаў і назоўнікаў, большасць з якіх адносіцца да запазычаных: *газіфікацыя, дыспетчарызацыя, кантрактацыя, кантэйнерызацыя, рубрыкацыя, стылізацыя, утылізацыя, электрыфікацыя.* Гэтыя тэрміны служаць для намінацыі дзеянняў па забеспячэнні чым-небудзь. Асобна вылучаюцца тэрміны для намінацыі працэсаў паводле адносін да таго, што названа ўтваральным словам: *фільтрацыя.*

Большасць аддзеяслоўных тэрмінаў побач са значэннем дзеяння мае значэнне выніку дзеяння, прыстасавання, прылады: *анатацыя, вентыляцыя, ізаляцыя,* а таксама групы асоб ці ўстаноў па іх функцыі: *эміграцыя, інспекцыя, рэдакцыя.*

З мэтай дыферэнцыяцыі гэтых двух значэнняў для абазначэння дзеянняў, працэсаў часта выкарыстоўваюцца словаўтваральныя варыянты з суфіксам: *-нн-е: анатацыя – анацiраванне, вентыляцыя – вентыліраванне, ізаляцыя – ізаліраванне, эміграцыя – эмігрыраванне, інспекцыя – інспекціраванне, рэдакцыя – рэдагаванне, рэстаўрацыя – рэстаўраванне.* Такі спосаб дыферэнцыяванай намінацыі названых двух значэнняў з'яўляецца перспектыўным у аспекце лінгвістычнага ўпарадкавання тэрмінаў, а варыянты з прадуктыўным у сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні суфіксам *-нн-е* для абазначэння працэсаў, дзеянняў патрабуюць кадыфікацыі ў сучаснай тэрмінаграфічнай практыцы.

Пад уздзеяннем тэрміналагічнай лексікі гэты тып набывае пэўную прадуктыўнасць у агульнаўжывальным словаўтварэнні: *ліквідацыя, нумарацыя, публікацыя.*

У рускім тэрмінаўтварэнні словаўтваральнаму тыпу з суфіксам *-ацыj-* адпавядае аналагічны, які характарызуецца, аднак, большай прадуктыўнасцю і больш абмежаванымі магчымасцямі замены тэрмінаў з суфіксам *-ациj-* словаўтваральнымі варыянтамі тэрмінаў з суфіксам *-ни-*, параўн.: бел. *кантэйнерызацыя – кантэйнерызаванне,* рус. *контейнеризация;* бел. *стылізацыя – стылізаванне,* рус. *стилизация;* бел. *утылізацыя – утылізаванне,* рус. *утилизация.*

Тэрміны з суфіксам *-цц-е (-цц-ё)* утвораны ад асноў незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі апрадмечаных дзеянняў: *ліццё, прывіццё, развіццё, разліццё.* У сучаснай беларускай мове словаўтваральны тып з суфіксам *-цц-е (-цц-ё)* характарызуецца нязначнай прадуктыўнасцю, а ў тэрмінаўтварэнні – непрадуктыўнасцю. Замест тэрмінаў з гэтым суфіксам часта выкарыстоўваюцца тэрміны з

суфіксамі *-к-а, -нн-е: прывіццё – прывіўка – прывіванне* (саджанцаў), *разліццё – разліўка* (сталі).

У рускай мове адпаведны словаўтваральны тып з суфіксам *-ни-е* практычна не выкарыстоўваецца ў тэрмінаўтварэнні, замест яго больш шырока выкарыстоўваецца словаўтваральны тып з суфіксам *-к-а: прывіццё – прививка* (саженцев), *разліццё – разливка* (стали).

Тэрміны з суфіксам *-б-а* ўтвораны ад асноў незапазычаных дзеясловаў і складаюць непрадуктыўны ў тэрмінаўтварэнні тып: *барацьба, касьба, малацьба, сяўба, разьба.* У агульнаўжывальным словаўтварэнні ён характарызуецца большай прадуктыўнасцю, хоць таксама адносіцца да малапрадуктыўных словаўтваральных тыпаў. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ін-ы* ўтвораны ад незапазычаных дзеясловаў і складаюць непрадуктыўны тып, ужываюцца пераважна ў этнаграфічнай тэрміналогіі: *агледзіны, адведзіны, адыходзіны, закладзіны, заручыны, змовіны, расходзіны, уваходзіны.* Пэўную прадуктыўнасць словаўтваральны тып з суфіксам *-ін-ы* мае ў гутарковым стылі. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны, які характарызуецца, аднак, значна меншым аб'ёмам.

Тэрміны з суфіксам *-л-я* ўтвораны ад дзеясловаў і служаць для намінацыі працэсуальнай прыкметы: *будоўля, гадоўля, купля.* Тып непрадуктыўны ў сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае некалькі словаўтваральных тыпаў: з суфіксам *-ств-* (бел. *будоўля* – рус. *строительство),* з суфіксам *-ни-е* (бел. *гадоўля* – рус. *выращивание),* з суфіксам *-л-я* (бел. *купля* – рус. *купля).* Сярод тэрмінаў з суфіксам *-лл-я (-л-я)* сустракаюцца размоўныя варыянты, якія выкарыстоўваюцца ў гутарковай мове побач з кадыфікаванымі ў навуковым і дзелавым стылях словаўтваральнымі варыянтамі з суфіксам *-нн-е: гадоўля – гадаванне.*

Побач са значэннем працэсу, дзеяння многія тэрміны маюць таксама прадметнае значэнне выніку гэтага дзеяння: *будоўля, купля.*

*Нульсуфіксальныя* тэрміны назоўнікі мужчынскага роду 1-га скланення ўтвораны ад незапазычаных і запазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі адцягненага дзеяння, стану. У іх семантыцы сумяшчаецца значэнне працэсу, адпаведнае ўтваральнаму дзеяслову, і прадметнае значэнне назоўніка як часціны мовы: *абрэз, агляд, абгон, абмен, заціск, дрэйф, дэбют, пуск, сеў, увод.*

Тып прадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Назоўнікі жаночага роду 2-га скланення ўтвораны пераважна ад незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі адцягненага дзеяння або стану: *абарона, ахова* (працы), *заваёва, прысяга.* Некаторыя з гэтых тэрмінаў побач са значэннем дзеяння маюць прадметнае значэнне выніку гэтага дзеяння: *заваёва, запруда, прысяга.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны тып і часткова – нульсуфіксальныя назоўнікі ніякага роду: бел. *заваёва* – рус. *завоевание.*

Назоўнікі жаночага роду 3-га скланення ўтвораны ад незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі адцягненага дзеяння ці стану: *рэзь, морась, замець.*

Тып малапрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні выкарыстоўваецца аналагічны.

Множналікавыя назоўнікі ўтвораны ад незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі дзеяння, якое адбываецца доўгі час: *выбары, роды.* Гэтыя тэрміны адзінкавыя.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *анты-* служаць для намінацыі супрацьлеглага таму, што названа ўтваральным словам: *антыдэмакратыя, антыкрытыка, антысемітызм.* Гэтыя тэрміны інтэрнацыянальныя.

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі.

Тэрміны з прэфіксам *без- (бяз-), бес- (бяс-)* служаць для абазначэння адсутнасці таго, што названа ўтваральным словам: *бязвоблачнасць, беспрытомнасць, бессвядомасць, бессістэмнасць, бяздзейнасць.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі, уключае пераважна незапазычаныя лексемы. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *дыс-* паказваюць, што дзеянні, працэсы, станы, названыя ўтваральным словам, адсутнічаюць: *дыскаардынацыя, дыскваліфікацыя.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі. Уключае інтэрнацыянальныя лексемы.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *дэ- (дэз-)* абазначаюць дзеянне, працэс, стан, супрацьлеглы або адваротны таму, што названа утваральным словам: *дэзінфекцыя, дэкваліфікацыя, дэмантаж, дэмаскіроўка, дэмабілізацыя.* Тэрміны *дэзінфармацыя, дэзарыентацыя* маюць іншае значэнне – ‘няправільная інфармацыя (арыентацыя)‘.

Тып прадуктыўны ў афіцыйна-дзелавым і газетна-публіцыстычным стылях. Уключае пераважна інтэрнацыянальныя тэрміны.

Тэрміны з прэфіксам *пасля-* служаць для намінацыі дзеянняў, якія адбываюцца пасля праведзеных раней. Гэтыя тэрміны адзінкавыя: *паслядзеянне, пасляўздзеянне.*

Тып непрадуктыўны, уключае незапазычаныя лексемы. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з прэфіксам *после-: последействие, последействие.*

Тэрміны з прэфіксам *пера-* служаць для намінацыі паўторнасці дзеяння або працэсу: *перавыбарка, перавыбары, перакамісія, перарэгістрацыя, перасуд.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, уключае запазычаныя і незапазычаныя лексемы. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *проці-* абазначаюць дзеянні, працэсы, станы, процілеглыя названым утваральным словам: *дзеянне – процідзеянне, процісклізгаценне, процістаянне, праціцячэнне.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, уключае незапазычаныя лексемы. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з прэфіксам *противо-: противодействие, противоскольжение, противостояние, противотечение.*

Тэрміны з прэфіксам *супраць-* маюць такое ж значэнне, як і тэрміны з прэфіксам *проці-,* адрозніваюцца меншай ужывальнасцю ў тэрміналагічным словаўтварэнні: *супрацьдзеянне, супрацьслізгаценне, супрацьстаянне, супрацьцячэнне.*

Тэрміны з прэфіксам *рэ-* служаць для намінацыі:

1) дзеянняў, працэсаў, супрацьлеглых тым, якія названы ўтваральным словам: *рээвакуацыя, рээкспарт, рээміграцыя.*

Тып непрадуктыўны, уключае інтэрнацыянальныя лексемы;

2) паўторных дзеянняў, працэсаў: *рэампутацыя, рэарганізацыя, рэмілітарызацыя, рэтрансляцыя.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, уключае інтэрнацыянальныя лексемы.

### 11.10.2.1.1.3. Суфіксальна-прэфіксальныя тэрміны

Тэрміны катэгорыі працэсаў, дзеянняў, утвораныя прэфіксальна-суфіксальным спосабам, прадстаўлены вельмі прадуктыўнымі ў сучаснай навукова-тэхнічнай

тэрміналогіі тыпамі з некалькімі незапазычанымі прэфіксамі ў спалучэнні з суфіксам *-к-а* або нулём суфікса.

Тэрміны з прэфіксамі *аб-, пра-, з- (с-), за-, ад-* і суфіксам *-к-а* ўтвораны ад асноў незапазычаных дзеясловаў: *абмазка, прашыўка, склёпка, засечка, адліўка*. Некаторыя тэрміны гэтых словаўтваральных тыпаў маюць акрамя значэння працэсуальнасці значэнне прадмета.

У рускім тэрмінаўтварэнні гэтым словаўтваральным тыпам адпавядаюць аналагічныя з пэўнымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні.

Тэрміны з прэфіксамі *за-, пры-, з-, рас- (рас-)* і нулём суфікса ўтвораны ад асноў незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі аднаактнай выніковай працэсуальнасці: *заціск, прывад, прыцір, зрэз, разгіб*. Побач са значэннем працэсуальнасці яны могуць выражаць і прадметнае значэнне.

Словаўтваральны тып з прэфіксам *за-* і нулём суфікса набывае прадуктыўнасць у спартыўнай тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу служаць для намінацыі аднаго акта мнагакратнага дзеяння: *забег, заезд, заплыў.*

Шырокая прадуктыўнасць словаўтваральных тыпаў з прэфіксальнымі ўтваральнымі дзеясловамі з'яўляецца агульнамоўнай заканамернасцю. У навукова-тэхнічнай і спартыўнай тэрміналогіі катэгорыі дзеянняў, працэсаў гэта заканамернасць узмацняецца, паколькі менавіта дзеясловы актыўнага дзеяння адлюстроўваюць асноўны паняційны змест гэтай катэгорыі, а пералічаныя вышэй прэфіксы (побач з удакладненнем зместу дзеянняў, працэсаў) ператвараюць граматычна непераходныя дзеясловы ў пераходныя, садзейнічаюць гэтым выражэнню семы актыўнасці ў значэнні дзеясловаў.

### 11.10.2.2. ТЭРМІНЫ ДЗЕЯСЛОВЫ

#### 11.10.2.2.1. Тэрміны, утвораныя афіксальным спосабам

##### 11.10.2.2.1.1. Суфіксальныя тэрміны

Гэтыя тэрміны складаюць некалькі словаўтваральных тыпаў.

Тэрміны з суфіксам *-а- (-я-)* нешматлікія, утвараюцца ад назоўнікаў *(казыраць)* і дзеясловаў *(выключаць, саджаць)* і маюць значэнне 'ўтвараць дзеянне паводле таго, што названа ўтваральным словам'.

Тып непрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ава- (-ява-)* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне:

'даваць тое, пакрываць тым, што названа ўтваральным словам' *(крэдытаваць, фінансаваць, вапнаваць, нікеляваць);*

'утвараць дзеянне паводле таго, што названа ўтваральным словам' *(камплектаваць, рэцэнзаваць, цюкаваць);*

'утвараць дзеянне з дапамогай таго, што названа ўтваральным словам' *(дрыляваць, пілаваць).*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны з пэўнымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні: бел. *пілаваць* – рус. *пилить.*

Тэрміны з суфіксам *-ізава- (-ызава-)* утвараюцца пераважна ад запазычаных назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя тэрміны маюць значэнні:

'падвяргаць дзеянню чаго-н., рабіць каго-н. схільным да чаго-н.' *(бактэрызаваць, дагматызаваць, імунізаваць, інвентарызаваць, матэматызаваць, рэвалюцыянізаваць, танізаваць, экранізаваць);*

‘змяшчаць у пэўнае месца‘ *(шпіталізаваць, дыспансерызаваць).*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Адпрыметнікавыя тэрміны маюць значэнні:

‘надзяляць прыкметай, уласцівай утваральнаму слову‘ *(актывізаваць, беларусізаваць, дэмакратызаваць, еўрапеізаваць, яравізаваць);*

‘апрацаваць пэўным чынам‘ *(гальванізаваць, герметызаваць).*

Тып прадуктыўны ў грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ірава- (-ырава-)* утвараюцца пераважна ад запазычаных назоўнікаў і маюць значэнне ‘падвяргаць дзеянню тым, што названа ўтваральным словам‘: *акупіраваць, амнісціраваць, анатаміраваць, аперыраваць, браніраваць, зандзіраваць, пікіраваць.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ства-* ўтвараюцца ад незапазычаных і запазычаных назоўнікаў і абазначаюць дзеянне ў адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *апякунстваваць, дырэктарстваваць, старшынстваваць, шэфстваваць.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Аналіз суфіксальных тэрмінаў дзеясловаў катэгорыі працэсаў, дзеянняў паказвае выключную ролю суфіксальнага дзеяслоўнага тэрмінаўтварэння ў гэтай структурна-семантычнай катэгорыі: тэрміны дзеясловы катэгорыі працэсаў, дзеянняў утвараюцца з дапамогай 5 суфіксаў з 12 асноўных дзеяслоўных суфіксаў агульналітаратурнай мовы. Тры словаўтваральныя тыпы з’яўляюцца прадуктыўнымі. Суфіксальныя тэрміны дзеясловы іншых структурна-семантычных катэгорый (прадметаў, з’яў; якасцей, станаў; прафесій, сфер дзейнасці і інш.) з’яўляюцца адзінкавымі і не выяўляюць пэўных тэрмінаўтваральных заканамернасцей.

Даволі значная прадуктыўнасць прааналізаваных вышэй тыпаў у тэрміналогіі структурна-семантычнай катэгорыі працэсаў, дзеянняў абумоўлена катэгарыяльнымі ўласцівасцямі дзеясловаў.

Рускае і беларускае суфіксальнае тэрмінаўтварэнне гэтай катэгорыі выяўляе агульнасць асноўных тыпаў і мае пэўную спецыфіку пераважна ў лексічным напаўненні, што тлумачыцца як блізкасцю тэрмінаўтваральных сістэм рускай і беларускай моў, так і значнай колькасцю інтэрнацыянальных суфіксаў і тэрмінаўтваральных асноў.

#### 11.10.2.2.1.2. Прэфіксальныя тэрміны

Тэрміны з прэфіксам *аб- (аба-, а-)* утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне ‘давесці дзеянне да выніку‘: *ацынкаваць, азеляніць, асвятліць, асушыць.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны з пэўнымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *дыс-* утвораны ад дзеясловаў і служаць для намінацыі працэсаў, дзеянняў, супрацьлеглых названым утваральным словам: *дысгарманіраваць, дыскваліфікаваць.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *дэ- (дэз-)* утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне ‘выканаць дзеянне, супрацьлеглае названаму ўтваральным словам,

ануляваць вынік гэтага дзеяння‘: *дэзарганізаваць, дэзінфіцыраваць, дэквліфікаваць, дэмабілізаваць, дэмілітарызаваць.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Тэрміны з прэфіксам *за-* ўтвораны ад дзеясловаў і выражаюць значэнне ‘давесці дзеянне да выніку‘: *зашыфраваць, закадзіраваць, запраграмаваць.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Аналіз прэфіксальных тэрмінаў дзеясловаў катэгорыі працэсаў, дзеянняў паказвае даволі значную ролю прэфіксальнага дзеяслоўнага тэрмінаўтварэння ў гэтай структурна-семантычнай катэгорыі: тэрміны дзеясловы катэгорыі працэсаў, дзеянняў утвараюцца з дапамогай 4 прэфіксаў з 21 асноўнага дзеяслоўнага прэфікса агульналітаратурнага словаўтварэння, у той час як прэфіксальныя тэрміны дзеясловы іншых структурна-семантычных груп адзінкавыя. Тэрміны, утвораныя з дапамогай двух прэфіксаў, складаюць прадуктыўныя тэрмінаўтваральныя тыпы.

Даволі значная прадуктыўнасць прэфіксальных тыпаў дзеяслоўнага тэрмінаўтварэння ў межах структурна-семантычнай катэгорыі працэсаў, дзеянняў абумоўлена катэгарыяльнымі ўласцівасцямі дзеясловаў.

У параўнанні з суфіксальным тэрмінаўтварэннем катэгорыі працэсаў, дзеянняў прэфіксальнае тэрмінаўтварэнне характарызуецца некалькі меншай прадуктыўнасцю.

Прэфіксальнае дзеяслоўнае тэрмінаўтварэнне беларускай мовы супадае з рускім у асноўных словаўтваральных тыпах і мае некалькі меншыя параўнальна з суфіксальным тэрмінаўтварэннем разыходжанні ў лексічным напаўненні гэтых словаўтваральных тыпаў.

### 11.10.2.2.1.3. Суфіксальна-прэфіксальныя тэрміны

Тэрміны з прэфіксам *а- (аб-, аба-)* і суфіксамі *-ава-, -і- (-ы-)* утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў. Адназоўнікавыя тэрміны маюць значэнне ‘абкружыць, надзяліць прадмет тым, што названа ўтваральным словам‘: *акучыць, аслупаваць; абілеціць, абмундзіраваць, агучыць, аснасціць.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Адпрыметнікавыя тэрміны маюць значэнне ‘надаць прыкмету, названую ўтваральным словам‘ і характарызуюцца такой жа прадуктыўнасцю: *абнавіць, асушыць, ахаладзіць.*

Тэрміны з прэфіксамі *абез- (абес-, абяз-, абяс-)* і суфіксамі *-і- (-ы-), -е- (-э-, -а-)* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне ‘пазбавіць таго, што названа ўтваральным словам‘: *абязболіць, абязводзіць, абястлушчыць.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *пры-* і суфіксам *-і-* ўтвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне ‘прыблізіць да таго, што названа ўтваральным словам‘: *прызямліць, прылуніць.*

Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу адзінкавыя; сярод іх запазычанні з рускай тэрміналогіі *(прылуніць).*

Дзеясловы з прэфіксам *раз- (рас-)* і суфіксам *-і- (-ы-)* утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя тэрміны маюць значэнне ‘ператварыць у тое, што названа ўтваральным словам раз'яднаць‘: *распыліць, расчапіць* (атам).

Адпрыметнікавыя тэрміны маюць значэнне 'надзяліць прыкметай, названай утваральным словам': *размякчыць, разрэдзіць.*

Тыпы непрадуктыўныя ў тэрміналогіі і малапрадуктыўныя ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні ім адпавядаюць аналагічныя.

Тэрміны з прэфіксам *у- (ува-)* і суфіксам *-і- (-ы-)* утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя тэрміны маюць значэнне 'прывесці што-н. у стан, названы утваральным словам': *узаконіць, ураўнаважыць.*

Адпрыметнікавыя тэрміны маюць значэнне 'надзяліць прыметай, названай утваральным словам': *увільгатніць, ушчыльніць.*

Тыпы непрадуктыўныя ў тэрміналогіі і малапрадуктыўныя ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні ім адпавядаюць аналагічныя з некаторымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні, параўн.: бел. *уцяжарыць* – рус. *утяжелить.*

Аналіз суфіксальна-прэфіксальных тэрмінаў дзеясловаў катэгорыі працэсаў, дзеянняў паказвае пэўную ролю суфіксальна-прэфіксальнага дзеяслоўнага тэрмінаўтварэння ў гэтай структурна-семантычнай катэгорыі, што абумоўлена катэгарыяльнымі асаблівасцямі дзеясловаў як часціны мовы. Суфіксальна-прэфіксальныя тэрміны дзеясловы катэгорыі працэсаў, дзеянняў утвараюцца з дапамогай 4 прэфіксаў (у спалучэнні з адпаведнымі суфіксамі) з 22 прэфіксаў агульналітаратурнага словаўтварэння. Суфіксальна-прэфіксальныя дзеяслоўныя тэрмінаўтваральныя тыпы катэгорыі працэсаў, дзеянняў характарызуюцца нязначнай прадуктыўнасцю: толькі адзін тэрмінаўтваральны тып характарызуецца высокай прадуктыўнасцю.

Для астатніх структурна-семантычных катэгорый прэфіксальна-суфіксальнае дзеяслоўнае тэрмінаўтварэнне нехарактэрна.

У параўнанні з суфіксальным і прэфіксальным тэрмінаўтварэннем гэтай катэгорыі суфіксальна-прэфіксальнае значна менш пашыранае.

Суфіксальна-прэфіксальнае дзеяслоўнае тэрмінаўтварэнне беларускай мовы супадае з рускім у асноўных словаўтваральных тыпах і мае некаторыя адрозненні ў лексічным напаўненні гэтых тыпаў.

#### 11.10.2.2.1.4. Суфіксальна-постфіксальныя тэрміны

Гэтыя тэрміны нешматлікія, маюць пэўную прадуктыўнасць пераважна ў сельскагаспадарчай тэрміналогіі, утвараюцца ад назоўнікаў шляхам адначасовага далучэння суфікса *-і-* і постфікса *-цца.* Яны маюць агульнае значэнне 'ствараць тое, што названа ўтваральным словам': *каласіцца, парасіцца, цяліцца, ягніцца.*

#### 11.10.2.2.1.5. Суфіксальна-прэфіксальна-постфіксальныя тэрміны

Гэтыя тэрміны ўтвараюцца ад назоўнікаў шляхам адначасовага далучэння прэфікса *а- (аб-, аба-),* суфікса *-і- (-ы-)* або *-ава-* і постфікса *-ся(-цца): абанкруціцца, асцябліцца, атаварыцца, агнездавацца.*

Тыпы малапрадуктыўныя ў тэрміналогіі і агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні ім адпавядаюць аналагічныя.

### 11.10.2.2.2. Тэрміны, утвораныя спосабам асноваскладання

Гэтыя тэрміны ўтвараюцца шляхам злучэння дзвюх асноў з падпарадкавальнымі адносінамі і складаюць два прадуктыўныя ў тэрміналогіі тыпы.

Тэрміны, утвораныя шляхам далучэння да назоўнікаў інтэрнацыянальнага звязанага апорнага кампанента *-фікаваць* і інтэрфіксаў *-а-, -і-: кінафікаваць, радыё-*

*фікаваць, электрыфікаваць, ітэнсіфікаваць.* Яны маюць значэнне 'абсталяваць ці надзяляць тым, што названа ўтваральным словам'.

Тэрміны, утвораныя шляхам складання апорнага кампанента – зваротнага дзеяслова і першага кампанента – займеннікавай асновы *сам-* і інтэрфікса *-а-*: *самаакупіцца, самазагарацца, самастрахавацца.* Яны маюць значэнне 'самастойна выконваць дзеянне, названае апорным дзеясловам'.

### 11.10.2.3. КОМПЛЕКСНЫЯ ТЭРМІНЫ

Гэтыя тэрміны прадстаўлены тэрміналагічнымі словазлучэннямі, якія маюць як агульныя сінтаксічныя ўласцівасці, так і спецыфічную семантыка-сінтаксічную структуру.

Агульныя сінтаксічныя ўласцівасці абумоўлены падпарадкаванасцю гэтых словазлучэнняў правілам сінтаксісу. Спецыфіка семантыка-сінтаксічнай структуры абумоўлена катэгарыяльным значэннем "працэсы, дзеянні" і спосабамі структурнага выражэння. Тэрміналагічныя словазлучэнні катэгорыі працэсаў, спосабаў дзеяння прадстаўлены пераважна канструкцыямі з назоўнікам у ролі галоўнага кампанента. Пераважная большасць такіх назоўнікаў утворана ад дзеясловаў з дапамогай тых жа суфіксаў і прэфіксаў, што і аднаслоўныя намінацыі гэтай катэгорыі: *гарачае валачэнне, двухбаковая даводка, пачатковы ўпырск, светлы адпал.*

У кожным словазлучэнні вылучаецца спецыфічны кампанент, які служыць для ўдакладнення працэсу, дзеяння і граматычна з'яўляецца залежным: *газавае рэзанне, дакладнае шліфаванне, засаленне глебы, ланцуговая рэакцыя, рубка зубілам, сацыяльнае страхаванне.*

У залежнасці ад характару спецыфічных кампанентаў тэрміналагічных словазлучэнняў катэгорыі працэсаў, дзеянняў вылучаюцца наступныя разрады гэтых словазлучэнняў.

Словазлучэнні "аддзеяслоўны назоўнік+залежны просты прыметнік": *аўтагеннае рэзанне, машынная клёпка, паралельнае шэвінгаванне, паступальны рух, тэрмічная загартоўка, фігурнае катанне, чаўночная дыпламатыя.* Найбольш ужывальным парадкам слоў у гэтых словазлучэннях з'яўляецца прэпазіцыя спецыфічнага кампанента – простага прыметніка, хоць у сферы фіксацыі нярэдка сустракаецца адваротны парадак кампанентаў: *рэзанне аўтагеннае, клёпка машынная, шэвінгаванне паралельнае.* Галоўны кампанент звязаны з залежным азначальнымі адносінамі. Тып сувязі – дапасаванне.

Словазлучэнні "аддзеяслоўны назоўнік+залежны складаны прыметнік": *аднапраходнае шліфаванне, двухбаковая даводка, аднакратнае шліфаванне.* Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца такім жа парадкам кампанентаў, як і словазлучэнні з простымі прыметнікамі ў якасці залежнага кампанента. Кампаненты словазлучэння звязаны азначальнымі адносінамі. Тып сувязі – дапасаванне.

Словазлучэнні "аддзеяслоўны назоўнік+залежны назоўнік без прыназоўніка": *абмен рэчываў, дэнатурацыя спірту, рубка зубілам, шліфоўка кругам, пайка волавам, падрэзка тарцоў.* Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца постпазіцыяй залежнага (спецыфічнага) кампанента. Кампаненты словазлучэння звязаны аб'ектнымі адносінамі. Тып сувязі – прымыканне.

Словазлучэнні "аддзеяслоўны назоўнік+залежны назоўнік з прыназоўнікам": *коўка пад молатам, свідраванне па калібрах, фармоўка па мадэлях.* Словазлучэнні гэтага разраду характарызуюцца постпазіцыяй залежнага (спецыфічнага) кампанента. Кампаненты словазлучэння звязаны акалічнаснымі адносінамі спосабу дзеяння. Тып сувязі – прымыканне.

Словазлучэнні "аддзеяслоўны назоўнік+залежнае прыслоўе": *зварка ўпрытык, клёпка ўнакладку, разліў зверху, фармоўка ўсухую.* Звычайны парадак слоў у словазлучэннях гэтага разраду – постпазіцыя залежнага (спецыфічнага) кампанента. Кампаненты словазлучэння звязаны акалічнаснымі адносінамі спосабу дзеяння. Тып сувязі – прымыканне.

Словазлучэнні "залежны прыметнік+аддзеяслоўны назоўнік+залежны назоўнік без прыназоўніка": *бесстаночнае ўтрыманне жывёлы, звычайнае свідраванне свердламі, халодная каліброўка пруткоў.* У словазлучэннях гэтага разраду залежны прыметнік звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі да галоўнага кампанента, а назоўнік – у постпазіцыі. Галоўны кампанент звязан з залежным прыметнікам азначальнымі адносінамі, а з назоўнікам – аб'ектнымі. Сінтаксічныя тыпы сувязі – дапасаванне і кіраванне.

Словазлучэнні "залежны прыметнік+назоўнік+залежны назоўнік з прыназоўнікам": *бясцэнтравае шліфаванне з падачай, чарнавое тачэнне без удару.* Парадак кампанентаў у словазлучэннях гэтага разраду такі ж, як і ў словазлучэннях папярэдняга разраду. Кампаненты словазлучэння звязаны акалічнаснымі адносінамі спосабу дзеяння. Тып сувязі – прымыканне.

Словазлучэнні "аддзеяслоўны назоўнік+залежнае спалучэнне некалькіх назоўнікаў": *дзяўбанне спосабам абкаткі, праўка метадам абкочвання.* Парадак слоў у гэтых словазлучэннях – постпазіцыя залежнага спалучэння. Кампаненты словазлучэння звязаны акалічнаснымі адносінамі спосабу дзеяння. Тып сувязі – прымыканне.

Словазлучэнні "назоўнік+некалькі залежных прыметнікаў": *спаборны судовы працэс.* Парадак слоў у гэтых словазлучэннях – прэпазіцыя залежных кампанентаў. Кампаненты словазлучэння звязаны азначальнымі адносінамі. Тып сувязі – дапасаванне.

Асобна вылучаецца параўнальна невялікая група тэрміналагічных словазлучэнняў катэгорыі працэсаў, дзеянняў з дзеясловам у якасці галоўнага кампанента: *адкрыць агонь, адкрыць рахунак, выпраміць ток, легчы ў дрэйф, нагнесці ціск.* Парадак слоў у гэтых словазлучэннях – постпазіцыя залежнага кампанента. Кампаненты звязаны аб'ектнымі або камплетыўнымі адносінамі. Тып сувязі – дзеяслоўнае кіраванне.

Як паказвае аналіз тэрміналагічных словазлучэнняў катэгорыі працэсаў, дзеянняў, асноўная частка гэтых словазлучэнняў прадстаўлена назоўнікавымі канструкцыямі, у якіх у якасці галоўнага кампанента выступаюць аддзеяслоўныя назоўнікі, а ў якасці залежнага – прыметнікі, назоўнікі, прыслоўі. З 1185 тэрміналагічных словазлучэнняў, зафіксаваных "Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы", да катэгорыі працэсаў, дзеянняў адносяцца каля 230.

Паміж кампанентамі прасочваюцца разнастайныя структурна-семантычныя адносіны (азначальныя, аб'ектныя, спосабу дзеяння, камплетыўныя) і сінтаксічныя тыпы сувязі: дапасаванне, кіраванне, прымыканне.

Незалежна ад структурна-семантычных адносін і сінтаксічных тыпаў сувязі паміж кампанентамі словазлучэння тэрміналагічныя словазлучэнні катэгорыі працэсаў, дзеянняў характарызуюцца пастаянствам іх саставу, што з'яўляецца адметнай прыкметай тэрміналагічных словазлучэнняў наогул.

Сярод словазлучэнняў гэтай катэгорыі вылучаецца група канструкцый фразеалагічнага характару, якія характарызуюцца не толькі пастаянствам свайго складу, а і структурна-семантычнай непадзельнасцю: *гонка ўзбраення, легчы ў дрэйф, выпраміць ток.*

Найбольшай прадуктыўнасцю характарызуюцца тэрміналагічныя словазлучэнні катэгорыі дзеянняў, працэсаў у тэхнічнай тэрміналогіі, значна меншай – у грамадска-палітычнай, спартыўнай, сельскагаспадарчай, марской.

Прыназоўнікі ў тэрміналагічных словазлучэннях з'яўляюцца не толькі сродкам выражэння сінтаксічнай сувязі кіравання, а і сродкам выражэння названых вышэй структурна-семантычных адносін паміж кампанентамі словазлучэння.

У спартыўнай тэрміналогіі словазлучэнні з першапачатковым значэннем працэсу, дзеяння часта атрымліваюць другаснае значэнне назвы відаў спорту: *вольная барацьба, класічная барацьба, марафонскі бег, фігурнае катанне, фізічная зарадка.*

У грамадска-палітычнай тэрміналогіі словазлучэнні з першапачатковым значэннем працэсу, дзеяння атрымліваюць другаснае значэнне стану грамадскіх адносін, грамадскага ўкладу жыцця, прынцыпаў, патрабаванняў або сутнасці пэўных грамадскіх з'яў, арганізацый: *гаспадарчы разлік, дэмакратычны цэнтралізм.*

У тэхнічнай тэрміналогіі некаторыя словазлучэнні побач са значэннем працэсу, дзеяння служаць таксама для намінацыі з'яў, якія характарызуюцца гэтымі працэсамі, дзеяннямі: *кароткае замыканне, ланцуговая рэакцыя, супраціўленне матэрыялаў.*

У ваеннай, дыпламатычнай, юрыдычнай тэрміналогіі словазлучэнні са значэннем працэсу, дзеяння служаць для намінацыі розных відаў ваеннай службы або ваенных ці дыпламатычных дзеянняў: *інтэнданцкая служба, рэальная служба, кругавая абарона; дыпламатычнае прадстаўніцтва, чаўночная дыпламатыя; рэчавы доказ.*

## 11.10.3. КАТЭГОРЫЯ ПРАФЕСІЙ, СФЕР ДЗЕЙНАСЦІ

### 11.10.3.1. ТЭРМІНЫ НАЗОЎНІКІ

#### 11.10.3.1.1. Тэрміны, утвораныя афіксальным спосабам

##### 11.10.3.1.1.1. Суфіксальныя тэрміны

Тэрміны з суфіксам *-ак* утвораны ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў: *марак, рыбак; спявак.* Словаўтваральны тып з суфіксам *-ак* непрадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні для намінацыі прафесій, ён уключае некаторыя гістарызмы *(вазак),* новымі ўтварэннямі амаль не папаўняецца. Аналагічны па семантыцы словаўтваральны тып у рускім тэрмінаўтварэнні па аб'ёму і лексічнаму напаўненню не супадае са словаўтваральным тыпам беларускай мовы: бел. *спявак* – рус. *певец.*

Тэрміны з суфіксам *-ік* утвораны ад асноў прыметнікаў, дзеясловаў, назоўнікаў. Адпрыметнікавыя і аддзеяслоўныя тэрміны ўтвораны пераважна ад незапазычаных слоў: *дарожнік, кадравік, чыгуначнік, будаўнік.* Тып высокапрадуктыўны ў гутарковай мове і малапрадуктыўны ў сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні. Некаторыя тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўжываюцца ў гутарковай мове побач з запазычанымі, пераважна інтэрнацыянальнымі, намінацыямі, якія ўжываюцца ў сферы навукі: *вачнік – акуліст, вушнік – оталарынголаг.*

Аналагічны словаўтваральны тып у рускім тэрмінаўтварэнні не супадае з беларускім па аб'ёму і лексічным напаўненні. Замест утварэнняў з суфіксам *-ник* у рускім тэрмінаўтварэнні часта выкарыстоўваюцца словаўтваральныя варыянты з суфіксам *-тель:* бел. *будаўнік* – рус. *строитель,* бел. *кіраўнік* – рус. *руководитель.*

Адназоўнікавыя тэрміны з суфіксам *-ік (-ык)* служаць для намінацыі прафесій, роду дзейнасці ў адпаведнасці з галінамі навукі, жанрамі мастацтва: *гісторык, хімік; комік, празаік, сатырык, трагік.* Да іх прымыкаюць тэрміны, якія служаць для намінацыі асоб па прыналежнасці да навуковых, ідэалагічных, мастацкіх кірункаў: *прагматык, рамантык, скептык, фанатык.* Гэтыя адназоўнікавыя ўтварэнні

складаюць прадуктыўны тып у сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні. Яны актыўна папаўняюцца за кошт назваў спецыялістаў новых, больш вузкіх галін навукі: *мікраэлектронік, электрахімік, геабатанік, палеабатанік.* Многія такія намінацыі не могуць быць створаны суфіксальным спосабам з-за абмежаванасці словаўтваральных магчымасцей утваральных назоўнікаў і з'яўляюцца комплекснымі: двухслоўнымі, трохслоўнымі і больш: *спецыяліст па фізіцы плазмы, спецыяліст па ядзернай энергетыцы.*

У рускім тэрмінаўтварэнні словаўтваральнаму тыпу з суфіксам *-ік (-ык)* адпавядае аналагічны тып з суфіксам *-ик* без яго фанетычнага варыянта.

Тэрміны з суфіксамі *-чык (-шчык)* утвораны ад асноў назоўнікаў, дзеясловаў, прыметнікаў, якія ў большасці выпадкаў з'яўляюцца незапазычанымі: *апаратчык, барабаншчык, броваршчык, зенітчык, паромшчык, тэкстыльшчык, фасоўшчык, экскаватаршчык, выкладчык, зваршчык, змазчык, наладчык, перакладчык, рэгуліроўшчык, рэзчык, інструментальшчык, камвольшчык.*

Некаторыя тэрміны гэтага прадуктыўнага ў сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні тыпу маюць словаўтваральныя варыянты з суфіксам *-нік,* якія ў адных выпадках з'яўляюцца асноўнымі *(падводчык – падводнік),* у іншых – другаснымі, часам некадыфікаванымі *(ракетчык – ракетнік, атамшчык – атамнік).*

Словаўтваральнай базай некаторых адпрыметнікавых тэрмінаў з'яўляецца не адзін прыметнік, а словазлучэнне, у склад якога ўваходзіць словаўтваральны прыметнік: *атамная энергія – атамшчык, камвольны камбінат – камвольшчык,* што з'яўляецца ілюстрацыяй тэндэнцыі кандэнсацыі ў сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні.

Некаторыя тэрміны з суфіксам *-чык (-шчык)* адносяцца да гутарковага стылю мовы: *вугальшчык, газетчык, падзёншчык.*

У рускім тэрмінаўтварэнні словаўтваральнаму тыпу з суфіксам *-чык (-шчык)* адпавядае аналагічны, у некаторых выпадках – словаўтваральны тып з суфіксам *-тель:* бел. *выкладчык* – рус. *преподаватель.*

Прадуктыўнасць гэтага словаўтваральнага тыпу ў сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні ўзрастае, часта неапраўдана, пад уплывам рускай тэрміналогіі: *рэзанатаршчык, перфаратаршчык, флататаршчык, сельфактаршчык, сігнатуршчык;* пэўная актывізацыя ўтварэнняў з суфіксам *-чык (-шчык)* (пад уплывам рускай мовы і пад уплывам тэрміналагічнай лексікі беларускай мовы) наглядалася ў савецкія часы і ў агульналітаратурным беларускім словаўтварэнні.

Тэрміны з суфіксам *-льшчык* утвораны ад асноў незапазычаных і запазычаных дзеясловаў: *бурыльшчык, вязальшчык, драбільшчык, пудзільшчык, свідравальшчык, церабільшчык, шліфавальшчык, шыфравальшчык.*

Словаўтваральны тып з суфіксам *-льшчык* набывае высокую прадуктыўнасць у сучаснай беларускай тэрміналогіі і агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-аль* нешматлікія, утвораны ад асноў дзеясловаў і назоўнікаў: *каваль, ганталь.* У рускім тэрмінаўтварэнні словаўтваральны тып катэгорыі прафесій з суфіксам *-аль* не выкарыстоўваецца: бел. *каваль* – рус. *кузнец,* бел. *ганталь* – рус. *шиферщик.*

Тэрміны з суфіксам *-ант (-ент, -янт, -энт)* утвараюцца пераважна ад асноў запазычаных (інтэрнацыянальных) назоўнікаў і дзеясловаў і служаць для намінацый асоб па прафесіях або аб'ектах дзейнасці: *курсант, лабарант, практыкант, акупант, дыспутант, дысертант, аркестрант, карпарант, камерсант; апанент, кансультант, рэцэнзент, эмігрант.*

Тып высокапрадуктыўны ў сучасным тэрмінаўтварэнні, у рускай тэрміналогіі яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ар (-яр)* утвораны ў большасці выпадкаў ад асноў незапазычаных назоўнікаў і дзеясловаў: *аптэкар, разьбяр, свінар, сталяр, шкляр, даяр, друкар, пекар, токар.* Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу характарызуюцца функцыянальна-стылістычнай неаднароднасцю свайго складу. Так, тэрміны *гандляр, лекар, кухар* адносяцца да гутарковага стылю, замест іх у навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях мовы ўжываюцца кадыфікаваныя тэрміны *работнік гандлю, доктар (урач), кулінар.* Тэрмін *паштар* – дыялектны, у літаратурнай мове яго сінонімам з'яўляецца кадыфікаваны тэрмін *работнік сувязі.*

Некаторыя тэрміны гэтага тыпу маюць словаўтваральныя і лексічныя варыянты: *картатэкар – картатэтчык, бачкар – бондар.* Тып прадуктыўны, хоць новымі ўтварэннямі папаўняецца мала.

У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае у асноўным аналагічны і часткова словаўтваральны тып з суфіксамі *-ник (-щик), -ик:* бел. *разьбяр* – рус. *резчик,* бел. *шкляр* – рус. *стекольщик;* бел. *млынар* – рус. *мельник,* бел. *друкар* – рус. *печатник;* асобныя тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу маюць у рускай тэрміналогіі складаныя адпаведнікі: бел. *пчаляр* – рус. *пчеловод.*

Тэрміны з суфіксамі *-ер (-эр), -анер (-янер)* утвораны ад асноў запазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі асоб па роду дзейнасці, прафесіі, сацыяльнаму, палітычнаму і грамадскаму статусу: *акцыянер, апазіцыянер, канцэсіянер, касцюмер, міліцыянер, пенсіянер, рэакцыянер, рэвалюцыянер, селекцыянер.*

Тып малапрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксамі *-ор/-ар (-ёр/-ер)* утвораны ад асноў запазычаных назоўнікаў і дзеясловаў і служаць для намінацыі асоб па прафесіях і сферы дзейнасці: *архітэктар, баксёр, білецёр, камбайнер, ліфцёр, шахцёр, гравёр, інструктар, кантралёр, карэктар, рэжысёр, суфлёр, танцор, трэнер.*

У склад гэтага словаўтваральнага тыпу ўваходзяць пераважна інтэрнацыянальныя тэрміны. Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны з нязначнымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні.

Тэрміны з суфіксам *-ір (-ыр)* утвораны ад асноў запазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі прафесій, пасад, становішча асобы ў калектыве: *банкір, брыгадзір, камандзір, касір, фуражыр.*

У склад гэтага тыпу ўваходзяць пераважна інтэрнацыянальныя тэрміны. Тып малапрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ат (-ят)* утвораны ад асноў запазычаных назоўнікаў, часам дзеясловаў і служаць для намінацыі асоб па адносінах да сацыяльнай, прафесіянальнай або палітычнай групоўкі: *стыпендыят, лаўрэат, канфедэрат, уніят.*

Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу пераважна інтэрнацыянальныя. Тып набывае прадуктыўнасць у сучаснай грамадска-палітычнай тэрміналогіі, у агульналітаратурным словаўтварэнні непрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны. Большая частка інтэрнацыянальных тэрмінаў трапіла ў беларускую тэрміналогію праз пасрэдніцтва рускай.

Аддзеяслоўныя тэрміны адзінкавыя, служаць для намінацыі асоб па грамадска-палітычнаму статусу, па выніку дзеяння: *дэлегат, адрасат.*

Тэрміны з суфіксамі *-атар (-ятар), -тар* утвораны ад асноў запазычаных назоўнікаў і дзеясловаў і служаць для намінацыі асоб па прафесіях, сферы ці аб'екту

дзейнасці: *авіятар, навігатар, лектар, плантатар, агітатар, арандатар, рэстаўратар, тарыфікатар.*

Асноўная частка гэтых тэрмінаў інтэрнацыянальная. Тып набывае прадуктыўнасць у сучасным тэрмінаўтварэнні. У агульналітаратурным словаўтварэнні тып непрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны. Значная частка інтэрнацыянальных тэрмінаў гэтага словаўтваральнага тыпу трапіла ў беларускую тэрміналогію праз пасрэдніцтва рускай.

Тэрміны з суфіксам *-іст (-ыст)* утвораны ў большасці выпадкаў ад асноў запазычаных назоўнікаў і прыметнікаў і служаць для намінацыі асоб:

1) па прафесіі, спецыяльнасці: *баяніст, вакаліст, білінгвіст, геадэзіст, гітарыст, журналіст, клініцыст, машыніст, паспартыст, трактарыст, фалькларыст, цымбаліст, фігурыст;*

2) паводле навуковай або мастацкай дзейнасці: *алгебраіст, балгарыст, іраніст, метадыст, пушкініст;*

3) па адносінах да грамадска-палітычнага або навуковага напрамку: *марксіст, ідэаліст, дарвініст, рэфарміст, футурыст.*

Утваральнымі базамі тэрмінаў з суфіксам *-іст* часта выступаюць словазлучэнні з прыметнікамі-азначэннямі, ад асноў якіх і ўтвараюцца тэрміны пры адначасовым адсячэнні фіналей *-н-, -ск-* перад суфіксам *-іст (-ыст):* батальны жывапіс – *баталіст,* беларускае мовазнаўства – *беларусіст,* раманскае мовазнаўства – *раманіст.*

Прыведзеныя прыклады ўтварэння тэрмінаў на базе словазлучэнняў сведчаць аб актыўным праяўленні працэсу кандэнсацыі ў сучасным беларускім тэрмінаўтварэнні.

Словаўтваральны тып з суфіксам *-іст (-ыст)* мае асаблівую прадуктыўнасць у тэрміналогіі ў параўнанні з іншымі сферамі функцыянавання беларускай мовы.

У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ец (-эц, -ац)* утвораны пераважна ад асноў незапазычаных назоўнікаў, часам ад асноў адносных прыметнікаў. Гэтыя тэрміны служаць для намінацыі асоб па адносінах:

1) да ўстановы, прадпрыемства: *дэповец, саўгасавец, студыец;*

*2)* да грамадска-палітычных поглядаў, сацыяльнай групы: *паўстанец, паражэнец, прымірэнец;*

3) да пэўных вучэнняў: *кантыянец.*

Намінацыі асоб паводле адносін да ўстаноў, прадпрыемстваў адносяцца да размоўнага стылю мовы, у навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях ужываюцца кадыфікаваныя двухслоўныя тэрміны: *дэповец – работнік дэпо; саўгасавец – рабочы саўгаса, студыец – наведвальнік (навучэнец) студыі.*

Словаўтваральны тып з суфіксам *-ец (-эц, -ац)* характарызуецца высокай прадуктыўнасцю ў агульналітаратурным і тэрміналагічным словаўтварэнні, у прыватнасці ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны словаўтваральны тып з некаторымі адрозненнямі ў яго лексічным напаўненні.

Тэрміны з суфіксам *-к-а* ўтвораны:

1) ад асноў назоўнікаў, якія з'яўляюцца агульнымі словаўтваральнымі базамі для ўтварэння намінацый асоб мужчынскага і жаночага роду па адносінах да грамадска-палітычных, навуковых поглядаў, сацыяльных груп;

2) ад тэрмінаў назоўнікаў, утвораных ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду па адносінах да прафесіі, грамадска-палітычнага або навуковага напрамку: *баян – баяніст – баяністка, трактар – трактарыст – трактарыстка, футурызм – футурыст – футурыстка, геадэзія – геадэзіст – геадэзістка.*

Словаўтваральны тып з суфіксам *-к-а* для намінацыі жанчын па іх адносінах да грамадска-палітычных або навуковых напрамкаў страчвае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі, для намінацыі асоб жаночага полу па названых характарыстыках часта выкарыстоўваюцца тэрміны з суфіксамі мужчынскага роду: *марксіст, лінгвіст, раманіст, фанатык, рамантык, празаік.*

Тэрміны з суфіксам *-іх-а (-ых-а)* утвараюцца ад асноў незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі асоб жаночага полу адносна прафесіі: *краўчыха, павачыха, старажыха, ткачыха.*

Тып прадуктыўны ў гутарковым стылі, у навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях замест назоўнікаў з суфіксам *-іх-а (-ых-а)* для намінацыі прафесій асоб жаночага полу часта ўжываюцца тэрміны з суфіксамі назоўнікаў мужчынскага роду: *повар, сторож.* У рускім тэрмінаўтварэнні наглядаецца аналагічная сітуацыя.

Тэрміны з суфіксам *-іц-а (-ыц-а)* утвараюцца ад асноў запазычаных і сваямоўных назоўнікаў і служаць для намінацыі асоб жаночага полу: *дружынніца, матальшчыца, шыфравальшчыца.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрмінаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-эс-а* утвараюцца ад асноў запазычаных назоўнікаў, якія служаць для намінацыі жанчын адносна прафесіі, роду дзейнасці: *паэтэса, сцюардэса* (у сучасным тэрмінаўтварэнні і словаўтварэнні актывізуюцца вытворныя тыпу *паэтка*).

Тып набывае пэўную прадуктыўнасць у тэрміналогіі. У агульналітаратурным словаўтварэнні назоўнікі з суфіксам *-эс-а* служаць для назвы жонкі паводле займаемага ў грамадстве становішча мужам: *баранэса, вікантэса.* У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ыс-а* ўтвараюцца ад асноў запазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі асоб жаночага полу: *актрыса, дырэктрыса.*

Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу адзінкавыя. Замест іх для намінацыі асоб жаночага полу часта выкарыстоўваюцца адпаведныя тэрміны з суфіксамі назоўнікаў мужчынскага роду: *дырэктар.* У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-ай* у беларускай тэрміналогіі ўтвораны ад дзеясловаў і з'яўляюцца адзінкавымі: *аратай.*

Тып непрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае суфікс *-арь (-ярь):* бел. *аратай* – рус. *пахарь.*

Тэрміны з суфіксам *-цель,* утвораныя ад асноў дзеясловаў, з'яўляюцца адзінкавымі: *вызваліцель, выхавацель, пакарыцель, правіцель.*

Тып малапрадуктыўны. Некаторыя тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу маюць больш ужывальныя словаўтваральныя варыянты з суфіксам *-нік: выхавацель – выхавальнік.* У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны. Большасць тэрмінаў гэтага словаўтваральнага тыпу запазычаны з рускай мовы.

Тэрміны з суфіксам *-льнік* утвораны ад асноў незапазычаных дзеясловаў і служаць для намінацыі асоб па аб'екту дзейнасці, прафесіі: *апавядальнік, выхавальнік, стваральнік, сумяшчальнік, утаймавальнік.*

Гэты словаўтваральны тып вылучаецца высокай прадуктыўнасцю ў агульналітаратурным словаўтварэнні і значна меншай – у тэрміналагічным. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае тып з суфіксам *-тель: повествователь, воспитатель, создатель, совместитель, укротитель.*

*Нульсуфіксальныя* тэрміны ўтвораны ад незапазычаных дзеясловаў, яны адзінкавыя: *сторож.* Тып непрадуктыўны.

Асобны разрад нульсуфіксальных тэрмінаў катэгорыі прафесій, сферы дзейнасці складаюць назоўнікі ад'ектыўнага скланення, утвораныя: 1) ад прыметнікаў; 2) ад дзеепрыметнікаў.

Да першых адносяцца назоўнікі мужчынскага роду: *ваенны, звеннявы, патрульны, ротны, сувязны, участковы.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Да другіх адносяцца нешматлікія тэрміны катэгорыі прафесій тыпу *камандуючы, служачы, упраўляючы* і катэгорыі юрыдычных намінацый асоб: *абвінавачаны, арыштаваны, асуджаны, упаўнаважаны, забіты.*

Тып малапрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

### 11.10.3.1.1.2. Прэфіксальныя тэрміны

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *анты-* служаць для намінацыі асоб па прыналежнасці да грамадскіх арганізацый, грамадска-палітычных поглядаў, процілеглых тым, што названы ўтваральным словам: *антыгерой, антыкамуніст, атысеміт, антыфашыст.*

Тып прадуктыўны ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі, уключае пераважна інтэрнацыянальныя тэрміны.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *архі-* служаць для намінацыі асоб па прыналежнасці да больш ярка выражанай сацыяльнай групы або сістэмы поглядаў: *архімільянер, архіскептык, архіфаталіст, архіцынік.* Маюць негатыўную канататыўную афарбоўку.

У царкоўных званнях прэфікс *архі-* мае значэнне 'старшы ў званні': *архідыякан, архіепіскап.*

Тып прадуктыўны ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі і ў газетна-публіцыстычным стылі. Уключае пераважна інтэрнацыянальныя тэрміны.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *віцэ-* маюць значэнне 'другі па пасадзе, чыну, званню, намеснік': *віцэ-прэзідэнт, віцэ-канцлер, віцэ-консул.*

Тып малапрадуктыўны, уключае інтэрнацыянальныя грамадска-палітычныя тэрміны, ад незапазычаных лексем тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвараюцца вельмі рэдка: *віцэ-старшыня.*

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *контр-* адзінкавыя: *контрразведчык.*

Тып непрадуктыўны.

Тэрміны з запазычаным прэфіксам *обер-* служаць для намінацыі пасад, званняў, вышэйшых за названыя ўтваральным словам: *обер-афіцэр, обер-кандуктар, обер-майстар, обер-яфрэйтар.*

Тып малапрадуктыўны, уключае запазычаныя, пераважна інтэрнацыянальныя тэрміны.

Тэрміны з прэфіксам *пад-* служаць для намінацыі званняў, пасад, ніжэйшых за названыя ўтваральным словам: *падпалкоўнік, падмайстар, падпрапаршчык, падпаручнік.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад запазычаных лексем. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *пра-* служаць для намінацыі:

1) асоб па ярка выражанай прыналежнасці да сацыяльна-палітычных напрамкаў: *прасіяніст, прафашыст.* Гэтыя тэрміны маюць негатыўную канстатыўную афарбоўку.

Тып набывае прадуктыўнасць у грамадска-палітычнай тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад інтэрнацыянальных слоў;

2) асоб, якія замяняюць па пасадзе таго, хто названы ўтваральным словам: *праконсул, прарэктар.*

Тып непрадуктыўны ў сучаснай тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад запазычаных лексем. У рускім тэрмінаўтварэнні словаўтваральнаму тыпу з прэфіксам *пра-* адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *прота- (прата-)* служаць для абазначэння старшых у званні ці чыне царкоўных асоб: *протадыякан, протаіерэй, пратапоп.*

Тып непрадуктыўны.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *рэ-* служаць для намінацыі асоб, якія па сферы дзейнасці, сацыяльна-палітычнай прыналежнасці процілеглыя названым утваральным словам: *рэагент, рэарганізатар, рээмігрант.*

Тып набывае прадуктыўнасць у грамадска-палітычнай тэрміналогіі. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад запазычаных слоў.

Тэрміны з прэфіксам *са- (су-),* утвораныя ад запазычаных і незапазычаных слоў, служаць для намінацыі асоб паводле сумеснай сферы дзейнасці ці сацыяльнай прыналежнасці: *сааўтар, садакладчык, саўдзельнік, суграмадзянін, сурэжысёр.* У сучасным тэрмінаўтварэнні наглядаецца заканамерная тэндэнцыя да актывізацыі беларускага словаўтваральнага фарманта *су-: сувыканаўца, суіскальнік, суразмоўца, сувыступоўца, суаўтар, сукурснік, суўдзельнік* і інш., хоць шматгадовая практыка выкарыстання словаўтваральнага фарманта *са-* ва ўмовах палітыкі збліжэння з рускай тэрміналогіяй прывяла да псіхалагічнага ўспрыняцця беларускага словаўтваральнага фарманта *су-* як незвычайнага, нязвыклага, "няправільнага", што можна адзначыць і адносна некаторых іншых словаўтваральных фармантаў у пэўных канкрэтных выкарыстаннях.

Тып прадуктыўны ў кніжным стылі мовы.

У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з запазычаным прэфіксам *суб-* служаць для намінацыі асоб, якія паводле сацыяльнага становішча або пасады падпарадкоўваюцца названым утваральным словам: *субарандатар, субзаказчык, субінспектар, субпадрадчык.*

Тып непрадуктыўны. Тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу ўтвораны ад запазычаных і незапазычаных слоў. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *экс-* служаць для намінацыі асоб па становішчу або пасадзе, якія яны мелі раней: *экс-лідэр, экс-чэмпіён, экс-міністр, экс-прэзідэнт.*

Такім чынам, тэрміны катэгорыі прафесій, сфер дзейнасці, прыналежнасці асоб да пэўных сацыяльна-палітычных, навуковых поглядаў, напрамкаў, утвораныя прэфіксальным спосабам, займаюць даволі значнае, хоць і меншае месца ў параўнанні з тэрмінамі гэтай катэгорыі, утворанымі суфіксальным спосабам. Прэфіксальныя ўтварэнні складаюць 12 словаўтваральных тыпаў: 5 прадуктыўных, 4 малапрадуктыўныя, 3 непрадуктыўныя.

Прэфіксальнае тэрмінаўтварэнне прааналізаванай катэгорыі займае значна меншае месца ў параўнанні з суфіксальным, аднак значна большае ў параўнанні з прэфіксальным словаўтварэннем у агульнаўжывальнай лексіцы блізкай семантыкі.

Прэфіксы, якія выкарыстоўваюцца для ўтварэння тэрмінаў катэгорыі прафесій, сфер дзейнасці ці прыналежнасці да пэўных сацыяльна-палітычных, навуковых напрамкаў, звычайна змяняюць семантыку ўтваральных слоў, не ўплываючы на іх граматычныя характарыстыкі.

Па генетычным складзе большасць гэтых прэфіксаў запазычана (з 12 прааналізаваных – 9), з іх значная частка належыць да інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду.

Утваральныя словы таксама ў большасці выпадкаў запазычаныя і належаць да інтэрнацыянальных.

Прэфіксальны спосаб утварэння тэрмінаў гэтай катэгорыі характарызуецца значна большай аналагічнасцю з рускім тэрмінаўтварэннем адпаведнай катэгорыі не толькі па саміх словаўтваральных тыпах, а і па іх лексічным напаўненні ў параўнанні з суфіксальным спосабам. Гэта аналагічнасць у значнай ступені тлумачыцца, па-першае, вялікай удзельнай вагой інтэрнацыянальных прэфіксаў і ўтваральных слоў, па-другое, аднолькавай семантыкай незапазычаных тэрмінаўтваральных прэфіксаў у блізкароднасных рускай і беларускай мовах.

###### 11.10.3.1.1.3. Суфіксальна-прэфіксальныя тэрміны

Тэрміны катэгорыі прафесій, сфер дзейнасці, прыналежнасці да сацыяльна-палітычных або навуковых груп, напрамкаў, утвораныя суфіксальна-прэфіксальным спосабам, нешматлікія. Яны прадстаўлены чатырма непрадуктыўнымі словаўтваральнымі тыпамі.

Тэрміны з прэфіксам *на-* і суфіксам *-нік* адзінкавыя, утвораны ад асноў незапазычаных назоўнікаў: *намеснік, напарнік.* У рускім тэрмінаўтварэнні ім адпавядаюць: *заместитель, напарник.*

Тэрмін з прэфіксам *неда-* і суфіксам *-ак (недалетак)* утвораны ад назоўніка, мае больш ужывальны ў кніжным стылі лексічны варыянт *непаўналетні* (рус. *несовершеннолетний).*

Тэрмін з прэфіксам *па-* і суфіксам *-ім (пабрацім)* утвораны ад назоўніка (рус. *побратим).*

Тэрміны з прэфіксам *са- (су-)* і суфіксам *-нік* утвораны ад незапазычаных назоўнікаў і служаць для намінацыі асоб, якія звязаны з іншымі асобамі аднолькавымі адносінамі да таго, што названа ўтваральным словам: *сукурснік, суайчыннік, сучаснік.*

Тып мае некаторую прадуктыўнасць у грамадазнаўчай тэрміналогіі. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

#### 11.10.3.2. КОМПЛЕКСНЫЯ ТЭРМІНЫ

Тэрміналагічныя словазлучэнні гэтай катэгорыі нешматлікія; яны маюць некаторую прадуктыўнасць толькі ў грамадска-палітычнай, юрыдычнай, дыпламатычнай, медыцынскай, ваеннай тэрміналогіі і не маюць пашырэння ў прыродазнаўчых і тэхнічных навуках: *юрыдычная асоба, судовы выканаўца, дыпламатычны кур'ер, персона грата, персона нон грата, медыцынская сястра, Вярхоўны галоўнакамандуючы.*

### 11.10.4. КАТЭГОРЫЯ ЯКАСЦЕЙ, УЛАСЦІВАСЦЕЙ

#### 11.10.4.1. ТЭРМІНЫ НАЗОЎНІКІ

##### 11.10.4.1.1. Тэрміны, утвораныя афіксальным спосабам

###### 11.10.4.1.1.1. Суфіксальныя тэрміны

Тэрміны з суфіксам *-ін-я (-ын-я)* утвараюцца пераважна ад асноў незапазычаных прыметнікаў і служаць для намінацыі абстрактных паняццяў якасці, прыкметы: *быстрыня, вышыня, гарачыня, глыбіня, гушчыня, даўжыня, цеплыня, чысціня.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналагічным і агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні словаўтваральнаму тыпу з суфіксам *-ін-я (-ын-я)* адпавядаюць тыпы з суфіксам *-от-а, -ин-а:* бел. *вышыня, гушчыня* – рус. *высота, густота;* бел. *глыбіня, даўжыня* – рус. *глубина, длина.*

Тэрміны з суфіксам *-от-а (-ат-а)* нешматлікія, утвораны ад асноў незапазычаных прыметнікаў: *глухата, кіслата, мерзлата.* Тып малапрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-асць* утвораны ад асноў запазычаных і сваямоўных прыметнікаў і служаць для намінацыі адцягненых значэнняў якасцей і ўласцівасцей: *воблачнасць, воднасць, газаноснасць, ізаляванасць, маштабнасць, мяккасць, рэнтабельнасць, тлустасць, хуткасць.* Некаторыя тэрміны побач са значэннем якасці, уласцівасці маюць значэнне носьбіта гэтай якасці, уласцівасці: *антычнасць, выпукласць, ёмкасць, індывідуальнасць, плоскасць.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-насць* адзінкавыя. Утвораны ад асноў дзеясловаў: *гатоўнасць.* Тып непрадуктыўны ў тэрмінаўтварэнні і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны.

##### 11.10.4.1.1.2. Прэфіксальныя тэрміны

Тэрміны з прэфіксам *дыс-* абазначаюць, што якасці, уласцівасці, названыя ўтваральным словам, адсутнічаюць: *дысбаланс, дысгармонія, дыскамфорт, дыспрапорцыя.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі, уключае інтэрнацыянальныя лексемы.

Тэрміны з прэфіксам *звыш-* служаць для намінацыі ўласцівасцей, якія значна перавышаюць названыя ўтваральным словам: *звышмагутнасць звышправоднасць, звышхуткасць.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, уключае пераважна незапазычаныя лексемы. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з прыстаўкай *сверх-: сверхмощность, сверхскорость.*

## 11.10.4.2. ТЭРМІНЫ ПРЫМЕТНІКІ

### 11.10.4.2.1. Тэрміны, утвораныя афіксальным спосабам

#### 11.10.4.2.1.1. Суфіксальныя тэрміны

Гэтыя тэрміны складаюць некалькі словаўтваральных тыпаў.

Тэрміны з суфіксам *-ан- (-ян-)* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне ‘зроблены з таго ці з прымессю таго, што названа ўтваральным словам‘: *алавяны, жалезны, супясчаны, тарфяны, шкляны.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і высокапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-н-* утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў, радзей – ад прыслоўяў.

Адназоўнікавыя тэрміны служаць для намінацыі якасцей, названых утваральным словам: *бромавадародны, варыянтны, дагаворны, кантынентальны, комплексны, паралельны, рэлейны, турбагенератарны, эвалюцыйны.* Яны ўтвараюцца ад невытворных назоўнікаў і ад складаных.

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і высокапрадуктыўны ў агульналітаратурнай мове. У рускай мове яму адпавядае аналагічны.

Аддзеяслоўныя тэрміны прыметнікі служаць для намінацыі якасцей, уласцівасцей адносна магчымасцей падвяргацца пэўнаму дзеянню або здольнасці ўтвараць пэўнае дзеянне: *адкідны, выхлапны, заліўны, зацiскны.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Адпрыслоўныя тэрміны прыметнікі нешматлікія. Яны служаць для абазначэння якасці прадмета паводле розных акалічнасцей: *апрыёрны, падоўжаны, папярочны.*

Тэрміны з суфіксам *-ов- (-ав-, -ев-)* утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя тэрміны прыметнікі маюць значэнне ‘які адносіцца да таго або ўласцівы таму, што названа ўтваральным словам‘: *аркестравы, балансавы, гадавы, манеўровы, фінансавы, этылавы.*

Асобныя тэрміны, як і агульналітаратурныя словы гэтага тыпу, ужываюцца ў двух варыянтах: з націскным і ненаціскным суфіксам. Варыянты *металёвы, сталёвы* выкарыстоўваюцца пераважна ў мастацкай літаратуры, у гутарковым стылі. Хоць некаторыя з іх пашыраны ў навуковым стылі: лінгвіст. *стылёвы.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Аддзеяслоўныя тэрміны прыметнікі маюць значэнне ‘які прызначаны для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам‘: *буравы, скакавы, страхавы.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-авіт- (-явіт-)* адзінкавыя, утвораны ад назоўнікаў: *ядавіты.*

Тып непрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны тып, які таксама характарызуецца непрадуктыўнасцю.

Тэрміны з суфіксам *-чат-* утвараюцца пераважна ад назоўнікаў. Сустракаюцца адзінкавыя ўтварэнні ад дзеясловаў *(узрыўчаты,* побач з *выбуховы),* якія замацаваліся ў беларускім тэрмінаўтварэнні пад уплывам рускай мовы.

Адназоўнікавыя тэрміны маюць агульнае значэнне ‘мае ў сабе тое ці падобны на тое, што названа ўтваральным словам‘: *зубчаты, каленчаты, рэпчаты.*

Тып непрадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. Асобныя ўтварэнні абумоўлены ўплывам рускага тэрмінаўтварэння ва ўмовах збліжэння з рускай тэрміналогіяй перыяду СССР. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-іст- (-ыст-)* утвораны ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя тэрміны маюць значэнне ‘валодае ўласцівасцямі таго, мае ці змяшчае (нярэдка ў вялікай меры) тое, што абазначана ўтваральным словам‘: *балоцісты, валакністы, гарысты, падзолісты.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Адпрыметнікавыя тэрміны прыметнікі служаць для намінацыі якасцей паводле пэўнай колькасці ці прымесі таго, што названа ўтваральным словам: *глiністы, пясчаністы, сярністы, тарфяністы.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. Тэрмінаўтваральнаму тыпу з суфіксам *-іст- (-ыст-)* у рускім тэрмінаўтварэнні адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксам *-к-* утвараюцца ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя тэрміны прыметнікі маюць агульную семантыку ‘мае ў сабе тое, характарызуецца тым, што названа ўтваральным словам‘: *вада – вадкі.*

Тып непрадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Аддзеяслоўныя тэрміны прыметнікі маюць агульную семантыку ‘мае ўласцівасць ці здольнасць выклікаць дзеянне, названае ўтваральным дзеясловам‘: *гнуткі, ломкі, плаўкі, сыпкі.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу адпавядае аналагічны.

Тэрміны з суфіксамі *-ім-, -ом- (-ем-)* маюць значэнне ‘здольны выканаць ці падвергнуцца дзеянню, названаму ўтваральным словам‘: *ядомы, значымы, вядомы, рухомы.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. Прадуктыўнасць гэтага словаўтваральнага тыпу ў перыяд СССР значна павысілася ў тэрміналогіі пад уплывам рускага тэрмінаўтварэння.

Тэрміны з суфіксамі *-н-, -он- (-ён-, -ен-)* адзінкавыя, яны маюць значэнне ‘падлеглы дзеянню ці заключае вынік дзеяння, названага ўтваральным словам‘: *гашаны, даданы, адушаўлёны, дублены, мяшаны.*

У агульналітаратурным словаўтварэнні тыпы з суфіксамі *-н-, -ен-* прадуктыўныя; з суфіксам *-он- (-ен-)* малапрадуктыўныя.

Такім чынам, як паказвае аналіз, суфіксальныя тэрміны прыметнікі катэгорыі якасцей, уласцівасцей займаюць значнае месца сярод суфіксальных утварэнняў тэрміналагічнага характару ў структурна-семантычных адносінах (параўн. Суфіксальныя тэрміны назоўнікі) і складаюць прадуктыўны клас тэрмінаў гэтай катэгорыі. Аднак у адносінах да ўсёй сукупнасці семантычных і словаўтваральных тыпаў суфіксальных прыметнікаў у агульналітаратурным словаўтварэнні яны складаюць нязначную частку. Па-першае, значная частка словаўтваральных суфіксаў прыметнікаў не ўдзельнічае ў тэрмінаўтварэнні. Да іх адносяцца, напрыклад, усе суфіксы з прыналежным значэннем, прадуктыўныя ў агульналітаратурным словаўтварэнні: *-ач- (-яч-), -ін- (-ын-), -ават- (-яват-), -авіт- (-явіт-), -ат-, -аст- (-яст-), -ів- (-ыв-), -лів-, -чыв-, -ск-, -уч- (-юч-), -ашч- (-яшч-), -ушч- (-юшч-), -л-, -т-* і некаторыя іншыя менш прадуктыўныя суфіксы. У тэрмінаўтварэнні не ўдзельнічаюць таксама ўсе суфіксы прыметнікаў суб’ектыўнай ацэнкі і стылістычнай мадыфікацыі.

Па-другое, амаль усе словаўтваральныя суфіксы прыметнікаў адрозніваюцца значна больш высокай прадуктыўнасцю ў агульналітаратурным словаўтварэнні ў параўнанні з тэрмінаўтварэннем. Толькі адзінкавыя словаўтваральныя суфіксы (звычайна невысокай прадуктыўнасці) характарызуюцца аднолькавай або некалькі большай прадуктыўнасцю ў тэрмінаўтварэнні ў параўнанні з агульналітаратурным словаўтварэннем. Гэта прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні суфікс *-іст- (-ыст-),* непрадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні суфікс *-чат-,* малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні суфікс *-ов- (-ав-, -ев-),* высокапрадуктыўны ў тэрміналогіі і прадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні суфікс *-н-*, які служыць для ўтварэння адназоўнікавых тэрмінаў прыметнікаў, малапрадуктыўныя ў тэрміналогіі і непрадуктыўныя ў агульналітаратурным словаўтварэнні суфіксы *-ім-, -ом- (-ем-).*

Тэрміны прыметнікі суфіксальнага ўтварэння адрозніваюцца аналагічнасцю словаўтваральных тыпаў і іх прадуктыўнасцю ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. Даволі істотныя адрозненні ў прадуктыўнасці паміж словаўтваральнымі суфіксамі тэрмінаў прыметнікаў у рускім і беларускім тэрмінаўтварэнні заўважаюцца толькі адносна суфіксаў *-ім-, -ом- (-ем-),* якія ў рускім тэрмінаўтварэнні характарызуюцца значна большай прадуктыўнасцю.

Прэфіксальныя тэрміны прыметнікі, як і ўсе прэфіксальныя прыметнікі наогул, утвараюцца ад саміх прыметнікаў.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *а-* абазначаюць адсутнасць прыкметы, названай утваральным словам: *абіягенны, алагічны, амаральны, анармальны, арытмічны, асіметрычны, асінхронны, атраўматычны, атрэніраваны.*

Тып высокапрадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. Як сродак, не тыповы для агульнаўжывальнай мовы (вуснай і пісьмовай), часам выкарыстоўваецца для стварэння камічнага эфекту ў мове мастацкай літаратуры.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *анты-* па характары семантычнай сувязі з утваральным прыметнікам дзеляцца на тры падтыпы:

1) тэрміны, якія абазначаюць прыкмету, процілеглую той, што названа ўтваральным прыметнікам: *антыгістарычны, антыгуманны, антымастацкі, антыпедагагічны, антысанітарны;*

2) тэрміны са значэннем ‘накіраваны супраць таго, што названа назоўнікам, якім у сваю чаргу матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *антываенны* ‘накіраваны супраць вайны‘, *антыграмадскі, антыдыктатарскі, антынародны, антырэлігійны, антыфашысцкі;*

3) тэрміны са значэннем ‘накіраваны супраць таго, што названа словазлучэннем з утваральным прыметнікам у якасці азначэння‘: *антыгадзючны* ‘накіраваны супраць заражэння ядам гадзюкі‘, *антыфосфараарганічны* ‘накіраваны супраць заражэння фосфараарганічнымі атручальнымі рэчывамі‘, *антытаксічны* ‘накіраваны супраць дзеяння таксічных рэчываў‘.

Названыя семантычныя падтыпы часта сумяшчаюцца і ў адным тэрміне: падтыпы 1 і 2 – у тэрмінах *антынавуковы* (‘процілеглы навуковаму‘ і ‘накіраваны супраць навукі‘), *антыматэрыялістычны* (‘процілеглы матэрыялістычнаму‘ і ‘накіраваны супраць матэрыялістаў‘); 2 і 3 – у тэрмінах *антырабочы (антырабочы законапраект:* ‘законапраект, накіраваны супраць рабочых‘) і інш.

Тып высокапрадуктыўны ў грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, у кніжным і публіцыстычным стылях мовы. У агульналітаратурным словаўтварэнні непрадуктыўны, аднак тэрміны з прэфіксам *анты-* шырока пранікаюць у вуснае маўленне, фіксуюцца тлумачальнымі і перакладнымі слоўнікамі беларускай мовы.

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *архі-* служаць для намінацыі вышэйшай ступені праяўлення прыкметы, названай утваральным словам: *архіпраблематычны, архірэакцыйны.*

Тып прадуктыўны ў кніжным і публіцыстычным стылях.

Тэрміны з прэфіксам *без- (бес-)* служаць для абазначэння адсутнасці або процілегласці прыкметы: *безазоцісты, безапорны* (стан), *безнаяўны, бесступенчаты, безвільготны, бязатамны, бязлісцевы, бязрэйкавы, бяз'ядзерны, бяссіласавы, бяспланавы.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *каля-* маюць значэнне ‘які знаходзіцца вакол або каля таго, што названа словам, якім у сваю чаргу матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *калявосевы, калямесячны, каляротавы, каляпесцікавы, каляэкватарны.*

Часам тэрміны гэтага словаўтваральнага тыпу матывуюцца словазлучэннямі – *каляшчытавідны* ‘які знаходзіцца каля шчытавіднай залозы‘.

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі, набывае прадуктыўнасць у н准ватворах кніжнага і публіцыстычнага стыляў звычайна з адценнем ‘які прымыкае да чаго-н., каго-н.‘:

*каляліпаратурны, калянавуковы, каляфутбольны.* Такія наватворы звычайна маюць негатыўную канататыўную афарбоўку.

Тэрміны з прэфіксам *па-* складаюць два семантычныя тыпы:

1) тэрміны са значэннем ‘утвораны, вымераны, размеркаваны ў адпаведнасці з тым, што названа словам, якім матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *падаходны, пазямельны, пакватральны, паўзводны; пааперацыйны* (кантроль), *пагадзінная, парадковая* (аплата).

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны;

2) тэрміны са значэннем ‘які адбыўся пасля таго, што названа словам, якім матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *парэвалюцыйны, парэформенны.*

Тып непрадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні адсутнічае.

Тэрміны з прэфіксам *пад-* складаюць два тыпы:

1) тэрміны са значэннем ‘які знаходзіцца ніжэй або паблізу таго, што названа словам, якім у сваю чаргу матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *падводны, падкранавы, падрэйкавы, падротавы;*

2) тэрміны са значэннем ‘які знаходзіцца ў сферы, у веданні таго, што названа словам, якім у сваю чаргу матываваны суфіксальны ўтваральны прыметнік‘: *падвопытны, падкантрольны, падсправаздачны, падцэнзурны.*

Абодва тыпы прадуктыўныя ў тэрміналогіі і менш прадуктыўныя ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні ім адпавядаюць аналагічныя.

Тэрміны з прэфіксам *пасля-* маюць значэнне ‘які адбываецца або адбыўся пасля таго, што названа ўтваральным словам або словазлучэннем з утваральным прыметнікам‘: *пасляаперацыйны, пасляваенны, пасляпускавы, пасляродавы, пасляпраўматычны, паслякастрычніцкі, пасляледніковы, пасляпрэцічны, паслягарантыйны.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны без істотнай розніцы ў лексічным напаўненні.

Тэрміны з прэфіксам *пост-* маюць тое ж значэнне, што і тэрміны папярэдняга тыпу: *постінфарктны, пострадыяцыйнае* (абпрамяненне), *постэмбрыянальны* (перыяд).

У параўнанні з папярэднім гэты тып характарызуецца прадуктыўнасцю толькі ў тэрміналогіі, агульналітаратурнаму словаўтварэнню ён не ўласцівы.

Тэрміны з прэфіксам *перад-* маюць значэнне ‘які непасрэдна папярэднічае (у часе або ў прасторы) таму, што названа ўтваральным прыметнікам‘: *перадвыбарны, перадзанальны, перадпалярны, перадпасяўны, перадплечавы.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *пры-* маюць значэнне ‘які знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці да таго, што названа ўтваральным словам або словазлучэннем з утваральным словам у якасці ўтваральнага прыметніка‘: прыанальны (‘які знаходзіцца паблізу анальнай адтуліны‘), прыдзеяслоўны, прыпалярны, прыпланетны, прыпартавы.

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны.

Тэрміны з прэфіксам *пра-* маюць значэнне 'прывер態жаны таму, ажыццяўляемы на карысць таго, што названа ўтваральным словам': *праамерыканскі, праімперыялістычны, пракаланізатарскі, пракансерватыўны, прафашысцкі.*

Тып прадуктыўны ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі, дзе ўтварэнні з прэфіксам *пра-* антанімічныя прыметнікам з прэфіксам *анты-* і маюць негатыўную афарбоўку.

Тэрміны з прэфіксам *проці-* маюць значэнне 'накіраваны супраць таго, што названа ўтваральным словам або словазлучэннем з гэтым утваральным словам'; *проціакісляльны, процігніласны, процікаразійны, процірадыяцыйны, процісклератычны; проціатамны, проціпаветраны, проціхімічны* 'накіраваны супраць атамнага, паветранага, хімічнага нападзення'.

Тып прадуктыўны ў сучаснай тэхнічнай, ваеннай, медыцынскай, грамадска-палітычнай тэрміналогіі. У агульналітаратурным словаўтварэнні малапрадуктыўны. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з прэфіксам *противо-*, які характарызуецца высокай прадуктыўнасцю.

Тэрміны з прэфіксам *супраць-* маюць значэнне, аналагічнае тыпу з прэфіксам *процi-*, аднак характарызуюцца значна меншай ужывальнасцю: *супрацьпажарны, супрацьтанкавы, супрацьхімічны.*

У рускім тэрмінаўтварэнні гэтаму словаўтваральнаму тыпу, таксама як і разгледжанаму вышэй, адпавядае словаўтваральны тып з прэфіксам *противо-*, які характарызуецца значна больш высокай прадуктыўнасцю.

Тэрміны з прэфіксам *звыш-* служаць для намінацыі гранічна высокай ступені праяўлення прыкметы, названай утваральным словам: *звышкрытычны, звышмалы, звышмарозаўстойлівы, звышмоцны, звышхуткасны.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і малапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні. У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае словаўтваральны тып з прэфіксам *сверх-*, які характарызуецца такой жа прадуктыўнасцю.

Тэрміны з запазычаным прэфіксам *супер-* маюць такое ж значэнне, як і папярэднія, аднак характарызуюцца значна меншай прадуктыўнасцю як у тэрміналогіі, так і ў агульналітаратурным словаўтварэнні: *суперрадыяцыйны, суперхуткасны, суперэластычны, суперэфектыўны.*

Тэрміны з інтэрнацыянальным прэфіксам *ультра-* служаць для намінацыі гранічнай ступені прыкметы ў навукова-тэхнічнай і празмернай ступені прыкметы ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі: *ультравысокі, ультракароткі, ультрафіялетавы.* У грамадска-палітычнай тэрміналогіі тэрміны з прэфіксам *ультра-* часта маюць негатыўную канататыўную афарбоўку: *ультралевы, ультраправы, ультрарэакцыйны.*

Тэрміны з інтэрнацыянальнымі прэфіксамі *ір-, ім-* служаць для намінацыі адсутнасці прыкметы, названай утваральным словам: *ірацыянальны, ірэальны, ірэгулярны.*

Тып малапрадуктыўны ў тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

Сярод прэфіксальных тэрмінаў ёсць словаўтваральныя сінанімічныя пары, якія ўасноўным утвараюцца ў выніку выкарыстання сваямоўнага і запазычанага, у большасці выпадкаў інтэрнацыянальнага, прэфіксаў: *несіметрычны – асіметрычны, процікаразійны – антыкаразійны, звышрэвалюцыйны – архірэвалюцыйны; звышхуткасны – суперхуткасны.* Сінанімічныя словаўтваральныя пары ўтвараюцца таксама і тэрмінамі з запазычанымі прэфіксамі: *амаральны – антымаральны, архірэакцыйны – ультрарэакцыйны, супервысокі – ультравысокі.*

Як паказвае аналіз, прэфіксальнае прыметнікавае ўтварэнне тэрмінаў катэгорыі якасці характарызуецца не толькі значнай прадуктыўнасцю ў параўнанні з суфіксальным прыметнікавым тэрмінаўтварэннем, а і высокай прадуктыўнасцю і шмат-

лікасцю словаўтваральных тыпаў у параўнанні з агульналітаратурным словаўтварэннем прыметнікаў. Так, сярод 14 асноўных тэрмінаўтваральных тыпаў 11 характарызуюцца большай прадуктыўнасцю ў тэрміналогіі ў параўнанні з агульналітаратурным словаўтварэннем, а асобныя прэфіксы выкарыстоўваюцца толькі ў тэрміналогіі.

Большая частка тэрмінаўтваральных суфіксаў (8 з 14) запазычаная, прычым усе запазычаныя суфіксы належаць да інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду.

У параўнанні з суфіксальным утварэннем тэрмінаў прыметнікаў прэфіксальнае характарызуецца большай аднатыпнасцю з рускім прэфіксальным тэрмінаўтварэннем, што шмат у чым абумоўлена інтэрнацыянальным характарам асноўных тэрмінаўтваральных прэфіксаў. Пры гэтым трэба адзначыць, што аднатыпнасць прэфіксальнага ўтварэння тэрмінаў прыметнікаў у беларускай і рускай мовах у адрозненне ад суфіксальнага тэрмінаўтварэння характарызуецца таксама і высокай ступенню адпаведнасці лексічнага напаўнення асноўных тэрмінаўтваральных тыпаў у абедзвюх мовах.

Значная частка прэфіксальных прыметнікаў з агульным значэннем якасці адносіцца да медыцынскіх тэрмінаў і служыць для абазначэння "пунктаў" цела чалавека па іх размяшчэнню адносна адзін аднаго, а таксама месца захворвання [унутры якога-небудзь органа (або часткі цела), побач з ім, у яго верхняй або ніжняй частцы]: *падкоркавы, прадсардэчны, унутрысардэчны, асумкаваны, падчэраўны, падартэрыяльны, прадсківічны, пад'язычны, падскурны, пазачэрапны, міжмышачны, міжклеткавы* і пад. Акрамя катэгарыяльнага значэння якасці, уласцівага прыметнікам, гэтыя тэрміны выражаюць таксама прасторавыя значэнні, якія перадаюцца пэўнымі прэфіксамі.

Значна меншую, але даволі шырокую групу тэрмінаў прыметнікаў з агульным значэннем якасці складаюць астранамічныя і касмічныя тэрміны, якія служаць для характарыстыкі размяшчэння пэўных аб'ектаў адносна арыенціра: *калясонечны, каляпланетны, каляземны* ['які акружае сонца (планету Зямля), рухаецца вакол іх'].

З дапамогай прэфіксаў выражаюцца практычна тыя ж тыпы прасторавых адносін, што і ў агульнаўжывальнай лексіцы. Напрыклад, становішча пад чым-небудзь: *падартэрыяльны, падрэберны, падслізісты;* становішча ўнутры чаго-небудзь: *асумкаваны, унутрыартэрыяльны, унутрынасавы, унутрысардэчны;* становішча над чым-небудзь: *надбрушынны, наднасавы, надрэберны;* становішча па-за чым-небудзь: *пазабрушынны, пазамышачны, пазачэрапны;* становішча паміж чым-небудзь: *міжклеткавы, міжмышачны;* становішча паблізу чаго-небудзь: *каляпланетны, калясонечны;* становішча перад чым-небудзь: *прадсардэчны, прадсківічны;* становішча за чым-небудзь: *зазубны;* становішча на чым-небудзь: *наземны;* становішча пасля чаго-небудзь: *паслянацыскны, пасляледніковы* і інш. Пералічаныя вышэй у складзе тэрмінаў прэфіксы *каля-, між-, прад-, унутры-, паза-* ўваходзяць у клас так званых адносных прэфіксаў, яны маюць у сістэме мовы карэлятыўныя прыназоўнікі або прыслоўі.

Значная частка прэфіксальных тэрмінаў прыметнікаў мае запазычаныя або інтэрнацыянальныя сінонімы: *заднепаднябенны – постпалатальны, зазубны – постдэнтальны, унутрынасавы – інтраназальны, унутрысардэчны – інтракардыяльны.* Прэфіксальныя тэрміны з запазычанай асновай часам ужываюцца як з запазычаным прэфіксам, так і з сваямоўным: *падартэрыяльны – гіпаартэрыяльны, унутрыартэрыяльны – інтраартэрыяльны, унутрывенны – інтравенны.*

Некаторыя запазычаныя або інтэрнацыянальныя прэфіксальныя тэрміны прыметнікі не маюць нацыянальных адпаведнікаў у беларускай і рускай мовах: *пост-*

*кансанатны* ‘які размешчаны пасля зычнага гука‘ (патэнцыяльна магчымае па аналогіі з прыведзенымі вышэй тэрмінамі ўтварэнне *паслязычны* практычна не выкарыстоўваецца з прычыны шырокай распаўсюджанасці інтэрнацыянальнага тэрміна); *посткардыяльны* ‘якi ляжыць за сэрцам‘ (патэнцыяльна магчымы нацыянальны эквівалент *засардэчны* па аналогіі з *падсардэчны, прадсардэчны, унутрысардэчны* не атрымаў распаўсюджання і кадыфікацыі ў сувязі з яго мнагазначнасцю і пэўнай стылістычнай афарбоўкай размоўнага стылю); *прэмалярны* ‘які мае адносіны да малога карэннага зуба‘ (нацыянальны аднаслоўны тэрмін прыметнік не мог быць утвораны, паколькі ў беларускай мове, як і ў рускай, адсутнічае аднаслоўная намінацыя малога карэннага зуба).

### 11.10.4.2.1.3. Суфіксальна-прэфіксальныя тэрміны

Суфіксальна-прэфіксальныя тэрміны прыметнікі ўтвараюцца пераважна ад асноў назоўнікаў, пры гэтым выкарыстоўваюцца суфіксы *-н-, -ск-* з іх варыянтамі і суфікс *-ов- (-ав-)*.

Па значэннях гэтыя тэрміны не адрозніваюцца ад адпаведных прэфіксальных утварэнняў, а па семантыцы і структуры ўтваральных слоў – ад адпаведных тыпаў суфіксальных прыметнікаў з тымі ж суфіксамі.

Тэрміны з прэфіксам *ад-* і суфіксамі *-н-, -ов-* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне ‘які паходзіць або ўтвораны ад таго, што названа ўтваральным словам‘: *аддзеяслоўны, адыменны, адпрыметнікавы, адпрыслоўны.*

Тып прадуктыўны ў лінгвістычнай тэрміналогіі і непрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

У рускім тэрмінаўтварэнні яму адпавядае аналагічны з пэўнымі адрозненнямі ў лексічным напаўненні.

Тэрміны з прэфіксам *без-/бяз- (бес-/бяс-)* і суфіксам *-н-* утвараюцца ад назоўнікаў: *безбілетны, беспілотны, бяссуфіксны.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі і высокапрадуктыўны ў агульналітаратурным словаўтварэнні.

### 11.10.4.3. КОМПЛЕКСНЫЯ ТЭРМІНЫ

Тэрміналагічныя словазлучэнні гэтай катэгорыі нешматлікія. Да іх адносяцца некаторыя грамадска-палітычныя тэрміны, якія адначасова маюць значэнне форм улады або выніку пэўных дзеянняў: *буржуазная дэмакратыя, народная дэмакратыя,* а таксама адзінкавыя навукова-тэхнічныя тэрміны: *крытычны стан рэчыва, кароткае замыканне, пасіўны баланс.* Да іх прымыкаюць таксама медыцынскія намінацыі захворванняў: *адамаў яблык, антонаў агонь, газавая гангрэна, гіпертанічная хвароба, цукровы дыябет, грудная жаба, кесонная хвароба, балотная ліхаманка, інкубацыйны перыяд, брушны тыф, марская хвароба, сонная хвароба, цукровая хвароба.*

# 12. ЛЕКСІКАГРАФІЯ

## 12.1. ГІСТАРЫЧНЫЯ ПЕРАДУМОВЫ БЕЛАРУСКАЙ ЛЕКСІКАГРАФІІ

Беларуская друкаваная лексікаграфія (грэч. lexikon 'слоўнік' + grapho 'пішу') пачынаецца з перакладу біблейскіх кніг на старабеларускую мову Ф.Скарынам у пачатку 16 ст. Асветнік тлумачыў і перакладаў незразумелыя ці малазразумелыя царкоўна-славянскія лексемы "простымі" словамі тыпу *зело* 'велми', *владыка* 'господаръ', *подобати* 'мусити', *риторъ* 'мовца', *всуе* 'надармо', *время* 'час' і інш. на палях створаных тэкстаў і ў самім тэксце. Тое ж самае рабілі і прадаўжальнікі справы Ф.Скарыны Сымон Будны, Васіль Цяпінскі і інш. (гл.: ЖУРАЎСКІ 1967, 152, 198, 221).

Адна з першых самастойных рукапісных лексікаграфічных прац (гл.: СТАРАБЕЛАРУСКІЯ ЛЕКСІКОНЫ 1992) сярод усходніх славян з'явілася ў Вільні (1586) "Лексисъ с толкованиемъ словенскихъ мовъ просто" і ўключала ў рэестравую частку 897 стараславянскіх слоў, якія ананімны аўтар перакладаў на старабеларускую мову часцей за ўсё адным словам (параўн.: **возвещаю** 'поведаю', **врагъ** 'ворогъ', **да взыщетъ** 'шукаетъ', **желаю** 'жадаю', **нужно** 'треба', **одолею** 'перемогу', **плинфа** 'цегла', **советъ** 'рада', **сандалия** 'черевики', **усердный** 'щирый', **хула** 'ганьба' і г.д.); значна радзей ужываюцца пераклады, што складаюцца з двух і болей лексем (параўн.: **зело** 'барзо, велми', **бубреги** 'почки, нырки', **многодушие** 'великодушие, высокородство, мужество' і г.д.), а таксама пераклады з дапамогай словазлучэнняў (параўн: **подвизаетъ** 'рабить подвиг', **супружница** 'жена шлюбная' і інш.) ці апісальных канструкцый (параўн.: **висекстъ** 'отъ штукъ или отъ годинъ збиранный день', **оглавление** 'краткое означение предметов в книге' і г.д.). У слоўніку сустракаюцца ўстойлівыя звароты як у левай (рэестравай) частцы (параўн.: **жена ветха** 'баба', **рвения рети** 'посварки деяти' і інш.), так і ў правай (тлумачальнай) частцы слоўніка (параўн.: **неприсящи** 'не чини кривды', **геена** 'огненная мука' і інш.); амонімы размяжоўваюцца і падаюцца ў розных слоўнікавых артыкулах (параўн.: **мир** 'покой' і **мир** 'свет' і інш.); фіксуюцца некаторыя ўласныя імёны (параўн.: **Агапий, Афиногенъ, Архипъ, Исусъ, Назарей** і інш.) і раскрываецца іх паходжанне (этымалогія) тыпу **Авесаломъ** 'отец покою', **Афиногенъ** 'во Афинехъ рожденъ', **Христосъ** 'помазанецъ' і інш.

Другая самастойная лексікаграфічная, але ўжо першая друкаваная, праца "Лексисъ. Сиречь реченія, въкратце събранны..." належыць Лаўрэнцію Зізанію і таксама апублікавана ў Вільні (1596), колішнім культурным цэнтру беларусаў, якім ён заставаўся амаль да сярэдзіны 20 ст., бо тут апрача выданняў Ф.Скарыны выходзіла самая слынная першая легальная беларуская газета "Наша ніва" (спачатку пад найменнем "Наша доля"), друкаваліся Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч, М.Гарэцкі і інш., існавалі выдавецтвы "Наша хата", "Палачанін", "Беларускае выдавецкае таварыства" і інш. У слоўніку зроблены пераклад на

старабеларускую мову 1061 царкоўна-славянскай лексемы, а для перакладу выкарыстана звыш 2000 беларускіх слоў, многія з якіх сталіся здабыткам і сучаснай беларускай літаратурнай мовы (параўн.: **абіе** 'заразъ', **алекторъ** 'певень', **балий** 'чаровникъ', **баня** 'лазня', **время** 'часъ', **труд** 'праца', **качество** 'якость', **деяніе** 'справа', **дело** 'учинок', **варяю** 'чекаю' і інш.). Лексіс Л.Зізанія змяшчае для некаторых царкоўна-славянскіх слоў разгорнутыя тлумачэнні тыпу **онокертавръ** 'зверь неякись, от головы як чоловекъ, а от ног як осел'; **сіндонъ** 'с тонкого полотна простирало албо рантух. Для того так названо же найперве в месте Сідоне пачато тое робити' і інш. і, такім чынам, закладвае падваліны для стварэння ў далейшым тлумачальных і этымалагічных слоўнікаў беларускай мовы. Тым больш, што для асобных рэестравых слоў прыводзяцца пашпартызаваныя ілюстрацыі з указаннем першакрыніцы, напрыклад, **глумлюсь** 'прохожуюся, проезджаю, подражняюсь и цвичуся'. *Изыде Ісаак поглумитися на поле ку вечеру, і вышол Ісаак проходитися подъ вечеръ* (Псал. 118); **четъ** 'почет, войско ушикованное' (Книга Іова, глава 1). *Конници створиша четы три, конные жолнере на три гуфы розшиховались* і інш. Зазначаюцца спробы, праўда адзінкавыя, размежаваць полісемію зыходных лексем; параўн.: 1. **таче** 'для того' (у Іоанна Экзарха в Шестодневци, в первой главе). *Таче рече: сътворенно есть небо, дася явитъ, яко худа честь вътвари.* 2. **таче** 'также, тыж'. В том же слове, яко таче и въздух былъ послушай. 3. **таче** 'потом албо тож, там же', в том слове, первее бо глаголемъ, таче деем.

Як і ў першай ананімнай беларускай лексікаграфічнай працы Л.Зізаній перакладае некаторыя царкоўна-славянскія лексемы словазлучэннямі ці апісальнымі зваротамі (параўн.: **трудолюбіе** 'коханьеся в працы'; **философ** 'кохаючийся в мудрости'; **вредитель** 'шкодца, который нарушает' і інш.). У рэестравай частцы слоўніка змяшчаюцца не толькі словы, але і словазлучэнні, выразы (параўн.: **исходище водное, людъ тяжекъ, нощное поприще, извитие словес** і інш.). Выдадзены спачатку на тэрыторыі Украіны (Кіеў, 1627) "Лексиконъ словенороссkій и именъ тълкованіе" Памвы Бярынды, а затым на Беларусі (Куцейна пад Оршай, 1658) цалкам уключыў у свой склад "Лексіс" Л.Зізанія і налічваў у цэлым каля 7000 рэестравых (царкоўна-славянскіх) слоў (з іх амаль 2000 уласных імёнаў), што перакладаліся і тлумачыліся старабеларускімі (стараўкраінскімі) словамі, словазлучэннямі, апісальнымі канструкцыямі (пра жыццёвы і навуковы шлях Л.Зізанія гл.: БОТВИННИК 1973).

Першым уласна беларускім слоўнікам з'яўляецца ананімная праца "Синонима славенороссkая" (старадрук 17 ст.). Варта зазначыць, што ў тыя далёкія часы беларуская мова ўяўлялася настолькі істотна адрознай ад астатніх славянскіх моў (стараславянская, старажытнаруская, руская), што ўзнікла пільная патрэба перакладаць яе на роднасныя мовы, тлумачыць яе словы лексемамі іншых моў. Даволі часта рэестравае беларускае слова перакладаецца адным іншамоўным сінонімам (параўн.: **албо** 'или', **безъ заганы** 'непорочный', **вапно** 'мелъ', **веселля** 'бракъ', **вымагаю** 'истязаю', **выховаю** 'вскормляю', **дбай** 'ради', **жебракъ** 'нищий' і г.д.), двума сінанімічнымі словамі (параўн.: **журба** 'печаль, скорбь', **вандрую** 'шествую, странствую', **волоцюга** 'бегунъ, лестецъ' і інш.), трыма (параўн.: **великий** 'велій, високъ, големій', **вага** 'мерило, превесъ, весъ' і г.д.), чатырма (параўн.: **волоки** 'поля, ланы, резны, лазы', **ганба** 'безчестіе, гажденіе, поносъ, поношеніе' і інш.) і болей (параўн.: **гукъ** 'звукъ, кличъ, плищ, вопль, мятежа, молва, щукъ' і інш.). У слоўніку выкарыстоўваюцца адсылкі адных загаловачных лексем да іншых рэестравых слоў (параўн.: **захователь**, зри **выбавитель; зупелность**, зри **досконалость**; **зневага,** зри **ганба** і г.д.), часам беларуская лексема сінанімізуецца (тлумачыцца, перакладаецца) іншамоўным словазлучэннем (параўн.: **пазычаю** 'взаимъ даю', **хмара** 'теменъ облакъ', **друкую** 'типом издаю' і інш.) ці наадварот

беларускае рэестравае словазлучэнне сінанімізуецца адным перакладным словам (параўн.: **праце полный** 'трудный', **радный пан** 'советникъ' і г.д.).

Хаця ў слоўніку практычна адсутнічаюць граматычныя паметы за выняткам адзінкавых выпадкаў тыпу **куколъ** 'плевелы, плевалie' (множественное число), а таксама націск, ілюстрацыі, ён служыць зыходнай асновай для стварэння адпаведных сінанімічных слоўнікаў не толькі беларускай мовы, але і іншых славянскіх моў, таму што ў тлумачальнай частцы знаходзяцца лексемы гэтых моў (параўн.: *бумага, ложь* і інш. з рускай; *celník, dnes* і інш. з чэшскай; *петел, риза* і інш. з балгарскай; *седмица, рибар* і інш. з сербскахарвацкай; *статечний, чинити* і інш. з украінскай; *broń, bydło* і інш. з польскай і г.д.).

Нягледзячы на тое, што ў старабеларускіх лексіконах адсутнічаюць такія неабходныя і абавязковыя зараз лінгвістычныя рэквізіты, як націск і граматычныя паметы; зыходная форма дзеяслова прадстаўлена не інфінітывам, а формай першай асобы цяперашняга часу ці трэцяй асобы прошлага часу (параўн.: **взываю, чли** 'чыталі' і да т.п.), у гэтых працах закладзены падмурак і вызначаны далейшыя магістральныя шляхі развіцця беларускай і ўсёй усходнеславянскай лексікаграфіі: алфавітнае размяшчэнне слоў, размежаванне (праўда, спарадычнае) аманіміі і полісеміі, пераклад зыходнага рэестравага слова і адной лексемай, і некалькімі, і словазлучэннямі, і апісальнымі канструкцыямі, што ўяўляе сабой па сутнасці тлумачэнне рэестравага слова і этымалагічныя нататкі, і інш. Усе згаданыя дадзеныя аксіяматычна выкарыстоўваюцца ў сучаснай беларускай лексікаграфіі.

Лексіка новай беларускай літаратурнай мовы пачала збірацца і навукова апрацоўвацца разам са станаўленем самой літаратурнай мовы ў 18 ст. ў выглядзе лексічных дадаткаў да этнаграфічных, фальклорных, гістарычных і іншых зборнікаў і артыкулаў А.Меера, К.Калайдовіча, П.Шэйна, Я.Чачота, Е.Раманава і інш., а затым у рукапісных і друкаваных лексікаграфічных працах С.Мікуцкага, Ф.Шымкевіча, П.Шпілеўскага, М.Нікіфароўскага, С.Мядзведскага, І.Насовіча, І.Грыгаровіча і інш.

Сапраўды лексікаграфічны бум у беларускім мовазнаўстве пачаўся ў 20-я гады 20 ст. і доўжыцца па наш час. З выкарыстаннем беларускага матэрыялу навукоўцамі створана звыш 600 розных слоўнікаў (гл.: ШЧЭРБІН 1996, 20), значная частка якіх прыпадае на 20-я і 90-я гады 20 ст. і звязана з хвалямі нацыянальнага адраджэння, прычым лексікаграфічныя працы ў выглядзе двухмоўных і іншых слоўнікаў друкуюцца не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, у прыватнасці ў Польшчы, ЗША і інш.

## 12.2. ПЕРАКЛАДНЫЯ АГУЛЬНАЎЖЫВАЛЬНЫЯ СЛОЎНІКІ

З гэтага тыпу лексікаграфічных прац практычна і пачынаецца беларуская навука аб слоўнікавым складзе спачатку старабеларускай, а потым і новай беларускай літаратурнай мовы, прычым у першых друкаваных і рукапісных слоўніках беларускія лексемы выкарыстоўваюцца для перакладу і тлумачэння іншамоўных лексем, найперш стараславянскай (царкоўна-славянскай) мовы.

Перакладныя слоўнікі новай беларускай літаратурнай мовы спачатку ў выглядзе дадаткаў да этнаграфічных, гістарычных, геаграфічных і іншых апісанняў Беларусі, а затым у выглядзе рукапісных і друкаваных слоўнікаў уяўлялі сабой часцей за ўсё пераклады на рускую мову або тлумачэнні рускімі словамі мясцовых беларускіх лексем ад некалькіх дзесяткаў (К.Калайдовіч), сотняў (А.Меер, П.Шэйн, Я.Чачот), да

звыш тысячы (Ф.Шымкевіч, І.Грыгаровіч, С.Мікуцкі, П.Шпілеўскі, М.Нікіфароўскі, С.Мядзведскі і інш.).

Асобнае месца сярод усіх лексікаграфічных прац 19 ст. займае "Словарь белорусского наречия" І.Насовіча (СПб, 1870). Гэта праца перавыдадзена ў наш час пад найменнем "Слоўнік беларускай мовы" (НАСОВІЧ 1983). У рэестравую частку слоўніка ўключана каля 30 000 беларускіх слоў, сабраных аўтарам пераважна ў Магілёўскай губерні, што, бадай, больш усіх папярэдніх беларускіх слоў, зафіксаваных ва ўсіх разам узятых лексікаграфічных працах згаданых вышэй вучоных. Па жанру гэтую працу можна ахарактарызаваць як беларуска-рускі тлумачальна-перакладны слоўнік, дзе нават рэестравыя лексемы аформлены пераважна згодна з рускай арфаграфіяй, а ўся правая частка (за выключэннем ілюстрацый) складаецца з рускамоўных перакладаў, тлумачэнняў, часам разгорнутых. Многія пераклады з'яўляюцца аднаслоўнымі (параўн.: **альбо** 'или', **задовгій** 'длинноватый', **капцёлка** 'тюрьма', **колдра** 'одеяло', **стужка** 'лента', **пханне** 'толкание', **шукаць** 'искать', **стрельба** 'ружьё', **ципа** 'курица' і да т.п.). Поруч з аднаслоўнымі эквівалентамі аўтар выкарыстоўвае для перакладу беларускіх лексем рускія сінонімы (параўн.: **танно** 'дешево, сходно', **вабный** 'привлекательный, лестный, увлекающій', **въедала** 'клеветникъ, фискалъ, ябедникъ', **коло** 'близъ, подле, при' і інш.), гиперонимы (параўн.: **колика** 'болезнь', **спижъ** 'медь, медная посуда' і інш.), словазлучэнні (параўн.: **быдло** 'скот рогатый', **белизна** 'тонкое белье', **гулянне** 'занятие играми' і інш.), апісальныя канструкцыі, з дапамогай якіх раскрываецца значэнне рэестравых беларускіх слоў (параўн.: **вабикъ** 'свистокъ для приманивания дикихъ птицъ', **толока** 'сельская полевая работа с приглашенными на помощь соседями', **гандлеванне** 'сбывание вещей посредством мены или продажи купленнаго' і інш.).

І.Насовіч паслядоўна размяжоўвае аманімію (параўн.: **томка** 'истомленіе' і **томка** 'донникъ', **плётка** 'плеть' і **плётка** 'сплетникъ', **каменница** 'безплодная женщина' і **каменница** 'каменный домъ', **плутаць** 'путать' і **плутаць** 'бродяжничать' і г.д.) і полісемію (параўн.: **мешканне** 1) временное пребывание, 2) место жительства, **солонина** 1) свиное сало, 2) соленая говядина, **гакъ** 1) железный крюкъ на конце багра судоваго или пожарнаго, 2) мера или участокъ земли, 3) зубецъ на остроге, 4) порядочной величины крючекъ у уды для живца, 5) загнутые концы подковы і г.д.). Кожны слоўнікавы артыкул суправаджаецца моўнымі ілюстрацыямі, якія, аднак, не пашпартызуюцца (параўн.: **задзёвбаць** 'заклевать до смерти'. Петухъ задзёвбавъ селезня; **шлында** 'бродяга, любящій шляться'. Шлында не уседзіць на адномъ мейсцу, и работы тольки, што шлындаць; **сродокъ** 'средство'. Ниякого сродку нема вылезць отсюль і інш.), за выключэннем спасылак на фальклорныя творы – байкі, казкі, прымаўкі, прыказкі, песні і інш. (параўн.: **поклонный** 'покорный'. Поклонной головы и мечъ не берець. Пословица; **шкуратъ** 'выделанная кожа'. Попинаецца, як шкуратъ на огню. Поговорка; **просцюсенько** 'прямохонько'. Сядзь просцюсенько // Будзець тобе милюсенько. Изъ свадебной песни; **сукенка** 'женское платье, более ситцевое, нежели суконное'. Шла паненка черезъ боръ // На ей сукенка въ дзевяць полъ. Изъ песни; **баба-яга** 'чертовка или ведьма'. Баба-яга, косцяная нога на ступе едзець товкачомъ поганяець, помеломъ следъ заметаець. Сказка і інш.).

Пра кваліфікаваную лінгвістычную апрацоўку сабранага лексічнага матэрыялу І.Насовічам сведчаць дэталёвыя граматычныя паметы, што суправаджаюць кожную лексему, яе разнастайныя граматычныя формы (напрыклад, памяншальныя формы і формы роднага склону для назоўнікаў, формы трывання для дзеясловаў, ступені параўнання для прыслоўяў, прыметнікаў і г.д., прычым падобныя формы падаюцца ў

розных артыкулах, г.зн. як самастойныя лексемы, хаця часам і робіцца адсылка на зыходнае слова), пастаноўка націску у кожным прадстаўленым слове: **тупануць**, однократный глагол, ср.: **тупаць**, совершенный вид **затупаць**; **тупнуць**, см.: **тупаць**; **суставчикъ**, *-а* существительное, уменьшительное слова **суставъ; скрылекъ**, *-лька* и **скрылечекъ,** *-чка*, существительное мужского рода уменьшительное слова **скрыль; певнейшій**, прилагательное превосходной степени, **певней,** наречие сравнительной степени, **певный**, прилагательное 'верный, достоверный' і г.д.

Зрэдку аўтар робіць спасылкі на замежныя словы, ад якіх, на яго думку, утворана адпаведная беларуская лексема, напрыклад: **патынка** (латинское patina 'блюдо'), **звиливаць** (литовское zwiluoti 'колебаться'), **лихтарня** (немецкое Licht 'свеча'), **раздабариваць** (еврейское dabar 'слово'), **скронь** (славянское *скранія*) і інш. Для некаторых найменняў флоры і фауны, хімічных рэчываў прыводзяцца лацінскія назвы (параўн.: **бабовникъ** trifolium 'трилистникъ'; **бобакъ** bobak 'байбакъ, зверекъ'; **бабій муръ** раст. Lycopodium 'плаунъ'; **галунъ** Alumen 'квасцы'; **кожанъ** Vespertilio 'летучая мышь, нетопырь' і інш.). Частка лексем характарызуецца паметай іх рэгіёна ўжывання (параўн.: **преци** (въ Минск. и Виленск. губерніяхъ); **сказовати** (въ Пружанскомъ уезде); **алесистый** (въ Бобруйскомъ и Новогрудскомъ уездахъ); **бахилки** (Гродн. губ. и Минской: Слуцкаго и Пинскаго уезд.) і інш.

"Слоўніку беларускай мовы" І.Насовіча як па колькасці сабранага лексічнага матэрыялу (прычым толькі пераважна з Магілёўскай губерні і без уліку слоў, агульных з рускай мовай тыпу *агонь, вада, зямля, нага, хлеб* і да т.п.), так і па дэталёвасці яго лінгвістычнай апрацоўкі, разнастайных ілюстрацыях, значная частка якіх прыпадае на багацейшы беларускі фальклор, належыць цэнтральнае месца ў айчыннай лексікаграфіі, таму што, з аднаго боку, у ім удала падагульнены і істотна пашыраны ўсе папярэднія набыткі слоўніцтва на Беларусі, з другога – вызначаны галоўныя шляхі яго далейшага плённага развіцця па розных напрамках, рэалізаваных асобнымі тыпамі слоўнікаў: тлумачальных, перакладных, дыялектных, этымалагічных (гл.: ШАКУН 1995, 54–67).

Разнастайныя перакладныя беларуска-рускія і руска-беларускія слоўнікі розных памераў (ад некалькіх тысяч рэестравых слоў да некалькіх дзесяткаў тысяч) друкуюцца з 1918 г. і ў 20-я гады 20 ст. ў сувязі з актыўнымі працэсамі беларусізацыі грамадскага жыцця краіны (перакладныя слоўнікі братоў М. і С. Гарэцкіх, М.Байкова і С.Некрашэвіча, М.Байкова і М.Гарэцкага, В.Ластоўскага і інш.). Самым вялікім з падрыхтаваных у гэтыя гады перакладных слоўнікаў была праца М.Байкова і С.Некрашэвіча "Расійска-беларускі слоўнік" (Мн., 1928), які ўключаў у сваю рэестравую частку каля 60 000 рускіх лексем, і іх жа "Беларуска-расійскі слоўнік" (гл.: БАЙКОЎ, НЕКРАШЭВІЧ 1926) на 20 000 рэестравых беларускіх лексем. У апошняй працы курсівам выдзелены націск у словах, пазначаны род назоўнікаў і множны лік (параўн.: **клёк** м., **панчоха** ж., **раскрыжаваньне** н., **вусны** мн. і г.д.), для многіх дзеясловаў указана кіраванне (параўн.: **кітаваць** *што*, **клікаць** *каго*, **кідаць** *што, каго*, **забараняць** *што каму*, **зьвяртацца** *да каго*, **борацца** *з кім* і г.д.). Некаторыя слоўнікавыя артыкулы ілюструюцца прыкладамі з літаратурных твораў Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, З.Бядулі, Ц.Гартнага і інш. У слоўнік уключаны многія беларускія спецыяльныя словы, выбраныя са зборнікаў навуковай тэрміналогіі (матэматыка, геаграфія, логіка, псіхалогія, літаратуразнаўства, батаніка, заалогія, права і інш.) тыпу **адменьнік** 'вариант', **амежнік** 'болиголов', **блышак** 'земляная блоха', **зьмесьнік** 'либретто', **кругавід** 'горизонт', **кругавод** 'период', **часапісец** 'журналіст', **угрунтаваньне** 'обоснование' і да т.п. Пры гэтым батанічныя, заалагічныя і некаторыя іншыя тэрміны суправаджаюцца іх лацінскімі найменнямі тыпу **пячурыца** 'шампиньон' (Agaricus campestris), **агаткі** 'кошачьи лапки' (бот. Antennaria), **галаварог** 'носорог' (жук – Orictis nasicornis), **качкадзюб** 'утконос' (Ornithorhunchis) і інш. Выдзяляюца мнагазначныя словы тыпу **прысада** 1) черенок,

2) ложа, 3) насадка (косы и пр.); **глупства** 1) глупость, 2) пустяки і г.д.; амонімы тыпу **радавы** 'советский; должностной' і **радав*ы*** 'родовый; жанровый'; **пара** 'пар' і **пар*а*** 'пора (года)' і інш., хаця і непаслядоўна, бо, напрыклад, амонімы **парны** 'знойный, душный' і **парны** 'парный, двойной' змешчаны ў адным слоўнікавым артыкуле як полісеманты; у якасці значэнняў слова **каток** прыводзяцца амонімы слоў *котик* и *колесо в телеге.* Пераклады беларускіх лексем робяцца і адным рускім словам (параўн.: **выгойлівы** 'излечимый', **в*ы*йсьце** 'выхад' і г.д.), і двума (параўн.: **адубець** 'отвердеть, окоченеть'; **бойка** 'драка, битва' і г.д.), і трыма (параўн.: **адх*і*л** 'отклон, отворот, отгиб'; **тараб*а*ніць** 'барабанить, громыхать, стучать колесами' і г.д.), і чатырма (параўн.: **твор** 'творение, создание, произведение, сочинение' і г.д.), і словазлучэннямі, апісальнымі канструкцыямі (параўн.: **рогач** 'дышло в сохе', **рага-ціна** 'суховатый кол', **м*ы*цяльнік** 'место в хате для мытья посуды' і г.д.).

Прыблізна такі ж па аб'ёме "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" (каля 17 000 рэестравых лексем) В.Ластоўскага можа служыць своеасаблівым узорам для стварэння лексікаграфічных прац на ўласна беларускай аснове ў сваёй перакладной частцы, хаця, зразумела, адзначаюцца не зусім удалыя пераклады, заснаваныя або на наватворах, аўтарскіх словах, аказіяналізмах (параўн.: 'гудзьбіт' **музыкант**, 'прыймо' **принятие**, 'спазор' **вид**, 'сужывецтва' **общежитие**, 'кувэрт' **пакет**, 'гушчак' **сланец** і інш.), або на дыялектных словах (параўн.: 'тайстэрка' **блюдечко**, 'пікта' **вар**, 'веська' **деревня** і інш.), якія аўтар пачаў збіраць яшчэ ў 1902 г. і лічыў іх "цікавымі" па гучанню і сэнсу (гл.: ЛАСТОЎСКІ 1924).

Слоўнік сумяшчае ў сабе рысы перакладнога, тлумачальнага, энцыкла-педычныга, сінанімічнага, этымалагічнага і служыць не нарматыўным, а навукова-творчым, арыгінальным, прынадным, не страціў сваёй лексікаграфічнай і інды-відуальна-аўтарскай каштоўнасці і ў наш час, бо служыць узорам нестандартнага вырашэння шматлікіх канкрэтных праблем трансляталогіі, нагадвае ў гэтым плане знакаміты "Слоўнік рускай мовы" У.Даля. Не выпадкова таму, што некаторыя ўдалыя лексічныя знаходкі В.Ластоўскага сталі агульным здабыткам беларускай літаратурнай мовы (параўн.: *пошчак, нашчадак, прадонне, злавесны, носьбіт* і інш.), а многія, хаця і не ўведзены ў сучасны моўны ўжытак, з'яўляюцца мілагучнымі, прывабнымі, семантычна ёмістымі, матываванымі, уласна беларускімі (параўн. пераклады рускіх рэестравых лексем: **корельская береза** 'ракітавая бяроза', **празднолюбец** 'лянько', **салон** 'вітальня', **северное сияние** 'пазарніца', **утолить** 'спатоліць', **ухлопать** 'упехціць', **эксперт** 'знавец', **юноша** 'маладзён', **шарлатан** 'хлюс', **чума** 'паморак', **тротуар** 'ходнік', **точить** 'брусаваць', **тормозить** 'галь-маваць', **компенсатор** 'раўнаважнік' і інш.).

Пераклады рускіх (па тэрміналогіі аўтара, расійскіх) лексем на беларускую (крыўскую) мову ажыццяўляюцца рознымі спосабамі: адным эквівалентам ці сінанімічным словам (параўн.: **прачка** 'памывачка', **эпидемия** 'пошасць', **скворец** 'шпак' і да т.п.), двума (параўн.: **преданность** 'прыхільнасць, вернасць'; **цепочка** 'ланцужок, ратужок'; **убежище** 'прыстанішча, прытулак' і да т.п.), трыма і болей (параўн.: **сторожка** 'старажоўка, седбаўка, будка'; **преграда** 'загарода, перапона, запора, завала'; **сумбур** 'чаўпра, чаўпня, чаўпятня, бяссэнсіца, нісянеціца' і да т.п.), апісальнымі канструкцыямі беларускай мовы, якія служаць тлумачэннямі (параўн.: **республика** 'дзяржава, якой кіруе сам народ праз сваіх выбарных'; **коптить** 'выпускаць дым, сажу, чарніць дымам'; **жар** 'высокая ступень цяпла ад сонца ці ад агню' і да т.п.). Некаторыя пераклады суправаджаюцца беларускімі прыкладамі, аўтарскімі, фальклорнымі ці літаратурнымі (параўн.: **померцать** 'памяркаць, меркнуць'. Сонца памеркла за хмарай; **сайка** 'рагалька, сачэнь'. Прыняла Каляда рэшато бліноў // Рэшато бліноў ды начво сачнёў; **изгородь** 'загарода, загародка,

тын‘. Цераз рэчку, цераз тын палюбіў мяне Юстын; **варенье** ‘канфітуры, сочыва‘. Ну не ядуць мусі хлеба, адны толькі канфітуры. Бурачок).

Аўтар змяшчае часам этымалагічныя нататкі, якія тычацца пэўных рускіх слоў, са спасылкай на розныя замежныя мовы, у прыватнасці французскую, нямецкую і інш. (параўн.: *канал, компания, кантон* і да т.п.), аднак не прыводзіць пры гэтым слоў-арыгіналаў з гэтых моў; дае зрэдку лацінскія пераклады некаторых батанічных і заалагічных тэрмінаў (параўн.: **камыш** ‘Arundo‘, **огурец** ‘Cucumis sativus‘, **карась** ‘Ciprinus carastus‘ і інш.); для асобных слоў прыводзіць даволі падрабязныя (энцыклапедычныя) даведкі. У рэестравых рускіх словах націск не ставіцца, але ў беларускіх перакладах націскны галосны выдзяляецца курсівам. Рускія назоўнікі пазначаны граматычнай паметай роду, а дзеясловы – кіравання (параўн.: **мера** ж., **место** ср., **месяц** м.; **месить** што, **ограждать** што, каго, **пресоветовать** кому, **прескорбеть** аб чым, **пересcорить** каго з кім і да т.п.). У цэлым працы падобнага кшталту служаць цэнным унёскам у нацыянальную культурную творчую скарбонку народа і не могуць страціць сваёй арыгінальнай, індывідуальнай, самавітай вартасці.

Пад час палітычных рэпрэсій 30-х гадоў і С.Некрашэвіч, і В.Ластоўскі, і шмат іншых моваведаў загінулі, а іх працы выведзены з вучэбнага і навуковага ўжытку. Тагачасная ідэалагічная ўстаноўка, якая, па сутнасці, доўжыцца і сёння, на збліжэнне і зліццё нацый, у прыватнасці рускай і беларускай, увасаблялася і ў максімальным збліжэнні беларускай і рускай моў, зразумела, у прыстасаванні першай да другой у арфаграфіі, граматыцы, лексіцы, што знайшло прымяненне ў спецыяльных пастановах урада тагачаснай Беларусі (1933) і практычна рэалізавана ў адпаведных граматычных і лексікаграфічных працах, напрыклад, у публікацыі “Руска-беларускага слоўніка” (Мінск, 1937, аб’ёмам каля 40 000 рэестравых слоў пад рэдакцыяй А.Александровіча (гл.: ЖУРАЎСКІ, КРЫВІЦКІ 1979, 29).

У пасляваенны час у Маскве (1953) выдадзены “Русско-белорусский словарь” пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі на 86 000 рэестравых рускіх лексем і звыш 100 000 беларускіх слоў, ужытых для іх перакладу. У дадзенай працы і ў пазнейшых яе пашыраных перавыданнях у двух тамах (гл.: РУССКО-БЕЛОРУССКИЙ СЛОВАРЬ 1982) і ў трох тамах (гл.: РУССКО-БЕЛОРУССКИЙ СЛОВАРЬ 1993) працягвалася тэндэнцыя на збліжэнне слоўнікавага складу беларускіх і рускіх моў, што праявілася, напрыклад, у пастаноўцы на першае месца пры перакладзе рускай лексемы не беларускага адменніка, а таго ж рускага слова ў беларускім напісанні (параўн.: **результат** ‘рэзультат, вынік‘; **рычаг** ‘рычаг, падважнік‘; **рябизна** ‘рабізна, рабаціннe‘; **самоуправно** ‘самаўпраўна, самачынна‘; **сделка** ‘здзелка, пагадненне‘; **сигать** ‘сігаць, скакаць‘ і г.д.). Тым не менш адзначым, што для перакладу прыблізна ста тысяч рускіх загаловачных слоў у правай частцы згаданых перавыдадзеных слоўнікаў ужыта каля 300 000 беларускіх лексем (з улікам рускіх адпаведнікаў), прыведзена каля 6000 беларускіх фразеалагізмаў, што сведчыць пра вялізнае лексічнае і фразеалагічнае багацце беларускай мовы. Дадзеныя слоўнікі служаць нарматыўнымі, пабудаваны па алфавітна-гнездавому прынцыпу: у слоўнікавы артыкул уключаюцца зыходная лексема і вытворныя (параўн.: **восход** *-дить, -ящий, -ждение*). Граматычныя паметы даюцца і для рускіх, і для беларускіх слоў, прычым для беларускіх назоўнікаў указваюцца і формы роднага склону; пазначаецца націск і ў рэестравай, і ў перакладной лексемах. Прыведзеныя ілюстрацыі не пашпартызуюцца і ўяўляюць сабой або тыповыя для дадзенай лексемы словазлучэнні (параўн.: **день** ‘дзень‘ *считанные дни* ‘лічаныя дні‘, *по сей день* ‘да гэтага дня‘, *в один день* ‘за адзін дзень‘ і г.д.), або простыя сказы тыпу *Он пять дней болел ‘Ён пяць дзён хварэў‘* і г.д. Для тэрмінаў указваецца адпаведная навуковая ці спецыяльная галіна (параўн.: **дзюдо** *спорт.* ‘дзюдо‘;

**диабаз** *геол.* 'дыябаз'; **диагноз** *мед.* 'дыягназ'; **диагональ** *мат.* 'дыяганаль'; **диализ** *хим.* 'дыяліз'; **диалект** *лингв.* 'дыялект', **диапроектор** *техн.* 'дыяпраектар', **диастола** *физиол.* 'дыястала'; **дивизия** *воен.* 'дывізія'; **диалог** *лит.* 'дыялог' і г.д.). Рускія полісеманты даволі тонка дыферэнцыруюцца пранумараванымі беларускімі адпаведнікамі (параўн.: **выдвигание** 1) высоўванне, выцягванне; 2) выстаўленне; 3) вылучэнне; **вновь** 1) (опять) зноў, ізноў; 2) (заново) нанава; 3) (недавно) нядаўна, толькі што і г.д.). Рускія амонімы прыводзяцца ў розных артыкулах і памячаюцца рымскімі лічбамі. Рэестравыя словы суправаджаюцца скарочанымі стылістычнымі паметамі тыпу *ирон.* 'в ироническом смысле', *неодобр.* 'неодобрительно', *разг.* 'разговорное слово, выражение', *уст.* 'устаревшее слово, выражение' і г.д.

Першым найбольш вялікім і поўным слоўнікам рэестравай беларускай лексікі ў айчынным мовазнаўстве стаўся акадэмічны "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962) на 90 000 слоў, другое выданне ў двух тамах (гл.: БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК 1988, 1989) з рэестравай часткай 110 000 беларускіх лексем і каля 10 000 фразеалагічных і тэрміналагічных спалучэнняў. У склад слоўніка апрача агульнаўжывальнай лексікі ўключаны тыя дыялектызмы, архаізмы і тэрміны, што знайшлі сваё месца ў мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, а таксама важнейшыя тапонімы і вытворныя ад іх прыметнікі, распаўсюджаныя абрэвіятуры. Беларускія назоўнікі адзначаюцца формай роднага склону на *-у, -ю* (мужчынскі род другое скланенне), тыпу *карэлят, -ту, вугаль, -лю* і г.д., для дзеясловаў пазначаецца трыванне; даюцца скарочаныя стылістычныя паметы для ўсіх слоў, акрамя нейтральнай лексікі. Пераклад робіцца або адным рускім адпаведнікам (параўн.: **дзяржаўнасць** 'государственность', **коршак** 'ястреб', **мяльца** 'пестик' і г.д.), або рускімі сінонімамі (параўн.: **моцны** 'крепкий, прочный, надежный'; **важна** 'важно, горделиво, чопорно, надменно' і г.д.), або словазлучэннямі (параўн.: **весялушка** 'веселая женщина'; **клічнік** 'восклицательный знак' і г.д.).

Усе рэестравыя беларускія словы і рускія пераклады пазначаюцца націскам, шырока выкарыстоўваецца сістэма спасылак на іншыя словы, звязаныя з дадзенай лексемай тыпу **буслянё** см. **бусляня**, **наляпляць** см. **налепліваць**, **дзяшовы** см. **танны** і г.д.). Беларускія фразеалагізмы і парэміі, што прыводзяцца ў адпаведных артыкулах пасля рэестравых слоў перакладаюцца, або прыблізнымі па сэнсу рускімі ўстойлівымі выразамі (параўн.: *якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын* 'яблоко от яблони недалеко падает'; *патрэбна як у мосце дзірка* 'нужна как собаке пятая нога' і інш.), або апісальнымі канструкцыямі [параўн.: *класціся спаць з курамі* 'очень рано укладываться спать'; *сабакам сена касіць* 'скрываться (главным образом) от семьи' і інш.].

Розныя значэнні беларускай зыходнай лексемы дыферэнцыруюцца ў слоўніку адпаведнымі лічбамі, за якімі ідзе рускі пераклад [параўн.: **дасціп** 1) острота, 2) остроумие; **маляванне** 1) писание; рисование, 2) крашение, окраска, окрашивание, выкрашивание; 3) изображение; 4) (предмет обучения) рисование; 5) представление, изображение] і г.д. Амонімы падаюцца ў розных артыкулах пад рымскімі лічбамі, многія артыкулы слоўніка ілюструюцца тыповымі беларускімі словазлучэннямі з іх перакладам на рускую мову (параўн.: *заведзены парадак* 'принятый порядок'; *набыць веды* 'приобрести знания'; *на ствале нарос гуз* 'на стволе образовался нарост' і г.д.).

Бадай, найбольш адметны і самы "беларускі" перакладны слоўнік пасляваеннага часу з рэестравымі беларускімі лексемамі выйшаў у Нью-Йорку (1989) і складзены Я.Станкевічам пад найменнем "Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік", які ўключае па нашых падліках каля 30 000 загаловачных лексем, аднак увогуле розных лексем значна больш, бо ў адзін слоўнікавы артыкул часта

уключаецца ад некалькіх слоў да некалькіх дзесяткаў, якія, напрыклад, у "Беларуска-рускім слоўніку" (М., 1962) падаюцца ў розных артыкулах. Так, у артыкуле, азагалоўленым словам *браць*, працы Я.Станкевіча прыводзіцца каля 60 аднакаранёвых слоў розных часцін мовы (*браць брацьцё, абіраць, абраны, абраньне, абабраць, адабраць, адабраны, забраць, забіраць, зьберты, набраць, набраны, назьбіраць, пабраньне, перабраць, перабраны, перабіраньне, разьбіраць, выбіраць, убраць* і інш.). Прыблізна столькі ж слоў уключаецца ў артыкулы, узначаленыя лексемамі *глядзець, гнаць, хапаць, даваць, рваць, ісці, кідаць, класьці, мовіць, несьці, перці, пусьціць, рабіць* і інш.

Аўтар пачаў збіраць і запісваць беларускія словы яшчэ ў 1909 г. і, такім чынам, на канчатковае завяршэнне і публікацыю працы затрачана амаль 80 гадоў. Акрамя слоў дыялектных і гутарковых Я.Станкевіч выпісваў беларускія словы з фальклорных і літаратурных твораў; на аснове свайго сабранага лексічнага матэрыялу засведчыў, што беларуская мова вельмі багатая і самая адрозная ад усіх іншых славянскіх моў, стаіць па свайму лексікону бліжэй да заходнееўрапейскіх моў, чым, у прыватнасці, да рускай. У прадмове да сваёй працы аўтар зазначае, што вядомы слоўнік У.Даля служыць не толькі рускім, але і беларускім (гл.: СТАНКЕВІЧ 1989, IX), бо ўключае ў свой склад мноства адметных менавіта беларускіх слоў, частку якіх Я.Станкевіч са спасылкай на У.Даля прыводзіць у сваім слоўніку (параўн., па нашых назіраннях: *адліга, бабінец, баглай, баган, баласьніць, бгаць, гарнуць, гіль, глузды, грыжа, гракаць, граць, гузыр, гукаць, гурбіцца, гурма, густыш, гыркнуць, хохлік, холіць, хіжы, хлабазіна, хлусьлівы, хмыз, хурта, дазволіцца, дубець, здужаць, ядомы, яруга, дзяжа, дзяцюк, дзік, дзівак, дзыга, забалацьце, задарма, завада, заўзяты, зямец, зірк, знаваць, зналы, зраднік, зводка, звычай, зьдзякацца, зьвяга, зюзя, жабурэньне, жак, жаба, жалоба, жлукціць, жменя, жуда, журыцца, жыглівы, жыжа, імжыць, ірты, коўзацца, казка, кажан, кажух, капшук, карагод, карэжыць, карэц, кавалак, каваль, кавун, кілзаць, закладаць, клюка, кветка, кудлаты, кулдыкаць, кульгавы, лазьня, ласаваць, ласкатаць, лякацца, лухта, лускаць, лустачка, лынды, махляваць, мацаваць, мелева, медзведнік, мітусіцца, нахаба, наўдагон, неслух, непрапека, няўжо, нявывалака, панёва, пелька, плюгаўка, прыклей, рупіцца, руплівы, рып, сягаць, сігаць, скабіць, заскабіць, смага, спытаць, стукаць, сустракаць, сьцяга, шал, шапавал, шмат, туліць, вомег, валенцы, вальлё, вясёлка, удосыць, улоньне, цяміць, цыбуля, чапурыцца, чухацца* і інш.). У слоўніку прыводзяцца націск, граматычныя паметы (родны, давальны, часам месны склоны, лік, род – для назоўнікаў; формы спражэння, трывання, пераходнасці – для дзеясловаў; параўн.: **заняпад** *-ду*, предл. *-дзе*, м. 'упадок'; **нырка** *-ркі, -рцы*, ж. 'почка'; **сердаваць**, *сярдую, -уеш, -уе*, несоверш. *на каго-што* 'сердиться (злиться)'; **прасаваць**, *-сую, -суеш, -суе*, повел. *-суй, -суйма*, несовер., перех. 'гладить утюгом' і г.д.), даюцца скарочаныя стылістычныя паметы (параўн.: **дрын,** област., 'палка, полено'; **наварат,** 'возврат болезни', юрид. 'повторное совершение преступления'...), пазначаюцца месцы або крыніцы выкарыстанай лексемы (параўн.: *Бульба – не наедак, сала – во гэта наедак.* Буда. Вял. 'Буда Вялейскага павету'; *Савось задумаў штось, нездарма зь ім і Антось.* Я.Колас; *Красою непаўторнай загучэў.* Лойка, і г.д.). Старанна асобнымі лічбамі ў кожным артыкуле размяжоўваюцца полісеманты (параўн.: **маталыга** 1) бродяга, 2) плут; **заклік** 1) клич, 2) вызов, 3) воззвание; **плюснуць** 1) прищурить, 2) поцеловать, 3) ударить ладонью, 4) упасть мягкой частью тела, 5) бултыхнуть і г.д.), для ілюстрацый выкарыстоўваюцца таксама беларускія прыказкі і прымаўкі тыпу *Васіль на работу нясіл; Аднаму і ў кашы няспорна* і інш.

Пэўныя нязручнасці ў чытача можа выклікаць парадак алфавітнага размяшчэння слоў, які не супадае з устаноўленым у беларускай лексікаграфічнай

практыцы, таму пры карыстанні слоўнікам Я.Станкевіча трэба мець пад рукой ўжыты аўтарам парадак літар: о, а, э, б, г, г', х, д, е, ё, я, дз, дж, з, ж, і, й, к, л, м, н, ф, п, р, с, ш, т, в, у, ў, ь, ц, ч, ы, ю. Да таго ж трэба мець на ўвазе, што некаторыя аднакаранёвыя словы падаюцца не па алфавіце і прыводзяцца ў адным слоўнікавым артыкуле (параўн.: *босць, басьці, пабасьці, прабасьці, пабасьціся, убасьці* і г.д.), а іншыя аднакаранёвыя лексемы, што пачынаюцца на аднолькавую літару прыводзяцца ў розных артыкулах як самастойныя словы (параўн.: *лашчыць* і *лашчыцца, памятаць* і *памятуецца, прагледзіць* і *праглядаць* і інш.). Розныя формы аднакаранёвых прыметнікаў (у тым ліку і формы іх параўнання ) падаюцца то ў адным артыкуле (параўн.: *залаты – залаценькі, дзіўны – дзіўнейшы, найдзіўнейшы* і інш.), то ў розных (параўн.: *ласкавы* і *ласкучынюшчы, хамяжлівы* і *хамяжаваты, карэлы* і *скарэлены* і інш.). Вялікую філалагічную каштоўнасць маюць ілюстрацыйныя матэрыялы слоўніка, якія сабраны з 17 розных лексікаграфічных крыніц (слоўнікі І.Насовіча, У.Даля, В.Ластоўскага, М.Шатэрніка, Г.Юрчанкі, І.Бялькевіча і інш.), 102 этнаграфічных публікацый (А.Афанасьева, П.Бузука, Я.Карскага, М.Нікіфароўскага, Е.Раманава, І.Сербава, А.Сержпутоўскага, П.Шэйна, Я.Чачота, Г.Юрчанкі і інш.), 62 літаратурных і публіцыстычных крыніц (Я.Купала, Я.Колас, Ц.Гартны, Л.Калюга, М.Кавыль, М.Лынькоў, А.Макаёнак, М.Гарэцкі, М.Зарэцкі і інш., газеты “Бацькаўшчына”, “Беларус”, “Літаратура і мастацтва” і інш., часопісы “Божым шляхам”, “Баявая Ускалось”, “Калосьсе”, “Узвышша”, “Беларусь”, “Беларуская думка” і інш.), са 126 мясцовасцей Беларусі і прылеглых да яе краін Расіі, Літвы, у прыватнасці, Баранавіцкі, Бранскі, Крычаўскі, Гомельскі, Рэчацкі, Смаленскі, Віцебскі, Віленскі і іншыя паветы і раёны.

Матэрыялы слоўніка Я.Станкевіча патрабуюць глыбокага, усебаковага і стараннага лінгвістычнага аналізу, але відавочна іх вялікая культурная і навуковая каштоўнасць, Праца ўяўляецца ўзорам адданасці і бескарыснага служэння беларушчыне, беларускай мове, тым болей пры працяглым знаходжанні аўтара ў далёкім замежжы.

Адносна поўныя перакладныя слоўнікі беларускай мовы складзены толькі ў дачыненні да рускай мовы, тады як у іншых краінах са славянскім насельніцтвам, і ў прыватнасці, у нашых заходніх і ўсходніх суседзяў (палякаў і рускіх) створаны вялікія перакладныя лексікаграфічныя працы у адносінах да ўсіх найбольш пашыраных, так званых сусветных моў.

З найбольш значных перакладных беларуска-іншамоўных і іншамоўна-беларускіх слоўнікаў, выдадзеных у Беларусі, варта адзначыць “Украінска-беларускі слоўнік” В.П.Лемцюговай (аб'ём каля 30 000 рэестравых украінскіх слоў, Мінск, 1980). Па свайму характару слоўнік з'яўляецца дыферэнцыяльным, г.зн. не змяшчае тыя лексемы, што служаць агульнымі для беларускай і ўкраінскай моў і не разыходзяцца па сваёй семантыцы або па іншых лінгвістычных паказчыках (націск, род, лік і г.д.), хаця фанетычная і арфаграфічная рознасць абедзвюх моў вымагае і ўключэння тых лексем, якія на думку аўтара слоўніка, належаць да тоесных (параўн.: *вівторак* і *аўторак, вівчарка* і *аўчарка, слідство* і *следства* і да т.п., якія не з'яўляюцца аднак ідэндычнымі ні па вымаўленню, ні па напісанню, але адсутнічаюць у слоўніку). Лексікаграфічная праца пабудавана па гнездавому прынцыпу, згодна з якім у адзін артыкул уключаны ўсе фанетычныя, марфалагічныя, лексічныя, дэрывацыйныя варыянты для загаловачных назоўнікаў (параўн.: *видноколо* і *виднокіл, наживка* і *нажива, хабаз* і *хабуз, казаняр* і *котляр* і г.д.), прыводзіцца таксама форма роднага склону адзіночнага ліку тыпу *нажив, -ву; котляр, -ра* і да т.п. Артыкул з загаловачным прыметнікам уключае акрамя варыянтаў і вытворныя назоўнікі, прыслоўі (параўн.: *загальний...; -ність, -ность*, ж...; *-но* прысл.; *хиткий...; хиткість, -кості* ж...; *хітко* прысл.; і да т.п.). У артыкулах з рэестравым дзеясловам прыводзяцца формы закончанага і незакончанага трывання, зваротнасці і незва-

ротнасці, асабовыя формы і інш. [параўн.: *вивільняти, вивільнити; добачати, добачити; звітувати (-ся), -тую (-ся), -туеш (-ся)* і г.д.]. Націск даецца для рэестравых украінскіх слоў і для перакладных беларускіх лексем, а граматычныя паметы – толькі для ўкраінскіх, прыводзяцца стылістычныя паметы тыпу *разм.* 'размоўнае', *абл.* 'абласное', *прастам.* 'прастамоўнае', *кніжн.* 'кніжнае' і г.д., а таксама ўказанні на спецыяльную сферу ўжывання тыпу *геал.* 'геалогія', *мат.* 'матэматыка', *фіз.* 'фізіка' і г.д., на эмацыянальную афарбоўку слова тыпу *іран.* 'іранічнае', *лаянк.* 'лаянкавае', *фам.* 'фамільярнае' і г.д. Паслядоўна праводзіцца размежаванне амонімаў, а таксама полісемантаў мнагазначных лексем. У прадмове аўтар усведамляе, што слоўнік не з'яўляецца поўным, але выражае надзею на яго стварэнне ў будучым.

Прыблізна такі ж па памеры (каля 33 000 лексем) слоўнік складзены ў дачыненні да польскай мовы (гл.: ПАДРУЧНЫ ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК 1962) пад рэдакцыяй А.Абрэмбскай-Яблонскай і М.Бірылы. У слоўніку прыводзяцца граматычныя і стылістычныя паметы (для назоўнікаў – род і канчаткі роднага склону, для дзеясловаў – трыванні, а для беларускіх перакладаў і канчаткі першай і другой асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу), вертыкальнай рысай выдзяляюцца флексіі назоўнікаў як у рэестравых польскіх, так і ў перакладных беларускіх лексемах, усе беларускія словы пазначаюцца націскам. Пераклад робіцца часцей за ўсё адным словам (параўн.: herbata 'чай'; dowódca 'камандзір'; cap 'казёл'; chlebak 'рукзак'; chuć 'юр'; gawęda 'гутарка'; grudzeń 'снежань' і г.д.), часам апісальнай канструкцыяй ці словазлучэннем (параўн.: pulchneć 'рабіцца пульхным, рабіцца мяккім і пышным'; tabor 'рухомы састаў'; holownik 'буксірнае судна'; matkować 'выконваць мацярынскія абавязкі'; rozjaśnić 'зрабіць больш светлым' і г.д.) або шэрагам сінонімаў (параўн.: tajny 'тайны, таемны, патаемны'; świtać 'світаць, развідняць, развіднівацца'; butny 'фанабэрысты, пыхлівы, ганарысты'; gromadnie 'супольна, сумесна, разам, гуртам, натоўпам, масава' і г.д.). У канцы адпаведных слоўнікавых артыкулаў прыводзяцца тэрміналагічныя словазлучэнні і фразеалагізмы, што ўключаюць у свой склад рэестравыя словы, і іх пераклады на беларускую мову (параўн.: tyczka 'шост'... tyczka miernicza 'нівелірная рэйка'; interes 'зацікаўленасць'... nie ma karesu bez interesu 'і каза ваўку дарма не скача' і г.д.). Полісеманты даюцца ўнутры аднаго артыкула і выдзяляюцца арабскімі лічбамі, забяспечваюцца сваімі перакладамі, а пры наяўнасці фразеалагізмаў і іх перакладамі з дапамогай беларускіх адпаведнікаў (параўн.: odtwarzać 1. выконваць; odtwarzać rolę 'выконваць ролю', 2. узнаўляць, перадаваць; sztyka odtwarzać naturę 'мастацтва перадае прыроду' і г.д.). Слоўнік апублікаваны ў Варшаве выдавецтвам "Ведза повшэхна".

Яшчэ меншыя перакладныя слоўнікі створаны у дачыненні да іншых моў, напрыклад, "Ангельска-беларускі слоўнік. Беларуска-ангельскі слоўнік" беларускага эміграната (гл.: ПЯТРОЎСКІ 1993) на 10 000 рэестравых слоў (першае выданне ў 1946 г. ў Аўстрыі). У слоўніку адсутнічаюць акцэнталагічныя і граматычныя паметы для англійскіх і беларускіх лексем, але даецца ў беларускай транскрыпцыі вымаўленне англійскіх слоў тыпу **cool** (куль) 'халодны'; **salt** (сольт) 'соль'; **rusk** (раск) 'сухар' і г.д.). Пераклад англійскай лексемы даецца часцей за ўсё некалькімі беларускімі сінанімічнымі словамі тыпу **muddily** (мадзілі) 'гразка, балоціста'; **nameless** (нэймлес) 'бязіменны, безназоўны, невядомы'; **kind** 'добры, прыемны, ветлівы, ласкавы, мілы' і г.д. Пераклад англійскіх шматзначных лексем унутры аднаго артыкула падаецца рознымі беларускімі словамі, якія раздзяляюцца кропкай з коскай, напрыклад: **key** (кій) 'узьбярэжная'; 'ключ'; 'засаўка'; 'клін'; **elementary** (эліментэрі) 'просты'; 'асноўны'; 'элементарны'; **champion** (чэмпен) 'змагар'; 'параможнік'; 'шампіён' і г.д. Падобны прынцып перакладу, толькі з беларускай мовы на англійскую, вытрыманы і ў другой частцы слоўніка.

Я.Пятроўскі таксама выдаў у дзвюх частках у ЗША "Клясычны грэцка-беларускі слоўнік" (ч.1, 1983; ч. 2, 1985). У Мінску апублікаваны невялікія трохмоўныя слоўнікі: "Англа-беларуска-рускі" (1989), "Нямецка-беларуска-рускі слоўнік" (1988), шэраг невялікіх двухмоўных руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў, а таксама некаторых іншамоўна-беларускіх слоўнікаў школьнага прызначэння.

## 12.3. ТЛУМАЧАЛЬНЫЯ СЛОЎНІКІ

Першыя спробы тлумачэння слоў сучаснай беларускай мовы з дапамогай рускай метамовы адзначаюцца яшчэ ў рукапіснай этнаграфічнай працы А.Меера "Описание Кричевского графства или бывшего староства" (1786), дзе, напрыклад, беларуская лексема *каверзни* азначаецца як 'лапти простые с петлями из одного лыка', из пяти лык – *пятерники*; *веретенница* 'желтоватая с белым брюхом малая змея' і г.д. Такі ж падыход да тлумачэння беларускіх лексем (толькі да рускай метамовы часам дадаецца, напрыклад, у Я.Чачота, польская і беларуская) назіраецца ў шматлікіх этнаграфічных, фальклорных, гістарычных, лінгвістычных працах (рукапісных і друкаваных) 19 ст. К.Калайдовіча (параўн.: **болонка** 'деревянная у окошка заслонка в крестьянских избах' і г.д.), Ф.Шымкевіча (параўн.: **маланьня** 'огненный блеск, который появляется в громовых облаках и в одно мгновение озаряет видокруг' і г.д.), П.Шпілеўскага (параўн.: **рубель** 'длинная жердь для притиски снопов, положенных на телегу' і г.д.), Я.Чачота (параўн.: **комель** 'таўсцейшы канец дрэва ад кораня' і г.д.), І.Грыгаровіча (параўн.: **бавкало** 1) язык у колокола; 2) говорун, досаждающий собеседникам пустословием; болтун, пустозвон і г.д.), С.Мікуцкага (параўн.: **азярод** 'ряд столбов, вышиною от двух до трех сажен, с просверленными дырами, в которые вкладываются жердины; на эти жердины кладут снопы намолоченного хлеба для просушки' і г.д.). Асабліва шырока і разнастайна робяцца тлумачэнні беларускіх лексем рускімі словамі ў працах І.Насовіча (параўн.: **килим** 'большой ковер или войлок'; **лядзянка** 'репа, взращенная на ляде'; **пройма** 'сквозной, холодный ветер, продувающий насквозь' і г.д.), П.Шэйна [параўн.: **липоўка** 'кадка, выдолбленная из одного дерева (для меда)' і г.д.], І.Навіцкага (параўн.: **войт** 'председатель городских судов; в селах – урядник, поставленный помещиком' і г.д.), М.Гарбачэўскага (параўн.: **лубня** 'сосуд из луба и вместе мера для меда' і г.д.), М.Нікіфароўскага (параўн.: **луста** 'тонкая порция всякого хлеба, отрезанная во всю ширину или большую половину' і г.д.), а ў пачатку 20 ст. ў С.Мядзведскага (параўн.: **тлуманина** 'шум, беспорядок, среди которого трудно разобраться' і г.д.; гл.: ГУЛІЦКІ 1978).

Тлумачэнне семантыкі рускіх лексем пры дапамозе беларускай метамовы адзначаецца ў многіх слоўнікавых артыкулах "Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка" В.Ластоўскага (1924), дзе зыходная лексема можа тлумачыцца адначасова і разгорнутай славеснай канструкцыяй, і сінонімамі (параўн.: **блюдечко** 'падстаўка пад шклянку ці чашку: сподак, сподачак, тайстэрка'; **богатырь** 'баечны сілач, пабіваючый адным махам многа ворагаў і розныя дзіватворы: волат, харобр, палянец, магут'; **толпа** 'зборышча, таўхатня многіх людзей, сабраных разам: таўпа, гурма, ціжба' і г.д.).

Першы і разам з тым самы вялікі ўласна тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай мовы – ТСБМ (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1977–1984) надрукаваны толькі ў наш час, складаецца з пяці тамоў (пяты том з дзвюх кніг), уключае ў свой лексікон 105 506 слоў і фразеалагізмаў, парэмій (з іх слоў – 97 935). Лексікаграфічная праца выйшла пад агульнай рэдакцыяй К.Крапівы, рэдакцыйная калегія складаецца з чатырох навукоўцаў – А.Баханькоў, П.Гапановіч, М.Лобан, М.Суднік,

якія з'яўляюцца і рэдактарамі асобных тамоў (першага, другога, трэцяга і пятага; чацвёрты том рэдагавалі Г.Вештарт і Г.Прышчэпчык). У слоўнік уключана агульнаўжывальная лексіка і фразеалогія сучаснай беларускай мовы, ён служыць нарматыўным і разлічаны на выкарыстанне ўсімі прыхільнікамі беларускага слова. Лексікаграфічная праца падрыхтавана супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа Акадэміі навук БССР шляхам выбарачнага і суцэльнага распісвання тэкстаў мастацкай, тэхнічнай, навуковай, публіцыстычнай, афіцыйна-дзелавой, фальклорнай літаратуры, г.зн. тэкстаў усіх жанраў і стыляў беларускай літаратурнай мовы, у выніку чаго сабрана картатэка, што складаецца амаль з трох мільёнаў беларускіх словаўжыванняў, якія належаць толькі ў стылі мастацкай літаратуры 300 беларускім пісьменнікам, і звыш ста крыніц прадстаўлены іншымі жанрамі і стылямі беларускай літаратурнай мовы.

Акрамя шырока вядомых агульнаўжывальных беларускіх слоў лексікон працы склалі навуковыя тэрміны, што выкарыстоўваюцца ў падручніках для сярэдніх школ (параўн.: *інтэграл, сегмент, функцыя* і да т.п.), неалагізмы часу стварэння слоўніка (параўн.: *акселерацыя, дызайнер, праграміст* і да т.п.), лексічныя дыялектызмы, ужытыя вядомымі пісьменнікамі (параўн.: *імжака, кагадзе, нябога* і да т.п.), архаізмы і гістарызмы, выкарыстаныя ў творах пра нашу мінуўшчыну і ў іншых тэкстах для дасягнення пэўных стылістычных мэтаў (параўн.: *войт, соцкі, кальчуга* і інш.), экзатызмы тыпу *мамалыга, сабантуй, фанза* і інш., шырока ўжывальныя онімы, многія складанаскарочаныя словы і інш. Не ўключаны ў слоўнік абрэвіятуры, складаныя прыметнікі, якія пішуцца праз злучок (тыпу *бел-чырвона-белы, параўнальна-гістарычны* і да т.п.), аўтарскія наватворы, ці аказіяналізмы, тыпу *завесніць* (М.Чарот), *небазор* (Я.Купала) і да т.п.

Слоўнікавы артыкул пачынаецца з загаловачнай лексемы, выдзеленай вялікім і тоўстым шрыфтам, далей даецца яе граматычная і стылістычная характарыстыка, раскрываецца яе значэнне, прыводзяцца ілюстрацыі, тэрміналагічныя і фразеалагічныя спалучэнні (зразумела, пры наяўнасці ў іх складзе рэестравага слова), у некаторых выпадках даецца этымалагічная даведка. Лексічныя варыянты слова прыводзяцца ў адным артыкуле пры загаловачнай лексеме (тыпу *зал* і *зала, кмен* і *кмін*, *мохавы* і *махавы, зводдаль, зводдалі* і *зводдаля* і да т.п.), амонімы разглядаюцца ў розных артыкулах і пазначаюцца надрадковай лічбай. Трывальныя пары дзеясловаў, аднакратныя і мнагакратныя дзеясловы занатоўваюцца ў розных артыкулах, прычым тлумачэнне даецца, як правіла, толькі для дзеясловаў незакончанага трывання з адсылкай на яго для іншых дзеяслоўных формаў; на дзеяслоўныя тлумачэнні робяцца адсылкі і пра раскрыцці семантыкі адпаведных аддзеяслоўных назоўнікаў (тыпу **адрачэнне** ‘дзеянне паводле значэння дзеяслова *адрачыся*‘; **выбельванне** ‘дзеянне паводле значэння дзеясловаў *выбельваць* – *выбеліць*‘ і да т.п.).

З граматычных памет для ўсіх загаловачных лексем прыводзіцца часцінамоўная прыналежнасць (назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў, дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе, прыслоўе, прыназоўнік, злучнік, часціца, выклічнік). Акрамя таго, для ўсіх назоўнікаў прыводзіцца форма роднага склону адзіночнага ліку і ўказваецца род (параўн.: **асіна,** *-ы, ж.*; **асілак,** *-лка, м.*; **алея,** *-і, ж.;* **алешнік**, *-у, м., зб.* і г.д.), а для некаторых – і асобныя формы ўскосных склонаў (параўн.: **бунт**, *-а, м. -нце* і г.д.). Для прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, некаторых займеннікаў прыводзяцца скарочаныя формы жаночага і ніякага роду (параўн.: **востры**, *-ая, -ае*; **восьмы**, *-ая, -ае*; **такі,** *-ая, -ое* і г.д.). Пры загаловачным інфінітыве дзеяслова даюцца формы першай, другой, трэцяй асобы адзіночнага ліку, а ў выніку неабходнасці і множнага ліку (параўн.: **бедаваць,** *бядую, бядуеш, бядуе;* **выехаць**, *-еду, -едзеш, -едзе, -едзем, -едзеце, -едуць* і г.д.). Для дзеясловаў рэгулярна

адзначаецца пераходнасць з пастаноўкай пытанняў *каго – што, каго, што* (параўн.: **вывернуць,** *каго – што*; **выверыць**, *што*; **кахаць**, *каго* і да т.п.). Націск пазначаецца не толькі ў рэестравага слова, але і ў яго варыянтах і формах.

Усе лексемы апрача нейтральных слоў пазначаюцца стылёвымі паметамі: *разм.* 'размоўнае', *абл.* 'абласное', *кніжн.* 'кніжнае', *спец.* 'спецыяльнае', *высок.* 'высокае' (словы высокага стылю тыпу *ратны*), *паэт.* 'паэтычнае', *уст.* 'устарэлае', *гіст.* 'гістарычные'; або паметамі эмацыянальнай ацэнкі *ласк.* 'ласкальнае', *груб.* 'грубае', *пагард.* 'пагардлівае', *зневаж.* 'зневажальнае', *перан.* 'пераноснае' і інш.

Значэнне слова раскрываецца або апісальнымі канструкцыямі (параўн.: **вадкасць** 'рэчыва, якое мае ўласцівасць цячы і набываць форму той пасудзіны, у якой яно знаходзіцца'; **вочап** 'шост, да якога прымацоўваецца калодзежнае вядро' і да т.п.), або сінонімамі (параўн.: **вандзэлак** 'клунак'; **азалелы** 'змерзлы, азяблы'; **благаць** 'маліць, прасіць, умольваць'; **ашуканства** 'падман, шальмоўства, махлярства, жульніцтва' і да т.п.), або гіперонімамі (параўн.: **блакітніца** 'птушка атрада вераб'іных з рознакаляровай афарбоўкай пер'яў'; **бландзін** 'мужчына са светлымі валасамі'; **бай-бай** 'прыпеў пры закалыхванні дзіцяці' і да т.п.), або гіпонімамі (параўн.: **багаж** 'рэчы пасажыра, падрыхтаваныя для перавозкі'; **вакалізм** 'сістэма або сукупнасць галосных гукаў мовы'; **бацькі** 'бацька і маці ў адносінах да сваіх дзяцей'; **асціна** 'адзін вусік асца або частачка яго' і да т.п.), або антонімамі (параўн.: **баран** 'самец авечкі'; **авечка** 'самка барана'; **мінімальны**, процілегл. **максімальны**, **язычніца** жан. да **язычнік** і да т.п.), або спасылкай на іншае рэестравае слова (параўн.: **шэлест** 'тое, што і *шолах'*; **якут,** гл. **якуты; манагамічны** 'тое, што і *манагамны*', **пантэра** 'тое, што і *барс'* і да т.п.), або характарыстыкай мэты адпаведнай рэаліі, яе прызначэння (параўн.: **механіка** 'раздзел фізікі, які вывучае перамяшчэнне цел у прыродзе'; **навакаін** 'хімічны прэпарат, які ўжываецца для мясцовага абязбольвання і для лячэння некаторых захворванняў'; **нівелір** 'геадэзічны інструмент для вызначэння вышыні розных пунктаў зямной паверхні' і да т.п.), або праз апісанне тыповага дзеяння ці ўласцівасці, якасці адпаведнай рэаліі (параўн.: **падліза** 'той, хто падлізваецца да каго-небудзь'; **панурасць** 'стан панурага'; **палкасць** 'уласцівасць палкага' і да т.п.).

Розныя значэнні полісемічнага слова выдзяляюцца ўнутры адпаведнага артыкула арабскімі лічбамі і раскрываюцца пералічанымі вышэй спосабамі з выкарыстаннем ілюстрацыйнага матэрыялу (параўн.: **муць,** -і, ж. 1. Дробныя часцінкі, якія не растварающца ў вадкасці і робяць яе непразрыстай, мутнай; каламуць; 2. перан. Туман, смуга; імгла. *Газік коўзаецца туды-сюды і паволі, як бы вобмацкам, сунецца скрозь густую, жаўтаватую ад святла фар, муць.* Дуброўскі. *Шэрая мітуслівая муць павісла над галавою, завалакла далеч.* Сачанка. 3. перан. Разм. Аб цяжкім душэўным стане. *Але што будзе заўтра? Веньямін ведае, што будзе. Боль у галаве і муць на душы.* Навуменка.) і да т.п.

Сціслыя этымалагічныя даведкі прыводзяцца ў выглядзе спасылак на замежныя словы ў лацінскім напісанні, ад якіх утвораны беларускія лексемы, прычым для некаторых падобных слоў даецца непасрэдны пераклад; параўн.: **мандат** (лац. mandatum 'даручэнне'); **мушмула** (тур. musmula); **муфтый** (араб. mufti), **наркоз** (грэч. narkōsis 'аняменне'); **мопс** (ням. Mops ), **мецца** (іт. mezzo 'сярэдні'); **мустанг** (ісп. mustango); **камендор** (англ. commander ); **жупан** (польск. źupan); прыведзеныя скарачэнні моў: лац. 'лацінская', тур. 'турэцкая', араб. 'арабская', грэч. 'грэчаская', ням. 'нямецкая', іт. 'італьянская', ісп. 'іспанская', англ. 'англійская', польск. 'польская'.

Ілюстрацыйны матэрыял для большасці артыкулаў складаецца або з непашпартызаваных словазлучэнняў і сказаў (параўн.: **дзяшоўка**... *Купіць па дзяшоўцы*; **дзяруга**...*Ткаць дзяругу*; **даплысці**... *Здалёк даплылі гукі песні*; **гаіць**... *Многія травы гояць раны*; **касманаўт**... *Лётчык Ю.Гагарын – першы касманаўт*;

**дэманстраваць**... *Дзяржаўны бюджэт Савецкага Саюза наглядна дэманструе перавагі сацыялістычнай сістэмы гаспадаркі перад капіталістычнай* і да т.п.), або, што значна часцей, з пашпартызаваных сказаў, выпісаных з твораў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў (параўн.: **касір**... *Касір выдаваў рабочым авансы і рыхтаваўся да разрахункаў у канцы месяца.* Чорны; **жаўнер**... *Блішчыць сцюдзёна штык жаўнера, грыміць сярдзіта барабан.* Машара; **дзень**... *Уцякай жа за пагодай Донька маладая, // Покі дзень засвеціць ясны, // Покі сіл хапае!* Я.Купала; **багна**... *І толькі ў небе, у сіняй багне // Я бачу дзіўны ланцужок.* Я.Колас і да т.п.), або выпіскамі з перыёдыкі (параўн.: **гультайства**... *Народ не церпіць пустаслоўя, няўмельства, гультайства.* "Маладосць"; **дзейнічаць**... *Эканамічны закон размеркавання па працы дзейнічае ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі.* "Звязда"; **жыватворны**... *Жыватворныя ідэі рэвалюцыі атрымліваюць новыя і новыя перамогі.* "ЛіМ" і да т.п.), або выслоўямі, прыказкамі і прымаўкамі (параўн.: **дапрасіцца**... *У яго зімой снегу не дапросішся*; **гультай**... *Гультай за работу – мазоль за руку*; **глячок**... *Маеш дачку – май і гарэлачку ў глячку*; **дзецца**... *Ад праўды нікуды не дзенешся* і да т.п.).

Часам ілюстрацыі прыводзяцца не з арыгінальных беларускіх тэкстаў, а з перакладаў на беларускую мову (параўн.: **газета**... *Газета не толькі калектыўны прапагандыст, але таксама і калектыўны арганізатар.* Ленін; **палітычны**... *Прыгонныя сяляне ў галіне ўсякіх палітычных правоў былі выключаны абсалютна.* Ленін; **ідэя**... *Людзі з'яўляюцца вытворцамі сваіх уяўленняў, ідэй і т.д., – але гутарка ідзе аб сапраўдных, дзеючых людзях, абумоўленых пэўным развіццём іх прадукцыйных сіл і – адпавядаючымі гэтаму развіццю – зносінамі, аж да іх самых далёкіх форм.* Маркс і Энгельс і да т.п.), што не зусім карэктна з лінгвістычнага пункту гледжання і сведчыць пра ідэалагічны ўплыў на складальнікаў слоўніка з боку тагачаснай савецкай дзяржавы.

Вялікую моўную каштоўнасць уяўляе сабраны і выкарыстаны ў ТСБМ фразеалагічны матэрыял (уласна фразеалагізмы, устойлівыя тэрміналагічныя словазлучэнні), які даецца ў канцы артыкулаў з адпаведным рэестравым словам, што сустракаецца ў складзе ўзнаўляльных выразаў. Пры гэтым колькасць ілюстрацыйных фразеалагізмаў ад аднаго (параўн.: **выжыць**... *выжыць з розуму*; **лакмусавы**... *лакмусавая папера* і г.д.), двух (параўн.: **лёс**... *іронія лёсу, на волю лёсу* і г.д.), трох (параўн.: **маска**... *зняць маску, надзяваць маску, сарваць маску* і г.д.), чатырох (параўн.: **манна**... *Манна з неба не сыплецца, Манна нябесная, Спадзявацца на манну нябесную, Чакаць манны нябеснай*) да некалькіх дзесяткаў, напрыклад, для слоў *агонь, месца, нага*; а са словам *рука* прыводзіцца каля 150 устойлівых выразаў.

ТСБМ не дапускае сваёй адназначнай ацэнкі, бо, з аднаго боку, ён і на сённяшні дзень застаецца самым вялікім, найбольш глыбока распрацаваным з семантычнага, стылістычнага, граматычнага гледжання, змяшчае вялізны па аб'ёме ілюстрацыйны і фразеалагічны матэрыял, з другога боку, прадстаўленыя слоўнікам асобныя ілюстрацыі не маюць адметнага беларускага нацыянальнага характару, відавочнай з'яўляецца ідэалагічная скіраванасць пэўных інтэрпрэтацый лексічных значэнняў. Так, нават для такога адносна ідэалагічна нейтральнага слова, як *багема*, даецца характарыстыка "ў буржуазным грамадстве...", чаго няма, напрыклад, у апублікаванай у гэтым жа часе рускай лексікаграфічнай крыніца (гл.: СЛОВАРЬ 1979). Некаторыя словы, што маюць адносіны да палітыкі, ідэалогіі, тлумачацца аднабакова і тэндыцыйна, напрыклад, адна з ілюстрацый да слова *дэмакратыя* выглядае наступным чынам: *Буржуазная дэмакратыя* – палітычны лад, пры якім парламентарызм з'яўляецца прыкрыццём дыктатуры буржуазіі над працоўнымі; слова *капіталізм* тлумачыцца як грамадска-эканамічная фармацыя, заснаваная на

прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці і эксплуатацыі наёмнай працы капіталам (змяняе феадалізм, папярэднічае сацыялізму – першай фазе камунізму); азначэнне суправаджаецца вялікай перакладной з рускай мовы цытатай Леніна і г.д.

Яшчэ адна вялікая лексікаграфічная праца падобнага кшталту пад назвай "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (ТСБЛМ) надрукавана пад рэдакцыяй М.Судніка і М.Крыўко (гл.: ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК 1996) і змяшчае звыш 65 000 слоў. Ён з'яўляецца нарматыўным і разлічаны на шырокае кола чытачоў. Калі ўлічыць той факт, што дзеепрыметнікі падаюцца тут не ў выглядзе рэестравых слоў, як у ТСБМ, а ў выглядзе формаў адпаведных дзеясловаў, то колькасць слоўнікавых артыкулаў узрастае да 71 000; прычым дзеепрыметнікаў у ТСБЛМ на 1730 больш, чым у ТСБМ (параўн. адсутныя ў апошнім словы тыпу *аблапошаны, дапісаны, зашыты, пабудаваны, расхінуты, этымалагізаваны* і інш.). Вытворныя словы ў лексічных гнёздах таксама прадстаўлены шырэй, чым у ТСБМ, дарэчы, і больш сістэмна, кампактна. Аўтары ТСБЛМ палічылі немэтазгодным падаваць многія аддзеяслоўныя назоўнікі, зваротныя дзеясловы залежнага стану, шматлікія прыставачныя дзеясловы, а таксама не пашыраныя ў літаратурнай мове тэрміны, дыялектызмы, архаізмы, грубыя словы, геаграфічныя назвы, але ўключылі мноства новых слоў, што даволі актыўна пачалі ўжывацца ў 80–90-я гады 20 ст., напрыклад, *аэробіка, бартэр, брокер, відэакліп, гамбургер, дыскета, дэзадарант, жырандоль, задзейнічаць, імідж, імпічмент, крыжыванка, лецішча, маркетынг, менеджмент, менталітэт, невяртанне, папулізм, рэйтынг, рэкет, святар, спонсар, трылер, тэхнакрат, файл, чартэр, эколаг* і інш. Гэтыя і многія іншыя словы адсутнічаюць у ТСБМ і з'яўляюцца ў сваёй большасці запазычанымі. Істотна збяднёным тут, у параўнанні з ТСБМ, прадстаўлены ілюстрацыйны матэрыял, як сведчаць аўтары, дзеля кампактнасці слоўніка; адсутнічаюць прыклады і цытаты з літаратурных твораў, але прыводзяцца тыповыя словазлучэнні, а таксама парэміі тыпу *Гаспадарку весці – не барадой трэсці; Ад парога хату не мятуць; Хто згадзіўся надзець шоры, той надзене і хамут* і інш. Слоўнік можа служыць і нарматыўным даведнікам па арфаграфіі, акцэнталогіі, дэрывацыі, лексічнай і сінтаксічнай спалучальнасці, некаторай граматычнай характарыстыцы, пры вызначэнні семантыкі слоў, для правільнага іх стылістычнага і сэнсавага ўжывання. На падставе алфавітна-гнездавога спосабу ўпарадкавання лексем слоўнікавы артыкул у ТСБЛМ уключае у свой склад і формы аднаго слова тыпу *шапачка, шапчына* пры слове **шапка,** і вытворныя словы розных часцін мовы (параўн.: *раскляпаць, расклёпваць, расклёпанне, расклёпка, расклёпачны; сплавіць, сплаўляць, сплаў, сплаўны* і г.д.), аднак пэўныя словы з такіх гнёздаў выносяцца ў рэестравыя са спасылкай на адпаведны артыкул (тыпу **актрыса** гл. **акцёр**; **пасівенне** гл. **сівець, амічны** гл. **ом** і г.д.).

Стылістычныя, граматычныя і акцэнталагічныя паметы ў ТСБМ і ТСБЛМ, дыферэнцыяцыя амонімаў і полісемантаў у асноўным супадаюць, аднак раскрыццё лексічных значэнняў у ТСБЛМ з'яўляецца больш сціслым з часцейшымі імпліцытнымі адсылкамі да артыкулаў, узначаленых невытворнымі словамі тыпу **біятланіст** 'спартсмен, які займаецца біятлонам', дзе невытворнае слова *біятлон* падразумявае звяртанне да знаёмства з яго значэннем у асобным артыкуле. Розныя стылістычныя паметы часам сумяшчаюцца ў адным слове (параўн.: **сляпак...** *разм., зневаж.* і да т.п.), што залежыць ад шырыні і полісемантычнасці яго значэння і сферы ўжывання, якая дадаткова тлумачыцца паясненнямі тыпу *ў фальклоры, у павер'ях, у царскай Расіі* і інш.

Этымалагічныя звесткі пра рэестравыя словы практычна адсутнічаюць, толькі зрэдку ўказваецца агульная крыніца паходжання без выкарыстання арыгінальнай формы зыходнай запазычанай лексемы тыпу *абракадабра* (ад лацінскай назвы

магічнага заклінання). Варыянты слоў падаюцца ў адным артыкуле, прычым на першае месца ставіцца слова, якое рэкамендуецца ў якасці нарматыўнага (параўн.: *ваўчаня* і *ваўчанё, пераплысці* і *пераплыць* і да т.п.). З граматычных форм назоўнікаў, акрамя тых, што супадаюць з адпаведнымі паметамі ў ТСБМ, выдзяляюцца субстантывы множнага ліку назоўнага склону ў спалучэннях з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* тыпу **ярмо** *мн. ёрмы, -аў* (з лічэбнікамі 2,3,4), *ярмы, -оў* і г.д. Паметай *зб.* выдзяляюцца зборныя назоўнікі тыпу *вярбняк, суччa* і да т.п. Кароткія формы прыметнікаў і парадкавыя лічэбнікі прыводзяцца як вытворныя пры адпаведных рэестравых словах (параўн.: **відны,** *-ая, -ое; відзён, відна, відно; мн. відны;* **пяцьдзесят**... *пяцідзесяці* і да т.п.). Для займеннікаў скарочана ўказваюцца і разрады тыпу *прынал.* 'прыналежны', *неазнач.* 'неазначальны' і інш. Безасабовыя дзеясловы пазначаюцца паметай *безас.* і, зразумела, прыводзяцца толькі канчаткі трэцяй асобы адзіночнага ліку. Прыслоўі на *-а, па-...ску* (тыпу *далёка, па-сяброўску*) змяшчаюцца як вытворныя ад прыметнікаў у артыкулах, азагалоўленых апошнімі, у выглядзе ілюстрацый (параўн.: **сумны**... *Сумныя вочы. Мне сумна*), а пры адсутнасці адпаведнага базавага прыметніка ці пры наяўнасці адмысловага значэння прыметніка такія прыслоўі падаюцца асобнымі артыкуламі (параўн.: **сорамна, шкада, згодна** і да т.п.).

У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу ўжываюцца кароткія сказы (параўн.: **агойтацца**... *За месяц агойтаўся ў новым асяроддзі;* **грэцца**... *Вада грэецца*; **разнесціся**... *Па целе разнеслася цеплыня* і да т.п.), тыповыя словазлучэнні (параўн.: **грэбацца**... *грэбацца на агародзе*; **кропка**... *сукенка ў кропкі*; **кудлаты**... *кудлатая галава*; **купа**... *купа людзей* і да т.п.), парэміі (параўн.: **пагода**... *Чакаць з мора пагоды*; **стрыгчы**... *Стрыгчы ўсіх пад адзін грэбень*; **воўк**... *Колькі ваўка не кармі, ён усё роўна ў лес глядзіць. І ваўкі сыты, і авечкі цэлы* і да т.п.), тэрміналагічныя і фразеалагічныя спалучэнні, якія размяжоўваюцца спецыяльнымі значкамі (адпаведна кружком і ромбам) і суправаджаюцца ў выпадку неабходнасці стылёвымі паметамі (параўн.: **зона**... *мёртвая зона... спец.*; **полюс**... *магнітныя полюсы Зямлі... спец.*; **мазгі**... *сушыць мазгі... разм.;* **нос**... *тыкаць носам... разм., неадабр* і да т.п.), прычым першымі прыводзяцца тэрміналагічныя злучэнні (параўн.; **карова**...*марская карова; як карова языком злізала* і да т.п.); фразеалагізмы ж нярэдка падаюцца ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу, а не асобна (параўн.: **язык**... *востры на язык, доўгі язык, язык добра падвешаны ў каго-н.* і да т.п.). Некрацізмы даюцца асобнымі артыкуламі, але тлумачэнне робіцца ў складзе адпаведнай фразеалагічнай адзінкі (параўн.: **лынды**... *лынды біць*; **гамерычны**... *гамерычны смех* і да т.п.). Яўныя русізмы ўключаюцца часам не толькі ў тлумачальную частку (параўн.: **галіць**... *брыць*; **камісар**... *палітычны кіраўнік воінскай часці*; **кавамолка**... *кафямолка* і інш.), але і ў рэестравую (параўн.: **качэлі, рабяты, быстры, рэзультат** і інш. пры наяўнасці беларускіх адпаведнікаў *арэлі, хлопцы і дзяўчаты, хуткі, вынік* і да т.п.).

На грунце ТСБМ створаны невялікі тлумачальны слоўнік беларускай мовы для школ, які некалькі разоў перавыдаваўся (гл.: БАХАНЬКОЎ 1966), а артыкулы П.П.Шубы па апісанню значэнняў прыназоўнікаў у ТСБМ выдадзены асобным тлумачальным слоўнікам (гл.: ШУБА 1993).

## 12.4. ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ СЛОЎНІКІ

Беларуская навуковая тэрміналогія выпрацоўваецца і ўсталёўваецца разам з узнікненнем і пашырэннем старабеларускіх пісьмовых помнікаў 14–17 стст. у ґаліне палітыкі, права, гандлю, публіцыстыкі, мовазнаўства, міжнародных зносін і інш., але

яе лексікаграфічнае прадстаўленне, што распрацоўвалася яшчэ ў 19 ст. ў выглядзе азначэнняў многіх батанічных, метэаралагічных, заалагічных, сельскагаспадарчых і іншых спецыяльных лексем у слоўнікавых працах Ф.Шымкевіча, П.Шпілеўскага, І.Грыгаровіча, І.Насовіча, С.Мядзведскага і інш., шырока разгарнулася ў лексікаграфічных выданнях 20-х гадоў 20 ст., калі было надрукавана 24 выпускі "Беларускай навуковай тэрміналогіі". Дадзеныя выпускі спачатку публікаваліся ў спецыяльным часопісе народнай асветы, а затым выходзілі асобнымі выданнямі (гл.: КРАМКО 1968, 212–219). Зробленая створанай у 1921 г. Беларускай навукова-тэрміналагічнай камісіяй стаўка на выкарыстанне пераважна ўласна беларускіх слоў, часта дыялектных, пры ўкладанні разнастайных спецыяльных слоўнікаў не вытрымала праверкі часам, бо пярэчыла агульнаеўрапейскай тэндэнцыі на інтэрналізацыю мовы навукі і прыводзіла да стварэння штучных слоў (тыпу *самарух* 'аўтаматызм', *асерадкаванне* 'канцэнтрацыя', *назвазбор* 'наменклатура', *бандзера* 'флюгер', *роўнік* 'экватар', *замык* 'блакада', *зачур* 'талісман' і г.д.), якія ў далейшым так і не ўкараніліся ў беларускую тэрміналогію, саступілі месца сваім міжнародным адменнікам.

У спецыяльным даведніку (гл.: ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ СЛОЎНІКІ 2000) занатавана 263 пазіцыі, звязаныя са шматлікімі лексікаграфічнымі выданнямі беларускай спецыяльнай і навуковай тэрміналогіі з 1918 г. па 1998 г. Асноўныя жанры апублікаваных тэрміналагічных слоўнікаў належаць да перакладных і тлумачальных. Сярод перакладных слоўнікаў пераважаюць руска-беларускія (беларуска-рускія), далей ідуць лацінска- і англійска-беларускія, потым нямецка- і польска-беларускія, адзінкавыя выданні прысвечаны суадносінам беларускіх тэрмінаў з тэрмінамі арабскай, венгерскай, галандскай, грэчаскай, дацкай, латышскай, нарвежскай, партугальскай, фінскай, шведскай, эстонскай моў. Усяго адзначана 30 замежных моў, тэрміны з якіх супастаўлены і перакладзены на беларускую мову (па некалькі розных слоўнікаў прысвечана перакладам тэрмінаў з французскай, украінскай, славенскай, славацкай, сербскахарвацкай моў). Асноўная колькасць перакладных слоўнікаў прыпадае на двухмоўныя, але маюцца таксама трохмоўныя (Англа-беларуска-рускі слоўнік лесагаспадарчых тэрмінаў. Мінск, 1995; Киселевский А.И. Латинско-русско-белорусский ботанический словарь. Минск, 1967; Сапегін Л.М., Маркелава Р.І. Руска-беларуска-лацінская тэрміналогія і этымалогія раслін паўднёвага ўсходу беларускага Палесся. Гомель, 1991–1992; Нямецка-руска-беларускі слоўнік-мінімум па малочнай прамысловасці. Магілёў, 1998), чатырохмоўныя (Цыталогія: Тэрміналагічны слоўнік на рускай, беларускай, лацінскай, англійскай мовах. Мінск, 1993), пяцімоўныя (Гасіева І.І., Малочка Н.В. Слоўнік-мінімум эканамічных тэрмінаў: рускі, беларускі, англійскі, французскі, арабскі. Мінск, 1998) і нават 25-моўны (у кнізе Glossarium. Łodz, 1962–1965).

Самым вялікім перакладным слоўнікам, створаным у галіне беларускай тэрміналогіі, з'яўляецца двухтомная праца (гл.: РУСКА-БЕЛАРУСКІ ПОЛІТЭХНІЧНЫ СЛОЎНІК 1997, 1998), якая ўключае ў свой склад 157 000 рэестравых тэрмінаў. У слоўнік уваходзяць артыкулы па авіяцыі, аўтасправе, будаўніцтву, вылічальнай тэхніцы, гідратэхніцы, горнай справе, касманаўтыцы, кінафотатэхніцы, матэматыцы, машынабудаванню, металаапрацоўцы, метралогіі, механіцы, нафтахіміі, оптыцы, радыётэхніцы, транспарту, тэлемеханіцы, хіміі, электроніцы, ядзернай фізіцы і інш. Слоўнік змяшчае простыя артыкулы тыпу **наброска** 'накідка', **автолиз** 'аўталіз' і да т.п. і гнездавыя, дзе пасля загаловачнага слова прыводзяцца тэрміназлучэнні з гэтым словам (параўн.: **сброс** 1. скіданне, 2. скід *с. антиклинальный* 'скід антыклінальны'; *с. вкрест простирания* 'скід папярок кірунку'; *с. давления* 'скіданне ціску'; *с. шасси с замков* 'скіданне шасі з замкоў' і г.д. Усе сферы выкарыстання тэрмінаў пазначаны адпаведнымі скарачэннямі, спіс якіх з расшыфроўкай прыво-

дзіцца ў пачатку кнігі і налічвае 89 пазіцый. Рэестравыя рускія і перакладныя беларускія словы пазначаны націскам, але без граматычных памет.

У цэлым жа аб'ём перакладных тэрміналагічных слоўнікаў вагаецца ад некалькіх соцень адзінак (Кароткі эканамічны слоўнік. Мн., 1993 – 300 тэрмінаў; Кацэвіч С.С. Слоўнік педагагічных тэрмінаў. Брэст, 1995 – звыш 370 адзінак; Руска-беларускі слоўнік па мікраэлектроніцы. Мн., 1990 – каля 400 тэрмінаў і інш.) да некалькіх тысяч (Руска-беларускі слоўнік справаводнай і архіўнай тэрміналогіі. Мн., 1997 – каля 8000 тэрмінаў; Руска-беларускі слоўнік хімічных тэрмінаў. Магілёў, 1998 – каля 7000 тэрмінаў; Руска-беларускі матэматычны слоўнік. Мн., 1993 – каля 10 000 тэрмінаў і інш.) і дзесяткаў тысяч (Руска-беларускі слоўнік для вайскоўцаў. Мн., 1996 – каля 30 000; Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Мн., 1994 – каля 75 000 адзінак і інш.).

У падрыхтоўцы і выданні тэрміналагічных слоўнікаў беларускай мовы бралі ўдзел каля 700 спецыялістаў розных галін ведаў, якіх дарэчы налічваецца 195 пазіцый (ад лінгвістыкі, матэматыкі – адпаведна 9 і 12 выданняў, да адзінкавых публікацый па аграноміі, археалогіі, біятэхніцы, геалогіі, касмаграфіі, кветкаводству, санітарнай тэхніцы, радыёэлектроніцы, эмбрыялогіі і інш.).

Тэрміналагічныя слоўнікі выдаваліся ў 20 розных месцах, пераважна ў Мінску (адзінкавыя выданні выйшлі ў Беластоку, Боне, Браславе, Горкім, Катавіцах, Нью-Йорку, Празе і інш.). З даваенных выданняў па сем слоўнікаў прыпадае на 1926 г. і 1927 г., а ў 90-я гады 20 ст. адзначаецца наступная колькасць апублікаваных тэрміналагічных слоўнікаў: 1990–6, 1991–14, 1992–38, 1993–48, 1994–30, 1995–31, 1996–25, 1997–12, 1998–12. Пікі выданняў зазначанай лексікаграфічнай літаратуры прыпадаюць на гады адраджэння беларускай мовы, беларусізацыі грамадскага жыцця краіны (1926–1927; 1992–1996).

Навуковая і практычная вартасць надрукаваных тэрміналагічных слоўнікаў, зразумела, не з'яўляецца аднолькавай, бо пераважная большасць іх невялікія па аб'ёму; складанне і выданне слоўнікаў хутчэй за ўсё не каардынаваліся; прынцыпы перакладу, тлумачэння і нават напісання тэрмінаў у многіх выпадках не уніфікаваны; у значнай частцы слоўнікаў адсутнічаюць і акцэнталагічныя, і граматычныя паметы; некаторыя з надрукаваных лексікаграфічных прац уяўляюцца проста пробай пяра маладых амбіцыйных асоб. Напрыклад, "Расейска-беларускі хімічны слоўнік", выдадзены задзіночаннем беларускіх студэнтаў (Мн., 1993, аб'ём 2000 тэрмінаадзінак) не мае граматычных, акцэнталагічных памет ні для рэестравых рускіх, ні для перакладных беларускіх тэрмінаў. Для ўсіх беларускіх назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку ў родным склоне пададзены канчатак *-у*, што часта пярэчыць нормам беларускай літаратурнай мовы, якая ўжываецца ва ўсіх дзяржаўных установах; напісанне слоў таксама далёка не заўсёды супадае з прынятымі арфаграфічнымі нормамі (параўн.: *азбэст, атмасфэра, энэргетычны, эфектоўны* і г.д.). Многія пераклады нельга прызнаць прымальнымі (параўн.: **ячейка** 'каморка', **теплота образования** 'цяплыня паўстаньня', **плотнасць** 'гушчыня', **колба** 'гляк', **благородный металл** 'шляхетны метал' і інш.). Да таго ж у слоўніку даволі шмат элементарных памылак і памылак друку (параўн.: **энтрокия*, трэба *энтропия*, **стрэбряны* трэба *серебряный*, **смеанный*, трэба *смешанный*, **восплеменение*, трэба *воспламенение* і г.д.).

Іншыя тэрміналагічныя слоўнікі беларускай мовы выглядаюць больш прыстойна, выкананы на належным навуковым узроўні дзякуючы найперш удзелу ў іх стварэнні прафесіяналаў-моваведаў і кваліфікаваных спецыялістаў адпаведнай галіны ведаў, а таксама публікацыі ў аўтарытэтным, салідным выдавецтве. Так, лексікаграфічная праца для вайскоўцаў (РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК 1996) пад рэдакцыяй кандыдата ваенных навук У.Язэпчыка і кандыдата філалагічных навук М.Крыўко

змяшчае ў сваёй рэестравай частцы звыш 30 000 адзінак (слоў і словазлучэнняў), упарадкаваных па алфавітна-гнездавым прынцыпе, згодна з якім у адным артыкуле можа змяшчацца вялікая колькасць тэрмінаў і тэрміназлучэнняў (напрыклад, у артыкуле, узначаленым словам **дивизион** 'дывізіён' месціцца 22 тэрмінаадзінкі абедзвюх моў тыпу беларускіх перакладных тэрмінаў *дывізіён караблёў, дывізіён самаходнай артылерыі, зенітна-ракетны дывізіён, дывізіённы, дывізіённы тыл* і інш.). Слоўнік істотна пашыраны за кошт невайсковай лексікі (параўн.: **лай** 'брахание', **антипартийный** 'антыпартыйны', **диалог** 'дыялог', **наперегонки** 'навыперадкі', **впопыхах** 'прыхапкам', **среда** 'серада' і інш.), а таксама лексікі "двайнога прызначэння", г.зн. якая можа ўжывацца ў ваеннай і ў неваеннай сферах (параўн.: **деяние** 'дзеянне', **опушка** 'узлессе', **напомнить** 'напомніць, нагадаць', **описание** 'апісанне' і інш.), нетэрміналагічных агульнаўжывальных слов тыпу **чаще** 'часцей', **гриб** 'грыб', **февраль** 'люты', **жильный** 'жыльны' і інш.). У слоўніку паслядоўна даюцца акцэнталагічныя паметы (націск) для рэестравых рускіх і перакладных беларускіх лексем, якія апрача таго суправаджаюцца неабходнай граматычнай інфармацыяй (часціна мовы, для назоўнікаў – род, лік, родны склон для імёнаў мужчынскага роду адзіночнага ліку і паметы для назоўнікаў, што ўжываюцца толькі ў множным ліку; пры рускіх дзеясловах указваецца трыванне, аднакратнасць / мнагакратнасць, стан; робяцца адпаведныя паметы для аднолькавых слоў, якія ўжываюцца ў розных граматычных функцыях – дзеепрыметнікаў і прыметнікаў).

Аўтары ў цэлым даволі ўдала перакладаюць рускія дзеепрыметнікі і прыметнікі з нехарактэрнымі для беларускай мовы суфіксамі *-уч, -юч* адпаведнымі апісальнымі канструкцыямі тыпу **позорящий** 'які (што) ганьбіць'; **действующий** 'які (што) дзейнічае' і да т.п., або беларускімі прыметнікамі без гэтых суфіксаў (параўн.: **подслушивающее устройство** 'падслухвальнае прыстасаванне', **взаимодействующий** 'узаемадзейны', **качающийся затвор** 'хісткі затвор', **последующий** 'наступны' і г.д.), хаця ў некаторых выпадках словы з такімі не характэрнымі для беларускай мовы суфіксамі прыводзяцца пры наяўнасці беларускіх адпаведнікаў, перад імі (параўн.: **направляющий** 'накіроўваючы, накіравальны'; **подавляющий** 'гнятучы, ашаламляльны'; **демаскирующие признаки** 'дэмаскіруючыя (дэмаскуючыя) прыметы' (чаму не дэмаскіравальныя ці дэмаскінавальныя?) і г.д.

Можна зазначыць, што беларускія вайскоўцы атрымалі кваліфікаваны лексікаграфічны даведнік па сваёй спецыяльнасці, і справа палягае найперш у тым, каб укараняць прадстаўленыя ў ім тэрміны і тэрмінаспалучэнні ў беларускамоўнай маўленчай дзейнасці паўсядзённай армейскай службы і быту.

Слоўнік, прысвечаны біялагічнай тэрміналогіі і наменклатуры (РАДКЕВІЧ 1993), з'яўляецца трохмоўным (руска-беларуска-лацінскім) на 15 000 рэестравых адзінак і выйшаў з друку пад рэдакцыяй вядомага беларускага лінгвіста акадэміка М.В.Бірылы. Адметнай уласцівасцю працы служыць тое, што тут прадстаўлены найменні беларускай флоры і фауны. Слоўнік пабудаваны па алфавітна-гнездавым прынцыпе, згодна з якім састаўныя тэрміны, што ўключаюць у свой склад загаловачнае слова, ўтвараюць гняздо (групу), дзе скарочана для незагаловачных слоў падаецца толькі першая літара рэестравага слова, тыпу **желудок** 'страўнік' ж. *железистый* 'с. залозісты', ж. *мускулистый* 'с. мускулісты' і да т.п. Для сінанімічных найменняў выкарыстоўваюцца адсылкі да дамінантнага слова (параўн.: **агариковые** – см. *грибы пластинчатые* і да т.п.). Для адсутных у беларускай біялагічнай тэрміналогіі найменняў выкарыстоўваецца прынцып іх стварэння на грунце міжнароднай (лацінскай) лексічнай базы (параўн.: **биогенный** 'біягенны', **биом** 'біём', **лиана** 'ліяна', **мейоцит** 'меяцыт', **зоогамия** 'заагамія' і да т.п.), дзе, як відаць з прыведзеных прыкладаў, арфаграфічнае афармленне запазычаных тэрмінаў ажыц-

цяўляецца ў адпаведнасці з правіламі беларускай мовы. Для многіх тэрмінаў прыводзяцца дыялектныя (народныя) назвы адпаведнай рэаліі з неабходнымі паметамі тыпу **дурман** ‘дурнап’ян‘; народныя назвы *шалей, дурац, чортаў агурочнік, растроп*; **синюха голубая** ‘сінюха блакітная‘; народныя назвы *аструшка, гадзіннік, рабінка*; **подкаменщик** ‘падкаменшчык‘; народныя назвы *аўдотка, шыракалобка, галавач, пячкур, бычок* і да т.п. Лацінскія тэрміны прыводзяцца для вызначэння дакладнага сэнсу, адэкватнай адпаведнасці руска-беларускіх назваў (параўн.: **качим** ‘вапнаўка‘ – Gypsophilia; **кисть** ‘гронка‘ – Racemus, botrys; **смородина** ‘парэчкі‘ – Ribes; **цепенеть** ‘дранцвець, нямець‘ – rigere і да т.п.).

У другой частцы працы прыводзіцца беларуска-рускі слоўнік біялагічнай тэрміналогіі і дадатак, дзе змяшчаюцца народныя назвы расліннага, жывёльнага свету Беларусі з іх перакладамі на рускую мову (параўн.: **залётнік** ‘иван-чай‘, **балотны верабей** ‘овсянка камышовая‘, **грымотнік** ‘икотник седоватый‘, **жаўтадушка** ‘куница лесная‘, **шчэрб** ‘репейник‘ і да т.п.) або з адсылкай на беларускі літаратурны адпаведнік (параўн.: **залатаўка** ‘тое, што *гаркуша*‘; **гусіныя лапкі** ‘тое, што *гаючае зелле*‘; **чарнагуз** ‘тое, што *бацян*‘; **хрыбуст** ‘тое, што *бадзяга*‘; **трыліснік** ‘тое, што *баброўнік*‘; **ракаўнік** ‘тое, што *балотная ружа*‘; **страснік** ‘тое, што *калючнік*‘ і да т.п.). Усе прыведзеныя руска-беларускія тэрміны пазначаны націскам, іншыя лінгвістычныя паметы не ўжываюцца. Для ўкладання слоўніка выкарыстаны лексікаграфічныя, энцыклапедычныя крыніцы, а таксама звязныя тэксты вучэбнай, навуковай, даведачнай літаратуры па біялогіі.

Апублікаваны ў гэтым жа годзе “Руска-беларускі слоўнік электратэхнічных тэрмінаў (КРАЕВСКАЯ 1993) змяшчае ў сябе звыш васьмі тысяч тэрмінаў і напісаны ў супрацоўніцтве з мовазнаўцамі (сааўтар прафесар В.П.Красней). Слоўнік з’яўляецца першай у беларускай лексікаграфіі крыніцай, дзе зроблены пераклады з рускай мовы спецыяльных электратэхнічных тэрмінаў і тэрміназлучэнняў на беларускую мову. Аўтары максімальна пазбягаюць выкарыстання ў перакладной частцы слоўніка дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-учы, -ючы, -ачы, -ячы*, тады як для рускай мовы адпаведныя тэрміналагізаваныя дзеепрыметнікі на *-ущий, -ющий, -ащий, -ящий* характэрныя і шырока ўжывальныя. Пры гэтым аўтары даволі ўдала выкарыстоўваюць разнастайныя беларускія сродкі (несупадальныя сінтаксічныя канструкцыі, іншыя афіксы, афіксоіды і г.д.) для перакладу адпаведных рускіх дзеепрыметнікаў (параўн.: **демпфирующая система** ‘сістэма дэмпфавання‘; **катящийся контакт** ‘кантакт з качэннем‘; **корректирующая емкость** ‘карэкціроўная ёмістасць‘; **магнитная отключающая система** ‘магнітная адключальная сістэма‘; **насыщающийся реактор** ‘саманасычальны рэактар‘ і г.д.). Пры перакладзе рускіх электратэхнічных тэрмінаў выкарыстоўваюцца не толькі адназначныя адпаведнікі, але і беларускія сінанімічныя найменні, напрыклад: **безотказность** ‘безадмоўнасць, спраўнасць‘; **быстрая реакция** ‘шпаркая (хуткая) рэакцыя‘ і інш.). Як і ў папярэднім слоўніку тэрміны арганізуюцца тут на аснове алфавітна-гнездавога прынцыпу, дзе пры загаловачным тэрміне-назоўніку прыводзяцца і словазлучэнні з зыходным назоўнікам (параўн.: **выключатель** ‘выключальнік‘, *в. автоматический* ‘выключальнік аўтаматычны‘, *в. для скрытой проводки* ‘выключальнік для закрытай праводкі‘, *в. конечный* ‘выключальнік канцавы‘ і г.д.) або з іншым загаловачным словам, напрыклад прыметнікам, тыпу **интегральная оптика** ‘інтэгральная оптыка‘ *и. система* ‘інтэгральная сістэма‘ і да т.п. Пры гэтым словазлучэнні тыпу “назоўнік+прыметнік” і “прыметнік+назоўнік” прыводзяцца ў слоўніку на тую лексему, што рэгулярна выкарыстоўваецца на першым месцы ў адпаведным словазлучэнні (параўн.: **быстродействующая защита** ‘хуткадзейная засцярога‘, але **колебание затухающее** ‘ваганне затухальнае‘ і да т.п.); у абодвух выпадках чытач змушаны часам шукаць тэрмін двойчы і на прыметнік (дзеепрыметнік), і на назоўнік: калі няма

ў адпаведным месцы тэрміна, які пачынаецца на назоўнік, то гэты тэрмін трэба шукаць па алфавіце прыметніка, што ўяўляе пэўную нязручнасць для чытача. Толькі зрэдку адпаведныя тэрміны прыводзяцца ў слоўніку двойчы, як лічаць аўтары, пры раўнамерным постпазіцыйным і прэпазіцыйным выкарыстанні прыметніка ў тэрміназлучэнні тыпу **выходная мощность** ‘выхадная магутнасць‘ і інш. У загаловачных прыметнікаў спецыяльным знакам // выдзяляюцца канчаткі (параўн.: *абсалютн//ая, аналогов//ая* і да т.п.; складаныя словы таксама раздзяляюцца гэтым жа знакам (параўн.: *взаимо//действие, взрыво//безопасность* і да т.п.). Рэестравыя і перакладныя словы (за выключэннем аднаскладовых) пазначаюцца націскам. Іншыя лінгвістычныя паметы не прыводзяцца.

Разгледжаная праца, як і іншыя слоўнікі, выдадзеныя ў гэты ж час, нават у гэтым жа годзе і звязаныя з негуманітарнымі дысцыплінамі, напрыклад, “Руска-беларускі фізічны слоўнік” на 5000 тэрмінаадзінак (гл.: БОЛСУН 1993), надрукаваныя таксама і пэўныя слоўнікі матэматычных тэрмінаў (гл.: СУХАЯ 1993; РУССКО-БЕЛОРУССКИЙ МАТЕМАТИЧЕСКИЙ СЛОВАРЬ 1993), дзе дарэчы, акрамя перакладаў, прыводзяцца і некаторыя граматычныя паметы, застаюцца незапатрабаванымі ў беларускім грамадстве, у якім дадзеныя дысцыпліны па-ранейшаму выкладаюцца пераважна на рускай мове. Тым не менш лексікаграфічныя выданні падобнага тыпу закладваюць эмпірычны і тэарэтычны падмурак для магчымага шырокага ўкаранення беларускай мовы ў вучэбную і навуковую сферы жыцця нашай краіны.

Музычным тэрмінам прысвечана праца (МУЗЫЧНЫ СЛОЎНІК 1999), якая сумяшчае ў сябе элементы і тэрміналагічнага, і перакладнога, і тлумачальнага, і энцыклапедычнага, і этымалагічнага слоўнікаў. Яна складаецца з беларуска-рускага і руска-беларускага слоўнікаў, невялікага спіса іншамоўных музычных тэрмінаў, якія падаюцца двойчы: у беларускай частцы (з перакладам на беларускую мову) і ў рускай частцы (з перакладам на рускую мову) з указаннем крыніцы паходжання і тлумачэння, напрыклад: **staccato** (іт. *адрывіста*) –‘адрывістае кароткае выкананне гукаў на музычных інструментах, а таксама голасам‘; **adagio** (іт. *медленно*) – ‘медленный темп в музыке; разновидность музыкальной формы, обычно 2-я часть симфонического цикла‘ і г.д. Рэестравыя словы пазначаны націскам, полісеманты размяжоўваюцца арабскімі лічбамі ў межах адпаведных артыкулаў, даецца пераклад на рускую мову ў першай частцы слоўніка і на беларускую – у другой частцы, а таксама прыводзіцца тлумачэнне (семантычная характарыстыка), напрыклад: **велічанне** ‘величание‘ 1) кароткае хвалебнае літургічнае песнапенне; 2) у народным вясельным абрадзе – песні, якія ўхваляюць удзельнікаў урачыстасці; **ладозвукоряд** ‘ладагукарад‘ 1) частное значение лада, связываемое с мелодическим звукорядом; 2) звуковая конструкция лада в виде звукоряда (ряда звуков) і да т.п. Некаторыя тэрміны забяспечваюцца нотнымі ілюстрацыямі, схемамі, спасылкамі на музычныя творы. Аўтары-складальнікі (Г.Р.Куляшова, Т.Г.Мдывані, Н.А.Юўчанка, Л.А.Антанюк, Л.А.Матукоўская, Д.А.Падбярэзкі) прызначаюць слоўнік для кампазітараў, музыказнаўцаў, педагогаў, перакладчыкаў, навучэнцаў, для ўсіх аматараў музычнага мастацтва.

Слоўнікі ўласна лінгвістычнай тэрміналогіі пачалі складацца ў 20-я гады 20 ст., у прыватнасці, ёй прысвечаны выпуск 15-ы “Беларуская навуковая тэрміналёгія. Слоўнік граматычна-лінгвістычнай тэрміналёгіі” (Праект) / Інстытут Беларускае Культуры. Аддзел мовы і літаратуры. Галоўная Тэрміналёгічная Камісія. Менск, 1927. – 78 с. Складальнік Язэп Лёсік. У слоўніку прыводзяцца 1592 руска-беларускія лінгвістычныя тэрміны, а таксама дадатак з пералікам беларускіх тэрмінаў і назваў моў.

Выдадзены ў Мінску “Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў” (ЮРЭВІЧ 1962) уключае ў свой склад звыш 1250 лінгвістычных тэрмінаў найперш з такіх раздзелаў навукі аб

мове, як агульная лінгвістыка, граматыка, фанетыка, стылістыка. Для тэрмінаў іншамоўнага паходжання прыведзены першакрыніцы ў лацінскай транскрыпцыі (параўн.: **гаплалогія**: грэчаскае gaplos 'просты', logos 'слова'; **білінгвізм**: лацінскае bilinguis 'двухмоўны'; **абзац:** нямецкае Absatz; **тэмбр**: французскае timbre, грэчаскае timpanon – тымпан – музычны інструмент і г.д.). Асноўная частка слоўніка з'яўляецца ўласна беларускай, тлумачальнай (параўн.: **дэрывацыя** 'ўтварэнне новых слоў ад дадзенага слова'; **эліпсіс** 'пропуск у сказе тых або іншых членаў сказа, якія лёгка падразумяваюцца з кантэксту або з абстаноўкі'; **флексія** 'назва канчатка ў мовазнаўчай літаратуры' і інш.); прыведзеныя тэрміны часам суправаджаюцца пэўнымі ілюстрацыямі з літаратурных тэкстаў, пашпартызаваных імем аўтара, або ілюстрацыямі з фальклору, або прыкладамі самаго складальніка слоўніка (параўн.: **прэдыкатыўны член** 'прызвязачная частка састаўнога выказніка', напр.: *Дзень быў святы.* Я.Колас; **злучальнае слова** 'займеннік або прыслоўе, што выступае ў ролі злучніка і адначасова выконвае функцыю якога-небудзь даданага сказа' ...*Хто новага не бачыў, той і старому рад.* Прыказка; **гукапераймальныя словы** 'словы, якія ў сваім фанетычным складзе перадаюць гукі жывых істот, а таксама прадметаў і з'яў прыроды': *ха-ха-ха, гаў-гаў-гаў, цік-так, трэсь* і да т.п.). Зрэдку прыводзяцца ілюстрацыі з іншых моў, звычайна славянскіх ці заходнееўрапейскіх (параўн.: **міжмоўная аманімія** 'выпадкі, калі адны і тыя ж або блізкія, заканамерна адпаведныя ў роднасных мовах словы маюць розныя значэнні', напр., чэшскае posádka 'гарнізон, каманда, экіпаж карабля, самалёта' і рускае *посадка* 'закапванне расліны ў зямлю, прызямленне самалёта' і інш.; **калька** (фр. calque 'копія') 'слова або выраз утвораныя па ўзору слоў іншай мовы', напр., *летапісец* з грэч. chronografos, *разбіць на галаву* з ням. aufs Haupt schlagen і інш.

Пры варыянтнасці і сінанімічнасці лінгвістычных тэрмінаў робіцца адсылка да дамінантнага тэрміна тыпу **устойлівае словазлучэнне** гл. **фразеалагічнае словазлучэнне; слабая пазіцыя** гл. **пазіцыя; меладычны націск** гл. **музычны націск, храматычны націск** і да т.п. У некаторых выпадках прыводзяцца энцыклапедычныя даведкі пра самі мовы або моўныя з'явы і дысцыпліны, выражаныя адпаведным лінгвістычным тэрмінам, напрыклад, артыкулы **стараславянская мова, цюркскія мовы, машынны пераклад, сінтагма, эсперанта, этымалогія, юс вялікі** і інш. Слоўнік завяршаецца руска-беларускім перакладам найбольш ужывальных у абедзвюх роднасных мовах лінгвістычных тэрмінаў.

У асноўнай частцы слоўніка загаловачная (рэестравая) лексема пазначаецца націскам, а ў перакладной (руска-беларускай) частцы націск прыводзіцца і для рэестравага слова і для беларускага адпаведніка. Граматычныя паметы ў слоўніку адсутнічаюць, а пастаноўка націска служыць збыткоўнай у аднаскладовых словах тыпу *лі́к,* і ва ўласна беларускіх словах з галоснымі *о, е,* на якія звычайна прыпадае націск (параўн.: *назо́ўнік, іме́нны* і да т.п.).

Двухтомны "Слоўнік славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі" (1977, 1979) апублікаваны ў Празе. У дадзенай лексікаграфічнай працы змешчаны лінгвістычныя тэрміны на ўсіх славянскіх мовах, а таксама пераклады гэтых тэрмінаў на англійскую, нямецкую, французскую мовы, што служыць не толькі перакладам, але і своеасаблівым тлумачэннем славянскіх лінгвістычных тэрмінаў. Беларускую частку слоўніка напісалі айчынныя мовазнаўцы А.Кісялеўскі, І.Лучыц-Федарэц, А.Міхневіч, А.Падлужны, М.Суднік. У слоўніку змяшчаецца 2266 лінгвістычных тэрмінаў, ужывальных найперш у славянскіх мовах, і не ўключаны, у прыватнасці, тэрміны, што выкарыстоўваюцца пры апісанні каўказскіх, класічных, усходніх і іншых моўных груп. Асобным спісам падаюцца тэрміны, што адносяцца да новых напрамкаў сучаснага мовазнаўства і да сучасных метадаў даследавання мовы.

У першым томе лінгвістычныя тэрміны размеркаваны на дзевяць глаў па тэматычнаму прынцыпу. Так, у першай главе падаюцца тэрміны агульналінгвістычнага характару, напрыклад, у беларускай частцы слоўніка, *інварыянт, ізамарфізм, моўная структура, метамова, апазіцыя, парадыгматычныя адносіны, дыстрыбуцыя, сінтагматыка, парадыгматыка* і г.д. У другой главе прыводзяцца фанетычныя і фаналагічныя тэрміны (параўн. беларускія адпаведнікі: *надгартаннік, органы маўлення, месца артыкуляцыі, рэкурсія, імплозія, фрыкацыя, лабіялізацыя, санорнасць, фанема, алафон, архіфанема* і інш.); у трэцяй – тэрміны графікі славянскіх моў (параўн.: *глаголіца, кірыліца, транслітэрацыя, графема, дыграф, дыякрытычны знак, пунктуацыя, працяжнік, прынцып арфаграфіі* і інш.); у чацвёртай – лексічныя і фразеалагічныя тэрміны (параўн.: *слоўнік, найменне, дээтымалагізацыя, ідыёма, вобразны выраз, крылатыя словы, лексічнае значэнне, народная этымалогія, этымалагічнае значэнне, сінонім, амонім, паронім* і інш.); у пятай – часцінамоўныя тэрміны (параўн.: *знамянальнае слова, назоўнік, уласнае імя, прыметнік, займеннік, колькасны лічэбнік, дзеяслоўны стан, зваротны дзеяслоў, прыслоўе часу, прыназоўнік* і інш.); у шостай – граматычныя і словаўтваральныя тэрміны (параўн.: *марфема, корань, флексія, канчатак, афікс, прыстаўка, інфікс, словаўтваральная мадэль, дэрывацыя, афіксацыя, вытворнае слова, кампазіт, абрэвіятура, трыванне, стан, спражэнне, перфект, род, лік* і інш.); у сёмай – тэрміны сінтаксісу (параўн.: *прэдыкатыўная сувязь, гіпатаксіс, кіраванне, прымыканне, дапасаванне, далучэнне, інверсія, постпазіцыя, сінтаксічная канструкцыя, пасіўная канструкцыя, складаны сказ, просты сказ, іменны дзейнік* і інш.); у восьмай – стылістычныя тэрміны (параўн.: *кантэкст, функцыянальны стыль, публіцыстычны стыль, мова літаратурнага твора, архаізм, літота, эпітэт, аксюмаран, каламбур, анафара, таўталогія, плеаназм, дыялог, асананас, рэпліка* і інш.); у дзевятай – тэрміны сучаснага мовазнаўства і новых метадаў даследавання мовы (параўн.: *сегментацыя, дыягнастычнае акружэнне, факультатыўная пазіцыя, аналіз па непасрэдна складальных, тэрмінальны ланцужок, трансфармацыйны аналіз, спараджальная граматыка, глыбінная структура, павярхоўная структура, дэрывацыйнае правіла, глоссематыка, дысперсія слоўніка* і інш.).

У кожнай главе тэрміны іерархічна ўпарадкоўваюцца з дапамогай лічбавых індэксаў, прычым зыходнымі (першымі ў парадку следавання) падаюцца чэшскія і славацкія лексемы, затым ідуць польскія, сербалужыцкія, рускія, украінскія, беларускія, балгарскія македонскія, сербскахарвацкія, славенскія, англійскія, французскія, нямецкія. Апублікаваны слоўнік мае на мэце рэгістрацыю, інфармацыю і пераклад лінгвістычных тэрмінаў, іх нармалізацыю, каардынацыю. У апошнім выпадку (каардынацыя, звязаная са стымуляцыяй) пры адсутнасці зыходнага тэрміна ў якой-небудзь славянскай мове ён утвараецца штучна з дапамогай наяўных тэрміналагічных элементаў, каб стымуляваць яго ўжыванне ў якасці метамоўнага кампанента ў адпаведнай славянскай мове (параўн. для беларускай мовы: *постпалатальны зычны, кантракцыя, альтэрнант, транспрэфіксацыя, азначальны кампазіт, алюзійны дзейнік* і інш.). Інфармацыя звязваецца з выкарыстаннем у слоўніку такіх лінгвістычных тэрмінаў, якія яшчэ не сталі агульнаўжывальнымі, але сустракаюцца ў пэўных навуковых тэкстах. Каардынацыя тычыцца найперш новых лінгвістычных тэрмінаў, змешчаных у дзевятай главе, дзе зыходнымі (загалоўвачнымі) словамі служаць часта англійскія або рускія адзінкі (у лацінскай транскрыпцыі) тыпу segment, šum, glosem, interdepedence, gramatičnost, formativ і інш. Пры наяўнасці варыянтных тэрмінаў у зыходных словах (чэшскіх і славацкіх) на першае месца ставіцца інтэрнацыянальнае слова, а потым уласна чэшскае, славацкае (параўн.: kompozice, skládání... *словаскладанне*, кампазіцыя abreviace, zkracování... *абрэвіяцыя* і г.д.). Прычым у беларускіх перакладах на першае месца

ставіцца ўласна беларускі адменнік, што знаходзіцца ва ўжытку, а новыя паняцці выражаюцца інтэрнацыянальнымі словамі (параўн.: *канфігурацыя, фанемоід, пермутацыя, генатып, субстытуцыя, каталіз, рэляцыя, манема, дысперсія* і г.д.). У некаторых выпадках даюцца тлумачэнні тэрмінаў, але толькі на чэшскай, славацкай і англійскай мовах. Новыя тэрміны, якія сустракаюцца ў лінгвістычнай літаратуры, але яшчэ не сталі нарматыўнымі і рэкамендаванымі для кадыфікаванага ўжывання, падаюцца ў квадратных дужках; у ломаных дужках прыводзяцца новыя тэрміны, якія таксама не сталі яшчэ агульнаўжывальнымі, але рэкамендуюцца для нарматыўнага ўжывання (параўн. для беларускай мовы: *моўны узус, постпалатальны зычны, экспланатарная сіла, мультывербацыя, фрэквентатыўны дзеяслоў, дужкаванне, укліненне, дэскрыптыўная адэкватнасць, прэдыкатыўнае азначэнне* і інш.), прычым некаторыя з рэкамендаваных беларускіх лінгвістычных тэрмінаў пакуль не знайшлі шырокага прымянення ў айчынным мовазнаўстве найперш па прычыне адсутнасці ці невыдзялення адпаведных паняццяў на матэрыяле беларускай мовы.

Сярод новых тэрмінаў сучаснай лінгвістыкі перавага аддаецца для ўсіх славянскіх моў, а таксама і для англійскай, французскай, нямецкай – інтэрнацыяналізмам, напрыклад, у згаданым вышэй парадку выкарыстаных у слоўніку моў: formativ, formatív, formatyw, formatiw, *форматив, форматив, фарматыў, форматив, форматив, форматив*, formativ, formative, formatif, Formativ і да т.п.

У другім томе слоўніка тэматычна згрупаваныя тэрміны першага тома падаюцца ўжо ў алфавітным парадку, прычым для зручнасці пазначаецца лічбай месца кожнага з іх, прыведзенае ў першым томе, а пералік тэрмінаў даецца асобна для кожнай са згаданых славянскіх моў, а таксама англійскай, французскай, нямецкай. Не ўсе зазначаныя беларускія лінгвістычныя тэрміны ўяўляюцца ўдалымі, бо некаторыя з іх служаць спрошчанымі калькамі з рускай мовы (параўн.: говорящий ‘гаворычы‘, апошняе беларускае слова можа быць і субстантывам, і дзеепрыслоўем, і дзеепрыметнікам) ці проста замежнымі словамі ў беларускай транскрыпцыі, што не знаходзяць шырокага прымянення ў беларускай лінгвістычнай літаратуры або нават у навейшых слоўніках беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі (параўн.: *дысфемізм, гендыядыс, брахілогія, каалесцэнцыя, пермутацыя, эндацэнтрычны кампазіт, трансфармацыя элімінацыі* і інш.), але найбольшая нязручнасць выкарыстання падобных лінгвістычных тэрмінаў палягае ў адсутнасці іх тлумачэнняў, дэфініцый, дарэчы не прадугледжаных мэтай слоўніка, што ў лучнасці з замежным выданнем робіць апошняе ў значнай ступені незапатрабаваным, маладаступным для шырокага кола чытачоў.

Занатаваная адсутнасць у разгледжаным слоўніку неабходнай інфармацыі кампенсавана ў “Слоўніку лінгвістычных тэрмінаў” (СЦЯЦКО 1990), дзе інвентарызаваны найбольш пашыраныя мовазнаўчыя тэрміны (па нашых падліках, 1655 адзінак, што значна менш, чым у пражскім выданні), якія выбраны з перыядычнага друку, слоўнікаў, манаграфій, беларускіх энцыклапедый і інш., практычна выкарыстоўваюцца пры выкладанні мовы ў ВНУ і сярэдняй школе. Галоўнае прызначэнне слоўніка, як мяркуюць яго аўтары, “даць тлумачэнне лінгвістычных тэрмінаў, а таксама сістэматызаваць і ў пэўнай ступені уніфікаваць лінгвістычную тэрміналогію беларускай мовы”. Значэнні дублетных, сінанімічных тэрмінаў і тэрмінаў з дакладна неакрэсленай семантыкай раскрываюцца шляхам спасылак на пашыраныя суадносныя лінгвістычныя адменнікі, якія і тлумачацца ў слоўніку, часам даволі падрабязна (параўн.: **неазначальныя займеннікі** гл. **няпэўныя займеннікі**; **чырвоны радок** *тое, што* **абзац**; **філалагічныя слоўнікі** гл. **лінгвістычныя слоўнікі** і г.д.). Тэрміны размешчаны па алфавіце, для запазычаных слоў часам падаецца крыніца іх паходжання (параўн.: **фармант** ад лацінскага formans – ‘утваральны‘; **фразеаграфія** грэчаскае phrasis ‘фраза‘+grapho ‘пішу‘; **цытата**

нямецкае Zitat ад лацінскага cito 'выклікаю, прыводжу'; **арго** французскае argot – 'жаргон'; **слэнг** англійскае 'жаргон'; **паўза** лацінскае pausa ад грэчаскага pausis 'прыпынак' і г.д.). У асобных артыкулах пераклад замежных слоў не прыводзіцца (параўн.: *жаргон* французскае і інш.). У некаторых выпадках тэрміны ілюструюцца прыкладамі іх ужывання ў лінгвістычнай літаратуры (параўн.: **тэрміналогія**... *Беларуская тэрміналогія*; **тэндэнцыя**... *Тэндэнцыя да эканоміі моўных сродкаў* і інш.), але значна часцей прыводзяцца прыклады ўжывання слоў, якія пакрываюцца адпаведным лінгвістычным тэрмінам (параўн.: **паэтычнае слова**... *Баян, ветразь, ліра, ясназоры, шумналісты, скрыжалі, чало* і інш.; **суплетыўныя формы**... *Чалавек – людзі, кепскі – горшы, я – мяне, гаварыць – сказаць* і інш.). Пры неаднолькавым разуменні сутнасці таго ці іншага загаловачнага мовазнаўчага тэрміна прыводзяцца яго тлумачэнні прадстаўнікамі розных лінгвістычных школ, напрыклад, **часціны мовы** і інш. Змест некаторых артыкулаў носіць энцыклапедычны характар, г.зн. раскрываецца сутнасць не толькі адпаведнага рэестравага слова (выраза), але і даецца інфармацыя пра ўзнікненне, напрыклад, пэўнай лінгвістычнай школы, прадстаўнікоў, што належаць да яе, даты станаўлення, месца заснавання і г.д. (гл. артыкулы: **Пражская лінгвістычная школа, структуралізм** і інш.). Значэнні лінгвістычных тэрмінаў часцей за ўсё раскрываюцца апісальным спосабам тыпу **частотнасць** 'паказчык частаты ўжывання ў вызначаных тэкстах таго ці іншага слова, канструкцыі' і да т.п., але выкарыстоўваюцца і гіперонімы (параўн.: **цюркскія мовы** 'сям'я роднасных моў'...; **час дзеяслова** 'граматычная катэгорыя дзеяслова'... і г.д.), і гіпонімы (параўн.: артыкул **школьныя слоўнікі,** дзе даецца пералік выдадзеных у краіне слоўнікаў для сярэдніх школ; **фазы артыкуляцыі** 'тры часткі артыкуляцыі гука: экскурсія, вытрымка і рэкурсія' і інш.) і сінонімы (параўн.: **функцыя**... 'роля, прызначэнне': **паняційны слоўнік** '*тое, што* **энцыклапедычны слоўнік**' і інш.).

У другой частцы слоўніка, значна меншай па памеры, даецца пераклад прыведзеных беларускіх лінгвістычных тэрмінаў на рускую мову (параўн.: **адназоўнікавы** 'отсубстантивный'; **акалічнасны** 'обстоятельственный'; **асоба** 'лицо'; **кіраванне** 'управление'; **лічэбнікавае прыслоўе** 'числительное-наречие'; **пабуджальны сказ** 'побудительное предложение'; **прыналежныя прыметнікі** 'притяжательные прилагательные' і г.д.). У спісе выкарыстаных крыніц прыводзіцца 12 беларускамоўных і іншамоўных слоўнікаў, энцыклапедый, у тым ліку згаданы "Слоўнік славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі", матэрыялы якога, аднак, не поўнасцю ўлічаны ў дадзеным айчынным выданні (колькасныя разыходжанні тычацца звыш 600 лінгвістычных тэрмінаў на карысць пражскай лексікаграфічнай крыніцы).

Беларуская лінгвістычная тэрміналогія прадстаўлена таксама ў перакладным руска-беларускім слоўніку (РУССКО-БЕЛОРУССКИЙ СЛОВАРЬ 1988), складзеным калектывам аўтараў (15 мовазнаўцаў з Гомеля і Мінска). Слоўнік уключае ў свой склад па нашых падліках 5166 рускіх рэестравых адзінак (тэрмінаў і тэрміназлучэнняў) і столькі ж іх перакладаў на беларускую мову, аднак гэта колькасць значна пашыраецца за кошт гнездавога спосабу пабудовы слоўнікавых артыкулаў, у выніку чаго пад адным словам-дамінантай прыводзіцца цэлы шэраг дэрывацыйна і тэматычна звязаных тэрмінаў. Напрыклад, у артыкуле **аффикс** 'афікс' змешчана 48 тэрмінаў тыпу *а. аглютынатыўны, а. унутрыкатэгарыяльны, а. зваротны, а. адзінкавы, а. жывы, а. малапрадукцыйны, а. нулявы, а. унікальны* і г.д.; а ў артыкул **морфема** 'марфема' уключаны 82, як правіла, састаўныя тэрміны; у артыкуле **язык** 'мова' месціцца 88 тэрмінаў і г.д.

Пераважная большасць рускіх і беларускіх лінгвістычных тэрмінаў супадае, бо грунтуецца на інтэрнацыянальнай лексіцы (параўн.: **географический метод**

‘геаграфічны метад‘, **герундий** ‘герундый‘, **жаргон** ‘жаргон‘, **изоморфа** ‘ізаморфа‘, **кимограф** ‘кімограф‘, **клише** ‘клішэ‘, **код** ‘код‘, **формула** ‘формула‘ і да т.п.). У тых выпадках, калі ў якасці лінгвістычнага тэрміна выкарыстана ўласна рускае слова (тэрміналагізаваная агульнаўжывальная лексема ці вытворнае слова або спалучэнне слоў), яно перакладаецца беларускім адменнікам (параўн.: **наклонение** ‘лад‘, **цепь** ‘ланцуг‘, **звук** ‘гук‘, **неблагозвучие** ‘немілагучнасць‘, **падеж** ‘склон‘, **отмеждометный глагол** ‘адклічнікавы дзеяслоў‘, **ударение** ‘націск‘, **придаточное предложение** ‘даданы сказ‘ і г.д.). Часта ў якасці лінгвістычных тэрмінаў ужываюцца агульнаславянскія лексемы ці вытворныя ад іх словы, або ўсходнеславянскія, што, зразумела, супадаюць у рускай і беларускай мовах толькі з адпаведнымі фанетычнымі (арфаграфічнымі), афіксальнымі ці граматычнымі адрозненнямі (параўн.: **родовое окончание** ‘родавы канчатак‘, **частицы** ‘часціцы‘, **цеканье** ‘цеканне‘, **увеличительное значение** ‘павелічальнае значэнне‘, **указательное слово** ‘указальнае слова‘, **приглушенный гласный** ‘прыглушаны галосны‘, **первое спряжение** ‘першае спражэнне‘, **переходность косвенная** ‘пераходнасць ускосная‘ і да т.п.). У асобных выпадках рускі лінгвістычны тэрмін мае неаднаслоўны пераклад на беларускую мову (параўн.: **речь** ‘маўленне, мова‘; **пояснение** ‘тлумачэнне, паясненне‘; **разговорное слово** ‘размоўнае, гутарковае слова‘; **проклитика постоянная** ‘праклітыка сталая, нязменная‘ і г.д.). Некаторыя пераклады рускіх састаўных тэрмінаў на беларускую мову робяцца з дапамогай несупадальных сінтаксічных канструкцый (параўн.: **поток речи** ‘моўная плынь‘, **слоўнік** ‘спіс слоў‘; **слово, выходящее из употребления** ‘слова, якое выходзіць з ужытку‘, **теория междометий** ‘тэорыя выклічнікавая‘ і інш.). Выдадзены слоўнік прэтэндуе быць нарматыўным, з’яўляецца на сённяшні дзень самым вялікім зборам беларускіх лінгвістычных тэрмінаў і здатны паслужыць зыходнай асновай для стварэння больш поўнага тлумачальнага слоўніка тэрмінаў беларускай навукі аб мове, чым разгледжаная вышэй беларуская лексікаграфічная праца. Тым больш, што нягледзячы на свой другасны характар (беларуская тэрміналогія служыць не рэестравай, а перакладной, цалкам падладжанай пад іншую мову), слоўнік чамусьці не ўключае ў свой склад мноства інтэрнацыяналізмаў (каля 2000), адзначаных у рускіх лінгвістычных слоўніках (гл.: АХМАНОВА 1969) тыпу (толькі на літару а) *афеза, ауслаут, афемия, аугмент, аппликатив, апекс, антикаданс* і да т.п.

## 12.5. ЛІНГВІСТЫЧНЫЯ СЛОЎНІКІ

Перакладныя і тлумачальныя слоўнікі прызначаны для шырокага кола карыстальнікаў рознай прафесіі, узросту, сацыяльнага стану і г.д. Тэрміналагічныя слоўнікі закліканы задавальняць прафесійныя патрэбы спецыялістаў пэўнай галіны ведаў. Пераважна для моваведаў, філолагаў, навучэнцаў ствараецца мноства разнастайных уласна лінгвістычных слоўнікаў, у якіх разгортваюцца шматлікія фармальныя, семантычныя, структурныя і іншыя ўласцівасці лексем. Так, сінонімы шырока выкарыстоўваюцца ў беларускай лексікаграфіі як метамоўны сродак для розных тыпаў слоўнікаў, і ў прыватнасці для тлумачальных і перакладных, але, па сутнасці, першы і на сёння адзіны слоўнік сінонімаў сучаснай беларускай мовы апублікаваны толькі ў 1976 годзе (другое выданне: КЛЫШКА 1993). У зыходнай левай частцы слоўніка змешчана каля 1900 рэестравых (дамінантных) лексем, якія сінанімізуюцца ў правай частцы больш як 11 000 словамі і выразамі (фразеалагізмамі). Адметнай рысай слоўніка служыць, па-першае, багаты ілюстрацыйны матэрыял, прадстаўлены прыкладамі, выпісанымі з твораў прыблізна 150 беларускіх пісьменнікаў (празаікаў, паэтаў, драматургаў), што адносяцца да адных са

стваральнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы; па-другое, сінанімізацыя службовых слоў (прыназоўнікі, злучнікі) тыпу *як – быццам, чым; чым – чымся, як; цераз – праз, скрозь* і інш.; па-трэцяе, наяўнасць даволі вялікай колькасці слоў, звязаных адносінамі род – від (параўн.: *валасы – хахол; непагадзь – хлюпа; ствол – камель; стрэльба – карабін, абрэз* і да т.п.), што, зразумела, не падпадае пад пашыранае вызначэнне сінонімаў як слоў, эквівалентных ці блізкіх па значэнню.

Сінанімічныя рады размешчаны ў слоўніку паводле алфавіту дамінантных (загаловачных) лексем, пасля якіх у адпаведных даволі добра распрацаваных артыкулах размяшчаюцца стылістычна нейтральныя сінонімы, раздзеленыя адзін ад аднаго коскай, далей размешчаны сінонімы, якія належаць гутарковаму стылю, кніжнаму, потым – устарэлыя словы, фальклорныя, словы з іранічным, пераносным значэннем, і фразеалагізмы, напрыклад: **здраднік**, *прадажнік, прадаўца, адступнік, адшчапенец, правакатар; пераверцень (разм.); здрайца (абл.); юда (пагард.); выхрыст, пярэхрыст, хрыстапрадавец, клятваадступнік (перан.); прадажная душа, прадажная псіна* і да т.п.). Усе зазначаныя словы розных стылістычных пластоў лексікі раздзяляюцца кропкай з коскай, суправаджаюцца паметамі тыпу *разм.* ‘размоўнае‘, *абл.* ‘абласное‘, *перан.* ‘пераноснае‘, *пагард.* ‘пагардлівае‘ і да т.п. Асобныя сінонімы і словы, што ўтвараюць унутры сінанімічнага рада пэўную групу, аддзяляюцца касяком, пасля якога фармулюецца асаблівасць дадзенага сіноніма ці групы сінонімаў (параўн.: **страляніна**, стральба, агонь / па цэлі: *абстрэл* / з двух бакоў: *перастрэлка* / з гармат: *кананада; пальба* (разм.) і г.д.

У кожным слоўнікавым артыкуле спачатку пералічваюцца сінанімічныя словы і выразы для дамінантнай лексемы, а затым прыводзяцца прыклады выкарыстання кожнага прыведзенага сіноніма ў сучаснай беларускай літаратуры з адпаведнай пашпартызацыяй (імя аўтара), напрыклад: **лёгкі**, *нескладаны; плёвы* (*разм.*); *не бі ляжачага. Ой, ды лёгкай службы нідзе не бывае*... Я.Купала. *Але і на гэтыя нескладаныя пытанні ён адказваў сумыслу трохі блытана, каб паказаць сваю дурноту*. Я.Колас. *Яно, каб добры конь, дык гэтая мая сяўба – плёвая справа.* К.Чорны. *Хоць грошы невялікія, але і работа не бі ляжачага.* А.Асіпенка і г.д.

Слоўнік заканчваецца індэксам, дзе па алфавіце пералічваюцца ўсе лексемы, якія ўваходзяць у прыведзеныя сінанімічныя рады. У самім слоўніку такія рады уключаюць у сябе ад двух слоў тыпу *спрыяльны, дабратворны; ссаць, смактаць; расцэнка, такса* і г.д. да 126 сінанімічных слоў і выразаў для дамінантнай лексемы *хутка.* У выданні прадстаўлена, акрамя слоў з мастацкай літаратуры, лексіка навуковай літаратуры, перыёдыкі, фальклору, дыялектаў. Слоўнік нельга прызнаць нарматыўным, бо ў ім побач з сапраўднымі сінонімамі прадстаўлены лексемы з гіпероніма-гіпанімічнымі і тэматычнымі адносінамі (параўн.: *яда, дэсерт, аб’едкі; лакаматыў, электравоз; шафа, сейф; лес, алешнік; шаравары, галіфэ; лапата, шуфель; цеплавоз, паравоз* і інш.). Больш дакладна слоўнік можна вызначыць як тэматычны і сінанімічны, тым больш, што ў славянскай лексікаграфіі ўжо створаны працы адпаведнага тыпу (гл.: ČESKÝ SLOVNIK 1974), дзе ў адным артыкуле змяшчаюцца і тэматычна роднасныя, і сінанімічныя словы, напрыклад, прадметная тэма “Верхняе мужчынскае адзенне” ўключае ў свой склад і сінонімы тыпу kalhoty, nohavice, rozkrok і інш. ‘штаны‘, і тэматычна роднасныя словы тыпу svetr ‘швэдра‘, plášť ‘плашч‘, kožich ‘кажух‘, zimnik ‘зімняе паліто‘ і інш. У цяперашні час у Інстытуце мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі ствараецца шасцітомны слоўнік сінонімаў беларускай мовы, што сведчыць пра надзвычай багатыя сінанімічныя рэсурсы нашай мовы.

Арыгінальная лексікаграфічная праца (АНІЧЭНКА 1999) па сінанімізацыі дыялектнай лексікі беларускай мовы створана ў айчынным мовазнаўстве. Адметнасць выдадзенага ў Гомелі слоўніка палягае ў тым, што дамінантамі служаць словы

літаратурнай мовы, а іх сінонімамі – шматстайныя рэгіяналізмы, колькасць якіх у асобных артыкулах перавышае сотні найменняў. Напрыклад слова *чалавек* мае 562 народна-дыялектныя адпаведнікі, праўда, далёка не ўсе з якіх можна прызнаць сінонімамі ў традыцыйным вызначэнні, бо гэтыя адпаведнікі па-рознаму матываваны (параўн.: *здохліца, шчарбач, свінтос, лысач, цяцера, ваўкач, смярдзюха, уломак, цюхцяй, зняверца, подбрэхач* і г.д.). У іншых артыкулах прыведзеныя словы неаднолькава прадстаўляюць у мове зыходную рэалію нават з ідэаграфічнага пункту гледжання (параўн.: **жанчына** – *вясёлка, хударэба, пампуха, хітрыца, стаўбеня, разведуха, працавітка, грызуння, ануча, рабка, цыцоха* і інш.); тое ж тычыцца і іншых загаловачных лексем, якія сінанімізуюцца вялікай колькасцю рэгіяналізмаў (параўн.: **мужчына** – *малажак, гэган* ‘даўгавязы‘, *махляк* ‘бязвольны‘, *аспіднік* ‘злы‘, *даўбень* ‘незразумелы‘, *апялюха* ‘глухі‘, *лупсей* ‘губаты‘, *бабіч* ‘падобны да бабы‘ і інш.).

Народна-дыялектная лексіка, сабраная ў слоўніку, мае лінгвістычную каштоўнасць не толькі з пункту гледжання колькасці прадстаўленага матэрыялу, што сведчыць пра ступень важнасці адпаведных рэалій (чым больш найменняў, тым істотней дадзеная рэалія для чалавека) і пра невычэрпнасць лексічнага багацця нашай мовы, але і з пункту гледжання захавання светапогляду нашых продкаў, бо ў большасці дыялектных слоў захоўваецца цікавая матывацыя, заснаваная на ўліку разнастайных уласцівасцяў тых ці іншых рэалій. Так, дыялектныя назоўнікі захоўваюць адметную матывацыю, якая або страчана, або знаходзіцца ва ўтоеным стане для многіх літаратурных слоў, асабліва запазычаных (параўн. рэестравыя літаратурныя і дыялектныя адпаведнікі: *багна* і *тапіла, гарэзнік* і *ёрза, вясёлка* і *сяміцветка, падлетак* і *вырастак, пасажыр* і *сядак, патэльня* і *скварніца, паштальён* і *лістанос, рапля* і *пашніца, рымар* і *хамутар, сабака* і *кусака, мішэнь* і *цэльнік, тапачкі* і *басавікі, цыпкі* і *рэпанкі* і г.д.). Асаблівую фармальную і семантычную ёмістасць дыялектныя найменні захоўваюць пры адсутнасці аднаслоўнай намінацыі пэўнай рэаліі ў літаратурнай мове (параўн.: майстар па вырабу цэглы – *цагляр*, кафлі – *кафляр*, нажоў – *нажароб*, кашоў – *кашавік*, гаршкоў – *гаршэчнік* і г.д.; асобы па знешняму выгляду: *даўгель* ‘высокі‘, *чаплік* ‘нізкі‘, *таран* ‘хударлявы‘, *клыпша* ‘кульгавы‘, *гарбыль* ‘сутулаваты‘, *пэцкала* ‘неакуратны‘, *губель* ‘губаты‘, *пухныр* ‘таўстаморды‘ і г.д.

Вялікім багаццем характарызуюцца народныя найменні роднасці і сваяцтва, якія захавалі не толькі сваю матывацыю, але і страчаныя або адсутныя ў літаратурнай мове аднаслоўныя назвы адпаведных паняццяў ці рэалій (параўн.: *дачча́нка* ‘дачка брата‘, *сестраніца* ‘дачка сястры‘, *пасёстра* ‘дваюрадная сястра‘, *браціха* ‘жонка брата‘, *вуяшак* ‘дваюрадны брат‘, *мацене* ‘сын з рысамі маці‘, *сарадульшы* ‘сярэдні брат‘ і інш.). Для многіх запазычаных літаратурных слоў у беларускіх гаворках маюцца ёмістыя матываваныя адпаведнікі тыпу *некралог – пасмерце, хранометр – часамер, дыябет – цукровіца, іронія – злосмех, тэмпература – гарачка, малярыя – трасуха, кампраміс – угода, астма – удуха, ліманад – фруктоўка, вестыбюль – перадпакой* і інш. У дыялектах захоўваюцца багатыя афіксальныя і бессуфіксальныя сродкі ўтварэння слоў (параўн. літаратурныя і дыялектныя адпаведнікі: *гаварун – гаварэц, ілгун – лгач, скрыпач – скрыпак, спявак – спявун, хадок – хадар, брыдкасць – брыд, дасягненне – дасяг, зацішак – заціш* і інш.), адзначаюцца граматычныя несупадзенні дыялектных і літаратурных слоў (параўн.: *абутак – абуўка, позва – позаў, сухоты – сухота, запрашэнне – запросіны* і інш.). Дыялектныя сінанімічныя найменні, прадстаўленыя ў згаданым слоўніку, і тыя, што яшчэ трэба сабраць, абагульніць, апрацаваць і аформіць у выглядзе лексікаграфічнага даведніка, уяўляюць сабой, па сутнасці, невычэрпную крыніцу папаўнення лексічных рэсурсаў беларускай літаратурнай мовы.

Антанімічныя словы зрэдку выкарыстоўваюцца ў беларускай лексікаграфіі для тлумачэння слоў, супрацьлеглых па значэнню, але першы слоўнік антонімаў створаны і надрукаваены толькі ў наш час (ЛАЗОЎСКІ 1994), уключае у свой склад больш 2000 артыкулаў, дакладней антанімічных пар тыпу *гарачы – халодны, далёка – блізка, маладосць – старасць, любіць – ненавідзець*, або кантрастныя словы ўсіх знамянальных часцін мовы. Дарэчы столькі ж антанімічных пар адзначаецца і ў слоўніку антонімаў рускай мовы (ЛЬВОВ 1978). Антанімічныя адносіны ўзнікаюць паміж словамі, якія абазначаюць супрацьлеглыя пункты на шкале аднародных паняццяў (якасць, стан, час і інш.) і дапускаюць наяўнасць сярэдняга члена (параўн.: *учора – сёння – заўтра; малады – сталы – стары* і да т.п.). У гэтых выпадках антанімічныя адносіны могуць утварацца не толькі паміж крайнімі словамі адпаведнай шкалы (параўн.: *учора – заўтра, малады – стары* і да т.п.), але і паміж гэтымі словамі і сярэднім членам (параўн.: *учора – сёння, сёння – заўтра, малады – сталы* і інш.), што і фіксуецца ў межах пэўных слоўнікавых артыкулаў. Паміж некаторымі тыпамі антонімаў устаўка сярэдняга члена немагчыма (параўн.: *жанаты – халасты, жыццё – смерць* і інш.), такія антонімы называюцца камплементарнымі; яны ў слоўніку падаюцца адпаведнымі парамі, члены якіх, аднак, могуць кантраставаць з іншымі лексемамі тыпу *жывы – забіты, жывы – загінуўшы, жывы – нежывы.* Антонімы-канверсівы выражаюць розныя бакі аднаго і таго ж дзеяння, унутрана абумоўлены абавязковай наяўнасцю двух суб'ектаў, утваральнікаў дзеяння з супрацьлеглымі функцыямі тыпу *купіць – прадаць, выйгрыш – пройгрыш, даць – узяць, атака – абарона* і да т.п. Слоўнік пабудаваны на ілюстрацыйным матэрыяле, выбраным з мастацкіх твораў беларускай літаратуры [параўн.: *Ружы, піжмы і палыны зацвіталі і адцвіталі* (Чорны); *Або сёння, або заўтра на рацэ прачнецца лёд* (Гіль); *Поп на купіне завіс і – ні ўгору ні ўніз* (Колас) і да т.п.], публіцыстычных і перыядычных выданняў [параўн.: *Тэмпы работы мінскіх метрабудаўнікоў ускладняліся яшчэ і ...неаднастайнасцю грунту, яго мяккасцю і цвёрдасцю* ("Вячэрні Мінск"); *Правамернасць або неправамернасць дзеянняў гэтых следчых вырашаць не журналістам і не грамадскасці* ("Звязда"); *Барацьба паміж прыхільнікамі і праціўнікамі рэформ дасягнула свайго апагею* ("ЛіМ")], фальклорных тэкстаў і фразеалагізмаў [параўн.: *Не на ўсякую загадку можна мець адгадку* (Прыказка); *Разумнаму навука прыбаўляе розуму, а дурню – дурасці* (Прыказка); *Валасы доўгія, а розум кароткі, Біцца не на жыццё, а на смерць* і г.д.], што служыць прычынай, з аднаго боку, некаторай непаўнаты слоўніка, бо не на кожную пару наяўных у мове антонімаў можна падабраць ілюстрацыю з адпаведнай тэкставай крыніцы (параўн.: адсутнасць антонімаў тыпу *пісьмовы – вусны, агент – контрагент* і інш.), а з другога – уключэнне ў яго склад лексем, якія служаць толькі кантэкстуальнымі антонімамі і не з'яўляюцца такімі ў моўнай сістэме (параўн.: *прытуліцца – адштурхнуцца, знікаць – бліскаць, ачуньваць – хварэць, нарадзіцца – зніκнуць, пакуты – асалода, праклінаць – маліцца, спаліць – астудзіць, фактычны – фармальны, хітры – дурны* і інш.). Дзеясловы, дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі прыводзяцца ў формах закончанага і незакончанага трывання (параўн.: *закрыць – адкрыць* і *закрываць – адкрываць; задрамаць – прабудзіцца* і *задрэмваць – прабуджацца*; *заплюшчваючы – расплюшчваючы* і *заплюшчыўшы – расплюшчыўшы* і г.д.). Прыметнікі прыводзяцца ў форме адзіночнага ліку мужчынскага роду, аднак паказваюцца скарочана і канчаткі жаночага і ніякага роду без указання ліку, што тым не менш неабходна ўлічваць пры ілюстрацыі адпаведных антанімічных пар канкрэтнымі прыкладамі, дзе супрацьпастаўляцца могуць і словы з розным лікам тыпу *звычайны – незвычайны. Давялося толькі гадзіну-другую павазіцца, каб прыстасаваць хоць з большага для незвычайных мэт звычайную сялянскую вупраж, зусім далёкую ад свайго вайсковага ўжытку* (Чыгрынаў).

Зазначаны "Слоўнік антонімаў беларускай мовы" ўяўляецца карысным лінгвістычным даведнікам найперш з пункту гледжання прадстаўленага тут канкрэтнага моўнага матэрыялу, што ілюструе разнастайныя выпадкі кантраснага ўжывання слоў у беларускай мастацкай, публіцыстычнай, фальклорнай літаратуры, а таксама з пункту гледжання антанімізацыі аднаго і таго ж слова з рознымі іншымі лексемамі (параўн.: *малы – вялікі, малы – дарослы, малы – стары, малы – старэчы; новы – былы, новы – стары, новы – ранейшы, новы – даўні; радасць – бяда, радасць – гора, радасць – горыч, радасць – жаль, радасць – жалоба, радасць – журба, радасць – засмучэнне, радасць – нуда, радасць – скруха, радасць – смутак, радасць – сум, радасць – туга* і інш.), у выніку чаго ў беларускай мове фіксуюцца акрамя антанімічных пар і багатыя антанімічныя блокі лексем.

Такі ж памер (каля дзвюх тысяч слоўнікавых артыкулаў) мае і "Слоўнік амонімаў беларускай мовы" (СТАРЫЧОНАК 1991), куды ўключаны лексемы аднолькавыя па гучанні (напісанні), але розныя па значэнні. Галоўная праблема складання падобнай лексікаграфічнай працы палягае ў вызначэнні адрозненняў з'явы сінаніміі і полісеміі, змяшэнне якой адзначаецца ва ўсіх тлумачальных слоўніках, створаных рознымі аўтарамі, і нават у адным і тым жа слоўніку. Так, дзеяслоў *перакласці* ў ТСБМ разглядаецца як полісемант з шасцю рознымі значэннямі, а вытворнае слова *паперакладаць* кваліфікуецца ў якасці амоніма. Згаданую праблему аўтар імкнецца вырашыць найперш на аснове семантычнага крытэрыя ў сінхронным плане мовы, г.зн. без уліку магчымых гістарычных сувязяў семантыкі пэўных амонімаў, што раней былі полісемантамі, ці рознымі значэннямі аднаго слова. Дадзены крытэрый даволі хісткі, у значнай ступені суб'ектыўны, таму аўтар часам часткова імкнецца ўлічваць і іншыя крытэрыі размежавання полісеміі і аманіміі як фармальныя (дыстрыбутыўныя, дэрывацыйныя, трансфармацыйныя і інш.), так і сэнсавыя (тэматычныя, сінанімічныя, кантэкстуальныя і інш.). Самыя значныя групы амонімаў складаюць, папершае, гамагенныя, якія ўзніклі ў выпадку распаду полісеміі [параўн.: *лаўка* 'прыстасаванне для сядзення' і 'невялікі магазін'; *мех* 'мяшок' і 'прыстасаванне для нагнятання паветра'; *уцякаць* 'упадаць (пра раку, ручай)' і 'паспешліва ісці, збягаць, хавацца' і інш.]; па-другое, гетэрагенныя (этымалагічныя) амонімы, што ўтварыліся шляхам выпадковага супадзення па гучанні розных слоў беларускай мовы (параўн.: *галка* 'птушка' і 'шарык, скачаны з якога-небудзь мяккага рэчыва'; *рубіць* 'падшываць адзенне' і 'будаваць з бярвення' і інш.); часта гетэрагенныя амонімыназіраюцца ў межах розных навуковых дысцыплін (параўн.: *ячмень* батаніка 'збожжавая культура' і медыцына 'гнойнае запаленне павека'; *утора* тэхніка 'паз, нарэзка' і музыка 'другі голас у музычнай партыі' і інш.); ці ў выніку супадзення літаратурных і дыялектных слоў (параўн.: *гіль* 'снягір' і 'конскі авадзень'; *стрэчны* 'сустрэчны' і 'стрыечны, дваюрадны' і інш.), ці беларускіх і запазычаных слоў (параўн.: *лейка* 'сасуд у выглядзе вядра з вузкай трубкай' і 'разнавіднасць фотаапарата'; *рубка* 'дзеянне паводле дзеяслова *рубіць*' і 'надбудова на палубе судна для кіравання ім' і інш.), патрэцяе, словаўтваральныя, або дэрывацыйныя, амонімы, якія ўзнікаюць на базе аднаго ці некалькіх розных слоў суфіксальна-прэфіксальным спосабам (параўн.: *расчасаць* – ад *часаць* 'расправіць, прыгладзіць грэбнем валасы' і 'высечы сякерай'; *адсыпаць* – ад *сыпаць* і *спаць*; *кармавы* – ад *карма* і *корм* і інш.), па-чацвёртае, лексіка-граматычныя амонімы, якія ўтвараюцца ад слоў розных часцін мовы (параўн.: *буры* 'шаравата-карычневы' і 'нашчадкі каланістаў'; *варта* 'ахова, каравул' і 'неабходна'; *люты* 'злы, жорсткі' і 'другі месяц года' і інш.). Усе зазначаныя тыпы амонімаў маюць у слоўніку спецыяльныя лічбавыя паметы, ілюструюцца адпаведнымі прыкладамі ўжывання (сказамі і словазлучэннямі), напрыклад: **мыт** 'падатак, пошліна'. *Плацілі мыт за правоз тавараў за мяжу*; **мыт** 'хвароба ў коней'. *Мыт суправаджаецца запаленнем слізістай абалонкі насаглоткі*: **кант** 'востры

бераг, край, рабро чаго-небудзь'. *Кант стала, кант рыдлёўкі*; **кант** 'пахвальнае песнапенне'. *Пець канты, царкоўны кант* і інш.; суправаджаюцца граматычнымі паметамі (часцінамоўнымі, а таксама ўказваецца трыванне для дзеяслова, род, лік для назоўніка) і стылістычнымі (сфера ўжывання амонімаў, прыналежнасць да тэрытарыяльнай разнавіднасці мовы, канатацыйная характарыстыка, адносіны да часу ўжывання ў сінхронным зрэзе), указваецца крыніца запазычвання для замежных слоў. Прыблізна чвэрць змешчаных амонімаў (звычайна вытворныя) мае адсылачныя спасылкі да іншых, як правіла, невытворных слоў, пры якіх і прыводзіцца ўся разгледжаная лінгвістычная інфармацыя. Слоўнік прызначаны не толькі для спецыялістаў, навучэнцаў, але і для ўсіх прыхільнікаў беларускага слова.

"Слоўнік паронімаў беларускай мовы" (ГРАБЧЫКАЎ 1994) уключае ў свой склад звыш 3300 блізкіх па гучанню, але, па меркаваннях аўтара працы, адрозных па значэнню слоў тыпу *індзейцы – індусы – індыйцы; статыстычны – статычны; развараны – разварны – разварысты* і да т.п., кожнаму з якіх даецца тлумачэнне і прыводзіцца ілюстрацыя. Знешняе падабенства лексем нярэдка вядзе да блытаніны іх вуснага ўжывання (напрыклад, *выразаць апендыцыт* замест *выразаць апендыкс*), сустракаецца гэта з'ява (паранімія) і на старонках друку. У дадзенай лексікаграфічнай працы паронімамі лічацца не толькі аднакаранёвыя словы адной часціны мовы з аднолькавымі граматычнымі прыкметамі і адным і тым жа месцам націску тыпу *генеральны – генеральскі, адрасант – адрасат, сірацець – сіраціць*, але і блізкія па гучанні словы, якія маюць несупадальныя лінгвістычныя прыкметы (параўн.: *прыгоннік – прыгонны, эфектны – эфектыўны, маляр – муляр* і да т.п.). Зазначым усё ж, што паронімы трэба характарызаваць не столькі як словы падобныя па форме (гучанню), і розныя па значэнні, колькі як словы знешне блізкія і суадносныя па значэнні, звязаныя ім, падобныя ў нечым, бо інакш у склад слоўніка неабходна было б уключыць безліч іншых супадальных па гучанні, але адрозных па семантыцы слоў тыпу *код* і *кот*, *банька* і *банка, рысь* і *рыс, сталь* і *стыль, павет* і *павець, мол* і *моль* і інш. У пераважнай большасці артыкулаў пэўная семантычная сувязь паміж прыведзенымі паронімамі захоўваецца, але сустракаюцца выпадкі і адсутнасці сэнсавага падабенства пэўных слоў [параўн.: **віжаваць** 'сачыць, наглядаць, цікаваць' і **візаваць** 'ставіць на дакументах спецыяльную адзнаку – візу'; полісемант **віраж** 'паварот спартыўнай дарожкі з нахілам унутр' і **вітраж** 'узор у вокнах, дзвярах са шкла рознага колеру'; **кобра** 'вельмі ядавітая змяя вялікіх памераў з плямамі на шыі, жыве ў Азіі і Афрыцы' і **корба** 'ручка, якой прыводзяць у рух што-небудзь'; **пергамент** 'спецыяльна апрацаваная цялячая скура, на якой пісалі да вынаходства паперы' і **перманент** 'доўгатэрміновая завіўка валасоў'; **раунд** 'у боксе: прамежак часу (звычайна тры мінуты), на працягу якога адбываецца адна схватка бою' і **раут** 'урачысты званы вечар, прыём' і г.д.)], якія на гэтай падставе цяжка прызнаць паронімамі.

Значэнне паронімаў раскрываецца або шляхам іх сціслага тлумачэння (параўн.: **бліскавіца** 'разрад атмасфернай электрычнасці ў выглядзе яркай звілістай лініі' і **бліскаўка** 'маленькі бліскучы кружок для ўпрыгожвання адзення' і да т.п.), або шляхам іх сінанімізацыі (параўн.: **загадкавы** 'незразумелы, непазнаны, таямнічы' **захаванасць** 'цэласць, непашкоджанасць'; **ялавы** 'бясплодны, неаплоднены' і да т.п.); полісеманты выдзяляюцца арабскімі лічбамі, асобна прыводзяцца, амонімы, сінонімы, антонімы (параўн.: сінонімы *падзёнка – аўсянік, матэрыяльны – рэчыўны*; амонімы **віраж** 'паварот з крэнам самалёта, карабля або паварот на крывой аўтамабіля, веласіпеда і г.д'. і **віраж** 'раствор для апрацоўкі фотаадбіткаў'; антонімы *ўдыхнуць* і *выдыхнуць* і інш.). Артыкулы ілюструюцца адпаведнымі прыкладамі з твораў мастацкай літаратуры, вучэбных дапаможнікаў, перыядычных выданняў (параўн.: **духата** 'гарачае душнае надвор'е; душнае паветра'. *Духата і пыл*

*гарадскіх вуліц гналі людзей ў поле, да мора, на чыстае паветра.* Ц.Гартны; **духмянасць** 'прыемны пах, водар'. *Паветра цякло шырокімі струменямі: то цёплае, напоенае пахам смалы і духмянасцю траў, то вільготнае'.* І.Шамякін; **дэфектны** 'пашкоджаны, сапсаваны, з дэфектам'. *Значна палепшылася афармленне друкаванай прадукцыі, знізілася колькасць дэфектных экземпляраў кніг, якія паступілі ў гандлёвую сетку.* "Звязда"; **дэфектыўны** 'ненармальны, з фізічнымі або псіхічнымі недахопамі'. *Было модна насіць міні-спадніцы – і асобы жаночага полу, як на нейкіх дэфектыўных людзей, пазіралі на тых, хто хадзіў у доўгай спадніцы.* "ЛіМ"), або тыповымі словазлучэннямі (параўн.: **грабарны** 'прызначаны для земляных работ'. *Грабарны інструмент* і **грабарскі** 'які мае адносіны да грабара, належыць яму'. *Грабарскае ўменне, Грабарская сумка* і да т.п.).

Усе паронімы пазначаны націскам, для некаторых дзеясловаў указваецца кіраванне (параўн.: *крывіць* што; *румяніць* каго-што; *крыўдзіць* каго і інш.; даюцца граматычныя паметы для пэўных назоўнікаў тыпу *хворост* зборны, *восці* адз. няма, даюцца стылістычныя паметы тыпу *крывець* разм.; *міграцыя* спец.; *шляхетны* уст.; *чарніць* перан. і інш.). У канцы слоўніка даецца індэкс усіх прыведзеных у працы паронімаў з указаннем адпаведных старонак іх ужывання.

Паранімічныя адносіны ўзнікаюць не толькі паміж словамі адной мовы, але і паміж словамі розных моў, у прыватнасці беларускай і рускай (параўн.: **люты** 'другі месяц каляндарнага года' і **лютый** 'злой, свирепый, беспощадный'; **пячаць** 'пячатка' і **печать** 'напечатанные произведения, периодические издания, издательское дело' і да т.п.), што адлюстроўваецца ў спецыяльных двухмоўных слоўніках (гл.: ГРАБЧИКОВ 1980). Слоўнікі эпітэтаў беларускай мовы (гл.: ГАЎРОШ 1998) і беларускай літаратурнай мовы (гл.: ПАЗНЯКОЎ 1988) у першым выпадку прыводзяць вобразныя азначэнні (каля 18 000) да 235 рэестравых назоўнікаў, у другім выпадку – да 400 найбольш ужывальных назоўнікаў беларускай мовы. У абодвух слоўніках зазначаюцца і агульнамоўныя эпітэты (параўн.: **радасць** – *бязмежная, празрыстая, звонкая* і інш.), і індывідуальна-аўтарскія тыпу *жураўлінае, самалётнае неба* і інш., і фальклорныя тыпу *ясная зара, краснае лета, чорны сум* і інш.

У склад "Слоўніка эпітэтаў беларускай мовы" ўключаны не толькі прыметнікі, дзеепрыметнікі, дзеепрыметнікавыя і прыметнікавыя словазлучэнні (параўн.: *сінявокая ноч, асірацелы дуб, вартая ўсяго жыцця радасць* і да т.п.), але і назоўнікі-прыдаткі тыпу *лес-волат, ночка-цыганка, ліст-бедачок* і інш., і спалучэнні прыслоўяў з прыметнікамі і прыслоўяў з дзеепрыметнікамі тыпу *вечна юная вясна, радасна насцярожаныя дні* і інш. Да рэестравых слоў падаюцца варыянты тыпу *бляск (блеск), даль (далеч, далячынь), цішыня (ціша, ціш)* даецца іх (слоў) азначэнне і прыводзяцца эпітэты да іх. Полісеманты выдзяляюцца лічбамі тыпу **агонь** 1. Полымя, святло ад таго, што гарыць; адсвечванне; 2. Унутраны стан, перажыванні чалавека, пачуццё, хваляванне; 3. Цвіценне; 4. Стральба, абстрэл. Спачатку прыводзяцца дадатныя азначэнні-эпітэты тыпу **сон** – *бестурботны, гаючы, глыбокі, моцны, радасны* і інш., потым адмоўныя тыпу *нервовы, ліпкі, хваравіты, цяжкі* і да т.п.; для слоў, што не адносяцца да нейтральных, даюцца стылёвыя паметы: *аўт.* 'індывідуальна-аўтарскі' (параўн.: **песня** *стогалосая, тысячазвонкая* і да т.п.), *нар.-паэт.* 'народна-паэтычнае' (параўн.: *світанне яснавокае, вецер вольны* і да т.п.), *паэт.* 'паэтычнае' (параўн.: *світанне сінявокае, вецер крылаты* і да т.п.), *разм.* 'размоўнае' (параўн.: *доля нязнаная, вочы вырачаныя* і да т.п.), *устар.* 'устарэлае' (параўн.: *век залаты* і інш.).

У якасці ілюстрацый служаць цытаты з мастацкіх твораў беларускіх пісьменнікаў (параўн.: *Ты стаіш, Беларусь, завадская, зубрыная.* Г.Бураўкін; *Вясёлы вятрыска вітаўся з кустамі.* Н.Гілевіч; *Часамі хмурнаю вясною цяплом павее, цішынёю.*

Я.Колас; *Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы ў ціхую сінюю ноч.* М.Багдановіч і інш.), а таксама часам з мастацка-публіцыстычных і публіцыстычных твораў і выданняў (параўн.: *А сэрца стомленае больш не плача, гаротнае, ужо болей не баліць.* "Маладосць"; *З кожным новым пытаннем у душы чалавека падымалася ярасная хваля.* "Полымя" і інш. Да асобных найбольш ужывальных слоў тыпу *вочы, песня* падаецца больш за 300 эпітэтаў. Для зручнасці карыстальніка ўсе эпітэты падзелены на тэматычныя групы тыпу форма, час, колер, псіхалагічнае ўспрыманне і да т.п. (параўн.: **месяц** – *востры, двухрогі, круглаліцы* і інш.; *жнівеньскі, малады, ранні* і інш.; *белы, зялёны, ясны* і інш.; *адзінокі, вільготны, заплаканы* і інш.). У слоўніку адсутнічаюць акцэнталагічныя і граматычныя паметы як для рэестравых слоў, так і для эпітэтаў, а таксама за рэдкім выключэннем паказчык ліку (параўн.: **крок** ...– *дробныя* мн.), змяшчаецца спіс рэестравых слоў і эпітэтаў, спіс аўтараў і тэкстаў, з якіх узяты прыклады.

Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы ілюстрыруецца ў дадатак да мастацкіх і публіцыстычных твораў прыкладамі з беларускага фальклору (параўн.: *Зацінліваму каню пуга не паможа.* Прыказка, і інш.), а самі рэестравыя словы не тлумачацца, іх значэнне характарызуецца толькі ў выпадку полісеміі (параўн.: **сон** 1. Спачын. 2. Тое, што сніцца, мроіцца і інш.).Эпітэты падаюцца ў алфавітным парадку, прычым у іх склад уключаюцца і назоўнікі ў значэнні прыслоўяў тыпу *бровы дугой, вусны банцікам, вусы падковай* і інш.). У межах кожнага артыкула эпітэты размеркаваны на тэматычныя групы як і ў "Слоўніку эпітэтаў беларускай мовы". Ілюстрацыі прыводзяцца толькі для тых назоўнікаў, якія характарызуюцца некалькімі эпітэтамі ў адной цытаце, а таксама якія складальнік лічыць індывідуальна-аўтарскімі, свежымі, малаўжывальнымі (параўн.: *Рот ружовы і вельмі прыемны для пацалункаў, вясёлы і прынадны.* У.Караткевіч; *Вакол было мора – шырокае, асляпляльнае, гулкае.* Е.Лось, і інш.). Аднак у цэлым задэкляраваны аўтарам прынцып падбору ілюстрацый не ўсюды вытрымліваецца, бо часта сустракаюцца прыклады даволі ўжывальныя і не вельмі свежыя, яркія (параўн. ілюстрацыі для слоў *сірата, смех, мора* і інш.: *Пад мацярынскім вокам Н.К.Крупскай раслі дамы для беспрытульных сірот.* "Работніца і сялянка"; *Смех шчаслівы ходзіць па прыгорках.* Я.Колас; *Бязмежнае роднае мора, ляцяць альбатросы ляцяць.* М.Хведаровіч; гл. таксама прыклады, дзе *апладысменты – бурныя, асіна – горкая, дуб – высокі, душа – чыстая, дым – белы, ёлка – цёмная, жыта – спелае, задача – актуальная, каса – чорная* і інш.). Некаторыя прыведзеныя эпітэты нельга прызнаць удалымі, і яны, зразумела, не ілюстрыруюцца адпаведнымі прыкладамі (параўн.: *смех – нізкалобы, мова – бязмоўная, намёк – дасканалы, падбародак – жылісты* і інш.), а асобныя "эпітэты" ўтвараюць разам са спалучальным словам фразеалагічную адзінку, якая не раскладаецца згодна з яе прынятым азначэннем на часткі (у дадзеным выпадку на эпітэт і назоўнік), напрыклад, *эзопаўская мова* (параўн.: *Нейкай эзопаўскай моваю смаліш, з маёй слабай галавою цяжка разабрацца.* І.Гурскі), *кінжальны агонь, барадаты анекдот, падмочаны аўтарытэт, бабіна лета, няпрошаны госць* і г.д.

У слоўніку адсутнічаюць акцэнталагічныя і граматычныя паметы, няма, у адрозненне ад першай разгледжанай крыніцы беларускіх эпітэтаў, ні спіса пададзеных рэестравых слоў, ні спіса выкарыстаных эпітэтаў, ні спіса аўтараў цытаваных прыкладаў. Абедзве лексікаграфічныя крыніцы эпітэтаў беларускай мовы прызначаны як для перакладчыкаў, пісьменнікаў, навучэнцаў, так і для ўсіх прыхільнікаў беларускай мовы, уяўляюць навуковую каштоўнасць найперш з пункту гледжання сабранага цытатнага матэрыялу з розных крыніц беларускай мовы.

У практыцы выкладання і беларускай, і замежных моў яшчэ глыбока не асэнсавана роля найбольш ужывальных слоў, на 1000 самых частотных з якіх прыпадае да 85% усіх выкарыстаных лексем звычайнага звязнага тэксту на той ці іншай мове,

г.зн. пры веданні толькі прыблізна 10% найбольш ужывальных лексем любой мовы можна чытаць тэксты на гэтай мове практычна без прымянення перакладнога слоўніка, бо адно з дзесяці слоў, якое не сустракаецца ў першай тысячы найбольш частотных, можна зразумець у многіх выпадках з кантэксту яго ўжывання.

"Частотны слоўнік беларускай мовы" (МАЖЭЙКА, СУПРУН 1976–1992) у пяці выпусках прысвечаны колькаснаму аналізу ўжывальнасці слоў адпаведна ў мастацкай прозе, публіцыстыцы, фальклоры, гутарковай мове, паэзіі. У гэтых выпусках больш-менш поўна прадстаўлены толькі стыль мастацкай літаратуры (мастацкая проза, паэзія, фальклор), часткова выпуск, дзе змешчаны даныя пра гутарковую мову, бо матэрыял для яго ўзяты не толькі са спантаннага вуснага маўлення (каля 30% запісаў), але і з мастацкай літаратуры, і з публіцыстыкі. Няма даных для афіцыйна-дзелавога стылю і стылю навуковай літаратуры.

Кожны выпуск слоўніка складаецца з прадмовы, частотнага спіса лексем і алфавітнага спіса, у які ўключаны толькі найбольш ужывальныя словы адпаведнага стылю (з частатой звыш 30 ужыванняў). Першы выпуск састаўлены на матэрыяле 290 фрагментаў (па 1000 словаўжыванняў), якія ўзяты з мастацкіх празаічных тэкстаў. Частотны спіс уключае 21 754 розныя лексемы і змяшчае наступныя паказчыкі: ранг слова (указваецца праз кожныя пяць лексем), слоўнікавая адзінка ў зыходнай граматычнай форме, частата слова, колькасць тэкставых фрагментаў, дзе яно сустракаецца. Калі лексемы маюць аднолькавую частотнасць, то першымі прыводзяцца словы, зафіксаваныя ў большай колькасці фрагментаў, а пры супадзенні гэтага паказчыка словы размяшчаюцца па алфавіце. Для эканоміі месца лексемы з частатой 14 разоў і меней прыводзяцца агульнымі спісамі, пры гэтым частата і колькасць фрагментаў указваюцца ў пачатку спіса. Пачатак слоўніка выглядае наступным чынам:

| Ранг | Слова | Частата | Колькасць фрагментаў |
|---|---|---|---|
| 1 | ён | 11 711 | 290 |
| | і | 11 356 | 290 |
| | у(ў) | 8 529 | 290 |
| | не | 7 240 | 286 |
| 5 | на | 5 882 | 285 |

У другую частку першага выпуска частотнага слоўніка (алфавітны спіс) уключаны 1002 лексемы з частатой 31 раз і вышэй. Насупраць кожнага слова ўказваецца яго частата і колькасць фрагментаў, у якіх сустрэлася дадзенае слова. У канцы слоўніка прыводзіцца матэматычны каментар В.Нешытога, дзе ўстанаўліваюцца адпаведнасці паміж тэарэтычнымі і статыстычнымі заканамернасцямі арганізацыі звязнага тэксту і данымі частотнага слоўніка. Гэтыя паказчыкі ў цэлым або супадаюць, або блізкія паміж сабой.

Другі выпуск частотнага слоўніка беларускай мовы прысвечаны колькаснаму аналізу публіцыстычных тэкстаў шляхам лінгвастатыстычный апрацоўкі 310 фрагментаў (па 1000 словаўжыванняў кожны), выпісаных з тэкстаў беларускай прэсы (газет "Звязда", "Мінская праўда", "Голас Радзімы" за 1970–1973 гг., часопіс "Полымя" за 1960–1970 гг.). У слоўнік не ўключаны ўласныя імёны, на якія прыпадае каля 9% усіх выпісаных словаўжыванняў. У частотным спісе занатавана 18 319 розных лексем, для кожнай з якіх прыводзяцца, як і ў першым выпуску, ранг слова, слоўнікавая адзінка, яе частотнасць, колькасць тэкставых фрагментаў, дзе яна сустрэлася. У тэксце слоўніка даюцца паметы для лексем з граматычнай і лексічнай

аманіміяй, тлумачацца малазразумелыя словы, расшыфроўваюцца абрэвіятуры і скарочаныя словы. У алфавітны спіс уключана 1117 слоў з частатой ад 39 разоў і вышэй.

У трэцім выпуску частотнага слоўніка, прысвечанага мове вуснай народнай творчасці, прыводзяцца колькасныя даныя для 20 900 розных слоў, што ўжываюцца ў фальклорных тэкстах розных жанраў (казкі, песні, загадкі, прыказкі і інш.) агульным аб'ёмам 300 000 словаўжыванняў. У цэлым колькасныя паказчыкі ўжывання фальклорных слоў блізкія да адпаведных паказчыкаў слоў мастацкай прозы. У мове фальклору часцей, чым у мастацкай прозе і публіцыстыцы, сустракаюцца канкрэтныя назоўнікі, дзеясловы. Для многіх малавядомых фальклорных лексем (яны пазначаны ў спісах зорачкай) у канцы кнігі (с. 255–300) даюцца тлумачэнні 820 адзінак тыпу *абнада* 'надзея', *балацюк* 'чорт', *бат* 'пуга', *валачок* 'хмара', *грыза* 'пустазелле', *зацінь* 'пачатак', *кляпа* 'сабака', *путра* 'каша' і г.д. 1000 найбольш частотных слоў змяшчаецца ў алфавітным парадку ў другой частцы кнігі, да гэтых слоў належаць лексемы з частатой ужывання 35 разоў і болей (у мастацкай прозе першую адпаведную тысячу склалі лексемы з частатой 30 і болей разоў ужывання, у публіцыстыцы – 40 і болей разоў). У гэтым жа выпуску (трэцяя частка слоўніка) змешчаны спіс тысячы найчасцейшых слоў беларускай мовы, якія складзены на базе ўсіх трох выпускаў слоўніка (мастацкая проза, публіцыстыка, фальклор), з колькаснымі данымі аб іх (слоў) частаце і фрагментах тэкстаў, дзе яны (словы) сустрэліся.

Чацвёрты выпуск частотнага слоўніка прысвечаны гутарковай мове, трэць матэрыялу склалі запісы беларускага спантаннага маўлення, трэць – выпіскі з хрэстаматыйных выданняў беларускага дыялектнага маўлення, апошняя трэць – выпіскі з мастацкіх тэкстаў (драматычныя і празаічныя творы). Усяго ў слоўнік уключана 20 351 лексічная адзінка (прыблізна як і ў мове фальклору). Адметнай рысай гутарковай лексікі служыць тое, што самыя частотныя словы займаюць тут больш значнае месца, чым ва ўсіх астатніх выпусках частотнага слоўніка. Так, на першыя самыя ўжывальныя 30 слоў гутарковай мовы прыпадае звыш трэці ўсіх словаўжыванняў (115 000 з 300 000), тады як у публіцыстыцы адпаведныя па частаце словы прыпадаюць толькі на 76 000 словаўжыванняў, у фальклоры – на 97 000, у мастацкай прозе – на 101 000. Першая ж сотня самых частотных слоў гутарковай мовы перавышае па колькасці словаўжыванняў усе астатнія словы, г.зн. кожнае другое слова гэтага стылю мовы ўваходзіць у спіс сотні найбольш ужывальных лексем. Самае частае слова гутарковай мовы займеннік *я*, тады як у іншых выпусках слоўніка – гэта службовыя словы *і, у, на*; у мастацкай прозе – займеннік *ён*. Як і ў папярэдніх выпусках слоўнік складаецца з такіх даных, як ранг слова (даецца праз кожныя пяць пазіцый), сама лексічная адзінка, яе частата і колькасць фрагментаў (усяго 300 па 1000 словаўжыванняў) звязнага тэксту (вуснага маўлення), дзе яна сустрэлася. Па алфавіце ў другой частцы слоўніка змяшчаецца 1000 найбольш ужывальных слоў беларускай гутарковай мовы, куды ўвайшлі лексемы з частатой ад 28 разоў і вышэй. У трэцяй частцы гэтага выпуска частотнага слоўніка ўключаны ўзоры тэкстаў (сем фрагментаў) размоўнай беларускай мовы, якія, па сутнасці, служаць першамі друкаванымі запісамі беларускага спантаннага гутарковага маўлення (раней друкаваліся толькі ўзоры беларускага дыялектнага маўлення).

У пятым выпуску частотнага слоўніка прыводзяцца колькасныя характарыстыкі беларускай паэтычнай лексікі (24 629 розных слоў), у які ўвайшлі лексемы, што сустрэліся ў паэтычных тэкстах агульным аб'ёмам 300 000 словаўжыванняў. Выбаркі па 10 000 словаўжыванняў зроблены з твораў найбольш значных беларускіх паэтаў (Я.Купала, Я.Колас, Р.Барадулін, Н.Гілевіч і інш.), па 3 – 5 тысяч – з твораў К.Буйло, А.Вольскага, Е.Лось, Я.Янішчыц і інш., па 1 – 2 тысячы – з твораў Э.Агняцвет,

Г.Бураўкіна, А.Пысіна, М.Хведаровіча і інш., з перакладаў Я.Семяжона, В.Сёмухі, ананімнага твора "Сказ пра Лысую гару" і інш. Адметнай рысай апошняга выпуска частотнага слоўніка служыць тое, што каля паловы ўсіх розных лексем сустрэлася ў абследаваных паэтычных тэкстах толькі па аднаму разу (у папярэдніх выпусках на падобныя рэдкаўжывальныя словы прыпадае толькі каля трэці лексікону).

Самыя частотныя знамянальныя словы паэзіі – *сэрца, песня, сонца, свет, неба, вецер, жыццё, душа, агонь*, у той час, як, напрыклад, у фальклоры – гэта словы *бог, поп, конь, жонка, хлеб, вада, двор, мужык, баба, жыта*. Пяты выпуск частотнага слоўніка пабудаваны па аналагічнаму прынцыпу з папярэднімі выпускамі. У алфавітны спіс уключана 1034 словы з частатой 36 разоў і вышэй.

Пэўную нязручнасць пры выкарыстанні выдадзенага частотнага слоўніка беларускай мовы выклікае тое, што ён не зведзены ў адну кнігу, што яго выпускі надрукаваны ў розныя гады (прамежак паміж першым і пятым выпускамі складае 15 гадоў), што ў ім прадстаўлены не ўсе стылі беларускай мовы (адсутнічаюць даныя па частотнасці слоў у афіцыйна-дзелавой і навуковай літаратуры), што ён ахоплівае выкарыстанне беларускіх лексем толькі ў тэкстах новай беларускай літаратурнай мовы 20 ст., таму зразумелыя намаганні галоўнага выканаўцы згаданай лексікаграфічнай працы дацэнта Н.С.Мажэйка перавыдаць гэтую карысную як у навуковых, так і вучэбных адносінах кнігу адзіным томам, што, відаць, і будзе зроблена, хаця зараз і настаў вельмі неспрыяльны час для публікацыі беларускамоўных кніг.

Сярод выдадзеных у Беларусі арфаграфічных слоўнікаў сваім аб'ёмам, стараннасцю апрацоўкі лексічнага матэрыялу выдзяляецца лексікаграфічная праца пад рэдакцыяй акадэміка М.В.Бірылы (СЛОЎНІК 1987), створаная аўтарскім калектывам. У слоўнік уключана звыш 118 000 лексем сучаснай беларускай мовы, якія пазначаны націскам, стылёвымі і граматычнымі паметамі. Ён з'яўляецца нарматыўным і служыць даведнікам і па арфаграфіі, і па арфаэпіі, і па акцэнтуацыі, і па словазмяненні. Рэестравую частку слоўніка складаюць загаловачныя лексічныя адзінкі "Беларуска-рускага слоўніка" (М., 1962), якія аднак істотна папоўнены лексемамі з ТСБМ і з наяўнай у Інстытуце мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі лексічнай картатэкі. Апрача агульнаўжывальных лексем у слоўнік уключаны некаторыя геаграфічныя назвы (найменні буйных гарадоў, краін, мораў, астравоў, а таксама назвы абласных і раённых гарадоў Беларусі). У слоўніку даюцца лексічныя варыянты, першы з якіх рэкамендуецца ў якасці нормы, а другі (астатнія) – у якасці дапушчальнага дублета (дублетаў) (параўн.: *барсучаня* і *барсучанё, арангутан* і *арангутанг, абабегчы* і *аббегчы, барвавец* і *барвовец, барвец, барвянец, барвяніца* і да т.п.). Калі ад значэння слова залежыць месца націску або граматычнай формы, то яно (значэнне) сцісла падаецца у дужках тыпу *дуб* (дрэва), *дуба, дубе*, мн. *дубы, дубоў*; (драўніна зб.) *дубу, дубе*. Марфалагічныя формы ў скарочаным выглядзе прыводзяцца для назоўнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў, дзеясловаў. Назоўнікі жаночага роду на *-а(-я)* суправаджаюцца формамі давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку, якія ў іх супадаюць, роднага склону множнага ліку (параўн.: *размова -ове, -оў* і да т.п.); а тыя назоўнікі, што не маюць множнага ліку, падаюцца толькі ў зыходнай форме і ў форме давальнага і меснага склонаў (параўн.: *канюшына -не; павага -азе* і да т.п.). Назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам пазначаюцца формамі творнага склону адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку тыпу *плынь -нню* [*ньню*], *-ней і -няў; якасць* [*сьць*] *-цю* [*сьцю*], *-цей* і *-цяў* і да т.п. У квадратных дужках прыводзіцца норма вымаўлення. Для назоўнікаў мужчынскага роду з нерухомым націскам і нулявым канчаткам прыводзяцца формы роднага і меснага склонаў адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку тыпу *салют -юта, -юце, -ютаў*. Назоўнікі ж, якія маюць рухомы націск, суправаджаюцца і

формай назоўнага склону множнага ліку (параўн.: *лес, лесу, лесе,* мн. *лясы, лясоў; склеп -па, -пе,* мн. *скляпы, -поў* і да т.п.). Назоўнікі мужчынскага роду на *-а* пазначаюцца формамі давальнага (Д), меснага (М) і творнага (Т) склонаў адзіночнага ліку і роднага (Р) склону множнага ліку (параўн.: *стараста* м., Д *-сту*, Т *-стам*, М *-сце* [*сьце*]; мн. Р *стараст* і *-стаў* і да т.п.).

Для назоўнікаў ніякага роду з нерухомым націскам прыводзіцца скарочана форма меснага (М) склону адзіночнага ліку і роднага (Р) склону множнага ліку (параўн.: *кола* М *-ле,*Р *-лаў; вучылішча* М *-чы,* Р *-ч* і *-чаў* і да т.п.), а для назоўнікаў з рухомым націскам падаецца дадаткова і форма назоўнага склону множнага ліку (параўн.: *сяло*, мн. *сёлы, сёл* і *сёлаў* і да т.п.). Разнаскланяльныя назоўнікі ніякага роду на *-ня (-нё)* суправаджаюцца ўсімі формамі (параўн.: *цяля* і *цялё* рознаскл. Для абодвух РДМ *-ляці,* Т *-лём*, мн. *-ляты, -лят, -лятам, -лятамі, -лятах* і да т.п.).

Назоўнікі агульнага роду на *-а* памячаюцца скарочанымі найменнямі формаў давальнага, творнага і меснага склонаў адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку асобна для мужчынскага і жаночага роду (параўн.: *задавака* разм., агульн. м ДМ *-аку*, Т *-акам*, ж ДМ *-чцы* [*ццы*], Т *-чкай* і *-чкаю*, мн. Р *-ак* і да т.п.

Найменні канкрэтных нацый, народаў, нацыянальнасцяў прыводзяцца тройчы (параўн.: *румын -на, -не, -н* і *-наў; румынка -нцы, -нак; румыны -н* і *-наў* і да т.п.).

Дзеясловы з нерухомым націскам і нязменнай асновай суправаджаюцца скарочанымі паметамі формаў першай, другой і трэцяй асобы адзіночнага ліку і трэцяй асобы множнага ліку цяперашняга часу з указаннем трывання (параўн.: *трымаць* незак. *-аю, -аеш, -ае, -аюць* і да т.п.). Для дзеясловаў з рухомым націскам, дзеясловаў з націскной флексіяй, дзеясловаў з чаргаваннем гукаў у аснове прыводзяцца формы ўсіх асоб цяперашняга часу (параўн. адпаведна: *саліць* незак., *соліш, соліць, солім, соліце, соляць; глядзець* незак., *-джу, -дзіш, -дзіць, -дзім, глядзіце, глядзяць; садраць* зак., *здзяру* [*зьдзя*], *-рэш, -рэ, -ром, здзераце, здзяруць* і да т.п.). Некаторыя дзеясловы з нестандартнымі формамі ўтварэння памячаюцца таксама формамі загаднага ладу, а ў пэўных выпадках і формамі прошлага часу (параўн.: *сохнуць* незак., *-ну, -неш, -не, -нуць; сох, сохла, сохлі; выпісаць* зак. *выпішу, -шаш, -ша, -шуць; выпішы* і да т.п.).

Лічэбнікі падаюцца ва ўсіх склонавых формах (параўн.: *пяць* ліч., РДМ *пяці,* Т *пяццю* і да т.п.), розныя асабовыя формы займеннікаў адпаведна алфавіту таксама падаюцца ва ўсіх склонах (параўн.: *сам* займ., Р *самога*, Д *самому*, ТМ *самім; сама* займ. РДМ *самой*, В *саму* і *самую*, Т *самой* і *самою; самі* займ. РМ *саміх,* Д *самім,* Т *самімі; само* займ. Р *самога,* Д *самому*, ТМ *самім* і да т.п.).

Падрабязныя стылістычныя паметы характарызуюць словы не толькі ў адносінах да асноўных разнавіднасцяў беларускай мовы тыпу *кніжн.* 'кніжнае', *разм.* 'размоўнае', але і ў дачыненні да так званых падмоў тыпу *анат.* 'анатомія', *геад.* 'геадэзія', *заал.* 'заалогія', *фін.* 'фінансавая справа', *эк.* 'эканоміка', *юр.* 'юрыдычная справа' і г.д. Слоўнік з'яўляецца нарматыўным, таму парушэнне закадыфікаваных тут правілаў (арфаграфічных, арфаэпічных, акцэнталагічных, марфемных), што назіраецца ў некаторых беларускіх слоўніках пазнейшых выданняў (гл., напрыклад: СЛОЎНІК 2000), з'яўляецца недапушчальным, а прыведзеныя формы некаторых слоў тыпу **дзявяты,* **сямнаццаць,* **экзэмпляр,* **тунэль,* **нонсэнс,* **шніцаль,* **кам-п'ютар* і інш. у якасці нормы на сённяшні дзень абсалютна непрымальныя і не павінны выконвацца аўтарамі беларускамоўных тэкстаў, выкладчыкамі беларускай мовы і навучэнцамі да таго часу, пакуль не будуць афіцыйна прынятыя і зацверджаныя на вышэйшым дзяржаўным узроўні. "Марфемны слоўнік беларускай мовы" (БАРДОВІЧ, ШАКУН 1989), які апублікаваны ў двух выданнях (першае ў 1975 г.) уключае ў свой склад 75 000 лексічных адзінак (у першым выданні 60 000 слоў), што

падзелены на значымыя структурныя часткі, або марфемы – прыстаўкі, карані, суфіксы, злучальныя галосныя, флексіі (канчаткі). Прыведзенае чляненне слоў беларускай мовы з'яўляецца карысным перадусім для навучэнцаў, якія пасля выхаду гэтай лексікаграфічнай працы маюць магчымасць пазнаёміцца з марфемным спосабам арганізацыі лексікі, з асаблівасцямі будовы і ўтварэння слоў, з правільным іх дэрывацыйным аналізам і напісаннем і інш.

Марфемнае чляненне лексем падаецца з улікам іх значэння, якое сцісла тлумачыцца пры неабходнасці ў дужках апісальнай канструкцыяй напрыклад*: а-каз-а-ц-ца* (падаць голас); *вярш-ок* (старая мера даўжыні) і г.д. ці сінонімам; параўн.: *аказ-а-ц-ца* (выявіцца, апынуцца); *вярш-ок* (верх) і да т.п., або спасылкай на адпаведную часціну мовы, напрыклад: *гор-к-а* (назоўнік) і *горк-а* (прыслоўе), або аднакаранёвым словам тыпу *а-дор-ва-ць* (дарыць) і *ад-ор-ва-ць* (араць). Дзяленне на марфемы праводзіцца з улікам сённяшняга стану беларускай мовы, але пры гістарычным змяненні марфемнага складу слоў у дужках падаецца ранейшы марфалагічны склад з паметай *гіст.* 'гістарычна', напрыклад, *абавяз-ак* (*гіст. аба-вяз-ак*), *беларус* (*гіст. бел-а-рус*) і да т.п. Пры выпадзенні гукаў для пэўных пазіцый у дужках даецца аднаслоўная марфема са знакам+, напрыклад: *а-глян-ну-ц-ца* (*а+гляд+ну+ц+ца*), *па-ціс-ну-ць* (*па+ціск+ну+ць*) і да т.п. Калі ўзнікае неабходнасць тлумачэння выдзеленых марфем, тады ў дужках з паметай *параўн.* 'параўнайце' прыводзіцца іншае аднакаранёвае слова, падзеленае на марфемы, напрыклад: *аб-у-ць* (*параўн.*: *раз-у-ць*), *па-ваг-а (параўн.: з-ня-ваг-а*) і да т.п. Гук, які ў беларускай мове перадаецца літарай *й*, у тлумачальнай частцы слоўніка ўзнаўляецца ў дужках, напрыклад: *вар'ят (варй-ат), хім-і-я (хім-ій-а)* і да т.п. Аўтары ўсведамляюць, што некаторыя выпадкі чляненне лексем у слоўніку могуць быць спрэчнымі па розных прычынах (гістарычных, семантычных і інш.), таму дапускаюць для пэўных слоў з улікам згаданых прычын іншае марфемнае чляненне. Лексемы ў слоўніку падаюцца з націскам і ў алфавітным парадку, што вымагае стварэння на яго (слоўніка) базе дэрывацыйнай лексікаграфічный працы, дзе б словы былі арганізаваны па гнездавым прынцыпе, як гэта зроблена, напрыклад, для рускай мовы (гл.: ТИХОНОВ 1985).

На жаль, "Словаўтваральны слоўнік беларускай мовы" (БАРДОВІЧ 2000) у гэтым (структурным) плане мала чым адрозніваецца ад згаданага марфемнага слоўніка, бо таксама пабудаваны па алфавітным прынцыпе, толькі слоўнікавы артыкул апрача раздзеленага на марфемы загаловачнага ўтворанага слова ўключае ў свой склад і ўтваральную лексему, напрыклад*: пяк-уч-(ы),* ад *пяч-(ы); самле-л-(ы)*, ад *самле-(ць); цыгар-эт-(а)*, ад *цыгар-(а)* і г.д., хаця ў прадмове слушна разважаецца пра словаўтваральныя гнёзды, якія складаюцца з аднакаранёвых лексем і ўключаюць у свой склад да сотні і больш розных слоў. Менавіта пабудова такіх гнёздаў дае панарамнае ўяўленне пра структурную марфемную будову ўсяго слоўніка адпаведнай, у прыватнасці, беларускай мовы. Новым і карысным для чытача ў дадзенай лексікаграфічнай крыніцы, у параўнанні з марфемным слоўнікам, служаць наступныя звесткі пра будову беларускага слова: выдзяленне (у дужках) марфем, якія не нясуць дэрывацыйнай функцыі, г.зн. канчаткаў тыпу *будуч-ын-(я), а-добр-ы-(ць)* і г.д.; абазначэнне мяккасці і даўжыні зычных; выдзяленне касяком чаргавальных гукаў, а таксама спецыяльным знакам нулявых гукаў; указанне скарочанымі назвамі спосабаў словаўтварэння (параўн.: *суф.* 'суфіксальны спосаб', *прыст.* 'прыставачны спосаб', *асновасклад.* 'спосаб асноваскладання' і інш.), прывядзенне ўтваральнага слова, ад якога ўзнікла ўтвораная, напрыклад: *міс-к-(а)*, ад *міс-(а); па-спрыя-(ць)*, ад *спрыя-(ць), са-гна-(ць),* ад *гна-(ць)* і г.д., фіксацыя марфалагічных змен (нарашчэнне, сцяжэнне, усячэнне, чаргаванне), якія адбываюцца ва ўтваральнай

аснове, і інш. Слоўнік прызначаны для выкладчыкаў, навукоўцаў, навучэнцаў, для ўсіх, каго цікавіць будова беларускага слова.

"Слоўнік іншамоўных слоў" (БУЛЫКА 1999) надрукаваны ў двух тамах і змяшчае каля 25 000 непасрэдна запазычаных слоў і тэрмінаў або тэрмінаў, утвораных на базе іншамоўных лексічных элементаў. Значэнне кожнага запазычанага слова тлумачыцца, а таксама прыводзіцца ў дужках лацінскімі літарамі напісанне слова і скарочана даецца крыніца паходжання тыпу *ліманад* (фр. limonade), г.зн. запазычанне з французскай мовы; пры несупадзенні семантыкі запазычанага слова з зыходным арыгінальным значэннем у дужках апрача абазначэння мовы-донара даецца і пераклад адпаведнай лексемы на беларускую мову, напрыклад: *аксюмаран* (грэч. aksymoron=дасціпна-бязглуздае; *багінг* (ад англ. bug=насякомае, жук) і да т.п. Усе загаловачныя словы забяспечаны націскам, амонімы падаюцца ў розных артыкулах, полісеманты ў межах аднаго артыкула і раздзяляюцца арабскімі лічбамі, напрыклад: *артылерыя* (фр. artillerie), 1) гарматы розных канструкцый і калібраў для знішчэння жывой сілы, тэхнікі і ўмацаванняў праціўніка; 2) род войск з такім узбраеннем; 3) навука пра будову артылерыйскай зброі і яе баявое прымяненне. Для многіх запазычаных слоў прыводзяцца не толькі звесткі пра мову, з якой перанята пэўнае слова, але і больш падрабязная этымалагічная даведка тыпу *камін* (ням. Kamin< лац. caminus, ад грэч. kaminos=печ); *лейцы* (пол. lejce ад ням. Leitseil), *муза* (пол. muza<лац. musa, ад грэч. musa) і да т.п. Складаныя словы, як правіла, падзяляюцца на значымыя марфемы з перакладам кожнай з іх на беларускую мову, напрыклад: *гласематыка* (ад грэч. glossa='мова'+sema='знак'); *віндсёрфінг* (англ. windsurfing, ад wind='вецер'+surfing='катанне на прыбойнай хвалі'; *арангутан* (малайск. orang+utan=*літар.* 'лясны чалавек') і да т.п. Для некаторых слоў тлумачэнне даецца ў выглядзе энцыклапедычнай даведкі тыпу *арматолы* (ад іт. armato='узброены чалавек') – 'атрады ўнутранай аховы на службе ў турэцкага ўрада ў час знаходжання Грэцыі пад асманскім панаваннем (17–19 стст.), а ў 1821–1829 гг. – удзельнікі нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі'. Тлумачэнне слоў даецца сціслым або разгорнутым апісальным зваротам тыпу *яхта* (англ. yacht, ад гал. Jacht) – 'паруснае або маторнае судна для воднага спорту і прагулак'; *полька* (чэш. polka) – 'танец у хуткім тэмпе, а таксама музыка да гэтага танца' і да т.п., або радзей сінонімамі тыпу *ясыр* (тур. esir) – гіст. 'нявольнік, палонны'; *суверэнны* (фр. souveren) – 'незалежны, самастойны' і да т.п.

Некаторыя словы суправаджаюцца стылістычнымі паметамі тыпу уст. 'устарэлае', гіст. 'гісторыя', перан. 'пераноснае значэнне', мед. 'медыцына', фін. 'фінансавая справа', юр. 'юрыспрудэнцыя', мат. 'матэматыка' і інш., напрыклад: *маветон* (фр. mauvais ton) – уст. 'дрэнны тон, нявыхаванасць'; *чауш* (тур. čauš) – 1) гіст. турэцкі пасол; 2) сорт буйнага вінаграду; *цырцэя* (лац. Circe, ад грэч. Kirke='імя німфы-чараўніцы ў старажытнагрэчаскай міфалогіі') – перан. 'жанчына-чараўніца'; *трансфузія* (лац. transfusio='пераліванне') – мед. 'пераліванне крыві'; *трансферт* (фр. transfert, ад лац. transferre='пераносіць, пераводзіць') – 1) фін. перавод замежнай валюты або перадача золата з адной краіны ў другую; 2) юр. перадача права ўладання імяннымі каштоўнымі паперамі (акцыямі) адной асобы другой, якая ажыццяўляецца, як правіла, з дапамогай індасамента; *трансфінітны* (ад транс + фінітны) – мат. 'які знаходзіцца за межай канечнага' і г.д. Слоўнік разлічаны на шырокае кола чытачоў.

Публікацыі разгледжанага слоўніка папярэднічала значна меншая па аб'ёме лексікаграфічная праца (БУЛЫКА 1998) на 5600 запазычаных слоў, разлічаная пераважна на навучэнцаў, бо аснову яго складае агульнаўжывальная лексіка тыпу *аптымізм, інструмент, медыцына, школа, эмоцыя, энергія, юбілей, янтар* і да т.п.

Першым і пакуль адзіным закончаным беларускім слоўнікам, дзе прадстаўлены ўсе лексемы пэўнага аўтара, з'яўляецца "Слоўнік мовы Скарыны" (СЛОЎНІК 1977–1994) у трох тамах, складзеных У.В.Анічэнкам. Гэтая праца доўжыць узнікшы лексікаграфічны напрамак ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве па стварэнню слоўнікаў буйнейшых пісьменнікаў кожнай нацыі. Рускія лінгвісты апублікавалі чатырохтомны "Слоўнік мовы Пушкіна", украінскія – двухтомны "Слоўнік мовы Шаўчэнкі". У "Слоўніку мовы Скарыны" адлюстравана старабеларуская лексіка, прадстаўленая як уласна беларускімі і старажытнарускімі намінатыўнымі адзінкамі, так і шматлікімі запазычаннямі са стараславянскай, польскай, чэшскай, лацінскай, грэчаскай, нямецкай і іншых моў. Многія лексемы, ужытыя беларускім першаасветнікам, сталіся шырока выкарыстальным здабыткам сучаснай беларускай літаратурнай мовы (параўн.: *гроши, гучати, даремныи, дбати, доскональыи, досыть, досягнути, згода, лепшии, лагодныи, куть, лічба, минулыи, млынъ, надхненье, новина, прикладъ, пильность, промень, смутокъ, сталыи* і інш.). Значная частка лексем мае ў параўнанні з сучаснымі беларускімі словамі іншыя афіксы (параўн.: *играч* і *ігрок, испочатку* і *спочатку, ковачъ* і *каваль, посмевачъ* і *насмешнік, начатокъ* і *пачатак* і інш.). У тэкстах Ф.Скарыны адзначаецца мноства лексічных варыянтаў, якія ўтварыліся на грунце запазычаных і ўласна беларускіх лексем тыпу *зело* і *вельми, время* і *часъ, иныи* і *иншии, широта* і *шириня, убежати* і *утекати, звати* і *кликати, колесо* і *коло, любитися* і *кохатися, красныи* і *пригожии, лучше* і *лепеи* і г.д., прычым нярэдка ў якасці варыянтаў да няпоўнагалосных стараславянскіх лексем прыводзяцца поўнагалосныя беларускія словы тыпу *глад – голад, длато – долото, младшии – молодшии, млатъ – молотъ платно – полотно, обрана – оборона* і г.д. Навуковыя спрэчкі аб характары мовы Скарыны (стараславянская, старaруская, уласна беларуская, або старабеларуская, ці змешаная) вяліся і вядуцца пераважна на матэрыяле фанетычных і граматычных асаблівасцяў, аднак з улікам лексікі яго твораў перавагу можна аддаць уласна беларускай моўнай аснове, або тагачаснай старабеларускай мове, што па колькасных параметрах хаця і саступае іншамоўным элементам, як і ў некаторых так званых сусветных мовах тыпу англійскай, рускай, тым не меней складае зыходны базіс, касцяк, канстантную структуру мовы, якая застаецца спецыфічнай, непаўторнай, своеасаблівай у параўнанні з іншымі мовамі і якую іншамоўныя напластаванні затуманьваюць, але не паглынаюць, не раствараюць у сабе, бо адметныя рысы цягам доўгага часу ўвыпукляюцца і робяцца дамінантнымі ў мове.

"Слоўнік мовы Скарыны" ўключае ў свой склад лексіку перакладных і арыгінальных твораў, прычым у першых двух тамах змешчаны агульнаўжывальныя словы, а ў трэцім – анамастычныя (антрапонімы, тапонімы, тэонімы і інш.). Лексемы падаюцца ў зыходных граматычных формах, варыянты аб'ядноўваюцца вакол загаловачнага слова тыпу *неякии (неакии), другии (другыи), боронити (бранити), брытва (бритва)* і да т.п. Дзееприметнікі (дзеепрыслоўі) прыводзяцца не ў асобных артыкулах, а размяркоўваюцца пры адпаведных інфінітывах тыпу *видети (виденыи, видемыи, видячи, видящии*) і інш. Многія славаўтваральныя варыянты, у прыватнасці кніжныя, афармляюцца самастойнымі артыкуламі, але пры гэтым забяспечваюцца спецыяльнымі паметамі і адсылкамі да ўласна беларускага слова тыпу *дочка* параўн. *дщера; дщера* 'тое, што *дочка*'; *дорослыи* параўн. *зрослыи; зрослыи* 'тое, што *дорослы*'; *деля* параўн. *ради*; *ради* 'тое, што *деля*'; *шкода* параўн. *вред; вред* 'тое, што *шкода*' і г.д. У тлумачальнай частцы слоўніка раскрываюцца значэнні не ўсіх лексем, а толькі незразумелых ці малазразумелых, а таксама тлумачацца словы з пераносным значэннем (параўн.: *кивот* 'каўчэг', *брак* 'духоўны саюз', *бумага* 'бавоўна', *баба* 'павітуха', *бытность* 'стварэнне, істота' і да т.п.). Полісеманты раздзяляюцца ўнутры артыкула загаловачнага слова арабскімі лічбамі тыпу *верх*

1) вяршыня, 2) вярхоўе, 3) перамога; *выдати* (*выданыи* – дзеепрым.): 1) аддаць, 2) выдаць, 3) пусціць і г.д. Фразеалагічныя і тэрміналагічныя выразы прыводзяцца пасля знака ромба ў канцы слоўнікавых артыкулаў тыпу *держати... держати на сердци; памятаць, держати престол, правиць* і да т.п.

На кожнае самастойнае слова акрамя зазначаных тлумачэнняў прыводзіцца ілюстрацыйны матэрыял у выглядзе пашпартызаванай цытаты з адпаведных твораў Скарыны, якія даюцца ў скарочаным выглядзе (параўн.: *гмыз* 'насякомае'. *Рече богъ да расплодеть воды Гмызы душъ живыхъ* КБ 10, г.зн. Кніга "Быцця", старонка 10; *мета* 'цэль, мішэнь'. *Азъ трижды стремо къ тому каменю, якобыхъ стрелялъ къ мете* Пц 44, г.зн. першая кніга "Царстваў", с. 44; *горнец* 'гаршчок'. *Возми горнец великии, и навари чего ясти сыномъ пророческимъ* Чц. 192б, г.зн. чацвёртая кніга "Царстваў", с. 192б і г.д.).

Пры загаловачным слове прыводзяцца часцінамоўныя паметы; для назоўнікаў – род, лік, абстрактнасць, асабовасць, зборнасць, павелічальнасць, памяншальнасць; для дзеяслова – трыванне, аднакратнасць і інш. Тлумачэнне вытворных слоў робіцца шляхам спасылкі на невытворнае слова, пры якім і раскрываецца лексічнае значэнне, напрыклад: *густи* незак. Іграць. Пар. *Гудети* ў 1 знач. *Гудети* незак. 1. Тое, што *густи*, 2) Спяваць. *Гудьба* 'дзеянне па дзеяслову *гудети* ў 1 знач'. *Гудебныи* прым. да *гудьбы* і г.д.

У трэці том уключаны акрамя тапанімічных і анамастычных найменняў і этнанімічныя назвы (найменні жыхароў па месцы пражывання тыпу *иудинъ, сирянинъ, вавилонянинъ* і г.д.). Кожнае рэестравае слова тлумачыцца або непасрэдна, або шляхам адсылкі да іншага загаловачнага слова тыпу *Зевида* 'маці Іаахіна'; *Етремотъ* 'ізраільскі горад пакалення Манасія'; *етеанинъ* 'жыхар Етэи'; *Етрос* гл. *Етро*; *Етро (Етрос)* 'сын Веньяміна, цесць Маісея, жрэц медзіалескі' і г.д. Як і ў першых двух тамах зыходнае слова ілюструецца цытатамі з твораў Скарыны, якія змешчаны пасля тлумачэння і, зразумела, можа мець не пачатковую граматычную форму, а ўскосныя формы тыпу *Ефремъ* 'зямля на ўсход ад Іардана'. *Изъ Ефрема Царь немилостивыи царствовалъ* (Іс. 650), г.зн. кніга "Ісус Сірахаў", с. 650; *гаии* 'македонец, спадарожнік Паўла ў Ефес'. *Пишетъ Гаиеви, хвалечи его, иже приемлетъ приходящую братию* і г.д. У слоўніку адсутнічаюць колькасныя даныя аб ступені ўжывальнасці рэестравых лексем, якія разам з ілюстрацыйным матэрыялам падаюцца з некаторымі графічнымі спрашчэннямі.

У наш час распачаўся выпуск васьмітомнага "Слоўніка мовы Я.Купалы" (гл.: СЛОЎНІК 1997–2002), апублікавана ўжо чатыры кнігі, дзе прыводзяцца да кожнага рэестравага слова колькасныя даныя аб частотнасці ўжывання адпаведных лексем, напрыклад, *выйсці* (233), *герой* (26), *гэты* (410), *з* і *са* (5484), *і* ( 8175), *кахаць* (15), *край* (255), *крыж* (196), *ён* (2100) і г.д., даецца тлумачэнне кожнага рэестравага слова або апісальным зваротам (параўн.: **валачобнік** 'песеннік, які хадзіў у велікодныя дні па дварах з віншавальнымі песнямі'; **гурток** 'група людзей аб'яднаных агульнай вучобай, прафесіяй'; **гурба** 'куча снегу, намеценая ветрам' і да т.п.), або сінонімамі (параўн.: **гуртавацца** 'групавацца, канцэнтравацца'; **грандыёзны** 'велічны, магутны'; **віхура** 'бура, завея, завіруха' і г.д.), або адсылкай да іншага слова (параўн.: **зрываці** гл. *зрываць*, **зайчык** памяншальна-ласкава да *заяц*; **ёлка** гл. *елка*; **доска** гл. *дошка* і г.д.). Кожнае рэестравае слова ілюструецца цытатамі з пашпартызаваных выданняў паэта, прадстаўленым сямітомным "Зборам твораў Янкі Купалы" (Мінск, 1972–1976), напрыклад: **веліч**... *Нясіце веліч слёз, бяды, нясіце крыўды напаказ!* (1, 86, г.зн. том 1 старонка 86); **бубен**... *За ім следам, як за дзедам, б'е ў бубен Апанас* (6, 13), часта прыводзіцца пры гэтым і назва твора тыпу **зязюлька**... *Ах ты, зязюлька мая ненаглядная!* Паўлінка, 187; **зорна**... *Шлях залаты працярэбім, зорна ўзнясёмся ў высоты*... Песня і сіла, 2, 238, і г.д.

Полісеманты размяжоўваюцца ўнутры аднаго артыкула рэестравага слова арабскімі лічбамі тыпу **гвалт** 1) здзек, 2) заклік, 3) шум, лямант, 4) сілай, сілком, 5) кліч аб паратунку ў выпадку небяспекі і г.д.; амонімы прыводзяцца ў розных артыкулах, якія таксама пазначаюцца арабскімі лічбамі, але зверху слова, што падлягае тлумачэнню тыпу **гасцінец** 'падарунак, ласунак'; **гасцінец** 'бойкая дарога, шлях, тракт', прычым усе выпадкі неадназначнасці ілюструюцца адпаведнымі цытатамі з твораў Я.Купалы. Усе загаловачныя словы пазначаюцца граматычнымі характарыстыкамі – для назоўнікаў скарочана прыводзіцца род і разрад тыпу **жураў** м., **княства** н., **блазнота** ж., зб. (г.зн. адпаведна мужчынскі, жаночы, ніякі, зборны), для дзеясловаў пазначаецца трыванне тыпу *відаць* незак., *вырабіць* зак. (адпаведна незакончанае і закончанае) і г.д., для прыметнікаў і прыслоўяў указваецца ступень параўнання тыпу *каштоўнейшы* прым. Параўн. ступень да *каштоўны; дружней* прысл. Параўн. ступень да *дружна* і г.д., але чамусьці не пазначаны націск для загаловачных слоў.

Стылістычныя паметы даюцца для ўсіх слоў, што не ўваходзяць у паняцце "нейтральная лексіка", тыпу *адказеліца* разм., *канібал* кніжн., *колер* спец., *каралёўна* уст., *калчан* гіст., *галубіць* паэт., *каравай* абрад., *абедня* рэл., *крыж* царк., *дзядочак* ласк., *байструк* груб., *гад* лаянк., *гніда* пагардл., *дармажэрца* настатв. і інш. (г.зн. адпаведна размоўнае, кніжнае, спецыяльнае, устарэлае, гістарычнае, паэтычнае, абрадавае, рэлігійнае, царкоўнае, ласкавае, грубае, лаянкавае, пагардлівае, наватвор).

Запазычаныя словы, ужытыя паэтам, забяспечваюцца скарочанымі паказальнікамі моў, з якіх паходзіць дадзенае слова тыпу *дзевушка* руск., *гапак* укр., *дварак* польск., *дзівадла* чэш., *герш-ту* яўр. і г.д. (адпаведна рускае, украінскае, польскае, чэшскае, яўрэйскае). Некаторыя рэестравыя словы ў канцы артыкулаў суправаджаюцца ілюстрацыямі, што складаюцца з устойлівых спалучэнняў слоў тыпу **гнаць** – *нялёгкая гоніць, гнаць у каршэль, у свет гнаць;* **загад** – *аддаваць загад;* **заручыць** – *з славай заручыць* і г.д. з адпаведнымі цытатамі. Першыя шэсць тамоў слоўніка будуць будавацца на матэрыяле згаданых твораў Я.Купалы, апошнія два тамы ўключаць у свой склад лексіку тых літаратурна-мастацкіх твораў паэта, якія па цэнзурных меркаваннях не ўвайшлі ў надрукаваны сямітомнік.

"Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы" (гл.: ЦІТОВА 1981) уключае ў сябе вынікі свабоднага асацыятыўнага эксперыменту, у якім брала ўдзел тысяча інфармантаў, носьбітаў беларускай мовы – студэнты ВНУ (БДУ, МПДУ імя Танка, Гомельскага і Магілёўскага дзяржаўных універсітэтаў і інш.). Сутнасць эксперыменту палягае ў тым, што на прапанаванае слова-стымул тыпу *зямля*, *сонца, чалавек* і г.д. інфарманты запісваюць усе словы-рэакцыі, што ўзніклі ў іх свядомасці (параўн.: *зямля – круглая, чорная, сонца, родная* і інш.); даныя эксперыменту абагульняюцца для кожнай лексемы ў адзін слоўнікавы артыкул, які ўзначальвае слова-стымул, а далей у парадку частотнасці размяшчаюцца словы-рэакцыі, пры супадзенні частотнасці яны падаюцца па алфавіце. Словамі-стымуламі паслужылі 300 найбольш ужывальных беларускіх лексем, складзеныя па спісе англійскіх адпаведнікаў Кента–Розанава, які лічыцца класічным і агульнапрынятым для асацыятыўных слоўнікаў розных моў. Спіс першых 150 слоў-стымулаў прыводзіцца пасля ўступу на с. 13–14 (параўн. лексемы: *агульны, адчыняць, акно, атрымаць, бацька, белы, благі, бульба, бура, бяроза, вада, вецер, вуліца, выдатна, высокі, вясна, гадзіна, гара, год, дзень, дзіця, дзяўчына, дом, ежа, жывёла, жыхар, здароўе, зіма, злосць, зямля, ісці, кароткі, кветкі, ложак, масла, мужчына, музыка, памяць, печ, прыгожы, рака, рука, святло, соль, спаць, стары, стол, студэнт, сэнс, сябар, халодны, хата, хвароба, хлеб, хлопец, цёмны, чалавек, час* і інш.). У сярэднім на слова-стымул 1000 інфармантаў дае прыблізна 200 розных лексічных рэакцый. Для першай часткі слоўніка (150 лексічных адзінак) прыводзяцца ўсе адказы

інфармантаў; для другой часткі (таксама 150 адзінак, спіс якіх даецца на с. 134, напрыклад, *асілак, блукаць, вандраваць, веды, вёска, вырай, глеба, грошы, густ, дождж, жонка, кніга, мова, свята, шмат, шукаць* і інш.) даюцца толькі па пяць самых частых асацыяцый (параўн.: **дождж** – 312 *цёплы,* 68 *ідзе,* 53 *вялікі,* 39 *халодны,* 15 *вада, дробны* і г.д. – лічба перад словам-рэакцыяй паказвае яго частотнасць, або колькасць адказаў інфармантаў на зададзенае слова-стымул. Амаль дзве трэціх усіх адказаў прыпадае на 10–20 слоў, што найбольш часта (10 і болей разоў) сустрэліся ў адказах інфармантаў на кожнае слова-стымул; самая вялікая колькасць розных адказаў характарызуецца нізкай ужывальнасцю (па 1–2 разы). Так, са словам *бацька* першую дзесятку найбольш частых асацыяцый ствараюць – *183 добры, 123 родны, 89 мой, 74 маці, 41 стары, 32 сын, 30 дзеці, 14 дом, 12 хворы, 11 Мінай*, а па аднаму разу зафіксавана 101 слова, якія часцей за ўсё з'яўляюцца індывідуальнымі, не тыповымі асацыяцыямі для слова *бацька* (параўн.: *вайна, галава, закон, крык, мухамор, певень, погляд, пуга, сабака* і да т.п.). Астатнія асацыяцыі размяркоўваюцца ў адпаведным слоўнікавым артыкуле з частатой ад 10 (*дужы, злосны*) да двух (*благі, брат, жорсткі, ласкавы, пенсіянер, шчыры* і інш.).

У слоўніку змешчаны таксама "Паказальнік асацыяцый", дзе пералічваюцца словы-рэакцыі, якія назвалі пяць і болей інфармантаў. Так, слова-рэакцыя *кніга* сустракаецца больш пяці разоў у артыкулах, што ўзначальваюць лексемы *атрымаць, біблія, гара, глядзець, абяцаць.* Складальнік слоўніка дацэнт А.Цітова апрацавала звыш 300 000 адказаў інфармантаў, матэрыялы апрацоўкі прадстаўлены ў трох спісах (150 артыкулаў з поўным пералікам усіх асацыяцый, 150 артыкулаў змяшчае па пяць самых частых асацыяцый, алфавітны паказальнік асацыяцый), акрамя таго прыводзяцца два спісы па 150 слоў-стымулаў. У асацыятыўным слоўніку адлюстравана тая лексічная сістэмнасць беларускай мовы, якая грунтуецца на разнастайных сінтагматычных (спалучальных) і парадыгматычных (тэматычных, сінанімічных, антанімічных, эпідэгматычных, фармальных, гіпоніма-гіперанімічных, стылістычных і інш.), а таксама індывідуальных сувязях слоў, што мае не толькі лінгвістычны інтарэс і каштоўнасць, але цікавы і практычна карысны для псіхолагаў, псіхіятраў, педагогаў, сацыёлагаў і інш.

Прынадным і арыгінальным уяўляецца першы ў айчынным мовазнаўстве слоўнік (гл.: ШКРАБА 1994), дзе прадстаўлена безэквівалентная лексіка беларускай мовы ў адносінах да суседняй рускай мовы. Да падобнай лексікі адносяцца намінатыўныя адзінкі, што не маюць у рускамоўным дачыненні аднаслоўных адпаведнікаў і перакладаюцца або словазлучэннем (параўн.: **зазубень** 'рыболовный крючок', **каржак** 'кряжистое дерево', **падпаветка** 'дровяной сарай', **падважваць** 'приподнимать рычагом', **прычыніцца** 'послужить причиной', **пульхнець** 'становиться пухлым' і да т.п.), або апісальнай канструкцыяй (параўн.: **прыскрынак** 'ящик на боковой стенке сундука для хранения мелких вещей'; **швайка** 'плоское шило, предназначенное для закалывания свиней'; **вырай** 'теплые страны, куда летят зимовать перелетные птицы'; **брама** 'главный въезд во двор, город, усадьбу, на завод и др. в виде двустворчатых крытых сверху ворот' і да т.п.). У безэквівалентную лексіку ўключаюцца экзатызмы, г.зн. словы, што называюць тыя прадметы і паняцці матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, якіх няма ў рускай культуры, у жыцці, тыпу зваротаў *васпан, ягамосць* і інш., найменняў прыгатаванай ежы тыпу *верашчака, камы, дранікі* і інш., назваў пэўных дзеянняў тыпу *дакоскі, дажынкі, заворыны* і інш., сацыяльных найменняў тыпу *дзядзькаванне, староства, дзедаваць* і інш. Безэквівалентную лексіку ўтвараюць таксама назвы відавых паняццяў, якія аднаслоўна не лексікалізуюцца ў рускай мове, дзе ўжываецца толькі родавая назва пэўнай рэаліі тыпу **лузанец** 'вылущившийся орех', **глюга** 'клюв

хищной птицы‘, **прысак** ‘горячая зола‘, **кірпа** ‘курносый нос‘, **імшара** ‘моховое болото‘ і г.д. Яшчэ адну групу беларускай безэквівалентнай лексікі ўтвараюць словы, якія змяшчаюць у сябе дадатную або адмоўную ацэнку (параўн., з аднаго боку: лексемы ***весялуха*** ‘женщина веселого характера‘, **руплівец** ‘прилежный, рачительный, старательный человек‘, **сумленнік** ‘честный, совестливый человек‘, з другога боку, *нікчэмнік* ‘никчемный, ничтожный человек‘, **папіхач** ‘человек, вызывающий к себе презрение, которым помыкают, командуют‘, **зломак** 1. Сломанная вещь; 2. Слабый надорвавшийся на работе человек і інш.

Частка беларускай безэквівалентнай лексікі ўзнікае за кошт словаўтваральных сродкаў, якія не ўжываюцца ў рускай мове для ўтварэння асобных слоў, эквівалентных па семантыцы беларускім (параўн.: **замала** ‘слишком мало, меньше, чем нужно‘; **зашмат** ‘слишком много, больше, чем нужно‘; **засмужаны** ‘затянутый дымкой, мглой‘; **застоліць** ‘подшить потолок‘; **захмарыць** ‘покрыть облаками или тучами‘; **кавальства** ‘кузнечное дело‘; **палагаднець** ‘стать более добродушным, покладистым‘; **каморніцтва** ‘землемерное дело‘ і інш.). Некаторыя беларускія безэквівалентныя словы ўзнікаюць дзякуючы таму, што яны шырэй па значэнню адпаведных рускіх лексем, і адзін ці некалькі полісемантаў выступаюць у якасці безэквівалентных (параўн.: **дзічка** ‘плод дикого дерева‘; **пасад** 1. Древний свадебный обряд; 2. Место в доме, куда по свадебному обряду сажали невесту; **жытніца** ‘ржаная солома‘; *чуцца* ‘чувствовать себя‘ і інш.).

Структура слоўнікавага артыкула ўключае у сябе загаловачнае (рэестравае) слова (з абазначэннем націску), яго граматычныя паметы (канчаткі роднага склону і род назоўнікаў, трыванне дзеясловаў, родавыя канчаткі прыметнікаў (параўн.: **цэля,** -і, ж. ‘тюремная камера‘; **сліўняк**, -у, м., зб. ‘заросли слив‘; **прадвесне,** -я, н. ‘канун весны, предвесеннее время‘; **званчэць** зак. ‘становиться звонким‘; **чысцець** незак. ‘становиться чище‘; **цягавіты,** *-ая, -ае* ‘способный на тяжелую работу, выносливый в труде‘ і інш.), стылістычную характарыстыку (сфера ўжыванне, устарэласць, эмацыянальная афарбоўка) тыпу **чытанка** *уст.* ‘устарэлае‘ ‘книга для упражнения в чтении, для приобретения навыков чтения‘; **чучка** *абл.* ‘абласное‘ ‘косточка согнутого пальца‘; **чубіць** *разм.* ‘размоўнае‘ ‘трепать за чуб, хохолок‘; **чаўпці** *зневаж.* ‘зневажлівае‘ ‘говорить ерунду, нести чушь‘ і г.д., пашпартызаваны (назва аўтара ці крыніцы) ілюстрацыйны прыклад з мастацкіх твораў беларускай літаратуры [параўн.: **клёк,** -у, м., *разм.* 1. Здравый смысл. *Вось і слоў не хапае, скупа клёку ў радкоў.* Лужанін; 2. Жизненная сила. *У добрай бочцы – добры клёк.* Зуёнак.; **рала**, -а, н. Толстый сук. *У ёй (бярозе), у дупле, ніжэй рала, жыла шпачыная* сям'я. Жук] і г.д.

Мнагазначныя словы падаюцца ў межах аднаго артыкула тыпу 1. **акавіта,** -ы, ж., уст. Водка, настоенная на кореньях. 2. *Перан., паэт.* Волшебный животворящий напиток, дающий красоту и молодость і да т.п. Ілюстрацыйны матэрыял выбраны з твораў беларускіх пісьменнікаў 19–20 стст. Слоўнік прызначаны не толькі для навучэнцаў, але і для ўсіх, хто прафесійна працуе з беларускім словам – выкладчыкаў, журналістаў, рэдактараў, перакладчыкаў і інш. Дадзеная лексікаграфічная праца стымулюе стварэнне шматлікіх аналагічных слоўнікаў у дачыненні да іншых як славянскіх, так і неславянскіх моў, тым больш, што нават у адносінах да рускай мовы створаны слоўнік з'яўляецца няпоўным (напрыклад, у асноўнай частцы слоўніка адсутнічаюць лексемы, што згадваюцца як безэквівалентныя ва ўступе тыпу *бондарства, зацесны, зашырокі, пазласнець, бандароўна* і інш.).

Вялікі адваротны слоўнік беларускай мовы выдадзены ў Варшаве (гл.: BARTOSZEWICZ, KOMENDACKA 1988–1989) у чатырох тамах шляхам апрацоўкі ўсіх лексем, што змяшчаюцца ў ТСБМ, г.зн. каля 100 000 розных слоў. Лексемы змешчаны па алфавіце не першай літары, а апошняй, у выніку чаго на першым месцы аказваюцца не словы *абабак, абегчы* і г.д., а *прываба, жаба* і г.д. Матэрыялы

слоўніка даюць магчымасць вызначыць наяўныя ў мове тыпы скланення імён, тыпы спражэння дзеясловаў, зрабіць колькасныя падлікі адносна часцін мовы, марфемнага складу слоў і інш., бо побач размешчаны словы з аднолькавымі канчаткамі, суфіксамі (параўн.: усе інфінітывы на *-ць, -ці, -чы,* усе назоўнікі на *-ац, -ізм, -ня, -ыя* і г.д., усе прыметнікі на *-ы* і г.д.). Даныя слоўніка можна выкарыстаць і для падбора наяўных у беларускай мове рыфмаваных лексем, якія ў гэтай лексікаграфічнай працы размешчаны побач або недалёка адно ад аднаго, прычым не толькі словы адной часціны мовы (параўн.: *тэрор – матор – узор – затвор – кагор – збор – дакор – фальклор – адпор – паўтор – хор – двор – дазор – мухамор – прастор – фарфор – дагавор* і інш.), але і розных тыпу *цвёрды – назаўсёды – нікуды – каляды – жаўтагруды – сульфіды – провады – нелады – куды-нікуды – паўбяды – сапраўды – веды* і г.д.; для ілюстрацыі многіх фанетычных і граматычных з'яў беларускай мовы, выбраць усе словы з падоўжанымі зычнымі, знайсці ўсе назоўнікі на *-мя,* лексемы з аднолькавымі дэрывацыйнымі суфіксамі, тыпу найменні асоб на *-ар, -яр (друкар, лекар, свёкар, пясняр, маляр, цясляр* і інш.), на *-ец (кітаец, баец, шчаслівец, маладзец* і інш), на *-чык (возчык, рэзчык, любімчык* і інш.), на *-шчык (гоншчык, каменшчык, сышчык* і інш.), на *-ёр (гравёр, фантазёр, кантралёр* і інш. ) і г.д.

Значна меншы па аб'ёме адваротны слоўнік (на 14 000 лексем) выдадзены ў Мінску (гл.: ВАРДАМАЦКІ, НЕСЦЯРОВІЧ 1994), аўтары якога не зважаюць на папярэдняе больш грунтоўнае замежнае выданне, бо сцвярджаюць у прадмове, што іх слоўнік –"першая спроба падрыхтоўкі такога тыпу дапаможніка ў беларускім мовазнаўстве", якое дарэчы прадстаўлена ў наш час не толькі айчыннымі, але і замежнымі даследчыкамі Польшчы, ЗША, Аўстрыі, Германіі, Расіі, Украіны, Англіі і інш.

Беларускія ўласныя назвы, прозвішчы людзей, найбольш поўна прадстаўлены ў трохтомнай лексікаграфічнай працы "Беларуская антрапанімія" (гл.: БІРЫЛА 1966–1982), дзе сабраны, сістэматызаваны растлумачаны імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы, утвораныя ад уласных імёнаў, прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі; прыведзена структура ўласных мужчынскіх імёнаў. Ва ўласных імёнах, у прыватнасці ўтвораных ад апелятыўнай (агульнай) лексікі, у значнай ступені кансервуецца слоўнікавы склад розных перыядаў яго развіцця, пластуюцца як асновы слоў славянскага і ўласна беларускага паходжання, так і іншамоўныя асновы, найперш цюркскага і літоўскага паходжання, што дазваляе вывучаць антрапонімы і з гістарычнага, і з тыпалагічнага, і з супастаўляльнага пунктаў гледжання. У адапелятыўнай антрапаніміі адлюстроўваюцца многія бакі розных перыядаў жыцця беларускага народа; гэта лексіка мае суадносіны і з бытам людзей, іх сямейным і сацыяльным становішчам, з маральнымі, фізічнымі, інтэлектуальнымі якасцямі, з пачуццямі, з жывёльным і раслінным светам, з прафесійнай і рамеснай дзейнасцю, з міфалогіяй, этналогіяй, геаграфіяй Беларусі.

Мужчынскія прозвішчы, утвораныя ад уласных імёнаў, сабраны ў першым томе на аснове выбаркі з пісьмовых помнікаў 15–18 стст., а ў другім томе выдзелены прозвішчы, утвораныя не ад імёнаў, а ад славянскай і іншамоўнай апелятыўнай лексікі, якая этымалагізуецца і тлумачыцца ў слоўніку, дзе адначасова прыводзяцца паралелі з замежных моў. Слоўнікавыя артыкулы другога тома будуюцца па схеме: 1) рэестравае слова, 2) тлумачальная частка, 3) сучасныя беларускія імёны, утвораныя на базе рэестравага слова, 4) антрапанімічныя паралелі – а) зафіксаваныя ў беларускіх пісьмовых помніках, б) імёны, суадносныя з рускімі, украінскімі, польскімі, цюркскімі, літоўскімі прозвішчамі; напрыклад, *гайдар рэг.* 'рэгіянальнае', 'пагоншчык, чалавек, які паганяе скаціну на месца назначэння'; *укр.* 'украінскае' *гайдар* 'авечы пастух, аўцавод'; *пол.* 'польскае' gajdar 'дудар, кабзар'. *Гайдар, Гайдаровіч; Гайда-*

*роў; гайла рус.* 'рускае' *гайло* 'шырокае горла, пашча, зяпа' (Даль); *літ.* 'літоўскае' gaila 'жаданы, пажаданы'; *тат.* 'татарскае' *гаилэ* 'сям'я' і г.д.

Рэестравыя словы, якім няма ў сучаснай беларускай мове апелятыўных адпаведнікаў, аднаўляюцца на падставе агульнай наяўнай (зафіксаванай пісьмова) асновы, шляхам яе выяўлення ў сучасных беларускіх прозвішчах і суадносін з апелятыўнымі фармантамі; гэтыя словы пазначаюцца ў слоўніку зорачкай, напрыклад, **мандро*, памянш. *мандрык* рэг. *мандраваць* 'вандраваць', рус. *мандровать*, укр. *мандрувати*. *Мандро, Мандрукевіч, Мандрык, Мандрыкін, Мандрыкевіч, Мандриков.* Украінскія, рускія і іншыя небеларускія прозвішчы падаюцца па адпаведных лексікаграфічных крыніцах замежных моў і скарочана пашпартызуюцца тыпу Ср. "И.И.Срезневский", Грынч. "Б.Грінченко" СЛІ "Справочник личных имен народов РСФСР" (М., 1965) і г.д.

Загаловачныя прозвішчы размешчаны па алфавіце, а ўнутры кожнага артыкула падаюцца ў пэўнай паслядоўнасці: без фарманта, на *-оў, -аў, -ен, -ін, -ын, -овіч, -авіч, -евіч, -эвіч, -іч, -ыч, -енка, -энка, -анка, -ёнак, -онак, -еня, -эня, -ук, -юк* і інш. Пасля названых прозвішчаў прыводзяцца іншамоўныя антрапанімічныя паралелі (параўн.: *Каваль, Коваль, Кавалёў, Кавалевіч, Каваленка, Кавалёнак, Каваленя; Кавалюк; Кавалік; Кавалёк, Кавалько, Кавалькоў; Кавальчук; Кавалец; Кавалеўскі, Кавальскі* і г.д.; рус. ў 16 ст. і ўкр. ў 17 ст. *Коваль, Ковалев, Коваленко, Коваленков, Ковалин, Ковалик, Ковальков, Ковальчик, Ковальчук, Ковальчуков, Ковалевский, Ковальский*) і г.д.

Беларускія ўласныя імёны прадстаўлены і ў значна меншых па памерах лексікаграфічных працах (гл.: СУДНІК 1966). З іншых анамастычных слоўнікаў варта адзначыць пяцітомную працу (гл.: РАПАНОВІЧ 1977–1983), дзе сабраны назвы населеных пунктаў Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай абласцей, кароткі слоўнік беларускіх тапонімаў (гл.: ЖУЧКЕВИЧ 1974), "Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа" (гл.: АНАМАСТЫЧНЫ СЛОЎНІК 1990), дзе прадстаўлены ўсе ўласныя імёны (антрапонімы, тапонімы, мікратапонімы і інш.), што ўжыты народным пісьменнікам Беларусі ў яго дванаццацітомным Збору твораў (Мінск, 1961–1964), тапанімічныя і мікратапанімічныя слоўнікі (гл.: МІКРАТАПАНІМІЯ 1974, і інш.).

У лексікаграфічнай працы (гл.: ЯШКІН 1971) сабрана і растлумачана каля 5000 (з іх 1710 рэестравых) геаграфічных назваў, якія вызначаюць, рэльеф, вадаёмы, ландшафт Беларусі. Матэрыял узяты як непасрэдна з розных мясцовасцяў краіны, так і з архіўных крыніц, мастацкіх твораў, лексікаграфічных выданняў. Усе сабраныя найменні складаюцца з назоўнікаў, якія пазначаюцца націскам, даецца іх тлумачэнне, полісеманты прыводзяцца ў межах аднаго артыкула, амонімы нумаруюцца рознымі лічбамі. Фіксуецца месца ўжывання адпаведнага геаграфічнага тэрміна, у канцы слоўніка даецца індэкс тапонімаў з указаннем старонкі іх ужывання. Праца можа служыць крыніцай разнастайных аднакаранёвых найменняў (варыянтаў) адпаведнай геаграфічнай рэаліі (параўн.: **бульбянішча** 'поле, дзе расла бульба', тое ж *бульбавене, бульбенішча, бульбеўнішча, бульбеўнічча, бульбішча, бульбовінне, бульбавінне, бульбовічча, бульбовішча, бульбоўішча, бульбоўнік, бульбоўнічча, бульбоўнішча, бульбяніска, бульбянка, бульбенне, бульбяшнік*). У канцы адпаведных артыкулаў пасля знака квадрат прыводзяцца ўласныя геаграфічныя назвы гарадоў, вёсак, рэк, азёр, урочышчаў, што ўтвораны ад рэестравага апелятыва (параўн.: **юра** 'высокі адкрыты бераг ракі або ўзгорка' □ в. (вёска) *Юравічы*; **гушчар** 'густы непралазны лес, нетры' □ хутар *Гушчар*. Мядз. (Мядзельскі раён) і г.д.

У працы (гл.: МІКРАТАПАНІМІЯ 1974) змешчана звыш 9000 мікратапонімаў, сабраных вялікім калектывам аўтараў на працягу 1948–1972 гг. у розных рэгіёнах Беларусі. Кожны мікратапонім тлумачыцца назвай прыродна-геаграфічнага аб'екта,

да якога ён адносіцца, тыпу *поле, лес, зараснік, вадаём, паша* і г.д. (параўн.: **жураўшчына** 'поле', **зэлінец** 'паша', **плясы** 'сенажаць', **тапілы** 'лес', **ясэнчук** 'балота', **бусняўка** 'урочышча', **быстрая** 'рэчка', **жалёўкі** 'затока каля Дняпра', **купына** 'возера' і г.д.). Кожнае рэестравае слова пашпартызуецца назвай вёскі, раёна і вобласці, дзе запісаны адпаведны матэрыял. Да некаторых мікратапонімаў прыводзяцца паралелі з балтыйскіх моў (літоўскай, латышскай, прускай) і нямецкай мовы з этымалагічным каментарам. У канцы працы прыведзены адваротны слоўнік усіх зазначаных мікратапонімаў, згодна з якім 56,6%, або каля 5000 мікратапонімаў, з'яўляюцца суфіксальнымі ўтварэннямі.

Дыяхранічны стан лексікону беларускай мовы адлюстроўваецца ў шматтомных незавершаных лексікаграфічных працах (гл.: ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК 1982–2001; ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК 1978–1993), выпуск якіх працягваецца і па розных прычынах сягае ў непрадказальную будучыню. Так, "Гістарычны слоўнік беларускай мовы" распачаты ў 1982 г. на сённяшні дзень даведзены толькі да літары *н* і апублікаваны ў 20 выпусках. Слоўнік змяшчае тлумачэнне і граматычную характарыстыку беларускай лексікі, зафіксаванай у пісьмовых помніках 14–18 стст., г.зн. лексікі так званай старабеларускай літаратурнай мовы амаль пяці стагоддзяў. Гэтая лексіка сабрана ў картатэку, складанне якой завершана ў 1972 г. і якая ўключае ў сябе адзін мільён 60 000 картак. Большая частка літаратурных крыніц беларускай лексікі дадзенага слоўніка прыпадае на перыяд канца 15 – сярэдзіны 17 ст., прычым аўтарам слоўніка давялося вырашаць вельмі складаныя навуковыя праблемы з размежаваннем як літаратурных крыніц, так і слоў, што на розных падставах разглядаюцца даследчыкамі ўсходнеславянскіх краін то як украінскія, то як рускія, то як стараславянскія, то як старажытнарускія, то як уласна беларускія. Для адбору крыніц пры ўкладанні "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" аўтарамі ўлічваліся найперш тэрытарыяльныя прыкметы (месца стварэння пісьмовага помніка), а таксама фанетычныя, граматычныя рысы слоў. Анамастычны матэрыял у цэлым не ўключаўся ў слоўнік, але шматлікія іншамоўныя апелятывы, адаптаваныя старабеларускай мовай, прадстаўлены рознымі тэматычнымі групамі: назвы людзей па розных сацыяльных прыкметах (параўн.: *консулъ, мурза, рабинъ* і інш.), фауністычныя назвы (параўн.: *кедръ, алое, кипарисъ* і інш.), назвы жывых істот (параўн.: *акрида, китъ, коркодилъ* і інш.), найменні артэфактаў (параўн.: *иподромъ, ареопагъ, виссонъ* і інш.), назвы грашовых адзінак, мер (параўн.: *динаръ, драхма, метра* і інш.). Амонімы тыпу *бракъ* 'вяселле' і *бракъ* 'недахоп', а таксама словы з адмоўнай часціцай *не*, якія ўтвараюць самастойныя намінацыі тыпу *небожчикъ, неборакъ, неволничий, ненавидети* і г.д., афармляюцца ў выглядзе асобных артыкулаў. Шматлікія арфаграфічныя, графічныя, фанетычныя варыянты тыпу *тысяча – тысяща – тысеча – тисячя – тисящя – тисеча* і г.д. падаюцца ў адным артыкуле, які ўзначальвае найбольш частотны варыянт адпаведнай лексемы, а астатнія прыводзяцца ўслед за ім па алфавіце. Граматычныя і словаўтваральныя варыянты тыпу *поставленый – поставеный, игрище – игриско, дедина – дедизна* афармляюцца асобнымі слоўнікавымі артыкуламі.

Слоўнікавы артыкул будуецца ў прыведзенай лексікаграфічнай працы па наступнай схеме: 1) рэестравае (загаловачнае) слова і яго варыянты; 2) граматычная характарыстыка; 3) семантычная характарыстыка (дэфініцыя); 4) пашпартызаваная ілюстрацыя; 5) устойлівыя ці фразеалагічныя спалучэнні; 6) супастаўляльная памета або адсылка да іншага слова. Граматычная характарыстыка рэестравага слова ўключае ў сябе яго часцінамоўную прыналежнасць, для імені ўказваюцца – лік, род, памяншальная форма і інш., для дзеяслова – трыванне, для прыметнікаў, прыслоўяў – ступені параўнання і інш. Семантычная характарыстыка загаловачнага слова

ажыццяўляецца рознымі спосабамі, сярод якіх пераважае семантызацыя старабеларускай лексемы адным словам сучаснай беларускай мовы тыпу **белтъ** ‘страла‘, **едвабъ** ‘шоўк‘, **лацно** ‘лёгка‘ і г.д., але выкарыстоўваюцца таксама сінонімы тыпу **валечность** ‘храбрасць, мужнасць, доблесць, адвага‘; **дворно** ‘ветліва, далікатна, прыязна‘ і г.д., і апісальнымі канструкцыямі тыпу **капитула** ‘калегія духоўных асоб пры епіскапскай кафедры‘...; **прономия** ‘маёнтак, з якога даход ішоў у карысць рымска-каталіцкага духавенства‘... і інш. Значэнні многіх слоў (дэрывацыйныя ўтварэнні, зваротныя дзеясловы, аддзеяслоўныя і зборныя назоўнікі і інш.) тлумачацца шляхам адсылкі да невытворных слоў тыпу **зернетко** ...‘ад *зерне*‘; **лисица** ‘тое, што і *лиса*‘; **крытися** ... ‘ад *крыти*‘; **будованье** ... ‘дзеянне па дзеяслову *будовати*‘; **кветье**... ‘ад *квет*‘ і да т.п. Полісеманты і пераносныя значэнні рэестравага слова апісваюцца ў межах артыкула, але выдзяляюцца арабскімі лічбамі і пачынаюцца з новага абзаца, размяркоўваюцца не ў залежнасці ад ступені свайго ўжывання (ад колькасці прыкладаў-картак, назапашаных на кожнае значэнне), а ад часу паходжання, што дае магчымасць адлюстраваць гісторыю развіцця плана зместу адпаведнага слова, выявіць яго этымон і пазнейшыя семантычныя напластаванні. Ілюстрацыі ўжывання слоў падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці, пашпартызуюцца (скарочана ўказваецца назва канкрэтнага беларускага помніка і яго старонка), па магчымасці захоўваюцца найбольш істотныя графічныя рысы выкарыстаных помнікаў (літары старажытнага алфавіта, вынасныя літары і інш.), але апускаюцца надрадковыя значкі, што не мелі фанетычнага значэння, у многіх выпадках матэрыял прыводзіцца ў арфаграфічна спрошчаным выглядзе, які адзначаўся ў многіх пісьмовых беларускіх помніках. У канцы слоўнікавых артыкулаў прыводзяцца ўстойлівыя і фразеалагічныя словазлучэнні, якія выяўлены ў апрацаваных помніках і якім часта адпавядае адно слова сучаснай беларускай мовы тыпу *мети место* ‘існаваць‘, *упоминальный лист* ‘грамата‘, *приставити шапку* ‘прысягнуць‘ і г.д.; пры мнагазначных словах падобнымі ўстойлівымі выразамі ілюструюцца выдзеленыя полісеманты ці пераносныя значэнні, да якіх адносіцца змест канкрэтнай ідыёмы. Супастаўляльныя і адсылачныя паметы выкарыстоўваюцца ў адносінах да тых запазычаных слоў і фанетыка-арфаграфічных варыянтаў, якія змешчаны ў розных артыкулах, адрозніваюцца ад спасылачнага слова або дэрывацыйнымі сродкамі тыпу **побоище** ... параўн. *побоиско* і да т.п., або арфаграфічна тыпу *тастаментъ* і *достоментъ* гл. *тестаментъ* і да т.п., прычым фанетыка-арфаграфічныя варыянты змяшчаюцца не толькі ў асобных артыкулах з адпаведнымі адсылкамі да асноўнай формы слова, але і побач з ім у адным артыкуле (параўн.: **тестаментъ**, *тэстаментъ, тэстамэнтъ, тастаментъ, тастоментъ, тестоментъ, тостоментъ, тастамэнтъ, достоментъ, дастоментъ*). Над слоўнікам працуе калектыў навукоўцаў (Т.І.Блізнюк, А.М.Булыка, П.В.Вярхоў, Р.С.Гамзовіч, А.П.Груцо, Н.Ц.Кажура, Л.М.Шыпалава і інш.), галоўным рэдактарам першых дзевятнаццаці выпускаў з'яўляецца А.І.Жураўскі.

Першы том "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы" апублікаваны ў 1978 г., а на сённяшні дзень апошні восьмы том – у 1993 г., пад рэдакцыяй В.У.Мартынава (складальнікі В.У.Мартынаў, А.Я.Супрун, Г.А.Цыхун, Р.У.Краўчук, І.І.Лучыц-Федарэц, Р.М.Малько, А.Я.Міхневіч, В.Дз.Лабко і інш.). Пры распрацоўцы слоўнікавых артыкулаў аўтары імкнуліся ўлічыць усе словаўтваральныя і семантычныя патэнцыі рэестравых лексем на шырокім праславянскім, балтаславянскім і індаеўрапейскім фоне з адпаведнымі міжмоўнымі і дыялектнымі супастаўленнямі (параўн. адпаведна: **абалонка,** украінскае *болона,* польскае *błona,* чэшскае *blána,* славацкае *blana,* лацінскае *follis* ‘пузыр‘ і інш.; **абертуха** (гродзенскае) ‘вялікі кавалак хлеба‘, заходнепалескае *обэртуха*, усходнепалескае *обертка, обэртушка, абіртня, абярня*

‘скібка хлеба праз усю круглую булку‘ і інш.). Пры гэтым зазначаецца спроба адлюстраваць у слоўніку дэрывацыйныя і семантычныя архаізмы тыпу *атока* ‘рукаў ракі‘, *аканаваць* ‘абяцаць‘ і інш.; усе інавацыі, у тым ліку тэрытарыяльна абмежаваныя тыпу *абаніты* (віцебскае) ‘распешчаны, свавольны, гарэзлівы‘; *алесіца* (магілёўскае) ‘лухта, глупства‘; *адсачыцца* (мінскае) ‘адрадзіцца‘ і інш.; запазычаную лексіку тыпу *адліга* (беларускае), *відлига* (украінскае), *odliga* (польскае), якія ў дадзеным выпадку маюць адзінае славянскае паходжанне і інш.; экспрэсіўную лексіку, якая ў слоўніку разглядаецца ў межах пэўных семантычных палёў тыпу дзеясловаў *аджджвічыць, аджджубаліць, адчубасіць* і інш.; геаграфічную стратыфікацыю лексікі для выяўлення этымонаў (першасных формаў і значэнняў лексем) тыпу *вол* суадносіцца з праславянскім дзеясловам **velti* ‘тое, хто нешта валяе, коціць, б’е, мне‘, і інш. Пры складанні “Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы” скарыстаны ўвесь наяўны лексічны матэрыял – апублікаваныя слоўнікі (тлумачальныя, дыялектныя, гістарычныя і інш.), картатэкі, рукапісныя слоўнікі, архіўныя матэрыялы, этнаграфічныя і фальклорныя выданні, дысертацыйныя працы і інш., у выніку чаго рэалізуецца стварэнне панарамнай карціны беларускай лексікі ў прасторы і часе. У якасці рэестравых адзінак падаюцца таксама некаторыя фразеалагізмы і ўстойлівыя тэрміналагічныя спалучэнні тыпу **балясы тачыць** ‘балагурыць‘, **бабек польны** ‘расліна ...асліннік двухгадовы‘; **бабіна лета, божы пояс** ‘вясёлка‘ і інш.

Структура слоўнікавага артыкула ўключае ў сябе загаловачную лексему, якая пазначаецца націскам, яе тлумачэнне, фанетыка-арфаграфічныя варыянты, формы і значэнні зыходнага слова ў іншых супастаўляльных мовах, спасылкі на разнастайныя крыніцы, дзе разглядаюцца беларускае і суадносныя словы, часам інтэрпрэтацыю прыведзеных этымалогій. Так, рэестравае слова **асвер** тлумачыцца як ‘вага ў студні, рычаг для падымання бярвення‘, варыянты *ацьвер, асвір, асверына, асвера, асверг, асверх, свира, свиршня, свирэня, перасвир, перасверт, свирэць*. У рускіх дыялектах (пскоўскіх, цвярскіх) *асвер, освер*; укр. *свірка* ‘вяроўка, якой замацоўваецца пуга да пугаўя?‘ (знак пытальніка сведчыць пра гіпатэтычнасць сувязі *асвер* і *свірка*), літоўскае (без надрадковых знакаў) *sverti* ‘важыць, балансаваць‘, svaras ‘вага‘, латышскае *svira, sviris, sverts, svirts, svirkstenis, svirstene.* Крыніца запазычання гэтага слова, відаць, латышская мова, корань слова ўзыходзіць да індаеўрапейскага дзеяслова *(s) uer- ‘падвешваць, падважваць; цяжкі‘; у дадзеным артыкуле даюцца спасылкі на Фасмера, Трубачова, Міклашыча, Мюленбаха, Эндзеліна, Краўчука, Цыхуна, Урбуціса, Лаўчэтэ, Покарнага, Траўтмана і г.д., на іншыя навуковыя крыніцы, робіцца адсылка да слова *свер*, якое павінна разглядацца ў яшчэ не надрукаваных частках слоўніка. Матэрыялы лексікаграфічнай працы ўключаюцца ў шырокі кантэкст этымалагічных даследаванняў славянскіх і далей індаеўрапейскіх моў, так што значэнне яе выходзіць далёка за межы беларускага мовазнаўства.

Старабеларускія лексемы прадстаўлены ў працы (гл.: ПРЫГОДЗІЧ, ЦІВАНОВА 1997), дзе прыведзена звыш 6000 рэестравых лексем, сабраных з разнастайных крыніц. Словы прыведзены без націску і стылістычных памет, але выдзяляюцца полісеманты, адлюстраваны фанетычныя, марфалагічныя і дэрывацыйныя варыянты, прыводзяцца ўстойлівыя выразы (пасля знака ромба ў адпаведных артыкулах), даецца пераклад на сучасную беларускую мову, напрыклад: **выналезти** 1) вынайсці, прыдумаць; 2) пастанавіць; 3) адшукаць, знайсці і да т.п., зрэдку прыводзяцца граматычныя паметы ў выглядзе скарочанай часцінамоўнай характарыстыкі некаторых слоў. Пераклад даецца адным словам (параўн.: **мурлат** ‘бэлька‘, **семо** ‘сюды‘, **шпаковатый** ‘пярэсты‘ і да т.п.), сінонімамі (параўн.: **выцвиченость** ‘вопыт, уменне‘: **лгаръ** ‘ілгун, хлус, манюка‘ і да т.п.), словазлучэннямі (параўн.: **маца** ‘мера збожжа‘,

**набрешникъ** 'гончы сабака' і да т.п.), разгорнутымі апісаннямі (параўн.: **вытъ** 'участак зямлі, які належыць асобнай гаспадарцы': **становничий** 'службовая особа пры двары вялікага князя, адказная за размяшчэнне і пражыванне знакамітых гасцей і паслоў' і да т.п.). У дадатку прыводзяцца літары старажытнай кірылаўскай азбукі, іх лікавае значэнне, вынасныя літары і надрадкавыя знакі, што ўжываліся ў беларускім старажытным пісьменстве, а таксама фотакопіі паасобных урыўкаў са старабеларускіх помнікаў 16–17 стст.

З іншых уласна лінгвістычных слоўнікаў варта адзначыць лексікаграфічную працу (гл.: АРАШОНКАВА, ЛЕМЦЮГОВА 1991), дзе даецца граматычная інфармацыя пра 1500 знаменальных рэестравых слоў (дзеясловы, назоўнікі, прыметнікі), якая зводзіцца да ўказання валентнасці, сінтаксічнага кіравання загаловачнага слова шляхам указання залежных склонавых формаў іншых спалучальных слоў у выглядзе пытанняў *каго, што, да чаго, чым, кім, у кім, у чым, ад каго* і г.д. Да кожнага з полівалентных і мнагазначных слоў прыведзена па некалькі пытанняў тыпу *каго, чым, на каго* і інш., напрыклад: дзеяслоў **ладзіць** (жыць у згодзе, быць у ладу) *з кім-чым*; назоўнік **догляд** *за кім-чым* і *каго-чаго*; прыметнік **лаяльны** *да чаго* і г.д. Асаблівую лінгвістычную каштоўнасць маюць тыя слоўнікавыя артыкулы, дзе беларускія рэестравыя лексемы істотна адрозніваюцца сваёй валентнасцю ад суадносных рускіх лексем (параўн.: **дзякаваць** каму і *благодарить* кого, **ажаніцца** з кім і *жениться* на ком, **смяяцца** з каго і *смеяться* над кем, **загадчык** чаго і *заведующий* чем і г.д.). Слоўнік з'яўляецца беларуска-рускім, але беларуская частка істотна перавышае рускую, бо беларускія загаловачныя словы ілюструюцца прыкладамі сінтаксічнага выкарыстання ў мастацкай літаратуры са спасылкай на адпаведных аўтараў ці крыніцы тыпу **зрачыся** каго-чаго. *Калі цябе зраклася сям'я і твае дружбакі, жыві ў нас* (У.Дубоўка); **аздобіцца** ў што і чым. *Падаконнікі аздобіліся букетамі кветак* (Т.Хадкевіч) і г.д. Для рускіх перакладных адпаведнікаў таксама ўказваецца валентнасць (сінтаксічнае кіраванне), але ілюстрацыі прыводзяцца пераважна не з рускай мастацкай літаратуры, а з тлумачальных слоўнікаў рускай мовы (параўн.: **аб'есціся** чаго і чым. *Соня і Леначка аж аб'еліся пенкамі* (У.Карпаў). – *объесться* чем і (радзей) чего. *Объелся сладким пирогом. Белены объелся;* **жыць** чым, з чаго. *Іхняя вёска Грачанікі – усе лесуны, толькі жылі з заработкаў у лесе* (Я.Брыль). – *жить* чем і на что. *Жить уроками. Жить на зарплату мужа* і да т.п. Часам рускія пераклады ілюструюцца прыкладамі з мастацкай літаратуры, а часам увогуле прыводзяцца без ілюстрацый, напрыклад: **грэбаваць** кім, чым. *Хлопцы працай не грэбуюць* (А.Зарыцкі). – *гнушаться* кого і (рэдка) кем, чем, чего. *Впрочем дедушка никакой низкой платой не гнушался* (А.Куприн) і інш. Не суправаджаюцца ілюстрацыямі такія рускія адменнікі, як *грозный* чем і в чем, *гравировать* 1) что, 2) на чем; *смотреть* за кем, *торговец* чем, *гарантировать* 1) кому, что, 2) кого, от чего і інш. У канцы слоўніка прыводзяцца прадметныя паказальнікі асобна беларускіх слоў і асобна рускіх слоў з указаннем іх валентнасці і старонак слоўніка, дзе выкарыстоўваюцца гэтыя лексемы.

## 12.6. ДЫЯЛЕКТНЫЯ СЛОЎНІКІ

Збор і лінгвістычная апрацоўка дыялектнага лексічнага матэрыялу беларускай мовы даволі актыўна вяліся ўжо ў канцы 18 ст. і на працягу ўсяго 19 ст. ў этнаграфічных, гістарычных, фальклорных, лінгвістычных і іншых працах А.Меера, П.Бяссонава, П.Гільтэбранта, Я.Чачота, М.Доўнара-Запольскага, А.Кіркора, М.Нікіфароўскага, Е.Раманава, П.Шэйна, Я.Карскага і інш., а таксама і ў спецыяльных лексікаграфічных працах С.Мікуцкага, П.Шпілеўскага, І.Грыгаровіча,

К.Калайдовіча, У.Дабравольскага і інш. Дыялектным слоўнікам фактычна служыць і найвялікшая лексікаграфічная праца па беларускай мове 19 ст. І.Насовіча (1870), дзе сабрана і па-руску патлумачана каля 30 000 слоў пераважна з Магілёўскай губерні.

У 20 ст. выдаюцца слоўнікі асобных гаворак Беларусі, напрыклад, "Віцебскі краёвы слоўнік" (гл.: КАСЬПЯРОВІЧ 1927), дзе з дапамогай рускай мовы (правая частка слоўніка) семантызуюцца 9703 агульнабеларускія і дыялектныя лексемы, сабраныя ў 591 населеным пункце былой Віцебскай акругі. Акрамя ўласна беларускіх слоў тут змешчаны і запазычанні з розных моў: польскай, літоўскай, нямецкай, лацінскай і інш., за выняткам рускіх слоў, невялікая колькасць якіх уключана ў рэестравую частку, бо аўтар палічыў іх добра засвоенымі, асіміляванымі беларускай мовай (параўн.: *амут, жалка, пасуліць* і інш.). У выглядзе асобных артыкулаў аформлены і некаторыя фразеалагізмы тыпу **дацца ў знакі** 'абрыднуць', **як мае быць** 'адпаведна норме', **хадала даваць** 'хутка ўцякаць' і інш., а таксама ўстойлівыя тэрміналагічныя словазлучэнні, звязаныя з найменнямі раслін (параўн.: *дзятліна жоўтая, казелец балацяны, рамон сабачы* і інш.). Асобнымі артыкуламі аформлены дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу (параўн.: *забелены, мураваны, падкаваны* і інш.), формы вышэйшай ступені параўнанняў якасных прыметнікаў тыпу *бліжэй, радней, часцей* і інш. Фанетычныя і марфалагічныя варыянты падаюцца ў адным артыкуле (параўн.: *ячны, яшны; касавіла, касавільня, касаўё* і інш.), а таксама дзеясловы закончанага і незакончанага трыванняў (параўн.: *дадаваць* і *дадаць, прымушаць* і *прымусіць* і інш.). Для рэестравых слоў даецца націск; з граматычных памет указваюцца часцінамоўныя, а для назоўнікаў указваюцца род і канчаткі роднага склону адзіночнага ліку, а падчас і множнага ліку. Для тэрміналагічных назваў прыводзяцца лацінскія адпаведнікі. Усе значэнні слоў пашпартызуюцца прыкладамі (назвы раёнаў і населеных пунктаў, дзе зафіксаваны гэтыя прыклады). У канцы лексікаграфічнай працы дадаецца "Слоўнічак уласных найменняў", які ўключае 290 мужчынскіх і жаночых імёнаў разам з рускімі перакладамі-адпаведнікамі (пра жыццёвы шлях і навуковую дзейнасць М.І.Каспяровіча гл.: ГЕРМАНОВІЧ 1985, 147–156).

"Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны" (гл.: ШАТЭРНІК 1929) змяшчае каля 9000 лексем і фразеалагізмаў, што перакладаюцца ў правай частцы слоўніка на рускую мову або тлумачацца па-руску, прыводзяцца пашпартызаваныя ілюстрацыі, уключна прыказкі і прымаўкі, з мясцовых гаворак, рэестравыя словы пазначаюцца націскам, некаторымі граматычнымі паметамі, часам прыводзяцца дэрываты. Назоўнікі, у прыватнасці, суправаджаюцца канчаткамі форм роднага склону, прыметнікі – кароткімі і памяншальнымі формамі, дзеясловы – зваротнымі формамі і формамі трывання, дзеепрыметнікі – формамі залежнага стану прошлага часу і інш. Для запазычаных слоў і рэгіянальных назваў флоры і фауны прыводзяцца адпаведныя крыніцы паходжання і лацінскія найменні.

Найбольш значнымі і вялікімі па памеры дыялектнымі слоўнікамі беларускай мовы служаць пяцітомныя выданні, прысвечаныя апісанню рыгіянальнай лексікі паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча (гл.: СЛОЎНІК 1979–1986) і Тураўшчыны (гл.: ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК 1982–1987). У першай працы змешчана карта, на якой паказаны геаграфічныя межы збору дыялектнага лексічнага матэрыялу, якія ахопліваюць больш паловы тэрыторыі сучаснай Беларусі, а таксама прыгранічныя ўчасткі суседніх тэрыторый Літвы, Латвіі, Польшчы. Дыялектны матэрыял збіраўся цягам 1954–1978 гг. пад час працы над "Агульнаславянскім лінгвістычным атласам", а потым і "Лексічным атласам беларускіх народных гаворак" (ЛАБНГ), які ўжо выдадзены і таксама ў пяці тамах. Агульная картатэка, на аснове якой створаны слоўнік, уключае каля 500 000 картак-слоў, сабраных экспедыцыйным шляхам. Акрамя таго ў слоўніку выкарыстана каля 1000 дыялектных слоў, выпісаных з "Хрэстаматыі па

беларускай дыялекталогіі" (Мінск, 1962). У слоўніку шырока прадстаўлены разнастайныя тэматычныя пласты дыялектнай лексікі (назвы жывых істот, прыродных з'яў, лексіка, звязаная з сельскай гаспадаркай, паляваннем, рыбалоўствам, ежай, рамяством, адзеннем, паводзінамі і знешняй характарыстыкай людзей і інш.), а таксама запазычаная лексіка пераважна з балтыйскіх (літоўскай, латышскай), нямецкай і польскай моў, экспрэсіўная лексіка. Рэестравае слова падаецца з націскам, арфаграфіяй, якая захоўвае фанетычныя дыялектныя рысы тыпу *е* замест *ё, о* (*авес* 'авёс', *памер* 'памёр' г.д.), *а, я* замест *е, і* (*асляпнуць* 'аслепнуць' *цвяк* 'цвік' і інш.), са стратай пачатковага галоснага (*голка, гурок* і інш.) і зычных (*арох* 'гарох', *алава* 'галава', *осім* 'восем' і інш.), мяккае *ц* у інфінітыве (*мыцця, сварыцця* і інш.), вымаўленне *у* на месцы *ы* (*булі, буваіць* і інш.), *к* замест *х* (*клеп* 'хлеб', *квароба* 'хвароба' і інш., а таксама граматычныя – тыпу *начоўка* 'начоўкі', *лошка* 'ложак' і г.д., зваротныя формы дзеясловаў замест незваротных (*відацца* 'відаць' і інш.) і г.д. Варыянты падаюцца ў межах аднаго артыкула пасля загаловачнага слова (параўн.: *ашчадно, ашчодно, ошчэндно, ошчядно; вялізны, вялёзны, вылызный* і г.д.).

Рэестравыя словы суправаджаюцца часцінамоўнымі і стылістычнымі паметамі тыпу *арх.* 'архаічнае', *бат.* 'батанічнае', *вульг.* 'вульгарнае', *груб.* 'грубае', *іран.* 'іранічнае', *лаянк.* 'лаянкавае', *мед.* 'медыцынскае', *рэліг.* 'рэлігійнае', *экспр.* 'экспрэсіўнае' і інш.; прыводзяцца граматычныя характарыстыкі: род, лік для назоўнікаў, закончанае, незакончанае трыванне для дзеясловаў. Для запазычаных слоў скарочана прыводзіцца крыніца паходжання тыпу *англ.* 'англійскае', *лат.* 'латышскае', *лац.* 'лацінскае', *літ.* 'літоўскае', *руск.* 'рускае', *тат.* 'татарскае', *эст.* 'эстонскае' і інш. Раскрыццё значэнняў дыялектных загаловачных лексем робіцца часцей за ўсё беларускімі літаратурнымі адпаведнікамі тыпу **бястыднік** 'сарамотнік', **гаргара** 'вялізны прадмет, будынак', **гушкацца** 'калыхацца' і г.д., або разгорнутымі тлумачэннямі тыпу **аплескаць** 'падраўноўваць лапатай грады з бакоў'; **астрова** 'яліна з каротка абсечанымі сукамі' і інш., або сінонімамі тыпу **аплаух** 'неразумны, дурань'; **аплуціцца** 'атлуміцца, адурманіцца'; **апкутацца** 'ухутацца, адзецца'; **атрубісты** 'стромы, круты'; **гуц** 'гультай, абібок' і інш., або шляхам адсылкі да сінонімаў ці невытворных, ці варыянтных слоў тыпу **атрута** 'тое, што і *атрава*'; **ашчэпак** 'тое, што і *аскалёпак*'; **барць,** *барця* гл. *борць*; **бліскаўка** 'тое, што і *бліскавіца*'; **блішанка** гл. *бляшанка* і г.д.

Большасць неадсылачных слоў ілюструецца пашпартызаванымі прыкладамі з мясцовых гаворак (скарочана ўказваецца раён і поўная назва вёскі, дзе запісаны канкрэтны прыклад, тыпу **выпарошваць** 'кастрыраваць'. *Выпарошваць свіней.* Дакудава Лід. (Лідскі раён); **выгубіць** 'знішчыць, вывесці'. *Сухі мазоль выгубіла, а Паляніха не можа выгубіць.* Магуны Паст. (Пастаўскі раён) і г.д. У канцы слоўнікавых артыкулаў прыводзяцца разнастайныя парэміі, фразеалагізмы, загадкі, прымхі і інш. (параўн.: *выбіцца са сну, бярозавая каша, Чужых варот не зачыніш, За адным сінім усе гінім, Бальшы глын і рот дзярэць* і г.д.). Запазычаныя словы (пераважна з польскай, нямецкай, літоўскай моў) забяспечваюцца лексічнымі паралелямі з мовыдонара, напрыклад: **гута** 'шклозавод', параўн. польскае guta szklana; **грозны** 'навальнічны', параўн. рускае *грозовой*; **вэрсаць** 1. нанізваць, 2. шнураваць, параўн. літ. *varstyti* 'шнураваць'; **балдавешка** 'доўгі шост, якім заганяюць рыбу ў сетку', параўн. літ. *baldas* 'тое ж самае'; **батаст** 'батыст', параўн. літ. *batastas,* пол. *batyst* фр. *batiste;* **густ** 'схільнасць, любоў да чаго-небудзь', параўн. пол. *gust,* лац. *gustus* 'смак' і інш., што можа быць выкарыстана для этымалагізацыі адпаведных беларускіх лексем.

Полісеманты мнагазначнага дыялектнага слова выдзяляюцца ў межах аднаго артыкула з адпаведнымі кантэкстуальнымі ілюстрацыямі, якія ўвыпукляюць менавіта выдзелены сэнс дыялектнага слова, напрыклад: **гушча** ж. 1. Крупы. *У ступах гушчу*

*таўклі.* 2. Суп з ячных круп, бобу. *Гушчу варылі з круп і бобу.* 3. Гушча (у страве, пойле). *Адна гушча, юшкі падлій.* 4. Жамерыны. *Асталася гушча ад ягад* і г.д. Многія парэміі суправаджаюцца тлумачэннямі (параўн.: *бярозавая каша* 'пакаранне розгай'; *валлё на нашым баку* 'праўда, верх, перамога'; *падавіцца волаццю* 'перастаць кукаваць'; *на ваўка злезці* 'нічога не відаць'; *накласці ў бонду* 'назапасіць' і г.д.). Частка беларускіх дыялектных слоў, якія маюць несупадальнае значэнне з суадноснымі лексемамі іншых моў, суправаджаюцца замежнымі словамі разам з тлумачэннем іх значэнняў (параўн.: *байбак* 'бальшун', літоўскае *baibokas* 'падлетак', цюркскае *байбак* 'птушка'; *бурвалак* 'паваленае бурай дрэва', чэш. *burválka* 'куча, здаравяка' і інш. Слоўнік укладзены даволі вялікім калектывам аўтараў (Ю.Мацкевіч, А.Чабярук, Ф.Клімчук, В.Старычонак, Я.Рамановіч і інш.), уключна замежных (А.Грынавіцкене з Літвы, Я.Петрачук, Э.Смулкова, Я.Глушкоўска, Т.Ясінска-Соха з Польшчы і інш.).

У "Тураўскім слоўніку" прадстаўлена звыш 20 000 слоў, якія збіраліся каля 20 гадоў і назапашаны на 60 000 картках разам з кантэкстам (прыкладамі) іх ужывання. Раён абследавання склалі акрамя гарадскога пасёлка Турава 33 навакольныя вёскі, што ўмоўна і названа Тураўшчынай, а яе жыхары названы замшукамі ў адрозненне ад астатніх жыхароў усходняга Палесся, якія адносяцца да палешукоў. Рээстравую частку слоўніка складае так званая традыцыйная лексіка, у якую ўваходзяць спрадвечныя (старыя) словы, экзатычная лексіка, што характэрна толькі для Тураўшчыны, словы літаратурнай мовы, адаптаваныя тураўскай гаворкай, уключаны таксама мясцовыя воклічы і выгукі (звароты да свойскіх жывёл) тыпу *ац, аца* 'вокліч, якім паварочваюць вала ў возе ўправа'; *аціва* 'вокліч, якім адганяюць курэй'; *аціпа* 'вокліч, якім адганяюць куранят'; *алюш, алюша* 'вокліч, якім адганяюць цяля' і г.д. Фанетычныя варыянты (параўн.: *андычка, ендычка* 'індычка'; *авус, авуса, авыс, авыса, авіс, авіса, авісса* 'вокліч, якім адганяюць ката'; *багук, баук, богук* 'свіны страўнік, начынены мясам' і інш.) змешчаны побач у адным слоўнікавым артыкуле, дзе прыводзяцца таксама наяўныя амонімы, напрыклад: **байдура** 1. Лайдак, абібок, 2. Вялікі кавалак (сала, хлеба і інш.); **бай** 1. Міфічны казачнік, 2. Байка, фланель і інш., і полісеманты (параўн.: **вірок** 1. Вір, 2. Прылада матаць ніткі ў клубок; **голомоўза** 1. Бязрогая карова, 2. Чалавек з голай галавой і інш.). Прыводзяцца агульнапрынятыя скарачэнні граматычных памет (параўн.: для назоўнікаў – род тыпу *грабанец* м., *грыўня* ж., *грыбовішча* н.; для дзеясловаў – трыванне тыпу *грызнуць* зак., *грызці* незак.; для астатніх слоў – часцінамоўныя паметы тыпу *гразкі* прым., *гразко* прысл., *аніж* часц., *або* злучн., *абу-хто* займ., *авуль* выкл. і г.д.), а таксама стылёвыя скарачэнні *абразл.* 'абразлівае', *груб.* 'грубае', *зневаж.* 'зневажальнае', *метаф.* 'метафарычнае' і інш. для тых слоў, што не адносяцца да нейтральных. Значэнні слоў у пераважнай большасці раскрываюцца або беларускімі літаратурнымі словамі (параўн.: **горушчы** 'працавіты'; **блуднік** 'валацуга'; **багатыр** 'багач'; **буцацца** 'стукацца', **ведлуг** 'паводле' і інш.), або апісальным абаротам (параўн.: **бобік** 'печаная галушка з цеста'; **вузленя** 'маленькая жвавая істота'; **бабайка** 'пярэдняе рулявое вясло на плыце' і інш.), або сінонімамі (параўн.: **блукацца** 'сланяцца, валачыцца'; **бабок** 'адуванчык, дзьмухавец'; **горосць** 'горыч, гаркота'; **гарны** 'добры, прыемны, гожы' і інш.), а таксама кантэкстам ужывання, прадстаўленым адпаведнымі пашпартызаванымі ілюстрацыямі, частку якіх складаюць фальклорныя творы (іх жанр пазначаецца) тыпу *Змея зноў пошла восвояху* (з казкі); *Шо гак, то новы знак* (прыказка); *Горы-горы гарко прыдзе Захарко, сам на кобылі, жонка на корові, дзеці на целята, слугі на собаках* (з песні); *Ведома, сова заб'е сокола* (прымаўка) і г.д. Не ілюструюцца прыкладамі, як правіла, наменклатурныя назвы і словы з вузкай сферай ужывання. Многія артыкулы заканчваюцца фразеалагізмамі, якія маюць у сваім складзе загаловачнае слова

(параўн.: *байды біць* ‘адвільваць ад працы, займацца глупствам‘, *вобраць бокі* ‘схуднець‘, *водзікі водзіць* ‘вышываць‘, *вукідваць конікі* ‘жартаваць‘, *вукласці бокі* ‘наесціся да адвалу‘ і інш.). У канцы кожнага тома прыводзяцца тэксты, што прадстаўляюць сабой узоры мясцовых гаворак у выглядзе легендаў, казак, паданняў, абрадаў і іншых відаў вуснай маўленчай дзейнасці замшукоў. Складальнікамі слоўніка з’яўляюцца А.Крывіцкі, Г.Цыхун, І.Яшкін, прызначаецца ён для спецыялістаў-філолагаў і ўсіх прыхільнікаў беларускай мовы.

З трох выпускаў складаецца “Дыялектны слоўнік” (гл.: ЯНКОЎСКІ 1959, 1960, 1970) і калектыўная праца (гл.: МАТЭРЫЯЛЫ 1970, 1974, 1977). У першай працы адлюстравана пераважна дыялектная лексіка Глускага раёна, а таксама прыводзяцца паралелі як з іншых беларускіх гаворак, так і з іншых моў (нямецкай, балгарскай, польскай, чэшскай і г.д.). У слоўніку прадстаўлена даволі багатая дыялектная сінанімія, ілюстрацыі з гутарковай мовы і фальклору, некаторыя энцыклапедычныя звесткі пра флору і фауну Беларусі, звычаі і абрады яе насельнікаў.

У “Матэрыялах” сабраны тыя дыялектныя словы (каля 6000), што адсутнічаюць у нарматыўным “Беларуска-рускім слоўніку” (М., 1962) або маюць іншыя семантычныя і акцэнталагічныя характарыстыкі. Гэтыя словы зафіксаваны ў 20 раёнах Мінскай, адным раёне Віцебскай і двух раёнах Гродзенскай абласцей. Тлумачэнне дыялектных лексем даецца або адным літаратурным словам (параўн.: **бачок** ‘бідон‘, **барзей** ‘лепш‘, **гэсаль** ‘прайдзісвет‘, **рышта** ‘канава‘ і г.д.), або двума сінонімамі (параўн.: **кубел** ‘кацёл, чан‘; **скаромніна** ‘сала, тлушч‘; **раскяпіць** ‘раскалоць, расшчапіць‘; **заплянтажыць** ‘затаптаць, забрудзіць‘ і г.д.), або апісальным абаротам (параўн.: **тандэт** ‘месца гандлю рэчамі старымі, ужыванымі‘; **сяльнік** ‘вялікі палатняны мяшок, у якім носяць салому, сена, траву‘; **сцёбка** ‘памяшканне для захавання бульбы, агародніны і прадуктаў‘ і інш.).

Кожны слоўнікавы артыкул будуецца па наступнай схеме: рэестравае слова ў арфаграфічным напісанні, пасля яго ў дужках даецца транскрыпцыя вымаўлення дадзенага слова ў пэўнай гаворцы, скарочаная граматычная і стылістычная характарыстыкі слова, тлумачэнне загаловачнай лексемы, прыклад яе выкарыстання, скарочаны запіс населенага пункта, дзе зафіксавана рэестравае слова, напрыклад: **апіння** (апіньня) *жан.* Рэпутацыя. *Заслужыў ён тут добрую апінню.* Граб. (Скарочаны запіс *жан.* абазначае тое, што дадзены назоўнік жаночага роду, Граб., што слова занатавана ў вёсцы Грабенка Чэрвеньскага раёна). Большасць слоў ілюструецца адным прыкладам яго ўжывання, аднак для некаторых лексем прыводзіцца па некалькі ілюстрацый (параўн.: *плаценак, абножка, рагавік, зялязніца* і інш.). Для пераважнай колькасці сабраных лексем фіксуецца па аднаму значэнню, толькі некалькі дзесяткаў слоў прадстаўлены ў двух і болей значэннях (параўн.: *вітушка, каза, каўбух, летнік, дармо* і інш.). Дзеясловы суправаджаюцца скарочанымі паметамі трывання, канчаткамі першай і другой асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу (параўн.: *стушыць*, -у, -ыш; зак. тр.; *стыдацца*, -ю-ся, -еш-ся; незак. тр. і г.д.). Стылістычныя паметы скарочана характарызуюць або пераноснае значэнне слова *перан.* (а таксама словы лаянкавыя, іранічныя, грубыя, ласкальныя, зневажальныя і інш.), або словы, належныя да пэўнай галіны ведаў тыпу *мед.* ‘медыцынскае‘, *бат.* ‘батанічнае‘, *заал.* ‘заалагічнае‘ і г.д.

У пачатку слоўніка прыведзены спіс населеных пунктаў (усяго 107 назваў), у якіх сабраны дыялектны матэрыял, а ў канцы даецца спіс парэмій (прыказак, прымавак, фразеалагізмаў), зафіксаваных у назапашаным матэрыяле (усяго ў трох выпусках слоўніка адзначана 581 парэмія), прычым для некаторых дадзены тлумачэнні, а для большасці з гэтых парэмій прыведзены і пашпартызаваныя прыклады іх ужывання тыпу *браць у плечы* ‘мёрзнуць‘. *Мяне нешта сёньня вельмі ў плечы бярэ.* В. В. (вёска Вялікая Вуса Уздзенскага раёна); *выкаціць трубой* ‘выгнаць‘. *Калі сама не*

*пойдзяш, дык я цябе трубой выкачу*. Кам. (вёска Каменка Уздзенскага раёна) і г.д. Слоўнік складзены калектывам аўтараў (М.Жыдовіч, І.Каралёва, У.Лазоўскі, Е.Мяцельская, І.Шчарбакова) кафедры беларускай мовы БДУ і прызначаны для навуковых работнікаў, выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў, студэнтаў-філолагаў, усіх, хто цікавіцца беларускім народным словам.

З аднатомных дыялектных слоўнікаў сваім памерам (больш 20 000 розных слоў) выдзяляецца лексікаграфічная праца, прысвечаная апісанню слоў усходняй Магілёўшчыны (гл.: БЯЛЬКЕВІЧ 1970). На пачатку працы даецца геаграфічная карта (22 раёны Магілёўскай вобласці), дзе збіраўся лексічны матэрыял, які апрацаваны аўтарам яшчэ ў даваенны час, але надрукаваны толькі ў 1970 г. ў выглядзе слоўніка ўжо пасля смерці І.К.Бялькевіча. У адрозненне ад даваенных дыялектных слоўнікаў М.Шатэрніка і К.Касяровіча тлумачэнне беларускіх рэестравых лексем робіцца тут не рускімі адпаведнікамі і апісальнымі канструкцыямі, а словамі беларускай літаратурнай мовы, якія суправаджаюцца пашпартызаванымі ілюстрацыямі з указаннем населеных пунктаў, дзе яны запісаны [назва вёскі і скарочанае найменне раёна тыпу **вожык**, -а, м. ‘Палка з апаленым канцом, жыган‘. *Хоць ты яго вожыкам пары*. Кокатава. Мсцісл. (Мсціслаўскі раён)]. Тлумачэнні робяцца і аднаслоўнымі адменнікамі (параўн.: **дакучыны** ‘турботы‘, **дзяньгуб** ‘лодыр‘, **нашыйнік** ‘шалік‘, **віляхвост** ‘падліза‘, **каверзні** ‘лапці‘ і інш.), і сінонімамі (параўн.: **пашанціць** ‘пашанцаваць, пашчасціць‘; **соладасна** ‘прыемна, хораша‘; **скулунда** ‘адкіды, смецце, астатак‘ і інш.), і словазлучэннямі (параўн.: **шаршатка** ‘вялікая іголка‘, **шлыгіна** ‘абчэсаны кол, загатоўка для полаза‘ і інш.), і апісальнымі канструкцыямі (параўн.: **цэлкавуха** ‘яешня, спечаная на скавародзе з неразбоўтаных яец‘; **гырсаўка** ‘вязаная з воўны хустка‘; **надзежнік** ‘абрус, якім накрываюць дзяжу‘ і інш.). З граматычных памет указваецца часцінамоўная прыналежнасць слоў, для назоўнікаў пазначаецца род і прыводзіцца канчатак роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду.

У слоўнік уключана даволі шмат агульнабеларускіх слоў тыпу *зорны, усюды, госць, газета, з'езд* і г.д., многія з якіх сінанімізуюцца дыялектнымі лексемамі (параўн.: **ганчар** ‘гаршкоўнік‘, **абрус** ‘настольнік, абедашнік‘ і інш.). У слоўніку адлюстраваны старажытнаўсходнеславянскія лексемы тыпу *адчызна, ветка, воздух* і інш., якія адсутнічаюць у сучаснай беларускай літаратурнай мове, але захаваліся ў рускай літаратурнай мове; запазычанні з розных моў (параўн.: *гарбата, ванзэлак* і інш. – з польскай; *бажанне* і інш. – з украінскай; *агундар* і інш. – з яўрэйскай і г.д.); шмат мясцовых лексем тыпу *абдур* ‘падман‘, *навея* ‘гурба снегу‘, *возік* ‘рамізнік‘, *шапкаваць* ‘здымаць перад кім-небудзь шапку‘ і інш. Рэестравыя словы пазначаны націскам, але адсутнічаюць стылістычныя паметы. У слоўніку даволі шырока прадстаўлены народныя батанічныя, заалагічныя і метэаралагічныя назвы, шматлікія фразеалагізмы як у рэестравай, так і ў тлумачальнай частках слоўніка (параўн.: *даць пудлу* ‘напалохаць‘, *насвяціцца вачамі* ‘набрацца сораму‘ і інш.), а таксама фанетычныя, граматычныя і словаўтваральныя варыянты лексем тыпу *цяпер, цяпера, цяперака, цяперыцька; магілкі, магільня, магільнік* і інш., памяншальныя і павелічальныя формы слоў тыпу **вапрук** ‘кабан‘ – *вапручок*; **від** ‘твар‘ – *відзішча* і інш. Многія варыянты падаюцца асобнымі артыкуламі (параўн.: **жалезняк** ‘рыдлёўка‘ – у пяці розных артыкулах, азагалоўленых варыянтамі **жалізняк, жэлезняк, зілізняк, зілязнік, зялезнік**). Дыялектны слоўнік І.К.Бялькевіча з'яўляецца каштоўнай лексікаграфічнай крыніцай не толькі беларускай мовы, але і можа быць выкарыстаны для супастаўляльнага, тыпалагічнага, этымалагічнага даследавання лексікі славянскіх моў.

Лексікаграфічныя выданні Г.Ф.Юрчанкі па апісанню народнай лексікі Мсціслаўшчыны прадстаўлены такімі працамі, як “Дыялектны слоўнік” (Мінск, 1966), “На-

родная сінаніміка" (Мінск, 1969), а таксама ў абагульненым выглядзе ў трохтомніку "Сучасная народная лексіка" (гл.: ЮРЧАНКА 1993, 1996, 1998). Дыялектныя словы пададзены ва ўсіх працах алфавітна-гнездавым спосабам, г.зн. што ў адным артыкуле падаюцца не толькі варыянты, але аднакаранёвыя словы мужчынскага і жаночага роду тыпу *адгробшчык* і *адгробшчыца*; дзеясловы розных формаў і трыванняў, а таксама ўтвораныя ад іх дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі згрупаваны ў адным артыкуле (параўн: *згалдамачываць марнатравіць, згалдаматрываццa, згалдамачыць, згалдамачыцца, згалдамачаный*); разам прыводзяцца назоўнікі са значэннем выражанай ступені якасці (памяншальнасці, павелічальнасці, узмацняльнасці) тыпу **барвус** 'распуснік', *барвусок, барвусіна, барвусюга, барвусішча*, прыметнікі, прыслоўі з гэтым жа значэннем таксама арганізуюцца ў асобныя артыкулы (параўн.: *малюпанькій, малюпанечкій; ладнавата, ладнаваценька* і інш.). Значэнні загаловачных дыялектных лексем раскрываецца літаратурнымі адменнікамі тыпу **зацілікаць** 'зашчабятаць', **падсаблянне** 'дапамога'; або сінонімамі тыпу **адксціць** 'аблаяць, збэсціць', **паследак** 'астаткі, рэшткі'; або апісальнымі канструкцыямі тыпу **зацінціць** 'пачаць нудную размову', **намадзець** 'пражыць пэўны час са слабым здароўем'; а таксама ілюстрацыямі, пададзенымі ў спрошчанай транскрыпцыі (параўн.: **нязгодный** 'непрыгодны'. *Ета нязгодныя сьліўкі, кідай у шайку, пацьсвінкі пыядуць* і да т.п.).

Дыялектная сінаніміка Мсціслаўшчыны змешчана ў лексікаграфічнай працы (гл.: ЮРЧАНКА 1969). Слоўнік складаецца з 440 сінанімічных радоў, якія ўключаюць у сябе звыш 4000 агульнаўжывальных слоў і фразеалагізмаў. Даўжыня сінанімічных радоў вагаецца ад двух-трох адзінак (параўн.: **дрыжэць** – *трэсца, калаціцца*; **гнаць** – *турыць, каціць, перць*; **грубіць** – *грубіяніць, хаміць, вока на кулак несць* і г.д.) да некалькіх дзесяткаў (параўн.: **плакаць** – *румзаць, рэўць, гусць, гудзець, рыгаць, рыдаць, выць, галасіць, кукаваць, кіснуць, выцягвацца, сцянацца, сцягацца, заліваціца, захадзіцца, хныкаць, хліпаць, хлюпаць, усхліпаваць, пішчэць, склімець, карожыцца, кулажыцца, куксіцца, нюніць, румзы распускаць, хлюпаць носам, пускаць слёзы, разводзіць сырасць, залівацца слязамі, даваць волю слязам, захадзіцца ад слёз, ровам рэўць;* гл. таксама дамінантныя словы **адзежа, есць, пабежч, сказаць** і інш.). Фразеалагізмы, што ўваходзяць у склад сінанімічных радоў, падаюцца ў канцы адпаведных артыкулаў. Усе сінонімы сцісла тлумачацца (параўн.: **ціхі** 'вельмі стрыманы ў паводзінах'; **чыніць** 'устараняць няспраўнасць' і г.д.), пазначаюцца націскам і скарочанымі стылістычнымі паметамі тыпу *лаянк.* 'лаянкавае', *асудж.* 'асуджальнае', *пагардл.* 'пагардлівае' і г.д., суправаджаюцца ілюстрацыйнымі прыкладамі ўжывання, праз якія раскрываецца змест канкрэтнага сіноніма (параўн.: **гуртом** 'разам'. *Гуртом ім апетываць етый чугунок раз-два*; **нарошня** 'знарок'. *Сцяпан не такей чылавек, нарошня ён дзелаць ні станіць* і г.д.).

Парадак размяшчэння слоў у артыкулах для некаторых лексем вызначаецца мерай праяўлення адпаведнай названай якасці ці прыкметы (параўн.: **бежч** – *трухаць, дзяжыць, джгаць, імчацца, несца, ляцець* і інш.; **слабый** – *слабасільный, бяссільный, плахей, сілы як у вераб'я, ад ветру валіцца* і інш.). Пераважную большасць загаловачных лексем складаюць дзеясловы (амаль тры чвэрці слоўніка), прычым адметных народных слоў сярод дамінантных вельмі мала, затое даволі часта сінанімічныя рады ўзначальваюць русізмы тыпу *абідзіцца, абязацельна, асвабадзіцца, ахотна, безразлічна, гразный, жырный, задзержка, імушчаства, ліцо, неажыданна, няўжэлі, медленна, паблагадарыць, панаравіцца, пахожый, праворный, прадзнаменаванія, саабшчыць, страданія, счытаць, трудалюбівый, убядзіць, уважэнія, цяжолый, шуціць* і інш. У канцы слоўніка даецца тлумачэнне некаторых лексем, што выкарыстоўваюцца ў ілюстрацыях (параўн.: *зналопу* 'раптам, раптоўна, нечакана'; *доінка* 'карова'; *лабуда* 'хлам', *ланка* 'мажная жанчына', *пакот* 'насціл з

жэрдак на бэльках‘, *шморка* ‘кавалак вяровачкі, шнурка‘ і г.д. разам з прыкладамі іх ужывання, прычым менавіта гэтыя лексемы, якія складаюць адметны слоўнік Мсціслаўшчыны, аказаліся чамусьці на перыферыі слоўніка. У алфавітным парадку даецца індэкс сінонімаў (дамінантныя словы выдзяляюцца тоўстым шрыфтам) з указаннем старонак іх ужывання. Рэестравыя словы падаюцца без націску, але суправаджаюцца граматычнымі і стылістычнымі паметамі тыпу *узнёсл.* ‘узнёслае‘, *неадабр.* ‘неадабральнае‘, *рэдкаўж.* ‘рэдкаўжывальнае‘, *эмац.* ‘эмацыянальнае‘, *зніж.* ‘зніжальнае‘, *ласк.* ‘ласкальнае‘, *перан.* ‘пераноснае‘ і г.д.

У трох кнігах Г.Ф.Юрчанкі “Народнае вытворнае слова” (Мінск, 1981, 1983, 1985) сабрана і апісана 16 200 дыялектных слоў і дэрывацыйных варыянтаў, якія групуюцца алфавітна-гнездавым спосабам, г.зн. аднакаранёвыя словы нават розных часціны мовы месцяцца ў адным артыкуле (параўн.: *парысторкываць, парасторкаць, парасторкывацца, парасторкацца, парасторкаваный, парасторканый; недамуздак, недавуздак, недамуздачак, недавуздачак* і г.д.), суправаджаюцца часцінамоўнымі і стылістычнымі паметамі; націск даецца не для рэестравых слоў, а ставіцца ў прыкладах, якімі ілюструюцца ўсе дыялектныя словы, асобым значком выдзяляецца *г* выбуховае. Рэестравыя словы тлумачацца літаратурнымі адпаведнікамі (параўн.: **павазгравіць** ‘папэцкаць‘; **пракавулак** ‘завулак‘; **радзімашный** ‘нягодны‘ і інш.), сінонімамі (параўн.: **поразь** ‘адасоблена, асобна‘; **попадзе** ‘пакаранне, лупцоўка‘; **прабалабоніць** ‘прабалтаць, праплявузгаць‘ і г.д.), апісальнымі канструкцыямі (параўн.: **разараннік** ‘той, хто разбурае‘; **паляшыць** ‘адзначыць мяжу зерня пры сяўбе ўручную‘; **мянёк** ‘сыты гультаяваны малады чалавек‘; **набуваннік** ‘той, хто абуваецца‘ і г.д.). Ілюстрацыі прыводзяцца ў спрошчанай фанетычнай транскрыпцыі, якая, на думку аўтара, перадае асаблівасці вуснага маўлення мсціслаўцаў. Завершаныя публікацыі Г.Ф.Юрчанкі сведчаць аб вялікім слоўнікавым багацці, разнастайнасці наяўных лексічных і фразеалагічных намінацый, што назапашаны толькі ў адным раёне Беларусі, на Мсціслаўшчыне.

“Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі” (гл.: СЛОЎНІК 1990) яшчэ не завершаны, апублікаваны толькі першы том (з двух запланаваных), аднак шансаў на публікацыю другога тома амаль няма, бо яго рукапіс страчаны, зыходная картатэка знішчана, большасці аўтараў выдання ўжо няма сярод нас (Е.С.Мяцельская, М.А.Жыдовіч, І.А.Каралёва, Я.М.Камароўскі). Тым не менш і першы том (на літары А – П) мае значны навуковы, грамадскі, вучэбны інтарэс, бо іменна гаворкі цэнтральных раёнаў Беларусі пакладзены ў аснову сучаснай беларускай літаратурнай мовы, а лексіка гэтых гаворак адлюстроўвае шырокі тэматычны спектр жыцця беларускай вёскі (назвы прадметаў, з’яў жывой і нежывой прыроды; лексіка, суадносная з рознымі рамёствамі, жывёлагадоўляй, паляваннем, пчалярствам, з адзеннем, абуткам, ежай, са знешнім аблiччам людзей і жывых істот, іх дзеяннямі і паводзінамі, з сельскагаспадарчай дзейнасцю і інш), уключае ў свой склад тыя разнастайныя запазычанні з іншых моў, якія ўжо добра адаптаваны беларускай мовай і не ўспрымаюцца як чужыя ўкрапіны; прынамсі, лексіка цэнтральных гаворак у цэлым не губляе ад іх наяўнасці ў сваім складзе нацыянальнага каларыту. Матэрыял для слоўніка збіраўся ў радыусе 200–250 кіламетраў ад Мінска з 16 раёнаў Мінскай вобласці, спіс якіх з назвамі населеных пунктаў прыводзіцца на пачатку слоўніка. Картатэка, на якой грунтуецца слоўнік, уключае ў свой склад 400 000 картак-цытат, прычым, лексіка, агульная для літаратурнай і дыялектнай моў, у дадзенае выданне не ўносіцца, але разнастайныя фанетычныя (тыпу *адлёга* ‘адліга‘ і інш.), марфалагічныя (тыпу *грыпа* ‘грып‘ і інш.), словаўтваральныя (тыпу *акорка* ‘акорванне‘ і інш.), стылістычныя (тыпу *баба* ‘замужняя жанчына‘ і інш.) варыянты змяшчаюцца ў слоўніку па алфавіце. Складальнікі шырока прадставілі ў сваёй працы тэрміналагічную лексіку (будаўніцтва, ткацтва, рыбалоўства, батаніка, заалогія,

выяўленчае мастацтва і інш.) і фразеалагічныя выразы, якія знаходзяцца ў складзе артыкулаў з адпаведнымі загаловачнымі словамі.

Структура слоўнікавага артыкула складаецца з наступных частак: 1) рэестравае слова, 2) граматычная характарыстыка, 3) стылістычныя паметы, 4) тлумачэнне слова, 5) пашпартызаваныя ілюстрацыі (прыклады ўжывання), 6) тэрміналагічныя і фразеалагічныя спалучэнні. Напрыклад, артыкул з загаловачным словам *крупнік* выглядае так: **Крупнік**. м. Кулін. 'Грыбны суп з ячных круп'. *Крупнік я вару так: у чугунок вады наліваю, сыплю пярловыя крупы і кідаю грыбы-бярвячкі, стаўлю на агонь, кіпіць ён. На стол падаю са сьмятанай.* Калодкі Віл. (вёска Калодкі Вілейскага раёна). *Крупнік кіслы* абрад. 'Посны суп з дробных ячменных круп з грыбамі'. Гатаваўся на куццю. *Цяпер ужо і на куцьцю ніхто нічога асобнага ні робя. Можа хіба што крупніку кіслага звара, і ўсё.* Чабаі Валож. (вёска Чабаі Валожынскага раёна). Часам даюцца лексічныя паралелі з іншых моў (параўн.: **павадзэнне** 'прывілеі': параўн. польск. *powodzenie* 'поспех' і інш.), для некаторых біялагічных і батанічных назваў – лацінскія найменні тыпу **окунь** заал. (Percidae); **нуднікі** бат. 'дзікі вінаград' (Vitis L.) і інш. Амонімы падаюцца асобнымі артыкуламі, полісеманты выдзяляюцца арабскімі лічбамі ў межах аднаго артыкула са шматзначным рэестравым словам. Аднакаранёвыя прыставачныя ўтварэнні і словы з рознымі марфемнымі структурамі прыводзяцца ў розных слоўнікавых артыкулах. З граматычных памет для назоўнікаў указваюцца род і лік, для дзеясловаў – трыванне, астатнія словы маюць часцінамоўныя паметы. У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстоўваюцца таксама прыказкі і прымаўкі. Апрача згаданых вышэй аўтараў удзел у складанні слоўніка бралі З.Зіневіч, І.Шчарбакова.

"Слоўніку Гродзенскай вобласці" (гл.: СЦЯШКОВІЧ 1983), што ўключае ў свой склад прыблізна 8000 загаловачных слоў і больш за тысячу ўзнаўляльных словазлучэнняў (фразеалагізмы, прыказкі, прымаўкі, а таксама загадкі), папярэднічалі дзве лексікаграфічныя працы гэтага ж аўтара: "Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР" (Гродна, 1959; больш за тысячу слоў), "Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці" (Мінск, 1972; каля 10 000 слоў і паўтары тысячы ўстойлівых выразаў; СЦЯШКОВІЧ 1972), прычым лексічны склад гэтых слоўнікаў у асноўным не паўтараецца, мае самастойную культурную, этнаграфічную і філалагічнаю каштоўнасць

У згаданых выданнях шырока прадстаўлены агульнанародныя словы, уласна рэгіянальныя лексемы (параўн.: **мека** 'авечка'; **кампан** 'сябар, таварыш'; **катахі** 'асака'; **суфіт** 'столь, паталок'; **прывалак** 'палаці каля печы'; **макша** 'п'яніца' і інш.), варыянтнасць і сінанімія (параўн.: *асавік – асавяк – савяк – чырвонец – чырвонагаловік – падасінавік* і інш.), прыводзяцца граматычныя паметы, тлумачэнне, пашпартызаваныя ілюстрацыі, узоры звязных тэкстаў, у канцы прыводзяцца прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы з указаннем месца іх запісу [параўн.: *Бабіна воля – печ ды поле.* Макрыцы. Ашм. (Ашмянскі раён); *Божая ласка не дасць нам ні хлеба ні мяска.* Касцякі. Слон. (Слонімскі раён); *Дурнога вучыць, што мёртвага лячыць.* Галавачы. Гродз. (Гродзенскі раён) і г.д.]. Для дзеясловаў прыводзяцца канчаткі першай і другой асобы цяперашняга часу, указваецца трыванне, для астатніх слоў – часцінамоўныя паказчыкі. У слоўніку адзначаецца шмат агульнабеларускіх лексем (параўн.: *абед, дабро, дол* і інш.) і запазычаных (параўн.: *абажур, квартал, хазяін* і інш.), але часта з іншым значэннем, чым у літаратурнай мове (параўн.: **абед** 'ранні прыём яды'; **абажур** 'навес з бляхі над плітой для выцяжкі дыму, пару'; **дабро** 'збожжа'; **дол** 'магіла'; **квартал** 'участак лесу'; **хазяін** 'гаспадар, муж' і інш.), варыянты прыводзяцца ў розных артыкулах (параўн.: **файна і хвайна, хлапчак** і **хлапчук, цапільнё** і **цапільня, цвек** і **цвік** і інш.), гэтаксама як і амонімы (параўн.: **цыган** 'цыган' і **цыган** 'чыгун'; **цяпка** 'матыка' і **цяпка** 'чапяла' і інш.) і розныя формы

слоў (параўн.: **хуста** і **хустка; цецяр** і **цецярук; чаромха** і **чаромшына** і інш.), даюцца скарочаныя стылёвыя паметы, размяжоўваюцца полісеманты.

Слоўнік брэсцкіх гаворак (гл.: ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК 1989) складзены калектывам аўтараў (восем спецыялістаў) і ўключае ў свой склад каля 4500 дыялектызмаў, занатаваных у 16 раёнах Брэсцкай вобласці. Рэестравыя словы падаюцца ў алфавітным парадку, ілюстрацыйны матэрыял – у спрошчанай транскрыпцыі. Фанетычныя варыянты прыводзяцца разам у пачатку адпаведнага слоўнікавага артыкула (параўн.: *мявкаты, мявчаты; лягара, лігара; мазуль, мозіль, мозоль, мозуль, мозыль* і інш.). Значэнні дыялектных слоў раскрываюцца або адным літаратурным адпаведнікам (параўн.: **кузя** 'жарабя'; **лякацца** 'палохацца'; **лытыр** 'кош' і інш.), або літаратурнымі сінонімамі (параўн.: **павыправляцца** 'падохнуць, выпруціцца'; **яловы** 'непаваротлівы, марудлівы'; **скмэтыты** 'скеміць, сцяміць' і інш.), або словазлучэннямі (параўн.: **кудлы** 'доўгія валасы'; **ляска** 'дашчэчка ў драбіне'; **поданке** 'дажджавая вада' і інш.), або апісальнымі канструкцыямі (параўн.: **туліка** 'частка самапрадкі – кавалачак скуры з дзіркай, праз якую праходзіць нітка'; **ячыя** 'адтуліна ў жорнах, куды засыпаюць зерне' і інш.). Амонімы падаюцца асобнымі артыкуламі, полісеманты выдзяляюцца ў складзе слоўнікавага артыкула арабскімі лічбамі, ілюструюцца прыкладамі ўжывання. Рэестравыя словы пазначаюцца націскам, суправаджаюцца граматычнымі і стылістычнымі паметамі, якія падаюцца ў скарочанай форме тыпу м. (мужчынскі род), *выкл.* (выклічнік), *займ.* (займеннік), *абразл.* (абразлівае), *зневаж.* (зневажальнае), *перан.* (пераноснае значэне) і г.д. Пашпартызаваныя прыклады прыводзяцца з поўным найменнем вёскі і скарочаным найменнем раёна тыпу *Навасёлкі Лях.* (г.зн. вёска Навасёлкі Ляхавіцкага раёна). У пачатку слоўніка даецца геаграфічная карта гаворак Брэсцкай вобласці, назвы населеных пунктаў, дзе праведзены збор дыялектнага матэрыялу, прозвішчы ўдзельнікаў экспедыцыі; у канцы слоўніка прыводзіцца каля трох дзесяткаў тэкстаў, запісаных у розных вёсках Брэсцкай вобласці на працягу 1970–1983 гг. і прадстаўленых песнямі, казкамі, успамінамі і г.д.

Адметнасцю дыялектнага слоўніка Гомельшчыны (гл.: НАРОДНАЯ ЛЕКСІКА 1983) служыць тое, што матэрыял для яго складання збіраўся не толькі шляхам непасрэдных запісаў вуснага маўлення ўсходніх палешукоў, але пераважна выпісваўся з разнастайных фальклорных, этнаграфічных крыніц, з мастацкіх твораў, прычым у склад слоўніка не ўключаліся лексемы агульнанародныя, літаратурныя, што змешчаны ў нарматыўных лексікаграфічных крыніцах. Рэестравая частка слоўніка налічвае 3500 лексем, якія забяспечваюцца граматычнымі і стылістычнымі паметамі, семантычнай характарыстыкай, пашпартызаванымі ілюстрацыямі; наяўныя ўстойлівыя спалучэнні з загаловачным словам падаюцца пры ім пасля знака ромба ў канцы артыкула і ілюструюцца адпаведнымі прыкладамі ўжывання. Так, слоўнікавы артыкул з рэестравай лексемай *макулінка* выглядае наступным чынам: **макулінка** ж. Перан. 'Макавае зярнятка (крупінка, драбніца)'. *Лепш хай тваё прападзе, чым возьмеш макулінку іхняга.* Сач., Д, 143.◊ *У роце ў мяне не было ні макулінкі – нічога не еў, ні піў.* Сач., АП, 328 (скарачэнні абазначаюць: ж. – жаночы род, перан. – пераноснае значэнне, *Сач.* – Б.Сачанка і яго зборнікі *Д* – Дарогі, *АП* – Апошнія і першыя, лічбамі пазначаны старонкі зборнікаў, адкуль узяты прыклады). У некаторых выпадках слоўнікавыя артыкулы заканчваюцца ўказаннем наяўных варыянтаў і абсалютных сінонімаў для рэестравага слова (параўн.: **інагды** 'часам, іншы раз'... Параўн. *іноды*; **маладзесенькі** 'надта малады'... Параўн. *Маладзёшанькі, маладзюшанькі* і г.д.), прычым гэтыя варыянты таксама яшчэ афармляюцца асобнымі артыкуламі са спасылкамі апісанага значэння на зыходнае (апорнае) слова, але са сваімі спецыфічнымі прыкладамі (параўн.: **іноды**. 'Тое, што

*інагды*'. *Вельмі ж нацярпеўся я за гэтыя гады, сабою ўжо іноды не валодаю* і г.д.). Удзел у стварэнні слоўніка бралі У.Анічэнка, В.Горленка, Л.Злобін, Д.Лявончанка.

Айчынныя навукоўцы выдалі дыялектныя слоўнікі, прысвечаныя асобным беларускім гаворкам, напрыклад, Зэльвеншчыны (гл.: СЦЯЦКО 1970; СЦЯЦКО 1970), Бялыніцкага раёна (гл.: ЯЎСЕЕЎ 1978), Лоеўшчыны (гл.: ЯНКОВА 1982); апублікаваны таксама шматлікія матэрыялы да слоўнікаў адпаведных гаворак як самастойна (гл.: МАТЭРЫЯЛЫ 1981; ЖЫВОЕ НАРОДНАЕ СЛОВА 1992; З НАРОДНАГА СЛОЎНІКА 1975; ЛЕКСИКА ПОЛЕСЬЯ 1968, і інш.), так і ў выглядзе разнастайных артыкулаў, дадаткаў, змешчаных або ў часопісах, або ў навуковых працах. Дыялектная лексіка з розных рэгіёнаў Беларусі сабрана, лінгвістычна апрацавана і прадстаўлена ў кнігах (гл.: НАРОДНАЕ СЛОВА 1976; МАТЭРЫЯЛЫ 1960, і інш.), а таксама ў слоўніку (гл.: ШАТАЛАВА 1975), дзе матэрыял (каля 4000 адметных дыялектных лексем) збіраўся на працягу 1953–1973 гг. з 57 раёнаў Беларусі. Значэнні сабраных слоў тлумачацца або аднаслоўнымі літаратурнымі эквівалентамі (параўн.: **галаплечка** 'майка'; **глюмка** 'дзюбка'; **вятрушкі** 'басаножкі' і інш.), або літаратурнымі сінонімамі (параўн.: **трупеклы** 'спарахнелы, гнілы'; **лішаць** 'кастрыраваць, пакладаць'; **лыгманіць** 'нагаварваць, паклёпнічаць' і г.д.), або словазлучэннямі (параўн.: **рэхва** 'жалезны абруч'; **медавіца** 'рабочая пчала'; **шаргалом** 'вялікі вецер' і г.д.), або апісальнымі канструкцыямі (параўн.: **шкарні** 'старыя боты з адрэзанымі халявамі'; **прыклетнік** 'павець перад уваходам у клець'; **трублаты** 'чалавек, у якога тоўсты жывот' і г.д.), або адсылкай да адпаведнага рэестравага слова (параўн.: **паскрэбіш** 'тое, што і *паскрабок*'; **ластка** 'тое, што і *ластаўка*'; **затыкач** 'тое, што і *затькалень*' і г.д.). Усе рэестравыя словы пазначаюцца націскам, часцінамоўнымі і стылістычнымі паметамі, суправаджаюцца пашпартызаванымі ілюстрацыямі ў спрошчанай транскрыпцыі, полісеманты выдзяляюцца ў межах артыкула арабскімі лічбамі.

Беларуская дыялектная лексіка змешчана таксама ў рускіх слоўніках У.І.Даля (гл.: ДАЛЬ 1935), П.А.Растаргуева (гл.: РАСТОРГУЕВ 1973), У.М.Дабравольскага (гл.: ДОБРОВОЛЬСКИЙ 1914) і інш.; са спецыяльнай паметай *абл.* (абласное) – у ТСБМ, ТСБЛМ, згаданых вышэй вялікіх перакладных беларуска-рускіх слоўніках і інш. Зазначым, што ў рускіх слоўніках як дыялектныя прыводзіцца шмат лексем, што ўжываюцца ў беларускай мове як літаратурныя, напрыклад, у памянёнай працы П.А.Растаргуева: *абапал, або, абора, абцуги, абы, абы-што, агароднина, алей, акраец, андарак, апеньки, багно, батькаўшчына, бярэма, брыдка, бульба, бурак, вапна, вельми, вир, вызвалять, гной, глум, грамада, гульня, даволи, труна, дрот, жартавать, журавины, загаить, зараблять, зязюля, знишчыть, кавалак, каваль, казка, картеть, кашуля, кволы, крыга, лой, луста, маладик, моцны, палить, плойма, полымя, прыгожа, прымхи, прысмаки, птушка, рабить, рада, раить, садавина, скабка, скарынка, скрыня, скнарь, смашна, спакваля, спраўна, страва, сход, талака, трохи, трэба, трызнить, трэска, убрус, угодки, ураджай, хабар, хвароба, хлопец, хустка, хутки, цурацца, шкварки, шкода, шлях, шпарка, шпиталь, шукать, явар* і інш.

## 12.7. ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ СЛОЎНІКІ

З тэарэтычнага пункту гледжання пад фразеалогіяй разумеюць або як навуку аб словазлучэннях (гл.: АНИЧКОВ 1997, 88), або як навуку аб узнаўляльных словазлучэннях (гл.: ОБЩЕЕ ЯЗЫКОЗНАНИЕ 1983, 225), або як навуку аб устойлівых словазлучэннях з пераносным сэнсам, ці значэннем, што не вынікае з асобных сэнсаў кожнага кампанента словазлучэння (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1998, 5). У першым выпадку складанне поўных фразеалагічных слоўнікаў любой мовы немагчыма, таму што колькасць свабодных словазлучэнняў з'яўляецца адкрытай. Праўда, для пэўных тыпаў

словазлучэнняў падобныя слоўнікі створаны, напрыклад, на матэрыяле рускай мовы (гл.: ПОСОБИЕ 1975; УЧЕБНЫЙ СЛОВАРЬ 1978; СЛОВОСОЧЕТАНИЯ 1981).

У астатніх выпадках слоўнікавая практыка размяжоўвае фразеалагічны матэрыял на парэміі (прыказкі і прымаўкі) выслоўі, афарызмы, тэрміналагічныя словазлучэнні, уласна фразеалагізмы. Апошнія два віды ўзнаўляльных зваротаў шырока прадстаўлены як у вялікіх тлумачальных і перакладных слоўніках (звычайна змяшчаюцца ў іх на канцы адпаведных артыкулаў), так і ў спецыяльных тэрміналагічных ці фразеалагічных (тлумачальных, перакладных, этымалагічных, сінанімічных і інш.) слоўніках.

Звышслоўныя ўстойлівыя словазлучэнні прыводзяцца ўжо у першых старабеларускіх лексікаграфічных крыніцах 16–17 стст.: “Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста” (параўн.: *рабить подвигъ, вступать в союзъ, жена шлюбная* і інш.), Лексіс Л.Зізанія (параўн.: *веселле справую, вселяким способом, дом судовы* і інш.), “Сіноніма славенароская” (параўн.: *буженое мясо, дивно чиню, иншимъ кшталтомъ* і інш.), што паслужыла пачаткам далейшага больш шырокага выкарыстання фразеалагізмаў у перакладных і тлумачальных слоўніках беларускай мовы. Так, у пяцітомным ТСБМ змяшчаецца 7120 звышслоўных устойлівых адзінак (тэрміназлучэнняў і ўласна фразеалагізмаў).

Пэўны беларускі фразеалагічны матэрыял, у прыватнасці парэміі і выслоўі, даволі разнастайна прадстаўлены ў этнаграфічных, фальклорных і лексікаграфічных працах Я.Чачота, Я.Тышкевіча, П.Шпілеўскага, Я.Кіркора, П.Гільтэбранта, Е.Раманава, М.Нікіфароўскага, А.Сержпутоўскага, У.Дабравольскага, Я.Ляцкага і інш. Найбольш значныя друкаваныя выданні па колькасці сабранага беларускага парэміялагічнага матэрыялу належаць І.Насовічу, які запісаў 3715 устойлівых выразаў з розных куткоў Беларусі, але пераважна з Магілёўшчыны, і М.Федароўскаму. Так, толькі ў чацвёртым томе яго знакамітай працы “Люд беларускі” змешчана 9900 парэмій.

У наш час самы вялікі аб’ём беларускіх парэмій прадстаўлены ў двухтомным зборніку (гл.: ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ 1976), дзе адзначаецца 3646 пазіцый. Матэрыял да гэтага слоўніка адабраны і са старых выданняў, і з запісаў савецкага часу. Парэміі сістэматызаваны па дзевяці прадметных тэмах: 1. Прырода, гаспадарчая дзейнасць, праца (параўн.: *Колас добра не спее, калі сонца не грэе; Дзе пасееш густа, там не будзе пуста; Хочаш есці калачы, так не сядзі на пячы* і інш.); 2. Матэрыяльны быт (параўн.: *Якія сані, такія і самі; Без запасу чалавек гіне без часу; Няма лепшай рэчы, як дома на печы* і інш.); 3. Грамадскае жыццё (параўн.: *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Пан харошы, ды не мае грошы; Ад астрогу няма перасцярогу* і інш.); 4. Сям’я і сямейны быт (параўн.: *Сам бог рад, калі ў сям’і лад; Дзе хазяек шэсць, там нечага есць; Бог стварыў два зла: бабу і казла* і інш.); 5. Духоўнае жыццё (параўн.: *Вучыцца заўсёды прыгадзіцца; Добрая пасловіца ў вочы коліцца; Кепскія песні лепш за добрыя слёзы* і інш.); 6. Чалавек і яго якасці. Мараль (параўн.: *Свая сіла каждаму міла; Старой бабе і на печы ўхаба; Дурны вузел завяжа, разумны не развяжа* і інш.); 7. Агульныя разважанні (параўн.: *Жыццё – прачнуўся, ды за выццё; Круць, верць – недалёка смерць; Чужая доля пад бок коле* і інш.); 8. Розныя павучанні і назіранні (параўн.: *Трэба жыць, як набяжыць; Ідучы па кладачцы, на бакі не глядзі; Кінь перад сабой – знойдзеш за сабой* і г.д.); 9. Прыказкі і прымаўкі савецкага часу (параўн.: *Радзіма – маць, умей за яе пастаяць; Сваю лень не прадасі за працадзень; Добра працуеш – мір мацуеш* і інш.).

Выданне суправаджаецца каментарыем, дзе тлумачацца незразумелыя словы тыпу *раструханка* ‘неахайная дзяўчына‘, *квеліць* ‘ціха плакаць‘, *сквар* ‘цяпло‘ і г.д., якія сустракаюцца ў парэміях; прыводзяцца алфавітны спіс збіральнікаў фразеалагічнага матэрыялу (276 імёнаў), геаграфічны паказальнік тых месцаў, дзе зафік-

саваны адпаведныя прыказкі і прымаўкі. Для кожнай парэміі ўказваецца яе парадкавы нумар і прыведзена неабходная пашпартызацыя (аўтар, месца, час запісу). Рэдактарам выдання з'яўляецца А.Фядосік, аўтарам уступных артыкулаў і каментарыяў да абедзвюх кніг – М.Грынблат, а сам зборнік надрукаваны ў серыі "Беларуская народная творчасць", якая па колькасці і разнастайнасці апублікаваных фальклорных прац служыць унікальнай не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім славянскім свеце.

У гэтай жа серыі выйшла кніга (гл.: ВЫСЛОЎІ 1979), дзе сабраны ўстойлівыя выразы, да якіх адносяцца кароткія дасціпныя выказванні пераважна гумарыстычнага характару тыпу *І шыла, і мыла, і прала, і ткала – і ўсё языком; Бот мой разявіў зубы – кашы хочыць; Ешце вы госційкі, ужывайце, толькі ў карман не хавайце* і да т.п. Выслоўі размеркаваны па наступных тэмах: 1. Трапныя, смешныя і розныя ўстойлівыя выразы. Скорагаворкі (параўн.: *А якося каму дзела да чужога цела? Тады, хіба, перастане, як сарока бела стане; Стаяў поп каля коп, а капа каля папа* і г.д.); 2. Застольныя жарты, каламбуры і тосты (параўн.: *Без сала куса няма жыцця ў беларуса; Каб жылося, былося, елася і пілося, пілося і елася і яшчэ хацелася; Дару скрынку мукі, каб раджаліся сынкі* і г.д.); 3. Вітанні і зычэнні. Ветласць (параўн.: *Як вы жывы-дужы на гэтай сцюжы? Здаровы бывайце, нас не забывайце; Каб дзяды не ведалі бяды, а ўнукі не бачылі мукі* і г.д.); 4. Прысяганні. Праклёны. Ганьбаванне і абзыванні. Дражнілкі-кепікі (параўн.: *Вер мне, як самому сабе; Дай, божа, вам пабіцца, а мне на вас падзівіцца; У нашай Параскі ні гневу, ні ласкі* і г.д.); 5. Параўнанні тыпу *Але есць, як валоў шэсць; Згіне як на чужыне; Стаў у парозе, як пень пры дарозе* і г.д. У кожнай тэме выслоўі размеркаваны па алфавіце. Матэрыял выбраны з надрукаваных зборнікаў М.Федароўскага, І.Насовіча, П.Шэйна, Ф.Янкоўскага, з дыялектных слоўнікаў і архіўных крыніц. Некаторыя запісы публікуюцца ўпершыню. У каментарыях тлумачацца незразумелыя словы тыпу *памжа* 'хвароба', *клюнка* 'дзюбка', *сусла* 'нязграбная жанчына' і г.д., прыводзіцца паказальнік збіральнікаў выслоўяў (289 імёнаў), а таксама геаграфічны паказальнік месцаў, дзе зафіксаваны выразы. Як і зборнікі парэмій рэдагаваў гэты выпуск А.Фядосік; аўтарам уступнага артыкула, каментарыя, укладальнікам зборніка з'яўляецца М.Грынблат. Асобныя выслоўі ў зборніку не падыходзяць пад фармальнае азначэнне фразеалагічнага матэрыялу (памер устойлівага выраза павінен складацца ў межах ад двух слоў да сказа), бо зрэдку з'яўляюцца або аднаслоўнымі (параўн.: *Здароў! Дабрыдзень! Дабранач!* і інш), або складаюцца з двух і болей сказаў (параўн.: *Чаму ж не? І святы бы піў, каб хто купіў; Памагай бог! На бога спадзявай, а сам памагай; Абаранкі з малаком от смачна! А ты еў? Не-а. Але бацька расказваў, што дзед бачыў, як пан еў, дык от смачна*! і інш.).

Вялікую колькасць устойлівых выразаў беларускай мовы (каля 20 000) сабраў з розных друкаваных крыніц (каля 30 зборнікаў) і з вусных выказванняў Ф.Янкоўскі, які больш трэці з сабранага матэрыялу (7900 адзінак) апублікаваў у кнізе (гл.: БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ 1992). Гэтыя выразы размеркаваны па трох вялікіх тэмах: 1. Чалавек, яго духоўны свет, жыццёвы вопыт, месца ў грамадстве; 2. Заганы і хібы людскія; 3. Фразеалагізмы і іншыя ўстойлівыя выслоўі. Унутры гэтых тэм выдзяляюцца драбнейшыя прадметныя групы. У першай тэме, напрыклад, выдзяляецца 19 груп тыпу "Рэлігія, яе сутнасць" (параўн.: *Бог карае, але сам ліха робіць; Даў бы рубель на малебен, ды самому патрэбен; У папа доўгія рукі* і інш.), "Маладосць і старасць" (параўн.: *Хто з моладасці не працуе, той на старасці жабруе; Шануй старое, як дзіця малое; Для старай бабы і на печы ўхабы* і інш.), "Розум, навука, вучэнне" (параўн.: *Вучыцца заўсёды згадзіцца; Лепей вучоны як залачоны; Навука хоць намучыць, але жыць навучыць* і інш.) і г.д.

Слоўнік суправаджаецца заўвагамі і тлумачэннямі, дзе раскрываецца сэнс выразаў, а таксама незнаёмых слоў, часам даецца іх этымалагічная і этнаграфічная характарыстыка. Выразы, што запісаў сам аўтар, г.зн. якія не сустракаюцца ў іншых друкаваных працах, пазначаны зорочкай (параўн.: **Хто мову і веру мяняў, той не то сябе – і суседа прадаваў;* *У чужых людзях не раз забаліць у грудзях;* *Тупы да навукі, няздатны на рукі* і інш.). У дадзенай працы аўтар практычна не размяжоўвае парэміі і фразеалагізмы, бо ўсе яны падпадаюць пад азначэнне фразеалагічнага матэрыялу ў шырокім сэнсе.

Беларускія прыказкі і прымаўкі, змешчаныя ў маладаступных і рэдкіх зборніках, картатэках, архівах і г.д., сабраны ў працы (гл.: АКСАМІТАЎ 2000). Матэрыял размеркаваы па геаграфічнаму прынцыпу на тры групы: 1. Прыказкі і прымаўкі цэнтральнай і заходняй Беларусі; 2. Прыказкі і прымаўкі Палесся; 3. Прыказкі і прымаўкі з розных рэгіёнаў Беларусі. Унутры гэтых груп парэміі падзяляюцца па крыніцах, з якіх яны запісаны (параўн.: са зборніка А.Варлыгі, са збору Я.Чачота, запісы святара-ніка А.Гашкевіча, з фонду І.І.Сразнеўскага, запіс невядомай асобы і інш.). Адметнай рысай працы А.Аксамітава служыць тое, што ў ёй амаль усе выразы маюць сваё тлумачэнне (параўн.: *Хто табаку кура, той і вочы жмура* ‘Заганныя дзеянні параджаюць заганныя звычкі‘; *Старасць – не радасць, і маладосць – не карысць* ‘Цяжкасці ўсюды‘; *Гаспадар за чарку, а гаспадыня за сварку* ‘Жонка заўсёды супраць выпіўкі мужа‘ і г.д.). У пасляслоўі, пададзеным на беларускай і англійскай мовах, аўтар з дапамогай лінгвістычных і лагічных крытэрыяў спрабуе размежаваць прыказкі і прымаўкі, а іх разам ад фразеалагізмаў (прыказкі і прымаўкі адносяцца да фальклорнага жанру і з’яўляюцца цэласным выказваннем, фразеалагізмы – моўныя адзінкі і служаць часткай выказвання). Так, у прыказцы адзначаецца наяўнасць пераноснага сэнсу або сумяшчэнне прамога і пераноснага (параўн.: *П’яніцы і капля дарага* – прамое значэнне ‘п’яніца выпівае ўсё да дна‘ і пераноснае ‘жартам кажуць пра таго, хто і малым даражыць‘), а прымаўка мае толькі прамы сэнс (параўн.: *Хто скуп, той не глуп* і да т.п.) і можа ўключаць у свой склад фразеалагізмы (параўн.: *Хоць у вір галавой, то бяда з табой*, дзе фразеалагізм *у вір галавой* уваходзіць у склад прымаўкі), што і служыць, на думку аўтара, лінгвістычным крытэрыем іх (прыказкі і прымаўкі) размежавання, хаця пераважная большасць прымавак падобнай уласцівасці (уключаць у свой склад фразеалагізмы) не мае. У дадатку кнігі змяшчаецца слоўнік дыялектных і малазразумелых слоў, што сустракаюцца ў прыведзеных парэміях, і спіс выкарыстанай літаратуры.

Запісы беларускіх прыказак і прымавак прадстаўлены ў кнізе (гл.: ЛІЦВІНКА, ЦАРАНКОЎ 1985). Парэміі згрупаваны ў два раздзелы паводле перыяду іх існавання (дакастрычніцкі перыяд і савецкі час), а ўнутры гэтых раздзелаў яны раскласіфікаваны на прадметныя тэмы: у першым раздзеле вылучана дзесяць тэм, у другім чатыры. Кожная парэмія пазначаецца скарочанай назвай месца запісу тыпу *Хто не беражэ малога, у таго вялікага не бывае* Мн. ‘Мінск і вёскі Мінскага раёна‘; *Каб вады напіцца, трэба ёй пакланіцца* Р. ‘Вёска Гарывада Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці‘; *Як прыйшоў Спас, бяры рукавіцы ў запас* Маз. ‘г. Мазыр Гомельскай вобласці‘ і г.д. Для некаторых парэмій і дыялектных слоў даюцца сціслыя тлумачэнні, а частка парэмій і дыялектных слоў суправаджаецца у дужках сваімі варыянтамі ці сінонімамі тыпу *Усюды ён уваткне свой нос (Да кожнай дзіркі затычка, Пад усе бочкі шпунт); Каханне (Сімпатыі, Добрыя адносіны) за грошы не купіш, не прадаюцца* і г.д. У кнізе ёсць уступны артыкул і разлічана яна на ўсіх прыхільнікаў роднага слова.

З іншых слоўнікаў устойлівых выразаў адзначым невялікія выданні “Беларускія народныя параўнанні” (гл.: ЯНКОЎСКІ 1973) і “Крылатыя словы і афарызмы” (гл.: ЯНКОЎСКІ 1960). У першай з іх змешчаны параўнанні, што ўжываюцца ў гутарковай мове, але частка іх выпісана з друкаваных крыніц (са зборнікаў Е.Раманава, А.Серж-

путоўскага, М.Федароўскага і інш.) Акрамя параўнанняў са злучнікам *як* (іх пераважная большасць) зафіксаваны і іншыя формулы выразаў: паралелізмы, адмоўныя параўнанні, канструкцыі з *аж* і *хоць*, вышэйшыя ступені прыметнікаў, з творным склонам назоўнікаў, са службовымі словамі *быттам, за, што, нячым, чым* і інш. (параўн.: *Горка тую каліначку едучы, яшчэ горай з п'яніцай жывучы; сінейшы за васілёк, зіхнула бытта зорка ўпала; рвануў, што воўк; лепей жонка першая, нячым тая трэцяя; лепей дома хлеб аўсяны, чым на вайне пытляваны; ляжыць калодаю; Мне твайго пасагу не трэба: ты мне як зорачка з неба; Дзе каза рогам, там жыта стогам* і інш.).

У другой кнізе, прысвечанай памяці Я.Карскага, змешчаны пашпартызаваныя выразы, што сустракаюцца ў творах беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Найбольшая колькасць афарызмаў і крылатых слоў выпісана з твораў Я.Коласа (параўн.: *Думка ходзіць, дзе захоча; Крыкі спрэчкі не развяжуць; Мой родны кут, як ты мне мілы!* і інш.); Я.Купалы (параўн.: *Дум не скуеш ланцугамі; Крамная скура; Маркотна мне без Беларусі* і інш.); К.Крапівы (параўн.: *Другі баран – ні "бэ", ні "мя", А любіць гучнае імя; Лес не сякуць языкамі; Дурань таму і блішчыць здалёк, што знаходзіцца не на сваім месцы* і інш.), М.Багдановіча (параўн.: *Кінь вечны плач свой аб старонцы; Пралятайце гады залатымі агнямі! Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш; Хваробы лечаць і атрутамі* і інш.), К.Чорнага (параўн.: *Кожны чалавек – гэта цэлы свет; Там, дзе пачынаецца абыякавасць, там недалёка гібель; Замужства адкрывае жанчыне вочы на самую сябе* і інш.). Фіксуюцца таксама тыя афарызмы замежных аўтараў, якія ўжываюцца ў беларускай літаратуры: І.Крылова (параўн.: *А Васька слухае, ды есць; А воз і сёння там* і інш.), Гамера (*Ахілесава пята*), У.Шэкспіра (*Быць або не быць*), К.Маркса (*Рэлігія – опіум для народа*) і інш. Устойлівыя выразы размешчаны ў алфавітным парадку, пранумараваны, суправаджаюцца назвамі твораў, з якіх яны выпісаны; у канцы кнігі змешчаны паказчык аўтараў (68 імёнаў), што ўжылі прыведзеныя выразы, і алфавітны паказчык афарызмаў (220 пазіцый).

Наяўныя ўласна фразеалагічныя крыніцы падзяляюцца на тлумачальныя слоўнікі фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы, слоўнікі фразеалагізмаў дыялектнай мовы, а таксама перакладныя, этымалагічныя слоўнікі фразеалагізмаў, слоўнікі фразеалагізмаў мовы асобных аўтараў і інш.

Найбольш значны са слоўнікаў фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы складзены ў двух тамах (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1993) і змяшчае каля 6000 устойлівых адзінак, якія характарызуюцца з семантычнага, граматычнага, стылістычнага пунктаў гледжання; у адпаведных артыкулах прыводзяцца таксама фразеалагічныя сінонімы і антонімы. Слоўнік служыць тлумачальным нарматыўным даведнікам, фразеалагізмы ілюструюцца пашпартызаваным кантэкстам ужывання. Стылістычная характарыстыка падаецца ў выглядзе скарочаных памет тыпу *разм.* 'размоўны', *іран.* 'іранічны', *кніжн.* 'кніжны', *абл.* 'абласны', *уст.* 'устарэлы' і інш. Матэрыял для слоўніка ўзяты з мастацкай, навуковай, публіцыстычнай літаратуры 20 ст. Магчымыя варыянты фразеалагізма (фанетычныя, марфалагічныя, словаўтваральныя, лексічныя) выдзяляюцца круглымі дужкамі ў загалоўках тыпу *лезці (ісці) на ражон, ласкавае (ліслівае) цяля (цялятка), на галодны (пусты) жывот* і г.д. У ламаных дужках прыводзяцца факультатыўныя элементы фразеалагізмаў тыпу *кроў кіпіць < у жылах>, клёпак не хапае < у галаве>, < толькі> пух ляціць* і г.д. Сінтаксічная функцыя фразеалагізма пазначаецца скарочанымі паметамі тыпу *акал.* 'акалічнасць', *вык.* 'выказнік', *дзейн.* 'дзейнік' і інш., указваецца кіраванне тыпу *нож востры* каму, для каго, *вырастаць у вачах* каго, чыіх і г.д. Значэнні полісемічных фразеалагізмаў (іх каля 14%) пералічваюцца ў адпаведным артыкуле арабскімі лічбамі. Семантычная характарыстыка фразеалагізмаў даецца пераважна ў вы-

глядзе разгорнутых апісанняў (параўн.: **залатая жыла** 'вельмі багатая, невычэрпная крыніца даходаў, прыбытку і пад'. і г.д.), зрэдку адным словам (параўн.: **дух выпусціць** 'памерці' і г.д.). Амонімы падаюцца ў розных артыкулах. Кожны фразеалагізм змяшчаецца ў слоўніку столькі разоў, колькі ў яго складзе знамянальных лексічных кампанентаў, але поўная характарыстыка даецца толькі адзін раз для адной формы, да якой робіцца адсылка пры падачы астатніх формаў. Ілюстрацыйны матэрыял для слоўніка прадстаўлены 380 друкаванымі крыніцамі, пералічанымі па алфавіце ў пачатку працы. У якасці ўзору слоўнікавага артыкула прывядзём адзін мнагазначны фразеалагізм: **хоць вока выкалі**. Толькі ў гэтай форме. *Разм.* 1. Дзе, калі. У безас. ужыв. Зусім нічога не відаць з-за цемры. Сін.: *хоць <ты> на воўка ўзлезь.* Ант.: *хоць <ты> іголкі збірай. Дзе вы? Тут хоць вока выкалі.* Арабей. *У полі – хоць вока выкалі. Наш ліхтар кідае доўгую пляму на ржэўнік і раллю, выхоплівае з цемры то абымшэлы валун, то трапяткую асіну.* Аношкін. *Пaглядзіце, за акном хоць вока выкалі…* Няхай. *Месяц крыху павісеў на дрэве і зноў схаваўся за хмару. Цяпер хоць вока выкалі.* Сяркоў. 2. *Вык.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *вечар, ноч.* Такі цёмны, што немагчыма нічога ўбачыць. *Вечар цёмны – хоць вока выкалі.* Каваленка. *Ноч – хоць вока выкалі. Толькі ззаду ў Дабрадзееўцы, праз заслону дажджу свяціліся вокны хат і адзінокія электрычныя ліхтары.* Шамякін. *Ноч – хоць вока выкалі, завея – не прывядзі госпадзі.* Лупсякоў. 3. *Вык.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *цемень, цемра* і пад. Выключная, абсалютна такая, што нічога не відаць. *Я іду паціху, бо цемра хоць вока выкалі…* Галавач. *Ехалі па дажджу мокрым чорным лесам, цемень – хоць вока выкалі, нават тых дрэў, што пры дарозе, не відаць.* Карамазаў. *Да вёскі кіламетраў пяць, а цемень хоць вока выкалі. Што рабіць? Пайшлі пехатой.* Леванові́ч. Лексікаграфічная праца І.Я.Лепешава прызначаецца ўсім, хто займаецца (выкладае, вывучае, даследуе) і цікавіцца беларускай мовай.

Фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы (гл.: ГАЎРОШ 1973) уключае ў сябе каля 1500 устойлівых выразаў, што найбольш часта сустракаюцца ў мастацкіх і фальклорных творах (звыш 90 крыніц), прызначаных для вывучэння (чытання) у школе, і адносяцца, як правіла, да ўжывальных, агульнанародных. Фразеалагізмы падаюцца ў алфавітным парадку, а пры зменлівым парадку кампанентаў прыводзяцца столькі разоў, колькі ў ім гэтых кампанентаў. Па сваёй структуры артыкул складаецца з загалоўка (фразеалагізма, набранага тоўстым шрыфтам), тлумачэння значэння фразеалагізма, пашпартызаваных ілюстрацый (звычайна дзвюх), якія ўключаюць у сябе не толькі прозвішча аўтара, але і назву твора, дзе сустрэўся адпаведны выраз. У круглых дужках прыводзяцца варыянты і факультатыўныя элементы фразеалагізма, зрэдку паказваецца яго сінтаксічная сувязь з іншымі членамі сказа ў выглядзе пытанняў тыпу *ад чаго, каму, у каго, па кім* і г.д. Некаторыя фразеалагізмы суправаджаюцца стылістычнымі паметамі тыпу 'з адценнем асуджэння, дакору' і інш. Скарачэнні ілюстрацыйнага тэксту пазначаюцца шматкроп'ем. Напрыклад, структура аднаго з загаловачных артыкулаў фразеалагізма выглядае наступным чынам: **малако на губах не абсохла** (*не высахла*) у каго. Пра маладога і неспрактыкаванага, недасведчанага чалавека (з адценнем іранічнасці). *Дурань, у цябе яшчэ малако на губах не высахла…* (К.Чорны. Люба Лук'янская). *Пасаромеўся б! Вучань!… Малако на губах не абсохла* (І.Шамякін. Крыніцы). Складальнікамі слоўніка з'яўляюцца Н.Гаўрош, І.Лепешаў, Ф.Янкоўскі, пад рэдакцыяй апошняга кніга і надрукавана.

"Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў" у дзвюх частках (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1981; ЛЕПЕШАЎ 1993) тлумачыць сэнс і паходжанне 1350 устойлівых выразаў (450 у першай частцы і каля 900 у другой). Слоўнікавы артыкул мае наступную будову: загаловак (фразеалагізм у тыповай форме), агульная характарыстыка

фразеалагізма паводле паходжання, раскрыццё значэння выразу, ілюстрацыя ў выглядзе пашпартызаванай цытаты (аўтар, назва твора), этымалагічная даведка. Магчымыя варыянтныя формы кампанентаў фразеалагізма прыводзяцца ў круглых дужках, факультатыўныя часткі – у ломаных дужках, напрыклад, *выбываць (выбыць, выходзіць, выйсці) са строю*; *<Адны> скура ды косці засталіся* і інш. Граматычная сувязь фразеалагізма з іншымі членамі сказа паказваецца пытальнымі словамі тыпу *каго, чаго, чыю, якую* і да т.п. Агульная характарыстыка фразеалагізма паводле паходжання ўключае ўказанне на яго адносіны да наступных з чатырох магчымых крыніц: спрадвечна беларускія, (агульнаславянскія, усходнеславянскія, уласна беларускія), запазычаныя (з царкоўна-славянскай, рускай, украінскай, польскай і іншых моў) калькі, паўкалькі (апошнія тыпы фразеалагізмаў пабудаваны па ўзору фразеалагізмаў лацінскай, французскай, нямецкай, іспанскай, старославянскай, рускай і іншых моў). Значэнне фразеалагізма тлумачыцца, як правіла, праз разгорнутае апісанне, свабоднае словазлучэнне, асобнае слова. Ілюстрацыйны матэрыял уяўляе сабой пашпартызаваную цытату з твораў канкрэтных аўтараў або з перыёдыкі; у этымалагічнай даведцы раскрываецца паходжанне адпаведнага выраза. У цэлым пра канкрэтную структуру артыкула можна меркаваць па наступным прыкладзе: **выбіваць (выбіць) з сядла** каго. Відаць, калька з ням. м. (aus dem Sattel heben). ‘Пазбаўляць каго-н. цвёрдай упэўненасці ў сабе, выводзіць са стану раўнавагі‘. *Непаладкі ў калгасе, хвароба жонкі і яе спроба атруціцца маглі выбіць з сядла любога чалавека, толькі не Васько* (А.Асіпенка. Непрыкаяны маладзік). Паходзіць са свабоднага словазлучэння ў выніку яго пераасэнсавання. *У час конных спаборніцтваў патрабуецца выбіць саперніка з сядла.*

У слоўніку маюцца спісы прынятых скарачэнняў і выкарыстанай літаратуры (44 пазіцыі) на беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай мовах.

Устойлівыя выразы, ужытыя адным аўтарам, адлюстраваны ў працы (гл.: ФРАЗЕАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК 1993), дзе сабраны ўсе ідыёмы (звыш 6000 адзінак), што сустракаюцца ў 12-томным зборы твораў народнага пісьменніка Беларусі Я.Коласа, і ўяўляе сабой, бадай, адзіны ў славянскай фразеаграфіі слоўнік асобнага пісьменніка. Сабраныя ўстойлівыя выразы характарызуюцца са стылістычнага, граматычнага, семантычнага пунктаў гледжання, ілюструюцца пашпартызаванымі цытатамі іх ужывання. Слоўнікавыя артыкулы будуюцца па такой схеме: загаловачны фразеалагізм (падаецца ў алфавітным парадку ключавога слова), скарочаная памета (указанне на кіраванне, граматычную і стылістычную характарыстыку, сферу ўжывання і інш.), тлумачэнне сэнсу фразеалагізма, ілюстрацыйны матэрыял. У слоўнік уключаны так званыя індывідуальна-аўтарскія фразеалагізмы (каля 1200 выразаў), што ўяўляюць сабой або пашыраныя формы агульнаўжывальных выразаў (параўн.: *спусціць дух і кішкі, ліць пот і слёзы, з душой адкрытаю і сэрцам* і інш.), або іх скарочаныя формы ўжывання (параўн.: *мець цара, душа ў целе, толькі мокранькае астанецца* і інш.), або перарobленыя формы (параўн.: *скаліць дзясны, цягнуць лёс, каля гнілога карыта* і інш.), або пераасэнсаваныя значэнні агульнаўжывальных фразеалагізмаў (параўн.: *зорку з неба схапіць* ‘вылучыцца розумам‘, *у бутэльку лезць* ‘зрабіць амаль немагчымае‘, *як рак чырвоны* ‘вельмі ўзрушаны‘ і інш.), або словазлучэнні з пераноснай семантыкай, якая не вынікае з сумы значэнняў яе асобных кампанентаў (параўн.: *макавыя галоўкі* ‘дзяўчаткі‘, *накрыцца зямлёю* ‘памерці‘, *грыбная знаць* ‘баравікі‘ і інш. або аўтарскія параўнанні тыпу *бы пры сцежцы гарох, як сукін сын, як камароў у балоце* і інш. У якасці ўзору слоўнікавага артыкула прывядзём наступны прыклад: **падстроіць штучку** *каму, дзеясл., зак., неадабр.* Зрабіць непрыстойны ўчынак у адносінах да каго-н. *Яшчэ летась ён падстроіў Сцяпану штучку, за якую прыйшлося пасвяціць вачыма.* Старыя падрызнікі. 4. 125. (першай лічбай пазначаны

том выдання, другой старонка тома). Рэдактарам слоўніка і адным з укладальнікаў з'яўляецца А.Аксамітаў, а таксама С.Берднік, Я.Камароўскі, Е.Мяцельская.

З надрукаваных дыялектных слоўнікаў фразеалагізмаў можна адзначыць два тыпы: тыя, дзе сабраны фразеалагізмы з розных куткоў Беларусі, і зборы выразаў пэўнага рэгіёна рэспублікі. Да першага тыпу адносіцца, напрыклад, праца (гл.: МЯЦЕЛЬСКАЯ, КАМАРОЎСКІ 1972), якая ўключае ў свой склад каля 3000 фразеалагічных адзінак, зафіксаваных у 64 пунктах нашай краіны (скарочаныя назвы вёскі і раёна прыводзяцца пры кожным выразе, а расшыфроўка скарачэнняў даецца ў пачатку кнігі). Слоўнікавыя артыкулы будуюцца па наступнай схеме: 1. Фразеалагізм і яго варыянты (падаюцца ў дужках); 2. Граматычныя і стылістычныя паметы (але не для ўсіх сабраных выразаў); 3. Раскрыццё значэння фразеалагізма праз разгорнутае апісанне, словазлучэнне, слова; 4. Пашпартызаваны ілюстрацыйны матэрыял, які складаецца і з адной, і з некалькіх цытат. Так, структура аднаго са слоўнікавых артыкулаў выглядае наступным чынам: **падкласці (падлажыць) свінню** каму. *Незадав.* Цішком свядома рабіць непрыемнасць каму, ашукваць каго. *Хто цібя зная, можа ты мне хочаш падлажыць сьвіню. Як табе паверыць?* Ас., Стаўб. р. *Раманэ ўсе хітрыя. Старшы нек кажа: "Цётка, прадай нам япрука, дабро заплачу". Не, думаю, не прадам я табе, ашукаяш. Ён майму брату падлажыў сьвіню. Насватаў некага махляра, той (брат) аддаў с хлява сьвіню, а тагды чуць грошы сарваў.* Жац., Стаўб. р. Спрошчанай транскрыпцыяй аўтары імкнуцца захаваць фанетычныя і граматычныя асаблівасці занатаванага маўлення. Прыведзеныя скарачэнні Ас., Жац., Стаўб. р. абазначаюць вёскі Асіпаўшчына і Жацерава, Стаўбцоўскі раён. Матэрыялам для слоўніка паслужылі запісы гутарковай мовы ад прадстаўнікоў розных узроставых і сацыяльных груп вясковага насельніцтва Беларусі, прычым многія фразеалагізмы не з'яўляюцца здабыткам літаратурнай мовы, напрыклад, **лапека на лапеку** 'зношаная, уся на латах, зусім парваная (вопратка, сукенка, паліто і г.д.)'; **жадам жадаць** 'вельмі моцна хацець'; **плескача схваціць** 'быць пакараным' і інш. У некаторых артыкулах змяшчаюцца фразеалагічныя сінонімы тыпу *На чорта. На якога д'ябла. На няшчасце. На халеру* 'навошта? для чаго? дзеля чаго?' і г.д.

Каля 700 дыялектных фразеалагізмаў з розных рэгіёнаў Беларусі прадстаўлена ў кнізе (гл.: ЛЕПЕШАЎ 1991). Сабраныя фразеалагізмы, на думку складальніка, яшчэ не фіксаваліся ў друку і служаць "рэзервам нашай літаратурнай мовы, крыніцай яе ўзбагачэння", таму невыпадкова праца мае падзагаловак "Дыферэнцыяльны слоўнік". Фразеалагізмы маюць граматычную, семантычную, стылістычную характарыстыкі, пашпартызаваныя ілюстрацыі, занатаваныя пераважна ў Віцебскай і Гродзенскай абласцях. Варыянты кампанентаў фразеалагізма прыводзяцца ў круглых дужках. Слоўнікавы артыкул мае наступную структуру: 1) загаловачны фразеалагізм, 2) граматычная памета, 3) стылістычная памета, 4) семантычная характарыстыка, 5) ілюстрацыя. Напрыклад, **рэдкія пальцы** ў каго. *У безас. ужыв. Неадабр.* Хто-н. не ўмее ашчадна, эканомна расходаваць свой набытак (часцей грошы). *У нашай сусеткі рэдкія пальцы, усё толькі пазычае й пазычае.* Ашм., Медз. *Дваіх робяць, дзве палучкі палучаюць, аля ш пальцы рэткія, дык нічога ў хату і не купяць.* Іў., Гал. *Што ш гэта за мужык, які капейкі ў кішэні не мая? Рэткія ў яго пальцы.* Іў., Сл. Скарачэнні ў прыведзеным артыкуле абазначаюць *У безас. ужыв.* 'у безасабовым ужыванні', *неадабр.* 'неадабральны', Ашм. 'Ашмянскі раён', Медз. 'Медзюны' (вёска), Іў. 'Іўеўскі раён', Гал. 'Галімшчына' (вёска), Сл. 'Слесары' (вёска). Спіс скарачэнняў расшыфроўваецца ў пачатку кнігі. У канцы слоўніка змешчаны дадатак, які ўключае ў свой склад 105 прыказак, што не фіксаваліся раней у друку (параўн.: *Адумаўся рак, што вочы не так; Няма горшай балесці, як хочацца есці; Хоць кажух мяць, абы не гуляць* і інш.). Адносна невялікая колькасць народных

выразаў (каля 1000) прадстаўлена ў слоўніку (гл.: ЯНКОЎСКІ 1968), прычым яны ў пераважнай большасці з'яўляюцца агульнымі для літаратурнай і дыялектнай моў.

З рэгіянальных слоўнікаў, дзе сабраны фразеалагізмы аднаго раёна Беларусі, варта адзначыць трохтомную працу (гл.: ЮРЧАНКА 1972; ЮРЧАНКА 1974; ЮРЧАНКА 1977), у якой зафіксаваны беларускія і рускія ўстойлівыя выразы гаворкі Мсціслаўшчыны (дакладней у вёсках Чырванагорскага сельсавета Мсціслаўскага раёна). Матэрыял, прадстаўлены ў дадзенай лексікаграфічнай крыніцы, хаця і адлюстроўвае моўныя рэаліі адной гаворкі, так званую трасянку, у якой змешаны беларускія і рускія фразеалагізмы, ці шырэй беларускія і рускія моўныя элементы, але ўзнікае пытанне, ці ёсць падставы лічыць падобны слоўнік уласна беларускім? Напрыклад, у працы адзначаюцца такія выразы, як *вісець у воздухе, без шчоту, ад случая к случаю, адходчывае серца, атвячаць галавою, давадзіць да сазнанія, да пары да ўрэмя, дзяржы карман шыры, на месце праступленія, для ачысткі совесці, забубённая головушка, змарозіць чапуху, з першага ўзгляда, гаварыць рускім языком* і шмат іншых. Тым не менш аўтар зафіксаваў даволі многа трапных мясцовых выразаў, якія яшчэ не былі лексікаграфічным здабыткам беларускай мовы (параўн.: *пуза на нос дзярэцца, хадзіць ханалём, пацалаваць у прабой; ні ў пір, ні ў вір; насіць хвост палкаю, на стрыжанай казе вазіць, на ўсе гужы, не з тваім носам палосым, грэць грэнку, закабункі выкідаць, з'есць грака* і інш.). Значная колькасць зафіксаваных фразеалагізмаў служыць агульнай для беларускай і рускай моў (параўн.: *віляць хвастом, паміраць са смеху, валяць дурака, між двух агней, на сваіх дваіх, пускаць пыл у вочы, вісець на валаску, грош цана, гуляць з агнём, закідаць вудачку, з'есць разам пуд солі, з кожы лезць* і інш.).

Суцэльным запісам усяго фразеалагічнага матэрыялу тлумачыцца той факт, што толькі ў адной невялікай мясціне Беларусі занатавана каля 15 000 устойлівых выразаў (з іх рэестравых 4425), многія з якіх падаюцца як варыянты са зменнымі формамі ў адным артыкуле (параўн.: *валяць ваньку, праваляць ваньку, паваляць ваньку, наваляць ваньку* і да т.п.). Замяняльныя кампаненты фразеалагізма падаюцца ў круглых дужках тыпу *зжываць (зганяць) са свету*, а факультатыўныя кампаненты – у квадратных дужках тыпу [*зарубіць сабе на насу*]. Скарочана прыводзяцца граматычныя паметы, часам стылістычныя, а таксама сінтаксічная сувязь з кантэкстам у выглядзе пытальных слоў *каму, чаму, каго* і да т.п. Сэнс фразеалагізмаў тлумачыцца або словам (параўн.: **віснуць на шыі** 'абцяжарваць' і інш.), або сінонімамі (параўн.: **войстрый нож** 'непрыемна, пакутліва' і інш.), або словазлучэннямі (параўн.: **глядзець у рот** 'лісліва паддобрывацца' і інш.), або разгорнутымі апісаннямі (параўн.: **гара з плеч звалілася** 'пра пазбаўлення ад злыбеды, пакут, вялікага клопату' і да т.п.).

Пасля азначэння сэнсу ўстойлівага выраза даецца ілюстрацыйны матэрыял у выглядзе запісаў вуснага маўлення са спрошчанай транскрыпцыяй. Пра агульную структуру артыкула можна меркаваць па наступным прыкладзе: **порах сыплецца (сыпецца)**, *гумар., цяп., пр., буд.* 'Пра агульную нямогласць ад старасці'. *Айдзе яму з вамі йіціць, зь яго порых сыпліцца. С твайго жыніха порах сыпіцца. Порых сыпаўся, а йшчэ хацеў гогылім дзіржацца.* Пачын. *Порах пасыпаўся. Рана ж сь цябе порых пасыпаўся, ты дажа ці ні мыладзей на якей год за нас.* Незразумелыя дыялектныя словы, што сустракаюцца ў складзе прыведзеных выразаў, тлумачацца ў канцы слоўніка і суправаджаюцца граматычнымі паметамі, ілюстрацыямі (параўн.: **юрнуць,** *-у, -еш; зак.* 'Сцебануць'. *Юрну, дык ён паездзіць, будзіць як ціхыя лета ў мяне*; **жвялёк,** м. 'Скрутак'. *Жвялёк травы пыт пахыю прінёс, кінуў ціріс прясла* і г.д.).

Да створаных у айчыннай лексікаграфіі перакладных (двухмоўных) слоўнікаў адносяцца невялікія працы, дзе на беларускую мову перакладаюцца рускія ўстой-

лівыя звароты (гл.: КИСЕЛЕВ 1991; САНЬКО 1991) і англійскія кампаратыўныя ідыёмы (гл.: КОРСАК, МАРЦІНОВІЧ 1984). У першай з іх прадстаўлена каля 800 рускіх фразеалагізмаў, перакладзеных на беларускую мову адным выразам, прычым даецца тлумачэнне зыходнай рускай устойлівай адзінкі, зрэдку прыводзяцца граматычныя і стылістычныя паметы, а таксама сінонімы і этымалагічныя даведкі. Ілюстрацыі ў выглядзе аўтарскіх і пашпартызаваных цытат з літаратурных крыніц суправаджаюць многія як рускія, так і беларускія ідыёмы. У якасці прыклада прывядзём наступныя артыкулы: **без ума** от кого, от чего 'В восхищении, в восторге', Ср. *без памяти Без памяці* ад каго, чаго. *Во дни веселий и желаний я был от балов без ума* (А.С.Пушкин. Евгений Онегин). *Вучні былі без памяці ад свайго класнага кіраўніка, ад яго тактычнасці і добразычлівасці*; **два сапога пара**. 'Одинаковые по своим качествам, одного типа, друг друга стоят'. Ср.: *на одну колодку, одного поля ягоды.◊ Абое рабое, два боты пара, адзін другога варты. У меня не старуха, а лютая тигра. По зловредию она ничуть не уступает вот этому треклятому козлу, она да Трофим – два сапога пара, истинный бог, не грешу* (М.Шолохов. Поднятая целина). ◊ *Абое рабое – так адзначалі іх узаемаадносіны.* У канцы працы даецца адваротны слоўнік беларуска-рускіх фразеалагічных адпаведнікаў. Кніга прызначана для навучэнцаў рускіх і беларускіх сярэдніх школ.

Перакладны слоўнік руска-беларускіх устойлівых выразаў (1356 загаловачных рускіх адзінак ), створаны З.Санько, адрозніваецца ад папярэдняй разгледжанай фразеаграфічнай крыніцы, па-першае, тым, што ўключае ў свой склад прыказкі і прымаўкі (парэміі) – 478 адзінак, якія падаюцца ў першай частцы працы; па-другое, тым, што тлумачэнне зыходнай рускай устойлівай адзінкі даецца, як правіла, некалькімі беларускімі выразамі; па-трэцяе, адсутнасцю пашпартызаванага ілюстрацыйнага матэрыялу і граматычных памет; па-чацвёртае, шырокім выкарыстаннем адсылак да іншых артыкулаў, прычым усе беларускія адпаведнікі, скарыстаныя ў слоўніку для перакладу рускіх выразаў, прыводзяцца ў канцы працы па алфавіце і складаюць значна большую колькасць (4700 адзінак), чым іх рускія адпаведнікі; па-пятае, практычнай адсутнасцю супадальных па сваёй знешняй форме рускіх і беларускіх суадносных выразаў, якія, дарэчы, складаюць большасць у працы І.Кісялёва (параўн.: *как на грех* і *як на грэх, слово в слово* і *слова ў слова, ни с места* і *ні з месца, со всего маху* і *з усяго маху, как корове седло* і *як карове сядло* і г.д.). У працы З.Санько беларускія пераклады не заўсёды з'яўляюцца эквівалентнымі ці сінанімічнымі, але, як правіла, адносяцца да адной прадметнай тэмы і дасягаюць дзесятка і болей выразаў для загаловачнай рускай адзінкі (параўн.: **Гори оно синим огнем** '*Гары яно гарам, А няхай яно дымам возьмецца, Хай яго агні высмаляць, Хай яно перуном (дымам) пойдзе, Няхай усё тут дымам сядзе, Каб яно дагары з дымам пайшло, Бадай ты без агню згарэў, А няхай ты згары, Каб ты ўпапялеў, Каб цябе агонь спаліў, Агнём цябе запалі*') і ўяўляюцца, такім чынам, фактычна першай даволі вялікай крыніцай блізказначных або сінанімічных беларускіх выразаў, якія сабраны аўтарам з розных зборнікаў (І.Насовіча, М.Федароўскага, У.Дабравольскага, Е.Раманава і інш.).

Англійскія параўнальныя выразы (348 адзінак) перакладаюцца на беларускую мову ў згаданай невялікай фразеаграфічнай працы канструкцыямі са злучнікам *як*, прычым для перакладу аднаго зыходнага англійскага параўнальнага выразу выкарыстоўваецца цэлы шэраг беларускіх, напрыклад: quake like a (aspen) leaf '*дрыжаць як асінавы ліст,. як авечы хвост, як у трасцы, як у ліхаманцы, як кісель*' і да т.п., прычым не ўсе беларускія перакладныя выразы можна аднесці да ўстойлівых (прынамсі, частка з іх не фіксуецца ў якасці фразеалагізмаў у адпаведных фразеаграфічных крыніцах), таму другую (перакладную) частку слоўніка нельга прызнаць у поўнай ступені фразеалагічнай.

# 13. ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ

## 13.1. ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ ЯК НАВУКА, ЯЕ АСНОЎНЫЯ РАЗДЗЕЛЫ, ПАНЯЦЦІ, СУВЯЗІ З ІНШЫМІ НАВУКАМІ

Дыялекталогія (грэч. dialektos 'гаворка' logos, 'вучэнне') літаральна і абазначае навуку аб мясцовых гаворках, якія ўяўляюць сабой у суме разнавіднасць агульнанароднай мовы. Другой формай агульнанароднай мовы служыць літаратурная мова, што адрозніваецца ад дыялектнай, па-першае, сваім афіцыйным статусам дзяржаўнай мовы, мовы адукацыі, культуры, навукі, літаратуры і г.д. на ўсёй тэрыторыі краіны; па-другое, існаваннем і функцыянаваннем у дзвюх формах – вуснай і пісьмовай (дыялектная мова існуе толькі ў вуснай форме, пісьмовая ж выкарыстоўваецца для навуковых і вучэбных мэтаў у выглядзе яе транскрыбіраваных запісаў, якія грунтуюцца на выкарыстанні літар пераважна сучаснай беларускай літаратурнай мовы, спецыяльных надрадковых знакаў для адэкватнага адлюстравання дыялектнага вымаўлення); па-трэцяе, сваёй унармаванасцю, кадыфікацыяй у аўтарытэтных (звычайна акадэмічных) даведніках, навуковых і вучэбных працах, слоўніках і інш.; па-чацвёртае, ужываннем найбольш адукаванай часткай грамадства; па-пятае, літаратурная мова звычайна ўзнікае як сродак зносін і самавыражэння людзей у культурных цэнтрах краіны і затым пашыраецца для выканання разнастайных сацыяльных функцый па ўсёй тэрыторыі дзяржавы, а дыялектная мова мае тэндэнцыю да ўсё больш абмежаванага выкарыстання толькі вясковымі жыхарамі краіны, што спакваля пераходзяць або на літаратурную мову (як правіла, інтэлігенцыя), або на трасянку; па-шостае, літаратурная мова з'яўляецца стылістычна дыферэнцыраванай, а дыялектная мова абслугоўвае толькі сферу вусных зносінаў, часткова галіну намінацый разнастайных рэалій сельскіх рамёстваў.

Дыялектная мова ахінае ўсе рэгіянальныя праяўленні агульнанароднай і існуе ў трох разнавіднасцях: гаворка (характэрна для аднаго або некалькіх населеных пунктаў), група гаворак (пашырана ў многіх вёсках, жыхары якіх маюць у сваім маўленні супадальныя фанетычныя, граматычныя, лексічныя, фразеалагічныя рысы), дыялект, ці дыялектны масіў, які складаецца з груп падобных, аднародных гаворак супольнай тэрыторыі.

Сучасным станам гаворак, іх лінгвістычным даследаваннем займаецца сінхранічная (апісальная) дыялекталогія, якой супрацьпастаўляецца дыяхранічная, або гістарычная, дыялекталогія, што вывучае дыялекты ў часе іх функцыянавання, фіксуе ці тлумачыць змены ў гаворках на розных этапах існавання апошніх. Лінгвістычная геаграфія даследуе рэгіянальныя гаворкі шляхам картаграфавання тых або іншых адметнасцяў (фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных, лексічных, фразеалагічных) з дапамогай умоўных знакаў, якімі на спецыяльных картах або ў атласах адзначаюцца разнастайныя моўныя характарыстыкі гаворак, тэрыторыя іх распаўсюджвання, межы паміж імі ў выглядзе ліній, ці так званых ізаглос. Апошнія

уяўляюць сабой палосы рознай шырыні, дзе перасякаюцца моўныя ўласцівасці суседніх гаворак. Ізаглосамі вызначаюцца найбольш выразныя тэрыторыі пэўных гаворак, груп гаворак, дыялектаў у выглядзе канкрэтных арэалаў з характэрнымі для іх моўнымі рысамі. Найбольш падрабязна і поўна беларускія гаворкі картаграфіраваны ў ДАБМ і ЛАБНГ (гл. пра іх старонкі кнігі, што пазначаны ў прадметным паказальніку).

Супастаўляльная дыялекталогія вывучае параўнальным метадам розныя групы гаворак, розныя дыялекты, а таксама выяўляе агульныя і адметныя рысы дыялектнай і літаратурнай моў (гл.: ВАЙТОВІЧ 1958; КРЫВІЦКІ 1961), дыялектаў розных моў, звычайна роднасных (гл.: БЕЛАРУСКАЯ І РУСКАЯ ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ; МАНАЕНКОВА 1978; МАНАЕНКОВА 1992). Праз супастаўленне дыялектаў як адной мовы, так і розных, выяўляецца, напрыклад, што яны (дыялекты) распаўсюджваюцца прасторава ў выглядзе хваляў і маюць паміж сабой пераходныя межы не толькі ўнутры адной мовы, але і з дыялектамі іншых суседніх моў, што плаўна пераходзяць адзін у другі.

Так, заходнепалескія гаворкі беларускай мовы маюць шмат агульных рыс з суседнімі ўкраінскімі дыялектамі; тое ж тычыцца ўсходніх і заходніх беларускіх гаворак, якія мяжуюць адпаведна са смаленскімі, бранскімі гаворкамі і беларускімі гаворкамі Беласточчыны на тэрыторыі сучаснай Польшчы: ва ўсходніх гаворках адзначаецца шмат як уласна беларускіх моўных рыс, так і асаблівасцяў, што лучаць іх з гаворкамі рускай мовы; а ў заходніх гаворках назіраецца больш суадносных рыс, характэрных і для польскіх гаворак.

Моўныя рысы, якія не супадаюць у пэўных гаворках ці іх групоўках называюцца дыялектнымі адрозненнямі. Яны могуць быць супрацьстаўленымі, напрыклад, мяккай фанеме *р* гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту адпавядае цвёрдая фанема *р* гаворак паўднёва-заходняга дыялекту, і несупрацьстаўленымі, напрыклад, наяўнасць у некаторых беларускіх гаворках лексем тыпу *загарадка, пастаўнік* і інш., што абазначаюць рэаліі (у дадзеным выпадку ‘абгароджанае для свойскіх жывёл адкрытае месца‘), адсутныя ў іншых мясцовасцях краіны. Супрацьстаўленых дыялектных адрозненняў значна больш, менавіта яны ўяўляюць аб’ект даследавання ў супастаўляльнай дыялекталогіі.

Ад рэгіянальных дыялектаў трэба адрозніваць сацыяльныя (сацыялекты), што ўжываюцца тымі або іншымі групамі насельніцтва паводле іх прафесій. На тэрыторыі дарэвалюцыйнай Беларусі выпрацаваліся даволі добра апісаныя ў лінгвістыцы такія сацыялекты вяскоўцаў, як катрушніцкі лемезень (мова дрыбінскіх шапавалаў), любецкі лемент (мова жабракоў Магілёўшчыны), парушніцкі лемез (мова краўцоў і шапавалаў Шклоўшчыны), выцірняцкі гаўрыднік (мова лабараў, або зборшчыкаў ахвяраванняў на патрэбы царквы, у мястэчку Янава Кобрынскага павета) і інш. (гл.: ЛУКАШАНЕЦ 1999).

Дыялекталогія мае сувязі з моваазнаўчымі дысцыплінамі (гісторыя мовы, сучасная беларуская мова, стылістыка, тапаніміка, методыка выкладання мовы) і іншымі гуманітарнымі навукамі, у прыватнасці, з этнаграфіяй, фалькларыстыкай, краязнаўствам, археалогіяй. З гісторыяй мовы дыялекталогія нітуецца тым, што адлюстроўвае ў многіх сваіх назвах зніклыя рэаліі або некаторыя страчаныя значэнні пэўных слоў (параўн.: назвы ўжо не наяўнай прылады працы цэп: *цапілна, гужык, біч, путцы, сырыца, абічоўка* і інш. ў гаворках Рудзенскага раёна Мінскай вобласці; гл.: МАТЭРЫЯЛЫ 1950, 44). У многіх гаворках захаваліся адсутныя ў беларускай літаратурнай мове дыфтонгі, формы клічнага склону, формы парнага ліку назоўнікаў, формы інфінітыва на *-ці (-ты)* і інш. (гл.: МЯЦЕЛЬСКАЯ, БЛІНАВА 1991, 22–23), што мае важнае значэнне для вывучэння гісторыі мовы, бо ў дыялектах кансервуюцца ўжо зніклыя, але існаваўшыя раней формы і з’явы мовы,

якія, такім чынам, служаць багацейшай крыніцай для гісторыі, яе праекцыі ў прасторы.

З тапанімікай дыялекталогія лучыцца тым, што захоўвае ў сваіх мясцовых назвах знікшыя рэаліі тыпу *Вярэня* ад *вярэня* 'гнілы забалочаны лес', *Плюсішча* ад *плюс* 'грыб, казляк', *Асавец* ад *асавок* 'асіннік' і г.д. (гл.: ЖУЧКЕВИЧ 1974), дапамагае выявіць шляхі рассялення нашых продкаў, напрыклад, на тэрыторыі сучаснай Беларусі каля 82% тапонімаў маюць славянскае паходжанне (гл.: ЖУЧКЕВИЧ 1980, 215).

Этнаграфія як навука аб духоўнай і матэрыяльнай культуры і археалогія, ці навука аб гісторыі, быце, культуры старажытных народаў па захаваных рэчавых помніках, жывяцца з дыялектных крыніц шматлікімі назвамі адпаведных матэрыяльных і духоўных рэалій у галіне будаўніцтва, ганчарства, ткацтва, кавальства і іншых рамёстваў, у сферы веравызнання, святочных і рэлігійных абрадаў і інш. Напрыклад, у кнігах (гл.: ЭТНАГРАФІЯ 1989; АРХЕАЛОГІЯ 1993) за дыялектнымі словамі і назвамі месцяцца наступныя ўжо малавядомыя або знікшыя рэаліі: *кляпцы* 'самалоўная пастка ўдарнага дзеяння'; *кляшчоткі* 'самагучальны музычны інструмент', *макацёр* 'ганчарны выраб', *зубель* 'пчалярская прылада для падкурвання пчол', *палявік* 'вобраз у старажытных павер'ях беларусаў і іншых народаў у выглядзе велізарнага ценю', *пацяг* 'групавая гульня', *шчадрэц* 'даўні звычай адзначаць вечар напярэдадні Новага года', *мадора* 'курганны помнік радзімічаў каля вёскі Мадора Рагачоўскага раёна', *лямец* 'шчыльны тоўсты матэрыял з валенай воўны', *бечы* 'гарадзішча балотнага тыпу мілаградскай і зарубенецкай культур каля вёскі Бечы Жыткавіцкага раёна', *дзянісенкі* 'курганны могільнік крывічоў каля вёскі Дзяніскі Верхнядзвінскага раёна' і г.д. Прычым у дыялектных назвах прадметы матэрыяльнай і духоўнай культуры часта з'яўляюцца матываванымі, г.зн. з прыкметамі, пакладзенымі ў аснову іх (прадметаў) найменняў, якія, такім чынам, фіксуюць адметны светапогляд і светаўспрыманне нашых продкаў (параўн. дыялектныя назвы ручніка: *уціральнік, рукацёр, сціркa, палаценца, трапкач, хвастач* і інш., спадніцы: *бяляк, сінька, шарачок, набойка, саматканка, палатнянік* і інш.).

Беларускі фальклор з'яўляецца адным з багацейшых у Еўропе, ён у значнай ступені будуецца на аснове дыялектнай мовы, а ідыястыль многіх каларытных беларускіх пісьменнікаў (Я.Колас, М.Гарэцкі, М.Зарэцкі, І.Мележ, Я.Брыль, В.Адамчык, Б.Сачанка і інш.) арганічна і нязмушана адлюстроўвае дыялектныя багацці тых рэгіёнаў, дзе нарадзіліся і сфарміраваліся адпаведныя мастакі слова, вывучэнне мовы якіх істотна і для сучаснай літаратурнай мовы, і для стылістыкі, і для літаратуразнаўства.

## 13.2. З ГІСТОРЫІ ВЫВУЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТАЛОГІІ

Увядзенне ў навуковы зварот беларускага дыялектнага матэрыялу пачалося даволі актыўна ў першай палавіне 19 – пачатку 20 ст. на старонках этнаграфічных, гістарычных, фальклорных, лексікаграфічных і іншых прац П.Бяссонава, П.Шэйна, Е.Ляцкага, Е.Раманава, І.Сербава, І.Насовіча, М.Федароўскага, З.Радчанкі, М.Доўнар-Запольскага, У.Дабравольскага і інш. Навуковае ж апісанне гукаў, граматычных форм і слоў беларускіх дыялектаў звязана з выданнямі (гл.: КАЛАЙДОВИЧ 1822; ГОЛОТУЗОВ 1852; НЕДЕШЕВ 1884; СЕРЖПУТОВСКИЙ 1911, і інш.), а таксама найперш са шматлікімі публікацыямі Я.Карскага, выдадзеных і ў часопісах, і асобнымі выпускамі, якія сабраны ў яго знакамітай працы "Беларусы", а таксама ў кнізе (гл.: КАРСКИЙ 1924), дзе аналізуюцца праблемы і тэмы беларускай,

рускай і ўкраінскай дыялекталогіі. Апісанню беларускіх народных гаворак прысвечана трэцяя глава памянёнай кнігі, дзе разглядаюцца пытанні межаў колішняга беларускага племені і яго мовы, утварэння беларускай народнасці і яе мовы, асноўныя фанетычныя асаблівасці беларускага маўлення, яго марфалагічныя і сінтаксічныя рысы. Асобна аналізуюцца канкрэтныя беларускія гаворкі, а таксама мова тагачасных беларускіх пісьменнікаў.

Я.Карскі склаў карту тэрытарыяльнага распаўсюджвання беларускай мовы, якая значна перавышае межы свайго ўжывання ў сённяшняй Беларусі, бо выкарыстоўвалася ў пачатку 20 ст. ў пагранічных раёнах усіх нашых славянскіх (рускія, украінцы, палякі) і неславянскіх (латышы, літоўцы) суседзяў. У даваенны час выйшла кніга па лінгвагеаграфіі Беларусі (гл.: БУЗУК 1928) і працы па апісанню беларускіх гаворак (гл.: РАСТОРГУЕВ 1927; РАСТОРГУЕВ 1928), артыкулы Я.Ваўка-Левановіча, П.Бузука, П.Растаргуева і інш., дыялектныя слоўнікі Віцебшчыны (гл.: КАСЬПЯРОВІЧ 1927) і Чэрвеньшчыны (гл.: ШАТЭРНІК 1929), анкеты, праграмы, інструкцыі (1926, 1927, 1931) па збіранню дыялектнага матэрыялу.

Пытанні беларускай дыялекталогіі закраналіся і ў даваенных даследаваннях рускіх вучоных (М.Дурнаво, І.Галанаў, М.Ушакоў і інш.), украінскіх мовазнаўцаў (У.Ганцоў, І.Зялінскі, К.Міхальчук і інш.), польскіх лінгвістаў (Л.Асоўскі, І.Атрэмбскі, К.Машыньскі, З.Шцібер і інш.).

У пасляваенны перыяд вывучэнне беларускіх дыялектаў дало найвышэйшы плён у стварэнні ДАБМ, ЛАБНГ (гл.: ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫ АТЛАС 1963; ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС 1993–1998; ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ 1968), у падрыхтоўцы шматлікіх рознабаковых апісанняў, у тым ліку дысертацыйных, беларускіх гаворак, у публікацыі мноства дыялектных слоўнікаў і матэрыялаў да іх. За публікацыю ДАБМ, які змяшчаў 338 лінгвагеаграфічных карт, яго рэдактары і выканаўцы (Р.Аванесаў, К.Крапіва, Ю.Мацкевіч, Г.Арашонкава, М.Бірыла, Н.Вайтовіч, А.Груца, А.Крывіцкі, А.Мурашка, Я.Рамановіч, А.Чабярук, М.Шэлег) у 1971 г. атрымалі Дзяржаўную прэмію СССР, а праз тры дзесяцігоддзі аўтары ЛАБНГ узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Беларускі дыялектны матэрыял картаграфаваны таксама ў атласах польскай і ўкраінскай моў; айчынныя навукоўцы бяруць чынны ўдзел у стварэнні "Лінгвістычнага атласа Еўропы" і "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа" (гл.: ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ 1991, 117). Шматлікія манаграфічныя апісанні беларускіх гаворак зроблены ў сферы фанетыкі (гл.: ВАЙТОВІЧ 1968; КРЫВІЦКІ, ПАДЛУЖНЫ 1984; КЛІМЧУК 1983; ЯШКІН 1976, і інш.), марфалогіі (гл.: МАЦКЕВІЧ 1959; ЧАБЯРУК 1977; ЯШКІН 1980, і інш.), сінтаксіса (гл.: ЯШКІН 1980; ПРОХОРОВА 1991, і інш.), словаўтварэння і лексікі (гл.: ЛЕКСІКА 1971; СЦЯЦКО 1972; СЦЯЦКО 1977; НАРОДНАЕ СЛОВА 1976; ПАНЮЦІЧ 1976; НАРОДНАЯ СЛОВАТВОРЧАСЦЬ 1979; НАРОДНАЯ ЛЕКСІКА 1979; СТАНКЕВІЧ 1996, і інш.), фразеалогіі (гл.: СЛОВА І ФРАЗЕАЛАГІЗМ 1981; СЛОВА І ФРАЗЕАЛАГІЗМ 1982; СЛОВА І ФРАЗЕАЛАГІЗМ 1983; СЛОВА 1979; СЛОВА 1984, і інш.). Манаграфічныя апісанні беларускіх гаворак у цэлым або асобных рэгіёнаў адлюстраваны ў працах (гл.: РАСТОРГУЕВ 1960; НАРЫСЫ 1964; ЖАКАВА, БЛІНАВА 1962; НОВОПОКРОВСКАЯ 1975, і інш.). Надрукаваны праграмы па беларускай дыялекталогіі (аўтары М.Бірыла, Э.Блінава, Н.Вайтовіч, М.Жыдовіч, Ю.Мацкевіч, Е.Мяцельская і інш.), "Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі" (Мінск, 1962), тэксты якой ахопліваюць гаворкі ўсёй тэрыторыі краіны, кніга "Беларуская дыялекталогія. Хрэстаматыя" (складальнікі Е.Мяцельская, Я.Камароўскі, Мінск, 1979), хрэстаматыя "Вусная беларуская мова" (Мінск, 1990). У пасляваенны час апублікаваны шматлікія слоўнікі беларускай дыялектнай лексікі і фразеалогіі (гл. пра гэта адпаведны параграф кампендыума).

На аснове выдадзеных прац у галіне дыялекталогіі ёсць пэўныя падставы меркаваць пра час узнікнення і шляхі фарміравання беларускіх народных гаворак. Нягледзячы на стракатасць і супярэчлівасць думак, выказаных рознымі навукоўцамі, адносна канстантным можна лічыць палажэнне, што асноўныя беларускія дыялекты канчаткова ўсталяваліся ў часы Вялікага Княства Літоўскага (14–16 стст.), а гэтаму перыяду папярэднічалі старадаўнія складаныя працэсы міграцыі нашых продкаў (крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў), узаемаадносіны іх гаворак з ляшскімі і прыбалтыйскімі моўнымі плынямі, з мовамі іншых суседніх славянскіх плямёнаў. Такім чынам, карані беларускіх дыялектаў сягаюць у сівую мінуўшчыну так званай банцараўскай культуры (5–8 стст.). Дыялектны арэал гэтага перыяду і складае ў асноўным тэрыторыю сучасных беларускіх гаворак, найбольш дакладнае апісанне якіх, у тым ліку лінгвагеаграфічнае, зрабіў Я.Карскі. Пэўныя ўдакладненні і змены беларускіх дыялектных арэалаў у далейшым аднак не змянілі вызначальных рыс сённяшняга беларускага дыялектнага ландшафта.

## 13.3. ДЫЯЛЕКТЫ І ГАВОРКІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Згодна з навуковымі данымі, прадстаўленымі ў працах многіх даследчыкаў (Я.Карскі, П.Бузук, Я.Воўк-Левановіч, складальнікаў ДАБМ і інш.), беларускія народныя гаворкі групуюцца ў два дыялекты – паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні, якія па сваіх моўных рысах даволі выразна супрацьпастаўляюцца заходнепалескім гаворкам, дзе адзначаецца мноства рыс, што збліжаюць іх з гаворкамі суседняй украінскай мовы. Паміж зазначанымі дыялектамі існуе пераходная зона з так званых сярэднебеларускіх гаворак, якія не ўтвараюць самастойнага дыялекту, бо сумяшчаюць у сябе рысы і паўночна-ўсходніх, і паўднёва-заходніх дыялектаў. Сярэднебеларускія гаворкі ляжаць у аснове сучаснай беларускай літаратурнай мовы, носьбітамі якіх былі класікі беларускай літаратуры Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч, М.Гарэцкі і інш.

Самымі характэрнымі фанетычнымі асаблівасцямі (усе фанетычныя, марфалагічныя, лексічныя, сінтаксічныя, фразеалагічныя прыклады, ілюстрацыі ў дадзеным раздзеле падаюцца ў максімальна спрошчанай транскрыпцыі, пра якую больш падрабязна гл.: НАРЫСЫ 1964, 11–12) паўднёва-заходняга дыялекту служаць (гл.: БЛІНАВА, МЯЦЕЛЬСКАЯ 1980, 202–206): 1) наяўнасць у націскных складах дыфтонгаў *іе, уо* (параўн.: *пієч, куост* і інш.) або закрытых *е, о* на іх месцы; 2) у ненаціскных складах адсутнічае адрозненне паміж галоснымі *о, е, а*, якія вымаўляюцца як *а*, гэта з'ява носіць найменне недысімілятыўнага акання (якання) тыпу *пшаніца, п'ата* і да т.п.; 3) зацвярдзелы зычны *р* (параўн.: *рэчка, бяроза, куру* і да т.п.); прыстаўны *г* перад пачатковымі галоснымі *а, о, у, і* (параўн.: *гозэро* 'возера', *гусы* 'вусы' і да т.п.); 4) непадоўжаны зычны на месцы спалучэння мяккага і зацвярдзелага зычнага з *й* паміж галоснымі (параўн.: *зьеля, збожа* і да т.п.); 5) зацвярдзенне губных і ўзнікненне *й* паміж *а, о* (параўн.: *мйяса, аўйос* і да т.п.).

Марфалагічныя асаблівасці зазначанага дыялекту палягаюць у наступных характэрных для яго рысах: 1) наяўнасць канчаткаў *-ою (-аю), -ею* ў назоўнікаў жаночага роду назоўнага склону (параўн.: *гарою, зямлёю* і да т.п.); 2) ужыванне назоўнікаў мужчынскага роду на *-е (-э)* множнага ліку назоўнага склону (параўн.: *братэ, гарадэ* і да т.п.); 3) наяўнасць парнага ліку ў назоўнікаў жаночага і ніякага роду (параўн.: *тры пісьме, у ваччу* і да т.п.); 4) неадушаўлёныя назоўнікі роднага склону ўжываюцца ў значэнні вінавальнага (параўн.: *знайшоў грыба, з'еў смажоніка* і да т.п.); 5) наяўнасць канчаткаў *-ом* у давальным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага

роду і -*ох* у месным склоне гэтых назоўнікаў (параўн.: *сыном, у гарадох* і да т.п.); 6) ужыванне цвёрдай часціцы -*са* ў зваротных дзеясловах (параўн: *расхварэўса, бачыўса* і да т.п.); 7) наяўнасць канчаткаў -*ом (-ум)* у прыметнікаў мужчынскага роду меснага склону адзіночнага ліку (параўн.: *на сухом, у цёмнум* і да т.п.); 8) зліццё галосных у канчатках назоўнага, вінавальнага склонаў прыметнікаў жаночага і ніякага рода (параўн.: *залата рэч, чэрвонэ сонца* і да т.п.); 9) выкарыстанне прыметнікаў жаночага роду на -*ое (-ае), -оі, -еі* (параўн.: *залатое дно, густоі лес, сінеі мора* і да т.п.); 10) ужыванне прыметнікаў мужчынскага роду на -*ом* (-*ум*) у месным склоне адзіночнага ліку (параўн.: *на сухом, у сінум* і да т.п.); 11) злітная сінтэтычнай форма будучага часу (параўн.: *чакацьму, крычацьмеш, хадзема* і да т.п.).

Да фанетычных рыс паўночна-ўсходняга дыялекту належаць наступныя: 1) распадабненне галосных *о, е, а* ў ненаціскных складах, калі націск падае ў слове на *а*, або дысімілятыўнае аканне (параўн.: *въда, вісна* і да т.п.), і супадзенне гэтых галосных у гуку *а*, калі націск падае на любы галосны, акрамя *а* (параўн.: *нагі, бяду* і г.д.); 2) наяўнасць мяккага зычнага *р* (параўн.: *треба, кріўдна* і да т.п.); 3) наяўнасць цокання (параўн.: *пецка 'печка', авецка* 'авечка' і да т.п.); 4) асіміляцыя зычных у спалучэнні *дн* (параўн.: *халонна 'халодна', ланна* 'ладна' і да т.п.); 5) падаўжэнне зычных пры іх спалучэнні з *й* (параўн.: *удушша, ружжо* і да т.п.).

Марфалагічныя рысы паўночна-ўсходняга дыялекту палягаюць у наступным: 1) выкарыстанне назоўнікаў жаночага роду ў творным склоне адзіночнага ліку з канчаткамі -*ай (-ой)* тыпу *хатай, гарой*; 2) ужыванне назоўніках ніякага роду на -*ы (-і)* у назоўным склоне множнага ліку тыпу *вёдры, палі;* 3) наяўнасць прыметнікаў мужчынскага роду на -*йы (-ій)* у назоўным склоне адзіночнага ліку тыпу *добрый, сіній*, або на -*ей (-эй)* тыпу *глухей, маладэй;* 4) ужыванне канчатка -*ць* у дзеясловаў трэцяй асобы адзіночнага ліку і першага, і другога спражэння тыпу *ідець, красіць*; 5) выкарыстанне часціцы -*ся* ў зваротных дзеясловах тыпу *купаліся, бачыліся;* 6) страта *л* у аснове дзеясловаў цяперашняга часу першага спражэння тыпу *дреміш, ловім.*

Для заходнепалескіх гаворак характэрны наступныя лінгвістычныя асаблівасці: 1) оканне (параўн.: *вода, гора* і да т.п.); 2) адсутнасць дзекання, цекання; 3) цвёрды зычны перад *е, і,* або галоснымі верхняга пад'ёму (параўн.: *вэчор, мыска* і да т.п.); 4) вымаўленне *і* на месцы ранейшага яць (параўн.: *хліб, літо* і да т.п.); 5) наяўнасць цвёрдага *т* у дзеясловаў трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу (параўн.: *бачыт, ходыт* і да т.п.); 6) выкарыстанне эпентэтычных (устаўных) гукаў *н* або *й* у выніку зацвярдзення губных зычных (параўн.: *мняса, мйата* і г.д.); 7) наяўнасць канчатка -*ові* ў назоўнікаў давальнага і меснага склонаў мужчынскага роду адзіночнага ліку (параўн.: *сынові, аб братові* і да т.п.).

У паўднёва-заходнім дыялекце вылучаюцца гродзенска-баранавіцкія і слуцка-мазырскія гаворкі, у паўночна-ўсходнім – полацкія і віцебска-магілёўскія гаворкі. Даследчыкі вылучаюць таксама наступныя дыялектныя зоны, якія не супадаюць ва ўсім па тэрыторыі з групамі адзначаных гаворак, бо накладваюцца адна на адну: паўночна-заходняя, паўднёва-ўсходняя, усходняя, заходняя, цэнтральная (гл.: БЕЛАРУСКАЯ МОВА 1994, 192). Межы паміж дыялектнымі зонамі на лінгвагеаграфічных картах паказваюцца звычайна ў выглядзе пучкоў ізаглос, якія сведчаць аб спалучэннях у гэтых межах лінгвістычных рыс розных гаворак (зон, дыялектаў).

# 13.4. ФАНЕТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОВА

## 13.4.1. ВАКАЛІЗМ

Гукі беларускай дыялектнай мовы, як і гукі літаратурнай мовы, падзяляюцца на галосныя і зычныя. Сукупнасць галосных гукаў называецца вакалізмам, зычных – кансанантызмам. Сярод галосных гукаў выдзяляюцца націскны вакалізм (галосныя, на якія пры вымаўленні падае націск) і ненаціскны вакалізм (усе астатнія галосныя, або гукі, што вымаўляюцца ў ненаціскных складах). Пры націскным вакалізме колькасны склад галосных фанем вызначаецца па моцнай пазіцыі, якая характаразуецца становішчам галоснай пад націскам. З гэтага пункту гледжання ва ўсіх беларускіх гаворках, як і ў літаратурнай мове, адзначаецца шэсць фанем: *і, ы, у, е, о, а.* Акрамя таго, у гаворках паўднёва-заходняга дыялекту занатоўваюцца дыфтонгі *іе, оу,* або адпаведна закрытыя *е, о,* што робіць гэтыя гаворкі вакалічна васьміфанемнымі.

Пры ненаціскным вакалізме галосныя, на якія не падае націск, падлягаюць колькаснай і якаснай рэдукцыі, вымаўляюцца з меншай працягласцю і сілай. Пры гэтым галосныя верхняга пад'ёму *і, ы, у* не мяняюць сваіх якасцяў пры рэдукцыі ў ненаціскным складзе, а астатнія галосныя, г.зн. *о, е, а* вымаўляюцца ў розных гаворках неаднолькава: у некаторых гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту на іх месцы вымаўляюцца поўнагалосныя *ы, у, э, а* тыпу *бырыда* 'барада', *булулайка* 'балалайка', *самувары* 'самавары' і да т.п.), а ў некаторых гаворках – рэдукаваны гук ъ тыпу *въда* 'вада', *нъчуваць* 'начаваць', *тръва* 'трава'. Якасць ненаціскных галосных залежыць ад таго, у якім ненаціскным складзе яны знаходзяцца, у сувязі з чым вызначаюцца галосныя пераднаціскнога складу (менавіта па характару іх вымаўлення вызначаюць галоўныя тыпы вакалізму) і галосныя ўсіх астатніх ненаціскных складоў.

Ненаціскны вакалізм пры вымаўленні галосных *а, о, е* пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных характарызуецца аканнем і оканнем. Аканнем называецца супадзенне фанем *а, о, е* у адным гуку *а.* Адрозніваюць дысімілятыўнае і недысімілятыўнае аканне. Пры дысімілятыўным аканні ў першым складзе перад націскным *а* замест *а, о, е* вымаўляецца рэдукаваны гук ъ (сярэдні гук паміж *а* і *э*) тыпу *бъран, въда* і да т.п. Пры недысімілятыўным аканні галосныя *а, о, е* перад усімі націскнымі галоснымі вымаўляюцца як *а* (параўн.: *касіць, давай* і да т.п.). Пры оканні (адзначаецца ў некаторых гаворках паўднёва-заходняга дыялекту) галосныя *о, а* пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных адрозніваюцца ў першым пераднаціскным складзе (параўн.: *сорóчка, сказáты* і да т.п.). Поўным оканнем называюць фанетычную з'яву, калі *о, а* адрозніваюцца ў вымаўленні перад цвёрдымі і зацвярдзелымі зычнымі ва ўсіх ненаціскных складах (параўн.: *головá, молокó, стóрож* і да т.п.). У некаторых гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту сустракаецца акаючы вакалізм змешанага тыпу (дысімілятыўна-недысімілятыўны), калі перад усімі націскнымі галоснымі, акрамя *а*, на месцы *о, а* вымаўляецца *а* (параўн.: *травой, кажух* і да т.п.), але перад націскным *а* могуць вымаўляцца гукі *ъ, ы, у* (параўн.: *въйна* 'вайна', *скыкаць* 'скакаць', *гудуваў* 'гадаваў' і да т.п.).

Ненаціскныя галосныя *о, а, е* ў першым складзе перад націскам пасля мяккіх зычных рэалізуюцца па-рознаму. Пры яканні гэтыя галосныя вымаўляюцца як *а* (параўн. *дз'ажа, ц'агнуць* і да т.п.). Адрозніваюць дысімілятыўнае яканне (у некаторых гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту), калі адзначаныя галосныя няверхняга пад'ёму ў згаданай пазіцыі вымаўляюцца як *а* (перад націскнымі галоснымі, акрамя *а*) тыпу *гн'аздо, з'амлі*, і як *і*, калі пад націскам *а* (параўн.: *зімл'а, біда* і да

т.п.). Пры недысімілятыўным яканні (некаторыя цэнтральныя гаворкі Беларусі, асобныя гаворкі Брэстчыны і Магілёўшчыны) галосныя *а, о, е* ў першым складзе перад націскам пасля мяккіх зычных вымаўляюцца як *а* пры ўсіх націскных галосных (параўн.: *в'алікі, пагл'адаў* і да т.п.).

Адзначаюцца ў гаворках таксама выпадкі дысімілятыўна-недысімілятыўнага якання, калі *а, о, е* ў першым пераднаціскным складзе вымаўляюцца як *а* пры націску на любой галоснай, акрамя *а* (параўн.: *с'ало, м'ашкі* і да т.п.), і як *і* пры дысімілятыўным аканні, і як *а* пры недысімілятыўным (параўн.: *вірба, п'ата* і да т.п.). У некаторых гаворках паўднёва-заходняга дыялекту адзначаецца еканне, калі галосныя *а, о, е* ў першым пераднаціскным складзе вымаўляюцца як *е* (параўн.: *весна, мекіна* і да т.п.).

У заходніх раёнах Беларусі ёсць асобныя гаворкі з екаюча-якаючым вакалізмам, калі на месцы *а, о, е* вымаўляецца ў першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных то *е*, то *а*. У астатніх ненаціскных складах пасля мяккіх зычных (для пэўных беларускіх гаворак) на месцы *а, о, е* вымаўляецца то *і*, то *ь* (параўн.: *пітушок, цьпльта* і да т.п.). Больш падрабязна пра ненаціскны вакалізм беларускіх дыялектаў гаворыцца ў кнізе (ВАЙТОВІЧ 1968).

### 13.4.2. КАНСАНАНТЫЗМ

Кансанантызм уяўляе сабой сістэму зычных гукаў, арганізаваных найперш па прыкметах цвёрдасці-мяккасці, звонкасці-глухасці. Усяго ў беларускіх народных гаворках адзначаецца 33 зычныя фанемы: *б – б', п – п', в – в', м – м', ф – ф', т – ц', д – дз', с – с', з – з', н – н', л – л', р – р', ж – ш, г – х, ц, ч, дж, й, к.* Такім чынам, тут занатоўваецца 12 пар фанем, супрацьпастаўленых па прыкмеце цвёрдасці – мяккасці. Сярод зычных некаторых гаворак адзначаюцца пара па цвёрдасці – мяккасці, якіх няма ў літаратурнай мове (параўн.: *р – р', д – д', т – т'*). Усяго ж у гаворках з максімальнай колькасцю зычных фіксуецца дзевяць пар фанем, супрацьпастаўленых па глухасці – звонкасці: *п – б, п' – б', т – д, ц' – дз', с – з, с' – з', ш – ж, ч – дж, х – г.* Большасць беларускіх гаворак мае толькі цвёрды *р*, таму яны называюцца цвердаэрымі. На ўсходзе і поўдні рэспублікі ёсць мяккі *р*, таму гаворкі гэтых рэгіёнаў называюцца мяккаэрымі.

Санорныя фанемы *м – м', л – л', р – р', н – н'* не маюць адпаведных глухіх, гэтаксама, як і фанемы *в – в',* а фанемы *ф – ф', ц, й, к* не маюць звонкіх адпаведнікаў. У беларускіх гаворках паўднёва-заходняга дыялекту маецца толькі 32 зычныя фанемы па прычыне адсутнасці ў іх мяккага зычнага *р*.

Дзеканне і цеканне (*дз', ц'*) адзначаюцца ў большасці беларускіх гаворак, як і ў літаратурнай мове, прычым у адрозненне ад апошняй гэта з'ява фіксуецца і ў запазычаных словах (параўн.: *радзіва* 'радыё', *парцізаны* 'партызаны' і да т.п.). Мяккія зычныя *д, т,* адсутныя ў літаратурнай мове, занатоўваюцца ў некаторых гаворках паўднёва-заходняга дыялекту (гаворкі паўднёвых гаворак Гомельскай і Брэсцкай абласцей), напрыклад, *Т'елеханы, д'іво* і да т.п. Пярэднеязычныя шыпячыя *ж, ч, ш,* афрыкаты *дж, ц* у большасці беларускіх гаворак, як і ў літаратурнай мове, вымаўляюцца цвёрда, за выключэннем іх мяккіх разнавіднасцяў, што назіраюцца ў некаторых палескіх гаворках (параўн: *жіла* 'жыла', *гроші* 'грошы', *ч'ад* 'чад' і да т.п.). Супрацьпастаўленне губных галосных *б – б', п – п', в – в', м – м'* па цвёрдасці – мяккасці адзначаецца ў большасці беларускіх гаворак, але, напрыклад, у многіх гаворках Брэсцкай вобласці мяккія губныя зацвярдзелі перад *і* (параўн.: *пыво, мыска* і да т.п.), а перад галоснымі *а, о* ўзнік у паўднёва-заходнім дыялекце зычны *й* (параўн.: *мйясо, пйатныца* і да т.п.).

Нягледзячы на свой запазычаны характар, фанемы *ф – ф'* ужываюцца ва ўсіх беларускіх гаворках, хаця ў некаторых з іх гэтыя зычныя могуць замяняцца глухімі фанемамі *п, х, т* або спалучэннямі зычных *кв, хв* (параўн.: *картопля, кохта, Тодар, хвартух, квасоль* і да т.п.). Заднеязычныя *г – г'* з'яўляюцца фрыкатыўнымі (шчылiннымі), аднак у некаторых гаворках вымаўляецца і *г* выбуховы ў адносінах да запазычаных лексем (параўн.: *газэта, швагер* і да т.п.).

Разнастайныя змены зычных гукаў у выніку ўплыву суседніх гукаў тэрміналагізаваны ў лінгвістыцы словамі *асіміляцыя, дысіміляцыя, метатэза, пратэтычнасць, страта гукаў, эпентэза* і прадстаўлена на матэрыяле беларускіх гаворак больш шырока, чым у літаратурнай мове. Асіміляцыяй называецца прыпадабненне суседніх гукаў, яна можа быць рэгрэсіўнай і прагрэсіўнай, поўнай і няпоўнай. Прыпадабненне папярэдняга гука да наступнага называецца рэгрэсіўнай асіміляцыяй, якая часцей ужываецца ў гаворках, чым астатнія яе віды. Адрозніваюць няпоўную рэгрэсіўную асіміляцыю, калі гукі прыпадабняюцца па пэўнай прыкмеце, напрыклад, па звонкасці (параўн.: *проз'ба, свадз'ба* і да т.п.) і поўную, пры якой папярэдні гук вымаўляецца як наступны ў спалучэннях *бм, дн* (вымаўляецца адпаведна *мм, нн* тыпу *амманіць, халонна* і да т.п.).

Дысіміляцыя, ці распадабненне суседніх зычных гукаў таксама бывае рэгрэсіўнай і прагрэсіўнай, поўнай і няпоўнай. Пры рэгрэсіўнай дысіміляцыі, якая больш пашырана ў гаворках, чым у літаратурнай мове, адзначаецца распадабненне першага з суседніх гукаў, прыстасаванне яго па той ці іншай прыкмеце да наступнага гука (параўн.: *трахтар, канбайн* і да т.п.). У гаворках назіраюцца таксама выпадкі распадабнення несуседніх гукаў тыпу *палтрэт, антобус* і да т.п. Пры метатэзе адзначаецца перастаноўка гукаў ці складоў у словах, як правіла, пры выкарыстанні невядомых ці малавядомых лексем, звычайна запазычаных тыпу *гамазін* 'магазін', *арэй* 'аер' і да т.п. Эпентэза звязана з узнікненнем у дыялектным слове гука, якога не было ў зыходнай форме гэтага слова (параўн.: *войстры* 'востры', *спл'ат* 'спяць', *стадзівон* 'стадыён' і да т.п.). Прыстаўны гук *в* ужываецца ў гаворках, як і ў літаратурнай мове, перад агубленымі галоснымі *о, у* (параўн.: *востры, вуліца* і да т.п.), але, у адрозненне ад літаратурнай мовы, у гаворках Брэстчыны і Гродзеншчыны перад націскнымі пачатковымі гукамі *о, у* выкарыстоўваецца і прыстаўны зычны *г* (параўн.: *гостры* 'востры', *гулыца* 'вуліца' і да т.п.). У некаторых жа з гаворак зазначаных рэгіёнаў прыстаўныя *в, г* могуць не ўжывацца ўвогуле (параўн.: *ухо, острый* і да т.п.). Больш падрабязна пра кансанантызм беларускіх народных гаворак глядзі працу (НАРЫСЫ 1964, 102–150).

## 13.5. ГРАМАТЫЧНЫЯ ЎЛАСЦІВАСЦІ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЫ

### 13.5.1. МАРФАЛОГІЯ

Дыялектныя адрозненні ў сферы марфалогіі тычацца найперш канчаткаў слоў, несупадзенняў імёнаў у родзе, ліку, тыпах скланенняў, спосабаў словаўтварэння, у формах дзеясловаў, прыслоўяў. У той час, калі родавая варыянтнасць імёнаў у літаратурнай мове належыць да адносна рэдкіх з'яў, у гаворках пашыраны варыянты мужчынскага і жаночага роду для слоў тыпу *цень, боль, мазоль* і да т.п. Што тычыцца формы ліку, то ў дыялектах больш шырока, чым у літаратурнай мове, ужываецца парны лік імёнаў, асабліва ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту. Пры скланенні дыялектных назоўнікаў адзначаюцца пэўныя адрозненні ад літаратурных норм ва ўсіх склонавых формах. Так, у назоўным і вінавальным склонах канчатак *-о*

ўжываецца ў субстантываў ніякага роду з асновай на мяккі і цвёрды зычны (параўн.: *просо, пол'о* і да т.п.). У родным склоне канчатак *-у* характэрны для ўсіх назоўнікаў мужчынскага роду, як абстрактных, так і канкрэтных (параўн.: *плачу, смеху, дубу, возу* і да т.п.). У давальным склоне для назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку зазначаюцца канчаткі *-ові (-овы), -евы*, прыдатныя для некаторых палескіх гаворак (параўн.: *молокові, піроговы* і да т.п.). Канчаткі творнага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду залежаць ад характару акання, окання (параўн.: *дзедъм, гуркэм* і да т.п.). Для назоўнікаў меснага склону мужчынскага і ніякага роду з асновай на *г, к, х* у некаторых гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту ўжываюцца канчаткі *-ой (-ай), -ъй (-ый)* тыпу *вадой, пугъй* і да т.п.

Назоўнікі жаночага роду з нулявымі канчаткамі тыпу *мыш* у асобных гаворках маюць для назоўнага склону канчатак *-а (-я)*, напрыклад, *мыша*, а для творнага склону – канчаткі *-ою (-эю), -аю*, характэрныя ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту (параўн.: *мышою* і да т.п.), а ў гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту для адпаведных назоўнікаў – канчаткі *-ай (-эй), -ой* (параўн.: *мышай* і да т.п.).

Рознаскланяльныя назоўнікі тыпу *тата, бацька* маюць склонавыя канчаткі, залежныя ад націску і характару асновы, якія, аднак, не падлягаюць скланенню па аднолькавых узорах. У адных выпадках, напрыклад, у творным склоне фіксуецца канчатак *-ам* тыпу *старастам*, у другіх – *-ом* тыпу *старшыном*.

У множным ліку назоўнікі мужчынскага роду назоўнага склону для некаторых гаворак Гродзенскай, Мінскай, Гомельскай абласцей, у адрозненне ад літаратурнай мовы, маюць націскны канчатак *-е (-э)* тыпу *м'ашк'е, зубрэ*. У родным склоне націскны канчатак *-оў* адзначаецца для назоўнікаў палескіх гаворак (параўн.: *м'ашкоў, зуброў* і да т.п.), а ненаціскны канчатак *-аў* варыруецца з канчаткамі *-оў, -уў, -ув* тыпу *партызануў, тэл'атув* і да т.п. У давальным склоне для запазычаных назоўнікаў некаторых гаворак паўднёва-заходняга дыялекту ўжывальным служыць канчатак *-ом* тыпу *дваром, пастухом*. Вінавальны склон назоўнікаў множнага ліку часам супадае з назоўным у адушаўлёных субстантываў (параўн.: *пасе авечкі, корміць куры* і да т.п.). У творным склоне форма на *-амы* назоўнікаў множнага ліку сустракаецца на тэрыторыі сярэднебеларусскіх гаворак (параўн.: *дубамы, гарамы* і да т.п.). У месным склоне назоўнікі множнага ліку маюць канчаткі *-ох, -ех* для гаворак паўднёва-заходняга дыялекту (параўн.: *па лясох, на вароцех* і да т.п.).

Формы дыялектных займеннікаў адрозніваюцца ад літаратурных найперш па прычыне фанетычных асаблівасцяў (яканне, еканне, лабіялізацыя, наяўнасць энклітычных формаў і інш.) пэўных гаворак, у выніку чаго ўжываюцца ўскосныя склоны асабовых займеннікаў тыпу *м'ан'е, м'ін'е, м'ен'е, мэнэ, йага, чага* і да т.п.). Указальным займеннікам *гэты* абазначаецца блізкі прадмет, а *гэны* – аддалены прадмет. Энклітычныя формы вінавальнага склону зваротных займеннікаў *-ся, -ця* ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту ўжываюцца ў выглядзе *-се, -це*, або ў выглядзе постфіксаў *-с', -са, -со, -с'о, -сэ, -сі, -с'у* (параўн.: *вучыліса, бойусэ* і да т.п.).

У прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў і неасабовых займеннікаў назоўнага склону мужчынскага роду адзначаецца канчатак *-ый (-ій)* тыпу *добрый, такій* (у гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту і ў некаторых гаворках Брэсцкай вобласці). У гэтых жа гаворках назіраецца канчатак *-ей (-эй)* тыпу *другей, тэй*. Для слоў ніякага роду гэтых часцін мовы зазначаюцца канчаткі *-ое, -оя, -оё* тыпу *полезное, худоя, солоткоё* і да т.п. (окаючыя гаворкі), *-ая* (акаючыя гаворкі) тыпу *спелая*, *-эе* тыпу *тоўстэе* (гаворкі паўднёва-заходняга дыялекту, а таксама сцягнутыя формы на *-о, -е (-э)* тыпу *малади, молодэ* і да т.п.

Для роднага склону прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, неасабовых займеннікаў мужчынскага і ніякага роду (гаворкі з недысімілятыўным аканнем) прыдатнымі служаць канчаткі *-ого (-аго)* тыпу *старого, гэтаго*, а ў гаворках з

дысімілятыўным аканнем адзначаецца канчатак *-ъга (-ыга)* тыпу *добръга, вялікыга*. У жаночым родзе слоў зазначаных часцін мовы фіксуецца канчатак *-ое (-ае)* тыпу *другое, нашае* (гаворкі паўднёва-заходняга дыялекту), *-іе (-ые)* тыпу *сухіе, маладые* (некаторыя гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту). У давальным склоне жаночага роду гэтых жа слоў адзначаецца канчатак *-ей (-эй)* тыпу *шырокей, чужэй* (гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту), *-уй* тыпу *нашуй* (асобныя гаворкі абодвух дыялектаў).

Канчаткі вінавальнага склону слоў дадзеных часцін мовы супадаюць з канчаткамі назоўнага або роднага склонаў у залежнасці ад адушаўлёнасці / неадушаўлёнасці адпаведных субстантываў. Пры назоўніках мужчынскага і ніякага родаў творнага склону характэрным з'яўляецца канчатак *-ум* (некаторыя гаворкі паўднёва-заходняга дыялекту) тыпу *халоднум*, канчатак *-ъм* тыпу *новъм* (гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту). У месным склоне назоўнікаў мужчынскага і ніякага родаў для слоў дадзеных часцін мовы фіксуецца канчатак *-ъм (-ам)* тыпу *нашъм, вашам* (гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту). У гаворках паўднёва-заходняга дыялекту для дадзеных склонавых форм адзначаецца кнчатак *-ом* тыпу *адном,* а ў асобных беларускіх гаворках – канчатак *-ум* тыпу у *прошлум.*

У множным ліку прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, неасабовыя займеннікі маюць пры скланенні нязначныя адрозненні ад адпаведных слоў літаратурнай мовы. Так, у асобных гаворках паўднёва-заходняга дыялекту сустракаецца канчатак *-ыйі (-ійі)* у назоўным склоне тыпу *добрыйі, другійі*, а таксама сцягнутая форма тыпу *добры, другі.* Не маюць істотных адрозненняў ад літаратурнай мовы і формы ўтварэння ступеняў параўнанняў прыметнікаў. Толькі ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту абмежавана ўжываецца суфікс *-ш-* тыпу *шыршы, вушшы.*

Пэўнакалькасныя лічэбнікі дыялектнай мовы адрозніваюцца ад лічэбнікаў літаратурнай мовы ў назоўным склоне тым, што на поўдні Беларусі сустракаюцца формы тыпу *адныя, адне*, а ў творным склоне фіксуецца канчатак *-ом* тыпу *аб адном* (гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту). У родным склоне лічэбнік жаночага роду *адна* мае формы *аднае, адное*, *адные, адней, аднаей, аднаею* (апошнія дзве формы прыдатны для гаворак паўднёва-заходняга дыялекту). Лічэбнік *два* ва ўскосных склонах можа мець аснову *дво- (двох, двом*) – усход Гомельшчыны і паўднёвы захад Магілёўшчыны. Сустракаюцца таксама формы ўскосных склонаў з асновай *двы* тыпу *двым, двыма* (поўдзень Брэсцкай вобласці). У большасці гаворак для лічэбніка *два* ва ўскосных склонах захавалася флексія *-ма* тыпу *двума*, але сустракаецца і канчатак *-мі* тыпу *дзвюмі, двумі*, і канчатак *-мы* тыпу *двумы* (гаворкі Брэсцкай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей). Паралельна з формай *тры* ў гаворках ужываюцца формы *тре-, тро-, тра-, тръ-* (усход Гомельскай, Віцебскай, Магілёўскай абласцей).

У лічэбніках ад пяці да дзевятнаццаці, дваццаць, трыццаць склонавыя формы характарызуюцца разнастайнасцю канчаткаў у родным склоне: *-і, -іх, -ох, -ом, -ім* тыпу *пяці, пяціх, пяц'ом, пяцім;* у творным склоне: *-ю, -і, -мі, -ма, -мы*; у месным склоне: *-і, -ох, -іх* (у гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту). Лічэбнікі *пяцьдзесят, восемдзесят*, як правіла, не скланяюцца ў большасці гаворак, аднак у некаторых з іх яны мяняюцца тыпу *васьмідзесяці, васьмідзесяцьмі.* Зборныя лічэбнікі ў гаворках ужываюцца больш шырока і разнастайна, чым у літаратурнай мове, бо ўтвараюцца не толькі ад простых тыпу *двое,* але і ад складаных тыпу *дваццацера.* На Лагойшчыне зафіксаваны зборны лічэбнік *абеі.* У творным склоне гэтыя лічэбнікі розняцца ад лічэбнікаў літаратурнай мовы тым, што ў некаторых гаворках паўднёва-заходняга дыялекту яны маюць канчатак *-іма (-ыма)* тыпу *пяціма.* З дробавых лічэбнікаў адзначым словы *паўтраця, паўчварта, паўпята, паўшаста, паўсяма, паўвасьма,* якія сустракаюцца ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту.

З інфінітыўных форм дзеяслова выдзелім тыя з іх, што маюць на Гродзеншчыне канчатак *-ці (-ты)* тыпу *жаці, складаты*, а таксама зваротную часціцу *-са*, якая ўжываецца ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту (параўн.: *садыласа, апрануўса* і да т.п.), а таксама яе варыянты *-сі, -сэ* і варыянты часціцы *-ся* (прыдатнай і літаратурнай мове) *-с'о, -се, -сі, -с'*, што сустракаюцца ў гэтых жа гаворках.

У паўночна-ўсходнім дыялекце часціцу *-ся* можна заўважыць у незваротных дзеясловах руху тыпу *зайшоўс'а.* У гаворках паўднёва-заходняга дыялекту асновы дзеяслова на губны зычны маюць эпентэтычны гук *л* ва ўсіх асабовых формах (параўн.: *лоўлю, лоўлеш, лоўлет, лоўлем, лоўлетэ, лоўлят* і да т.п.).

У гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту дзеясловы першага спражэння трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу маюць паралельна з формамі на *-е* канчатак *-ць* (параўн.: *нясе – нясець, вязе – вязець* і да т.п.). У некаторых раёнах Гродзенскай і Брэсцкай абласцей для дзеясловаў другога спражэння трэцяй асобы множнага ліку цяперашняга часу прыдатны канчатак *-ем (-эм)* тыпу *нэсэм* або нават *-емо (-эмо)* тыпу *ведземо, нэсэмо,* а ў некаторых гаворках Мінскай і Віцебскай абласцей сустракаецца канчатак *-ом* тыпу *л'ажом.* У дзеясловаў першага спражэння канчатак першай асобы множнага ліку цяперашняга часу звязаны з пазіцыйнай зменай галосных, у залежнасці ад чаго выкарыстоўваюцца канчаткі *-ім (-ым)* тыпу *грэйім*, *-ам* тыпу *грэйам, -ем, -емо* тыпу *грэйем, грэйемо.* У другой асобе множнага ліку цяперашняга часу побач з канчаткам *-е,* прыдатным і літаратурнай мове, сустракаецца канчатак *-о* тыпу *маўчыц'о* (гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту), а ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту – націскны канчатак *-е* тыпу *спіцé.* Сінтэтычная форма будучага часу ўтвараецца з дапамогай флексій *-му, -меш, -ме* і г.д. тыпу *чытацьму, чытацьмеш, чытацьме* (гаворкі паўднёва-заходняга дыялекту). Асобныя гаворкі паўднёва-заходняга дыялекту маюць дзеясловы другой асобы множнага ліку загаднага ладу з канчаткам *-ча (-чы)* тыпу *ляжча, ляжчы*, а ў першай асобе множнага ліку загаднага ладу – канчатак *-ма (-мо)* тыпу *сэдзімо.*

Што тычыцца дзеепрыметнікаў, то яны ў гаворках не ўжываюцца з суфіксамі *-уч (-юч), -ач (-яч), -ем*, г.зн. дзеепрыметнікі незалежнага стану і залежнага стану цяперашняга часу, але дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу з суфіксамі *-н-, -т-, -ен-, -ан-, -он-* выкарыстоўваюцца гэтаксама, як і ў літаратурнай мове, прычым у гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту сустракаюцца варыянты суфікса *-ан-*, напрыклад, *-ън-, -ын-, -ьн-.* У асобных гаворках на месцы дзеепрыметнікаў літаратурнай мовы, утвораных з дапамогай суфікса *-т-*, ужываюцца дзеепрыметнікі з суфіксам *-н-* (параўн.: *апранены, зжаны* і да т.п.). Для дзеепрыметнікаў цяперашняга часу, акрамя літаратурнага суфікса *-ачы- (-ячы-),* у беларускіх гаворках адзначаюцца і суфіксы *-ічы-, -ечы-, -ючы-* тыпу *ходзічы, просічы* і да т.п. Сярод дзеепрыметнікаў прошлага часу ў гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту сустракаюцца суфіксы *-мшы-, -дшы-, -тчы-* (параўн.: *зрабімшы, прышодшы, пашотчы* і да т.п.).

Сярод дыялектных прыслоўяў ужываюцца іх формы, адсутныя ў літаратурнай мове (параўн.: *долі* ад *дол* і яго вытворны *далоў, горно* 'крыўдна', *зара* замест *зараз* і да т.п.). Дыялектныя прыслоўі, утвораныя ад прыметнікаў, могуць мець суфікс *-е, (-я)* тыпу *канешне, акуратня*, або націскны *-е* тыпу *гарачé.* Сярод прыслоўяў, утвораных ад займеннікаў, сустракаюцца такія даволі ўжывальныя формы, як *тудэю, тудэма, цяпера, тута, усюдых* і інш. (у раёнах Брэсцкай, Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай абласцей). Ад прыслоўяў утвараюцца іншыя прыслоўі з дапамогай суфіксаў *-ка-* тыпу *тамка, тутакі, -ацька-, -ацькі-* тыпу *тутацька, цяперацькі* і г.д., *-ачка-, -ачкі-* тыпу *цяперачка, тутацькі, -ачы- (-ечы-), -ача-* тыпу *тутачы.* Формы суб'ектыўнай ацэнкі дыялектных прыслоўяў уяўляюцца даволі разнастайнымі і ўтвараюцца пры дапамозе шматлікіх суфіксаў: *-аньк-, -ачк-, -ечк-,*

*-енк-, -еньк-, -енечк-, -есеньк-, -есенечк-, -ерн-, -к-, -очк-, -усенечк-, -эзн-, -эразн-, -утк-* і інш. (параўн.: *багаценна, даўжэзна, дабрэнна* і да т.п.). У гаворках назіраюцца складаныя прыслоўі, што не сустракаюцца ў літаратурнай мове тыпу *самахоць, леваруч, так-таком* і інш.

### 13.5.2. СІНТАКСІС

З сінтаксічнага пункту гледжання структура дыялектных сказаў істотна розніцца ад будовы сказаў літаратурнай мовы найперш па прычыне свайго вуснага існавання, эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці, у выніку чаго выдзяляюцца сказы, якім няма адпаведнікаў у пісьмовай літаратурнай мове. Гэтыя сказы могуць быць эліптычнымі, мець разнастайныя далучэнні, пабочныя ўстаўкі, абрывы, быць сказамі-зваротамі, словамі-сказамі, могуць не мець сінтаксічных сувязяў паміж членамі выказвання, быць фрагментарнымі, структурна не завершанымі, могуць уключаць у свой склад мноства часціц, мадальных слоў і выразаў, паразітычных гукаў, слоў, словазлучэнняў, бо яны (сказы) грунтуюцца на шматлікіх прэсупазіцыях, што суправаджаюць любое вуснае маўленне. Прычым некаторыя структурныя схемы сказа ўласцівы ўсім гаворкам, іншыя ж схемы прыдатныя толькі некаторым з іх, таму з'яўляюцца несупрацьстаўленымі.

Супрацьстаўленыя структуры сказаў пераважаюць у беларускіх гаворках, таму што адзін і той жа сэнс перадаецца неаднолькавымі граматычнымі сродкамі, living рознымі відамі сінтаксічных сувязяў паміж знамянальнымі членамі сказа. Структуры простых сказаў адрозніваюцца ў гаворках найперш спосабамі прэдыкатыўнай сувязі, таму што ў некаторых гаворках паўночна-заходняга дыялекту замест звычайных выказнікаў, выражаных дзеясловамі, ужываюцца дзеепрыслоўныя выказнікі тыпу *Брат прыехаўшы*, *Я паеўшы* да т.п. або складаныя формы дзеепрыслоўнага выказніка з дзеясловам-звязкай *быць* прошлага часу тыпу *Ён быў прышоўшы* (параўн.: літаратурныя адпаведнікі *Брат прыехаў і Ён прыйшоў).*

Пры гэтым дзеепрыслоўі, што ўжываюцца ў якасці выказнікаў, як правіла, маюць непераходнае значэнне. У гаворках паўночна-заходняга дыялекту назіраюцца таксама безасабовыя сказы, дзе ў якасці выказніка выступае кароткая форма дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу ніякага роду тыпу *Дровы насечана.* У некаторых гаворках паўднёва-заходняга дыялекту адзначаюцца безасабовыя сказы, дзе галоўны член выражаецца субстантывам з прыназоўнікам *па* тыпу *У нас ужо даўно па грашах* і да т.п., прычым магчымы і адмоўныя сказы тыпу *Мабыць, ужо не па зіме* і да т.п. У гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту ўжывальнымі служаць сказы з кароткімі формамі дзеепрыметнікаў, прыметнікаў (нават адносных) у якасці выказнікаў тыпу *Хлеб вадзян* і да т.п., тады як у гаворках паўднёва-заходняга дыялекту падобныя сказы служаць рарытэтнай з'явай, за выключэннем кароткіх прыметнікаў, што абазначаюць якасць па стане. У гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту больш ужывальнымі служаць і двухсастаўныя сказы, дзе выказнікам выступаюць кароткія формы прыметнікаў і дзеепрыметнікаў тыпу *Сена прывезена*, у той час як у гаворках паўднёва-заходняга дыялекту часцей выкарыстоўваюцца поўныя формы гэтых жа слоў.

Ва ўсходніх раёнах Беларусі колькасныя і зборныя лічэбнікі ў спалучэнні з дзейнікам, выражанага назоўнікам, або пры самастойным ужыванні маюць форму назоўнага склону тыпу *Пяцёра было*, а ў астатніх гаворках зазначаныя лічэбнікі могуць мець і форму назоўнага, і форму роднага склонаў тыпу *Тры калоды было* і *Трох хлапцоў було*, прычым формы роднага склону лічэбнікаў прымяняюцца часцей, калі гаворка ідзе пра жывых істот, як правіла, людзей. Ва ўсходніх гаворках Беларусі іменны выказнік пры выражэнні ўласных або агульных назваў прадметаў, яго

пастаянных якасцяў выступае ў назоўным склоне, а пры выражэнні роду дзейнасці або стану прадмета – у творным склоне (параўн. адпаведна: *Ён быў плакса* і *Ён стаў трактарыстам*). У астатніх гаворках іменны выказнік творнага склону ўжываецца рэдка, бо ў гэтым значэнні (дзейнасці або стану) выкарыстоўваецца звычайна назоўнік у вінавальным склоне плюс службовае слова *за* тыпу *Ён быў за доктара*, нават калі ў якасці выказніка назоўнік ужываецца самастойна тыпу *Ён за брыгадзіра.*

Ва ўсходніх раёнах рэспублікі гэта канструкцыя іменнага выказніка прымяняецца для выражэння часовай або нехарактэрнай функцыі, уласцівасці прадмета тыпу *Іван быў за свата*, а ў астатніх гаворках краіны на месцы прыназоўніка *за* пры гэтых выпадках выкарыстоўваецца службовае слова *замест* тыпу *Ён быў замест свата*. У складаным сказе для аб'яднання яго састаўных частак характэрнай рысай беларускіх гаворак служыць ужыванне злучніка *а,* які можа выконваць не толькі супрацьпастаўляльныя, але і далучальныя, функцыі, што, прынамсі, у другім выпадку (параўн.: *Брат а сястра былі на вяселлі* і да т.п.) не ўласціва беларускай літаратурнай мове. Па прычыне слабейшай, чым у літаратурнай мове, арганізацыі складаназлучаных сказаў у гаворках структура дыялектнага сказа часта суправаджаецца ўстаўнымі словамі і выразамі, якія нярэдка з'яўляюцца проста паразітычнымі, або збыткоўнымі, хаця часам здатны несці эмацыянальную нагрузку (параўн.: з аднаго боку, *як яго, ну, адным словам, так сказаць* і да т.п., з другога – *а матачкі, о езус, дай бог, на лыхо* і да т.п.).

Злучнік *но,* не ўжывальны ў літаратурнай мове, выкарыстоўваецца ў некаторых палескіх гаворках і ў гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту для злучэння частак складаназалежных сказаў розных тыпаў; да таго ж у гаворках прыдатныя злучнікі *шчо, шо* (варыянты літаратурнага слова *што*), *дэ, агдзе, айдзе, адзе* (варыянты літаратурнага злучніка *дзе*), *ак, эк* (варыянты літаратурнага слова *як*), *шчоб, штоб, шоб* (варыянты літаратурнага злучніка *каб*), прычым у некаторых гаворках паўднёва-заходняга дыялекту ў сказах з даданай азначальнай часткай адпаведныя злучнікі могуць ужывацца ў прэпазіцыі, у першай частцы складанага сказа. У гэтых жа гаворках у даданых дапаўняльных сказах выкарыстоўваецца злучнік *быта*, а ў некаторых гаворках – злучнікі *мэрам* 'быццам', *чы, аль.*

Складаназалежныя сказы з даданымі часткамі мэты, месца, умовы, часу могуць аб'ядноўвацца не характэрнымі для літаратурнай мовы злучнікамі *кудою, кудэю, пакедава, коб, ежэлі, загэтым* і інш. (Вялікая колькасць дыялектных прыкладаў і больш падрабязная характарыстыка сінтаксіса беларускіх гаворак месцяцца, напрыклад, у кнігах: НАРЫСЫ 1964; БЛІНАВА, МЯЦЕЛЬСКАЯ 1980.)

У характары словазлучэнняў беларускія гаворкі розняцца ад літаратурнай мовы пры абазначэнні аб'екта дзеяння тым, што ў форме роднага склону назоўнікаў са значэннем прамога аб'екта ўжываюцца неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку тыпу *вырваць зуба*. З дзеясловамі руху ў гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту пры накіраванні абазначанага дзеяння на аб'ект ужываецца прыназоўнік *к (ка)* тыпу *хадзіў к яму, прышла ка мне,* у той час як у астатніх гаворках выкарыстоўваецца прыназоўнік *да* (параўн.: *прышла да мяне* і да т.п.). Усходнія гаворкі адрозніваюцца ад заходніх і тым, што пры дзеясловах руху прымяняецца прыназоўнік *за* замест *па* (параўн.: *ездзіў за доктарам* і *ездзіў па доктара*). У некаторых гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту на месцы або поруч з прыназоўнікамі *над, з* (у значэнні накіраванага дзеяння) ужываецца прыназоўнік *каля (ля)* тыпу *смяялася каля яго, кпіла ля іх* (параўн.: *смяяліся над ім, смяяліся з яго).*

Пры абазначэнні месца дзеяння субстантыў у гаворках ужываецца часта з выкарыстаннем прыназоўніка *паўз (уз)* тыпу *ісці паўз (уз) школу* і да т.п.

Пры абазначэнні часу дзеяння ў беларускіх гаворках прымяняюцца, у адрозненне ад літаратурнай мовы, прыназоўнікі *аб, за* тыпу *закончыў аб дзень, за маю памяць* і да т.п. (усходнія раёны рэспублікі, некаторыя гаворкі Мінскай, Брэсцкай, Гродзенскай абласцей), а таксама прыназоўнікі *па* тыпу *было па вайне* (у большасці гаворак краіны), *праз* тыпу *праз цэлы дзень не рабіў* (Гродзеншчына і паўднёвыя раёны Міншчыны). Пры абазначэнні якасных ацэнак дзеяння ва ўсходніх гаворках краіны выкарыстоўваюцца прыназоўнікі *із-за (з-за)* тыпу *із-за цябе плакаў, з-за цябе цярпеў*, або *за, праз* тыпу *гарую за цябе, перажываю праз цябе* (у заходніх раёнах Беларусі). Пры абазначэнні ступені якасці прыкметы ў гаворках ужываецца злучнік *ніж,* якога няма ў літаратурнай мове, а таксама злучнікі *над, ад, цераз* (параўн.: *старейшы ніж ты, лепші над яна, лепшай цераз яе* і інш.). Практычна ўсе прыназоўнікі і злучнікі, ужывальныя ў літаратурнай мове, выкарыстоўваюцца і ў дыялектнай мове, якая дарэчы заўжды сілкавала і сілкуе літаратурную мову не толькі словамі, фразеалагізмамі, але і сваімі сінтаксічнымі канструкцыямі.

## 13.6. ЛЕКСІКА

### 13.6.1. ДЫЯЛЕКТНЫЯ СЛОВЫ І ІХ ТЭМАТЫЧНЫЯ ГРУПОЎКІ

Уласна дыялектнымі словамі лічацца тыя, што цалкам не супадаюць па сваёй знешняй форме з літаратурнымі адпаведнікамі, але маюць аднолькавыя з імі значэнні (параўн. адпаведна: *храпач* і *таўсцяк, жвяга* і *назола, упуд* і *спалох* і да т.п.); безэквівалентныя словы, або лексемы, што не маюць аднаслоўных эквівалентаў у літаратурнай мове і тлумачацца або словазлучэннямі, або разгорнутымі апісаннямі (параўн.: *шчалачонкі* ‘бульбяны суп‘ *цямцюля* ‘маўклівая, марудлівая асоба‘; *манкет* ‘прышыту абшлаг у сарочцы ці блузцы‘; *ступы* ‘прыстасаванне ў выглядзе двух калоў, якія падстаўляюцца пад канец бервяна каля козлаў‘ і да т.п.); словы, якія супадаюць з літаратурнымі па знешняй форме, але розняцца значэннямі тыпу *хлапец* ‘станок, у які ўстанаўліваецца вітушка‘ і *хлапец* ‘падлетак мужчынскага полу‘ і да т.п.; словы, што розняцца ад літаратурных граматычным родам тыпу *шпагата* і *шпагат, магазіна* і *магазін* і да т.п.; словы, якія маюць афіксальныя адрозненні тыпу *цяльпех* і *цяльпух, кут* і *покуць;* словы, у якіх не супадаюць асобныя гукі тыпу *сыска* і *соска, панадзелак* і *панядзелак* (гл.: ЖЫВОЕ НАРОДНАЕ СЛОВА 1992).

У сферы дыялектнай лексікі адзначаюцца два тыпы адрозненняў: супрацьстаўленыя і несупрацьстаўленыя. Пры несупрацьстаўленых лексічных адрозненнях у адных гаворках фіксуюцца словы, звязаныя з адсутнасцю ў іншых гаворках адпаведных рэалій, для якіх, зразумела, няма і лексічных намінацый тыпу *путшалінаўка* ‘маленькая тонкая шарсцяная хустка ў кветкі з махрамі‘ (вёска Рухава Старадарожскага раёна), *пікар* ‘дзіцячая гульня‘ (Навааградчына), *грымяч* ‘удар‘ (Мсціслаўшчына) і да т.п. Супрацьстаўленыя лексічныя адрозненні грунтуюцца на семантычным несупадзенні дыялектных слоў тыпу *казлы* ‘свойскія жывёлы‘ і *казлы* ‘прыстасаванне для пілавання дроў‘. Падобныя найменні могуць масава не супадаць у дачыненні да адной і той жа рэаліі. Напрыклад, для рыбы сліж Nemachilus barbatulus L., або літаратурнай назвы *галец*, адзначаюцца ў гаворках наступныя найменні: *піскун, курмель, кілбач, сліжык, слізінь, сліш, піскіж, лягень, кілбан, слівінь, ваўчок, бабыр, слізок, піскіж, бычок, ольшэнка, снопор, ропуха, коблік, піскун, вудоўка, голец, авдотка, евдюшка, сліж, сліз, слізік, склізок, солепец, лежень, сікля* і інш. (гл.: ЛЕКСІЧНЫЯ ЛАНДШАФТЫ 1995, 119). Супрацьстаўленыя адрозненні

заснаваны таксама на афіксальным несупадзенні тыпу *ўруна* і *ўрунішча* 'ўсходы азімых', на фанетычным несупадзенні тыпу *брусніцы* і *брушніцы,* на поўным несупадзенні знешняй формы дыялектных слоў, звязаных з адной і той жа рэаліяй тыпу *бабка* і *мэндлік* 'укладка з дзесяці снапоў' (гл.: МЯЦЕЛЬСКАЯ, БЛІНАВА 1991, 170–172).

Па ступені свайго ўжывання дыялектная лексіка падзяляецца на актыўную, куды ўваходзяць паўсядзённыя высокачастотныя словы, што абазначаюць навакольныя рэаліі, іх прыкметы, дзеянні, істотныя для ўсіх носьбітаў той ці іншай гаворкі (тыпу *тата, сена, карова, есці, ісці, адзін, белы, добра* і да т.п.), і пасіўную, якая ўключае ў сябе малаўжывальныя лексемы. Апошнія, як правіла, звязваюцца з назвамі прадметаў, што ўжо выйшлі з ужытку, ці гістарызмамі тыпу *аршын, манаполька* 'алкагольны напой, што выраблўся і прадаваўся з дазволу царскай дзяржавы', *бурнос* 'від верхняга адзення' і г.д., або з архаізмамі, ці старадаўнімі назвамі, замененымі ў наш час іншымі словамі і выразамі (параўн. адпаведна: *сернікі* і *запалкі, імбрычык* і *чайнік, бабіць* і *прымаць роды* і інш.). Яшчэ адну частку пасіўнай лексікі складаюць неалагізмы, якія часцей за ўсё ў дыялектнай мове ўтвараюцца з літаратурных слоў і звязаны з абазначэннем новых прадметаў, паняццяў. Літаратурныя словы "перарабліваюцца" фанетычна (параўн.: *прахцікант* 'практыкант', *фермар* 'фермер', *ніверсам* 'універсам', *рафарэндум* 'рэферэндум' і да т.п.), марфалагічна (параўн.: *санаторыя, грыпа* і г.д.), словаўтваральна (параўн.: *шафярыца, тэлефоніць, дзіспетчарка* і г.д.), семантычна (параўн.: *вышка* 'антэна', *чапля* 'штопар', *музыка* 'вячоркі з танцамі', *варок* 'кіпень' і г.д.). Неалагізмы здатны пераходзіць з цягам часу ў актыўны запас і спрыяць узнікненню на вёсцы ў якасці мовы зносін масавай трасянкі, бо большасць неалагізмаў згаданага кшталту ўяўляюць сабой інтэрнацыянальныя словы, якія апасродкаваны рускай мовай, таму ўспрымаюцца як русізмы і праз СМК (сродкі масавай камунікацыі: радыё, тэлебачанне, прэсу і інш.), сістэму навучання і інш. працінаюць вуснае дыялектнае маўленне вяскоўцаў.

Дыялектная лексіка складаецца са шматлікіх тэматычных груп і слоў featured рознага паходжання. Тэматычныя групы лексікі адлюстроўваюць найперш рэаліі навакольнага жыцця, быту, працоўнай дзейнасці, абрадаў, рамёстваў, сваяцтва, веравызнання, светапогляду, светаўспрымання і г.д. вяскоўцаў. З генетычнага пункту гледжання дыялектную лексіку складаюць агульнавядомыя ўсім гаворкам і літаратурнай мове знамянальныя і незнамянальныя словы тыпу *я, і, тры, вада, пры, зямля, хлеб, чорны, каля, ісці, добра* і да т.п., і словы, вядомыя цэлым дыялектным масівам тыпу *збан* (паўднёва-заходні дыялект), *гарлач* (паўночна-ўсходні дыялект), і словы, прыдатныя толькі асобным беларускім гаворкам тыпу *лёха* 'адтуліна ў падмуроўцы', *бінды* 'вочы', *пендарко* 'божая кароўка', *чустранык* 'блін з дранай бульбы' і да т.п., і словы запазычаныя, часта ў дыялектным фанетычным афармленні тыпу *мэрля* 'марля', *шупель* (з ням. Schaufel ) 'рыдлёўка' і інш. (гл.: СТАНКЕВІЧ 1996, 46), а таксама гутарковыя словы тыпу *баба* 'жонка', што абмежавана выкарыстоўваецца ў літаратурнай мове як стылістычна афарбаванае, а ў дыялектах ужываецца без стылістычнай афарбоўкі як звычайнае слова.

Лексічныя групоўкі дыялектнай лексікі могуць будавацца з аднародных адзінак, якія ўтвараюць розныя па колькаснаму складу тэматычныя спісы, або рады слоў (параўн. найменні грыбоў: *дабрак* 'баравік', *чырвонік* 'падасінавік', *казяк* 'абабак', *лупенік* 'казляк' і да т.п.; дрэў тыпу *ялушка, ёдла* 'ель', *ала* 'бяроза', *оса* 'асіна' і інш.; гл.: ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС 1993), а таксама з неаднародных адзінак, што звязаны паміж сабой рознымі па характары семантычнымі адносінамі (сінанімічнымі, антанімічнымі, гіпоніма-гіперанімічнымі і інш.). Напрыклад, беларускія народныя тэрміны ткацтва складаюцца з лексічных падгруп, што арганізуюцца ў межах адной тэмы іерархічнымі

сувязямі (параўн. назвы ткацкіх прылад тыпу *варштат, ножны* і інш., назвы частак ткацкіх прылад тыпу *набіліцы, панажы* і інш., дзе апошнія найменні іерархічна падпарадкоўваюцца папярэднім).

Тэматычныя групоўкі дыялектнай лексікі могуць быць закрытымі, г.зн. абмежаванымі ў сваім колькасным складзе, які звычайна вычарпальна прадстаўлены пэўнымі лексічнымі адзінкамі (параўн.: тэрміны роднасці і сваяцтва, адзінкі вымярэння, найменні свойскіх жывёл, садовых дрэў і інш.), і адкрытымі, г.зн. такімі, што могуць папаўняцца новымі словамі найперш у залежнасці ад змен навакольнай сацыяльнай рэчаіснасці, ад з'яўлення новых рэалій (параўн.: найменні прылад працы, розныя начыння, грамадскіх паняццяў і інш.).

Як правіла, кожная семантычныя групоўка дыялектнай лексікі мае сваё ядро, якое складаецца з самых ужывальных слоў пэўнай тэмы, што абазначаюць важнейшыя паняцці для вяскоўцаў, і сваю перыферыю, куды ўваходзяць лексічныя адзінкі, звязаныя або сінанімічнымі і варыянтнымі адносінамі з ядзернымі словамі, або з адносна рэдкімі рэаліямі ў жыцці носьбітаў той ці іншай гаворкі (найменні ў галіне асобных вясковых прафесій, дэталёвыя абазначэнні частак рэалій у канкрэтнай сферы дзейнасці і інш.). Так, ядро тэматычнай групы, суадноснай з найменнямі дрэў, складаюць словы, што абазначаюць самыя распаўсюджаныя іх віды на Беларусі (*асіна, бяроза, елка, сасна, дуб, ліпа* і інш., гэтыя і іншыя назвы амаль цалкам супадаюць са словамі літаратурнай мовы), а найменні рэдкіх дрэў тыпу *амяла, ільм* і інш., а таксама варыянты ўжывальных лексем (параўн.: *осіка, смоліна, альшэвіна, габ* і інш.) складаюць перыферыю зазначанай тэмы. Жорсткіх, выразна акрэсленых межаў паміж многімі відамі тэматычных груповак дыялектнай лексікі не існуе. Дробныя тэматычныя групы слоў звычайна аб'ядноўваюцца ва ўсё больш буйныя (параўн.: назвы дэталяў ткацкага станка ўваходзяць у тэму разнастайных найменняў самаго ткацкага станка, апошнія – у тэму найменняў прылад працы, якія ў сваю чаргу ўключаюцца ў тэму назваў артэфактаў, або ўсіх рукатворных прадметаў і г.д.), а таксама звязваюцца з іншымі тэмамі па сумежнасці, па падабенству, па кантрасту (супрацьпастаўленню), па тоеснасці функцый ці прызначэнню, па асацыяцыях і інш.

Колькасць тэматычных найменняў знешняга асяроддзя звычайна вызначаецца навакольнай прыродай, а таксама характарам і асаблівасцямі мясцовасці. Для жыхароў балотных наваколляў прыдатнай з'яўляецца разнастайная і вялікая колькасць найменняў балот (параўн.: *дрыгва, трасіна, здухавіна, амшара, імшарына, бяздонніна, вырач, кацвіна, альса, белка, галашчок, балаціна, багна, алёс, твань, вольса, тапіла* і інш.), для насельнікаў, што жывуць каля рэк, азёраў і іншых вадаёмаў, характэрным у лексіцы гаворак служаць адпаведныя назвы (параўн.: *азярцо, сажалка, ставок, стаў, запруда, сточкі, купела, вір, куліна, бурча, каверт, бухта, вомут, бука, букча* і г.д.), для сялян, вёску або хутар якіх акаляе лес, важным з'яўляюцца яго разнастайныя назвы (параўн.: *маложа, маладзіна, маладняк, альшэўнік, алешнік, альхоўнік, асіннік, асавец, асняк, бярозавец, бярэзнік, хвойнік, сасоннік, сасняк, дубняк* і інш.). Час азначаецца вяскоўцамі або ў залежнасці ад стану сутак (параўн.: *досвітак, досвіцце, золак, додня, надоднік, заранак, поўдня, поўдзён, полудзень* і інш.), пары года (параўн.: *вясной, увесну, зімой, узімку, улетку* і г.д.), або звязана з адзінкамі яго вымярэння (параўн.: *доба, суткі, гадзіна, хвіліна* і інш.).

Істотнымі ўласцівасцямі прасторы і часу існавання чалавека з'яўляецца надвор'е – тэма, вакол якой стасуюцца і найменні ветру (параўн.: *сівер, скразняк, цяпляк, сухавей, буй, вятруха, вятрыска* і інш.), і дажджу (параўн.: *лея, морась, аплава, палой, лівень, улева, чаты* і інш.), і снегу (параўн.: *пароша, мяцеліца, хвіліца, сіпуга, пульга, сумёт, сугроб, гурба, сярэнь, гарун* і інш.), і воблакаў (параўн.: *хмары, тучы, болакі, камякі* і інш.).

## 13.6.2. ВІДЫ СЕМАНТЫЧНЫХ АДНОСІН ПАМІЖ ДЫЯЛЕКТНЫМІ СЛОВАМІ

Унутры кожнай тэмы дыялектныя словы, як і словы літаратурнай мовы, арганізуюцца ў разнастайныя сінанімічныя пары, рады, блокі або ўступаюць паміж сабой у сінанімічныя адносіны, прычым многія дыялектныя сінонімы не супадаюць з сінонімамі літаратурнай мовы, бо атсутнічаюць у ёй, напрыклад, для абазначэння такой з'явы, як снегапад з ветрам, у дыялектнай мове маюцца сінанімічныя найменні *дуйка, вея, кудаса, пульга* і інш., што бракуюць у літаратурнай мове. Сярод дыялектных сінонімаў выдзяляюцца дублеты, або словы з тоесным значэннем (параўн.: *зозулька – бэдрык* 'божая кароўка', *рахманая – ручная* 'небаязлівая, звычайна пра курыцу' і інш.). У семантычных сінонімах фіксуюцца пэўныя сэнсавыя адрозненні дыялектных найменняў (параўн.: *торснуць* 'груба штурхнуць', *швірганўць* 'штурхнуць далёка ад сябе', *таўхнуць* 'штурхнуць злёгку' і інш.). Эмацыянальна-экспрэсіўныя сінонімы адрозніваюцца стылістычнай афарбоўкай (іранічнай, жартаўлівай, ацэначнай і інш.), напрыклад, пры сінанімічным найменні вачэй: *бальшакі* 'груба', *зенкі* 'зняважліва' , *румзы* 'іранічна', *кісля́кі* 'абражальна' і г.д.

З пункту гледжання паходжання сінонімы могуць быць аднадыялектнымі тыпу *змагчыся – зацягацца, знядужыць – зверадзіцца* і інш. (гаворкі Мсціслаўшчыны) і рознадыялектнымі тыпу *бобрык* (Пінскі раён) і *андрэйка* (Быхаўскі раён) у дачыненні да назвы божай кароўкі. Пры мнагазначнасці дыялектная лексема можа ўваходзіць у некалькі сінанімічных радоў, і, такім чынам, утвараецца пэўны сінанімічны блок. Так, слова *багата* ўваходзіць у сінанімічныя рады *багата, добра, заможна* і інш. (жыць) і *багата, многа, шмат* і інш. (напрыклад, агародніны). Вельмі часта сінанімічныя пары, рады ўтвараюцца з дыялектных і літаратурных найменняў тыпу *раельня – кашолка, пупок – малачай, вочапка – вешалка* і г.д. Сінанімізавацца могуць дыялектныя словы з захаванай матывацыяй (параўн.: *богаўка – сонейка* 'божая кароўка' і інш.), словы, у адным з якіх унутраная форма захавалася, у другім адсутнічае (параўн.: *стаякі – дылі* 'бакавыя часткі ткацкага станка' і інш.), словы з незахаванай матывацыяй (параўн.: *транты – шмаццё* і інш.).

Дыялектныя словы ўнутры тэматычных груп могуць аб'ядноўвацца антанімічнымі адносінамі, або супрацьпастаўляцца адно аднаму, асабліва калі яны абазначаюць якасці або ўласцівасці прадметаў ці абстрактныя паняцці (параўн.: *старый – пожылый – оджытый, сытый – жірный – гладкый – наліваный, колісь – цяперся, пякота – зімната* і да т.п.). Сярод дыялектнай лексікі сустракаецца і энантыясемія, пры наяўнасці ў адным полісемічным слове супрацьлеглых значэнняў (параўн.: *балота* 'багністае месца' і *балота* 'асушаная зямля', *годына* 'добрае надвор'е' і *годына* 'дрэннае надвор'е' і г.д.).

Гіпоніма-гіперанімічныя адносіны паміж дыялектнымі словамі ў межах пэўных тэматычных груп звязваюць адпаведныя словы імплікацыяй (уключэннем), або падпарадкаваннем тыпу род – від, цэлае – частка (параўн.: *вецер* і *цяпляк, варстат* і *ніт* і да т.п.).

## 13.6.3. НЕАДНАЗНАЧНАСЦЬ І ВАРЫЯНТНАСЦЬ У ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІЦЫ

Як і ў літаратурным лексіконе, сярод дыялектных слоў шырока прадстаўлена полісемія і аманімія. Прычым мнагазначная дыялектная лексема адным са сваіх значэнняў можа супадаць са значэннем суадноснага літаратурнага слова, а іншымі, дадатковымі, – розніцца ад яго (параўн.: **дзічка** 1) 'несадовая груша, яблыня' і г.д., 2) дыял. радзімка, 3) дыял. бародаўка і г.д.). Зразумела, ёсць шмат уласна дыялектных

полісемічных слоў тыпу **матавіла** 1) ткацкая прылада, 2) драўляныя вілы; **бульма** 1) бручка, 2) бязрогая карова, 3) неразумны, тупы чалавек і г.д.

У дыялектах захоўваюцца мнагазначныя словы, што ўжываліся ў старабеларускай і праславянскай мовах, але не выкарыстоўваюцца ў сучаснай літаратурнай мове, напрыклад, **лано** 1) тое, на чым сядзяць, 2) ахапак, жменя і інш. Некаторыя дыялектныя словы маюць па дзесяць і болей значэнняў, напрыклад, *бонда* – 21 значэнне, *круг* – 22 значэнні, *баба* – 31 значэнне, *бабка* – 39 значэнняў, *дзед* – 45 значэнняў і інш. (гл.: СТАРЫЧОНАК 1997).

Найбольш пашыранымі відамі дыялектнай полісеміі, як і ў літаратурнай мове, служаць метафара, напрыклад, **бунька** 1) шклянка, пасудзіна, 2) гляк, 3) бурбалка і г.д.; метанімія, напрыклад, **цэбар** 1) ёмістасць, 2) корм для жывёлы ў цэбры і г.д.; радзей сінекдаха, напрыклад, **рэйдало** 1) рот, 2) чалавек, які многа гаворыць, і г.д.

У адрозненне ад полісемантаў, якія звязаны паміж сабой па значэнні ў межах адной знешняй формы (лексемы), амонімы пры тоеснасці формы розняцца значэннямі, паміж якімі няма непасрэднай семантычнай сувязі, прынамсі, для носьбіта пэўнай гаворкі (параўн.: *жаба* 'карабаціна на астрыі касы' і *жаба* 'ангіна'; *ляднік* 'халадзільнік' і *ляднік* 'падбярозавік'; *дзядзінец* 'дворышча' і *дзядзінец* 'эпілепсія' і г.д.).

Асабліва шматлікай і разнастайнай прадстаўлена сярод дыялектнай лексікі варыянтнасць, якая можа быць фанетычнай (параўн.: *крахмал – крухмал, радня – рыдня, вясна – вісна, пояс – повяс, плóскуні – плоскуні́* і г.д.), марфалагічнай (параўн.: *нарад – нарада* 'ткацкае прыстасаванне', *канопля – каноплі, валюш – валюша* 'майстэрня, дзе валяюць шэрсць' і г.д.), словаўтваральнай (параўн.: *звязок – сувязок* 'звязанае спрацаванае палатно', *сушня – сушылко* 'памяшканне для дасушвання лёну', *свой – свойчык* 'згортак даматканага палатна' і г.д. Варыянты могуць узнікаць паміж літаратурнымі і дыялектнымі словамі тыпу *цешча – чэшча, іржышча – аржонішча* і інш.; паміж уласна дыялектнымі словамі тыпу *арэйнік – арыйнік* 'аер', *дакрымзазоліць – дакрымзазуліць – дакрымзазольнічаць – дакрымзазульнічаць* 'завяршыць справу нязграбна'; быць як двухчленнымі, так і шматчленнымі (параўн.: *авадзень – абадзень – авадзён – оведзень – вадзень – авад – вад* і г.д.).

### 13.6.4. ДЫЯЛЕКТНЫЯ ПРАФЕСІЯНАЛІЗМЫ І ІХ АДРОЗНЕННІ АД СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ЛЕКСІКІ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Асобнае месца сярод дыялектных слоў займаюць прафесіяналізмы, або лексемы, выкарыстанне якіх абмяжоўваецца сферай той або іншай вясковай спецыяльнасці, рамяства (бондарства, ганчарства, кавальства, кравецтва, плытагонства, паляванне, рыбалоўства, сталярства, ткацтва, шавецтва, цяслярства і інш.). Прафесіяналізмы абазначаюць у кожным рамястве адпаведныя паняцці, прылады працы, працэс вытворчасці, месца працы, сыравіну і г.д. У той час як спецыяльная лексіка літаратурнай мовы ствараецца пераважна ўсвядомлена і мэтанакіравана праз дзейнасць спецыяльных камісій або кампетэнтных вучоных, самабытная тэрміналогія (прафесіяналізмы) разнастайных беларускіх народных рамёстваў спантанна нарадзілася ў нетрах гаворак і таму мае не штучны, а натуральны характар. Навуковая ж тэрміналогія беларускай літаратурнай мовы мае пераважна інтэрнацыянальныя карані, перадусім запазычаныя з грэчаскай, лацінскай, нямецкай, англійскай і іншых замежных моў, што абмяжоўвае яе выкарыстанне толькі спецыялістамі адпаведных прафесій.

Прафесійныя найменні адных і тых жа рэалій у пэўнай галіне народных рамёстваў часта не супадаюць у розных гаворках (параўн., напрыклад, назвы ткацкага станка: *варштат, вярстак, кросны, нарад, ставы, стан, стаціва, стаў* і інш.). Навуковыя тэрміны, як правіла, з'яўляюцца адзінымі для ўсёй літаратурнай мовы, што кадыфікуецца ў адпаведных спецыяльных, галіновых, тэрміналагічных, энцыклапедычных слоўніках. Дыялектны прафесіяналізм не пазбаўлены палісеміі, таму што, з аднаго боку, ён узнікае часта на аснове звычайнага слова (параўн. тэрміны ткацтва: *конікі, сабачкі, шчокі, язык* і г.д.), з другога боку, ён можа ў нязменнай форме выкарыстоўвацца для наймення рэалій розных рамёстваў, быць на мяжы аманіміі (параўн.: *гладыш* 'збанок без ручкі' ў ганчарстве і *гладыш* 'кветка', *панарад* у ткацтве і *панарад* у сельскім транспарце, *шалёўка* ў ганчарстве і *шалёўка* ў сталярстве і г.д.). Насупраць, галоўнай рысай тэрміна літаратурнай мовы служыць яго імкненне да монасеміі, прынамсі, у межах пэўнай навуковай школы тэрмін выкарыстоўваецца або мае тэндэнцыю да ўжывання ў адным значэнні.

Рэгіянальныя карані дыялектнай тэрміналогіі робяць яе ў многіх выпадках матываванай, спецыяльныя словы ў народных гаворках часта захоўваюць сваю ўнутраную форму (параўн.: *церабень, выдзеркі* і да т.п. – са словаўтваральнай матывацыяй, *дзядкі, боцікі* і да т.п. – з матывацыяй праз пераносныя значэнні і г.д.). У тэрмінах літаратурнай мовы, якія часта ўяўляюць сабой запазычанні з іншых моў, матывацыя адсутнічае, унутраная форма многіх тэрмінаў можа выяўляцца толькі шляхам этымалагічнага аналізу.

Значная частка дыялектных тэрмінаў мае даволі шырокую варыянтнасць сваёй знешняй формы, па-рознаму вымаўляецца найперш у залежнасці ад пэўнай тэрыторыі або нават канкрэтнай вёскі, дзе яны ўжываюцца, пры захаванні тоеснага значэння. Напрыклад, такі інструмент, як вялікі свердзел, называецца і *тыбель*, і *тэбэль*, і *тэбале*, і *тубель* і інш.; абруч у нераце – і *каблук*, і *каблуке*, і *закаблук*, і *каблуч*, і *каблучкі* і інш. Знешняя форма тэрмінаў літаратурнай мовы, як правіла, кадыфікавана і мае ўстойлівыя замацаваныя правілы свайго напісання і вымаўлення.

Дыялектныя тэрміны гэтак жа, як і самі народныя гаворкі, натуральна існуюць толькі ў вусным маўленні, маюць адну матэрыяльную форму свайго існавання. Зыходнай формай тэрміна літаратурнай мовы служыць графічная, а пісьмовы тэкст уяўляецца першасным асяродкам яго існавання. Вусная форма літаратурнага тэрміна з'яўляецца вытворнай, другаснай, таму навуковы тэкст цяжка ўспрымаецца на слых. Значыць, тэрмін літаратурнай мовы, у адрозненне ад дыялектнага, ужываецца ў дзвюх формах, пісьмовай і вуснай.

Пераважная большасць дыялектных прафесіяналізмаў абазначае канкрэтныя прадметы, пэўныя вырабы, інструменты, дэталі і г.д. Большасць жа тэрмінаў літаратурнай мовы звязана з найменнем адцягненых паняццяў, абстрактных рэалій, а для намінацыі канкрэтных рэчаў у той або іншай сферы прафесійнай дзейнасці выкарыстоўваюцца так званыя наменклатурныя назвы.

Тэрміны народных гаворак уяўляюць сабой па структуры ў асноўным аднаслоўныя найменні. Навуковыя тэрміны даволі часта ўтвараюцца або са словазлучэнняў (параўн.: *мастацкая літаратура, часціна мовы, белы верш* і да т.п.), або са спалучэння пэўнага сімвала і слова (параўн.: *β-распад, n-мерны* і да т.п.). Прафесіяналізмы нярэдка суіснуюць у гаворках побач са спецыяльнымі словамі літаратурнай мовы (параўн.: *спуск* і *фуганак, дваярушнік* і *мядзвёдка, залобак* і *франтон* і г.д.), прычым назіраецца тэндэнцыя да выцяснення дыялектных прафесіяналізмаў з ужытку, замены іх літаратурнымі тэрмінамі.

Такім чынам, на характар адрозненняў паміж дыялектнымі спецыяльнымі словамі і суадноснымі лексемамі літаратурнай мовы ўплываюць як уласна лінгвіс-

тычныя фактары (перадусім асаблівасці абедзвюх разнавіднасцей нацыянальнай мовы), так і пазамоўныя чыннікі (уласцівасці і інвентар тэрміналагізаваных рэалій).

### 13.6.5. УЖЫВАННЕ ДЫЯЛЕКТЫЗМАЎ У ПРЫГОЖЫМ ПІСЬМЕНСТВЕ

Сучасная беларуская літаратурная мова не толькі ўздзейнічае на дыялекты, якія хутчэй за ўсё пад яе ўплывам асуджаны на выміранне, але, па-першае, сама ўтварылася на іх базе, па-другое, і зараз беларускія гаворкі яшчэ непасрэдна ўзбагачаюць літаратурную мову сваімі найперш лексічнымі і фразеалагічнымі сродкамі (гл.: ВАЙТОВІЧ 1958). Узбагачэнне лексікона літаратурнай мовы дыялектызмамі ажыццяўляецца двума шляхамі: 1) дыялектныя словы патрапляюць у агульналітаратурную скарбонку беларускай мовы, пашыраюць яе слоўнікі спачатку лексемамі з паметамі *абл.* ‘абласная‘, а ў наступных выданнях слоўнікаў ужо падаюцца без згаданых памет, як гэта сталася, напрыклад, з дыялектнымі лексемамі тыпу *рала, гарышча, сасняк* і інш.; 2) дыялектызмы даволі шырока ўжываюцца беларускімі пісьменнікамі ў мастацкіх творах, што садзейнічае пранікненню дыялектных слоў з ідыястыля асобнага аўтара ў беларускую літаратурную мову.

Дастаткова шырока выкарыстоўваюцца ўласна дыялектныя словы ў мастацкіх творах многіх беларускіх пісьменнікаў (АБАБУРКА 1979; АБАБУРКА 1981), прычым характар выкарыстання рэгіянальных лексем рознымі аўтарамі з’яўляецца шматаблічным і залежыць ад месца нараджэння канкрэтнага пісьменніка, ад тэматыкі яго твораў, стылістычных мэтаў, асаблівасці і каларытнасці мовы галоўных герояў і аўтарскай мовы.

Напрыклад, ураджэнец Гомельшчыны, вядомы пісьменнік Б.Сачанка з высокім пачуццём моўнай і мастацкай меры ўжывае ў сваіх творах сакавітыя дыялектныя словы, з дапамогай якіх пластычна стварае карціны роднага краю і вобразы яго насельнікаў. Малюнкавасць і самавітасць гэтых карцін і вобразаў дасягаецца аўтарам праз выкарыстанне разнастайных уласцівасцяў рэгіянальных лексем, што па-рознаму суадносяцца з намінатыўнымі сродкамі беларускай літаратурнай мовы. Так, у рамане Б.Сачанкі “Чужое неба” найбольш ужывальнымі з’яўляюцца дыялектызмы, добра вядомыя беларускім гаворкам і зафіксаваныя ў слоўніках літаратурнай мовы: *варэйка* ‘гліняны гаршчок‘, *конаўка* ‘металічная пасудзіна з ручкай для піцця‘, *капаніца* ‘матыка‘, *кулідка* ‘невялікая буханка‘, *кагадзе* ‘толькі што, нядаўна‘ і інш.

Сярод ужытых дыялектызмаў сустракаюцца і тыя, якія даволі шырока распаўсюджаны ў беларускіх гаворках, але не занатаваны ў слоўніках літаратурнай мовы: *іноды* ‘іншы раз, часам‘, *калубень* ‘калыска‘, *лано* ‘калена‘ і інш. Асаблівую цікавасць уяўляюць вузкамясцовыя рэгіяналізмы, характэрныя толькі для той гаворкі, носьбітам якой з’яўляецца сам аўтар: *сукракі* ‘лядзяш‘, *белуны* ‘белыя грыбы‘, *рапяхі* ‘калючкі‘, *кастамахі* ‘косткі без мяса‘, *печарыцы* ‘шампіньёны‘, *ворсаць* ‘чапаць‘ і інш. Сярод фанетычных дыялектызмаў часцей за ўсё сустракаюцца словы з чаргаваннем асобных гукаў, складоў, з эпентэтычнымі гукамі (параўн.: *Хама, Хведар, була, кеб, даланя, глухлі* і інш.), з адсутнасцю / наяўнасцю гукаў у сярэдзіне слова (параўн.: *карк* і інш.), з адсутнасцю / наяўнасцю гукаў у пачатку і канцы слова (параўн.: *ета, шчэ, вуня* і інш.). Да семантычных дыялектызмаў належаць словы *дамоўка,* што ўжываецца ў значэнні ‘хата, дом‘ (літаратурнае *дамоўка* ‘труна, дамавіна‘), *жалязняк* ‘рыдлёўка‘ (літаратурнае *жалязняк* ‘жалезная руда‘), *загаціць* ‘запоўніць якую-небудзь прастору, праход‘ (літаратурнае *загаціць* ‘палажыць гаць‘) і інш. Радзей выкарыстоўваюцца пісьменнікам словаўтваральныя дыялектызмы, дзе занатоўваюцца не характэрныя для літаратурных слоў суфіксы (параўн.: *тамака, цёмначы,*

*касірка* і інш.), прэфіксы (параўн.: *ачэрпваць* 'зачэрпаваць', *асланіць* 'засланіць' і інш.), прэфіксы і суфіксы разам (параўн.: *паданкі* 'апад' і інш.).

Шматстайнасць лінгвістычных формаў дыялектызмаў, ужытых у згаданым рамане Б.Сачанкі, стварае матэрыяльны падмурак усіх тых семантычных граняў, адценняў, аспектаў слоў, без якіх немагчыма адэкватна апісаць як мясцовы каларыт сельскіх рэалій, так і аўтарскія думкі, пачуцці, уражанні аб іх.

## 13.7. ДЫЯЛЕКТНАЯ ФРАЗЕАЛОГІЯ

Фразеалагізмы, што паходзяць з дыялектнай мовы, з'яўляюцца неаднароднымі па сваім складзе, бо вялікая частка іх ужываецца і ў літаратурнай мове (параўн.: *махнуць рукой, сядзець на карку, ні кала ні двара, як сонная муха* і інш.). Значная частка фразеалагізмаў дыялектнай мовы захоўвае свае даволі выразныя прыкметы, якія зводзяцца да выкарыстання ў іх складзе рэгіянальных слоў (параўн.: *матыліцы напалі* 'моцны кашаль', *ні да танца ні да ружанца* 'ні на што не здатны, нічога не ўмее', *станавіцца дубака* 'пярэчыць, супраціўляцца', *задраць дрыбдзі* 'памерці' і інш.), да атсутнасці ў літаратурнай мове (параўн.: *падбіць пад ногі* 'адрачыся ад сяброўства', *набрацца як чоп* 'з'есці і выпіць многа, звыш меры', *плесці кашы і лапці* 'гаварыць глупства', *спаганяць панства* 'пераймаць дрэнныя прывычкі, быць фанабэрыстым, ставіць сябе высока, як калісьці паны' і інш.).

Дыялектныя фразеалагізмы могуць мець намінатыўны характар тыпу *праўдзівы грыб* 'баравік', *рабінавая ноч* 'летняя ноч з няспыннай навальніцай і бліскавіцамі', *чорны дзень* 'цяжкі перыяд у жыцці', *шарая гадзіна* 'прыцемкам, вячэрні час, змярканне' і інш. Большасць жа рэгіянальных фразеалагізмаў мае эмацыянальна-экспрэсіўны характар ад адабральных тыпу *як рэпу грызці* 'бегла, выразна чытаць', *і печкі і лаўкі* 'жыць у вельмі добрых адносінах з кім', *як па пісанаму, як па маслу* 'вельмі добра, гладка' і інш. да неадабральных тыпу *хібок наставіць* 'быць ганарлівым', *вуглы абціраць* 'нічога не рабіць', *хвастом накрыцца* 'знікнуць, не расплаціўшыся' і грубых тыпу *згрэбці ў лапу* 'ўзяць', *даць дубара* 'памерці', *халера бярэ* 'страшна, колькі ёсць сілы, як мага прагнуць' і інш. (гл.: МЯЦЕЛЬСКАЯ, КАМАРОЎСКІ 1972).

У дыялектнай мове, бадай, часцей, чым у літаратурнай, ужываюцца фразеалагізмы з паўтаральнымі кампанентамі тыпу *плёткі плесці, раўма раўці, чакам чакаць, гары гарам, гусь гуссю, жадам жадаць, крычма крычаць, лятом ляцець, нічога нічагусенькі* і г.д. У складзе дыялектных фразеалагізмаў сустракаюцца і ўласныя імёны, напрыклад, *таўчыся як Марка ў пекле* 'совацца, таптацца па хаце (па двары), робячы што', *шукаць як Мамон піпку* 'дарэмна, марна шукаць што, не бачачы, што тое, чаго шукаеш, знаходзіцца пад рукамі, тут жа', *пад Юр'я незадоўга* 'ў немаладым веку, пад старасць', *ці памёр Гаўрыла, ці яго скула задавіла* 'рабіць так ці гэтак, а вынік той самы', *у кожнай Палашкі свае замашкі* 'кожны мае свае звычкі і паводзіць сябе ў адпаведнасці з імі', *хіцер Зміцер, але і Саўка не дурны, Чакай Пятра – сыру з'ясі* 'сумненне ў спадзяваннях' і інш.; гл.: ШКРАБА І., ШКРАБА Р. 1987).

Галоўнае прызначэнне дыялектных фразеалагізмаў, як і літаратурных, – экспрэсіўная характарыстыка людзей і з'яў рэчаіснасці, эмацыянальнае, ацэначнае стаўленне прамоўцы да таго, аб чым або аб кім гаворыцца, лапідарнае выражэнне думак, пачуццяў, заснаванае на назапашанай народнай мудрасці, назіральнасці, кемлівасці, выкрышталізаванае ў адпаведных устойлівых выразах.

# 14. АДЛЮСТРАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ТАБЛІЦАХ І СХЕМАХ

## 14.1. УСТУПНЫЯ ЗАЎВАГІ

Схематычныя выявы, на якіх прадстаўлены многія аспекты, з'явы, адзінкі беларускай мовы, закліканы адлюстраваць тыя яе ўласцівасці, што падлягаюць параграфічнаму, невербальнаму апісанню (чляненню, класіфікацыі, дыферэнцыяцыі). Падобныя апісанні выкрываюць найперш унутраныя, структурныя якасці мовы, нябачныя адносіны і сувязі паміж яе часткамі, складнікамі, кампанентамі. Дзякуючы згаданым адносінам і сувязям мова складае добра ўпарадкаваны, шматузроўневы адладжаны механізм, які арганічна знітаваны з псіхалагічнымі, інтэлектуальнымі структурамі чалавечай свядомасці, і з'яўляецца іх аптымальным выразнікам, што чуйна, пластычна і гнутка адлюстроўвае паняцці, думкі, пачуцці людзей.

У фанетычных і граматычных табліцах даецца класіфікацыя галосных і зычных гукаў, часцін мовы, прыводзяцца ўзоры скланення імёнаў і спражэння дзеясловаў. Пераважная большасць схем і табліц або запазычана з прац (Плотников, Трайковская, 1989; Плотников, 1994; Беларуская мова, 1997; Беларуская граматыка, 1985; Беларуская граматыка, 1986, і інш.), або пабудавана на аснове даных згаданых і іншых прац.

## 14.2. БЕЛАРУСКАЯ МОВА СЯРОД ІНШЫХ СЛАВЯНСКІХ МОЎ



# 14.3. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ




**Заўвага.** Лічбы ў кожным прамавугольніку абазначаюць: 1. Старажытнаўсходнеславянскі перыяд (10–13 стст.); 2. Перыяд старабеларускай мовы (14–18 стст.); 3. Перыяд новай беларускай літаратурнай мовы (19 ст. – наш час).

## 14.3.1. ЖАНРАВАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ МОВЫ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць мову: 1) дзелавой літаратуры; 2) летапісаў; 3) перакладной літаратуры; 4) рэлігійнай літаратуры; 5) мемуарнай літаратуры; 6) мастацкай і палемічнай літаратуры; 7) лінгвістычнай літаратуры.

# 14.4. СТЫЛІСТЫКА. КУЛЬТУРА МАЎЛЕННЯ

## 14.4.1. СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ



### 14.4.2. СТЫЛІСТЫЧНЫЯ СРОДКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць: 1) тропы, заснаваныя на параўнанні (эпітэты, метафары, метанімія, сінекдаха); 2) тропы, заснаваныя на семантычным зруху зыходных значэнняў (перыфраза, алегорыя, гіпербала, літота); 3) фігуры, заснаваныя на супрацьпастаўленні і рознай ступені якасці, адпаведных з'яў (антытэза, градацыя); 4) фігуры, заснаваныя на граматычных і акцэнтуацыйных змяненнях адпаведнай моўнай формы (інверсія, эліпсіс, рытарычнае пытанне).

## 14.5. ЛЕКСІКАЛОГІЯ

### 14.5.1. ЧЛЯНЕННЕ ЛЕКСІКАЛОГІІ



## 14.5.2. СТРУКТУРА СЛОВА




## 14.5.3. ГАЛОЎНЫЯ КАМПАНЕНТЫ СЛОВА



## 14.5.4. ТЫПЫ ЛЕКСІЧНЫХ СУВЯЗЯЎ




## 14.5.5. ТЭМАТЫЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ ЛЕКСІКІ




**Заўвага.** Схема зроблена згодна з зыходнымі рубрыкамі, вылучанымі ў слоўніках (Roget, 1964; Лексические минимумы, 1985, с. 279–280), і прыдатнымі для агульнай тэматычнай дыферэнцыяцыі слоў усіх развітых натуральных моў.

## 14.5.6. ТЭМАТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ СУБСТАНТЫВАЎ




## 14.5.7. КЛАСІФІКАЦЫЯ СІНОНІМАЎ




**Заўвага.** Лічбы ў ніжняй частцы схемы абазначаюць: 1) несупадзенне каранёвага складу сінонімаў тыпу *палец – перст;* 2) несупадзенне лексічнага складу сінонімаў тыпу *памерці – даць дуба;* 3) несупадзенне матываванай прыкметы тыпу *касьба –*

*сенаванне;* 4) наяўнасць / адсутнасць матываванай прыкметы тыпу *ручка – клямка;* 5) несупадзенне пераносных значэнняў тыпу *нара – бярлога* ў значэнні 'жытло'; 6) наяўнасць / адсутнасць пераносных значэнняў тыпу *лапа – нага* і г.д.

### 14.5.8. КЛАСІФІКАЦЫЯ АНТОНІМАЎ




**Заўвага.** Прыклады вылучаных тыпаў антонімаў: сіметрычныя – *заходні – усходні* і да т.п.; несіметрычныя – *блізкі – далёкі* і да т.п.; узаемаабарачальныя – *атакаваць – абараняцца* і да т.п.; неўзаемаабарачальныя градуальныя – *поўнач – поўдзень* і да т.п.; неўзаемаабарачальныя неградуальныя – *жывы – мёртвы* і да т.п.

### 14.5.9. ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ ЛЕКСІКІ ПАВОДЛЕ ПАХОДЖАННЯ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць: 1) індаеўрапейскія словы тыпу *маці, новы, брат, сонца, два* і г.д.; 2) агульнаславянскія словы тыпу *птушка, сэрца, серп, дзед* і г.д.; 3) усходнеславянскія словы тыпу *сям'я, сорак, куст, дзядзька* і г.д.; 4) уласна беларускія словы тыпу *волат, дранікі, сейбіт, скiвіца* і г.д.; 5) інтэрнацыяналізмы тыпу *драма, сінтаксіс, тэатр, фініш* і г.д.; 6) варварызмы тыпу *пардон, о'кэй, гудбай, банжур* і г.д.

### 14.5.10. ЧЛЯНЕННЕ ЛЕКСІКІ ПАВОДЛЕ СФЕРЫ ЎЖЫВАННЯ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць: 1) тэрміны тыпу *алітэрацыя, катэт, суфікс, фонд* і г.д.; 2) дыялектызмы тыпу *кавеня* ‘качарга‘, *жупіць* ‘гаварыць‘, *ясёнка* ‘паліто‘, *дзяркач* ‘венік‘ і г.д.; 3) жарганізмы тыпу *клёва, філон, пахан, шпора* і г.д.

### 14.5.11. РАЗДЗЯЛЕННЕ ЛЕКСІКІ ПАВОДЛЕ СТУПЕНІ ЎЖЫВАННЯ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць: 1) агульнаўжывальныя неалагізмы тыпу *спонсар, рэйтынг, круіз, раздзяржаўленне* і г.д.; 2) аўтарскія неалагізмы, або аказіяналізмы, тыпу *вечнабыт, курганіцца* (Я.Купала); *вольнаплынны, срэбразвоны* (Я.Колас) і г.д.; 3) архаізмы тыпу *перст, чало, лемантар* ‘буквар‘, *каморнік* ‘землямер‘ і г.д.; 4) гістарызмы тыпу *войт, дзядзькаванне, земства, будзёнаўка* і г.д.

## 14.5.12. ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ ЛЕКСІКІ ПАВОДЛЕ СТЫЛЯЎ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць наступныя пласты лексікі: 1) навуковая (параўн.: *гіпотэза, аргумент, аналіз, аналогія* і г.д.); 2) афіцыйна-дзелавая (параўн.: *загад, каардынацыя, ратыфікацыя, справаздача* і г.д.); 3) публіцыстычная (параўн.: *актывіст, дэмакратыя, ініцыятыва, прагрэс* і г.д.); 4) уласна гутарковая (параўн.: *аскарбінка, балбатун, здаравяка, шыбаваць* і г.д.); 5) прастамоўная (параўн.: *падліза, балабоніць, вырадак, плявузгаць* і г.д.).

# 14.6. ФРАЗЕАЛОГІЯ

## 14.6.1. КЛАСІФІКАЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЧНАГА МАТЭРЫЯЛУ



## 14.6.2. ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ ПА СТУПЕНІ ФРАЗЕАЛАГІЧНАЙ ЗЛІТНАСЦІ




**Заўвага.** Прыклады да прыведзеных тыпаў фразеалагізмаў: фразеалагічныя зрашчэнні – *біць бібікі, быць пад мухай* і да т.п.; фразеалагічныя адзінствы – *зматваць вуды, кату па пяту* і да т.п.; фразеалагічныя спалучэнні – *праліўны дождж, расквасіць нос* і да т.п.; фразеалагічныя выразы – *працоўныя поспехі, вышэйшая навучальная ўстанова* і г.д.

## 14.6.3. ГРАМАТЫЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць наступныя граматычныя класы фразеалагізмаў: 1) субстантыўныя тыпу *галава дубовая* і г.д.; 2) ад'ектыўныя тыпу *з мухамі ў носе* і г.д.; 3) дзеяслоўныя тыпу *блёкату аб'еўся* і г.д.; 4) адвербіяльныя тыпу *на свой капыл* і г.д.; 5) прэдыкатыўныя тыпу *бабка надвое варажыла* і г.д.; 6) мадальныя тыпу *хвала богу* і г.д.; 7) выклічнікавыя тыпу *хлеб ды соль* і г.д.

#### 14.6.4. ІДЭАГРАФІЧНАЯ (ТЭМАТЫЧНАЯ) КЛАСІФІКАЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ




**Заўвага.** Прыклады прыведзеных тэматычных груп фразеалагізмаў: прадметнасці – *залатое дно, пуп зямлі* і г.д.; якасці – *кроў з малаком, сцяўшы зубы* і г.д.; колькасці – *капля ў моры, у поўнай меры* і г.д.; стану – *не па сабе, нутро гарыць* і г.д.; адносін – *няхай яму ліха, глядзець праз пальцы* і г.д.; узаемадзеяння – *заварыць кашу, крывіць душой* і г.д.; руху – *з'ехаць з глузду, пайсці па свеце* і г.д. (гл.: Аксамітаў, 1978, 99–115).

## 14.7. ФАНЕТЫКА. ФАНАЛОГІЯ

#### 14.7.1. КЛАСІФІКАЦЫЯ ФАНЕТЫЧНЫХ АДЗІНАК



## 14.7.2. КЛАСІФІКАЦЫЯ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ

| Пад’ём \ Рад | Пярэдні | Сярэдні | Задні |
|---|---|---|---|
| Верхні | і | | у |
| Сярэдні | э | ы | о |
| Ніжні | | а | |

## 14.7.3. КЛАСІФІКАЦЫЯ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

| Спосаб утварэння \ Месца ўтварэння | | | Губныя | | Пярэдне-язычныя | | Сярэдненеязычныя | Задне-язычныя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Цв. | М. | Цв. | М. | | Цв. | М. |
| Шумныя | Выбухныя | Глухія | п | п’ | | | | к | к’ |
| | | Звонкія | б | б’ | д | | | г | г’ |
| | Фрыкатыўныя | Глухія | ф | ф’ | с, ш | с’ | | х | х’ |
| | | Звонкія | в | в’ | з, ж | з’ | | | |
| | Афрыкаты | Глухія | | | ц, ч | ц’ | | | |
| | | Звонкія | | | дз, дж | дз’ | | | |
| Санорныя | Плаўныя | | ў | | л | л’ | й | | |
| | Насавыя | | м | м’ | н | н’ | | | |
| | Дрыжачыя | | | | р | | | | |

### 14.7.4. КЛАСІФІКАЦЫЯ ФАНАЛАГІЧНЫХ АПАЗІЦЫЙ




**Заўвага.** Прыклады прыведзеных фаналагічных апазіцый: ізаляваныя – *п-ш* і г.д.; прапарцыянальныя – *п-б, с-з* і г.д.; аднамерныя – *т-д* і г.д.; шматмерныя – *в-з-ж* і г.д.; аднародныя – *х-г, п-т* і г.д.; прамалінейныя – *х-г* і г.д.; непрамалінейныя – *у-е* і г.д. (гл. Трубецкой, 1960, с. 74–79).

## 14.8. МАРФАЛОГІЯ

### 14.8.1. ГРАМАТЫЧНАЕ ЧЛЯНЕННЕ СЛОЎ






**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць: 1) назоўнікі, 2) канкрэтызатары, 3) дзеясловы, 4) канкрэтызатары, 5) злучнікі, 6) прыназоўнікі, 7) часціцы, 8) выклічнікі, 9) лічэбнікі, 10) прыметнікі.

## 14.8.2. МАРФАЛАГІЧНАЕ ЧЛЯНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ



### 14.8.3. МАРФАЛАГІЧНАЕ ЧЛЯНЕННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ




### 14.8.4. МАРФАЛАГІЧНАЕ ЧЛЯНЕННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ




**Заўвага.** Да эмпірыйных прыметнікаў адносяцца абазначэнні якасцяў, што ўспрымаюцца органамі пачуццяў; да рацыянальных – абазначэнні якасных прыкмет чалавека, жывёл, прадметаў (гл.: Шрамм, 1979, 23).

## 14.8.5. МАРФАЛАГІЧНАЕ ЧЛЯНЕННЕ ПРЫСЛОЎЯЎ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць: 1) колькасныя прыслоўі; 2) прыслоўі ступені; 3) прыслоўі часу; 4) прыслоўі месца; 5) прыслоўі прычыны; 6) прыслоўі мэты.

## 14.8.6. КЛАСІФІКАЦЫЯ ЛІЧЭБНІКАЎ

| Склад / Значэнне | Простыя | Складаныя | Састаўныя |
|---|---|---|---|
| Колькасныя | *Пяць, дзесяць* | *Пяцьдзесят, васемсот* | *Пяцьдзесят пяць, васемсот дваццаць тры* |
| Парадкавыя | *Пяты, дзесяты* | *Пяцідзесяты, дзевяцісоты* | *Пяцьдзесят пяты, васемсот дваццаць трэці* |

## 14.8.7. ЧЛЯНЕННЕ КАТЭГОРЫІ СКЛОНУ




**Заўвага.** Да перыферыйнага склону адносіцца месны, неперыферыйнага – родны, неперыферыйнага ненакіраванага – назоўны, неперыферыйнага накіраванага – вінавальны, перыферыйнага ненакіраванага – творны, перыферыйнага накіраванага – давальны (гл.: Якобсон 1985, 179–180).

## 14.8.8. СКЛАНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ

### 14.8.8.1. СІСТЭМА КАНЧАТКАЎ ПЕРШАГА СКЛАНЕННЯ

| Род / Склон | Мужчынскі | Ніякі |
|---|---|---|
| Н. | *нулявы* | *-о (-ё), -а, -е* |
| Р. | *-а (-я), -у (-ю)* | *-а (-я)* |
| Д. | *-у (-ю)* | *-у (-ю)* |
| В. | *як Н. або Р.* | *як Н.* |
| Т. | *-ом (-ём), -ам, -ем* | *-ом (-ём), -ам, -ем* |
| М. | *-е, -у (-ю), -ы (-і)* | *-е, -у (-ю), -ы (-і)* |

**Заўвага.** Да першага скланення адносяцца назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку тыпу *дом, лес, Іван, Алесь*, назоўнікі тыпу *Паўло, Дняпро*, назоўнікі на *-а* з ацэначнымі суфіксамі *-іск-а (-ыск-а)*, *-ішч-а* тыпу *агніска, вятрыска, дамішча* і г.д., назоўнікі ніякага роду, якія ў назоўным склоне адзіночнага ліку маюць канчаткі *-о (-ё), -а, -е* тыпу *акно, жыццё, мора, поле*, пяць назоўнікаў на *-мя бярэмя, вымя, полымя, семя, цемя.*

## 14.8.8.2. СІСТЭМА КАНЧАТКАЎ ДРУГОГА СКЛАНЕННЯ

| Склон \ Аснова | На цвёрды зычны | На ж, ч, ш, дж, р, ц | На г, к, х | На мяккі зычны |
|---|---|---|---|---|
| Н. | -а | | | -я |
| Р. | | -ы | -і | -і |
| Д. | -е | -ы | -ы, -е, -і | -і |
| В. | -у | | | -ю |
| Т. | | -ой (-ою) | | -ей (-ею)<br>-яй (-яю) |
| М. | -е | -ы | -ы, -е, -э | -і |

**Заўвага.** Да другога скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з канчаткам *-а (-я)* у назоўным склоне адзіночнага ліку тыпу *галава, зямля.*

## 14.8.8.3. СІСТЭМА КАНЧАТКАЎ ТРЭЦЯГА СКЛАНЕННЯ

| Склон \ Аснова | На мяккі зычны | На губны зычны | На ж, ч, ш | На р, ц |
|---|---|---|---|---|
| Н. | Ø | | | |
| Р. | -і | | -ы | |
| Д. | -і | | -ы | |
| В. | Ø | | | |
| Т. | -ю | | -у | |
| М. | -і | | -ы | |

**Заўвага.** Да трэцяга скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам і асновай на цвёрды, зацвярдзелы або мяккі зычны тыпу *кроў, даль, ноч.*

### 14.8.8.4. СІСТЭМА КАНЧАТКАЎ СКЛАНЕННЯ НАЗОЎНІКАЎ МУЖЧЫНСКАГА РОДУ НА *-а (-я)*

| Аснова / Склон | На цвёрды зычны | На ж, ш, ч, р, ц | На г, к, х | На мяккі зычны |
|---|---|---|---|---|
| Н. | | *-а* | | *-я* |
| Р. | | *-ы* | *-і* | *-і* |
| Д. | *-у, -е* | *-у* | *-у* | *-ю, -і* |
| В. | | *-у* | *-ю* | |
| Т. | | *-ам, -ой (-ою)* | *-ам, ой (-ою)* | *-ем, -ём (-ёю)* |
| М. | *-е* | *-у* | *-у* | *-ю, -і* |

**Заўвага.** Да назоўнікаў мужчынскага роду на *-а (-я)* адносяцца словы тыпу *мужчына, ваявода, старшына, Мікола, цесля, дзядуля, старшыня, Вася, майстра, прамоўца, Грыша, слуга, дзядзька, Янка.* Па гэтаму ж тыпу скланяюцца назоўнікі агульнага роду тыпу *плакса, туляга,* калі яны абазначаюць асоб мужчынскага полу; калі назоўнікі агульнага роду абазначаюць асоб жаночага полу, яны скланяюцца як назоўнікі жаночага роду на *-а (-я).*

### 14.8.8.5. СІСТЭМА КАНЧАТКАЎ СКЛАНЕННЯ НАЗОЎНІКАЎ МНОЖНАГА ЛІКУ

| Род / Склон | Назоўнікі мужчынскага роду з чыстай асновай і назоўнікі ніякага роду | Назоўнікі жаночага і мужчынскага роду на *-а (-я)* | Назоўнікі жаночага роду з чыстай асновай |
|---|---|---|---|
| Н. | | *-ы, -і* | |
| Р. | *-аў (-яў), -оў (-ёў) Ø* | *-аў (-яў)* | *-ей (-эй), -аў (-яў)* |
| Д. | | *-ам (-ям)* | |
| В. | | *як Н. або Р.* | |
| Т. | | *-амі (-ямі), -мі* | |
| М. | | *-ах (-ях)* | |

### 14.8.8.6. СІСТЭМА КАНЧАТКАЎ СКЛОНАВЫХ ФОРМ ЯКАСНЫХ І АДНОСНЫХ ПРЫМЕТНІКАЎ АДЗІНОЧНАГА ЛІКУ

| Род / Склон | Мужчынскі | Ніякі | Жаночы |
|---|---|---|---|
| Н. | *-ы, -і* | *-ае, -ое, -яе* | *-ая (-яя)* |
| Р. | *-ага, -ога, -яга* | | *-ай (-ае), -ой (-ое), -яй (-яе)* |
| Д. | *-аму, -ому, -яму* | | *-ай, -ой, -яй* |
| В. | *як Н. ці Р.* | | *-ую, -юю* |
| Т. | *-ым, -ім* | | *-ай (-аю), -ой (-ою), -яй (-яю)* |
| М. | *-ам, -ім* | | *-ай, -ой, яй* |

## 14.8.8.7. СІСТЭМА КАНЧАТКАЎ СКЛОНАВЫХ ФОРМ ЯКАСНЫХ І АДНОСНЫХ ПРЫМЕТНІКАЎ МНОЖНАГА ЛІКУ

| Склон \ Аснова | На цвёрдыя і зацвярдзелыя зычныя | На г, к, х і мяккі зычны |
|---|---|---|
| Н. | *-ыя* | *-ія* |
| Р. | *-ых* | *-іх* |
| Д. | *-ым* | *-ім* |
| В. | *як Н. ці Р.* | *-ія* |
| Т. | *-ымі* | *-імі* |
| М. | *-ых* | *-іх* |

## 14.8.8.8. СКЛАНЕННЕ ПРЫНАЛЕЖНЫХ ПРЫМЕТНІКАЎ АДЗІНОЧНАГА ЛІКУ

| Склон \ Род | Мужчынскі | Ніякі | Жаночы |
|---|---|---|---|
| Н. | *дзядзькаў, цётчын* | *дзядзькава, цётчына* | *дзядзькава, цётчына* |
| Р. | *дзядзькавага, цётчынага* | | *дзядзькавай, цётчынай* |
| Д. | *дзядзькаваму, цётчынаму* | | *дзядзькавай, цётчынай* |
| В. | *дзядзькаў, цётчын* і *дзядзькавага, цётчынага* | *дзядзькава, цётчына* | *дзядзькаву, цётчыну* |
| Т. | *дзядзькавым, цётчыным* | | *дзядзькавай, цётчынай* |
| М. | *дзядзькавым, цётчыным* | | *дзядзькавай, цётчынай* |

## 14.8.8.9. СКЛАНЕННЕ ПРЫНАЛЕЖНЫХ ПРЫМЕТНІКАЎ МНОЖНАГА ЛІКУ

| Склон \ Лік | Множны |
|---|---|
| Н. | *дзядзькавы, цётчыны* |
| Р. | *дзядзькавых, цётчыных* |
| Д. | *дзядзькавым, цётчыным* |
| В. | *дзядзькавы, цётчыны* і *дзядзькавых, цётчыных* |
| Т. | *дзядзькавымі, цётчынымі* |
| М. | *дзядзькавых, цётчыных* |

14.8.8.10. СКЛАНЕННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ *АДЗІН (АДНА, АДНО)*

| Род / Склон | Мужчынскі | Жаночы | Ніякі |
|---|---|---|---|
| Н. | *адзін* | *адна* | *адно* |
| Р. | *аднаго* | *адной* | *аднаго* |
| Д. | *аднаму* | *адной* | *аднаму* |
| В. | *адзін (аднаго)* | *адну* | *адно* |
| Т. | *адным* | *адной* | *адным* |
| М. | *адным* | *адной* | *адным* |

14.8.8.11. СКЛАНЕННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ *ДВА (ДЗВЕ), ТРЫ, ЧАТЫРЫ*

| Лічэбнік / Склон | Два | Дзве | Тры | Чатыры |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *два* | *дзве* | *тры* | *чатыры* |
| Р. | *двух* | *дзвюх* | *трох* | *чатырох* |
| Д. | *двум* | *дзвюм* | *тром* | *чатыром* |
| В. | *два (двух)* | *дзве (дзвюх)* | *тры (трох)* | *чатыры (чатырох)* |
| Т. | *двума* | *дзвюма* | *трыма* | *чатырма* |
| М. | *двух* | *дзвюх* | *трох* | *чатырох* |

14.8.8.12. СКЛАНЕННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ 5 – 20, 30

| Лічэбнік / Склон | Пяць | Дванаццаць | Трыццаць |
|---|---|---|---|
| Н. | *пяць* | *дванаццаць* | *трыццаць* |
| Р. | *пяці* | *дванаццаці* | *трыццаці* |
| Д. | *пяці* | *дванаццаці* | *трыццаці* |
| В. | *пяць* | *дванаццаць* | *трыццаць* |
| Т. | *пяццю* | *дванаццаццю* | *трыццыццю* |
| М. | *пяці* | *дванаццаці* | *трыццаці* |

### 14.8.8.13. СКЛАНЕННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ *ТЫСЯЧА, МІЛЬЁН, МІЛЬЯРД*

| Лічэбнік / Склон | Тысяча | Мільён | Мільярд |
|---|---|---|---|
| Н. | *тысяча* | *мільён* | *мільярд* |
| Р. | *тысячы* | *мільёна* | *мільярда* |
| Д. | *тысячы* | *мільёну* | *мільярду* |
| В. | *тысячу* | *мільён* | *мільярд* |
| Т. | *тысячай* | *мільёнам* | *мільярдам* |
| М. | *тысячы* | *мільёне* | *мільярдзе* |

### 14.8.8.14. СКЛАНЕННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ 50 – 80

| Лічэбнік / Склон | Пяцьдзесят | Семдзесят | Восемдзесят |
|---|---|---|---|
| Н. | *пяцьдзесят* | *семдзесят* | *восемдзесят* |
| Р. | *пяцідзесяці* | *сямідзесяці* | *васьмідзесяці* |
| Д. | *пяцідзесяці* | *сямідзесяці* | *васьмідзесяці* |
| В. | *пяцьдзесят* | *семдзесят* | *восемдзесят* |
| Т. | *пяццюдзесяццю* | *сямюдзесяццю* | *васьмюдзесяццю* |
| М. | *пяцідзесяці* | *сямідзесяці* | *васьмідзесяці* |

### 14.8.8.15. СКЛАНЕННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ 200 – 900

| Лічэбнік / Склон | Дзвесце | Трыста | Дзевяцьсот |
|---|---|---|---|
| Н. | *дзвесце* | *трыста* | *дзевяцьсот* |
| Р. | *двухсот* | *трохсот* | *дзевяцісот* |
| Д. | *двумстам* | *тромстам* | *дзевяцістам* |
| В. | *дзвесце* | *трыста* | *дзевяцьсот* |
| Т. | *двумастамі* | *трымастамі* | *дзевяцістамі* |
| М. | *двухстах* | *трохсот* | *дзевяцістах* |

### 14.8.8.16. СКЛАНЕННЕ САСТАЎНЫХ КОЛЬКАСНЫХ ЛІЧЭБНІКАЎ

| Склон \ Лічэбнік | Пяцьсот трыццаць два |
|---|---|
| Н. | *Пяцьсот трыццаць два* |
| Р. | *Пяцісот трыццаці двух* |
| Д. | *Пяцістам трыццаці двум* |
| В. | *Пяцьсот трыццаць два* |
| Т. | *Пяццюстамі трыццаццю двума* |
| М. | *Пяцістах трыццаці двух* |

### 14.8.8.17. СКЛАНЕННЕ ДРОБАВЫХ ЛІЧЭБНІКАЎ

| Склон \ Лічэбнік | Адна пятая | Тры восьмыя |
|---|---|---|
| Н. | *адна пятая* | *тры восьмыя* |
| Р. | *адной пятай* | *трох восьмых* |
| Д. | *адной пятай* | *тром восьмым* |
| В. | *адну пятую* | *тры восьмых* |
| Т. | *адной пятай* | *трыма восьмымі* |
| М. | *адной пятай* | *трох восьмых* |

### 14.8.8.18. СКЛАНЕННЕ ЗБОРНЫХ ЛІЧЭБНІКАЎ

| Склон \ Лічэбнік | Трое | Пяцёра | Абодва | Абедзве | Абое |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *трое* | *пяцёра* | *абодва* | *абедзве* | *абое* |
| Р. | *траіх* | *пяцярых* | *абодвух* | *абедзвюх* | *абаіх* |
| Д. | *траім* | *пяцярым* | *абодвум* | *абедзвюм* | *абаім* |
| В. | *траіх* | *пяцярых* | *абодвух* | *абедзвюх* | *абаіх* |
| Т. | *траімі* | *пяцярымі* | *абодвума* | *абедзвюма* | *абаімі* |
| М. | *траіх* | *пяцярых* | *абодвух* | *абедзвюх* | *абаіх* |

## 14.8.8.19. СКЛАНЕННЕ АСАБОВЫХ ЗАЙМЕННІКАЎ

| Лік / Склон | Адзіночны | | | Множны |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *я* | *ты* | *ён, яно, яна* | *мы, вы, яны* |
| Р. | *мяне* | *цябе* | *яго, яе* | *нас, вас, іх* |
| Д. | *мне* | *табе* | *яму, ёй* | *нам, вам, ім* |
| В. | *мяне* | *цябе* | *яго, яе* | *нас, вас, іх* |
| Т. | *мной(-ою)* | *табой (-ою)* | *ім, ёй (ёю)* | *намі, вамі, імі* |
| М. | *мне* | *табе* | *ім, ёй* | *нас, вас, іх* |

## 14.8.8.20. СКЛАНЕННЕ ЗАЙМЕННІКАЎ *САМ, САМЫ*

| Лік / Склон | Адзіночны | | | | Множны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | М.н.род | Ж.род | М.н.род | Ж.род | | |
| Н. | *сам, само* | *сама* | *сама, самае* | *самая* | *самі* | *самыя* |
| Р. | *самога* | *самой* | *самага* | *самай* | *саміх* | *самых* |
| Д. | *самому* | *самой* | *самаму* | *самай* | *самім* | *самым* |
| В. | *як Н. ці Р.* | *саму* | *як Н. ці Р.* | *самую* | *як Н. ці Р.* | *як Н. ці Р* |
| Т. | *самім* | *самой (ою)* | *самым* | *самай (аю)* | *самімі* | *самымі* |
| М. | *самім* | *самой* | *самым* | *самай* | *саміх* | *самых* |

## 14.8.8.21. СКЛАНЕННЕ НЕАЗНАЧАЛЬНЫХ ЗАЙМЕННІКАЎ

| Займеннік / Склон | Нехта | Штосьці | Абы-які | Чый-небудзь |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *нехта* | *штосьці* | *абы-які* | *чый-небудзь* |
| Р. | *некага* | *чагосьці* | *абы-якога* | *чыйго-небудзь* |
| Д. | *некаму* | *чамусьці* | *абы-якому* | *чыйму-небудзь* |
| В. | *некага* | *штосьці* | *як Н. ці Р.* | |
| Т. | *некім* | *чымсьці* | *абы-якім* | *чыім-небудзь* |
| М. | *некім* | *чымсьці* | *абы-якім* | *чыім-небудзь* |

## 14.8.8.22. СКЛАНЕННЕ АДМОЎНЫХ ЗАЙМЕННІКАЎ

| Займеннік / Склон | Ніхто, нішто | Нічый | Ніякі |
|---|---|---|---|
| Н. | *ніхто, нішто* | *нічый* | *ніякі* |
| Р. | *нікога, нічога* | *нічыйго (ні ад чыйго)* | *ніякага (ні ад якага)* |
| Д. | *нікому, нічому* | *нічыйму* | *ніякаму* |
| В. | *нікога, нішто, ні на кога, ні на што* | *нічыйго (ні ад чыйго), нічый (ні на чый)* | *ніякага (ні на якага), ніякі (ні на які)* |
| Т. | *нікім, нічым* <br> *ні з кім, ні з чым* | *нічым (ні з чым)* | *ніякім (ні з якім)* |
| М. | *ні па кім, ні па чым* | *ні на чыім* | *ні на якім* |

## 14.8.8.23. СКЛАНЕННЕ ЗАЙМЕННІКАЎ *КОЛЬКІ, СТОЛЬКІ, ГЭТУЛЬКІ, НЕКАЛЬКІ*

| Займеннік / Склон | Колькі | Столькі | Гэтулькі | Некалькі |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *колькі* | *столькі* | *гэтулькі* | *некалькі* |
| Р. | *колькіх* | *столькіх* | *гэтулькіх* | *некалькіх* |
| Д. | *колькім* | *столькім* | *гэтулькім* | *некалькім* |
| В. | *як Н. ці Р.* | *як Н. ці Р.* | *як Н. ці Р.* | |
| Т. | *колькімі* | *столькімі* | *гэтулькімі* | *некалькімі* |
| М. | *колькіх* | *столькіх* | *гэтулькіх* | *некалькіх* |

## 14.8.8.24. СПРАЖЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ

| Спражэнне / Асоба | Першае | | Другое | |
|---|---|---|---|---|
| | Адзіночны лік | Множны лік | Адзіночны лік | Множны лік |
| 1-я | *-у (-ю)* | *-ём (-ем), -ом, -ам* | *-у (-ю)* | *-ім (-ым)* |
| 2-я | *-еш (-эш), -аш* | *-еце (-эце), -аце* | *-іш (-ыш)* | *-іце (-ыце)* |
| 3-я | *-е (-э), -а* | *-уць (-юць)* | *-іць (-ыць)* | *-аць (-яць)* |

## 14.8.8.25. СПРАЖЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ *БЕГЧЫ, ЕСЦІ* (ЦЯПЕРАШНІ ЧАС), *ДАЦЬ* (БУДУЧЫ ЧАС)

| Лік / Асоба | Адзіночны | Множны |
|---|---|---|
| 1-я | *бягу, ем, дам* | *бяжым, ядзім, дадзім* |
| 2-я | *бяжыш, ясі, дасі* | *бяжыце, ясце, дасце* |
| 3-я | *бяжыць, есць, дасць* | *бягуць, ядуць, дадуць* |

## 14.8.8.26. ЧЛЯНЕННЕ ЧАСЦІЦ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць наступныя віды часціц: 1. Указальныя (*вось, вунь, гэта)*; 2. Азначальна-ўдакладняльныя *(амаль, акурат, іменна, проста, прыблізна, чыста, сапраўды, якраз)*; 3. Вылучальна-абмежавальныя *(выключна, толькі, усяго, хаця, хіба* і інш.); 4. Сцвярджальныя *(так, але* і інш.); 5. Адмоўныя *(не, ні, ані)*; 6. Пытальныя *(а, ну, няўжо, ці, хіба* і інш.); 7. Параўнальныя *(быццам, нібы* і інш.); 8. Пабуджальныя *(даволі, няхай, ану* і інш.); 9. Клічныя *(вось, як, ну* і інш.); 10. Узмацняльныя *(аж і нават, дык ні, так* і інш.*)*.

# 14.9. СІНТАКСІС

## 14.9.1. СУВЯЗІ СЛОЎ У СКАЗЕ



## 14.9.2. ТЫПЫ СКАЗАЎ




## 14.9.3. ТЫПЫ АДНАСАСТАЎНЫХ СКАЗАЎ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць наступныя віды аднасастаўных сказаў: 1. Пэўна-асабовыя; 2. Няпэўна-асабовыя; 3. Абагульнена-асабовыя; 4. Асабовыя; 5. Інфінітыўныя; 6. Намінатыўныя; 7. Генітыўныя.

### 14.9.4. ДЫХАТАМІЧНАЯ СТРУКТУРА СКАЗА

*Вольныя ад заняткаў студэнты пайшлі ў кіно.*




**Заўвага.** Стрэлкі на схеме паказваюць на сінтаксічна падпарадкавальныя словы і словазлучэнні. Літара S абазначае сказ (ад англійскага слова sentence 'сказ').

## 14.10. СЛОВАЎТВАРЭННЕ

### 14.10.1. МАРФЕМНАЯ СТРУКТУРА СЛОВА




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць наступныя віды значэнняў: 1. Рэчыўнае; 2. Дэрывацыйнае; 3. Рэляцыйнае; 4. Лексічнае; 5. Граматычнае.

## 14.10.2. СПОСАБЫ СЛОВАЎТВАРЭННЯ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць наступныя спосабы ўтварэння слоў у беларускай мове: 1. Прэфіксальныя *(пра-дзед)*; 2. Суфіксальныя *(дзед-к-а)*; 3. Прэфіксальна-суфіксальныя *(пра-дзед-ав-ы)*; 4. Постфіксальныя *(радавац-ца)*; 5. Складанне асноў слоў *(часцінамоўны)*; 6. Абрэвіяцыя *(НАН, БДУ)*; 7. Лексіка-граматычны *(сталовая лыжка* і *сталовая на рамонце)*; 8. Лексіка-сінтаксічны *(вышэйназваны)*; 9. Лексіка-семантычны *(тормаз* 'прыстасаванне' *і тормаз* 'перашкода').

## 14.11. ЛЕКСІКАГРАФІЯ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць наступныя віды тэрміналагічных вытлумачальных і перакладных слоўнікаў: 1. Энцыклапедычныя; 2. Тлумачальныя; 3. Двухмоўныя; 4. Шматмоўныя.

# 14.12. ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ

## 14.12.1. ДЫЯЛЕКТНАЕ ЧЛЯНЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ




**Заўвага.** Лічбы на схеме абазначаюць наступныя групы гаворак: 1. Слуцкія; 2. Гродзенска-баранавіцкія; 3. Мазырскія (усходнепалескія); 4. Заходнепалескія; 5. Сярэднебеларускія; 6. Усходнемагілёўскія; 7. Віцебскія; 8. Полацка-мінскія (гл.: Мяцельская, Блінава 1991, 27).

## 14.12.2. МЕСЦА ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫХ ДЫЯЛЕКТАЎ СЯРОД ФОРМ АГУЛЬНАНАРОДНАЙ МОВЫ



# 15. ТЭКСТЫ

## 15.1. УСТУПНЫЯ ЗАЎВАГІ

Прыведзеныя тэксты і ўрыўкі з іх прызначаны даць чытачу ўяўленне пра усе этапы станаўлення і развіцця беларускай літаратурнай мовы, крыніцамі якой сталіся і старажытнаўсходнеславянскія (старажытнарускія) пісьмовыя помнікі, і тэксты старабеларускай літаратуры, прадстаўленыя разнажанравымі творамі (дзелавымі, летапіснымі, рэлігійнымі, перакладнымі, мемуарнымі, публіцыстычнымі, мастацкімі, навуковымі), і творамі на новай беларускай літаратурнай мове, што ўзнікла на грунце народных гаворак і зрабілася стылістычна дыферэнцаванай, прыдатнай для выкарыстання ва ўсіх галінах сацыяльнага жыцця краіны (прыгожае пісьменства, публіцыстыка, навука, афіцыйна-дзелавая сфера, вусныя зносіны і інш.).

Тэксты старажытнаўсходнеславянскага перыяду і старабеларускія творы ўзяты з кніг (КРАСНЕЙ, ШАКУН 1986; СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА 1990) і прыведзены ў спрошчаным напісанні (без юсаў, літары яць і інш.). Тэксты беларускай літаратуры 19 ст. прыводзяцца па кнізе (БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА 1988) і падаюцца не на лацініцы, на якой напісана большасць тэкстаў гэтага перыяду, а на кірыліцы, як гэта зроблена ў згаданай працы, для больш адэкватнага ўспрымання сучасным чытачом беларускай літаратуры, якая зараз цалкам грунтуецца на кірыліцы. Паэтычныя тэксты 20 ст. выбраны пераважна з кнігі (АНТАЛОГІЯ 1993), празаічныя тэксты розных стыляў і жанраў – або непасрэдна з твораў беларускіх пісьменнікаў (мастацкія тэксты), або з адпаведных навуковых, публіцыстычных, афіцыйных, лексікаграфічных і іншых апублікаваных прац. Узоры дыялектных тэкстаў выбраны з кнігі (МЯЦЕЛЬСКАЯ, БЛІНАВА 1991), некаторыя тэксты афіцыйна-дзелавога стылю – з кнігі (КАЎРУС 1994). Узоры беларускага маўлення змешчаны таксама ў працы (ВУСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ МОВА 1990), дзе сабраны затранскрыбіраваныя дыялектныя запісы з 37 раёнаў Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Мінскай абласцей і запісы вуснага беларускага літаратурнага маўлення.

## 15.2. СТАРАЖЫТНАЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІ ПЕРЫЯД (11–13 стст.)

### 15.2.1. АПОВЕСЦЬ МІНУЛЫХ ЧАСОЎ (урывак)

В лето 6575 (1067). Заратися Всеслав, сын Брячиславль, Полочьске, и зая Новъгород. Ярославиче же трие,– Изяслав, Святослав, Всеволод,– совокупивши вои, идоша на Всеслава, зиме сущи велице. И придоша ко Меньску, и меняне затворишася в граде. Си же братья взяша Менеск, и искоша муже, а жены и дети вдаша на щиты, и поидоша к Немизе, и Всеслав поиде противу. И совокупишеся обои на Немизе, месяца марта в 3 день; и бяше снег велик, и поидоша противу собе.

И бысть сеча зла, и мнози падоша, и одолеша Изяслав, Святослав и Всеволод, целовавше крест честный к Всеславу, рекше ему: "Приди к нам, яко не створим ти зла". Он же, надеявъся целованию креста, переехa в лодьи черес Днепр. Изяславу же в шатер предидущю, и тако яша Всеслава на Рши у Смолиньска, преступивше крест. Изяслав же привед Всеслава Кыеву, всади и в поруб с двема сынома.

### 15.2.2. КІРЫЛ ТУРАЎСКІ (каля 1130 – каля 1182)

ПРИТЧА... (урывак)

Господи, благослови отче!

Добро убо братье, и зело полезно, еже разумевати нам божественных писаний учение: се и душу целомудрену ствaряеть, и к смирению прилагаеть ум, и сердце на реть добродетели извоостряеть, и всего благодарствена человека ствaряеть, и на небеса ко владычним обещанием мысль приводить, и к духовным трудом тело укрепляеть, и приобидение сего настоящаго жития, и славы и богатьства творить, и всея житиские света сего печали отводить. Того ради молю вы, потщитеся прилежно почитати святыя книги, да ся божиих насытивше словес и будущаго века неизреченных благ жадание стяжите: она бо аще и невидима суть, но вечна и конца неимуща, тверда же и недвижима. Да не просто претецемь языком пишемая глаголюще, но с расмотрением внемлюще, потщимся делом створити я. Сладко бо медвеный сот и добро сахар, обоего же добрее книгий разум: сия убо суть скровища вечныя жизни. Аще бо сде кто обрел бы земное скровище, то не бы на се дерзнул, но един точью честный камень взял бы, – уже бес печали питаеться, яко до конца богатьство имый. Тако обретый божественных книг скровище, пророческых же и псаломьскых и апостольскых и самого спаса Христа спасеных словес истиньный с расужением разум, – уже не собе единому бысть на спасение, но и инемь многим послушающим его.

### 15.2.3. ЖЫЦІЕ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ... (урывак)

Преподобная же Еуфросинья сего всего не брежаше жалости отца своего. Но, яко добрый Храбор, вооружившися на супротивника своего, диавола, пребываше в монастыри, и повинующись иегумении и сестрам всем, и вся преспевающи постом, молитвами и бдением нощным. И оттоле начат подвижнейши быти, собирающи благые мысли в сердци своем, яко пчела сот.

Иже пребывши неколика время в монастыри, и потом испроси тогда сущаго епископа, нарицаемого Ильи, правящаго стол святыя Софеи в Полотсте, дабы ей повелел ту пребыти – во церкви святыя Софии и каменныя, в голубници. И повелел ей да пребывает. И ту, въшедши, нача книгы писати своими руками. И наем емлюще требующем даяше...

На всяк же день учаша сестры своа: старые же учаша трепению и воздръжанию, юные же учаше чистоте душевней и бестрастию телесному, говению образному, ступанию кротку, гласу смирену, слову благочестну, ядению и питию безмолвну, при старейших молчати, мудрейших послушати, ко старейшим покорением, к точным и меншим любовь без лицемериа, мало вещати, а много разумети.

### 15.2.4. НАДПІС НА КРЫЖЫ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ (1161)

Въ лето 6669 покладаеть Офросинья чьстьныи крестъ. въ манастыри своемъ въ црькви святаго Спаса. чьстное древо. бесценно есть. а кованье его. злото и серебро.

каменье. и жемчюгъ. въ 100 гривнъ. а да 40 гривнъ. да не изнесеться из манастыря никогда же яко ни продати ни отдати. аще се кто преслушаеть. изнесеть и отъ манастыря. да не буди ему. чьстьныи крестъ ни въ съ векъ ни в будущии. и да будеть проклятъ святою животворящею и святыми отци... кто же дрьзнеть сътворити се... властелинъ. или князь. или пискупъ. или игуменья. или инъ которыи любо человекъ а буду ему клятва си. Офросинья же раба Христова сътяжавъши крестъ сии, прииметь вечную жизнь съ всеми, господи помози рабу своему Лазорю нареченему Богъши съделавъшему крьстъ сии црькви святаго Спаса и Офросиньи.

### 15.2.5. СЛОВА ПРА ПАХОД ІГАРАВЫ (урывак)

Уже бо Сула не течет сребреными струями к граду Переяславлю, и Двина болотом течет оным грозным полочаном по кликом поганых. Един же Изяслав, сын Васильков, позвони своими острыми мечи о шеломы литовския, притрепа славу деду своему Всеславу, а сам под чрелеными щиты на кроваве траве притрепан литовскыми мечи, и с хоти ю на кровать и рек: "Дружину твою, княже, птиць крыли приоде, а звери кровь полизаша". Не бысть ту брата Брячеслава, ни другаго Всеслава: един же изрони жемчюжну душу из храбра тела чрес злато ожерелие. Унылы голоси, пониче веселие, трубы трубят городеньскии. Ярославе и вси внуци Всеславли! Уже понизить стязи свои, вонве. Вы бо своими храмолами начясте наводите поганыя плъкы на землю Рускую, на жизнь Всеславлю; которою бо беше насилие от земли Половецкыи!

На седьмом веце Трояни връже Всеслав жребий о девицю себе любу. Тъй клюками подпръся о кони, и скочи к граду Кыеву, и дотчеся стружием злата стола Киевскаго; скочи от них лютым зверем в плъночи из Белаграда, обесися сине мьгле; утръ же вазни с стри кусы: отвори врата Новуграду, разшибе славу Ярославу, скочи влъком до Немиги с Дудуток.

На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела. Немизе кровави брезе не бологом бяхуть посеяни, посеяни костьми руских сынов. Всеслав князь людем судяше, князем грады рядяше, а сам в ночь влъком рыскаше: из Кыева дорискаше до кур Тмутороканя, великому Хръсови влъком путь прерыскаше. Тому в Полотске позвониша заутренюю рано у святыя Софеи в колоколы, а он в Кыеве звон слыша. Аще и веща душа в дръзе теле, не часто беды страдаше...

### 15.2.6. БЕРАСЦЯНАЯ ВІЦЕБСКАЯ ГРАМАТА 13–14 СТАГОДДЗЯЎ

От Степана къ Нежилови. Оже еси продалъ порты, а купи ми жита за 6 гривенъ. А ли цего еси не продалъ, а посли ми лицемъ. А ли еси продалъ, а добро сътворя у купи ми жита.

## 15.3. СТАРАБЕЛАРУСКІ ПЕРЫЯД (14–18 стст.)

### 15.3.1. ЛЕТАПІСЕЦ ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ

Той же зимы князь Свецьслав Смоленскый совет сотвори со князем Андреемь Полоцькымь. Он в Литву, а князь Светислав ко Орши. На миру много зла сотвориша хрстянемь нечеловеческы и нихрестиянскыи, мучиша хрстянь, иже не в поганых ратех то не слышах таковых мукь. Мучаще хрстянь, сбираху и запираху во изьбах и зажигаху, а другии велики храмы очепы подимаху и пленниковь под стены кладаху

главами и зажигаху, а иные жены и дети на коле тыкаху. А иных мукь над христяны, их же скаредно, не писахомъ, яко же ни Онтиох Сирскый, ни Ульян законопреступный тех мукь не сотвори над хрестяны. Граду же Орши ничего не вспеша и пакы возовритися во свояси.

Той же зимы во великое говение нача Светослав думати со смоленскыми бояри на хрестянское кровопролитие. Яко свирепие зверие, аки не хрестяне, поиде ко городу Мстиславлу и сташа у града Мстиславля. И нача добывати и порокы бити град, а в землю и Мстиславскую вои пусти и много пролития крови хрестянскыя. То же быс богу мерзко зрети зовущимься хрестянемь, а братию свою хрестянь, не человеческы, ни хрестянскы мучаху...

## 15.3.2. БАРКУЛАБАЎСКАЯ ХРОНІКА (урывак)

...Того же року 88, от семое суботы аж до Рожства Христова, велми великая была непогода и неуставичность. В лете дожду не было, а у восень снегу не было, толко ветры а дожды. У восень о святом Покрове велми поводок великий был, аж по лугам пошла, праве яко на весне велика была. А до Рожства Христова у Днепре вода прибывала и з берегов выливалася.

Року того ж 88, месяца генвара 18, после святаго Афанасия, на третий день дожды великие были, аж снег согнало. Праве было яко на весне: пастухи на бор с статками погналися на паству, а потом за недель три знову зима лютая.

Того ж року архиепископ Феофан, владыка полоцкий, господин благоверный, у Полоцку преставился. Там же погребено тело его честно.

Того ж року 88 совершено на владычество полоцкое Афанасия Терлецкого, за кроля ЖикгимонтаТретего, за митрополита Михаила Рагозу.

Року того ж от господаря кроля выслано напервей до Орши енералы, то ест над дванадцатми возными един енерал местце старшое мает, Богдан Биряленок, яко ж пред тым у тых краях не бывало.

## 15.3.3. ДАРАВАЛЬНАЯ ГРАМАТА ЛІТОЎСКАГА КНЯЗЯ ВІТАЎТА ЛІТОЎСКІМ КАНОНІКАМ (1399)

Мы великий князь. Витовтъ. даемъ веданье всемъ. кто на сей листъ. узозритъ. или слышитъ. дали есмо землю. кановникомъ виленскимъ. на имя. Березынская. къ Стрешину. што были есмо. дали князю Юрью. толочку отъ Рогачева оттойма. а в землю первописаную не уступатися. ни кому. а ни рогачевцемъ. а ни иному кому. нижь. держять. кановником виленским. къ Стрешин (у) вечно. непорюшно. никимже. а на то. на все дали есмо. на крепость. сей листъ и печять свою велели привесити. а писан в Троцех. у четвергъ по велице дни. под леты по рожстве господни 1000 л. и триста и девять десять и девять.

## 15.3.4. ДАРАВАЛЬНАЯ ГРАМАТА СЛУЦКАЙ КНЯГІНІ ГАННЫ (1492)

Мы княгиня Михайловая Александровича Анна зъ моимъ сыномъ княземъ Семеномъ Михайловичемъ дали есмо селцо наше Дробышовское Макарью архимандриту святыя Живоначалныя Троица, иже въ Слуцку, вечно и непорухомо; а волно ему тое селцо продати, а любо кому дати, а любо къ манастырю придати; а надъ то дали есмо ему сесь нашъ листъ зъ нашою печатью. Данъ у Слуцку, Мая 31, индикта 10.

## 15.3.5. СТАТУТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА (1588) (урывак)

Тежъ уставуемъ, если бы князские панские або и земянские были гоны бобровые давные звечные у иншого суседа дедизне, ино оный панъ в чыей дедизне будутъ гоны, не маеть самъ ани людемъ своимъ допустить старого поля доорати, такъ далеко и сеножати подъкосити не маеть и лозы теребити, а если бы подъ зеремена подъорал, або сеножати подъкосилъ або лозу подрубалъ а тым бобры выгонилъ, таковый маеть платити дванадцать рублей грошей, а тому зеремени пред се маеть упокой дать такъ далеко яко бы могъ киемъ докинути, пакли бы хто кгвалтомъ бобры побилъ, або злодейскимъ обычаемъ выкралъ, таковый маеть кгвалтъ платити а колко бы бобровъ убилъ тогды маеть платити за чорного бобра чотыри копы грошей а за карого две копе грошей. Пакли бы бобръ с того старого зеремени вышолъ, а пришолъ ново вынъшое зеремя на кгрунтъ и берегъ инъшого пана, тогды в чыем кгрунъте зеремя будеть, тому тежъ и ловенье бобровъ належати маеть.

## 15.3.6. З ПРАДМОЎ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ (урыўкі)

Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; риби, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, – также и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають...

И всякому человеку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены, надежа истинная востания из мертвых и вечного живота.

Прото ж я, Францишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарских науках доктор, знаюче сее, иже ест найвышшая мудрость розмышление смерти, и познание самого себе, и въспоминание наприидущие речи, казал есми тиснути книгу святого Иова рускым языком богу ку чти и людем посполитым к научению.

Закон же написаный или от бога ест данный, – яко суть книги Моисеовы и светое Евангелие, или от людей уставленый, яко суть правила светых отець, на сборех пописаные, и права земская, еже единый каждый народ своими старейшими ухвалили суть подле яко же ся имналепей видело быти. А прото ж межи собою ся не сровнавають, понеже иные, а иные иным, и иным языком ся любять, толико в том хотят ся згожати, абы были права их или закон почтивый, справедливый, можный, потребный, пожиточный подле прирожения подлуг обычаев земли, часу и места, пригожый, явный, не имея в собе зокритости не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написаный...

## 15.3.7. З ПРАДМОВЫ СЫМОНА БУДНАГА (урывак)

Ведаеть весь свет, яко на свои степени въступають. Не тайно те же, яко на них стоять и справуются. Лепъшей плакати, нежели их норовы выписовати. Оно певная речь, ижь напрасно их поправлениа в науце или в житии ждати. Лучшей, абы каждый, кто не хочет згинути, иншого собе лекарства за часу искал, а таковым пастыром покой дал. Тако бо повелеваеть господь, где к апостолом, се ест всем учителем рече: "Вы есте соль земли! Аще же соль обуяеть, чим осолиться!?" Ни в что же будеть к тому, точию да и ссыпана будеть вон и попираема человекы. Солью называеть всех учителей, яко бо соль заховуеть што ею посолится, абы не провоняло. Тако и учитель наказанием, поученем и напоминаньем заховуеть людей от духовное гни-

ли. Але если того не чинить, повелеваеть господь вон его выкинути и потоптати, яко соль, естли бы одурела, або силу свою утратила. Чого жь для непослушни есмо того повелениа самого сына божиего?..

### 15.3.8. З ПРАДМОВЫ ВАСІЛЯ ЦЯПІНСКАГА (урывак)

Гды ж межи всими люцкостями ничого не есть так власного, а злаща богобойному человеку, яко улитоване, которим указуем по себе неякое подобенство добротливости божее, а наконець, для заплаты собе от пана вечное, – тому народу вашому, владык и учителей ваших до того прозбами вашими вели, же бы не подкупов, не посулов дле поседаня столиць один перед другим, не до животей и правильев, один над другого обвlivarованейших, але слова божего сами учили и других з маетностей и именей от ваших предков им не марнотрацства, не на строй и што такого, але для наук наданых. Ова бы ку науце, – леч не такой, яко тепер на вечный свой встыд только прочести и то ледво в своем езыку на болшь учатся, – школы заложити и науку слова божего, от так много лет занедбаную, выдвигнути братьи вашой хотели и усиловали. Которих я не одному которому, але всим и з тою потребою отчизны вашое богопойной пилности, ростропности и верности поручаю и зоставую, просечи пана, абых был готов, если она до конца згинет, з нею згинуть, або, если через вашь ретунок будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть...

### 15.3.9. З УСПАМІН Ф.ЕЎЛАШОЎСКАГА (урывак)

В том року 83 пани виленская в повете Новгородском мешкала. А я з роков на другие роки уставичне и в розные поветы: до Новгородка, Менска, Слонима и Волковыйска ездить мусял. А в посте мусялэм у Вилни (быць) и знову о святках там же быть для справ задворных, которых се намножило было. Мандатов всих было 17. Розмышлялэм в себе, яко за живота пана виленского и едэн позыв по некго не был, але се тепер накгродило. Приятеле не дбали на онэ заховане давнэ, каждый своего щастя смотрел. А Ходкевича жадного в раде кролевской не было, а наконец и даровать му не мели, вэтуй, пане боже, на потым.

Року 1584, февраля 5, оженился был пан Мартин Окунь с панною Боянэцкою. А назаютр оженился пан Ян Монвиж с панною Мложевъскою. Отправовала тэ весэля пани виленска в Ляховичах з велким достатком, ова вшистко пекнэ часу своего.

В марцу мел справ панских сила у Вилни пред кролем, и в речах кролевских пилновалэм, и взывано ме на интыкгаторство.

В том року пани виленская мяла затруднене не малое з Матфеем Волком, который, маючи еще от самого пана его милости фолварк ляховицкий Павлюковский у петисот копах грошей, справил был собе другий лист неправдивый на другую такую ж суму пенезей, для чого аж сама ездить до права мусела и очевисто первей у земствах, а потом и у кгродку фалш задавала. Потом же он того листу отступил, и то аж в пришлом року. В том року 84, августа 28, уродил ми се сын мой Лаврын...

### 15.3.10. З ТВОРАЎ А.ФІЛІПОВІЧА (урывак)

Унея же ест проклятая – правом доводне се показует. Хто колвек отбежит пастыра своего власного благословенного и братства, а удастся до другого, собе не належного, то нехай будет проклятый от отца и сына и святого духа! Нехай будет и по смерти не раздрешен. Нехай будет мети клятву отцев святых, што синодовали в Никеи, и всех святых божиих! А той то пастыр и отец духовный правдиве так везал, которому правдиве, ведлуг воле божией, межи пятми столицами духовными на том

дочасном свете с певных а тых барзо важных причин и таемниц бозских, духом святым утвороных и споряжоных, межи столицами, мовлю пятма: константи-нопол-скою, антиохийскою, рымскою, александрийскою, иерусалимскую, – едина владза и ровность духовной владзы з иншими столицами константинополской дана ест; владза правдивым порядком звязовати и розвязовати, ведлуг росказаня Христова: "глаголю вам, его же свяжете на земли, будет связан и на небеси, а его же раздрешите на земли, будет раздрешен и на небеси".

Хто того не ведает, же унит тот, который одбег пастыра своего власного для своее воли, ест правдиве проклят, а меновите тот, который без споведи и покояния належного изшол з того света.

Ведати и тое потреба, як Люциперови з найвишшого неба зтручене, так унитови з церковного неба для пожаданя столка сенаторского, проклятство ся стало. Грех содомский и иншие великие своеволи в велебных отцев для певных сродков опущаются, леч пыха проклятая найбарзей ся ганити мусит.

## 15.3.11. З ПРАМОВЫ МЯЛЕШКІ (урывак)

Коли ж до тебе паничик приедеть, частуй же его достатком, да еще и жонку свою подле его посади. А он седит, як бес надувшись, морокуеть, шапкою, дей, перекривляет и з жонкою нашептываеть, дей и в долонку сробеть. Да коли ж бы гетакого чорта кулаком в морду, или по лицом, по хрибте, так што бы король, его милость, не слыхал! Нехай бы морды такой поганой не надымал.

Помню я короля Гэнрика, которий з заморской, немецкой, стороны, был, да зрозумел, што мы ему не много давали шебунковати, а немци его не велми перекриковали, так он, познавши, што то не штука, да и сам никому не оказавшися проч поехал. Аж в свою сторону, аж за море скинул.

Кажучи правду, не так виноват король, як тые радные баламуты, што при ним сидят да крутять. Много тутако таких ест, што хоть наша костка, однак собачим мясом обросла и воняет! Тые, што нас деруть, губять радные! А за их баламутнями нашинец выживитися не можеть, Речи Посполитую губят! Волынь з Подлясем пропал нам! Знаю, нам приступило, што ходим как подъвареные, бо ся их боимо, правды не мовимо, еще з подхлебными языками потакаемо. А коли б такого беса кулаком в морду! Забыв бы другы мутити...

И то на свете дурнина – годинники! Мне притрафилосе на тандете в Киеве купити. Дали есмо за его три копы грошей, а як есмо послали до Вилни на направу, ажно на пятую копу крутить злодей заморщик! Добро то наш годинник – петух, што нехыбне о полночи кукаракуеть.

И то велми страшная шкода – гологуздые кури ховати, их достатком варити и инные пташки смажити. Торты тые цинамоном, микгдалами цуковати. А за моей памяти присмаков тых не бывало. Добрая была гуска з грибъками, качка з перчиком, печонка з цыбулею или чосныком. А коли на перепышные достатки – каша рижовая з шафраном.Вина венгерского не заживали перед тым. Малмазию скромно пивали, медок и горилочку дюбали, але гроши под достатком мевали. Мури силные муровали и войну славную крепко и лучшей держали как тепер...

## 15.3.12. З ЛІСТА ДА АБУХОВІЧА (урывак)

...Я так разумею: коли Смоленск оддали, то и тытул продали. Много людей об том завещали, што люде и грошы побрали. Лепей было, пане Филипе, седзець табе у Липе. Увалявся есь в великую славу, як свиня у грась, горш то ся стало, коли хто упадзе у новым кожусе у густое болото, у злом разуменю, у обмовах людзких и у

срамоти седзиць, як дзяцел у дупли. От нам за тое, што дзешово Москва соболи продавала: всю Русь з людзми одобрала. И то есмы обачыли, соболие колнеры познавесьмы зараз, што худо будут бицься нашие жолнеры. А што мы дурные у кожухах сем лет Смоленска добывали, то вы мудрые у соболях за четырнадцат недель оддали. Боюся вельми, што б за тое баба кому пупа не резала!..

По многих книгах зблудився теперычны розум, як коза по лесе. А на прауду святую ни от кого ока здорового нет. Одно баламутня. И сами погибнут и нас погубят. Кожден мости, пане, ужыват буде. А какая такая особка, таки ж и поп чоловек!..

Нешто, пане, сто родом дому деется! Дзед Твоей Милости, коли генералом быв в Мозыру, то, – слышав, – што за малые грошы неправду продавав. Пан отец Вашмости, судёю будучи мозырским за моей памяти, у кого больш взяв, того хороше осудив. Коли небощык з тэго света уступив, мозыране вельми рады были! А коли б Вашмость догэтуль за правдою ходив, то б и бог помогав!..

## 15.3.13. З ВЕРШАВАНЫХ ТВОРАЎ АНДРЭЯ РЫМШЫ

### НА ГЕРБ... АСТАФЕЯ ВАЛОВІЧА...

Што две стрелы, што врубы, што лелеи значат,
То вси люди мудрые вельми горазд бачать,
Которых зацный тот дом за герб уживаеть.
Верь мне, иж там господу цнота свою маеть.

### НА... ГЕРБЫ... ЛЬВА САПЕГІ (урывак)

В тых же геръбех посредку есть стрела, а крестами
Двема, а третий близко, осажон лунами.
Тые знаком, иж они болш для хрестиянства
Клали здоровье свое, не смотречы паньства.
Смотри ж вышей! Узриш там над сельмом коруну,
Которая даеть знать, иж там бог фартуну
И цноту з сильным мужъством сполне коронуе,
Чого в них ани моль, ни ржа не попсуе.
Живете ж Сапегове вси в многие лета!
Ваша слава слыть будеть, покуль станеть света!
Подавайте ж потомъком, што маете з предков!
Веже и ваших цных справ въвесь свет полон светъков.

## 15.3.14. З ВЕРШАВАНЫХ ТВОРАЎ СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА (1629–1680)

### З ПРАДМОВЫ ДА "РЫФМАЛАГІЁНА"

Писах в начале по языку тому,
Иже свойственный бе моему дому.
Таже увидев много ползу быти,
Славенскаму ся чистому учити.
Взях грамматику прилежах читати,
Бог же удобно даде ми ю знати.
К тому странная сущи ей подобна,

В знании ползу бяше ми удобна.
Тако словенским речем приложихся,
Елико дал бог знати научихся...

Стихи утешныи к лицу единому
Кто хощет людей на свете познати,
Изволь о умных мене вопрошати.
Сам я не дурак да блюдусь сказати,
Чтоб мне вверх не хотели взяти.
Видете мене, как я муж отраден,
Возрастом велик и умом изряден?
Кто ся со мною может поровнати,
Разве из мертвых Голиафу встати?
Ума излишком, аж негде девати, –
Купи, кто хочет, а я рад продати.
Вся глава умом велми се наткана,
А мозгу мало, что места не стало.
Времем сквозь нос разум вытекает,
Да Семен умен – языком приймает.
А сколько силы, не может сказати:
Лва на бумагу мощно мне раздрати.
Другий то Сампсон, да нет с ким побится:
Кого вызову – всяк мене боится.
Да кто с богатиром боротся посмеет:
Мечем, пистолми – все Семен умеет.
Мнози видают, как сильно борюся,
Когда с рубашки в вечер раздегнуся.
Не один недруг тогда погибает,
А кровь от ногтей и в очи плискает.
По такой битве, рад я спочиваю
На мяккой лавке. Так трудов збываю.
Все мне по мысли. Одно то в печали,
Что злые люди женится не дали.
Зависть проклята. Где мене полюбят,
Там злые люде тот час мя разгудят.
Кто таков, как я, – да щастя не многа.
Ожените мя, молю вас для бога!
Ручайте! Есть с чим молодец дороден,
Есть што есть и пить, и велми заводен.
Свое полаты за печью имею,
А про богатство хвалится не смею,
Чтоб вор не окрал. А стану дарити,
Кто мя изволит скоро оженити.
И буду ему праведно служити:
Хлеб дармо ести и вино добре пити...

З ІНШЫХ ВЕРШАЎ С.ПОЛАЦКАГА (урывак)

...Нехай ганбу отнесут, нехай же и погибают,
Которыи издавна упадку церкви шукают.
Дай боже за твою взгарду и все зганбены были,

Упадок хвалячи, мовячи, – Так мы хотели.
Благочестивым бог дай дний заживали,
Истинну божию всегда смеле теж вызнавали.
Радуйся белоруская земля, иж упадают
Ереси в тебе, през Алексея преч ищезают,
А церков Христова в покою днесь зоставает...
Высте, благии раби мои, також и верныи,
Ибо будовци церкви моей былисте пилнии,
За сия внийдете во радость господа своего,
Чтосте послухали гласа любезно моего.
Понежесте вы прац своих зело приложили
И таланты звероныи вам монумножили,
Над малыми веру на земли ко мне показали,
За то в многоочных чину херувимов стали...

### 15.3.15. З АНАНІМНЫХ ВЕРШАЎ

Зацный дом Ходкевичов, значные клейноты
За высокии здавна одечил цноты,
Которыи тот славный славне дом подносят
И, праве, аж под небо самое выносят
И в вывашаню его никгды неустанут,
Поки месяц и звезды светити не престанут.

Щасливый дом Окгинских, который тот мает
Клейнот с продков поданый, и в них ся кохает,
Кгды ж то знак набоженства и сталое веры.
Тым ся здавна их здобят сынове и дщеры.
А на том фундаменте вси цноты будуют,
Отчизне милой делным мужством услугуют,
Што звыкло безсмертную славу им еднати,
Которая на свете потым будет трвати
Поки месяць и звезды свой бег справовати
И ночные темности будут просвещати.

Презацный сенаторе! Знат из веков давных
Тые ж ся найдовали и в предках твых славных,
Што з гербов познаваем, – крыж – знак побожности,
Рука з силным пострелом знаком ест мужности,
Три лелие разных цнот образ указуют,
Которые до неба простый путь справуют
И у людей еднают славу безсмертную,
Век веком на потомстве пребывающую.

## 15.3.16. УРЫЎКІ З ПЕРАКЛАДНОЙ ЛІТАРАТУРЫ

### 15.3.16.1. АЛЕКСАНДРЫЯ

Потомъ оных дний мела отповедь царъ Филип отъ бога своег презъ сонъ, ижъбы той по смерти его царствовати мелъ, хто бы на томъ окрутномъ коню ездилъ. Александеръ теды во 12 летехъ сталсе моцный, смелый, мудрий и ростропный: бо

се уже былъ научилъ зуполне всехъ наукъ вызволеныхъ презъ учителя своего Аристотеля и Кастора. Некоторого дня коли се проходилъ презъ оное месце где стоялъ онъ конь несмиренный, коли на него смотрелъ презъ железныи краты, а предъ нимъ руки и иншии члонки людскии туды и сюды роскиданы дивовался велми: и стягнулъ на тыхъ местъ, руку свою до него презъ крату, а конь тежъ стягнулъ до него шию, и почалъ его руку лизати,а поднемши голову свою почалъ остро смотрети на Александра. Порозумевши Александръ поволность оного коня, отворилъ краты, а вшедши до оного коня, почалъ его легко а лагодно по хребте гладити, а конь тежъ заразомъ инялся перед нимъ такъ покорне ласити, яко коли песъ передъ паномъ своимъ, такъ тежъ конь передъ Александромъ. Потомъ Александеръ вседши на него почалъ выежчать з краты. Коли его узрелъ царъ Филипъ реклъ до него: Сыну Александре вси атповеди божскии выполнены суть в тобе, абовемъ по смерти моей царство мое буде отъ тебе ряжоно...

## 15.3.16.2. АПОВЕСЦЬ АБ ТРЫШЧАНЕ

...Потомъ немного минувшы король поехалъ в ловы з доброю дружыною а с нимъ Трыщан и Говорънаръ абы ся учыл лову, и ехали по дуброве, але прыехали два рыцэры у зброи и с всею бронею, и спытали: кое тут есть король? Они рекли: ото король и з сыномъ. Рекъ Говорънаръ: Што говориш? Нетъ тутъ его сына, оставилъ дома. И приступили тые рыцэры, рекли королю: Ты намъ не чынилъ ничого злого, але нехто иныи с твоего двора мыслит насъ погубити и тепер мыслимо збыти того если узможемъ. И вынявшы мечы нихто не могъ того оборонити абы король не был раненъ смертною раною у голове. А ихъ обеихъ тутъ же забито...

А кгды короля бояре видели мертва, они не ведали штобы мели вчынити, реклы межы собою: Ни одинъ панъ не естъ так зле въстережонъ от своих якъ нашъ от насъ. И Трыщан плакал много со всими людми своими, и прыправили носило на два кони и понесли короля. А коли были близко города, и люди зъ города вчынили великии плач и жалост по немъ и погребли почестно як слушыт на таковогo пана...

## 15.3.16.3. ГІСТОРЫЯ АБ АТЫЛЕ

Кальлимахъ поведает, же первеи до тунгров тягнул и столечного их места добыл, а мещаны его, не маючы жадного на плоть и на векъ баченя, вси аж до одного позабивал; леч если ся хто тому пилне прыгледить, тунгрове суть люди эбуренского народу не далеко от реки Моса в земли леодынскои, далеко от тое дороги Антылевои лежачои. Прожно бы то тэды его праца от тунгров ворочать ся до трековъ, яко Кальлимах поведаеть. Тых тэды Трековъ албо Троеи бискуп, што его звано Люпус, то ест волькъ, человекъ святобливого живота, убравшы ся ув оденье бискупе, з множством духовных особ вышол противъ Атыли прыежджаючому...

## 15.3.16.4. АПОВЕСЦЬ АБ БАВЕ

И встал один кухаръ и взялъ головню горачую и вдарыл Бово по голове и всю гуню ему опалилъ; и Бово был велми жалостен, а взял головню и вдарыл кухара по голове, он пал мертвъ, а мозок и очы ему выскочыли; и другого вдарыл, один осталъ, и вси вонъ побегли, а тому бокъ выбилъ. И пошол Бово на палац и стретил одного дворянина и рече Бову: Даи ти Бог зло, чому еси убил кухара? И рече Бово: Пане, выслухаи мя: я в них просилъ для бога, а он мя вдарыл головнею и всего мя зъжогъ, а я ся ему боронил. Не меи ми за зле. И он рече: Брате богороднику, бог тя

уховаи, а я тобе ражу: поиди в комору, бо в коморе Дружненна и иныхъ великих панеи много, а проси в нихъ про бог…

### 15.3.16.5. ГІСТОРЫЯ ТРАЯНСКАЙ ВАЙНЫ

Але грекове иншим обычаемь не могли мети приступу в землю их, одно толко през бите голых мечов а през собране окрутное валки. Вси зброю почали брати, велми ся в смелости потвердивши, а для того Протослеус, крол Филярдуром, которыи первыи был в шиху кораблев, у великом мужстве презпечне на землю выити усиловал. Але веле их з кораблев оных з веяня ветра а с поднесеня парусов на землю приплынули, с которых же веле се поломало, а для того с них которыиж были в кораблех, много их море пожерло, а которыи живы з них на землю приити могли, от троянов у великои окрутности битя погинули. А от частого битя разов берег загустился, а с частого уставичного выпущаня стрел вода близко берега для крови побитых черленелася. С которых смерти явно и дано есть знати, яко был окрутныи выступ греков на землю. Никгды не слыхано а ни есть чтено, иж бы которыи гуф так великим нещастьем, так великим упадом в землю неприятелеи своих уступил.

## 15.4. УРЫЎКІ З ПОМНІКАЎ 18 СТАГОДДЗЯ

### 15.4.1. ЗАВЯШЧАЛЬНЫ ЗАПІС МІКІЦІЯ ПАДЛОБКА (1735)

Я, Микитий Подлобко чиню тымъ моимъ тестаментем ижъ я будучи при хоробе смертелной лягую мой дом из грунтом никому ни в чим незаведеныи сыну моему Тимофею Подлобце жебы нихто немелъ протенціи и до него и щобъ онъ мое тело многогрешное ведлугъ належитого порядку христианского з молитвами якъ темъ през четыре десять дніи хвала бозская за мою душу не уставала и в притомные часы жебы молитва божая не уставала. Меисце земли застаючим в Ситномъ ряду сыном моимъ первои мое и жоны на имя единому Уколу и другому Василию Подлобкам которое меистце локоть единъ з еднои стороны Максима, а тылом от цекавзы, то имъ записую и лягую…

### 15.4.2. З ІНТЭРМЕДЫІ “МАЦЕЙ І ДОКТАР-ШАРЛАТАН”

…М а ц е й. А вей, а вей! Вох, вох, вох! Вот, мае паночки, быв я у пана Барановскаго на куцьи. Да як падъев куцьи, дак не могу сопци. Што мая Ульяна ни робила! И горщок на пупе становила. Да и тое не памагло, да яще горш прилягло. Порадзили мне галасу купервасу, да бурачнага квасу, моху, чартапалоху и яшчэ нечага, забывся, троху, – усё гэта зелье скалациць да выпиць. Зробив я и гэся. Не памагло. Еще горш прилягло. Вот каб нашовся дактарочэк да палячив мой животочэк, – отдав бы яму и торбачку и мяшочэк.

Д о к т а р - ш а р л а т а н (*выходзе*). Што тобе, мужик?

М а ц е й. А вот, паночэк, несправность, бурченья, резачка, обенбенило, як Антонову козу!

Д о к т а р. Кладзися, мужик! Як цябе завуць?

М а ц е й. Мацей.

Д о к т а р (*б'е яго палкай, прыгаварвае*). Поцей, пане Мацей!

М а ц е й (*устае, а доктар уцякае*). Ах, лихо тваей мацяри! Напацев, намацев, да и сам к чорту паляцев! Вот каб дагнав, вот бы у плечки нагрукотав!..

# 15.5. ПЕРЫЯД НОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ (19 ст.)

## 15.5.1. ВЕРШАВАНЫЯ ТВОРЫ І ЎРЫЎКІ З ІХ

### 15.5.1.1. ПЕСНЯ БЕЛАРУСКІХ ЖАЎНЕРАЎ

Помнім добра, што рабілі,
Як нас дзёрлі, як нас білі,
Дочкі, жонкі нам гвалцілі.
Трэ, каб мы ім заплацілі!
Дакуль будзем так маўчаці?
Годзе нам сядзець у хаце!

Здрада ёсць ужо ў сенаце.
А мы будзем гніць у хаце?
Нашто землю нам забралі?
Пашто ў путы акавалі?
Возьмем косы ды янчаркі,
Пачнем гордыя гнуць каркі!

### 15.5.1.2. ТАРАС НА ПАРНАСЕ (урывак)

…Калі зайграў дудар “скакуху”,
Ніяк Тарас наш не ўцярпеў,
І ад парогу, што ёсць духу,
Скакаць на хату паляцеў.
Як стаў прытоптываць атопкам,
Аж рот разявілі багі:
То ён прысвісне, то прытопне,
То шпарка пойдзе ў кругі.
Глядзеў Юпітэр і дзівіўся,
І пад дуду ў ладоні біў,
Ў канцы к Тарасу прыбліжыўся
І так яго перапыніў:
“А ты адкулечка, прыяцель?
Зачым прыйшоў ты на Парнас?
Ты хто такі? Ты не пісацель?”
“Не, мой панок! – сказаў Тарас, –
Я палясоўшчык з Пуцявішча,
Чуць золак сёння са двара,
Прыйшоў сюды я апаўдні шчэ,
Ды ўжо дадому мне пара.
Ці не была б, паночак, ласка
Адсюль дамоў мяне завесці?
Хадзіўшы па гары Парнаскай,
Мне дужа захацелась есці.
Ды і сварыцца будзе жонка,
Што я дасюлечка не йду.
Куды ж ісці, ў яку старонку,
Калі дарогі не знайду?”
Кіўнуў Зевес – і мігам Геба
Крупені ў міску наліла
І добрую краюху хлеба,
Сказаўшы: еж, – мне падала.
Крупені смачнай пахлябаўшы,
Усіх падзякаваў багоў;

Кашэль за плечы прывязаўшы,
Сабраўся ўжо ісці дамоў.
Але зефіры падхапілі,
Хто за руку, хто за паяс,
І, як бы птушкі, паташчылі
Яны мяне цераз Парнас…

### 15.5.1.3. ПАЎЛЮК БАГРЫМ

## ЗАЙГРАЙ, ЗАЙГРАЙ, ХЛОПЧА МАЛЫ…

Зайграй, зайграй, хлопча малы,
І ў скрыпачку і ў цымбалы,
А я зайграю ў дуду,
Бо ў Крошыне жыць не буду.

Бо ў Крошыне пан сярдзіты,
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача:
"Дзе ж ты пойдзеш, небарача?"…

Дзе ж я пайду? Мілы божа!
Пайду ў свет, у бездарожжа,
У ваўкалака абярнуся,
З шчасцем на вас азірнуся.

Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчасліўшая ты бы была!

Каб я каршуном радзіўся,
Я бы без паноў абыўся:
У паншчыну б не пагналі,
У рэкруты б не забралі
І ў маскалі не аддалі.

Мне пастушком век не быці,
А ў маскалях трудна жыці,
А я і расці баюся,
Дзе ж я, бедны, абярнуся?

Ой, кажане, кажане!
Чаму ж не сеў ты на мяне?
Каб я большы не падрос
Ды ад бацькавых калёс.

### 15.5.1.4. ВІНЦЭСЬ КАРАТЫНСКІ

## ГУТАРКА СТАРОГА ДЗЕДА (урывак)

Эй, скажыце, добры людзі,
Што ўжо на свеце будзе,
Ці то так судзіў бог з намі
Гінуць век пад маскалямі?
Як пачалі ваяваці,
Магазыны сталі браці:
У абоз вязці ўсё збожжа,
А народ – хоць гінь, нябожа.
І, забраўшы ўсё із хаты,
Сталі браці ў салдаты,
Кідай жонку, дзеткі ў дому,
Едзь у калодцы, да прыёму.
Там лоб голяць і муштруюць,
Б'юць, і ломяць, і катуюць,
Глодзяць, глумяць, як скаціну
На зарэз без дай прычыны.
А як войска непатрэба,
Дык салдат шукай сам хлеба!
Шле дамоў, хаця не знае,
Ці каторы дом свой мае.
Толькі кажуць: не хавайся,
Зараз на прыказ стаўляйся.
Несці боты, стрыцца, брыцца,
Хоць не маеш чым пражыцца.
Людзі лепш даўней тут жылі,
І другіх дабру вучылі,
А чужы, чаго не знае,
Той на ліха навучае.

Дзе жандар званкамі звягне
То ўсіх у вастрогі цягне,
Ці ўбогі, ці багаты –
Ад работы цягнуць з хаты.

Ўсе чыноўнікі збыткуюць,
Абдзіраюць і катуюць,
Глумяць, крыўдзяць, разбіваюць,
Жаліцца не пазваляюць.

## 15.5.1.5. ВІНЦЭНТ ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ

### ГАПОН (урывак)

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажны курыцца чупрына.

Гаспадары за сталом
Громка гутарку вядуць,
А ляндарка з лендаром
Мёд, гарэлку раздаюць.

Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чараўніцы
Цішком ля печы сядзяць.

Ананя на скрыпцы іграець
"Лявоніху", то "бычка",
Гапон жару паддаваець:
"Зыграй,крычыць,"казачка"!

Аж юкнула Кацярынка,
Так задаў ёй кулаком,
"Хадзі, мая ты малінка!" –
Дый затупаў хадаром.

"Ананя, рэж вясёлы!"
Крычыць громка наш Гапон
Дый, сабраўшы ў світцы полы,
Мэрам хохлік! Мэрам ён!..

То ўпрысядкі выкідаець,
Ажны стогнець пад ім пол,
То галубца падбіваець,
Ажны трасецца хахол.

"Ах, ух! Давай жару,
Давай болі, давай пару!" –
Крычыць Гапон дый гуляець,
Пад скрыпачку падпяваець.

### ВЕЧАРНІЦЫ (урывак)

...Стары малітву якусь прашаптаў,
Перахрысціўся – дык гэтак начаў:

"Мо'а і праўда дзеткі, што ў Слуцку,
Кажуць, усё не па-людску;
А ў Оршы
Яшчо горшы!

Толькі тым, маўляў, людзі злыя грэшуць,
Што на Мінск наш вельмі брэшуць,
Няма як Мінск наш! – дзетачкі міленькі!
Прыгожы, відны, кругом весяленькі;
Ні адной мізэрнай не сустрэнеш хаты,
Вот, маўляў, снег белы, каменны палаты;
Пасярэдзіне ўецца круглай стружкай
Свіслач-рака – зялёнай устужкай;
Вот не урокам – горад хоць куды!
І цару б тут не было б нуды!.."

## МАЯ ДУДКА (урывак)

… Цяпер зраблю дудку
Ад жалю, ад смутку.
Га! Зраблю ж другую,
Жалейку смутную,–
Ды каб так заграла,
Каб зямля стагнала,
От каб як заграла:
Каб слязьмі прабрала,
Каб аж было жудка,
От то мая дудка!…
Вот зрабіў такую!
Дай жа папрабую…
Ну дык грай жа,
Грай жа,
Усё спамінай жа…
Штодзень і штоночы,
Плач, як мае вочы…

## ДУРНЫ МУЖЫК, ЯК ВАРОНА

…Да навукі ён не браўся,
Закасіўся, заараўся;
Дурнем умрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся.
Ведама, мужык – хамула –
Ад навукі адвярнула!
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!…
Глядзі! Горы паразрыты,
А чыгункай свет абвіты:
Ўсё з мужыцкай цяжкай працы,
Усе едуць у палацы;
У мужыка ж няма білета!
Ці ж не дурань мужык гэта?
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!

## З ІНШЫХ ВЕРШАЎ

Вецер дзьме і вые,
Што аж мыслі рвуцца.
Змоўклі песні тыя,
Што іграў на дудцы.

Раз яшчэ зайграю
У астатняй хвілі
Для тых, што жаль маю,
Што мяне забылі…

15.5.1.7. Ф.ТАПЧЭЎСКІ

## ВЕЧАРЫНКА (урывак)

...Разам скрыпкі падхвацілі, і басэтля завяла,
Усіх як ёсць аглушылі, тут пацеха і пайшла.
Пачаў першы ў акулярах пан парадак завадзіць,
А за ім усе ў парах сталі мазурку хадзіць.
Кожны рукі растапарыць і ляціць, вот як арол,
Ляпне нагой ды падкіне, скрабяне падошвай пол.
Стук ды топ напераменку, разам верць, як на шрубе.
Абайме за стан паненку дый шавырк каля сябе.
Раз ды два кругом абкруціць, абхваціўшы яе стан,
После – фурт! Крыху адпусціць, дый пайшлі ізноў у тан.
Толькі пырхаюць іх полкі, валюць, знай, наперавал,
А паненкі дрыб-дрыб толькі, мусіць, шаг іх троху мал.
Як у корні, паніч смаліць, яна – у прысцежцы ідзець,
Сам шырока ногі ставіць, тая дробненька сячэць.
Як самлеюць ужо ногі, ідуць цішай раз-параз,
Разам – верць, сайдуць з дарогі, к крэслам падайдуць якраз...

15.5.1.8. ЯНКА ЛУЧЫНА

## РОДНАЙ СТАРОНЦЫ (урывак)

Ты параскінулась лесам, балотамі,
Выдмай пясчанай, неўраджайнаю,
Маці-зямліца, і ўмалотамі
Хлеба нам мерку не даш звычайную...

Дасць бог, крывавым потам аратаму
Здабрыць пясчану зямліцу здарыцца,
Быць добра сытаму, хоць не багатаму,
А дзеля празніка і чарка нам зварыцца.

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай ніваю,
І будуць жыць дзеткі патомныя
Добраю доляй – доляй шчасліваю!..

15.5.1.9. К.КАГАНЕЦ

**НА МАБІЛІЗАЦЫЮ (урывак)**

Загудзелі лясы-боры,
Засвісталі ветры ў полі!
Застагналі бацькі, браты,
Зажурылісь кумы, сваты;
Загаласілі жонкі, маткі,
Заплакалі і дзяўчаткі.
Аб'явіў бо цар па сёлах,
І па маестах і па дворах
Сабірацісь усім мужчынам,
Запасным, бо "ніжнім чынам"
І ў Манчжур'ю дзесь ступаці,
Кроў гарачу праліваці,
Бо яго святлейшым панам
І праслаўным генералам
У патрэбе сталі грошы
Для іх лепшае раскошы, –
То на трункі, то на карты,
То на розны смачны жарты...

15.5.1.10. ЦЁТКА

**ЛЕТА (урывак)**

Ніва шуміць каласамі
Жыта спелага, аўса;
Уся прыбрана васількамі.
Як дзяўчына да вянца.
Вецярок па ёй гуляе,
Клоніць колас да зямлі,
Сонца зерне налівае,
Бусл клякоча на гумні.
Гаспадар бяжыць з касою
На зялёну сенажаць,
Спяшыць выкасіць з расою,
Смаглей, гладчэй траву сцяць...
А згляні на нашу вёску:
Ўвесь палетак аж гарыць!
Так, як пчолы ў жоўтым воску,
Як алтар, так зіхаціць!
Як бы з стужак, як бы з кветак
Дыван пекны ткач саткаў,
Як бы з руты ды нагнетак
Букет велькі май уклаў...
І спрабую, мо змалюю
Нашу Касю, мо счарую,

Вочы – неба, броў – чарненька,
Гарацъ шчокі, з губ – маліны...
А мая жа ж ты міленька!
Не спаткаў такой дзяўчыны,
З такім жарам, з такім спрытам.
А галоўка, як бы з жытам,
Як пшаніца каласамі,
Залаціцца над грудзямі.
Доўгі косы вянком уюцца,
Зубы белыя смяюцца.
Стан танюткі, як былінка,
Ну і Кася, ну дзяцінка!
Як царэўна, як багіня!
Як нарцыса, як вяргіня!
Як лілея на Дунаю,
Як пралеска сярод гаю...

## 15.5.2. УРЫЎКІ З ПРАЗАІЧНЫХ ТВОРАЎ 19 СТАГОДДЗЯ

### 15.5.2.1. УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ

### ЛІСТЫ З БЕЛАРУСІ

Справа вялікага значэння як збіраць з чыста гістарычнай мэтай легенды, што маглі застацца з часоў дахрысціянскай славяншчыны, так і па-мастацку ўзнаўляць у паэзіі тую мінуўшчыну, што сінеецца з імглы вякоў, – мінуўшчыну, некаторыя звесткі аб якой запісала для нас гісторыя, а некаторыя мы выкапалі з курганоў. Здаецца невялікі запас, але і з гэтага нямногага геніяльны паэт можа стварыць рэч гамеравай моцы, – бо чаго яму не даскажа кніжка або старая магіла, тое можа ён знайсці пад саламянай страхой народа, які ў паданнях, казках, прыказках, забабонах і мове захаваў яшчэ многа дахрысціянскага элементу. Спасцігнуць усё гэта, умець падслухаць біццё сэрца гэтага народа, умець ключом уласнай шчаслівай інтуіцыі прачытаць іерогліф паданняў, умець пакласці на палатне мінуўшчыны фарбы і контуры, якія асыпаліся вякамі, – вось задача паэта, вось яго шырокая ніва...

### 15.5.2.2. В.ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ

### ПІНСКАЯ ШЛЯХТА (урывак)

К р у ч к о ў. Тише! (*Куліна са страху адыходзіць ад стала ды хаваецца за мужа; Кручкоў, трымаючы паперу, устае, ды, не пазіраючы на шляхту, гаворыць).* По указу Пинского земского суда от 23 мая сего года за № 2312 прибыл я в околицу для расследования уголовного дела о побоях, нанесенных Тихоном Протосовицким Ивану Тюхаю-Липскому... Ліпскі, маеш сведкаў?

Л і п с к і. Маю, найяснейшая карона.

К р у ч к о ў. Пусть выступят вперед! (*Трое шляхтаў выходзяць наперад*). Пратасавіцкі, за што ты яго біў?

Ц і х о н. Дык ён жа назваў мяне мужыком, – хрэн яму ў вочы!

К р у ч к о ў. Маеш сведкаў?

Ц і х о н. Маю, Куторгу.

К р у ч к о ў. Яго няможна ставіць, – ён пад судом. (*Абярнуўшыся да сведкаў Ліпскага*). Вы бачылі, як Пратасавіцкі біў Ліпскага?

Т р ы  с в е д к і (*боязна кланяючыся*). Бачылі, найяснейшая карона!

К р у ч к о ў (*абярнуўшыся да іншай шляхты*). А вы бачылі?

У с е  і н ш ы я. Не, не бачылі, найяснейшая карона!

К р у ч к о ў. Ну, дык добра! Следство кончана, цяпер будзе суд, а наўперад: по указу всемилостивейшей государыни Елисаветы Петровны 49 апреля 1893 года и всемилостивейшей Екатерины Великой от 23 сентября 1903 года, а равномерно в смысле Статута литовского раздела 8-го, параграфа 193-го, коим назначается в пользу суда от тяжущихся гривны. Обжалованны Протосовицкий имеет зараз же уплотить пошлин 20, прогонных 16 и на канцелярию 10 рублев. Жалующийся Липский в половине того, сведкі, каторые бачылі драку, а не баранілі, – па 9-ці рублев, а вся прочая шляхта, што не бачыла дракі, за тое, што не бачыла, – па тры рублі. Плаціце! (*Садзіцца на месца ды піша; шляхта шэпчацца паміж сабою, пасля выбраны ўсімі зборшчык Цімох Альпенскі падыходзіць да Пратасавіцкага, Ліпскага і іншае шляхты, збірае грошы і, злажыўшы грошы ў адзін мяшок, падносіць, баючыся, да станавога ды кладзе на стол*).

Ц і х о н (*адлічыўшы зборшчыку грошы, калі той пайшоў збіраць ад другіх*). Э... глядзі ты! Як ён на бяду нашу ўсе ўказы і законы як рэпу грызе і не заікнецца, – хрэн яму ў вочы!

К у л і н а. Чаго тут дзівіцца? Відаць, судовы чалавек, дык ён на тым і зубы згрыз, – такая, бач, парода.

К р у ч к о ў (*як Альпенскі палажыў на стол грошы*). А ўсё?

А л ь п е н с к і. Да капеечкі, найяснейшая карона!

К р у ч к о ў. Ладна, ідзі! Зараз будзе дэкрэт.

Ц і х о н. Ух, госпадзі! Што гэта будзе, – хрэн яму ў вочы?!

К у л і н а. А што будзе? Вядома, юрыста, – абдзярэ ўсіх дачыста дый паедзе з богам да хаты.

Ц і х о н. Хрэн табе ў вочы, – каб пры наймні шкура была цэла, а то як дабярэцца да яе, будзе нячысты інтэрас.

### 15.5.2.3. КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

## МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА, № 3

Дзецюкі!

Жывучы пад рондам маскоўскім, кожны ведае, што ён нас абдзірае і глуміць; но мала хто добра падумаў, чы можна ад яго спадзявацца чаго для нас альбо для дзяцей нашых. Я, дзецюкі, лепш знаючы ад вас, напісаў пісьмо, каб не маглі туманіць розуму вашага. Для таго чытайце з увагаю, а як перачытаеце, давайце да другой вёскі.

Чалавек то такую мае натуру, што альбо нічога не ведае і нічога меці не хоча, альбо калі даведаецца, то хоча зразумеці добра і дастаці ўсенька, што яму належыць. Гэта вялікая праўда. От яшчэ нядаўна гаварылі іншыя, што яны створаны для таго, каб служылі паншчыну і былі нявольнікамі, а гаварылі для таго, што нічога не ведалі і нічога меці не хацелі. А чы сягоння гэтак скажуць, калі ўжо ведаюць многа і многа хочуць? Сягодня ўжо ўсе паразумнелі, усе ўжо мужыкі талкуюць, што бог стварыў чалавека, каб ён карыставаў з вольнасці справядлівай, і смяюцца, як гэта маглі інакш думаці. Гэта права, што народ робіцца разумнейшым, выходзіць ад самога бога, а хто яму схоча спраціўляцца, таго альбо сам бог, альбо народ па прыказу боскаму з зямлёй змяшае!

Вы, дзецюкі, пэўна, вельмі цікавыя, скуль жа гэты народ так паразумнеў? Я вам скажу, скуль гэта.

Калі француз пад Севастопалем саўсім пабіў маскаля, то для таго, каб маскаль не меў сілы і грошай, прыказаў народу даць вольнасць, не браць рэкрутаў і вялікіх падаткаў. Маскаль згадзіўся на гэта, бо думаў, што народ дурны і патрапіць яго ашукаці. Ён-то хацеў адно: перамяніць няволю. Но, бачу, вельмі ашукаўся, бо хаця нам ронд маскоўскі нічога ў шэсць лет не зрабіў, но мы як пачулі, што і мужык можа быць вольны, так пачалі пытацца ў людзей разумнейшых і талкаваці паміж сабой, аж зразумелі, што вольнасць значыць. От скуль гэта ўзялося, што народ паразумнеў. Мы сягодня ўсе ўжо ведаем, што чалавек вольны – гэта калі мае кусок сваей зямлі, за каторую ані чыншу і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць, калі плаціць малыя падаткі, і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці свой край тады толька, калі які непрыяцель надыдзе, калі робіць усенька, што спадабае і што не крыўдзіць бліжняга і хвалы боскай, і калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзяды і прадзеды. От што вольнасць значыць! Сягодня-то ронд маскоўскі нас не атуманіць, бо мы цяпер не такія дурныя, як былі ўперад, і пазналі, што нам не маніфестаў царскіх, а вольнасці патрэба...

## № 4

...У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе саўсім перарабіці на маскаля. Суды маскоўскія – гэта воўчая яма, гдзе не разбіраюць, чы за табой праўда, чы не, а скубуць адно як могуць. Бяспечнасці пад маскалём ніякай няма, хто дужэйшы, той і глуміць; а войска то не для таго трымаюць, каб аберагці кожнага ад злых людзей і ад глуму, а для таго, каб не пазволіць народу і застагнаць, калі пазнае сваю няволю, калі згледзіцца, што дзяруць з яго над сілы. Ронд маскоўскі, як той ліхі пан, што, пачаўшы ад камісара аж да цівуна, пазваляе кажнаму народу глуміці, каб як найбольш грошай у кішэнь яго дасталося. Ронд, маскоўскі, дзецюкі, не так робіць, як рабіці трэба, не думае, каб палепшыць народу, а вымышляе адно спосабы, як абадраці і саўсім людзей зглуміці...

## ПІСЬМО З ПАД ШЫБЕНІЦЫ

...Прымі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як бы з таго свету толькі для дабра твайго напісана.

Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тады толькі, памаліўшыся богу, заслужыць неба, бо, збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой шчыра палюбіць. Но як дзень з ночай не ходзяць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякой навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, но на пагібель нашу...

### 15.5.2.4. ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

## З ПРАДМОВЫ ДА “ДУДКІ БЕЛАРУСКАЙ”

Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, як з Польшчай з’ядналася дабравольна, дык усе яе “Б е л а р у с і я й" звалі, і недарма ж гэта! Не в я л і к а я,

не м а л а я, не ч ы р в о н а я, не ч о р н а я яна была, а б е л а я, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася.

Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі. Пазнаюць людзей ці па г а в о р ц ы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж г а в о р к а, язык і ёсць адзежа душы...

### ТРАЛЯЛЁНАЧКА

Вёска нашая, невялікая вёсачка, меж прыгоркамі, пры балотцы; на выган пясочак з прыгоркаў спёрла, тут і лес блізюсенька, лес хоць і чужы, але выгода ёсць... На канцы вёскі Бартак Сасок жыў. Цяжкі быў чалавек Сасок: за сваю шкоду, хоць з прыпадку зробленую, нікому не даруе, хоць залатоўку возьме, а сам, бывала, уночы конна сядзе і пайшоў чужыя межы спасываць; камення з свайго поля дык усё, бывала, цягае на чужое... Эй, нядобры быў чалавек: як пазыча суседу рубель, то яму трэба дзень араць, дзень касіць, дзень жаць, кожны дзень па грошу працэнт аддаць, а рубель рублём. Пазыча табе бульбы на насенне – то ўжо сей напалавіну і насенне насеннем аддай – і ўсё гэтак! Купе, бывала, у скарбовым лесе крадзеную калоду, такую, што пара коней як зрушыць, а сам па яе не паедзе – суседаў пашле: удасца – добра, а зловяць – яны прапалі! От які быў Бартак! Бывала, шапкі здымаем прад ім, як прад панам, бо ў яго і пісар, і старшыня – прыяцелі, з акцызнікам у мястэчку, як з кумам, вітаецца, дык як жа тут шапкі не зняць? А можа, думалі, і ён старшынёй будзе?.. Суддзёй ужо ж ён і тагды быў. Даўно, праўда, усё гэта было, але было!..

## 15.5.2.5. АЛЬГЕРД АБУХОВІЧ

### ДЗЯДЫ

Увосень народ наш святкуе паганскае яшчэ свята Дзядоў. Хрысціянізм заўсёды шанаваў гэтае свята, каторае ўлівала народу веру ў бяссмерце душы. Вёскі, не зважаючы на непагадзь, пануючую ў гэтым часе, маюць святочны выгляд. Сцены ў гасподах вымыты дабяла, каб душы дзядоў маглі з уцехай прыбліжацца да вокан і ўглядацца радасна на бяседуючых сваіх нашчадкаў. Мыслі кружацца і налятаюць, як чалавек аб гэтым падумае: можа гэтаксама налятаюць і кружацца наўкол духі дарагіх нашых нябожчыкаў...

## 15.5.2.6. АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ

### АДАМ МІЦКЕВІЧ НА БЕЛАРУСІ

...Знаходзіць ён (А.Міцкевіч.– *Б.П.*) у беларускай гаворцы самыя чыстыя першародныя помнікі першабытнай агульнаславянскай мовы, старажытнасць якіх можна параўнаць з грэка-лацінскімі песнямі. Сцвярджае далей, што беларуская мова, малазразумелая для велікарусаў, мае сваю выдатную, незалежную, здзіўляюча жыццяздольную адметнасць і ніколі не адчувала, як памылкова мяркуюць, уплыву польскай або рускай мовы, а, наадварот, паглынала гэтыя ўплывы і пераварвала іх у сабе, таму трэба прызнаць за ёй права на існаванне як органа духу некалькіх мільёнаў тыповага народа, а ўсякі замах на гэту святую спадчыну славяншчыны можа прынесці толькі маральную шкоду народу і літаратуры, асабліва рускай, паколькі ў старажытнай песні беларусаў хаваюцца самабытныя скарбы паэзіі; мінскі ж паддыялект, паводле згаданага аўтара, самы

чысты і ўзорны ў беларускай гаворцы... У лекцыі 6 1842 года Міцкевіч даводзіць перавагу ў часы Пятра Вялікага беларускай мовы, што была калісьці ў Літве афіцыйнай і ўжывалася пры двары, у адносінах да велікарускай і маларускай гаворак...

### 15.5.2.7. КАРУСЬ КАГАНЕЦ

#### ПРАМОВА

Гэй, хлопцы, брацця мае, а сыны Зямлі Беларускай, каторая раскінулася ад Гродна да места Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзвіны перакінулася! Кіньце ўвокал вокам, сабярыце харашэнька думкі і скажэце, ці павінна так быць, як цяпер ёсць? Ці справядліва гэта – усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй? А ведаеце тое, што мова наша калісь слаўнай была, і быў час, калі наша мова працвітала пры двары каралёў польскіх. Ведайце, што спамеж вас больш другіх народаў славянскіх, слаўных людзей выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам і ваеннымі заслугамі.

Колькі то вучоных людзей, колькі то слаўных казакаў, ваявод і гетманаў наша зямліца выгадавала?

Адно нядобра, што кожны славу прыносіць не сваёй старонцы, а ўсё чужым. Прымерам кажучы, як той Галубок, просты селянін зямлі Навагрудскай, што са сваёй сотняй казакаў ці мала славы прыдбаў палякам так, што і песні аб ім склалі. А ў нас? Ці ведае хто яго?

І бяру я гэта ўсё на вум, і здаецца мне, што хутка саўсім загіне наш народ, бо яшчэ за гадоў трыста таму, як паны, так і халопы свае мовы не саромяліся: і гаварылі, і пісалі ўсё па-свойму. Потым мала-памалу паны сталі сваіх звычаяў чурацца, сталі свае парадкі і мову сваю пакідаці ды польскую пераймаці ды так, што далей-болей, аж саўсім палякамі сталі. На паноў гледзячы, сталі і сяляне апратку сваю мяняць на нямецкую і мову калечыць. Нават сваіх спяванак пачынаюць саромяцца, мужыцкімі называюць.

Але не! Наш народ не загіне, і прыйдзе такая часіна, што прачнецца наш русьняк і скажа суседзям так: "Служылі мы вам – заплацеце вы нам! Нам грошай не трэба, бо свайго хопіць хлеба. А скажэце нам толькі:"Беларусы вы!" Вось толькі!

Ды і красна ж бо наша зямліца, усе выгады мае: і скіба ўрадлівая, і лесу багата, і сена аж надта. І рэчак сплаўных многа, а па краёх, як бы ад ворага абгароджана пяском, балотамі ды цёмнымі лясамі. Вось выйдзі толькі дзе-небудзь на гару, пад гай зялёны, ды азірніся на свет божы! Так душа твая і зрадзее.

## 15.6. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў 20 СТАГОДДЗІ

### 15.6.1. ВЕРШАВАНЫЯ ТВОРЫ І ЎРЫЎКІ З ІХ

ЯНКА КУПАЛА

#### МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны ўзняў дружным гоманам.
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным...

Зіхаціш і гуслярскаю песняй звініш,
Узнімаеш мінуўшчыну даўную;
Час сягодняшні ўперад ісці не пыніш
І глядзіш смела ў будучнасць тайную.

Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая.

Ад мяжы да мяжы, ад капца да капца
Абнаўлення павевы расходзяцца
Абмінае душа без граніц, без канца
Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца…

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

## ЗА ЎСЁ…

За ўсё, што сёння маю,
Што даў мне мой народ:
За кут у родным краю,
За хлеб-соль без клапот, –

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.

Для бацькаўшчыны беднай,
Для ўпаўшых яе сіл
Складаў я гімн пабедны
Сярод крыжоў, магіл.

Змагаўшыся з напасцяй
За шчасце для людзей,
Не раз пісаў у няшчасці
Крывёй з сваіх грудзей.

Уносіў гэтым долю
Сваю для ўсіх дабра,
А болей… Што ж там болей
Жадаць ад песняра?!

ЯКУБ КОЛАС

## РУЧЭЙ

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць, і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

Як матулька, вярба
Хіліць голаў над ім,
І глядзяцца кусты
Пышным верхам сваім.

Часам зорка ўначы
На яно кіне зрок,
І хмурынка не раз
Зазірне ў ручаёк.

І схіляе трава
Над ім пасмы-брыжы,
А ён, жэўжык-пястун,
Гучным смехам дрыжыць.

То заскочыць у гай,
То курган абаўе,
Дзе сярдзіта бубніць,
Дзе лагодна пяе.

Люба слухаць той спеў,
Несціханы, густы,
І пад песні яго
Адпачынеш і ты.

## З ПАЭМЫ "НОВАЯ ЗЯМЛЯ"

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.
О, як бы я хацеў спачатку
Дарогу жыцця па парадку
Прайсці яшчэ раз, азірнуцца,
Сабраць з дарог каменні тыя,
Што губяць сілы маладыя,–
К вясне б маёй хацеў вярнуцца...
Вось як цяпер, перада мною
Устае куточак той прыгожа,
Крынічкі вузенькае ложа
І елка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час кахання,
Ў апошні вечар расставання...

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## ПА-НАД БЕЛЫМ ПУХАМ ВІШНЯЎ...

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.

Навакол усё паветра
Ў струнах сонца залатых,–
Ён дрыжачымі крыламі
Звоніць ледзьве чутна ў іх.

І ліецца хваляй песня
Ціхі, ясны гімн вясне.
Ці не сэрца напявае,
Напявае яго мне?

Ці не вецер гэта звонкі
Ў тонкіх зёлках шапаціць?
Або мо сухі, высокі
Ля ракі чарот шуміць?

Не паняць таго ніколі,
Не разведаць, не спазнаць
Не даюць мне думаць зыкі,
Што ляцяць, дрыжаць, звіняць.

Песня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны свет.
Але хто яе пачуе?
Можа, толькі сам паэт.

## МАЛАДЫЯ ГАДЫ...

Маладыя гады,
Маладыя жадання!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасце кахання.

Помніш толькі красу,
Мілы тварык дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.

Цёмны сад – вінаград,
Цвет бяленькі вішнёвы, –
І агністы пагляд,
І гарачыя словы.

Будзь жа, век малады,
Поўны светлымі днямі!
Пралятайце гады,
Залатымі агнямі!

К.БУЙЛО

## ЛЮБЛЮ

Люблю наш край – старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.
І рэчку, што імкліва воды
Імчыць у нязведаную даль,
І схілы берагоў пясчаных,
І яснасць чыстых яе хваль…
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны галасна над нівай
Пераліваюцца – плывуць.
Усё ў тым краі сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з гора першаю слязой.

К.СВАЯК

## НЕ ЧАРУЙ

Не чаруй мяне ты зорам,
Не чаруй красой:
Не чаруй сваім ты горам,
Не чаруй слязой.
Не чаруй ядвабнай коскай,
Ні вусноў агнём…
Не чаруй усмешкай боскай,
Ні святым жыццём.
Не чаруй дзявочым станам,
Не чаруй грудзьмі…
Каб не быў я пакараны
Богам і людзьмі.

К.КРАПІВА

## ЯЗЫЧОК

Вось дык ладзіць!
Вось дык гладзіць!
Вось дык ліжа!
Ніжай! Ніжай!
Яшчэ вазьмі
Вось тут лізні
Разоў ля ста,
Каля хваста.

Вось так! Вось так!
Дальбог, мастак!
Што ні скажа –
Маслам мажа
З плеч да лытак
Вось дык крытык!
Вось бы гэты язычок
У прыбіральню на цвічок!

У.ДУБОЎКА

## О БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА

О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
на дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй пад колер сталі,
праменне яснае люблю…

Варожасць шляху не зачыніць:
у перашкодах дух расце.
О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны свет.

Н.АРСЕННЕВА

## МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменне Свае хвалы.
Дай спор у працы, будзённай, шэрай,
на хлеб штодзённы, на родны край,
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласць – дай!
Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!

П.БРОЎКА

## АЛЕКСАНДРЫНА

Мне не забыцца песні той даўняе вясны:
– На Мурамскай дарожцы стаялі тры сасны...

Хадзілі мы, спявалі, і з песняй ты цвіла.
Александрына, помніш, якою ты была?

Цяпер магу прызнацца, тады пачаў кахаць,
Цябе з ніякай кветкай не мог я параўнаць.

Сказаць, што васілёчак, дык фарба ў ім адна,
Сказаць, што ты лілея, – сцюдзёная ж яна.

Сказаць, што ты званочак... Ды ўсіх жа мала іх!..
Такою ты здалася ў семнаццаць год маіх.

Мінула часу многа. Мне навявалі сны,
Як дзесьці на дарожцы стаялі тры сасны.

Прайшла вясна, і лета, і восень, і зіма...
Александрына, дзе ты? Шукаю я – няма!

Л.ГЕНІЮШ

## ТОЛЬКІ ЧЫСТЫЯ СЭРЦЫ ПЯЮЦЬ

Толькі чыстыя сэрцы пяюць.
Толькі птушкі, вітаючы сонца,
ды калі свае гнёзды ўюць,
звоняць песнямі ў неба бясконца.

Гэты подзьмух жывучай вясны,
ясных промняў няўлоўная жменя
прабудзіла кругом галасы
маладосці, сілы, квітнення.

Сум праходзіць мінулай зімы,
заміраюць нягоды жыццёвыя,
падымаецца радасць з зямлі,
сакавіцкім павевам адноўленай.

Сіла крылаў не знае граніц,
абмінаючы сцежкі глухія,
п'е душа з першародных крыніц
беларускай адвечнай стыхіі.

Вырываецца песня ў свет
моцнай прагай дабра і свабоды
за птушынымі песнямі ўслед.
І паэты птушынага роду.

М.ТАНК

## ЗВОН КРОПЛЯЎ

Поле ўздыхнула
Світальнай песняй,
Якая разгарэлася зарой
І разбудзіла вочап студні,
Пара ўставаць.
А я ўсё слухаю,
Як звініць у маім юнацтве
Звон кропляў з вядра.
Звон кропляў.
Звон…

С.ГРАХОЎСКІ

## ДОЎГАЕ РЭХА

Я адзін каля вогнішча ў полі.
Толькі іскры мігцяць і мігцяць,
То знікаюць у дыме паволі,
То да зор таямнічых ляцяць.

Я адзін. Толькі вецер трывожна
У ракітніку голым гудзе.
Можа, у полі зблудзіў падарожны
І дарогу не знойдзе нідзе.

Я гукаю, і доўгае рэха
У асеннее поле плыве,
Замаўкае альбо на пацеху
Азываецца сумнай саве.

Я адзін каля вогнішча ноччу.
Толькі ўласны гайдаецца цень.
Я на зоры гляджу і прарочу
Ясны ранак і сонечны дзень.

А.КУЛЯШОЎ

## ДА ПАЭЗІІ

Я – вязень твой, а ты – мая турма,
Асуджан я любоўю пажыццёва.
Зняволенне маё датэрмінова
Ты скараціць спяшаешся дарма.

Дарэмна, заняволіўшы другога,
Ты варту памяншаеш мне ўдвая –
Не мае сэнсу гэта засцярога
І гэтая прадбачлівасць твая.

Я не збягу, пазбаўлены нагляду,
Не перастану ланцугом грымець,
Штодзень хадзіць на шпацыр па раскладу,
Галадаваць і ў карцэры калець.

Не можаш ты мяне пазбавіць мовы,
Змяніць мой лёс уладаю сваёй,
Не ты мяне абрала – вязень твой
Абраў цябе на тэрмін пажыццёва.

М.СЯДНЁЎ

## ВІДЗЕННЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Як толькі песняй сваёй зайдуся –
і Бацькаўшчына ў сэрца хлыне мне,
і лёгка робіцца ў начной задусе,
і быццам не наяве, а ў сне.

Здалёк чалом ківае мне як быццам –
няўцешліваму сыну ў чужыне.
Іду як праз туман, хачу прабіцца,
ды сам не ведаю, ці гэта я, ці не.

Спыняюся, чакаю – ды няма прывету.
Спяшаюся – хоць ногі коляць хмызнякі...
Бо што мілей выгнанніку-паэту,
чым вобраз твой – далёкі і блізкі?

П.ПАНЧАНКА

## РОДНАЯ МОВА

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.

Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.

Калі ж хто загадае: “Не трэба!” –
Адрачэцца ад мовы народ, –
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.

Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі...

Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю –
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

А.БАЧЫЛА

## РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві:
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві...

Я радасць сваю не стрымаю –
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма...

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві:
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві.

А.ПЫСІН

## ВУЗЕЛ

Не ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў;

Да кладак гладкіх,
Валуноў,
Да траў, жытоў на ўзлесках,
Да партызанскіх курганоў
І помнікаў гвардзейскіх...

Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел мой рассеч,
Не закрануўшы сэрца.

Е.ЛОСЬ

## БАРАЎЛЯНЫ, БАРАЎЛЯНЫ

Бараўляны, Бараўляны,
бор, зялёная трава,
дзьмухаўцовыя паляны,
залацістая жарства!..

Колькі міру колькі цішы,
колькі сонечнага дня!
Хвоя родная калыша
у дупле ваверчаня.

Спеліць ягаду суніца
конік скрыпачку бярэ...
Хтосьці крочыць да крыніцы,
хтосьці пашаньку арэ...

На травінцы пад вясёлкай
крошка-кропелька дрыжыць.
І спявае перапёлка
ў Бараўлянах: “жыць” ды “жыць”!

А.СТАВЕР

## ЖУРАЎЛІ НА ПАЛЕССЕ ЛЯЦЯЦЬ...

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.

Што ім тыя пагоды паўднёвыя!
Што ім пышны платанавы рай.
Калі клічуць іх далі сасновыя
І азёрны рабінавы край.

Сакавітыя пожні мурожныя
Не заменіш нічым і нідзе
І зямлю, дзе сцяжыначка кожная
У прыветлівы двор прывядзе.

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Зразумееш тады, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.

А.БАРСКІ

## МАЦІ

Твой твар быў сонцам
Над маёй калыскай,
Якое я крануў рукою,
Якому прыглядзеўся блізка.
Твой твар, як ветразь,
Над маёй калыскай
Вадзіў мяне
У мора казкі,

Вадзіў мяне ў мора ласкі
І зноў вяртаў мяне ў прыстань.
Твой твар
Быў над калыскай небам,
Небам зялёнага прадвесня.
Твой твар быў хлебам
І быў песняй.

Н.ГІЛЕВІЧ

## О, БЕЛАРУСЬ

О, Беларусь!.. – Няхай усклікну
І я – за волатамі ўслед.
Як пілігрым нясе малітву –
Так я нясу іх запавет.

Я скалясіў і змераў пешкі
Твае прасторы ўдоўж і ўшыр –
І ўсе шляхі, дарогі, сцежкі
Пакрыжаваліся ў душы.

Не знаю сам, якога зелля
Ты падліваеш мне ў пітво, –
Што гэтак моцна, гэтак хмельна
Тваё чаруе хараство…

Тваё імя яшчэ прамоўлю
Апошні раз, о краю мой!
Шчаслівы лёс – плаціць любоўю
Табе і жыць – адною ёй…

Р.БАРАДУЛІН

## ПРАЦЯГ ВЯКОЎ

На белай кашулі чырвоны пісяг
Ад злосці падступнага меча.
Бел-чырвона-белы балючы сцяг
Склікае на сумнае веча.

На веча,
Дзе ў вечнасці мусім спытаць,
Ці нам заставацца народам,
Ці толькі аб'едкі надзеі спытаць,
І моўкнуць, і глыбіцца ў одум.

Ці нам у агульным застоллі людзей
Паблізу ля покуці сесці,
Ці ціха чакаць, каб які дабрадзей
Наш хлеб не пярэчыў нам есці.

Узвіўся, як крык, на крыжацкіх касцях
І погань кіруе ў прадонне
Бел-чырвона-белы крывіцкі сцяг
У вечным памкненні Пагоні!

Г.БУРАЎКІН

**СЛОВА НАША...**

Слова наша роднае, хапала
На стагоддзі доўгія цябе.
Багдановіч, Колас і Купала
Прыпадалі да цябе ў журбе.
Адкідалі кпіны і абразу,
З дзён былых цягнулі ў заўтра ніць
І, хаця не ўсіх і не адразу, –
Навучылі усё ж цябе цаніць,
Вымытае ў гулкіх навальніцах,
Нам як запавет перадалі,
Каб пілі і не маглі напіцца
І ўзнялі на ўздзіў усёй зямлі...

Мова продкаў нашых і нашчадкаў –
Шэпт дубровы і пчаліны звон, –
Нам цябе ласкава і ашчадна
Спазнаваць ажно да скону дзён,
Па чужых краях не пабірацца,
Не аддаць цябе на забыццё,
Наша невычэрпнае багацце,
Наша несмяротнае жыццё.

В.ІПАТАВА

**ПРЫЯЗДЖАЎ СЧАРНЕЛЫ, ЯК СКАРЫНКА...**

Прыязджаў счарнелы, як скарынка,
Абдымаў калені ў тузе...
Я адказвала адно: жарынкі
Перапалены. Даўно. Усе.

Не давалася размове шчырай,
Пасміхалася з чужой бяды.
Ах, няма больш жорсткай, чым
жанчына –
Тая, што разлюбіць назаўжды!

Што халодны сустракае золак,
А ўначы глядзіць бяссонна ў столь.
У якой пад сэрцам, як асколак,
Даўняй здрады,
даўняй страты боль...

С.ЗАКОННІКАЎ

## ТРЫ АБЛІЧЧЫ

Калі вочы мае праясніла заранка
І жыцця расхінуўся абрус,
Над калыскай спявалі тады калыханку –
Маці,
каліна
ды Беларусь.

Недзе зараз у сцішанай хаце
Пра мяне журбоціцца маці.
Засыпае маю пуцявіну
Белым цветам надзей каліна.

І куды б не пайшоў – застаюся
Пад бусліным крылом Беларусі.

І трывогі абрынецца груз...
Тры аблічча...
Ім вечна за нас хвалявацца...
Маці
каліна
ды Беларусь.

А.РАЗАНАЎ

## АЛАДКА І БЛІН

Аладка гладкая, блін пульхны,
аладка ўдалая, блін файны,
аладка – латка, блін – лапік,
аладка – аўра, блін – німб.

Аладка пячэцца на патэльні,
блін – на блясе, аладка салод-
кая, блін "аблізны", аладка
лагодзіць згадку, блін – успамін.

Аладка – на Каляды, блін –
на Вялікдзень, аладка – на сня-
данак, блін – на абед, аладка
пахкая, блін бліскучы, аладка
ладкуецца ў далонь, блін плі-
шчыцца ў жменю, але аладка
гэткая ж смачная, як і блін, а
блін лепіцца з таго ж самага
цеста, што і аладка.

Я.ЯНІШЧЫЦ

## У ШУМЕ ЖЫТНЯГА СВЯТЛА

Яшчэ расці маёй трывозе
І не любіць – на паўкрыла.
Убачу маму на дарозе
У шуме жытняга святла.

І покуль гэты поўдзень спелы
Дым тарфяны не завалок,
На зрэзе дня – рамонак белы
І пасівелы васілёк.

Снуецца беглая сцяжына –
Апошні збег майго сяла.
Гняздзечка птушкі і ажына –
У шуме жытняга святла.

І покуль дыхае планета,
Не вынішчаецца датла
Душа народа і паэта
У шуме жытняга святла.

## 15.6.2. УРЫЎКІ З МАСТАЦКАЙ ПРОЗЫ

Я.КУПАЛА

## ПАЎЛІНКА

...Я к і м. Хай так і будзе, як Сора казала; але гэта толькі тады ў нас выйдзе, калі ты прыстанеш на тое, аб што я цябе прасіў і прашу.

П а ў л і н к а (*падумаўшы, смеючыся*). Ну, згода, да... заўтрашняга дня, а там пабачым.

Я к і м (*павесялеўшы*). І даўно ўжо трэ было гэтак сказаць, мая кветачка майская. Заўтра вечарам, як толькі ўсе паўкладаюцца, – я ўжо ў садзе пад акном буду на цябе чакаць. Ты аконца адчыніш, лахі пад пахі ды скакель з хаты ў сад, як пятух!

П а ў л і н к а. Гэта ты, як пятух, а я як...

Я к і м (*перапыняючы* ). Як курыца.

П а ў л і н к а. Не курыца, а як зязюлька.

Я к і м. Як зязюлька, праз акно фырр! А пятух цап, а поп крапілам пырсь! А там...

П а ў л і н к а (*смеючыся).* А там ізноў фырр!..

(Размахвае рукамі і хоча вырвацца. Якім мацней прыціскае яе к сабе і хоча пацалаваць; яна нібы бароніцца, а пасля хватае яго за шыю, і доўга горача цалуюцца).

Я к і м. Ох, каб гэтак усё жыццё і кожную мінутку.

П а ў л і н к а. Ого! Разласаваўся!.. Аскому нагоніш, пакуль ахвоту спагоніш. (*Прыслухаўшыся*). Ой, недзе туркоча! Ці не едуць толькі нашы з торгу!

Я к і м (*прыслухаўшыся*). Такі ж нехта едзе.

П а ў л і н к а (*сумна*). Значыцца, Якімка, трэба табе ўжо рабіць фырр!

Я к і м (*устаючы з уздохам*). Нічога не парадзіш – трэба!.. Ой, гэтыя бацькі! І чаму гэта не родзяцца на свет дочкі без бацькоў!..

П а ў л і н к а (*устаючы*). Ах, чуць не забылася. Ці прынёс мне тое, што абяцаўся?

Я к і м. А як жа, прынёс, маё золатца. (*Дастае з кішэні фатаграфію і аддае Паўлінцы*).

П а ў л і н к а (*прыглядаючыся да фатаграфіі, весела*). Вот так добра! Замест аднаго маю ўжо двух: аднаго, што сам ходзіць да дзяўчат і рукам волю дае, а другога, што трэба насіць за... пазухай. (*Смяецца*).

Я к і м (*любуецца ёй, хватае і цалуе*). Ах ты, зязюлька мая ненаглядная!

П а ў л і н к а (*баронячыся*). Ну, ну, петушок! Не гарачыся: паспееш з козамі на торг. (*Выпіхаючы Якіма з хаты*). Марш дадому! Раз, два, тры!..

Я к і м (*у дзвярах*). Помні, Паўлінка, – заўтра!.. (*Выходзіць*)...

Я.КОЛАС

## ДРЫГВА

...Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну. Не спяшаецца яна выносіць дабро палескіх балот. А яго так многа, што ўсё роўна, спяшайся не спяшайся, а гэтай работы ёй хопіць на доўгія гады. Можа і надзею страціла яна вынесці хоць калі-небудзь гэта мора цёмна-ружовай вады з неабсяжных балот Палесся, і з гэтай прычыны яна такая павольная і флегматычная. Вось толькі тады, калі разгуляецца вецер над зялёнаю шчэццю лясоў, над круглымі купамі-шапкамі кучаравай лазы, над барадаўкамі-купінамі жорсткай асакі, тады яна няветла пахмурнее, задрыжыць, затрасецца тысячамі хваль і сярдзіта шпурляе чаўны і чайкі-душагубкі ды голасна ўсхліпвае ў прыбярэжных чаратах, як маці ўскрай магілы, дзе пахаваны яе дзеці. І дзед Талаш не адважыцца тады ад'язджаць на сваім чоўне на сярэдзіну Прыпяці.

Затое ж як лагодна і ўтульна разляжацца яна ў мяккіх берагах, калі супакоіцца вецер, а над Палессем рассыплецца сонца мільярдамі залатых крупак святла! Спакой і цішыня пануюць тады над зялёнымі аксамітамі балот і лясоў. Бліскучаю сталёваю стужкаю ззяе Прыпяць, і толькі ў глыбозных чорных буктах яе плёскаюцца самы, узнімаючы срэбныя кругі-абручы. А дзед Талаш, пазіраючы на гэтыя забаўкі самоў, ссуне з ілба на патыліцу саламяны капялюш, скажа сам сабе: "О, згінь твая маты! Ось падчапіць бы цябе, завалу!"

Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, цякло і само жыццё на Палессі, а водгулле ўсяго таго, што дзеялася на свеце, далятала сюды ў прыглушаных прасторамі Палесся тонах або з такімі напластаваннямі людской фантазіі, што ўжо трудна было вылушчыць з іх зерне праўды...

З.БЯДУЛЯ

## САЛАВЕЙ

...Вельмі жвавы хлопчык быў Сымонка. Да ўсяго прыглядаўся, да ўсяго прыслухоўваўся.

Хлопчыка апанавалі колеры і гукі.

Усімі пачуццямі ўбіраў у сваю істоту вакольнае. Увесь свет быў, як у гняздзе, у яго сэрцы, для яго ж. Нават сам пан Вашамірскі, якому належылі ўсе вакольныя

вёскі, той самы пан, што купіў яго, Сымонкі, бацьку за каня ў суседняга пана Весялоўскага, быў цікавым для хлопчыка. Ён наглядаў і за панам.

Што ж! і кузурка, што паўзе па лістку, мо думае, што свет створаны спецыяльна для яе.

Школу жыцця Сымонка пачаў праходзіць маючы шэсць гадоў ад нараджэння. Спачатку пасвіў гусей на вялікім выгане, пасля – свіней; за гэтым давалі пад яго апеку авечак, потым – кароў, а ў канцы зрабіўся і баранавалокам.

Ён паволі і грунтоўна падымаўся ўгору па лесвіцы мужыцкай навукі.

Апрача гэтага, Сымонка меў яшчэ незвычайную здольнасць, якой навучыўся ў палях і лясах пана Вашамірскага: падрабляць гукі прыроды і жывых істот.

Гаўкаць па-сабачаму, кукарэкаць, як певень, мяўкаць, як кот, мэкаць, як цялё, выць па-воўчаму – было для яго самай звычайнай і простай штукай.

Ён да таго па-мастацку мог брахаць, што перадаваў самыя замыславатыя тоны і пералівы голасу кожнага паасобку сабакі з псарні пана Вашамірскага.

Падрабляць голас і інтанацыю людзей было для яго самым простым жартам.

Ён мог губамі перадаваць дзынканне пчалы, гуд камара, шэпт лесу, скрып варот. Кракаў, як варона, кукаваў зязюляй, спяваў жаўранкам і заліваўся салаўём на розныя лады, на ўсялякія манеры.

У дадатак ён мог яшчэ падрабляць рухі і міміку.

Здаецца, як можна адной мімікай твару паказваць пеўня?

А Сымонка мог – скорчыць такую фізіяномію, зрабіць такія вочы, што кожны гаварыў:

– Певень, дый годзе!

Скакаць, як заяц, як цялушка – гэта нават увагі не варта.

Вялікая кемнасць да ўсяго гэтага была ў Сымонкі. Ён сваім дзівацкім талентам сам захапляўся, углыбляў яго, развіваў, адшліфоўваў. Гэта не было ў яго толькі забавай дзіцячых гадоў – наадварот: практыкаваўся ў гэтым штукарстве з кожным годам усё больш і больш...

М.ГАРЭЦКІ

## У ПАНСКІМ ЛЕСЕ

– Ах ты, рагатун пракляты! Адлезь, табе кажу, а то, брат, поўху зловіш, ці ведаеш!

– А стой, не спужаліся. Дый не карожся дарма, пакуль з табой як з добраю. Не хочаш з ласкі, будзе без ласкі!

– Уцякай, падла стары. Мяшок бяры, хустку бяры, абдзірай сабака панскі, а гэткія жарты пакінь, поскудзь ты!

– А мы во як...

– Ы-ы, не чапай...

Хрась! Хрась!

Забаўтаўся стары ляснік, пахіліўся, раскірэчыў ногі і саўсім непрыгожа асеў к зямлі.

Дрыгнуў шабадранымі ботамі, пацягнуўся.

Чорная, гідкая, страшная кроў паплыла з яго галавы, пэцкала новы жупан, стрэльбу.

Маладуха астаўпянела, з жахам вытрашчыла вочы, тупы шчапель, што карэнне капала, шмякнуў з рук на зямлю.

Ой! Тошна, дрэнна...Няма як аджывіць. Тое ўжо навекі.

Бежч... бежч... О-ё-ё-ей... Што гэта?

Дрэвы нядобра zakівалі макаўкамі, прытулілася трава, ледзьве трэснуў сучок, лёгкая болачка ўцякла з аднаго боку неба на другі.

Бегла, як шалёная, маладуха.

Ляжаў, як калода, стары ляснік.

М.ЗАРЭЦКІ

## ГОЛЫ ЗВЕР

... У лесе гушчарным, дзе глуха разліўся салодкі пах свежасці волкай, расла маладая бярозка. Яна вырасла на бураломе, яе тонкі камель хаваўся ў трухлявым вецці гнілых паваленых дрэў. З гэтага вецця гнілога яна прагна цягнулася ўвысь, бо бачыла там прыгожае, яснае сонца, бо там, угары, было светлае мора блакіту і адтуль прыляталі к ёй чароўныя песні-званочкі, ласкавыя і прыветныя, як ранічны шолах гарэзнага ветрыку.

Ад гнілога галля, што звілося агідным карчом у нагах у бярозкі, ішоў дрэнны запах. Мо таму й цягнулася яна так прагна ўгару, каб не чуць гэтага паху, каб набраць у маладыя грудзі свае светлага, чыстага паветра, што так глыбока ўлілося ў гэты бяздонны блакіт. І часта марыла маладая бярозка аб тым, каб выбрацца вон з буралому, каб выйсці ў прастор, каб хоць туды, да таго маладога дубка, што разгарнуў так вольна суччa сваё на блізкай палянцы. О, як бы яна расцвіла, закрасавала свежай сваёй зялянінай, як засмяялася б сонцу сваімі шаўковымі лісцямі.

Але сілы няма – нязмога. Звязала слабыя ногі вецце старое, трухлявае, адабраў волю гэты атрутны гнілы дух.

І вось нешта раз прыйшоў да бярозкі злы лесавік, жыхар цёмнага дрыгвянага балота. Ён прыйшоў, увабраны ў вадзяныя лілеі – у краскі прыгожыя, яркія. Прыйшоў і сказаў:

– Ты мне ўпадабалася. Хадзі да мяне, у мяне многа багацця і сілы. Я зраблю так, што на тваіх прыгожых галінках вырастуць кветкі, ты ўбярэшся ў чароўныя дзіўныя ўборы, ты закрасуеш красою нябачанай.

Затрапятала радасна бярозка сваім лісцем шаўковым, пацягнулася даверліва к лесавіку – злому духу балотнаму. І лесавік узяў яе к сабе на балота. Ён абсыпаў яе ўсю лілеямі-кветкамі, увабраў у уборы чароўныя. І яна стаяла бязмерна шчаслівая, поўная радасці яснай, глыбокай. Яна думала, што знайшла сабе долю, знайшла сабе шчасце.

Але прыйшоў час, і бярозка надакучыла лесавіку. І вось ён прыйшоў да яе і пачаў смяяцца з яе, пачаў гнаць з свайго логава – з балота дрыгвянага, цёмнага. На ім не было цяпер кветак, ён быў у звычайным выглядзе сваім – страшны і жудасны. Бярозка яго не пазнала. Ёй стала страшна, яна закалацілася ўся ад спалоху. І пасыпаліся з яе кветкі-лілеі. А разам з імі пасыпаліся і лісточкі яе, бо пажоўклі яны, бо атруціліся лёкам балотным. Хацела бегчы бярозка з балота, ды не змагла. Зацягнула твань яе карэнне, загрузлі яны ў глебе дрыгвяной. І засталася бярозка расці на балоце.

Яна не памёрла. Яна жыла яшчэ, дажывала. Толькі вецце яе – калісь такое зялёнае, свежае – цяпер засвіцілася пруццем счарнелым, бо ападалі ўсё, сцякалі бясконца слязьмі на брудны дол апошнія яе лісточкі.

А камель пакрывіўся, згарбаціўся, параслі на ім валдыры страшэнныя, дзікія. І дупло гнілой пустатой зачарнелася...

А.МРЫЙ

## ЗАПІСКІ САМСОНА САМАСУЯ

Я скажу ўсім, хто гэтага пачаў бы дамагацца, што я – сучасны чалавек. Маё імя Самсон Самасуй.

Я з мужыкоў.

Мой бацька, дзед, прадзед, прапрадзед, прапрапра... і г.д усе былі мужыкамі. Я надзвычайна горды тым, што маю мужыцкі твар і асабліва нос у форме бульбы. У залежнасці ад гэтага і розум мой ёсць розум выразна мужыцкі. Мне могуць сказаць, што няма такой катэгорыі, як мужыцкі розум, а я скажу, што ў мяне толькі такі і ёсць.

Далей смела ўсім заяўляю, што бацька мой не кулак. Даю фактычную даведку.

Дзве каровы, конь, жаробка, свіння, здаецца, 4 ці 7 прадстаўніц курынага роду, хата з трыма вакешкамі ды яшчэ рознае не стандартызаванае хаўбосце. Такім чынам, па эканамічнай адзнацы майго бацьку ніяк нельга залічыць да ганебнага стану кулакоў. А з пункту гледжання ідэалогіі, дык не ведаю, як зарэгістрыраваць яго. Хто можа аб гэтым упэўнена сказаць, як кажа мой прыяцель, філосаф Торба, заблытана чалавечае жыццё і няма ў ім строга акрэсленай наменклатуры.

Другі мой прыяцель, настаўнік Цыба, сказаў мне, што мой бацька, магчыма, і ёсць кулак, бо пытанне аб прыналежнасці да гэтага заалагічнага тыпу вырашаецца часта не лікам кароў ці коней, а настроем і эксплуататарскай чыннасцю.

Вось гэта як у сук улеплена.

Пра сябе скажу, што я іншы раз вельмі абураны ангельскімі імперыялістамі, здаецца, горла ім перарэзаў бы, а ў другі раз салодка мару аб прынадах буржуазнага жыцця. Так соладка мару, што і пасля самому сорамна робіцца. Нават чырванею...Я сам лічу сябе сучасным і здавальняюча разумным чалавекам, хоць павінен з вялікай неахвотай памянуць пра шапялёўскіх яўрэяў, якія пад нос завуць мяне “мішугэнэ”. І гэта нягледзячы на тое, што ў райвыканкоме ў сваіх руках трымаю важныя спрунжыны культуры і ведаю, што раблю!..

К.ЧОРНЫ

## ТРЭЦЯЕ ПАКАЛЕННЕ

...Дні два, у гарачую пору, над лесам можна было бачыць дзіўны малюнак: груганы і вароны ўзляталі з крыкам густа і зноў спускаліся ў вершаліны хвояў. Так кіпіць вада ў крыніцы. Зверху плаваў дробны каршачок, баючыся спусціцца ніжэй: мусіць, там арудавала буйнейшая штука, якой каршачок баяўся. У канцы другога дня падзьмуў вецер і на гэты бок звілістай ручаіны чутно стала трупным пахам. Птушыны крык чуўся мацней.

Лес стаяў высока. Мясцовасць ішла да яго ўгару. Па гэты бок лесу, схаваная ў нізкарослых зарасніках, мінаючы каменні і ўзгоркі, імчалася ручаіна. Паўз яе, скрозь краем лесу, вілася добра вытаптаная сцежка. Змрок і цішыня панавалі тут.

Было яшчэ гадзіны дзве да вечара, сонца яшчэ толькі падыходзіла да лесу, калі на гэтай сцежцы з’явіўся чалавек. Ён быў шыракаплечы, на выгляд здаровы. Боты яго былі ў высахлай на іх зямлі. Нягледзячы на гарачыню, на ім была накінута наапашкі жаўтаватая, злінялая салдацкая целагрэйка. Гэтая кароценькая вопратка была паношана: месцамі ўнізе ў ёй вісела, з-пад адпоранай падшэўкі, вата. Ішоў чалавек паволі, стомленай паходкай. Адразу відаць было, што гэты чалавек спрацаваны. Твар яго быў вельмі малады. Наўрад ці было яму нават дваццаць

чатыры гады, у кожным разе не больш. Але дзіўная справа: ён быў апусклівы, няголены. Барада і вусы раслі не роўна і не густа. Чалавек нёс на плячы палавіну, відаць, знойдзенай на дарозе, дугі. У адным месцы ён спыніўся, стаў спіной к лесу і спаміж кустоў глянуў на прырэчнае поле. Там была папарная ралля. Чалавек гаварыў сам з сабой.

– Яшчэ павінна добра ўпрэць. Яшчэ паспею заскародзіць і раз пераараць пад жыта.

Ён акінуў вокам шырыню палетка і раптам занепакоіўся:

– Што за ліха, як бы ў мяне вузей, чым унь там. Мералі, чэрці, надзялілі аднаму больш, другому менш. Душы ў кожнага, здаецца ж, роўныя!

Ён шпарка вярнуўся, перамераў крокамі суседні палетак, пасля свой і тады паспакайнеў:

– Чорт яго, гэта мне здалося.

І пайшоў далей, роўна пагойдваючы плячыма. Дзьмуў вецер, сонца падбіралася да самага лесу. Крокаў праз сотню чалавек падняў галаву ўгару:

– Зноў крычаць, унімку на іх няма!

Непадалёку, над самай прырэчнай хвояй, аж кіпела вараннё. Каршачок таксама плаваў, як і ўдзень, як і ўчора...

М.ЛЫНЬКОЎ

## ВАСІЛЬКІ

Стаяў той асабліва прыгожы дзень, якія бываюць звычайна ў канцы жніўня месяца, калі даўно скончана жніво, звезена жыта ў гумны і над апусцелым полем дружна ўзлятаюць стайкі шпакоў – прадвеснікаў блізкае восені. Зямля здаецца лёгкай, бязважкай, яна ўся дыхае цішай, спакоем. Усё відаць як на далоні: і кожнае дрэва на шляху, і калодзежны жураў у дальняй вёсцы, і зубчасты край лесу, і бялявы дымок далёка, далёка, дзе праходзіць чыгунка. Нават бачыш, як трапечацца зжаўцелы ліст на бліжняй бярозе, як высока, высока ў небе ляціць няведама куды самотная павуцінка.

Над купчастай імшарынай пацешна ўзнімаецца бусел, паважна ляціць над полем, выцягнуўшы ўперад сваю задуменную дзюбу.

– Наш бусел! – ганарыста гаворыць Міколка.

– Хваліся! – смяюцца хлапчукі. – Што ні бусел, дык твой!

– А вот жа наш. Глядзіце! Хочаце аб заклад на ўсе баравікі...– І Міколка ўзмахвае сваім кошыкам. Поўная ліпаўка баравікоў – жаўцявых, чырванаватых, цёмных, нібы вылітых з медзі – самыя што ні на ёсць грыбы баравыя. Зверху лісты папараці, каб не трапіў пыл у кошык, ды некалькі запазнелых васількоў, якія сарваў Міколка на ўзмежку поля. Васількі – для сястрычкі. Яна хацела пайсці разам з ім у лес, але маці не пусціла: трохі прыхворвае малая.

– Ну, што ж, спужаліся, грыбоў шкада! – наступае Міколка на хлапчукоў, размахваючы перад імі ліпавым кошыкам.

Бусел ляціць проста на высокую грушу-дзічку, што стаіць на ўскраі сяла, высокая, разгалістая, з буславым гняздом на самай вяршыні. За грушай Міколкава хата.

## ПЕРАД ЯЕ КРАСОЙ

* * *

Пад раніцу быў дождж. Бубніў па блясе даху, шамацеў па зямлі...

І вось – арэшына пусціла, дзеля свята, белы цвет; лаза прыкметна, весела пазелянела; бярозкі і асінкі шчодра акроплены расой і чыстыя ды цёплыя – хоць ты скажы ім:

– З лёгкай парай!

* * *

Старэнькая лазня ў гонкім, густым бярэзніку, у якой звычайна цэлы тыдзень гаспадарыць чэрці, у суботу напалена прышлымі цеслямі, што рубяць хату на ўскраіне вёскі.

Запрасілі памыцца. Пасля страшэннай пары – сцюдзёная вада з крыніцы. На пяць-шэсць вёдраў – з галавы да ног. Нават бярозкі сталі прыгажэйшыя, і ўсё навокал пачысцела.

* * *

Румяны ранак над возерам. Пад соснамі, у кустах ядлоўцу, выбегшы з вады, выціраецца маладзенькая, стройная, загарэлая студэнтачка. Ажно спыніўся я на сцежцы, каб не спалохаць...

Пасля, пад вечар, убачыў яе – не такая прыгожая.

* * *

Хлебна-сасновая цішыня. Над цішынёй – ад возера – ляціць варона. Пчаліным гудам гудзе вялікая паляна грэчкі. У белай, духмянай кашы – высокая, самотная сасна і нізкі, каржакаваты дуб, здалёк – нібыта груша-дзічка.

Здымаў гэта, стоячы на каленях у роснай, высокай грэчцы.

* * *

Каля бярозак трохі верасу. Расцвіў у сонцы.

Зірнуў угару. Багатая лістота і пярэстыя ствалы пошумам ціха пяюць у блакіт.

Краса прыроды кліча да чысціні душы.

Гэта не думка, а такое адчуванне.

* * *

Пасля адлігі – мароз і вецер. Снег прыкарэў на ялінах і соснах, і вецер яго не абтрэсвае.

І неяк дзіўна, ледзь не да лёгкай сцішнаты, што яліны і сосны бездапаможна гайдаюцца. Такія моцныя, непарушныя, калі ціха.

І.МЕЛЕЖ

## ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ

...Усё лета перад хатай Чарнушкаў ціха грэлася на сонцы маладзенькая, з тонкім, як дубец, камлём рабіна. Ніхто ў Куранях, бадай, не заўважыў, калі і хто пасадзіў яе, не бачылі як трэба яе і тады, калі яна красавіцкай раніцай апранулася ў лёгкае празрыста-зялёнае плацце з кволых, рэзных лісточкаў. Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу, на ўсіх, хто праходзіў міма, – сціплая, непрыкметная за нязграбным плотам, блізка ад вялікіх дрэў. Ніхто не даваў ёй ніякай увагі, мылі яе, песцілі толькі цёплыя дажджы ды любілі шумець маладым лісцем вятры. Людзі ж яе як бы не заўважалі, спачатку таму, што проста не прыкмецілі, а потым таму, што непрыкметна прывыклі.

І неспадзявана адбылося незвычайнае: ціхая, нявідная, у жнівеньскім росквіце рабіна заружавела, зазырчэла яркім, кідкім харастом, гарачым полымем агністых гронак. І не адны вочы, не абыякавыя, не ачарсцвелыя ў жыццёвых пакутах да хараства, глядзелі здзіўлена, зачаравана: "Глядзі ты!.."

Як тая рабіна цвіла ў гэтае лета Ганна. Яшчэ, здаецца, учора была гарэза, падлетак, а вось ужо, глядзіце – у самай добрай пары дзяўчына, у самай красе сваёй! Калі толькі вырасла!

Глядзелі на Ганну, разважалі і – за малым выключэннем прыдзір з жанок – згаджаліся, выспела нявеста, нічога не скажаш! Часам пры гэтых гаворках – асабліва жанкі – успаміналі Ганніну маці-нябожчыцу, казалі, што дачка ва ўсім выйшла ў матку. З аблічча – дык як вылітая: і невялікая ростам, і не гладкая – худая, можна сказаць, і плечы, як у маткі, вузкія, і рукі тонкія. І косы чорныя, густыя, аж блішчаць, бы намочаныя, і смуглявасць на твары такая ж, і шчочкі таксама ж выпінаюцца.

Іншы раз языкі жанок – прыдзір ці зайздросніц – меркавалі, што грудзі ў Ганны малаватыя, як кулачкі: чым толькі дзіця карміць будзе, калі давядзецца? Але пры ўсім тым – нават прыдзіры і зайздросніцы не пярэчылі – Ганну ніяк нельга было палічыць за кволую: збоку, з аднаго позірку відаць было – крамяная ў Цімоха дзяўчына, дужая, сілаю ўся налілася! Вунь якая пругкая ў хадзе, спрытная якая ў рухах, так і відаць – маладосць, сіла ў кожнай жылачцы!..

Хлопцы і гарнуліся да яе і нібы пабойваліся. Акрамя таго, што стрымлівала Ганніна задзірыстасць і ганарлівасць, ім помнілася, што не лішне асцерагацца і яе язычка. Ведалі яны і тое, што Ганну не дай бог увесці ў гнеў: тады яна ў момант страціць роўнасць сваю, забудзецца на ўсё, загарыцца адным. Гарачая, нястрымная, небяспечная яна, ганарлівая Ганна!..

І.ШАМЯКІН

## ВАЗЬМУ ТВОЙ БОЛЬ

...У канцы верасня дзень пераходзіць у вечар, у ноч адразу, нечакана. Няма сельскіх адвячоркаў, якія бываюць улетку. А ўлетку яны чароўныя і сваёй прыроднай асаблівасцю – мяккасцю адценняў бязвоблачнага неба, непаўторнасцю яго фарбаў ад полымя доўгага захаду, незвычайнай цішыні ў паветры, калі нават пыл, узняты статкам, доўга не асядае, і доўгай неўгамоннасцю людзей; сяло поўніцца гукамі – рыканнем кароў, што просяцца ў свае двары, галасамі дзяцей, музыкай тэлевізараў, што ляціць з адкрытых вокнаў, трэскам матацыклаў, адразу многіх, у розных баках... У летнія адвячоркі выразней адчуваюцца калектывізм і дабрыня людзей, іх спакой. Іх

добрая стомленасць, якая не заганяе ў хаты, у ложкі, а, наадварот, трымае ўсіх на вуліцы – мужчын, жанчын, дзяцей, старых. Улетку сяло заціхае павольна. Слабеюць усплёскі мужчынскага рогату, узлятае ў зорнае неба дзявочая прыпеўка, рассыпае свае гуллівыя акорды баян.

Увосень усё інакш. Каровы не просяцца дадому, іх пільнуюць і заганяюць, інакш прыйдзецца шукаць на саўгасным гародзе, дзе ўбіраюць капусту. Адразу знікаюць з вуліцы дзеці: школа, урокі. Моўчкі, па адным, разыходзяцца механізатары, нават у "Бабскія слёзы" заходзяць па адным, кампанія можа ўтварыцца хіба там.

У хатах, у дварах, здаецца, тая ж работа, але і яна нечым непадобная на летнюю, нейкі інакшы рытм у яе, не тая напоўненасць. Гэта адчувала Таіса Міхайлаўна. Жыла першую восень без каровы, і ў яе, увішнай, руплівай, на стыку дня і вечара, калі канчалася работа на ўрачэбным пункце і не надыходзіў час адпачынку перад тэлевізарам, як бы ўтвараўся правал, які не знала чым запоўніць. Хіба згатаваць вячэру на траіх можна лічыць работай? Ды яшчэ ў такіх умовах, калі ёсць і руская печ, выпаленая раніцой, і газавая пліта, на якой усё можна падагрэць, пакуль Іван памые рукі...

Я.МАЎР

## ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ

...Ноч выдалася цёплая, ціхая. Але лес, відаць, не спаў. То пісне нейкая птушка, то прарэзліва крыкне сава, то храсне сухая галіна, то пачуецца ледзь значны шолах.

Агонь дагараў. Куча галля ўсё змяншалася, канцы ламачча тлелі навакол. У сярэдзіне было досыць вуголляў і жару, але святло ўсё слабела. Вуголле шарэла больш і больш, а разам з гэтым з лесу пачала насоўвацца цемра. Вось ужо агеньчык ледзь-ледзь блішчыць. Тады ў лесе мільгануў цень нейкага невялікага звера. Рухаўся ён так ціха, што яго нельга было б пачуць, нават калі б хлопцы не спалі. Звер круціўся навакол то з аднаго, то з другога боку, усё бліжэй, бліжэй...

Ужо можна пазнаць, што гэта ліс. Але, на шчасце, ад гэтага звера хлопцам ніякай небяспекі не пагражала. Пакруціўся ліс крыху і знік.

Было ўжо за поўнач, але паветра не толькі не халаднела, а, здавалася, нават цяплела. Яно было нейкае густое, парнае. З захаду даносіўся прыдушаны грукат, мільгалі маланкі. Набліжалася навальніца...

Хлопцы спалі сабе і нічога не чулі. Мусіць, таму, што грукат быў глухі, безупынны і ўзмацняўся паступова. Ён змешваўся з шолахам дрэў, а да такога шуму вушы хлопцаў ужо прызвычаіліся. Не прачнуліся яны і тады, калі ўпалі першыя кроплі цёплага дажджу.

Толькі зусім блізкі страшэнны ўдар грому прымусіў Мірона ўскочыць на ногі. Ён адразу ж разбудзіў Віктара. Прайшло некалькі хвілін, пакуль хлопцы разабраліся, у чым справа...

А.МАКАЁНАК

## ТАБЛЕТКУ ПАД ЯЗЫК

...Г о л а с д з я ў ч ы н ы. Руку!.. Руку, руку, Пеця!.. Руку, руку!.. Не трэба так, Пеця!.. Не трэба!.. Не трэба, не трэба, не трэба!.. Ну, што ты робіш, Пеця? Нехарашо так, Пеця.. Нехарашо, нехарашо... Пеця!.. Блузку!.. Неха... Ой!.. Пе-е-еця!..

Голас хлопца. Ну, во і ўсё!.. І усё!.. Любая, ты мая! Як хороша!.. Як хороша!..

Голас дзяўчыны. І усё-такі нядобра так! Нядобра!

Голас хлопца. Ух ты, малінка мая!..

Голас дзяўчыны. Вот адслужыш у арміі, а сюды ўжо не вернешся… І малінка табе не трэба будзе…

Голас хлопца. Ну што ты кажаш?! Ну што ты кажаш?

Голас дзяўчыны. Яшчэ два дні, і канчаецца твой водпуск…

Голас хлопца. Ах, канчаецца, канчаецца! Толькі два дзянёчкі!..

Голас дзяўчыны. Я буду чакаць цябе, Пецця! Я буду чакаць. Чуеш? Ты верыш мне, Пецця? Верыш?

Голас хлопца. Ну, канечне, веру, ягадка ты мая! Веру!..

Голас дзяўчыны. Надзька Наталліна таксама чакала… Два гады чакала… Грышку. А ён дэмабілізаваўся – і ў Полацк ! На нафтаперагонны…

Голас хлопца. Дык то ж – Грышка! Я ж – не Грышка…

В.БЫКАЎ

## ДАЖЫЦЬ ДА СВІТАННЯ

…Вядома, ён знікне, цяпер яму засталося некалькі лічаных секунд, за якімі настане Вечны Вялікі Спакой. У ягоным становішчы гэта было нават зманліва, бо адразу вызваляла ад пакут. Але застануцца жыць іншыя. Яны перамогуць, ім аднаўляць гэту зялёную, шчаслівую зямлю, дыхаць на поўныя грудзі. І кахаць. Але, хто ведае, ці не залежыць шчаслівы іх лёс ад таго, як памрэ на гэтай дарозе дваццацідвухгадовы камандзір узвода лейтэнант Іваноўскі?

Не ён не ўстаў, таму што ўстаць ён не мог, і не крыкнуў, хоць, напэўна, мог бы яшчэ крычаць. Ён толькі здрыгануўся, калі ў ранішняй чуйнай цішы грымнуў вінтовачны стрэл і яшчэ адна куля ўпілася ў яго акрываўленае цела. Яна ўдарыла яму ў плячо, напэўна, разбіла лапатку, але ўсё роўна ён не паварушыўся і не застагнаў нават. У апошняй натузе сцяў зубы і назаўжды ўжо заплюшчыў заінелыя вейкі. З апошняй трапяткой надзеяй ён слухаў набліжэнне чужых, незнаёмых крокаў і думаў, што, магчыма, яшчэ і не ўсё страчана, можа, яшчэ і ўдасца. Якісьці самы мізэрны шанец у яго яшчэ заставаўся. Памалу, вельмі асцярожна, трываючы новы пякельны бой, ён паварочваўся на бок, каб вызваліць з-пад цела гранату. І ён вызваліў яе якраз у той момант, калі крокі на дарозе сціхлі недзе паблізу. Ён адчуў тады побач тугі пружыністы рывок планкі, і тут жа нечакана гулка ляснуў узрывальнік. Немец коратка крыкнуў, мабыць, кінуўся прэч. Іваноўскі паспеў яшчэ ўчуць два яго спалоханых крокі і болей нічога не ўчуў…

Праз некалькі секунд, калі асеў перамешаны са снегам пыл, яго ўжо не было на гэтай дарозе, толькі невялікая варонка курылася на ветры ў адной каляіне; вакол на размеценым снезе ляжалі мёрзлыя камякі зямлі, фурманка з растрэсенай навокал саломай абярнулася набок, ля яе, спрабуючы ўстаць на ногі, біўся ўскормлены рыжы біцюг, а за канавай, ляжаў ніц адкінуты выбухам труп немца. Другога не было відаць…

У.КАРАТКЕВІЧ

## КАЛАСЫ ПАД СЯРПОМ ТВАІМ

Майка – май, Майка – май, звінелі за вокнамі кроплі. І Майка Раўбіч, рассмяяўшыся ад шчасця і прадчування, прынікла да акна. Зеленаватыя, як марская

вада, вочы дзяўчыны прагна глядзелі на мокрыя дрэвы, на бялюткі сад, на чорныя куртыны, ля краёў якіх ужо цвілі аксамітныя браткі.

Прыцемак насоўваўся на сад. Мяккі, вільготны, майскі.

Толькі што адгрымела першая навальніца. Нястрашная, грамыхліва-радасная, майская навальніца. І цяпер над вокнамі старога цёплага дома аж шалеў ліловы і сіні бэз.

Мокры і салодкі вецер ляцеў у вокны.

Увесь гэты дзень вялікі дом у Раўбічах аж віраваў у сумятні і калатэчы. Рыхтаваліся ехаць на баль у Загоршчыну. Падшывалі, прасавалі, мыліся. Ніткі аж свісталі ў руках швачак. Тлум сціхнуў толькі гадзіну назад.

Міхаліна стаяла ля акна, паклаўшы рукі на падваконне, нібы аддаўшы іх пяшчотным пацалункам свежага паветра.

Гэта ўсё ж было шчасце. Шчасце першага "дарослага" балю, шчасце першай "дарослай" бальнай сукенкі, белай амаль у белым, толькі трохі блакітным карункавым чахле.

І сорамна, і трошкі ганарліва было глядзець на аголеныя плечы і рукі, яшчэ тонкія, але ўжо не дзіцячыя, на бела-ружовую ружу ў попельных, з няўлоўным залацістым адценнем валасах.

Яна не ведала, ці прыгожае гэта ўсё: матава-белы, з празрыстым глыбінным румянцам твар, рот – адным краёчкам трохі ўгору, бровы – доўгія і вычварна зламаныя, і таму трошкі ганарлівыя.

Але яна бачыла сябе нібы новай, чужой, і гэтая чужая шаснаццацігадовая дзяўчына падабалася ёй.

Вялізныя цёмна-блакітныя, як марская вада, вочы глядзелі на яе з люстэрка насцярожана, дапытліва і шчасна.

І гэта было такое шчасце, што яна засмяялася...

Майка адчувала сябе дзіўна. Сэрца захлыналася ад чакання. Чаго яна чакала – яна не ведала і сама. Хутчэй за ўсё – беспрычыннага, маладога, такога вялікага, што аж сэрца спыняецца, шчасця...

А.КАРПЮК

## ДАНУТА

Прайшло некалькі дзён.

Нягледзячы на прызнанне, паступова я супакоіўся, а Дануся стала мне яшчэ даражэйшай. Кажуць, мы болей любім чалавека, калі ведаем, што ён не для нас. А яшчэ кажуць, каб мацней паверыць, трэба пачынаць з сумнення, а каб мацней палюбіць – з нянавісці. Я амаль гэтак пачынаў.

Некаторыя хлопцы мяне дзівілі сваімі адносінамі да дзяўчат. Мне ж дзяўчаты заўсёды здаваліся недасяжнымі і казачнымі багінямі і анёламі. Я па натуры быў няўлюбчывы і сваімі пачуццямі не раскідваўся. Я іх збіраў, капіў, і цяпер яны выбухнулі.

Каб пакахаць чалавека, адных позіркаў мала. Трэпа счапіцца характарамі, імкненнямі. Дануся мяне прывабіла не толькі абаяльнасцю і крамлівасцю цела пісанай прыгажуні polькі.

Учынкамі людзей таго свету, з якога я паходзіў, кіравалі штодзённыя клопаты пра кавалак хлеба, ім была вядома адна работа – мускульная.

У нашых сем'ях ласкі і чуласці саромеліся.

Казкі апавядалі дзецям толькі для таго, каб малыя засыналі або не плакалі: інакш які сэнс траціць час на глупствы?

На кветкі звярталі ўвагу толькі маладыя, і то паміж работай.

Вырасце ля хаты дрэва, яго маглі ссекчы, бытта цень прыносіць у хату сырасць: яшчэ грыб паесць сцены!..

Цётка магла пражыць свой век і не пабываць у суседняй вёсцы.

Паедуць, бывала, два дзядзькі на цэлыя суткі да млына. Аднаму жонка дасць торбачку з ежай. Ён есць пры сябру, з якім праходзіла яго жыццё, і ў дзядзькі не з'явіцца нават думка падзяліцца кавалкам хлеба, а сябар на гэта і не пакрыўдзіцца.

І жаніліся ў нас па-свойму. Хлопцу нявесту падбіралі ў залежнасці ад колькасці кароў, якасці воза – пасагу маладой!..

Я быў тады малады і, як кожны малады, шукаў вакол сябе штосьці лепшае: людзей, сацыяльны ўклад...

Яшчэ трэба сказаць і пра іншае.

Мы спаткаліся ў такім узросце і ў такую пару, калі гатовы былі закахацца ў чалавека, які адпавядаў нашым патрабаванням: я – ёй, яна – мне. Як толькі зарадзілася глыбокае пачуццё ў аднаго, у сілу сваіх таямнічых законаў яно вызвала такое ж самае пачуццё і ў другога. Няважна, што мы паходзілі з розных асяроддзяў і гэта рабіла наша збліжэнне нелагічным. Хіба ў каханні заўсёды пануе логіка?..

### 15.6.3. З БЕЛАРУСКАГА ФАЛЬКЛОРУ

НАРОДНЫЯ КАЗКІ

#### ЛІСІЦА І ЖОРАЎ

Сустрэла лісіца жураўля.

– Кумок-галубок, прыходзь да мяне ў госці!

– Добра, – кажа журавель, – прыйду.

Наварыла лісіца рэдзенькага супу, наліла ў блюда. Той журавель лыгаў-лыгаў – ну ніяк не наеўся. Падзякаваў ён лісіцы і пайшоў. Тады заве лісіцу да сябе. Нагатаваў ён усяго, у вялікую бутэльку накідаў і частуе. Хадзіла лісіца, хадзіла кругом бутэлькі, каб хоць паспрабаваць, ды ніяк не дастане. Раззлавалася яна на жураўля, насварылася на яго і пайшла дадому.

Так у іх дружба і прапала.

#### СОНЦА І ВЕЦЕР

Старыя людзі расказваюць, што раз колісь касары і жанцы як сталі свістаць, дзетвара запішчала ў дудкі, дык вецер і прыляцеў. Усе ад радасці запелі:

Касары косяць, а сонца грэе,

Я к ветра папросяць, то ён павее...

Ветру гэта спадабалася, дык ён так разгуляўся, што сонца разгневаў, а яно, не выцерпеўшы, кажа:

– Калі ты будзеш гэтак мяшацца ў мае справы, то я цябе спяку, як бульбу!

– Тэ-тэ-тэ! – кажа вецер. – Пакуль хвалько нахваліцца, то будзька набудзецца, значыць, пакуль ты мяне спячэш, то я з усяго свету згоню хмары ды так цябе захутую, што ты не скора адтуль вызірнеш, каб пабачыць, што тут робіцца. А то як хочаш, яшчэ і ледавік дуне, дык вось табе тады і жанцы падзякуюць.

– Ну, годзе! Калі ты такі разумны, але пастой, вось як прыйдзе мароз, дык мы з табой тады пагамонім.

– Мароз, а што ён мне зробіць?

– Што зробіць? Замарозіць, як я схаваюся за хмару.

– Дык я ўсе хмары заганю туды, дзе і перац з роду не рос, а таму старому дурню марозу як стану дзьмуць у морду, то ён яшчэ сам размякне. Ды куды ж яму, беднаму, мяне перавярнуць у каўтлах.

## АБ ХІТРЫМ ДЗЯКУ

Украў поп з дзякам карову, падзяліліся яны ўсім, толькі скуру не маглі падзяліць – пабралі ў зубы дый цягнуць: поп не вытрываў, пусціў, а дзяк бэнц! Аб сцяну і забраў скуру.

Тут жа погаласка пайшла, што нехта карову ўкраў. Дзяк прыходзіць да папа дый кажа:

– Я хіба не вытрываю, мушу сказаць!

– Што ты здурэў, ці што?

– Калі ж мяне надта сумленне грызе!

– На табе грошай, колькі хочаш, толькі не кажы нікому.

Назаўтра зноў ён прыходзе дый кажа:

– А-ей, не вытрываю!

Поп яму яшчэ больш грошай даў, каб толькі не казаў.

Вечарам назбіралася да папа ўсялякіх гасцей і разгаварылісы пра карову, дык дзяк кажа:

– А гэта я з папом украў гэту карову!

Поп зачырванеўся, усунуў яму непрыкметна ўсе свае грошы, а дзяк кажа:

– І усім, здаецца, падзяліліся, толькі скуру не далі рады падзяліць, так я ўзяў адзін канец у зубы, а яны другі, і цягнулі, яны пусцілі, а я бох! Аб сцяну галавою, так і прачнуўся.

Такім чынам, дзяк і граху не меў, бо прызнаўся, і ўсе грошы ад папа забраў.

Ох, хітры, ліха яму!

## АДКУЛЬ СЯЛЯНЕ І ПАНЫ

Бог зляпіў пана з пшанічнага цеста, а мужыка – з гліны ды, паклаўшы, каб сохлі, пайшоў абедаць. А пад той час – дзе ён узяўся! – прыбег сабака, просты мужыцкі падваротнік, панюхаў мужыка, шкрабануў усіх лапамі і, дабраўшыся да пана, чыста яго з'еў. Толькі стаў аблізвацца, калі вось прыходзіць Бог. Як пабачыў ён, што зрабілася, то, ухапіўшы сабаку за хвост, давай трусіць. З сабакі і пасыпаліся паны, і пабеглі куды папала, а дзе які спыняўся, так бог яго і называў. Спыніўся пад бярозаю – пан Беразоўскі, пад дубам – пан Дубінскі, пад сасною – Сасноўскі, пад елкаю – Ельскі, пад алешынаю – Альшынскі, пад гарою – пан Падгорскі, як каторы ачуўся за балотам або за ракою, то пан Заблоцкі і пан Зарэцкі.

Дык вось адкуль сяляне і паны.

## ПАДАННЕ ПРА ЗАСНАВАННЕ МЕНСКА

Між Татарскім канцом і Пярэснінскім мастком, ля самага Віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся славуты асілак-знахар па празванні Менеск, ці Менскі, і пабудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сем колаў. Ніхто самога Менеска не бачыў, тым не менш у навакольных мясцовасцях свіслацкай зямлі чуваць былі самыя фантастычныя расказы пра яго сілу. Кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення, што ўначы чуліся нейкія дзіўныя крыкі, галёканне, песні, музыка і скокі, што апоўначы ездзіў ён на сваім млыне па селішчах і набіраў дружыну

з харобрых, смелых дужых людзей, з якіх пазней утварыўся цэлы народ і пасяліўся побач з млынам.

Тут і быў заснаваны горад і названы імем волата – Менск.

## А ТЫ – ЛЫЖАЧКАЙ...

Галодны пан завітаў у леснічоўку – падсілкавацца. Леснічыха спякла яечню і паставіла пану.

Пачуўшы незвычайна смачны пах, пяцігадовы Гаўрык клубком скаціўся з печы і палез пальцамі ў патэльню.

– Не руш, – прашыпеў пан, ляпнуўшы нажом хлапчуку па пальцах.

Гаўрык паспрабаваў другой рукой, але атрымаў тое ж.

– А ты – лыжачкай, сынок, а ты – лыжачкай! – гукнула маці ад печы. – Ты ж не пан, каб нажом дзяўбаць.

– А пся крэў, галган! – зароў пан, калі Гаўрык, не зразумеўшы жарту, здзяжыў яму драўлянай бацькавай лыжкай па ілбе.

## ЯК БОГ П'ЯНІЦУ Ў РАЙ ПРАПУСЦІЎ

П'яніца знаў, што на тым свеце ў рай не папасці, і ён папрасіў перад смерцю суседзяў пакласці яму пад падушку бутылку гарэлкі, каб было што выпіць на тым свеце, усё роўна ж сем бед, адзін атвет. Так і было зроблена. І вось п'яніца перад смерцю на тым свеце. Стаіць ён, чакае сваёй чаргі да бога і трасецца: ведае ж, што бог адправіць яго ў пекла. Нарэшце, падышла яго чарга. Убачыў бог бутылку і пытае:

– А што гэта ў цябе?

П'яніца адказвае:

– Гэта тое, што я піў, пакуль папаў сюды.

Бог адкрыў бутылку, пакаштаваў ды як плюне, а потым зноў пытае:

– І многа ты выпіў гэтай поскудзі?

П'яніца адказвае:

– Кожны дзень я піў, божанька.

Бог пакруціў галавой, падумаў і вырашыў:

– Калі ты на белым свеце так адмучыўся, п'ючы такое кожны дзень, то жыві ты на тым свеце ў раі.

І адправіў бог п'яніцу ў рай.

## ЗАМОВА АД ЗУБНОГА БОЛЮ

Месяц ты, месяц, сярэбраныя твае рожкі, залатыя твае ножкі.

Зыйдзі ты, месяц, знімі маю зубную боль, занясі боль пад аблокі, мая боль не малая, не цяжкая, а твая сіла магучая.

Мне болі не перанесці. Вось зуб, вось два, вось тры – усе твае, вазьмі маю боль.

## ЗАМОВА АД ПЯРЭПАЛАХУ

Бегла лісіца красна, як цяліца. Яна скакала, брыкала, наверх пярэпалах выганяла. Як той лісіцы не скакаці, не брыкаці, так пярэпалаху ў (імя) не бываці.

## ЗАМОВА АД УСІХ ХВАРОБ

Не бяру ад цябе ні красаты, ні высаты. А выбіраю ад цябе худыя болі з чырвонай крыві, з белай касці, з сініх жыл. Не тут табе быць, не тут табе гнёзды віць, а ідзі на чыста поле, на сіне мора, на зялёныя лугі, на крутыя берагі, на жоўтыя пяскі, на цёмныя лясы. Там тваё гулянне, там тваё красаванне, там табе быць, там табе гнёзды віць.

## ГО-ГО, КОЗАЧКА, ГО-ГО СЕРАЯ...

Го-го, козачка,
Го-го, серая,
Го-го, серая,
Го-го белая!

Дзе каза хвастом –
Там жыта кустом,
Дзе каза мызаю –
Там жыта місаю.

Гаспадар ідзе
Каляду нясе
І кусок сала,
Каб каза ўстала.

Ці ты козачка,
Не гаспадынька?
Узяла б сярпок,
Нажала б снапок.

## ДЗЕД БАБУ ТАПІЦЬ ВЯДЗЕЦЬ...

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыццъ – ня йдзець:
– Мой жа ты дзядулячка,
Я ж твая бабулячка.
Сяду я на печы ў кутку,
Я ж табе кашульку вытку,
З беленькім каўнерчакам,
Каб ты быў жаўнерчакам.

Пайду я ў ток, у ток,
Там курэй куток, куток,
Куркі ўсе чорныя,
Петушка ніводнага.
Куркі, вы не сакачыця,
Галоўкі не клапаціця.
Прадам я рэшата пер'я,
Куплю вам петушка-пеўня.

## ДОБРЫ ВЕЧАР У ХАТУ...

– Добры вечар у хату!
Добры вечар да хаты!
Дай вам бог, каб жылі багата:
І на хлеб, і на грошы,
І на дзеці харошы!

Наш хлеб – ваша вадзіца,
Наш хлопец – ваша дзявіца.
– Хлеб соль бяром,
А вас піраваць завём.

## А МЫ ПРОСА СЕЯЛІ, СЕЯЛІ...

– А мы проса сеялі, сеялі,
Пойдзім, лада, сеялі, сеялі.

– А мы проса вытапчым, вытапчым,
Пойдзім, лада, вытапчым, вытапчым.

– А чым жа вам вытаптаць, вытаптаць?
Пойдзім, лада, вытаптаць, вытаптаць?

– А мы коней выпусцім, выпусцім,
Пойдзім, лада, выпусцім, выпусцім.

– А мы дадзім сто рублей, сто рублей,
Пойдзім, лада, сто рублей, сто рублей.

– Нам не нада тысячы, тысячы,
Пойдзім, лада, тысячы, тысячы.

– А чаго ж вам надабна, надабна?
Пойдзім, лада, надабна, надабна?

– А нам нада дзевіцу, дзевіцу,
Пойдзім, лада, дзевіцу, дзевіцу.

### 16.6.4. З ТЭКСТАЎ АФІЦЫЙНА-ДЗЕЛАВОГА СТЫЛЮ

АБ УДАКЛАДНЕННІ І ЧАСТКОВЫХ ЗМЕНАХ ІСНУЮЧАГА БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

ПАСТАНОВА САВЕТА МІНІСТРАЎ БССР АД 11 МАЯ 1957 ГОДА

Існуючы беларускі правапіс у сваёй аснове правільна адлюстроўвае асаблівасці і заканамернасці беларускай мовы. Яго засвоілі шырокія колы грамадскасці, замацавалі шматлікія выданні кніг і школьных дапаможнікаў. Таму якіх-небудзь грунтоўных падстаў для карэнных рэформ беларускага правапісу няма. Аднак асобныя правілы арфаграфіі з'яўляюцца недасканалымі і таму не могуць служыць цвёрдым крытэрыем для адзінага і паслядоўнага напісання. У сувязі з гэтым узнік арфаграфічны разнабой у друку, з'явілася дваякае напісанне ў пісьмовай практыцы і школьных падручніках. Усё гэта адмоўна адбіваецца на авалоданні роднай мовы ў школе, не садзейнічае павышэнню культуры пісьма.

У мэтах паляпшэння існуючага беларускага правапісу і ў частковую змену пастановы СНК БССР ад 26 жніўня 1933 года № 1312 (З. З. БССР 1933 г. № 33, арт. 230; № 51, арт. 335) Савет Міністраў Беларускай ССР п а с т а н а ў л я е:

1. Зацвердзіць "Праект удакладненняў і частковых змен беларускага правапісу", падрыхтаваны Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР (дадаецца).

2. Даручыць Акадэміі навук БССР скласці да 1 верасня 1957 года поўны звод правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, у якім прадугледзіць больш дробныя неабходныя ўдакладненні асобных правіл правапісу.

3. Увесці ў дзеянне новы звод правіл беларускага правапісу з 1 студзеня 1958 года.

4. У школах і вышэйшых навучальных установах рэспублікі новы звод правіл беларускага правапісу ўвесці з 1 верасня 1958 года.

5. Даручыць Міністэрству асветы БССР распрацаваць адпаведную інструкцыю аб парадку ўвядзення ў школьную практыку новых правіл беларускай арфаграфіі.

*Старшыня*
*Савета Міністраў Беларускай ССР*
*М. Аўхімовіч*

*Намеснік кіраўніка спраў*
*Савета Міністраў Беларускай ССР М. Жук*

*г. Мінск*

СТАТУТ
ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Нацыянальная мова – неацэнны духоўны скарб, які жывою повяззю яднае пакаленні і навекі назапашваецца і адлюстроўваецца ва ўдзячнай памяці, свядомасці і нацыянальнай годнасці нашчадкаў. Страта нацыянальнай мовы народам ідзе поруч з заняпадам нацыянальнай культуры і вядзе за сабой паступовае знікненне народа як самабытнай этнасупольнасці. Узровень развіцця нацыянальнай мовы і яе становішча ў грамадстве сведчыць аб агульным стане яго культуры, дэмакратычных традыцый і народаўладдзя – таго, што складае найважнейшы змест перабудовы, якая ажыццяўляецца ў краіне.

Аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як бацькаўскага дару і матчынай святыні, як да незаменнай, аднойчы і навекі падараванай жыццём, з'яўляецца найвышэйшай мэтай стварэння і сэнсам існавання Таварыства беларускай мовы.

Мінск, 1989 г.

АКТ

22 сакавіка 1993 года

Мы, ніжэйпадпісаныя загадчык кафедры беларускай мовы Гулевіч П.А., дацэнт кафедры Міхалюк У. А., загадчык лабараторыі размнажальнай тэхнікі Загорская Я. Ф., загадчык бібліятэкі Злотнік А. Б., галоўны бухгалтар Петрушэня Л. К. склалі гэта акт аб наступным.

На ратапрынце Інстытута надрукаваны зборнік навуковых артыкулаў "Слова і фразеалагізм у кантэксце". Тыраж 150 экз. па цане 20 рублёў на агульную суму 3 (тры) тыс. рублёў.

Вышэйназванае выданне рэалізавана наступным чынам: 45 экз. на суму 900 руб. (дзевяцьсот руб.) складаюць рассылку кантрольных экземпляраў па рэестры і належаць спісанню; 60 экз. на суму 1200 руб. (адна тысяча дзвесце руб.) перададзены ў бібліятэку інстытута для ажыццяўлення навучальнага працэсу і падлягаюць запісу па сшытку брашур часовага карыстання; 45 экз. на суму 900 руб. (дзевяцьсот руб.) рэалізаваны сярод студэнтаў і выкладчыкаў. Грошы ў суме 900 руб. (дзевяцьсот руб.) здадзены ў касу бухгалтэрыі інстытута, квіток № 277 за 18.03.93.

Акт складзены ў 5 экз.

Гэты акт падпісалі:

Называюцца пасады пералічаных вышэй асоб (злева) і прозвішчы (справа).

Я, Арцюх Мікалай Пятровіч, нарадзіўся 11 кастрычніка 1967 года ў вёсцы Брусы Мядзельскага раёна ў сялянскай сям'і. Бацька мой, Пётр Аляксеевіч, працуе шафёрам у калгасе, маці, Галіна Гаўрылаўна, – даяркай.

У 1974 годзе я пайшоў у Вузлянскую васьмігадовую школу.

У 1982 годзе паступіў у Ільянскі саўгас-тэхнікум, які скончыў у 1986 годзе па спецыяльнасці ветэрынар. Атрымаў накіраванне на працу ў свой калгас.

У 1986 годзе прызвалі ў армію. Служыў у Афганістане. Узнагароджаны медалём "За баявыя заслугі".

Пасля дэмабілізацыі ў 1988 годзе вярнуўся на ранейшае месца працы.

Завочна вучуся ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

Жанаты, маю двух сыноў.

*25 красавіка 1993 г. АРЦЮХ.*

ВЫПІСКА З ПРАТАКОЛА № 3

ПАСЯДЖЭННЯ ПРАЎЛЕННЯ КАЛГАСА "МАЯК"
АД 12 ЛЮТАГА 1993 ГОДА

СЛУХАЛІ:

III. Інфармацыю старшыні рэвізійнай камісіі калгаса В.І.Прахорчыка пра вынікі праверкі стану захоўвання таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на складзе № 2.

ПАСТАНАВІЛІ:

За дапушчаныя парушэнні правілаў захоўвання таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на складзе № 2 загадчыка склада М.І.Баброўку папярэдзіць.

Абавязаць М.І.Баброўку ў трохдзённы тэрмін (да 16.02.1993) ліквідаваць выяўленыя рэвізійнай камісіяй недахопы на складзе і забяспечыць належны парадак у захоўванні таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў.

Арыгінал падпісалі:
*Старшыня праўлення* У.Хацяновіч
*Сакратар* Н.Рудая
Выпіска дакладная:
*Сакратар* (подпіс) Н.Рудая

## 15.6.5. З ТЭКСТАЎ НАВУКОВАЙ І СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Дыпламатычная недатыкальнасць**, адна з ільгот, якія прадастаўляюцца дыпламатычнаму прадстаўніцтву і яго персаналу на тэрыторыі краіны знаходжання. Існуе недатыкальнасць дыпламатычнага прадстаўніцтва (памяшканняў, будынка і зямельнага ўчастка вакол яго). Улады дзяржавы знаходжання не могуць зайсці на яго тэрыторыю без згоды кіраўніка прадстаўніцтва. Дзяржава знаходжання павінна прымаць усе меры для абароны ад уварвання і нанясення шкоды прадстаўніцтву. Недатыкальнасць пашыраецца на архівы, дакументы, афіцыйную карэспандэнцыю, дыпламатычную пошту і дыпламатычнага кур'ера. Ён не можа быць арыштаваны ці затрыманы. Асабістая недатыкальнасць прадастаўляецца кіраўніку прадстаўніцтва, персаналу дыпламатычнага прадстаўніцтва і членам іх сем'яў. Яны не падлягаюць арышту або затрыманню. Недатыкальнымі з'яўляюцца прыватная рэзідэнцыя,

памяшканні, дзе жывуць дыпламаты разам з сем'ямі, іх карэспандэнцыя, паперы, маёмасць. Забараняецца вобыск і іншыя прымусовыя дзеянні. Дыпламатычная недатыкальнасць замацавана ў міжнародным дагаворы (Венская канвенцыя аб дыпламатычных зносінах 1961) і нацыянальным заканадаўстве.

**Маркетынг** (англ. marketing – гандаль). Комплексная сістэма арганізацыі вытворчасці і збыту прадукцыі, арыентаваная на задавальненне патрэб канкрэтных спажыўцоў і атрымання прыбытку на аснове даследавання і прагназавання рынку, распрацоўкі стратэгіі і тактыкі паводзін на рынку з дапамогай маркетынгавых праграм. У гэтых праграмах закладзены мерапрыемствы па паляпшэнні якасці тавару і яго асартыменту, вывучэнні пакупнікоў, канкурэнтаў і канкурэнцыі, па забеспячэнні цэнавай палітыкі, фармаванні попыту, стымуляванні збыту і рэкламе, аптымізацыі каналаў тавараруху і арганізацыі збыту, наладжванні тэхнічнага сервісу і пашырэнні асартыменту сервісных паслуг. Маркетынг як спараджэнне рынкавай эканомікі з'яўляецца ў пэўным сэнсе філасофіяй вытворчасці, цалкам падпарадкаванай умовам і патрабаванням рынку, які ўвесь час знаходзіцца ў дынамічным развіцці пад уздзеяннем шырокага спектра эканамічных, палітычных, навукова-тэхнічных і сацыяльных фактараў. Прадпрыемствы разглядаюць маркетынг як сродак для дасягнення мэт, фіксаваных на пэўны часавы перыяд па кожным канкрэтным рынку і яго сегментах, з найвышэйшай эканамічнай эфектыўнасцю.

...На тэрыторыі Беларусі выяўлены два арэалы адноснай высакаросласці. Першы ахоплівае Мінскую, Гродзенскую вобласці і паўночны захад Віцебскай, другі – Магілёўскую вобласць. Фізічны тып пасляваеннага пакалення сфармаваўся пад уплывам паскоранага росту і сталення арганізма (акселерацыі). У выніку яно ў параўнанні з папярэднім пакаленнем дасягнула большай даўжыні цела, пераважна за кошт большай нагі (прыкладна на 2–3 см) і верхнега фрагмента корпуса, г.зн. вышыні галавы і шыі (прыкладна на 1 см). Тэмпы акселерацыі залежалі ад ступені гетэрагеннасці папуляцый і ўмоў асяроддзя, дзе пэўны час фармавалася канкрэтнае пакаленне. У гараджан тэмпы вышэйшыя, чым у вяскоўцаў. Сярод сельскага насельніцтва Беларусі найбольш нізкія тэмпы акселерацыі пасляваеннага пакалення адзначаюцца на Палессі (САЛІВОН 1994, 104).

**Глеба** – паверхневы слой зямной кары, які развіўся ў выніку сумеснага ўздзеяння на горную (мацярынскую) пароду паветра, атмасферных ападкаў, сонечнага цяпла, жывых і мёртвых арганізмаў і мае прыродную ўрадлівасць. Складаецца з цвёрдай (арганічныя і аргана-мінеральныя злучэнні, што ўтвараюць гумус, першасныя і другасныя мінералы), вадкай (глебавы раствор), газападобнай (глебавае паветра) і жывой (глебавая фауна і флора) частак. У выніку глебаўтваральных працэсаў тоўшча мацярынскай пароды расчляняецца на шэраг глебавых гарызонтаў, якія ў сукупнасці ўтвараюць глебавы профіль. Мноства фактараў глебаўтварэння абумовілі вялікую разнастайнасць глеб, што выклікала неабходнасць іх класіфікацыі (тыпы, падтыпы, роды, віды) і раяніравання (правінцыі, акругі, раёны). Сукупнасць глеб пэўнай тэрыторыі складае глебавае покрыва. Глеба бесперапынна развіваецца і зменьваецца, у тым ліку пад уплывам гаспадарчай дзейнасці чалавека. У сельскай гаспадарцы глеба – асноўны сродак вытворчасці.

**Дыферэнцыяльнае вылічэнне**, раздзел матэматыкі, які вывучае спосабы вылічэння вытворных і дыферэнцыялаў і іх выкарыстанне пры даследаванні змены функцый. Разам з інтэгральным вылічэннем складае курс матэматычнага аналізу. Стварэнне дыферэнцыяльнага вылічэння як самастойнага раздзела матэматыкі належыць І.Ньютану і нямецкаму матэматыку Г.Лейбніцу (17 ст.). Ньютан браў за аснову паняцце вытворнай як скорасці руху. Лейбніц зыходзіў з задач пабудовы датычных і вызначэння экстрымуму. Тэрміналогія і абазначэнні, якімі карыстаюцца цяпер, належаць Лейбніцу...

**Мананукпеатыды**, арганічныя злучэнні, якія складаюцца з азоцістай асновы (пурынавай або пірымідзінавай), вугляводу (рыбозы або дызоксірыбозы) і астатку фосфарнай кіслаты. Мананукпеатыды – манамеры, структурныя адзінкі нуклеінавых кіслот. Адрозніваюцца па азоцістай аснове. Лёгка ўтвараюцца пры гідролізе дэзоксірыбануклеінавай і рыбануклеінавай кіслот у прысутнасці нуклеаз. Да мананукпеатыдаў адносяцца, напрыклад, адэназінмонафасфат, гуаназінмонафасфат і інш. Прысутнічаюць у клетках у свабодным выглядзе, адыгрываюць значную ролю ў абмене рэчываў; уваходзяць у састаў каферментаў і з'яўляюцца рэчывамі-акумулятарамі энергіі.

...Гукавая арганізацыя мовы, яе лексіка і граматыка – гэта асноўныя састаўныя часткі складанай сістэмы, якой з'яўляецца сучасная літаратурная мова. Лексіка служыць будаўнічым матэрыялам у мове. Аднак для таго, каб пабудаваць выказванне, якое перадае пэўную думку, нясе пэўную інфармацыю, звычайнага набору слоў недастаткова. Словы патрэбна паставіць у сувязь паміж сабой, аб'яднаць іх у словазлучэнні, трэба пабудаваць сказ. Сувязь слоў у словазлучэнні і сказе ажыццяўляецца перш за ўсё дзякуючы таму, што словы могуць змяняць сваю форму.

Вучэнне аб словах і яго формах, аб класах слоў (часцінах мовы) і аб іх катэгорыях, аб сувязях слоў, словазлучэнні і сказе – гэта і ёсць граматыка. З граматыкай самым цесным чынам звязана словаўтварэнне – вучэнне аб складзе слова і ўтварэнні слоў па пэўных мадэлях (словаўтваральных тыпах). Састаўныя часткі слова – марфемы – з'яўляюцца найдрабнейшымі граматычнымі адзінкамі мовы. Не выпадкова многія даследчыкі ўключаюць словаўтварэнне ў граматыку як яе неадрыўны раздзел.

Граматыка ўключае ў сябе марфалогію (вучэнне аб словах і яго формах, аб лексічна-граматычных класах слоў) і сінтаксіс (вучэнне аб сувязях слоў, аб словазлучэнні і сказе). Характар словазмянення, спосабы спалучэння слоў, спосабы пабудовы сказаў і вызначаюць граматычны лад мовы...(БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА 1985, 50).

...Вялікае Княства Літоўскае, у састаў якога ўвайшлі беларускія і літоўскія княствы, пачало складвацца ў канцы 12 ст. На працягу 13–14 стст. да яго былі далучаны ўкраінскія і некаторыя рускія княствы. Сталіцай гэтай дзяржавы спачатку быў Наваградак (Навагрудак), а з 14 ст. – Вільня. Дзяржава ў 14–15 стст. межавала на поўначы з Лівоніяй, Пскоўскай і Наўгародскай землямі, на ўсходзе з Маскоўскім і Разанскім княствамі, на паўднёвым усходзе з Залатой Ардой, на поўдні з Крымскім ханствам (выходзіла да Чорнага мора), на паўднёвым захадзе з Малдаўскай дзяржавай, на захадзе з Польшчай і на паўднёвым захадзе з Ордэнам крыжаносцаў (выходзіла да Балтыйскага мора). Яе тэрыторыя складала 900 тыс. кв. км...

Дамінуючае становішча ў дзяржаве займалі цэнтральныя землі, у якіх была сканцэнтравана асноўная маса велікакняжацкіх і дзяржаўных маёнткаў, тут жа знаходзіліся і асноўныя маёнткі буйных феадалаў. Гэтая тэрыторыя была параўнальна густа заселена, адсюль набіралася асноўная частка арміі, з яе насельніцтва ішлі асноўныя даходы ў дзяржаўную казну. Буйныя феадалы гэтых земляў Алелькавічы, Друцкія, Глебавічы, Гальшанскія, Кішкі, Радзівілы, Сапегі і інш. займалі пануючае становішча ў дзяржаве, у іх руках знаходзіліся ўсе найважнейшыя органы дзяржаўнай улады і кіравання. У сувязі з тым, што асноўную частку галоўнага ядра дзяржавы складалі беларускія землі, беларуская мова была прызнана дзяржаўнай мовай на ўсёй тэрыторыі дзяржавы (ЮХО 1992, 72–73)...

Помнікам дадзенай тыпалагічнай групы з'яўляецца выяўлены намі сумесна з архітэктарам інстытута "Белспецпраектрэстаўрацыя" У.С.Маскалёвым **храм другой паловы 16 ст. ў Гальшанах** (Гродзенская вобласць).

Вялікая гістарычная і архітэктурна-археалагічная каштоўнасць Гальшан у асноўным абумоўлена наяўнасцю такіх выдатных помнікаў беларускай архітэктуры 14–16 стст., як рэшткі замка і францысканскі кляштар. Кляштар складаецца з касцёла, жыллёвага корпуса, які абнесены мураванай агароджай з цаглянымі брамамі і двух'яруснай званіцай, што размешчана насупраць галоўнага ўвахода. Касцёл уяўляе трохнефавую прамавугольную ў плане базіліку, перакрытую крыжовымі скляпеннямі. Да паўднёвай сцяны касцёла прымыкае П-падобны ў плане корпус кляштара. Комплекс размешчаны на гандлёвай плошчы мястэчка, дзе перасякаюцца галоўныя вуліцы (КУШНЯРЭВІЧ 1993, 124).

### 15.6.6. З ТЭКСТАЎ ПУБЛІЦЫСТЫЧНАГА СТЫЛЮ

Я.ЛЁСІК

...Мова – гэта душа чалавека, краса і аздоба. Мова, як чалавек, павінна шанавацца, паважацца і прыбірацца з кожным разам у лепшыя, багацейшыя і зграбнейшыя ўбранні. Кожнае адметнае слова, кожны асабісты выраз нашых беларускіх гаворак мы павінны з пашанай страчаць і з вялікай любасцю, як надзвычайную вартасць, далучаць у агульную скарбніцу нашай літаратурнай мовы, а не хавацца за паветалізм, не цурацца і не казаць неабачна, што ў нас гэтак не кажуць. Калі, скажам для прыкладу, у адным месцы кажуць *яха,* а ў другім *рэха*, калі адзін кажа *маланка*, а другі *бліскавіца, марыць* і *летуцець* – дык і хвала яму, абы яно было наша роднае, беларускае. Наша мова так багата, пекна і гучна, што часам, дапраўды, не ведаеш, якое слова, які выраз лепей ужыць – ажно вочы разбягаюцца. Ужо адно наша кароткае і доўгае *у* чаго варта, ёсць чаму пазайздросціць. А гэтыя кароткія і доўгія канчукі ў словах *ідзе – ідзець, спявае – пяець* – гэта цэлы скарб для нашых пісьменнікаў і паэтаў! Усе гэта разам злучанае, разумна і датэнпна ўжытае, дадае багацця, красы, гучнай ёмкасці і далікатства ў літаратуру і людскую размову. Апарт гэтага, мова так узгадаваная, усімі гаворкамі выпешчаная, робіцца здатнай, сардэчнай, усім любай і лёгка зразумелай кожнаму, хто хоць крошку падвучыцца (ЛЁСІК 1994, 193)...

В.ЛАСТОЎСКІ

...Тодар Дастаеўскі – шляхціц Менскага павета па дзядах і прадзедах і сын доктара, які жыў у Маскве ў часы Мікалая I, у тыя часы, калі "рускасць" і "праваслаўе" былі да такой меры сінонімамі, што нават 100 000 латышоў у Ліфляндзіі, калі ўсякімі няпраўдамі ўдалося іх перавярнуць з лютэранства ў праваслаўе, залічылі "русскими", то Тодар Дастаеўскі мог пісаць толькі па-расійску, а не другой якой мовай.

Адам Міцкевіч, сын шляхціца Навагародскага павета, і навагародскага адваката часоў Аляксандра I і Мікалая I, ці мог пісаць ён якой-колечы другой мовай, акром польскай і часцю французскай?

Няхай расійская пісьменнасць пышаецца Дастаеўскім, няхай польскае вока загараецца агнём, калі называецца імя Адама Міцкевіча, – крыўскі народ ведае, што абодва яны цела ад цела і кроў ад крыві яго, і абодвух – і Дастаеўскага і Міцкевіча –

залічае да свайго алімпу. Слава Тодара Дастаеўскага і Адама Міцкевіча – гэта слава крыўскага нацыянальнага генія (ЛАСТОЎСКІ 1997 395)...

Л.ЛЫЧ

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЯК АБ'ЕКТ ДЗЯРЖАЎНАЙ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ

Сягонняшні гаротны стан беларускай мовы – гэта не вынік выпадковага збегу якіх-небудзь неспрыяльных акалічнасцяў, гэта і не натуральная асіміляцыя ці дабраахвотнае вырачэнне людзьмі свайго роднага слова. Тое, што і раней і зараз нас так моцна хвалюе ў мове, – гэта вынік дзе тонка прадуманай, а дзе проста самай непрыхаванай, грубай дыскрымінацыі самой дзяржавай законных правоў беларускага народа на выкарыстанне матчынага слова ва ўсіх сферах свайго грамадскага жыцця.

Нечуваная ў свеце дзяржаўная моўная дыскрымінацыя беларусаў мае працяглую гісторыю, якая вымяраецца не дзесяцігоддзямі, а стагоддзямі. Таму нельга не ганарыцца нашым народам, бо ён і ў страшэнна неспрыяльных умовах гэтак доўга заставаўся з родным словам. Ад таго часу, як пачалася моўная дыскрымінацыя беларусаў, асіміляваліся і сышлі з гістарычнай арэны сотні народаў планеты, а мы жывём і будзем жыць насуперак чужым і сваёй гадоўлі герастратам.

Першыя сур'ёзныя праявы дыскрымінацыі з боку дзяржавы беларускай мове давялося адчуць у 15 ст. Ініцыятарамі гэтай палітыкі былі польскія каралі, якія адначасова з'яўляліся і вялікімі князямі Вялікага Княства Літоўскага. На той час польская мова яшчэ істотна адставала ад беларускай у досведзе справаводства ў дзяржаўных, адміністрацыйных і судовых органах. У гэтых мэтах суседняя нам заходняя краіна выкарыстоўвала пераважна лацінскую мову, якая панавала і ў лацінскім набажэнстве...

Высокія дзяржаўныя дзеячы прапольскай арыентацыі выдатна разумелі, што патрэбныя больш рашучыя захады па выжыванні беларускай мовы з душаў яе этнічна самасвядомых носьбітаў. Нашая заходняя славянская суседка пайшла на тое, на што ў той час не адважылася яшчэ аніводная краіна Еўропы: у 1696 г. забараніла выкарыстоўваць беларускую мову ва ўсіх відах службовага справаводства. Больш агіднай акцыі ў дачыненні да развітай, дзяржаўнай у межах усяго ВКЛ мовы і прыдумаць нельга было. Пасля гэтага беларуская мова два стагоддзі не жыла, а пакутавала, у той час як суседнія мовы – польская і расейская – удасканальваліся ў мастацкай і навуковай літаратуры, у навучальных установах, хрысціянскім набажэнстве, канцэлярыях дзяржаўных, адміністрацыйных і судовых органаў...(АНЯМЕННЕ 2000, 20–22).

В.ГАНЧАР

Паважаныя ўдзельнікі канферэнцыі! Шаноўныя госці!

Дарагія сябры!

Гасцінна вітаю вас ад імя жыхароў горада на нашай маладзечанскай зямлі! Сёння я нязвычна ўзрушаны і ўсхваляваны, і такія ўзрушанасць і ўсхваляванасць адпавядаюць таму ўзроўню падзей, якія нас аб'ядналі сёння ў гэтай зале. Па сутнасці справы будуць тут гаварыць спецыялісты. Я ж не магу не адзначыць, што гэта сапраўды вялікая падзея ў нашым культурным жыцці. Я разглядаю і як знак вялікай пашаны тое, што гэтая канферэнцыя праходзіць у горадзе Маладзечна, горадзе, які славіцца сваім унікальным культурным асяроддзем, цудоўнымі ўзорамі

нацыянальнай культуры. Журналісты насмешліва-іранічна назвалі наш горад "горадам сонца". Сёння, калі на маладзечанскім небасхіле па-сапраўднаму зіхацяць зоркі нашых буйнейшых навукоўцаў, дзеячаў культуры, я не лічу, што такое параўнанне з'яўляецца перабольшаннем.

Хачу шчыра пажадаць плённай працы, творчых поспехаў усім удзельнікам канферэнцыі (БЕЛАРУСІКА 1993, 9–10).

В.БЫКАЎ

Такое ўжо наша нацыянальнае шчасце, наша людская доля, што на канцы 20-га стагоддзя мы змушаны займацца праблемамі, якія даўно адышлі ў цывілізаваных грамадствах. Там на чарзе – падвышэнне і без таго высокага дабрабыту, звышновыя тэхналогіі, эканамічная інтэграцыя, палітычная дыферэнцыяцыя, пазнанне макра- ды мікрасвету. Мы ж, як і раней, усё адгадваем загадку ўласнай сутнасці, сілімся зразумець, што мы ёсць у людской супольнасці, чым адметныя ад іншых. Значныя высілкі нашага інтэлекту, здаецца, ідуць на тое, каб даказаць сябрам і ворагам, а найперш сабе, што ўсё ж адрозніваемся і яшчэ маем права на тую рознасць. Бо мы – народ, вялікі ці малы, цывілізаваны ці не надта, але выразны і цэльны, створаны Богам для нейкіх таямнічых мэтаў на гэтай боскай зямлі. Мабыць, мы спахапіліся ў самы час, каб утрымаць рэшткі сваёй магчымасці, бо ўбачылі ўперадзе бездань, пагібель – цяпер ужо не ад ядзернага вар'яцтва, а найперш ад уласнай няздольнасці жыць...

Цяпер відаць ужо выразна, што перамога беларускай справы магчыма толькі высілкамі ўсяго народа. Вопыту аднае інтэлігенцыі тут мала. Высілкаў паасобных апосталаў – тым болей. Патрэбна з'яднаная, мэтанакіраваная, дзейсная палітычная воля нацыі. Але ці ўсведамляе ў належнай меры нацыя сябе нацыяй? Вось у чым праблема. Самая, можа, драматычная з праблемаў у дадзены момант нашай няшчаснай гісторыі. Аб тым, спадзяёмся, мы і пагаворым на нашай шаноўнай грамадзе (БЕЛАРУСІКА 1993, 10–12).

Р.БАРАДУЛІН

## З УСІМ СВЕТАМ ДА ПРАЎДЫ

Вяльможныя спадарыні і спадары, крэўнікі нашыя, ахоўцы і прадаўжальнікі слыннага крывіцкага кораня, спрыяльнікі і рупліўцы на ніве крывіцкай, беларускай культуры!

Дазвольце шчыра вітаць вас ад імя беларускага ПЭН-цэнтра і пажадаць вам плёну, поспеху, здароўя, творчага настрою!

Найперш я хачу звярнуцца да нашых суайчыннікаў з зарубежжа, што прыбылі на кангрэс. Лёс раскідаў вас па ўсім свеце, але большасць з вас не стала перакаці-полем, якое, раз адарваўшыся ад сваёй глебы, не мае нідзе ні прытулку, ні працягу.

Шмат хто насіў у сабе Беларусь, нібы кантрабанду, якую не маглі выявіць ніякія мытні, ніякія пагранічнікі.

Шмат хто панёс у сабе Беларусь, як той манах кокан шоўкапрада ў посаху, каб на чужыне прыжылося нашае крывіцкае слова.

Шмат хто нёс Беларусь пад сэрцам, каб нараджаліся на далёкіх мацерыкахДанчыкі, звінелі там жаўрукамі крывіцкія песні.

Дзякуй вам усім, хто шчадзіў у сваім сэрцы ўсё крывіцкае, усё наскае, роднае. Паклон вам; што не зракліся свайго, што засталіся крывічамі, беларусамі!

Гісторыя ніколі не была літасцівай да Беларусі. Дзяржава нашая, славутая сваёй даўнінай трапляла ў абдымкі то адной, то другой імперыі, ад царскай – адразу ў кіпцюры да савецкай. Крывіцкія косці гніюць у бязлікіх ГУЛАГах і Курапатах. Вялікадзяржаўны шавінізм – рак крыві нацыі – не змог да канца знішчыць нас. Чарнобыльскі генацыд страшней за сталінска-кадэбісцкі. А мы – жывем, мы спадзяёмся на працяг у вяках!

Халуйска-сталінскі гімн, мелодыя якога болей падыходзіць да хаўтур, сцвярджае: "Мы, беларусы, з братнюю Руссю". А мы хочам з усім светам, з усімі народамі ісці да святла праўды і прагрэсу, бо мы часціна Еўропы. Таму ўспомнім свой гімн:

Мы выйшлі шчыльнымі радамі
На вольны, родны наш прастор!
Жыве Беларусь! Спагадай, Божа! (БЕЛАРУСІКА 1993а, 23–24).

Н.ГІЛЕВІЧ

...Трэба патрабаваць ад усіх дзяржаўных і іншых службоўцаў хутчэйшага авалодання імі беларускай мовай і пераходу на гэту мову на працы, ставячы ім у прыклад ... ну хаця б сабе цяперашняга папу рымскага, які ў адрозненне ад дзяржаўных татаў беларускіх гаворыць з беларускімі дзецьмі па-беларуску.

Трэба асабліва настойліва змагацца за беларусізацыю школ, дзіцячых садкоў і ясляў, помнячы, што скрозь, на ўсім свеце выхаванне дзіцяці яшчэ ад калыскі пачынаецца ў гуках роднай мовы, што, напрыклад, у заможнай і культурнай Швецыі вывучэнне іншай, другой мовы ўводзіцца ў школе толькі з 5-га класа, калі ўжо дзіця ў стыхіі сваёй роднай мовы плавае, як рыбка ў вадзе.

Трэба зрабіць нашым, я сказаў бы, дзяржаўным і ўсенародным клопатам клопат пра культуру роднай мовы, пра яе чысціню і прыгажосць, вучачыся гэтаму ў іншых высокакультурных нацый, напрыклад у французаў, якія яшчэ ў 1634 годзе прынялі закон аб ахове чысціні мовы, у якіх, не кажучы пра шматлікія моўныя таварыствы і асацыяцыі, створаны ажно тры спецыяльныя дзяржаўныя органы, што кантралююць стан мовы, і якія перакананы, што ўзвелічэнне і ўзвышэнне Францыі і яе культуры залежыць ад мовы, здзяйсняецца праз культуру, прыгажосць і велічнасць мовы. Больш таго, у Францыі ад валодання роднай мовай можа залежыць вынік палітычнай барацьбы ў перадвыбарчай кампаніі, абвінавачанне: "Ён не ведае граматыкі французскай мовы" – вельмі моцнае, яго можа быць дастаткова, каб дэпутат у кандыдаты праваліўся...

Трэба пакончыць з гвалтоўнай палітызацыяй і ідэалагізацыяй у мове, у нашай тапаніміцы і антрапаніміі, зрабіць жыццё мовы і развіццё яе жывога арганізма свабодным і натуральным, што магчыма толькі тады, калі ў сваіх адносінах да мовы, да яе граматыкі, да яе слоўніка, сінтаксісу і фразеалогіі будзем абапірацца на навукова-аб'ектыўныя асновы, будзем паважаць вялікую навуку лінгвістыку, помнячы, што гэта навука не толькі пра законы развіцця мовы, пра структуру і жыццядзейнасць Слова, якое было напачатку і якое было Бог, але і навука пра законы развіцця чалавека, пра строй і жыццё душы чалавечай, душы народа... (ГІЛЕВІЧ 1996, 374–376).

## 15.6.7. З ТЭКСТАЎ ГУТАРКОВАГА СТЫЛЮ

– Цётка, раскажыце, калі ласка, пра сваю нявестку маладую.

– Яна ніжэй яго. Цёмныя валасы, кароткія. Былі няроўныя, пассекаліся, я іх адрэзала... Дзеўка добрая...

– Ну, а вяселле як гулялі? Чым кармілі людзей? Многа было людзей?

– Поўна было людзей. У Даманавічы ездзіла чалавек пяцьдзесят. Як в'юны ў кашы кішэлі ў машыне…

Хваціла і гарэлкі і к гарэлцы было… А назад па два рэйсы рабілі. Цэлую ноч гулялі… Помачы не было. Няма каму памагаць.

Палучыла мяса я – шэсцьдзесят пяць кіло. Колькі зрабіла патрашанкі, каўбас. У печы паабпекала, а потым – у лёгкі дух. Ева – другая мая нявестка – закалола кабана…

Гавяжыя патрахі. Мяса мяккага ў патрахі – і гавяжае і свіное… У кішкі ўкроп, каляндра, ліст лаўровы, перац чорны. Запяклі ў печы, у каструлю паскладалі, залілі жырам і ў лёгкі дух. Мінут дваццаць-трыццаць у лёгкім духе было. Потым яны сталі мяккія…Падавалі на стол, як прыехалі сваты…

– Глядзі, Алена, якіх я добрых качанят купіла. І нядорага.

– Пачом ты іх купляла?

– Па трыццаць капеек.

– Дык гэта ж дорага.

– А яны вялікія ўжо. Пакармлю трохі і скора рэзаць можна будзе.

– Можа, каб я ўбачыла, тожа купіла. Калі будуць прадаваць у другую нядзелю, дык куплю сабе. А то вывяліся ў мяне пяцьдзесят пылянят: ці каршун іх пахватаў, ці можа кот які.

– Чаму ты такая смурная сядзіш?

– Вой, сягоння ўсю ночачку не спала: почкі балелі. Думала, не паднімуся, карову не падаю.

– У каго цяпер што не баліць. У сваццi маёй халесцыт нейкі знайшлі. Зрабілі аперацыю. Цяпер не можа баба сагнуцца, ні разагнуцца. Картошка на полі не выбіраная стаіць, а ёй рабіць няма як.

– Дзе ж будзеш рабіць, пакуль яшчэ гэту балячку трохі вычухаеш.

– Халера нейкая чапляецца да людзей. Свет такі пайшоў, ці што. Даўней людзі былі дужэйшыя: дзяцей ражалі на полі, і аралі самі, і дзяцей гадавалі, і кросны яшчэ ткалі. А цяпер вырадзіць адно і то стогне, да маткі прэ. Цяперашняя маладзеж не ведае, куды сябе дзець…

…– У нас так гаварылі: "Прышлі калядкі, дык есце бліны і аладкі. Па двару ідзець, на гару завець. Цяперачка нада пастарацца, каб ні сварыцца, ні драцца". Старэйшым дзецям ігрышча прышлі. Скакалі дзеўкі з хлопцамі, пакуль падмёткі не адляцяць. Каляды былі дзве нядзелі. Хадзілі ў супраткі маладыя дзеўкі і жэншчыны. Усю ноч пралі. Маленькія падавалі старэйшыя – у бёрды. Усім была работа. Дзед вяроўкі праў. Упраж уся была з вяровак. Самі сабе адзежу шылі. Са зрэб'я ткалі, халсціну ткалі, пасцілкі шылі, з кужаля – ніжнюю адзежу. Самі і красілі. Краскі не было, дык красілі ў іржу, у іўнік. І доўга дзяржалася, не то што цяперашнія краскі: раз у ваду памакні, дык і злезе.

– Ты ж пра празнікі раскажы.

– Перад пасхай ткуць і прадуць. Вялікі пост – сем нядзель. Скаромнага не елі. А ўжо ў пасху і жаранае, і паранае. Як панаядаюцца, дык жываты баляць. Прыдуць маліцца, ды і млеюць. Было свята, а пасля свята бярыся за латы. Пасля пасхі запрагаліся ў плуг. Адсеяліся, цяперачка палоць будзем. Ураджай плахі быў. Ці яго палолі, ці калолі. Жыта як паспее, пачынаецца купалле. Каб у каровы ніхто малака не ўкраў, на забор калючак навешаюць. Хлопцы з дзеўкамі пазабіраюць каткі. Каткі занясуць на шлях і кінуць. Дзеўкі ходзяць па жыце і крычаць: "*Доля – у*". Долю шукалі, вянкі кідалі; як вянкі да кучы, дык самая вялікая сям'я будзе. Зімой хто лапці пляцець, хто вяроўкі ўець. Авечак білі, звалі краўцоў на дом, каб кажухі шылі. Прыдзе майстар – карміць нада. Гарэлкі не давалі, не было тады гарэлкі. Не было

дзе купіць, усё на даму рабілі: валенцы білі, бабам шылі кажухі з казачынкамі, у кажухі пугавіцы рабілі з кожы. І яда не такая была, як зараз. Кулеш быў першае блюда, капуста з канапляным маслам. Кароў дзяржалі па дзве, тры. Малако бэрлялася, калі густа, а калі пуста, прадаць няма дзе. Магазінаў не было. Па бальшых дарогах карчмы стаялі, жыды ў іх таргавалі. Калі мужык грошы мае, дык усё і аставіць. Няма грошай, дык фамілію запішуць…

– Дзядулечка, раскажыце, калі ласка, як жаніліся і замуж выходзілі раней.

– Гэта было вельмі не проста. Усё рабілася па волі бацькоў. Не любіліся, не заляцаліся перад вянчаннем доўга – некалі было. А сваталі дзеўку, і ўсё там. Калі ўдала трапляла, пасля ўжо прывыкалі, пачыналі любіць адзін аднаго, муж і жонка, а вельмі многа жылі не па любві – гэта ўжо не жыццё, а мучэнне адно!

– Цяпер такога і ў паміне няма, хлопец і дзяўчына самі знаёмяцца, выбіраюць адзін аднаго па сэрцу, дружаць і вырашаюць самі: жаніцца ці не. Умовы для гэтага ўсе ёсць, ды й закон на іх баку.

– Да, лацвей цяпер жыць, асабліва моладзі. Для вас, маладых, зараз усе ўмовы створаны, толькі вучыся, любіся, жаніся, ды красуйся сабе. У нашым калгасе, напрыклад, ёсць усё, што трэба для маладых людзей: і Дом культуры, паказваюць кіно, амаль у кожнага тэлевізар, ёсць добрая школа. Кожнаму можна выбраць работу па душы ў калгасе, хочаш вучыцца – вучыся колькі хочаш і на каго хочаш, не тое што за царом, як быў малы. Адна ўцеха была царква, вечарынкі ды самагон і работа з цёмнага да цёмнага.

…Дык вось, заручыны па народнаму звычаю адбываліся ў доме нявесты. Галоўны кіраўнік быў сват. Хлопца і дзяўчыну спачатку садзяць паасобку, і толькі пасля таго, як прысутныя выслухалі іх намер ажаніцца, ім тады дазвалялі садзіцца разам. Маладыя прыгублялі чаркі, і толькі затым іх аб'яўлялі жаніхом і нявестай.

– Здароў.

– Здароў, здароў. Ну праходзь далей на хату, сядай.

– Дзякуй. Ну як жа ты тутака маешся, як пажываеш?

– А вот памаленьку, дзень да вечара. А я цябе вельмі даўно бачыла, ой, колькі часу прайшло шмат, бедавала, кажу: чаму гэта ты да нас не прыходзіш, думаю, можа чаго зазлавалася?

– А чаго ж я буду на цябе злаваць, ды і за што. Я ўвесь гэты час хварэла, так скруціла мяне, што думала ўжо не выжыву, памру, але памаленьку, памаленьку, глядзіш – і ачуняла.

– А што з табой такое зрабілася?

– А бо, дай жа рады: суседка папрасіла памагчы ёй перабраць бульбу ў склепе, расчыніла дзверы, і акенца таксама было адчынена, а мяне так скразняком прахапіла, што ўсе жылачкі скруціла ў целе, жывога месца на мне не было.

– А я нават нічога гэтага не знала, хоць бы выправіла Ніну да цябе, а то сама ж я не дайду, сама знаеш, ногі баляць. Раней бывала, дык усюды даляту, дайду першая, а цяпер ног не магу перасунуць, вось дык дажылася. Ну а цяпер як ты сябе адчуваеш?

– Ды ўжо ж балазе, дзякуй богу, трохі лепей. Ці відзела ж ты Марусю?

– Не, не відзела, а што такое здарылася?

– Чаму ж: у яе дзяўчыны вяселле скора будзе.

– А за каго ж яна выходзіць замуж?

– За хлапца, а такі ж хлапец харошы, і куды ён лезе, у якое пекла?

– Чаму? Хіба дзяўчына такая благая, яна ж і не брыдкая зусім, здаецца…

…– Жэня перабралася бліжэй да кіна. Жыве, дзе брыгадзірша жыла. Ірышка, куды садзіш у вушка ручку! Пагляньце, якое ўжо вумнае дзіця, бярэ расчоску, ідзе да

зеркала, расчосвае коскі. Ой, не бяры лямпачкі ў роцік, хай яны затануць. Божа, божа, ніхто акром мяне не жалее. Бяжы да зеркала, паўзірайся.

– Нейкія песні харошыя пяюць па тэлевізару. Так, жонка, палучу яшчэ адну зарплату, куплю цвятны тэлевізар.

– Нашто табе цвятны?

– У мяне ніякага ж няма. Нашто ж грошы збіраць?

– У Расіі, гаворанць, як грошы палучаюць, то тры дні п'юць.

– Нехта да нас ідзе. Спытай, якое кіно (МАЖЭЙКА, СУПРУН 1989, 164–173).

В.ВОЛЬСКІ

## НЕСЦЕРКА

...П а н (*узяў стрэльбу, дае Несцерку*). Вазьмі ты вось гэтую стрэльбу ды падстралі мне ветру.

Н е с ц е р к а (*бярэ стрэльбу з сур'ёзным выглядам*). Добра, паночку. (*Разглядае стрэльбу*). Але ж яна, паночку, не зараджана. Загадай, каб зарадзілі стрэльбу вадой, тады я і падстралю табе ветру.

П а н (*смяецца).* Хіба можна зарадзіць стрэльбу вадой?

Н е с ц е р к а. А хіба можна падстраліць ветру?

П а н. Ну, што з табой рабіць? Тады вазьмі вось гэтую нітку ды сатчы мне з яе кашулю. (*Дае Несцерку нітку).*

Н е с ц е р к а. Добра, паночку. Але спачатку вазьмі ты вось гэтую трэску (*дае пану трэску*) ды зрабі мне з яе кросны, тады я сатку на іх кашулю.

П а н (*смяецца).* Хіба можна з трэскі зрабіць кросны?

Н е с ц е р к а. А хіба можна з адной ніткі саткаць кашулю?

П а н *(смяецца*). А цяпер зрабі ты мне, хлопе, вось што...

Н е с ц е р к а. Што, паночку?

П а н *(бярэ з талеркі яйка*). Бачыш, варанае яйка? Вазьмі ты гэта варанае яйка і пакладзі пад квочку, каб яна выседзела з яго куранё. Куранё гэта ты зарэж, засмаж ды прынясі мне сёння на вячэру. Зразумеў? (*Дае Несцерку яйка).*

Н е с ц е р к а (*кладзе яйка ў кішэню*). Добра, паночку, зраблю як пан хоча. (*Узяў кавалак хлеба, адламаў скарынку і дае пану*). Але спачатку вазьмі ты гэтую скарынку ды пасадзі ў зямлю, а калі вырасце з яе жыта – сажні, намалаці ды мне прышлі, каб было чым гэтае куранё выкарміць.

П а н (*смяецца*). Хіба можа з печанага хлеба жыта вырасці?

Н е с ц е р к а. А ці можа з варанага яйка вырасці куранё? (*Ачышчае яйка і есць, закусваючы скарынкай*).

П а н. Бачу я, знаходлівы ты, хлоп. Спрытны. Ёсць у цябе розум.

Н е с ц е р к а. Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам...

М.ЧАРОТ

## МІКІТАЎ ЛАПАЦЬ

... Я ў м е н ь (*з пугаю*). Во пячэ! Як у чалесніках! Трасца яму ў бок!

Д а р' я (*выйшла).* Дзень добры, суседзе!

Я ў м е н ь. Добры дзень!

Д а р' я. Я ж кажу, што зранку пачало так пячы, каб дождж часамі не пайшоў. І замарыліся, відаць.

Я ў м е н ь. А ўжо ж замарыўся, трасца яму ў бок! Хлапца не наняў, самаму прыходзіцца і за сахой, і за бараной, і за канём, і за ўсякаю паветраю цягацца, трасца яму ў бок! Ніколі ў хаце не бываем.

Д а р' я. А гэта і дрэнна, што ў хаце не бываеце!

Я ў м е н ь. А хто ж кажа, што добра? Ведама – дрэнна, трасца яму ў бок!

Д а р' я. Я ж кажу, што чалавек за працаю ніколі ў хаце не бывае, а людзі чорт ведае што гавораць.

Я ў м е н ь. Што ж яны гавораць, трасца ім у бок? Што я гультай?

Д а р' я. Ды не... Але лепш аб гэтым не казаць!

Я ў м е н ь. Што ж такое?

Д а р' я. Кажу, лепш не казаць!

Я ў м е н ь. Зацікавіла, трасца яму ў бок, і казаць не хочаш! Кажы, я злавацца не буду...

Д а р' я. Баюся казаць, каб дрэннага чаго не выйшла... Мо гэта шчэ і няпраўда!

Я ў м е н ь. Ну дык кажы, трасца табе ў бок!

Д а р' я. Ну, калі так прыстаеш, то не гневайся і слухай. Кажуць людзі – мо шчэ гэта і няпраўда – што як сам бываеш у полі, працуеш, то да жонкі госці ходзяць... частуюцца.

Я ў м е н ь. Трасца табе ў бок, ад каго ты чула?

Д а р' я. Гэта я табе не скажу, але шчэ раз кажу, што, можа, усе маняць. Пакуль сам не пераканаешся, маўчы лепш: мала што людзі кажуць!

Я ў м е н ь. Я буду маўчаць, трасца ёй у бок! Яна тут п'янствуе ды шчэ што вырабляе! Я бачу, што апошнія дні асою ў вочы пачала кідацца! Вось гэтым пугаўішчам пацягну разоў колькі, дык не захоча мяне больш ашукваць, трасца ёй у бок! Бачыў ты яе?!.

В.КАРАМАЗАЎ

## БЕЖАНЦЫ

– Адкуль ты? – спытаў у хлопца.

– З-пад Бялыніч. Вёска – Жукоўка.

– Як жа ты апынуўся ў дзіцячым доме?

– Мама памерла. Дзед злёг у бальніцу, з дзіркамі ў лёгкіх. Я пайшоў па людзях. Зіма. Трэба было нешта есці. Залез да цёткі ў каўбасы – мяне і цапнулі.

– А бацька?

– Бацьку павезлі на варанку. Я мала яго помню.

– А што ён рабіў у вёсцы?

– Што рабіў? – Раман хмыкнуў, як здзівіўся. – Што ў вёсцы робяць? Араў, сеяў, касіў, малаціў.

– Можа, начальнікам быў? Старшынёй, брыгадзірам?

– Старшынёй? Не, не быў. І брыгадзірам не быў. А начальнікам быў. Як стане ў баразну за плуг – тады хто начальнік, як не ён? Ці як касу ў рукі возьме, ці лейцы. Цэп над снапамі ўскіне – тут ужо ён галоўны.

– Селянін, адным словам?

– Ну... людзей хлебам карміў.

– Бачыш?..

## 15.6.8. З ЗАПІСАЎ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЫ

### ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІ ДЫЯЛЕКТ

Каб сьпячы хлеб, парылі бульбу, перамешалі з мукой, вадой і ў дзяжы рашчынялі. Дрожжай ні было, была рашчына. Яе дзелалі так: муку мішалі з вадой й ставілі ў цёплае места, іна брадзіла. Печ хлеб нада было каждую нядзелю. За адзін раз хлеб пяклі дней на пяць. Значыць, учыніш ету бульбу з мукой, к вутру яна ўжэ начыная брадзіць. Тады сыпіш солі, муку й месіш рукой. Каб ні бралась за руку, мачаіш руку ў халодную ваду. Замешаная цеста ставіш на печ у цёплая места. А тады запаліваеш печ, пака за два часы печ вытапіцца, дык падойдзя цеста. Бралі памяло, яго мачалі вадой, качаргой вымітали жар на загнет, а памялом вымітали ў печы. Былі 'шчэ длінныя дзірывянныя лапаты. На ету лапату сыпалі мукі, а калі восеньню – скатывалі цеста ў булку й садзілі яго на кляновая ці дубовая лісьця, а тады на лапату й ціхонька совалі ў печ. І так пёкся хлеб. Тады хлеб вынімалі, лажылі на слон, зьверху скарыначку абмачывалі вадой і накрывалі рушніком.

(*в. Косаль Кармянскага р-на Гомельскай вобл.*)

### ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНІ ДЫЯЛЕКТ

Раней ля выпячкі хлеба была дзяжа, зробляная з дубовых клёпак, каб закваска дзяржалася. Дзяжа накрывалася дзеравянай крышкай. На цэлы тыдзянь булачку цеста пакідалі ў дзяжы на закваску й заўсягда ўлівалі кружку вады, каб дзяжа не разасхлася. Каб лепш укіс хлеб, дзяжу ставілі ля печы або на печы. Рашчынялі вечарам хлеп на цёплай вадзе с аржаной мукі. Усю ноч кіс гэты хлеп, а раніцай мясілі яго. Ля хлеба была сьпіціяльная дзяравяная лапата, яе нідзе не ўпатраблялі. Лапата была з доўгаю ручкаю. А калі выгарвала ў печы, вымяталі чысьцянька печ, патсьцілалі на лапату дубовы ліст або аір і саджалі хлеп на чарэнь. Дубовы ліст і аір патсьцілалі ля таго, кам пахла скарынка. Яшчэ ля запаху кідалі кмен, чарнушку. Чарнушку сеялі сьпіціяльна ў агародах ля хлеба. Як укіняш у хлеб чарнушку, дак пахня і быў вельмі ўкусны хлеп. Хлеп пячы трэба было ўмець. У адных удаваўся хлеп, а ў другіх не. Той гаспадыні, у якой ні ўдаваўся хлеп, было вельмі пазорна.

(*в. Гарадок Уздзенскага р-на Мінскай вобл.*)

### СЯРЭДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГАВОРКА

Йак йа маладайа была, працавац' было ц'ажола. Трэба было с'арпамі жац', трэ' было л'он ірвац' рукамы, трэ' было пран'ікамы аб'івац', а тады шчэ рукамы м'ац'. А тады шчэ трэ' была рукамы прас'ц'і. І ткац'. А тады шчэ й б'аліц' трэ' была. А ц'ап'ер многа пал'яхчэла, ус'е роб'ац' машыны. Можна пас'адз'ец', ц'іл'ав'ізар пагл'адзец', аддыхнуц'.

Йак калгоз стоў ц'апер, роб'ім ус'е разам, в'ес'ала раб'іц'. Старайімс'а, кап калгоз пабагац'еў і л'удз'ам л'еп'ай было. Маладз'ож ус'а ў горадз'а, ал'е мы, старыйа ус'а 'дно старайімс'а. А ў калгоз'а зразу кароў мала было, а ц'ап'ер можа бол'ай за тыс'ачу. Йак пачынаўс'а, йак'іх трыццац' кароў было, тры дайарк'і, дайіл'і рукамы, а ц'ап'ер дайарк'і ходз'ац' і п'ес'н'і п'айуц': ус'о машынамы роб'ац'. Кон'мы арал'і, кошыкамі садз'іл'і за кон'мы картошку, плугамы арал'і. А капал'і тожа гэтаксама: кан'амы арал'і, рукамы выб'ірал'і, кошык'і нас'іл'і, ссыпал'і ў м'ах'і. А ц'ап'ер камбай прыдз'а, выкапайа ўс'о – і парадак.

(*в. Янкоўка Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.*)

Шо вам сказаты, дак шо ж вам сказаты? Йа вжэ прывыкла тут, йе много молодых, мы вс'і дружымо сэмйам'і. Правда, работы много, рано як встаныш і до позн'его вечора, всэ времйе робыш.У нас тут вэл'м'і добро, йе л'іс, йе і рэка. Пр'ійіжджайтэ до нас л'ітом, п'ідэм разом по грыбы, по йегоды, коровы будэм пасвыты, разом. Правда, правда! Йа вас врано взбуджу, часов так в пулшостого, і пожэном коровы. На другы дэн п'ідэм по грыбы, на трэт'і дэн в Йанов пойідэм шо-н'ібуд' купыты. А потом п'ідэм на с'іно, а на шо́сты гэто субота, вэчором готов'імса до нэд'іл'і. А в нэд'іл'у можно в сэло сходыты. Пр'ійіжджайтэ з мужыком своім, а нэ – с подрушкойу, з д'івчінойу свойейу, пр'ійіжджайтэ. Можно вэснойу пр'ійіхаты, на майскы празныкы. Так шо прі'йіжджайтэ в госты. У нас клуб вэлыкы, і нэ тыл'ко молод'ож туды прыходыт', прыход'ат' в клуб і л'уды пожылога возраста. Спывайім пысны. Спывайімо б'ілоруск'ійе пысны вос' йак:

Тэчэ вода в йарок, тэчэ вода в йарок,
Кладочку занэсло...

і, кон'ешно, свойі пысны. Л'уды йіх прымайут', слухайут' вэл'мы добро. Мныго пысэн' спывайімо, всэ воны хорошы, всэ л'убімы:

Чым ты нэ прышов, йак мыс'ец взышов?
Йа тэбэ чэкала.
Чы кон'а ны мав, чы стэшкы нэ знав,
Маты нэ пускала?

(*в. Снітава Іванаўскага р-на, ад Т.М.Дробыш, 33 гады*)

## З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК БРАНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Гънч'арствам у нас ужо мала хто зан'імаецца. Гънч'арамы зав'ом тых, кто гаршк'і, міск'і, кушыны д'елайа. Нада гар'шшок – ідут' к гънч'арам. А йашше гаршешн'ікамі звал'і, каторыйа гаршк'і д'елал'і, гънч'ары, йета адно. Гършечн'ік – йета гънч'ар, ус'о адно, і гънч'арам' завут', і гаршечн'ікам'і, ус'о услышыш у нас тут. Л'еп'ікам завут' інагда.

Кънайім гл'іну, каторъйа нас тут йес'т'. Ана м'ахкъйа, сл'іскъйа, за рук'і бярэца. Завоз'ім гл'іну пр'ама в дом іл'і ва двор, воз у паўтонны адной гл'іны, патом с паўтонны другой, м'ашал'і д'ве гл'іны, а то й тры. Гл'іна м'ахкъйа і скол'скъйа, йак т'еста.

Мы, ганч'ары, нъзывайім гл'іну н'іжырнайу поснай, па-нашыму, мыла. Із адной мылы гаршок н'а вырабатывайіцъ, н'і хватайіт' свойств. Ана йак мыла мыл'іца. Ана м'ахкайа, мыла йета, йейо скабл'і'т' можна, і скол'скъйа, йежал'і па йей пач'іркайіш палачкай, к пр'ім'еру, так ана пузыр'іцца. У мылы цв'ет крас'івый...

(*в. Сіні Калодзец Навазыбкаўскага р-на, ад А.І.Кавалёва, 64 гады. Запіс ад 1977 г.*)

## З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК СМАЛЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

С'іл'на плъхая жыс' была пр'і пънах. Тады роб'іш как ръба і звал'і рабой. А дз'ет мой жыў у бътраках у пънах. У н'адз'ел'і адз'ін дз'ен' у с'аб'е робіц', а то пану ус'о. А н'а зроб'іц' ус'о – дваццац' п'ац' пл'отък, дваццац' п'ац' пл'отък йаму. Дз'есіц' пл'отък жэншшынъм. Плашэй н'і нада было ўр'ем'а.Зъ йагъды п'ац' кап'ейік дадуц' і канхв'еты, а йес'л'і н'а ўслужыц', высыпл'уц' і нъгам'і патопчуц'. У йаго тыс'іц трыццъц' з'амл'і было, у пана. Роб'іл'і ус'о йім. Хадз'іл'і мълац'іц', жац', навозы ваз'іл'і. Б'іднац'е паны дъвал'і хл'еп, а йаны за хл'еп роб'іл'і. Тол'к'і за кусок роб'іл'і.

Тады бувала нъ в'іцарынк'і н'а ходз'ім пъ нъцах. Н'іхто н'ікуда н'а ходзіц', гул'ац' н'екал'і было. А на з'в'іжан'н'а бувала ў гос'с'і пайедз'еш. Стъйац' лаўк'і. Там і струц'к'і, канхв'еты, пр'ан'н'ік'і, йаблык'і.

Бувала, п'ашком у Смаленск хадз'іл'і, а то кън'а зъпраг'ем і пайедз'ім у дарогу. Цытыр'і дн'і йедз'іш съ Смал'енску...

(*в. Каўшыры Дзямідаўскага р-на, ад М.А.Абрамцавай, 78 гадоў. Запісала С.М.Прохарава*)

З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА

Йак йа была маладайа дз'еўка, от была н'іц саб'е, харошайа. Ну а была йаго с'астра ў нашы йосцы, давай, пасватайа мн'е свайго брата. Прыходз'іц' рас, друг'і рас, а то была мус'і сем кіл'амэтры ад нас, а пуз'н'ай кажа на м'ін'е: "Будз'ам жан'іл'іса". Йа кажу: "Тай жан'емсо". Ну й во так, зав'аз'лі на запав'ац'. Вышл'і ў запав'едз'і, давай брацца за васэл'а. Васэл'а зраб'іл'і, маладому тато дал'і на васэл'а, ну й васэл'а, ну й васэл'а пуз'н'ай.

Што п'ерша? Каравай п'акуц'. Рашчын'айа мама хл'еп, зам'ас'іл'і і кладз'ем на лапату, уб'іраюц' кв'атачкам'і каравай, і са тры ш чтэры дз'еўк'і б'аруцца за лапату, мама наклала на лапату, б'аруцца і садз'ац' у печ, садз'ац' і сп'авайуц':

Рас'ц'і, рас'ц'і каравайчыку...
Вышай п'ечы прам'ан'ен'кайі.

І так гаворац', йак каравай н'і пакол'ацца,то будз'а жыц'а хароша, а йак каравай пакол'ацца, кажуц', жыц'а будз'а ні'харошайа. Ну й пуз'н'ей прос'ац' у васэл'а. Ну кажда матка дл'а дачк'іе п'ачэ гус'і. Рашчын'іц', накладайа, парэжуц' дробн'ан'ко. Мама цэлу п'еч насадзіц' гэтыг гус'ей, сваха наб'арэ тыг гус'ей, ус'іг дз'іц'ей дз'еліц' гус'ім'а. Дз'ец'і врадованыйа, што дастал'і гус'ей. От, кажуц', васэл'а файна, што гус'ей многа дастал'і. Ну, от сп'акл'е каравай і пуз'н'ай на в'ечар кл'ічуц' ус'е свах'і, братэ, с'ядайуц' акола стала, с'адав'ацца за стол і с'п'авайуц'. Лом'ац' м'ірт, а йак в'аснойу ц'в'іце в'ішн'а – в'ішн'у, і роб'ац' в'анок...

*(в. Ягінты Домбраўскага павета, ад М.Кульпачэўскай, 1911 г.; запіс 1971 г.).*

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Як і большасць іншых славянскіх моў, беларуская мова характарызуецца сваёй багатай гісторыяй, вытанчанай стылістычнай апрацоўкай, рафінаванай сацыяльнай дыферэнцыяцыяй, вялікай колькасцю пісьмовых помнікаў і разнастайнай навуковай, даведачнай, публіцыстычнай і асабліва мастацкай літаратурай. Прычым па колькасці старадрукаў, апублікаваных фальклорных помнікаў, па навуковаму апісанню сваіх дыялектаў і гаворак беларуская мова і навука аб ёй займаюць прыярытэтныя пазіцыі ў славянскім свеце.

Адметнасць гісторыі беларускай літаратурнай мовы ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі палягае ў тым, што яна мела працяглы перапынак у сваім развіцці, які, аднак, быў хутчэй карысным і плённым для мовы, бо яна адрадзілася на незамутнёных шматлікімі іншамоўнымі запазычаннямі і не скаваных кніжнымі традыцыямі народных дыялектных крыніцах, дзякуючы чаму захавала ў сабе, гэтаксама як і антрапалагічны тып носьбітаў гэтай мовы, беларусы (КАРСКІ 2001, 63), найбольш глыбінныя славянскія карані, адмысловую, адну з самых мілагучных у свеце вусную форму вымаўлення (гл.: БЕЛАРУСІКА 1992, 199) і, бадай, самае галоўнае – адлюстравала арыгінальны, духоўна невычэрпны і чароўны светапогляд многіх пакаленняў людзей, якія называліся і крывічамі, і ліцвінамі, і тутэйшымі, і зараз называюцца беларусамі.

Беларуская літаратурная мова ўзнікла раней за многія іншыя пашыраныя мовы сучаснай Еўропы. Так, нямецкая літаратурная мова ўтвараецца на грунце верхненямецкіх дыялектаў толькі ў 16-м стагоддзі, а старабеларуская літаратурная мова ў асноўных сваіх рысах склалася ўжо ў канцы 14-га ст. (гл.: КАРСКІ 2001, 103). Пераклады Бібліі, самай пашыранай крыніцы ведаў, адукацыі, культуры сярэдневяковай Еўропы, Ф.Скарынам на старабеларускую мову зроблены ўжо ў пачатку 16 ст., што раней, чым адпаведныя працы на такіх сусветных сучасных мовах, як англійская і руская.

Беларуская мова была адзінай дзяржаўнай у адной з найвялікшых і культурных краін Еўропы – Вялікім Княстве Літоўскім (ВКЛ); на гэтай мове быў напісаны слынны Статут ВКЛ, які стаўся ўзорам для стварэння юрыдычных дакументаў як у Расіі, так і ў еўрапейскіх краінах, “яго можна лічыць самай дасканалай кнігай законаў ва ўсёй Еўропе” (СТАТУТ 1989, 38), дзе яшчэ панавала латынь, на якую і быў перакладзены згаданы помнік. Старабеларуская мова выкарыстоўвалася ў якасці метамоўнага сродку пры апісанні і тлумачэнні старaславянскай мовы ўжо ў канцы 16-га стагоддзя, а сама была граматычна апісана лацінскай мовай у навуковай працы І.Ужэвіча ў сярэдзіне 17-га стагоддзя, што зроблена раней за граматычнае апісанне, напрыклад, рускай мовы. Старабеларуская літаратурная мова цягам 14–17 стст. функцыянавала ва ўсіх сферах жыцця нашых продкаў, аб чым сведчаць жанрава разгалінаваныя пісьмовыя помнікі (летапісныя, дзелавыя, перакладныя, рэлігійныя, мемуарныя, публіцыстычныя, мастацкія, навуковыя), частка якіх толькі ў галіне дзелавой пісьменнасці налічвае дзесяткі тысяч тамоў (БУЛАХОВ 2001, 14).

Нягледзячы на лексічную стракатасць, заснаваную на шматлікіх запазычаннях з розных моў (старaславянскай, польскай, нямецкай, лацінскай, грэчаскай і інш.), і пэўную штучнасць старабеларуская мова выконвала функцыю не толькі дзяржаўнай, але і выкарыстоўвалася ў якасці міжнароднай мовы, у прыватнасці ў афіцыйных зносінах з колішняй Расіяй (Масковіяй), нават калі Беларусь была ўжо ў складзе Рэчы Паспалітай (гл.: ЛЫЧ, НАВІЦКІ 1997, 83), дзе, зразумела, панавала польская мова, якая ўрэшце рэшт і выцесніла беларускую літаратурную мову амаль з усіх сфер сацыяльнага жыцця нашых продкаў, бо адзіная дзяржава як правіла імкнецца мець і адзіную дзяржаўную мову. Афіцыяльна выведзеная з сацыяльнага ўжытку ў канцы 17-га стагоддзя беларуская мова рэалізавала духоўны патэнцыял сваіх носьбітаў у вуснай народнай творчасці, якая з'яўляецца на сённяшні дзень адной з багацейшых у Еўропе (апублікавана каля 40 тамоў казак, легендаў, песень, паданняў, замоў, парэмій, жартаў, загадак і інш.).

Падлеглая забаронам, доўгаму непрызнанню ў якасці самастойнай, абмежаваная ў сваім выкарыстанні, зменeная гвалтоўнымі рэформамі (1933, 1957 гг.), скіраванымі на збліжэнне з рускай мовай, сучасная беларуская мова вытрымала ўсе нягоды, цяжкія

выпрабаванні, што выпалі на яе долю, зрабілася адной з развітых літаратурных моў свету, на якой створана багатая мастацкая і публіцыстычная літаратура, назапашана вялізнае слоўнікавае багацце, зроблены шматаспектныя лінгвістычныя апісанні. Беларуская літаратурная мова трывала ўсталявалася на лінгвістычнай карце свету са сваёй арыгінальнай структурай і складам у фанетыцы, граматыцы, лексіцы, фразеалогіі нягледзячы на тое, што функцыянуе пераважна ў пісьмовай форме і ахінае ў асноўным толькі сферы прыгожага пісьменства, публіцыстыкі (гл.: ШАКУН 2001, 121), часткова грамадскіх навук. У астатніх сваіх стылях беларуская мова мае добра распрацаваныя слоўнікі і ўзоры пісьмовага і вуснага выкарыстання, якія, аднак, на сёння застаюцца незапатрабаванымі ў нашым грамадстве.

З усіх форм існавання сучаснай беларускай нацыянальнай мовы найбольш значныя нястачы і беды абрынуліся на вуснае гутарковае маўленне, якое пад магутным уплывам спачатку польскай, а потым рускай суседніх моў прасякнута разнастайнымі фанетычнымі, граматычнымі, лексічнымі ўкрапінамі і ўяўляе таму ледзь не адзіную ў Еўропе неарганічную моўную сумесь, трасянку. Шматлікія лексічныя запазычанні служаць для любой мовы здаровай і нармальнай з'явай, калі яны нязмушана і натуральна асімілююцца мовай-рэцыпіентам. Калі ж яны, як гэта сталася ў беларускай мове, жывуць разам з зыходнымі формамі роднай мовы ў механічна змешаным стане, не з'яўляюцца тут засвоенымі, а выдзяляюцца выразнымі русізмамі ў беларускім фанетычным і граматычным абліччы, то цалкам матываванай і зразумелай служыць тая адмоўная ацэнка некаторымі людзьмі атрыманай трасянкі з пункту гледжання гучання апошняй, што, аднак, потым аўтаматычна і несправядліва пераносіцца на ацэнку беларускай мовы ў цэлым.

Галоўная мэта асіміляваць беларусаў і палякамі, і расійцамі ажыццяўлялася самым надзейным шляхам – праз пазбаўленне сваёй адмысловай мовы, гэтай галоўнай і лёсавызначальнай рысы нацыі. У пэўнай ступені гэта мэта дасягнута ў дачыненні да вялікай часткі нашага насельніцтва, але сутнасць нацыі выражаецца, а яе каштоўнейшыя культурныя здабыткі робяцца, ствараюцца не арыфметычнай большасцю абрусеўшых насельнікаў краіны, а здольнасцю і самаадданай працай найбольш таленавітых і выразных яе (нацыі) прадстаўнікоў, колькасць якіх у любой існай нацыі з'яўляецца канстантнай, стабільнай велічынёй. Гэтая велічыня значна меншая ў параўнанні з асноўнай масай, але складаецца з найбольш актыўных, творчых, нацыянальна свядомых асоб, якімі фактычна і ствараюцца самыя значныя духоўныя каштоўнасці, чым найперш ганарыцца і славіцца любая нацыя.

Калі пад час вета беларускай літаратурнай мовы ў 18–19 стст. мова народа захоўвалася пераважна вясковымі масамі (за ўсё 19 ст. надрукавана толькі каля 75 кніг на беларускай мове, прычым большасць з іх на лацініцы), якія да таго ж менавіта ў гэты перыяд не толькі зберагі, але і плённа ўсебакова развілі вусную народную творчасць, што сталася на сёння ў некаторых сваіх жанрах (каляндарныя песні, казкі і інш.) адной з багацейшых у свеце (гл.: БЕЛАРУСКАЯ ВУСНА-ПАЭТЫЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ 1966, 79, 105), то зараз асноўная маса людзей у выніку актыўных стогадовых асіміляцыйных працэсаў перайшла ў вусных зносінах на трасянку, а чысціню беларускай літаратурнай мовы захоўвае зараз меншая, але нацыянальна свядомая частка народа, якая складаецца пераважна з інтэлігенцыі. Менавіта яе (інтэлігенцыі) прадстаўнікамі створана багацейшая мастацкая літаратура, а беларускі пісьменнік Васіль Быкаў у 80-я гады 20 ст. быў самым перакладальным у свеце на замежныя мовы (РАГОЙША 1996, 179).

Унікальным і беспрэцэндэнтным служыць сам факт існавання і развіцця беларускай літаратурнай мовы, якая без апірышча на гутарковую форму масавага ўжывання, без неабходнай і належнай падтрымкі з боку дзяржавы функцыянуе амаль у аўтаномным рэжыме дзякуючы намаганням сваіх рупліўцаў, што хаця і складаюць меншую частку грамадства краіны, але канцэнтруюць у сабе значна большую долю нацыянальнага духу, свядомасці, чым у астатняй частцы насельніцтва разам узятай. Адзінкавыя асобы і іх групы здатны выпраменьваць нацыянальны дух больш плённа і інтэнсіўна, чым дзесяткі і сотні тысяч звычайных людзей, што выракаюцца сваіх родных каранёў, роднай мовы.

Зазначым усё ж, што так званая памяркоўнасць, ці талерантнасць, а прасцей абыякавасць нашых людзей, здатна ператварыцца ў адпаведных сацыяльных варунках у

матэрыяльны фактар беларушчыны, бо вынікі перапісу насельніцтва краіны 1999 г. сведчаць пра тое, што звыш сямі мільёнаў нашых суграмадзянаў лічаць беларускую мову роднай, а астатнія тры мільёны, зразумела, у той ці іншай ступені таксама валодаюць ёй, прынамсі, на ўзроўні больш-менш адэкватнага ўспрымання. Яшчэ мацнейшы патэнцыяльны зарад для далейшага функцыянавання беларускай мовы месціцца ў вялікай колькасці апублікаванай літаратуры, што разышлася па ўсяму свету і вымагае свайго вывучэння не толькі спецыялістамі, але і ўсімі дапытлівымі людзьмі, бо калі нават маленькія пісьмовыя тэксты на невядомых мовах, напрыклад надпіс на Фестскім дыску (гл.: ПАВЛЕНКО 1987, 88–90), выклікаюць інтарэс у адукаванай часткі грамадства, то знікнуць агромністай бібліятэцы, дзе назапашана ёмістая інфармацыя пра арыгінальны светапогляд і культуру цэлага этнаса (Беларусь зараз займае сярод 40 краін Еўропы 14-е месца па колькасці насельнікаў і 12-е месца па сваёй тэрыторыі), чалавецтва не дапусціць, не павінна дапусціць.

Па першаму ж запатрабаванню грамадства беларуская мова здатна выконваць усе без выключэння функцыі ў сферах справаводства, юрыспрудэнцыі, афіцыйных зносін, эканомікі, адукацыі, навукі, вайсковай справы і г.д. ва ўсім аб'ёме, бо мае ў наяўнасці багацейшыя выяўленчыя сродкі, распрацаваныя і сабраныя ў адпаведнай спецыяльнай літаратуры (тэрміналагічныя і энцыклапедычныя слоўнікі, даведнікі, БелСЭ у 12 тамах, Беларуская энцыклапедыя ў 18 тамах, што друкуецца зараз, і інш.), распрацаваную спецыяльную лексіку для ўсіх сфер дзейнасці людзей. Сучасная беларуская мова на сённяшні дзень найбольш поўна рэалізуе свой наяўны патэнцыял у вышэйшай форме любой нацыянальнальнай мовы – мове мастацкай літаратуры, публіцыстыцы, часткова ў сістэме адукацыі і ў гуманітарных навуках, мала ўжываецца як сродак вусных зносін, у негуманітарных навуках, практычна не выкарыстоўваецца ў адміністрацыйнай дзейнасці, арміі, міліцыі, КДБ (сілавых структурах), сярод афіцыйных прадстаўнікоў кіраўніцкай вертыкалі, эканоміцы, сельскай гаспадарцы, зусім не ўжываецца ў міжнародных зносінах, што зневажае Беларусь як суверэнную дзяржаву.

Навука аб мове зарадзілася практычна першай сярод усходніх славян на тэрыторыі Беларусі, якая ўваходзіла ў склад ВКЛ, ужо ў канцы 16 ст., бо менавіта тут надрукаваны першыя граматычныя і лексікаграфічныя працы, адна з якіх (Граматыка М.Сматрыцкага) сталася ўзорам для стварэння асобных граматык жывых славянскіх моў, у тым ліку і для рускай, і выкарыстоўвалася на працягу паўтара стагоддзя як самы аўтарытэтны і пашыраны падручнік для вывучэння фанетычнага і граматычнага ладу мовы. Беларуская мова апісана навукоўцамі на ўсіх яе ўзроўнях (фанетычным, марфалагічным, лексічным, сінтаксічным), ва ўсіх аспектах і стылях, разнавіднасцях як з навуковага, так і з вучэбнага пунктаў гледжання шляхам выкарыстання разнастайных метадаў і прыёмаў даследавання (апісальнага, гістарычнага, супастаўляльнага, тыпалагічнага, псіхалінгвістычнага, квантытатыўнага, лінгвагеаграфічнага і інш.), а слоўнікавы склад беларускай мовы прадстаўлены звыш 2000 рознымі лексікаграфічнымі выданнямі (гл.: КІПЕЛЬ, САЎКА 2002). Ёсць усе падставы для аптымістычнага меркавання, што беларуская мова нягледзячы на самыя неспрыяльныя ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі знешнія варункі свайго функцыянавання захавае сваю глыбокую нацыянальную адметнасць, свой невычэрпны выяўленчы патэнцыял і зробіцца ўрэшце рэшт паўнацэннай шматфункцыянальнай мовай у сваёй дзяржаве.

